# СЛОЎНІК ГАВОРАК ЦЭНТРАЛЬНЫХ РАЁНАЎ БЕЛАРУСІ

# 1



# СЛОЎНІК ГАВОРАК ЦЭНТРАЛЬНЫХ РАЁНАЎ БЕЛАРУСІ

# 1

## А–П

У двух тамах

Пад рэдакцыяй *Е. С. Мяцельскай*



МІНСК
„УНІВЕРСІТЭЦКАЕ"
1990

ББК 81.2Бел-4
С 48

Укладальнікі:

Е. С. Мяцельская, М. А. Жыдовіч, З. А. Зяневіч, Я. М. Камароўскі,
І. А. Каралёва, І. М. Шчарбакова

Рэкамендавана:

сектарам дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР, загадчык сектара — доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт АН БССР *Ю. Ф. Мацкевіч*; Саветам філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, старшыня Савета — дэкан філалагічнага факультэта, дацэнт *А. А. Волк*; кафедрай беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, загадчык кафедры — доктар філалагічных навук, прафесар *Л. М. Шакун*

Рэцэнзент:

кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага *З. Д. Блінава*

С 48 **Слоўнік** гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: У 2 т. Т. 1. А – П / Уклад. Е. С. Мяцельская і інш.; Пад рэд. Е. С. Мяцельскай. – Мн.: Універсітэцкае, 1990. – 287 с.
ISBN 5-7855-0569-Х.

В Словаре впервые дается описание диалектной лексики говоров, которые сыграли ведущую роль в формировании современного белорусского языка.

У Слоўніку ўпершыню даецца апісанне дыялектнай лексікі гаворак, якія адыгралі вядучую ролю ў фарміраванні сучаснай беларускай мовы.

Для спецыялістаў-філолагаў, пісьменнікаў, журналістаў, настаўнікаў, студэнтаў, усіх, каго цікавяць шляхі жывога беларускага слова.

С $\frac{4602030000-065}{М317(03)-90}$ БЗ–148 ББК 81.2Бел-4

ISBN 5-7855-0569-Х

© Укладанне Е. С. Мяцельскай і інш., 1990

# АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ

„Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі" падрыхтаваны калектывам выкладчыкаў кафедры беларускай мовы Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. У Слоўнік уключана дыялектная лексіка наступных тэматычных і лексіка-семантычных груп: назвы з'яў жывой і нежывой прыроды; сельскагаспадарчыя тэрміны; лексіка, звязаная з жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбалоўствам, пчалярствам, апрацоўкай лёну, ткацтвам, з прыгатаваннем ежы, з характарам паводзін, са знешнім абліччам людзей і жывых істот, з адзеннем і абуткам. У Слоўнік уключаны багаты лексічны матэрыял магнітафонных запісаў дыялектнай мовы.

Значнае месца ў Слоўніку займае тэрміналагічная лексіка, якая адлюстроўвае заняткі сялян дакалгаснай вёскі і часоў буржуазнай Польшчы; апісаны народныя промыслы і рамёствы, адзенне, абутак, вырабы кулінарыі, народнага прыкладного мастацтва, прылад і сродкаў сельскагаспадарчай вытворчасці, ткацкай справы і інш. Багатая эмацыянальна-экспрэсіўная лексіка, якая характарызуе чалавека — яго знешні выгляд, характар, паводзіны, дзеянні; лексіка, што характарызуе прадметы, з'явы і г. д.

У матэрыялах Слоўніка многа запазычаных слоў. Паўночна-заходняя і заходняя частка гаворак Міншчыны — гэта зона шматвяковых інтэнсіўных кантактаў народна-гутарковай мовы з польскай і літоўскай мовамі, а праз іх — з іншымі заходнееўрапейскімі. Ад гэтага, зразумела, дыялектная лексіка не губляе сваёй нацыянальнай спецыфікі і характару. Замацаванне запазычаных слоў у дыялектнай мове сведчыць аб тым, што адным з вядучых фактараў кансалідацыі мовы з'яўляецца кантакт з суседнімі мовамі; адбываецца своеасаблівы творчы сінтэз запазычаных і ўласных лексічных адзінак.

Для „Слоўніка гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі" экспедыцыйным спосабам на лексічным узроўні вывучаны гаворкі сельскага насельніцтва 16 раёнаў Мінскай вобласці, размешчаных у радыусе 200—250 км вакол сталіцы рэспублікі горада Мінска, — Барысаўскага, Бярэзінскага, Валожынскага, Вілейскага, Дзяржынскага, Крупскага, Лагойскага, Маладзечанскага, Мінскага, Мядзельскага, Нясвіжскага, Пухавіцкага, Смалявіцкага, Стаўбцоўскага, Уздзенскага, Чэрвеньскага (гл. карту).

Гаворкі названых раёнаў самабытныя ў моўным аспекце. Паводле фанетыка-граматычных асаблівасцей яны ўваходзяць у сярэднюю (цэнтральную) дыялектную зону, якая звязвае ў асобную міждыялектную групу так званых пераходных гаворак сярэднебеларускія гаворкі і сумежныя з імі гаворкі паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў[1]. Гаворкі цэнтральнай дыялектнай зоны склалі аснову сучаснай беларускай літаратурнай мовы, а такія іх рысы, як дзеканне, цеканне, пераход **в**, **л** у пэўнай пазіцыі ў **у** нескладовае, цвёрдыя шыпячыя, **р**, **ц**, аглушэнне звонкіх зычных у канцы слова і склада перад глухім зычным, цвёрдыя губныя на канцы слова і перад **j**, чаргаванне складоў **ро**, **ло**, **ле** з **ры**, **лы**, **лі** і інш., вызначаюць яе нацыянальную спецыфіку. Толькі гэтым гаворкам характэрна поўнае недысімілятыўнае аканне *(д[а]чкі, г[а]д[а]ваць, б[а]гáт[а])*, а ў радзе раёнаў — поўнае недысімілятыўнае яканне *(в'[а]сна, б'[а]лавáты, хлóп'[а]ц, на рабóц'[а])*.

Слоўнікавы састаў беларускіх гаворак цэнтральнай дыялектнай зоны пакуль што глыбока не вывучаўся, няма колькі-небудзь значных лексікаграфічных публікацый з сярэднебеларускіх гаворак. А між тым навуковая і практычная цікавасць да іх лексічнага багацця значная. Ёсць меркаванне, што гаворкі цэнтральных раёнаў Беларусі — Міншчыны і Навагрудчыны — на пачатку XX ст. з'явіліся „авангарднай апорай" для беларускай пісьмовай літаратурнай мовы. Літаратурная мова ў працэсе свайго фарміравання і развіцця адбірала найбольш тыповыя дыялектныя з'явы, спрыяла паступоваму згладжванню вузкадыялектных адрозненняў. У 30-я гады выпрацоўка і стабілізацыя норм пісьмовай літаратурнай мовы праводзілася з выразнай арыентацыяй на гаворкі цэнтральнай дыялектнай зоны, у прыватнасці з улікам дыялектнай сітуацыі ў Мінску — сталіцы і цэнтры эканамічнага і культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы — і традыцыйных мясцовых гаворак наваколля горада[2].

[1] *Крывіцкі А. А.* Беларускае дыялектнае вымаўленне // *Крывіцкі А. А., Падлужны А. І.* Фанетыка беларускай мовы. — Мн., 1984. С. 140; Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак: Кніга карт. — Мн., 1969. Карты № 64, 78.

[2] Гл. падрабязней: *Крывіцкі А. А.* Беларускае дыялектнае вымаўленне. С. 262—263; *Карский Е. Ф.* Русская диалектология. — Л., 1924. С. 118; *Вайтовіч Н. Т.* Да пытання аб дыялектнай аснове беларускай літаратурнай мовы // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. — Мн., 1954. Вып. 2. С. 174.

З гэтага рэгіёна выйшла плеяда выдатных пісьменнікаў і паэтаў — К. Крапіва, П. Трус, К. Чорны, М. Чарот, П. Глебка, М. Танк на чале з Я. Купалам і Я. Коласам, якія сваёй дзейнасцю, умелым выкарыстаннем невычэрпных багаццяў роднай гаворкі прынеслі ў беларускую літаратуру „багацце і хараство народнай мовы" (К. Крапіва), свой слоўнік, свае звароты, сваю паэтычную музыку проста з сялянскіх глыбінь, з цаліны народнай моватворчасці, спрыялі выпрацоўцы і замацаванню ў літаратурнай практыцы моўных рыс родных гаворак, садзейнічалі выпрацоўцы норм літаратурнай мовы.

„Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі" з'яўляецца састаўной часткай серыі абласных слоўнікаў тыпу „Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча", „Тураўскі слоўнік", у якіх занатавана лексіка са значнай тэрыторыі гаворак. На падставе матэрыялаў гэтых слоўнікаў і матэрыялаў, якія будуць апублікаваны па іншых дыялектных арэалах, у будучым прадугледжваецца стварыць поўны зводны дыялектны слоўнік, куды ўвойдзе не толькі рэгіянальная, але і ўся лексіка, зафіксаваная к таму часу. Матэрыялы Слоўніка з'явяцца аўтарытэтнай крыніцай пры вывучэнні ролі асобных дыялектаў у фарміраванні беларускай літаратурнай мовы, будуць каштоўнымі пры вывучэнні агульных праблем дыялектнай лексікалогіі, пытанняў узаемадзеяння лексікі гаворак з лексікай літаратурнай мовы, некаторых праблем усходнеславянскай лексікалогіі і лексікаграфіі.

Укладанне картатэкі Слоўніка было распачата пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча навукі БССР, доктара філалагічных навук, прафесара М. А. Жыдовіч у 1964 г. З гэтага часу штогод арганізоўваліся дыялекталагічныя экспедыцыі, удзельнікамі якіх спачатку былі выкладчыкі і аспіранты кафедры беларускай мовы філалагічнага факультэта універсітэта. У далейшым картатэка Слоўніка папаўнялася новым фактычным матэрыялам, сабраным сумесна выкладчыкамі і студэнтамі ў час дыялекталагічных практык. У выніку працяглай карпатлівай працы агульная картатэка Слоўніка склала каля 400 000 картачак-цытат. Для Слоўніка ўкладальнікі адабралі словы і словазлучэнні, якія або зусім не ўжываюцца ў літаратурнай мове, або адрозніваюцца ад адпаведных літаратурных слоў фанемным складам, націскам, граматычным афармленнем, асаблівасцямі словаўтварэння, семантычнай структурай, лексіка-сінтаксічнай спалучальнасцю, стылістычнай маркіроўкай. Лексіка, агульная гаворкам і літаратурнай мове, у слоўнік не ўключана.

Дыферэнцыяльны прынцып адбору лексічных адзінак, г. зн. адрозненне дыялектнага слова ад літаратурнага, разглядаецца ў даным выпадку толькі ў лексічным аспекце, а не ў плане фанетычным або марфалагічным. Пры адборы матэрыялу ўлічваліся такія факты фанетыкі і марфалогіі, якія маюць адзінкавы, а значыць, лексікалізаваны характар. Калі фанетычная або марфалагічная з'ява выступае ў абмежаванай колькасці прыкладаў або нават у адным слове, то такая з'ява становіцца фактам лексічнай сістэмы, і, значыць, слова, якое фіксуе гэту з'яву, уключаецца ў Слоўнік: напрыклад, **адлёга**. Аднак калі з'ява пашыраецца практычна на неабмежаванае кола слоў, як, скажам, дысімілятыўнае яканне на значнай тэрыторыі апісваемага арэала, то словы, у якіх зафіксавана гэта з'ява, у Слоўніку не прыводзяцца. Звесткі аб фанетычных рысах гаворак чытач зможа атрымаць з матэрыялаў цытат, якія падаюцца ў спрошчанай транскрыпцыі. Прыкладам лексікалізаванай адзінкі ў марфалагічным плане можа служыць форма **рукáмі**, якая адарвалася ад парадыгмы скланення, семантычна адасобілася, набыўшы значэнне 'ручным спосабам' і ператварыўшыся ў самастойнае слова.

Пры стварэнні картатэкі для Слоўніка прымаліся пад увагу наступныя дыферэнцыяльныя прыметы дыялектных слоў ў параўнанні з літаратурнымі словамі:

а) уласна лексічныя адрозненні, г. зн. каранёвыя марфемы слоў не ўжываюцца ў літаратурнай мове: напрыклад, **абарнíк** 'аднамесная лодка', **абартáсам** 'цыклічна, адзін за другім', **аплáўка** 'сыраежка', **барля́чы** 'чаравікі', **брýснік** 'шафер ад маладога' і інш.;

б) лексіка-семантычныя адрозненні, г. зн. поўнае або частковае адрозненне ў значэннях пры супадзенні фанемнага саставу: напрыклад, **абóра** 'памяшканне для захавання сена', **аглéдзецца** 'дагледзець гаспадарку', **адказáць** 'завяшчаць', **асабня́к** 'аднаасобнік', **бáза** 'магазін' і інш.;

в) этнаграфічныя прыметы, г. зн. словы, якія называюць асаблівасці быту, культуры, звычаяў носьбітаў гаворкі тыпу **абжы́нкі** 'святкаванне з нагоды пачатку жніва', **бурáчнік** 'жытні хлеб, у цеста якога дабаўлены кусочкі буракоў', **бярлóвы хлеб** 'хлеб з высеўкамі або мякінай', **зажы́нак** 'першы снапок з новага ўраджаю' і інш. Словы, якія абазначаюць этнаграфічныя рэаліі і паняцці, уключаны ў Слоўнік і ў тым выпадку, калі яны зафіксаваны літаратурнай мовай;

г) адрозненні ў граматычнай характарыстыцы слова, напрыклад у родзе: **гры́па, гуталíна** (*ж.р.*), **гонт, інь** (*м. р.*) і інш.;

д) адрозненні ў сінтаксічных і фразеалагічных сувязях слоў: *гаварыць аб цётак, забóта аб цётак; падысці пад машыну, падысці пад дзéці; пайсці на працéст* 'апратэставаць', *паказáць на*

*смех* 'абсмяяць', *даць лáпы* 'пакараць, пабіць', *ні духу ні слуху* 'ніякіх вестак пра каго-н.', *павекі вякоў* 'навекі' і інш.

Прынцып дыферэнцыяльнасці ўлічваецца і пры адборы лексіка-словаўтваральных адзінак. У Слоўнік уключаны, напрыклад, дэмінутывы тыпу *абрýс-ік, баб-ýта;* дзеяслоўныя ўтварэнні з суфіксамі *-іва- (-ыва-): аднóш-ыва-ць, выбарóн-ыва-ць, выкрýч-ыва-ць, выпіс-ыва-цца;* адпрыметнікавыя прыслоўі тыпу *пагáна* 'непрыгожа', *пéкна* 'прыгожа'; прэфіксальныя ўтварэнні слоў: *ад-стóй* 'вяршкі', *вы́-бай* 'выбоіна' і інш.; розныя суфіксальна-прэфіксальныя ўтварэнні: *аб-жы́н-к-і, ад-стóй-к-а, аб-рашóт-к-а, ад-пáс-к-а, вы-слýж-н-ы, а-кóр-к-а* і інш.

Падобныя словы ўключаны ў Слоўнік на падставе наступных меркаванняў: а) працэсы словаўтварэння ў гаворках і літаратурнай мове хоць і маюць шмат агульнага, тым не менш вызначаюцца сваёй адметнасцю; б) непазбежны элемент выпадковасці ў падборы слоў для Слоўніка, што тлумачыцца самой сутнасцю працэсу збору дыялектнай лексікі, заўсёды можа прывесці да таго, што ў сабраным лексічным матэрыяле пры наяўнасці зыходных форм могуць адсутнічаць вытворныя, напрыклад, *пáкасны, пачóтны,* але не ўдалося выявіць вытворных *пáкасна, пачóтна* і інш.; в) вытворная аснова можа мець значэнне невытворнай, калі апошняя выйшла або наогул не была ва ўжытку, напрыклад: *дзéўка* пры адсутнасці *дзéва, аплáўка, аплáвачка* пры адсутнасці *аплáва* і інш.

Дыферэнцыяльнай адзнакай для пэўнай часткі дыялектных слоў з'яўляецца іншая, чым у літаратурнай мове, іх стылістычная кваліфікацыя. Гэтыя словы ўласцівы і гаворкам, і літаратурнай мове, але ў гаворках яны нейтральныя ў стылістычным плане, а ў літаратурнай мове стаяць на мяжы яе стылістычных норм або нават і па-за межамі іх: **бáба** 'замужняя жанчына', **брахáць** 'ілгаць, маніць', **дзéўка** 'дзяўчына' і інш., якія ў літаратурнай мове адносяцца да зніжаных эмацыянальна афарбаваных сродкаў выказвання і кваліфікуюцца ў слоўніках як размоўнае.

Пласт размоўнай лексікі, неаднародны па свайму саставу, складаецца са слоў рознай марфалагічнай структуры, шырокага семантычнага спектра і рознай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі. Ён знаходзіцца ў пастаяннай дынаміцы, увесь час папаўняецца за кошт розных крыніц, найперш народных гаворак, а літаратурная мова ў сваю чаргу выбірае з яго новыя і новыя словы, пэўная частка якіх з цягам часу ў літаратурным ужытку трацяць сваю эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку і становяцца стылістычна нейтральнымі. Прыкладам гэтага могуць служыць словы тыпу **абазвáцца** 'падаць голас', **абжóрлівы** 'прагны да яды', **абклявáць** 'клюючы, абшчыпаць з усіх бакоў' і інш., якія ў „Беларуска-рускім слоўніку" (Мн., 1962) прыведзены з паметай *разм.*, а ў „Тлумачальным слоўніку беларускай мовы". Т. 1 (Мн., 1977) падаюцца як стылістычна нейтральныя. Такога тыпу матэрыял укладальнікі палічылі неабходным зафіксаваць у Слоўніку. Ён паслужыць каштоўнай крыніцай пры вывучэнні шляхоў фарміравання лексікі літаратурнай мовы, асабліваcцей узбагачэння яе за кошт дыялектаў.

Дыферэнцыяльная прымета можа датычыць сферы ўжывання слова, яго ўзаемаадносін з літаратурнай мовай. Калі слова вядома як дыялектызм у літаратурнай мове або калі яно змешчана ў нарматыўным слоўніку з паметай *абл.*, то гэтага дастаткова, каб яго ўключыць у Слоўнік. На гэтай аснове ўведзены ў Слоўнік словы тыпу **арýд** 'засек у клеці', **асцá** 'сліна', **латýшка** 'гліняная місачка' і інш.

У Слоўніку змяшчаецца тэрміналагічная лексіка, у прыватнасці тэрміны рыбалоўства, ткацтва, будаўніцтва, лясной гаспадаркі, батанічная, заалагічная тэрміналогія, тэрміналогія народнага выяўленчага і прыкладнога мастацтва.

У Слоўнік уключана запазычаная лексіка, поўнасцю або часткова адаптаваная, напрыклад русізмы: *бумáга, васпітáцелька, прадсядáцель, разгавóр, трýжаніца* і да т. п.; паланізмы, германізмы, балтызмы, якія не маюць статуса літаратурнай нормы: *абувáталь, андуляцыя, блонд, ванґóр, вóрак, вэ́длуг, вíнда, выхóдня* і інш. Апошнія з'яўляюцца словамі абмежаванай сферы ўжывання. У большасці выпадкаў яны гучаць у мове прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Наяўнасць такіх слоў у гаворках сведчыць аб складанай моўнай сітуацыі, існаваўшай на Беларусі на працягу стагоддзяў.

У Слоўніку змешчана вялікая колькасць рэгіянальных фразеалагічных словазлучэнняў тыпу **аддáць утрáтнае** 'сплаціць кошт выпітага і з'едзенага ў час сватаўства, калі дзяўчына не хоча выходзіць замуж', **ад'éду нямá** 'смачнае што-н.', **абагнáць смáгу** 'задаволіць жаданне, пакаштаваць', **разво́дзіць гавэ́нды** 'траціць час на пустую гаворку', **скі́нуць у вóка** 'падараваць на каравай', **стая́ць стаянцо́м** 'стаяць крукам, не адыходзіцца ні на крок' і інш.

Сярод слоў, якія змешчаны ў Слоўніку, магчыма, ёсць і аказіянальныя словы, ужытыя гаворачай асобай у канкрэтным выпадку, „адзін раз". Такія словы ўключаны ў Слоўнік на той падставе, што, па-першае, не заўсёды ўдаецца ўстанавіць, ці мае слова паўсюднае ўжыванне, ці яно з'яўляецца індывідуальным утварэннем, а па-другое, каб паказаць словаўтваральныя маг-

чымасці гаворак, бо кожнае аказіянальнае слова, якое, хоць і не мае пашырэння ў гаворцы, можа з'явіцца матэрыялам для папаўнення аб'ектыўна існуючай словаўтваральнай мадэлі.

## СТРУКТУРА СЛОЎНІКА

Слоўнік складаецца з рознага тыпу слоўнікавых артыкулаў. Структурна поўны слоўнікавы артыкул уключае наступныя элементы: а) загаловачнае слова; б) граматычную характарыстыку; в) стылістычную характарыстыку; г) семантычную характарыстыку; д) ілюстрацыйны матэрыял; е) тэрміналагічныя або фразеалагічныя спалучэнні. Некаторыя словы маюць этымалагічную даведку.

Загаловачныя словы размяшчаюцца ў алфавітным парадку. Калі загаловачнае слова мае акцэнталагічныя варыянты, то гэтыя варыянты прыводзяцца праз «і». Пры наяўнасці адрозненняў у граматычнай характарыстыцы апошняя даецца пры кожным варыянце; калі ж такіх адрозненняў няма, то толькі пасля другога варыянта, напрыклад:

**СТУ́СЛА** *ж.* і **СТУСЛО́** *н.*; **БУЛЬБАШНІ́К** і **БУЛЬБА́ШНІК** *м.*

Кожны другі акцэнталагічны варыянт прыводзіцца ў рэестры і на сваім месцы са спасылкай на першы, калі гэтыя варыянты раз'яднаны хаця б адным слоўнікавым артыкулам. Граматычная характарыстыка пры ім не даецца, напрыклад:

**ПАРАХА́ЎНІЦА** і **ПАРАХО́ЎНІЦА** *ж.*

**ПАРАХО́ЎНІЦА** *гл.* парахаўніца.

Калі паміж акцэнталагічнымі варыянтамі ў алфавітным парадку рэестра няма іншых слоў, то паралельная форма другі раз не даецца:

**ГАРАШЫ́НА** і **ГАРАШЫНА́** *ж.*

Словы з аднолькавай семантыкай пры частковых адрозненнях гукавога складу падаюцца праз коску ў адным слоўнікавым артыкуле: **во́сва, во́сма; гваздадзёр, гваздзядзёр; до́лі, до́ля** і інш.

Лексіка-фанетычныя адзінкі, у якіх адлюстраваны мясцовыя камбінаторныя змяненні — асіміляцыя, дысіміляцыя, метатэза, эпентэза тыпу **амманýць, бадзісто́ўка, більзі́н, вілашнік, буркава́ны** 'брукаваны', **варлія́нка** 'валер'янка', **ба́йня** 'баня' і інш., — чытач знойдзе ў матэрыялах цытат да адпаведных загаловачных слоў, якія падаюцца ў літаратурным напісанні. Маючы на мэце захаваць чытабельнасць Слоўніка, укладальнікі зыходзілі з меркавання, што той, каго зацікавяць падобныя з'явы, кіруючыся нарматыўным напісаннем, лёгка знойдзе патрэбную форму — „арфаграфічную" і мясцовую.

У самастойных слоўнікавых артыкулах падаюцца:

а) вышэйшая і найвышэйшая формы ступеней параўнання прыметнікаў;

б) дзеясловы закончанага і незакончанага трывання, аднакратныя і мнагакратныя, зваротныя і незваротныя, якія размяшчаюцца ў алфавітным парадку;

в) дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі.

Усе прыставачныя ўтварэнні таксама афармляюцца як слоўнікавыя артыкулы.

Словы аднакарэнныя, якія адрозніваюцца паміж сабой толькі марфалагічнай структурай, прыводзяцца ў Слоўніку і падаюцца кожнае ў самастойным артыкуле. Параўн. такія слоўнікавыя артыкулы, як **ба́ба, ба́бачка, бабу́ня, бабу́та, ба́бця** 'матчына або бацькава маці'; **бульбе́нік, бульбе́ўнік, бульбо́шнік** 'бульбянік'; **ву́цька, вуцяня́тка** 'качаня' і шмат іншых.

Амонімы пазначаюцца надрадковым лічбавым паказчыкам, які ставіцца зверху з правага боку загаловачнага слова, і распрацоўваюцца кожны ў самастойным артыкуле, напрыклад:

**ЖЫ́ЛКА**¹ ... Павадок, частка вуды ...

**ЖЫ́ЛКА**² ... Вадзяная ўлітка ...

**ЖЫ́ЛКА**³ ... Карэньчыкі (сорт тытуню) ...

Складаныя назвы падаюцца як самастойныя намінатыўныя адзінкі.

У Слоўнік уключаны ўсе часціны мовы.

## СТРУКТУРА СЛОЎНІКАВАГА АРТЫКУЛА

**Загаловачнае слова і граматычная характарыстыка яго.** Загалоўкам слоўнікавага артыкула з'яўляецца слова ў арфаграфічным напісанні. Калі слова мае варыянты, то ў загаловак выносяцца ўсе варыянты ў арфаграфічным напісанні і друкуюцца аднолькавым шрыфтам. Арфаграфічнае напісанне перадае як фанемны склад слова, так і яго рэальнае вымаўленне.

Загаловачныя словы прыводзяцца ў пачатковай форме: назоўнікі ў назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду; калі форма мужчынскага роду адзіночнага ліку не ўжываецца, то загаловачнае слова прыводзіцца ў форме назоўнага склону жаночага роду адзіночнага

ліку; дзеясловы — у неазначальнай форме і г. д. З граматычных памет для назоўнікаў указваецца род і лік. Родавая характарыстыка слова паказана паметамі *м.* (мужчынскі род), *ж.* (жаночы род), *н.* (ніякі род). Назоўнікі агульнага роду маюць памету *м.* і *ж.* Зборныя назоўнікі і лічэбнікі ўжываюцца з паметай *зб.*, напрыклад:

**ВАГО́НКА** ... *зб.*

**ВО́СЬМЕРА** ... *зб.* і г. д.

Пры назоўніках, якія маюць форму толькі аднаго ліку — адзіночнага ці множнага, ставяцца паметы *толькі адз.* або *толькі мн.*, напрыклад:

**КА́НА** *толькі адз.* ...

**КАМЯКІ́** *толькі мн.* ...

Калі назоўнік выступае пераважна ў форме множнага ліку, але магчыма і форма адзіночнага ліку, то ў загаловак выносіцца форма множнага ліку, пры ёй адзначаецца форма адзіночнага ліку з адпаведнай паметай:

**ВЯЗЁНКІ** *мн.*; *адз.* **вязёнка** *ж.* ...

Паметамі *зак., незак.* адзначаюцца трыванні дзеяслова. Безасабовыя дзеясловы і безасабовыя формы асабовых дзеясловаў падаюцца ў форме інфінітыва: **РАССТО́ЯЦЦА, СУТО́НЬВАЦЦА** або ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу: **ВА́РЫЦЬ, ПРЫПЯКА́Е** і суправаджаюцца паметай *безас.* Пры аднакратных дзеясловах тыпу **СМА́ЛЬНУЦЬ, СТРЭ́ЛЬНУЦЬ** стаіць памета *аднакр.*

Для іншых слоў, акрамя назоўнікаў і дзеясловаў, сродкам граматычнай характарыстыкі ў Слоўніку з'яўляюцца паметы, што абазначаюць прыналежнасць слова да канкрэтнага граматычнага класа: *прым.* (прыметнік), *ліч.* (лічэбнік), *займ.* (займеннік), *дзеепрым.* (дзеепрыметнік), *дзеепрысл.* (дзеепрыслоўе), *прысл.* (прыслоўе), *прыназ.* (прыназоўнік), *злучн.* (злучнік), *часц.* (часціца), *выкл.* (выклічнік). Пры назоўніках і дзеясловах паметы падобнага характару не даюцца: іх ролю выконваюць паметы роду, ліку для назоўнікаў, трывання — для дзеясловаў.

Калі тое ці іншае слова выступае ў функцыі іншай часціны мовы, у Слоўніку такое слова суправаджаецца спецыяльнымі паметамі: *у знач. наз.* (у значэнні назоўніка), *у знач. прым.* (у значэнні прыметніка), *у знач. прысл.* (у значэнні прыслоўя).

**Стылістычная характарыстыка слова.** Слоўнік складаецца амаль выключна з гутарковай лексікі, словы якой у пераважнай большасці з'яўляюцца стылістычна нейтральнымі. Нейтральныя словы і выразы ў Слоўніку спецыяльнай паметай не адзначаюцца: **абагна́цца** 'абараніцца ад каго-н.', **ба́ба** 'замужняя жанчына', **баця́н** 'бусел', **дзе́ўка** 'дзяўчына', **даць во́лю** каму-н. 'не абмяжоўваць дзеянні каго-н.', **дзень у дзень** 'штодзень', **лапатлі́вы** 'гаваркі, балбатлівы', **лацве́й** 'лягчэй', **легкаві́к** 'легкавы аўтамабіль'.

Пэўная частка гутарковай лексікі экспрэсіўна афарбаваная; экспрэсія выражаецца як самім значэннем кораня, так і лексіка-граматычна, з дапамогай суфікса. Такія словы коратка і трапна характарызуюць асобу, падзеі, з'явы, прадметы і суправаджаюцца паметамі *ласк.* (ласкальнае): **каса́тка** ... *ласк.* Чалавек добрай душы...; *пагард.* (пагардлівае): **лабіду́да** ... *пагард.* Абібок, лодыр...; *груб.* (грубае): **ля́па** ... *груб.* Рот... і іншымі паметамі, якія перадаюць ступень экспрэсіўнасці (гл. умоўныя скарачэнні).

Частка памет указвае на сферу ўжывання слова: *пчал.* (пчалярства), *ткац.* (ткацтва), *рыб.* (рыбалоўства), *ганч.* (ганчарная справа), *кулін.* (кулінарнае), *плыт.* (плытніцкае) і інш.

Паметай *гіст.* (гістарычнае) пазначаюцца словы, якія называюць рэаліі, паняцці мінулых эпох, напрыклад:

**АКО́НАМ** ... *гіст.* Службовец у панскім маёнтку, які кіраваў гаспадаркай...

**Сэнсавая характарыстыка слова.** Істотную частку слоўнікавага артыкула складае азначэнне семантыкі слова. Значэнне большасці слоў раскрываецца шляхам адпаведнага літаратурнага эквівалента, напрыклад: **гаёвы** 'ляснік', **дзехцяры́к** 'дыфтэрыя', **рабаці́нне** 'вяснушкі' і інш. Значэнне слова можа раскрывацца і сінонімамі, напрыклад: **екаці́нне** *н.* Ёкат, лямант, брэх, віск...; **га́дасны** *прым.* Агідны, непрыемны... У выпадках адсутнасці літаратурнага эквівалента даецца разгорнутае тлумачэнне на аснове матэрыялу картачкі-цытаты. Напрыклад: **дзёршчык** *м.* Той, хто выкідае гной са стойла; **дуддзё** *н.* Сцяблы збожжавых раслін з неналітым коласам; **дўлька** *ж.* Пыл з утрыманнем дробных частак валакна і інш.

Пры тлумачэнні назваў птушак, звяроў, насякомых, рыб, раслін, грыбоў пасля падачы літаратурнага адпаведніка прыводзіцца тэрміналагічная лацінская назва, напрыклад:

**АПЛА́ЎКА** ... *бат.* Сыраежка (Russula) ...

**БДРАНЕ́Ц** ... *бат.* Бядрынец (Pimpinella) ...

Дэмінутыўныя формы назоўнікаў і прыметнікаў вызначаюцца па тыпу: *Памянш. да* ..., *Павел. да* ..., *Памянш.-ласк. да* ..., напрыклад:

**ДЗЯЦЁНАЧАК** ... *Памянш. да* дзяцёнак...

**ЖО́ЎЦЕНЬКІ** ... *Памянш.-ласк. да* жоўты ...

Назоўнікі, якія абазначаюць асоб жаночага полу і ўтвораны ад назоўнікаў мужчынскага роду, вызначаюцца па тыпу: *Жан. да* ... Напрыклад:

**АГРАНО́МКА** ... *Жан. да* агроно́м ...

**КАСІ́РША** ... *Жан. да* касір ...

Простая форма вышэйшай ступені параўнання прыметніка (прыслоўя) вызначаецца па тыпу: *Выш. ст. да* ... Напрыклад:

**ДАЎЖЭ́ЙШЫ** ... *Выш. ст. да* до́ўгі ...

**ДУЖЭ́Й** ... *Выш. ст. да* ду́жа...

Тыпавыя азначэнні выкарыстоўваюцца толькі ў тых выпадках, калі слова, з якім суадносіцца азначаемае, таксама ёсць у Слоўніку.

Часта словы тлумачацца шляхам сістэмы адсылак. Так, калі групе слоў уласціва сэнсавая, граматычная і стылістычная тоеснасць, а адрозненні датычаць фанемнага саставу кораня, то семантыка іх раскрываецца пры адным, больш ужывальным слове; астатнія вызначаюцца па тыпу: Тое, што і ..., напрыклад:

**ДЗЯРБО́НІК** ... Дранік ...

**ДЗЯРГО́НІК** ... Тое, што і дзярбо́нік.

**ДЗЯРДЗЁНІК** ... Тое, што і дзярбо́нік.

Аналагічным чынам афармляюцца аднакарэнныя словы, аднолькавыя або блізкія значэннем, але якія маюць адметныя словаўтваральныя афіксы:

**ПРЫ́КАРАТКА** ... Караткавата ...

**ПРЫ́КАРАЦЬ** ... Тое, што і пры́каратка.

і сінонімы:

**АБІЯ́КІ** ... Абутак на драўлянай падэшве ...

**ДЗЕРАВЯ́КІ** ... Тое, што і абія́кі.

**ДЗЕРАВЯ́НКІ** ... Тое, што і абія́кі.

**ДЗЕРАВЯ́НІКІ** ... Тое, што і абія́кі.

Кожнае са значэнняў мнагазначнага слова выдзелена ў Слоўніку арабскімі лічбамі:

**ГА́ФТКА** ... **1.** Пятля для кручка ... **2.** Дзірачка для гузіка ...

Адценні значэння аддзяляюцца знакам //.

Пераносныя значэнні слоў вызначаюцца пасля прамых і суправаджаюцца паметай *перан.*

Нярэдка пасля асноўнага тлумачэння слова ў дужках прыводзяцца дадатковыя звесткі пра значэнне слова, сферы яго ўжывання, спалучальнасці і інш., напрыклад:

**ВІТУ́ШКА** ... Абора (да лапця) ...

**ВУ́ЗГАЛАЎКА** ... Вузгалаўе (у возе) ...

**АБАБРА́ЦЬ** ... Зняць, сабраць (рой, жукоў) ...

Калі словы аднаго разраду знаходзяцца ў поўнай сэнсавай адпаведнасці, але адрозніваюцца граматычнымі катэгорыямі, то афармляюцца яны па тыпу адсылкі:

**РАЗАБРА́ЦЬ** *зак.* Разрабаваць ...

**РАЗБІРА́ЦЬ.** *Незак. да* разабра́ць ...

Аналагічна афармляецца семантычная сувязь дзеяслова з яго формамі — дзеепрыметнікам і дзеепрыслоўем:

**ПРЫБЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Закрасіць рэдкую страву малаком ...

**ПРЫБЕ́ЛЕНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* прыбялі́ць ...

**ПАРАСПАЎЗА́ЎШЫСЯ** *дзеепрысл. зак. пр. ад* параспаўза́цца ...

Пры большасці слоў іншамоўнага паходжання ў канцы слоўнікавага артыкула ў дужках прыводзяцца адпаведныя паралелі з мовы-крыніцы:

**АФІЦЫ́НА** *ж.* Флігель, падсобнае памяшканне для служачых у панскім маёнтку ... (польск. oficyna 'тс').

**АРУ́Д** *м.* Засек ... (літ. aruodas 'тс').

У выпадку, калі загалоўнае слова ўжываецца толькі ў пэўным выразе, пасля загалоўнага слова ставіцца двухкроп'е, а пасля яго ідзе даны выраз. Напрыклад: **Ад'е́ду:** ад'еду няма ...

У Слоўніку ўлічаны і паказаны ўсе выяўленыя ў матэрыяле фразеалагічна звязаныя значэнні слоў. Фразеалагічна звязаныя значэнні слова прыводзяцца пасля свабодных з ромбам ◊.

Фразеалагізмы, таксама як і свабодныя словы, маюць тлумачэнні і пашпартызаваныя ілюстрацыі. Напрыклад:

**БЕ́ГАЦЬ** *незак.* Заляцацца. *Старэйшы бегая за маёй унучкай, палюбіліся.* Вялікая Вуса Уздз. ◊ **Мурашкі па скуры бегаюць** — адчуваць дрыжыкі ад жудасці, страху. *Цяпер як гляну, як ліцяць аўтобусы ці таксі гэдак шыпка, дык аш мурашкі па скуры бегаюць.* Станькі Віл.

Калі ў слове, пры якім падаецца фразеалагізм, у свабодным ужыванні дыферэнцыяль-

ныя семантычныя прыметы не выяўлены, тады слоўнікавы артыкул афармляецца наступным чынам: загалоўнае слова, граматычная памета, знак ромб, фразеалагічная адзінка, тлумачэнне, цытата, пашпарт. Напрыклад:

**АД'ЁХАЦЬ** *зак.* ◊ **Ад'ехаць чараду** — даць здачы...

Прыказкі, прымаўкі, кленічы змяшчаюцца ў канцы слоўнікавага артыкула пад знакам ∇, словазлучэнні тэрміналагічнага характару — пад знакам ○.

Праца над укладаннем Слоўніка паміж членамі аўтарскай групы была размеркавана наступным чынам: Жыдовіч М. А. — кіраўнік тэмы з 1964 па 1977 г., аўтар слоўнікавых артыкулаў на літары А, Б, В; Зяневіч З. А. — аўтар артыкулаў на літары З, І; Камароўскі Я. М. — аўтар слоўнікавых артыкулаў на літару У, „Прадмовы" і каментарыяў па этымалогіі запазычаных слоў; Каралёва І. А. — аўтар 1500 артыкулаў з вёсак Вялікая Вуса, Целякава, Каменка Уздзенскага і Дукора Пухавіцкага р-наў; Мяцельская Е. С. — кіраўнік тэмы з 1977 па 1980 г., аўтар слоўнікавых артыкулаў на літары Г, Ж, Е, Ё, О, П, С, Т, Ш, Ю, а таксама 2500 слоўнікавых артыкулаў на ўсе літары з матэрыялаў асабістага архіва; склала карту-схему тэрыторыі Слоўніка; Шчарбакова І. М. — аўтар артыкулаў на літары Д, К, Л, М, Н, Р, Ф, Х, Ц, Ч, Э, Я. Падрыхтавалі машынапіс малодшы навуковы супрацоўнік Сектара беларускага фальклору і дыялекталогіі Трайкоўская В. Ф. і лабарантка Дарашэнка Л. Р.

2. Зак. 5795.

## СПІС АБСЛЕДАВАНЫХ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ РАЁНАЎ

### **Барысаўскі р-н** — Барыс.

Аздзя́цічы
Бары́саў
Бы́тча
Высо́кі Бе́раг
Вяля́цічы
Га́нцавічы
Дзямі́даўка
Жарта́йка
Забало́цце
Зачы́сце
Капачо́ўка
Карса́кавічы
Карша́віца
Касцюкі́
Кле́тнае
Ло́шніца
Лю́цец
Майсе́еўшчына
Мало́е Ста́хава
Масці́шча
Немані́ца
Няда́ль
Рага́тка
Рату́цічы
Со́калы
Халмо́ўка
Царэ́шкі
Шабы́нькі
Юзафо́ва

### **Бярэзінскі р-н** — Бярэз.

Барсучы́на
Беразіно́
Вялі́кія Лагі́
Галы́нка
Журо́ўка
Каране́ц
Ко́люж
Ко́саўка
Кра́снае
Маце́вічы
Паго́ст
Папла́вы
Слабада́
Хва́таўка
Чыжа́ха
Шаварні́чы
Я́гадка

### **Валожынскі р-н** — Валож.

Аўгусто́ва
Багда́нава
Бо́мбалы
Брылькі́
Бузуны́
Вало́жын
Відэ́йкаўшчына
Ві́шнева
Ганчары́
Гарадзе́чна
Гілікі́
Гры́цкаўшчына
Дубіна́ Юрзды́цкая
Ду́шкава
Забрэ́жжа
Запру́ддзе
Івяне́ц
Кабы́льчыцы
Касцюкі́
Курду́ны
Ластая́нцы
Лоск
Лю́ціна
Лю́цынка
Масці́шча
Млынкі́
Навасёлкі
Но́вы Двор
Няро́вы
Пагарэ́лка
Падбярэ́зь
Петрашу́нцы
По́рычы
Пра́льнікі
Пру́днікі
Пугачы́
Пяро́ўшчына
Пяршаі́
Пя́ткі
Рагалёўшчына
Ра́каў
Ро́дзеўшчына
Ру́дня
Рум
Са́каўшчына
Салана́я
Сі́віца
Слайко́ўшчына
Студзяне́ц
Су́днікі
Чабаі́
Чышэ́вічы
Я́мкавічы
Я́нішкі
Яршэ́вічы

### **Вілейскі р-н** — Віл.

Ано́шкі
Апе́нькі
Асі́павічы
Бара́нцы
Барсукі́
Бая́ры
Бу́бны
Бу́йлі
Бязво́днае
Ваўкала́тка
Віле́йка
Во́сава
Галяно́ва
Грыцукі́
Гры́шкавічы
Даўгі́нава
Жардэ́цкія
Жа́ры
Жызнава́
Заазе́р'е
За́бар'е
Забро́ддзе
Залазо́ўе
Замо́шша
І́лья
Кавалі́
Кало́дкі
Кало́дчына
Каля́ды
Кары́тніца
Кру́пнікі
Куране́ц
Ку́цькі
Лі́пневічы
Лубе́нь
Лу́цішча
Лы́цавічы
Лю́бань
Малмы́гі
Маце́ева
Ма́цькаўцы
Мечаі́
Мі́льча
Мле́чкі
Му́ляры
Му́шанка
Навікі́
На́рач
Паго́ст
Падкра́йск
Папо́ўцы
Партыза́нскі
Пляба́нцы
Ра́бунь
Ру́чыца
Рэ́дзькавічы
Салано́е
Сасно́ўшчына
Сачы́ўкі
Сі́ўцы
Слабада́
Сня́гла
Со́сенка
Станькі́
Стражы́
Студзёнкі
Суднікі́
Су́цькі

Сцебіра́кі
Сцёшыцы
Сядзіца
Та́луць
Трыгу́зі
Цы́нцавічы
Чыжэ́вічы
Шыпкі́
Ю́дзеўшчына
Ю́нцавічы
Ю́шкаўка
Я́зні
Я́міна

**Дзяржынскі р-н** — Дзярж.

Багрыцо́ўшчына
Дані́лавічы
Дзямі́давічы
Дзяржы́нск
Зале́ссе
Калі́ніна
Каўшо́ва
Ку́кшавічы
Ло́гавішча
Ля́хавічы
Мака́ўчыцы
Старына́
Стары́нкі

**Крупскі р-н** — Круп.

Бабары́ка
Бобр
Ве́рсанка
Весяло́ва
Во́сава
Вы́дрыца
Вялі́кае Го́радна
Вяршо́ўка
Галькі́
Гры́цкавічы
Гу́мны
Дубаво́е
Ду́браўка
Заро́ўе
Ігру́шка
Ку́пленка
Лісі́чана
Лу́цішча
Но́вая Кру́пка
Папа́рнае
Сакало́вічы
Ухва́ла
Хало́пенічы
Хацюхо́ва
Худаўцы́
Чарня́ўка
Які́маўка

**Лагойскі р-н** — Лаг.

Акало́ва
Астро́шыцы
Аўгусто́ва
Бе́лае
Бяла́ручы
Бяся́ды
Вялі́кія Нястанавічы
Га́йна
Ганяві́чы
Гле́баўшчына
Го́рна
Заві́шына
Задо́р'е
Зарэ́чча
Засце́нак
Ко́рань
Ко́ргава
Крайск
Краснаво́лле
Кра́снае
Кро́ква
Малі́наўка
Мача́ны
Нарбу́тава
Панізо́ўе
Прудзі́шча
Прудкі́
Ру́дня
Са́кавічы
Слабада́
Сяле́ц
Сямко́ва
Тхарні́ца
Ю́ркавічы
Яну́шкавічы

**Маладзечанскі р-н** — Маладз.

Аляхно́вічы
Асаве́ц
Бальца́ры
Бая́ры
Бро́ды
Вя́зынка
Вялі́кая Бо́ркаўшчына
Гарадо́к
Гра́нічы
Дубі́на
Ду́брава
Заго́рцы
Ка́меншчына
Кло́чкава
Кра́снае
Крыні́ца
Кулёўшчына
Ле́бедзева
Ле́шня
Маладзе́чна
Мо́йсічы
Мясата́
Палача́ны
Пранчэ́йкава
Ра́газы
Радашко́вічы
Хо́жава
Хату́цічы

**Мінскі р-н** — Мін.

Акőліца
Брадо́к
Закаблу́кі
Казло́ўка
Ка́льзберг
Кацяргі
Крыні́ца
Кузьмічы́
Лісі́цы
Лы́савічы
Но́вы Двор
Піга́сава
Пру́дзішча
Пціч
Самахва́лавічы
Сёмкава
Со́сны
Старо́е Сяло́
Шабаны́

**Мядзельскі р-н** — Мядз.

Абра́мы
Аза́ркі
Альсе́вічы
Бакачы́
Барко́ўшчына
Бу́дслаў
Ве́нцавічы
Вераб'і́
Во́сава
Гумбіне́нты
Даўжа́ні
Дзя́гілі
Дубано́сы
Задубе́нне
Зялёнкі
Канстанці́нава
Ключа́ткі
Княгі́ніна
Кру́ці
Крывічы́
Кузьмічы́
Ло́гавіны
Ляшчы́нск
Мацкі́
Міко́льцы
Мя́дзел
Навасёлкі
Нага́ўкі

Нагáўшчына
Нáрач
Нíўкі
Нóвікі
Нявéры
Палавікí
Палéссе
Папóўка
Пáсынкі
Пількаýшчына
Прýднікі
Пугачы́
Пузыры́
Рýбанікі
Свáткі
Слабадá
Славíчы
Старáя
Старлы́гі
Старынá
Старыя Гáбы
Суднікí
Сцепянёва
Сы́рмеж
Фáлевічы
Хóдасы
Чараўкí
Яцы́ны

**Нясвіжскі р-н** — Нясв.

Астрóўкі
Бузуны́
Вужáнка
Гры́цкавічы
Кіркаўшчына
Лявóнавічы
Ляхí
Панюцічы
Смалічы́
Чáнавічы

**Пухавіцкі р-н** — Пух.

Азяры́чына
Баравáя
Бéлае
Вецярэвічы
Вóйраўка
Вяркáлы
Глýшка
Дры́чын
Дукóра
Жóраўка
Зáзерка
Зазы́бы
Капéйнае
Каравáева
Кляцíшын
Мáр'іна Гóрка
Маставáя
Нóвы Кут
Пагарэлец
Пýдзіцк
Пярэжыр
Раўчáк
Рýдня
Сýцін
Сялéц
Тáлька
Тýрын
Хáравічы
Чырвóны Пасёлак
Шацк

**Смалявіцкі р-н** — Смал.

Батýранка
Вéрхмень
Вóлма
Ганчарóўка
Забалóцце
Зарэчча
Крáсная Слабóдка
Падкры́жжа
Пятрóвічы
Расóшнае
Смóльніца
Судабóўка
Хóценава
Юр'ева

**Стаўбцоўскі р-н** — Стаўб.

Акíнчыцы
Акóлава
Апéчкі
Арцюхí
Асíпаўшчына
Барóк
Бéлькаўшчына
Бýцькавічы
Варáксы
Варацíшча
Вечатарóва
Галавéнчыцы
Гóркі
Грабёнаўшчына
Дзераўнáя
Дзяўгí
Драздь́і
Жáцерава
Залýжжа
Зарэчча
Засýлле
Зая́мнае
Зуí
Іníца
Каралíна
Кляцíшча
Кýрачкі
Літвá
Мікалáеўшчына
Мясёнкаўшчына
Найдзёнавічы
Налíбакі
Пагарэлае
Падзéрнае
Падзéрычы
Паласнá
Ператóкі
Пруды́
Раёўшчына
Рубяжэвічы
Рýдня Налíбацкая
Русакí
Рýчын
Савóні
Свéранава
Сíмкавічы
Скамарóшкі
Слабадá
Слабóдка
Старынá
Стары́ Свéржан
Суднікí
Сцяцкí
Татáршчына
Тóнава
Трылéс
Хатавá
Цвíркі
Цíханава Слабадá
Я́нкавічы

**Уздзенскі р-н** — Уздз.

Астравóк
Бóркі
Вóзера
Вялíкая Вýса
Загрэбля
Здарóвец
Зéнькавічы
Кáменка
Крáснае
Кýхцічы
Мáркаўцы
Нізóк
Пáсынак
Ракáшычы
Сакóльшчына
Таўкачэвічы
Тычы́нкі
Уздá
Цéплень
Цяля́кава

**Чэрвеньскі р-н** — Чэрв.

Азёрны
Арэ́хаўка
Вайні́лава
Во́лма
Грабёнка
За́йцы
Калі́та́
Клінóк
Ку́калеўка
Ле́жні
Ля́ды
Ме́жава
Ме́хаўка
Не́жаўка
Плецівí́шча
Ру́дня
Ру́дня-Астраві́ты
Слабада́ Рава́ніцкая
Турэ́ц
Узгу́рск
Ху́тар
Чэ́рвень
Ялча́

У Слоўніку прыводзяцца дыялектная лексіка і фразеалагічныя адзінкі з гаворак суседніх раёнаў, прычым змешчаны толькі тыя словы, якія не занатаваны „Слоўнікам беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча" (Мн., 1979 і наступных гадоў). Гэта лексічны матэрыял з вёсак Ваўкалатка Докшыцкага р-на Віцебскай вобласці — скарочана Докш., Варняны Астравецкага р-на — Астр., Гальшаны і Кальчуны Ашмянскага р-на — Ашм., Такарышкі Іўеўскага р-на — Іўеў., Вышкава і Загор'е Карэліцкага р-на — Карэл., Валеўка Навагрудскага р-на — Навагр., Шутавічы і Вішнева Смаргонскага р-на — Смарг. Гродзенскай вобласці, Каранеўшчына і Светлае Клецкага р-на — Клецк. Мінскай вобласці.

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

*абмеж.* — абмежавальнае
*абрад.* — абрадавае
*абразл.* — абразлівае
*адз.* — адзіночны лік
*аднакр.* — аднакратны дзеяслоў
*адкуль-н.* — адкуль-небудзь
*адм.* — адмоўная часціца
*азнач.* — азначальны
*анат.* — анатамічнае
англ. — англійскае слова
*арх.* — архаічнае
*асаб.* — асабовы
*астр.* — астранамічнае
*асудж.* — асуджальнае
*атр.* — атрад
*бат.* — батанічны тэрмін
*безас.* — безасабовая форма
*біял.* — біялагічны тэрмін
*будаўн.* — будаўнічае
*ваен.* — ваенны тэрмін
*вет.* — ветэрынарны тэрмін
*він.* — вінавальны склон
*вульг.* — вульгарнае
*вык.* — выказнік
*выкл.* — выклічнік
*высок.* — высокі стыль
*вытв.* — вытворнае
*выш. ст.* — вышэйшая ступень параўнання
гал. — галандскае слова
*ганч.* — ганчарная справа
*геагр.* — геаграфічны тэрмін
*гіст.* — гістарычны тэрмін, адносіцца да гісторыі
*гл.* — глядзі
*груб.* — грубае слова, грубы выраз
грэч. — грэчаскае слова
*гумар.* — гумарыстычнае
*дав.* — давальны склон
*дап.* — дапаўненне
*дзеепрым.* — дзеепрыметнік
*дзеепрысл.* — дзеепрыслоўе
*дзеясл.* — дзеяслоў
*дзіц.* — дзіцячае
*ж.* — жаночы род
*жарт.* — жартаўлівае слова, жартаўлівы выраз
*заал.* — заалагічнае
*заг.* — загадны лад
*займ.* — займеннік
*зак.* — закончанае трыванне
*зал.* — залежны стан
*захапл.* — захапленне
*зб.* — зборны назоўнік
*злучн.* — злучнік
*злучн. падпарад.* — злучнік падпарадкавальны
*злучн. уступ.* — злучнік уступальны
*знач.* — значэнне
*зневаж.* — зневажальнае
*зніж.* — зніжальнае слова
*інш.* — іншае
*інф.* — інфінітыў
*іран.* — іранічнае
іт. — італьянскае слова
*крав.* — кравецкае
*кулін.* — кулінарнае
*ласк.* — ласкальная форма
латыш. — латышскае слова
лац. — лацінскае слова
*лаянк.* — лаянкавае слова
літ. — літоўскае слова
*літар.* — літаратурнае
*ліч.* — лічэбнік
*м.* — мужчынскі род
манг. — мангольскае слова
*мед.* — медыцынскі тэрмін
*месн.* — месны склон
*міф.* — з міфалогіі
*мн.* — множны лік
*муз.* — музычны тэрмін
*н.* — ніякі род
*наз.* — назоўнік
*найвыш. ст.* — найвышэйшая ступень параўнання
*неадабр.* — неадабральнае
*неазн.* — неазначальны
*незадав.* — незадавальненне
*незак.* — незакончанае трыванне
*непахв.* — непахвальнае
*нескл.* — нескланяльнае слова
ням. — нямецкае слова
*пабочн.* — пабочнае слова
*пабудж.* — пабуджальнае
*павел.* — павелічальнае
*пагард.* — пагардлівае
*паляўн.* — паляўнічае
*памянш.* — памяншальная форма
*памянш.-ласк.* — памяншальна-ласкальная форма
*парадк.* — парадкавы лічэбнік
*параўн.* — параўнай
*пашан.* — пашаны
*перан.* — пераноснае значэнне
*перыфр.* — перыфраз
*плыт.* — плытніцкае
польск. — польскае слова
*пр.* — прошлы час
*прым.* — прыметнік
*прыназ.* — прыназоўнік
*прынал.* — прыналежны
*прысл.* — прыслоўе
*прэд.* — прэдыкатыўнае
*пчал.* — пчалярства
*пяшч.* — пяшчотлівае

*родн.* — родны склон
рус. — рускае
*рыб.* — рыбалоўны тэрмін
*рыт.* — рытуальнае
*рэліг.* — рэлігійнае
*сад.* — садаводства
санскр. — санскрыцкае слова
*с.-г.* — сельскагаспадарчае
*скар.* — скарочанае слова
*скл.* — склон
*слав.* — славянскае
*спец.* — спецыяльнае
*стал.* — сталярскае
ст. ст. — стары стыль
*супаст.* — супастаўляльны
*супраць.* — супрацiўны
*сцвярдж.* — сцвярджальная
*сям.* — сямейства
тат. — татарскае слова
*тв.* — творны склон
*ткац.* — ткацтва
тс. — тое самае
тур. — турэцкае слова
*тэкст.* — тэкстыльнае
*тэх.* — тэхнічнае
*узмац.* — узмацняльнае
*указ.* — указальны
*ужыв.* — ужываецца
*уст.* — устарэлае
*устойл.* — устойлівы
*фальк.* — фальклорнае
*фам.* — фамільярнае слова
фр. — французскае слова
*хім.* — хімічны
хто-н. — хто-небудзь
*царк.* — царкоўнае
цюрк. — цюркскае слова
*цяпер.* — цяперашні час
*цясл.* — цяслярскі тэрмін
*часц.* — часціца
чэшск. — чэшскае слова
*шав.* — шавецкі тэрмін
што-н. — што-небудзь
*экспр.* — экспрэсіўнае
*этн.* — этнаграфічнае
*юрыд.* — юрыдычнае
яўр.-ням. — яўрэйска-нямецкае слова

## ЛЕКСІКАГРАФІЧНЫЯ І ІНШЫЯ ДАПАМОЖНІКІ

1. Беларуска-рускі слоўнік / Пад рэд. акад. АН БССР К. К. Крапівы. М., 1962.
2. Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Мн., 1969—1975. Т. 1—12.
3. *Булыка А. М.* Даўнія запазычанні беларускай мовы. М., 1972; *Ён жа.* Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мн., 1980.
4. *Киселевский А. И.* Латино-русско-белорусский ботанический словарь. Мн., 1967.
5. Определитель растений Белоруссии. Мн., 1967.
6. Rusų Lietuvių kalbų žodynas. Vilnius, 1967. T. 1—2.
7. Русско-белорусский словарь: В 2 т. / Под ред. акад. АН БССР К. К. Атраховича (Кондрата Крапивы). Мн., 1982. Т. 1—2.
8. *Сержанина Г. И., Змитрович И. И.* Макромицеты / Под ред. акад. АН БССР Н. А. Дорожкина. Мн., 1978.
9. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5 т. Мн., 1979—1986. Т. 1—5.
10. Słownik języka polskiego / Red. naczelny W. Doroszewski. Warszawa, 1958—1969. T. 1—11.
11. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. Мн., 1977—1984. Т. 1—5.
12. Тураўскі слоўнік: У 5 т. Мн., 1987. Т. 1—5.
13. Немецко-русский словарь / Под ред. А. А. Лепинга и Н. П. Страховой. М., 1971.
14. *Gloger Z.* Encyklopedia staropolska ilustrowana. Warszawa, 1974. T. 1—4.

# А

**А-а** *выкл.* **1.** Пры выказванні незадаволенасці, непрыемнасці. *Дык ён насьцёбаў іх [дзяцей], яны ўсі роўна лятуць. Тады я гавару: „А-а, што іх біць, забяром, ягат многа ў лесе, хай едуць"*. Забар'е Віл. **2.** Пры выказванні здзіўлення. *— Бач, шагая па бульвары. — Гэта ня бульвар, дзядуня, гэта мятро. — Гэта ў мятрэ такая віднага? Што днём. А-а-а.* Арцюхі Стаўб.

**АБ** *прыназ. з він.* **1.** Выражае аб'ектныя адносіны і ўжываецца пры абазначэнні прадмета гаворкі, думкі, пачуцця. *Адзін рас сабраліся мая сьвякроў і Гэльчына і гавораць аб нявестак: гэна пра мяне, а тая пра сваю.* Язні Віл. *Нешта аб дзеці, аб курыцу гаварыла.* Крывічы Мядз. *Ап камяне і жвыр ты ні забоцься, я ўсё падвязу, вазьму каня і прывязу.* Савоні Стаўб. **2.** Выражае часавыя адносіны і ўжываецца пры ўказанні на адрэзак часу, за які ці праз які можа быць выканана дзеянне. *Не магу ў дачкі доўга сядзець, ап тры ньні вярнуся.* Пятровічы Смал. *Мяркую аб дзень вярнуцца: няма за кім гуляць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**АБАБІРАЦЬ** *незак.* **1.** Здымаць плады з дрэва, куста. *Хадзем, унучачка, паможаш абабіраць агрэст.* Жацерава Стаўб. *Трэба грушкі абабіраць: ужо падаюць, пасьпелі.* Савоні Стаўб. **2.** Здымаць, збіраць (рой, жукоў). *Абабірала жукоў на картофлях, сьпіна калом стала, не магу разагнуцца.* Савоні Стаўб. **3.** Абчышчаць, здымаць лупінку. *Я во буду картофельку абабіраць, а ты схадзі перцаў цыбулькі нашчыпай, кап хутчэй было.* Данілавічы Дзярж. **4.** Абрабоўваць, сілай адбіраць. *Фашысты прышлі, усталявалася іх улада. Абабіралі людзей, жыцьця ні было з-за іх. А тады шчэ й хату спалілі, нас у Германію пагналі. Дык вот гора нацярпеліся.* Мядзел Мядз. **5.** Склёўваць, абіраць. *Падвесь курам снапок крапівы, хай абабіраюць, хай грэюцца.* Савоні Стаўб.

**АБАБІЎКА** *ж.* Абцяжка. *Пружыны ў дзіване ўжо старыя, абабіўка працёрлася.* Саланая Валож.

**АБАБРАЦЬ** *зак.* **1.** Зняць, сабраць (рой, жукоў). *Трэба ў сяеньку абабраць рой, а то ён пасядзіць і паляціць шукаць сабе месца.* Пруды Стаўб. **2.** Тайна забраць чужое: зрабіць пакражу, абакрасці. *А дачка як паехала да яго бацькоў, абяцала на дзьве нядзелі, а ўжэ й дваццаць дзён, а іх няме. Дак я са шкуры лузалася са страху. Як гляну — багацця многа ў дачкі, вокны велькія ў кватэры, баялася, каб зладзеі ня ўлезьлі, ня абабралі.* Мікалаеўшчына Стаўб. **3.** Абгрызці, аб'есці (мяса каля касцей). *От, малайчына, унучка. Глянь, як хараша абабрала рыбіну галоўку, адны костачкі.* Савоні Стаўб.

**АБАГНАЦЦА** *зак.* Адагнаць каго, прымусіць адысці прэч. *Як мне ўжэ душу ад'елі чужыя дзеці! Але што гандля тут і тут круцяцца дзеці с усёй вуліцы. Што гандля воўчая. Не абагнацца.* Мікалаеўшчына Стаўб. *От каб вы ўдушыліся! Не абагнацца. Дала, зьелі, калі чуць ні хваціла, ат парога не атапрэш курэй.* Арцюхі Стаўб.

**АБАГНАЦЬ** *зак.* Абгарнуць зямлёю радкі бульбы. *Трэба ўзаўтро абагнаць картофлю. Папрашу свата, каб абагнаў.* Савоні Стаўб. ◊ **Абагнаць смагу** — задаволіць жаданне, пакаштаваць ягад. *У лесе ягады ляснік забіраіць. Тут бяжыш абагнаць смагу, ні ў цябе яблычка за што купіць, ні ў цябе расьцець яно, а ён — назьбіраіш кошычак ягат, і ён возьмець адбярэць. Ну куды гэта такая жызьня?! Дык я тую жызьню ні люблю ўспамінаць.* Пагост Віл.

**АБАДА** *ж.* Кампот, пітво з садавіны. *Зімой я люблю піць абаду яблычную.* Кухцічы Уздз.

**АБАДРАЦЦА** *зак.* Знасіць вопратку, абутак; абнасіцца. *Але ён астаўся [жывым], мучыўся там, жыў вандроўнікам, ня меў чаго ні есьці, ні піць, абадраўся, абарваўся і проста быў такі ўжо ні пахож на чалавека.* Даўгінава Віл.

**АБАЗМЕН** *м.* Бязмен. *Пазычыла мядніцу ў сусеткі, абазьмен, звару варэня кіль тры, трускавак хачу зварыць.* Савоні Стаўб. *Адваж абазьменам асьміну зернят.* Забрэжжа Валож.

**АБАМБЕРЫЦЬ** *зак. Груб.* Астрыгчы. *Сядай, Сьцяпан, абамберу я цябе, як палагаецца.* Хожава Маладз.

**АБАРВАЦЦА** *зак. Гл.* абадрацца. Даўгінава Віл.

**АБАРВАЦЬ** *зак.* Зарабіць, раздабыць. *Калі дзе што абарве, то ўсё на сябе й пусьціць.* Дрычын Пух.

**АБАРНІК** *м.* Аднамесная лодка. *Уперадзе ўсіх на абарніку ехаў брыгадзір, а за ім астатнія.* Нарач Мядз.

**АБАРТАСАМ** *прысл.* Бесперапынна; скончыўшы адну работу, брацца за другую. *Так і працавалі дзень у дзень, пакуль не сажнеш усю ніву. Увесь час працавалі абартасам.* Восава Віл.

**АБАСІЛІЦЦА** *зак.* Падарвацца, перасіліцца. *Ну, адна жала-жала, жала-жала, тады прышла дамоў, як дала кроў у галаву, праз нос і*

*праз рот ішла кроў, і памёрла. Абасілілася.* Пагост Віл.

**АБАСЛАВІЦЬ** *зак.* Благаславіць. *Падышла маці яга да стала, выпілі мы зь ёй па чарцы, яна нас абаславіла.* Баранцы Віл.

**АББІЎКА** *ж.* Тое, што і а б а б і ў к а. *Аббіўка на дзіване натта харошая, так прышлася да абояў — рада, што ўзялі.* Малмыгі Віл. *Сьпінка ў крэсьле адвальваецца, ношкі шатаюцца, сядзеньня ўгнулася, аббіўка парвалася.* Ляхавічы Дзярж.

**АБГАДЗІЦЦА** *зак.* Забрудзіцца, вымазацца, выпацкацца. *Ён так абгадзіўся, што дагэтуль атмыць ні магу.* Люцец Барыс.

**АБГАРОДА** *ж.* Агароджа. *А тады кажу: „Ідзеця да гэтых, (што) жалезная абгарода, дак от гэта хазяйка ўсюды ходзіць: па свадзьбах, і па гасьцях. Яна песьні ўмея й ціперашнія і доўнейшыя.* Калініна Дзярж.

**АБДЗІРКІ** *толькі мн.* Кастрывыя рэшткі ад часання лёну або пянькі на грэбень, ачоскі; усё, што застаецца на грэбені. *Глянь, колькі абдзіркаў насабіралася, можна цэлую кудзелю зрабіць.* Ляхавічы Дзярж.

**АБДЗІРКУС** *м.* Гарэза, дуронік, непаседа. *Не набраецца адзення на гэтага абдзіркуса: месяца не прайшло, а галошы парваў, рубашку распаласаваў.* Межава Чэрв.

**АБЕДАШНІ** *прым.* Які ў часе супадае з абедам. *Сын сёньня абедашнім аўтобусам прыехаў.* Бясяды Лаг.

**АБ'ЕДДЗЕ** *н., толькі адз.* Корм для свойскай жывёлы, рэшткі яго ад зімы. *У нас яшчэ ў павеці многа аб'едзьдзя астаецца.* Пількаўшчына Мядз.

**АБ'ЕДЗІНЫ** *толькі мн.* Аб'едкі, недаедкі. *Госьці парасходзіліся, нікога с прыстойных не засталося, на стале адны аб'едзіны валяюцца — і нам нада падавацца дамой.* Межава Чэрв.

**АБЕРДЗІЦА, БЕРДЗІЦА** *ж.* Планачка для мацавання трысцінак у бёрдзе. *У абердзіцы ўстаўляецца трысьцё, абердзіц чатыры ў бёрдзе. Змамаецца абердзіца, прыдзецца ўсё бёрда пераплётаць.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Бердзіцы — гэта пруткі для ўтрымання трысьця.* Вецярэвічы Пух.

**АБЕРНЕНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* абярнуць. *Стаяў панарат абернены, хлопчык узьлес на гэты панарат і зваліўся з гэтым панарадам, так што прыбіўся.* Замошша Віл.

**АБЕРТУВАЦЬ** *незак.* Аверчваць, абкручваць. *Лапці, у лапцях забарсьні доўгія, да калена абертуяш анучы, аборамі ўматаў нагу — і пашоў.* Дрычын Пух.

**АБЕРУЧ** *прысл.* Папераменна, то адной рукой, то другой. *Мы суткамі аберуч яе калыхалі: такая крыклівая расла.* Цялякава Уздз.

**АБЖАЛІЦЬ** *зак.* Абскардзіць. *Рашэньне суда яшчэ абжаліць можна.* Грабёнка Чэрв.

**АБЖЫНКІ** *толькі мн. Абрад.* Святкаванне пачатку жніва. *Сабіраімся, бяром сярпы, ідзём жаць. Тады абжынкі зробім.* Бубны Віл. *І абжынкі гулялі. Жнём жыта, вянок саўём, прынясём у кантору, дзе нашы гаспадары, рукавадзіцелі. І пяём абжынкі.* Зачысце Барыс.

**АБЗА** *ж., толькі адз.* Неабчэсаны верхні знадворны слой бервяна. *Абза гавораць, як дом рубяць, ды дзерава абзаватае, не прыстае бярвяно да бярвяна.* Вялікая Вуса Уздз.

**АБЗАВАТЫ** *прым.* Неабчэсаны. *Гл.* абза.

**АБЗУЙ** *м.* Неабрэзанае рабро дошкі. *Абзуі атрымліваюцца тады, калі на дошкі распілена круглае бервяно. Бывае, што абзуй і падгабляваць трэба.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**АБЗЫЎНУЦЦА** *зак.* Падаць голас, абазвацца. *Як увайшла ў хату, дык абзыўнулася, ды як загалосіць!* Дукора Пух.

**АБІВАЦЬ** *незак.* Вымалочваць. *Лён харошы парос, скора камбайн пусьцяць: рве, вяжа і абівая.* Бяларучы Лаг. ◊ **Абіваць тунікі** — гультаяваць, бяздзейнічаць. *Ты нічога ня робіш, абіваяш тунікі.* Каменка Уздз.

**АБІРАКА** *м.* і *ж.* Абірала, грабежнік. *Фашысты такія абіракі, усё забіралі.* Гілікі Валож.

**АБІЯКІ** *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *А твой бацька зямлі хоць і многа меў, а абіякі насіў — усё на боты ні выходзіла.* Дзераўная Стаўб. *За маею памяцю некія абіякі насілі. Я помню, пад боты падбівалі дзеравяныя падэшвы, абіякі зваліся.* Савоні Стаўб. *Маладыя ня толькі ні насілі, але нават і ні бачылі абіякаў.* Паплавы Бярэз.

**АБКАЗАЦЬ** *зак.* Расказаць падрабязна. *А ты ў Шачойчыхі папытайся, яна табе ўсё апкажа.* Клетнае Барыс.

**АБКІДКА** *ж., толькі адз.* Абвязванне. *Зрабі апкітку, дык будзець цепкацца.* Вішнева Валож.

**АБКЛАДАЦЬ** *незак.* Абшываць па краях футрам (пра адзенне, абутак). *Даўней такія спрытныя ўланачкі шылі, суконныя, мехам абкладалі.* Рубяжэвічы Стаўб.

**АБЛАДЗІЦЬ** *зак.* Абчысціць ад лушпаек, падрыхтаваць да варкі. *Сыночак, навастры нож, бо ён вельмі тупы, а трэба на вячэру бульбы абладзіць.* Рудня Лаг.

**АБЛАТАШЫЦЬ** *зак.* Абабраць, абарваць (садавіну, агародніну), дапускаючы глум. *Як уварваліся малыя, дак увесь сат аблатошылі.* Ляшчынск Мядз.

**АБЛАЎНОЕ ПАЛЯВАННЕ.** Паляванне, калі месца, дзе знаходзіцца звер, ачэпліваецца паляўнічымі і загоншчыкамі. *Аблаўноя паляваньня праходзіць так: некалькі паляўнічых адзначаюць пэўны аб'ект і расстанаўліваюцца на адлегласці адзін ад аднаго і ідуць на зьвера.* Іруды Стаўб. *Паляваньня с флашкамі — аблаўноя паляваньня.* Рудня Чэрв. *Аблаўное паляваньне — калі месцазнаходжаньне зьвера*

*акружаюць паляўнічыя, а загоншчыкі гоняць на іх зьвера.* Саланая Валож.

**АБЛЕ́ЯЦЦА** *зак.* Абліцца. *Малы мокры ўвесь, аблеяўся вадою.* Дукора Пух.

**АБЛЕ́ЯЦЬ** *зак.* Абліць. *Аблеюць керасінам хату і палюць.* Дрычын Пух.

**АБЛІЗА́ЦЬ** *зак.* Ачысціць лізаннем. *Кошка злавіла мышку, прынесла кацянятам, пакарміла, аблізала: матка.* Савоні Стаўб. ◊ **Пальчыкі абліжаш** — пра што-н. смачнае, прыемнае, прывабнае. *Яна харошая хазяйка, сьпячэ пышкі, ажно пальчыкі абліжаш.* Рудня Чэрв. *Якая сёньня каша была, пальчыкі абліжаш.* Ляхавічы Дзярж.

**АБЛІ́ТЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* абліць. *Дзеці абліваліся, наш онь увесь абліты, мокры, як з вады выляз.* Горкі Стаўб. ◊ **Што малаком абліты** — бялюткі, усыпаны цьветам. *Сьлівы як цьвілі, што малаком абліты былі.* Забалоцце Смал.

**АБЛО́Г**[1] *м.* Неаранае, пакрытае дзірваном, травой поле. *Раней многа зямлі ляжала ў аблогах.* Ляхавічы Дзярж.

**АБЛО́Г**[2] *м.* Налог, падатак. *Некалі аблогі сільныя былі.* Дрычын Пух.

**АБЛЯМО́ЎКА** *ж.* Апуха. *Калісьці кажушнікі па сёлах хадзілі, красівыя кажухі шылі, з аблямоўкаю, каўнер вялікі.* Вішнева Валож.

**АБМАГЧЫ́** *зак.* Перамагчы. *Яшчэ ніхто яго не змог абмахчы, і маладыя нават.* Межава Чэрв.

**АБМА́НВАЦЬ** *незак.* Падманваць. *Амманваць жонку ты майсьцяр!* Пудзіцк Пух.

**АБМА́НКА** *ж.* Манішка, устаўка. *А-а, ікая прыгожая абманка пад сарахванам, і дзе толькі купляюць?! Надзену абманку і пайду, ніхто ні здагадаіцца ў вёсцы, што гэта ня курта.* Якімаўка Круп.

**АБМЕ́ШКА** *ж.* Вобмешка, вотруб'е. *Карова добра есь сечку з абмешкай, але ўжо канчаецца абмешка. Трэба думаць, дзе дастаць.* Палессе Мядз.

**АБМІ́НАК** *м.* Агрэх. *І многа ж на гэтым полі абмінкаў засталося, мусіць, трактарыст трактар першы рас веў, прапускаў цэлыя палоскі незааранья.* Дукора Пух.

**АБМІНА́ЦЬ** *незак.* Церці, праводзіць першасную апрацоўку льнотрасты. *Зробім талокі, якія там ужо дзіўчаткі, якія там няўмекі, і ходзім лён абмінаць.* Паплавы Бярэз.

**АБМУ́ЛКА** *ж.* Памылка арфаграфічная. *Закон я знала, арыхмецікі ні знала, пісала блага, абмулак многа было, як направіць настаўнік, то чырвона.* Любань Віл.

**АБМЫ́ЛАК** *м. Ткац.* Памылка (пры тканні ніткі асновы ідуць зверху без ператыкання). *Вот у красных абмылак, сьляпая, зрабіла.* Такарышкі Іўеў.

**АБМЫЛІ́ЦЦА** *зак.* Памыліцца. *Глядзі ўважліва, а то абмыліцца можаш, адну мерку прапусьці ці дабаў і на цэлую сотню меней або больш намераем.* Межава Чэрв. *Я абмылілася, кепска палічыла.* Цялякава Уздз.

**АБНО́ШКА** *ж. Спец.* Пылок з кветак, які пчала прыносіць на задніх ножках. *Сабраны пылок называецца абношка. Пчала прышла з абношкай у вулей. Хораша ідзе пчала з абношкай — многа мёду будзець.* Бясяды Лаг.

**АБО́ДВЫЯ** *ліч. зб.* Абодва. *Па іх стралялі, але ў лес уцяклі абодвыя — і брат большы і меншы.* Каранец Бярэз.

**АБО́РА** *ж.* Пуня на сена. *А гумно вялікая, от адгэтуль дзьверы і праз усю абору ехала на возе. Вялікая абора, сена многа налажылі.* Ластаянцы Валож. *З леташняга году ў аборы засталося пудоў некалькі сена.* Рудня Лаг.

**АБО́РЫВАЦЬ** *незак.* Абганяць. *І бульбу трэба аборываць і няма каму.* Бяларучы Лаг.

**АБРАБІ́ЦЦА** *зак.* Тое, што і а б г а́ д з і ц ц а. *Абрабіўся ўвесь, недзе ў гразі поўзаў ці што?* Прудзішча Лаг.

**АБРАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Абвязваць. *Я ўсягды абраблю платочкі.* Канстанцінава Мядз.

**АБРАДЗІ́НІЦЦА** *зак.* Абрадзіцца. *Во гора было: муж памёр, а я тут яшчэ абрадзінілася.* Сакольшчына Уздз.

**АБРАЗА́ЦЬ** *незак.* Абіраць. *Гэлька картоплю абразая на вячэру.* Цялякава Уздз.

**АБРА́ЗІНА** *м.* і *ж. Абразл., лаянк.* Агідніца, брыдота. *Рохля ты! Сьвет бы цябе ні бачыў! Адвярні свой лыч, абразіна.* Раўчак Пух.

**АБРАШО́ТКА** *ж. Будаўн.* Дошкі, набітыя на кроквы. *Да абрашоткі прыбіваюць гонту або шыфер.* Дукора Пух. *Па латах робяць абрашотку, якая прызначаецца для шыферу ці гонты.* Пудзіцк Пух.

**АБРО́БЛЕНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* абрабіць. Забруджаны, вымазаны, выпацканы. *Ён такі заўсюды абраблены ходзіць: і ў сьвята і ў будні, ніколі не апране чыстага, як і не памые старога.* Грабёнка Чэрв.

**АБРУ́СІК** *м. Памянш.* Абрус. *Хлеп ляжаў на стале, дык яго якім абрусікам зрэбным у ёлачку накрывалі.* Вязынка Маладз.

**АБРУ́Ч** *м.* Аборка, нашытая на што-н. у выглядзе кольца. *Купіла ў магазіне цясьмы на абручы.* Забалоцце Смал.

**АБРЫ́ДНІЦА** *ж.* Брыда. *Не хачу і бачыць абрыдніцы гэтае!* Брадок Лаг. *Зыйдзі з вачэй, абрыдніца! Ляпаеш усё, што можна, чаго і нельга. Тут жа дзеці — усё чуюць.* Межава Чэрв.

**АБРЫ́ЗГЛЫ** *прым.* Прэсна-кіслы (на смак). *Я ўсягды абрызглае малако ў печ стаўлю, як выпаліцца, тварох смачны бываіць.* Калодкі Віл.

**АБРЫ́ЗЛЫ** *прым.* Азызлы, апухлы. *З начы яна заўжды з абрызлым тварам уставала.* Халопенічы Круп.

**АБРЫ́МЗГАЦЦА** *зак.* Падрацца, знасіцца. *Поттачка ў кашулі так абрымзгалася, што ні наладзіш ніяк, трэба выкідаць усю кашулю.* Нізок Уздз.

**АБРЫНДАЦЬ** *зак.* Заляпаць граззю. *Усю спадніцу абрындала за гэтую дарогу, а панчохі ад гразі аш рабыя сталі.* Узгурск Чэрв.

**АБРЫЎКА** *ж.* Заработак. *Я адзін на ўсю вёску бондар, гэта сягоньня ў якую хату ні сунься — мой цабэрак знойдзеш. І людзям ласка, і табе сякая-такая абрыўка.* Бяларучы Лаг.

**АБСАДЗІЦЬ** *зак.* **1.** Прымусіць змоўкнуць. *Але я яго адразу апсадзіў, бо натта ўжо ён разышоўся.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Паставіць на месца. *Няма каму апсадзіць цябе.* Вялікая Вуса Уздз.

**АБСЕКЦІ** *зак. Перан.* Спыніць, рэзка перапыніць. *А ты што, ні магла заставіць яе змоўкнуць, ні магла апсекці?* Клетнае Барыс.

**АБСКЛЮДОВАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* абсклюдаваць. *Дом апсклюдованы, усё ж лепш.* Цялякава Уздз.

**АБСЛЮНЯЎЛЕНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* абслюнявіць. *Дзед дзяржаў у зубах абсьлюняўленую цыгарэту.* Узгурск Чэрв.

**АБСТРЫКАЦЬ** *зак.* Папячы крапівой. *Выганяла пыляняты з агароду, дык апстрыкала ногі.* Дукора Пух.

**АБСУНУЦЦА** *зак.* Аслабець, страціць былую сілу. *Апсунецца чалавек, ніхто яго тады ні любіць, заботы ён патрабуе за сабой.* Сакольшчына Уздз.

**АБСЫПКА** *ж.* Прызба. *Зіма падыходзіць, апсыпку трэба зрабіць, а то ў хаце мёрзнуць будзем.* Узгурск Чэрв.

**АБТАЎКАЦЬ** *незак.* Таўкучы, ачышчаць ад шалупіння. *Тады патсушыць і йшчэ аптаўкаць, бо яны як не аптаўчэш, дык будуць ёлкія такія, ніякія саўсім [крупы].* Засулле Стаўб.

**АБТРАХНУЦЬ** *зак.* Абкалаціць. *Вось галганцы, за ноч усе яблыкі абтрахнулі.* Узгурск Чэрв.

**АБУБНІЦЬ** *зак.* Абстрыгчы нагала. *Такі прыгожы хлопец, а яго абубнілі, як авечку.* Брадок Лаг.

**АБУВАННЕ** *н.* Абутак. *Наступіў мне сёмы гот, і атправілі ш ужо ў школу. Ні адзежы ня было, ні абуваньня.* Задубенне Віл.

**АБУВАТАЛЬ** *м. Уст.* Заможнік. *Шчэ, наадварот, бедных ні любілі. Калі абуваталь, дык яны гэтага абуватэля ўжо ўважаюць, а ек бедны, дык „а, пся крэў" і пачнуць валтузіць беднага чалавека.* Аляхновічы Маладз.; *параўн.* польск. obywatel 'грамадзянін'.

**АБУДВА** *ліч. зб.* Абодва. *Патом цераз які час прыходзяць абудва — брат і бацька.* Вецярэвічы Пух.

**АБУДЗІЦЬ** *зак.* Злёгку абварыць. *Кілбасу трошкі абуджу, пяць мінют, а тады жарыць, ото ўкусная.* Савоні Стаўб.

**АБУЖАВАЦЬ** *незак.* Прышываць сетку да вяроўкі. *Нада абужаваць сетку, таму што яе толькі што прынясьлі са складу. Сетка была доўгая, абужаваць прышлося доўга.* Чараўкі Мядз.

**АБУРЫЦЦА** *зак.* Забурыцца, кінуцца, паваліцца. *Я на дзіэвн абурылася ды й паспала.* Дукора Пух.

**АБУРЫЦЬ** *зак.* Абваліць, абрушыць, разбурыць. *Мы працавалі, а ён прыйшоў і абурыў усё, праца марна загінула.* Узгурск Чэрв.

**АБУТКА** *ж.* Абутак. *Другі склат разламалі, далі нам адзёжу, далі нам на ногі абуткі харошыя — баціпкі, туфлі, што пападалася, каму што наравілася.* Ухвала Круп.

**АБУЎКА** *ж.* Тое, што і а б у т к а. *А лепшай абуўкі, чым у мяне, ні ў кога німа. От лёхка ў іх хадзіць, аш нох ня чуіш!* Бяларучы Лаг.

**АБУЯЦЬ** *зак.* Апанаваць. *Такі мяне страх абуеў.* Дукора Пух.

**АБФІКЛЯВАЦЬ** *зак.* Абдурыць, падмануць. *Грышка Віцю здорава абфікляваў.* Аляхновічы Маладз.

**АБХЛЮНДРАЦЦА** *зак.* Абмачыцца, запэцкацца ў гразь. *Такая гразюка на вуліцы, пакуль прышла, абхлюндралася ўся па вушы.* Дукора Пух.

**АБХЛЮПАЦЦА** *зак.* Апырскацца, замачыцца. *Апхлюпаўся аш па самыя вушы, ну што с табою рабіць?!* Пярэжыр Пух.

**АБХЛЮПАЦЬ** *зак.* Апырскаць граззю. *Паткасай штаны, а то апхлюпаеш.* Дукора Пух.

**АБХОДЛЫ** *прым.* Дабраякасны. *Як абходлае насеньне, дык яно відаць, семячка ў сярэдзіне есьць.* Ляшчынск Мядз.

**АБЦЕПКАЦЦА** *зак. Перан.* Ацярпецца, перастаць заўважаць дрэннае, прывыкнуць. *Такая маладая, а зусім абцепкалася, усё ні па чом: ці прыбрана, ці насьмечана, ці будуць чужыя, ці ня будуць — усё ёй роўна.* Межава Чэрв.

**АБЦЯГАВІНЫ** *толькі мн.* Адыходы лёну пры трапанні. *Апцягавіны прадуць, а бывае, да кудзелі дабаляць і коўдру шыюць.* Такарышкі Іўеў.

**АБЧЫРЫЦЬ** *зак.* Абадраць, абрэзаць. *А той гэтым часам абчырыў дуба і ляціць сюды с кійком.* Рудня Чэрв.

**АБШАЛЁСТАЦЬ** *зак.* Абабраць, абакрасці. *Апшалёсталі ўсё: і пшаніцу, і ячмень, і бойку зь мёдам — усё забралі. І ніхто ні ведае, хто мох гэта зрабіць.* Межава Чэрв.

**АБШАРПАНЕЦ** *м.* Хто ходзіць у падраным, абшарпаным адзенні. *Сусет вунь гэтакі апшарпанец, а вучыцельку ўзеў.* Пярэжыр Пух.

**АБШАРПАНЫ** *у знач. прым.* Адзеты ў падранае, паношанае адзенне, у рызманы. *Азірнуўся назат, глядзіць — стаіць доля яго абарваная, апшарпаная, ну такая страшная, што ні глядзець.* Ракаў Валож.

**АБШАСТАЦЦА** *зак.* Ухадзіцца. *Сьпяшаюся, прыляцела з работы, трэба апшастацца: са-

*мой пад'есьці і скаціну накарміць.* Пасынкі Мядз.

**АБШАСТАЦЬ** *зак.* Адрэзаць, падрэзаць. *Гэта ж мая дзяўчына ўчора такія валасы апшастала, галава стала голая, як гарбуз.* Межава Чэрв.

**АБШУСТАЦЦА** *зак.* Збяднець, згалець. *Апшустаесься нанішто, калі будзеш гэтак грошы разбазэрваць.* Асавец Маладз. *Апшусталася, дак німа ш чым ехаць.* Цялякава Уздз.

**АБШЧАПІЦЬ** *зак.* Абхапіць рукамі, абняць. *Апшчапіла рукамі, што аж рукі пабялелі.* Асавец Маладз.

**АБШЧУПАЦЬ** *зак.* Абмацаць, аблазіць, абгледзець. *Пчолы залезуць і ў ліпу, і ў бярозу, і ў сасну, абы харошае дупло. Яны абшчупаюць, як харошае дупло, стануць насіць мёд.* Арцюхі Стаўб.

**АБШЧЫКАЦЬ** *незак.* Абразаць. *Апшчыкаць галінкі вясной якраз і добра садовымі ножніцамі, пілачкай горай.* Рудня Лаг.

**АБШЭЎКА** *ж.* Аблямоўка. *Кароткія рукавы выгадней каля работы, у доўгіх апшэўкі вельмі скора рвуцца.* Вялікая Вуса Уздз.

**АБЫСЦІ** *зак.* Узысці. *Нядоўга часу прайшло, як і лён абышоў, як трава уссела.* Вялікая Боркаўшчына Маладз.

**АБЫ-ЯК** *прысл.* Як папала, бедна, надгаладзь. *І хоць бы чалавек шчэ добра зьеў, а то і есьці было абы-як, ніякая яда была.* Засулле Стаўб.

**АБЭРВЫ** *толькі мн.* Моцны здаровы смех. *Не каб рабіць, толькі б пасьмяяцца, адны абэрвы цэлы дзень.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**АБЭРЖА** *ж.* **1.** Вялікая, прасторная хата. *У случай што, дык за гэтыя дзеньгі куплю сабе які куточак маленькі, нашто мне такая абэржа, як маю.* Савоні Стаўб. **2.** *перан., іран.* Здаровая, мажная, не вельмі спрытная ў рабоце асоба. *Хто яе возьме, абэржа гэта каму патрэбна? Гуляць пойдзя, ажні падлога дрыжыць, а да работы няўдалая, усё з рук валіцца.* Савоні Стаўб.

**АБЭРЖНЯ** *ж.* Заездны дом; карчма. *Прыбяры ты крыху ў хаці, а то як у абэржні.* Ляхі Нясв.; *параўн.* польск. oberża 'тс'.

**АБ'ЯДЗЕННЕ** *н.* Прысмакі. *Дзеці мае за аб'ядзеньнем ганяюцца.* Колюж Бярэз.

**АБЯРНУЦЦА** *зак.* Паспець схадзіць куды-н. і вярнуцца. *Дарма што старая, а, як бачыш, за гэты час абярнулася туды і назат, лёхкая яшчэ на нагу.* Пярэжыр Пух.

**АБЯЧАНКА** *ж.* Павека. *Абячанкі апухлі, вачэй ні відаць, а ты ўсё красіш іх.* Грабёнка Чэрв.

**АВАЛАК, ВАЛАК** *м.* Плоская качалка з зубцамі. *Вазьмі авалак, пакачай бялізну: пралежала цэлы дзень.* Рудня Чэрв. *Бацька зрабіў новы бярозавы валак.* Палессе Мядз. *Дастань валак за комінам, трэба бяльё пакачаць.* Нізок Уздз. *Валкам прыціскаяш да качалкі і так качаяш бялізну.* Варацішчы Стаўб.

**АВЕЛ** *м. Абразл.* Прыдурак. *Эй ты, авел! Што робіш?! У цібе мазгі атсохлі?! Ай-ай, такоя можа рабіць толькі авел.* Раўчак Пух.

**АВЁС** *м.* Авёс. *Або авес ставілі ў печ, у саганы, парылі яго, тады яго суэджвалі, сушылі, тады таўклі, зь яго палучаліся крупы.* Вязынка Маладз. *Авес цяпер косяць, а ня жнуць, бо ён на сілос ідзе.* Трыгузі Віл.

**АВЭНЯНЁ** *часц. указ.* Ужываецца для ўдакладнення месца ці месцазнаходжання каго або чаго-н. *Авэнянё анучнік едзя, трэба анучы здаць, каб ні заміналі.* Ляхавічы Дзярж.

**АГАДАЦЬ** *зак.* Прыпасці, расстарацца. *Грошай на зруб ужэ агадалі, нада зарас аканомна жыць.* Пярэжыр Пух.

**АГАЛЬНІ** *прым.* Неакуратны. *Агальняя работа, усё перарабіць прыдзецца. Чаму засьпяшаўся так?* Калодкі Віл.

**АҐАТКІ** *мн. Бат.* Аґаткі (Antennaria). *Аґаткі ў нас за мастом растуць, як у ягады йсьці.* Вецярэвічы Пух.

**АҐЗАМІН** *м.* Экзамен. *– Гэта мне, бабуня, для аґзаміна трэба, гэта мне па рабоці нада. Гэта мне на ацэнку нада.* Пагост Віл.; *параўн.* лац. examen 'тс'.

**АГЛАБЛІНА** *ж.* Аглобля. *Як уехалі на двор, як вырваў бацька аглабліну, як стаў лупіць аглаблінай сына! І выгнаў маладых з дому! А гэта ш даўней было, німа дзе ім ехаць.* Даўгінава Віл.

**АГЛАМАЗДАК** *м. Абразл.* Дурань. *Аднаго сына маю, і той агламаздак, нічога не разумее.* Бясяды Лаг.

**АГЛАМОЗЫ** *прым.* Тупы. *Каму ты дала рашаць? Калі Ганна ні рашыла, то гэта агламозая і падаўна ні рошыць. Яна ж як пень.* Бясяды Лаг.

**АГЛЕДЗЕЦЦА** *зак.* Ухадзіцца, дагледзець гаспадарку. *Ідзём дадому позна, а дома яшчэ трэба агледзецца, пакарміць усё.* Кукшавічы Дзярж.

**АГЛЕДЗЕЦЬ** *зак.* Пераўжыць, спазнаць, адчуць. *Клялі мяне, а цяпер на сабе агледзялі.* Дукора Пух.

**АГЛОБНЯ** *ж.* Тое, што і а г л а б л і н а. *Ранянага прыеязалі к аглобням, каня пагналі і заставілі бехчы. Так мучылі.* Дукора Пух.

**АГЛУЗДЗЕЦЬ** *зак.* Ашаламіцца, разгубіцца. *І столькі ужэ ў Мінску народу, што люццы мае! Я за тыя дні, колькі была, дык аглуздзела ў тым Мінску.* Калініна Дзярж.

**АГЛЯДАЦЦА** *незак.* Рабіць хатнюю работу, уходжвацца. *Было, кажа, калацьё міш плеч і ні праходзіла, а як папіла траў, дак і сёньня аглідаіцца.* Няровы Валож. *Хутка цёмна стаў, а мне яшчэ аглядацца.* Сакольшчына Уздз. *Знаёмая кабета праходзіла тут, дык загаманілася. Забылася, што і аглядацца трэба.* Маркаўцы Уздз.

**АГЛЯ́ДЗІНЫ** *толькі мн. Абрад.* Агледзіны. *Некалі ў нас гэтак было. Хоча жаніцца хлопец, дык трэба ш, каб бацькі маладога прыгджалі на аглядзіны. Яны прыехалі к яму, бацькі ўжо, на аглядзіны, а ён [малады], дармо што быў бедны, але хітры. Патхітравоў...* Кукшавічы Дзярж. *Сёньня паехалі з Настаю ўв аглядзіны.* Грыцкавічы Круп.

**АГЛЯ́ДЫ** *толькі мн.* Тое, што і аглядзіны. *Падгаварылі маю сястру цёткі, мацярыныя сёстры, і пашлі зь ёй у агляды.* Баранцы Віл.

**АГНА́МЯННЫ** *прым.* Агнямётны. *А як ужо ўсіх перабілі гэтых старыкоў і старух, тады сталі страляць па крышы [саламяныя былі крышы] агнамяннай пуляй.* Новікі Мядз.

**АГНЯ́** *н.* Ягня. *Авечкі спакойна ходзяць, а малыя агнята забаўляюцца.* Дрычын Пух.

**АГО́ЎТАЦЦА** *зак.* Звыкнуцца, прызвычаіцца. *Ледзь агоўталіся на тым новым мейсцы.* Астравок Уздз. *Зразу кепска было, думала, што ніколі ня прывыкну, а пасьля агоўталася паманеньку.* Цялякава Уздз.

**АГРАНО́МКА** *ж. Жан.* да агроно́м. *Аграномцы бульбу садзіць памагала.* Ляшчынск Мядз. *У нядзелю ходзіць гэта сама аграномка, разьмяркоўвае дзялкі. Прыйшла і да мяне.* Савоні Стаўб.

**АҐРА́С** *м.* **1.** Гультаяваты здаравяка. *Аґрас гэты нічога ня робіць, толька й шлындае па вуліцы.* Рудня Чэрв. **2.** Свабодны. *Што ш, ён аґрас — нічым і нікім не зьвязаны.* Савоні Стаўб.

**АГРАША́ЦЦА** *незак.* Есці. *Сёні, сынок, і печы ні паліла, ні аграшалася.* Савоні Стаўб.

**АГРО́ДНІК** *м.* Агароднік. *У іх сад харошы, ведама, сам агроднік.* Дукора Пух.

**АГРЭ́БЦІ** *зак.* Згрэбці. *Самае лепшае сена агрэблі, са спакоем можна й паляжаць.* Бяларучы Лаг.

**АГРЭ́К** *м.* Тое, што і абмінак. *Ня ўмеў добра араць, то й нарабіў агрэкаў шмат.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**АГРЭ́ЦЬ** *зак.* Моцна ўдарыць; выцяць. *Вучыся, сынок, абараняцца. Першы не задзірайся, а калі хто лезя, агрэй добра, дай у нюхаўку, каб кроўю заліўся.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**АГУ́ЛАМ** *прысл.* Супольна, гуртам. *Агулам спахватней рабіць, весялей.* Каменка Уздз.

**АГЫ́** *сцвярдж. часц.* Ага, але. — *Ці ўсё зрабіла дома? — Агы.* Мацькаўцы Віл.

**АГЫ́ЛЯ!** *выкл.* Вокліч, якім адганяюць гусей. *Агыля! Гыля, куды вы! Агыля!* Ходасы Мядз.

**АДАБРА́ЦЬ** *зак.* Забраць сілай. *Нашто ш ты даваў, кап потым адабраць?* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **Адабраць ногі, рукі** — страціць здольнасць рухацца, шавяліцца. *Адабрала мне ногі, рукі з-за таго, што была слабая адзежа, а зіма была халонная, прышлося палавіну лета лячыцца.* Замошша Віл.

**АДАГРАВА́ЦЬ** *незак.* Ствароджваць. *З малака, як цяпер, адагравалі ў печы і ў клінках сыр выціскалі.* Вязынка Маладз.

**АДАГРЭ́ТЫ** *дзеепрым. зал. пр.* ад адагрэ́ць. Адтоплены, створажаны. *Атагрэтае малако ліём у мяшэчак, прыціскаем каменем і атрымліваецца сыр.* Рудня Чэрв.

**АДАПНУ́ЦЬ** *зак.* **1.** Адвязаць і зняць. *Адапну ваш хвартух, а то зьнясу дамоў.* Дукора Пух. **2.** Адгарадзіць. *Адапні катух, а то вяпрук к парасятам лезя.* Ляхавічы Дзярж.

**АДАРВА́ЦЬ** *зак.* ◊ **Вачэй не адарваць** — вельмі захапіцца прыгажосцю. *Чысты лён, біс травы, і на душы гэтак жа чыста. Стану ў канец і ўсё гляджу і ніяк воч не магу адарваць.* Вялікая Боркаўшчына Маладз.

**АДАРО́БАЧКА** *ж.* Лупінка, аб'едак. *Кожан год была бульба і буракі цэлыя, а сёліта буракі пацукі зьелі і адаробачкі нідзе ні асталося.* Халмоўка Барыс.

**АДАРО́БКА** *ж. Спец.* Трубка з лубу для намотвання пражы. *Адаропкі даўней ужываліся.* Паплавы Бярэз. *Калі напрадалі, тады вілі ў клупкі і на адаропкі. Кужэльныя ніткі зьвівалі на адаропкі, а ніткі з кудзелі — на клупкі.* Мацкі Мядз.

**АДБА́БІЦЬ** *зак. Уст.* Прыняць роды. *Завуць дзіця адбабіць, бапку завуць. Так гавораць у нас, у Вішневе, а далей як, то мы ні знаім. Ужо адбабілі?* Вішнева Валож.

**АДБІ́ЦЬ** *зак.* Накасіць. *З раньня з воз клевіру адбіў, можна было б яшчэ, ды нешта стаміўся.* Худаўцы Круп. ◊ **Адбіць на плёнку** — запісаць гук электрамагнітным шляхам. *Абы-чаго ні гавары, бо адаб'юць на плёнку.* Пагост Віл.

**АДБО́ЙКІ** *толькі мн.* Вялікія трэскі. *Адбойкі, як вялікія трэскі, адбіваюцца пры часаньні берявна, а як драбнейшыя, то трэскі на распалку.* Такарышкі Іўеў.

**АДБЯГА́ЦЬ** *незак.* Аддзяляцца. *Як семя ачышчаюць, мякіна адбягае. А мы тую мякіну, што адбягала, у мяшэчкі напіхалі.* Дрычын Пух.

**АДВА́РАНКА** і **АДВАРО́НКА** *ж. Кулін.* Вараная бульба, якую падаюць на стол у лупінах. *Сягоньня ні буду скабліць бульбу, адваранка з лупінамі пойдзіць, зьядзём.* Калодчына Віл. *Адваронак на вячэру пастаўлю, бо німа калі абіраць.* Кроква Лаг.

**АДВЕ́ДКІ** *толькі мн. Абрад.* Наведванне жанчыны, якая нарадзіла дзіця. *Усе настаўнікі сабраліся і хадзілі ў адветкі да Зінаіды.* Палессе Мядз. *Выбіраюся да сусеткі ў адветкі схадзіць.* Астравок Уздз. *На адветкі ходзяць цераз некулькі дзён, як абродзіцца кабеціна.* Целякава Уздз.

**АДВЕ́СКА** *ж.* Прылада для праверкі вертыкальных плоскасцей. *Цяпер адвесак няма,*

*цяпер уравень купляюць у магазіні.* Савоні Стаўб.

**АДВІВА́ЦЦА** *незак.* Адлягаць. *А матка ў сэрцо смутку набрала, засумавала, ходзіць да плача..., а тады адвілосё, адышло, жыла, мучылася.* Савоні Стаўб.

**АДВО́ДКА** *ж. Пчал.* Адсадка новага рою. *Раней трэба было сачыць за раямі, а цяпер, не чакаючы роя, робяць адвоткі.* Ляхавічы Дзярж.

**АДГАВА́РУВАЦЦА** *незак.* Адгаворкамі адмаўляцца, ухіляцца ад прапановы. *Вот яму гавары, а ён і не адгаваруецца.* Цялякава Уздз. *Ты ўжо лепей не адгаварувайся, а памаўчы.* Дрычын Пух.

**АДГАРЭ́ЦЬ** *зак.* Прыгарэць. *Мусі, трэба варэньне зварыць во ў гэтай каструлі. Можа, не адгарыць з аднаго разу. Я яе потым атшарую.* Бяларучы Лаг.

**АДГІНА́ЦЬ** *незак.* Адкладаць. *Ужо, мусіць, даўнейшая сталі насіць, бо мая ўчора, гляджу я, спадніцу адгінаіць, а перш жа ўсё старалася як найкарацей зрабіць.* Канстанцінава Мядз.

**АДГРО́ХАЦЬ** *зак.* Пабудаваць што-н. вялікае. *Будыніну такую адгрохаў.* Забалоцце Смал.

**АДГУЛЯ́ЦЬ** *зак.* Аддыхнуць, адпачыць. *Старыя цяпер затое адгуляюць.* Дрычын Пух.

**АДДА́ЦЬ** *зак.* ◊ **Аддаць утратнае** — сплаціць кошт выпітага і з'едзенага ў час сватаўства (калі дзяўчына не хоча выходзіць замуж). *І яму ўжо трэба заплаціць грошы, што ён тутака прывозіў, выпівоў. Матка аддала тое ўтратнае і прышла.* Кукшавічы Дзярж. **Аддаць богу душу** — памерці. *Гэто ж разбіралі амбар, і мушчына зваліўсё. Мог аддаць богу душу, але шчэ, як відаць, бог пасьцельку патсьцілаў.* Савоні Стаўб.

**АДДЗЁЛ** *м.* Клас. *Хадзіў у школу, кончыў я ў сваёй вёсцы чатэры аддзелы і пашоў у Крывічы.* Даўгінава Віл.

**АДДЗЯ́Л** і **О́ДДЗЯЛ** *м.* Тое, што і а д д з е́ л. *Вялікі вырас, у якім жа ты аддзяле? Сакольшчына Уздз. У каторы одзьдзял ходзіш?* Тонава Стаўб.; *параўн.* польск. oddział 'аддзел, аддзяленне'.

**АДДРЫ́ХВАЦЦА** *незак.* Адсыпацца. *Аддрыхвацца прыемна, але, як казаў адзін, пад ляжачы камень вада не цячэ.* Баравая Пух.

**АДДУ́ХА** *ж.* Перапынак, адпачынак. *Не магу больш! Дай хоць троху аддухі.* Малмыгі Віл.

**АДДЫ́ХАЦЬ** *зак.* Аддыхнуць. *Ты ўсё пішаш, лепяй бы легла ды аддыхала.* Дукора Пух. *Я палоць сёньня больш ня буду, пайду аддышу, а то мне ноч рабінавая была, змарылася.* Дрычын Пух.

**АДДЫ́ШКА** *ж.* Адпачынак. *Ніякае мне аддышкі на гэтум сьвеці німа, скарэй бы ўжо сьмерць мяне ўзяла.* Ляхавічы Дзярж.

**АД'Е́ДУ:** ад'еду няма. Не ад'есціся (пра што-н. смачнае). *Мы дык часта на вячэру кашу варым. Прынясом агуркоў салёных ці малака, ад'еду няма, за вушы не адцягніш.* Хожава Маладз. *З масьлёнкаў бапка поляўку варыла з грыбамі, ад'еду не было.* Радашковічы Маладз.

**АД'Е́ХАЦЦА** *зак.* **1.** Ад'ехаць. *Ад'еханіся ў метрах дзьвесьця, глядзім: лятуць дзеці — дзевачка й хлопец. Ад'еханіся ў лес далей — і яны бягуць.* Забар'е Віл. **2.** Аддзяліцца. *Як сын ад'ехаўся ад мяне, дык работы прыбавілася.* Дрычын Пух.

**АД'Е́ХАЦЬ** *зак.* ◊ **Ад'ехаць чараду** — даць здачы. *Прыбеx малы дахаты, дый кажа, што яго пабілі, а старэйшы: „А ты б ад'ехаў чараду".* Бясяды Лаг.

**АДЖГІ́Р** *м.* Забіяка, задзіра. *Ах ты, аджгір гэтакі! Колькі разоў гаварыла, каб малых ня крыўдзіў!* Хожава Маладз.

**АДЖГУ́Р** *м. Заал.* Джгір звычайны (Acerina cernua). *Злавіў зь дзесятак аджгуроў ды плотак некалькі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**АДЖО́Н** *м.* Адработак жнівом. *Набяруць сена на аджон.* Цялякава Уздз.

**АДЖЫ́РЫЦЬ** *зак.* Абазначыць тлустай лініяй. *Німа чырвонага карандаша палі аджырыць.* Цярэшкі Барыс.

**АДЗЕ́ТАК** *м. Зб.* Адзенне. *Мы некалі ня хадзілі ў школу затым, што ня было адзетку.* Дукора Пух.

**АДЗІЯ́ДЛА** *н.* Коўдра. *На вяселле ёй адзіядла падарыла, няхай укрываецца і помняць мяне, старую.* Узгурск Чэрв.

**АДЗЫЎНУ́ЦЦА** *зак.* Азвацца, падаць голас. *Я й крычала, я й звала — хоць бы каторая адзыўнулася!* Дрычын Пух.

**АДКАЗА́ЦЬ** *зак.* Завяшчаць. *Поп толькі глянуў і „А ці чула ты, Васіліха, як Васіль паміраў, меў казу іс казлёнкам і папу атказаў?". А тая стаіць да „Ня чула, паночык, ня чула, папочык".* Мікольцы Мядз.

**АДКАМАНДЗІРАВА́ЦЬ** *зак.* Паслаць з даручэннем. *Трэба будзя Ганьку аткамандзіраваць, яна ў нас хутка тэпая, хай купіць варэння ці павідла салоткага, кансерву якую, хлеба.* Бяларучы Лаг.

**АДКАРМІ́ЦЦА** *зак.* Ад'есціся. *Дзяўчына адна худзенькая нешта натта. Сьмяялася, што ў нас аткорміцца, атпоіцца на малацэ.* Бяларучы Лаг.

**АДКІ́ДЗІК** *м.* Ручайка. *За вечар бапка магла напрасьці аткідзікаў тры, а іншы вечар і боляй.* Вялікая Вуса Уздз.

**АДКІ́ДЗІЧ** *м.* Тое, што і а д к і́ д з і к. *Вазьмі адкідзіч, глянь, ці высахла пража.* Рудня Чэрв.

**АДКІ́НУЦЬ** *зак.* Аддзяліць, адасобіць. *Ён удавец, чакаў той нявесткі як бога, што памыць ці прыбраць. А сын жаніўся, і аткінулі яны бацька.* Савоні Стаўб.

**АДКО́САК** *м.* Кут, адпяты ад астатняй ча-

сткі сянец. *Ткацкі варштат трымалі ў аткосках, каторыя былі аддзеліны ад прыўна, або на гары істопкі.* Лыцавічы Віл.

**АДЛЕЦІЦЦА** *зак.* Крыху нагрэцца. *Вада адлецілася ўжо, чуць лець.* Савоні Стаўб.

**АДЛЕЦІЦЬ** *зак.* Крыху падагрэць. *Адлець крышку ваду, бо старому ні можна халоднае піць.* Ляхавічы Дзярж.

**АДЛЁГА** *ж.* Адліга. *Дзеці пазалазяць зімой на сувеі і сьнежных бап наставюць у атлёгу.* Забалоцце Смал.

**АДЛІЎНІК** *м.* Вадасцёк. *Добра, дзеткі, што атліўнік ёсць, хоць вады дажджавой нацячэ, а то мне, старой, цяшка хадзіць па ваду.* Рудня Чэрв.

**АДЛІЧНЫ** *прым.* Выдатны. *Бабуля Насьця хваліцца сусецы, што ў яе ўнука адлічныя адзнакі.* Мядзел Мядз.

**АДЛУПАСІЦЬ** *зак.* Набіць, адлупцаваць. *Сашка, сьціхні, а то як вазьму папругу, дак добра адлупашу.* Цялякава Уздз.

**АДЛУПІЦЬ** *зак.* **1.** Адарваць. *Нехта ў плоце атлупіў дошку.* Палессе Мядз. **2.** Апалоць. *Не адлупіла адразу буракоў, цяпер трэба йсьці.* Дрычын Пух.

**АДЛУПЦАВАЦЬ** *зак.* Моцна набіць, адлупіць. *Бацька аддоў мяне гусей пасьвіць. Ну, я заспоў, гусі ў авёс улезьлі, аспадар адлупцавоў мяне.* Партызанскі Віл.

**АДЛЯЧЫЦЬ** *зак.* Вылечыць. *Яе ў Мінску ў больніцу палажылі, можа адлечаць.* Вялікая Вуса Уздз.

**АДМЕННЫ** *прым.* Іншы, адрозны. *Пазарастала ўсё балота, стала адменная, ні пазнаць, што й балота некалі было.* Вялікая Вуса Уздз.

**АДМЕТКА** *ж.* Штучны знак. *Ворат мініравоў гэты плацдарм, і там стаялі адметкі для сваіх войск, дзе замініравана, а дзе безапасна, но ён ня ўсьпеў пазьнімаць гэтыя адметкі, і, благадара што ён ня ўсьпеў пазьнімаць гэтыя адметкі, нашы салдаты многа асталісь жывых.* Крывічы Мядз.

**АДМЯНІЦЬ** *зак.* **1.** Падмяніць. *Цэлая лета пасу, пакуль зіма ні прыдзя, ніхто ні адменіць.* Дзераўная Стаўб. *Прышлі мае сёстры адмяніць мяне, будуць пасьціць каровы, а я ўжо прыду дадому.* Лоск Валож. **2.** Абмяняць. *У міне ўсякая вяргіня. Гэту я адмяніла на сваю.* Вялікая Вуса Уздз.

**АДНАКАВА** *прысл.* Аднолькава. *Усе аднакава жывуць у нас.* Дукора Пух.

**АДНАКАЛЁРНЫ** *прым.* Аднакаляровы. *Аснова кажды рас была з аднакалёрных ніток, а ўток мох натыкацца ніткамі другіх калёраў.* Рудня Валож.

**АДНАЛІЧНІК** і **АДНАЛІШНІК** *м.* Аднаасобнік. *Ён адналічнік быў, каня свайго меў.* Бясяды Лаг. *Адналішнікаў у нас даўно німа, усе ў калгасе працуюць.* Літва Стаўб.

**АДНАПАРНЫ** *прым.* Разлічаны на адну пару коней. *Бацька аднапарны плужок меў.* Дрычын Пух.

**АДНАРУЧКА** *ж.* *Спец.* Пучок, жменя сухога лёну для апрацоўкі. *За адзін рас труць аднаручку.* Саланая Валож.

**АДНАСЦЕННЫ** *прым.* *Рыб.* З адной часткі. *Бываюць аднасьценныя і трохсьценныя сеткі. Аднасьценныя ёсць рэткія і густыя. Аднасьценныя сеткі — гэта ляшчынец, уклейніца, пароцькі.* Мікольцы Мядз.

**АДНО** *часц. абмеж.* Толькі. *Там анно старыя жывуць.* Каменка Уздз. *Усё спалілі ў вайну, анно сьцены засталіся.* Пудзіцк Пух.

**АДНОГАДАК** *м.* Аднагодак. *Яны адногаткі былі.* Дукора Пух.

**АДНОЛЕТКІ** *звыч. у мн.* Кветкавыя пупышкі, кветкавая завязь. — *Цяпер сліў і груш ні будзя, аднолеткі адсыпаліся.* — *А ў мяне і вішань ні будзя. Паглядзі, гэтыя [пупышкі] развіваюцца, а аднолетачкі чорнінькія. Яны ш трэба каб белінькія станавіліся, а яны чорнінькія сядзяць, ні разьвіваюцца.* Савоні Стаўб.

**АДНОСНІК** *м.* Насоўка. *Фарсіць хлопец, адносьнік с кішэні выпусьціў.* Бобр Круп.

**АДНОШЫВАЦЬ** *незак.* Адносіць. *Была я там больш трох нядзель, ганялі на работу, на завот на лесапільны. Там атношывалі мы гэтыя кускі і пільшч.* Ухвала Круп.

**АДПАІЦЦА** *зак.* Адкарміцца малаком. *Дзяўчына адна худзенькая нешта натта. Сьмялася, што ў нас аткорміцца, атпоіцца на малацэ.* Бяларучы Лаг.

**АДПАСВІЦЦА** *зак.* Закончыць пашавы перыяд. *Скарэй бы адпасьвіцца, надаела ўжо за гот.* Войраўка Пух.

**АДПАСКА** *ж.* Адпасванне. *Кунешне, трэбуло схадзіць на работу, паслухаць брыгадзіра, дык вот жа якрас атпаска прыйшла. А тут пастуха няма.* Порычы Валож.

**АДПАЎЗЦІСЯ** *зак.* Адпаўзці. *І я па гэтым лесе паўском атпаўзлася.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**АДПЁРЫЦЬ** *зак.* *Груб.* Набіць. *Малыя любяць лазіць у чужыя сады, але як хто зловіць, то добра адперыць.* Дрычын Пух.

**АДПЁРЦІ** *зак.* *Груб.* Завезці, заімчаць. *Унука адпёрлі далёка, аж у Краснаярскі край.* Дрычын Пух.

**АДПІЛЁКВАЦЬ** *незак.* Адразаць. *Як разануў ён мне слаўцо, дык я і ні захацеў атпілёкваць таго сыру.* Дукора Пух.

**АДПРЭНЧЫЦЬ** *зак.* Адпрэчыць. *Я яе хутка атпрэнчу, больш сюды хадзіць ня будзя.* Дукора Пух.

**АДПЭНДЗІЦЬ** *зак.* Завезці, заімчаць. *Пасадзіў сваю Ганначку на вос і атпэндзіў у Узду ў сямігодку.* Каменка Уздз.; *параўн.* польск. odpędzić 'адагнаць'.

**АДРАЗАНКА** *ж.* Вінтоўка з укарочаным ствалом, абрэз. *У мяне тры сыны есь. Есьлі*

*трывога явіцца, бяру адразанку, усіх буду біць гэтых злых людзей, буду абараняць ад ворагаў.* Старыя Габы Мядз.

**АДРАСЦІ** *зак.* Падрасці. *Як толькі адрасла, дык у адзінаццаць гот ужо коней пасьвіла.* Дрычын Пух.

**А́ДРЫС** *м.* Адрас. *Каб ведала яго адрыс, дык ні мяшала п напісаць пісьмо.* Рудня Чэрв.

**АДСАІ́ЦЬ** *зак.* Выкарміць грудным малаком. *А тады сьвякроўка-матка кажыць: „Атсаіла сем месяцаў, давай атлучай, хай малако п'юць [дванятκі]".* Зялёнкі Мядз.

**АДСВЯЖЫ́ЦЦА** *зак.* Стаць свежым, чыстым. *От каб, здаецца, праз дзень дожджык праходзіў, воздух бы адсьвяжыўся, а то дыхаць німа чым.* Арцюхі Стаўб.

**АДСВЯНЦІ́ЦЬ** *зак.* Вылаяць, прабраць. *Нявестка так мяне атсьвянціла перад людзьмі, што я ня ведала дзе дзецца.* Дукора Пух.

**АДСВЯЦІ́ЦЬ** *зак.* Набіць, адлупцаваць. *Зарас як вазьму дрын да дрынам атсьвячу, будзяш ведаць.* Арцюхі Стаўб.

**АДСЛЯПІ́ЦЦА** *зак.* Пакінуць дакучаць каму-н.; адстаць, адвязацца. — *Мама, пагутатай мяне каліва. — Ай, атсьляпіся ты ад мяне.* Літва Стаўб.

**АДСТАЎНІ́ЦА** *ж.* Кавалак грубай тканіны, якой бяруць гаршкі, чыгуны. *Матка замітусілася, схапіла анучу-атстаўніцу, стала змахваць крошкі са стала.* Малінаўка Лаг.

**АДСТО́Й** *м.* Вяршок, смятанка някіслая. *Новая настаўніца ў нас на кварціры, то яна толькі адстой п'е.* Чабаі Валож.

**АДСТО́ЙКА** *ж.* Адстойны апарат, які раздзяляе малако на вяршкі і адгон. *Сальеш малако ў адстойку, упусьціш ў стуньню — і малако ні ськісьня, і сьмятана будзя.* Чабаі Валож.

**АДСЦЁБАЦЬ** *зак.* Адсцябаць, адлупцаваць. *Я нарвала крапівы, атсьцёбала іх крапівой, атсьцёбала, варочайцеся ўзад. Вярнуліся.* Забар'е Віл.

**АДСЦЯГА́ЦЬ** *зак.* Тое, што і адсцёбаць. *Хацелася мне добра адсьцягаць яго, але нейк рука не паднялася.* Бясяды Лаг.

**АДСЫПА́ЦЦА** *зак.* Адпасці, асыпацца. *Вішні цьвітуць добра, а тады адсыплюцца.* Дрычын Пух.

**АДСЮ́ЛЕКА** *прысл.* Адсюль. *Адсюлека да шашы кіламетры тры.* Узгурск Чэрв.

**АДТАРТА́ЦЬ** *зак.* Адвесці. *Аттартала б ты яго адсюль, замінае толькі.* Граніčы Маладз.

**АДТА́ЎХІВАЦЬ** *незак.* Адпіхаць. *А ён як пачаў аттаўхіваць усіх ад сябе!* Узгурск Чэрв.

**АДТО́П** *м.* Пасудзіна, у якой адтопліваюць малако. *Ты пасядзі, дачушка, я зарас малако табе ў аттопе прынясу.* Рудня Чэрв.

**АДТРАСА́ЦЬ** *незак.* Трасучы, ачышчаць. *Тады як саб'ём жыта, вымалацім, тады аттрасаім кулі стрэхі крыць.* Бубны Віл.

**АДТУ́ДА** *прысл.* ◊ **Адтуда і адтуда** — ужываецца ў апавяданні замест паўторнага ўказання месца жыхарства каго. — *Адкуль ён? — Аттуда і аттуда. — А што ён за жыцяль? — Пастыр быў дзеравенскі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**АДТУ́РЫЦЬ** *зак.* Адагнаць. *Як аттурылі фашыстаў ад Масквы, дык людзі павесялелі.* Новы Двор Мін.

**АДТЫКАЛЬНІ́** *толькі мн.* Ніткі, адрэзаныя ад вытканага палатна. *Паглядзі, Мар'я, якія сёлета даўгія аттыкальні асталіся.* Бубны Віл.

**АДУБЕ́ЦЬ** *зак.* Астыць, зрабіцца халодным. *Ідзі сьнедаць, а то бульба адубее.* Астравок Уздз. // Памерці. *Так і адубеў, бедны.* Рабунь Віл.

**АДУ́ЖАЦЬ** *зак.* Ачуняць пасля хваробы, адужа́ць. *Ён цяшка хварэў, леиь адужаў.* Межава Чэрв.

**АДХАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Клопатамі, пільным доглядам выратаваць ад смерці. *Мой мужык цяшка хварэў у тоя лета, ледзьві атхадзілі.* Каменка Уздз.

**АДХА́КАЦЦА** *зак.* Аддыхацца. *Ой, так захакаўся бегучы, што потым чуць атхакаўся.* Гумны Круп.

**АДХАЛАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Стрымаць, суцішыць сілу, палкасць якога-н. жадання, пачуцця і г. д. *Атхаладзіць яго няма каму, разгарачыўся дужа. Вот ужо нейкі шалёны.* Бясяды Лаг.

**АДХА́ЯЦЬ** *зак.* **1.** Адкарміць, паставіць на ногі. *Атхаялі мы гэтага коніка, сталі зямлю рабіць.* Задубенне Віл. **2.** Адратаваць; вярнуць жыццё. *Ледзь атхаіла яго, калі быў малым, а цяпер дык вось ужо й чалавекам стаў.* Гумны Круп.

**АДХВАРЭ́ЦЬ** *зак.* Прамучыцца ў хваробе. *Пацягала два дні гэнага гнільля — і атхварэла.* Вязынка Маладз.

**АДХЛА́НЬ** *ж.* Хціўвец. *Ну й атхлань! Каб прымела, дак увесь сьвет ахлынула п.* Дукора Пух.

**АДХУ́КАЦЬ** *зак.* Адратаваць. *Ледзь-ледзь удалося небараку атхукаць, так хапіла, што аш крычаў — і ногі, гаворыць, баляць, і рукі, і галава.* Бясяды Лаг.

**АДЧАХВО́СЦІЦЬ** *зак.* Вылаяць, зрабіць суровую вымову. *Дзяччыху мая цётка так аччахвосьціла, што ціпер на людзі паказацца баіцца, саромеіцца.* Клетнае Барыс.

**АДЧУБА́СІЦЬ** *зак.* Тое, што і адлупа́сіць. *Дзе вы былі? Хавайцеся, бо аччубасіць маці!* Дукора Пух.

**АДЧЫКРЫ́ЖЫЦЬ** *зак.* Тое, што і абша́стаць. *Эта ш наша гэтакія коскі аччыкрыжыла!* Дукора Пух.

**АДШЧАПІ́ЦЦА** *зак.* Адысці, адступіцца ад каго. *Атшчапіліся ад людзей і асталіся адны.* Дукора Пух.

**АДШЧЫКНУ́ЦЬ** *зак.* Адарваць, адшчыпнуць. *Ідзеце ў сат, атшчыкнеця ягат сабе.* Жораўкі Пух.

**АДЫМА́ЛКА** *ж.* Тое, што і адстаўніца. *Вазьмі адымалку ды аццадзі скоранька бульбу.* Пранчэйкава Маладз. *Ня помню, дзе адымалку дзела.* Аўгустова Валож.

**АДЫ́МАЧ** *м.* Тое, што і адстаўніца. *Саган з бульбаю прыкрываюць атымачам, як бульбу аццэджваюць.* Бясяды Лаг.

**АДЫМА́ЧКА** *ж.* Тое, што і адстаўніца. *Ні люблю я сусеткі за язык, што любя абгаварыць другіх. На другіх усё відзя, а што сама спадніцу адзеўшы, ласьне кажучы адымачку, етага ня відзя.* Забрэжжа Валож.

**АДЫХО́ДЫ** *толькі мн.* Пакіданне сям'і. *Ні гэных прочак, ні гэных адыходаў кап калі... Абінна што, дык паплачу, і ўсё на гэтым.* Язні Віл.

**АД'Я́ДА** *ж. Неадабр.* Надакучлівы чалавек. *Во ўжо йдзе гэта ад'яда, атравіць увесь вечар.* Рудня Валож. *Ён чалавек як чалавек, затое жонка — ад'яда сэрца.* Язні Віл.

**АЖНА́** *часц.* Аж. *Ат, ат тваёй гаворкі ажна млосна робіцца.* Клетнае Барыс.

**АЖЫВА́ЦЦА** *незак.* Багацець, разжывацца. *Ужо нам і добра стала, ужо німношка і хлеп быў, і соль, і сахар, і тавару дадуць якіх метраў сколькі для дзяцей і для саміх. Ну, так от і ажываліся.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**АЖЫВЕ́Ц** *м.* Жывая прынада для рыб. *На ажывец хутчэй рыба пойдзе, чым на хлеп.* Чыжаха Бярэз.

**АЖЫ́ЦЦА** *зак.* Пабагацець, абжыцца. *Плацьця мы насілі свае работы да калхозу, а ў калхозя мы ўжо ажыліся, сталі з магазіна мацяр'ялы набіраць ды плацьці нажываць.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**АЖЭ́ВІСТЫ** *прым.* З чорнымі пражылкамі (пра рэдзьку). *Ёсць простая рэцька і ажэвістая.* Хожава Маладз.

**АЗДРУ́БАЛАК** *м.* Трэска, аскепак. *Нашага дохтара ўночы завезьлі ў бальніцу: аздрубалак адляцеў ад палена і папаў у вока.* Пруды Стаўб.

**АЗІ́МКА** *ж.* Азімая пшаніца. *Што на зіму сеюць пшаніцу, дак гэта азімка.* Цялякава Уздз.

**АЗНО́Ў** *прысл.* Зноў. *Азноў сабраліся плёткі плесьці.* Забрэжжа Валож.

**АЗЎЗЛІВАТЫ** *прым.* Азызлы, хваравіта апухлы. *Яна некая была як азузьліватая.* Цялякава Уздз.

**АЗЫРНУ́ЦЬ** *зак.* Шчыльна прыціснуўшыся да паверхні, размясціцца на ёй з усіх бакоў. *Усе мы ляглі. Азырнулі той мох, у вадзе паклаліся і дзяцей паклалі, а мамка мая ні хоча класьціся.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**АЗЯ́ЦЬ** *зак.* Узяць. *Мама мяне азяла дамоў, кажыць, дзе буду я, там будзіш і ты.* Замошша Віл. *А дзядзька быў мой, ён азяў гэты абрас, гэтыя шчэпачкі, этае ўсё, аднёс на гарот, азяў сярнічку патпаліў і запаліў.* Залазоўе Віл. *Навошта ты ў мяне грошы азяў сам, ці ш ты папрасіць ня мох?* Юр'ева Смал. *Дзет азяў вядро і пашоў вады.* Лубень Віл. *Трэба жацьісьці, трэба нясьці і калыску, і дзіцё гэта нясьці, і трэба есьці збан які азяць — халадніку ці там малака.* Сцешыцы Віл.

**АЙДЗЕ́** *злучн.* Дзе. *От мой сусет і кажа адзін, пайду я глядзець у тоя места, айдзе гэта дзіця плача. Вот ён пашоў. Ішоў, ішоў і дайшоў да таго места, айдзе гэта дзіця плача.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**АЙ-Е-ЕЙ** *выкл.* Ужываецца для выражэння здзіўлення, захаплення. *Тады купілі плух, ай-е-ей, як добра плугам араць, вот добра араць, дык ай-ей як.* Ластаянцы Валож.

**АЙ-ЕЙ** *выкл.* Тое, што і ай-е-ей. *Брат мой жаніўся, дык я гэты касьцюмчык як адзела тканы, так хораша, дык ай-ей як.* Ластаянцы Валож.

**АЙ-ЕЙ-ЕЙ** *выкл.* Ужываецца для выражэння цяжкіх перажыванняў з адмоўнай ацэнкай з'яў рэчаіснасці. *Кросна выткала, назаўтра жаць пашла. А жніва гэта — божачка мілы, ай-ей-ей.* Ластаянцы Валож.

**АЙ-ЁЙ** *выкл.* Ужываецца для выказвання здзіўлення, захаплення, радасці. *Тады [бабы] кажуць, ай-ёй, от Крыстыніна палатно харошая. Тонінькая, ды ні блізначкі, нічога.* Ластаянцы Валож.

**АКАЗА́ЦЦА** *зак.* Падаць вестку аб сабе, вярнуцца. *Дачку замуш аддала, цяпер старшым бугалтарам робіць, а муш так і не аказаўся пасьля вайны.* Гілікі Валож.

**АКАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Астыць (пра страву). *Ну дзе ты там? Ідзі есьці хутчэй, бо ўжо акалела бульба.* Дубрава Маладз.

**АКАНА́ЎЛЕНЫ** *дзеепрым. зал. пр.* ад канавіць 'абнесці канавамі'. *Цяпер у калгасе поле кругом аканаўлена, паганяюць такія разоры, каб вада сьцякала.* Бытча Барыс.

**АКАНО́М** *м. Абрад.* Цура або крупнік на памінках. *Аканом даюць толькі на памінках, калі чалавек памрэ. Бяруць ваду, салодзяць, крышаць туды булку (быў поп, поп ваду сьвенціць, а не, то ўліюць вады якой сьвянцонай) і падаюць. Ядуць патроху ўсе, па вочарадзі. Але цяпер ужэ гэтага німа. Німа.* Бяларучы Лаг.

**АКАНЧА́ЛЬНА** *прысл.* Канчаткова. *Не можам ніяк аканчальна выявіць яго адносіны да людзей.* Мядзел Мядз.

**АКАРА́ЦЬ** *незак.* Знімаць кару. *Мушчыны акараюць бярвеньні, а я паслала Толю ў магазін: купіць жа чаго трэба.* Вішнева Валож.

**АКЕ́НЕЧКА** *н.* Ваконца. *Паглядзі ўв акенечка, дзе прадуць дзевачкі.* Дукора Пух.

**АКІ́ДАЦЦА** *зак.* Нарадзіць. *А Марыя ш тая яшчэ не акідалася? Яшчэ ходзіць?* Савоні Стаўб.

**АКІ́НУЦЬ** *зак.* Адрачыся. *Мусіць ён добры быў, калі ўся радня акінула.* Цялякава Уздз.

**АКІСА́ЦЬ** *незак.* Скісаць. *Малачко сьвежанькае, абедняе, у хаце яно акісае, а як у кладовачку вынясу, дык не.* Бясяды Лаг.

**АКЛІ́НАВА́ЦЬ** *зак.* Замацаваць з дапамогай кліноў. *Шупляда змацуецца, звяжацца, тады яе ўстаўляюць у сьцяну. Пасьля акліноўваюць драўлянымі клінамі — і можна раму ўстаўляць.* Саланая Валож.

**АКО́НАМ** і **АКУНО́М** *м. Гіст.* Службовец у панскім маёнтку, які кіраваў гаспадаркай. *Аконам пры пану быў, нехта накшталт прыганятага.* Бяларучы Лаг. *Панскі аконам у палацы жыў.* Каменка Уздз. *Тады пан сказаў свайму акуному, каб ён схадзіў у вёску папытоўся, чаму мужыкі ня йдуць на работу.* Забар'е Віл.; *параўн.* ням. Ökonom 'тс'.

**АКО́РКА** *ж.* Акорванне. *Цяпер у калхозя ня робяць акоркі, а раней, як зрубіў, далжон пні пакарыць.* Нізок Уздз.

**АКО́ЦЦЕ** *н. Зб.* Ячменныя асцюкі. *Акоцьцем вочы запарушыў.* Пруды Стаўб.

**АКРА́ВАК** *м.* Адарваная палоска лыка, абрывак. *Ды як пойдуць у танцы, дык акраўкі гэтыя ляскаюць, ат лапцей анучы матляюцца.* Дрычын Пух. *Лапці на акраўкі гэтыя паробяцца, аш пальцы ўсе відаць.* Белае Пух.

**АКРА́ЙКА** *ж.* Лента. *Раней дзяўчаты косы насілі, у косы такія прыгожыя акрайкі запляталі, а цяпер дык нейкія стрышкі робяць.* Рудня Лаг.

**АКРАМЕ́САК** *м.* Абрэзак з бакавой паверхні лыка. *Дзяруць лыка, ганяюць акрамескі, кроюць на роўныя палоскі і плятуць лапці.* Шавярнічы Бярэз.

**АКРО́М** *прыназ. з родн.* Акрамя. *Дык пан кажыць: „А найбагацей, акром мяне, нікога німа".* Лубень Віл.

**АКРО́ПЧЫК** *м. Памянш. да* акроп 'кроп'. *У гародзі ў міне акропчыку многа.* Каменка Уздз.

**АКРУМЕ́ЛЬ** *м. Заал.* Пячкур (Gobio). *Акрумлямі любіць паласавацца і самая смачная рыба — ванґоры.* Мікольцы Мядз.

**АКРУТНЯ́** *ж.* Заварацень. *Запраглі каня й паехалі, а ў дарозе акрутня зламалася.* Малмыгі Віл.

**АКРУЦІ́ЦЦА** *зак.* Абкруціцца. *Тады ўжо перапранаюцца ў цыганы. Надзенуць кажух, акруцяцца вялікімі халатамі, шапку, палку ў рукі, а цыганка зробіць такое о дзіця, возьмя яго на рукі, тое дзіця трасе й сварыцца зь ім.* Таўкачэвічы Уздз.

**АКТА́Р** *м.* Гектар. *Тады пан прадаець зямлю, купілі мы тры актары.* Восава Мядз. *У таго, за каго выходзіла [замуж], актараў пяць зямлі было.* Вішнева Валож.

**АКУНО́М** *гл.* ако́нам

**АКУРА́Т** *прысл.* Якраз. *А такой бальніцы акурат і няма.* Дрычын Пух.

**АЛАЛО́ЎНІК** *м. Абрад.* Валачобнік. *Увечара хадзілі алалоўнікі, піялі пад вокнамі песьні, скрыпку ўзяўшы з сабой.* Славічы Мядз.

**АЛЬВА́С** *м.* Алоэ, альяс (Aloe). *Альвас хатні — алое гэта.* Няровы Валож.

**АЛЬНЯНЫ́** *прым.* Ільняны. *Альняная рубашка летам хораша і здарава.* Жацерава Стаўб.

**АЛЬХО́ВІК** *м.* Настой з альховай кары. *На альховік яшчэ летам кару дралі. А потым сушылі, а зімой у вар кідалі, парылі, давалі атстоіцца — вот і краска. У альховік ніткі кідалі, каб на жоўтае пакрасіць.* Задор'е Лаг.

**АЛЬШЭ́ЎНІК, АЛЬШЭ́ЎНІЧАК** *м.* Альховы лес, альховыя кусты. *Салаўі пры кустох жывуць, каля ручая, дзе альшэўнічак ці лаза, бывая, што ў садок прылятаюць.* Бясяды Лаг. *Там выгарышча, саўсім нічога ні расло, а зарас альшэўнік разросься.* Пількаўшчына Мядз.

**АЛЯКТРЫ́ЧКА** *ж.* Электрычка. *Стала хадзіць аляктрычка, добра нам стала.* Дрычын Пух.

**АМАРЫКА́НКА** *ж.* Гатунак ранняй бульбы. *Амарыканкі многа ні садзім, трохі для сябе саміх садзім у гародзя.* Трыгузі Віл.

**А́МБА.** Ужываецца ў знач. „канец", „смерць". *Думаў, што маёй бабе амба будзе.* Дрычын Пух.

**АМЕ́ТНІК** *м.* Прыбудова да гумна на амеці і мякіну. *Мы ў адном аметніку мякіну дзяржалі, а ў другом — амеці.* Цялякава Уздз.

**АМЯ́ЛЛЕ** *н., толькі адз.* Адыходы пры апрацоўцы лёну мяліцай. *Пасядзі на амяльлі, ні мяшай.* Пруды Стаўб.

**АНАДО́Е** *прысл.* На днях, гэтымі днямі. *А што вы думаеце, мы анадое і ў Мінск з канцэртам езьдзілі!* Ляхавічы Дзярж.

**АНҐЕ́ЛЬКА** *ж. Мед.* Рахіт. *Як анґелька [ці знаяш ты, што 'та анґелька? Эта хвароба дзіцяча — ношкі слабанькія, а жывот велькі, рахіт па-вашаму, па-вучонаму], дак як анґелька нападзе на дзіця, зьбіраюць с крышы зялёнінькі такі мох [але цяпер тога моху й няма, бо крышы саломай ні крыюць], параць, мая ты, і па повяс садзяць папарыцца.* Забрэжжа Валож.; *параўн.* польск. choroba angielska 'тс'.

**АНҐЕ́ЛЬСКАЕ ШВО** *крав.* Двайное шво. *Анґельскае шво моцнае, ім некалі толькі дарагія сукенкі шылі.* Вішнева Валож.

**АНҐЕ́ЛЬШЧЫНА** *ж.* **1.** Англія. *Пятрок у вайну папоў у Анґельшчыну, там і застоўся.* Дукора Пух. **2.** Парк, разбіты па-англійску. *Пры пану анґельшчына была вялікая, нават грыбы і ягады расьлі.* Дукора Пух.

**АНДАРАЧКО́ВЫ** *прым.* Андарачны, вытканы ў палосы. *У нас адна як выходзіла замуш, дарыла ягоных сясьцёр андарачковымі спадніцамі.* Рудня Валож.

**АНДАРАЧО́К** *м. Памянш. да* андара́к. *Пашыіш, бывала, зрэбны андарачок, і то якая радасць.* Зарэчча Стаўб.

**АНДРЫ́НА** *ж.* Адрына. *Андрына зусім раскідалася, і часу німа паправіць.* Каменка Уздз.

**АНДРЭ́ЙКА** *ж.* Божая кароўка (Cocinella septempunctata). *Андрэйка-калода, скажы, што зоўтра будзя — дошч ці пагода?* Вялікая Вуса Уздз. *Падумаіш, я нядзелю ўжо знаў, што андрэйка-салавейка з'явіўся.* Чыжаха Бярэз.

**АНДУЛЯ́ЦЫЯ** *ж.* Завіўка. *Зрабіла хімічную андуляцыю, красіва ёй.* Палессе Мядз. *Бач, з якой андуляцыяй прыехала з горада: галава — як у барана, уся ў кучаравых кацяках.* Клетнае Барыс.; *параўн.* польск. ondulacja 'тс'.

**АНЖЫНЕ́Р** *м.* Інжынер. *А цяпер, пажалуста, вучыся: і лёччыкі, і танкісты, і касманаўты ё, і анжыняра. А гэта ж усё нашы дзеці!* Мікольцы Мядз.

**АНО́ДАСЬ** *прысл.* Не вельмі даўно, калісьці. *Анодась і Параска наша была маладой.* Чыжаха Бярэз.

**АНТАБУ́С** *м.* Аўтобус. *Кажыць Александрына: „Злажу я с антабуса, дык устрачаіць сын зь нейкай: тожа вялікая, як сам, вочы намазаныя-намазаныя."* Язні Віл. *Маладая сама ажно з Пастаў. Вясельле вялікае і там справілі; ну, а сяганьня прыехалі ад яе на двух антабусах.* Язні Віл.

**АНТАЛА́К** *м.* Падваконнік. *Пакрасіла я вясной анталакі ў хаце, а яны ўжо і аблупіліся.* Кукалеўка Чэрв.

**АНТАЛЯ́ЖЫ, АНТЫЛЯ́ЖЫ** *толькі мн.* Карункі. *Анталяжы бываюць с усякімі ўзорамі: кольцамі, ромбікамі.* Саланая Валож. *Цяпер антыляжы купляюць, а раней усё самі вязалі.* Рудня Чэрв. *Панавязваем, бывала, антыляжаў на вячорках, дай паапшываем посьцілкі, ручнікі.* Паплавы Бярэз.; *параўн.* фр. entoilage 'палатняная падшыўка'.

**АНТО́НЫ** *толькі мн.* Плады антонаўкі. *Антоны так дасьпелі, аш сьвіцяцца.* Каменка Уздз.

**АНЦІРАСАВА́ЦЦА** *незак.* Цікавіцца. *Зь дзевачкамі села, пагаманю, яны тут старынай анцірасуюцца.* Пудзіцк Пух.

**АНЭ́ГДЫ** *прысл.* Нядаўна, два-тры дні назад. *Анэгды ўзяла яна маю пянькоўку, а сёньня зімна, я й сама завязала б.* Навасёлкі Валож.; *параўн.* польск. onegdaj 'тс'.

**АНЬ-АНІ́** *прысл.* (звычайна з адмоўем). Зусім, нікольки. *Фашысты прышлі, хату спалілі. Усё згарэла: й хата, і ўсё чысьцінька. Ні кароўкі, ні вяроўкі, нічога ань-ні, як стаю!* Мядзел Мядз.

**АНЯГО́Ж** *прысл.* А няўжо ж. *— Надзя, а Надзя, у кіно пойдзіш? — Анягош.* Касцюкі Барыс.

**АНЯ́Ж** *прысл.* Тое, што і а н я г о́ ж. *— Ты на схот пойдзіш? — Аняж.* Халопенічы Круп.

**АПАВЕ́ДАЦЬ** *незак.* Гаварыць абы-што, несці лухту. *Галава не ведае, што язык апаведае.* Слабодка Стаўб.

**АПАДА́ЦЬ** *незак.* Рабіцца азызлым, вялым (пра цела). *Перахварэла я, дык цела апала — ні тых мысцаў, ні той сілы, усё калоціцца.* Дрычын Пух.

**АПАЛА́ЕЧКІ** *толькі мн.* Апалушкі для ачысткі круп у хатніх умовах. *Некалі як стаўчэш крупы ў ступе, так у апалаечкі высыпаеш, апалаеш іх, чысьціш.* Саланая Валож.

**АПАЛА́НКІ** *толькі мн.* Тое, што і а п а л а́ е ч к і. *Апаланкі ў мяне ёсьць яшчэ даўнейшыя.* Хожава Маладз.

**АПАЛІ́ВА** *ж.* Глыбокая патэльня; гусятніца. *Поўную ж апаліву мяса насмажылі, бульбы наварылі, капустачка, агурочкі. Ото пад'елі!* Восава Мядз.

**АПА́ЛІНЫ** *толькі мн.* Адыходы пры апаланні. *Многа апалінаў? Занясі курам, хай перабіраюць.* Саланая Валож.

**АПАЛЮ́ЙКА** *ж.* Галоўка кіслай капусты. *Вельмі ўсе любяць у нас апалойкі, дык на зіму паставілі вялікую бочку квасіцца.* Караваева Пух.

**АПАНЧА́** *ж.* Доўгае і шырокае, не дастасаванае да фігуры адзенне. *Няўжо ты ў гэтай апанчы ў людзі пойдзяш?* Калініна Дзярж.; *параўн.* польск. opończa 'від шырокага плашча'.

**АПАРАСІ́ЦЦА** *зак.* Ашчаніцца. *Сучка апарасілася, але ўсе шчаняты паздыхалі.* Вецярэвічы Пух.

**АПАРНЯ́** *ж.* Зямлянка, у якой адпарвалі матэрыял на абады. *У зямлі апарня выкапана. Там паложаць пол, напхаюць палак і цэлаю ноч паляць унізі, кап палкі распарыліся; тады гнуць абадэ.* Цялякава Уздз.

**АПАРО́ЦЬ** *зак.* Адшукаць, выпараць. *Ну й хто ж гэта думаў! Так добра схавала, а ён апароў!* Княгініна Мядз.

**АПАРШЫ́ВЕЦЬ** *зак.* Пакрыцца болькамі. *Апаршывеў саўсім, паселі болькі на целе, рады ні даць.* Ляшчынск Мядз.

**АПЕ́ЛЬКА** *ж. Уст.* Пятля, дужка з шнурка або нітак. *Прышый, дачушка, апельку ў каўняры.* Саланая Валож.

**АПЕРАЗА́ЦЬ** *зак. Груб.* Ударыць. *Такая памаўзьлівая карова, аж бацька не стрымаўся і з усёй сілы апяразаў пугай.* Палессе Мядз. *Ня чапай ты яе, а то як апяражу папругаю, дак атстаняш.* Дукора Пух.

**АПЕШАКА́** *прысл.* Пеша. *Так надаела на курорці, што, здаецца б, апяшака пашла дадому.* Цялякава Уздз.

**АПІ́КУР** *м. Зневаж.* Гультай, абібок. *Што ж гэта за апікур такі, ні грама ня хоча рабіць.* Гумны Круп. *Во дзе апікур! Ходзь бы вышаў ды дзе на вуліцы пасядзеў, вочы пранёс бы сваё. І як не абрыдзяе дома сядзець!* Халмоўка Барыс.; *параўн.* літ. apikula 'тс'.

**АПІ́ННЯ** *ж.* Рэпутацыя. *Заслужыў ён тут*

*добрую апіньню.* Грабёнка Чэрв.; *параўн.* польск. opinia 'тс'.

**АПІСА́ЦЬ** *зак.* Ссекчы (скуру на пісягі). ∇ **Ах, кап табе чорт скуру апісоў!** Вялікая Вуса Уздз.

**А́ПКА** *ж.* Тое, што і **апе́лька**. *Не можа, гультаіна, апку зрабіць у спадніцы — ходзіць са шпількай.* Варняны Астр.; *параўн.* польск. haftka 'тс'.

**АПЛА́ВАЧКА** *ж. Памянш. да* апла́ўка. *Алі ёсьціка і маліརькія аплавачкі, гэтыя дык такія нісмачныя.* Нядаль Барыс.

**АПЛАВІ́ЧНІК** *м. Бат.* Сушаніца (Gnophalium L.). *Аплавічнік расьце ў сырым месцы — беразе ракі, возера, на нізкіх агародах. Траву вырываюць с карэнчыкам і сушаць, п'юць пры даўленьні.* Ігрушка Круп.

**АПЛА́ЎКА** *ж. Бат.* Сыраежка (Russula). *А болей за ўсіх аплавак. Як дзеўкі на сьвята ў суленках, так і аплаўкі — і красныя, і сінія троху, і зялёныя.* Нядаль Барыс.

**АПЛЭ́ВУХ** *м. Зневаж.* Някемлівы, няспрытны чалавек. *Аплэвух ты, апусьціў крыльля, смаркачэ вечна блішчаць на вусах.* Дукора Пух.

**АПЛЯСКА́ЦЬ** *зак.* Прыбіць лапатай разоркі. *Ускапала перш, а тады апляскала разоркі, грады заўтра садзіць буду.* Ляхавічы Дзярж.

**АПЛЯТА́НІК** *м.* Збанок, гаршчок, аплецены дротам. *Малако вазьмі вунь там, у аплятаніку стаіць.* Брадок Мін. *Я тожа насіла бацьку есьці ў аплятаніку, як ён на трактары рабіў.* Аздзяцічы Барыс.

**АПО́ЛІНЫ** *толькі мн.* Тое, што і **апа́ліны**. *Аполіны ляцяць, я ш кажу, а груца астаецца.* Хожава Маладз.

**АПО́ЛУШКІ** *толькі мн.* Тое, што і **апа́ечкі**. *Вазьмі ў цёткі аполушкі.* Пруды Стаўб.

**АПО́НА** *ж.* Камера на кола веласіпеда або аўтамашыны. *Во, прабіла апону, трэба заклеіць.* Горкі Стаўб. *Недзе на палавіне дарогі апона лопнула, прышлося нават вярнуцца.* Круці Мядз.; *параўн.* польск. opona 'тс'.

**АПО́РА** *ж.* Корм скаціне з мякіны, мукі, сяннoе пацярухі. *Апору кароўцы трэба занесьці, а то астыне на холадзе, прыдзецца сячы гэтую мякіну сякерай.* Узгурск Чэрв.

**АПО́РКІ** *м.* **1.** Стары зношаны абутак. *Лепій ні чуць, ні відзяць таго, што рабілася! Бяліся карнікаў як агню, як увідзя фашыста, так босыя ногі чуць справіцца ўсунуць у апоркі якія — і ў кусты.* Бяларучы Лаг. **2.** *перан., зневаж.* Недарэка. *Я ўжо апорак, а яна — з апорка вон: ні зрабіць, ні сказаць ня ўмея.* Дукора Пух.

**АПРА́ВІЦЬ** *зак.* Адгарнуць пясок з засыпанага карча бульбы. *А тады паганялі бульбу і аправілі.* Ратуцічы Барыс.

**АПРАНА́ХА** *ж.* Верхняя вопратка. *Надзень тую апранаху, у ёй працаваць добра.* Літва Стаўб. *Падымі апранаху, усядно ш ты яе адзеняш.* Дукора Пух.

**АПРА́НІК** *м.* Пранік. *Як пойдзем абіваць лён — кожнаму па апраніку. Толькі стук нясецца.* Саланая Валож.

**АПРАНІ́ХА** *ж.* Тое, што і **апрана́ха**. *Адзень якую-небудзь апраніху, а то ноччу холадна будзе ехаць.* Дубрава Маладз.

**АПРА́ТАК** *м.* Вопратка, верхняе адзенне. *Апратак заўсёды вешай на вешалку, ня будзе пакамечаны.* Палессе Мядз.

**АПРАТА́ЦЬ** *зак.* Апратаць, прыбраць. *Спачатку трэба хату апратаць, а потым ужо гасьцей чакаць.* Войраўка Пух.

**АПРА́ТКА** *ж.* Тое, што і **апра́так**. *У нас апратка ў вайну была сваёй работы.* Малмыгі Віл.

**АПРО́Ч, АПРЫ́Ч** *прысл.* Паасобку. *Сын з бацькам жывуць апроч.* Палессе Мядз. *Ой, і не кажыце! Як з бацькам пасварыліся, дык апроч жывуць.* Палачаны Маладз. *Пачасься аткладзём апрыч, камлі апрыч, вярхі апрыч, патрап'я апрыч. Тады прадзём.* Рубяжэвічы Стаўб.

**АПРУ́К** *м.* Вяпрук. *Добрага ўкармілі апрука, калоць пара.* Бясяды Лаг.

**АПРЫ́Ч** *гл.* апро́ч

**АПСАРДА́К** *м.* Лапсардак, пінжак. *Апсардак на ім як на калу вісіць, так ужо схуднеў.* Дубрава Маладз.

**АПУСНЫ́** *прым.* Неахайны. *Ну й апусная яна! У хаце гразна, сені рашчыніць і куры ходзюць.* Бясяды Лаг.

**АПУСТО́ШЫЦЬ** *зак.* Абабраць. *Апустошыла мяне ўсю, усё дачыста забрала.* Дукора Пух.

**АПУСЦІ́ЦЦА** *зак.* Асесці, панізіцца. *Нешта дзьверы апусьціліся, ні зачыніць, ні аччыніць камору.* Савоні Стаўб.

**АПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* Занядбаць, не ўдзяляць увагі. *Я хацела сказаць, які ты сам, такія й твае дзеці будуць! Дзяцей глядзіш, а матку родную апусьціў, але стрымалася, іншым разам скажу.* Савоні Стаўб.

**АПУ́ХА** *ж.* Дошкі па краях страхі. *Апухі прыбіваюць ва ўсякай страсе, ні толькі саламянай. У апухах розныя цацкі ёсь, але гэтыя цацкі рабіліся можа сто гот назат.* Бяларучы Лаг.

**АПУ́ШЧАНЫ** *прым.* Занядбаны, такі, ад якога адвярнуліся людзі. *А гэты Язэп [памёр небарака] быў чалавечык, сказаць па праўдзе, нейкі апушчаны ў вёсцы, нейкі быў хто яго ведыіць які.* Залазоўе Віл.

**АПУШЧЭ́Й** *ж.* Неахайніца. *От апушчэй гэты, суkенку сабе памыць лянуецца.* Ляхавічы Дзярж.

**А́ПЫЛЬ** *м.* Месца, дзе праводзілі пераклічку вязняў. *Як толькі што-нібудзь случыцца — яко там біспакойства, хто што зробя, то абізацільна кару ўстанавіць на чатыры часы, эта мы*

*стаім чатыры часы тады на апыле. Дож ня дож, сьнег ня сьнег, а мы ўся раўно стаім чатыры часы на гэтым апыле праклятым.* Ухвала Круп.; *параўн.* ням. Appell 'тс'.

**АПЭ́НТАМ** *прысл.* Хутка. *Яна апэнтам пабегла, як толькі сказалі, што Толік прыехаў.* Версанка Круп.

**АПЯКА́НЫ** *прым.* Выпеставаны. *Харошыя парасятка, знакомыя, яны неапяканыя, ядуць што папала, хватаюць адно перад адным.* Савоні Стаўб.

**АПЯКО́ЛАК** *м.* Пяколак. *Боты пастаў сюды, на апяколак, хай добра высахнуць.* Аляхновічы Маладз.

**АПЯЛЮ́ХА** *м.* Глушак. *Ён с самага нараджэння апялюха, нічога ня чуя.* Каменка Уздз.

**АПЯ́РЫВАЦЬ** *незак.* Хвастаць, біць. *Тут матка ручніком калі начнець апярываць, ну што рабіць?! Заплачыш, пасядзіш і зноў гэтыксама.* Бакачы Мядз.

**АПЯ́РЫЦЬ** *зак.* Ударыць моцна, выцяць. *А мне ўжо ў вачах цёмна было, як убачыла яго, баялася, каб не апярыў.* Бяларучы Лаг. *Яго апярылі правільна, за тое што першы палес у бойку.* Гарадок Маладз.

**АРБА́** *ж.* Ворыва. *Арба была, загоны аралі, ляшылі, кап спад вады быў.* Малмыгі Віл. *Пахатнай, прыгоднай для арбы зямлі было дванаццаць дзесяцін, а ўсяго было сорак дзесяцін.* Мацкі Мядз.

**АРБО́Н** *м.* Аўтобус. — *Ці ня еты арбон на Забрэззья пойдзіць? — Гэты. — А кундуктар ёсьць? Можа ён мне бялет у арбоне дась?* Забрэжжа Валож. *Чуць пасьпела узяць білет на арбон, шофяр ужо й браць ні натта хацеў.* Яцыны Мядз.; *параўн.* літ. arbonas 'тс'.

**АРДЫНА́РА** *ж. Гіст.* Месячная натуральная плата прадуктамі і адзеннем; такую плату памешчыкі выдавалі прыгонным сялянам, якія не мелі ў сваім карыстанні зямлі і працавалі на памешчыцкім полі. *У дварэ некалі андынару давалі, хто робіць.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. ordynaria 'тс'.

**АРДЫНА́РШЧЫК** *м.* Батрак, якому выплачвалі натурай. *А пасьля выдаў мяне бацька замуш за ардынаршчыка, які служыў у пана. От гэтак я стала жонкаю ардынаршчыка і засталася служыць у пана.* Старына Стаўб.

**АРЖО́НІШЧА** *н.* Іржышча. *Кароў пускалі па аржонішчы, пад'елі добра.* Трыгузі Віл. *Пасуць па папары, па сенакосе, па кустарніках, па аржонішчы, як пажнуць.* Бясяды Лаг.

**АРЖО́ННЕ** *н.* Жытняя салома. *Нейчая карова выліняе ў хлеві, а нейчая чуць жывая выйдзе. Адразу вінна, у каго гаспадар ё, а чыя аржоньня ела зімой.* Бяларучы Лаг.

**АРЖЫ́ШЧА** *н.* **1.** Тое, што і а р ж о́ н і ш ч а. *Аржышча травой зарасло, цілят пусьцілі.* Асіпавічы Віл. **2.** Тое, што і а р ж о́ н н е. *Бяры рассахавілы ды йдзём аржышча складаць.* Забрэжжа Валож.

**АРНА́МАНТ** *м.* Арнамент. *Прыносіць мне кавёр югаслаўскі, зялёненькі. Алеі, горы, домікі на ім. Арнамант такі ўкругавую, фрэзьлі.* Залессе Дзярж.; *параўн.* лац. ornamentum 'тс'.

**А́РПА, А́РХА, ВА́РПА** *ж.* Арфа. *У нашай брыгадзе арпа ціпер, арпуем пшаніцу.* Малмыгі Віл. *Даўней веялкай, а цяпер архай жыта чысьцяць.* Саланая Валож. *Некалі маю спадніцу ўкруцілі ўв арху.* Дукора Пух. *Уперад не варпавалі, а ціпер і варпуюць і сарціруюць на варпе. У варпе жыта на сіта перасейваіцца, вотраны адлятаюць аддзельна, зерне па латку бяжыць.* Бытча Барыс.; *параўн.* польск. harfa 'тс'.

**АРПАВА́ЦЬ, АРХА́ВАЦЬ** *незак.* Арфаваць. *Арпаваць ходзім на кладовую. Учора канчалі жыта арпаваць, а заўтра пачнём пшаніцу.* Трыгузі Віл. *Пагода добрая стаіць, дык збожжа на гумне арпавалі.* Забалоцце Смал. — *Іванавіч, якая сёньня работа? — Архаваць.* Дукора Пух.

**АРТА́Й** *м.* Араты. *Наш артай усё арэць, садзіць картошку.* Ляшчынск Мядз.

**АРУ́Д** *м.* Засек. *Малацілі, веялі, а тады ссыпалі ў аруды, што ў кляцях былі.* Мацкі Мядз. *Аруды каля сьцяны робім — убіваем тычкі і доскі прыстаўляім, каб было можна прынімаць.* Задор'е Лаг. *У варыўню мы бульбу на зіму ссыпалі: у адзін арут дробную, у другі — буйную.* Акалова Лаг. *Дабро ссыпаюць у арут, правяраюць, ці шчыльна складзены дошкі, кап прас сьценкі аруда яно не высыпалася.* Бясяды Лаг.; *параўн.* літ. aruodas 'тс'.

**АРУ́ЖЫЯ** *ж.* Стрэльба. *Ён сваю гэту аружыю зараджываў і дахаты насіў, у шафу павесіць, і яна вісіць.* Мядзел Мядз.

**АРХІ́Ў** *м.* ◊ **Быць у архіве** — быць забытым, малаўжывальным. — *Туфлі во з за́кідак дастаць прышлося. — І мае тожа былі туфлі ў архіві, аш у Мінск звазілі і вярнуліся зноў.* Бяларучы Лаг.

**АРЦЕ́ЛЬШЧЫК** *м.* Каптэнармус. *Паслужыў да прысягі, тады паслалі мяне за арцельшчыка. Палучаў прадукты, цукар, там чай — і ўсё гэта я выдаваў.* Новікі Мядз.

**АРЭ́ШАЎНІК** *м. Бат.* Хвошч (Equisetum silvaticum). *Гарэшаўніку поўны гарот, ні магу ніяк пазбавіцца.* Асіпавічы Віл.

**АСАБНЯ́К** *м.* Хутар. *На ўсю акаліцу няма ні аднаго асабняка.* Палессе Мядз.

**АСАВІ́К** *м.* Падасінавік; назва двух відаў ядомых грыбоў — падасінавіка чырвона-бурага (Leccinum aurantiacum) і падасінавіка жоўта-бурага (L. testaceo-scabrum). *Асавікі той год добра расьлі, пойдзяш — за гадзіну кошыкназьбіраяш.* Вялікая Вуса Уздз.

**АСАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Высачыць, дапільнаваць. *Нашу куру натта цяжка асачыць: усё ў розных месцах нясецца — хітрая.* Вішнева Валож.

**АСВА́** і **ВО́СВА, ВО́СМА** *ж.* **1.** *заал.* Аса

(Hymenoptera). *Ні хачу аб асве ўспамінаць: у іх джала балючае.* Хожава Маладз. *Пчала рас кусае, а восва дзесяць рас можа ўкусіць.* Рудня Лаг. *Восма можа пат крышай гнязло зьвіць ці ў сьцяне, восма длінная такая, нападоб'е пчалы.* Саланая Валож. **2.** *перан.* Злы. *Во злая, як асва.* Ляшчынск Мядз.

**АСВІ́НЫ** *прым.* Асіны. *Я ўчора грабла сена, дык гнязло асьвінае знайшлі.* Хожава Маладз.

**АСВО́ЙТАЦЦА** *зак.* Прывыкнуць да незнаёмага асяроддзя, прызвычаіцца. *Скучна яму будзя, пакуль асвойтаяцца на новум месьці.* Цялякава Уздз.

**АСКАБА́ЛАК** *м.* Кавалак палена, дошкі. *Гэта ш халерая кавалёва майму як урэзала аскабалкам міш плеч, дак ён і зайшоўся.* Дукора Пух.

**АСКАЛО́ЦІНЫ** *толькі мн.* Маслёнка. *Мы аскалоціны з бульбай ядзім, сьвежыя натта смачныя.* Мацькаўцы Віл.

**АСЛАБАНІ́ЦЬ** *зак.* Вызваліць. *А як аслабанілі нас, дык і жыццё наладзілася.* Вялікая Вуса Уздз.

**АСЛЕ́ДАВАЦЬ** *зак.* Асачыць, знайсці. *А дзе ж мы нашу перапёлычку асьлядуім, там мы заначуім.* Якімаўка Круп.

**АСЛІВЕ́НЬ** *м.* *Заал.* Слівень. *Мяне чуць быў ні ўкусіў асьлівень, такая блішчучая ядавітая змяя.* Ляшчынск Мядз.

**АСЛЯПЕ́НЬ** *м.* *Заал.* Сляпень (Tabanidae). *Асьляпень ляціць і адразу кідаецца на руку і кусаецца, нічога ня бачачы.* Рудня Лаг.

**АСМАКО́ЎВАЦЦА** *незак.* Наганяць апетыт. *— От булак мне хочацца, а ў нас німа ў магазіні. — На во, укусі, кап хаця ні памерла. — А німа чаго асмакоўвацца. Каб добра паеў, а то трошкі ўкусіш.* Бяларучы Лаг.

**АСМА́ЛАЧАК** *м.* Прыгарачка. *Дзеці вельма любяць асмалачкі.* Кукалеўка Чэрв.

**АСМАЛЁНКА** *ж.* Спечаная ў прыску бульбіна. *Мы капалі бульбу, а дзеці расклалі агонь, пяклі сабе асмалёнкі.* Калодкі Віл.

**АСМЕ́ЛІЦЦА** *зак.* Прыцярпецца. *Вада халаднавата, але нічога, як асьмелісься, то й цёпло, можно купацца, нават цяплей, як на беразі.* Савоні Стаўб.

**АСМО́ЛАК** *м.* Тоўстая жэрдка, да якой прымацоўваюцца кроквы. *Паставілі кроквы, на іх палажылі асмолак і пачалі драбясьціць.* Бясяды Лаг.

**АСМЫ́ЧЫНЫ** *толькі мн.* Адыходы пры абдзіранні лёну. *Сабяры асмычыны, а то нарабіла тут пылу на ўсё хату, носа нельга ўсунуць.* Ляхавічы Дзярж.

**АСНО́ВА** *ж.* Апорная частка. *Гэтыя лапці будуць доўга насіцца, бо аснова моцная.* Рудня Лаг.

**АСНО́ЎКА** *ж.* Тое, што і а с н о́ в а. *Дзелаюць асноўкі ў тры столкі, тады ў гэтую асноўку закладаюць лыка, задзелываюць нос лапця і плятуць на даўжыню нагі. Тады задзелаюць пяту і гэтым жа самым лыкам патплятаюць.* Ластаянцы Валож.

**АСО́БА** *прысл.* Паасобку. *Мапады бярэ маладую пад руку і выходзяць с цэркві, садзяцца на воз разам, а так, пакуль ні павянчаюцца, малады асоба, маладая — асоба ў друшках, не саіцца зь ім.* Таўкачэвічы Уздз.

**АСО́БЕННА** *прысл.* Асобна. *На кожнага плітка асобянна.* Цялякава Уздз.

**АСО́Т АГАРО́ДНЫ** (Sonchus oleraceus). Расліна з тоўстым паўзучым коранем; лісце цёмна-зялёнае, буйное, мяккае, па краях з некалючымі зубчыкамі; кветкі светла-жоўтыя. *Асот гародны ў гародзе расьцець.* Бясяды Лаг. *Асот агародны большы расьце, бо больш гнойная зямля, а так фасон адзін. У агароднага асота лісткі мяккія, нават вараць яго.* Малмыгі Віл.

**АСО́Т ПАЛЯ́ВЫ** (Sonchus arvensis). Расліна мае шнурападобны корань, цвёрдае лісце з калючкамі па краях, ярка-жоўтыя кветкі. *Палявога асоту многа ў жыце, калючы і вялікі.* Малмыгі Віл. *Палявы асот расьцець на полі. Натта коліць рукі, калі рвеш.* Бясяды Лаг.

**АСО́ТЫ** *толькі мн.* *Пчал.* Соты. *Пчолкі самі асоты робяць, чашачкі такія клеюць зьверху і каля бакоў, гэтыя чашачкі напаўняюць мёдам і,каб ён ні выліваўся, заклеюць асоты.* Бясяды Лаг.

**АСПАДА́Р** *м.* Гаспадар. *Аспадар сам барануя, а мяне заставіць араць. Саха вялікая, дык я ару, аш паваліося.* Партызанскі Віл. *І вот я служыла ў другога аспадара.* Замошша Віл. *А ўжо як канчаім жаць, дык аспадара абвяжым вязьмом скручаным і надзенім яму вянок, 'спадару.* Бубны Віл. *Некалі ж быў добры аспадар, што зь ім такое здарылася?* Будслаў Мядз.

**АСПАДНІ́ЦА** *ж.* Спадніца. *Цяпер ні ччом, ні прадзём лёну і ні носім парцяных аспаньніц.* Рудня Лаг. *Была яна ў чорнай аспадніцы і прыгожай квяцістай нажуццы.* Сакольшчына Уздз.

**АСПАДЫ́НЯ** *ж.* Гаспадыня. *І быў у яе, этай мае аспадыні, пасынак, і яна яму есьці шкадавала.* Замошша Віл.

**АСПАКО́ІЦЦА** *зак.* Супакоіцца, уладзіцца. *Сьвёкар чорт быў, ня раз я плакала ад яго. Тады, праўда, неяк аспакоілася, аспакоілася, перасталі сварыцца, жыць можна стала.* Язні Віл.

**АСТАЛЯВА́ЦЦА** *зак.* Замацавацца, прыжыцца. *Добра было б, каб асталявалася там, каб ізноў ні прыбегла да маткі.* Цялякава Уздз.

**АСТА́РЫЦЦА** *зак.* Пастарэць. *А дзяўчына, як і расада, абізацільна пірасадзіць нада, а то астарыцца, астарыцца, ніхто аб яе нават не папытаіцца.* Язні Віл.

**АСТО́ПКІ** *толькі мн.* Стары, стаптаны абутак. *У нас дык усе астопкі валяюцца на гарэ.* Паплавы Бярэз.

**АСТРО́ВАЧКІ** *толькі мн.* Прыстасаванне ў выглядзе піраміды з сукаватых яловых жэрдак і калоў для сушкі сена, вікі, гароху, ільну і г. д. *Высікалі елачкі сукаватыя, убівалі ў зямлю, а на сукі клалі яшчэ елачкі, лажылі салому і на такія астровачкі насыпалі галоўкі лёну. На астровачках яны сохлі, як пагода добрая, як не, дасушвалі ў ёўні.* Якімаўка Круп.

**АСТУПІ́ЦЬ** *зак.* Узяць у кальцо, акружыць з паветра. *Як аступілі нас нямецкія іраплана, чуць мы ў лес уехалі.* Альсевічы Мядз.

**АСЦА́** *ж.* Сліна. *Мне часта дрэнна становіцца, асцу гоніць, ташніць.* Вецярэвічы Пух.

**АСЬМІ́НА** *ж. Уст.* Драўляная бочка з клёпак для адмервання збожжа, роўная 50 кг. *Калі ў бочцы паўтара пуда, гэта шаснастка, а калі тры — асьміна.* Рудня Чэрв. *Шаснасткай мераюць семяно, жыта, можна — бульбу, яблыкі, сьлівы. Адну набраць шаснастку, другую — гэта будзя ўжо асьміна.* Дукора Пух.

**АСЬМІ́НКА** *ж. Памянш.* да асьміна. *А замуж як цяшка было выйсьці! Навіт самі хлопцы сьміяліся, што ніхай будзя жонка як сьвінка, альбы грошы была асьмінка.* Юнцавічы Віл.

**АСЬМУ́ШКА** *ж. Уст.* Восьмая частка надзелу. *Зямлі мала было ў нас, толькі асьмушка, жылі бедна.* Рудня Лаг.

**АСЯНЧУ́К** *м.* Парася асенняга прыплоду. *Прыдзецца продаць асянчука, бо ня хопіць корму нават для сьвіньні.* Клетнае Барыс.

**АТАБА́РЫЦЦА** *зак.* Прыпыніцца на некаторы час, асесці, часова пасяліцца. *Добра ж вы тут атабарыліся.* Сакаўшчына Валож.

**АТВАРО́Г** *м.* Тварог. *Атварогу аттаплю і ў лёхкі дух устаўлю.* Дукора Пух.

**АТО́ЖЫЛА** *ж.* Атожылак. *Да вайны быў у нас сат вялікі, але зьмёрс, толькі на ствале адной яблыны адрасла атожыла, дык цяпер яна самая большая ў садзі.* Нізок Уздз.

**АТРО́САК** *м. Асудж.* Нікому не патрэбны чалавек. *Ці ш то чалавек? Гэта ж атросак нейкі!* Клетнае Барыс.

**АТРЭ́ПНЫ** *прым.* Вытканы з атрэп'я. *Раней дзяўчыне ў пасах давалі дзяругу атрэпную, а тая дзяруга грубая, калючая.* Дрычын Пух.

**АЎЗЕ́РКА** *ж.* Наглядчыца канцлагера. *Двацацъ рас нас аўзеркі шчытаюць. Двацацъ рас мы па пёнткам стаім* (З песні вязняў канцлагера). Ухвала Круп.

**АЎТАБУ́С** *м.* Аўтобус. *„Куды, — кажыць, — ідзеш, цётка?" „Іду, — кажу, — можа, Толя мой прыедзіць гэтым аўтабусам, меецца на гэтых днях прыехаць".* Язні Віл.

**АЎЧА́РНІК** *м.* Авечы хлеў. *Аспадыня была добрая, учоная такая баба, сазнавала ўсё. Аспадар жа як усходзіцца, нікому места німа, адзін займае дзьве хаты. Мы тады йдзём у сьвінарнік, ув аўчарнік і з жонкай, і з дзяцямі.* Замошша Віл.

**АЎША́К** *м.* Вушак. *Ён як стукнуўся аб аўшак, так і сумка на пол грукнула.* Навасёлкі Валож.

**АФІРА́НКА** *ж.* Фіранка. *Афіранкі белыя, ды такія празрыстыя, прыгожыя ў цьвяточкі.* Вялікая Вуса Уздз.

**АФІ́ЦЫНА** *ж. Уст.* Флігель, падсобнае памяшканне для служачых у панскім маёнтку. *Кухарка і пакаёўка жылі ў афіцыні.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. oficyna 'тс'.

**АФЭ́РМА** *ж.* Нязгрэба. *Вот афэрма, — думаю, — не мог стрымацца, наброўся як мае быць. Як дамоў дабрацца?!* Порычы Валож.; *параўн.* польск. oferma < ням. ohne Forme 'тс'.

**АХА́ПАК** *м.* Камяк. *Вой, які сьнех! Валіць вялікімі ахапкамі, па бапскаму кулаку. Праўда!* Саланая Валож.

**А́ХКАЦЬ** *незак.* Яхкаць (пра сабаку). *Калі сабака ахкае, гэта добра: чуваць, дзе зьвер ідзе.* Рудня Лаг.

**АХЛУПАВА́ТЫ** *прым.* Спадзісты. *Стромая страха жыве даўжэй, чым ахлупаватая.* Бясяды Лаг.

**АХМІСТРЫ́НЯ** *ж. Уст.* Аканомка; жанчына, якая вяла гаспадарку ў багатым доме. *Ахмістрыня была на кухні, варыла, падавала на стол, ключамі заведавала. Ахмістрыня — каторая хадзіла каля паноў, гэта быў чалавек аўтарыцетны ў доме.* Бяларучы Лаг.; *параўн.* польск. ochmistrzyni 'тс'.

**АХО́ДАВАЦЬ** *зак.* Спарадкаваць, даць лад. *Я люблю сваю курачку зарэзаць. Аходуеш яе, яна гэткая жоўцінькая — любата.* Савоні Стаўб. *Чалавек закалоў сытага кабана, не аходуваў сёня, позна было, а пакінуў назаўтро, кішак ні выкінуў — і прапало мясо, затхлосё.* Горкі Стаўб.

**АХО́ДЖВАЦЬ** *незак.* Клапатліва даглядаць. *Карова мая хворая была, я так яе аходжвала.* Вялікая Вуса Уздз.

**АХО́ПАК** *м.* Абярэмак. *Вазьмі ты ў мяне ахопак сена, я ні шкадую.* Бясяды Лаг.

**АХ-ОХ** *выкл.* Перадае спагаду, жаль да самой сябе з прычыны цяжкай работы. *Ах-ох, многа нада было наткаць, патаму што ў нас куплёнага ні было за што купляць. Сваё што выччам і сваё толькі гэта во й насілі.* Ракаў Валож.

**АХРА́ПКА** *ж.* Храпка. *Мой самы малочшы Уладзь усё просіць: „Мама, абрэж мне ахрапку".* Хацюхова Круп.

**АХРЭ́Н** *м. Бат.* Хрэн (Armoracia). *Да ўжо выпаліць печ [мама], выгарня качаргою попял гэты, да ўжо на лапату пасьцеля ахрэну або капуснага лісту і пасадзіць булку.* Дрычын Пух.

**АХТАМА́Т** *м.* Аўтамат. *А паставілі пулямёт пры хаця, а самі с ахтаматамі, „выхадзі ў пуньку [прышоў немяц] тры". Вышлі тры нашыя, гэтыя старыкі, дык аччынілі хлеў, у хлеў як ухадзілі, пулямёт затрашчаў і ахтаматы, — і пабілі іх.* Сваткі Мядз.

**А́ХЦІ** *часц.* Няўжо. *Ахці праўда, што кіншчык захварэў? Кіно ні пакажуць?* Халопенічы Круп.

**АЦАПІ́ЦЬ** *зак.* Акружыць, размясціцца ланцугом вакол, закрываючы выхады. *Ішлі блакада цэп'ю, ацапілі дзярэўню, па тры сядзелі кругом дзярэўні.* Сваткі Мядз.

**АЦЕСЛІ́ВЫ** *прым.* 1. Не пульхны, глеўкі (пра хлеб, булку). *Нешта ў вас сёньня хлеп ацесьлівы, за зубы бярэцца, нясмачны, мяккі, што на пальцах вада відаць.* Клетнае Барыс. 2. *перан., зневаж.* Недапечаны. *Некі ён як ацесьлівы, ідзе і чуць варочаяцца.* Дукора Пух.

**АЦЭ́ГАЦЦА** *зак.* Адпаіцца (малаком, пойлам), папраўіцца на целе. *Худзенькая-худзенькая была цялушачка, адны косьці. Але сталі паіць малачком, ацэгалася і цяпер, кап ты паглядзеў якая!* Савоні Стаўб.

**АЦЮЧЭ́РЫЦЦА** *зак.* Экспр. Ачуняць. *Як сталі ўколы даваць, патроху ацючэрыўся.* Кухцічы Уздз.

**АЦЯЛЯ́ГАВАЦЦА** *незак.* Марудзіць, агінацца. *Цёплыя дзянькі сталі, думаю, няма чаго ацялягавацца і чакаць з мора пагоды.* Порычы Валож. *Скарэй хадзі, што ты там аціляггаваісься, лець паварочваісься.* Рабунь Чэрв.

**АЦЯРО́БКІ** *толькі мн.* Абрэзкі ад гароднікы. *Занясі ацяропкі карове.* Рудня Віл.

**АЧАЛАВЕ́ЧЫЦЦА** *зак.* Ажаніцца. *Ачалавечыўся б ён, а то ходзіць як блудны.* Каменка Уздз.

**АЧАСА́ЦЬ** *зак.* Аддзяліць кужаль ад пачасся. *І мы гэтай шчэткай ачэшым, і гэта ўжо добрая пачасься, гэта ўжо як кужаль.* Папоўка Мядз.

**АЧУ́ЦІЦЬ** *зак.* Прывесці да прытомнасці. *Яны раскідалі гэты амбар — і зваліўсё. Казалі, іскусьцьвяно дыханё рабілі, прыводзілі ў чуства — ачуцілі.* Савоні Стаўб.

**АШАВУ́РАК** *м.* Аскабалак, палка. *Як скіня ён сваю капоту, як хваця ашавурак ды за сабакам сьледам.* Забрэжжа Валож.

**АШАЛАМУ́ЦІЦЦА** *зак.* Ашаламіцца, згубіць кірунак. *Як перайшла ўся гэта калона фашыстаў, яна ўстала й ні ведая, ашаламуцілася, ні ведая, куды йсьці.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**АШАЛАПЕ́ЦЬ** *зак.* Страціць (на некаторы час) здольнасць рэагаваць. *Як увайшла ў хату, дык і ашалапела: усё паччышчана з шафы — і сукенкі і абрусы.* Клетнае Барыс.

**АШАМО́ТАК** *м.* Слаба звіты качан капусты. *Добрыя качаны асобенна склала, ашамоткі карові парэжам.* Вялікая Вуса Уздз.

**АШАРА́ШВАЦЦА** *незак.* Здзіўляцца. *Прыходжу дамоў і ашарашваюся: усё кругом параскідавана, усюды беспарадак.* Кухцічы Уздз.

**АШАРА́ШЫЦЬ** *зак.* Зрабіць моцнае ўражанне, здзівіць. *Ну і ашарашыў жа ён мяне, як сказаў, што жэніцца на гэтай дзяўчыне.* Каменка Уздз.

**АШЛА́П** *м.* Верхняе бервяно ў зрубе будынка, якое кладуць на бэлькі. *Самы верхні вянок, на які ставяць страпілы, — ашлапы, у яго ўпускаюцца крокевы.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**АШЛЁПКІ** *толькі мн.* Падношаны, абшарпаны абутак. *Што гэта за ашлёпкі ў цябе на нагах? Бытта купіць чаравікі табе німа за што?* Узгурск Чэрв.

**АШМО́ТАЦЬ** *зак.* Парваць на шматкі. *Як станя тхор качку цягнуць, ён жа ні выцягня яе пат падрубу, галаву аткусіць, а шкуру гэтую ашмотая і кіня.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**АШО́МАК** *м.* Тое, што і ашамо́так. *Як лісьця паскладаецца, а галоўкі самой няма, то капуста не ўрадзіла, а ўся ў ашомкі пайшла.* Мікалаеўшчына Стаўб.

## Б

**БА́БА**[1] *ж.* 1. Жанчына. *Тут у нас баба адна памерла за тыдзянь перад вашым прыездам. Нешто зрабіласё, спарыжавало ўсю, мову атняло бабі — й к абеду памылі ўжо.* Савоні Стаўб. 2. Жонка. *Калі маладая, то жонка, тады — баба, а як пастарэя, то старая.* Ігрушка Круп. *Пагуляйце, дзевачкі, мая баба сычас прыдзе.* Рудня Чэрв. 3. Замужняя жанчына. *У „Прамені"* [назва раённай газеты] *ест апавяданьне пра нашу вёску, здымкі. Многа здымкаў. На здымках бабы, многа іх там, усе замужнія, дзевушак тут німа.* Савоні Стаўб. 4. *уст.* Бабка, павітуха. *Рушнік бярэш пат паху, ну й ідзеш к бабі. Бабі ў руку пацалуяш: „от, бапка, йдзеця ка мне, у мяне рой радзіўся". Ну, тая бапка бярэ [некалі палатно бралі] хустку, палатно, хто на шапачку, як дзеўка, дак ленту бярэ, пялёначку сваю бярэ. Ідзе дзіця мыць.* Таўкачэвічы Уздз. 5. Як зварот да старой кабеты. *— Хадзем, баба, я завяду вас, памагу дайсьці.* Вязынка Маладз. 6. *перан., іран.* Мужчына нерашучы, бесхарактарны. *— Што ты раскрычаўся, як глушак у лесі! Вазьмі сябе ў рукі, ні будзь бабаю!* Горкі Стаўб.

**БА́БА**[2] *ж.* Гатунак груш. *Ігрушка баба — крупнаватая, жаўкляевая, плод сопкі.* Ляшчынск Мядз.

**БА́БА**[3] *ж.* Бочка ці тоўстая калода, умарожаная ў лёд. *У адну пролубку апускаюць сетку пад лёд, а канец вяроўкі наматваюць на бочку, якая бабай называіцца, круцяць вяроўку на бабу і праз другую выцягваюць сетку з рыбай.* Нарач Мядз.

**БАБАВІНЫ** *толькі мн.* Сцяблы абмалочанага бобу. *Як боп абмалоцяць, астаюцца бабавіны.* Цялякава Уздз. *Бабавіны авечкам аддавалі.* Нізок Уздз.

**БАБАНУ́ЦЬ** *зак. Груб.* Моцна ўдарыць, выцяць. *Падлітаю да самага ганку, а ён, у сянёх стаяў блізінька, аччыніў да як азяў чапялу, як бабанець! Я й пашла дамоў, галосячы.* Залазоўе Віл.

**БАБА́ХАЦЬ** *незак.* Страляць. *Бабахалі сёння ўсю ноч у лесе.* Паплавы Бярэз.

**БА́БАЧКА**[1] *ж. Памянш.-ласк. да* ба́бка 'матчына або бацькава маці'. — *Бапка, бабачка, падзем пагуляім на рэчку,* — *і як прыстане, як прыстане* — *мушу ісьці.* Бытча Барыс.

**БА́БАЧКА**[2] *ж. Заал.* Страказа (Odonata). *На чароця такія харошыя бабачкі: і жоўтыя, і сінія, і зялёныя. Бярэця, хлопцы, сачок, пойдам лавіць бабачкі.* Дукора Пух.

**БА́БАЧКА**[3] *бат.* Трыпутнік (Plantago L.). *Калі дзе болька, дык прыпáр робяць з бабачкі або проста лісьцік бабачкі прыкладаюць.* Варняны Астр.

**БА́БАЧКА**[4] *ж.* Невялікі ахапак ільнотрасты, кучка. *Вынясем бабачкі дзьве, пака цёплы, мнецца, як астыне, ня мнецца.* Бытча Барыс. *Глядзім, ці досіць лёну лежні. Як досіць, то паднімім і ў бабачкі паставім, каб сухі быў.* Рубяжэвічы Стаўб.

**БА́БАЧКА**[5] *ж.* Чатыры снапы, наверх пяты, састаўленыя ў кучку для прасушкі. *Кабеты, якія жалі авёс, ставілі яго ў бабачкі па пяць снапоў у кожную.* Старынкі Дзярж.

**БА́БІНА КА́ША** *абрад.* Каша, якую бабка гатуе на хрэсьбіны. *Бабіну кашу выкупляць трэба, класьці грошы на яе.* Хожава Маладз.

**БАБІНА́** *ж.* Адно бабовае зерне. *Бабіну зьеў, а яна хоча, каб наеўся.* Ляшчынск Мядз.

**БАБІНКА́** *ж. Памянш. да* бабіна́. *Дзедаў пітушок нашоў бабінку́, а бабіна курачка* — *гарашынку́.* Малое Стахава Барыс.

**БАБІ́НЫ** *толькі мн. Абрад.* Частаванне ў гонар бабкі-павітухі. *На бабіны пяклі бліны, варылі мачаньне, капусту зь мясам, запрашалі бапку, ку́ма с кумою.* Цялякава Уздз.

**БА́БІЦЬ**[1] *незак. Уст.* Прымаць роды, перавязваць пупавіну. *Раней бабы бабілі дзяцей, прымалі роды, а ціпер у бальніцу едуць.* Пруды Стаўб. *Паехалі па бабу, што хлопца бабіла, павінны скора прыехаць.* Дукора Пух. *Пры родах стаіць бапка, яна і бабіць дзіця. Бабіць павінна старэйшая жанчына.* Ляшчынск Мядз.

**БА́БІЦЬ**[2] *незак.* Разбіраць перамоту. *Як паложыш* [аснову] *ні на той колік, агледзіш, аш ні на той, тады сходзіш да таго коліка і бабіш перамот, тады ізноў паложыш, ужо правільна, і пашло дзела ў парадак.* Ратуцічы Барыс.

**БАБІ́Ч** *м. Уст.* Дзіця, што нарадзілася ў прысутнасці бабкі-павітухі. *У нас завядзёнка такая была* — *на вельканац ідзём па яйка да татуся хрышчонага, мамы хрышчонай, бабулі. Дак я рас прышла (а ў нас было натта многа дзяцей, было сем дзяцей), дык эта бабуля мне як наклала, усім жа сваім гэтым бабічом як наклала яек, дак я дамоў ужо й ні прынясла, пабіла, памяла.* Залазоўе Віл. *У нашай вёсцы адзін толькі бабіч ё.* Паплавы Бярэз.

**БА́БКА**[1] *ж.* Знахарка, шаптуха. *Радзіўсё хлопчык, слабенькі радзіўсё, а гэто ж ні ціпер, што дахтарэ... Што я памучылася, па бапках возячы, пака ён трохо акрэп.* Падзерычы Стаўб.

**БА́БКА**[2] *ж.* Тое, што і ба́бачка[2]. *Бабак мая дачка засушвае.* Ігрушка Круп.

**БА́БКА**[3] *ж. Спец.* Прылада устаўляць спіцы ў вобад. *Бапкаю сьпіцы устаўляюць у вобад, паддзержуюць сьпіцу.* Цялякава Уздз.

**БА́БКА**[4] *ж.* **1.** Ахапак сухога лёну, вынесенага з сушкі за адзін раз для апрацоўкі. *Бапка* — *гэта як абняць адзін сноп сухога лёну. І такіх пяць бабак трэба было зьмяць за дзень, такая норма была.* Рудня Чэрв. **2.** Вязка (саломы). *Кіта саломы не гавораць, кажуць: бапку саломы зьвязаў.* Малмыгі Віл.

**БАБКО́ВЫ ЛІСТ.** Лаўровы ліст. *Вараць расол, кідаюць туды перац, бапковы ліст, соль, укроп, часнок. Гэтым расолам заліваюць грыбы і закрываюць днушкай і ставяць у склеп. Грыбы гатовы.* Бяларучы Лаг.

**БА́БЛЕННЕ** *н.* Сямейнае святкаванне нараджэння дзіцяці. *У ету нядзелю ў мае нявесткі бабленьне будзе.* Рудня Лаг.

**БАБОВІ́ШЧА** *н.* Месца, дзе рос боб. *На бабовішчы бабоўнік ляжыць у кучах.* Вецярэвічы Пух.

**БАБО́К** *м. Бат.* **1.** Капытнік балотны (Calla palustris). *Ідзі, сын, бабок зьбіраць, сьвіньні есьці хочуць.* Рудня Лаг. *Бабок на балоце расьце. Нарву сьвіньні бапку, дык так зьесць у смак.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Пакаёвая дэкаратыўная расліна. *Бабок цьвіце рас у гот, кветачкі такія дробныя, красныя.* Бясяды Лаг.

**БАБО́ЎКА** *ж.* Гатунак бульбы. *Я на сваім пляцы пасадзіла бабоўкі.* Рудня Лаг.

**БАБО́ЎНІК** *м.* Сцяблы са струкамі бобу. *Бабоўнік павязалі ў снапкі і памалацілі.* Вецярэвічы Пух.

**БАБУ́ЛЯ** *ж. Уст.* **1.** Тое, што і ба́ба[1] (у 4 знач.). *Дак я рас прышла (а ў нас натта было многа дзяцей), дык эта бабуля мне як наклала яек, дак я дамоў ужэ й ні прынесла.* Залазоўе Віл. **2.** *Ласк.* Бабка. *Бабуля, дзе мае каплі ад вачэй?* Вецярэвічы Пух.

**БАБУ́НЯ** *ж.* Бабуля. *Бабуня Камароўская, ідзеця, я з вамі рашчытаюсё, грошы аддам.* Савоні Стаўб.

**БАБУ́ТА** *ж.* Баба, старая кабета. *Пачэпяць етагаката [булачку з хлебнага цеста] на поясе. Тады сабіраюцца дзеці ў тую хату, тады скубуць таго ката. А баба ўжо, бабута, стаіць іс

*подмаскаю. Катора дзіця сьмялейша, дык скубяне за лапу ці за хвост, а бабута подмаскаю яму, подмаскаю. Во даўней якія забавы былі.* Дрычын Пух.

**БА́БЦЯ** *ж.* Тое, што і б а б у́ н я. *Бабця завяжыць касьнік за пасму валасоў і выправіць у школу, уплётаў ніколі не ўпляце.* Забрэжжа Валож.

**БАБЫ** *толькі мн.* Цёплыя, з начосам дзіцячыя штаны. *Бардзей сабірайся, я табе сёньня новыя бабы дам надзець, купіла.* Баркоўшчына Мядз.

**БАБЫ́ЛЬ** *м.* Адзінокі, бессямейны чалавек. *Гуляць да сьвітаньня ні нада, бабыль такі. А то спаць [illegible]ча, аш чуць глядзіць.* Бяларучы Лаг.

**БАБЫ́ШКІ** *мн.; адз.* **бабы́шка** *ж.* Дубовыя калоды, якія ўкопвалі па вуглах хаты і на якія клалі першы вянок зруба. *Уладзік бярозавыя бабышкі ўкапаў, таму яны і не пастаялі доўга.* Сцешыцы Віл.

**БАВАЛЬНІ́ЦА, БУВАЛЬНІ́ЦА** *ж.* Баваўняныя ніткі. *Бывала, мы пасьцілкі з бавальніцы ткалі, і с кужалю, і с тэрсьні.* Каменка Уздз. *Адно з бувальніцы люблю вязаць, шкарпэткі натта мякінькія выходзяць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БАВАЎНІ́ЧКА** *ж.* Вязаная хустачка з баваўнічнай пражы. *Баваўнічкі вышлі з моды, цяпер ужо бабы па́даюць, каб дзе харошую пуховую хустку купіць.* Рудня Чэрв.

**БА́ВІЦЦА** *незак.* Затрымлівацца. *Балазе баба бавіцца, а то голас справіла п, хоць с хаты ўцякай.* Порычы Валож. *Я там доўга не буду бавіцца.* Вецярэвічы Пух.

**БАВЭ́ЛНА** *ж.* Тое, што і б а в а л ь н і́ ц а. *Бавэлну мы куплялі на ўток, на аснову кужаль.* Цялякава Уздз. *Раней у мяне было многа такіх нітак з бавэлны назьбіралася.* Рудня Чэрв.

**БАВЭ́ЛЬНІЦА** *ж.* Баваўняная хустка. *Гэта вось бавэльніца, што залоўка падарыла мне, гэтка была ўжо красівая, што цяпер хоць і старэнька, а від мае.* Кукалеўка Чэрв.

**БАГА́Н** *м. Бат.* Багун (Ledum). *Ад багана галава баліць, каб ён шчарнеў, натта моцна пахне.* Ігрушка Круп.

**БАГА́ТА** *прысл.* Многа. *— А, калі так, то да цямна яшчэ багата часу.* Яцыны Мядз.

**БАГАТАВА́ТЫ** *прым.* Сярэдняга дастатку. *У маладога было вясельля ні бяды, там былі людзі-ткі багатаватыя, добрае вясельля было.* Малінаўка Лаг.

**БАГА́ТКА** *ж. Бат.* Купалка (Erigeron). *Перад Янам багаткі зьбіраюць і тачаюць у сцяну. Багатка белымі кветачкамі цьвіце нападоб'е шарыкаў.* Ляшчынск Мядз.

**БАГА́ТУХА** *ж. Рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 8 верасня ст. ст. *Усёй зямлі ж не аралі, пакідалі папар пад жыта, яго сеілі восіньню, багатухай.* Мацкі Мядз.

**БАГАЦЕ́Й** *прым.* Багацейшы. *Ён багацей за гэтах быў.* Ляшчынск Мядз.

**БАГДА́Й** *злучн.* Каб. *Міхась прыйшоў бы ў кіно, багдай яго сябры паклікалі, а сам дык ня хоча ісьці.* Капачоўка Барыс.

**БАГО́Р** *м.* Доўгі нос з гарбінкай. *Быў бы і нічога хлопіц, каб не такі багор. Яго нос на сямёх рос, аднаму дастаўся.* Косаўка Бярэз.

**БАГО́ЎНІК** *м.* Тое, што і б а г а́ н. *Багоўнік расьце на балоце, белым цьветам прыгожа цьвіце, але пах мае крэпкі.* Вецярэвічы Пух.

**БАДА́К** *м. Бат.* Асот (Sonchus). *Калючы бадак заглушыў увесь ячмень, што рабіць?* Межава Чэрв. *Бадакі так ячмень заглушаюць, што й ні знойдзіш яго.* Пугачы Мядз.

**БАДА́НЕ** *н.* Даследаванне, аналіз. *Мая нявестка сёньня павезла кроў на бадане.* Падзерычы Стаўб.; *параўн.* польск. badanie 'тс'.

**БАДА́ЦЬ** *незак.* **1.** Выпытваць, дапытвацца. *Бадаеш, бадаеш, а ўсё роўна нічога ў мяне не ўзнаеш.* Акалова Лаг. **2.** Аглядаць (хворага). *Прывезла я яго ў бальніцу, доктар кажыць: „Ну, давай будзім бадаць. Разьдзівайся, таварыш!"* Залазоўе Віл.; *параўн.* польск. badać 'тс'.

**БАДЗІ́СТАВЫ** *прым.* Батыставы. *Даўней касынкі былі бадзіставыя, пасачкі, палосачкі харошанькія на кайме.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БАДЗІСТО́ЎКА, БАЦІСТО́ЎКА** *ж.* Хустачка з батысту. *Ото ш я люблю бадзістоўку! Ні чуваць нават, што на галаве сядзіць.* Горкі Стаўб. *Бацістоўкі белянячкія дзеўкі пакупляли.* Дукора Пух. *Ці ты была ў магазіня? Казалі, там бацістоўкі ёсь.* Дрычын Пух.

**БАДЗЮ́К** *ж.* Тое, што і б а д а́ к. *Трэба было астацца дома, бульму апкапаць, бадзюкі парваць.* Рудня Лаг.

**БАДЗЯ́ГА** *ж. Бат.* Расходнік (Sedum acre L.). *А ў нас баба адна захварэла, калацьё напала. Параілі ёй расходнік, бадзяга называецца. Як нацерла яна плечы, дак і кашулі не паклала, усе плечы аб'ела.* Няровы Валож.

**БАДЗЯ́ЛЫ** *у знач. прым.* Ахвочы да любоўных прыгод, лавелас. *Бацька яго ззамалада бадзялым быў, любіў неяк ззамалада за бабамі пабегаць, а цяпер, праўда, аціх.* Язні Віл.

**БАДЗЯ́ЦЦА** *незак.* Валяцца, ляжаць у беспарадку. *Па ўсёй хаці адзежа бадзяіцца.* Цярэшкі Барыс. *Бадзялася скошаная трава нядзелі паўтары.* Ляшчынск Мядз.

**БАДЫЛЁК** *м.* Бадыліна. *Аграном ці відзіў, што такая бручка зарасла? Толькі бадылёк ўгору пазірае.* Бяларучы Лаг.

**БА́ЕЦ** *м.* Акунь сярэдніх памераў. *Сярэдні акунь у нас завуць баяц. Цэлая стада рыбы заходзіць у затоку, тады ні зявай, абдурвай пярэстых байцаў.* Мікольцы Мядз.

**БАЁ́ВІК** *м.* Байкавы жакет або кофта. *Мама пашыла новы баёвік, цёплы.* Палессе Мядз. *Баёвік мой рвецца, локці вылазяць.* Мікольцы Мядз.

**БАЁЎКА** *ж.* Цёплая хустка з байкі. *Так сягоньня зімна, я й кажух адзела і баёўку ўзяла, а ўсё адно зьмерзла.* Яцыны Мядз. *Люблю баёўкі, яны такія цёплыя.* Каляды Віл.

**БАЖНІЦА** *ж. Уст.* Ікона. *Даўней у кожнай хаці бажніцы віселі, цяпер хіба дзе ў якой старэнькай адзінокай бапкі.* Задор'е Лаг. *Снапок гэты ўбіраюць стужкамі, краскамі, нясуць с поля і ставяць ў чырвоны кут, дзе вісяць бажніцы.* Багрыцоўшчына Дзярж.

**БА́ЗА** *ж.* Магазін. *Даўней такая смашная стоялка [смятана] была, як купіш у гаспадыні, а цяпер натта рэткая, што ў базі прадаецца.* Літва Стаўб.

**БАЙ** *м. Тэкст.* Байка. *Паглядзі толькі, які прыгожы бай на прылаўку. Не, не там, а сюды глядзі.* Кузьмічы Мядз.

**БАЙБА́К** *м. Неадабр.* Абібок, гультай. *Байбак у мяне вырас, адзін зьядае за траіх, а рабіць ня хоча. Бяда зь ім.* Баравая Пух.

**БА́ЙБУС** *м. Неадабр.* Бальшун. *Гульма гуляя Іванаў байбус.* Дукора Пух. *Такая суш, а На́дзін байбус павёў дзяцей у лес і агонь разлажылі.* Раўчак Пух.

**БАЙКІ́** *прым.* Энергічны, смелы, бойкі. *Былі і дзяўчаты з імі, гаваркія такія, сьмелыя, байкія.* Бяларучы Лаг.

**БАЙСТРУ́К** *м. Пагард., груб.* Пазашлюбнае дзіця. *Дзяцька як напаў: „А ты пекная, а табе ўстрояць байструка, а ты зваляісься"... і як напаў, як напаў — выпер замуш.* Пагост Віл.

**БАЙСТРУЧО́К** *м.* Кураня, якое курыца вывела таемна. *Пасачэця за рабенькай, дзе яна нясецца, бо гэта курыца любіць байстручке выводзіць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БАКАВІ́ЦА** *ж.* Бакавы пакой, бакоўка. *У бакавіцы на лошка ўскаціўся і ні з месца, у халатку адлежваецца.* Межава Чэрв.

**БАКАВЫ́** *у знач. наз.* Любы ўдзельнік бяседы. *Кум, кума купляюць кашу, хто боляй дасьць. Гэта й бакавым можна купляць бабіну кашу.* Таўкачэвічы Уздз.

**БАКЛА́ЖКА** *ж.* Біклажка. *Яна радню засываець, а ён вязець к маладусе кумпяк, закуску, баклашку гарэлкі. Яна завець сваю радню на яго закуску.* Мойсічы Маладз.

**БА́ЛА** *пабочн.* Бывала, калісьці. *Бала, ні тое, што ціпер — да сьнеданьня на луку зьежджу і печы першая выпалю вярнуўшыся.* Межава Чэрв. *Бала, сядзіш, кудзелю прадзеш і зыбаеш дзіця.* Бясяды Лаг. *Бала, было зусім не гэтак, у лапціках усе хадзілі.* Пугачы Мядз.

**БАЛАБА́ЙКА** *ж.* Званок. *Хоць с канцэркі зробіш балабайку, прычэпіш карове да шыі і ўжо яе чуіш, не дасі застацца ў кустах.* Будслаў Мядз.

**БАЛАБО́Н** *м. Неадабр.* Балбатун, пустабрэх. *Не слухай гэтага балабона, бо ён табе будзе балабоніць аж да вечара.* Асіпаўшчына Стаўб. *Мой муш такі ўжо балабон, балтая й балтая, ні дасьць мне слова сказаць.* Вялікая Вуса Уздз.

**БАЛАБО́НІЦЬ** *незак.* Балбатаць. *Сьціхні, не балабонь!* Асіпаўшчына Стаўб.

**БАЛАБО́НЫ** *толькі мн. Бат.* Буякі (Vaccinium uliginosum L.). *Пакуль назьбіраіш збаночак балабонаў, аж галава закруціцца.* Хожава Маладз. *Люблю балабоны есьці з малаком.* Язні Віл.

**БАЛАБО́СЦІЦЬ** *незак.* Тое, што і б а л а б о́ н і ц ь. *Вечна ты балабосьціш што папала.* Цялякава Уздз.

**БАЛА́БУХА** *ж. Кулін.* Булачка з начынкай. *Яна балабухаў напячэ, і ядуць.* Цялякава Уздз.

**БАЛАБЭ́ЙДЗІЦЬ** *незак.* Тое, што і б а л а б о́ н і ц ь. *Каб што люцкае гаварыў, а то што папала балабэйдзіць.* Каменка Уздз.

**БА́ЛАВЕНЬ** *м.* Пястун. *Ён у мяне балавень, свавольнік.* Вецярэвічы Пух.

**БАЛАҐА́Н** *м.* Шум, бязладдзе, гармідар. *Дзеці прылятуць, балаґану наробяць — спакою няма ў хаці.* Савоні Стаўб.

**БАЛАЗЕ́** *прысл.* Добра. *Балазе, баба бавіца, а то галас справіла п, хоць с хаты ўцякай.* Порычы Валож.

**БАЛАЗЕ́Й** *прысл. Уст.* Добра. *Балазей табе, твая картопля далёка пасаджана, ніхто ня топча.* Дукора Пух.

**БАЛА́КАЦЬ** *незак.* Гаварыць, весці гутарку. *Сядайця, будзям балакаць.* Каменка Уздз.

**БАЛАМУ́ТНЫ** *прым.* Мутны, нячысты. *У нас у Нёмні вада чыстая, а ў Шчары — баламутная.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БАЛАНДА́** *ж. Кулін.* Посная рэдкая полііўка. *А кармілі ў канцэнтрацыйным лагеры очань плоха: кусочык хлеба і такі хлеп — пільшч адна і баланды паўлітры ў суткі.* Ухвала Круп.

**БАЛАЦІНА́** *ж.* Забалочаная лагчына. *От лясок за балаціной, бачыця, туды мы ў грыбы ходзім.* Саланая Валож.

**БАЛБАТА́ЦЬ** *незак.* Утвараць моцны перастук. *Набяром у прыпол каменьняў ды сыплям у студню. Дык як будуць гэтыя каменьні моцна балбатаць, дык гэта будзя сьвякроў дрэнная.* Кукшавічы Дзярж.

**БАЛБЕ́С** *м. Зневаж.* Лодыр, гультаіна. *Прыдзя во такі балбес у школу, убоіна, і папрабуй ты ўбі яму ў галаву, што гэта „а", а ні „о".* Бяларучы Лаг.

**БАЛЕ́ЗНЯ** *ж.* Хвароба. *Так чалавека балезьня паткасіла, ажна шчарнеў, высах на шчэпку.* Узгурск Чэрв.

**БАЛЕ́СЦЬ** *ж.* Тое, што і б а л е́ з н я. *Усё ні ціха: балесьць дакучая, ды і с сынам такоя гора.* Вялікая Вуса Уздз. *Балесь мяне замучыла.* Вецярэвічы Пух. *Калі сэрца папсута, цяшка жыць. У мяне жаба сэрца, балесьць такая,*

*яна вушамі закрывае клапаны.* Хожава Маладз.

**БА́ЛЕЧКА** *ж.* Жэрдачка. *Балячкі с сасонкі, яны ў бані спрадвеку. На іх адзежу вешаюць, а як прыдзецца, лён ставяць.* Малмыгі Віл.

**БАЛЁН**[1] *м.* Трохлітровая шкляная банка. *Баленаў трудна цяпер дастаць, у магазінах усьлет разьбіраюць.* Ляхі Нясв.

**БАЛЁН**[2] *м.* Шарык. *Які ж прыгожы чырвоны балён купілі! Трымай моцна.* Ямкавічы Валож.

**БАЛО́ННЕ** *н.* Нізкі заліўны луг. *У гэтым годзі многа суніц прама тут, бліска, ля балоньня.* Турын Пух.

**БАЛО́НЬ** *ж.* Воданепранікальная плашчавая матэрыя са штучнага валакна. *Нада табе плашч новы купляць, а то кажуць, што балонь ужо нямодна.* Канстанцінава Мядз.

**БАЛТА́К** *м.* Прылада заганяць рыбу ў сетку. *Дзе ты схаваў балтак, ня будзе чым рыбу заганяць у сетку. Пашукай.* Канстанцінава Мядз.

**БАЛТА́НКА** *ж. Кулін.* Верашчака. *Гатова ўжо балтанка, еш скарэй.* Палачаны Маладз.

**БАЛТА́ІЦЦА** *незак.* Рабіць свабодныя рухі рукамі і нагамі. *Выдзе, панімаеш, парань як парань альбо дзевачка, ну што за таняц! Шалтаіцца, балтаіцца і торкаіцца. І да чаго гэта работа?!* Мікольцы Мядз.

**БАЛТУ́ХА** *ж. Кулін.* Яечня, прыгатаваная з мукі і яец на малацэ. *Разьмешваюць малако з мукою і яйкамі, усё гэта выліваюць на скавараду і пякуць балтуху ў печы.* Бясяды Лаг. *Як я Валячку радзіла, прышла да мяне Васіліха і прынесла цэлых пяць яешань-балтух на ўсю скавараду.* Акалова Лаг.

**БАЛТУ́ШКА** *ж.* Тое, што і балту́ха. *Балтушка файна і з блінамі, і з хлебам есьці, усяк смачна. Мы на сьняданьня часта балтушку робім.* Чабаі Валож.

**БА́ЛЬКА** *ж.* Бэлька. *Столь кладзецца над балькамі і пад балькамі.* Хожава Маладз. *Столь кладзецца паміж балькамі, ці правільней, у пазы балек. Калі столь двайная, то адна, чорная, кладзецца паміж балькамі ці над імі, а другая, чыстая, прыбіваецца цьвікамі пад балькамі.* Забалоцце Смал. *Хата ніская, бальку можна рукой дастаць.* Ганявічы Лаг.

**БАЛЬКЛІ́ВЫ** *прым.* Каросліва, шурпаты. *Бульба бальклівая, каравая мала бываіць, больш харошая.* Рудня Чэрв.

**БАЛЬНЫ́** *прым.* Хворы. *Дзьве нядзелі ляжаў бальны.* Гілікі Валож. *Ён такі бальны чалавек.* Бытча Барыс.; *параўн.* рус. больной 'тс'.

**БАЛЬСАМІ́ТКА** *ж. Бат.* Бальзаміна (Impatiens nolitangere). *Ёсьць вазоньніца, пасаджу бальсамітку, хай расьцець.* Ляшчынск Мядз.

**БАЛЬШАВІКО́Ў** *прым.* Бальшавіцкі. *А як вышла на дарогу — йдзе савецкае войска, бальшавіковы салдаты і на конях, і на машынах, усе маладыя, харошыя.* Лоск Валож.

**БАЛЬШУ́Н** *м. Асудж.* Юнак. *Гэтаму бальшуну скоро ў войско ісьці, а ён зь дзецьмі гуляе.* Жацерава Стаўб.

**БАЛЫ́ГА** *м. Асудж.* Гультай. *Мой жа дзет балыга, а працаваць шчэ можа.* Судабоўка Смал.

**БАЛЭ́НДА** *м.* Тое, што і балабо́н. *У нас ёсьць такі балэнда, то аткуль толькі бярэцца ў яго ўсё, але ж на мінуту не замоўкне.* Кроквы Лаг.

**БАЛЮ́ШЧЫ** *прым.* Балючы. *Адзін укол вельмі балюшчы.* Дукора Пух.

**БАЛЯ́СЫ** *толькі мн.* Агароджа вакол магілы. *Балясы добрыя паставіў па бацьку.* Цялякава Уздз.

**БАЛЯ́ЎКА** *ж.* Болька. *Баляўка нейкая вырасла на губе.* Ігрушка Круп.

**БАМБІ́ЗА** *м. Зневаж.* Гультай, абібок. *Бамбіза гэты, туляецца цэлы дзень бяс справы.* Цялякава Уздз.

**БАНДА́РКА** *ж.* Спецыяльная пілачка. *Каб дно падагнаць, упусьціць у пазы, яго аппільваюць бандаркай.* Бытча Барыс.

**БА́НКА** *ж.* Тое, што і адсто́йка. *У нас случай быў: малако ў банца ў студню ўпусьцілі, а вяроўка абарвалася — прышлося студню чысьціць.* Чабаі Валож.

**БАНКА́РТ** *м. Пагард.* Тое, што і байстру́к. *Дачка банкарта прывяла.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. bękart 'тс'.

**БА́НЯ** *ж.* Лазня. *Даўней жа бані ня было, камянь нагрэюць, укінуць у кадушку — от табе ўся баня!* Дрычын Пух.; *параўн.* рус. баня 'тс'.

**БАНЯ́К** *м.* Эмаліраваны бітончык. *Я ваду вам паставіла ў вялікім баняку.* Малінаўка Лаг.

**БАРАБА́НІЦЬ** *незак.* Гаварыць гучна і многа. *Хадзем дамоў, хваціць ужо барабаніць, а то без языка астанесься.* Рудня Чэрв.

**БАРАВІ́К БАРАВЫ́** *бат.* Сасновая форма белага грыба (Boletus edulis Fr. f. pinicola). *Баравікі трохсартовыя ў нас: баравы баравік, белы грыб і падбярозавік. Баравы баравік расьце ў верасі ш чорнай галоўкай, на тоўстай ношкі, прыкрыты верасам.* Нядаль Барыс.

**БАРАВІ́К БЯРО́ЗАВЫ** *бат.* Белы грыб (Boletus edulis Fr. f. betulicola). *Нашла баравіка бярозавага, ішла бярозавым лесам і нашла.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БАРАДА́**[1] *ж.* Пропуск пры касьбе. *Ня ўмеў касіць, дык адно бародаў напакідаў.* Паплавы Бярэз.

**БАРАДА́**[2] *ж.* Выемка, выраз у крокве. *Кроквы зьвязваюцца: заразаецца барада і клінам замацоўваецца, каб не сарвалася, добра замацоўваецца.* Рудня Чэрв.

**БАРА́Н**[1] *м. Зневаж.* Тупіца. *А гэны, глядзіш, такая пешка, такі баран, але бацька ма-*

*іць двацацъ пяць гактараў, гэты пашоў у навуку. А чаго ён пашоў?! Ба ў яго было ў кашані.* Мікольцы Мядз.

**БАРА́Н²** *м. Спец.* Прыстасаванне ў выглядзе вярчальнай рамкі, умацаванай на бруску, для звівання нітак. *Са шпулькі ніткі матаім на бараны, якія стаўляюцца на падлодзы і маюць вітушку.* Рубяжэвічы Стаўб.

**БАРАНАВАЛО́К** *м.* Баранавальшчык. *Баранавалок той чуць ногі цягая.* Дукора Пух.

**БАРАНАВАЛО́КА** *м.* Тое, што і баранавало́к. *Ён некалі баранавалока быў.* Цялякава Уздз.

**БАРАНАВАЛО́ЧНІК** *м.* Тое, што і баранавало́к. *Во, у цяньку баранавалочнік атпачывае.* Саланая Валож.

**БАРАНАВА́ЛЬНІК** *м.* Тое, што і баранавало́к. *Знайсьці баранавальніка ні так ужо і цяшка, абы грошы.* Паплавы Бярэз.

**БАРА́ШКА** *ж.* Мужчынская шапка з аўчыны. *Лепей за ўсё мець чорную барашку.* Рудня Чэрв.

**БАРБЕ́ЦЬ** *незак. Экспр.* Бурчаць, сварыцца. *Яна не хадзіла на работу: умела шыць. Хто сала нясе, хто малака, хто грошы. Цётка скора барбець на яе стала.* Саланая Валож.

**БАРВІ́К, БАРВЯ́К, БІРАВІ́К, БІРВЯ́К, БЯРВЯ́К** *м. Бат.* Баравік. *Самы глаўнейшы — барвік. А красавіц, як маладзенькі, такі крамяны.* Нядаль Барыс. *У нашых лясах многа барвякоў, казякоў многа, падасінавікі чырвонінькія сідзяць кучкамі, як лялечкі.* Муляры Віл. *Барвякоў многа набралі, але ўсе дромныя.* Асіпавічы Віл. *У нашым лесі вельмі многа барвякоў.* Чыжаха Бярэз. *Што біравікоў у гэтых месцах было летась! Усе як часнок белыя, прыгожыя. А якія смачныя, як зварыш!* Узгурск Чэрв. *А наш учора на матацыкле злятаў — поўны кош бірвякоў прывёс.* Маладзечна Маладз. *Босая хадзіла па грыбох. Пагрэюся, пагрэюся крошку ды пад ёлачку. А пад ёлачкай берbegin бярвякоў бялюсенька.* Бакачы Мядз.

**БАРВІНА́** *ж.* Баравіна. *У нашым лесе барвіны рэтка сустракаюцца.* Гілікі Валож.

**БАРЖДЖЭ́Й** *прысл.* Хутчэй. *Барждж͏эй бягайця сюды!* Дукора Пух.

**БА́РЗДА** *прысл.* Надта, вельмі. *Калі хэньць папала яму вучыцца, дык будзе вучыцца, а я барзда і ўпрошваць ня буду.* Баркоўшчына Мядз. — *Ці далёка ваша астаноўка? — Не барзда.* Чабаі Валож. *Жылі дзьве сястры барзда шчасьлівыя.* Папоўцы Віл.; *параўн.* польск. bardzo 'тс'.

**БАРЗДАСПЕ́ЙКА** *ж.* Ранні гатунак бульбы. *Ёсць і красная, і жоўтая бульба. Яшчэ на іх гавораць барздасьпейкі.* Нізок Уздз.

**БАРЗЕ́Й** *прысл.* Лепш. *Мой Васька барзей за Сярошку вучыцца.* Каменка Уздз.

**БАРКА́ННЕ, БАРХА́ННЕ** *н.* Морква. *Насадзілі барканьня ў гэтым годзе, увесь агарод занялі, дзеці мае натта любяць. Выпалаць жа нада барханьня і каліку, бо ўсё зарасло.* Вяршоўка Круп. *Гэта ж толькі падумай! Усё барканьне зьелі мышы ў капцы й на семяно ня кінулі.* Якімаўка Круп.

**БАРЛЯ́ЦІ** *толькі мн.* Цёплыя суконныя жаночыя боты на шнурках. *Такія боцікі старыя ў нас толькі барляці называюць, а маладыя — сапошкі.* Баркоўшчына Мядз.

**БАРЛЯ́ЧЫ** *толькі мн.* Зімовыя чаравікі. *Пры панах сялянкі насілі барлячы толькі ў сяточныя дні.* Палавікі Мядз. *І барлячы ва ўсіх былі. Яны як баціінкі, але каля нагі гумовы муглляс [рызінка], як у шкарпэцы.* Чабаі Валож.; *параўн.* польск. berlacze 'зімовыя боты, пантофлі'.

**БАРНІ́ЦЫ** *толькі мн.* Каноплі без семя. *Барніцы рвуць сь цьветам, зь іх вілі вужышчы, вяроўкі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БАРНЭ́ЛЬКА** *ж. Бат.* Чорнагаловік (Prunella). *Барнэлька пры дарозе расьце, дык каровы ўсю паелі, пакуль ідуць.* Хожава Маладз.

**БАРО́ДАЎКА** *ж.* Губа, трут (Inonotus abliquus). *У леся на дзеравах то вот бародаўкі растуць.* Дукора Пух.

**БАРТО́ЎКА** *ж.* Вузкая палоска аўчыны, якой абшываюць край кажуха. *Сам кажух цэлны, а бартоўка на рукавах абнасілася.* Вецярэвічы Пух.

**БАРУКА́ЦЦА** *незак.* Дужацца. *Пад'еш добра, тады с папкам пойдзяш барукацца.* Цялякава Уздз.

**БАРХА́ННЕ** *гл.* барка́нне

**БА́РЧЫК** *м.* Ворчык. *Барчык да плуга чапляюць, а за барчык пастронкі, як аруць, барануюць ці бульбу ганяюць.* Каменка Уздз.

**БАРЫ́ЛАЧКА** *ж.* Заднёная з двух бакоў невялікая бочачка для вадкасцей. *Ты адно машыну спэўні, а ўжо барыш за мной будзе, гарэлкі нойдзіцца барылачка.* Порычы Валож.

**БАРЫ́ЛКА** *ж.* Тое, што і бары́лачка. *Яназьбірала поўную барылку бярозавага соку. Унучка як прыедзя, дык натта любя сок, сюдтуд і да барылкі.* Чабаі Валож.

**БАРЫ́Ш** *м.* **1.** Пачастунак (звыш умоўленай платы) за гаспадарча-бытавыя паслугі. *Трэба Тодару пастаўіць барыш, што добрую печ склаў.* Жораўка Пух. **2.** Заручыны. *Іван з Ганнай барыш пілі, на сёмуху вясельля будзя.* Жораўка Пух.

**БАРЭ́Т** *м.* Берэт. *У магазін чырвонінькія барэты прывязьлі.* Чабаі Валож.

**БАРЭ́ТКІ** *толькі мн.* Тапкі. *Новыя барэткі на ногі ды на вуліцу хуччэй.* Чэрвень Чэрв.

**БАСАТА́** *ж. Зб.* **1.** *неадабр.* Хлапчукі-свавольнікі, што чыняць шкоду. *Цэлую ноч не дае спакою гэта басата.* Кухцічы Уздз. **2.** *лаянк.* Галадранцы, басякі. *Ну й там віdзелі,*

*што я зарабіў шмат грошай, і басата захацелі іх ад мяне атабраць.* Любань Віл.

**БАСТРЫ́К** *м.* Рубель для ўціскання снапоў, сена, саломы на возе. *Уцісьніце бастрыком воз, а то снапкі паськіваюцца, як будзеце канаву пераіжджаць.* Рудня Чэрв.

**БАСЭ́ТЛЯ** *ж.* Бяднячка. *Прышоў я да гэтай басэтлі ў прымы.* Каменка Уздз.

**БАСЯ́К** *м. Лаянк.* Нягоднік, свавольнік. *Скончыў школу, а цяпер бегаіць, басяк, нікуды на работу не ўладкоўваецца.* Пудзіцк Пух.

**БАТ** *м.* Пуга. *Вот я табе батам зара калі стукну!* Палессе Мядз.; *параўн.* польск. bat 'тс'.

**БАТАРЭ́ЙКА** *ж.* Склеп. *Я ж дык і капусту, і агуркі на зіму ў батарэйцы стаўлю, там цёпла, не замярзае.* Будслаў Мядз.

**БАТАРЭ́Я** *ж. Жарт.* **1.** Шэраг аднародных прадметаў. *Бывала, батарэі сена стаяць, саломы, а цяпер дзе-нідзе стажок сена відаць.* Рудня Лаг. **2.** Штабель, складзены на полі з пластоў гною і торфакрошкі. *Складаюць длінную й высокую батарэю, коньмі ўзьяжджаюць, утоптваюць, а вясной развозяць.* Хожава Маладз. **3.** *перан., неадабр.* Непаваротлівая жанчына. *У яго не жонка — батарэя; як павернецца, усё ляціць.* Слабодка Стаўб.

**БАТО́Г** *м.* Тое, што і б а т. *Стары батогам папабіваў сына, сінякі паўсхватываліся.* Барок Стаўб.; *параўн.* польск. batog 'бізун'.

**БАТО́ЎЕ** *н. Зб.* Бацвінне. *На сягодняшні дзень батоўя зварылі, бо закрасы ўжо няма.* Халопенічы Круп.

**БА́ХНУЦЬ** *зак., аднакр.* Адрывіста выстраліць. *А тут як бахне раптам, аш у вушшу зазьвінела.* Узгурск Чэрв.

**БАХУ́Р** *м. Груб.* **1.** Байструк. *Нараджала бахуроў і гадуя.* Дукора Пух. **2.** *перан., незадав. Кошка залезла за печ, прывяла чэцьвера бахуроў, рыжуль некіх.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. з яўр.-ням. Bacher.

**БАЦ** *м.* Пацук (Ratus). *Бац улес у пастку і задушыўся.* Дукора Пух. *Горшай кары німа, як дзе бацы ўвядуцца.* Пруды Стаўб.

**БА́ЦАЦЬ** *незак.* Стукаць. *А было ж гэта ў лесе! Ну й бацала бочка аб дрэва!* Любань Віл.

**БАЦВІ́ННЕ** *н.* Буракі. *Саджалі тады агарот: капусту, бацьвіньне, маркоўку, мак.* Мацкі Мядз.

**БАЦЁНКІ** *толькі мн. Экспр.* Боты. *А бацёнкі калі нажывеш скураныя, дык бацька кажыць: ты мне ні шмартай, гэта ў цэркаў толькі.* Бакачы Мядз.

**БАЦЁХА** *ж. Кулін.* Зацірка. *А бацёха была вельмі смачная.* Мікольцы Мядз.

**БАЦІСТО́ЎКА** *гл.* бадзісто́ўка

**БА́ЦНУЦЦА** *зак.* Стукнуцца, ударыцца. *Як жа бацнулася бочка аб дрэва ды па клепачках і рассыпалася.* Любань Віл.

**БАЦЬКІ́** *толькі мн.* Бацькі. *Згарэла хата наша й бацькі паўміралі, нікога ні асталося.* Пагост Віл.

**БАЦЮ́ТА** *м.* Бацька. *Анна падобна на матку, а мяншуха — выліты бацюта.* Язні Віл.

**БА́ЦЮШКА** *м.* Поп. *Бацюшка быў і дзяк, яго памочнік. Быў і званар, біў у званы.* Бясяды Лаг. *У дванаццаць часоў зазвоняць званы, йдзе бацюшка. Атправіць бацюшка эту абедню, паспавядае людзей, папрычэшчвая, тады ўжо йдзе сьвяньціць.* Таўкачэвічы Уздз.

**БАЦЯ́Н[1], БУЦЯ́Н** *м.* Бусел. *Нашы дзеці былі бацяна злавіўшы, то кажды дзень хадзілі на балота жабаў яму лавіць.* Малмыгі Віл. *Бацян прыляцеў — будзя добрая вясна, шчасьлівы нажытак на землях нашых.* Баравая Пух. *Што гэта такоя, што бацяны кучкуюцца, шчэ ш ім рана.* Кабыльчыцы Валож. *На страсе буцян зноў зьвіў сабе гняздо.* Узгурск Чэрв.

**БАЦЯ́Н[2]** *м.* Бот. *Холадна было, а я ў бацянах дзіравых, нох ні чуў.* Вялікая Вуса Уздз.

**БАЦЯНКІ́** *мн. Бат.* Рагулькі (Delphinium). *Бацянкі на санажаці растуць, у гародзя німа, а на санажаці. Як цьвітуць, дак якрас як бацянок, дзюпка такая ўніс. Яны ёсь бапскія, а ёсь мушчынскія.* Няровы Валож.

**БА́ЧНАСЦЬ** *ж.* Мэта. *Ён бяз бачнасьці жыве.* Вялікая Вуса Уздз.

**БАЧО́К** *м.* Бляшаная з накрыўкай пасудзіна для пераносу і захавання малака і іншых вадкасцей. *Мая Анька поўны бачок ягат прынесла, трэба варэньня наварыць.* Савоні Стаўб.

**БА́ЧЫЦЬ** *незак.* ∇ **Бача вока далёка, а розум яшчэ далей.** Баркоўшчына Мядз.

**БАЮ́РЫНА** *ж.* Кар'ер, запоўнены вадой. *Унук ходзіць на балото, на рэчку, дзедзя баіцца, каб у баюрыну дзе ня ўсунуўся.* Савоні Стаўб.

**БАЯ́ЦЦА** *незак.* ◊ **Баяцца як агню** — вельмі баяцца. *Баяліся ўсе карнікаў як агню.* Бяларучы Лаг.

**БЕ́ГАЦЬ** *незак.* Заляцацца. *Мікалаішын старэйшы бегая за маёй унучкай, палюбіліся.* Вялікая Вуса Уздз. ◊ **Мурашкі па скуры бегаюць** — адчуваць дрыжыкі ад жудасці, страху. *Цяпер як гляну, як ліцяць аўтобусы ці таксі гэдак шыпка, дык аш мурашкі па скуры бегаюць.* Станькі Віл.

**БЕ́ГМА** *ж.* Багна, дрыгва. *Балота ў нас грускае, проста як у бегму ступаяш.* Вецярэвічы Пух.

**БЕЗГАЛО́ЎЕ[1]** *н.* Мор. *Некае безгалоўе ўвалілася — куры дохнуць. Сядзіць на куросаньні, грэбінь шчарнея і ўсё.* Бяларучы Лаг.

**БЕЗГАЛО́ЎЕ[2]** *н.* Звышдрэннае надвор'е. *Ну й безгалоўе: і дождж са снегам, і вецер халодны, і туманна.* Бясяды Лаг.

**БЕЗНАДЗЁЖНЫ** *прым.* Безнадзейны. *Гэтак увечары пагода была, а ўночы безнадзёжны дошч ліў.* Вялікая Вуса Уздз.

**БЕКЕ́ШАЧКА** *ж.* Адразная і прызбораная ў таліі сукенка. *Я ўжо настаяшчым падростач-*

*кам была, як мне, помню, пашылі с крэпіку сукенку, ды яшчэ бікешачкай. Ой, радасці было!* Пасынкі Мядз.

**БЕКЕ́ШКА** *ж.* Тое, што і бекéшачка. *Як тонкія, то бекешачка красіва сядзіць.* Восава Мядз. *Я ні люблю бекешак, у ёй выглядаіш, як капа сена.* Канстанцінава Мядз.

**БЕЛАБО́НЫ** *толькі мн.* Тое, што і балабóны. *Белабоны — ягады такія, інакш іх называюць дурніцы. Белабоны смашныя ягады, у нас іх не бралі, ня елі.* Муляры Віл. *Мой заяць як наеўся белабонаў, дак думалі, што здурнеў.* Чыжаха Бярэз.

**БЕЛАГАЛО́ВІК** *м.* Белакуры. *А хлапцы мяне абзывалі белагаловік за ніць белых валасоў.* Даўгінава Віл.

**БЕЛАЗО́РЫ** *прым.* Светлавокі. *Невысокі, насаты [жаніх], вочы белазорыя. Хаця і яна сабе нічога асобіннага.* Язні Віл.

**БЕ́ЛЛЕ** *н.* Тонкае хатняга вырабу кужэльнае палатно. *Такая спрытная рубашка вышла з бельля, прама заглядзеньня.* Бубны Віл. *З бельля то ні толькі кашулі, але і простыні шылі.* Мікольцы Мядз.

**БЕЛЬ**[1] *ж.* 1. Тое, што і бéлле. *Бель — гэта як суровае палатно, паляжыць пад дажджом да памокня ў рацэ, а тады на сонцы папарыцца — высахшы, і бель будзя.* Мікалаеўшчына Стаўб. 2. Адбеленыя кужэльныя ніткі. *А яшчо ніткі красілі: чорный, сіній, красный, красный і белый, белі называліся. Ткалі спаньніцы етымі ніткамі.* Весялова Круп.

**БЕЛЬ**[2] *ж.* *Спец.* Кашка з сырой аўсянай мукі і вады. *Каб ніткі былі белыя-белыя, іх у бель лажылі. Натаўкуць аўсянай мукі з вадой, а тады сувой раскруцяць і гэтай кашкай апкачываюць. І ждуць сколькі дней. А тады змываюць.* Задор'е Лаг.

**БЕЛЬЗІ́Н** *м.* Бензін. *Аблеяў більзінам хату немяц і патпаліў.* Вялікая Вуса Уздз. *Папрасі ў яго більзіну ў машыну.* Сядзіца Віл. *У яго ні трахтары, ні камбайны не стаялі, усягды бяльзіну хватае, саляркі паддастаткам, на яго і пратсядацель ні злаваў, як ён кладаўшчыком быў.* Савоні Стаўб.

**БЕ́ЛЬМЫ** *толькі мн.* *Экспр.* Вочы. *Так глянуў сваімі бельмамі, што аш страшна стала.* Бясяды Лаг.

**БЕРАГУ́ЛЬКА** *ж.* *Заал.* Берагавая ластаўка (Riparia riparta). *У нас тых ластавак завуць берагулькамі, што ў берагя робяць гнязда.* Дукора Пух.

**БЕРАЖЫ́СТЫ** *прым.* З яркім узорчатым беражком. *Купіла харошую беражыстую хусткачку, прыдзі, пакажу.* Саланая Валож.

**БЕРАЗА́К** *м.* 1. Бярэзнік. *Пад'яжджаючы пад Мінск, беразак быў мо на дзесяць вярстоў.* Вяркалы Пух. 2. Бярозавыя дровы. *Я сабе й бяразаку прывязу, нашто мне гэты асіньнік.* Каменка Уздз.

**БЕРАЗНЯ́К** *м.* Бярозавы пералесак. *Яшчэ лісічак па бару і беразьняках дужа многа ў нас.* Нядаль Барыс.

**БЕРАСЦЯ́НКА** *ж.* Штучная метка з бяросты. *Каб не перамяшаць сеткі, дзет прычапіў да сваёй берасьцянкі. А раніцай па берасьцянках ён хутка найшоў яе.* Чараўкі Мядз.

**БЕ́РВА** *ж.* Кладка з бярвення, памост. *Берву знесла вадою.* Вецярэвічы Пух.

**БЕ́РДА** *н.* *Ткац.* Бёрда. *У мяне нейдзе ішчэ валяецца кужоўнае берда.* Чабаі Валож.

**БЕ́РДЗІК** *м.* Тое, што і абéрдзіца. *Зламаўся бердзік, нада Зыдора папрасіць, каб зрабіў новы, а то бёрда рассыплецца.* Бубны Віл.

**БЕ́РДЗІЦА** *гл.* абéрдзіца

**БЕРКАВЕ́Ц** і **БЯРКО́ВЕЦ** *м.* *Уст.* Мера вагі, роўная 10 пудам. *Беркаўцом важылі штонебудзь такое, як сена, салома.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Купіла п бярковец сена, каб у каго напытаць.* Вялікая Вуса Уздз.

**БЕРКУЛЁЗ** *м.* *Мед.* Туберкулёз. *Чахотку ў нас беркулёзам завуць, а даўней сухоты ці чахотка.* Вецярэвічы Пух.

**БЕСКАЎНЕ́РКА** *ж.* Вязаны мужчынскі жакет без каўняра. *Мне кажыцца, што бескаўнерка — гэта толькі перавот грошай, нада бы з варатніком купляць, зваляіцца іна ў нас.* Якімаўка Круп.

**БЕСКУРКО́ЎКА** *ж.* *Паляўн.* Бескурковая дубальтоўка. *Бяскурковак зарас пашці няма.* Пруды Стаўб.

**БЕСПРАДО́ННЕ** *н.* Бездань, невымерная глыбіня. *Ня лезьця, дзеці, у беспрадоньня, а то патопіцеся.* Дукора Пух.

**БЕ́ШАНЫ** *прым.* Шалёны. *У нас летась у леся бешаны ліс карову ўкусіў.* Вецярэвічы Пух.

**БЗЫ́КАЦЬ** *незак.* Гаварыць неразборліва, са злосцю. *Чаго ты бзыкаеш сабе пад нос?* Вецярэвічы Пух.

**БІ́БІК** *м.* Мясцовая назва сініцы (Parus). *Мы кармушку зрабілі, дык да нас бібікі і вераб'і прыляцаюць.* Барок Стаўб.

**БІ́БЛЯ** *ж.* Тоўстая кніга. *Каб апісаў маю жызьню, цэлая бібля была п.* Бяларучы Лаг.

**БІЖУ́Р** *м.* Варта, дзяжурства. *Заўтра пайду на біжур у пажарную.* Пугачы Мядз.; *параўн.* польск. dyżur 'тс'.

**БІКЛА́ЖКА** *ж.* Тое, што і бары́лачка. *У біклашках некалі бралі ваду на поля.* Дукора Пух.

**БІ́ЛА** *н.* Спінка ў ложку. *У нашым лошку нікільныя білы.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БІЛІТРА́МА** *ж.* Аканіца. *Мусі-тка, білітрамы перакрасіць трэба.* Чыжаха Бярэз.

**БІ́ЛІЦА** *ж.* Бакавая скразная жардзіна для замацавання балясак у драбіне воза. *Зьвесь ногі праз біліцу, ямчэй сядзець будзе.* Чыжаха Бярэз.

**БІ́ЛЬЦЫ** *толькі мн.* Папярочкі, якімі зма-

цаваны станіны ткацкага варштата. *Трэба більцы заклінаваць, ля більцаў клінкі забіць, а то ўжо ні дзяржаць.* Ігрушка Круп.

**БІЛЬЧЫНА** *ж.* Тое, што і абе́рдзіца. *Зламалася більчына, трэба кап стары зрабіў, а так прыдзецца бёрда выкідаць.* Вішнева Валож.

**БІНДА́С** *м.* Цяслярская сякера. *Па-польску гавораць біндас, у нас такую сякеру, што адколвае трэскі, называюць сякера.* Вішнева Валож.; *параўн.* польск. bindas з ням. Bindaxt 'тс'.

**БІ́РКА** *ж. Уст.* **1.** Нешырокая дошчачка з нарэзамі. *Пракручаны ў гэтах жырках [палках] дзірачкі, усувалі ў іх вяровачку, да яе прывязавалі бірку. За бірку прывязавалі плёткі і вешалі на іх калыску зьверху.* Мацкі Мядз. **2.** Зашпілька ў выглядзе кавалачка дрэва замест гузіка. — *Ушый мне бірку ў штаны, а то скора згублю.* Малмыгі Віл. *А цяпер зноў варочаяцца мода на біркі, я сама бачыла курткі зь біркамі.* Дукора Пух.

**БІ́ТВА** *ж.* Бойка, сутычка. *Як устроілі бітву, дык ледзь разьнялі.* Грабёнка Чэрв.

**БІ́ТКА** *ж. Абрад.* Яйка, спецыяльна адабранае (па моцы) для гульні ў бітку. *На бітку выбіраюць моцнае яйка, бо моцным многа выйграеш яец.* Грышкавічы Віл.

**БІЦУ́К** *м. Зневаж.* Гультай. *От біцук гэты, ходзіць адно па сяле, нічога не робіць.* Ляхавічы Дзярж.

**БІ́ЦЦА** *незак.* Бадацца. *Карова б'ецца, ніяк ні прыступіцца, кап падаіць. Я з-за таго прадала, што б'ецца.* Дукора Пух. ◊ **Біцца як рыба аб лёд** — гараваць, дарэмна дабіваючыся лепшага. *Я, бывала, б'юся як тая рыба аб лёт — мне й касіць, і насіць, і жаць, і ткаць, а ў яго ўсягды козы ў золаці.* Язні Віл.

**БІЦЬ** *незак.* **1.** Абіваць, абмалочваць. *Лён білі пранікамі, каб адзьдзяліць галоўкі ад сьцяблоў.* Забалоцце Смал. *Мне і дачка памагала біць лён.* Папоўцы Віл. **2.** Пярыць. *Вазьмі пранік і памажы мне біць пасьцілкі.* Ігрушка Круп. *Кросны білі пранікам.* Аздзяцічы Барыс. **3.** Дзяўбці долатам навылётныя дзіркі. *Цэлы дзень дзіркі білі.* Дукора Пух. ◊ **Біць бінды (лунёў, лынды)** *асудж.* — нічога карыснага не рабіць, гультаяваць. *Наташа падручылася памагаць цётцы рас у дзень даіць кароў. Схадзіла тры разы і ні хачу — цяшка. Бінды б'е цэлы дзень.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Цэлы ж дзень лынды б'е, што зь яго будзя, не ведаю.* Рудня Чэрв. *А што там у горадзі рабіць ім? Лунёў біць? Хіба гэта работа?* Язні Віл.

**Біць пласты** — пластаваць. *Трэба складаць копы, а няма каму біць пласты. Некалі так пласты зьбівалі, што ніколі капа ні замакала.* Саланая Валож.

**БІЧО́ЎКА** *ж.* Ёмкая, замашная палка. *Узяла во бічоўку ды абіваю лён.* Палачаны Маладз.

**БЛА́ГА** *прысл.* Дрэнна, непрыгожа. *Ён блага піша.* Палачаны Маладз.

**БЛАГАДА́РСТВАВАЦЬ** *незак. Высок.* Дзякаваць. — *А як жа здароўечка тваё цяпер? Як там твая старая маецца? — Благадарствую. Пакуль што нічога.* Порычы Валож.

**БЛАГАДА́ЦЬ** *ж.* Раскоша, любата. *Не, цяпер благадаць. Нам, старыком, за Савецкую ўлась такую далі паддзершку, пэнсію далі, адно жыві.* Новікі Мядз.

**БЛАГАТА́** *ж.* Калатня. *Ён натта раўнівы. Вот на таго паглядзела, з гэтым загаварыла, вот і пайшло, і пайшло, а ў хаце благата.* Язні Віл.

**БЛАКАВЫ́** *у знач. наз.* Начальнік блока. *Блакавыя нас б'юць, а патом на работу гонюць.* Ухвала Круп.

**БЛАШЧЫ́ЦА** *ж. Заал.* Клоп (Himiptera, Heteroptera). *Блашчыцы ў сьценах вядуцца, кусаюцца.* Пруды Стаўб.

**БЛЕ́ДНЫ** *прым.* Худы, сухі, вялы. *А як радзіла, то такая была бледная, што губы ў мяне не закрываліся.* Вецярэвічы Пух.

**БЛЕ́ЎТАЦЬ** *незак.* Балбатаць. *Блёўтае і блёўтае, памаўчаў бы хвіліначку, даў бы другім сказаць.* Рудня Чэрв.

**БЛІЖА́ЮШЧЫ** *у знач. наз.* Жыхары навакольных вёсак. *І гэтыя, каторыя бліжаюшчыя, ідуць на поля і зганяюць етых далёкіх людзей, каторых прывезьлі, б'юць дупцамі: „ня йдзеця на работу, хай пан дае боляй грошай, тагды будам рабіць яму".* Дрычын Пух.

**БЛІЖНЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш блізкі, раднейшы. *Можа там хто бліжнейшы е, дак свайго скарэй устрояць.* Цялякава Уздз.

**БЛІ́ЖЫ** *прысл.* Бліжэй. *Калі я падышла бліжы, то я ўбачыла, што гэта быў сагнуты стоўп.* Ухвала Круп. *А фронт усё бліжы, усё бліжы, мы ш чустуім, мы знаім, што фронт бліжы, што йдуць нашы.* Там жа.

**БЛІЗІ́Р** *м.* Забава, пацеха. *Гуляе сабе, есь, п'е. Для блізіру выходзіў кожны вечар на ганак і глядзеў на неба, быццам задачу рашаў.* Ракашычы Уздз.; *параўн.* фр. plaisir 'тс'.

**БЛІ́ЗКА** *прысл.* ◊ **Ані блізка** — нізашто. *Цягну, цягну яго дамоў, а ён ані блізка.* Аляхновічы Маладз.

**БЛІЗНА́** *ж. Ткац.* Брак у палатне, калі ніткі асновы ідуць зверху без ператыкання. *Яна акуратна ччэ, рэтка было, кап ткучы яна блізну зрабіла.* Вецярэвічы Пух. *Як нітка парвецца, з бёрда вылязе, тады блізна.* Нізок Уздз. *За блізну маці па руках біла.* Вецярэвічы Пух. *А бывае і такоя, калі парвецца нітка асновы, палатно тады някачысьцьвінная будзіць. У нас кажуць: блізны ня мінувала ў кроснах.* Якімаўка Круп.

**БЛІ́ЗНАЧКА** *ж. Памянш.* да блізна́. *Тады*

[бабы] *кажуць: „Ай-ёй, от Крыстыніна палатно харошая. Тонінькая, ды ні блізначкі, нічога".* Ластаянцы Валож.

**БЛІЗНЮКІ** *мн.; адз.* **блізнюк** *м.* **1.** Блізняты. *Наша дачка радзіла блізьнюкоў, дык вельма цяшка гадаваць.* Кукалеўка Чэрв. *У цёткі былі блізьнюке, але 'дзін памёр.* Пруды Стаўб. *Анюціныя блізьнюкі ўжо вялікія і натта падобныя.* Бытча Барыс. **2.** *перан.* Двайная баразна. *Ніяк ня выкраіш, усіроўна блізьнюкі палучаюцца. Калі харошая картошка расьцець у блізьнюках, а іншы рас — плахая.* Малмыгі Віл. *Калі на дзьве баразны ні хваціць, то садзіцца блізьнюк.* Мацкі Мядз.

**БЛІН** *м.* ◊ **Блін маляваны** *кулін.* — блін з кіслага цеста, намазаны тоўчанымі каноплямі. *Бывала, лепшая яда ў нас такая: напякуць кіслых бліноў, пераверняш блін на той бок, які толькі што пёкся на скаварадзе, намажаш канаплямі тоўчанымі — вот і ядзім бліны маляваныя.* Хожава Маладз.

**БЛІНО́К** *м.* Мочка. *Цяшкая завушніца, аш блінок разарвала.* Вецярэвічы Пух.

**БЛІНО́ЎКА** *ж.* Блінцоўка. *Памый, дачушка, бліноўку, а я бацьку кайстру зьбяру.* Суцін Пух.

**БЛІСКО́НЦЫ** *прым.* Бліскучы. *Бліскончыя касьнікі ўплецены ў косы.* Пруды Стаўб.; *параўн.* польск. błyszczący 'тс'.

**БЛІСКУ́ХА** *ж.* Посцілка ўзорамі з блішчастых нітак. *А мае бліскухі харашэйшыя за твае.* Каменка Уздз. *Многа работы над гэтымі бліскухамі, яны ш с узорамі.* Кухцічы Уздз.

**БЛІШЧА́СТЫ** *прым.* Бліскучы. *На восьмае марта прывёс хустку ў блішчастыя лапкі.* Цялякава Уздз. *Я ні люблю блішчастых гузікаў.* Кухцічы Уздз.

**БЛОНД** *м.* Памылка. *Толькі пішы добра, без блондаў, старайся, а то научыцелька не пахваліць.* Чараўкі Мядз.; *параўн.* польск. błąd 'тс'.

**БЛОХ** *м. Заал.* Блыха (Aphaniptera, Suctoria). *Вой, на нагу блох скокнуў.* Вішнева Валож.

**БЛО́ЦІЦЦА** *незак.* Псавацца, нішчыцца. *Шафа наша натта нівялікая, дык уся адзежа толькі блоціцца.* Канстанцінава Мядз.

**БЛУ́КАЦЦА** *незак.* Згубіўшы арыенціроўку, хадзіць у пошуках выйсця. *Ну, яму ўдалося ат фашыстаў уцячы. Блукаўся ён цэлую ноч да раніцы, пака ён да свайго берагу даблукаўся, да прышоў ён к нам пад паўдня.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**БЛУ́ТАЦЦА** *незак.* **1.** Сланяцца, блукаць. *Дык яна паблуталася дзень і прышла.* Дукора Пух. **2.** Блытацца. *Ніткі блутаюцца, хоць плач.* Вецярэвічы Пух.

**БЛЫ́НДАЦЬ** *незак. Экспр.* Хадзіць без работы. *Толькі і работы ў яе, што блындае цэлы дзень.* Татаршчына Стаўб.

**БЛЫ́ТАЦЦА** *незак. Неадабр.* Сланяцца, блукаць. *Дзе ты толькі блытаўся да гэтай пары?!* Раўчак Пух.

**БЛЭ́НДАЦЬ** *незак. Экспр.* Хадзіць без мэты, сланяцца без справы. *Ня блэндай там, ні цігайся доўга. Чаго блэндаць?* Ігрушка Круп.; *параўн.* польск. błądzić 'тс'.

**БЛЮ́ДАЧКА** *н.* Сподачак. *Пакладзі вылівак у блюдачка, курыца нешта стала адны выліўкі несьці.* Гарадок Маладз.

**БЛЮ́ЗКА** *ж.* Блузка. *Надзела ўчора новаю блюску да пад дож папала.* Канстанцінава Мядз. *Зьмяні ты гэтую блюску на чысьцейшую.* Сакаўшчына Валож. *Вельмі ш стракатая твая блюска.* Вішнева Валож. *У хаця с крамнага мацяр'ялу было нам на траіх дзьве блюскі і па аднэй спадніцы.* Суднікі Валож.

**БЛЮ́ХНУЦЬ** *зак. Аднакр.* Лінуць, хлынуць патокам. *Як блюхне дошч, дык усё сена сапсуе.* Каменка Уздз.

**БЛЯША́НКА** *ж.* Тое, што і адстойка. *Я сьвежая малако кажан рас у бляшанку зьліваю, сама харашо.* Чабаі Валож.

**БО́ЕЦ** *м.* Калатоўка ў бойцы. *Масьлёнка — гэта такая высокая дзежачка с крышкай і бойцам. Бойцам гэным і зьбіваюць масла.* Якімаўка Круп.

**БОЙЧ** *м.* Тое, што і бат. *Што гэта за дзелаісьці так, бойч узяў бы.* Пугачы Мядз.

**БОК** *м.* ◊ **На бок** *гумар.* — адпачываць, спаць. *Як я стары, застаўся без ніводнішняга зуба, дык старую прашу, каб варыла кашу бульбяную, добра яе глытаць. Наглытаюся і на бок.* Калодкі Віл. **Ні ў той бок** — нізашто, ні пры якіх умовах. *Чытаць Саша ані ні хоча, ні ў той бок, а каля машыны прападае цэлы дзень.* Валеўка Навагр. **Пад бокам** — зусім блізка. *Кап крама дзе далей была, а ю тут, пад бокам, дзе там не сходзіш пагглядзець, калі час маеш.* Язні Віл.

**БО́ЛБАЦЕНЬ** *м. Зневаж.* Балбатун. *Калі ты ўжо, болбацень, перастанеш балбатаць?* Каменка Уздз.

**БО́ЛІ** *прысл.* Болей. *Не хадзі болі туды, бо буду сварыцца.* Краснае Маладз. *Болі зімаваць у гэтай хаці німа як: таплю, таплю, а на печы німа як ляжаць марозам вялікім.* Халмоўка Барыс.

**БО́ЛТКА** *ж.* Тое, што і балта́к. *Любілі мы езьдзіць з рыбакамі. Дадуць яны нам болткі, што заганяюць рыбу, а мы стараімся з усіх сіл.* Пасынкі Мядз.

**БО́ЛЬШАНКА** *ж.* Шаферка. *Прыедуць да маладога, малады даець вячэру — вотка маладога, а большанкі ад маладой вязуць сваю закуску.* Мечаі Віл.

**БО́ЛЬШЫ** *прым.* Старэйшы. *Большы хлопяц прыкасьцюміўшыся: касьцюм новы, паліто.* Дукора Пух.

**БО́МА** *ж.* Прыстасаванне для затрымліван-

ня плыта. *Бома — зьвязаныя бярвеньні, іх ставяць упоперак ракі, кап спыніць хот сплаўляемых бярвеньняў. Бому вязалі з трох бярвеньняў, бомы плытэ не пускаюць.* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* літ. búomas 'рычаг' < ням. дыял. bōm 'палена, жэрдка'.

**БО́МКА** *ж. Спец.* Рычаг для падняцця груза. *Як доўгая бомка, дык лягчэй падважваць.* Вялікая Вуса Уздз.

**БО́НДА** *ж.* 1. Бохан хлеба. *Купі і мне бонду хлеба.* Вецярэвічы Пух. 2. Праснак. *Сьпячэш бонды, дык хлебу спарней, ня трэба за ім бехчы кожны дзень.* Няровы Валож. 3. Пірог, белая булка. *К сьвяту бонду сьпяку, толькі мукі пшанічнай купіць трэба. Уперат толькі ш па сьвятах бонды елі, цяперака кажан дзень — сьвята.* Чабаі Валож.; *параўн.* літ. bandà 'тс'.

**БОР** *м.* Стары хваёвы лес. *Бор — эта жывы хвойнік.* Вецярэвічы Пух.

**БО́РАЎ** *м.* Парсюк. *Баравоў вазілі здаваць.* Ляшчынск Мядз.

**БО́РЗДА** *прысл.* Шпарка, хутка. *Як есьці, дык во борзда ўсхапіўся з лошка, а як да работы, дык як ніжывы пхнецца.* Палачаны Маладз.; *параўн.* польск. bardzo 'тс'.

**БО́ЎДЗІЛА** *н. Пагард.* Недарэка, разумова адсталы чалавек. *Боўдзіла гэта, а шчэ й задаецца.* Дукора Пух.

**БО́ЎТАЛА** *н.* Тое, што і б а л т а́ к. *Боўталам заганяюць рыбу ў сетку.* Дукора Пух. *Лавіць рыбу зьбіраіцца тры чалавекі, два вядуць сетку, а трэці боўталам палохая рыбу, заганяя ў сетку.* Вецярэвічы Пух.

**БО́ЎТАНКА** *ж.* Пойла цялятам. *Цялята шчэ малыя, то трэба боўтанку варыць і выпойваць.* Вялікая Вуса Уздз.

**БО́ЎТАЦЦА** *незак. Неадабр.* Круціцца пад нагамі, перашкаджаць. *Чаго ты боўтаясься пад нагамі?* Каменка Уздз. *І чаго во боўтаецца чалавек, заняўся б чым, а то так таўчэцца па хаці.* Дукора Пух.

**БО́ЎТНІК** *м.* Вясло. *Я ш табе казоў, боўтнік і вуды ў лоцы ляжаць.* Вецярэвічы Пух.

**БО́ЦІКІ СІ́НІЯ** *бат.* Гарычка лёгачная (Gentiana pneumonathe). *Боцікі растуць на лузе, у хмызьняках лясных. Сьцябло прамое, кветкі сінія.* Вішнева Валож. *Некалі боцікі і я рвала ў лесі, калі была маладая.* Нізок Уздз.

**БРА́ГА** *ж.* Сілас. *Добрая брага атрымалася ў гэнай яме, прыемны пах, каровы папоўніцы ядуць.* Шацк Пух.

**БРАДА́ВЫ** *прым.* Мелкаводны. *Мы ведаем брадавога і небрадавога шчупака. Брадавы шчупак, каторы на мелкаводдзі жыве.* Ляхавічы Дзярж.

**БРА́ДЗЕНЫ** *дзеепрым.* Пазычаны. *Гэта ні маё рэшата, а брадзяная.* Каменка Уздз.

**БРАДЗІ́ЦЬ** *незак.* То выходзіць з-за хмар, то хавацца ў хмарах (пра сонца, месяц). *Сёньня во сонца брадзіць, у хмары хаваецца.* Арцюхі Стаўб.

**БРАЖНІ́К** *м.* Сіласная яма. *Бражнік быў глыбокі, добра плёнкай закрылі, утрамбавалі, то й брага добрая.* Шацк Пух.

**БРА́ЗГАЎКА** *ж.* Бразготка. *Мой хлопчык вельмі любіць бразгаўкі, накупілі яму.* Суднікі Валож.

**БРАЗГУ́ХІ** *толькі мн.* Бомы, званочкі. *Цяперашнія коні не прывыклі да бразгухаў.* Чабаі Валож.

**БРАЗДЖЭ́ЦЬ** *незак.* Бразгатаць. *Малыя сёньня як пачалі браждзжэць пад вокнамі, дык спасеньня не было.* Цярэшкі Барыс. *Дай малому цацку, то будзя браждзжэць і забаўляцца.* Малое Стахава Барыс.

**БРАЗКУ́ШКІ** *толькі мн.* Тое, што і б р а з г у́ х і. *Бывала, бубен быў з бразкушкамі, так весіла, як пачнуць іграць.* Ігрушка Круп.

**БРАКО́ВЫ** *прым.* З бракам, пашкоджаны. *Бульба ўся браковая, ніяк каструлькі ні начышчу.* Ігрушка Круп.

**БРА́МА** *ж. Абрад.* Штучнае надбудаванне з вецця бярозы, дзеразы па-над варотамі ў двары маладой у дзень вяселля. *Мо замуш ідзеш, то браму зробім.* Вішнева Валож.

**БРАНДЗО́ВЫ** *прым.* Бурачковы. *У яе была хустка брандзовая з махрамі.* Арцюхі Стаўб.; *параўн.* польск. brązowy 'бронзавы'.

**БРА́СКАЦЬ** *незак.* Бразгаць. *Што ты не пасядзіш, не загуляесься нідзе, дзьверы гэтыя толькі браскаюць, сюды-туды шэндаісься.* Бытча Барыс.

**БРА́ТАВА** *ж.* Жонка брата. *Братава як прыяжджыла, столькі малым і нам падаркаў прывезла. Добра братава ў нас.* Вецярэвічы Пух.

**БРАТАВУ́ХІ** *толькі мн.* Жонкі родных братоў. *Адны братавухі засталіся — Даніха і Алешча.* Савоні Стаўб.

**БРАТА́НКА** *ж.* Пляменніца, братава дачка. — *А яе братанка ці жыве?* — *Жыве. Трое дзетак мае.* Савоні Стаўб.

**БРА́ТАЧКІ** *толькі мн. Бат.* Браткі (Viola L.). *Братачкі завуць яшчэ брат і сястра, яны ў кустах па лесе растуць.* Малмыгі Віл. *Братачак многа і на сенакосе, сінім цьветам цьвітуць.* Саланая Валож.

**БРА́ТНІ СЫН.** Пляменнік. *Братні сын у інсьцітуці вучыцца.* Вязынка Маладз.

**БРА́ТНЯЯ** *у знач. наз.* Пляменніца. *Трэба ў хаці трошка прыбраць, бо на етай нядзелі братняя к нам прыедзя.* Рудня Чэрв. *От калі мая братняя замуш ішла, дошч вялікі-вялікі быў, усе вясельнікі вымаклі.* Кукалеўка Чэрв.

**БРАХА́ЦЬ** *незак. Груб.* 1. Балбатаць, пустасловіць. *Вось ужо брэша дык брэша, як у яе толькі язык паварочваецца.* Каменка Уздз. 2. Хлусіць, маніць. — *Мама, ня вер яму, ён усё табе брэша, я яго сама там бачыла.* Дукора Пух. *Не брашы, ніхто табе не паверыць.* Кукалеўка Чэрв. *Слухайця вы яе, яна вам будзя*

4. Зак. 5795.

*брахаць тры карабэ.* Палачаны Маладз. ◊ **Скура брэшыць** *на кім-н.* — дрэнна паводзіць сябе хто-н. *Яна ш і раней была распусная, а цяпер, матачка боская, на ёй жа скура брэшыць.* Язні Віл.

**БРАХУ́Н** *м. Пагард.* Ілгун, манюка. *Брахун гэты, толькі і ўмее, што маніць.* Кукалеўка Чэрв. *А ты меньш яго, брахуна гэтага, слухай, а то разьвесіш вушы і сядзіш.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БРАХУ́ХА** *ж. Экспр.* Частушка. *Яна як запяе, бывала, брахухі, усе дзеўкі і хлопцы на вуліцу павыходзяць і слухаюць.* Жораўка Пух.

**БРАЦЕ́ЛЬНІК** *м.* Стрыечны брат. *На сьвята брацельнік мой меўся прыехаць, але цётка, яго маці — сястра майго бацькі, прыхварэла і прышлося застацца зь ёю.* Узгурск Чэрв.

**БРАЦЕ́НІК, БРАЦЕ́ННІК** *м.* Тое, што і б р а ц е́ л ь н і к. *Іван табе брацеьнік прыходзіцца. Я ў Гапонавічы завяла яго, там брацеьнік на канікулы прыехаў — весялей яму.* Ігрушка Круп. *Я на Жэньку свайго: „Жэнька, паглядзі, можа Марцін [гэта брацэнік]". Ён выскачыў і кажа: „Мамачка, поўна гітлераўцаў".* Каранец Бярэз.

**БРАЦІ́ХА** *ж.* Братава жонка. *Брациха ў мяне благая была, вечна сварылася.* Рудня Лаг. *Мая брациха робіць пры таргоўлі.* Жораўка Пух. *Жонка брата брациха прыходзіцца.* Ігрушка Круп.

**БРА́ЦЦА** *незак.* Падыходзіць. *Яму ўжо пат сто гот бярэцца, ён шмат чаго ведая, памяць шчэ добру мае.* Каменка Уздз. ◊ **Брацца гноем** — нагнойвацца. *Кажа, што ў носі ўжо міндалі гноям бяруцца, трэ чысьціць класьціся ў бальніцу.* Вялікая Вуса Уздз. **Брацца за папругу** — прыгразіць біццём. *Бацька накрычаў на мяне, нават за папругу стоў брацца.* Суднікі Валож. **Брацца на кулакі** — біцца. *Бывала, крычаць, аш чуць на кулакі не бяруцца.* Дукора Пух. **Брацца ў борушкі** — мерацца сілаю, дужацца, барукацца. *Ён жа сільны-сільны. У борушкі браўся тут з мушчынамі, дык усіх чыста абваліў.* Язні Віл.

**БРАЦЬ** *незак.* Спорна працаваць, завіхацца. *Я сёньня брала, брала, гэта думаю, ужо хоць бы кончыць, хоць бы заўтра яшчэ ня йсьці.* Кукалеўка Чэрв. ◊ **Браць за бакі** *каго-н.* — дакараць каго, сварыцца на каго. *Сёньня мужык цэлы дзень бярэ мяне за бакі, што напусьціла кварціранта́ў — вельмі ш малы іх урэдны. Як выдзя гуляць — за мінуту паб'ецца з нашымі.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Браць за душу (сэрца)** — выклікаць шчымлівы смутак, душэўны боль або расчуленасць, замілаванне. *Як цётка дарыла мне, дак падбяжыць да стала ды пае мне: „Да сядзіць Надзячка за сталом. Да цякуць сьлёзачкі ручаём. А на яе мамачка пазірая Ды як боб сьлёзачкі раняя". Ну я ўжо й разьехалася пры гэтуй песьні. Вядомо, сірата, бацька німа, а як стануць гэдакія песьні пець, дак за душу бярэ.* Загор'е Карэл. **Браць за плечы** — адчуваць холад. *Мяне нешта сёньня вельмі за плечы бярэ.* Вялікая Вуса Уздз. **Браць на пуп** — фізічна напружвацца, цяжка працаваць. *Вазіць лягчэй ці сена, ці канюшыну. Воз наклаў, а з воза сапхнуў і гатово. А тарпаваць цяжэй, бяры й бяры на пуп.* Валеўка Навагр. **Браць след** — высочваць звера. *Быў у мяне добры сабака: сам браў сьлет.* Забалоцце Смал. *Посьля двух пошукаў сабака ўзяў-такі сьлет.* Нізок Уздз.

**БРАЦЯ́ТКІ** *толькі мн.* Тое, што і б р а́ т а ч к і. *Брацяткі растуць. Цьветам як румянак цьвіце, але трох колераў: лапачка белінькая або сінінькая, ружовінькая, жоўцінькая. Іх бяруць за кветкі садзяць.* Няровы Валож. *Брацяткі растуць на палях, на лугах, утвараюць сплашныя зарасьлі.* Палавікі Мядз.

**БРОГ, БРОК, БРЭХ** *м.* Збудаванне на сена, салому ў выглядзе чатырох слупоў і рухомай стрэшкі. *Прыстала я сёньня, сена ў брох складалі.* Каменка Уздз. *Будзем класьці сена ў брок, нам дош не памяшае. Да вайны ўсё сена было ў бракох.* Ляхавічы Дзярж. *Закопваюць чатыры сталбэ, чапляюць крышу, і палучаецца брэх.* Нізок Уздз. *Нясеця скарэй сена пад брэх, бо вон хмара находзіць.* Вялікая Вуса Уздз.; *параўн.* польск. bróg 'тс'.

**БРО́ДЗЕНЬ** *м. Рыб.* Маленькі невадок лавіць рыбу ўброд. *Бродзень вядуць два чалавекі, скружваюць і ловяць бродзінем любую рыбу. Бродзень — выгадная снасьць, малая.* Мікольцы Мядз.

**БРО́МКА** *ж.* Веснічкі, прахадныя варотцы. *Зачыні бромку, шчэ чыя карова ўсуняцца.* Каменка Уздз.

**БРО́ХНУЦЦА** *зак.* Кінуцца, паваліцца. *Брохнуўся на канапу і ляжыць.* Савоні Стаўб.

**БРУД** *м.* Гной (пры нарывах, ранах). *У нас не кажуць гной, а кажуць бруд.* Паплавы Бярэз.

**БРУДВА́ГА** *ж.* Грунтвага, ватэрпас. *Нужна точна ставіць рамку пад брудвагу.* Вішнева Валож.

**БРУДНАТА́** *ж.* Гразь, гразішча. *Тата мяне возьме на плечы й панясе: па гэтуй бруднаце ні было ў чым хадзіць, а тая школа далёка.* Забар'е Віл.

**БРУ́НТА** *ж.* Ворчык. *Як будзіш каня запрагаць у плух, брунты ні забудзься.* Вішнева Валож.; *параўн.* літ. brañ(k)tas 'частка збруі'.

**БРУСЛЕ́Т** *м.* Бранзалет. *Дзеўка была анна фанабэрыстая. Яны трохі багацейшыя за ўсіх у сяле былі, брусьлет залаты на руцэ насіла і на шыі шчэ нешта.* Бяларучы Лаг.; *параўн.* фр. bracelet 'тс'.

**БРУ́СНІК** *м. Абрад.* Шафер. *Заслалі рушнік, пасыпалі жыта, пасталі; былі ў мяне*

*друшкі, а ў яго брусьнік быў, і вянец трымалі.* Дрычын Пух. *Брусьнік сядзіць каля жаніха, заводзіць гульні, песьні.* Рудня Лаг.

**БРУСО́К** *м.* Стаўпец у граблі. *Учора нарэзаў бруској на граблі.* Дукора Пух. *У брусок па дзесяць зубо́ў садзяць.* Вецярэвічы Пух.

**БРУ́ШКА**[1] *ж. Зб.* Караняплоды бручкі. *Брушкі чатыры мяшке накапалі.* Цялякава Уздз. *Маленькі загончык брушкі пасадзіла на сотках, але харошая парасла.* Астравок Уздз.

**БРУ́ШКА**[2] *н.* ∇ **Каб хоць маці родная, а то ж мачыха, натта ж ёй хочацца дзяржаць пры сабе паччарку. Як тыя людзі кажуць: не балела брушка, не баліць і душка.** Язні Віл.

**БРУШКО́ЎНІШЧА** *н.* Месца, дзе расла бручка. *На брушкоўнішча нельга пушчаць каровы, а то можа каторая падавіцца. На брушкоўнішчы астаецца многа порчанай брушкі і кускоў вялікіх.* Цялякава Уздз.

**БРУШНІ́ЦЫ** *мн. Бат.* Брусніцы (Vaccinium vitis idaea). *У нас і ягады розныя растуць. Спачатку суніцы, чарніцы, маліна, тады брушніцы, журавіны.* Жартайка Барыс.

**БРЫВІНА́** *ж.* Брыво. *Брывіна ў нас кажуць, а не брыво.* Рудня Лаг.

**БРЫГАДЗІ́РКА** *ж. Жан.* да брыгадзір. *Прыехала да нас брыгадзірка новая, барышня харошая, маладая.* Залазоўе Віл.

**БРЫДЗЮ́К** *м.* Брыда, неахайны. *Хлопец мой, брыдзюк такі, быў на вясельлі да насадзіў сабе плямаў на касьцюм, цэлы дзень чысьціла.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БРЫДКІ́** *прым.* Непрыгожы з выгляду, брыдкі. *Яна дала на запавядзь, патом агледзялася, што ён натта брыткі. Плача, галасуя, кляне: як эта я пайду за такога брыткога.* Кукшавічы Дзярж. *Яе дачка натта брыткая.* Пудзіцк Пух.

**БРЫЖЫКІ́** *толькі мн. Памянш.* Мохрыкі. *Выцягнеш брыжыкі — от і настольнік гатоў.* Хожава Маладз.

**БРЫЗІ́НА** *ж. Бат.* Брызгліна (Euonymus). *У брызіны ліст нападоб'я як у сьлівы, а драўніна не ламаецца, некалі рабілі пруткі ў чоўнік, цьвікі шавецкія.* Вецярэвічы Пух.

**БРЫЗЯНТО́ВІКІ** *мн.; адз.* **брызянто́вік** *м.* Парусінавыя або брызентавыя туфлі. *Босая хадзіць не магу, ногі баляць, у чаравіках цяжка, нада, мусіць, брызянтовікі купляць.* Канстанцінава Мядз. *У брызянтовіках летам добра натта, як куды далёка йсьці, ногі не забаляць.* Чабаі Валож. *У мяне брызянтовікі былі, гэта лічылася, што багатая дзеўка.* Любань Віл.

**БРЫЗЯНТО́ЎКІ** *мн.* Тое, што і б р ы з я н т о́ в і к і. *Куды ты ў гэтых стоптаных брызянтоўках пойдзеш, у іх адно на работу можно хадзіць.* Горкі Стаўб.

**БРЫК** *выкл.* Скок. *Гітляровец толькі стаў у дзьвярах, нешта там стаў пароцца ў аўтамаце, ляскаць, а я гэтым маментам брык за маму.* Снягла Віл.

**БРЫ́КАЦЦА** *незак.* Упарціцца, упірацца. *Дык ён хадзіў, доўга хадзіў да брыкаўся: вельмі ня хацеў рабіць кладаўшчыком.* Дукора Пух.

**БРЫ́КСА** *ж. Бат.* Курынае проса, брыца (Echinochloa). *Змалку вучыся траўкі розныя разумець. Во брыкса. А то канапелька, дросінь. А гэта ў нас асот. Макрыца ёсць. А гэту брыксай завуць, у кукурузі расьце, бо любіць мокрае.* Бяларучы Лаг.

**БРЫЛЬ**[1] *м.* Капялюш саламяны. *Матка кажыць: „Табе, сынок, толькі брыля ні хапаіць, тады п ты быў первы парынь па дзярэўні". А ён і брыль надзеў, а ўсі роўна ні пратставіцільны, бо дужа маліныкі.* Якімаўка Круп.

**БРЫЛЬ**[2] *м.* Выступ у печы, утвораны радам цэглы. *Калі німа на брылю сьпічак, то шукай у скрынцы.* Чыжаха Бярэз. *Я на брыль лажыла кусок мыла, падай яго мне.* Вецярэвічы Пух.

**БРЫЛЬ**[3] *м.* Фальбона. *Брылі, кажуць, і хвальбоны, гэта ўсё роўна.* Ратуцічы Барыс.

**БРЫЛЬЁН** *м.* Альбом. *І даўна моладзь купляла брыльёны і запісывала ў іх песьні, вершы любоўныя.* Будслаў Мядз.; *параўн.* польск. brulion 'блакнот'.

**БРЫ́НДА** *м.* і *ж. Асудж.* Бадзяга, не заняты працай чалавек. *Ты дзе, брында, цягаўся? Усе хаты абышоў? О, пайшла ўжэ брында цягацца с хаты ў хату. Пакуль да канца сяла не дойдзе, дамоў ні верняцца.* Раўчак Пух.

**БРЫ́НДАЦЬ** *незак. Экспр.* Совацца без пільнай патрэбы; сланяцца, нічога не робячы. *Дзе ты брындаў цэлы дзень?* Саланое Віл.

**БРЫ́НДЫ** *толькі мн.* **1.** Махры, кутасы. *Купіла сабе хустку з брындамі. Харошая хустка з брындамі шолкавымі.* Саланая Валож. *Ой, Ганначка, якую прыгожую хустку купіла я, і з брындамі.* Талуць Віл. **2.** Аздобы ў выглядзе махроў. *Замест хусткі на галаву пасьцілку з брындамі завязавалі вузлом на сярэдзіне галавы. З гэтай хусткі пасьля, як вышлі з моды, можна было дзьве вялікія наўлечкі пашыць.* Глебаўшчына Лаг. **3.** Лахманы. *Вокны былі без занавесак, а ноччы, каб з вуліцы ні відаць было, брындамі закрывалі.* Славічы Мядз. **4.** *перан.* Стаптаныя чаравікі. *Абуй брынды ды хадзі сабе па двары.* Вялікая Вуса Уздз.; *параўн.* польск. bryndy 'дарагая жаночая вопратка'.

**БРЫ́НДЗЫ** *толькі мн.* Махры ў падоле старога адзення. *Але ж вот страпаў пальто — усе полы ў брындзах.* Раўчак Пух.

**БРЫСЬ** *м.* Чырванашчокі, паўнатвары. *Дзе ён у халеры хворы, глянь, які брысь.* Дубіна Маладз.; *параўн.* польск. bryś *перан.* 'таўсцяк, моцны чалавек'.

**БРЫ́ТАЦЬ** *незак.* Блытаць. *Нешта ўсе ніткі ты брытаеш.* Дубіна Маладз.

**БРЫТВА́Н** *м.* Бляха. *Насыплеш ячменю на брытван, паставіш у печ, пасушыш ды і таўчэш крупы зь яго.* Будслаў Мядз.; *параўн.* польск. brytfanna, ням. Bratpfanne 'скаварада, патэльня'.

**БРЫТВА́НЧЫК** *м. Памянш. да* брытва́н. *У брытванчыках хлеп пяклі.* Будслаў Мядз.

**БРЫ́ЦА**[1] *ж.* Тое, што і б р ы́ к с а. *У брыцы лісьце вускае, як у пырніка, а тады выядзя мяцёлачка, мяцёлачка як у проса.* Вецярэвічы Пух.

**БРЫ́ЦА**[2] *ж. Бат.* Макрыца, зоркаўка (Stellaria media). *У Марылі бульба зарасла, кажух кажухом брыца абсела.* Ігрушка Круп.

**БРЫ́ЦІЦЬ** *незак.* Змочваць вадою бараду. *Бабы дураццa: адзяюць халаты такія от, ік у бальніцы, белыя, бяруць памазок, ну й тады ўжо йдуць к мушчынам брыць бороды. Адна ўжо брыціць так вадою, а другая ўжо яго ўціpaя, ён грошы кладзе ёй.* Таўкачэвічы Уздз.

**БРЫ́ЧАК** *м. Уст.* Імбрычак. *Это ш брычак наш пакалоўся, трэба купіць новы, а то няма ў чым заварваць чай.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. imbryczek 'тс'.

**БРЭ́НДЗАЛЬ** *м.* Ручнік з доўгімі махрамі выціраць пасуду. *Гэты брэндзаль як схаплю, то пасьмяесься тады!* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* ням. Fränsel праз польск. frędzla 'кайма з нітак, шнуркоў'.

**БРЭ́НЗЛІ** *толькі мн.* Тое, што і б р ы́ н д ы (у 1 знач.). *Люблю, каб у сурвэтках і аорусах брэнзьлі былі або кутасэ.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БРЭ́НКНУЦЬ** *зак. Аднакр.* Бразнуць, стукнуць. *Я вось табе зарас брэнкну дзьвярамі, ты ў мяне скора палучыш!* Межава Чэрв.

**БУ́БА** *ж.* Трыбухаты, трыбухач. *Карова велька як ускочыла – восімісят кустоў [бульбы] і німа, ведамо, буба такая галонная.* Савоні Стаўб.

**БУБНА́Ч** *м.* Барабаншчык. *А бубнач, дзетка, на бубні йграя.* Дукора Пух.

**БУВАЛЬНІ́ЧНЫ** *прым.* Баваўняны. *У мяне перш усякіх нітак было: і тоўстых, і тонкіх, і радняных, і ядвабных, і бувальнічных.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БУВАЛЬНІ́ЦА** *гл.* бавальніца

**БУГАІ́** *толькі мн.* Тое, што і б а л а б о́ н ы. *Бугаі добрыя ягады. Сёлята бугаі такія буйныя.* Вялікая Вуса Уздз. *А што бугаёў, ці дурніц, дык тых процьма ўсюды.* Жартайка Барыс.

**БУГА́ННІК** *м. Бат.* Буячнік. *У нашых лясах буганьнік у рост чалавека, вот вялікі, і чалавека да дурнаты даводзіць. Буганьнік цьвіце – буганы будуць.* Паплавы Бярэз.

**БУГАНЫ́** *толькі мн.* Тое, што і б а л а б о́ н ы. *Ой, была ў буганох, здурнела зусім, галава баліць, круціцца.* Паплавы Бярэз.

**БУ́ДА** *ж.* Калёсы. *Паехала я на Узду ды купіла буду, каня.* Камёнка Уздз.

**БУ́ДАЧКА** *ж.* **1.** Будан. *Фашысты хату спалілі, хлеў спалілі, карову спалілі, аставілі безь нічога. Пчолы спалілі, усё спалілі. Як вярнуліся зь лесу – адны каміны. Убілі колікі, зрабілі будачку і жылі так да восені.* Бяларучы Лаг. **2.** Маленькая хатка. *Пераехаў у вёску гэтую я чатыры гады назат, купіў тут сабе будачку.* Вялікая Вуса Уздз.

**БУДНЫ́** *прым.* Будны. *А на сьвята лепш елі, мяса было на стале. А буднога дня скварак ніколі ня елі.* Дзераўная Стаўб.

**БУДЫ́НАЧАК** *м.* Будынінка. *І так нашу вёску спалілі, што ні аднаго будыначку ні асталося, ні аднаго бярна ні асталося.* Новікі Мядз.

**БУДЫ́НЧЫНА** *ж.* Будынак. *Мая будынчына новая.* Пруды Стаўб.

**БУЗА́** *ж.* Іл, бруд. *Ваду ўсю вычарпалі чысьцінькую, адна буза засталася.* Ігрушка Круп.

**БУЗЯНЫ́** *прым.* Брудны, з ілам. *Як на мая гэта хата гарэла, да каб ні гэта вада, хоць бузяная, выгарала б уся вёска.* Ігрушка Круп.

**БУІ́СК** *м.* Фізкультурная пляцоўка. *Дзеці гуляюць на буіску.* Сырмеж Мядз.

**БУКА́ТЫ** *прым.* З круглымі бакамі. *Такая ш букатая карова, што страх.* Вецярэвічы Пух.

**БУ́КВІНА** *ж.* Літара. *А ў мяне кавалер быў, на „сы" зваўся, першая буквіна „сы". Думаю, ня будзя мой той кавалер, што на буквіну „сы", маім мужыком. Ажно ш і ўгадала.* Зарэчча Стаўб.

**БУКЕ́ТНІЦА** *ж.* Ваза. *Пастаў ружы ў букетніцу, красівыя ружы.* Вішнева Валож.

**БУ́ЛАЧКА** *ж. Кулін.* Бульбяны піражок з начынкай. *А саўсім нідаўна пяклі такія булачкі: зварыш бульбы чышчанай, а тады стаўчэш яе, тоўчанай канаплі ўкладзеш у сярэдзіну, от і булачкі.* Вязынка Маладз.

**БУЛДА́ЎКА** *ж. Бат.* Гарлачык белы (Nymphaea alba). *Гэтыя булдаўкі такія прыгожыя. Як ты іх толькі дастаў з вады, яны ш далёка ад берага?* Круці Мядз.

**БУЛЁН** *м.* Засквараны бульбяны суп. *Булён добра на сьнеданьня.* Дукора Пух.; *параўн.* фр. bouillon 'тс'.

**БУЛО́ЎКА** *ж.* Тое, што і б у л д а́ ў к а. *Гэтыя булоўкі белянькія плаваюць па Вялікай Вусі, у нас лякарства зь іх робяць.* Вялікая Вуса Уздз.

**БУ́ЛЬБАШНІК і БУЛЬБА́ШНІК, БУЛЬБО́ШНІК** *м.* Бульбянік, цяўнік. *Бульбашнік даўно ўжо скошаны.* Нарач Віл. *У гэтым годзе рана туман з'еў бульбашнік.* Палачаны Маладз. *Так карова збузуе бульбашнік, а як на сечку парэжаш, ён так ні марнуіцца, зьесца.* Папла-

вы Бярэз. *Ідзі сажні бульбошнік, бо ўжо пасыхая, бульбу хутка капаць.* Вялікая Вуса Уздз. *Бульбошнік ні ўсякая карова будзе есьці, дык рэжуць на сечку, дабаўляюць вобмешкі, і карова есьць.* Малмыгі Віл.

**БУЛЬБЕ́ННІК** *м.* Тое, што і бу́льбашнік. *Бульбеннік гэты такі ўжо парос — ня будзя бульбы.* Бясяды Лаг.

**БУЛЬБЕ́ЎНІК** *м.* Тое, што і бу́льбашнік. *І бульбеўнік жала, і што магла, тое рабіла.* Замошша Віл.

**БУЛЬБЯ́НКА** *ж. Кулін.* Бульбяная аладка. *Напяку сёньня бульбянак, дзеці любяць.* Вецярэвічы Пух.

**БУЛЬБЯ́НЫЯ АЛА́ДКІ З ЦЁРТЫМ МА́КАМ** *кулін.* Дранікі з цёртым макам. *Або я і цяпер пяку бульбяныя алаткі сь цёртым макам, туды йшчэ сахару, тожа добра.* Вязынка Маладз.

**БУ́ЛЬМА** *ж.* Бульба. *А там вунь у мяне бульма расьцець.* Рудня Чэрв. *Ты, дзіцятка, пасядзі, я хуцінька прынясу трэсак, укіну ў печ, запалю, трохі бульмы звару сьвіньням.* Плецівішча Чэрв.

**БУМА́ГА** *ж.* Абоі. *Хаты рабілі з круглякоў, ні бялілі, не клеілі. Калі толькі кут, адна трубачка бумагі, паклееіш і ўсё. Падлогу пакрасілі. Але стары красіў, дык толька бумагу павыюдзгаваў, пакуль сын прыехаў.* Вязынка Маладз.; *параўн.* рус. бумага.

**БУМА́ЖКА** *ж.* Квіток, талон. *А як дась [пан] бумашку, тагды пойдзяш назьбіраяш ягадаў, грыбоў назьбіраяш із бумашкаю із етаю.* Дрычын Пух.

**БУНАВА́ЦЬ** *незак.* Бушаваць, буяніць. *Наша вот злосная! Як узлуецца, дак бунуя ўвесь вечар.* Цялякава Уздз.

**БУНТ** *м. Уст.* **1.** Вязка льновалакна пасля апрацоўкі на грэбені. *Пасьля грэбеня лён вяжуць у бунтэ.* Пруды Стаўб. **2.** Вясло сухіх грыбоў. *Адзін бунт грыбоў у лаўку здала.* Налібакі Стаўб.; *параўн.* ням. Bund 'тс'.

**БУНТАВА́ЦЬ** *незак.* Збіваць з тропу. *Не бунтуй ты яга, калі ёсьціка жаданьня, хай вучыцца.* Сядзіца Віл.

**БУНТАНІ́НА** *ж.* Блытаніна, непаладкі. *Ну й бунтаніна ў вас тут, што й канца ня знойдзіш: усё заблытана.* Межава Чэрв. *Зноў бунтаніна выйшла з гэтымі грашамі.* Узгурск Чэрв.

**БУ́НЦІК** *м.* Тое, што і бунт (у 2 знач.). *Я продаю грыбэ, дак кажу: „Вот гэты бунцік кілаграм", — і цану называю.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БУ́РА** *ж.* ◊ **Бура насіць** *каго-н., незадав.* — перашкаджаць, не даваць магчымасці поўнасцю аддацца справе. *Як стану што рабіць, дак і мужык бурчыць, і дзяцей бура носіць, ні ўседзяць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БУРАКАВІ́ННЕ** *н. Зб.* Бацвінне. *Ускоч у грады, набяры буракавіньня і ўкінь парасяці.* Узгурск Чэрв.

**БУРАКІ́** *толькі мн. Кулін.* Страва з караняплодаў або лісця буракоў. *Мае ня ядуць буракоў. Учора зварыла зь мясам, сьмятаны ўліла і ўсядно выліла сьвіньням.* Дукора Пух.

**БУРАЛО́МІНА** *ж.* Дрэва, паваленае бурай. *Гэта дрэва называецца бураломіна, бо яго зламала бура.* Вецярэвічы Пух.

**БУРА́Н** *м. Зб.* Бур'ян. *Селі на старым дворышчы, зарошшым бураном, разлажылі касьцёр ды сядзім кала кастра.* Вяляцічы Барыс.

**БУРАЧА́НІШЧА** *н.* Поле, дзе раслі буракі. *Схадзі на бурачанішча і набяры бурачніку.* Вецярэвічы Пух.

**БУРАЧКО́ВЫ** *прым.* Лілова-чырвоны. *Хрэн таму бурачковы, што дабаўляюць сок чырвонага бурака.* Вецярэвічы Пух.

**БУРА́ЧНЕВЫ** *прым.* Тое, што і бурачко́вы. *Смолкі ёсь сьветлыя і цёмныя, ліпкія бурачневыя квятачкі на іх, за рукі лепяцца. Растуць у лесі.* Бясяды Лаг.

**БУРА́ЧНІК** *м. Этн.* Жытні хлеб, у цеста якога дабаўлены драбкі буракоў. *У нас баба была адна, яна ўсягды пякла бурачнік, а ў сьвята вынясіць на вуліцу і частуіць усіх. Навіна вялікая.* Калодчына Віл.

**БУРБУЛЕ́ЦЬ** *незак.* Пярэчыць, быць незадаволеным. *Ну, чаго ты бурбулеяш, бубніш, як бубен? Пасунься, а то рэмяням скора ўспакою.* Арцюхі Стаўб.

**БУРВА́ЛАК** *м.* Невялікі грудок сярод балота, нізіны. *Мы вынесьлі ўсё сена сушыць на бурвалак.* Краснае Маладз.

**БУРВА́ЛАЧАК** *м. Памянш.* Кусочак, лапінка. *Бывала, пакіняш бурвалачак травы на прыгуменьні, а цяпер ужо няма.* Вялікая Вуса Уздз.

**БУ́РГАЛКА** *ж.* Палачка, якая працягваецца ў надрэзы мяшка. *С палак дзелалі бургалкі па пальцу даўжынёй, працягне ў прарэзачкі і нясе, каб ляхчэй было.* Ігрушка Круп.

**БУРДО́ВЫ** *прым.* Цёмна-чырвоны, бардовы. *Сыраешка баравая, каторая любя бары,ігліцу і мох, тая сыраешка на тонкай ношкі кароцінькай і галоўка больш такая краснаватая, пад бурдовы цьвет пахожа.* Слабада Бярэз. *Далі плацьця с храстамі. Папалася мне якрас само бурдовага цьвету, а сівыя палоскі, храсты накрыш і ззаду і сьпераду.* Ухвала Круп. *Мая спаньніца бурдовая парвалася.* Цялякава Уздз.

**БУРДЭ́НЦ** *выкл.* Бух. *Пан наняў аканома і сапхнуў на яго ўсё хазяйства, а сам выйдзя на ганак, паглядзіць на сонца і бурдэнц на ложак. Вось і ўся яго работа.* Ракашычы Уздз.

**БУ́РКА** *ж. Уст.* **1.** Доўгая і шырокая адзежына з даматкана паўсукна, якая надзяваецца паверх кажуха. *У бурцы паўсукенкавай ляхчэй, але зашчыта ад сьлякаці і холаду сла-*

*бейшая. Таму ткалі сукно, сукно валілі і шыюць бурнос. Цяпер буркай называюць, а даўней бурнос. Шылі з башлыком.* Бяларучы Лаг. **2.** Мужчынскі сачак. *А мушчынам шылі такія буркі, сачык такі пашыіш. Саччэш сукна і с сукна шылі буркі.* Засценак Лаг.

**БУРКАВА́НЫ** *дзеепрым.* Брукаваны. *Вы па новай буркаванай дарозе ехалі? Там добра ехаць на машыне.* Няровы Валож.

**БУРКАТНЯ́** *ж.* Невыразная, неразборлівая гаворка. *Ото ж ужо вучань! Будзе сядзець і ўвесь урок зіркаць ва ўсе бакі, а вызавіш, дык не разгавор, а буркатня нейкая.* Будслаў Мядз.

**БУ́РКІ** *толькі мн.* Суконны строчаны абутак, на ваце, які насіцца з галёшамі. *Холадна як сёньня, трэба стаяк запаліць, а ты пойдзеш, то буркі абувай — марос.* Ляхавічы Дзярж. *Валёнак німа ш чаго валіць, прышлося буркі купляць. Буркі цёплыя, на базары з рук прадаюцца.* Аздзяцічы Барыс.

**БУРЛІ́ШЧЫ** *прым.* Бурлівы, шумны. *Пагода такая бурлішчая, кудаса, завяруха, назаўтры засыпле.* Савоні Стаўб.

**БУРМІ́СТР** *м.* У час Вялікай Айчыннай вайны ў акупіраваных раёнах — стараста, завербаваны з мясцовага насельніцтва. *Паліцаі мяне схапілі, бурмістр кажа: „Кідайця ў цяпло". Яны гушкнулі і паставілі.* Каранец Бярэз.; *параўн.* польск. burmistrz < ням. Bürgermeister 'тс'.

**БУРНО́С, БУРНУ́С** *м. Уст.* **1.** Доўгая вопратка з шырокімі рукавамі з даматканага сукна. *Тады плашчоў ні было і шылі ад дажджоў, ат сьнягоў доўгія бурносы. Бурносы шылі з башлыкамі. Як завея, а едзіш куды, нацягнуў бурнос, башлык на галаву і цёпла.* Бяларучы Лаг. *Зімой у дарогу апраналі бурнос.* Палессе Мядз. **2.** Верхняя жаночая вопратка з даматканага сукна. *Мамін бурнос, я помню, доўга ў каморы вісеў, а тады на валёнкі папаролі.* Рудня Чэрв. *Бурносы і бабы і дзяўчаты насілі.* Малмыгі Віл. **3.** Традыцыйнае верхняе мужчынскае адзенне з даматканага шэрага, чорнага, карычневага сукна. *Далі Ігналю добры бурнус, брыль, камізэльку, пасталы. Стаў жыць у маёнтку Ігналь.* Ракашычы Уздз. **4.** Плашч. *Вось толькі-толькі надзела бурнос і некуды падалася.* Краснае Маладз. *параўн.* польск. burnus 'від зімовай вопраткі'.

**БУ́РСА** *ж.* Група, кампанія. *Хадзілі па валачоннаму, да нас першая бурса ні дайшла. Я рубель прыгатовіла, а іх німа й німа, я ўжо думаю, ні прыдуць. А тады другая бурса.* Савоні Стаўб. ◊ **У дзве (тры) бурсы** — за два (тры) прыёмы, разы. *А давай мы асавяке на саленё парэжам, табе ляхчэй будзя, у дзьве бурсы тады ўсе грыбэ адварыш. А так трэба будзя ў тры бурсы гатовіць.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. bursa 'тс'.

**БУРУ́-БУРУ́-БУРУ́** *выкл.* Словы, якімі падзываюць авечак. *Буру-буру-буру, буруські мае!* Бытча Бырыс.

**БУРЦАКІ́** *толькі мн. Кулін.* Пячэнне. *Ну, маці, бурцакі ў цябе ўдаліся.* Палачаны Маладз.

**БУРЧА́К** *м.* Разнавіднасць гароху пасяўнога (Pisum sativum). *Бурчак самы лепшы гарох, тоўсты такі, жоўцінькі.* Залазоўе Віл. *У бурчаку струкі таўстыя такія, і многа на 'нным каліве струкоў.* Бытча Барыс.; *параўн.* польск. burczak 'тс'.

**БУРЫ́ЦЦА** *незак.* Разбурацца, рушыцца, абвальвацца. *Узяла ды столь абурылася, дык я крычу: „Людзі, столь бурыцца!"* Дукора Пух.

**БУРЫ́ЦЬ** *незак.* Распускаць вязанне. *Пабурыла троя вязаных штаноў. Ест йшчэ рубашка, але кепска бурыць.* Дукора Пух.

**БУСА́К** *м.* Узгорак. *Бяжы, яны ўжо на бусак паднімаюцца.* Даўгінава Віл.

**БУ́СЛА** *м.* Мера вадкасці ёмістасцю каля 3,3 літра. *У казённай манапольцы сама больша мера гарэлкі гэта гарняц, а па-нашаму, падзеравенску, бусла.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БУ́СЛІК** *м. Уст.* **1.** Мера вадкасці, роўная 100 г. *Хлопцы, давайця зробім па бусліку.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Мера вадкасці ёмістасцю каля літра. *Бусьлік — гэта бутылка такая круглая, літар туды лезе.* Ігрушка Круп.

**БУСЛО́ВЫ** *прым.* Бусліны. *Гняздо буслове ё ў нас, на могілках яно.* Вецярэвічы Пух.

**БУСЬКО́** *м. Заал., ласк.* Тое, што і б а ц я́ н[1]. *Нінка, дачушка, паглядзі! Ужо бусько з выраю прыляцеў да нас.* Юр'ева Смал.

**БУ́ТАЛЬ** *м.* Вялікая бутэлька. *Буталь малака прывязу.* Дукора Пух. *Яшчэ былі, помню, бутлі на дзесяць літраў, аплятаныя.* Рудня Чэрв. *Помню, трапатына стаяла ў бутлях.* Канстанцінава Мядз. // *перан., неадабр.* Таўстун. *Буталь гэты, бач, як разьеўся.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. butla, butel 'тс'.

**БУТЫ́ЛКА** *ж.* **1.** Бутэлька. *Посная масла стаіць у бутылцы.* Вецярэвічы Пух. *Во якрас бутылкі трэба здаць.* Нізок Уздз. **2.** У значэнні: бутэлька віна, гарэлкі. *Гэта ш столькі бутылак было — усе пашлі.* Гілікі Валож.; *параўн.* рус. бутылка 'тс'.

**БУХА́Н** *м.* Абаранак. *Колісь цукерак такіх, як цяпер, не было, толькі буханы пяклі, але ш і яны былі смачныя.* Бясяды Лаг.

**БУ́ХАЦЬ** *незак.* ◊ **Бухаць як у бочку** — моцна кашляць. *Наша цётка натта ш прастудзілася, цэлую ноч бухала як у бочку.* Цялякава Уздз.

**БУХМА́ТЫ** *прым.* Таўстаморды, увесь як налітын (пра чалавека). *Бухматы — кажуць на таго, у каго шчокі тоўстыя і сам, як булачка.* Савоні Стаўб.

**БУ́ХМЫ** *толькі мн.* Буфы. *Во была мода:*

*плацьця доўгая, бухмамі былі рукава. Я яго падрэзала, пакараціла, рукава павузіла, перабрала і сама нашу.* Бяларучы Лаг.; *параўн.* фр. bouffer 'тс'.

**БЎХНУЦЬ** *зак., аднакр.* Уляцець на хуткасці. *Можа ўтапіцца, як бухня ў рэку з матацыклам.* Вялікая Вуса Уздз.

**БУШАВА́ЦЬ** *незак.* **1.** Буяніць, гарэзаваць. *Пасадзілі кусты, а каровы бушаваць ляцяць у гэтыя кусты.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Інтэнсіўна працаваць. *Як во прошлы гот да сьняге ў нас велькія былі! Роўна з хатамі панамятала, пограп адно крышы чуць відаць было. Папрасіла Івана, кап памох, два дні бушаваў, пака рашчысьціў прахот, аткінуў адзь дзьвярэй.* Арцюхі Стаўб.

**БУШМА́** *ж. Неадабр.* Высокая прычоска. *Бушму такую на галаве паставіла, што аж глядзець страшна.* Кукалеўка Чэрв.

**БЫВА́ЛЕШНІ** *прым.* Даўнейшы, стары. *У яе хустка бывалешняя, але яшчэ добрая.* Пагост Бярэз.

**БЫДЛЯ́ЧЫ БУРА́К.** Кармавы бурак (Beta vulgaris crassa). *Ці паверыш, нават былі быдлячыя буракі, відаць, многа навязьлі.* Яцыны Мядз. *Буракоў быдлячых засталося прапалоць як на хату.* Чараўкі Мядз.

**БЫК** *м.* Жэрдка, на якую вешаюць сеткі. *Былі відаць лоткі, хаты, на цэлы кіламетар расьцягнуліся быкі з развешанымі сеткамі.* Пасынкі Мядз.

**БЫ́РСКАЦЬ** *незак.* Пырскаць. *Глядзі не затрымлівайся, а то дошч нешта быр́ская.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БЫ́РСКІ** *толькі мн.* Пырскі. *У яго на штанах былі бырскі.* Ігрушка Круп.

**БЫ́СТРЫ** *у знач. наз.* Рухавы, імклівы ў працы. *Быстраму на час работы, а гультаю на месяц.* Вецярэвічы Пух.

**БЫТО́ЎКА** *ж.* Расказ, апавяданне аб праўдзівым здарэнні. *Хачу яшчэ адну бытоўку расказаць, якая была ў нашым пасёлку.* Бакачы Мядз.

**БЫ́ТТА** *злучн.* Ужываецца пры дапушчальным параўнанні рэальнага характару. *Пісаў, бытта прыедзе сёньня.* Баяры Маладз. ◊ **Як бытта** — усё роўна як. *Як бытта па ваду йдзе.* Цялякава Уздз.

**БЫЦЬ** *незак.* ◊ **Будзе ў шкуру** — пакаранне чакае каго. *Не, так дзела ня пойдзіць, думаю. Дазнаіцца, будзіць у шкуру. І я расказаў усё чыста.* Мікольцы Мядз. **Быць на руках** *чыіх-н.* — быць на чыім доглядзе, клопаце. *Дык я засталася бес хаты і з малым дзіцем на руках.* Сівіца Валож. **Штоб і паху вашага не было** *дзе-н.* — патрабаванне неадкладна выбрацца адкуль. *Таму што ваш зяць камандзірам, парцізанскім атрадам кіруя, вам тут ні места, знішчожым, штоб вашага тут ні было і паху.* Каранец Бярэз.

**БЭ** *нескл., н.* ◊ **Ні бэ ні цэ** — анічога, зусім нічога (не разумець, не разбірацца). *У шуплядзі кнішка на шчоччык, сынок, паглядзі, колькі нагарэла. Я ў гэтум шчоччыку ні бэ ні цэ, гляджу што на гэту сьцену.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БЭ́БАЛЫ** *толькі мн. Кулін.* Фасолевы малочны суп. *Калі бульбы ня хочаш, пачакай, бэбалы з малаком на абед будуць.* Вецярэвічы Пух.

**БЭ́ЙБУК, БЭ́ЙБУС** *м. Пагард.* Абібок, гультай, лодар. *Ну і бэйбус! Колькі яму ні кажы, а да яго не даходзіць.* Каменка Уздз. *Вырас во бэйбук гэтакі. Бацька патураў усю жызьню, дак ніякага толку няма.* Баяры Віл.

**БЭ́ЙСЮР** *м.* Тое, што і байстру́к. *Тут у нас дзеўка бэйсюра радзіла. І як эта людзям у вочы глядзець?!* Рудня Чэрв.

**БЭ́КАЦЬ** *незак.* Чытаць па літарах, па складах, няўмела. *Міхалка не чытае, а бэкае, але кап сесьці ды павучыць трохі — ня хоча.* Халопенічы Круп. *Як у вадзе цэлы дзень плюхацца ды выскаляцца, гэта ж ты можаш, а як за кнішку, то бэкаеш, як дашкольнік.* Лыцавічы Віл. *Бацька паказаў мне буквы, і я стаў памаленьку бэкаць склады, стаў чытаць вучыцца.* Забар'е Віл.

**БЭ́ЛЯ** *ж. Асудж.* Неахайная жанчына. *Настаяшчая бэля, разрабілася як ушыркі, так і ўдаўшкі, а ў хату не ўвайсьці, церас парох сьмецьця.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. bela 'пакунак' < ням. Ballen.

**БЭ́МБАЛЬ** *м.* Пухір. *Ветраная воспа выступіла, казаў, усё цела, як кара, было, бэмбаль лопае, дзірка робіцца.* Савоні Стаўб.; *параўн.* літ. bambalas.

**БЭНСЬ** *м.* Тое, што і байстру́к. *А яшчэ гадалі. Паложаць ляльку, кальцо паложаць, усё там. Хто аткрыя ляльку, от сьмеху было! Кажуць, ляльку родзіць да шлюбу, бэнься родзіць.* Зарэчча Смал. *Другі хлопяц ад мужыка, а большы бэньсь.* Дукора Пух.

**БЭ́НЦНУЦЬ** *зак.* **1.** Грузна бухнуцца ў пасцель, заваліцца. *Учора так стамілася, што бэнцнула вельмі рана, а сягоньня зноў трэба йсьці.* Касцюкі Барыс. **2.** Ударыць рэзка. *Як бэнцнуў, аш іскры пасыпаліся з воч.* Мясата Маладз.

**БЭ́РЛЯЦЦА** *незак.* Перабіраць ежу, шукаць смачнейшага. *Чаго яму ні пастаў, усё роўна бэрляецца.* Каменка Уздз.

**БЭ́РСАЦЬ** *незак.* Пісаць неразборліва. *Нешто набэрсаў у пісьме, разабраць цяшко.* Цвіркі Стаўб.

**БЯГНЯ́** *ж.* Беганіна. *Адна бягня, а толку ніякага, ужэ ні той анцярэс.* Пярэжыр Пух.

**БЯГУ́Н**[1] *м.* Прыстасаванне, з дапамогай якога дзіця вучыцца хадзіць. *Уперат заміш нянькі бягун быў: дзіця вырастала хоць з гузам, але здаровая.* Падзерычы Стаўб.

**БЯГУ́Н**[2] *м.* Верхні камень у жорнах. *У на-*

*шуй хаці верхні камень [у жорнах] бягун завуць, а ніжні — ляжак.* Горкі Стаўб.

**БЯДА́** *ж.* ◊ **Не бяды** — добры. *От, узяў сабе дзеўчыну не бяды ды жывуць памаленьку.* Зазерка Пух.

**БЯДА́К** *м.* Гаротнік. *Бацька хварэў усю зіму, а пад весну памёр-такі, бядак.* Язні Віл.

**БЯДА́КА** *м.* Тое, што і бядак. *Такі ж ужо быў бядака, а бач, да сто гот дажыў.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БЯДНЕ́ЙШЫ** *прым.* *Выш. ст.* да бедны. *Яна багатырка, а ён быў трохі бяднейшага роду.* Пудзіцк Пух. *Уперат нарот бяньнейшы быў, а за гэтыя гады абжыліся.* Баравая Пух.

**БЯЗБРЭ́ЖНА** *прысл.* Непрыстойна, брыдка. *Яна бязбрэжна сябе вяла.* Дукора Пух.

**БЯЗГРУ́ДНЫ** *прым.* Бязгруды. *Яны некія бязгрудныя, нізграбныя, як дошкі.* Цялякава Уздз.

**БЯЗДЗЕ́ЛЬНІК** *м.* *Неадабр.* Нядбайнік. *Паслаў бацька касіць, дык ён узяў ды касу зламаў. Та нашто ш ты ламаў, бязьдзельнік ты!* Малмыгі Віл.

**БЯЗДЗЕ́ЛЬНІЧАЦЬ** *незак.* Бяздзейнічаць, не праяўляць дзейнасці. *Бяздзельнічаюць толькі гультаі, а калі маеш ахоту, то работы ціпер па горла, любой.* Кукалеўка Чэрв.; *параўн.* рус. бездельничать 'тс'.

**БЯЗДЗЕ́ТУХА** *ж.* Бяздзетная жанчына. *Там нека бязьдзетуха, дзяцей німа, казалі, прыбрала хорашо, хорашо ў хаці і купіла куклу бальшую, пасадзіла на дзіван куклу бальшую, бальшую, як наша Марына.* Савоні Стаўб.

**БЯЗЛА́ДЗІЦА** *ж.* Бязладдзе, беспарадак. *Такая ўжо ў яе бязладзіца, уся гаспадарка хутка разваліцца.* Каменка Уздз.

**БЯЗЛЮ́ДНІК** *м.* Чалавек, які не падтрымлівае сувязі з роднымі, сваякамі. *Бязьлюднікі, бо каторыя людныя, то тыя глядзяць роду — ці напісаў бы, ці заехаў бы Лёнік той, а то як паехаў, дак і ні бачылі.* Савоні Стаўб.

**БЯЗРУ́ЧЧА** *н.* *Неадабр.* Няўдаліца. *Зарас вазьму розгу дый па руках. Бязручча гэнае, усё ў яго з рук падая. Абы за што ўзяўся, так і паб'е.* Бясяды Лаг.

**БЯЗУ́ЛЬНІК** *м.* Гарэза, свавольнік. *Во мой бязульнік на печы сядзіць.* Узгурск Чэрв.

**БЯЛІ́ЦЬ** *незак.* Прыпраўляць страву малаком, смятанай. *Я як бялю, дык бялю, не шкадуючы, бо майму нельга есьці жырнага, яму ўсё каб забеленая.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**БЯЛЛЁ** *н.* Бялізна, нацельнае адзенне. *Скоранька зьбегаю на возера папалашчу бяльлё.* Вішнева Валож. *Бяльлё цяпер у машынах мыюць, а рукамі не.* Вецярэвічы Пух.

**БЯЛЬМА́ТЫ** *прым.* З вялікімі на выкаце вачамі. *Я думала харошы хлопяц, а ён бяльматы нейкі, вочы сьветлыя.* Краснае Маладз. *Ён быў бы нічога, каб не такі бяльматы.* Вецярэвічы Пух.

**БЯЛЯ́НАЧКА** *ж.* *Бат.* Ваўнянка белая (Lactarius pubescens). *Паляту ш шчэ ў гэныя бяроскі, а там лісічкаў і бялячачкаў набяру поўны кошык.* Бакачы Мядз.

**БЯРДА́НА** *ж.* Паляўнічая стрэльба. *Бачу я ў яго бярдану новую.* Палачаны Маладз.

**БЯРДА́ШНІК** *м.* Майстар, які робіць і збівае бёрды. *Бёрды дзелалі бярдашнікі і вазілі па сёлах прадаваць.* Шавярнічы Бярэз.

**БЯРКО́ВЕЦ** *гл.* беркавец

**БЯРЛО́ВЫ** *прым.* З непрасеянай мукі, з высеўкамі, з мякінай. *А жыта было малоя, с травою, і жнеш і рвеш. А хлеп бярловы пяклі, з няевянай мукі. Бярловы хлеп. Усё бярловы хлеп быў.* Ластаянцы Валож. *А хлеп бярловы пяклі, папалам зь мякінай, з высеўкамі, чорны. Во які хлеп мы елі.* Падбярэзь Валож. *Дасыпалі мякіны, і гэта ў нас называлася бярловая мука. Хлеп пяклі с такой мукі, страх было глядзець на гэты хлеп.* Саланая Валож.

**БЯРНО́** *н.* Бервяно. *Не заўважыў ляжачага бярна, пасьлізнуўся і ўкінуўся ў густую жыжу.* Узгурск Чэрв. *І так нашу вёску спалілі, што ні аднаго будыначку ні асталося, ні аднаго бярна ні асталося.* Новікі Мядз.

**БЯРО́ЗАВІК**[1] *м.* Тое, што і баравік бярозавы. *Першыя с праўдзівых грыбоў находзяцца бярозавікі, находзяцца яны пад Міколу, калі жыта красуе.* Дамашэвічы Баран.

**БЯРО́ЗАВІК**[2] *м.* Настой бярозавай кары. *Дзеці ў маі, як атсеюцца, і аж да ягат па лесі бегалі, бярозавую кару дралі. А потым кару сушылі, зімой у вар кідалі, парылі, давалі атстоіцца. У бярозавік ніткі кідалі, каб на красны цьвет пакрасіць.* Задор'е Лаг.

**БЯРЭ́МЯННАЯ** *прым.* Цяжарная. *Мая нявестка зноў бярэмянная.* Малмыгі Віл.; *параўн.* рус. беременная 'тс'.

**БЯСЕ́ДАВАЦЬ** *незак.* Абменьвацца думкамі. *Я зь яго [сынавай] учыцелькай бяседавала, яна яго хваліла, раіла, каб паступаў куды вучыцца.* Порычы Валож.

**БЯСКЛЁПАЧНЫ** *прым.* *Неадабр.* Някемлівы, неразумны. *Такі ўжо бясклёпачны мой чалавек, ня бачыць, што пад носам робіцца.* Дукора Пух.

**БЯСПЛА́ТНЕ** *прысл.* Без аплаты. *Хто табе бясплатне аддась.* Вецярэвічы Пух.

**БЯССЛО́ЎНЫ** *прым.* Маўклівы. *Як трэба гаварыць, дык ён зусім бясслоўны: маўчыць, бы вады набраўшы.* Грабёнка Чэрв. *Чаму ты такі бясслоўны хлопец?! Вунь Кацька шчабеча і шчабеча, а ты бясслоўны, як вады ў рот набраў.* Рудня Валож.

**БЯССО́ННЕ** *н.* Бяссонніца. *Што за бяссоньня такоя, другая гадзіна ночы, а мяне сон не бярэ.* Дукора Пух.

**БЯССО́ННІК** *м.* Той, хто не хоча або не можа спаць уночы. *Я захварэў, дык страдаю бяссоньніцай, бяссоньнік стаў.* Дукора Пух.

# В

**ВА́БІК** *м. Пчал.* Невялікі вулей для прываблівання рою. *Вабік пастаўлены лавіць пчол. Як уцячэць у каго рой, дак пастаўлены вабік лавіць.* Крывічы Мядз. *Рой садзіцца ў вабік, і тады яго пераносяць у вулей.* Нарач Мядз.

**ВАБІ́ЛА** *н.* Дудачка або свісток, якім у часе палявання падзываюць птушак або звяроў, падрабляючы іх голас. *Пусьціш патсадную вутку і вабіш вабілам.* Саланая Валож. *Вабілам і воўка вабяць.* Нізок Уздз.

**ВАВЕ́РЧАНЁ** *н.* Дзіцянё вавёркі. *Я спаймаў ваверчанё адзін рас, рукі ўсе пакусала. Ваверчанят у нас яшчэ русаўкамі завуць.* Саланая Валож.

**ВА́ГАЦЦА** *незак.* Хістацца. *Ён-такі, мусіць, сапраўды хворы, бо як ідзе, дак вагаяцца, бедны.* Дукора Пух.

**ВАГА́ЦЬ** *незак.* Паглыбляць барозны на засеяным загоне для сцёку вады. *У нас поля пяшчаная, вагаць жыта ня нада.* Ляхавічы Дзярж.; *параўн.* літ. vagoti 'рабіць барозны'.

**ВА́ГІ** *толькі мн.* Прылада для ўзважвання чаго-н. *Унь, бач, на калхозным двары вагі стаяць, на іх усе важаць калхозная.* Нізок Уздз.

**ВАГО́НКА** *ж. Зб.* Вузкія тонкія дошкі спецыяльнай распілоўкі, якія выкарыстоўваюцца для абшалёўкі сцен. *Скінь брызент з вагонак, хай ветрам іх прасушыць, а то ні дай бох сапсуюцца.* Баяры Маладз.

**ВАДА́** *ж.* О **Вараная вада** — вар. *Калі добра закіпяціць ваду, то будзя вараная вада, або, кажуць, вар.* Нізок Уздз. **Жорсткая вада** — вада з утрыманнем солей. *Жорсткая вада — вада зь некімі солямі, кажуць, ні такая, як у рэццы.* Рудня Лаг. **Цвёрдая вада** — тое, што і ж о́ р с т к а я в а д а́. *Калі варыць гарох у цьвёрдай вадзе, дык не разварыцца.* Ляшчынск Мядз.

◊ **Як у ваду апушчаны** — прыгнечаны, засмучаны. *Распісаліся мы, умовіліся за пасаг. А тады мама чой-та ў Навегрутку была, прыехала ды: „Лепш бы я цябе, дачушка, пахавала, як я цябе ў гэткі замуш аддала". І давай мама расказваць, што сьвякроў ліхая-ліхая, ні за што ні пра што збэсьціць, зьвядзе, нагаворыць. Ён сядзіць як у ваду апушчаны, ні адгаворваяцца.* Валеўка Навагр.

**ВАДАМЕ́Р** *м. Заал.* Вадзяны павук. *Вадамеры самі маленькія, а ногі вялізныя, і яны ўсё больш жывуць на вадзе.* Гілікі Валож.

**ВАДАПА́Д** *м.* Вадаспад. *Вадападаў у нашай мясцовасці німа.* Забалоцце Смал.

**ВАДАСТО́Й** *м.* Невялікі вадаём з крыніцамі. *У Бабравіне вада не высыхая, там заўсёды вадастой, крыніцы б'юць.* Вецярэвічы Пух.

**ВА́ДЗІЦЦА** *незак.* Сварыцца, жыць у нязгодзе. *Кажу Янку, што маўчлівая, дык ён сьмяецца: „Вадзіцца, — кажыць, — менш будзеце".* Язні Віл. *Як вадзіліся тады, дык і цяпер не размаўляюць.* Запруддзе Валож. *Не хапала яшчэ вадзіцца з-за гэткай дробязі.* Сакаўшчына Валож.; *параўн.* польск. wadźić 'сварыць, зводзіць'.

**ВАДЗІ́ЦЦА** *незак.* Сябраваць, быць у добрых адносінах з кім-н. *З усімі суседзямі я ваджуся, ні с кім ні сваруся, мяне ўсе любяць.* Баяры Маладз.

**ВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* ◊ **Вадзіць мядзведзя** — калядная гульня. *На багатую каляду мушчыны мядзьведзя водзяць: возьмуць кажух вывярнуць, с саломы вушы медзьведзю пастаўляюць і водзяць.* Дрычын Пух. **Вобмарак галаву водзіць** — галавакружэнне. *Як бальны, дык пацеяш, вобмарак водзіць галаву, ні можаш с пасьцелі ўстаць.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Плёткі вадзіць** — пляткарыць. *Раней на прызьбе малыя дзеці гулялі, а цяпер бабы плёткі водзяць.* Завішына Лаг.

**ВАДЗЯНІ́К** *м. Уст.* Вялікая драўляная конаўка. *Маці, дзе наш вадзянік, мыцца трэба.* Рудня Чэрв.

**ВАДЗЯНІ́ЧКА** *ж.* Тое, што і в а д а м е́ р. *Вадзянічка па версе вады плыве, а дарошка сьледам.* Ляхавічы Дзярж.

**ВАДЗЯ́НКА** *ж.* Гатунак сліў. *Жоўтыя, празрыстыя, нібы вадой наліты, вадзянкі.* Ляшчынск Мядз.

**ВАДЗЯНЫ́** *прым.* О **Вадзяная дзічына** — агульная назва вадаплаўных птушак. *Вадзяной дзічыны ў нас мала, тут мала заток.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Вадзяна́я крапіва́** *бат.* Рагаліснік (Ceratophullum L.). *Вадзяная крапіва каля берагоў расьцець.* Рудня Лаг. **Вадзяна́я крыса** *заал.* Вадзяны пацук (Arvicola terrestris). *Вадзяная крыса такая ні то сівая, ні то чорная, ні то ржавая, маіць норкі ў вадзе.* Паплавы Бярэз. **Вадзяна́я ку́рка** *заал.* Вадзяная птушка, пералётная (Gallinula chloropus). *Вадзяная курка — невялікая птушка, непрыкметнага колеру, нясецца ў трасьніку.* Паплавы Бярэз. **Вадзяна́я ме́льніца** — млын, які прыводзіцца ў рух вадою. *Вадзяная мельніца недалёка ад вёскі, праўда, ужо старэнькая.* Бытча Барыс. **Вадзяны́ жук** *заал.* Вадалюб вялікі чорны (Hydrous Piceus). *Вадзяны жук у рэццы, чорны такі і плавая.* Гілікі Валож. **Вадзяны́ курасле́п** *бат.* Вадаперыца (Hottonia L.). *Вадзяны курасьлеп пры беразе расьце, у вадзе расьце, ета первыя вясеньнія кветкі.* Вялікая Вуса Уздз. **Вадзяны́ ло́пух** *бат.* Тое, што і б у л д а́ ў к а. *Дзе стаячая вада, многа вадзянога лопуха, лісты шырокія, кветачкі беленькія,*

*прыгожыя.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Вадзяны млін** — тое, што і в а д з я н а́ я м е́ л ь н і ц а. *Раней у Пагарэлаве быў вадзяны млін, а цяпер нямашака. Цяпер раку перакапалі, млін аляктрычаствам гоняць.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Вадзяны павук** — тое, што і в а д а м е́ р. *Вадзяныя павукі — маленькія мошкі, якія плаваюць на паверхні сажалкі. Вадзяны павук мае длінныя ногі, усё лётае па вадзе.* Паплавы Бярэз. **Вадзяны пацук** — тое, што і в а д з я н а́ я к р ы́ с а. *Вадзяны пацук плаваець, вада за яго не бярэцца.* Рудня Лаг. **Вадзяны пузыр** — пухір. *Як апячэш што-небудзь, дык на апечаным месцы падымецца вадзяны пузыр.* Рудня Лаг. **Вадзяны разак** *бат.* Разак (Stratiotes L.). *Вадзяны разак мы, бывала, сьвіньням бралі, у возяры, у мокрым месцы расьце, белым цьвіце.* Малмыгі Віл. **Вадзяны ўкроп** *бат.* Маркоўнік (Anthriscus silvestris). *Вадзяны ўкроп падобны на высаткі морквы, зоньцікі такія і цьяткі, расьце ў платох, кустох ля канавы.* Савоні Стаўб.

**ВАЖАНЯ́** *н.* Дзіцяня вожыка. *Вожыха добра сьцеражэ сваіх важанят, пакуль яны малыя.* Забалоцце Смал. *Важаняты ў нас пат хатай цэлую восінь жылі.* Рудня Лаг. *Важаняты выводзяцца ў гнязьдзе.* Ігрушка Круп.

**ВАЖАЧАНЁ** *н.* Тое, што і в а ж а н я́. *Я летась маленькая важачанё прынёс, карміў, карміў, але яно ўцякло.* Саланая Валож.

**ВАЖА́ТЫ** *м.* Павадыр. *Ну, важаты, бяры каня і падзем бульбу ганяць.* Турэц Чэрв.

**ВАЖДА́ЦЦА** *незак.* **1.** Вагацца, быць у нерашучасці. *Ну, доўга ты ішчэваждацца будзіш, рашай скарэй.* Клетнае Барыс. **2.** Вазіцца. *Нашто мне важдацца з гэтымі па́калкамі.* Каменка Уздз.

**ВАЖКІ́** і **ВО́ЖКІ** *толькі мн.* **1.** Лейцы. *Пацягні вашкі, ні бачыш ці што: конь зварачае куды хоча.* Рудня Чэрв. *Кожны сялавы хлапчук умея сам вашке завязаць.* Турэц Чэрв. *Вошкі чуць ліпяць, баюся, што парвуцца, ня будзе чым кіраваць.* Нежаўка Чэрв. **2.** Вяроўка. *Вошкамі вос апкручуць, каб менш сена ці саломы растрасалася.* Забалоцце Смал. **3.** Чатыры вяровачкі, на якіх вісіць калыска. *Вашке чапляюць і калбель падвешваюць.* Пудзіцк Пух.

**ВА́ЖНА** *прысл.* Выдатна, вельмі добра. *Важна йграе гэты музыкант, аж дамоў ня хочацца ісьці.* Паплавы Бярэз.

**ВА́ЖНІК** *м.* Скрынка для трымання гір. *Там, дзе кладуць гіры, дык у нас завуць важнік.* Дукора Пух.

**ВА́ЖНЫ** *прым.* Добры, выключны. *Клімат там ня такі важны, кап туды перціся.* Пудзіцк Пух.

**ВАЖЫ́ХА** *ж. Заал.* Самка вожыка (Erinaceidae). *Важыха ловіць мышэй сваім дзецям.* Канстанцінава Мядз.

**ВАЖЫ́НЫ** *прым.* Вожыкаў. *Важыны сьлет пачуць можна: ён фыркае і быта стукае.* Рудня Налібацкая Стаўб.

**ВА́ЖЫЦЬ** *незак.* Наважвацца, намервацца. *„Мой сынок, — кажу, — не круці дзеўкамі. Ня важыш браць, ня зводзь дзяўчыну".* Язні Віл.; *параўн.* польск. ważyć 'тс'.

**ВАЗАВІ́К** *м.* Вазак. *Сена вазіць трэба паслаць добрых вазавікоў, каб умелі класьці на вазы, на машыну.* Версанка Круп.

**ВАЗАНІ́ЦА** і **ВАЗО́ННІЦА** *ж.* Гаршчок для пакаёвых кветак. *Цяпер вельмі рэтка прадаюцца гліняныя вазаніцы, а ў іх кветкі добра растуць.* Будслаў Мядз. *Разьбілася вазоньніца, і вазон ссох.* Ляшчынск Мядз.

**ВАЗДУ́ШНІК** *м.* Душнік у падмурку. *Цёпла стала, ваздушнік аткрыць нада.* Ляшчынск Мядз.

**ВАЗЕ́ННЕ** *н.* Возка. *Сёньня пачынаем вазеньне сена, усе шафёры будуць заняты.* Баяры Маладз.

**ВАЗО́НКА** *ж.* Тое, што і в а з а н і́ ц а. *Садзяць вазоны ў вазонкі альбо ў вядро, калі вялікія.* Пруды Стаўб.

**ВАЗО́ННІК** *м.* Тое, што і в а з а н і́ ц а. *Вазоньнікі дзелаюць зь дзерава або купляюць на Камароўцы.* Нізок Уздз.

**ВАЗРО́СЛЫ** *прым.* Дарослы. *У нашай сям'і ўжо ўсе вазрослыя.* Малмыгі Віл.

**ВАЗЮ́РЫ** *мн.; адз.* **вазюр** *м. Экспр.* Вялікага памеру абутак, разношаны. *Ты сваімі вазюрамі ўсю падлогу мне завэдзгаў.* Княгініна Мядз.

**ВАЗЯ́ЦЬ** *зак.* Узяць. *Во, вазяла кнігу і нічога ведаць ня хоча.* Кузьмічы Мін.

**ВАЙЛАКІ́** *мн.* Валены абутак. *Вясна йдзець, а ў мяне як з вайлакоў, хоць босая йдзі, нічога на грась німа. Такі марос, а ён у баціначках. Надзень мае вайлакі хоць ехаць.* Канстанцінава Мядз. *На вайлакі трэба мець і калёшы.* Апенькі Віл. *У нашай вёсцы вайлакі добра валіць Міхась, налаўчыўся, дак і спрытныя выходзяць.* Лыцавічы Віл.

**ВАЙСКО́** *н.* Войска. *Каля шашэйкі наша вайско стаяла, мы ж бачым, што гэта нашы стаяць.* Завішына Лаг.

**ВАКА́НЦА** *ж.* Вакансія. *Як будзя ваканца, то ўстроіцца на работу.* Вялікая Вуса Уздз.; *параўн.* фр. vacance 'тс'.

**ВАКЕ́ННІЦА** *ж.* Аканіца. *Мы замкнутыя сядзім, і вокны былі закрыты вакеньніцамі, у дзірачкі сьвяціла ўжо сонца, вісока было, мы так замічаім у дзірачкі.* Ухвала Круп. *Учора як шпурнуў зэдаль, дак акно чуць з вакеньніцай ні высадзіў.* Клетнае Барыс.; *параўн.* польск. okiennica 'тс'.

**ВАКЕ́НЦА** *н.* **1.** *Памянш. да* вакно́. *Ці гэта ж хата была: дзьве вакенцы маленькія?* Пудзіцк Пух. **2.** Акенца ў зашчытку. *Вакенца ў*

*шчыце нехта выбіў, трэба зашкліць.* Забалоцце Смал.

**ВАКНÓ** *н.* Акно. *У мяне ў хаця чатыры вакны.* Дукора Пух. *Вакно, каб было відна.* Рудня Чэрв. ○ **Вéнскае вакнó** — трохстворкавае акно. *У венскім вакне тры палавінкі: дзьве крайнія аччыняюцца, а сярэдняя прымацавана наглуха.* Вілейка Віл. **Падвóйныя вóкны** — дубэльты. *У малых хатах падвойныя вокны суцэльныя, аднафартковыя.* Вязынка Маладз. *З падвойнымі вокнамі зімою цяплей у хаця.* Дукора Пух. *На лета падвойныя вокны заносім на гару.* Вецярэвічы Пух.

**ВАКÓНЦА** *н.* Тое, што і вакéнца (у 2 знач.). *Ваконца маленькае, але так добра відаць на гары.* Вішнева Валож.

**ВАКÝНЬ** *м. Заал.* Акунь (Perca fluviatilis). *Вакунь — калючая рыба.* Падкрыжжа Смал.

**ВАКУРÁТ** *прысл.* Своечасова. *Мы прышлі вакурат, не спазьніліся.* Каменка Уздз.

**ВАЛ** *м.* **1.** Доўгая града згрэбенага сена. *Сена ў валы грабуць, радоў сем уместа.* Ратуцічы Барыс. *Як сена ў ратках патсохня, тады яго зграбаюць у валы.* Бяларучы Лаг. *Грабіце ў вал, будзем у копы складаць.* Паплавы Бярэз. **2.** *ткац.* Пярэдні навой. *Як ччэш, дык палатно на вал навіваяцца.* Вецярэвічы Пух. **3.** Млён. *Кап круціць вяршнік, ёсьць такая палка, у нас яе завуць вал.* Бытча Барыс.

**ВАЛАВÓД** *м.* Вяроўка навязваць жывёлу. *Дзе ён толькі гэты валавод дзеў? Карову трэба весьці.* Запруддзе Валож. *Яго й валаводамі ні зацягніш у парыльню: і рукамы й нагамы ўпіраіцца.* Забрэжжа Валож.

**ВÁЛАК** *гл.* аваáлак

**ВАЛАКÁЦЬ** *незак.* Дастаўляць. *Гот і дзевяць месяцаў была я ў парцізанах да валакала ім медзікаменты.* Нізок Уздз.

**ВАЛАКЦІСЯ** *незак.* Валачыся, цягнуцца. *Трэба валакціся дадому.* Дукора Пух.

**ВÁЛАМ** *прысл.* Многа, навалам. *Валам усяго было: і хлеба і к хлебу, жылі і гора ня знали.* Пудзіцк Пух.

**ВАЛАНЦÁЙ** *м. Асудж.* Бадзяга, валацуга. *І чаго ты цягаесься па сяле, валанцай.* Рудня Стаўб.

**ВАЛАСАВÁЦЬ** *незак.* Прымацоўваць тонкі металічны дроцік да канца лескі. *Вуду валасую [валаском], пайду на шчупака.* Рудня Чэрв.

**ВАЛАСÁТЫ** *прым. Неадабр.* Без галаўнога ўбору. *Ён і зімой ходзіць валасаты, холаду ні баіцца.* Хожава Маладз. *Яшчэ холадна, а яны ўжо валасатыя ходзяць.* Аношкі Віл.

**ВАЛАСÁЦЕНЬКІ** *прым.* З пушыстымі варсінкамі. *Зьверху гэты грыб чырванаваты, падыспадам — нейкі валасаценькі.* Баяры Маладз.

**ВАЛАСÉНІК** *м. Заал.* Мухалоўка (Muscicapidae). *Валасенік ловіць мух.* Нізок Уздз.

**ВАЛАСÉНЬ**[1] *м. Мед.* Вадзянка, запоўнены вадкасцю мазоль. *У міне валасень быў на пальцы, дык мне вылівалі гэты валасень.* Дукора Пух. *А валасень паяўляіцца ад цеснай вобуві і найбольш на пяце. Націраюць мазоль, ён лопае і выцякае, і гэта валасень.* Гілікі Валож.

**ВАЛАСÉНЬ**[2] *м.* Тое, што і валасéнік. *Валасень жыве ў лесі, такая маленькая птушка, гняздо ўе с конскага воласу.* Пруды Стаўб.

**ВАЛАСÍСТЫ РАЗЫХÓДНІК** *бат.* Зайцава капуста, расходнік (Sedum). *Валасісты разыходнік сьцеліцца па зямлі, красівыя жоўцінькія цьвяточкі.* Паплавы Бярэз. *Валасісты разыходнік расьцець па барох, лекавая расьлінка.* Ягадка Бярэз.

**ВАЛАСКАВÁТЫ** *прым.* Валасніковісты. *Карэньчыкі, пакрытыя тоніўкімі валаскамі, валаскаватыя завуць.* Крывічы Мядз.

**ВАЛАСКÍ** *мн.; адз.* **валасóк** *м. Бат.* Кукурузныя рыльцы (Stigmata Maydis). *Валаскі с какарузы такія мякінькія і натта рвуцца, як пацягняш.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВАЛАСНÍК** *м.* Лёска танюсенькая. *Зьбегай, унучак мой, вазьмі валасьнік і кошык, сходзім на рыбу.* Узгурск Чэрв.

**ВАЛАСНЯ́** *ж. Зб.* Волас. *Валасьня на смычку, с конскага хваста валасьня.* Рудня Чэрв.

**ВАЛАСЯ́НАЧКА** *ж. Памянш.* Тое, што і валасéнік. *Валасяначка гняздо робіць с конскіх і кароўскіх валасоў.* Малінаўка Лаг.

**ВАЛАСЯ́НКА** *ж. Бат.* Ваўнянка (Lactarius torminosus Gray). *Валасянкі ў нас ёсь, яны дзікія нейкія. Валасянкі па бярозавым леся растуць, навярху ўродзі розавенькія, а пад нізом касматыя.* Малінаўка Лаг.

**ВАЛАСЯ́НЫ** *прым.* Шарсцяны. *У магазін валасяныя сукенкі прывезьлі.* Язні Віл.

**ВАЛАЦÝГА** *м.* і *ж.* Тое, што і валанцáй. *Валацуга ты, бегаеш толькі з дзеўкамі, дома ніякай помачы сь цябе. // перан. Ходзя як валацуга с хаты ў хату.* Завішына Лаг.

**ВАЛÁЦЬ** *незак.* Клікаць, выклікаць. *Мяне валаюць у сельсавет, ня ведаіш, што там будзя?* Сядзіца Віл.; *параўн.* польск. wołać 'тс'.

**ВАЛАЧÁЙ** *м.* Тое, што і валанцáй. *Дзе гэта ты па начах валочысься, валачай ты.* Узгурск Чэрв.

**ВАЛАЧÓБНІК, ВАЛАЧЭ́БНІК** *м. Уст., абрад.* Тое, што і алалóўнік. *Увечара хадзілі валачоннікі, скрыпку бралі, пелі пад вокнамі віншавальныя песьні.* Глушка Пух. *А ўжо ўвечара валачоннікі йдуць, бяруць гармонік і пяюць от хораша.* Таўкачэвічы Уздз. *Валачоннікі хадзілі первага дня вяліканьня вечарам.* Зарэчча Стаўб. *Валачэбнікі сьпявалі сьвятыя песьні.* Дукора Пух. *А ўжо як зьмеркня, валачэбнікі хадзілі, сьпявалі.* Пяткі Валож. *І старыя і малыя валачоньнікі былі,*

*яны хадзілі і песьні пелі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВАЛАЧО́БНЫ** *у знач. наз. Абрад.* Тое, што і алало́ўнік. *Вечарам на вялікдзень ходзяць валачобныя, пяюць песьні.* Вялікая Вуса Уздз. *Валачобныя пяюць пад вокнамі, пяюць да гаспадара, да гаспадыні, а потым іх частуюць.* Бытча Барыс. *Кажды хазяін ждаў, валачобныя ш прыдуць, прыдуць валачобныя.* Мечаі Віл.

**ВАЛАЧО́К** *м. Рыб.* Невялікі невад. *Раней вялося ў нас многа рыбы, як пойдам з валачком на рыбу, прынясом цэлую торбу.* Дукора Пух.

**ВАЛАЧЫ́ЦЦА** *незак.* **1.** Бадзяцца без мэты. *Валочыцца ат хаты да хаты, быццам у сваёй хаці работы няма.* Сямкова Лаг. **2.** Ісці павольна, плесціся. *Адзін ад аднаго, праўда, фашысты ішлі метраў на пяць, яны, мусіць, баяліся кучай ісьці і так ланцугом і валакліся, гады.* Чырвоны Пасёлак Пух. **3.** *пагард.* Заляцацца. *„Ці добра б, — кажу, — было п, кап тваю сястру хто вот так валачыўся, валачыўся ды й кінуў. І гэта ж нейчая дзіця".* Язні Віл.

**ВАЛАЧЭ́БНІК** *гл.* валачо́бнік

**ВАЛБУ́ХА** *ж.* Балячка, прышч. *На носі нейкая валбуха ўсьсела, баліць во.* Бясяды Лаг.

**ВА́ЛЕНТ** *м. Абрад.* Вэлюм. *Маладой як надзелі валянт — такая прыгожая зрабілася.* Бубны Віл.

**ВА́ЛЕНЦЫ** *мн.; адз.* **ва́ленец** *м.* Валёнкі. *У нас калісьці чудак адзін жыў, надзеня адзін лапаць, а другі валінец — і кося.* Ігрушка Круп.

**ВАЛЁНКА** *ж.* **1.** Валеная шапка. *Валёнка — гэта калі з воўны валіш шапку.* Бытча Барыс. *Валёнка — шапка з воўны.* Паплавы Бярэз. **2.** Шарсцяная хустка. *Ужо й вясна прыйшла, а я з валёнкай не расстаюся: холаду ў галаву баюся.* Льцавічы Віл.

**ВАЛІ́ЗКА** *ж.* Чамадан. *Склала ўсю бялізну ў валіску, і яшчэ месца асталося.* Палессе Мядз. *Сын прыехаў, поўную валіску адных падаркаў прывёс.* Чабаі Валож. *Валіску ў рукі і пашла.* Каляды Віл.; *параўн.* польск. walizka 'тс'.

**ВА́ЛІК** *м.* **1.** Тое, што і ава́лак. *Валік — гэта качалка з зубамі.* Ляхавічы Дзярж. **2.** Від жаночай прычоскі: валасы ўкладваюцца паўкругам вакол галавы. *Як я была маладзейшая, дык заўсёды валік насіла.* Забалоцце Смал.

**ВАЛІ́ЦЦА** *незак.* Ападаць. *Такі вецяр, бач ты, як яблыкі валяцца.* Дукора Пух.

**ВАЛІ́ЦЬ** *незак.* Ісці энергічна. *Або муж мой... Як толькі сьнех сыдзе, ужо ён босы. Наб'е падошву, на паляц таўшчынёй тая падошва, — валіць па лесе, ня чуя шышак.* Арцюхі Стаўб. ◊ **Валам валіць** — губіць у множстве, пагалоўна. *У нас грыпа валам валіць людзей. Сёньня ходзіць чалавек, а назаўтро зваліўсё.* Савоні Стаўб.

**ВА́ЛКА** *ж.* Тое, што і ава́лак. *Вунь валка ляжыць, падай, я буду бяльлё валкаваць — ручнікі і сурвэткі.* Баяры Маладз.

**ВАЛКАВА́ЦЬ** *незак.* Качаць бялізну. *Павалкую ўціральнікі ды пайду карову даіць.* Вецярэвічы Пух. *Дзяўчаткі, ідзеця гляньця, як валкуюць, можа катора ня бачыла.* Там жа.

**ВАЛНА́** *ж.* Хваля. *Сягоньня на рацэ б'юць волны, бо вялікі заходні вецяр.* Вецярэвічы Пух. *Во як волны берах падмылі!* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* рус. волна 'тс'.

**ВАЛНАВА́ЦЦА** *незак.* **1.** Кіпець. *Суп зьняць с плітке ці хай яшчэ валнуяцца?* Цялякава Уздз. **2.** *перан.* Хвалявацца. *Адзін сын у мяне, увесь час па ім валнуюся.* Малінаўка Лаг.; *параўн.* рус. волноваться 'тс'.

**ВАЛНЕ́ННЕ** *н.* Хваляванне, трывога. *А колькі валненьняў было, як мужык захварэў, што я перажыла!* Хожава Маладз.; *параўн.* рус. волненье 'тс'.

**ВАЛНЯ́НЫ** *прым.* Шарсцяны. *Адзела валняную сукенку і пашла гуляць.* Апенькі Віл.

**ВАЛО́ВІК**[1] *м. Уст.* Паганяты валоў. *Колькі валовік ні староўся, валы ўсё роўна ня йшлі.* Вецярэвічы Пух.

**ВАЛО́ВІК**[2] *м.* Тое, што і быдля́чы бура́к. *Валовікі грузілі на машыну, цэлую машыну здалі.* Палессе Мядз. *Ой, што за валовікі парасьлі! Як іх будзіць выцягаць с поля!* Нарач Віл.

**ВАЛО́ВІК**[3] *м. Бат.* Ваўнянка (Lactarius torminosus Gray). *Шмат зарас валовікаў і чашчавікоў у лесі, ды так бліска ад жытла!* Узгурск Чэрв.

**ВАЛО́СКІЯ ПЧО́ЛЫ** *спец.* Італьянскія пчолы. *Валоскія пчолы і ў дошч ляцяць на работу.* Пруды Стаўб.

**ВАЛО́ЎНІК** *м. Уст.* Валоўня. *Там быў валоўнік, дзе валы стаялі, а потым той валоўнік разабралі.* Цялякава Уздз.

**ВАЛТУ́ЗІЦЦА** *незак.* Доўга займацца чым-н. *Валтузілася, валтузілася зь ім ды і кінула, бо зрабіць не магу нічога.* Раўчак Пух.

**ВАЛЬ** *м.* Тое, што і ва́лент. *Як я замуш ішла, тады валь не адзявалі.* Зазерка Пух.

**ВА́ЛЬНУЦЬ** *зак.* Ударыць, стукнуць. *А хмара велька, нівазможно б'е, як вальня — і абоіх забіла, гавязенску аграномшу і яго.* Савоні Стаўб.

**ВАЛЬЦ** *м.* Вальс. *Ён толькі і ўмеў вальц іграць.* Гілікі Валож. *От красіва глядзець, як танцуюць вальца.* Вішнева Валож.; *параўн.* польск. walc 'тс'.

**ВАЛЬЦАВА́НІК** *м.* Блін з пшанічнай мукі першага гатунку. *На сьнеданьня я часта валь-*

*цаванікі пяку. Дабаўляю яйцо, соды, тады вальцаванікі пухкія такія.* Калодчына Віл.

**ВАЛЬЦО́ВАНЫ** *прым.* Зроблены пры дапамозе вальцаў. *Вальцованая мука добра на хлеп.* Забалоцце Смал.

**ВАЛЬЦО́ЎКА** *ж.* Мука, атрыманая ў вальцовым млыне. *Калі жыта на вальцы пускаюць, такая мука будзе вальцоўка.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Муку, каторую змелім на вальцах, вальцоўкай завём.* Бытча Барыс.

**ВА́ЛЬЦЫ** *толькі мн. Пчал.* Машына для прыгатавання штучнай вузы. *Вальцы ёсь плоскія і ромбікавыя. У нас такой машыны няма, а саўхос мае.* Гілікі Валож.

**ВАЛЭ́НДАЦЦА** *незак.* Тое, што і валачы́цца (у 1 знач.). *Валэндаясься абы-дзе, ці дома пасядзець нельга?* Дукора Пух.

**ВАЛЮХА́ЦЦА** *незак.* Пераваливацца з нагі на нагу. *У Прузыны хада такая, ідзе і валюхаяцца як качка.* Цялякава Удз. *Вот у яго хада брыткая, валюхаяцца як качка.* Дукора Пух. *Хіба яна ідзе? Валюхаецца.* Асавец Маладз.

**ВАЛЮ́ША** *ж. Спец.* Валюшня. *Ткалі сукно, але ш яно рэткая. Мачылі, каб звалілася. Памочыць бацька ў пуні ў валюшы, патаўчэ таўкачамі, камянямі прыцісьня — й сукно звалілася. Так некалі валілі сукно.* Бяларучы Лаг.

**ВАЛЮ́ШКА** *ж. Ганч.* Кавалак гліны. *Трэба збіваць гліну трохі ў меншыя валюшкі.* Шутавічы Смарг.

**ВАЛЯ́К** *м.* **1.** Валлё. *Во валяке панаядалі вуткі, а прас пяць мінут зноў каля карыта будуць бегаць.* Цялякава Уздз. **2.** *перан.* Падбародак. *Ён троха папраівіўся, валяк нарос.* Нізок Уздз.

**ВА́ЛЯН** *м.* Тое, што і ва́лент. *На шлюб сукенка белая і бацінкі с халяўкамі былі, на галаву валян адзявалі.* Вішнева Валож. *Нявесьця валян рэткі к вянку прышываюць, сукенку шлюбную адзяваюць.* Пудзіцк Пух.

**ВАЛЯ́ННЕ** *н.* Працэс ачысткі гліны. *Валянне — складаны працэс, гліну нада так ачысціць, каб ні было ні аднаго камушка, жаўлачка.* Беразіно Бярэз.

**ВАЛЯР'Я́НАЎКА** *ж.* Тое, што і вадзяны́ ўкроп; *гл.* вадзяны́. *Валяр'янаўка высокая расьцець, на моркаў пахожая.* Ігрушка Круп.

**ВАЛЯР'Я́НКА** *ж. Бат.* Валяр'ян (Valeriana officinalis). *Пойдзем усёй сям'ёй зьбіраць варліянку, бо вельмі добрая лекавая расьліна.* Зазерка Пух.

**ВАНЃЕРАЦ** *м.* Прадстаўнік народа, які складае асноўнае насельніцтва Венгрыі. *У ету вайну было многа ванґерцаў у нас тут.* Пудзіцк Пух.

**ВАНЃЕРКА** і **ВЕНЃЕРКА** *ж.* Род слівы — венґерка звычайная. *Ванґерка — позьняя сліва.* Ляшчынск Мядз. *У сусеткі ўсе сьлівы венґеркі, буйныя, сінія, салоткія.* Бытча Барыс.

**ВАНЃОР** *м. Заал.* Вугор (Auguilliformes). *Пры мне, я якрас старажыў сеткі на берагу, дык упускалі етых ванґораў [іх сійчас называюць угры, а тады называлі ванґоры].* Папоўка Мядз. *Быў такі выпадак, калі на рэчцы Нарачанцы млын спыніўся — столькі ванґораў ішло, усю рэчку забілі.* Мікольцы Мядз. *Ванґоры добра ловяцца перад навальніцай, як гады ці вужы паўзуць, толькі пасьпявай пераймаць.* Нарач Мядз.; *параўн.* польск. węgorz 'тс'.

**ВАНДЗО́НКА** *ж.* Вяндліна. *Вандзонка смашная, як правільна хто капціць і на маленькім дыме.* Чабаі Валож. *Пакідай вандзонку надалей, а цяпер есьця саланіну.* Лыцавічы Віл.; *параўн.* польск. wędzonka 'вэнджаная грудзінка'.

**ВАНДЗО́НЫ, ВАНЗО́НЫ** *у знач. прым.* Вэнджаны. *Вандзонае мяса доўга ляжыць, яно вельмі смашнае.* Вішнева Валож. *Купі мне, дзет, ванзонай рыбы.* Ляшчынск Мядз.

**ВАНДЗЭ́ЛАК** *м.* Клунак. *Сукняў навязала цэлы вандзэлак і ўсё с сабою забрала.* Сакаўшчына Валож. *Вандзэлак цяшкі, лецъ павалакла.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. węzełek 'тс'.

**ВАНДЛІ́НА** *ж.* Тое, што і вандзо́нка. *У вандлярні вэндзяць вандліну.* Пруды Стаўб.

**ВАНДРАВА́ЦЬ** *незак.* Бадзяцца без справы. *Вандруе па сяле, а ў хаце печ ні выпалена.* Лежні Чэрв.

**ВА́НЕНКА** *ж.* Пасудзінка на вадкасць. *А гэта во ваненка, а гэта кацялочак.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. wanienka, wanna < ням. Wanne 'ванна'.

**ВАНЕ́ЦЬ** *незак.* Дрэнна пахнуць. *Пры халадзе мяса ня будзе ванець.* Паплавы Бярэз.

**ВАНЗО́НЫ** *гл.* вандзо́ны

**ВАНІ́ТАВА́ЦЬ** *незак.* Зневажаць, абзываць усяк. *Патом падрасьлі дзеці аспадаровы, сталі мяне тыя дзеці ванітаваць, казаць усяк на мяне.* Замошша Віл.; *параўн.* польск. wanitować 'рваць, ванітаваць'.

**ВАНІ́ТЫ** *толькі мн.* Рвота. *У мяне ваніты часта, мусіць, рабакі ест.* Пруды Стаўб.; *параўн.* польск. wonity 'тс'.

**ВАНІ́ШЧА** *н.* Смурод. *Ішла паўс склат, а ванішча такоя, хоць нос затыкай.* Бяларучы Лаг.

**ВАНТРО́БА** *ж.* Вантробы. *Дрыжыць уся вантроба, калоціцца.* Ляхавічы Дзярж.; *параўн.* польск. wątroba 'печань'.

**ВАНСА́Ч** *м. Заал.* Стронга ручаёвая (Salmotrutta morpha fario). *Вансач жыве ў чыстай вадзе, любіць быструю ваду, дзе дно каменістаё. Цела ў такія чорныя і чырвоныя плямкі. Смашная рыпка.* Варацішча Стаўб.

**ВАНЦА́К, ВАНЦА́Ч** *м. Мед.* Эпілепсія. *Падушчая балесьць — гэта ў нас ванцак называецца.* Вецярэвічы Пух. ∇ *Сымон, ванцак*

*цябе пабраў бы, давай маю пугу.* Капачоўка Барыс. *Кап цябе ванцакі азялі, кап ты галавой ап сьценку біўся каторы!* Язні Віл. *Кап цябе ванцач схапіў ды ні атпусьціў!* Цялякава Уздз. *От злодзяй гэты, ні ўлежыць за ім нічога, каб яго ванцач забраў!* Нізок Уздз.; *параўн.* польск. wąsad 'тс'.

**ВАНЮЧКА** *м. Заал.* Лясны клоп. *Ванючкі водзяцца на лясных расьлінах, на ягадніку іх многа.* Хожава Маладз.

**ВАНЮЧЫ, ВАНЮШЧЫ** *прым.* Смярдзючы. *У кадушцы вада доўга стаяла і стала ванючай.* Вялікая Вуса Уздз. *Пры балоці ўсягда вада ванючая.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Які ванюшчы воздух у стайні!* Паплавы Бярэз.

**ВАНЯЦЬ** *незак.* Смярдзець. *Рамонт у хаце, краскай ваняе.* Горкі Стаўб.

**ВАПЛЯ** *ж.* Вафля. *Кожан дзень выкупліваюць ці то ваплі, ці то цясткі, ці то рузныя цукеркі — ня знаюць, што ўзяць, што купіць.* Старынкі Дзярж.

**ВАРА** *ж.* **1.** Вараная страва. *Навары вары якое-небудзь, бо с сухога ніякага наетку німа.* Ляхавічы Дзярж. *Як я ні пад'ем вары, дык галодная хаджу. Сухоё — гэто ні піганё.* Горкі Стаўб. **2.** Агародніна, з якой вараць страву. *Вара ў агародзе вырасла добрая, будзе што варыць зімой.* Мацькаўцы Віл.

**ВАРАБІНА** *ж. Бат.* Рабіна (Sorbus). *Сёлята восянь будзя цёплая, бо на верабіня многа ягат.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВАРАБІНАЎКА** *ж.* Рабінавая настойка. *Варабінаўка — гэта хароша жалудачная настойка.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВАРАЖЭЙКА** *ж.* Варажбітка. *Сходзі да варажэйкі, што яна скажа.* Хожава Маладз.

**ВАРАЖЭЯ** *ж.* Тое, што і в а р а ж э й к а. *Мая бапка варажэя была, умела варажыць.* Вялікая Вуса Уздз. *Даўней людзі цёмныя былі, верылі ў нячыстую сілу, у варажбу, чуць што здарыцца ў сям'і — да варажэі.* Нізок Уздз.

**ВАРАНЕЦ** *м. Бат.* Бядрынец (Pimpinella L.). *Варанец — зельля ат усякіх хвароп.* Нізок Уздз.

**ВАРАНКА** *ж.* Бульбяны суп. *Душыць адной варанкай увесь час.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВАРАТАК** і **ВАРАТАК** *м.* Вар, вада ў стане кіпення. *Твар быў чысты, харо..ы, а як апарыў вáраткам, цяпер чырвоны, страшны.* Ляшчынск Мядз. *Муку перацер.. з яйцом, засыпаць у варáтак і заціркa гат..ва.* Муляры Віл. *Залі вáраткам, але асьця..рожна, каб ні апарылася.* Гілікі Валож. *Гля..зі, каб дзіця не абварылася, вáратак стаіць на пліце.* Нарач Мядз.

**ВАРАТНІК** *м.* Каўнер. *Варатнік закасаўся, а я думаю, што гэта муліць?* Вецярэвічы Пух. *У кашулі варатніка німа, а толькі абля-моўка.* Забалоцце Смал.; *параўн.* рус. воротник 'тс'.

**ВАРАЎНЯ, ВАРАЎНЯ, ВАРОЎНЯ, ВАРЫЎНЯ** *ж.* Памяшканне для захавання бульбы, гародніны. *Каб бульба ня зьмерзла, у вараўню жар насілі.* Круці Мядз. *Вáраўня ў нас сьветлая і прасторная, сюды і перанесьлі гародніну.* Нагаўкі Мядз. *Схаджу ў вáраўню, набяру кош бульбы.* Ляшчынск Мядз. *У варóўню картошку ссыпаям.* Пудзіцк Пух. *Пасоляць агуркі, капусту і выносяць у варыўню.* Рудня Чэрв. *У варыўні мы бульбу ссыпаім, а летам усё малошная ставім.* Задор'е Лаг. *Картоплю ўсю ў варыўню ссыпалі, у капец сёліта ні было чаго ссыпаць.* Асавец Маладз.

**ВАРНЯ** *ж.* Выварка. *Варняў у нас мала, болій вараць у чыгуне.* Бытча Барыс.

**ВАРОЖКА** *ж.* Тое, што і в а р а ж э й к а. *Калісьці на вячорках дзеўкі зьбяруцца, падгавораць варошку, кап пагадала, і тая варожыць.* Бытча Барыс.

**ВАРОНІНА ЗЕРНЕ** *бат.* Спарыння. *Сёлята ў жыці вароніна зерня ёсьць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВАРОНКА** *ж.* Жарало. *Закрый варонку, а то марос у пограп улезя, усе буракі і картопля памерзнуць.* Ляхавічы Дзярж.

**ВАРОНЯЕ ВОКА** *бат.* Мудранка (Paris L.). *Вароняе вока па лясах расьцець, на ём адна ягада пасярэдзіне, чорная, сь сівым налётам.* Бяларучы Лаг.

**ВАРОТЦЫ** *толькі мн.* Веснічкі. *Вы, дзяўчаткі, як атходзіцца, зачыняйця вароцы, кап куры ня лазілі.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Вароцы нешта сталі дрэнна зашчапляцца.* Нізок Уздз.

**ВАРОТЫ** *толькі мн.* Асобная фігура кадрылі. *„Аччыняйця варота, едуць госьці з балота" — с такой прыпеўкай танцуюць кадрылю, калі кадрыліст скамандуе: „Вароты!"* Дукора Пух. ◊ **Вароты кілбасамі завязаны** *ў каго-н.* — поўны дастатак, багатае прывабнае месца. *Ого, ён спрадвеку славіўся багацьцем, у яга ўсю жызьню, як кажуць, вароты кілбасамі завязаны.* Язні Віл.

**ВАРОЎКІ** *мн.; адз.* **варóўка** *ж. Пчал.* Пчолы, якія нападаюць на чужыя вуллі. *Як унадзяцца вароўкі, перацягаюць увесь мёт.* Ляхавічы Дзярж.; *параўн.* рус. воровка 'тс'.

**ВАРОЎНЯ** *гл.* вáраўня

**ВАРПА** *гл.* áрпа

**ВАРСАЦЬ** *незак.* Зацягваць аборы ў лапці. *Лапці заварсаў, абуўся і гатоў.* Рудня Чэрв.

**ВАРСТАТ** *м.* **1.** Ткацкі станок. *І такія варстаты былі падзеланы дзеравянныя, на якіх ткалі. Навіваім на гэты варстат, укідаім у ніты, тады ў бёрда, тады ччом.* Белае Лаг. **2.** Цяслярскі станок. *Я цяпер ні сталярнічаю, так ужо і варстат мой разваліўся.* Вязынка Маладз.

**ВА́РТА** *ж. Спец.* Адсек у лодцы, напоўнены вадой, каб трымаць злоўленую рыбу. *У вартах захоўваецца злоўленая рыба, рыпку злавіў і ў варту.* Ляшчынск Мядз.

**ВАРТАЎНІКІ́** *толькі мн. Пчал.* Пчолы, якія ахоўваюць вулей. *Вартаўнікі чужых пчол не пускаюць у вулей.* Ляшчынск Мядз.

**ВАРТНЕ́ЙШЫ** *прым.* Лепшы, даражэйшы. *Нашы хлопцы вартнейшыя за вашых.* Цялякава Уздз.

**ВА́РТНЫ** *прым.* Паважаны. *Яе мужык вартны чалавек.* Цялякава Уздз.

**ВАРУ́ЗГАЦЬ** *незак.* Гаварыць абы-што, пустое, без толку. *Як так, то нічога, а як чуць што, то бес канца варузгае.* Талуць Віл.

**ВАРЫ́** *мн. Пчал.* Тое, што і в а р о́ ў к і. *Пчолы, якія крадуць мёт, завуць вары.* Вішнева Валож.

**ВА́РЫВА** *н.* **1.** Вараная рэдкая страва. *Буракоў назапасіла, хопіць на варыва на ўсю зіму.* Пярэжыр Пух. *Дзеўкі, у печы варыва стаіць, калі есьці захочацца, бярыця есьця.* Рудня Лаг. *Варыва трэба кожны дзень есьці, то будзя здаровы жывот.* Дукора Пух. **2.** Крупнік. *Ці варыла ты сёньня варыва с аўсянкі?* Ляшчынск Мядз. **3.** Агародныя культуры. *Варыва зусім зарасло, палоць трэба.* Язні Віл.

**ВАРЫВЕ́НЬКА** *ж.* **1.** *Памянш. да* варыўня́. *Цяпер жа брушніцы зьбіраюць зялёныя, дык я іх у варывеньку пастаўлю, яны там і дасьпяваюць.* Будслаў Мядз. *Калі ў варывеньцы халанна, дык жар носім.* Мікольцы Мядз. **2.** Падполле, памяшканне пад падлогай. *Варывенька была ў хаце.* Будслаў Мядз.

**ВАРЫЎНЯ́** *гл.* ва́раўня

**ВА́РЫЦЬ** *незак., безас.* Прыпякае. *Ну й варыць, хоць бы ветрыку трошкі.* Арцюхі Стаўб. ◊ **Галава варыць** *у каго-н.* — пра кемлівага, разумнага. *У яго галава варыць, талковы мужык.* Вецярэвічы Пух. **Галава не варыць** *у каго-н.* — пра някемлівага чалавека. *Я кончу восім клас, далей вучыцца ня буду, у мяне галава не варыць.* Мікольцы Мядз.

**ВАРЭ́ННЕ** *н.* ◊ **Варэ́нне з брусні́ц** — бруснічнае варэнне. *Як вараць варэньне з брусьніц, дык цукар ложаць кіло на кіло.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Варэ́нне з парэ́чак** — парэчкавае варэнне. *Я цяпер усякага варэньня наварыла, шчэ звару варэньня с парэчак.* Забалоцце Смал. **Варэ́нне з труска́лак** — клубнічнае варэнне. *Сёлета я зварыла пяць кілаграм варэньня с трускалак.* Дукора Пух. **Варэ́нне з я́блыкаў** — яблычнае варэнне. *Варэньня з яблыкаў на зіму наставіла.* Бясяды Лаг.

**ВАР'ЯВА́ТЫ** *прым.* Звар'яцелы. *Ён быў нейкі вар'яваты, а цяпер супакоіўся.* Гілікі Валож.

**ВАСАРВА́ГА** *ж. Цясл.* Грунтвага, ватэрпас. *Кап сталяваньне паслаць, неабходна васарвага. Да суседа хадзіў — у яго няма, а сваю васарвагу мусі дзеці закінулі.* Акалова Лаг.; *параўн.* ням. Wasserwage 'тс'.

**ВАСІЛЁК** *м. Бат.* **1.** Радоўка фіялетавая (Tricholoma nudum Quel.). *Васількі ў лесі заўсёды ратком растуць. Васількі — грыбы, зьверху сіняватыя, спаднізу сінія, корань невысокі, таўставаты, растуць у радок.* Нізок Уздз. **2.** Страчок звычайны (Gyromitra esculenta Fr.). *А гэта я васількоў столькі на адным месьця знайшла!* Раўчак Пух.

**ВАСІЛЬКО́ВЫ** *прым.* Валошкавы, з нектару валошкі. *Пра васільковы мёд мала хто знае, цяпер і васількоў мала ў жыці.* Пруды Стаўб. *Васільковы мёт не натта добры, ня вельмі смачны.* Вішнева Валож.

**ВАСІМНА́СЦЕ** *ліч.* Васемнаццаць. *Дзеўкі па васімнасьце гадоў, а нічога ш ні панімаюць.* Лоск Валож. — *Астаецца васімнасьце капеяк? Дайця сярчыкоў васімнасьце пушак.* Старая Мядз.; *параўн.* польск. osiemnaście 'тс'.

**ВАСКАВЫ́** *прым.* Васковы. *Васкавыя сьвечкі з воску рабілі, а цяпер дык сьвечкі некія накшыя, ня з воску.* Вецярэвічы Пух.

**ВАСПАВІ́НКА** *ж.* Ямка або шрам на скуры пасля воспы або прышчэпкі воспы. *У нас кажуць васпавінка, а не воспа.* Ігрушка Круп.

**ВАСПАВІ́ТЫ** *прым.* Васпаваты, рабы. *Калі ліцо пабіта на ямкі, дык называюць васпавітае.* Пруды Стаўб.

**ВАСПАЛЕ́ННЕ** *н. Мед.* Запаленне. *Васпаленьням у нас многа хто хварэў гэты гот.* Вецярэвічы Пух. *Запухла вока, доктар сказаў, што васпаленьня вока.* Ігрушка Круп. *Як было васпаленьня вуха, дык аш аглухла.* Дукора Пух.; *параўн.* рус. воспаление 'тс'.

**ВАСПАРЭ́ННЕ** *н.* Гарачае вільготнае надвор'е, парнасць. *Як васпарэньне, то добра растуць гуркі.* Пруды Стаўб.

**ВАСПІ́ТАНЫ** *у знач. прым.* Выхаваны. *Дзеці вучыцеляў дык не такія, як нашы, больш васьпітаныя.* Папоўка Мядз.; *параўн.* рус. воспитанный 'тс'.

**ВАСПІТА́ЦЕЛЬКА** *ж.* Выхавацельніца. *Дзяўчына высокая, чыстая с твару, васпітацелькай робіць у дзетдоме.* Язні Віл.

**ВАСПІТА́ЦЬ** *зак.* Выхаваць. *Бач, які бацька, сам дзяцей васьпітаў.* Нізок Уздз. *Я адна, без мужыка, васьпітала чацьвярых дзяцей, вывела ў людзі.* Папоўка Мядз.; *параўн.* рус. воспитать 'тс'.

**ВАСПІ́ТВАЦЬ** *незак.* Выхоўваць. *Яны ш правільна дзяцей васьпітваюць, усе дзеткі люцкія.* Малінаўка Лаг. *Цяжка было адной васьпітваць ету чэляць малую ў тыя гадэ.* Дукора Пух.

**ВАСТРАКО́Л** *м.* Агароджа з вострых калоў. *Вастракол добра, дзеці баяцца лазіць.* Паплавы Бярэз.

**ВАСТРАНО́СІК** *м. Заал.* Шкоднік саду. *Вастраносік — первы шкоднік саду.* Бяларучы Лаг.

**ВАСЦІГНУЦЬ** *зак.* Пачацца. *Як васьцігнуў голат, тады мы рашылі атправіцца на сваю родзіну.* Шутавічы Смарг.

**ВАСЦІНА** *ж.* Тое, што і балта́к. *Васьцінай заганяюць рыбу ў сетку, боўтаюць у вадзе і палохаюць рыбу.* Хожава Маладз.

**ВАСЬМА́К** *м.* Восьмая частка, доля якой-н. адзінкі. *Васьмак — восьмая частка валокі.* Ляшчынск Маладз.

**ВА́СЬМЕ́РА** і **ВО́СЬМЕРА** *ліч. зб.* Васьмёра. *Васьмера дзяцей у мяне, усіх сумела выгадаваць.* Скамарошкі Стаўб.

**ВАСЬМЁРКА** *ж. С.-г.* Каса даўжынёй 80 см. *Там васьмёркай добра касіць, лёхка ідзе. Я папробуваў дзявяткай, далёка дзявятка стаяла ад васьмёркі — стаў васьмёркай касіць.* Арцюхі Стаўб. *У нас больш васьмёркамі косяць, васьмёрка — самая пахватная каса.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВАСЬМІНІТО́ВІК** *м. Ткац.* Палатно, тканае ў восем нітоў. *Усяк ткалі. Во гэта засланыя васьмініговікі, ткаліся ў 8 нітоў.* Завішына Лаг.

**ВАСЬМІНІТО́ВЫ** *прым.* Тканы у восем нітоў. *У мяне васьмінітовая скацярць.* Дукора Пух.

**ВАСЬМІНІ́ТЫ** *мн.* Тое, што і васьмінітóвік. *Наткала васьмінітаў, падарак будзець пляменьніцы.* Вішнева Валож.

**ВАСЬМІРО́ЧНІК** *м.* У васьмігадовым узросце. *А ў мяне сынок-васьміročнік памёр у той цяшкі гот.* Баяры Маладз.

**ВАСЬМІРУ́ЧКА** *ж.* Тое, што і васьмёрка. *Сяміручка у нас касу завуць, і ёсь васьміручка, і дзевяціручка.* Дукора Пух. *Каса па даўжыні бывае сяміручка, васьміручка, дзевяціручка.* Турэц Чэрв. *Купіў васьміручку, накляпаю і касіць пайду.* Малінаўка Лаг.

**ВАСЬМУ́ХА** *ж. Ткац.* **1.** Бёрда на восем пасмаў. *У нас ткуць і ў васьмуху.* Хожава Маладз. **2.** Тое, што і васьма́к. *Васьмуха менш за тры гектары, але больш за два.* Дукора Пух.

**ВАСЬМЯРНО́ВЫ** *прым.* Тое, што і васьмінітóвы. *А ў дзевак спадніцы тканыя васьмярновыя. Шылі спадніцу, а наверх шырокую, як хвартух, ззаду завязавалася. Пойдзе дзеўка танцаваць, а спадніца аш па гармоніку вея.* Глебаўшчына Лаг.

**ВАСЬМЯРНЯ́** *ж.* Тое, што і васьмінітóвік. *З васьмярнёў шылі пошаўкі на падушкі.* Мацкі Мядз.

**ВАСЬМЯРЫ́К** *м.* Жылое памяшканне з васьмі кватэр. *Яна ў васьмярыку жыве.* Дукора Пух.

**ВА́ТА** *ж.* Ручная лавушка з сеткі ў выглядзе сачка на доўгім шосце. *Вата зробляна зь нітак, надзета на пруток, сетачка такая.* Вецярэвічы Пух.

**ВА́ТНАЯ АДЗІЯ́ЛА.** Тое, што і ва́тнік (у 1 знач.). *Ватным адзіялам накрываюцца, як холадна.* Вязынка Маладз. *Ватным адзіялам летам не накрываюцца: горача.* Рудня Лаг.

**ВА́ТНІК** *м.* **1.** Ватовая коўдра. *Гэта каб як цяперака, дык ватнікі, а ўперат хто гэта зноў ватнікі.* Вязынка Маладз. **2.** Безрукаўка на ваце. *Калі адрэзаць рукавы ад фуфайкі, дык вот табе і ватнік.* Пудзіцк Пух.

**ВА́ТНІКІ** *толькі мн.* Мужчынскія ватовыя фастрыгаваныя штаны. *Далі мне новую сьпяцоўку, боты рызінавыя і ватнікі.* Горкі Стаўб. *Цяперака зімы не натта халодныя, тыя і ватнікі не вельмі патрэбны.* Заазер'е Віл. *Купіў бы ватнікі, бо марос у ватніках ня страшны.* Пярэжыр Пух. *Цёпла сёліта. А летась у гэтую пару пад вечар нада было ватнікі адзяваць і кажух, каб ні зьмерзнуць.* Бяларучы Лаг.

**ВАТО́** *часц.* Ото. *Вато людзей пастралялі ў вайну, аш страшна ўспомніць!* Баяры Маладз. *Вато я выйду, пачакай.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВАТО́ВІК** *м.* Тое, што і ва́тнік (у 2 знач.). *Апрані ватовік, цяплей будзе.* Вішнева Валож. *У ватовіку табе цяплей будзе.* Сакаўшчына Валож.

**ВАЎКАЛА́КА** *ж.* Ваўкалак, пярэварацень. *Ціха, ня плач, а то ваўкалака забярэ.* Бытча Барыс.

**ВАЎКАРЭ́ЗІНА** *ж. Лаянк.* Варты толькі на спажыву ваўкам. *Но, ваўкарэзіна, ідзеш і сьпіш, кап ты здох, кап ты!* Дукора Пух.

**ВАЎКАЎНЯ́** *ж. Перан.* ◊ **Як ваўкаўня** (хата) — неапаленая, з волкім паветрам. *Патпаліце печку, а то хата як ваўкаўня халодная.* Вішнева Валож.

**ВАЎЧАЛЫ́К, ВО́ЎЧАЕ ЛЫ́КА** *бат.* Ваўчаягада (Daphne mezereum). *Цьвіце ваўчалык ружовымі кветачкамі, ягаткі на ім чырвоныя, ня можна есьці гэныя ягады.* Рудня Лаг. *На воўчым лыку квяты натта пекныя.* Ляшчынск Мядз. *Шмат воўчага лыка ў лесе, дубец вось выразаў.* Бясяды Лаг.

**ВАЎЧАНЯ́ТКА** *н. Памянш.* Ваўчаня. *За маленькіх ваўчанятак грошы даюць, калі іх жывых даставіш.* Бясяды Лаг.

**ВАЎЧО́К** *м. Заал.* **1.** Ёрш (Acerina). *Налавіў рыбы, адных ваўчкоў, а што зь імі рабіць? Я ня ўмею нічога з ваўчкоў рабіць.* Чыжаха Бярэз. **2.** Фігурка са збітых накрыж дручкоў, якую прымацоўваюць на самы верхні край даху. *Глядзіця, і Йван на сваю хату ваўчок прыбіў.* Чыжаха Бярэз. *Ваўчкі накрыш зьбіваюць і кладуць на страху, каб вецер не узьдзіраў саломы і ня зьнёс дошак с канька.* Рудня Чэрв.

**ВАЎЧЫ́НЫ** *прым.* Воўчы. *Гэта ваўчыныя сляды, вялікія лапішчы такія.* Нізок Уздз.

**ВАЎЧЫ́ЦА** *ж.* Вялікая кудзеля воўны. *Бывая, за дзень цэлую ваўчыцу спрадзеш, назаўтра зноў увязваеш.* Завішына Лаг.

**ВА́ФЕЛЬНІЦА** *ж.* Тое, што і ва́льцы. *Я*

*бачыў гэтую вафельніцу, але ў мяне самога няма яе.* Хожава Маладз.

**ВА́ЦІКІ** *толькі мн.* Боцікі з нізкімі халяўкамі. *Быў у нас адзін, дык пасварыўся з маткай, адзеў вацікі і ў дарогу.* Рудня Чэрв.

**ВА́ЧАК** *м. Рыб.* Мяшок на злоўленую рыбу. *Рыбу сягоньня прадавалі, два чарпакі рыбы ўсялякай усыпалі ў мой вачак.* Мікольцы Мядз. *Як прышлося рыбу на беразе выбіраць, так аказалася, што і ён свой вачак забыўся. Тутака я ўжо сьмяяўся зь яго.* Логавіны Мядз. *Хлопцы, давайце вачак, буду рыбу класьці.* Канстанцінава Мядз.

**ВАЧА́СТЫ** *прым.* Лупаты, з вялікімі вачыма. *У нас вачастых німа, а некаторым ідуць вялікія вочы.* Вішнева Валож.

**ВАЧЫВІ́ТНА** *прысл.* Увачавідкі. *Вачывітна сьнех расстае.* Цялякава Уздз.

**ВАША́К** *м. Зневаж.* Малыш. *Нашу цялушачку вашаком завуць, таму што маленькая. Хто ягнём заве за малы рост, хто вашаком, што як вош малая.* Бяларучы Лаг.

**ВАШЭ́ЦЕ.** Устарэлая ветлівая форма звароту. *Мо вашэце паела б з намі?* Броды Маладз.; *параўн.* польск. waszeć — скарочанае wasza miłość.

**ВАЮ́Н** *м. Заал.* Уюн (Misgurnus). *Ваюн — рыпка невялікая, рабая, як гадзюка.* Папоўка Мядз. *У нас кажуць хто ўюн, а хто ваюн, гэта такая рыба, падобная на вужа.* Дукора Пух.

**ВЕ́ДАЦЦА** *незак.* Падтрымліваць сяброўства, знацца. *Мы ведаемся даўно.* Дукора Пух.

**ВЕ́ДАЦЬ** *незак.* Умець. *Ой, бапка, я ні ведаю кароў даіць.* Каменка Уздз. **Бог ведзь** — невядома. *Я стары, нада, кап пат старась свая капейка трымалася: усё можа быць, сягоньня жывём, а заўтра бог ведзь што будзіць.* Язні Віл.

**ВЕДЗЯРКО́** *н.* Вядзерца. *Дзет вадзіцы азяў ведзярко, глядзіць — ля калоцца ляжыць цялушачка. Ён і ведзярко і цялушачку забраў дамоў.* Лубень Віл.

**ВЕ́ДЫМА** *прысл.* **1.** *безас. у знач. вык.* Вядома. *Ведыма, што вучоны чалавек гаворыць глатка, цікава, красіва.* Узгурск Чэрв. **2.** *у знач. часц.* Ужываецца ў выпадках, калі трэба канстатаваць што-н. *Ведыма карова, ёй корму многа трэба.* Цялякава Уздз.

**ВЕ́ЙНІК** *м.* Венік. *Натта добрыя вейнікі магазінныя, вельмі чыста пол зьмяцеш імі.* Будслаў Мядз.

**ВЕКАВУ́ХА** *ж.* Старая дзеўка. *Векавуха гэта стала маладзіцца, глядзець за сабою.* Ігрушка Круп.

**ВЕЛЬКА́НАЦ** *м.* Вялікдзень. *На велька-нац ня ела булку вельканоцную, але села на печы, абаперлася от гэдак і цэлу пачку кукурузных. Савоні Стаўб.* — *На вельканац ня ела булку вельканоцную, але села на печы, абаперлася от гэдак і цэлу пачку кукурузных зьела, палачак гэтых кукурузных.* Савоні Стаўб. *Як во находзіць сьвята, вельканац за пару дзён, тата з мамай складаюць сьвянцонку.* Залазоўе Віл.; *параўн.* польск. welkanoc 'тс'.

**ВЕ́ЛЬКІ** *прым.* Вялікі. *Велькая вёска тая, што за тым узгоркам.* Бясяды Лаг. *Васіль самы велькі хлопец у класі.* Горкі Стаўб.; *параўн.* польск. welki 'тс'.

**ВЕ́ЛЬМА** *прысл.* Вельмі. *Вельма пат старасьць косьці баляць.* Каменка Уздз. *Сёньня вельма холадна для лета.* Вецярэвічы Пух. *Вельма далёка іці туды.* Пудзіцк Пух. *Але было вельма далёка езьдзіць, а на кварціру не хацела аставацца.* Дрычын Пух.

**ВЕНҐЕ́РКА** *гл.* ванґерка

**ВЕ́НЕЦ** *м.* Вянец. *Дружкі трымалі венец над галовамі маладых, як вянчаліся ў царкве.* Пудзіцк Пух.

**ВЕНЗЯНЯ́КА** *м.* Вязень, палонны. *Як гналі вензянякаў па гасьцінцы, дак бабы нашы хлеп, сала выносілі, а немцы іх бізунамі адганялі.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. więzień 'тс'.

**ВЕРАБЕ́Й** *м.* Танцор у беларускім характарным танцы. Танец выконваўся як кругавы з падскокамі, якія імітавалі хаду вераб'я. *Усе становяцца ў кола і пяюць: „Вярабей, вярабей, не клявай канапель", а вярабей стаіць у сярэдзіне кола і танцуя.* Дукора Пух.

**ВЕРАБЕ́ЙНІК** *м. Бат.* Лазаніца (Lysimachia). *Памятаю, галодны год быў, дык верабейнік елі. Ад верабейніку ўрэдна не было.* Саланая Валож.

**ВЕРАБІ́НКА** *ж.* Мясцовы гатунак бульбы. *Верабінка — яна красная і глаткая, смачная бульбачка.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЕРАБО́К** *м. Заал.* Рабчык (Tetrastes bonasia). *Верабка бачыў, ён пад ёлачкай выседжвае яечкі.* Бяларучы Лаг.

**ВЕРАПЛА́Н** *м. Уст.* Аэраплан, самалёт. *Даўней, як убачыш вераплан, дык хаваесься, а цяпер і ў Маскву паляцела п.* Лыцавічы Віл. *Надумалася на старасць на вераплані лётаць.* Падзерычы Стаўб. *Рэтка хто кажа вераплан, найбольш завуць самалёт.* Вязынка Маладз.

**ВЕРАСАВІ́К** *м. Бат.* Баравік, што расце ў верасе. *Верасавікі — добрыя баравічкі, першасортныя грыпкі.* Баяры Маладз.

**ВЕРАСКО́ВЫ** *прым.* Верасовы. *Верасковы мёт цямнейшы за ліповы.* Малінаўка Лаг.

**ВЕРАЎЧА́НКІ** *толькі мн. Уст.* Лапці, зробленыя з вяровак. *Вяраўчанкі насілі ўсюды, бо ня мелі ботаў.* Дукора Пух. *Вяраўчанкі плялі кручком.* Забалоцце Смал.

**ВЕРАЦЕ́ЛЬНІЦА** *ж. Заал.* Вераценніца ломкая (Anguus fragilis). *Верацельніца пахожа на сьліўня, у мокрых лясах, садах, на лугах водзіцца, дзе грась.* Рудня Чэрв.

**ВЕРАЦЕ́ННІК** *м. Заал.* Тое, што і в е р а ц е́ л ь н і ц а. *Хлопцы думалі злавіць вераценьніка, але ў яго, кажуць, хвост адламаецца, як зачэпіш.* Хожава Маладз.

**ВЕ́РАЦЕНЬ** *м. Уст.* Мера даўжыні поля (загона), роўная 100 метрам. *Верацянь жжала і на другі перайшла.* Пруды Стаўб. *Даўней пяць вератняў бульбы садзіў.* Сверанава Стаўб. *Даўней некія вератні ведалі, поле вератнямі мералі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЕРАЦЁН** *м. Заал.* Лічынка міногі, вугрыца. *Верацён — гэта рыба такая тонянькая-тонянькая, як дупчык уся роўна, яе не ядуць, на яе рыбу ловяць. Верацёны ёсьцяка ў нас.* Дукора Пух.

**ВЕРАЦЁННІЦА** *ж.* Тое, што і верацёльніца. *Верацёньніцы ў Нёмні жывуць, яны ўсё круцяцца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЕРАЦЯНІЦА** *ж.* Тое, што і верацёльніца. *Верацяніцы палку падаткні, дык яна ўдзёўбніцца і апкруціцца вакол.* Папоўка Мядз.

**ВЕРАЦЯНО́** *н.* Вертыкальны шпянёк, на які насаджваецца верхні камень жорнаў. *Верацяно стаіць зьнізу, упушчана ў ніжні камень, а дзяржыць верхні камень.* Вецярэвічы Пух.

**ВЕРАШЧА́КА** *ж. Кулін.* Поліўка з грыбамі. *Верашчаку з грыбамі варыла прошлы гот яшчэ, а цяпер — не: нельга грыбы есьці, шкодзяць.* Хожава Маладз.

**ВЕРАШЧЭЦЬ** *незак.* Вісклiва пішчаць. *Ужэ сьвіня верашчаць, трэба есьці нясьці.* Бяларучы Лаг.

**ВЕ́РБА** *ж. Бат.* Вярба (Salix L.). *Верба натта ш скора акараняецца.* Ляшчынск Мядз.

**ВЕ́РБНІЦА** *ж. Абрад.* Вербная нядзеля. *Вербніца за тыдзень да паскі.* Пруды Стаўб. *На вербніцу вербы ўбіралі кветкамі, потым гэтай вярбой кароўкі ў поле праганялі і прыгаворвалі: „Ня я б'ю, вярба б'е, за тыдзень вялікдзень, здароўе ў косьці, а хвароба да лесу".* Бяларучы Лаг.

**ВЕРВЯНО́К** *м.* Вянок, шлюбнае ўпрыгожанне дзяўчыны. *Цяпер на вясельлі верявянкоў харошых няма, маладой пачэпяць нейкі кружок і ўсё.* Кукалеўка Чэрв.

**ВЕ́РМАЧКА** *ж.* Лясная сцяжынка. *Будзеця ісьці дарогай, потым направа, а там вермачка будзе, от па ёй і ідзіця.* Рудня Чэрв.

**ВЕ́РФЕЛЬ** *м.* Парода галубоў. *Цяпер ня ведаю, а раней жа дык усякія былі: і простыя галубэ, і верфелі, і паштовыя.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЕРХ** *м.* Смятанка, тлусты верхні слой на малацэ. *Наша карова добрая, верх вялікі на малацэ.* Калодчына Віл. *Верх на салоткім малаку састаяўся, сьмятанка салоткая.* Пагост Віл.

**ВЕРХАВО́ДКА** *ж.* Верхняя вада ў студні вясной. *Поўную студню верхавоткі наганяе кожную вясну, як толькі выльецца рака.* Будслаў Мядз.

**ВЕРХАГЛЯ́ДЗІНА** *ж. Экспр.* Высокаяростам. *Год назад яшчэ малая была, а цяпер такая верхаглядзіна вырасла, што роўная з бацькам стала.* Дрычын Пух.

**ВЕРХАЛА́З** *м. Асудж.* Легкадумны чалавек. *Увосянь верхалаз прыяжджаў мой. Што зь яго радасьці, лепш бы ня ехаў!* Хожава Маладз.

**ВЕРХАПЛА́ЎКА** *ж.* Невялікая прэснаводная рыбка сям. карпавых. *Верхаплаўкі толькі малыя, вялікія яны не растуць.* Шутавічы Смарг.

**ВЕРХАЎЁ** *н. Зб.* Валакно з верхняй часткі лёну. *Як шчэшым, трэба ш адабраць, дзе кужаль, а дзе верхаўё, камлі. Прадзём гэта адзьдзельна.* Белае Лаг.

**ВЕРЧ** *м.* Скрутак ільновалакна. *Зьвярцела лён у вярчы, усяго пяць выйшла, верч па чатыры жмені.* Турын Пух. *Спрала два вярчы лёну.* Вецярэвічы Пух.

**ВЕ́СЕЛА-РАЗВЕ́СЕЛА** *прысл.* Вышэйшае праяўленне радаснага настрою. *Весяла-развесяла было. Рана ўставалі, цёмнінька, гуртам зьбіраліся, ідом у грыбы. Сьмяёмся, прыдумляім.* Ялча Чэрв.

**ВЕСЕЛАТА́** *ж., толькі адз.* Весялосць. *Учора такая веселата была, такі дзянёк слаўны, а сёньня онь што.* Кукалеўка Чэрв.

**ВЕ́СКІ** *прым.* Цяжкі. *Ананасы натта веськія яблыкі, што каляні.* Мушанка Віл.

**ВЕСЛАЎШЧЫК** *м.* Весляр. *Веслаўшчыку пад вецер было цяшка гнаць лотку.* Ляшчынск Мядз.

**ВЕ́СНІКІ** *толькі мн.* Тое, што і варо́тцы. *Мы нанач закрываем весьнікі, калі хто йдзе, то пачуеш.* Падзерычы Стаўб.

**ВЕ́СЦІ** *незак.* Цягнуць, выводзіць голасам. *Прыгожа вядуць дзяўчаты, умеюць сьпяваць, аш заслухаесься.* Дрычын Пух.

**ВЕСЯЛЦО́** *н. Памянш.-ласк.* Вясло. *Вясельцы для таго, каб сядзець і кіраваць.* Малінаўка Лаг.

**ВЕСЯЛУ́ХА** *ж.* Жанчына з вясёлым норавам. *Пасьмяяліся мы з ёй, пасьмяяліся, а яна весялуха такая, усё сьмяецца.* Язні Віл.

**ВЕТА́Ж** *м.* Паверх. *Ён аш на чацьвёртым ветажы жывець, як толькі ногі не баляць так высока падымацца.* Сядзіца Віл.

**ВЕ́ТКА** *ж.* **1.** Пладаносная частка сцябла злакавай расліны. *Буйныя веткі ў аўсе, але дрэнна, што палёх.* Вецярэвічы Пух. **2.** *сад.* Чаранок. *Бяру ветку аґрэсту, усаджваю ў зямлю с колічкам. На другі гот гэта ветка пусьціць карэньчыкі.* Папоўка Мядз.

**ВЕТРАВА́Л** *м.* Вялікай сілы вецер; бура, якая ідзе па лесе і валіць дрэвы. *Ветравал на маёй памяці быў страшны. Лес асінавы, дык больш як у стан чалавека ўсё зламала, скрышыла. Ёлку, я бачыла, вырвала і так круціла ўвярху, — такі ветравал нахапіўся.* Вішнева Валож.

**ВЕТРАЛО́М** *м.* Тое, што і в е т р а в а́ л. *Відаць, ветралом прайшоў, бо вот колькі абламанага гальля.* Вецярэвічы Пух.

**ВЕТРАНІ́ЦА** *ж.* Дошка, іх дзве, якія прымацоўваюцца па краях скатаў страхі, каб не раскідалася салома. *Ветраніцы на вільчыку могуць прывязываца дротам і прыбіваца гвазьдзямі.* Бытча Барыс. *Ветраніцы прыбіваюць, калі зроблена рашотка.* Ляшчынск Мядз.

**ВЕТЧЫНА́** *ж.* Вяндліна. *Папрабуй мае ветчыны, ці ўкусная?* Ігрушка Круп.; *параўн.* рус. ветчина 'тс'.

**ВЕ́ХА** *ж.* Тычка для абазначэння мяжы, напрамку руху. *Ставяць вехі, кап куды ў сьнех не заехаць.* Бясяды Лаг. *Вехі зімой ставяць, каб ведаць, дзе дарога праходзіць.* Забалоцце Смал.

**ВЕ́ХАЦЬ** *м.* Пучок цвёрдай травы або карэнняў яе. *Вазьмі вехаць, то лепш памыяш, чысьцейшы жбанок будзя.* Дукора Пух.

**ВЕ́ХЦІК** *м. Памянш.* да ве́хаць. *Вазьмі вехцік і вышаруй каструльку.* Вішнева Валож.

**ВЕЦІНА́Р** *м.* Ветэрынар. *Захварэла карова, клікалі вецінара.* Горкі Стаўб. *Мой хлопец цяпер вецінарам робіць.* Пудзіцк Пух.

**ВЕЧАРКІ́** *толькі мн.* Вячоркі. *А пойдзім на вечаркі, дзяўчат ізь дзесяць зьбяруцца на вечаркі, прадзём. У адной хаця сягоньня прадзём, у другой хаця — заўтра, так цэлаю зіму вечаркі.* Ластаянцы Валож. *Зьбіраюцца ў адну хату на вечаркі, хлопцы прыходзяць.* Пруды Стаўб.

**ВЕЧАРНІ́КІ** *мн.; адз.* **вечарнік** *м. Бат.* Ляўконія двухрогая (Matthiola bicornis). *Ой, як добра пахнуць вечарнікі па вечарах! Я кожны гот саджу вечарнікі, люблю.* Ляшчынск Мядз.

**ВЕЧАРУ́ШКІ** *толькі мн. Уст.* Вечары паміж Новым годам і вадохрышчам (зімовым рэлігійным святам). *На вечарушкі ў нас гадалі дзеўкі.* Ляшчынск Мядз.

**ВЕЧАРЫ́НЫ** *толькі мн.* **1.** Вечарынка. *Эта дзела было зімой. Сабраліся мы ехаць на адны вічарыны.* Бакачы Мядз. **2.** Вечарынка ў нявесты перад вяселлем. *На вечарынах шылі вянок маладой, уплятылі зялёныя галінкі памяранцу, рабілі фату.* Забалоцце Смал.

**ВЕ́ЧКІ** *мн.; адз.* **ве́чка** *н.* Вейкі, валаскі на краю павек. *У нас раней вечкі казалі, а цяпер больш расьніцы завуць.* Вязынка Маладз.

**ВЕ́ЧНЕ** *прысл.* Заўсёды. *Мае ногі халодныя вечня.* Цялякава Уздз.

**ВЕ́ШАЛА** *н.* Жэрдачка, падвешаная за канцы, для сушэння чаго-н. *О, грыбоў! Цэлае вешала.* Забалоцце Смал.

**ВЕ́ШАЛЬНІК** *м.* Вісельнік. *Даўней вешальнікаў на могілках ні хаанілі.* Вецярэвічы Пух.

**ВЕ́ШАЛЬНІЦА** *ж.* Вісельня. *Прывялі іх і ўжо хацелі на вешальніцу павесіць.* Пудзіцк Пух.

**ВЕ́ШКА** *ж.* Тое, што і в е́ х а. *Вешкі ставяць, каб ня блудзіць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЕ́ШАЦЦА** *незак.* ◊ **Вешацца на шыю** — настойліва дамагацца прыхільнасці, сімпатыі. *Гэта ні дзеўка, калі сама хлопцу на шыю вешаіцца.* Паплавы Бярэз.

**ВЕ́ЯЛКА** *ж.* Тое, што і в е́ ч к а; *гл.* ве́чкі. *Веялка папала ў вока, рэжа вельмі.* Цялякава Уздз.

**ВЖЭ́СЕНЬ** *м.* Верасень. *Скора наступіць вжэсень, а там і зіма не за гарамі.* Вязынка Маладз.; *параўн.* польск. wrzesień 'тс'.

**ВІ́ҐА** *ж. Бат.* Віка, гарошак пасяўны (Vicia sativa). *Віґу с аўсом калхос сея.* Нізок Уздз.

**ВІ́ҐАВЫ** *прым.* Вікавы. *Віґавую муку коням малолі, на вобмешку, а як ні было, дык і сабе ў хлеп сыпалі.* Нізок Уздз.

**ВІҐІ́ЛІЯ** *ж.* Урачыстая вячэра напярэдадні каляд. *Віґілія — посная вячэра.* Канстанцінава Мядз.; *параўн.* лац. vigilia 'варта'.

**ВІД** *м.* Твар. *Такі ўжо віт прыгожы быў у яго, а цяпер брыткі: воспа паела.* Вязынка Маладз. *Ён нічога зь віду, але насаты натта.* Ластаянцы Валож. ◊ **Не паказываць віду** — нічым не выяўляць, не паказваць сваіх намераў, пачуццяў і пад. *Патходжу бліжэй, а там нямецкая аўчарка гаў-гаў! Я ўмлела на гэтым месця, а сама ні паказываю віду, чакаю.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**ВІДА́ЦЦА** *у знач. пабочн.* Відаць. *Відаца, многа навезьлі [насення], і сягоньня многа хто накупляў.* Яцыны Мядз.

**ВІДА́ЦЬ** *у форме інф.* ◊ **Відаць серада з-пад пятніцы** — неакуратна апрануты, відаць споднняя бялізна ў каго-н. *Пацьцягні сподню, відаць серада с-пат пятніцы.* Пруды Стаўб.

**ВІ́ДЗЕН** *у знач. вык.* ∇ **Відзен сокал па палёту.** Заброддзе Віл.

**ВІ́ДЗЕЦЬ** *незак.* Бачыць, заўважаць. *Яня, ты ні відзяла, я тутака кан на малако ішчо адзін ставіла? Хто гэта сягодня дзяжурыць, можа ён відзяў?* Канстанцінава Мядз.; *параўн.* рус. видеть 'тс'.

**ВІ́ДЗЯЧЫ** *у знач. прым.* Такі, хто мае добры зрок, добра бачыць. *Дужа відзячы чалавек быў, за метру дзяржаў газету і чытаў.* Ляхавічы Дзярж.

**ВІДО́К** *м.* Карціна, пераважна пейзаж. *Прыгожы відок намаляваў наш Ясь.* Мядзел Мядз.

**ВІДО́ЧНА** *прысл.* Відавочна. *Не я, дык ён, відочна, зойдзе да цябе.* Нарач Віл. *Відочна, у магазіне мяса дзешавей, чым на рынку.* Грышкавічы Віл.

**ВІДУ́Н** *м. Бат.* Відомец балотны (Parnassia Palustris). *Відун параць і п'юць з малаком, бо ён ядавіты.* Вязынка Маладз.

**ВІ́ДУЧЫ** *прысл.* Увачавідкі, на вачах.

*Вільгаці зь вясны хватала, а яшчэ сонца, — відучы ўсё йшло ўгару. За ноч картошка на паляц падрастала, каліўе лапушыстае відучы ў калена стала.* Бяларучы Лаг.

**ВІДУЧЫ** *прым.* Тое, што і відзячы. *Быў такі відучы, а тут нешта ш зрабілася.* Турэц Чэрв.

**ВІДЭЛАК** *м.* Відэлец. *Дала я ім відэлкі есьці мяса.* Пудзіцк Пух.

**ВІЖ** *м.* Чалавек, які імкнецца непрыкметна выведаць, высачыць пра другіх. *Старая такі віж, што ні дай божа, усё вывіжыць, пад зямлёю ўсё ўгледзіць.* Ляхі Нясв.

**ВІЗІРКА** *ж. Спец.* Прасека. *Візірка — гэта лінія, прасечаная ў лесе.* Пруды Стаўб.

**ВІКАЎЕ** і **ВІКОЎЕ** *н.* Поле пасля вікі. *Дзе расла віка, кажуць вікаўе.* Ляхавічы Дзярж. *Па вікоўі пасьціць забаранілі.* Рудня Лаг.

**ВІКОВІШЧА** *н.* Тое, што і вікаўе. *Поле, на якім расла віка, завуць віковішча.* Бытча Барыс. *Дзе віка расла, віковішча называюць.* Нізок Уздз.

**ВІКОЎЕ** *гл.* вікаўе

**ВІЛАЧКІ** *толькі мн. Спец.* 1. Рагач у калаўроце, на якім умацавана шпуля. *На вілачкі шпулю насаджваюць і прадуць.* Вялікая Вуса Уздз. 2. Прыстасаванне ў галаве калоды для трымання сотаў. *На вілачкі адзяюцца соты, і пчолкі носяць мёд.* Малмыгі Віл. 3. Тое, што і вілкі дзеравяныя. *Трасуць трушанку дзеравянымі вілачкамі.* Пруды Стаўб.

**ВІЛАШНІК** *м.* 1. Качарэжнік. *У вілашніку стаяць вілкі, чапяла, венік.* Палессе Мядз. 2. Вожаг, дзяржанне ў вілках. *Вілашнікам па прыпячку шморгала, дык зьдзёрся, саганы цягаючы, пераломіцца скора.* Баяры Маладз.

**ВІЛЕЙКА** *ж.* Назва касы па месцы выпуску. *Я знаю, што ў нас толькі вілейкі бываюць, а больш ні замячаў.* Ігрушка Круп.

**ВІЛКА** *ж.* Тое, што і відэлак. *У нашу лаўку як прывязуць дзяшовыя вілкі, то адразу разьбіраюць.* Дукора Пух. *Зламала рох у вілцы.* Забалоцце Смал. *Вуньдзяка ляжаць вілкі, прынясі іх сюды.* Вішнева Валож.

**ВІЛКІ** *мн.* 1. Правілкі. *Амаль кожны паляўнічы вілкі маець, каб расьцягнуць шкурку зайца для сушкі.* Канстанцінава Мядз. 2. Прылада лавіць ракаў. *Ловяць ракаў вілкамі, рашчэпленай палкай такой.* Нарач Мядз.

**ВІЛКІ ДЗЕРАВЯНЫЯ.** Драўляныя вілы на два або тры рагі. *Раней сахароў ні было, а былі вілкі дзеравяныя, дак сена на вос або на стох падавалі гэтымі вілкамі.* Вялікая Вуса Уздз. *Вілкі дзеравяныя на два рагі, з арэхавай дзеравіны іх рабілі.* Бяларучы Лаг. *Дзяравяныя вілкі робяць с арэшыны.* Ляхавічы Дзярж. *Дзеравянымі вілкамі трасуць трушанку каровам, коням.* Дукора Пух.

**ВІЛЫ** *толькі мн.* 1. Вілкі, пры дапамозе якіх ставяць у печ і вымаюць з яе чыгуны, гаршкі. *Гэтымі віламі застаўляем саганы ў печ.* Баяры Маладз. *Вазьмі вілы і выцягні гаршчок сь печы.* Вішнева Валож. 2. *перан.* Галіны. *Вілы вялікія, многа яблык на іх, а вецер, дык ствол і рашчапіла, разарвала яблыньку.* Малінаўка Лаг. 3. Развіліна, месца разыходжання дарог. *Во за тым бугром ёсьць вілы ў нас, дзе дарогі расходзяцца.* Бяларучы Лаг.

**ВІЛЬКАЧКА** *ж. Заал.* Драпежная птушка. *Вількачка як толькі на дзянёк, ужо вількае.* Бясяды Лаг.

**ВІЛЬНІК** *м.* Тое, што і вілашнік (у 2 знач.). *Вільнік лець упрасіла, кап асадзіў.* Малмыгі Віл.

**ВІЛЭЧНІК** *м.* Тое, што і вілашнік (у 2 знач.). *На вілэчнік асаджваюць вілкі, каб вымаць гаршкі сь печы.* Бясяды Лаг.

**ВІЛЯЦЬ** *незак.* Ухіляцца ад чаго-н., хітрыць. *Ты прывыкла віляць, дык без гэтага ня можыш абыйсьціся.* Канстанцінава Мядз.

**ВІНАЎКА** *ж.* Вінёўка, гатунак чырвоных кісла-салодкіх яблык. *Вінаўкі — буйныя чырвоныя яблыкі.* Крывічы Мядз.

**ВІНАГРАД** *м. Бат.* 1. Плюшч звычайны (Hereda helix). *Густы вінаграт абвіваецца, паўзець па плоці, па стрэхах, абвівае вокны.* Малінаўка Лаг. 2. Хмель звычайны (Humulus lupulus). *Вінаграт садзюць людзі, хоць ён і не даець пладоў, затое хараша каля хаты.* Крывічы Мядз. *Вон каля хаты расьцець дзікі вінаграт. Яго ў нас яшчэ хмель завуць, шышачкі такія на ім.* Малмыгі Віл. ◇ **Вінаград пладаносны** — род шматгадовых раслін сям. вінаградных (Vitis). *Вінаград пладаносны рэтка дзе расьцець на Беларусі, больш за ўсё ён расьцець на поўдні.* Крывічы Мядз.

**ВІНҐЕЛЬ** *м. Спец.* Вінкель, навугольнік пад 90°. *Дзе трэба адрысаваць прамую лінію, дык вінґелям адрысуеш правільна.* Хожава Маладз. *У сталярным дзеле трэба вінґель для зарысоўкі прамых вуглоў.* Вязынка Маладз.; *параўн.* ням. Winkel 'вугал'.

**ВІНДА** *ж.* 1. Ліфт. *А тут у вас можа вінда, у том новым магазіні? А як жа на той віндзе падымацца?!* Савоні Стаўб. 2. Тое, што і бомка. *Падважвалі віндай і лажылі на калёсы.* Саланая Валож. *Давай вінду сюды, справа хутка пойдзе.* Арцюхі Стаўб.; *параўн.* польск. winda 'ліфт'.

**ВІННЫ** *прым.* Кісла-салодкі (на смак). *Я натта люблю вінныя яблыкі, паміраю за імі.* Паплавы Бярэз.

**ВІНТ** *м.* 1. Галоўка (у ручным гадзінніку). *Не заводзяцца часы, вінт сапсаваўся.* Вішнева Валож. 2. Шпень са спіральнай нарэзкай нацягваць струны. *Пры дапамозе вінтоў нацягваюць струны, настройваюць цымбалы.* Дукора Пух.

**ВІР** *м.* ◇ **Хоць у вір галавой** — пра цяжкае, безвыходнае становішча. *Але так мяне пры-*

*перлі [замуж], хоць у вір галавой.* Пагост Віл.

**ВІРЛА́ТЫ** *прым.* Лупаты. *Вірлатыя глаза дзерскія.* Рудня Чэрв. — *Ты ні помніш яго? Вірлаты такі кудлач, гадоў дваццаць яму. Успомні.* Раўчак Пух.

**ВІ́РЛЫ** *толькі мн. Зневаж.* Вочы. *Чаго вытрашчыў свае вірлы, першы рас убачыў ці што?* Канстанцінава Мядз. *Як гляне ён сваімі вірламі, дык пабягуць мурашкі па сьпіне.* Дрычын Пух.

**ВІ́РНІК** *м. Ганч.* Ніжняя частка ганчарнага круга. *Вірнік гэты абароты быстра робіць.* Кальчуны Ашм.

**ВІСКАТНЯ́** *ж., толькі адз.* Віск, пранізлівы крык. *А раніцай прыдзяш у хлеў, а сьвіня віскатню падымуць, хоць вушы затыкай.* Папоўка Мядз.

**ВІ́СЛА** *ж. Бат.* Ніцая вярба (Salix L.). *Раптам зь верху віслы раздаўся выстрал, адзін за адным. Аказваецца, фрыц узьлес на віслу, угледзеў нас і думаў нас перастраляць.* Мядзел Мядз.

**ВІСО́ЗНЫ** *прым.* Высачэзны. *Паставілі памятнікі вісозныя, піянеры кветкі прыносяць.* Дукора Пух.

**ВІСО́КІ** *прым.* Вялікі ростам. *Яна такая вісокая-вісокая, бо бацька і матка вісокія.* Дрычын Пух.

**ВІ́СУС** *м.* **1.** *асудж.* Прайдзісвет, распуснік. *У-у-у, вісус ненавісны: усё выцягня, усё забярэ, голага пакіня.* Войраўка Пух. **2.** Гарэза, свавольнік. *У суседа хлопец такі вісус: быстры, шустры, ня ўседзіць на месцы.* Забалоцце Смал.; *параўн.* польск. wisus 'тс'.

**ВІСУ́ЧЫ, ВІСУ́ШЧЫ** *прым.* Вісячы. *Наша вісушчая лямпа пабілася.* Цялякава Уздз. *Перш гарэла газовачка, а як запалілі вісушчую лямпу — віднатa!* Дукора Пух. *Мы замыкаям хату вісушчым замком.* Дукора Пух. *Вісучы замок на дзьвярах вісіць.* Нізок Уздз.

**ВІСЯ́ЧЫ** *прым.* Прывязаны да дрэва, умацаваны на суку ці дашчаных палацях. *Вісячы вулей завуць, што ставіцца на суку дзерава і прывязуецца дротам ці вяроўкай.* Бытча Барыс.

**ВІ́ТКА**[1] *ж.* **1.** Падпора для фасолі павойнай. *Па вітках фасоля ўецца.* Канстанцінава Мядз. **2.** Умоўны знак, вяха. *Стаіць пасярод лугу вітка як сторaш, тычка такая с пучком травы на канцы.* Папоўцы Віл. **3.** Цюк. *Сёньня цэлы дзень віткі вазілі, машына зьбівала, а мы грузілі.* Сырмеж Мядз.

**ВІ́ТКА**[2] *ж.* Лубка, плецены кораб. *Пільную пчол, ужо ўсё падрыхтаваў: і лошку, і вітку.* Малінаўка Лаг.

**ВІ́ТКА**[3] *ж.* Нізка. *Купіла вітку пацярак, а ці буду насіць — ня ведаю.* Турын Пух.

**ВІТО́К** *м.* Вірок звіваць ніткі ў клубок. *Нада свой віток зрабіць, а то хадзі і пазычай па хатах.* Нарач Віл.

**ВІТУ́ХА** *ж. Ткац.* Прыстасаванне, на якое намотваюць пражу. *Ну, вось што, мілая, прыходзь, будзям кросны заводзіць, вітухі намотаны, і ніткі высахлі.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Вітуху на лаве паставім, і адзін круціць яе.* Забалоцце Смал. *Спрадзём, на калаўрот пралі, на вітуху саўём, гэтыя вітухі дзьве паставім, дзьве нітачкі зь вітух пачэпім на столь і снуём на сьцяну.* Папоўка Мядз. *Пража на вітухах высахла, трэба ў клупке зьвіваць.* Цялякава Уздз.

**ВІТУ́ШКА**[1] *ж. Бат.* Фасоля павойная (Phaseolus vulgaris). *Вітушку і я сёлета пасадзіла для красаты.* Паплавы Бярэз.

**ВІТУ́ШКА**[2] *ж.* Абора (да лапця). *Танейшымі вітушкамі лапці падвязвалі.* Зазерка Пух.

**ВІХА́** *ж. Бат.* Цыкута ядавітая (Cicuta virosa). *Віха ёсць балотная, і есьлі карова зьесьць, яе сійчас разьнясець.* Ігрушка Круп.

**ВІХЛА́** *ж. Бат.* Вярба (Salix). *Віхла онь у нас на аселіцы стаіць, дужа прыгожая. Я люблю ўлетку пасядзець пад віхлой.* Баяры Маладз.

**ВІЦІШЧА, ВІЧЫШЧА** *н.* Салома з вікі. *Віцішча так даём карове, а жытнюю на сечку рэжам.* Хожава Маладз. *Вічышча — салома зь вікі.* Бытча Барыс.

**ВІЧА́НІШЧА** *н.* Поле пасля вікі. *На вічанішча пусьцілі коней: травы многа.* Рудня Валож.

**ВІЧА́НЫ** *прым.* Вікавы. *Вічаная мука — гэта мука зь вікі.* Малмыгі Віл.

**ВІЧЫШЧА** *гл.* віцішча

**ВІШ**[1] *м.* Трава, якая асталася на зіму не скошанай. *Віш косяць па лёду, зімой.* Рудня-Астравіты Чэрв. *Як сена ні хапая, тады віш косяць і скаціну кормяць.* Вецярэвічы Пух.

**ВІШ**[2] *у знач. пабочн.* Глядзі. *Ужо, віш, забылася.* Апенькі Віл.

**ВІШЧА́ЦЬ, ВІШЧЭ́ЦЬ** *незак.* Віскліва брахаць, крычаць. *Ля нары сабака пачаў вішчаць, драць лапамі зямлю.* Пруды Стаўб. *Дам сьвіньням есьці, а то будуць вішчэць.* Паплавы Бярэз.

**ВІШО́** *н. Зб.* Галлё. *Бярозавае вішо добра на веніку.* Ляшчынск Мядз.

**ВІШЭ́ННІК** *м. Зб.* Вішнёвы зараснік. *У нас вішэньнік вельма густы.* Цялякава Уздз.

**ВІЮ́ШКА, В'Ю́ШКА** *ж.* Тое, што і в і т у́ х а. *Рукі баляць, круцячы віюшку, а накруціць нада многа маткоў.* Ляшчынск Мядз. *А яшчэ як сваёй няма в'юшкі, пазычыш у сусеткі да стараісься, каб жа хутчэй, ото рукі баляць.* Крывічы Мядз.

**ВІЮ́ШЧАЯ ФАСО́ЛЬ** *бат.* Тое, што і в і т у́ ш к а[1]. *У мяне на гародзе віюшчая фасоль расьце.* Ляшчынск Мядз.

**ВО́БА** *ліч. зб.* Абодва. *Мужы воба паўмерлі.* Пудзіцк Пух.

**ВО́БАР** *м.* Рыбалоўная трохсценная сетка, сярэдзіна якой мае густое палатно, а па баках — рэдкае. *Напалі ў добрае месца, рыбы многа. А ў нас быў вобар. Як загналі многа рыбы, пачалі цягнуць, душка й трэснула ў вобры.* Пасынкі Мядз. *Вобрам адзін ні наловіш, трэба сама меній два-тры чалавекі. Вобар — выгадная сетка: як пацэліш на рыбная мейста, адразу можна дамоў падавацца.* Мікольцы Мядз. *Вобар бывае ат трыццаці да пяцідзесяці метраў.* Ляшчынск Мядз.

**ВО́БАРАТНІК** *м. Бат.* Трыпутнік (Plantago). *А колькі пагаладалі, як блакады былі. І цупікі елі, і вобаратнік. Рабілі крупы з вобаратніку, гэтых галовак зьбярэм, патсушым, у ступе стаўчэш — і крупы гатовы.* Гайна Лаг.

**ВО́БАРАТНІКАВЫ** *прым.* Трыпутнікавы. *Ходзіш-ходзіш па балоце, сморгаеш вобаратнікавыя качалачкі, насушыш, абатрэш, зьмеліш у жорнах, пасьля праснак лепіш.* Слабада Лаг.

**ВО́БЕРТКА** *ж.* Луста на ўсю шырыню буханкі. *О, адвярнуў якую вобертку! Мачай её ў тук. Намачайся, дый пухкай, як той кабан.* Рэдзькавічы Віл.

**ВО́БМАЛЬ** *прысл.* Малавата. *Капусты сёлета вобмаль, летась дык многа больш было!* Дрычын Пух.

**ВО́БМАРАК** *м.* Галавакружэнне. *Склярос тут у адной, дык вобмарак водзіць галаву, галава кружыцца.* Гілікі Валож. *У мяне вобмарак ад малакроўя, галава часта баліць.* Савоні Стаўб.

**ВО́БМЕГАМ** *прысл.* Бокам. *Глядзі, кап табе алаткі гэтыя вобмегам ні вылязьлі.* Цялякава Уздз.

**ВО́БМЕШНАЯ МУКА́.** Вотруб'е. *Зімой карове дабаўляім вобмешную муку, а не — хлеп размочваім.* Паплавы Бярэз.

**ВО́БРУЦЬ, ВО́БРЫЦЬ** *ж.* Аброць. *Даў суседу вобруць, а ён усё ні прыносіць.* Вялікая Вуса Уздз. *Вобруць надзяецца каню на морду, кап кіраваць.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Калі зьбіраюцца запрагаць каня, яму на галаву надзяюць вобрыць.* Саланая Валож.

**ВО́БУЙ** *м.* Тое, што і а б у́ т к а. *Згадзіўся я: дваццаць пяць пудоў хлеба на гот, вобуй, адзежа, харчы, з-пад каровы малака й кашы.* Замошша Віл. *І я быў на яга вобуі. Адзеў я яга боты.* Там жа. *А цяперака пра вобуй раскажу.* Вязынка Маладз. *Заставіла ўвесь куток вобуем, прыбяры.* Канстанцінава Мядз. *Як ідуць у хату, дык скідаюць свой вобуй у вірандзі.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВО́БУЙНЫ** *прым.* 1. Абутковы. *Мая дачка на вобуйнай фабрыцы робіць.* Завішына Лаг. 2. *у знач. наз.* Абутковая фабрыка. *Хлопяц у Мінску жыве, на вобуйнай робіць.* Пудзіцк Пух.

**ВО́БШЧАЖЫ́ЦЦЕ** *н.* Інтэрнат. *Мой сын у вопшчажыцьці жыве, тут недалёчка, я забягу да яго.* Завішына Лаг.; *параўн.* рус. общежитие 'тс'.

**ВО́ГЛЯДКА** *ж.* Нагляд. — *Дык хадзем да мяне. — Не, другім разам калі, бо там у мяне бес вогляткі жывёла асталася.* Порычы Валож.

**ВО́ГНІК** *м. Мед.* Хвароба, якая суправаджаецца высыпкай на губах. *Вогнік — болькі на твары. Яго некалі аткідалі вугольчыкамі. Бяруць дзевяць вугольчыкаў, садзяць у каго вогнік каля печы і аткідаюць, дзевяць разоў аткідаюць. Вогнік бывая толькі ў малых.* Цялякава Уздз. *У малых часта бывая, што пабудзя на ветры і высыпка нейкая на твары паявіцца, ці вогнік.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВО́ДАЛЯЙ** *прысл.* Воддаль, далекавата. *Я водаляй была і добра ні бачыла.* Рудня Стаўб.

**ВО́ДАР** *м. Мед.* Адзёр. *Калі ў каго захварэя дзіця водарам, то хадзіць туды няможна.* Забалоцце Смал.

**ВО́ДАРАСЛІ** *мн.* Водарасці. *Ля берага ў водарасьлях рыбы ў нашай рацэ вельмі многа.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВО́ДАРАСЛІНА** *ж.* Водарасць. *Водарасьлінай калодзесь зарастая, ачышчаць трэба.* Саланая Валож.

**ВО́ДДАЛЯ** *прысл.* Воддаль, далекавата. *Ён недзя воддаля жыве.* Цялякава Уздз.

**ВО́ДДЫХ** *м.* Канікулы, вольны ад занятказ час. *Дзеці на час воддыху сюды зьбіраюцца, да нас.* Дрычын Пух.

**ВО́ДДЗЕ, ВО́ДЗЕКА, ВО́ЙДЗЕ, ВО́ЙДЗЕКА** *прысл.* Тут, тут во. *Водзьдзя стаіць твой кош.* Цялякава Уздз. *Водзьдзя на гары ставяць бальніцу, с клуба перарабляюць.* Баяры Маладз. *Запыталі па фаміліі ў бабы адной канцавой, дзе такі і такі, яна прыняла і паказала — водзека ён.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Рака во гэта самая Бярэзіна во йдзе да Славенска, а іс Славенска — да Кражына, а іс Кражына во гэтак паверніцца і пойдзя войдзя во аш у Бакшты.* Ластаянцы Валож. *Войдзека пат паветкай ляжаць граблі.* Баяры Маладз.

**ВО́ДЗЕЖКА** *ж.* Вопратка. *Ты толькі глянь, якая на ёй водзешка — бы карова жавала.* Клетнае Барыс.

**ВО́ДЗЫЎКІ** *толькі мн.* Водгаласкі, рэха. *Вот галасочак, як крыкня, дак водзыўкі на ўсё сяло йдуць.* Навікі Віл.

**ВО́ДЛІЖ** *ж.* Адліга. *Пасьля марозу станя цёпла — вот і водліш.* Бясяды Лаг.

**ВО́ДНАЯ РУ́ЖА** *бат.* Тое, што і б у л д а́ ў к а. *Водная ружа расьце на стаячай вадзе.* Кальчуны Ашм.

**ВО́ДРА** *толькі адз.* Тое, што і в о́ д а р. *Водра — гэна дзецкая балесьць.* Хожава Маладз.

**ВО́ДУМ** *м.* Стан разважання, паглыблення ў свае думкі. *Водум мяне бярэ.* Сакаўшчына Валож.

**ВО́ДЧЫК** *м.* Павадыр. *Каня прывялі буль-*

*бу абганяць, пайду водчыка зваць.* Вецярэвічы Пух.

**ВО́ЖКА** *ж.* Ляйчына. *Ох, дзеўка, дачакаесься, што вошка па сьпіне паходзіць!* Клетнае Барыс.

**ВО́ЖКІ** *гл.* важкі

**ВО́ЖЫКІ** *толькі мн. Кулін.* Галушкі з рысу і мяснога фаршу, адвараныя і падсмажаныя. *Нараблю вожыкаў, нявестка натта ўпадабала. Хаця ж бы ўдаліся мае вожыкі.* Чабаі Валож.

**ВО́ЖЫЧЫХА** *ж.* Тое, што і в а ж ы́ х а. *Вожычыха выводзіць важанят у гнязьдзе — у полі, у лесе, а можа і ў хляве.* Ігрушка Круп.

**ВО́ЗДУХ** *м.* Паветра. *У лесе чысты воздух.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* рус. воздух 'тс'.

**ВО́ЗРАСТ** *м.* Пол. *Вучыліся толькі мушчынскага возрасту, а жэнскага ніхто й ня думаў. Зіму-дзьве паходзіць, умеіць распісацца і до.* Альсевічы Мядз.

**ВО́ЗЧЫК** *м.* Фуражыр. *Вошчык прывозіў збожжа малоць, муку і сьвіньням даюць, і каровам патсыпаюць.* Вецярэвічы Пух.

**ВО́ЙДЗЕ, ВО́ЙДЗЕКА** *гл.* во́ддзе

**ВО́КА** *н.* ◊ **Адны вочы блішчаць** — вымазацца, забрудзіцца да такой ступені, што толькі вочы свецяцца. *Дзеці пяклі асмалёнкі, елі, алі так павымазаваліся, што ні пазнаць, адны вочы блішчаць.* Калодчына Віл. **Адным вокам глянуць** — мімалётна глянуць. *Што ўжо там за нявестка такая, хоць бы анным вокам глянуць.* Язні Віл. **Бразгаць па вачах** *чым-н.* — папікаць, упікаць. *Узяў замуж бяднейшую за сябе, а цяпер ёй гэтым на вочы ўскідаіць. Нечага табе бразгаць па вачах беднасцю, цяпер ні тыя часы, як раней.* Заброддзе Віл. **Вока набіць** — быць напрактыкаваным, з першага погляду ўмець правільна вызначыць што. *Прыёмшчыца вока набіла: яна толькі гляне на твеё малако і бачыць, што ты вады боўтнула.* Савоні Стаўб. **Вачмі апалаць** — чырванець. *Вот ужо прышлося перад сусеткай вачмі апалаць: на ўваходзінах тры талеркі яе пабілі.* Язні Віл. **Вочы драць** — зласліва нападаць на каго-н. *Пасвараціа сь сьвякровай, а нявестка вынясе на людзі, а людзі потым вочы дзяруць.* Савоні Стаўб. **Вочы прадаваць** — дакучаць каму-н. сваёй прысутнасцю. *Яна ўсюдых даляціць: яна й на вясельлі ёсь, і на хрэзьбінах ёсь, і да дня будзіць сядзець і вочы прадаваць.* Язні Віл. **Вочы спусціць** — заснуць, задрамаць. *Прыдзім з балота, пакорміць нас мама, і спаць. Трохі вочы спусьціш, ужо й дзень пачынае, уставаць трэба ды зноў на сена.* Мацкі Мядз. **З вока на вока** — без сведак, адзін на адзін. *Здаеціа ж, і гаварылі з вока на вока, не, назаўтра ўся вёска знаіць.* Язні Віл. **Крывым вокам глядзець** *незадав.* — праяўляць недружалюбнасць. *Як ня едзя сюды [да маці], жонка залатая, слухая мяне. Як прыедзя сюды, маці нагаворыць, нагаворыць, тады й жонка крывам вокам глядзіць.* Мікалаеўшчына Стаўб. **На свае [уласныя] вочы бачыць** — быць сведкам. *Во ў гэну нядзелю фэст быў, дак я сама на свае вочы бачыла, як яны йшлі з фэсту абодва прыбраўшыся, ідуць, сьмяюцца.* Язні Віл. **Не верыць сваім вачам** — вельмі здзіўляцца, убачыўшы нечаканае. *Гляджу і вачам сваім ня веру: таксі ўрэзалася ў наш аўтобус.* Станькі Віл. **Ніzкі на вочы** *хто-н.* — блізарукі. *Наш сусет ніскі на вочы, без ачкоў ні чытае і ня піша, а яшчэ такі малады.* Гілікі Валож. **Пралупіць вочы** — прачнуцца. *Дзяўчынка неспакойная. Як толькі пралупіць вочы, адразу ў крык.* Пудзіцк Пух. **У ваччу (вачах) цёмна стала** — памутнела ў вачах, стала нядобра. *Толькі даходжу футара, аж дзікоў штук дзесіць, а можа й болій, дык у мяне шапка дыба, у ваччу цёмна-цёмна стала.* Язні Віл. *Панесла я тую торбачку. На лузі некія каровы пасуцца, мусіць, ня нашыя, бо велязная чарада, а сваіх ня бачу, ні відаць. Стала ўглядацца — далёка, аж пад лес, некія каровы пасуцца. Як нашая чаротка. Я туды. Прышла. Не, ня нашыя. Я назат. У пакуль знайшла таго хлопца, цёмна ў вачах зрабілася.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Упасці на вочы** — страціць зрок. *Яна й раней недабачвала, але нічога было, а гэта зусім на вочы ўпала.* Каменка Уздз. **У чые вочы** — у прысутнасці каго-н. *У аднаго дзядзька была парачка галубоў, ён вельмі галубоў любіў, няможна было, але разводзіў. А нехта данёс. Прышлі паліцыянты — галупке разгульваюць па хаці. Гэты хазяін спалохаўся — бяда. А тут жонка й дзеці сталі галасіць. Тады гэты чалавек палавіў галупкоў і ў іх жа вочы забіў. Такі закон быў.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Цераз вочы** *чаго-н.* — вельмі многа, аж залішне чаго (пра матэрыяльныя дастаткі ў сям'і). *Зяць шофярам робіць, дачка ў швейнуй. А мы на пэнсіі абоя. Хватая. Хватая аж цераз вочы.* Жацерава Стаўб. **Як вока ў ілбе** — адзіны. *Ён жа ў мяне адзін як вока ў ілбе.* Цяляткава Уздз.

**ВОКНІ́ШЧА** *н.* Бездань, прорва. *Каля берагу вокнішча зіяла, а ён не заўважыў — і шчабоўк!* Узгурск Чэрв.

**ВО́ЛАС** *м.* ◊ **Валасы дыба становяцца** — пра пачуццё жаху, вялікага страху, зведанага кім-н. *Мы як пабачылі вайну, ды як пачнуць гамонку пра вайну, аш валасы дыба становяцца.* Прецівішча Чэрв.

**ВОЛЛЕ** *н.* Валлё. *Стала вольле вялікае, як наелася курыца.* Паплавы Бярэз. *От качкі наеліся, аш вольле па зямлі валачэцца.* Горкі Стаўб.

**ВОЛЬНАСЦЬ** *ж. Мед.* Панос. *Вот як стане вольнасць, дык і павязуць у бальніцу на дванаццаць дзён, і сядзі там.* Пруды Стаўб.

**ВО́ЛЬНІЦЬ** *незак.* Паносіць. *Жывот расстроіўся, нешта вольніць.* Гілікі Валож.

**ВО́ЛЬХА БЕ́ЛАЯ** *бат.* Вольха шэрая (Alnus incana). *У вольхі белай ліст сіваваты, ствол сівы глаткі. Расьце каля рэчкі, каля балот.* Ляшчынск Мядз.

**ВО́ЛЬХА ГРУДАВА́Я** *бат.* Вольха клейкая (Alnus glutinosa). *Вольха грудавая расьце на высокім месцы, кара бурая с трэшчынкамі. У грудавой вольсе няма слаёў, яна моцная, як бы пераплеценая.* Ляшчынск Мядз.

**ВО́МПІЦЦА** *незак.* Непакоіцца, хвалявацца. *Бачу, што і яны ш вомпяцца.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. wątpić 'тс'.

**ВО́НДЗЕКА** *прысл.* Вунь, во. *Не шукай, не шукай, вондзека твая капота ляжыць, сама туды яе закінула.* Ганцавічы Барыс.

**ВОНЬ**[1] *ж.* Смурод. *Вонь на кароўніку, што нельга трываць.* Рудня Чэрв.

**ВОНЬ**[2] *прысл.* і *часц.* Вунь. *Вонь, кажа, ваўчаня.* Дукора Пух. *Вонь забяруць цябе цёці гэтыя, бяжы хуччэй дадому.* Сакольшчына Уздз. *Вонь Нінка яе — дзяўчына ладная ды і разумная.* Падзерычы Стаўб. *Вонь каб вы пайшлі туды, дык шмат бы чаго вам нагаварылі.* Дрычын Пух.

**ВО́НЯ** *ж.* Тое, што і в о н ь[1]. *Воня некая ў сенцах, ш чаго б гэта?* Нізок Уздз.

**ВО́ПАР** *м.* Мелкаводдзе. *Такі пясочак на вопары, вада чысьцянькая, так і хочацца купацца.* Пудзіцк Пух.

**ВО́ПАЧКА** *ж.* Вешалка, пятля вешаць адзенне. *Вопачку адарвала, паліто вешала.* Новы Двор Мін.

**ВО́ПУХ** *м. Мед.* **1.** Пухліна. *Калі вопух, дык агнём гарыць гэта месца.* Гілікі Валож. *Вопух па целе пашоў.* Лоск Валож. *Палоць ні магу, шчэ вопух не сышоў з рукі.* Цялякава Уздз. **2.** Пухір. *Капнула на нагу вару, дык вопух усхапіўся.* Рудня Чэрв.

**ВО́ПЦАС** *прысл.* Імгненна, вопрамеццю. *Хто яго там напужаў — ня ведаю, але вопцас імчаўся зь лесу.* Узгурск Чэрв.

**ВО́ПЦУСАМ** *прысл.* **1.** Тое, што і в о́ п ц а с. *А гэта вопцусам кінуўся, ведама ш, свайго бараніць.* Акінчыцы Стаўб. **2.** Нахабна. *Я яму і анучаю па твары, а ён ка мне вопцусам лезя.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВО́РАК** *м.* Мяшок са зрэбніны. *Была ўжо матузоў нарабіла, каб воркі было чым завязаваць, а як трэба, дык аніводнага ні знойдзіш.* Рудня Валож. *Паўворка бульбы насыпала ёй.* Няровы Валож.; *параўн.* польск. worek 'тс'.

**ВО́СВА, ВО́СМА** *гл.* асва́

**ВО́СЕЦЬ** *ж.* **1.** Прыбудоўка да тока, у якой сушаць снапы. *Жыта сажнём і ў восяць паставім, высушым, да дня ўстанім, абаб'ём цапамі, у жорны зьмелім і хлеп сьпячом.* Старыя Габы Мядз. **2.** Колькасць снапкоў лёну, якія ўмяшчаюцца ў будынку — сушылцы. *Раней кожная мялка па тры восіці вымінала лёну за восінь, а ціперака й калаўроты павыкідывалі.* Аўгустова Валож.

**ВО́СНІЦА** *ж.* Восень, асенняя пара. *У восьніцу многа грыбоў у нашым лесе.* Пудзіцк Пух.

**ВО́СТРАЎ** *м.* Грудок, выспа сярод балота. *У нас тут няма астравоў, а езьдзілі на Вароніцкія балата на сена, там е астрава.* Вецярэвічы Пух.

**ВО́СТРЫ** *прым.* Сцюдзёны. *Вострая вада хоць і ў зубы заходзіць, але добра піць.* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **Вострая на язык** *хто-н.* — пра таго, хто ўмее дасціпна сказаць. *Ох, якая ш яна вострая на язык!* Забалоцце Смал. **Лёгкі на язык** *хто-н.* — хто не ўмее трымаць сакрэты. *Яна лёхкая на язык, абы чуць што, ужо й панесла.* Хожава Маладз.

**ВОСЦЬ** *ж.* Асцюк, доўгі тонкі вусік на каласах некаторых злакаў (ячменю, жыта, пшаніцы). *Восьць папала ў вока, вельмі рэжа.* Вецярэвічы Пух.

**ВО́СЫП** *м. Мед.* Высыпка. *Восып бывае па ўсім целі.* Пруды Стаўб.

**ВОСЬ** *прысл.* Потым, пазней. *Я вось падмяту, цяпер няма калі.* Цялякава Уздз.

**ВО́СЬМЕРА** *гл.* васьме́ра

**ВО́СЯЛКА** *ж.* Восілка. *Набяры вады ў тоя вядро, што да восялкі матус прывязаны, гэта ні чапай.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВО́ТМУТ** *м.* Вір. *Вотмут — крутое месца, заварот на рацэ, яго раней вірам называлі.* Рудня Чэрв.

**ВО́ТРАНЫ** *толькі мн.* Дробныя адходы пры арфаванні збожжа. *Жыта на сіта прасейваіцца, вотраны адлятаюць адзьдзельна. Як жыта мокрае, дык мала вотран.* Бытча Барыс. *Карова вотраны паядала.* Ігрушка Круп. *Вотраны — як малоцюць, дак памятыя каласкі.* Ратуцічы Барыс.

**ВО́ТРУБЯ** *зб.* Вотруб'е. *Як прасеюць муку, так астаткі, што астаюцца, і будзе вотрубя.* Ігрушка Круп.

**ВО́ТЧЫМ** *м.* Айчым, няродны бацька. *Надзін вотчым добры.* Пудзіцк Пух.

**ВОЎК** *м. Будаўн.* Верхні стык страхі, вільчык. *Хату канчаюць крыць, застаецца адно воўк зацягнуць. Самы верх у страсе, дзе сыдзецца адзін бок з другім, вот там воўк.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВО́ЎКАЎ ГРЫБ, ВО́ЎЧЫ ГРЫБ** *гл.* грыб

**ВО́ЎЧАЯ КРАПІВА́** *гл.* крапіва́

**ВО́ХВАТ** *м.* Чорт. *Як малая была, дык усё вохватам страшылі.* Рудня Чэрв.

**ВО́ЧАРАДЗЬ** *ж.* Чарга. *У пру́дзі сёньня такая вочарадзь вялікая, што да вечара ні зьмелім. Пастуха па вочарадзі дзержуць.* Ігрушка Круп. *Ну й вялікая ш вочарадзь, проста не дабіцца.* Папоўцы Віл.; *параўн.* рус. очередь 'тс'.

**ВО́ЧКА**[1] *ж. Памянш.-ласк. да* во́ка. ◊ **Папоўскае вочка** *іран., неадабр.* — сквапны, хцівы, зайздросны хто. — *Табе і Наташы я пароўну наліла. — А я хачу, каб мне больш. — Мала што ты хочаш, папоўскае вочка.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВО́ЧКА**[2] *н.* **1.** Пятля ў ніце, у які ўкідаюць аснову. *Кідаім у ніты, працягаваім ніткі ў кождаю дзірачку, у вочка.* Ратуцічы Барыс. **2.** *паляўн.* Пятля (на ліса, зайца). *Вочкі ставіць забараняіцца, але хто-кольвек і скрадзецца, паставіць вочкі на ліса, на зайца. Нешта зайцоў са два і я злавіў на вочкі.* Вішнева Валож.

**ВО́ЧКА**[3] *н.* Выплеценае перакрыжаванне вобада з ручкай у кошыку. *Зьвязваюць крыш-накрыш абручы, змацоўваюць, скрапляюць іх у месцах перакрыжаваньняў, атрымліваюцца як бы вочкі. І потым у гэтыя вочкі сьпіцы падганяюць. Аснова каша гатова.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВО́ЧКА**[4] *н. Пчал.* Асобная клетачка ў вузе. *Вочка — гэта сотачка адна. На зіму пчолы кожнае вочка запячатаюць.* Малмыгі Віл.

**ВО́ЧНЫ ДО́КТАР** *мед.* Акуліст. *Трэба мне да вочнага доктара, вока баліць.* Вішнева Валож.

**ВУ́ГАЛ** *м.* Дом, прытулак. *Тут у мяне вугал харошы і жывецца добра, але ш у Плецівішчах лепей было.* Рудня Лаг. ○ **Нямецкі вугал** — гладкі, без выступаў вугал. *Цяпер у нас хата зрублена на нямецкі вугал, перабіта на комнаты.* Пагост Бярэз. **Просты вугал** — вугал з выступамі канцоў бярвення. *Хата дзеравянная была, рубленая на просты вугал. Хата і ў нас была адзіночная, на просты вугал, крылася саломай.* Пагост Бярэз.

**ВУ́ГАЛКА** *ж.* Грэбля праз балота. *Вугалка цяпер сухая, лета ш цёплая.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВУ́ГАЛЛЕ** і **ВУГА́ЛЛЕ** *н. Зб.* Вуголле. *Калі няма вўгальля, дак і дома работы няма.* Цялякава Уздз. *Хаты былі курныя, лучыны палілі, вугáльля поўна, дыму.* Восава Мядз.

**ВУГЛАВІКЕ́** *мн.; адз.* **вуглаві́к** *м.* Кароткія бярвенні, што кладуць паміж вуглом і дзвярамі, паміж вуглом і вокнамі. *Шкода псаваць падоўжных бярвенняў на вуглавіке і аконныя кускі.* Пруды Стаўб.

**ВУГЛІ́** *м.* Жар, гарачае вуголле. *Вуглі зграбі ў вядро і ў стопку занясі.* Баяры Маладз.

**ВУГО́Л** *м.* Месца, дзе сутыкаюцца дзве сцяны зруба. *Хаты цяпер, як і раней, робяцца ў глаткі вугол або ў просты вугол.* Бясяды Лаг. *У нас хата ў нямецкі вугол.* Саланая Валож.

**ВУГО́ЛЬНІК** *м.* **1.** Від століка. *У нас ё стол, што на вінтах, рассоўваецца, ё круглы столік, ё вугольнік, што стаіць у вуглу.* Рудня Чэрв. **2.** Сурвэта, адзін ражок якой вышыты. *У мяне на вугольніку простая мярэшка.* Саланая Валож. **3.** Ватэрпас. *Адыдзіся, не паламі мне вугольніка!* Ляхавічы Дзярж. *Вугольнік прыкладзі і паглядзі, ці роўна.* Забалоцце Смал.

**ВУГО́Р** *м.* Невялікі бугарок пад скурай у кароў, дзе выводзяцца лічынкі авадня. *Вугры пад скурай у кароў бываюць, авадні насадзяць вугроў.* Гілікі Валож.

**ВУДА́** *ж. Рыб.* Вуда. *Вудой многа рыбы не наловіш.* Вішнева Валож.

**ВУДАВЕ́Ц** *м.* Удавец. *Жонка яго як памерла, дык ён вудаўцом жыў увесь час, пакуль сам не памёр.* Рудня Лаг.

**ВУДАВІ́ШЧА, ВУДАЎІ́ШЧА** *н.* Вудзільна. *Як зьберымся с хлопцамі, так і пайшлі на цэлы дзень у лес выбіраць вудавішчы. А выбраўшы, мерым, у каго самае доўгае вудавішча.* Чараўкі Мядз. *Пайду ў лес і выражу такое вудаўішча, што ног не замачу ніколі, буду стаяць на беразі і закідаць адразу на сярэдзіну азярца.* Старлыгі Мядз.

**ВУДА́К, ВУДА́Ч** *м.* Рыбак. *Часта бывае, што ў нас вудакі начуюць. Нашы вудакі на рыбу зьбіраюцца.* Рудня Чэрв. *Ці вудач, ці рыбак — усі роўна, усе ловяць рыбу вудаю. Такі заядлы вудач, летам і зімою на возеры.* Мікольцы Мядз. *Што ты за вудач, ніводнай рыпкі ні прынёс дахаты.* Ляшчынск Мядз.

**ВУДАЎЁ** *н.* Тое, што і в у д а в і́ ш ч а. *Учора такога шчупака выцягнуў, кілаграмаў сь пяць, чуць вудаўё выдзяржала.* Мікольцы Мядз. *Вудаўё робяць з лазоўніку.* Ляшчынск Мядз.

**ВУДАЎІ́ШЧА** *гл.* вудаві́шча

**ВУДА́Ч** *гл.* вуда́к

**ВУДЗІ́ДЛА, ВУДЗІ́ЛА** *н.* Тое, што і в у д а в і́ ш ч а. *Вудзідла робяць зь ляшчыны, з ядлаўцу.* Пруды Стаўб. *Вудзіла зь бярозы, арэшніку робяць.* Ляхавічы Дзярж. *Вудзіла было слабая і зламалася.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВУДЗІ́ЛІШЧА** *н.* Месца лоўлі рыбы на вуду. *Я аблюбаваў сабе вудзілішча, кожную раніцу рыба добра бярэць, толькі выцягаць пасьпявай.* Ляшчынск Мядз.

**ВУДЗІЛЬНО́** *н.* Тое, што і в у д а в і́ ш ч а. *Мае вудзільно добрае.* Хожава Маладз.

**ВУ́ДЗІЦЬ** *незак.* Цягаць. *Нічога яны не баяцца, вудзяць дровы зь лесу.* Аляхновічы Маладз.

**ВУДЗЬБІ́Т** *м.* Тое, што і в у д а́ к. *Вудзьбіт да зімняй лоўлі гатовіцца загадзя: чарвякоў восіньню накапаіць, насыпіць зямлі ў жбанок і паставіць у склеп, а зімой цягаіць на вудачку.* Мікольцы Мядз. *Увесь дзень на лёдзе вудзьбіты сядзяць.* Ляшчынск Мядз.

**ВУ́ЗА** *ж. Пчал.* Соты. *Вуза — ячэйка, пабудаваная з воску. Хазяін закладае гэтыя вузы ў рамку, а пчолы потым запоўняюць іх мёдам.* Гілікі Валож.

5. Зак. 5795.

**ВУ́ЗАК** *м.* Каляска дзіцячая. *Яшчэ на чардаку валяецца ад меньшага стойка і вузак.* Літва Стаўб.; *параўн.* польск. wózek 'тс'.

**ВУ́ЗГАЛАЎКА** *ж.* Вузгалаўе (у возе). *У цябе ш вузгалаўка трэснула, як ты едзіш?* Ратуцічы Барыс.

**ВУЗЕ́ЛЬЧЫК** *м. Заал.* Птушка, падобная на мухалоўку. *Вузельчык спрытна мошак ловіць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВУ́ЗІЛАЎКА** *ж.* Вуліца. *І як запяе яна на ўсю вузілаўку!* Дрычын Пух.

**ВУЗКІ́** *прым.* Вузкі. *Былі ў нас палоскі як да зямлі ў кага: шырокія, вускія, даўгія, кароткія.* Папоўка Мядз. *Ткалі вузейшыя кросны, вускія кросны на рукавы, на намёты.* Там жа.

**ВУЙТ** *м. Уст.* Старшыня сельскай абшчыны. *Вуйт вызваў солтаса, штоп солтас выдаў пасьцелю сястрыну і апісаў у сундуку, што ёсьць.* Баранцы Віл.; *параўн.* польск. wójt 'тс'.

**ВУ́КСУС** *м.* Воцат. *Схавай вуксус ад дзяцей, а то патруцяцца.* Вялікая Вуса Уздз. *Я дык ня вымыю галавы, калі вуксусам ні папалашчу.* Язні Віл.

**ВУЛДЫ́Р** *м.* Гуз. *Ад гэтага ўдару ў мяне аш вулдыр ускочыў на галаве.* Клетнае Барыс. *Так стукнулася, што аш вулдыр усхапіўся.* Грабёнка Чэрв. *Я як падаў, дык так лбом стукнуўся, што вулдыр усхапіўся.* Белае Пух.

**ВУ́ЛЕЧКІ-ВУ́ЛЕЧКІ-ВУ́ЛЕЧКІ.** Словы-воклічы, якімі завуць гусянят. Бытча Барыс.

**ВУЛЁК** *м. Памянш.* Маленькі вулей. *Нада сказаць свайму, каб за зіму зрабіў вулёк, а трохі пачакаўшы нада будзя купіць пчол.* Бяларучы Лаг.

**ВУ́ЛІ-ВУ́ЛІ-ВУ́ЛІ, ВУЛЬ-ВУЛЬ-ВУЛЬ** *выкл.* Словы-воклічы, якімі клічуць гусей. *Вулі-вулі-вулі заву я гусак сваіх.* Бытча Барыс. *Вуль-вуль-вуль, бяжэця, маленькія, я вам есьці дам. Хадзеця, гуські, дадому.* Забалоцце Смал. // *перан. У суседа галубы ёсь, дык ён з раніцы да вечара вуль-вуль-вуль.* Рудня Лаг.

**ВУ́ЛКА** *ж.* Праход з асноўнай вуліцы. *Бягучы па вуліцы, яны зьвярнулі ў тую вулку, што паўз Антончыкавай сядзібы ідзе.* Узгурск Чэрв. *На вулцы недзя сядзіць.* Жызнава Віл.

**ВУЛЛЁ** *н. Пчал.* Вулей. *Даўней ні рабілі вульлёў для пчол, а былі толькі калоды, іх яшчэ звалі даўбнякамі, бо зь дзерава выдзёўбывалі.* Дукора Пух.

**ВУЛЬ** *м.* Тое, што і в у л л ё. *Вуль рамовы мае васімнаццаць-дваццаць-дваццаць дзьве рамкі.* Пруды Стаўб.

**ВУЛЬ-ВУЛЬ-ВУЛЬ** *гл.* ву́лі-ву́лі-ву́лі

**ВУ́ЛЬКАЦЬ** *незак.* Балбатаць. *Хто ў красным пройдзе, дык як пачнуць вулькаць індыкі.* Рудня Лаг.

**ВУЛЬ-СТАЯ́К** *м.* Разнавіднасць вулея. *Толькі прыдрамаў, як чую, пад'ехаў нехта да елкі і стукае тапаром. — Во, — кажа, — добры будзіць вуль-стаяк.* Любань Віл.

**ВУЛЯНЁНАК** *м.* Гусяня. *Тры гусі купілі, а яны вывілі ім трыццаць вулянёнкаў.* Ігрушка Круп.

**ВУМ** *м.* Розум. *Аткуль ты такі вум маеш і скуль ты ўзяўся: усе могуць параіць, а вось зрабі папробуй.* Узгурск Чэрв. *Вум не ва ўсіх роўны.* Пудзіцк Пух.

**ВУМНЫ** *прым.* Разумны. *Ціперка людзі маладыя вумныя, ня тое, што мы. Тады ж мы так і не вучыліся, условія хіба былі такія?* Паплавы Бярэз.

**ВУ́НЬДЗЕКА** *прысл.* Вунь там. *Вуньдзека сядзіць.* Ляшчынск Мядз. *Вуньдзека хата маёй бапкі.* Саланая Валож. *А во аш вуньдзяка ўжо [нашы бабы], толькі спаньніцы матнуліся.* Бяларучы Лаг. *Вуньдзяка дзеўкі ідуць пяючы.* Дукора Пух.

**ВУ́НЬДЗЕ ВУНЬ** *прысл.* Там вунь. *Вуньдзя вунь палажыла ключы, а замок — не ведаю, не помню.* Навікі Віл.

**ВУ́НЯКА** *прысл.* Тое, што і в у́ н ь д з е к а. *Дой скарэй карову, а то вуняка пастух пашоў займаць кароў.* Дукора Пух. *Вуняка пайшлі хлопцы некія.* Зазерка Пух.

**ВУ́ПАР** *м.* Упарты чалавек. *І чаго яму больш трэба, увесь час ходзіць такі злы, надзьмуты, вупар гэты.* Аляхновічы Маладз. *Не перайначыш вупара гэтага.* Краснае Маладз.

**ВУ́РАВЕНЬ** *м. Цясл.* Тое, што і в а с а р в а́ г а. *Вушакі па вураўні ставілі.* Забалоцце Смал.

**ВУРГА́Н** *м.* Ураган. *Вурган сільнейшы за віхар.* Вецярэвічы Пух.

**ВУРНУ́ЦЬ** *зак. Экспр.* Сцягнуць, украсці. *І хто п падумаў, што ў мяне вурнуць сягоньня кашалёк?* Касцюкі Барыс.

**ВУРУДНІ́К** *м.* Ручнік або шмаціна для патрэбы трактарыста. *Твой вуруднік такі, што сам чорт не захоча выціраццца, увесь у мазут выпачканы.* Баравая Пух.

**ВУ́РЫЦЬ** *незак. Экспр.* Выкідаць, вярнуць. *Усе тры ньні гной вурылі і вурылі с хлева на двор, а з двору вазілі на гранкі.* Халмоўка Барыс.

**ВУСА́Ч** *м.* Чалавек з вусамі. *У нас дык Сьцяпан вусаты, то яго і дражняць вусач.* Вязынка Маладз. // *перан.* Гатунак ячменю. *Калосьсе вусача поўнае-поўнае, пасьпеў.* Малінаўка Лаг.

**ВУ́СЕНІЦА** *ж. Заал.* Лічынка матыля, падобная на чарвяка. *Вусеніца, як чарвяк, сьветла-рудая, на сьпіне чорныя палосачкі. Вусеніцы і чорныя ёсь і жоўтыя.* Саланая Валож.

**ВУ́СІКІ** *мн.; адз.* **ву́сік** *м.* Тое, што і в а л а с к і́. *На пачатку кукурузы вусікі растуць, іх зьбіраюць, сушаць, і гэта лякарства добрая.* Баяры Маладз.

**ВУ́СТАЎКА** *ж.* Клін, што ўстаўляецца ў

пройму рукава пад пахай. *Шво ў вустаўцы распаролася, не зьбяруся зашыць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВУ́СЦІШ** *ж.* Цішыня, спакой. *Якая цудоўная вусьціш у лесі! Елкі такія гожыя!* Узгурск Чэрв.

**ВУ́СЫ** *мн.* **1.** Тонкія доўгія асцюкі на каласах некаторых злакаў (ячменю, жыта, пшаніцы і інш.). *Вусы доўгія на ячмені.* Ратуцічы Барыс. *У ячмені каласок выплывае, вусы відаць.* Савоні Стаўб. *У ячмені дужа вусы бальшыя.* Ігрушка Круп. **2.** Тое, што і в а л а с к і́. *Як ужо вусы на пачатках пачарнеюць, тады можна варыць пачаткі.* Дукора Пух.

**ВУ́ТКА** *ж.* Качка свойская і дзікая. *Мала ў міне вутак: то ні вышлі, то кошка паела малыя.* Падзерычы Стаўб. *У нас ахоцяцца на вутак дзікіх, на зайца, лісу, ваўка.* Пруды Стаўб.

**ВУ́ТРАМ** *прысл.* Раніцай. *Вутрам зноў яны тут.* Пудзіцк Пух.; *параўн.* рус. утром 'тс'.

**ВУУУЎ, ВУУУЎ** *выкл.* Ужываецца для абазначэння гудзення машын. *Тады чую: вууўў, вууўў, усё гудзіць і гудзіць нешта. А гэта ш быў трыццаць дзіевяты гот. Восінь.* Лоск Валож.

**ВУ́ХА** *н.* Прыстасаванне ў выглядзе кавалачка дрэва з дзірачкай, куды ўстаўляецца ніжні канец млёна ў жорнах. *Адламалася вуха ў нашых жорнах, то нічога цяпер не змеляш.* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **Вуха набіваць** *проціў каго-н.* — настройваць супраць каго-н. *Дзеткі малыя, работа ў школі, хазяйства, карова, можа дзе што і нідаробляная было, але матка, як прыедзя, замест таго каб памахчы нявесцы, будзя гаварыць: „От у яе цадзілка нямытая, клінок нячысты, а яна такая, а яна сякая, — вуха набівала проціў яе.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Вушамі хлопаць** — не ўспрымаць тое, аб чым гаворыцца. *А гэта ўжо як пагаворка якая пра таго, хто не ведае нічога, кажуць: толькі вушамі хлопае, не панімая.* Вязынка Маладз. **І вухам не вядзе** — не рэагуе, не звяртае ўвагі. *Ёй кажуць: „Успакойся!", а яна й вухам не вядзе.* Горкі Стаўб. **На свае вушы** (чуць) — самому непасрэдна (чуць). *Настася з Вінцусем пасварыліся за некія грошы, я чула на свае вушы, як яны спорылі.* Бяларучы Лаг. **Па вушы** — вельмі многа; вельмі глыбока. *У даўгу па вушы сядзіць, а ўборы спраўляіць. Што сабе дзеўка думаіць?* Канстанцінава Мядз. *Робя ён у полі, а я дома завіхаюся, бо работы па вушы і дома.* Вялікая Боркаўшчына Маладз. *А выдзяш на вуліцу, дык грась, улезіш па вушы.* Зарэчча Стаўб. **Сваімі вушамі** (чуць) — тое, што і н а с в а е в у ш ы. *Я чула сваімі вушамі, што цётка абзывала нецанзурнымі словамі сваіх суседак.* Савоні Стаўб.

**ВУЦЬ-ВУЦЬ-ВУЦЬ** *выкл.* Словы, якімі клічуць качак. *Вуць-вуць-вуць, вутачкі, вуцьвуць, харошыя, бяжэцця есьці.* Гілікі Валож.

**ВУ́ЦЬКА** *ж.* Качаня. *Вуцькі як выведуцца, адразу ш ідуць на рэчку.* Узгурск Чэрв.

**ВУЦЯНЯ́ТКА** *н.* Качаня. *Маленькія вуціняткі бегаюць па двары, а сама вутка як гаспадыня шлындае.* Рудня Валож.

**ВУЧАЛЬНІ́К** *м.* Вучань. *Які гэта вучальнік, дажа кнішку ў рукі не бярэ.* Пудзіцк Пух.

**ВУ́ЧАНЫ** і **ВУЧО́НЫ** *прым.* Пісьменны, адукаваны. *Папо мой па тым часе вучаны быў чалавек.* Савоні Стаўб. *У майго суседа дачка вучоная.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВУЧЫ́ЦЕЛЬ** *м.* Настаўнік. *Наш дык кажа, што ён добра зная, але ўсе вучыцеля кепскія.* Падзерычы Стаўб. *Працуе ў нас малады вучыцель.* Пудзіцк Пух.; *параўн.* рус. учитель 'тс'.

**ВУЧЫЦЕ́ЛЬКА** *ж.* Настаўніца. *Яна ш на вучыцельку вучыцца ў Мінску.* Сцебіракі Віл.

**ВУЧЫ́ЦЕЛЬНІЦА** *ж.* Тое, што і в у ч ы ц е́ л ь к а. *Наша вучыцельніца прыходзіла, казала, каб Гальку не пускалі туды.* Зазерка Пух.

**ВУША́Т** *м.* Цэбар. *Была ў мяне карова, папала ў вушат сьцякло, а яна ўзяла ды выпіла — і здохла.* Кукалеўка Чэрв.

**ВУША́ТАЯ ША́ПКА.** Вушанка. *А ён у вушатай шапцы і зімой і летам ходзіць.* Пруды Стаўб.

**ВУША́ЦІК** *м.* Цабэрак. *Я зварыла тры цаганы бульбы, жыта расьціла, на машынку перагнала, дражджэй і задзелала саладуху ў вушацік.* Бяларучы Лаг.

**ВУ́ШКА** *н.* Пятля ў лапці для замацавання яго на назе. *У лапцях выvязаныя з лыка вушкі, праз якія прадзявалася абора. Мы насілі лапці ў шэсьць вушок, мушчыны плялі на восем.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Плялі лапці на сорак вушак.* Дукора Пух.

**ВУ́ШКІ** *мн.* Заячыя вушкі (Scodellina leporina (Batsch.), асеннія грыбы, якія растуць каля валежніку, чырванавата- або ахрыста-карычневага колеру. *Вушкі растуць не толькі на гнілых ляжачых паленах і дрэвах, а і на гнілых карчах.* Раўчак Пух. ○ **Вушкі грыбныя** *кулін.* Страва накшталт пельменяў, начыненых грыбным фаршам. *Вушкі грыбныя робім рэдка, работы зь імі многа, трэба цеста драждживое, грыбы сушаныя.* Хожава Маладз.

**ВУ́ШЛЫ** *прым.* Разумны, разважны, дасціпны. *От вушлыя дзеўкі таргуюць у нашым магазіні, хоць і маладыя.* Бяларучы Лаг.

**ВУШНІ́К** *м.* Урач, які лечыць хваробы вуха. *Прыехаў новы ўрач, кажуць, вушнік, пайду вуха лячыць.* Ляхавічы Дзярж.

**ВУШНЫ́** *у знач. наз.* Тое, што і в у ш н і́ к. *Майму забалелі вушы, дык я яго вазіла да вушнога ў бальніцу ў Мінск.* Гілікі Валож.

**ВУШНЯ́К** *м.* Вушак. *На вушнякі Васіль краскі купіў, трэба будзе пакрасіць.* Бясяды Лаг.

**ВУ́ШЫ** *мн.; адз.* **ву́ха** *н.* 1. Дэталь да аглоблі. *Вушы к аглоблям прырабляюцца, адзяваюцца на вось.* Мікалаеўшчына Стаўб. 2. Абрэзкі скуры, нашытыя на аброць. *Вушы робяцца, калі конь пужлівы, каб не бачыў, што робіцца ззаду і збоку.* Ігрушка Круп. 3. Выступы ў бярвеннях, якія ўпускаюцца ў вушак. *У вушаку нада выдлубаць пас, каторы будзіць надзівацца на вушы, зарэзаць вушы на шырыню паса.* Даўгінава Віл.

**ВЫ́БАВІЦЦА** *зак.* Выйсці з цяжкага становішча. *Нічагуткі, як-небудзь выбавімся з гэтай бяды.* Асавец Маладз.

**ВЫ́БАВІЦЬ** *зак.* Вызваліць. *Яго немцы ўхапілі, як хапун быў, але бацька выбавіў сь цюрмы.* Цялякава Уздз. *Што матка папалётала, каб яго выбавіць.* Савоні Стаўб.

**ВЫ́БАЙ** і **ВЫБО́Й** *м.* Выбоіна. *Гэты выбай пака праедзіш — гора набярэсься: колы вязнуць у гразі.* Грабёнка Чэрв. *Калёсы заселі ў выбоі, чуць выбраліся.* Ігрушка Круп.

**ВЫ́БАРКА** *ж.* 1. Даставанне, выцягванне. *Сёньня робім выбарку гарлачоў з горна.* Беразіно Бярэз. 2. Уборка. *Пачалася выбарка бульбы.* Рудня Лаг.

**ВЫБАРО́НЫВАЦЬ** *незак.* Выбараноўваць, апрацоўваць раллю бараною. *Яна [баранасмык] выбаронываць нічога ні выбаронавала, толькі гладзіла, але і лён рэс, і авёс альбо ячмень сеілі.* Бакачы Мядз.

**ВЫ́БАХАЦЬ, ВЫ́БУХАЦЬ** *зак.* Выліць, неэканомна расходаваць. *Выбахалі ўсю ваду цёплую, нямашака чым памыцца.* Суднікі Стаўб. *І калі ш ты пасьпеў гарачую ваду выбухаць? Яшчэ ўся работа наперадзі, ды й смаліць яшчэ не закончылі.* Межава Чэрв.

**ВЫБІВА́ННЕ** *н.* Працэс выемкі дзірак. *Выбіванне робіцца долатам, а па долаці б'юць малатком, тады дзірка скора выбіваіцца.* Бытча Барыс. *Канчай выбіваньне, памажы мне зьбіць карыта.* Пруды Стаўб.

**ВЫБІВА́ЦЬ** *незак.* Высякаць крэсівам (іскру, агонь). *Калі як шапка пры бярозе нарастае, дык завуць губа. З губы ў вайну агонь выбівалі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЫБІРА́ЛЬНІЦА** *ж.* Выбіральшчыца. *Наймём выбіральніц, бо бульбы многа і харошая парасла.* Рудня Чэрв.

**ВЫБІРА́НКА** *ж.* Посцілка з узорамі. *Выбіранкі ў нас ткалі на ставах, ткалі ў некалькі нітоў, кветкі выбіралі рознымі ніткамі.* Пудзіцк Пух.

**ВЫБІРА́НЦЫ** *толькі мн.* Каноплі з семем. *Выбіранцы рвуць восеньню, у іх сяме́ня ёсьць.* Такарышкі Іўеў.

**ВЫБІРА́ЦЬ** *незак.* 1. Вырываць з зямлі. *Лён выбіралі, ірвалі, бралі — усё роўна.* Ратуцічы Барыс. 2. Выразаць па дрэве. *Дзяцька вельмі ўжо хораша выбірае па дрэве расцом узоры.* Гілікі Валож.

**ВЫБІРА́ЧКА** *ж.* Тое, што і выбіра́льніца. *На нядзельку выбірачак пазвала, а то сама ні ўпраўлюся з бульбай.* Рудня Лаг.

**ВЫ́БІТАЯ** *дзеепрым.* Укатаная, працёртая. *Да Станькава дарога і зімою выбітая. Па глаткай, добра выбітай дарозе коні шпарка бягуць.* Ляхавічы Дзярж.

**ВЫ́БІЦЦА** *зак.* Выйсці. *Цяперака ўслоны, па-даўнейшаму звалі скамейкі, праз усю хату якія стаялі, з моды выбіліся.* Баяры Маладз. ◊ **Выбіцца са сну** — доўга не спаць, варочаючыся. *Як удумаесься, як мучыліся людзі ў вайну, выб'есься са сну, цалу ночку не засьнеш.* Дрычын Пух. **Выбіцца ў людзі** — пасля вялікіх намаганняў дасягнуць трывалага або высокага становішча ў грамадстве. *Сірата, а ў людзі выбілася.* Забалоцце Смал.

**ВЫ́БІЦЬ** *зак.* Расстраляць. *Як уварваліся фашысты ў вёску, усіх людзей выбілі.* Зазерка Пух.

**ВЫБО́Й** *гл.* вы́бай

**ВЫБО́ЙНЫ** *прым.* Выбоісты, на ямах. *Выбойная дарога, ямы такія, ехаць плоха.* Вязынка Маладз.

**ВЫБРА́СВАЛЬНІК** *м. Паляўн.* Выкідальнік. *Выбрасвальнікам дастаецца гільза.* Пруды Стаўб.

**ВЫБРА́СЫВАЦЕЛЬ** *м. Паляўн.* Тое, што і выбра́свальнік. *Выбрасывацелем вынімаем гільзы са стрэльбы.* Рудня Лаг.; *параўн.* рус. выбрасыватель 'тс'.

**ВЫ́БРАЦЬ** *зак.* Выпалаць, ачысціць ад пустазелля. *Агарод выбрала за дзень, праўда, травы нямнога было.* Дрычын Пух.

**ВЫБРЫ́НДВАЦЦА, ВЫБРЫ́НДЖВАЦЦА** *незак.* Высыпацца, размохрывацца. *Па пругах найлепей шшываць, яны ня выбрындваюцца.* Хожава Маладз. *Усякая шво апкідаюць, каб ня выбрынджвалася.* Нізок Уздз. *А гэта ж во ці кліны, ці проста якія швы, то каб ні выбрындваліся, то апкідаць трэба.* Вязынка Маладз.

**ВЫБУДО́ЎВАЦЦА** *незак.* Перабірацца, высяляцца. *Івашкін зоўтра будзе выбудоўвацца ад нас.* Ляхавічы Дзярж.

**ВЫ́БУХАЦЬ** *гл.* вы́бахаць

**ВЫ́БУШАВАЦЬ** *зак.* Выкінуць. *За тры гадзіны ўвесь гной выбушавалі с хлява.* Папоўка Мядз.

**ВЫВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Выцягваць голасам. *За рэчкай недзя дзявочыя галасы вывадзілі даўнюю песьню.* Узгурск Чэрв.

**ВЫВАЗІ́ЦЬ** *незак.* Вывозіць. *Вызначылі ўжо такіх людзей, каторыя будуць салдата дзе-та вывазіць, і каб ён там загінуў.* Даўгінава Віл.

**ВЫ́ВАРАТКА** *ж.* Вываранець. *Мусіць, сільны вецер быў, вываратні ў лесе многа.* Ляхавічы Дзярж.

**ВЫ́ВАРАТНІК** *м.* Тое, што і вы́варатка.

*Рас тут сільны вецер быў, выварatніку навярнула, страх што рабілася.* Саланая Валож.

**ВЫ́ВАРКА** *ж.* Тое, што і в а́ р н я. *Пастаў выварку на агонь, няхай кіпіць бяльлё.* Суднікі Стаўб.

**ВЫ́ВЕРНУЦЦА** *зак.* Паказацца. *Цэлы дзень халадыч стаяла, а пад вечар і сонца вывярнулася.* Баяры Маладз.

**ВЫ́ВЕСЦІ** *зак.* ◊ **Вывесці з цярпення** — давесці да страты самавалодання, узлаваць. *Як ён мяне сёньня вывеў сь цярпеньня, не магу табе расказаць.* Хожава Маладз.

**ВЫ́ВЕРЦІНА** *ж.* Тое, што і вы́ в а р а т к а. *Такі моцны вецір быў, што ў лесі адны вывярціны.* Малмыгі Віл.

**ВЫВЕ́ШАВАЦЬ** *незак.* Вешаць. *Што Люда наша тамака робіць? Недзя ўжо вывешаваіць фіранкі на вокны, ці, можа, плачыць, каіцца, што паехала, пакінула маму.* Халмоўка Барыс.

**ВЫВЁРТКІ** *прым.* Вёрткі. *Быў кавалер і ў мяне. Цымбаліст. Вывёрткі быў хлопец: рвік за бок адну, скуб другую — усе ад яго ўцякалі.* Пузыры Мядз. *Вывёрткая дзевачка расьце ў сям'і, уседзець на месцы ня можыць.* Крывічы Мядз.

**ВЫ́ВУДЗІЦЬ** *зак.* **1.** Выманіць. *От, трэ было вывудзіць грошы, то хадзіў штодзень.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Выведаць хітрыкамі, падманам. *О, яна хітрая! Усё, што ёй трэба, вызнаець, вывудзіць.* Рудня Чэрв.

**ВЫ́ГАВАР** *м.* Вымаўленне. *У яго выгавар харошы, усё панятна, што ён гаворыць.* Укалеўка Чэрв.

**ВЫГАГО́ЙЛА** *ж.* Вымагацельніца. *Выгагойла яна, твая Маруська: колькі не давай, а ўсё мала.* Грабёнка Чэрв.

**ВЫ́ГАДА** *ж.* Добрыя прыродныя ўмовы. *Вот выгада табе настала: паша бліска.* Вецярэвічы Пух.

**ВЫ́ГАДНА** *прысл.* Выгодна. *Як табе выгадна, так і рабі.* Пудзіцк Пух.

**ВЫГАДО́ЎЛІВАЦЬ** *незак.* Гадаваць. *Я боляй ні буду выгадоўліваць цялят, рашчоту няма.* Цялякава Уздз.

**ВЫГАНЯ́ЦЬ** *незак.* **1.** Выпрацоўваць, зарабляць. *Трактарысты вясною па трыста рублёў за месяц выганяюць.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Выкатваць. *Калі выганяюць мёт, то зразаюць запячатаныя соты.* Нізок Уздз. **3.** Знішчаць, пазбаўляцца ад каго-н. *Пчолы выганяюць трутняў з вулея.* Дукора Пух.

**ВЫ́ГАРАД** *м.* Выгараджанае ў полі месца для жывёлы. *Летам каровы пераганяім у выгарад.* Паплавы Бярэз.

**ВЫ́ГАРАДЗЬ** *ж.* Адгароджанае месца на двары для жывёлы. *Загані сьвіней у выгарадзь і ідзі сабе гуляць.* Рудня Лаг.

**ВЫ́ГАРАДЖАНЫ** *дзеепрым.* Абнесены, загароджаны. *Двор выгараджаны высокім плотам.* Дрычын Пух.

**ВЫ́ГАРАК** *м.* Участак балота з выпаленым торфам. *На выгарку каровы пасуцца.* Даўгінава Віл.

**ВЫ́ГАРКА** *ж.* Тое, што і вы́ г а р а к. *Лета сухоя, дажджу німа, выгаркі толькі дымяцца, ніяк не затушыць.* Язні Віл.

**ВЫГАТО́ЎЛІВАЦЬ** *незак.* Варыць. *Жонка толькі выгатоўлівала есьці, іншай работы ў яе ня было.* Дрычын Пух.

**ВЫГІНА́ШЧЫ** *прым.* Гнуткі. *Выгінашчае дзерава ідзе на дугі, абады, палазы.* Бясяды Лаг.

**ВЫ́ГІНУЦЬ** *зак.* Прапасці на корані. *Маруся пасадзіла — выгінула, а мая нічаво капустачка.* Савоні Стаўб.

**ВЫ́ГНАЦЬ** *зак.* Выціснуць (алей). *Сем'я мяшок наабівала, алею выганю.* Дукора Пух.

**ВЫГО́НЬВАЦЬ** *незак.* Выбіраць, браць. *Мёд выгоньваюць з рамак у пасудзіну.* Гілікі Валож.

**ВЫ́ДАЙЦЦА** *зак.* Даваць мала малака. *Млека ў нас скупавата ў гэтум годзі, карова перадойкай даілася ўсю зіму, выдаілася.* Арцюхі Стаўб.

**ВЫ́ДАІЦЬ** *зак.* Хітрыкамі, падманам, ільсцівымі ўгаворамі набыць што-н. *Выдаіла Гэльку, дык ужо ні трэба яна ёй, бо няма нічога ў Гэлькі.* Дукора Пух.

**ВЫДА́ЎБАЦЬ** *незак.* Выбіраць, выбіваць долатам дзіркі. *Ён сеў выдаўбаць гнёзды для шыпоў.* Ляшчынск Мядз.

**ВЫ́ДАЦЬ** *зак.* **1.** Збіць. *Выдасьць сваё масла і прадаець сьвежанькае.* Сіўцы Віл. **2.** Адлупцаваць. *Хай лепяй ні паказуяцца, бо я яму выдам добра.* Вялікая Вуса Уздз. *Вот я табе выдам зара, як вазьму дубіну якую.* Баяры Маладз. *Раззлаваўся дзет, улятае ў хату, а сын храпе, аш сьцены калоцяцца. Ну й выдаў жа яму дзет за гэта.* Ілья Віл. ◊ **Выдаць банкет** — учыніць скандал. *Чую ля магазіна, што зяць кажыць: „Ну, прыду дамоў, дык павыдам банкет і жонцы і цёшчы". А я кажу: „Каб вас зямелька ні насіла, такіх зяцёў!"* Язні Віл.

**ВЫ́ДЗЕРЖНЫ** *у знач. прым.* Вытрыманы, умее валодаць сабою. *Дык таму нічога, той хітрэйшы, стаіць і маўчыць, выдзяржны быў нейкі.* Нізок Уздз.

**ВЫ́ДЗЕРКІ** *толькі мн.* Поле на месцы сенажаці. *На выдзерках усё добра расьце.* Вецярэвічы Пух.

**ВЫ́ДЗЕЎБСЦІ** *зак.* Дзеўбучы, вырабіць што-н. *— Ну, дык а што я буду насіць у буднія дні? — А дзеравянкі ня можыш выдзяўпсьці?* Бакачы Мядз.

**ВЫ́ДЗІКТАВАНЫ** *у знач. прым.* Прывучаны да строгага парадку. *Такія ўжо выдзіктаваныя твае дзеці, як ні ў кога.* Дукора Пух.

**ВЫДЗЯРЖЫМАСЦЬ** *ж.* Вынослівасць. *Як выдзяржымасць добрая, то сабака ні стамляіцца.* Ляшчынск Мядз.

**ВЫДРА** *ж. Груб.* Злая, няўжыўчывая жанчына. *Вот, выдра, ну, проста асою ў вочы лезя.* Цялякава Уздз.

**ВЫДРАПКАВАЦЬ** *зак.* Апрацаваць культыватарам. *Тут трэба выдрапкаваць драпаком, то можа хоць парасьце што.* Цвіркі Стаўб.

**ВЫДРАЦЬ** *зак.* 1. Выпатрашыць. *Рыбу трэба спачатку паскрэпці, а потым выдраць.* Забалоцце Смал. 2. Тое, што і выбраць. *Сёньня я выдрала дваццаць адну сотку буракоў.* Дрычын Пух.

**ВЫДУБІЦЦА** *зак. Экспр.* Памерці, даць дуба. *Зрабілі яму аперацыю і кажуць, трэба яму крупніку курынага. А ён груцы густой наеўся, перасоленай — і выдубіўся да сьвету.* Аляхновічы Маладз.

**ВЫДУКОЎВАЦЬ** *незак.* Падрыхтоўваць да школы. *Яго выдукоўваюць, дык ён малы, а ўмея так добра гаварыць.* Бытча Барыс.

**ВЫДУНДЗІЦЬ** *зак.* Выссаць. *Цяля выдундзіла ўсе малако ў каровы, нічога не надаіла сабе.* Зазерка Пух.

**ВЫДУРЫЦЬ** *зак.* Абдурыць, абмануць. *Да сям'і тут далёка, як да неба. Адно вядома: выдурыць ён яе, пакіне голую як ліпку і айда.* Нежаўка Чэрв.

**ВЫЕХАЦЬ** *зак.* ◊ **Выехаць на плячах** чыіх-н. — нядобрасумленным спосабам выйсці з цяжкага становішча. *О-о-о, яны такія! Я адно маўчу, нікому ні гавару, як яны на маіх плячах выяхалі. Памяркуйся с такімі!* Савоні Стаўб.

**ВЫЖАБІЦЦА** *зак.* Пагнуцца, пакарабаціцца. *Выжабілася падлога, трэба перасьцілаць.* Малмыгі Віл.

**ВЫЖАЛ** *м. Неадабр.* Тое, што і віж. *От выжал гэты, усе ўгледзіць, усе знойдзе, куды ні схавай.* Ляхі Нясв.

**ВЫЖАЛУКАЦЬ** *зак.* Выпіць вялікую колькасць чаго-н. *Збан малака выжалукалі.* Баяры Маладз.

**ВЫЖАРЫ** *толькі мн.* Тое, што і выгарак. *На выжарах траву сёлета пасеялі.* Аношкі Віл.

**ВЫЖАЦЬ** *зак.* Аджаць, прапаласкаць. *Першы рас выжала адзежу ў цёплай вадзе, а другі рас — у халоднай і павесіла сушыцца.* Ляшчынск Мядз.

**ВЫЖЛУХЦІЦЬ** *зак.* Тое, што і выжалукаць. *Увесь квас выжлухцілі за вечар.* Баяры Маладз.

**ВЫЖЫМКІ** *толькі мн.* Макуха. *Гналі алей, аставаліся выжымкі. З выжымак рабілі добрая пойла.* Бясяды Лаг. *Алей будзям есьці, а выжымкі будзям сьвіням даваць.* Дукора Пух.

**ВЫЖЫЦЬ** *зак.* Падняць з лёжкі. *Як толькі выжыву зайца, пускаю на яго сабаку.* Забалоцце Смал.

**ВЫЗБІРАЦЬ** *зак.* Сабраць. *У лесе грыбоў дачарта было, але зарас усе вызьбіралі.* Русакі Стаўб.

**ВЫЗВЕРЫЦЦА** *зак. Экспр.* Глянуць зверам, крыкнуць. *Як вызьверыцца на сьвякроўку, тая ў сьлёзы.* Цялякава Уздз. *Ну, чаго ты вызьверыўся на сваё дзіця, што яно табе дрэннае зрабіла?* Паплавы Бярэз.

**ВЫЗІРАЦЬ** *незак.* Выглядаць. *Чаго вызіраеш с акна?* Суднікі Стаўб.

**ВЫЗНАЦЬ** *зак.* Выведаць пра такое, што трымаецца ў тайне. *Прыйдзецца вызнаць, пра што вы там дамаўляліся.* Рудня Валож.

**ВЫЙСЦІ** *зак.* 1. Удацца. *Усім яна вышла: і тварам і фігураю, а гультайка толькі.* Кухцічы Уздз. 2. Накіравацца. *Зьвер вышаў на жыр.* Вішнева Валож. 3. Узяць. *Сабака вышаў на сьлет.* Дукора Пух. ◊ **Выйсці з рамак** — парушыць агульнапрынятыя нормы. *Брат мой такі харошы, такі спакойны, ціхі. А ўчора вышаў з рамак: сьпяваў цэлы вечар, пакепліваў зь дзяўчат, ведамо, сына жэніць!* Вечатарова Стаўб. **Выйсці сухім** — застацца беспакараным. *Бацька наш быў чалавек разумны, ён табе выдзе сухім з любога становішча.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЫКА** *ж.* Тое, што і віґа. *У нас сеюць выку толькі скаціне.* Рудня Чэрв.

**ВЫКАВЫ** *прым.* Вікавы, з вікі. *Выкавай мукой сечку коням абмешвалі, выгадней, як сыпаць зярно.* Рудня Чэрв.

**ВЫКАЗАЦЬ** *зак.* Выдаць, удаць. *Аднаго здрадніка выказалі людзі, а на судзе ён назваў і сваіх хаўрусьнікаў.* Дрычын Пух.

**ВЫКАЛАЧВАЦЬ** *незак.* 1. Вытрэпваць, вытрасаць. *Выкалачвай рубашку, а то пылу ў ёй чорт ведае колькі.* Рудня Чэрв. 2. Выбіраць, вытрасаць. *Як жыта малоцім, парадашна кулёў навыкалачваем, крышу крылі імі.* Бытча Барыс.

**ВЫКАНАЦЬ** *зак.* Вынасіць на закуп. *За гот і па чатырыста літраў выканаям, а калі і боляй.* Белае Пух.

**ВЫКАПАНЫ** *у знач. прым.* Выліты, падобны. *А Валік твой — выкапаны бацька!* Брадок Лаг. *Сын выкапаны татуля.* Баяры Віл.

**ВЫКАПАЦЬ** *зак.* Выкінуць з хлява, катуха (гной). *Зарас за вілкі, пашла ў хлеў, думаю, выкапаю троху гною, вынясу за хлеў.* Залазоўе Віл.

**ВЫКАРАБКАЦЦА** *зак.* З вялікімі цяжкасцямі адкараскацца ад каго-н. *Я ішоў берагам, бабы мяне як зацягнулі ў рэчку, дык і вуды паламалі, і тапачкі паплылі, і капялюш увесь падралі і лілі на галаву ваду, — чуць я ад іх выкарабкаўся.* Кукшавічы Дзярж.

**ВЫКАРМІЦЬ** *зак.* Скарміць. — *Эдзік, ты*

*ўжо пшано выкарміў? Усё выкарміў?* Арцюхі Стаўб.

**ВЫКАРЫЦЬ** *зак.* Запарушыць. *Ня стой бліска, вочы выкарыш.* Ігрушка Круп.

**ВЫКАТАЦЬ** *зак.* Выкачаць, выгнаць. *Мёд з рамкі выкатаюць на медагонцы.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЫ́КАЦІЦЬ** *зак.* **1.** Вынішчыць. *Быў гэты ціф, усю нашу сям'ю выкаціў, а німалая ш была сям'я.* Кухцічы Уздз. **2.** *у безас. ужыв.* Знішчыць агнём. *Аннаго году адзінаццаць хат выкаціла пажарам.* Пудзіцк Пух. *У нас у саракавым годзі пажар вялікі быў, за сорак мінут усю Мікалаўшчыну выкаціла.* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **Выкаціць трубой** — прымусіць сілай зрабіць што-н. *Калі сама ня пойдзяш, я цябе трубой выкачу.* Каменка Уздз.

**ВЫКА́ЧВАЦЬ** *незак.* Тое, што і в ы г о́ н ь в а ц ь. *Прыдзіця вечарам, буду мёт выкачваць, пакаштуяця.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЫ́КЕШКАЦЬ** *зак.* Ачуняць, паправіцца. *Ранены быў, рука пачала гнісьці. Жылы былі відаць. Каб левая балела, то можа памёр бы, а то правая — неяк выкешкаў.* Бясяды Лаг.

**ВЫКІ́ДАВАЦЬ** *незак.* Выкідваць. *Яны давай нам выкідаваць гэтыя пасылкі, давай даваць, што вы гаротныя, што вы такія сташчоныя.* Ухвала Круп.

**ВЫКІДА́ЦЬ** *незак.* Выганяць з гнязда. *Пчолы адгрызаюць трутням крыльлі і выкідаюць іх.* Паплавы Бярэз.

**ВЫКІ́ДВАЦЕЛЬ** *м.* Тое, што і в ы б р а́ с в а л ь н і к. *Выкідвацель дзейнічае пасьля выстралу.* Забалоцце Смал.

**ВЫ́КІНУЦЦА** *зак.* Вырасці, з'явіцца. *За ноч столькі грыбоў выкінулася, што як пайшоў у лес, дык вочы разьбягаюцца, не ведаў, каторы браць. Пасьля дажджу баравікі павінны выкінуцца.* Нежаўка Чэрв.

**ВЫ́КІНУЦЬ** *зак.* ◊ **Выкінуць коніка** — сказаць або зрабіць што-н. нечаканае, недарэчнае. *Патурай, патурай, дык яна табе выкіня коніка, што за галаву схопісься.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЫКЛАДА́НКА** *ж.* Тое, што і в ы б і р а́ н к а. *Выкладанку ў кругі я ня ўмею ткаць.* Ігрушка Круп.

**ВЫКЛЮЧА́ЦЕЛЬ** *м.* Выключальнік. *Выключацялям сьвет уключаюць і выключаюць.* Дукора Пух.; *параўн.* рус. выключатель 'тс'.

**ВЫ́КРУГЛІЦЬ** *зак.* ◊ **Выкругліць бакі** — папаўнець, патаўсцець. *Што гэта за яда? Адна вада. Выкругліш бакі гэтай пахлёбкай?* Хожава Маладз.

**ВЫКРУНТА́СЫ** *толькі мн.* **1.** Мудрагелістыя рухі нагамі. *Брат мой як пойдзе некалі ў танец ды з выкрунтасамі! От умеў.* Ляхавічы Дзярж. **2.** Варыяцыі ігры на музычным інструменце. *Як пачаў на гармоніку розныя выкрунтасы выраблять, аж бабы танцаваць пакідалі.* Нізок Уздз.; *параўн.* польск. wykrętasy 'хітрыкі'.

**ВЫКРУТНІ́** *мн.; адз.* **выкруцёнь** *м.* Сырамятныя рамяні або лазовыя дубцы, якімі прымацоўвалі аглоблі да саней. *Выкрутні могуць быць скураныя і лазовыя.* Пруды Стаўб.

**ВЫ́КРУЦІЦЬ** *зак.* **1.** Тое, што і в ы́ к а т а ц ь. *Мёд з вульля выкручваюць.* Пруды Стаўб. **2.** Патушыць (агонь у лямпе). *Выкруці лямпу, пара ўжо спаць.* Забалоцце Смал.

**ВЫКРУ́ЧВАЦЦА** *незак.* Адмаўляцца, ухіляцца. *Як табе ні сорамна выкручвацца, ухіляцца ад работы.* Хожава Маладз.

**ВЫКРУ́ЧЫВАЦЦА** *незак.* Пры сцісканні кручэннем выпускаць ваду (пра бялізну). *Дак бялізна валіцца й валіцца вымытая, выкручываяцца.* Пагост Віл.

**ВЫКРУ́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Выкручваць. *Тагды мыю на эту сьцірку. Патом як калаўрот стаіць выкручываць, дзе ж бы вытрываў рукамі?! І гэтак я выкручывала дзьвесця підзьдзісят штук!* Пагост Віл. ◊ **Хоць выкручывай** — дужа мокры. *Ды як лупянуў, пёрся язык на плячо палажыўшы аж да дому. Кашуля была хоць выкручывай.* Язні Віл.

**ВЫ́КУЛІЦЦА** *зак.* Вываліцца, выпасці. *Дзіця выкулілася с калыскі.* Дукора Пух.

**ВЫ́КУЛІЦЬ** *зак.* Вывернуць, высыпаць. *Начоўкі яблыкаў выкуліла на сьметнік — пагнілі.* Дукора Пух.

**ВЫ́КУПКА** *ж., толькі адз.* Выкуп (за нявесту). *А свадзьба была багатая, жаніх вялікую выкупку даў за нявесту.* Баяры Маладз.

**ВЫКУПЛЁЎВАЦЬ** *незак.* Выкупляць. *А тады ўжо шафер маладую выкуплёўвае.* Дрычын Пух.

**ВЫКУПЛЯ́ЦЬ** *незак.* Купляць (пра шмат чаго-н.). *Даўней і моды не было, каб нявестка выкупляла сабе нарады.* Язні Віл.

**ВЫЛАЖАНЫ** *дзеепрым.* Кастрыраваны. *Мы купілі вылажанага кабана.* Бясяды Лаг.

**ВЫЛАЖЫЦЬ** *зак.* Кастрыраваць. *Кабанчыка ўчора вылажылі, дык нешта ня есь.* Бясяды Лаг.

**ВЫ́ЛАКТАЦЬ** *зак.* Выжлукціць. *Жыў у Габах натта вясёлы чалавек. Аднаго разу ён варочаўся с сяла, сьвету тады ня было. А хацеў піць. Ён рашыў вылактаць малако.* Старыя Габы Мядз.

**ВЫ́ЛЕВАК** *м.* Яйка с мяккай шалупайкай. *Кура вылевак у гнязьдзе растаптала, выкінуць трэба.* Вецярэвічы Уздз.

**ВЫ́ЛІНАК** *м.* Тое, што і в ы́ л е в а к. *Вылінак ні можа доўга ляжаць, бо сапсуецца.* Паплавы Бярэз.

**ВЫ́ЛІТЫ** *у знач. прым.* ◊ **Выліты бацюта** — вельмі падобны, такі ж, як бацька. *Анна падобна на матку, старэйшая, а мяншуха — выліты бацюта.* Язні Віл. *Каб і ня ведаў, чый гэ-*

*та хлопчык, дык здагадаісься: выліты бацька.* Малмыгі Віл.

**ВЫЛІЧЫЦЬ** *зак.* Выдзеліць, даць. *Мой сват даўней у пана служыў, была чвэртачка ў яго. Ён быў верны слуга, і яму пан вылічыў шчэ чвэртачку.* Арцюхі Стаўб.

**ВЫЛОГА** *ж.* Борт у адзенні. *Пальтон шыюць з вылогамі.* Бытча Барыс. *Жакетка з вылогамі.* Калодкі Віл.; *параўн.* польск. wyłogi 'тс'.

**ВЫЛОМЛІВАЦЬ** *незак.* Вучыць, прывіваць навыкі. *Маладых хлапцоў ляхчэй выломліваць, дык і бяруць у армію, як васімнаццаць гадоў будзя поўных.* Баяры Маладз.

**ВЫЛУЗАЦЦА** *зак.* ◊ **Хоць з касцей вылужыся** — старацца з усіх сіл. *Столькі работы, што хоць с касьцей вылужыся, а ўсю яе не пераробіш.* Кукалеўка Чэрв.

**ВЫЛУПІЦЬ** *зак.* Адлупцаваць. *Будзеш дурэць — бацьку скажу, дык вылупіць ён цябе.* Гілікі Валож. *Ты ў мяне даёрзаесься! Во як дастану сь печы, ды як вылуплю — будзяш ведаць!* Баяры Маладз. ◊ **Вылупіць вочы** — пільна паглядзець шырока расплюшчанымі вачамі. *Спрасоньня як стукнулася лбом у пярэдняя сьцякло, вылупіла вочы і ні знаю, што гэткая зрабілася.* Станькі Віл.

**ВЫЛЮДНЕЦЬ** *зак.* Стаць такім, як іншыя, рослым, прыгожым. *А цяпер, глядзі ты — вылюдняла.* Дукора Пух.

**ВЫЛЯГАЦЦА** *незак.* Нічога не рабіць, ляжаць доўга нерухома. *От бабы нашы робяць: сюды прыдуць — паляжаць, туды пойдуць — пластом лягуць. Гэта машыны сёньня няма, дык яны вылягаюцца.* Бяларучы Лаг.

**ВЫЛЯТОК** *м. Пчал.* Ляток. *Выляток зробляны ўнізе вульля, для вылёту пчолак з вульля зробляны.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЫМАҐЛЯВАЦЬ** *зак.* Выпрасаваць у маглях. *Хай сабе й прасаваць амаль што ні трэба, маґлі вымаґлююць, але ш дзьвесьця пяцьдзесят штук і пяцьдзесят каўняроў!* Пагост Віл.

**ВЫМАЗАЦЦА** *зак.* Запэцкацца, замазацца. *Села есьці адзеўшыся, дык хоць бы шляфрок накінула, а то яшчо вымазацца можыш.* Канстанцінава Мядз. *Сашка ў грась вымазаўся.* Вецярэвічы Пух.

**ВЫМАЗАЦЬ** *зак.* Замазаць, запэцкаць. *Хлопяц вымазаў касьцюм, трэба аддаць чысьціць.* Нізок Уздз.

**ВЫМАНЧЫЦЬ** *зак.* Тое, што і в ы д а і ц ь. *Яна ў міне абрусэ выманчыла і палатна многа.* Цялякава Уздз.

**ВЫМЕКНУЦЦА** *зак.* Прагаварыцца. *Кажа, вымякнуліся, што ён ні сам падарвоўся, адаляй замялі.* Цялякава Уздз.

**ВЫМЕНЦІЦЬ** *зак.* З'есці. *Мая карова не пераборліва. Колькі чаго ні дасі, усё вымянціць.* Баяры Маладз.

**ВЫМЕРАЖКАВАЦЬ** *зак.* Вышыць мярэжкай. *Чым абрабляць кручком, дык я люблю вымерашкаваць.* Паплавы Бярэз.

**ВЫМЕРҐАВАЦЬ** *зак.* Выгадаць, выкраіць, пакінуць сабе (з агульнага). *Я нейк вымярґавала і ўзяла мукі.* Дукора Пух.

**ВЫМЕРХАЦЦА** *зак.* Прагаладацца. *Мусіць, хлопяц добра вымерхаўся, бо зьеў цэлаю міску крупніку.* Цялякава Уздз.

**ВЫМЕТАЦЬ** *зак.* Абкідаць. *Вымятаюць дзірачку, пятлю ў адзежы.* Рудня Лаг.

**ВЫМІНАКА** *ж.* Жанчына, якая вядзе канчатковую апрацоўку льну церніцай. *Вымінака ўсю кастру вымінае, далікатнінька бярэ дзьве жменькі і чысьціць.* Хожава Маладз. *Вымінакі стаялі запыліныя.* Нарач Віл.

**ВЫМІНАЦЬ** *незак.* Апрацоўваць на церніцы. *Вымінаюць малую кастру, якая засталася пасьля ламаньня.* Хожава Маладз.

**ВЫМІНАЧКА** *ж.* Вымінанне. *Вымiначка — больш тонкая апрацоўка ільну, але не канчатковая.* Папоўцы Віл.

**ВЫНАСІЦЬ** *незак.* Выносіць. *Увечара хадзілі валачобнікі, пелі пад вокнамі песьні. С хат вынасілі яйкі, гарэлку, а хто грошы і частавалі.* Глебаўшчына Лаг.

**ВЫНАШАЙ** *м.* Пук трасты. *Ідзі ўжо вынашай нясі, працуй.* Нізок Уздз. *Што за адзін рас вынясеш, тое вынашай называюць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЫНАШАЙКА** *ж.* Тое, што і в ы н а ш а й. *Як маленькі вынашай, то кажуць вынашайка.* Дукора Пух.

**ВЫНАШАЯ** *ж.* Тое, што і в ы н а ш а й. *Яшчэ асталася адна вынашая і будзе ўвесь лён.* Дукора Пух.

**ВЫНІМАЦЬ** *незак.* **1.** Даставаць, вымаць. *Пасуду вынімаюць пасьля таго, як яна астыня.* Рудня Лаг. **2.** Выбіраць гняздо ў вуглу. *Ты заразай вуглы, а я вынімаць буду.* Забалоцце Смал.

**ВЫНОСІЦЬ** *незак.* ◊ **Выносіць на людзі** — разгалашаць тое, чаго не павінны ведаць іншыя. *А там і нявестка каса добрая: адно й рабіла, што сварылася сь сьвякровай. Пасварацца, а нявестка вынясе на людзі, а людзі потым вочы дзяруць.* Савоні Стаўб.

**ВЫНЯЎКА** *ж.* Палонка. *Неват зімой пад лёт апускаюць, дзеля чаго робяць вялікія выняўкі.* Мікольцы Мядз.

**ВЫПАЛАЦЬ** *зак.* Апалаць, ачысціць. *Сушаныя ягады трэба добра выпалаць: высыпаць на паланачкі, затым качаць паланачкі збоку на бок, і ўсё сьмецьця высыплецца.* Акалова Лаг.

**ВЫПАЛЬШЧЫК** *м. Уст.* Чалавек, які выробляў драўнінны вугаль. *Хто вугаль вырабляў, выпальшчык завецца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЫПАНДЗАЦЬ** *зак.* Выперці, выгнаць. *А яго як сваталі, яна ўсім духе забівала: „Ня*

*трэба мне ні яго грошы, ні яго касьцюмы, быў бы мне гаспадар удома", — выпандзалі тых сватоў с хаты.* Арцюхі Стаўб. *Яна выпандзала ўсіх с хаты.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. wypędić 'тс'.

**ВЫ́ПАРАЦЬ** *зак.* **1.** Знайсці, адшукаць. *Цукерку дзе якую выпара, зьесьць.* Каменка Уздз. **2.** Вычытаць. *Пра гэта я ў кнізе выпарала, — троха ш умею чытаць.* Каменка Уздз.

**ВЫ́ПАСАЖЫЦЬ** *зак.* **1.** Сплаціць пасаг. *Трохі нам стала лягчэй, як выпасажылі сясьцёр. Кожнай давалі карову і сто злотых.* Старыя Габы Мядз. **2.** Выжыць, выправадзіць. *Унучка выпасажыла дзеда с хаты.* Дукора Пух. *Матка хоча дачку выпасажыць, хай жывуць сабе здаровыя. Кажа, яны будуць ведаць, што робяць самі на сябе, а я, калі магчы буду, памагу ім што.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. wyposażyć 'даць пасаг пры выхадзе замуж'.

**ВЫПАЎНЕ́ННЕ** *н.* Выкананне. *У нашым калгасе поўнае выпаўненьне плану па малаку.* Паплавы Бярэз.; *параўн.* рус. выполнение 'тс'.

**ВЫ́ПАЎНЕНЫ** *дзеепрым.* Выкананы, зроблены. *Работа выпаўнена, можна зьбіраццa дахаты.* Ляшчынск Мядз.

**ВЫ́ПАЎНІЦЬ** *зак.* Выканаць. *Мы абязаліся выпаўніць сваю норму, значыць, выпаўнім.* Бытча Барыс. *Гэту работу трэба выпаўніць.* Зайцы Чэрв.; *параўн.* рус. выполнить 'тс'.

**ВЫ́ПАХАЦЬ** *зак.* Падмесці. *Узяла п каторая венік, ды мост выпахала, а не ў зеркала глядзеццa.* Зазерка Пух.

**ВЫ́ПАЧАСАВАЦЬ** *зак.* Вычасаць пачассе з кужэльнага лёну на шчотку са свіной шэрсці. *Сьвіная шчотка дужа добра, як ёсць, так выпачасаваіш, што можна ў машыну лён пускаць.* Хожава Мядз. *Як добра выпачасаваяш, спрадзеш да наччэш, то такоя палатно ляжыць, як лісток.* Дукора Пух.

**ВЫ́ПЕЛЕНҐУВАЦЬ** *зак.* Клапатліва ўзгадаваць, узрасціць. *Дачку выпяленґувала, распусьціла, як дзедаву пугу, а цяпер і сама не рада.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. wypielęgnować 'выпесціць, выняньчыць'.

**ВЫ́ПЕРЦІ** *зак.* Прымусіць пайсці, выгнаць. *Лець с хаты выперла мушчын, завалілі на ўвесь вечар хату і сядзяць.* Рудня Чэрв. *Такі злы быў чалавек, дык яго і выперлі зь вёскі.* Дрычын Пух.

**ВЫПІ́СЫВАЦЦА** *незак.* Выпісвацца. *Прышла я ў бальніцу, кажу, трэба выпісывацца, людзі жыта жнуць, а наша стаіць. А ён каыць: „Не, я ні буду выпісывацца".* Залазоўе Віл.

**ВЫ́ПЛАКАЦЬ** *зак.* ◊ **Выплакаць вочы** — часта і многа плакаць. *Дзісяцера дзяцей было, а жывых толькі трое асталося. Выплакала ўсе вочы.* Зарэчча Смал.

**ВЫ́ПЛАТАЦЬ** *зак.* Ачысціць ад касцей. *От шыначка харошая, хай ляжыць да вясны. А патом харашэнька выплатаць ат касьцей і закапціць. От укусная вяндлінка будзе.* Савоні Стаўб.

**ВЫПЛЫВА́ЦЬ** *незак.* Пускаць колас, пакрывацца каласамі. *Колас выплывае, жыцечка падрасло.* Гілікі Валож.

**ВЫПРА́ВА** *ж.* Тое, што і выпра́віны. *Ён на сынаву выправу многа гасьцей спрасіў.* Юшкаўка Віл.

**ВЫПРА́ВІНЫ** *толькі мн.* Праводзіны. *Нашага Вaціка былі выправіны, як ішоў у армію.* Савоні Стаўб. *Выправіны спраўляюць: сына ў армію бяруць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЫПРАГЧЫСЯ** *зак. Груб.* Здохнуць. *Каб яны выпрагліся, гэтыя куры! Дзяруць грады, рады не даць.* Суднікі Стаўб.

**ВЫ́ПРАЖ** *м. Зб.* Вупраж. *Выпраш — хамут, сядзёлак, дуга сюды ўваходзяць.* Вецярэвічы Пух.

**ВЫ́ПРАСТАЦЦА** *зак. Груб.* Тое, што і вы́прагчыся. *А рас купіла парасятак зімою, адгарадзіла ім клетку, пакарміла нанач, а прыйшла раніцай — яны выпрасталіся ўжо. От табе я й купіла!* Жораўка Пух.

**ВЫПРАЎЛЯ́ЛЬНІКІ** *мн.; адз.* **выпраўля́льнік** *м.* Удзельнікі вяселля. *Выпраўляльнікі прыходзяць праважаць і сустракаць маладую і маладога, паглядзець, ці харошая маладая.* Кальчуны Ашм.

**ВЫ́ПРУДЗІЦЦА, ВЫ́ПРУЦІЦЦА** *зак. Груб.* Памерці, апруцянець. *Ня чапайця, дзеці, яго, хай ён выпрудзіцца, злодзяй гэты.* Дукора Пух. *Чаго ты крычыш як ня выпрудзісься? Што ты хочаш?* Галавенчыцы Стаўб. *Вот гаткі чалавек, каб ён выпруціўся.* Раўчак Пух.

**ВЫ́ПУСТАК** *м.* Аднагадовае цяля. *Ці пе́разімаваў, ці пералетаваў — усё роўна выпустак.* Вецярэвічы Пух.

**ВЫПУСТКО́ЎКА** *ж.* Карова першым целем. *Наша выпусткоўка ацялілася.* Ляхавічы Дзярж.

**ВЫПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* **1.** Пакінуць на гадоўлю. *У яе карова ест, і цялушку выпусціла.* Цялякава Уздз. **2.** Запісаць на пласцінку. *Яны нядаўна гэтыя дзьве песьні выпусьцілі, жаласныя такія, прыемныя.* Дрычын Пух. ◊ **Не выпусціць пары з губ** — затаіцца, маўчаць. *Ціхусенька ляжыць [баба], хоць кашаль душа, ня выпусьціць і пары з губ.* Мікольцы Мядз.

**ВЫПУ́ЧВАЦЦА** *незак.* Выгінацца. *Сырая дошка як высахня, дык выпучваяцца.* Забалоцце Смал.

**ВЫПЯВА́ЦЬ** *незак.* Спяваць. *Дрост так хораша выпявая, аж заслухаясься.* Каменка Уздз.

**ВЫ́РАБІЦЦА** *зак.* **1.** Выбрацца са складанага становішча; выкруціцца. *І доўх ёсць, і карова прапала. А за адзін доўх кожды месіц трэба было плаціць чатыры злотых працэнты. Чуць я вырабіўся с таго доўгу.* Забар'е Віл.

2. Вызваліцца, вырвацца. *Яны ўдвох як ухабралі міне, дык я чуць вырабіўся.* Цялякова Узда.

**ВЫРАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Рабіць што-н. незвычайнае, вычвараць. *Жонка ўсё жыццё выраб-ляла, вырабляла, аш пакуль мужыку ні надаела і ня кінуў.* Зазерка Пух.

**ВЫ́РАДЗІЦЦА** *зак.* Выфранціцца, элегантна апрануцца. *У школу йдуць, а як на вясельля вырадзіліся.* Савоні Стаўб.

**ВЫРАЖА́ЦЦА** *незак.* Лаяцца, гаварыць нецэнзурныя словы. *Як табе ня сорамна так выражацца!* Забалоцце Смал.

**ВЫ́РАЗНА** *прысл.* Разборліва; так, што кожны гук вылучаецца. *Майго сына адзін хлопец добра гавора, выразна.* Бясяды Лаг.

**ВЫРА́ЗНЕ** *прысл.* 1. Адпаведна ўзору, устаноўленым правілам. *І так эта выразьне ваша настаўніца гаворыць на беларускай мове, аж я заслухалася.* Баяры Маладз. *А Серафіма дык выразьне гаворыць, от хорошы яе разгавор.* Гілікі Валож. 2. Своечасова, акурат у час. *І так выразьне ты прыехала, а то я бядую, як заўтра радоўку атпасьціць.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. wyraźnie 'тс'.

**ВЫРАК** *м. Уст.* Прыгавор, рашэнне (суда). *Судзілі яго, але выраку я не ведаю.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. wyrok 'тс'.

**ВЫРАННЕ** *н., толькі адз. Ганч.* Ачыстка гліны ад смецця. *Раскачваюць гліну на тонкі пласт, затым гэты пласт перараэаюць на тонкія пласьцінкі провалачкай — усе траеʼчкі выкідваюцца. Гэта называецца вырaньне.* Беразіно Бярэз.

**ВЫ́РАЧ** *м.* Балота. *Хутка ў нас на вырачы асушальныя работы пачнуцца.* Бобр Круп.

**ВЫРО́СТАЦЬ** *незак.* Вырастаць. *Трава тут выростая аш па пояс.* Каменка Уздз.

**ВЫ́РУБ** *м. Будаўн.* 1. Зруб. *Во, хату скора кончу: выруп гатовы.* Бясяды Лаг. 2. Вышыня. *Тут выруп як і ў тэй хаці — ні вышай, ні ніжай.* Забалоцце Смал.

**ВЫРУНЯ́ЦЬ** *зак.* Вырашаць, прымаць рашэнне. *Вырунялі без дзяржаўных мужоў, але праведьна.* Баравая Пух.

**ВЫ́РУНЯЦЬ** *зак.* Страціць першапачатковы колер; пабляknуць. *Выруняў твар твой, страшна глядзець на яго — адзін нос сіні.* Баравая Пух.

**ВЫ́САКА** *прысл.* Высока. *А посьля адзін гавора: „Пані, глянь, сонца высака падымаіцца, прыпячэ зарас".* Гранічы Маладз.

**ВЫСАКАВА́ЦЕНЬКІ** *прым. Памянш.* Высакаваты. *Сам ён [грыбок] жоўценькі, ношка высакаваценькая.* Суднікі Віл.

**ВЫ́САЛАПІЦЬ** *зак.* ◊ **Язык высалапіўшы** — зусім замарыўшыся, выбіўшыся з сіл. *Я дык неяк ні люблю ў гэным горадзе; ні табе, каб паглядзеў спакойна, разгледзіўся што дзе якое, дык не, бяжы язык высулупіўшы.* Язні Віл.

**ВЫ́САЎКАЦЬ** *зак.* З цяжкасцю ўзгадаваць. *Мужык памёр, засталося чацьвёра дзяцей малых. Алёша на пасту ганяў тры гады ў дзяцькі і гэтыя ганялі па суседзях, трохі браты памагалі, так я іх і высаўкала.* Альсевічы Мядз.

**ВЫ́СВЕНЦІЦЬ** *зак.* 1. Тое, што і **адсвянціць**. *Я яе добра высьвяньціла, боляй яна мяне ні зачэпіць.* Дукора Пух. 2. Адлупцаваць. *Бацька ўзяў хлудзіну ды высьвяньціў за парваныя штаны.* Зазерка Пух.

**ВЫСВЯНЧА́ЦЬ** *незак.* Правіць царкоўны абрад, каб надаць святасць чаму-н. *Цэлая працэсія ішла ба, высьвянчалі ба табе балота, хрысьціліся, маліліся — гэта ш нячысты дух у балоцця!* Мікольцы Мядз.

**ВЫ́СКАДЗЬ, ВЫ́СКІДЗЬ** *ж.* Вываранень. *Вунь пат той выскадзьдзю я сядзела, што вецір вывярнуў. Пака дошч ні перастаў, я там сядзела.* Ігрушка Круп. *Выскідзь — гэта вялікае вывернутае дрэва.* Рудня Чэрв.

**ВЫ́СКАЛІЦЦА** *зак. Экспр.* Выблісннуць, выглянуць. *Сонца выскаліцца, дык горача.* Пудзішк Пух.

**ВЫ́СКІДЗЬ** *гл.* вы́скадзь

**ВЫ́СКРАБАК** *м.* Найменшае, апошняе дзіця ў сям'і. *Я б яму патлы павырывала, каб дагнала. Помніў бы ён мяне, выскрабак гэты.* Раўчак Пух.

**ВЫ́СКРАБАЧАК** *м.* і **ВЫ́СКРАБАЧКА** *ж.* Маленькая булачка хлеба, спечаная з рэштак цеста. *Я сваім малым сьпякла выскрабачак, от яны былі рады.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Дзяжу выскрабуць нажом, зьлепяць цесто ў галушачку і выскрабачку сьпякуць.* Горкі Стаўб.

**ВЫ́СКУРАЦЬ** *зак. Экспр.* Памацавацца, здужаць. *Бяз грошай, братка, ня выскураяш доўга, трэба каб былі ў запася.* Дукора Пух.

**ВЫСЛЕДЗІЦЬ** *зак.* Высачыць, выявіць. *Спачатку трэба высьлядзіць зьвера, а потым толькі гнаць.* Ляхавічы Дзярж.

**ВЫСЛУ́ЖНЫ** *прым.* Дысцыплінаваны, прыхільны да людзей. *Тады ўжо сталі яго гэтыя цары ўгаворываць, што салдат харошы, ён выслужны, шкода яго загубіць.* Даўгінава Віл.

**ВЫ́СЛУХАЦЬ** *зак. Паляўн.* Выявіць месцазнаходжанне. *Прыйдзеш на такі, і спачатку трэба выслухаць, дзе глухары, і трэба гэта рабіць асьцярожна, каб сябе ня выдаць.* Бясяды Лаг.

**ВЫ́СМЯГНУЦЬ** *зак.* Выкіпець. *Чаго гэта ён гамоніць? У мяне вада ў чыгуне высьмягла?* Суцін Пух.

**ВЫСПА** *ж.* Гурба намеценага пяску. *У нас пяске, іх намятая; і гэта выспы мы завём.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЫСТА́ВА** *ж.* Выстаўка. *Мацея ні пазнаць*

*сягоньнячы, як на выставу прыбраўся.* Цвіркі Стаўб.; *параўн.* польск. wystawa 'тс'.

**ВЫСТАВІЦЬ** *зак.* Выгнаць. *Выставілі зайца на чыстае поле, і ён пачаў выдзелываць выкрунтасы!* Бытча Барыс.

**ВЫСТАНАЎЛІВАЦЬ** *незак.* Выстаўляць варту. *Кожны дзень і кожную ноч на масту ахрану выстанаўлівалі.* Дрычын Пух.

**ВЫСТАЎЛЯЦЦА** *незак.* Фанабэрыцца, выхваляцца. *Ні ладзяць з братавою. Братавая настаўніца, а гэта нівучаная, малой навукі, але ганарыстая, задавастая, што то я, выстаўляецца.* Савоні Стаўб.

**ВЫСТАЧА** *ж.* Лішак, рэшта. *Як кросна ччэш ды выстаняцца пража, дак кажуць, што абмылілася, выстачы многа.* Цялякава Уздз.

**ВЫСТОЙКА** *ж.* Тое, што і адстойка. *Карова стала малака менш даваць, нават у выстойку няма чаго наліць.* Броды Маладз.

**ВЫСТОПКА** *ж.* Тое, што і вараўня. *На зіму мы бульбу заўсёды ў выстопку засыпаям, там яна добрая да вясны ляжыць.* Рагалёўшчына Валож.

**ВЫСТРАБІЦЬ** *зак.* Вылаяць, прабраць. *Як паеду, дык выстраблю перад людзьмі.* Дукора Пух.

**ВЫСТРАІЦЦА** *зак.* Забудавацца. *Выстраілася гэдак, сваю хату пастроіла, хлеў.* Цялякава Уздз.

**ВЫСТРАНЧАЦЬ, ВЫСТРЭНЧВАЦЬ** *незак.* Дагаджаць. *Што за дзеткі пашлі цяперака?! Дзе ш ты выстранчыш ім: і тоя купі, і гэта, і за модай гоняцца.* Рабунь Віл. *Ну дык вы прывыклі, каб вам усё выстрэнчваць, а я ўжо старая, ні магу.* Раўчак Пух.; *параўн.* польск. stręzyć 'раіць, рэкамендаваць'.

**ВЫСТРАШЫЦЬ** *зак.* 1. Напалохаць. *Хлопцы як выстрашылі яго, дык той нядзелю не хадзіў нікуды.* Баяры Маладз. 2. Тое, што і выжыць. *Лясьнік выстрашыў зьвера.* Ляшчынск Мядз.

**ВЫСТРЭНЧВАЦЬ** *гл.* выстранчаць

**ВЫСТЫДЗІЦЬ** *зак.* Пасарамаціць. *Хацелася мне яго выстыдзіць добра, але сьцярпела, хай другім разам.* Малмыгі Віл.

**ВЫСЦЁБВАЦЦА** *незак.* Выкручвацца, прыхарошвацца. *Яна цэлы дзень у люстэрку высьцёбваецца, а вечарам на танцы.* Баяры Маладз.

**ВЫСЫП** *м.* Пясчаны ўзгорак. *Нічога на гэткім высыпе і расьці ня будзя.* Сосенка Віл.

**ВЫСЫПАЛЬНІКІ** *мн.; адз.* **высыпальнік** *м.* Першыя баравікі. *Ужо высыпальнікі зьявіліся ў нашум лесі.* Каменка Уздз.

**ВЫСЫПАЦЬ** *зак.* Узысці дружна. *Адсаджаныя гурке шчэ адно высыпалі, трэба заўтра пагрэсаваць.* Арцюхі Стаўб.

**ВЫСЫПАЦЬ** *незак.* Тое, што і выплываць. *Перш у пуку стаіць, тады высыпае [жыта].* Бытча Барыс.

**ВЫСЯКАНЫ** *дзеепрым.* Выдзеўбаны (з дрэва). *Начоўкі зь ліпы высяканыя.* Ратуцічы Барыс.

**ВЫСЯКАЦЬ** *незак.* Выбіраць. *У броўнах, шулах высякаюць пазэ для весьнічак.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Высякаюць гнёзда ў браўне, а то зруп стаяць ні будзя.* Там жа.

**ВЫТАЛАВАЦЬ** *зак.* Вытачыць. *Нада расцом выталаваць трупкі ў калёсы.* Ігрушка Круп.

**ВЫТАНУЦЬ** *зак.* Прапасці. *Хай яно вытане с такім жыццём: ні табе радасьці, ні табе шчасьця.* Узгурск Чэрв.

**ВЫТКНУЦЦА** *зак.* Паказацца, выйсці. *Столькі работы цяпер з гэтым сенам, што нікуды ні выткнесься.* Дрычын Пух.

**ВЫТЛУК** *м. Асудж.* Распуснік, свавольнік. *Мае дзеці без дазволу нікуды не палезуць, а во ў суседзей такія вытлукі, што залезуць усюды, нічога ад іх не схаваеш. А старэйшыя за маіх.* Жораўка Пух.; *параўн.* польск. wytłuk 'тс'.

**ВЫТНУЦЦА** *зак.* Ударыцца, выцяцца. *Бех мой хлопец і вытнуўся, такі гус сеў.* Турын Пух. *І дзе ж гэта ты, дзіцятка, гэтак вытнулася?* Рудня Пух. *Учора моцна вытнулася аб лаўку.* Язні Віл.

**ВЫТОКА** *ж.* Месца, адкуль выцякае ручэй. *Вытока ідзе вон аттуль, с-пат таго куста.* Забалоцце Смал.

**ВЫТРАВІЦЬ** *зак.* Панішчыць. *За вайну вытравілі ваўкоў, зьвяроў.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЫТРАНІРАВАЦЬ** *зак.* Абучыць. *Я свайго сабаку вытраніраваў, цяпер добра йдзе.* Пруды Стаўб.

**ВЫТРАСАЦЬ** *незак.* 1. Выбіраць. *У нас гавораць — куле вытрасаць.* Нізок Уздз. 2. Тое, што і выгоньваць. *Пара мёт вытрасаць.* Ляшчынск Мядз.

**ВЫТРАСКІ** *толькі мн.* Мятая, перабітая салома, што застаецца пасля кулёў. *Зімой малацілі жыта, выбіралі куляеую салому, а што аставалася, то вытраскі. Вытраскамі карову кармілі, на патсьцёл.* Ляшчынск Мядз.

**ВЫТРУБІЦЬ** *зак.* З'есці. *Вытрубіў міску гароху ды зноў за цэп.* Мікольцы Мядз.

**ВЫТУРХНУЦЬ** *зак.* Выкінуць. *Учора гной з пуні вытурхнулі, дык чыста стала.* Мацкі Мядз.

**ВЫТЫЛІНГАВАЦЬ** *незак.* Выпускаць тонкія, высокія гукі, граць на язык. *Іванаў хлопяц гэдак хораша вытылінгуя польку.* Цялякава Уздз.

**ВЫХАВАЦЬ** *зак.* 1. Зберагчы. *Добра вот, што 40 рублёў выхаваў, сена купілі.* Цялякава Уздз. 2. Пракарміць. *Трэба ж выхаваць каровы, а сена скупа.* Жызнава Віл.

**ВЫХАДАЦЬ** *зак.* Патраціць, скарміць. *Увесь сахар выхадаў сваімі пчаламі.* Ігрушка Круп.

**ВЫХАДНЫ** *у знач. наз.* Выхадны, час воль-

ны ад службовых абавязкаў. *А ў выханныя павёў мяне муш на станцу, узёў білет на пояст, пасадзіў, і я паехала да сына.* Пудзіцк Пух. *У яго тады выханны быў.* Вецярэвічы Пух.

**ВЫХАЛАСЦІЦЬ** *зак.* Выстудзіць, выхаладзіць. *Вясельлям гэтым дзьверы цэлы дзень не зачыняліся, хату выхаласьцілі.* Жораўка Пух.

**ВЫХАПЁНЕЦ** *м. Кулін.* Перапечка, скавароднік. *Усадзіла ў печ выхапеніц, кап пасьпеў на абет.* Ляшчынск Мядз.

**ВЫХВАЛЯКА** *м. Асудж.* Хвалько. *Выхваляка, узяў бы лепій венік ды трохі махануў.* Хожава Маладз.

**ВЫХВАРАЦЬ** *зак.* Прахварэць, прамучыцца ў хваробе. *Выхварала ўсю зіму.* Кавалі Віл.

**ВЫХВАТКІ** *мн.; адз.* **выхватка** *ж. Кулін.* Бліны. *На сьнеданьне выхваткі с тыкаўкай.* Дубіна Маладз.

**ВЫХІЛКА** *ж.* Манера, звычка. *Дачка будзя як рас як ён, але выхілкі бабуніны.* Савоні Стаўб.

**ВЫХОВАНЫ** *у знач. прым.* Выхаваны. *Яе дзеці выхованыя, культурныя.* Паплавы Бярэз.

**ВЫХОДАК** *м.* Прыбіральня. *Трэба, каб і выходак чысты быў.* Вішнева Валож.; *параўн.* польск. wychodek 'тс'.

**ВЫХОДЗІЦЬ** *незак.* **1.** Вылятаць. *Рой як выходзіць, далёка не ляціць, а садзіцца паблізу на дрэве.* Малмыгі Віл. **2.** Выпадаць. *Хворая яна: матка выходзіць.* Ляшчынск Мядз. *У нашае бабы выходзіла матка, як старая стала.* Пруды Стаўб.

**ВЫХОДНЯ** *м.* Тое, што і в ы х а д н ы. *Ніякага выходню ня мела. Дагледзяць жа трэба, каб ні перасохла гэта адзежа, пацігаць яе, выраўнаваць, злажыць.* Пагост Віл.; *параўн.* польск. wychodnia 'тс'.

**ВЫХУДАЦЬ** *зак.* Схуднець. *Мой унук нічога ня есьць, дык выхудаў зусім.* Турын Пух.

**ВЫХУРВАЦЬ** *незак.* Важдацца, аддаваць многа часу. *Двое сутак над хлебам выхурваць нада было, кап сьпячы яго: намалоць, рашчыніць, замясіць, печ напаліць. Многа работы каля хлеба.* Дрычын Пух.

**ВЫЦВІЧАНЫ** *дзеепрым.* Вывучаны, выдрэсіраваны. *У іх нават і кот выцьвічаны.* Баяры Маладз. *Выцьвічыў сабаку, цяпер усё панімая.* Пудзіцк Пух.; *параўн.* польск. wyćwiczony 'тс'.

**ВЫЦЕЛІЦЦА** *зак.* Прывесці цяля. *Твая карова яшчэ не выцялілася?* Пудзіцк Пух.

**ВЫЦЕПКАЦЦА** *зак.* Запэцкацца, упэцкацца. *Учора мая малая так выцяпкалася, што ледзь адмыла.* Малмыгі Віл.

**ВЫЦЕПЛІЦЬ** *зак.* Абагрэць, выпаліць. *Выцеплім еўню, насадзім лёну, і ён сохне.* Паплавы Бярэз.

**ВЫЦЕРАБЫ** *толькі мн.* Ляда. *Гэныя выцерабы цяпер вельмі добра родзяць.* Ляхавічы Дзярж.

**ВЫЦЕРАК** *м. Рыб.* Рыба, якая аднераставала. *Мама, мы пойдзем лавіць выцерак.* Міхольцы Мядз.

**ВЫЦЁЧКА** *ж.* Прагулка. *Некалі, як была маладая, я ні любіла сядзець на адным месцы, пабяру дзяцей — і на вецечку то ў лес, то на рэчку.* Грыцкаўшчына Валож.; *параўн.* польск. wycieczka 'тс'.

**ВЫЦЁК** *м.* Тое, што і в ы т о к а. *Выцёк Вусы пачынаяцца ў Дзяржынскім раёні.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЫЦІКОЎВАЦЬ** *незак.* Падвартоўваць, назіраць. *Но й хітрыя сарокі: кралі яйца ад бабы. Я ўзяў руж'ё і стаў чакаць. Сядзеў, сядзеў, выцікоўваў, выцікоўваў — і ні прылянела!* Арцюхі Стаўб.

**ВЫЦІРАЛЬНІК** *м.* Ручнік. *Па тутэйшаму звычаю для гасьцей прыносіцца чысты выціральнік.* Узгурск Чэрв. *У мяне было многа выціральнікаў, усе акуратна зложаны былі.* Бабарыка Круп.

**ВЫЦІРАЦЬ** *незак.* Тое, што і в ы м і н а ц ь. *Пасьля ламаньня лён выціраюць ад меншай кастрыцы.* Ляхавічы Дзярж.

**ВЫЦІСКАЦЬ** *незак.* **1.** Даставаць (мёд з сотаў). *Унучка любіць мёт выціскаць.* Вецярэвічы Пух. **2.** Наносіць узоры на паверхню чаго-н. *Розныя ўзоры выціскаюць на пасудзе пры дапамозе штампа ці разца. Гэта называецца выцісканьне ўзораў.* Івянец Валож.

**ВЫЦМУГЛЫ** *прым.* Высахлы. *Калі выцмуглы, то і тонкі.* Бясяды Лаг.

**ВЫЦУХМАЛІЦЬ** *зак.* Запэцкаць. *Ні пасьпела надзець новай суkенкі, як выцухмаліла ўсю.* Каменка Уздз.

**ВЫЦЬ** *незак. Груб.* Плакаць уголас, галасіць. *Чаго ты выіш, як па пакойніку?! Нідзе яны ні дзенуцца, гэтыя хлопцы, паезьдзяць, паезьдзяць і вернуцца.* Узгурск Чэрв.

**ВЫЦЫГАНІЦЬ** *зак.* Набыць хітрыкамі, падманам. *А прышлося, шваґер ужо й пасах выцыганіў, і сенакосу атарваў тры дзісяціны, да само лепшо сенакосу.* Забар'е Віл.

**ВЫЦЭЛЬВАННЕ** *н.* Прыцэльванне. *Некаторыя натта добра робяць выцэльванне.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЫЦЯГАНКА** *ж.* Тое, што і в ы б і р а н к а. *Ка мне аж з Масквы прыяжджалі, дзьве выцяганкі на фабрыку забралі.* Каменка Уздз.

**ВЫЦЯГАЦЬ** *незак.* Даставаць. *Патом выцягалі лён, крукам выцягалі зь ямы і слалі на сьлішчы.* Ратуцічы Барыс. *Работнік сь цябе, выцягаў ваду — увесь аблеяўся.* Турэц Чэрв. *Таня, ідзі выцягні с калодца хоць вядро вады.* Нізок Уздз.

**ВЫЦЯГВАЦЦА** *незак.* ◊ **Выцягвацца на нітку** — працаваць з напружаннем, высільва-

ючыся. *Гэты хлапец дык відаць, што памагая, ён на нітку выцягаваіцца.* Рудня Чэрв.

**ВЫЦЯГНУЦЬ** *зак.* Вывіхнуць. *Выцягнула руку, можа згінацца ці будзя.* Пудзіцк Пух.

**ВЫЦЯГЦІ** *зак.* Дастаць, здабыць што, выцягваючы. *Старая стала, вады не магу выцягці: цяшка.* Дрычын Пух. *Карове сена выцяхці ні магу нават на рас — аслабела.* Белае Пух.

**ВЫЦЯЖКІ** *толькі мн.* Суцэльныя загатоўкі на боты — халявы і перад. *Трэба Адасю выцяшкі занесьці, хай шыя боты.* Пруды Стаўб. *Цяпер гатовыя боты купіў і надзеў, а раней выцяшкі куплялі і шылі боты.* Ляхавічы Дзярж.

**ВЫЦЯТЫ** *дзеепрым.* Удараны, траўміраваны. *У каровы нага выцята, кульгая.* Пруды Стаўб.

**ВЫЧВАРАЦЬ** *незак.* Вырабляць штукі, вытвараць. *Як пачаў вычвараць, дык аш паскудна глядзець.* Карытніца Віл.

**ВЫЧХАЦЦА** *зак.* Вытхнуцца. *Хрэн жа зусім мала пастаяў, а зусім вычхаўся.* Гарадок Маладз.

**ВЫЧЫСЦІЦЬ** *зак.* Выдаліць кастрыцу. *Ужо вычысьцяць яга [лён], і гэтыя вычышчаныя жменькі зьвязваюць у ручэйкі.* Папоўка Мядз.

**ВЫШАКОМ** *прысл.* Вышэйшым гатункам. *Здасі мяса вышаком, палучыш па восім капеяк за кілё і тры рублё і підзісят капеяк за галаву надбаўкі.* Савоні Стаўб.

**ВЫШКІ** *толькі мн.* **1.** Курынае седала. *Куры ўжо на вышкі садзяцца, скора сьцямнея.* Дукора Пух. **2.** *ганч.* Стэлаж. *Памалу ты там круціся каля вышак, а то многа гаршкоў стаіць.* Шутавічы Смарг.

**ВЫШЛАЯ: вышлая лісіца.** Лісіца, у якой разбурылі логава, забралі лісянят. *Па лесе бегала вышлая лісіца.* Ляшчынск Мядз.

**ВЫШПАРАВАЦЬ** *зак.* Павыбіраць пазы (шпары). *Вушакі гатовы, толькі вышпараваць трэба, і можна ўстаўляць.* Рудня Лаг.

**ВЫШТУКОВЫВАЦЬ** *незак.* Вымяркоўваць. *Ён кажды дзень выштуковывая, каб на марожанае асталося.* Цялякава Уздз.

**ВЫШТУРМАВАЦЬ** *зак.* Вымуштраваць. *Дзеці гэтыя выштурмуюць мяне за дзень так, што аж ногі гудзяць, як лягу.* Дрычын Пух.

**ВЫШЧАРАЦЦА** *незак. Неадабр.* Смяяцца. *А ён дык заўсёды вышчараецца, заўсёды зубы наверсе.* Пранчэйкава Маладз.

**ВЫШЫБІЦЬ** *зак.* Выступіць, паказацца. *Дзесяты пот вышыб зь яго.* Ляшчынск Мядз.

**ВЫШЫЧЫНЯ** *ж.* Вышыня, памер, рост. *Твая Тома такая, як мая ўнучка, на вышычыню.* Пудзіцк Пух.

**ВЫШЧЫКНУЦЬ** *зак.* Вышчыпнуць. *Я пайду вышчыкну цыбулі і кропу.* Млечкі Віл.

**ВЫЯГДЖАЦЬ** *незак.* Выкарыстоўваць працу каго-н. у асабістых мэтах. *Сьвякроў сама некалі не рабіла, на нявестках выягджала, а мы праклялі гэту зямельку.* Шыпкі Віл.

**ВЫЯЎНА** *прысл.* Тое, што і вы́разна. *Гавары выяўна, бо я не разьбіраю, што ты кажаш.* Цяр... Барыс.

**ВЭДЛ**[illegible] *прыназ. з родн.* Каля. *Мае соткі вэдле мяне, курэй на іх не пушчу.* Язні Віл. *Сын мой вэдле мяне сабе хату паставіў.* Дрычын Пух.; *параўн.* польск. wedle 'тс'.

**ВЭДЛУГ** *прыназ. з родн.* У параўнанні з кім-н., чым-н., у адпаведнасці. *Вэдлух яго яна выглядала зусім прыгожай.* Палессе Мядз. *Але яна блыха вэдлух усіх цялят.* Цялякава Уздз. *Вэдлух вашай мая хустка нічога ні вартая.* Нізок Уздз.; *параўн.* польск. według 'па; у адпаведнасці'.

**ВЭЙ** *выкл.* Ой. *Вэй, як добра жыць цяперака стала!* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЭЛЕН** *м. Абрад.* Тое, што і ва́лент. *Даўней шлюбная ўбраньня самі шылі і вэлян да вянка прышывалі.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Цяпер вэлян доўгенькі робяць, сукеначка доўгенькая з рукаўцамі доўгімі, ня гэтак як раней, што сукеначка была да калена без рукаўчыкаў.* Савоні Стаўб. *Шчэ вэлян купіця ёй да шлюбу.* Дукора Пух.; *параўн.* іт. velo ад лац. velum 'заслона'.

**ВЭМБРУХ, ВЭНДРУХ** *м. Бат.* Бручка (Brassika napus). *Людмілка, я прынесла вэмбрух, ты ачысьці яго, атрэш сабе і дай Натасцы.* Юр'ева Смал. *У вайну, дзеткі, ня было чаго есьці, дак елі вэндрух, парылі і елі.* Пудзіцк Пух.

**ВЭНДЗАЦЦА** *незак. Неадабр.* Совацца. *Няма чаго рабіць, дык вэндзаецца с кута ў кут, а каб рашку вынесьці — ня заставіш.* Раўчак Пух.

**ВЭНДЗЕ** *часц.* Вунь. *Вэньдзя прычындалы твае, не збаёдай.* Масцішча Валож.

**ВЭНДЗІР** *м. Рыб.* Прылада лавіць ракаў. *Кінь ты гэны вэндзір, лаві лепій рукамі, дык болій наловіш.* Ляшчынск Мядз.

**ВЭНДЛЯРНЯ** *ж.* Невялікае збудаванне вэндзіць мяса, сала, каўбасы. *Трэба папрасіцца ў суседа, кап пусьціў у вэндлярню павэндзіць мяса.* Рудня Стаўб.; *параўн.* польск. wędlarnia 'тс'.

**ВЭНДРУХ** *гл.* вэ́мбрух

**ВЭНЗА** *ж. Пчал.* Пустыя пчаліныя соты. *Пустыя вэнзы мала бываюць у вульлі, пчолкі стараюцца напоўніць іх.* Пруды Стаўб. *У пустой рамцы дроцікі нацягнуты, каб ляхчэй вэнза трымалася.* Налібакі Стаўб.; *параўн.* польск. węza 'тс'.

**ВЭНСУС, ВЭПСУС** *прысл.* Рашуча, энергічна, раз'юшана. *Як толькі я так ступлю, дык ён тады ізноў вэпсус да мяне, кап укусіць.* Аляхновічы Маладз. *Лезя і лезя вэнсус, што стрымаць няможна, нахабнік гэты.* Баяры Маладз.

**ВЭНТАЛЬ** *м.* Ніпель. *Спусьціла кола: вэн-*

*таль згубіўся.* Грыцкаўшчына Валож.; *параўн.* польск. wentyl 'тс'.

**ВЭНЬ** *часц.* Вунь. *Вэнь стаіць вядро, вазьмі і схадзі прынясі вады.* Узгурск Чэрв.

**ВЭ́НЯКА** *прысл.* Тое, што і в у́ н ь д з е к а. *Вэняка пашла мая нявестка зь дзецьмі.* Вялікая Вуса Уздз. *Вэняка там вазьмі новую хустку.* Дукора Пух.

**ВЭ́РХАЛ** *м.* Страшэнны лямант, гвалт; беспарадак. *Тады яна нарабіла вэрхалу.* Дукора Пух. *Настаўніца трохі запазьнілася, дак яны такі вэрхал паднялі, аш мне вушы лопаюцца. Што гэта вы мне вэрхал устроілі ў хаця, усё ўверх нагамі перавярнулі?* Раўчак Пух.

**В'ЮН** *м. Заал.* Уюн (Misgurnus). *Я гэтых в'юноў гаджуся есьці.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**В'ЮРО́К** *м.* Прылада звіваць ніткі. *Ніткі на клубок в'юрком зьвіваюць.* Ляшчынск Мядз. *Згубіўся мой в'юрок недзя, я б вам паказала.* Пруды Стаўб.

**В'Ю́ШКА** *гл.* віюшка

**ВЯҐА́ЛА, ВЯҐЕ́ЛА, ВЯҐІ́ЛА** *ж. Заал.* Мянтуз (Lota lota). *Лавіць рыбу люблю, а есьці так сабе. Адна́ толькі мне да смаку — вяґала: і поліўку люблю зь яе і мяса.* Старая Мядз. *Злавілі вяґілу, пусьцілі ў вядро. Некалькі дзён пажыла, але с кожным днём слабела.* Пасынкі Мядз. *Глянь, і вяґела папалася ў сетку!* Канстанцінава Мядз.; *параўн.* літ. vėgėlė 'тс'.

**ВЯДЗЕ́РНІК** *м.* Чыгун аб'ёмам у адно вядро. *Нагрэй вады ў гэтым вядзерніку.* Палачаны Маладз.

**ВЯДЗМЕ́ДЗІЦА** *ж.* Мядзведзіца. *Вядзьмедзіца бываець большая за вядзьмедзя.* Малмыгі Віл.

**ВЯДЗМЕ́ДЗЬ** *м.* Мядзведзь. *Была гэткая справа. Баба жыта жала, прышоў вядзьмецьзь. Баба расьціралася, як убачыла вядзьмедзя.* Глушка Пух. *Вядзьмедзі ў нас у лесе раней вадзіліся, а цяпер нет, ці можа вайной сышлі куды.* Малмыгі Віл.

**ВЯДЗМЕ́ДЗЬКА** *м.* Тое, што і в я д з м е́ д з ь. *Да я жала каля бору, вышаў вядзьмецька з дубровы. Да вядзьмецька, мой братачка, скалыхні маё дзіцятачка [жніўная].* Ялча Чэрв.

**ВЯДЗЬМА́ЧЫЦЬ** *незак.* Вядзьмарыць. *Мая дзядзіна вядзьмачыла.* Дукора Пух.

**ВЯЗ** *м.* **1.** Перакладзіна ў санях, дубовая або вязавая, якая злучае капылы, галоўкі. *У палазы ўстаўляюцца капылы, капылы зьвязываюцца вязамі — папярэчынамі.* Дукора Пух. *Вязы адзяюцца на капылы.* Вецярэвічы Пух. **2.** Скручаны лазовы або бярозавы дубец, якім змацоўваецца што-н. *Вязамі бярвеньні ў плыты вяжуць.* Забалоцце Смал.

**ВЯЗА́ЛЬНІЦА** *ж.* Вязальшчыца. *Узялася вязальніца за вязаньне, дык і не аццягніш.* Вішнева Валож.

**ВЯ́ЗАН** *м.* Вязка (бярвенняў). *Вось тут вязан дрэнны атрымаўся, можа плыт развязацца.* Ляшчынск Мядз.

**ВЯ́ЗАНЫ** *прым.* ○ **Вязаная коўдра** — зробленая вязаннем. *Што вяжуць на раме, гэта і ёсьць вязаная коўдра.* Вялікая Вуса Уздз. **Вязаная хустка** — тое, што і в я́ з а н к а. *У нас вязаныя хусткі носяць зімою.* Вішнева Валож.

**ВЯ́ЗАНКА** *ж.* Вязаная шарсцяная хустка. *Вязанку завязваю зімою і цёпла.* Сакаўшчына Валож. *Ніткі праду на вязанку.* Вішнева Валож.

**ВЯ́ЗЕНЬ** *м.* Тое, што і в я з (у 1 знач.). *На капылох мацуюць вязьні, кап палазы не расходзіліся.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЯЗЁНКІ** *мн.; адз.* **вязёнка** *ж.* Вязаныя рукавіцы. *Я цяпер памаленьку праду ніткі на вязёнкі.* Бытча Барыс. *Хай бы крупінка нітак яшчэ, якраз бы на вязёнкі хваціла.* Пяржыр Пух.

**ВЯ́ЗКА** *ж.* Тое, што і в ы́ н а ш а й. *Зарас скончым, асталося чатыры вяскі вынясьці.* Дукора Пух.

**ВЯ́ЗКАСЦЬ** *ж.* Настойлівасць сабакі ў праследаванні звера. *Такая вяскасць у сабакі, ні адарвеш яго.* Саланая Валож.

**ВЯЗЦІ́** *безас., незак.* Шанцаваць. *Кажаць, як ні павязець зраньня, дык і да самага сьмярканьня ні будзіць вясьці.* Пузыры Мядз.

**ВЯЗЬМО́** *н.* Перавясла. *А ўжо як канчаім жаць, дык аспадара абвяжым вязьмом скручаным і надзенім яму вянок, спадару.* Бубны Віл. *Нешта ш у цябе вязьмо зусім слабае, сноп ня сьцісьніш.* Бытча Барыс. *Жняярка жнець, бабы ні ўсьпяваюць рабіць вёзьмы, вязаць снапы.* Ігрушка Круп. *Вязьмо робіцца с таго, што жнеш. Вязьмом зьвязуіш сноп.* Ратуцічы Барыс.

**ВЯ́ЗЫ** *мн.* Тое, што і в я з (у 1 знач.). *Вязы адзяваюць на капылы.* Вецярэвічы Пух. *У лес ня пускалі, трэба было квіток браць, каб насеч вербалозу на вязы ў сані.* Забалоцце Смал.

**ВЯ́ЗЫНКА** *ж.* **1.** Латы. *Ставяць крокввы, па кроквах кладзём вязынку, а тады крышу крыць пачынаім саломай.* Даўгінава Віл. **2.** Вязаная кофта. *Я сама зьвязала сабе вязынку.* Там жа.

**ВЯЛІ́ЗАЗНЫ** *прым.* Надзвычай вялікага памеру. *У нас на агародзі стаеў такі вялізазны дуп, што чуць спілавалі.* Цялякава Уздз.

**ВЯЛІ́КАДНЕ** *н.* Тое, што і в е л ь к а́ н а ц. *Ну, вот у нас начынаецца вяліканьня. Начынаім у чэцьвір.* Замошша Віл. *Ну, вот ужо вяліканьня зачынаяцца.* Дрычын Пух. *На вялікадне сьвяткуюць чатыры дні.* Бытча Барыс.

**ВЯЛІ́КІ** *прым.* **1.** Доўгі, значны па даўжыні. *У нашай Рыпіны вялікія валасэ былі. Як запляце касу, да чуць ні па калена — такія вялікія.* Нізок Уздз. *Мае агуркі вялікія, з буйным насеньнем, позьнія, харошыя.* Бясяды

Лаг. **2.** Высокі. *Бацька наш быў вялікі.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Мой мужык вялікі, а сама малая.* Цялякава Уздз. О **Вялікая лыжка** — апалонік. *У нас вялікая лышка служыць для гаршкоў і масла памыць.* Ляшчынск Мядз. **Вялікая пятніца** *уст.* — пятніца перад вялікаднем. *У вялікую пятніцу яйца красяць і пірагі пякуць.* Малмыгі Віл. **Вялікая серада** *уст.* — серада веліоднага тыдня. *Вялікая серада і градовая серада — адно і тоя ш. У градовую сераду нічога не рабілі, каб град дабра ні пабіў.* Бяларучы Лаг. **Вялікая субота** *уст.* — субота перад вялікаднем. *У вялікую суботу бяруць яічкі крашаныя, кладуць парасёначка, цяляціны, бараніны, кілбас наложуць, сьвеньцяць іх, кожны гардзіцца гэтым, што ўсё харошае, і служэньне ўсю ноч.* Бяларучы Лаг. **Вялікая хата** — самы вялікі і светлы пакой у хаце. *Прахоцьце ў вялікую хату, прахоцьце, госьцікі дарагія.* Вішнева Валож. **Вялікі кадрыль** — кадрыля ў 12 пар. *А як зайграюць вялікі кадрыль, усе бяруцца ў пары, 12 пар набіраяцца, і танцуюць.* Гілікі Валож. **Вялікі навой** — задні валік у кроснах. *На вялікі навой навіваюць аснову.* Рудня Лаг. **Вялікі панядзелак** *уст.* — панядзелак на апошнім тыдні перад вялікаднем. *У вялікі панядзелак людзі пачыналі рыхтавацца да вялікадня, парадкавалі ў хляве, гумне.* Ляшчынск Мядз. **Вялікі пост** *уст.* — сямітыднёвы пост перад вялікаднем. *Пасля запуст вялікі пост пачынаўся, сем нядзель пост, елі толькі посныя стравы.* Бяларучы Лаг. **Вялікі (чысты) чацвер** *уст.* — чацвер на апошнім тыдні перад вялікаднем. *Людзі прыбіралі ў хатах, кап чыста было, мыліся, бялізну мылі, а вечарам маленьне ў цэркаве, 12 раз званы зазваняць, 12 раз сьвечкі пазапальваюць, пака адойдзе служэньне.* Бяларучы Лаг. ◊ **Вялікі, як матавіна** — высокі ростам. *Можа ш помніць настаўніца сына яе, нічога быў хлопец, такі вялікі, як матавіна.* Язні Віл.

**ВЯЛІКО́ДНЫ** *прым.* Які мае адносіны да вялікадня. *За вялікодныя песьні гаспадыня разьлічвалася каўбасамі.* Нізок Уздз. *Вяліконыя песьні пяюць валачэбнікі.* Вялікая Вуса Уздз. *У вялікодную суботу яйца красяць і пірагі пякуць.* Дукора Пух.

**ВЯЛІ́ЧКА** *м.* Тое, што і в е л ь к а́ н а ц. *Вічарынак гэтых ні было, ік цяпер кожны дзень. І кінаў гэтых ні было. Сабіраліся, бывала, на вялікія сьвята, ну, вялічка там, сёмуху, на прачыстую.* Зарэчча Смал. *Гэта было на вялічка на першы дзень.* Ігрушка Круп.

**ВЯЛІ́ЧКІ** *толькі мн.* Павелічальныя, хвалебныя песні. *А тады на кут маладых садзілі да пелі вялічкі, шуткавалі, дражнілі маладога. Вот ужо лоўка палучалася, як мужык шутлівы пападзецца.* Задор'е Лаг.

**ВЯ́НЃЛІЦЬ, ВЯ́НДЗІЦЬ, ВЯНДЛІ́ЦЬ** *незак.* Вэндзіць, вяліць у дыме. *Прыгатовіла вянѓліць пару кусочкаў мяса, штук колькі калбасак, ды матка-сьвякрова прынясла.* Кукалеўка Чэрв. *Цяпер у нас мяса ні вяндзяць, а с канца зімы і раньняй вясной вяндзяць.* Там жа. *Вяндліць мяса будуць вясной, к маю.* Паплавы Бярэз.

**ВЯНДЛІ́НКА** *ж. Памянш.* Вяндліна. *Сягонійка і вяндлінка ёсьць, і хлеба ўволю, і малачко сваё, ну, што нам болій нада.* Мушанка Віл.

**ВЯНДЛІ́ЦЬ** *гл.* вя́нѓліць

**ВЯНО́К** *м.* Пляцёнка. *Гарацкому чалавеку трэба купіць вянок цыбулі, яму трэба даць за яе тры рублі, а ў мяне свае колькі хочаш, я на яе глядзець ні хачу.* Мікольцы Мядз. ◊ **Як у вянку (вяночку)** *захапл.* — вельмі добра, пасняхова. *У Кнотаўшчыне дзве магазіншчыцы: адна робіць, другая памагая, і ў іх усё ідзе як у вянку.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Каб ты паглядзеў, Міхайлавіч, як цяпер у нас жывуць. Усё павыкрашвано, пазагароджвано, на дварэ том як у вяночку ўсё роўна.* Савоні Стаўб.

**ВЯПРЫ́НЫ** *прым.* Вяпровы. *Вепр як чмыхнуў, вяпрыны хвост убачыла толькі.* Пруды Стаўб.

**ВЯРБНІ́К** *м. Зб.* Вярбняк. *Вярбнік далёка ад нас, у той бок.* Вецярэвічы Пух.

**ВЯРГІ́НІЯ** *ж. Бат.* Вяргіня (Dahlia). *Вяргініі рознага цьвету бываюць, цьвітуць усё лета аш да замараскаў.* Саланая Валож.

**ВЯРМО́** *н.* Ярмо. *Такоя вярмо зробляна, за вярмо чапляюць саху — і так аралі.* Цялякава Уздз.

**ВЯРНУ́ЦЬ** *незак.* ◊ **Горы-даліны вярнуць** *на каго-н. асудж.* — няславіць, абгаворваць каго-н. *Раднёй прыходзюцца, а адна на другую горы-даліны вернуць.* Забродзе Віл.

**ВЯРО́ВАЧКАМІ** *у знач. прысл.* У выглядзе шнура. *Растуць радоўкі вяровачкамі такімі, цягнуцца чародамі.* Слабада Бярэз.

**ВЯРО́ВАЧНІКІ** *мн.; адз.* **вяро́вачнік** *м. Уст.* Тое, што і в е р а ў ч а́ н к і. *Вяровачнікі калісьці с канапель рабілі, с канапель вілі вяроўкі і рабілі вяровачнікі.* Пруды Стаўб.

**ВЯРО́ПАЎКА** *ж. Лаянк.* Тоўстая непаваротлівая кабета. *Што ты, вяропаўка, вярзеш?* Каменка Уздз.; *параўн.* вярэ́паўка.

**ВЯРСТА́** *ж.* **1.** Укладка сена. *Цэлых дзьве вярсты сена сёньня табе наклалі, а ты кажаш, што мала.* Рудня Чэрв. **2.** Доўгі рад (звычайна дроў). *У нас заўсёды дровы ў вярсьце.* Вецярэвічы Пух. *Ты дровы не раскідай, а ў вярсту складвай.* Рудня Чэрв. *Тры вярсты дроў загатовілі, думаем, хваціць.* Бясяды Лаг.

**ВЯРСТА́К** *м.* Тое, што і в а р с т а́ т. *На маём вярстаку паўсяла бап ткалі.* Вецярэвічы Пух. *Вярстак выносім, як выччым кросны.* Бытча Барыс.

**ВЯРСТА́Т** *м. Ткац.* Тое, што і варста́т. *Вярстатаў гэтых, мусіць, ужо ні ў кога німа.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЯРСТО́ВЫ** *прым.* Верставы. *У нас тут стаяў вярстовы слуп, новую дарогу сталі строіць, убралі.* Рудня Чэрв.

**ВЯРТЛІ́ВЫ** *прым.* Тое, што і вывёрткі. *Мужыкі падумалі, што я здаўся таму барцу, а не тоя тут было. Вяртлівы быў я вельмі. Зноў вывярнуўся і ўжо як сеў на яго, так ня зьлес, покуль ён не здаўся.* Бяларучы Лаг.

**ВЯРТО́Н** *м. Заал.* Шкоднік сасны. *Вяртон зьяоае почкі, сасна не расьце.* Бясяды Лаг.

**ВЯРТУ́Н** *м.* Непаседа, жвавае дзіця. *Ну й вяртун, ні мінуты не пасядзіць на месцы.* Бясяды Лаг.

**ВЯРТУ́ШКІ** *толькі мн.* Арэлі, гушкалка. *Дзеці любяць на вяртушках качацца, сьмеху столькі тады.* Баяры Маладз.

**ВЯРТЧЭ́Й** *прысл.* Хутчэй, шыбчэй. *Я сама бачыла, як мядзьвецьь па роўнаму едзіць і шторас усё вяртчэй круціць, скорась набірая.* Баяры Маладз.

**ВЯРХІ́** *толькі мн.* Кудзеля самага нізкага гатунку. *Чэшым первы рас, гэта атнімаюцца камлі і вярхі — вярхі горшыя, камлі лепшыя.* Папоўка Мядз. *Як раней, то напрадзеш вярхоў і наччэш сьцірак і ануч у лапці.* Будслаў Мядз.

**ВЯРХНЯ́К** *м.* Верхні камень у жорнах. *Вярхняк завуць, бо ён уверсі ляжыць. Вярхняк ды сподні [камень] разам зярно труць.* Ігрушка Круп.

**ВЯРХО́ЎЕ** *н. Зб.* Тое, што і вярхі́. *Сморгалі [лён] на драку. Кудзеля, якая выходзіла с-пад трапла, называлася патрэп'ем, а што сморгалі — вярхоўем, што ш у кулацэ заставалася, быў кужаль, самы луччы лён.* Шавярнічы Бярэз. *Як патрэпіш лён, сморгаіш на грэбінь, вярхоўе, зрэб'е аткідаіш.* Ігрушка Круп.

**ВЯРХО́ЎКА** *ж.* Макаўка, верхняя частка галавы. *На вярхоўцы ў старога зрабілася лысіна.* Малмыгі Віл.

**ВЯРХУ́ШКА** *ж.* Верхавіна. *Дзерава такоя высокая, што вярхушкі ня відна.* Ігрушка Круп.; *параўн.* рус. верхушка 'тс'.

**ВЯРЦЕ́ЦЬ** *незак.* Падрыхтоўваць кудзелю да прадзіва. *Кудзелю верцяць і прадуць хто на самапратку, хто на верацяно.* Бытча Барыс.

**ВЯРШКО́ВАЕ ДЗЕ́РАВА** *будаўн.* Верхаўё. *Вяршковае дзерава таксама прымяніяцца ў страіцельсьцьве.* Бытча Барыс.

**ВЯРШКО́ЎКА** *ж. Будаўн.* Дошка таўшчынёй 4,5 см. *Парэжам на вяршкоўкі, высахнуць, пагаблюям, потым будзям слаць столь.* Дукора Пух.

**ВЯРШНІ́К** *м.* Тое, што і вярхня́к. *У жорнах камень, што зьверху ляжыць, вяршнік завецца.* Бытча Барыс.

**ВЯРШО́К** *м.* **1.** Верхняя частка цыбуліны. *Трэба пазразаць вяршкі, цыбуля лепей ужываецца.* Хожава Маладз. **2.** Тое, што і вярху́шка. *Залес пат самы вяршок, хоць бы ні зваліўся.* Пруды Стаўб.

**ВЯРШЫ́НА** *ж.* Тое, што і вярху́шка. *Вяршына рэткая, маланкаю пабіла.* Вецярэвічы Пух. *Мае хлопцы прывязалі шпакоўню да вяршыны бярозы, шпакі вядуцца.* Вішнева Валож.

**ВЯРШЫ́НКА** *ж.* Тое, што і верх. *Вяршынка састановілася на млеку, назьбірала паўлітровы слоік вяршынкі вунь с таго трохлітровага жбаночка, што на стале стаіць.* Бытча Барыс.

**ВЯРШЫ́НКІ** *толькі мн.* Тое, што і верх. *Ён думаў, што малако, пачаў піць. П'е і думаіць, што за чорт, вяршынкі салодкія, с-пад малака ш ні такія салодкія.* Старыя Габы Мядз.

**ВЯРШЫ́ННІК** *м. Зб.* Верхаўё. *У лесе пачыстку праводзяць, можна вяршыньніку на дровы загатовіць.* Паплавы Бярэз.

**ВЯРЭ́ДЗІЦЦА** *незак.* Неадчэпна стаяць. *Намучыліся, колькі ўлезла, думалі, канца вайне ня будзя. І цяпер лягу спаць, а ў вачах вярэдзіцца ўсё паражытае.* Дрычын Пух.

**ВЯРЭ́ДНІК** *м. Бат.* Увярэднік (Pedicularis). *Вярэднік расьце на балоце, на ніскіх палях, цьвяткі вярэдніка фіялетавыя пад розавы колер.* Няровы Валож.

**ВЯРЭ́НІ** *толькі мн. Уст.* Вераўчаныя лапці. *Плялі лапці з лыка і зь вяровак, лапці зь вяровак звалі вярэні.* Вецярэвічы Пух.

**ВЯРЭ́НЬКА** *ж.* Сплецены з бяросты кошык з накрыўкай. *У вярэньку кладуць сьцягно, хлеб, булку, яйцо сыроя, тры яечкі крашаныя кладуць у вярэньку — і сьвецяць.* Дрычын Пух.

**ВЯРЭ́НЬКІ** *толькі мн. Памянш. да* вярэ́ні. *Ботаў ня бачылі, вярэнькі насілі.* Пудзіцк Пух.

**ВЯРЭ́ПАЎКА** *ж. Заал.* Земляная жаба, рапуха (Ranidae temporaria). *Вярэпаўка ня скача, а поўзая.* Дукора Пух.

**ВЯСЕ́ЛЕ** *н.* Вяселле. *Прыяжджае маладый ў сваты, зь ім бацька яго, і дружку бяруць с сабой. Дагаварваюцца, калі вяселе рабіць. У суботу заўсёды вяселе пачыналася.* Калодчына Віл.

**ВЯСЕ́ЛЬНІК** *м.* Удзельнік вяселля. *Вясельнікі разьяжджаюцца, вясельлю канец.* Вецярэвічы Пух. *На вясельлі было шмат вясельнікаў з другіх сёл, у іх род вялікі.* Бытча Барыс.

**ВЯСЁЛА** *прысл.* Весела. *На танцах было вясёла, маладзёжы многа.* Вішнева Валож.

**ВЯ́СЛА** *н.* Нізка аднародных прадметаў. *Навудзіў рыбы вясла.* Рудня Чэрв. *Мой прыехаў зь Мінску, вясла абаранкаў прывёс.* Кукалеўка Чэрв.

**ВЯСНО́ЎСКІ** *прым.* Веснавы, вясенні. *Вяс-*

*ноўскія песьні прыгожыя, арыгінальныя,клічуць вясну-красну.* Паплавы Бярэз. // *перан.* Яравы. *Вясноўская пшаніца сонца баіцца.* Там жа.

**ВЯСНЎШЧАТЫ** *прым.* Вяснушкаваты. *Вясной твар вяснушчаты, многа вяснушак ат сонца.* Вецярэвічы Пух.

**ВЯСНЯНКА** *ж.* Вяснушка. *Яна п і нічога, але ўвесь твар у вясьнянках, рабая.* Вецярэвічы Пух.

**ВЯСЦІ** *незак.* Весці. *Сабе маладую выгадавалі кароўку, а старую трэба вясьці на базу.* Хожава Маладз.

**ВЯСЫ** *толькі мн.* Тое, што і в а г і. *У нас у саўхозе вялікія вясы е. На такіх вясох сена саўхос важыць, бульбу.* Вецярэвічы Пух. *Вясы ў магазіне правільныя, іх жа правяраюць.* Рудня Лаг.

**ВЯТОХ** *м.* Месяц у апошняй квадры, на зыходзе. *Вятох — стары месяц, як сярпочак.* Вішнева Валож. *Вятох — месяц на апошняй чэцьвярці.* Няровы Валож.

**ВЯТРАК** *м.* Пудзіла. *Паставіла б вятрак, мо б куры гуркі не разграбалі так.* Баяры Маладз.

**ВЯТРАНКА** *ж.* 1. Ветраны млын. *Вятранак цяпер німа.* Кукалеўка Чэрв. 2. *мед.* Ветраная воспа. *Пасьля вятранкі астаюцца на мордзі плямы.* Хожава Маладз.

**ВЯТРОЎКА** *ж.* Ятроўка. *Мая вятроўка добрая, кажды рас падарак прывозіць.* Ляхавічы Дзярж.

**ВЯТРОЎКІ, ВЯТРУЎКІ** *толькі мн.* Басаножкі. *Пазьбівала вятроўкі, трэба падбіць.* Вішнева Валож. *Парваліся ўжо мае вятруўкі, а так добра было ў іх хадзіць.* Пранчэйкава Маладз. *Сама выгадна на лета, як вятроўкі ё. У гарачыню хадзіць у вятруўках німа лепей.* Чабаі Валож. *Вятруўкі твае прыгожыя.* Палессе Мядз. *Вятруўкі добра насіць, як сухая пагода.* Арцюхі Стаўб.; *параўн.* польск. wiatrówka 'летняе адзенне'.

**ВЯТРУХА** *ж. Мед.* Тое, што і в я т р а н к а (у 2 знач.). *Пры вятрусе красьнінькія кропачкі на целе высыпаюць.* Ігрушка Круп.

**ВЯТРУХІ** *ж. Будаўн.* Тое, што і в е т р а н і ц ы. *Вятрухі прыбіваюць, каб вецір страхі не ўзарваў.* Паплавы Бярэз.

**ВЯЦІСТЫ** *прым.* Галінасты, з вялікай мяцёлкай. *Туляк — вяцісты авёс, уражайны.* Бясяды Лаг.

**ВЯЧАЙ** *м.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў, куды засыпаюць зярняты. *У жорнах вячай шчэ ёсь, жменяй зярняты засыпаем у вячай.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ВЯЧНІНА** *ж., толькі адз.* Вечнасць. *Мне тут не вячніна.* Бытча Барыс.

**ВЯЧЭРА** *ж. Абрад.* Жалобная вячэра. *Пахаваюць нябошчыка, а тады вячэру даюць.* Хожава Маладз.

**ВЯЧЭРАШНІ** *прым.* Вячэрні. *Я, знаяця, малачко стаўлю ў халодную ваду, каб ні скісла. Гляньце, учарашняе вячэрашняе, а ня скісла.* Бяларучы Лаг.

**ВЯЧЭРНЯЯ ЗОРКА** *астр.* Венера. *У нас вячэрняй зоркай называюць тую, што ўсходзіць першая зьвечара.* Забалоцце Смал. *Вячэрняя зорка зіхціць, калі няма хмарнасьці.* Вялікая Вуса Уздз.

**ВЯЧЭРНІЦА** *ж.* Тое, што і в я ч э р н я я з о р к а. *Вячэрніца ўзышла на небе.* Ігрушка Круп.

**ВЯШАК** *м.* 1. Дошка або паліца з кручкамі ці калочкамі вешаць адзенне. *Фрэнч павесіла на вяшак, а хто яго ўзяў.* Савоні Стаўб. *Трэба паліто павесіць на вяшак, а ты што кінуў яго?* Нарач Віл. *Трэба вяшак прыбіць, а то адарваўся, німа дзе вешаць адзежу.* Баяры Маладз. 2. Пятля, за якую вешаюць адзенне. *Прышый вяшак у куфайку, а то на цьвіку рвецца.* Пруды Стаўб.

**ВЯШНЯК** *м.* Парася веснавога прыплоду. *У мяне парасяткі вешнякі.* Каменка Уздз.

# Г

**ГА** *часц. пабудж.* Ужываецца пры паўторным звароце з мэтай прыцягнуць увагу. *Мам, га мам, паляжэця, аддыхнеця. Мы работу самі паробім.* Арцюхі Стаўб. *Пане майстру, га пане майстру, дзень добры! Можа б вы кажух пашылі мне?* Савоні Стаўб.

**ҐАБДЗЮР** *м.* Кіпцюр. *Глянь, якія вялікія ґабдзюрэ ў Янінага пеўня.* Пруды Стаўб. *У такіх птушак ґабдзюры малыя, а ў каршуна, савы — вялікія, як у ката.* Рудня Лаг.

**ГАБЁЛАК, ГАБЭЛАК, ГАБЭЛЕК, ГАБЭЛІК** *м.* Малы гэбель. *Габёлак свой дома забыўся ўзяць.* Пруды Стаўб. *Гэтым габэлкам шчэ дзет мой габляваў.* Рудня Лаг. *Няма сына дома, дык габлюю адзін габэлікам, памаленьку.* Хожава Маладз. *Дзе мой габэлек? Дошкі буду габляваць.* Пранчэйкава Маладз. *Хоць дрэнны, але свой габэлік ёсць. Калі што пагабляваць, то ні трэба пазычаць.* Палессе Мядз.; *параўн.* польск. hebelek 'тс'.

**ГАБЛЁЎКА** *ж.* Лупцоўка. *Сёньня была ўнуку габлёўка ад дзеда.* Карсакавічы Барыс.

**ҐАБЛІ** *толькі мн.* Вілы насыпаць бульбу. *У гумне ў вуглу ґаблі стаяць, прынясі сюды. У габлях зубы тупыя, з булдавешкамі на канцы, кап кортофлю ня рэзаць.* Літва Стаўб.; *параўн.* ням. Gabel 'вілы'.

**ҐАБЛІЦЬ** *незак.* Ісці. *Калі ты так будзіш ногі пірастаўляць, дык пэўне ш да абеду будзім габліць. Трошкі шавяліся.* Баяры Маладз.

**ГАБЛЮК** *м.* Габлюшка. *Прынесла кош*

*габлюкоў, печ патпальваць імі добра, ткнуў сьпічку і гараць.* Язні Віл.

**ГАБЛЯНУЦЦА** *зак.* Стукнуцца, ударыцца. *Ня лётай [на веласіпедзе], кажу! Бо зарас як габлянесься ап плот галавою, прыб'есься.* Баяры Маладз.

**ГАБЛЯНУЦЬ** *зак.* Напісаць на скорую руку. *Узяла і габлянула пісьмо ні падумаўшы.* Каменка Уздз.

**ГАБЗЛАК** *гл.* габёлак

**ГАБЗЛЕК** *гл.* габёлак

**ГАБЗЛІК** *гл.* габёлак

**ГАВАРОК** *м.* Гаварун. *Сярэдні дык такі гаварок, усё ляпеча ды ляпеча.* Ігрушка Круп. *Ах ты, мой гаварок, ах ты мой галубок, унучычак мой!* Гілікі Валож. *Гаварок ты добры, адно слухай цябе.* Заезерка Пух. *Малы, а які гаварок.* Хожава Маладз.

**ГАВАРУХА** *ж. Жан. да* гаварок. *Сястра была песельніца, гаваруха.* Саланая Валож.

**ГАВАРУШКА** *ж. Бат.* Гаварушка пабеленая (Clitocybe). *Гаварушка — грыб воўчы, расьце на такой высакаватай ношкі, і тожа ў лесі іх многа.* Нядаль Барыс. *Гэта гаварушкі на пнях павыскаквалі, апеняк шчэ німа.* Раўчак Пух.

**ГАВАРЫЦЬ** *незак.* ◊ **Гаварыць брыдкія словы** — лаяцца груба. *Як табе ні сорамна гаварыць брыткія словы.* Забалоцце Смал. — *Мама, а Валодзя гаварыў брыткія словы.* Хожава Маладз. **Гаварыць сваім налогам** — гаварыць на дыялекце. *Дзяўчаткі во пытаюцца, хочуць ведаць, як мы сваім налогам гаворым.* Плябанцы Віл. **Да трох не гаварыць** — хто не церпіць пярэчанняў, злаclівы хто. *У цябе Пецях хоць у вуха лажы, а меншаму ўжо да трох не гаварыць.* Язні Віл.

**ҐАВЭНДА**[1] *ж.* Гаворка, размова. *Аб гэта ня можа быць ґавэнды: як сказаў, так і зраблю!* Дукора Пух. *Што ты верыш розным там ґавэндам?* Сакаловічы Круп.; *параўн.* польск. gawęda 'тс'.

**ГАВЭНДА**[2] *ж.* Гурт, натоўп. *Цэлая гавэнда людзей на вуліцы, палядзеця. Што там такоя?* Баркоўшчына Мядз.

**ГАВЯДА** *ж. Зб.* Каровы. *Васіль еты пасьціў гавяду ў пана.* Вяркалы Пух. *Ён наняўся гавяду пасьвіць у калхозя.* Вецярэвічы Пух.

**ГАВЯДЗІНА** *ж.* Ялавічына. *У нашым магазіні гавядзіны ніколі ня бывае, трэба ехаць у Стоўпцы або Мінск.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГАВЯЖЫ** *прым.* Гавяджы. *Гавяжае мяса купляюць на катлеты, і так добра, калі кусочак зварыць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГАДАВАНІК** *м.* Гадаванец. *У нас сваіх дзяцей не было, то мы ўзялі гадаваніка: сусетка памерла, а маленькі хлопчык астаўся.* Мядзел Мядз.

**ГАДАВАЦЬ** *незак.* Шанаваць, берагчы. *Яна ш так ужо сябе гадуя, што лішні крок ня зробіць.* Баяры Маладз.

**ГАДАВІК** *м.* Ва ўзросце аднаго года (пра жывёлу: парася, цяля, жарабя). *Цялушку-гадавіка аддала паччарыцы, парсюка, а ўсянно чорт лысы.* Ігрушка Круп.

**ГАДАВЫ** *у знач. наз.* Парабак, якога пан наймаў на сельскагаспадарчыя работы на год. *Бацьку ў армію забралі, а я ў гадавыя да пана пайшоў — сям'ю карміць трэба.* Заезерка Пух.

**ГАДАЛКА** *ж.* Тое, што і варажэйка. *Цяпер шаптух ды гадалак днём с агнём ні знойдзеш.* Нізок Уздз.

**ГАДАРАЗНЫ** *прым.* Вельмі непрыемны, гадкі (з выгляду). *Нейкія збанке зарас гадаразныя робяць: шурпатыя, ні лудзяць іх.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГАДАСНЫ** *прым.* Агідны, непрыемны. *Ён такі гадасны, а яна ш жывее зь ім.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГАДЗІЦЦА** *незак.* Адчуваць агіду да чаго, брыдзіцца. *Цёплае малако я гаджуся піць, ні к роту.* Сакаўшчына Валож. *Я спачатку троха гадзілася яе малака, а потым прывыкла.* Дукора Пух.

**ГАДЗІЦЦА** *незак.* Дамаўляцца. *Яны гадзіліся хату крыць, але нешта ні пашлі.* Цялякава Уздз.

**ГАДЗЮКА** *ж. Лаянк.* Пра шкодную, небяспечную жанчыну. *Вот гадзюка эта жанчына, усім робіць урэт.* Вецярэвічы Пух.

**ГАДКА** *прысл.* Нецэнзурна. *Ён гатка выражаецца.* Дукора Пух.

**ГАДКІ** *прым.* Непрыгожы, брыдкі. *Чалавек ён добры, але зь ліца гаткі.* Цялякава Уздз.

**ГАДКІ** *мн.* Равеснікі. *Мы зь ім гаткі.* Пількаўшчына Мядз.

**ГАДУН** *м.* Тое, што і гадавік. *Гадун — гэто парасятко, жарабятко, цялятко, якому выйдзе год. От гэто і гадун.* Горкі Стаўб.

**ГАДЫНА** *ж. Заал.* Гадзіна, гадзюка (Vipera berus). *Раптам чуім, што нешта ў кусьце шапаціць. Глядзім, аш с куста вылазіць гадына.* Сасноўшчына Віл.

**ГАЁВЫ** *м. У знач. наз.* Ляснік. *Наш гаёвы кожны дзень аглядае лес, пільнуе і ахоўвае яго. Во як-то пажар у лесі зрабіўся, дык гаёвы людзей зьбіраў па вёсцы.* Літва Стаўб. *Заходзіўся ўчора гаёвы да нас.* Палессе Мядз. *Зноўка гаёвы лісу застрэліў.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. gajowy 'тс'.

**ГАЗАВЫ** *прым.* Капронавы. *Гэныя газавыя хусткі старой бабі ніяк ня йдуць: з галавы звальваюцца.* Літва Стаўб.

**ГАЗНІК** *м.* Лямпа. *Перш дык газнік запаліш і відна ў хаце.* Язні Віл.

**ГАЗНІЦА** *ж.* Газоўка. *Дак газьніцу паставім, карасіны купім трошку, солі пасыпім, каб ні загаравалася, каб жа сьвет вялікі ня*

*быў, — а хлопцы кругом!* Лоск Валож.

**ГАЗНІ́ЧКА** *ж. Памянш. да* газніца. *Газьнічкі ў нас у вайну ўсё палілі, бо тады ж ні было ні карасіны, ні сьцякол.* Дукора Пух. *Рабілі газьнічкі зь якой баначкі ці з бутылачкі, кноцік зацягвалі ў трубачку і апускалі туды.* Вязынка Маладз. *Некі лямант на дварэ, Сымон з газьнічкай паляцеў.* Забрэжжа Валож.

**ГАЗО́ВАЧКА** *ж. Памянш. да* ґазо́ўка[1]. *Цяпер ані ў кога няма газовачак, а ўперад дык ва ўсіх былі.* Забалоцце Смал. *Гэта цяпер алектрыка, а яшчэ як я была маладая, пралі пры газовачках.* Малінаўка Лаг.

**ҐАЗО́ЎКА**[1] *ж.* Самаробная газавая лямпа без шкла. *Лямпы рэтка ў ко' былі, а былі ґазоўкі. Ставілі бутылачку, капнуць карасіну ў тую бутылачку, кноцік скруцім, трубачку — і так палілі ґазовачку.* Бяларучы Лаг. *Ґазоўку паставім на комінак, на ўсю хату відна.* Мечаі Віл.

**ҐАЗО́ЎКА**[2] *ж.* Капронавая хустачка. *Закруці на галаву ґазоўку, глянь які вецяр.* Вішнева Валож.

**ГАЗУ́ЛЕЧКА** *ж. Памянш. да* ґазо́ўка[1]. *Мае два браты хадзілі ў школу, тут была валасная чатырохкласная школа. Карасіну не было, газулічку ету мама запаліць, яны пад гэнай газулічкай сьлепяцца.* Бяларучы Лаг.

**ҐАЗУ́РКА** *ж.* Тое, што і ґазо́ўка[1]. *Ґазурка — гэта добра, як цяпер сьвет, а то лучына была.* Мечаі Віл.

**ГАЙНЯ́, ГАНДЛЯ́, ГАННЯ́** *ж.* **1.** Зграя ваўкоў, сабак у перыяд цечкі. *У калядніцу ваўкі цэлымі гайнямі ходзяць. Як гайня напаткае, то дай бох ногі ад ваўкоў.* Забалоцце Смал. *Ня йдзі пазагуменьні, там гандля сабак бегая, яшчэ напалохая.* Кукшавічы Дзярж. *Мой дзет быў рас на ганьню ваўкоў натрапіў, цэлы век тады расказваў.* Паплавы Бярэз. **2.** Чарада дзяцей. *Ад гэтай гайні не адагнацца: тут і тут таўкуцца.* Кухцічы Уздз. // *перан. Як мне ўжэ душу ад'елі чужыя дзеці! Але што гандля тут і тут круцяцца дзеці з усёй вуліць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГАК**[1] *м.* Каса; участак зямлі, які вострым клінам удаецца ў што-н. *Во як ідзе Нёман, з аднаго боку глыбока, а з другога насыпаяцца, гэта гак, ці каса. Косаў скрось па Нёману поўна, у нас іх гакамі называюць.* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **З гакам** — з лішнім. *Я добра помню, што брала ў мяне мукі пяць фунтаў з гакам, аднесла толькі чатыры.* Язні Віл.

**ГАК**[2] *м.* Прабой вешаць замок. *Гакі робяць жалезныя, толькі жалезныя; цяпер гакі купляюць.* Вішнева Валож.

**ГАК**[3] *у знач. выкл. Што гак, то знак, гаворачь, калі тапаром ні пападаеш у адно месца.* Пруды Стаўб.

**ГА́КНУЦЬ** *зак.* Ударыць з сілай. *Ні дай бох, як спрашкай гакнуць, дзяваццa некуды ад болю.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГА́ЛА** *ж. Экспр.* Нага з доўгай галёнкай. *Вышэй свае галы падымай, а то ўсіх куранят перадушыш.* Засулле Стаўб. *У дзявок натта доўгія галы растуць, усе такія высокія пайшлі.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ГАЛАВА́** *ж.* **1.** Шчыльна звітыя ў качан капусныя лісты. *Капуста парасла, галовы велькія. Я сама летась купляла, галава восім кіль, адна паўмяха зойме. Але ні спорная велькая галава. Каб на галубцы, як сям'я шэсць-сем чалавек, такую галаву апарыў да разьдзёр, то гэто было б дзело.* Савоні Стаўб. **2.** Кошык сланечніку. *Галава сланечніку вялікая вырасла. У нас ні аднаго году такіх галоў ні было.* Ляшчынск Мядз. **3.** Колькасць семачак, якая змяшчаецца ў шапцы сланечніку. *Цэлую галаву сланечніку з'еў.* Ігрушка Круп. **4.** *ткац.* Кола навоя. *Пакалолася галава ў навоі, трэба выкідаць і рабіць другі.* Рудня Чэрв. *Паткруці навой за галаву, кап палатно нацягвалася.* Забалоцце Смал. **5.** Верхняя частка вулея. *У галаве пчолы на зіму гняздо робяць, цяплей у галаве.* Пруды Стаўб. **6.** Пярэдняя частка плыта. *Плытагон сядзіць на галаве плыта і кіруе.* Бытча Барыс. **7.** Выраз на рукаў. *Выражу галаву на рукаў, задзелаю выраз, і сукенка гатова.* Саланая Валож. ◊ **Галава кружыцца (круцiцца)** — адчуваць галавакружэнне. *Мама як нагнецца над буракамі, дык галава пачынае круціцца.* Пруды Стаўб. *Мы як сталі ў бясетку, у мяне галава й закружылася, й паплыла я: не магу на ваду глядзець, галава кружыцца.* Савоні Стаўб. **Галавой варыць** — прымаць самастойнае рашэнне, абдумваць, перш чым брацца за справу. *Трохі ж галавой варыць трэба — ісьці ці ня йсьці ў такой кароткай сукенцы ў клуп, каб людзей не насьмяшыць.* Рубяжэвічы Стаўб. **З галавой** — пра разумнага, талковага чалавека. *Такі жыць будзе, ён з галавой хлопец, за такім не прападзеш.* Дукора Пух. **З галавы сышло (выйшла)** — забыцца. *З галавы сышло, яйка ні зварыла, ні будзя чым куранятак пакарміць.* Савоні Стаўб. *Я й бачыла вас, але выйшло з галавы, забылася сказаць пра запіску.* Валеўка Навагр. **З ног да галавы** — поўнасцю. *Нас абучылі, далі новаю адзежу. С ыголачкі. З ног да галавы нас у новае ўбралі ўбранне.* Кузьмічы Мядз. **Набраць у галаву** — з глыбокай уразлівасцю паставіцца да чаго. *Набраў сабе ў галаву, от і памяшаўся.* Сіеіца Валож. **Слабая галава** — пра чалавека з дрэннай памяццю. *Я слабой галавы, помніць мала што помню.* Рудня Чэрв. **У галавах (у галаве)** — ва ўзгалоўі. *Падушка ляжыць у галавах.* Рабунь Віл. *У галаве палажы малую падушку, а Галі дай пухавую: яна будзе спаць у нагах.* Вішнева Валож. **У галаву не ідзе** — не прыпамінаец-

ца, не ўспамінаецца. *Ніяк не ідзе ў галаву, дзе я магла палажыць пляшачку ад лякарства.* Валеўка Навагр. **Як галаве сцяць** — вельмі моцна, як сатрываць. *А мурашкі злосныя як сталі пячы яго, як галаве сьцяць крычоў. А тады як выцягнулі яго з того мураўя, усё цело краснаё было.* Валеўка Навагр.

**ГАЛАВАРЭ́З** *м. Рэліг.* Хрысціянскае свята 29 жніўня ст. ст. *На галаварэза няможна было жаць, а то, гаварылі, парэжаш руку.* Хожава Маладз. *Галаварэс увосень бывая. Прышоў галаварэс — барану галаву адрэш.* Малмыгі Віл.

**ГАЛАВАСЕ́К** *м. Рэліг.* Тое, што і галаварэ́з. *Адны старыя гавораць галавасек, а другія — галаварэс, хто як скажа.* Малмыгі Віл.

**ГАЛАВА́СТЫ** *прым.* **1.** З вялікай галавой. *Галава-то як дзешка, такі ўжо галавасты быў, а розуму як у барана.* Вязынка Маладз. *Галавасты, калі галава ў каго вялікая, во мой сын галавасты.* Дукора Пух. **2.** Разумны, кемлівы. *Галавасты — гэта такі панятлівы, разумны чалавек.* Паплавы Бярэз.

**ГАЛАВА́СЦІК** *м.* Чалавек з вялікай галавой. *От галавасьцік удаўся, галава як рэшата вялікая.* Забалоцце Смал.

**ГАЛАВА́ТЫ** *прым.* Галавасты. *Той, хто гаварыў, быў непрыгожы і галаваты.* Вецярэвічы Пух.

**ГАЛАВА́Ч** *м.* **1.** Тое, што і галава́сцік. *Галавач — калі галава ў каго вялікая.* Хожава Маладз. **2.** Таўсмач, ладны на выгляд (пра дзіця). *Паглядзі, які галавач расьце. Ладны хлапчучок.* Слабада Бярэз. **3.** *заал.* Галавень (Leuciscus cephalus). *Галавач цяпер рэтка пападаяцца, зьвяліся.* Вялікая Вуса Уздз. *Ну й вялізныя галавачы ў нас лавіліся раней!* Нізок Уздз. *Учора дык і шмат галавачоў налавіў.* Рудня Лаг. *У галавача есьці німа чаго, адна галава вялікая.* Ляшчынск Мядз. **4.** *заал.* Апалонік. *Рэчка, дзе мелка, дзе вада праграваіцца, так і кішыць галавачамі. Ну й галавачоў!* Пасынкі Мядз. **5.** Палка, кіёк у кола задняга навоя. *Куды гэта галавач заваліўся?* Бубны Віл.

**ГАЛАВЕ́ШКА** *ж.* Вялікая бульбіна. *Галавешак накапала, адна ў адну. Глянь, якая бульба!* Баяры Маладз.

**ГАЛАВІ́СТЫ** *прым.* Кемлівы, разумны. *Майго дзевіра шваґерка гетка галавіста баба: хай во дзе пачуе песьню, адразу запомніць.* Бясяды Лаг.

**ГАЛАВІ́ЦА** *ж.* Тое, што і варо́ніна зе́рне. *Галавіцы чорныя, на жыця растуць. Галавіцу на лякарства зьбіраюць.* Бяларучы Лаг.

**ГАЛАВЯ́ЗКА** *ж.* Хустачка любога памеру і любой якасці. *Марылька сабе ґазоўку купіла, і я прасіла, каб якую галавяску мне прывезла.* Баркоўшчына Мядз.

**ҐАЛАҐО́НЫ** *толькі мн.* Шамкі. *І ґалаґоны чапляюць пад дугою, як едуць, дак са звонам.* Баяры Маладз.

**ҐАЛАҐУ́Н** *м.* Певень галандскай пароды. *Ґалаґун гэты толькі і грабецца ў градах.* Вялікая Вуса Уздз. *Вот гэты ґалаґун! Кожную раніцу пабудзіць.* Каменка Уздз.

**ГАЛАДО́ВІЦА** *ж.* Недаяданне з-за недахопу ежы. *У галадовіцу, здаецца, каб зьесьці кусочак хлеба, нічога не хацеў бы. Так хлеба хочацца!* Саланая Валож.

**ГАЛАЛЁДДЗЕ** *н. Зб.* Галалёд. *Галалёдзьдзе цэлую зіму было, прасядзела дома.* Ляшчынск Мядз.

**ГАЛАЛО́БЫ** *прым.* Без галаўнога ўбору. *Завяжы хустку, бо замерзьняш галалобая.* Палачаны Маладз.

**ГАЛА́С** *м.* Бязладны крык. *Балазе баба бавіцца, а то галас справіла п, хоць с хаты ўцякай.* Порычы Валож.

**ГАЛАСАВА́ЦЬ** *незак.* Спыняць машыну ўзняццем рукі. *Коля, галасуй, ідзе машына!* Палачаны Маладз.

**ГАЛАСНІ́К** *м. Муз.* Асобная струна скрыпкі. *Асобна кожную струну як называць, можа ведае толькі кіраўнік ансамбля, мы ш струны называем галасьнік.* Хожава Маладз.

**ГАЛАТА́** *ж.* Беднасць, галеча. *Галата была пасьля вайны, ні было за што рукі зацяць.* Заезерка Пух.

**ГАЛАЎКІ́** *толькі мн.* Пачаскі з вярхоў трасты лёну; *гл.* вярхі́. *Калі абдзіраюць на рэткую шчотку, то галаўкі, а калі зразаюць на часьцейшую, то зрэб'е.* Нізок Уздз.

**ГАЛАЎНІ́К** *м. Плыт.* Галоўны плытнік, рулявы. *Галаўнік заўсёды ўперадзі, ё кіруе плытом.* Белькаўшчына Стаўб.

**ГА́ЛАЧКА** *ж. Памянш.* Галушка мелу. *Часам хопіць трох галачак мелу на хату, а часам і не.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГАЛАШЧО́К** *м., толькі адз.* Замёрзлая зямля, не пакрытая снегам. *Галашчок восіньню бывае, зямля падмярзае, храпы.* Рудня Чэрв. *Нек аднаго году галашчок на дварэ, а мы атаву касілі.* Вецярэвічы Пух.

**ҐАЛҐА́НКА** *ж.* Ануча, шмаціна. *Вазьмі ґалґанку і сатры заслон, каб можна было людзям сесьці.* Рубяжэвічы Стаўб. *Ой, і нашла ш недзя ґалґанку такую рваную. Няўжо лепшай няма?* Вараксы Стаўб.; *параўн.* польск. gałgan 'лахман, шмата'.

**ҐАЛҐАЯ́НКА** ж. *Зневаж.* Гультайка, лайдачка. *Яна хітрая [illegible] і ґалґаянка.* Вялікая Вуса Уздз.; *параўн.* польск. gałganica 'тс'.

**ҐА́ЛДА** *ж.* Дылда. *Дзеці лянуюцца працаваць, а са́ма старша — ґалда такая, увесь дзень бегая па вуліцы.* Рудня Чэрв.

**ҐАЛДА́ВЫ** *прым.* З дэфектам вымаўлення. *Ґалдавае ета дзіцянё. Нічога не зразумееш, што кажа. О, які ты ґалдавы, словы не выгаварваяш.* Вецярэвічы Пух.

**ҐАЛДУНЫ́** *мн.; адз.* **ґалдýн** *м. Кулін.* Бульбяныя клёцкі, начыненыя мясным фаршам. *Слухай, каб заўтра ґалдуноў зварыла, так ужо да смаку дайшлі.* Ляшчынск Мядз.

**ГАЛЕ́НЬ** *м.* Дзяркач, стары венік без лісця. *Гален ня выкідай, гальнём пашараваць памост добра.* Бытча Барыс. *Узяла б гален і мацці памагла п, дзяўзно ты!* Завішына Лаг. *Ці ш с такім у баню хадзіць? Гэта ш гален, а ні венік.* Хацюхова Круп. *Прынясі мне, дачушка, гален другі, а то гэты нядобры, езьдзя па памосьці, і ўсе дупцы павыіжджалі.* Ухвала Круп.

**ГАЛЁКАЦЬ** *незак. Экспр.* Гучна крычаць, пераклікацца. *Як сталі галёкаць, аш усё разьлягалася.* Дукора Пух. *Што вы галёкаеця?* Завішына Лаг. *Такі ўжо бесталковы чалавек, вечна галёкая.* Горкі Стаўб.

**ГАЛЁНА** *ж.* Галёнка, лытка. *Пашла грэпці сена бес панчох, дык пакалола ўсе галёны.* Язні Віл.

**ГА́ЛІВА** *ж.* Паляна, адкрытае месца. *Выйшлі на галіва і тады пазналі, дзе мы.* Чабаі Валож.

**ГА́ЛІЦА** *ж. Заал.* Галка (Corvus monedula). *Галіца — чорная, глюга белаватая. У нас яны ўюць гнёзды на вязох, на высокіх такіх дрэвах. Могуць звіць гняздо і ў коміне.* Пруды Стаўб.

**ГА́ЛКА** *ж.* Банька (у падсядзёлку). *Галка — гэта такая дырка, у сядзёлцы іх дзве, праз іх працягваецца сыры́чка.* Рудня Чэрв.

**ГАЛО́ВАЧКА** *ж.* Каробачка з семем. *Ужо галовачкі дасьпяваюць, лён браць пара.* Рудня Лаг.

**ГАЛО́СКІ** *прым.* Звонкі, моцны. *У яго быў галоскі голас, як зацягне песьню, за вярсту чуваць.* Бытча Барыс.

**ГАЛО́СЮЧЫ** *дзеепрысл.* Галосячы. *Баба прыляцела, схваціла маіх быкоў, пагнала ў Саланое, а я, плачучы, галосючы, дамоў.* Замошша Віл.

**ГАЛО́ЎКА**[1] *ж.* 1. *Памянш. да* галава́ (у 2 знач.). *Бывае на адным сланечніку і многа галовак, а калі адна, то яна вялікая вырастае.* Ляшчынск Мядз. 2. Шапачка (грыба). *У нас завуць хто галоўка, хто шапка, як калі выйдзецца сказаць.* Рудня Лаг. *А ёсь сыраешкі, каторыя растуць па лісьцьвіных лісах, на кароцінькай ношкі, і галоўка яе такая сераватая.* Слабада Бярэз. 3. Каробачка з ільняным семем. *Галоўкі на нажы абразалі.* Ратуцічы Барыс. ◊ **Галоўку сушыць** — думкамі займаючы галаву, падрываць сабе здароўе. *А, божачкі, так унікла ты ад гэтай навукі! Пайшла б крыху пагуляла, а то ўсё галоўку сушыш.* Баяры Маладз.

**ГАЛО́ЎКА**[2] *ж.* 1. Дэталь гадзінніка, якога-н. інструмента. *У яго загарку большая галоўка, чым у маім.* Вішнева Валож. *Галоўкай заводзяць часы.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Я не змагу направіць вам галоўку, схадзіця к Мікіту, ён майстар па скрыпках.* Кукалеўка Чэрв. 2. *Памянш. да* галава́ (у 5 знач.). *Галоўкі розныя бываюць, яны як да вульля.* Пруды Стаўб. 3. Патоўшчаная канцавая частка чаго-н. *Галоўка — патаўшчэнне на канцы прэнта бязьмена.* Пруды Стаўб. ◊ **Пагладзіць па галоўцы** — пахваліць каго, патураць каму. *Галубка мая, ты думаеш, што цябе пагладзяць па галоўцы, што будзеш малоць, як пусты млын, а цябе нявестка будзе слухаць вушы развесіўшы?* Савоні Стаўб.

**ГАЛО́ЎКІ** *толькі мн.* 1. Месца, дзе звязаны клешчы хамута разам. *Галоўкі ў хамуце разышліся, скрапіць трэба. Галоўкі шнурком сьцягваюцца.* Забалоцце Смал. 2. Пярэдняя частка чаго-н. *Да галовак і да затка палазоў благожы прыбіваюцца.* Вязынка Маладз. *Нядобра выгнуты етыя галоўкі, гнуць трэба болей палазы.* Вецярэвічы Пух.

**ГАЛУБАВА́ТЫ** *прым.* Блакітнаваты. *Уразіла мяне возера, вада ў ім галубаватая, чыстая.* Ляшчынск Мядз. *Патсіні крышку, каб было чуць галубаватае.* Ляхавічы Дзярж. *Бывая галубаваты мацяр'ял, дык на кофты добра браць.* Рудня Лаг.

**ГАЛУБЕ́НЬКІ** *прым. Памянш.-ласк. да* галубы́. *Галубенькае плацця ў мяне было, дацэ яго аддала.* Рудня Лаг. *Галубенькі — гэта чуць-чуць сіненькі.* Малмыгі Віл.

**ГАЛУБЕ́ЦЬ** *незак.* Рабіцца ясным. *О-о, неба галубея, выясьніваецца, можа пагода ўстановіцца, надаеў гэты дошч.* Савоні Стаўб.

**ГАЛУ́БНІК** *м.* Галубятня. *Яшчэ галубнік не забівалі.* Завішына Лаг.

**ГАЛУБО́К** *м. Бат.* Радоўка шэрая (Tricholoma portentosum). *Галупкі зьверху сівыя, падобныя па форме да апеняк, пад нізам цямнейшыя. Салодзінькія грыпкі.* Малмыгі Віл.

**ГАЛУБЫ́** *прым.* Блакітны. *Згубіла і сама не знаю дзе свой галубы касынак.* Дукора Пух. *Няма хмар на небі, дык яно тады такое галубое.* Забалоцце Смал.

**ГАЛУ́ЗА**[1] *ж.* Галавешка. *Аптушы галузу, а то дым верне, што с трубы.* Дразды Стаўб.

**ГАЛУ́ЗА**[2] *ж.* Голая косць. *Галузы мы выкідаям сабаку, у нас ёсь каму галузы падбіраць.* Забалоцце Смал.

**ГАЛУ́ЗА**[3] *ж.* Галіна. *Нарэзаў галузаў на венік. Ёсць галузы маленькія і вялізарныя.* Малмыгі Віл.

**ГАЛУ́ЗА**[4] *ж. Асудж., перан.* Бесталковая кабета. *Яна такая галуза, абы-што гавора.* Завішына Лаг.

**ГАЛУ́ШАЧКА** *ж. Кулін.* Кусочак цеста для закваскі. *Галушачку цеста трэба пакінуць у дзяжы, кап кіслата дзяржалася.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГАЛУ́ШКА** *ж.* 1. Таблетка. *Малы як наеўся галушак дзедавых ат прастуды, ляжалі на*

*стале, бык ажно дакторку вызывалі.* Лыцавічы Віл. **2.** Тое, што і га́лачка. *Былі мелу прывезьлі платы бяліць. Набрала я гэтых галушак і пабяліла свой плот ад дарогі.* Малмыгі Віл.

**ГАЛУ́ШКІ** *мн. Кулін.* Клёцкі з бульбы. *Галушкі вараць у нас на вячэру, калі да стала зьбіраецца ўся сям'я.* Вецярэвічы Пух.

**ГА́ЛЫ** *толькі мн.* Ногі; доўгія ногі. *Як адзеня каторая з дзявок уланку, дык усе галы відаць.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ГАЛЬБО́ТА** *ж.* Бедната, галота. *У наш час малады такая гальбота была, адны дзеравяшкі на ўсіх выйсьці на вуліцу.* Узгурск Чэрв.

**ГА́ЛЬКА** *ж.* **1.** Доўгая жаночая кашуля без рукавоў або споднняя спадніца. *Анюта, прышый ты гэтыя карункі да галькі, усё ш пякней будзіць.* Канстанцінава Мядз. *Такія ўжо жанкі багатыя сталі, што й на работу галькі носяць. А раней толькі на самыя вялікія сьвяты галькі адзявалі.* Літва Стаўб. *Галькай у нас называюць прыгожую сьвяточную спадніцу, апшытую кружавамі.* Замошша Віл. **2.** Трыкатажная жаночая кашуля. *Мой на Васмое марта гальку ў падарак купіў, але ш самы вялікі разьмер, які быў, мусіць, браў.* Горкі Стаўб.; *параўн.* польск. halka 'тс'.

**ГАЛЬМА́НКА** *ж.* Назва мясцовага гатунку бульбы. *Я кожны гот саджу панімношку гальманкі, хачу, каб ні зьвялася.* Ляшчынск Мядз.

**ГАЛЬНІ́К** *м.* Тое, што і гале́нь. *Гальнік рассыпаўся, выкідай.* Ляшчынск Мядз.

**ГАЛЬЦАНУ́ЦЬ** *зак.* Скочыць. *Карова як гальцанула праз загаратку, чуць брамку ні зламала.* Літва Стаўб.

**ГАЛЭ́НДЗІНА** *ж.* Сук, сухая галіна. *Летам галэндзіну якую адсек, вот табе й дровы. А зімой найгорай з дравамі.* Завішына Лаг.; *параўн.* польск. gałęź 'тс'.

**ГАЛЮ́Н** *м.* Трохлітровы слоік. *Цэлы галюн малака надаіла сяганьня.* Глебаўшчына Лаг.

**ГАЛЯНІ́ШЧЫ** *мн.* Халявы (у ботах). *Даўней былі такія боты, што галянішчы адчэпліваліся.* Паплавы Бярэз. *Старыя галянішчы, але як вычысьціш, дык добра блішчаць.* Забалоцце Смал.

**ГАЛЯ́Р** *м.* ◊ **Нарабіць галяру** — нарабіць крыку, раскрычацца. *Нясу яшчык бутылкі паставіць. Яна ш як выскачыла, як нарабіла галяру, — я ні рады быў, што ўзяў той яшчык.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ҐАЛЯРЭ́ТА** *ж. Кулін.* Халадзец, квашаніна. *Ґалярэту тожа трэба ўмець варыць, глядзець, каб агонь харошы быў, каб упрэла добра.* Чабаі Валож. *Ґалярэта смачней за ўсё с картофляй.* Ціханава Слабада Стаўб. *Пайду ґалярэту разьліваць, а то да вячэры не застыне.* Літва Стаўб.; *параўн.* польск. galareta 'тс'.

**ҐАЛЯШО́ВАЧКІ** *мн.* Туфлі парусінавыя або брызентавыя. *У міне ўсё ест, нада толькі ґаляшовачкі купіць.* Савоні Стаўб.

**ГАЛЯШО́ВІКІ** *мн.* Гумовыя туфлі. *Галяшовікі гэтыя кажан дзень насілі, асобянна як дош ідзе, або вясной ці ўвосянь. Па сьвятах ні насілі.* Чабаі Валож.

**ГАМАНЕ́Ц** *м.* Кашалёк. *Згубіў я сёньня ў лесі свой гаманец з грашыма. Не так шкода, як невыгода.* Мацькаўцы Віл.; *параўн.* укр. гаманець 'тс'.

**ГАМАНКІ́** *прым.* Ажыўлены, шумны. *А ў нядзелю ўжо пачынаецца гаманкое вясельле.* Калодчына Віл.

**ГАМАНУ́ХА** *ж.* Гаваруха. *Падыдзеця да той цёткі, вот яна гамануха.* Турын Пух.

**ГА́МАР** і **ГАМА́Р** *м. Цясл.* Верхняя ручка падоўжнай пілы. *Як га́мар ёсьць, дык ляхчэй пілаваць, ні трэба згінацца.* Рудня Лаг. *Як доскі рэжуць, так уверху на бярвеньнях стаіць чалавек і пілу дзяржыць за гама́р.* Вязынка Маладз.; *параўн.* польск. hamer < ням. Hammer 'молат'.

**ГАМА́РНІК** *м.* Пільшчык, які распілоўвае бярвенне на дошкі. *На распілоўку досак наняў гамарніка.* Малмыгі Віл. *Неразлучны, як гамарнік з гамаркай.* Бясяды Лаг.

**ГАМА́ШЫ** *мн.* Скураны абутак з кароткімі халяўкамі і гумовымі ўстаўкамі збоку або на шнурках. *Надоечы заходзіла ў Валожыні ў магазін, хацела ўнуку гамашы купіць, дык усе вялікія, на яго нагу няма.* Чабаі Валож.; *параўн.* польск. kamasz 'чаравік' < ням. Gamasche 'тс'.

**ГАМБАВА́ЦЬ** *незак.* Даваць ганьбу. *Чаму не ясі, мо гамбуеш?* Суднікі Стаўб.

**ГАМЗА́ЛЬ** *ж.* Смуглянка. *Вой, я ш як гамзаль чорная, мне й загараць ня трэба.* Вялікая Вуса Узд.

**ГАМЗА́ТЫ** *прым.* Гугнявы. *Расьце во гамзатае дзіця, нічога, нічога ні разьбярэш, што гаворыць.* Вецярэвічы Пух.

**ГАМО́Н** *у знач. вык.* Канец, смерць. *Яму ўжо гамон будзе, ня выскрыпаецца.* Літва Стаўб.

**ГАМО́НКА** *ж.* Гутарка, размова. *Ну й зайшла тут гамонка такая, хто як, хто пра што, але ўсе выказаліся.* Турэц Чэрв.

**ГАМУ́З** *м.* Крык. *Такі гамус паднялі, што аж на вуліцы чутно. Паднялі такі гамус, што хоць з хаты ўцякай.* Варацішча Стаўб.

**ГАМУ́ЗАМ** *прысл.* Гуртам. *Давайця, мушчыны, навалімся ўсім гамузам і зрушым гэты вос зь месца.* Рудня Чэрв. *Мы яе соткі гамузам апалолі.* Дукора Пух.

**ГАМУ́ЛЕЦ** *м. Тэх.* **1.** Прыстасаванне, з дапамогай якога тармозяць воз. *Глядзі, гамулец ці ў парадку, бо дарога нароўная.* Кальчуны Ашм. **2.** Тормаз. *Ехаў і гамульцы атказалі, а на двары ноч. Што рабіць?* Літва Стаўб.; *параўн.* польск. hamulec 'тс'.

**ГАМЎЛКА** *ж.* Кавалак, кусок. *Адрэзала гамулку сала ды есьць с хлебам.* Палачаны Маладз.; *параўн.* польск. gomółka 'тс'.

**ГАМЭ́РНЯ**[1] *ж.* Сварка. *Пачалася гэтая гамэрня паміж імі зусім нечакана, такімі добрымі суседзямі былі.* Капачоўка Барыс.

**ГАМЭ́РНЯ**[2] *ж.* Вялізны будынак. *Але ш нашы суседзі хату ставяць як гамэрню якую, комнат усялякіх наробяць і для сябе і для дзяцей.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. hamernia 'металургічны завод'.

**ГАНАВІ́ЦЫ** *толькі мн.* Верхнія мужчынскія штаны. *У старога парваліся ганавіцы.* Саланое Віл. *Хай ба ш аказаўся, што падраў, я ж ба палатала, дык не, паціху панёс [ганавіцы] да дачкі.* Баяры Маладз.

**ҐА́НАК** *м.* Веранда. *Ґанак у нас прыбудоўваюць да хаты, ён з маленькімі вокнамі, дзьверы ёсць.* Мядзел Мядз.

**ГАНАПЛЕ́ЧКА** *ж.* Мужчынская кашуля са складкамі каля каўняра. *Пашый ты яму кужэльную ганаплечку, душна і няздарава ў гэтых куплёных на лузі.* Малмыгі Віл.

**ГАНАРКІ́** *прым.* Ганарлівы. *Такі ганаркі стаў, выстаўляецца што 'та я.* Турэц Чэрв.

**ҐАНДА́, ҐАНТА́** *ж.* і **ҐОНТ** *м.* Дахавы матэрыял. *А я ш думаў, што ў цябе хата ґандою пакрыта.* Заямнае Стаўб. *У ґанце шпары выганяюць, канты закладваюць ў шпары і так крыюць. Ґанту ў пільні пілуць.* Забалоцце Смал. *Цяпер на ґанту перайшлі людзі, а саўхозны будынак дык і шыферам крыюць.* Паплавы Бярэз. *На ґонт шчапляецца елка, а потым габлюецца.* Пруды Стаўб.

**ГАНДАРА́К** *гл.* андара́к

**ГАНДЗЮ́РЫЦЬ** *незак. Экспр.* Размаўляць, гаманіць. *Дошч ідзе, рабіць няма чаго, сусеткі пазьбіраюцца ў хаці і гандзюраць.* Літва Стаўб. *Каб ні пазвала, яна б гандзюрыла з сусеткай часы два.* Касцюкі Барыс.

**ГАНДЛЯ́** *гл.* гайня́

**ГА́НДЫ** *мн.* Басаножкі. *Мама, купі мне ганды на лета, дзеўкам пакуплялі ўжо.* Рубяжэвічы Стаўб. *Ганды цяпер прыгажэйшыя, чым раней былі.* Тонава Стаўб.

**ГАНЕ́БНА** *прысл.* Дужа, страшэнна. *Ганебна вучоная, кажуць, ксёншкі чытае, як рэпу сячэ.* Забрэжжа Валож.

**ГАНІ́ЦЬ** *незак.* Гнаць. *Ганіця кароў на пасту, сонца ўжо высока.* Ігрушка Круп.

**ГАНКІ́** *толькі мн.* Мера даўжыні каля ста метраў. *Я дак у гэтам гаду замест картошкі засеяла двое ганок жытам.* Нізок Уздз. *Жыта пасеялі ганкі, дык такоя ш удалося вялікая, густоя.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГАННЯ́** *гл.* гайня́

**ГАНО́К** *м.* Вузкі плыт, які ганяюць на малой рацэ. *Розьніца паміж плытом і ганком у тым, што плыт шырокі, а ганок вускі, плыт па вялікай рацэ гонюць, а ганок — па малой.* Малмыгі Віл.

**ҐАНТА́** *гл.* ґанда́

**ГАНЎЧНІК** *м.* Той, хто скупляе анучы ў абмен на хадавыя тавары. *Ганучнік прыплянтаўся да нашай вёскі на сваёй гнядой, ой, і тавараў жа навёс!* Раўчак Пух.

**ҐАНЦІ́НА** *ж.* Дошчачка, востра саструганая з аднаго боку і з пазам — з другога. *Лата ад латы прыбіваецца на 20 см, ганціна — 60 см даўжыні, і адна ґанціна ў даўжыню прыходзіцца на тры латы. Ґанту прыбіваюць да лат цьвікамі.* Паплавы Бярэз.

**ГАНЧА́К** *м. Ганч.* Ніжняя частка ганчарнага круга. *У мяне дык ганчак нешта перастаў круціцца.* Івянец Валож.

**ГАНЧА́РКА** *ж.* Ганчарня. *Было прыватная ганчарства, майстэрня звалася ганчаркай.* Івянец Валож.

**ГАНЧА́РНЫ КРУГ** *ганч.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога робяць пасуду з гліны. *Ганчарны круг ганчары круцілі нагамі, а зарас гэта робіць матор.* Івянец Валож.

**ГАНЧАРО́ВЫ** *прым.* Ганчарны. *У нас дык рабілі даўней гліякі кустарнай ганчаровай работы.* Нізок Уздз.

**ГАНЫ́** *толькі мн.* Тое, што і г а н к і́. *Як конь цягавіты, то ганы доўгія і шырокія робіш.* Ляшчынск Мядз.

**ГАНЬБІ́ТНЫ** *прым.* Дэфектны. *Ганьбітную нейкую прасьціradлу купіла, але як засьцеліш, можа й што будзя.* Літва Стаўб. *Ні палохай, а то ўпадзе, нагу зламае, і замуш ніхто ня возьмя, бо ганьбітная будзя.* Скамарошкі Стаўб.

**ГАНЬБО́ВЫ** *прым.* Няякасны, з дэфектам. *Я таго плацьця ня купіла, бо яно ганьбовае і на яго зьніжана цана.* Дукора Пух.

**ГАНЯ́ЛАЧКА** *ж.* Ручная прылада праводзіць радкі на градзе. *Раткі праводзяцца граблямі і ганялачкаю. Ганялачкаю роўненькія раткі робяць.* Дукора Пух.

**ГАНЯ́ЛКА** *ж. С.-г.* Акучнік. *Трэба ганялку папрасіць і абагнаць бульбу, а то перарасьце.* Рудня Лаг. *Учора мой стары ганяў бульбу і пакінуў ганялку на полі. Хаця п хто ні пазычыў.* Зазерка Пух.

**ГАНЯ́НКА** *ж.* **1.** Тое, што і г а н я́ л к а. *Запрагуць каня ў ганянку ды і ганяюць бульбу.* Турэц Чэрв. **2.** Аднаконны плужок. *Спачатку ўзёў ганянку, запрох каня і давай выворваць.* Турэц Чэрв.

**ГАНЯ́ТЫ** *у знач. наз.* Чалавек, які акучвае бульбу. *Дзе ты ганятага ўзяла? Трэба бульбу ганяць, і ганятага ні найсьці.* Баранцы Віл.

**ГАНЯ́ЦЬ**[1] *незак.* **1.** Акучваць, абганяць (прапашныя культуры). *А тады ўжо сталі садзіць у рады [бульбу], дык а во як добра, у рады пасадзілі, ня трэба было асыпаць — ганялі яе.* Ластаянцы Валож. *Трэба картоплю га-*

*няць, а то перарасьце.* Дукора Пух. *Пара бульбу ганяць, перарасьце, то ні ўлезеш у яе.* Завішына Лаг. **2.** Вадзіць на начлег. *Як даўней, то вадзілі на начлех, сеў на свайго і паеў. А цяпер коні с трох брыгат, то цяпер ганяюць.* Калодчына Віл. ◊ **Ганяць у поле** – пасвіць, быць пастухом. *Некалькі гот ганяў кароў у поле, быў пастухом.* Гілікі Валож. **Хоць ваўкоў ганяй** – пра вялікае пустое або халоднае памяшканне. *Холадна ў хаце, хоць ваўкоў ганяй.* Ляшчынск Мядз.

**ГАНЯЦЬ²** *незак.* Хутка вадзіць бульбінай па тарцы, раздрабняючы яе. *Салдат, панімаяця, сеў і давай ганяць. А картошка мокрая. Як даганяў жа, што німа чаго ганяць, як шарахнуў па пальцах, – кроў!* Мікольцы Мядз.

**ГАНЯЧОК** *м.* Тое, што і г а н я л к а. *Пазыч, Агата, ганячка, трэба бульбу паганяць.* Вішнева Валож.

**ГАПЕШЫЦЬ** *незак.* Лупцаваць. *Ну, браты й пайшлі с каламі. Прыбягаюць на гумно, глядзяць, а там пат плітой вуш, яны давай яго гапешыць каламі.* Рудня Лаг.

**ГАПКА** *ж.* Тое, што і а п е л ь к а. *У фуфайца робяць гапкі і для аплікоў тожа, а для ґузікаў дзіркі праразаюць і зарубліваюць.* Пруды Стаўб.

**ГАПТ** *м.* Гафт, від ажурнай вышыўкі. *Гапты ў нас прышываюць да спадувкі [ніжняй спадніцы], да каўнерыка.* Пруды Стаўб.; *параўн.* польск. haft 'узор, вышыты на тканіне'.

**ГАПТАВАЦЬ** *незак.* Гафтаваць. *У нас адна Марыля гаптаваць умея, да яе і мая нявестка гаптаваць носіць.* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. haftować 'вышываць спецыяльным відам вышыўкі'.

**ГАПТКА** *ж.* Пятля з нітак. *Гаптка – гэта пятля, у спаньніцы, ушываюць кручок і робяць гаптку.* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. haftka 'тс'.

**ГАПЦІК** *м. Памянш.* да гапт. *Прывезьлі вузінькага гапціку ў магазін, я аш дзесяць метраў купіла.* Пруды Стаўб.

**ГАРАДЗІЧКА** *ж.* Гатунак бульбы. *Мы любім гарадзічку, бо яна вельмі плодная.* Палачаны Маладз.

**ГАРАНЦІРАВАЦЦА** *незак.* Арыентавацца. *Я п адна пашла ў лес, але гаранціруюся кепска ў лесі, магу заблудзіць.* Арцюхі Стаўб.

**ГАРАСЦЬ** *ж.* Гар, едкі пах. *Нейкаю гарасьцю пахня.* Дукора Пух.

**ГАРАТНЫ** *прым.* Гаротны. *Вот ён чалавек такі гаратны: усё няшчасьце ды няшчасьце.* Вішнева Валож.

**ГАРАХАВІННЕ** *н.* Гарохавая салома. *Гарахавіньня тоя, што астаецца, калі гарох абмалоцяць.* Рудня Чэрв.

**ГАРАХАВІШЧА** *н.* Поле, на якім рос або з якога ўбралі гарох. *На гарахавішчы цэлую сьцешку пралажылі да бані.* Забалоцце Смал.

**ГАРАХВЯНІШЧА** *н.* **1.** Тое, што і г а р а х а в і ш ч а. *Паглядзі, цэлую жменю назьбірала гароху на гарахвянішчы.* Дукора Пух. **2.** Трава, што вырасла на такім полі. *Гарахвянішча ўжо можна складваць: патсохла.* Ляхавічы Дзярж.

**ГАРАХОЎНІК** *м.* Каліўе гароху. *Такі ўрадзіў гарох, што гарахоўнік палёх, касіць няма як.* Дукора Пух.

**ҐАРАЦ** *м.* Гарнец. *Ґарцы былі драўляныя ці бляшаныя, абавяскова з ручкай. Ґарцам адмяралі гарэлку, ґазу, а таксама жыта, ячмень, пшаніцу, авёс, муку.* Забалоцце Смал. *Ёсць ґарац дзеравянны, а ёсць сплецяны, як лупка, але і той і другі чотка дзьве кілі.* Саланая Валож. *На адну гонь трэба тры ґарцы семя, а ў ґарцы пяць хунтаў. На троя ганей – дзевяць ґарцаў.* Вялікая Боркаўшчына Маладз. *І нашто ты поўны ґарац мукі набрала?* Зарэчча Смал.

**ГАРАЧКА** *ж.* Хвароба, пры якой у хворага бывае высокая тэмпература; ліхаманка. *У яго гарачка: то ў холат кідаець, то жара падымаецца.* Малмыгі Віл.

**ГАРАШЫНА** і **ГАРАШЫНА** *ж.* Каліва гароху. *На гарашыне бывае пяць, а то й дзесяць стручкоў завяжацца.* Дукора Пух. *Кажуць, як пагода, тады гарашыны вялікія.* Рудня Лаг. *Гарашыну нашоў у кармані.* Бясяды Лаг.

**ГАРАШЫНКА** *ж.* Гарошынка. *Баба сваю гарашынку змалола, пірагоў сьпікла і зьела. А дзет сваю бабінку пасадзіў* [з казкі]. Малое Стахава Барыс.

**ГАРБАВАНАЯ** *прым.* Гафрыраваная (пра паперу). *Цяпер ні ў модзі кветкі з гарбаванай паперы.* Краснае Маладз.

**ГАРБАЛЫСЫ** *прым.* Звычайна такі (пра колер жывёлы), калі па спіне ідзе белая паласа. *Наша карова гарбалысая, па сьпіне белая палоса.* Ляшчынск Мядз.

**ГАРБАТА** *ж. Уст.* Чай. *Апошняя страва заўсёды была малочная, бо чаю, як тады казалі–гарбаты, мужыкі не пілі.* Жартайка Барыс. *Можа вам, госьцейкі, гарбаткі згатаваць?* Літва Стаўб.; *параўн.* польск. herbata 'тс'.

**ГАРБУЗ** *м. Перан.* Вялікі жывот. *А няўжо ж! Калі б ні праўда, дык гарбус такі не адгадаваў бы, а то йдзе і ног ні бача.* Слабада Лаг.

**ГАРБУЗЭ** *мн.* Гарбузікі. *Дзе йдзе, усё гарбузэ лузая.* Цялякава Уздз.

**ГАРБУЗЯНКА** *ж. Кулін.* Гарбузовая каша з прасянымі крупамі. *Гарбузянка – смачная ежа. Калі пападзецца салоткі гарбус, да яшчэ дабавіш сахару, тады пальчыкі абліжаш.* Бяларучы Лаг.

**ГАРБУЗЯНЯ** *н.* Гарбузік. *Гарбузяняты выбіраюць, сушаць, хаваюць да вясны, а пасьля садзяць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГАРБЫЛЬ¹** *м. Заал.* Акунь (Perca fluviati-

lis). *Такі гарбыль мне першы рас папаўся.* Канстанцінава Мядз.

**ГАРБЫ́ЛЬ**[2] *м.* Аполак. *Строймацяр'ял з гарбылеў нікачасьцьвянны, бальшынство ідзе на дровы.* Пруды Стаўб.

**ГАРГА́РА** *ж.* Тое, што і гамэ́рня[2]. *Цяпер не хаты — дамы будуюць. Онь і Стась наш такую гаргару паставіў.* Астравок Уздз.

**ҐА́РҐАЦЬ** *незак.* Каркаць. *Вароны ґарґаюць, бо яны ш не засьпяваюць так, як салавей.* Канстанцінава Мядз.

**ГАРДА́ВЫ** *прым.* Картавы. *Мужык быў гардавы. Іншы рас трудна разабраць, што ён шэргая.* Цялякава Уздз.

**ҐАРДЗІ́С** *м.* Карніз. *Бяжы хутчэй, вунь у краму ґардзісы прывязьлі вельмі ш харошыя.* Рудня Чэрв.

**ГАРДА́, ГАРДО́ВАЧКА** *ж. Фальк.* Чароўнае зелле, чорная каліна (Viburnum Lontana). *У гародзе гардовачка, цяшка хлопцам пятровачка. Пашлі дзевачкі гарду рваць, каб было лягчэй хлопчыкам Пятра ждаць. Дзеўкі гарды не нарвалі, хлопцы Пятра не даждалі* [з песні]. Рабунь Віл.; *параўн.* польск. hordowina 'тс'.

**ГАРДО́ЎКА** *ж. Бат.* Мальва (Malva). *Гардоўка у нас у гародзе расьцець, белянькія ліcты такія на высокім цьвяту. Як аоцьвіцець гардоўка, насеньня як пугавічкі.* Малмыгі Віл.

**ГАРДЫ́** *прым.* Горды. *Ну й гарды ж ён у вас, ніколі „дзень добры" не дасьць, не паздароўкаецца першы.* Гілікі Валож.

**ГАРДЗЕ́ЛЬ** *м. Плыт.* Звязачны матэрыял, якім змацоўваюць калоды ў плыце. *Плыт вяжуць гардзялямі — круцяць дубцы, а з дубцоў гардзяле.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГАРДЗІ́НЫ** *толькі мн.* Сатканая ў выглядзе сеткі з узорамі тканіна, з якой шыюць занавескі на вокны. *Натта я люблю гердзіны, у мяне аж трое іх.* Паплавы Бярэз. *Цюль больш далікатны, чым гардзіны.* Хожава Маладз. *Цяпер у магазіня ўсякіх гардзінаў многа.* Іргушка Круп.

**ГАРКА́ЎКА** *ж. Заал.* Гарчак (Rhodeus sericeus). *Рыбалка сёньня ні ўдалася: адны гаркаўкі трапляюцца. Налаўлю толькі кату.* Ляшчынск Мядз. *Цэлую ноч на Ськеме прасядзеў, а злавіў толькі сінцу і гаркаўкі, хазяйка сьвіньням аддала.* Мікольцы Мядз.

**ГАРКА́ЦЬ** *незак.* Гаварыць картава. *Унучак так забаўна гаркае — пацеха зь яго.* Гілікі Валож.

**ГАРКА́ЮЧЫ** *дзеепрысл.* Картавячы. *Куды ён варты, ён жа гаворыць гаркаючы.* Гілікі Валож.

**ГАРКІ́** *прым.* Горкі. *Ня еш ты гэныя яблыкі, яны ж яшчэ зялёныя, гаркія.* Хожава Маладз.

**ГАРКУ́ШКА** *ж.* Тое, што і гарка́ўка. *Гаркушка маленькая такая, водзіцца пат камнямі. Яе ў нас мала ловяць, бо на смак яна горкая. Акраскі серабрыстай: на сьпіне цёмная, на баках — серабрыста-сіняватая.* Саланое Віл. *Гаркушка — нясмачная рыпка, мяса горкая. Гаркушку ня ловяць, а калі пападаіцца ў сетку, то толькі свіньням аддаюць.* Мікольцы Мядз.

**ГАРЛАВІ́НА** *ж.* Дыхальнае горла. *У кабана, гавораць, гарлавіна, у чалавека — горла.* Хожава Маладз.

**ГАРЛАПА́НІЦЬ** *незак.* Моцна гаварыць, іграць, пець (пра радыё, магнітафон). *Як ён надаеў мне са сваім радзівам: уключыць і гарлапаніць на ўсю хату.* Літва Стаўб.

**ГАРЛА́ТЫ** *прым.* Гарласты, галасісты. *Гарлаты ўдаўся: дзярэ горла і спакою яму няма.* Нізок Уздз. *Чаго горла дзярэш, гарлаты?* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГАРЛА́ЦЬ** *незак.* Крычаць, гарланіць. *Гарласты дзяцька, усё гарлае й гарлае, ляпае языком, ні мінуты спакою.* Рудня Чэрв.

**ГАРЛА́Ч** *м. Ганч.* Гліняны збан без ручкі, гладыш. *Ціпер дык тых гарлачоў днём з агнём ні найдзіш, а, бывала, прадавалі.* Бытча Барыс.

**ГАРЛЯ́К** *м.* Горла. *А як у роце далёка там баліць, то кажуць: аш у самым гарляку баліць.* Вязынка Маладз.

**ГАРЛЯ́НКА**[1] *ж.* Плецены выраб з вузкім горлам на збожжа. *Пастаў гарлянку ў стопку. Гарлянкі плялі з дупцоў і саломы, спрытныя былі гарлянкі.* Бальцары Маладз.

**ГАРЛЯ́НКА**[2] *ж. Мед.* Ангіна. *Унук часта хварэя гарлянкай, дык я гавару, кап сёрбаў цёплы крупнік з малаком.* Ляхавічы Дзярж.

**ГАРЛЯ́ЧЫШЧА** *н. Груб.* Дыхальнае горла, гарляк. *Кура жырная, здаровая, волё велькаё, жырнаё, гарлячышчо ня выцягнуць.* Савоні Стаўб.

**ГАРМІ́ДАР** *м.* Зборышча, натоўп людзей. *Нешта каля хаты Кандрацюкоў гармідар сабраўся.* Капачоўка Барыс.

**ГАРМО́ЛЬ** *ж.* Гармонік. *Прывезьлі хлопцу гармоль, дык іграе цэлы дзень і нічога знаць ні хоча.* Нядаль Барыс.

**ГАРМО́НІКА** *ж.* Тое, што і гармо́ль. *Бывала, гарманіст як рэзьне на гармоніцы, ды аж самі ногі скачуць.* Бытча Барыс.

**ГАРМО́ШКА** *ж.* Тое, што і гармо́ль. *Сяць, на гармошцы парыпай. Да моцна ні трэба, ціхенька грай.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Я купіла свайму ўнуку дзецкую гармошку.* Іргушка Круп.

**ГАРМУ́ШКА** *ж.* Цура. *То можа на вячэру гармушкі зрабіць?* Баяры Маладз. *Лесік любіць гармушку, яму абы салоткая была.* Палачаны Маладз.

**ГА́РНА** *прысл.* Добра. *Гарна йграе на гармоніку, і самі ногі ходзяць.* Узгурск Чэрв.

**ГАРНА́К** *м.* Чыгун. *Насыпім гарнак бульбы, паставім у печ, зварыцца – сьвіньням яды на дзень хваціць.* Баяры Маладз.

**ГАРНАСТА́ІХА** *ж. Заал.* Самка гарнастая (Mustela erminea). *Гарнастаіха такая ж, як і гарнастай. Хто ўжо з ахотнікаў разлічае самку і самца, то кажуць-гарнастаіха.* Саланая Валож.

**ГАРНАСТА́ЙКА** *ж.* Тое, што і гарнаста́іха. *Гарнастайка ўся беленькая, а хвасток чорны.* Малмыгі Віл. *Гарнастайкі – пушыстыя зяркі, бегаюць па дзераве. Цяпер нешта гарнастаек ні бачна.* Паплавы Бярэз.

**ГАРНАСТА́ЙЧЫКАВЫ** *прым.* Гарнастаеў. *Калісь у Мінску я сам здаваў гарнастайчыкавыя кожачкі, па тры рублі плацілі.* Бясяды Лаг.

**ҐАРНІ́ДАР** *м.* Набор пасуды. *У мяне ёсць увесь ґарнідар: глыбокія талеркі, мелкія талеркі, сподачкі.* Саланая Валож.; *параўн.* польск. garnitur 'касцюм', < ням. Garnitur 'гарнітур, набор, камплект'.

**ҐАРНІ́З** *м.* **1.** Карніз, папярочка над акном, дзвярамі, на якую вешаюць шторы, гардзіны. *Недзе ш ты ґарнізы прыгожыя купіла. Мне таксама трэба мяняць ґарнізы, мае старыя, аблезлыя.* Зарэчча Стаўб. *Ґарнізы мне зяць у Мінску купляў.* Рубяжэвічы Стаўб. *У нас вокны без ґарнізаў.* Ляшчынск Мядз. **2.** Бардзюр. *У хаці сьветлінька стала, як паклеілі розавенькімі шпалерамі. Адно на ґарнізы не дасталі.* Пруды Стаўб. *Уверсі на абоях у нас ґарніз клеяць.* Дукора Пух.

**ГАРНІЗА́ЦЫЯ** *ж.* Установа. *Іхняя гарнізацыя давала зямлю на дачы, дык цяпер вунь якія дамы стаяць і колькі цьвятоў.* Баяры Маладз.

**ГАРНО́** *н. Ганч.* Унутраная частка ганчарнай печы. *Усё гарно загружана, німа больш куды ставіць пасуды. Трэба закрываць печ.* Івянец Валож.

**ГАРНУ́ШАК** *м.* Маленькі гаршчок. *Пацёк мой гарнушак, ня будзя ў чым кашы зварыць.* Зуі Стаўб. *Гарнушкі былі лепш, чым гэтыя чыгункі, нават і пабляныя.* Падзерычы Стаўб.

**ГАРНУ́ШАЧАК** *м. Памянш.-ласк.* да гарну́шак. *Малако ў Падласкі жырная, за два дні цэлы гарнушачак сьмятаны.* Слабада Стаўб.

**ГАРНУ́ШАЧКА** *ж.* Тое, што і гарну́шачак. *У маленькай гарнушаццы даўней есці толькі дзецям варылі.* Іргушка Круп.

**ГАРО́ВАНЫ** *прым.* Гадаваны ў горы. *Парасяткі не апяканыя, яны гарованыя ў мяне: сьвіння захварэла, цыцкі не дала, што я ўмучылася зь імі.* Трылес Стаўб.

**ГАРО́Д** *м.* Агарод. *У гародзе садзя тая баба гуркі.* Іргушка Круп. *Каб вы ведалі, колькі цяпер работы на гародзі: і грады рабіць, цыбулечку садзіць, і пад гуркі гатовіць.* Узгурск Чэрв. *У гародзі травы поўна, палоць трэба.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ГАРО́ДЧЫК** *м.* **1.** Агародчык перад хатай для кветак. *Ой, мелі харошых кветкаў у гародчыку.* Ляшчынск Мядз. *Я любіцяль кветак, у гароччыку ў мяне няма абы-чаго, адны толькі кветкі.* Літва Стаўб. **2.** Плот у агародчыку. *Гароччык абярнуўся саўсім, трэба новы ставіць.* Бытча Барыс.

**ГАРО́ТНЕНЬКІ** *у знач. наз. Памянш.-ласк.* Гаротны. *А маё ж ты гаротнянькая, чым я магу табе дапамагчы?* Дукора Пух.

**ГАРО́Х** *м. Кулін.* Гарохавы суп. *Гарох – самая любімая яда ў нашай сям'і.* Паплавы Бярэз. ◊ **Ні ў бабкі гарох** – не гатова, не згатавана. *О-о, машына гудзе, мусіць, едуць з дрыўмі. А божа, а ў мяне яшчэ ні ў бабкі гарох картофля, адно закіпела, і на стол не сабрала.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Як гарох пры дарозе** – пра жыццё неспакойнае, турботнае. *Так жылі, дак хто іх знаіць як. Як гарох пры дарозе.* Замошша Віл.

**ГАРО́ХАВІ́К** *м. Кулін.* Блін з гарохавай мукі. *Напякла цэлую міску гарохавікаў, пака сьвежанькія, есьці нада.* Лыцавічы Віл.

**ГАРО́ХАВІНА** *ж.* **1.** Каліва гароху. *Мама, пагглядзі, Колька гарохавіну вырваў.* Ляхавічы Дзярж. **2.** Тое, што і гарахаві́нне. *Патхінь гарохавін каню, хай пірабірае.* Ляшчынск Мядз. **3.** Тое, што і гарашына́. *Пакацілася гарохавіна пат стол.* Хожава Маладз.

**ГАРО́ХАВІННЕ** *н., толькі адз.* Тое, што і гарахаві́нне. *Складзіця гарохавіньня ў капу, каб дошч ні змачыў.* Дукора Пух. *Гарохавіньня рэжуць на сечку каровам.* Пудзіцк Пух.

**ГАРО́ХАВІШЧА** *н.* **1.** Трава на гарохавішчы. *Мой пайшоў гарохавішча касіць.* Ляшчынск Мядз. **2.** Тое, што і гарахаві́нне. *Гарохавішча яшчэ ня высахла.* Малмыгі Віл.

**ГАРО́ХАЎЕ** *н.* **1.** Тое, што і гарахаві́нне. *Вазьмі посьцілку, бяжы накрый гарохаўе, а то дошч намочыць.* Паплавы Бярэз. **2.** Тое, што і гарахаві́шча. *На грацкоўі жыта добра родзіць, а на гарохаўі картопля ўдаецца.* Рудня Чэрв.

**ГАРО́ХАЎКА** *ж. Кулін.* Тое, што і гаро́х. – *Мамачка, звары гарохаўкі, я люблю гарохаўку з малаком. Я накрышыла картошкі, усыпала гароху і наварыла саган гарохаўкі, як прасілі.* Бясяды Лаг.; *параўн.* польск. grochówka 'тс'.

**ГАРО́ХАЎНІК** *м.* **1.** Тое, што і гарахаві́нне. *Як гарох вымалаціш, гарохаўнік астаецца.* Іргушка Круп. **2.** Тое, што і гарахо́ўнік. *Урадзіўся гарох, аш гарахоўнік зьлёх.* Забалоцце Смал.

**ГАРО́ШАК** *м. Кулін.* Зялёны гарошак як прыправа да стравы. *Я на вясельлі адзін гарошак ела.* Скамарошкі Стаўб. ◊ **Гарошак лу-**

**гавы** (Antitoxicum). *Гарошку лугавога многа ў лесі, на сенакосі. Лісточкі ў яго дліньнінькія, вузінькія, з вусікамі на канцы. Гарошак лугавы па кустах апкручваіцца і расьце.* Малмыгі Віл.

**ГАРО́ШНІК** *м.* Тое, што і гарахавíнне. *Гарошнік на сечку йдзе, падмешвалі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГАРО́ШНІШЧА** *н.* Тое, што і гарахавíшча. *Гарошнішча ўжо зьбілі каровы, не ганецца туды.* Вецярэвічы Пух.

**ГАРО́ШЫНА** *ж.* ◊ **Як гарошына** — пра нізкарослага поўнага чалавека. *Яна малая, як гарошына.* Ігрушка Круп.

**ГАРО́ШЫНЫ** *толькі мн.* Тое, што і гарахавíнне. *Як аммалоцяць гарох, гарошыны астаюцца.* Рудня Лаг.

**ГАРО́ШЫСКА** *н.* Тое, што і гарахавíнне. *Я свае авечкі гарошыскам патсьцілала.* Грыцкаўшчына Валож.

**ҐАРСЭ́Т** *м.* **1.** Безрукаўка, станік. *Яна нека нездаровая, і летам носіць ґарсэт пат суконкай. Як прыцісьне кашулю ґарсэтам, тады ёй цёпла.* Літва Стаўб. **2.** Кабат на ваце. *Надзену паверх швэдра ґарсэт, каб ня зьмерзнуць: сівер добры пранімае. Ужо й летам ґарсэт ні скідаю: старая.* Літва Стаўб. **3.** Вязаная безрукаўка. *Добра, як сам вяжыш: і ґарсэт, і шапку, і кофту цёплую можна зрабіць.* Рубяжэвічы Стаўб. *Зьвязала дацэ ґарсэт і вышыла прыгожа.* Зарэчча Стаўб.; *параўн.* польск. gorset 'тс'.

**ГАРУ́МКІ** *толькі мн.* Насенне гароху. *Гарумкі заўжды ўзойдуць, былі п у іх здаровыя расткі.* Вялікая Вуса Уздз.

**ҐА́РЦАВЕНЬ** *м.* Бутля на пяць—адзінаццаць літраў. *Я берагу ґарцавень, нікому ні пазычаю.* Рудня Чэрв. *Пастаўлю ґарцавень квасу, захочыцца піць — халодненькі, смашненькі, п'еш і піць хочыцца.* Зайцы Чэрв.

**ГАРЦА́ЦЬ** *незак.* **1.** Бегаць, узнімаючы гармідар. *І што-та за дзеці?! Німа, кап спакойна пасядзелі ці кнішку пачыталі, — гарцаюць цэлы дзень, адураць галаву, вечара ні дачакацца.* Савоні Стаўб. **2.** Гарцаваць. *Гарцае на стаенным кані па полі.* Жацерава Стаўб.

**ГАРЧА́К** *м. Бат.* Жаўтушнік (Erysimum). *Аднаго году мы шмат гарчаку здалі ў аптэку, сушылі і здавалі.* Паплавы Бярэз.

**ҐА́РЧЫК** *м. Памянш.* **1.** Гарнец. *Бывала ш пасуды ні было ўсякай і разнай, як цяпер, а была плеценая: ґарчыкі такія былі на муку, сявенькі, лупкі былі.* Савоні Стаўб. **2.** Посуд ёмістасцю ў два фунты. *Ґарнец — гэта пяць хунтаў, а ґарчык — два хунты.* Малмыгі Віл.

**ГАРЧЫ́ЧНІК** *зб. Бат.* Свірэпа (Barbarea). *Як пойдуць пыляняты ў лух, зойдуць у гарчычнік, а гарчычнік жа жоўценькі, дык ледзь іх зьбярэш потым.* Баяры Маладз.

**ГАРШКАЛЕ́П** *м.* Ганчар. *Гаршкалепы былі раней, а цяпер іх няма, цяпер усю пасуду ў магазіні купляем.* Івянец Валож.

**ГАРШКО́ЎКА** *ж.* Тое, што і адстаўніца. *Гаршкоўкі ў мяне з мяшкавіны, разрываю мяшок, і гаршкоўка ёсь.* Якімаўка Круп. *Гаршковак было да ліха, а як мылі падлогу, павыпратвалі с хаты. А спатрэбяцца ш.* Баяры Маладз.

**ГАРШКО́ЎНІЦА** *ж.* Тое, што і адстаўніца. *Гаршчок бяры гаршкоўніцай, бо гарачы, рукі папячэш.* Рудня Чэрв.

**ГАРШЧА́Й** *м.* Тое, што і гаршкалéп. *Гаршчай збаны вырабляе.* Вецярэвічы Пух.

**ГАРШЧА́Н** *м.* Тое, што і гаршкалéп. *Да гаршчана трэба йсьці вунь той сьцешкай.* Ляшчынск Мядз.

**ГАРШЧО́К** *м. Асудж.* ◊ **З кіпяча гаршка выхваціць** — адразу ж здзейсніць. *А можа каб сказаў, да паслухая [унук]. Адно як што задумая, дак с кіпяча гаршка выхваціць, ні перад чым не спыняецца. Ані мяне ні слухая.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГАРШЧЭ́НАК** *м. Памянш. да* гаршчóк. *Я грыбы перабрала, а потым загатавала гаршчэнак вару, загатавала варам, ускінула на скаваротку.* Малінаўка Лаг.

**ГАРШЧЭ́ЧНІК** *м.* **1.** Тое, што і гаршкалéп. *Некалі гліняныя гаршкі рабілі гаршчэчнікі.* Цялякава Уздз. *Гаршчэчнік гэты вазіў і продаў глінянаю пасуду: гаршке, збанке, гляке, міскі.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Вілкі, з дапамогай якіх ставяць у печ і вымаюць з печы гаршкі, чыгуны. *Вазьмі малы гаршчэчнік і выцягні крупнік.* Рубяжэвічы Стаўб. *Гаршчэчнік зламаўся, німа чым гаршкі ў печ ставіць.* Літва Стаўб. *Гаршчэчнік трэба асадзіць на новую палку, а то старая абгарэла.* Крыніца Маладз. **3.** Качарэжнік. *Пралысіла, пралысіла хату, а сьмецьця ў гаршчэчнік зьмяла.* Літва Стаўб.

**ГАРШЭ́ЧНЯ** *ж.* Ганчарня. *У гаршэчні робяць гліняны посуд.* Вецярэвічы Пух.

**ГАРЭ́Й** *прысл.* Горш. *А ну цябе, я яшчэ тут гарэй зьмерзла.* Касцюкі Валож.

**ГАРЭ́ЛІК** *м.* Бульба з прыгарэлым бокам, прыгарка. *Ешча гарэлікі, румяныя будзяца.* Вялікая Вуса Уздз. *Мама, зьнімі мне гарэлік.* Малмыгі Віл. *Дзеці аж б'юцца за гарэлікі: так любяць.* Грыцкаўшчына Валож. *Дзеці нашы ўсе любяць гарэлікі, аж б'юцца за гарэлікі.* Палачаны Маладз.

**ГАРЭ́ЛЫ** *прым.* Адценне колеру, афарбоўка пад абпаленае дрэва. *Ёсьцека каровы рудыя, як гарэлыя.* Забалоцце Смал.

**ГАРЭ́Ц** *м.* Гарнец, мера вадкіх цел. *Гарэц — гэта бочачка маленька, і ў ёй адліўчык з горлам дзеравянным.* Зайцы Чэрв.

**ГАСПО́СЯ** *ж.* Гаспадыня. *Яна гаспося харошая.* Літва Стаўб.; *параўн.* польск. gosposia 'тс'.

**ГАТАВА́ЦЦА** і **ГАТО́ВІЦЦА** *незак.* Рыхтавацца. *Трэба каб вучыўся, гатавоўся паступаць.* Цялякава Уздз. *Да сьвятаў яны заўсёды гатаваліся, а гэты рас гора вялікае — нічога ні робяць, як і сьвята ні сьвята.* Грабёнаўшчына Стаўб. *Пачоў бацька гатовіцца да вясельля.* Суднікі Валож.

**ГА́ТАР** *м.* Будыніна, дзе сушылі, а затым і церлі лён. *Раней рабілі гатар, там лён мялі.* Завішына Лаг.; *параўн.* ням. Gatter 'лесапільны станок'.

**ГА́ТКІ** *гл.* ага́ткі

**ГАТО́ВІЦЦА** *гл.* гатава́цца

**ГАТО́ЎЛЯ** *ж.* Загатоўка. *На гатоўлю дык як хто наравіць, аплавачкі хто бярэць, а болі дык не.* Нядаль Барыс.

**ГАЎ, ГАЎ** *выкл.* Ужываецца гукапераймальна для абазначэння брэху сабакі. *Патходжу бліжэй ґ гэтаму каню, а там нямецкая аўчарка гаў, гаў.* Чырвоны Пасёлак Пух. ◊ **Ні гаў, ні мяў, ні кукарэку** *асудж.* — пра таго, хто не падае вестак аб сабе. *А ён як паехаў, ні гаў, ні мяў, ні кукарэку.* Цялякава Уздз.

**ГА́ФТАВЫ** *у знач. прым.* Вышываны. *Чыя гэта дзеўчына ў гафтавым каптане? Як сьнягурачка размаляваная.* Узгурск Чэрв.

**ГА́ФТКА** *ж.* **1.** Пятля для кручка. *Парвала спадніцу. Ня можа, гультаіна, гафтку зрабіць, ходзіць са шпількай.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Дзірачка для гузіка. *Пашыла жакетку, засталося толькі прарэзаць і апкідаць гафткі. Буду фарсець.* Ляшчынск Мядз.

**ГА́ХНУЦЬ** *зак. Экспр.* Памерці. *Саматоха была ваенная, а яна на запаленьне забалела, вось і гахнула.* Баяры Маладз.

**ГА́ХТА** *ж.* Тое, што і г а п т. *— Што ты купіла ў Хатынічах? — Капу і гахты на падузорнік набрала.* Якімаўка Круп.

**ГАЦАВА́ЦЬ** *незак.* Бегаць. *Такая дарослая дзяўчына, а гацуе зь дзецьмі па сяле.* Грышкавічы Віл.

**ГАЦА́ЦЬ** *незак.* Гоцаць. *Гацаюць, як козы, дзень цэлы.* Кукалеўка Чэрв.

**ГА́ЦІ** *толькі мн.* Мужчынскія штаны. *Гаці паткасаў і палес даставаць.* Саланая Валож.; *параўн.* польск. gacie 'кальсоны'.

**ГА́ЦІЦЦА** *незак.* Біцца. *Не папусьцяць адзін аднаму, кожны дзень гаціцца. У гэтым домі мужык ж жонкай кожну ноч гаціцца.* Літва Стаўб.

**ГА́ЧАК, ГА́ЧЫК** *м.* Шпілька. *Некатары дзяўчаты юпкі на гачках носяць, ляніцца ўшыць аплічок — так і зносіць.* Рудня Чэрв. *Ганна кветку ў валасах гачыкам прымацавала, дак так прыгожа!* Нарбутава Лаг.

**ГА́ЧКА** *ж.* Матыка. *Некалі бульбу садзілі сахой, асыпалі гачкамы, бо ні было чым. Усё гэтымы гачкамы гакалі.* Ластаянцы Валож. *Гачкай добра буракі асыпаць.* Палачаны Маладз. *Хадзі, дачушка, дамоў, нясі гачку. Пойдзем бурачкі гачкаваць.* Хожава Маладз. *Бяры гачку, падзем на грады.* Баяры Віл. *У мяне адна гачка лёхкая, а другой дзень як папалю, рукі баляць, ні падняць нічога.* Баяры Маладз.

**ГАЧКАВА́ЦЬ** *незак.* Матыкаваць, узрыхляць гачкай. *Ты гачкай гачкуй гратку, а я траву буду выбіраць.* Асіпавічы Віл. *Трэба гачкаваць бульбу, зусім зарасла.* Хожава Маладз.

**ГА́ЧЫК** *гл.* га́чак

**ҐА́ШТА** *ж. Бат.* Флёкс (Phlox). *Сама лепій пахніць, дык я ґашты таму й насадзіла многа.* Зуі Стаўб.

**ҐА́ШТАР** *м.* Тое, што і ґ а ш т а. *Люблю, калі каля хаты ґаштар цьвіце.* Мацкі Мядз.

**ГАЮ́ШЧЫ** *у знач. прым.* Гаючы. *Сок з альясу гаюшчы, любую рану гоіць.* Цялякава Уздз.

**ГВАЗДАДЗЁР, ГВАЗДЗЯДЗЁР** *м. Спец.* **1.** Сякера з расшчэпам, якой выдзіраюць цвікі. *Падай гваздадзёр, цьвік вырваць трэба.* Ціханава Слабада Стаўб. *Новы гваздадзёр купіў сабе, хай будзя.* Гарадзечна Валож. **2.** Шчыліна ў сякеры, з дапамогай якой выцягваюць цвікі. *Гваздадзёр харашо, як ні так забіў гвоздзь, дык узяў і выцягнуў.* Рабунь Віл. *Гвазьдзядзёрам гвазьдзё лепш драць, як шчыпцамі.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГВАЗДЗЕ́ЛЬНЯ** *ж.* Месца ў кузні, дзе робяць цвікі. *Трэба схадзіць на гваздзельню, да далёка йсьці — часу ня выбяру.* Завішына Лаг.

**ГВАЗДЗІ́ЛЬНІК** *м.* Тое, што і г в а з д а д з ё р. *Падай гвазьдзільнік, цьвік сагнуўся, трэба выцягнуць.* Ляхавічы Дзярж.

**ГВАЗДЗЮ́К** *м. Бат.* Гваздзік садовы (Dianthus). *Гвазьдзюкі садзяць толькі ў гародзе. Цёмна-вішнёвага колеру, як бархатныя.* Малмыгі Віл. *На гвазьдзюках многа лісточкаў, такіх вузінькіх і доўгіх лісточкаў.* Бясяды Лаг.

**ГВАЗДЗЯДЗЁР** *гл.* гваздадзёр

**ГВАЗДО́К** *м.* Драўляны шпянёк, які забіваецца ў адтуліны для змацавання. *Гваздок з дубу вельмі моцны.* Канстанцінава Мядз. *Зрабі новы гваздок у навой, стары слабы, можа зламацца.* Саланая Валож.

**ГВАЛТАВА́ЦЬ** *зак.* Падымаць гвалт, крычаць, прасіць ратунку. *Дам зараз, дам есьці, шчанята вы, а то ўжо гвалтуяцца.* Вялікая Вуса Уздз. *Калі пачала гарэць салома, людзі закрычалі. Так страшна крычалі, гвалтавалі, і я толькі помню крык Міколачкі свайго: „Мама!" А боляй ня помню нічога.* Высокі Бераг Барыс.

**ҐВЯ́ЗДА** *ж.* Звязда. *Сёньня столькі ґвяздаў на небі!* Пруды Стаўб.; *параўн.* польск. gwiazda 'тс'.

**ҐВЯ́ЗДАЧКА** *ж. Бат.* Іскарка, разнавіднасць гваздзікоў (Dianthus deltoides). *А-йе-йай, як красіва, як зорачкі, выглядаюць ґвяз-*

*дачкі с травы. Яны цьвітуць чырвоніенькімі кветкамі.* Ляшчынск Мядз.

**ГЕ́БРА** *ж. Заал.* Вуж (Golubridae). *Узялі аднаго ў войска, служыў недзя далёка. Пойдзя на варту, стаіць на пасту, прыпаўзе да яго гебра, гужака, сыкае.* Саланая Валож.

**ГЕ́ГАЎКА** *ж.* Зоб. *У сусеткі на шыі ґеґаўка с курыная яйцо, дактарэ кажуць, што трэба выразаць, а яна баіцца.* Дукора Пух.

**ГЕ́ГАЦЬ** *незак.* Крычаць, гагатаць (пра гусей). *Гусі ґеґаюць, як хто спужая.* Дукора Пух.

**ГЕ́ГНІ** *мн. Рыб.* Сеткавая прылада лавіць рыбу, драўляная аснова ў выглядзе палазоў. *Ґеґні ў грась залезьлі, чуць выцягнулі. Ґеґні складаюцца з двух палазоў — правага і левага, змацаваных між сабой, на якія нацягнута сетка.* Ляшчынск Мядз.; *параўн.* літ. gẽgnė 'драўляная рама ў рыбалоўнай снасці, сетка з такою рамаю'.

**ГЕ́КТАР** *м.* Гектар. *Нам плацілі ад гектараў. Як гектар, так рубель.* Дукора Пух.

**ГЕ́РГАЦЬ** *незак.* Гаварыць на незразумелай мове. *Смотрым, іскры ўжо падаюць на нас, пянька ўжо стала гарэць, а яны ґерґаяць на дварышчы.* Новікі Мядз.

**ГЕРГЯТА́ЦЬ** *незак.* Тое, што і ґ е́ р ґ а ц ь. *Эсэсаўцы як прыдуць, дак ґярґечуць не па-нашаму, зь імі перавоччык быў.* Дукора Пух.

**ГЕ́РДАЦЬ** *незак.* Тое, што і г а р к а́ ц ь. *Ён моцна гердае, за што яго толькі любіць можна, ён жа і нікрасівы.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГЕ́РКАЦЬ** *незак.* Тое, што і ґ е́ ґ а ц ь. *Гусі ґеркаюць, дадому йдуць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГЕРО́С, ГІРО́С** *м.* Перакіслае малако. *Малако зьліваюць у цэбар, квасяць і постам ні ядуць, а толькі у сьвята ўжо гэты ґерос ядуць.* Палессе Мядз. *Малако, якое доўга стаіць у цяпле, то так ськсісьня, што ґірос настаяшчы, пашчэнкі зводзіць. На ґіросе добра пячы алаткі, яны пухкія.* Калодчына Віл.

**ГЕ́СТКА** *ж.* Блюзка. *Я ўчора набрала мультану на ґестку.* Дукора Пух.; *параўн.* ням. Gäschen 'прарэх', дыял. Geschke 'камізэлька'.

**ГЕШЭ́ФТ** *м.* Плётка. *Як паднімецца з раніцы, дык і пашла ґешэфты па хатах насіць.* Ціханава Слабада Стаўб.; *параўн.* ням. Geschäft 'справа, занятак'.

**ГЗЫМС, КЗЫМС** *м.* Карніз. *Сярнічкі ляжаць на ґзымсе, прынясі мне.* Рубяжэвічы Стаўб. *Печ глаткая ўся, а кзымсамі адзьдзелаюць уввярху.* Рудня Лаг.; *параўн.* польск. gzyms 'тс'.

**ГЗЫМСІК** *м.* Прымурачак. *Мыла на ґзымсіку ляжыць, сьпічкі кладуць.* Палачаны Маладз.

**ГІ́БЕЛЬ** *ж.* ◊ **Да гібелі** — вельмі многа, мноства. *У нас буякоў да гібелі.* Дукора Пух.

**ГІБЗО́ВЫ** *прым.* З гіпсу зроблены, гіпсавы. *Далі мне карандаш, ґібзовыя пальчаткі, ґібзовы пярэднік кругом надзеты з рукавамі, і паставілі разрыўныя гранаты, што кідаюць, от такія маляцькія, от як бутылачка такія маляцькія, правяраць.* Пагост Віл.; *параўн.* польск. gipsowy 'тс'.

**ГІБЯЛЕ́ННЕ** *у знач. вык.* Вялікая колькасць, мноства. *Тры нявесткі было, а я чацьвёртая. Дык дзяцей етых было гібяленьня ў іх, за дзецьмі нельга было прайці па хаця.* Дрычын Пух.

**ГІДЗІ́ЦЦА** *незак.* Гадзіцца. *Можа, ты гідзісься посьля мяне, дык вазьмі адзьдзельна налій.* Волма Чэрв.

**ГІ́ДКА** *прысл.* Брыдка, сорамна. *Пасьля ўсяго, што было, там быць гітка.* Сырмеж Мядз. *Нага таўстая, а яшчэ дзіравянікі напялілі, гітка глядзець.* Якімаўка Круп.

**ГІДЛІ́ВА** *прысл.* Брыдка. *Фу, як гідліва глядзець на яго паводзіны.* Мядзел Мядз.

**ГІЗ** *м. Заал.* **1.** Сляпень (Tabanidae). *Ґіс садзіцца на скуру каровы ці каня, пракусвае скуру, пат скуру пападаюць гніды, а аттуль выходзяць чарвячкі белыя.* Ляхавічы Дзярж. **2.** Раздражненасць скаціны ад укусаў насякомых. *Упоўдні як уцялі авадні, дак на кароў такі ґіс напоў, што ня ўтрымаць было.* Дукора Пух.

**ГІЗАВА́ЦЬ** *незак.* **1.** Бегаць, ратуючыся ад укусу гіза (пра жывёлу). *Каровы ґізуюць — дошч будзя. На абет кароў прыганяюць, бо ґізуюць у полі, рады зь імі няма.* Літва Стаўб. **2.** *перан.* Бегаць, лятаць, насіцца з канца ў канец. *Якія няўрымсьлівыя дзеці, ґізуюць з двара ў двор.* Літва Стаўб. *А што гэным дзецям улетку рабіць, толькі і ґізаваць па вёсцы.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ГІКАЎКА** *гл.* ікаўка

**ГІКНУЦЬ** *зак.* Прарэзліва крыкнуць. *Калі я бачу такоя дзела, дык я на сані,ды суком па кані,ды як гікну! Дык конь як скочыў [а я ш у санях], дык конь ляцеў чорт яго ведаіць сколькі.* Любань Віл.

**ГІЛЁК** *м. Заал.* Снягірок (Pyrrhula Pyrrhula). *Гількі — стройныя птушачкі.* Канстанцінава Мядз.

**ГІМО́РЫ** *мн.* Капрызы. *Ну, што ты тут мне ставіш свае гіморы!* Гумны Круп.

**ГІЛЬ** *м.* **1.** Тое, што і ґ і з. *Хутчэй бы дошч пайшоў, пахаваліся б гілі, і нам менш беганіны было б, і каровам лепш.* Гілікі Валож. *Гіль конскі такі рабы, вельмі кусучы.* Пруды Стаўб. *Цяперака горача вельмі, каровам бяда: гілі спакою не даюць.* Літва Стаўб. *Паналятала ў двор гілёў, ніяк карову падаіць не дадуць, кусаюць.* Рубяжэвічы Стаўб. **2.** Тое, што і г і л ё к. *Во на галінцы які прыгожы гіль сядзіць, пакрышы яму хлеба.* Курдуны Ва-

лож. *Халодна стала, і гілі ўжо тут.* Зазерка Пух.

**ГІЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Тое, што і ґізава́ць. *Ну, столькі гілёў, кароў ня ўтрымаць. Сёньня моцна гілявалі каровы, наляталася я зь імі.* Літва Стаўб. *У гэтым годзі шчэ ні разу ні гілявалі, бо лета зімнае. Як гарачыня, ужо ж гілююць каровы!* Пруды Стаўб.

**ҐІРАВА́ЦЬ** *незак.* Кіраваць (канём). *Дзядуля, навучы мяне канём ґіраваць.* Турэц Чэрв. *Мой мужык канём ня ўмея ґіраваць, а ня то што гаспадаркай.* Вецярэвічы Пух. *Я некалі до́бра ґіраваў канём, умела.* Пудзіцк Пух.

**ГІРДА́ЦЬ** *незак.* Шапялявіць. *Гэта дзяўчынка і меншая, але чыста гаворыць, а ён большы, ды гірдая.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГІ́РКАЦЬ** *незак.* Гаварыць злосна. *Чаго ты гіркаеш, як на сваё?* Прудзішча Лаг.

**ҐІРСЛІ́ВАЕ ЖЫ́ТА.** З прымессю гірсы. *Ґірса ў дабры расьце бывала, жыта ґірсьлівае.* Ляшчынск Мядз.

**ГІТЛЯРО́ВЕЦ** *м.* Гітлеравец, фашыст. *Патом прыляцеў з Мядзела на кані верхам немяц і перадаў запіску гэтаму гітляроўцу, каторы блакадай уладзеў.* Сваткі Мядз.

**ГІЦАЛЬ** *м.* **1.** Тое, што і вяша́к. *Прышый, Гэлька, гіцаль у куфайку, а то на цьвіку рвецца адзежа.* Дукора Пух. **2.** *абразл.* Хуліган. *Ах, ты, гіцаль, перастань дурэць!* Белькаўшчына Стаўб.

**ГІЧА́НЕ** *н. Зб.* Сцяблы буракоў, бручкі, морквы. *Схаджу канюшынкі трусікам нарву. А можа й ні пайду, гічаня паткіну.* Савоні Стаўб.

**ГІЧЭ́ЎЕ** *н.* Тое, што і гіча́не. *Сёліта гоніць у гічэўя, а буракі малыя.* Чабаі Валож.

**ГЛА́ДЗІЦЬ** *незак.* Вастрыць серп на тачыле. *Ото ш мне нагладзіў серп! Болей выцупіў.* Бытча Барыс.

**ГЛА́ДКІ** *прым.* ○ **Гладкі вугал (вугол)** — від вугла, без выступаў канцоў бярвення. *У хаце, якую будуем, будзе глаткі вугал.* Хожава Маладз. *У хаце, зрубленай у глаткі вугол, вуглы ашалёўваюцца, усё робіцца глатка, глатка.* Бясяды Лаг.

**ГЛАДЫШ** *м.* Гліняны збан з вушкам і без вушка. *У нас з вушачкамі і без вушачак усё адно гладыш.* Рудня Чэрв.

**ҐЛАЗНІ́К** *м.* Акуліст. *Ці ў Малмыгах ёсь глазьнік? Усягды трэба ў Вялейку ехаць.* Малмыгі Віл.

**ГЛАЗНЫ́** *у знач. наз.* Тое, што і глазні́к. *Я каласком ударыла па воку, а не пашла ґ глазному, дык і выбалела вока.* Рудня Лаг. ○ **Глазны доктар** — акуліст. *На нашым медпункці німа глазнога доктара, дзіця вазіла аж у Дзяржынск.* Кукшавічы Дзярж.

**ГЛА́ЗЫ** *мн.* Вочы. *Глазы як красівыя, то й сам чалавек пасьці ўсігда красівы.* Вязынка Маладз. ◊ **Глазы пяліць** — зайздросціць. *Вечна ты свае глазы пяліш на чужое дабро.* Рудня Чэрв.

**ГЛАМЗАНУ́ЦЬ** *зак.* Знянацку ўкусіць. *Як гламзануў Байкал [клічка сабакі] за нагу, аж у вачах пацямнела.* Канстанцінава Мядз.

**ГЛАМЯНУ́ЦЬ** *зак.* Перакусіць, з'есці на скорую руку. *Дай чаго гламянуць, ды я пайду на работу.* Рудня Стаўб.

**ГЛЕЙ** *м.* Рознакаляровая гліна. *Якія прыгожыя цацкі робяць з глею!* Вецярэвічы Пух.

**ГЛЕ́ЙНЫ** *прым.* Глеісты. *На глейнай зямлі капусту не содзюць: сохне натта.* Паплавы Бярэз.

**ГЛЕ́ЙЧЫК** *м.* Тое, што і адве́ска. *Возьміш прыложыш глейчык і карандашом аччырціш.* Ляшчынск Мядз.

**ГЛЕК, ГЛЁК** *м.* Гляк. *Глек — гэта вялікі такі гліняны збан з вузенькім горлачкам. У глеку, дзеткі, ваду насілі на поля ў жніво.* Зайцы Чэрв. *Глёк — на ваду, з вускім горлам.* Сакаловічы Круп.

**ГЛЕЎКАВА́ТЫ** *прым.* Ацесліва, недапечаны. *Калі хлеп недаседзіць у печы, тады ён глеўкаваты.* Зазерка Пух.

**ГЛЁГЛЯ** *ж.* Вуха. *Ён як чуць што, абяцае ў глёглю даць, але цёнгля знаходзіць адгаворку.* Нарач Мядз.

**ГЛЁЎКІ** *прым.* Тое, што і глеўкава́ты. *Як добра не напаліш печ, то хлеб будзя глёўкі.* Дукора Пух. *Мусіць, ты слаба печ напаліла, што хлеп такі глёўкі, да зубоў прыклейваецца.* Цялякава Уздз.

**ГЛІ́ЗАВАТА** *прысл.* Клейка, ліпка. *Улей малачка кіслага ў халаднічок, а то ад сьмятаны будзя глізавато.* Савоні Стаўб.

**ГЛІ́НА** *ж.* Пра цяжкага, грузнага каго-н. — *Цягні, Толік, яго ў ваду! — Мой жывот балець будзя, калі я буду цягаць гэтакую гліну, цяшкага такога.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГЛІНАБІ́ТКА** *ж. Будаўн.* Жылое памяшканне, сцены якога зроблены з моцна ўтрамбаванай гліны. *У нашай вёсцы ў глінабітках жылі, і помняць іх толькі некаторыя са старых.* Саланая Валож.

**ГЛІНАМЯША́ЛКА** *ж.* Прыстасаванне, у якім замешваюць гліну. *Гліну замешваюць у глінамяшалцы, а раней замешвалі ў квадратных карытах. З бункера гліна прапускаецца праз глінамяшалку, а затым яе бяруць ганчары.* Івянец Валож.

**ГЛІНАСХО́ВІШЧА** *н.* Месца, куды складаюць нарыхтаваную гліну. *Гліны нарыхтавалі многа, усё глінасховішча запакавалі.* Івянец Валож.

**ГЛІ́ННЫ** *прым.* Гліністы. *У нас глінная зямля, але добра родзіць. Прама што сьцяна збажына стаіць.* Хожава Маладз.

**ГЛІНЯ́НІК** *м.* Гаршчок. *Глінянікі ў нас маленькія: сім'я наша паменшыла.* Якімаўка

Круп. *Многа лезя ў еты глінянік.* Вецярэвічы Пух.

**ГЛІНЯ́НЫ** *прым.* Руды, колеру гліны. *Ай-ай, ні люблю такі колер — гліняны нейкі.* Вялікая Вуса Уздз. *Аснова ў пасьцілках зялёная, уток — глінянага колеру.* Саланая Валож.

**ГЛО́ВІЦА** *ж. Ганч.* Верхняя частка ганчарнага круга. *Гловіца — гэта будзя верхняя частка круга. На ганчарным крузе глінаператвараецца ў сырэц.* Івянец Валож.

**ГЛО́СНІК** *м.* Гучнагаварыцель. *Нявестка наводзіць марафэт у хаці: заложнік выкінула, лошкі пазасьцялала посьцялкамы з нейкамы малпамы, атажэрку на куце паставіла з глосьнікам.* Забрэжжа Валож.; *параўн.* польск. głośnik 'тс'.

**ГЛОТ** *м. Бат.* Глог (Grataegus). *Глот — дрэўца, лісткі як у аґрэста, расьце пры сенажаці.* Ляшчынск Мядз.

**ГЛУБАЧЭ́Й** *прысл.* Глыбей. *Паткапай глыбачэй яму, бо гэтак мелка, карэньня ні памесьціцца.* Лісічана Круп.

**ГЛУЗДЫ́** *мн.* Мазгі. *Гэдак ужо лясну́ўся, хаця каб глузды не адбіў.* Літва Стаўб. ◊ **З глузду з'ехаць** — страціць розум, развагу. *Ты што, з глузду зьехаў?* Мікалаеўшчына Стаўб. *Чы ты з глузду зьехаў?* Зайцы Чэрв.

**ҐЛУК** *м. Бат.* **1.** Шыпшына (Rosaceae). *На ґлуку такія маленькія чырвоніхенькія кветачкі растуць, а потым зь іх ягады сьпеюць.* Рубяжэвічы Стаўб. *У нас не кажуць шыпшына, а кажуць ґлук.* Тонава Стаўб. **2.** Плод шыпшыны. *Ягады ґлуку — добрае лякарства, ад многіх хвароб памагая.* Тонава Стаўб. *А як раструшчыш ґлук ды закініш за каўнер, места ні находзіш.* Вараксы Стаўб.

**ГЛУМ** *м.* Непрактычны чалавек. *Глум ты, а не гаспадар! Ці ш з табою што нажывеш? Людзі з рубля робяць сотню, а ты с сотні робіш рубель.* Клетнае Барыс.

**ГЛУ́МІЦЦА** *незак.* Псавацца. *Наварыла кашы, а ніхто ні есьць, дак сэрца баліць, што глуміцца.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГЛУХА́Р** *м. Заал.* **1.** Глушэц. *Цяпер у нас няма глухароў, а колісь спатыкаліся — стольki было.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Глухі чалавек. *Я магу толькі на свайго мужыка сказаць глухар, бо ён нідачувае.* Кукалеўка Чэрв. *Глухаром яго прадражнілі, бо яму гавары, а ён ня чуя.* Хожава Маладз.

**ГЛУХАТА́** *ж.* Спакой, цішыня. *А цяпер глухата ў сяле, анны старыя, маладыя хто дзе.* Ялча Чэрв.

**ГЛУХА́Ч** *м.* Тое, што і г л у х а́ р (у 1 знач.). *Глухачы бальшыя птушкі. Глухач, бо як затакуецца, так глухі.* Рудня Чэрв.

**ГЛУХІ́** *прым.* ○ **Глухая страка** *спец.* — унутраная, якой не відаць (у лапці). *Просіш бацьку, каб ён навучыў лапці плесьці, паказаў нейкую глухую страку, дзе яе ставіць. Дык у лапці нада стаўляць глухую страку зь левай стараны на правай назе, а ўжо на левай назе — нада с правай стараны.* Бакачы Мядз. ◊ **Глухі як пень** — зусім глухі. *Стары наш аглух, глухі як пень стаў, кажы, а яму як да сьцяны.* Ляхавічы Дзярж. **Глухая цяцера** *абразл.* — хто слаба чуе, глухі. *Зрабілася глухая цяцера, жанкі гавораць, а я ня чую нічога.* Дукора Пух.

**ГЛУША́К** *м.* Тое, што і г л у х а́ р (у 2 знач.). *Глушаком ты становісься, недачуваеш моцна.* Хожава Маладз.

**ГЛУШМА́Н** *м.* Тое, што і г л у х а́ р (у 2 знач.). *Глушман ты! На шаг адышоўся, клічу, клічу, ужо ня чуе.* Гілікі Валож. *Ты як некі глушман, ня чуіш.* Завішына Лаг. *Ты гэтаму глушману ці кажы, ці не, усі роўна нічога ня чуе.* Рудня Стаўб.

**ГЛУШНЯ́** *м.* Тое, што і г л у х а́ р (у 2 знач.). *Вось дзе гора мне: крычу, крычу, а ён нічога ні чуя.* Дукора Пух. *Вы яму моцна гаварыця, а то ён аглух, глушня.* Малмыгі Віл.

**ГЛУШНЯ́К** *м.* Тое, што і г л у х а́ р (у 2 знач.). *Ён у мяне добра глухі, глушняк робіцца.* Кукалеўка Чэрв.

**ГЛУШЭ́Ц** *м.* Тое, што і г л у х а́ р (у 2 знач.). *Папытайцеся ў дзеда, але ж ён стары, глушэц, можа ці пачуе.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГЛУШЫ́ЦЬ** *незак.* Піць многа. *На сена толькі бяры ваду ды сахар і глушы, кап піць не хацелася.* Бытча Барыс.

**ГЛЫ́БАКА** *прысл.* Глыбока. *Пры беразе няглыбака, тут дзеці купаюцца, а на сярэдзіне глыбака, там страшна.* Саланая Валож.

**ГЛЫБО́ЗАЗНЫ** *прым.* Вельмі глыбокі. *Ну й глыбозазны калодзесь у вас!* Дукора Пух.

**ГЛЫГА́СТЫ** *прым.* Злаязыкі. *Ужо такі глыгасты, усё на вецір пусьціць, нагавора абычаго.* Бясяды Лаг.

**ГЛЫ́ЗКА** *ж.* Камяк ссохлай або замёрзлай зямлі. *Нашто ты кінуў у сабаку глыску? А як цябе так?* Вяркалы Пух.

**ГЛЫК** *м.* **1.** Глыток. *Выпіў кватэрку малака за адзін глык, так піць хацелася.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** *выкл. Ад дзеяслова* глыка́ць. *Глык! — рас, глык! — два, а больш і ні магу, нешта стаіць пад грудзьмі, ні пускае.* Зайцы Чэрв. ∇ **Здаровы як бык, а розуму ні на глык.** Чыжаха Бярэз.

**ГЛЫНА́ЦЬ** *незак.* Глытаць. *Яду трэба глынаць хутчэй.* Вецярэвічы Пух.

**ГЛЫНУ́ЦЬ** *зак. Аднакр. да* глына́ць. *Малака мала, як дзіцяці на рас глынуць.* Гілікі Валож.

**ГЛЫТ** *м.* Глыток. *Дай мне глыт вады, а то смага душыць.* Рудня Чэрв. *У роце перасохла, хоць бы глыт вады глытнуць.* Турэц Чэрв.

**ГЛЫ́ТАЎКА** *ж. Неадабр.* Крыклівая жан-

чына. *Ну і глытаўка! У яе ж рот не закрываецца ат сваркі.* Аляхновічы Маладз.

**ГЛЭЧЫК** *м.* Збан. *А я ўчора глэчык малака выкуліла.* Клетнае Барыс.

**ГЛЮГА** *ж.* Дзюба. *Мусіць, самая большая глюга ў бусла.* Дукора Пух. *Глюгай птушка сабе корм дабывая.* Бясяды Лаг. *Бакас і к нам прылятая, глюга ў яго вялікая, ногі доўгія.* Бяларучы Лаг.

**ГЛЮГАТЫ** *прым.* Насаты. *Вот глюгаты — нос доўгі, як глюга ў бусла.* Малмыгі Віл.

**ГЛЯВЕШ** *м.* Ацеслівы хлеб. *Напякла хлеба абы-якога глявяша, можа паспытаяця?* Талька Пух.

**ГЛЯДЗЕЦЬ** *незак.* **1.** Даглядаць. *Я добра гляджу свайго бычка, думаю здаць яго.* Ляхавічы Дзярж. **2.** Пасвіць. *Пецька, мой хлопчык, ты ж добра глядзі каровак. Каб часам у канаву ня ўсунулася катора.* Дукора Пух. ◊ **Як у ваду глядзеў** — быццам загадзя ведаў. *Аж якраз як у ваду я глядзела, так і ёсць. І гультай, і цяшкі характар, і жонка ў прочкі ўжо хадзіла не раз.* Язні Віл.

**ГЛЯДУН** *м. Асудж.* Падглядач, злодзей. *Ён глядун, не стаіш ад яго. Дзе ні палажы, заўсягды ўлезя і возьмя.* Бясяды Лаг.

**ГЛЯІСТЫ** *прым.* Глеісты. *На пясочку нада садзіць, а як пасадзіш на якой гляістай зямлі, так толька што абойдзя.* Бяларучы Лаг.

**ГЛЯК** *м.* Гліняны збан на малако. *Сёньня карова дала цэлы гляк млека, шчэ й ня ўлезла. Я гляк паставіла ў ваду, кап хутчэй астыла малако, а то ж дзеці ня п'юць цёплае.* Літва Стаўб.

**ГЛЯНЦ** *толькі адз.* Глянец. *Гляньця, заказваюць боты, дак бярозавай кары падложаць, і яны скрыпяць. А хром які! Глянц навёў — як у люстэрку адсьвечвая.* Савоні Стаўб. *От гэта боты былі! Глянц аж вочы сьлепіць.* Рудня Чэрв.

**ГЛЯЧОК** *м. Памянш. да* гляк. *Глячок маленькі, млека ўсё не ўлазіць, трэба ў большую пасудзіну пераліць.* Літва Стаўб.

**ҐМІЙ** *м. Уст.* Тое, што і в у й т. *Мы сь сястрой паехалі ґ ґмію, штоп вярнуць пасьцелю і сундук.* Баранцы Віл.

**ҐМІНА** *ж. Уст.* **1.** Самая дробная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі; цэнтр такой адзінкі. *Тады адміністратар гавора: „Я пайду ў ґміну, даб'юся, яе возьмуць лячыць з ґміны, бо дзіця саўсем замучыцца". І, праўда, лячыць сталі мяне лекамі і вылячылі.* Забар'е Віл. **2.** Сельсавет. *Што ты гаворыш, бапка, яна ш у суседняй ґміне жыве, сорак кіламетраў атсюль.* Баяры Віл.; *параўн.* польск. gmina 'тс'.

**ГНАЦЬ** *незак.* ◊ **Гнаць па крыві** (пра сабаку) — ісці па слядах, чуючы пах крыві звера. *Калі сабака гоніць па крыві, ён возьмець зьвера.* Рудня Лаг. **Гнаць у каліўе** — разрастацца на шкоду плоданашэнню. *Як зажырная зямля, то гоніць ў каліўя, бульба тады расьце ў бульбянік.* Ігрушка Круп. **Гнаць у назірку** — ісці па слядах, бачачы звера. *Гнаць у назірку зьвера можа кажды сабака, нават нявопытны.* Рудня Лаг. **Гнаць у пяту** — праследаваць звера ў напрамку, адваротным яго ходу. *Як зьвер ідзець у адзін бок, а сабака па яго сьледзе ў адваротны бок, у нас кажуць: сабака гоніць у пяту. Умны сабака ў пяту ні станіць гнаць.* Рабунь Віл. **Гнаць у каршэль** — падганяць. *Пішы хораша, памаленьку, а то як хто гоня ў каршэль.* Краснае Маладз.

**ГНАЯРКА** *ж.* Шырокая дошка, якую застаўляюць з боку воза, калі вывозяць гной. *Трэба зьняць левую гнаярку, тады лягчэй будзя скідаць.* Слабодка Стаўб.

**ГНАЯЎКІ** *толькі мн.* Павозка, на якой вывозяць гной. *Некалі гной вазілі на гнаяўках, а цяпер машыны і вывозяць і растрасаюць.* Цялякава Уздз. *У гнаяўках на базар не паедзяш.* Баяры Маладз.

**ГНЕНУЦЬ** *зак.* Ударыць. *Пярун як гненуў ў хлявы — спаліў усё начыста.* Кукалеўка Чэрв.

**ГНЁНІКІ** *толькі мн.* Сані з гнутымі палазамі. *У нас робяць толькі гнёнікі, ніякіх другіх саней ня робяць.* Нізок Уздз. *Гнёнікі зьнізу абіваюць жалезам.* Вялікая Вуса Уздз. *У гнёніках палазы ўперадзі загнёныя красіва.* Вязынка Маладз.

**ГНЁНКІ** *толькі мн.* Тое, што і г н ё н і к і. *Гнёнкамі называюць сані, калі палазы гнутыя.* Забалоцце Смал.

**ГНІЛКА** *ж.* Паляжалая грушка-дзічка. *Цяпер павыкарчоўвалі ўсе дзічкі, дзе якая грушня была, пазносілі. А зь дзічак такія гнілкі былі смачныя.* Баяры Маладз.

**ГНІЛУХА** *ж.* Гнілая бульбіна, перазімаваная. *Голад быў, як папрыіжджалі зь лясочку. Пайдзём на поля, картошачку зьбіралі, гнілуху гэту, абіралі, какоры таўклі і елі.* Ганцавічы Барыс.

**ГНІЛЫ** *прым.* Сапсаваны, нясвежы. *Яйца нясвежыя, доўга ляжалі, гнілыя, прышлося выкінуць.* Волма Чэрв.

**ГНІЛЬ** *ж.* Гніляккі падкурваць пчол. *Чалавек адзін пасаветаваў акураваць губай, таму што гніль дае іскры, а губа толькі дыміць.* Забалоцце Смал.

**ГНІЛЮШКА** *ж.* Тое, што і г н і л ь. *У дымар гнілюшкі ложаць і паткурваюць пчолак.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГНІЛЯК** *м.* Хваравіты чалавек. *Як я ўжо з сваім гніляком усё жыцьцё пакутую, дак ня выказаць.* Суднікі Віл.

**ГНОЙ** *м.* ○ **Гной авячы** — гной ад авец. *Калісьці кожны гаспадар трымаў авечкі, дак быў гной авячы. А цяпер і ў калхозі авячага гною німа.* Саланая Валож. **Гной ад каня (ко-**

**ней)** — конскі гной. *Сёньня работа у канюшні, падвоччыкі будуць вазіць гной ад коней.* Саланая Валож. **Гной ад каровы** — каровін гной. *На соткі вывязьлі і гной ат каровы і ат сьвіней. Добра ўслалі ўсе соткі.* Савоні Стаўб. **Гной свініны (свінячы)** — свіны гной. *Сьвініны гной натта добры, жырны.* Саланая Валож. *Сьвінячы гной жырны, пат капусту, агуркі йдзе.* Саланая Валож.

**ГНУЦЬ** *незак.* ◊ **Гнуць спіну** — многа і цяжка працаваць. *Цяпер машыны ўсё паробяць, а бывала, гнеш сьпіну на панскім полі.* Забалоцце Смал. *За панамі спіну гнулі і днём і ноччу.* Хожава Маладз. *А бывала, капейку тую каб зарабіць, трэба дзень цэлы сьпіну гнуць.* Пагост Віл.

**ГНЎШКА** *ж.* **1.** Дошчачка, на якой рэжуць што-н. *Рэшце лепш на гнушцы, а то сапсуяце мне цырату.* Літва Стаўб. *Выстругаў дошчачку, і гнушка гатова. Нясі хутчэй мне гнушку.* Клочкава Маладз. **2.** Падстаўка пад гарачы прадмет. *Патэльню ні хачу ставіць на стол, гарачая вельмі, давай гнушку.* Літва Стаўб.

**ГНЮСНЫ** *прым.* Брудны, нячысты. *Ходзіш гнюсны, як парасёнак, вымыўся б лепш.* Зазерка Пух.

**ГНЯВІЦЦА** *незак.* Крыўдзіцца, быць незадаволеным. *Годзе табе гнявіцца, пара ўжо й адпусьціцца, забыць крыўду.* Рабунь Віл.

**ГНЯВЫШ** *м.* Гняўлівы чалавек. *І за якія пакуты ты такім гнявышом урадзіўся?* Баяры Віл.

**ГНЯЗДО́** *н.* **1.** Жыллё (насякомых, пчол). *Пчолаў многа ў гняздо налезла.* Вішнева Валож. *У гэтым доміку невялікае гняздо.* Забалоцце Смал. *Неяк адзін год я была знайшла ў лесі гняздо дзікіх пчол ды хацела паглядзець, дык чуць ні закусалі.* Дукора Пух. *Гнёзды бываюць слабыя і крэпкія.* Ігрушка Круп. **2.** Логава. *Мы рас знайшлі былі гняздо ваўкоў.* Пруды Стаўб. **3.** Паглыбленне, куды ўстаўляецца канцом што-н. *У гняздо ўкладуеш вясло і едзіш.* Бытча Барыс. *І адзін канец восі і другі канец восі, на якой знаходзяцца верхняя і ніжняя часткі ганчарнага круга, упіраецца ў гняздо.* Іванец Валож.

**ГНЯЯЛКІ** *толькі мн.* Тое, што і г н а я ́ ў к і. *Гняялкі на калхозным двары стаяць, папрасі брыгадзіра гной вывясьці.* Зазыбы Пух.

**ГО́БАР** *м.* Месца на печы каля коміна. — *Дзе панчохі мае?* — *Ды вунь, на гобары ляжаць.* Халмоўка Барыс.

**ГОД** *м.* ◊ **З году ў год** — пастаянна, на працягу некалькіх год. *Так з году ў гот і жылі, і перадыхнуць не было калі.* Мацкі Мядз. **У гадах** — пажылога ўзросту. *У нас адзін жаніўся, у гадах ужо, удавец, узяў маладую.* Цеплень Уздз.

**ГО́ЙДА** *м.* і *ж.* Гарэза. *Расьце такі гойда, а на навуку і не глядзіць.* Пярэжыр Пух.

**ГО́ЙСАЦЬ, ГО́ЙЦАЦЬ** *незак.* Бегаць дзе папала без пэўнай мэты. *Дзе ты гойсала ўвесь дзень?* Палачаны Маладз. *А ён гойцае, як дурны.* Лоск Валож.

**ГО́ЙСНУЦЬ** *зак. Экспр.* Ударыць. *А ён гойснуў мне па твары, ледзь на нагах устаеў.* Нізок Уздз.

**ГО́ЙЦАЦЬ** *гл.* го́йсаць

**ГО́КАЦЬ** *незак.* Галёкаць. *Чаго ты гокаеш? Гэта ш табе ня лес!* Рудня Чэрв.

**ГО́КНУЦЬ** *зак.* Выпіць. *Што табе стоіць гокнуць шкляначку. Маладая, здароўе пазваляе.* Навасёлкі Барыс.

**ГО́ЛАД** *м.* ∇ **Голад ня цётка.** Кулёўшчына Маладз.

**ГО́ЛАС** *м.* Напеў, мелодыя, тон. *Красівы голас гэтай песьні.* Ляхавічы Дзярж. *Запамятала голас, а так бы я вам сьпела эту песьню.* Паплавы Бярэз. *Я б вам засьпявала адну старадаўнейшую песьню, але ня ўспомню, які голас яе.* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **Голасу не падаваць** — не даваць знаць пра сябе. *Усялякія ест дзеці. Адзін і піша і прыягджае часто, унукаў той бабі на лето адсылая, а другі — не. Зьедзе і голасу не падае.* Савоні Стаўб. **Голасу не паднімаць** — не гаварыць са злосцю, з раздражненнем, на павышаных танах. *Брыгадзір у нас харошы, ніколі голасу не паднімае на чалавека.* Кукалеўка Чэрв. **Не мець голасу** — не мець уплыву на каго-н., не карыстацца аўтарытэтам, падтрымкай у каго-н. *Пайшла м...а да папа і давай прасіць, каб узялі яго ў школу, але што ж, бяднячка, не мела голасу ніякага.* Баяры Маладз. **У адзін голас** — аднагалосна, усе як адзін. *Усё так, як і раней, рабіла: цеста рашчыніла, цеста харошае расьце, як выняла сь печы — ні сырыя ні сьпечаныя [булкі]. Давай пытаца ва ўсіх, хто панімаяцца на гэтум, у адзін голас кажуць: ад печы гэта.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГО́ЛКА** *ж.* Іголка. *А дзе ты голку, Ядзя, палажыла?* Засулле Стаўб. *Увядзі нітку ў голку, я не пападу ў вушка.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ГО́ЛЫ** *прым.* **1.** Бедны. *Як сталі мой куфар уносіць, а ён лёхкі, пусты, як сталі з майго Юзі сьмяяцца, што голаю ўзяў...* Пугачы Валож. *Вельмі голыя былі, нічагусенька не было.* Дукора Пух. **2.** Без верхняй вопраткі. *Чаго ш ты выляцеў голы на вуліцу, захварэць хочаш?* Баяры Маладз. *Куды вы голыя? Ідзіця, во дам што адзець.* Арцюхі Стаўб. ◊ **Голы як бізун** — бедны. *Голы як бізун, ні ўцяць ні ўзяць, а форсу, як некалі ў пана.* Вяляцічы Барыс. **З голымі рукамі** — без гасцінца, падарунка. *Як ты пойдзяш на вясельле з голымі рукамі, брытко.* Жацерава Стаўб. *Ну як ты пойдзяш з голымі рукамі?* Баяры Віл.

**ГО́МЗАЦЬ** *незак.* Гаварыць незразумела.

*Яны абоя нешта гомзалі, я нічога ня разабрала.* Дукора Пух.

**ГОН** *м.* Пагон. *У нас сёлята зрабілі гон для калхозных кароў.* Нізок Уздз.

**ГО́НКА** *ж.* **1.** *пчал.* Хвароба пчол. *Усялякія хваробы ёсць: і гнілец, і матыліца лазіць, кладзе чарвяк і порціць соты, і гонка пападае, а бывае, што й мурашкі знішчаюць пчол.* Саланая Валож. **2.** Панос. *Бывае, зьесь от што такое, дык гонка. Тады палын парым і даём ад гонкі.* Саланая Валож.

**ГО́ННЫ** *прым.* **1.** Хуткі, імклівы; за якім гоніцца сабака. *Гоннага зайца падстрэліць нялёхка.* Паплавы Бярэз. *А такі падстрэліў гоннага зайца.* Хожава Маладз. *Гонны заяц бегая як дурны.* Вішнева Валож. **2.** Які пакідае звер пасля сябе (пра след). *Трэба пільнавацца гоннага сьледу, каб зьвера ня ўпусціць.* Забалоцце Смал. *О, як па гоннаму сьледу сабака улёх!* Нізок Уздз.

**ҐОНТ** *гл.* ґанда́

**ГО́НЫ** *толькі мн.* Мера зямельнага надзелу ў шырыню. *Плошча зямлі дзеліцца на гоны.* Рудня Чэрв.

**ГОНЬ** *ж.* Тое, што і го́ны. *Лёну мы сеялі троя ганей, на адну гонь высявалі тры ґарцы семя.* Вялікая Боркаўшчына Маладз.

**ГО́НЬКА** *ж.* Гунька. *Коняў, як спацея, пакрывалі гонькамі. Ці на кірмаш едуць, ці на вясельля, дык гонькі с кутасамі былі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГО́НЬКІ** *толькі мн.* Невялікая адлегласць, блізка. *Да клуба адны гонькі.* Рудня Чэрв.

**ГО́НЯ** *ж.* **1.** Тое, што і го́ны. *Пры пану гоня была, што с канём не праедзеш, а цяпер дык і с трактарам заедзеш.* Бясяды Лаг. **2.** Адлегласць каля 100 метраў. *Вой-вой, праляцела за ім можа гоняў пяць і ні дагнала.* Рудня Лаг. *Ца той грушы будзя гоня, а можа трохі і больш.* Дукора Пух.

**ГО́ПА** *ж. Кулін.* Бабка з цёртай бульбы. *Любіце гопу есьці, а картофлю драць хто за вас будзя?* Горкі Стаўб. *Прынясу картофлі, зробім гопу на абет.* Вараксы Стаўб.

**ГО́ПІК** *м. Кулін.* Аладка. *Гопікі нейкія чорныя, бо з перамёрзлай бульбы іх пякуць.* Язні Віл.

**ГО́ПМАЎСКАЯ ПЕЧ** *ганч.* Печ для абпальвання пасуды. *Гопмаўская печ спіцыяльная, гэта печ, дзе ходзіць агонь.* Бясяды Лаг.

**ГО́ПНУЦЬ** *зак.* Упасці. *Але яна як гопнула, дык руку вельмі пабіла.* Цялякава Уздз.

**ГО́РАЙ** *прысл.* Горш. *Вот як харошая пагода, тады і мне ляхчэй, а як на дошч стане зьбірацца, тады горай і мне баліць.* Баяры Маладз.

**ГО́РАЧ** *ж.* Гарката. *Во горач, есьці ня можна.* Хожава Маладз. *Купіла горач нейкую, грошы адно выкінула.* Саланая Валож.

**ГО́РБА** *ж.* Куча. *У нас як капаюць бульбу, сыплюць яе ў горбу адразу на полі і перабіраюць тожа там, сыплюць у мяшкі і атвозяць.* Баяры Маладз.

**ГО́РКАСЦЬ** *ж.* Тое, што і го́рач. *Горкасць вялікая ў зялёных гурках, што та такоя?* Бытча Барыс.

**ГО́РКАЧ** *ж.* Тое, што і го́рач. *Горкач нейкая чуваць у капусьце, мусіць, ня ўкісла шчэ.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГО́РКІ** *прым.* Ёлкі. *Бліноў рашчыніш, напячэш бліноў аржаных, хлебных, здорам тым, што ўжо горкі, з'ялчая, пажамыш — ідуць тыя бліны.* Саланая Валож. ◊ **Горкае дзіця** — наіўны, нявопытны малады чалавек. *Куды яму жаніцца — дзіця горкае!* Суднікі Віл.

**ГО́РЛАЧКА** *н.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў, у якую засыпаюць зерне. *Натта многа жыта насыпала ў горлачка, жорны цяжка круціць.* Акалова Лаг.

**ГО́РНАСЦЬ** *ж.* Жальба. *Як яго атпраўлялі на фронт, такая горнасць мяне агарнула.* Рудня Чэрв. *Такая мяне горнасьць ахапіла, што я чуць ні заплакала.* Цялякава Уздз.

**ҐО́РСІК** *м. Крав.* Гестка, какетка. *У сукенцы ґорсік з другога матэрыялу.* Саланая Валож.; *параўн.* польск. gors 'грудзі'.

**ГОРСЦЬ** *ж.* Жменя. *Прыбегла ўнучка, горсьцей дзьве ягат прынесла.* Ляшчынск Мядз. *З раніцы кіну куркам горсьць зярнят, а сама на работу.* Дукора Пух.

**ГО́РШЧЫК** *м.* Гаршчок. *Вось гэтага горшчыка нам на ўсю сям'ю хватая.* Пярэжыр Пух.

**ГО́РЫН** *м.* Мулінэ. *Сукенка ў маёй дачкі горынам вышыта.* Каменка Уздз.

**ГО́СЦІ** *мн.* **1.** Бяседа. *Сяганьні ў мяне госьці: прыехаў пляменьнік зь Мінску, прыдуць сёстры, браты, — пагуляем.* Рабунь Віл. **2.** Знаёмыя або незнаёмыя людзі, запрошаныя ў якасці гасцей. *Нашы госьці прыязджаюць у вотпуск любой парой, як ім выходзіць.* Савоні Стаўб.

**ГРАБАВІ́ДЛА** *н.* Грабільна. *Граблі нейкія дрэнныя: грабавідла тоўстае і шурпатае, у руках ня ўдзержаць.* Зазерка Пух.

**ГРАБА́ЛКА** *ж. С.-г.* Сельскагаспадарчая машына для зграбання сена, рабочай часткай у якой з'яўляюцца металічныя зубы. *На конныя граблі ў нас хто грабалка, а хто грабілка гавораць.* Вялікая Вуса Уздз. *Ты сёньня паедзяш грэпці на грабалцы?* Дукора Пух.

**ГРАБА́РКА** *ж.* **1.** Тое, што і граба́лка. *Вядзі быстрэй запрагайся ў грабарку, а то ня будзя калі і рабіць.* Бяларучы Лаг. **2.** Павозка вазіць пясок, гліну. *Запрагай у грабарку і па пясок ехаць!* Забалоцце Смал.

**ГРАБАРЫ́** *мн. Жарт.* Пальцы. *У каго сям'я вялікая, лёхка, а я адна, старая, а трэба перагрэпсьці гэтымі грабарамі ўвесь агарот, то мне цяжка.* Зазерка Пух.

**ГРАБАЎЁ** *н.* Тое, што і грабавідла. *Дзет зрабіў ёй лёхкія граблі з глаткім грабаўём.* Буцькавічы Стаўб.

**ГРАБА́Ч** *м.* Дзяркач. *Зьдзёрся вейнік на грабач, толькі двор падмятаць ім, а новых у магазін не прывезьлі.* Будслаў Мядз.

**ГРАБЕ́ЖНІК** *м. Пчал.* Пчала, якая крадзе мёд у чужым вуллі. *Грабежнікі нападаюць на слабейшых пчол.* Ляшчынск Мядз.

**ГРАБЕ́ЛЬКІ** *толькі мн. С.-г.* Прыстасаванне ў форме грабель на касе. *Грабелькі — чатыры дзярвяанныя пальцы забіваюцца ў касу, каб не рассыпалася тое, што косіш. Яшчэ й цяпер косяць з грабелькамі, не ўсюды жатка пойдзе.* Ляхавічы Дзярж.

**ГРА́БЕЛЬКІ**[1] *толькі мн. С.-г.* Прылада накшталт матыкі з двума зубамі. *Днём па восені хадзілі капаць бульбу, капалі грабелькамі.* Восава Круп.

**ГРА́БЕЛЬКІ**[2] *толькі мн. Бат.* Першацвет вясновы (Primula). *Грабелькі — дробная травічка з жоўтымі кветачкамі. Грабелькі растуць на палянах у лесі, на лугах.* Рудня Лаг.

**ГРАБЁЛКА** *ж.* Прылада часаць лён у форме дубовай (кляновай) плашкі з набітымі зубамі. *Лён перш на мяліцы мнуць, тады абдзіраюць на шчэтку і грабяць на грабёлцы. Лён як шаўковы становіцца.* Хожава Маладз.

**ГРАБЁНКА**[1] *ж.* **1.** Дэталь на дышлі для ўстаноўкі плуга. *На дышаль прывінчваюць грабёнку з крукам.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Дапаможная дэталь на аглоблі, за якую чапляецца атоса. *Грабёнку прыбіваюць к аглоблі, за грабёнку чапляецца атоса.* Ігрушка Круп.

**ГРАБЁНКА**[2] *ж. Пчал.* Прыстасаванне, якое ўстаўляецца ў галаву калоды для прымацавання сотаў. *Калі вульлё пустое, то ў верхняй частцы яго чапляюць грабёнку, а тады на яе чапляюць вашчыну, каб пчолы насілі мёд.* Дукора Пух.

**ГРАБІ́ЦЕЛЬ** *м.* Грабежнік, рабаўнік. *Асэсаўцы былі хужэй грабіцеляў: забіралі ўсе паччыстую.* Вецярэвічы Пух.

**ГРА́БІЦЬ** *незак.* Грэбці. *Адзін рас на казьбе грабілі сена. Чалавек награбіў пласт сена і кажыць: „О, гэта маёй карове, бо я малако п'ю зь яе".* Мікольцы Мядз. *Бабы паехалі сена грабіць.* Нядаль Барыс. *Сёньня тыя дзеўкі Ганьне сена памагалі грабіць.* Баяры Маладз.

**ГРАБЛІ́ШЧА** *н.* Тое, што і грабавідла. *У граблях доўгая палка — грабліша завецца.* Ратуцічы Барыс.

**ГРАБЛО́** *н. Асудж.* Чалавек, які цягне ўсё сабе. *Нацягнуў усяго, такі грабло быў.* Дукора Пух.

**ГРАБСЦІ́** *незак.* Тое, што і гра́біць. *Пойдзім сена грапсьці, многа людзей у сям'е, як бачыш, зграбём і дамоў.* Зачысце Барыс.

**ГРАБЯСЦІ́ЦЬ** *незак.* Насцілаць латы, лаціць. *Грабясьціць лепш, чым я, ніхто ні ўмея.* Вецярэвічы Пух.

**ГРАВЕ́ЙКА, ГРАВЕ́ЛЬКА, ГРАВЕ́РКА** *ж.* Дарога, высыпаная гравіем. *У нас праз усю вёску праходзіць гравейка.* Ляхавічы Дзярж. *Гравелька ўжо сухая, можна ехаць.* Вецярэвічы Пух. *Граверка наша вядзе на Уздзу.* Нізок Уздз.

**ГРА́ВЕР** *м.* Гравій. *Гравер капаюць ля дарогі.* Вялікая Вуса Уздз. *Гравер — йета пясок такі.* Ігрушка Круп. *Высыпана дарога гравергам.* Вецярэвічы Пух.

**ГРА́ВІК** *м.* Тое, што і гра́вер. *Езьдзіў па гравік, нагрузіў скрыню с коптырам.* Жораўка Пух.

**ҐРА́ҐАЦЬ** *незак.* Тое, што і ґа́рґаць. *Варона ґраґае, як убачыць ястраба.* Пруды Стаўб. *Вароны ґраґаюць — дошч будзя.* Бясяды Лаг.

**ГРАДА́** *ж.* **1.** Узвышанае месца сярод балота. *Мой будан стаяў на мсе, у леся, у балоця, раптам фашысцкі самалёт налятае на нашу граду, дзе мы сядзім у леся, і кружыцца разоў тры.* Чырвоны Пасёлак Пух. **2.** Складзеныя ў пэўным парадку дровы. *У яго ўжо грады дроў сохнуць, увесь будынак абложаны.* Хожава Маладз. *Накалола пяць градаў дроў, высахнуць, хваціць на ўсю зіму.* Саланая Валож.

**ГРА́ДАВАЯ СЕРАДА́.** *Абрад., уст.* Серада на велікодным тыдні. *У градавую сераду нічога нельга было рабіць, а то град збажыну атаб'е.* Ляхавічы Дзярж. *У градавую сераду нічога не рабілі, у сераду градовую каля зямлі нільзя рабіць, каб град дабро ні пабіў.* Бяларучы Лаг.

**ГРА́ДАЎНІЦА** *ж.* Тое, што і гра́давая серада́. *Некалі на градаўніцу нічога не рабілі, хадзілі ў цэркву, поп абедню служыў, каб не было граду, буры.* Ляхавічы Дзярж.

**ГРА́ДКА**[1] *ж.* **1.** Грудок, сухое месца сярод балота. *Было вады па пахі, каб не насты, не дабраліся б да граткі. А цяпер балота паасушылі, дарогі парабілі. А бывала сярод балота гратка, там і кусьцікі растуць.* Вецярэвічы Пух. **2.** *памянш.* Града ў агародзе. *Пасадзілі гратку цыбулі, гратку буракоў.* Мікалаеўшчына Стаўб. **3.** Радок бульбы. *Адзін радок бульбы гратка называюць.* Вялікая Вуса Уздз. *Пасадзіла дзесяць градак бульбы раньняй пад лапату.* Рабунь Віл.

**ГРА́ДКА**[2] *ж.* Агароджа на краях маста. *Гратка на мосьце, каб не зваліцца ў раку.* Пруды Стаўб.

**ҐРАДУ́С** *м.* Баразна, радок. *Мы сёньня многа нарабілі, добра завіхалі — чатырнаццаць ґрадусаў выбралі бульбы.* Савоні Стаўб. *Неяк жа ўправіліся, адзін ґрадус бульбы засталося выкапаць.* Слабада Стаўб.

**ГРА́ДУСНІК** *м.* Тое, што і грабёнка[1].

*У нас не грабёнка, а градусьнік завуць.* Бытча Барыс.

**ГРА́ДЫ**[1] *толькі мн.* Агарод. *Нешта грады сёлета не ўрадзілі.* Падзерычы Стаўб.

**ГРА́ДЫ**[2] *толькі мн.* Вышкі ў хляве. *На грады ў нас сена ложаць, на градах куры нясуцца.* Завішына Лаг.

**ГРАЗІ́ЎКА** *ж.* Гразішча. *Гразіўка такая, што ні праехаць ні прайсьці.* Зазерка Пух.

**ГРА́ЗКІ** і **ГРАЗКІ́** *прым.* Брудны, мутны; топкі, вязкі. *У рацэ не памыўся, а загразніўся: такая граская вада.* Ляхавічы Дзярж. *А балота гэта такое граское было, што па пояс.* Замошша Віл.

**ГРАЗНІ́СТЫ** *прым.* Урадлівы. *Вот гразьністая бульба калгасная!* Рудня Лаг. *Даўно не было такой гразністай картоплі.* Млечкі Віл.

**ГРАЗНО́** *н.* Вялікі зростак, вялікая група чаго. *Апенькі гэтыя каля пнёў грознамі растуць, на высокіх ношках апенькі.* Нядаль Барыс.

**ГРА́ЗНЫ** *прым.* **1.** Нячысты, брудны. *Ваду нада зьмяніць, гразная.* Іграшка Круп. *Гразная вада ў нашай рэццы.* Пруды Стаўб. **2.** Гразкі, вязкі, топкі. *Дарога такая гразная, ні праехаць ні прайсці нельга.* Вязынка Маладз. **3.** Скаламучаны. *Дзеці скаламуцілі, вада гразная, тут і паласкаць нельга.* Паплавы Бярэз.; *параўн.* рус. грязный 'тс'.

**ГРА́КАЦЬ** *незак.* Тое, што і ґ а́ р ґ а ц ь. *Вароны ўсю ноч гракалі, сваім граканьнем с ума зводзілі, спаць ні давалі.* Рудня Чэрв. // *перан. Чаго ты гракаеш, як варона?* Забалоцце Смал.

**ГРА́КНУЦЬ** *зак.* Моцна кінуць вобземлю. *Як гракнулі майго хлопца, дак с таго часу ўсё хварэя.* Цялякава Уздз. *А ён як гракне талерку ды як закрычыць!* Рабунь Віл.

**ГРАМАЗДА́**[1] *ж.* Кілька. *Схадзіла б у краму, чула я, што ўчора прывезьлі грамазду ў тамаце.* Хаценава Смал.

**ГРАМАЗДА́**[2] *м.* і *ж. Неадабр.* Нязгрэба. *Паганю ў поле, лапці гэтыя раскруцяцца, дзяцька крычыць, што я гэткая грамазда. Падвяжу, а яны ізноў раскруцяцца.* Ілья Віл.

**ГРАМАФО́Н** *м.* Магнітафон. *Мой хлопец як запусьціць гэны грамафон, то хоць ты с хаты ўцякай — гэткая музыка.* Літва Стаўб.

**ГРАМАЦЕ́ЙКА.** *Жан. да* грамацёй. *Я ні грамацейка, чатыры класы канчала, но посьлі вайны стала кладаўшчыком.* Каранец Бярэз.

**ГРА́МАЦЬ** *ж.* Грамата. *Раней дык не вучылі добра грамаці, кап толькі распісацца ўмелі — і ўсё тут табе. Усё роўна простаму мужыку іншай работы не было, а толькі араць, сеяць, жаць, нашто тая грамаць.* Бяларучы Лаг.

**ГРАМНІ́ЧКА** *ж.* Від свечкі паводле прызначэння. *Грамнічкі сьвяцілі на грамніцы, патом ставілі ад грому, пакойніку ў рукі давалі.* Малмыгі Віл.

**ҐРАНАТО́ВЫ** *прым.* **1.** Цёмна-чырвоны, колеру граната. *Ґранатовыя кветкі цьвітуць во ў тым палісадНічку, што перад вакном.* Савоні Стаўб. **2.** Цёмна-сіні. *Раней ґранатовыя суценкі насілі ў школу, а цяпер карычнявыя.* Ціханава Слабада Стаўб.; *параўн.* польск. granatowy 'тс'.

**ГРАНІ́ЦЦА** *незак.* Кусціцца. *Жыта граніцца, з аднаго зярнятка дзьве-тры саломкі йдуць.* Бясяды Лаг.

**ГРА́НКА**[1] *ж.* Гронка, корч. *Было ў мяне па пяць памідораў на адной граніцы. І цыбуля парасла вялікімі гранкамі.* Ляшчынск Мядз.

**ГРА́НКА**[2] *ж.* Тое, што і ґ р а д у́ с. *Хоць адну гранку прапалі, дзіцятка, усё мне меней астанецца.* Завішына Лаг. *Адну гранку я заўсёды пакідаю пад фасолю.* Дукора Пух. *Гранку займу, лапатай туды-сюды, як бачыш, выбяру.* Іграшка Круп. *У мяне дзялка буракоў дванаццаць гранак.* Зазерка Пух. *Гранкі травою заваліліся, а я ўсё ня выбяруся апалоць.* Скамарошкі Стаўб.

**ГРА́НЬКА** *ж.* Тое, што і ґ р а д у́ с. *Ты не лічыла, сколькі там гранек пасадзілі?* Саланая Валож.

**ҐРА́СА** *ж. С.-г.* Матыка. *Сёньня з ґрасай хадзіла памагаць сястры палоць буракі.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ҐРАСАВА́ЦЬ** *незак.* Разрыхляць. *Вазьму вілкі і паґрасую грады.* Ляхавічы Дзярж.

**ҐРА́САЧКА** *ж. Памянш. да* ґра́са. *Лець ґрасачку ўваб'еш, такі пырай парос.* Баяры Маладз. *Вот крыху тут паміж калівамі ґрасачкай туды-сюды, ды й ладна будзя.* Там жа.

**ҐРА́ТАЎКА** *ж.* Паліца. — *Паўлюк, бяры з ґратаўкі лышкі ды хуччэй садзіся сьнедаць, — бывала, казала мама.* Вялікая Вуса Уздз.

**ҐРА́ТАЧКА** *ж.* Клетачка. *Канаплянкі ўсялякія ест, але ўсё больш у ґратачкі.* Савоні Стаўб.

**ҐРА́ТКА** *ж.* Тое, што і ґ р а́ т а ў к а. *Не пакідай талеркі на стале, пастаў на ґратку, а то кот ськіве.* Заямнае Стаўб.

**ҐРА́ФКА** *ж.* Шпілька. *Дай мне ґрафку, калі ёсьць, зашпыліць кофту.* Вішнева Валож. *Ґузік вырваўся, ґрафкай зашпылю пакуль што.* Сакаўшчына Валож.; *параўн.* польск. agrafka 'англійская шпілька'.

**ҐРА́ЦА** *ж.* Тое, што і ґ р а́ с а. *Маці вунь ґрацу ўзяла і ў агарот пайшла. А ты што?* Верхмень Смал.; *параўн.* польск. graca 'тс'.

**ГРАЦКО́ВІШЧА** *н.* Грачаная салома. *Каровы добра ядуць грацковішча.* Ляшчынск Мядз.

**ГРАЦКО́ВЫ** *прым.* Грэцкі. *Каша з грацковых круп смачная натта.* Рудня Лаг. *Крупы рабілі зь ячменю, грацковыя крупы рабілі, аўсянку.* Пагост Бярэз. *Цяпер у капераціў зайдзіш, ёсь і ячменныя, і грацковыя крупы.* Малмыгі Віл. *Грацковая салома на потсьціл-*

*ку раней ішла, а ціпер німа грацкоўя.* Бытча Барыс.

**ГРАЦКО́ЎЕ** *н.* **1.** Грачаная салома. *Грацкоўе на аўсяную салому палажылі.* Рудня Лаг. *Калі змалоцяць грэчку, то грацкоўе астаецца.* Ігрушка Круп. **2.** Поле, з якога сабралі грэчку або на якім папярэдняй культурай была грэчка. *На грацкоўі жыта добра родзіць.* Мікалаеўшчына Стаўб. *На грацкоўі пасуцца авечкі.* Ляхавічы Дзярж.

**ГРАЦКО́ЎІШЧА** *н.* Тое, што і г р а ц к о́ ў е (у 2 знач.). *На грацкоўішчы сёлята картоплю ўкідаюць.* Дукора Пух.

**ГРАЦКО́ЎНІК** *м.* Тое, што і г р а ц к о́ ў е (у 1 знач.). *Грацкоўнік у кучкі пастаўлялі, лепій высыхаіць.* Рабунь Віл.

**ГРАЦО́ЎКА** *ж.* Тое, што і г а́ ч к а. *Паслала ўнука ў сарай па грацоўку грады матычыць, а ён жа гарацкі, ні ведая, што гэта такоя.* Баяры Маладз.

**ГРАЧКО́ВЫ** *прым.* Тое, што і г р а ц к о́ в ы. *Нешта захацелася грачковай кашы з малаком.* Бясяды Лаг.

**ГРАЧКО́ЎЕ** *н.* Тое, што і г р а ц к о́ ў е (у 2 знач.). *Грачкоўе даўно ўжо перапахалі.* Асіпавічы Віл.

**ГРАЧУ́ХА** *ж.* Грэчка (Fagopyrum). *Ладная сёлета грачуха ў нашым калгасе, летась горшая была.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ГРАЧЫ́ЧНЫ** *прым.* Грача́ны. *Грачычны мёт палучаіцца, калі пчолкі зьбіраюць пылок сь цьвяткоў грэчкі.* Ігрушка Круп.

**ГРАЧЭ́ЎНІК** *м.* Тое, што і г р а ц к о́ ў е (у 1 знач.). *Грачэўнік — салома ад грэчкі.* Малмыгі Віл.

**ГРАШАВЕ́НЬ** *м. Неадабр.* Скупы чалавек. *Не скажы, — грашавень ён. Будзе тры вярсты йсьці, але капейкі на аўтобус не патраціць.* Будслаў Мядз.

**ГРА́ШЧЫ** *у знач. прым.* Палаючы. *І бачу: грашчы чалавек ляжыць, сінім цяплом гарыць, рукі і сам гарыць.* Каранец Бярэз.

**ГРОБ** *м.* Труна. *Як мой чалавек памёр, гроп дачка зь Мінску прывязла.* Вецярэвічы Пух. ◊ **Над гробам стаяць** — быць блізкім да смерці. *От я цяшко Наташу насіла. Так іравало, так іравало, нічога ў душу ні пускало, я ўжо над гробам стаяла. Худая, худая зрабілася, ляжала, што труп.* Валеўка Навагр.; *параўн.* рус. гроб 'тс'.

**ГРО́ЗЕН** *м.* Кучка, група. *Лашанкі падысподам белыя, зьверху сівінькія, ажно чорныя, сядзяць шарамі, грознамі цэлымі.* Нядаль Барыс.

**ГРО́ЗЕНЬ** *м.* Корч. *Выовернуў вунь плушком некалькі грозеняў бульбы.* Рудня Лаг.

**ГРОМААДВО́Д** *м.* Тэлевізійная антэна. *Прыяжджаў майсьцяр глядзець целевізар, прызнаў, што граматвот няспраўны.* Літва Стаўб.; *параўн.* рус. громоотвод 'тс'.

**ГРО́ХНУЦЦА** *зак.* Грымнуцца. *Учора злазіў ш чардака, як грохнуўся, чуць падняўся.* Ляшчынск Мядз.

**ҐРОШ** *м.* ◊ **Ні на ґрош** — нікольки, ані. *Прашлэндалася можа дзьве гадзіны, а толку ні на ґрош — усюдых коньмі выбіта.* Горкі Стаўб.

**ГРО́ШЫ** *мн.* ◊ **Аддаваць грошы** — кампенсаваць кошт жаніховай гарэлкі. *І сватоў прысылаў да мяне, але нек не згаварыліся. Пасьля той сваркі прышлосё аддаваць грошы за гарэлку. І шчэ адны сваты былі, й тому грошы аддала. Бацьке ўжо злаваць на мяне пачалі, што не дабяру сабе кавалера.* Валеўка Навагр.

**ГРУ́БА** *ж.* Невялікая пакаёвая печ, звычайна для абагрэву. *Наша груба дыміць, дык мы будзем рабіць новую.* Забалоцце Смал.

**ГРУБА́Я** *прым.* Цяжарная (пра жанчыну). *Грубая ходзіць, вось-вось рассыпіцца.* Саланая Валож. *Цяшка мне давялося ў вайну: я тады грубая была. А прыйшлося ш па балотах, па лясах хавацца.* Баяры Маладз. // (пра сучку). *А кап цябе ліха з сучкай з гэтай, зноў грубая. Толькі што ашчанілася, а тут новага прыплоду чакай.* Вішнева Валож. ○ **Грубая голка** — шаршатка. *Дзе гэта нашая грубая голка, я п паказала, якая яна.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГРУБІЗНА́** *ж.* Хатняга вырабу зрэбніна. *Я выткала грубізны на воркі.* Рабунь Віл.

**ГРУ́БЫ** *прым.* **1.** Голас па яго вышыні. *Антось пяе групшым голасам ад мяне.* Малмыгі Віл. *Ва ўсіх мушчын грубыя галасы. Я ў іх дык неяк не разьбіраюся.* Нізок Уздз. **2.** Тоўсты, мажны. *Дзерава грубое было, мала на хату пашло.* Ляшчынск Мядз. *Дзеўка анічогачкі ня есь; сьмяюцца, што грубая.* Баяры Маладз. *Прыяжджала маці гэнай паштаркі, але ш і грубая баба.* Літва Стаўб.

**ГРУГА́Л** *м. Заал.* Крумкач, груган (Corvus corax). *Глянь, гру́глы нат чарадой гусей, адгані!* Круці Мядз.

**ГРУГА́Ч** *м.* Тое, што і г р у г а́ л. *Пругач чорны, як варона, толькі большы. У леся на ёлках жыве.* Бяларучы Лаг.

**ГРУД** *м.* **1.** Лоўж, куча. *Груды паліць пойдзім у лес. Як сухі, грут красіва гарыць.* Ігрушка Круп. *Памалацілі, у грут зьвярнулі, не прасушылі, яно і сапрэла.* Якімаўка Круп. **2.** Многа. *Дзяцей мела грут, а засталася адна.* Ігрушка Круп.

**ГРУ́ДА** *ж. Мед.* Разнавіднасць конскай хваробы. *Ад груды капыты ў каня зганяіць.* Ляшчынск Мядз.

**ГРУДА́К** *м.* Сухі камяк зямлі. *Зямля дажджу чакая, на полі адны грудакі.* Сырмеж Мядз.

**ГРУДА́ТЫ** *прым.* Воблачны. *Якоя зарас неба грудатая, мусіць, будзя дошч скора.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГРУДЗІ́НА** *ж.* **1.** Манішка ў мужчынскай

сарочцы. *І мужчынам шылі рубашкі з накладною грудзінаю.* Цялякава Уздз. **2.** *асудж.* Грудзі. *Чаго ты ходзіш з расхлістанай грудзінаю, зашпыліся.* Кухцічы Уздз.

**ГРУ́ДКА**[1] *ж. Пчал.* Шырокая і моцнаспаяная частка цела пчалы, якая з'яўляецца трывалай апорай для органаў яе рабочага апарата. *У пчолак каўкаскіх груткі жоўценькія.* Саланая Валож. *У пчалы называюць такія часьці: галава, вусікі, хабаток, грутка, брушка, жала.* Нізок Уздз.

**ГРУ́ДКА**[2] *ж.* Кавалачак чаго-н. *Я вазьму грутку масла, пamaжу на хлеп і кусаю с хлебам.* Цялякава Уздз.

**ГРУ́ДКІ** *толькі мн.* Грудзі дзіцяці. *У грутках хрыпіць у яго, мусіць, запаленьня лёхкіх.* Цялякава Уздз.

**ГРУЗАВА́Я МАШЫ́НА.** Грузавік. *У нашым калгасе тры грузавыя машыны, і яшчэ думаюць купіць адну.* Ляхавічы Уздз. *У Мінск езьдзілі на грузавых машынах яблыкі прадаваць.* Рудня Лаг.

**ГРУЗАВІ́К** *м.* Тое, што і г р у з а в а́ я м а ш ы́ н а. *Едуць нашы дзеўкі на грузавіку.* Вязынка Маладз.

**ГРУЗІ́К** *м. Рыб.* Грузіла да вуды або сеткі. *Калі трэба лавіць каля самага дна, патрэбны грузікі разнай формы. Найлепей грузік, які выглядзіць як ніправільная пірамітка.* Мікольцы Мядз. *Грузік лёхкі, дык кручок па вадзе плыве.* Забалоцце Смал. *Грузік для таго, кап кручок не выганяла ўверх.* Бясяды Лаг.

**ГРУЗІ́ЛКА** *ж.* Тое, што і г р у́ з і к. *Насадзіш на леску грузілку і йдзеш лавіць рыбу.* Саланая Валож.

**ГРУЗЛІ́ЦА** *ж. Мед.* Туберкулёз. *Як грузьліца, дык гэта баляць лёхкія, задышка, усё кашляе, цёнгле эхе-эхе.* Гілікі Валож.; *параўн.* польск. gruźlica 'тс'.

**ГРУЗО́К** *м.* Тое, што і г р у́ з і к. *Грузок трэба прычапіць меньшы, тады лавіцца будзе.* Бытча Барыс.

**ГРУЗО́ЎКА** *ж. Рыб.* Донная вуда. *Грузоўку па дне пускаюць, ловяць з дна.* Ляхавічы Дзярж.

**ГРУМА́ДА** *ж.* Мноства. *Нешта ў гэтым годзе прыляцела цэлая грумада птушак, як ніколі.* Слабодка Стаўб.

**ГРУМГА́Ч** *м.* Тое, што і г р у г а́ л. *Калі крычыць грумгач, кажуць, дрэнная прымета.* Рабунь Віл. *Грумгач на бяду крычыць.* Завішына Лаг.

**ГРУНІ́ЦЬ** *незак.* Баранаваць. *Пасьля абеду груніць пойдзем.* Ляхавічы Дзярж.

**ҐРУНТ** *м.* Прысядзібны ўчастак, зямля з забудовамі. *Мая зямля, мой ґрунт, і забудова мая, і ўсё, што ест на ґрунці. Замка́ на ґрунці ніякага няма.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. grunt 'глеба, зямля'.

**ГРУ́ЦА** *ж.* **1.** Ячменныя крупы. *Пашла я дамоў, стаўкла груцы, апалала, зварыла кашы такой густой.* Аляхновічы Маладз. *Некалі груца звалі, а цяпер усё пярлоўка гавоpyць.* Рудня Лаг. **2.** *кулін.* Каша або суп з гэтых круп. *Вельмі люблю груцу з малаком.* Палачаны Маладз. *З груцы смачны суп выходзіць, калі дабавіць сухіх баравікоў і мяса.* Акалова Лаг.

**ГРУЦА́НЫ** *прым.* Ячны. *Груцаная каша натта смачная.* Рудня Лаг.

**ГРУ́ЦКА** *ж. Кулін. Памянш.* да гру́ца. *Трэба, кап капустачка ўпрэла ды груцка ўварылася — вось тады будзе і на раніцу і на абет.* Палессе Мядз.

**ГРУЧА́ЦЬ, ГРУЧЭ́ЦЬ** *незак.* Грукаць, грукатаць; шумець. *Тут і ноччу гручыць: паязды ходзяць.* Пранчэйкава Маладз. *Торф абваліўся, а ўнучка спужалася й пытае: „Што гэта гручэла?"* Хожава Маладз. *Але нешта ўжо так гручыць у галаве, што, мусіць, трэба ґ доктару ісьці.* Баяры Маладз.

**ГРУ́ЧКА** *ж. Бат.* Бручка (Brassica napus). *На гручку вось бягу, дзеткі.* Юшкаўка Віл.

**ГРЫБ** *м. Бат.* ○ **Бе́лы грыб** — разнавіднасць баравіка (Boletus edulis). *Белы грыб — каторы ж жуўтуватай галоўкай, расьце па махавых барах, на доўгай ношкі.* Нядаль Барыс. **Благі грыб** — грыб, непрыдатны ў ежу. *Благіх грыбоў многа і ў лесі і на кучах гною яны расъуць. Благіх грыбоў не бяруць.* Хожава Маладз. **Воўкаў (воўчы) грыб** — тое, што і б л а г і́ г р ы б. *Воўкавых грыбоў многа. Іду борам, капну нагой — і гэты воўкаў і той воўкаў, многа.* Нядаль Барыс. *У леся многа воўчых грыбоў, кап столькі было баравікоў!* Ляхавічы Дзярж. *Грыбы, якія нельга есьці, — воўчыя грыбы.* Паплавы Бярэз. *Воўчыя грыбы мы ня зьбіраям.* Вецярэвічы Пух. **Глухі́ грыб** — тое, што і б л а г і́ г р ы б. *А мы такія грыбы папросту завом — глухія. Глухія грыбы ні ядуць.* Нізок Уздз. *Ай, дзеткі, гэта ж глухія грыбы, а вы назьбіралі паўкаша.* Нізок Уздз. **Дрыв́яны грыб** — тое, што і б а р о́ д а ў к а. *Дрыв́яны грыб вельмі ўрэдны для дзерава.* Паплавы Бярэз. *На старой бярозе нарасьлі грыбы дрыв́яныя.* Ляхавічы Дзярж. ◊ **Як грыб гнілы** (стаць, зрабіцца) — нядужы, слабы. *Жывеш-жывеш, а потым станіш як грыб гнілы.* Баяры Маладз.

**ГРЫБАВО́ЧАК** *м.* Грыбнік. *Грыбавочык ён добры, але ж кап каму другому сказаць...* Халопенічы Круп.

**ГРЫБА́ТЫ** *прым.* Губаты. *Ды ён жа брыткі, такі грыбаты, лупаты, а ты гэтка хароша дзевачка. Чорт бы зь ім ведаўся...* Раўчак Пух.

**ГРЫБО́ВІК** *м.* Тое, што і г р ы б а в о́ ч а к. *Мой тата добры грыбовік, пры любой пагодзе без грыба не прыйдзе дамоў.* Рудня Чэрв.

**ГРЫБО́ВЫ** *прым.* Напоўнены хваробатвор-

нымі мікробамі грыбка. *Паложыш падлогу з грыбовага дзерава, грып зьесьць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГРЫБО́К**[1] *м. Мед.* **1.** Грыбковае захворванне чалавека. *Грыбок — заразная хвароба. Падымаецца скура, і гной находзіцца на галаве.* Гілікі Валож. *Пры грыпку болькі на галаве, тады валасы зьнімаюць.* Малмыгі Віл. **2.** Малочніца. *Хаця п у дзіцяці грыпка ні было. Вот бяды будзя, яно ш і так хіленькае.* Пруды Стаўб.

**ГРЫБО́К**[2] *м. Кулін.* Дамашняе печыва з пшанічнай мукі ў форме грыба. *Накладу цеста на скавараду грыпком, тады яго зьверху яйкам памажу, яно вырасьціць, як грыбок той рудзенькі.* Калодкі Віл. // *перан. Алаткі на сыроваццэ рашчыніць, яны падыдуць, а тады ўксусу капяльку, на скавароцэ яны выкацяцца як грыбок, алаткі што пух.* Арцюхі Стаўб.

**ГРЫ́ВА** *ж.* Тое, што і б а р а д а́[1]. *Як ты косіш, што ззаду грывы стаяць!* Дукора Пух. *Як ты ідзеш у пракосе, то й грыва другі рас астанецца.* Ігрушка Круп.

**ГРЫ́ВЕНЬ** *м.* Манета дзесяцікапеечная. *Хацела купіць кохту, але не хапіла аднаго грыўня.* Кукалеўка Чэрв.

**ГРЫВІ́ЦЬ** *незак.* Прапускаць траву пры касьбе. *Вот грывіць, колькі грыў напускаў.* Ваўкалатка Докш.

**ГРЫ́ЖА** *ж.* Грызня. *Дома цёнгля грыжа была, ніспакой.* Цялякава Уздз.

**ГРЫЖА́Н** *м. Бат.* Сцябло морквы з кветкамі. *У саўгасе такія вялікія грыжаны вырастаюць як пад год.* Пруды Стаўб.

**ГРЫ́ЗНІК** *м. Бат.* Разнавіднасць крынічніку (Veronica). *Грызьнік — лекавая расьліна. Яго паруць і купаюць маленькіх дзяцей.* Паплавы Бярэз. *Грызьнік ён з белымі кветачкамі.* Бясяды Лаг.

**ГРЫЗО́ЛАЧКА** *ж. Памянш.* Залоза. *А гэто што? Некія грызолачкі нарасьлі ля вольля з аднаго боку і з другога, першы раз бачу ў куры.* Савоні Стаўб.

**ГРЫ́ЗЦІ** *незак.* **1.** Дакучаць пастаяннымі прыдзіркамі, папрокамі, сваркамі. *Як прыдзя ён дамоў, то такая ўжо ліхая была, грызе й грызе, ні на мінуту ні змоўкня.* Вязынка Маладз. **2.** *перан.* Адмываць, адшароўваць. *Грызла, грызла гэтыя манкеты, ніяк не адмыць. Кап самога заставіў, ведаў бы.* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **Грызці як іржа жалеза** — метадычна дакучаць прыдзіркамі, папрокамі. *Ні было ёй [свякрові] спакою ні ўдзень ні ўночы, грызла як іржа жалеза, што мы, нявесткі, рабіць ня ўмеім.* Весялова Круп.

**ГРЫ́ЗЦІСЯ** *незак.* Сварыцца. *Што ў іх за жызьня, вечна грызуцца.* Дукора Пух.

**ГРЫЗЬ** *ж. Мед.* **1.** Грыжа. *Цягаў усё сваё жыццё цяжкое, ну й нажыў грысь.* Забалоцце Смал. **2.** Хвароба суставаў. *Падверадзіла, натужыла руку, дык грызь прыкінулася. Скрыпіць рука, сухі боль грызе тое месца.* Гілікі Валож.

**ГРЫМЕ́ЦЬ** *незак.* Моцна стукаць. *Дак я грымлю і ў дзьверы, і ў сьцену.* Дукора Пух.

**ГРЫ́МКАЛКА** *ж.* Бразготка, дзіцячая цацка. *Дай ты яму гэту грымкалку, хай ня плача.* Скамарошкі Стаўб.

**ГРЫ́МНУЦЦА** *зак.* З грукатам упасці, паваліцца. *Грымнуўся так, што неба с аўчынку паказалася.* Паплавы Бярэз.

**ГРЫМО́ТЫ** *толькі мн.* Навальніца. *Усё лета былі грымоты, усё на полі пасьці пагніло.* Падзерычы Стаўб. *Помню, адзін гот былі грымоты, а потым лівень!* Рудня Чэрв.

**ГРЫ́ПА** *ж. Мед.* Грып. *Сёлета ўсе дзеці на грыпу хварэюць.* Палачаны Мядз. *А тая Галя красная-красная, губы папякліся, цемпература мо сорак, колкі кругом шыі, кажа, баліць усё, — грыпа ходзіць у вёсцы.* Савоні Стаўб.

**ГРЫ́ФА** *ж.* Тое, што і г р ы п а. *Гэта восеньню найбольш западаюць людзі на грыфу... Ломіць косьці, баліць галава.* Малмыгі Віл. *Забалела на грыфу, а тады на ногу ўпала. Калі прастыніш або грыфа на лёхкія падзець, так і беркулёс.* Рабунь Віл.

**ГРЫ́ФЕЛЬ** *м.* Ручка з пастай замест чарніла. *Дай мне чорнага грыфеля запісаць, калі сьвіня гула.* Літва Стаўб.

**ГРЭБ, ГРЭБ** *выкл. у знач. дзеясл.* грэ́бацца. *А мы ўсё ляжым, усё баімся ўстаць. А тады мама апомнілася: „Сынок, вылазь". Я вылез, па гэтых людзях грэб, грэб і пералез. Стаў і гляджу.* Снягла Віл.

**ГРЭ́БАЦЬ** *незак.* Драпаць. *Вечарам нехта ўвесь час грэбаў па сьцяне, а я баялася высьці.* Палачаны Мядз.

**ГРЭ́БЕНЬ**[1] *м.* **1.** Тое, што і г р а б ё л к а. *Такія дрыўляныя грабяні, выбітыя з дубовых плашак, пароблены зубы і ўбіты ў дошку, й мы чэшым первы рас.* Папоўка Мядз. *Лён абдзіраюць на шчотку, а чэшуць на грэбянь.* Нізок Уздз. *Зубы ў грэбянь зь бярозы рабілі.* Забалоцце Смал. *Першы рас чэшым на вялікі грэбінь, а другі рас — на грэбінь з ґантавога гвозьдзя.* Ратуцічы Барыс. *Жменькі мятага лёну тады чэшым. Такія дрыўляныя грабяні былі, з дубовых плашак паробляны, у гэту плашку ўбіты дубовыя зубы, і мы чэшым первы рас. Гэта атнімаюцца камлі і вярхі: вярхі горшыя, камлі лепшыя.* Папоўка Мядз. **2.** Тое, што і б а р а д а́[1]. *Чаму гэта ты грэбень пакінуў? Як гэта ты косіш?!* Рубяжэвічы Стаўб.

**ГРЭ́БЕНЬ**[2] *м. Будаўн.* Верх страхі, месца, дзе сходзяцца скаты. *Крыша новая, а ў самым грэбені нейдзе дзірка ест: цячэ. Трэба палезьці і закрыць.* Пруды Стаўб.

**ГРЭ́БЕСТ** *м.* Дошкі пад шыфер. *Грэбест*

*падбіваюць пат шыфер, кап шыфер трымаўся, не спаўзаў.* Саланая Валож. *Грэбест цяшка прыбіваць старому.* Вецярэвічы Пух.

**ГРЭ́БЦІ** *незак.* ◊ **Хоць граблямі грабі** — вельмі многа. *То ш корч як падымяш, дык гэтых ракаў хоць граблямі грабі, а цяпер нешта німа, недзя падзеліся.* Мядзел Мядз.

**ГРЭ́ЙКА** *ж.* Грэлка. *У вас можа грэйка е, а то так зуб баліць.* Светлае Клец.

**Ґ́РЭКАЦЬ** *незак.* Крычаць, гагатаць. *Мусіць, унучак гусей прыгнаў, ґрэкаюць на двары.* Турэц Чэрв.

**ГРЭ́НКА**[1] *ж. Пчал.* Асобная клетачка ў вашчыне. *Трутнёвыя грэнкі большыя за пчаліныя.* Забалоцце Смал.

**ГРЭ́НКА**[2] *ж.* Каліўца. *Жыта як граніцца, кусціцца, грэнкі палучаюцца, многа грэнак з аднаго зернятк*і. Бясяды Лаг.

**ГРЭЦ-ПО́ЛЬКА** *муз.* Мясцовая назва полькі (танца). *Адна пара выходзя, тая, што кадрылю заканчывала, і пачыная грэц-польку танцаваць.* Бясяды Лаг.

**ГРЭ́ЧНЕВЫ** *прым.* **1.** Грэчкавы. *Калі ўжо мёт такі густы, аш карычнявы, то кажуць: гэта грэчневы мёт.* Дукора Пух. **2.** Тое, што і грацко́вы. *Раней як сеялі грэчку, грэчневыя крупы рабілі самі.* Ляхавічы Дзярж. *Бывала, як сеялі грэчку, восеньню наробім крупоў, а потым цэлую зіму грэчнявую кашу варым.* Дукора Пух.

**ГРЭ́ЧНІШЧА** *н.* Тое, што і грацко́ўе (у 2 знач.). *Дзе грэчка расла, грэчнішча гавораць. Па грэчнішчы жыта добра родзіць.* Нізок Уздз.

**ГРЭ́ЧНЫ** *прым.* Тое, што і грацко́вы. *З грэчнай мукі алаткі даўней пяклі: крупу зьдзяруць, зьмелюць, і алаткі пяклі.* Бясяды Лаг.

**ГРЭ́ЧЧЫНА** *ж.* Тое, што і грачу́ха. *Грэччыну пасеялі сёліта ля лесу. Як грэччына цьвіце, тады ўсе пчолы лятуць туды.* Трыгузі Віл. *Жорны ў выстопцы стаялі, малолі грэччыну на бліны.* Бакачы Мядз. *У нас грэччына блага расьце.* Сырмеж Мядз.

**ГУ-У-У** *выкл. гукапераймальны. Як я абула гэтыя шуі, як пашла па сходах, як стукну, дык па залі гу-у-у. Атабралі іх у мяне і далі нейкія дзіравыя туфлі.* Альсевічы Мядз.

**ГУ́БА** *ж.* Рот. *Зьеў нанач цыбулі, дык так было нядобра ў губе цэлую ноч.* Бяларучы Лаг.

**ГУБА́СТЫ** *прым.* Тое, што і грыба́ты. *Аш глядзець брытка, такая ўжо губастая была.* Вязынка Маладз.

**ГУБА́ТЫ** *прым.* Тое, што і грыба́ты. *Калі губы таўстыя такія, то губаты кажуць.* Вязынка Маладз.

**ГУБІ́ЦА** *ж. Ткац.* Мера асновы даўжынёй на хатнюю сцяну. *Губіца сем аршын. Накоцім сувой ды тком. Як выччам тры губіцы, адразаім і выходзіць трупка палатна.* Турэц Чэрв.

**ГУ́БКА**[1] *ж.* Тое, што і баро́даўка. *Некалі мячык дзеці з гупкі рабілі. Адрэжыць, адрэжыць укруга, і мячык гатовы.* Гілікі Валож. *Прывязуць зь лесу гупку, паваруць, высушаць. Калі пры ўдары крэсівам аб крэмінь паяўляліся іскры, то гупка загаралася.* Саланая Валож. *Усё дрэва, бывая, гупка апсадзіць.* Вецярэвічы Пух.

**ГУ́БКА**[2] *ж.* Качарга. *Маці каля печы ўсё з гупкаю стаіць, а для цябе толькі еты мацыклет і есьцяка.* Вецярэвічы Пух.

**ГУ́БКА**[3] *ж.* Тое, што і губі́ца. *Пазалетась выткала чатыры гупкі палатна.* Вялікая Вуса Уздз. *Гупка столькі метраў, скольк*і *хата.* Ратуцічы Барыс.

**ГУ́БЫ** *толькі мн.* Чапяла. *У нас губы ўсё роўна ці ёмку, ці патэльню браць.* Астравок Уздз. ◊ **Губы надзьмуць** — пакрыўдзіцца. *Чаго ты зноў надзьмуў губы?* Волма Чэрв. *Сядзіць як сыч, губы надзьмула, не абзавецца.* Дукора Пух. **З губ пары не пускаць** — маўчаць. *А ты, сынок, кажу я яму, з губ пары не пускай, як бы ты нічога не заўважыў.* Савоні Стаўб.

**ГУБЭ́СЯ** *ж. Лаянк.* Жанчына з тоўстымі губамі. *Супакойся ты, губэся, чаго ты разышлася!* Цялякава Уздз.

**Ґ́УҐАЛЬ**[1] *м. Кулін.* **1.** Смажаная бульба. *Усяго многа ў яе на стале было, а ґуґалю не было, шкада.* Маставая Пух. **2.** Суп бульбяны з гарохам, забелены або засквараны. *Ні ўсьпея сын у хату ўвайсьці, прося, кап ґуґаль зварыла. Калі ні прыедзя — ґуґаль есь, вару яму той ґуґаль — засквараю калі, калі — малаком.* Чабаі Валож.; *параўн.* польск. gugiel 'святочнае печыва ў яўрэяў', літ. kùgelis 'густая страва'.

**Ґ́УҐА́ЛЬ**[2] *м. Бат.* Куколь (Agrostemma). *У жыці цьвіціць ґуґаль і валошка.* Ратуцічы Барыс.

**ГУГНІ́ВЫ** *прым.* Гугнявы. *Ёсь у нас на сяле гугнівы хлопец, дык нічога не разабраць, што ён гаворыць.* Кукалеўка Чэрв.

**ГУЖЫ́ШЧА** *н.* Вужышча. *Гужышча прынясі, будзь ласкавы, яно мне патрэбна будзя.* Рубяжэвічы Стаўб.

**Ґ́УЗ** *м.* Тое, што і грызь (у 1 знач.). *Калі плява прарываіцца, то на гэным мейсцы будзіць ґус [у каня, вала].* Рабунь Віл.

**ГУЗА́ВЫ** *прым.* Няроўна спрадзены. *Ніткі няроўныя, гузавыя.* Дукора Пух.

**ГУЗАРЫ́ЦЬ** *незак.* Гуляць, баляваць. *Усё гузараць, дзе якія імяніны, дзе гулі, дак яны там.* Цялякава Уздз.

**ГУЗЕ́ЛЬЧЫК** *м.* Вузельчык. *Цыганка гузельчык завяжа, потым фукае і гузельчыка няма.* Ігрушка Круп.

**ГУ́ЗЗЕ** *н. Зб.* Гузы. *На назе гузьзя панацягувала.* Дукора Пух.

**ГУЗІ́КА** *ж. С.-г.* Куўзіка, кармавая бруч-

ка. *Недалёка тут у нас гузіка расьце, як хлопец прынясе, то ўбачыце.* Нядаль Барыс.

**ГУЗІКІ** *звыч. у мн.; адз.* **гу́зік.** Клавішы ў гармоніку, баяне. *Сьмялей націскай на гузікі, не цягні мацію.* Дукора Пух. *У гармосца гузікі, як граюць, то перабіраюць на гузіках.* Ляхавічы Дзярж.

**ГУК** *м.* Зуб (у сахары́). *Гукі́ пакрывіліся ў вілках, трэба параўнаваць.* Трыгузі Віл.

**ГУКАЦЬ** *незак.* Так гавораць аб свінні, якая патрабуе злучкі. *Сьвіньня гукае, есьці не ўзяла.* Забалоцце Смал. *Сьвіня гукае. Але ёсьць малыя парасята, навошта яны другія?* Саланая Валож.

**ГУКАЦЦА** *незак.* Тое, што і г у́ к а ц ь. *Гукаецца сьвіньня мая, рады няма.* Рудня Чэрв. *Сьвіньня гукаіцца, аш дзьверы ломя.* Дукора Пух.

**ГУКА́ЦЬ** *незак.* **1.** Гаварыць, успамінаць. *Мы часта гукаім пра даўняе.* Пількаўшчына Мядз. *Я тут з вамі гукаю, а там, пэўня, мой стары с поля вярнуўся.* Дзягілі Мядз. **2.** Буркаваць, пераклікацца (пра галубоў). *Малая была, галубоў баялася, як гукаюць. Большыя настрашаць, што гэта чэрці крычаць, і я калачуся, баюся.* Ільля Віл.

**ҐУЛА** *ж.* Тлушчавае адкладанне на сківіцах і падбародку. *От каму добра жывецца! Палучая хлеба много, чырвоніські, як месяц, вот такія ґулы.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. guła 'тс'.

**ҐУЛВАЧКА** *ж.* Камячок. *Уся мука ў ґулвачках, мусіць, даўнейшая.* Літва Стаўб.

**ГУЛІ** *толькі мн.* Гулянне, забава. *Як прыехалі ў сваты, як назьбіралася хата, прывёз я некіх літраў зь дзесяць, брацыы, мне давялося адно некіх сто грам свае гарэлкі. Думаю, на халеру ж мне гэткія гулі!* Даўгінава Віл.

**ГУЛЬГАТА́ЦЬ** *незак.* Крычаць (пра індыкоў). *Індык як узлуецца, гульгоча і да чалавека кідаецца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГУЛЬТА́ІЦЬ** *незак.* Гультаяваць. *Мая нявестка гультаіць, нічога ня робіць. Дайжа лешкі і тыя не паполіць.* Ігрушка Круп.

**ГУЛЬТА́Й** *м. Пчал.* Труцень. *Гэных гультаёў у вульлі разьвялося многа.* Малмыгі Віл. ◊ **Гультая кусок** — лодар. *Ніколі ні думала, што ён такі: ні мушчына, а гультая кусок.* Луцішча Круп. ∇ **Гультай за працу, мазоль за руку.** Цялякава Уздз.

**ГУЛЬТАЮГА** *м. Павел.* Гультай, лодар. *Дзяцька наш быў хітры, а гультаюга — сьвет ні бачыў, усё прытвараўся, што хворы, каб ні рабіць.* Ільля Віл.

**ГУЛЬТАЮЖЫНА** *м.* Тое, што і г у л ь т а ю́ г а. *Вазьмі кнішку пачытай, папішы, гультаюжына.* Калініна Дзярж.

**ГУЛЯ́ЦЬ** *незак.* **1.** Забаўляцца (аб дзіцяці). *Няхай Сашка з цацкамі гуляе, а я пайду карову даіць.* Вязынка Маладз. **2.** Танцаваць. *Бывала, на вечарынцы, як выйдзе мой гуляць, аш падмёткі паблісквающь, — так лоўка гуляў.* Баяры Маладз. **3.** Заляцацца. *Меньшы да арміі не жаніўся, гуляў толькі зь дзевачкай. Вярнуўся, забраў яе, і жывуць цяпер.* Бяларучы Лаг. ◊ **Гульма гуляць** — нічога не рабіць. *Цяпер другая жызьня, другія параткі. Цяпер гульма гуляюць дзеці.* Калініна Дзярж.

**ҐУ́МА** *ж.* Палка гумавая. *Ды гэтай ґумай тым бабам, каторыя варылі. Ды гэтай ґумай! Дак тыя бабы пад ложак. А іх с-пад лошку вывалаклі й гумай нейкай там.* Пагост Віл.; *параўн.* польск. guma 'тс'.

**ҐУМАЛЯ́СТКА** *ж.* Рызінка, якая выкарыстоўваецца ў адзенні. *Трэба ўцягнуць хлопцу ў штанэ ґумалястку, а то скідаюцца.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. gumelastyka < ням. Gummielastikum 'тс'.

**ГУМЕ́ННІК** *м. Уст.* Шкодаподобная істота, якая быццам бы жыла ў гумне. *А можа тут гуменьнік пашастаў?* Забалоцце Барыс. *Гуменьнік уродзі чорта ў гумне, некалі верылі людзі ў чарцей, у гуменьнікаў.* Ігрушка Круп.

**ГУМНІ́СКА** *н.* Роўная пляцоўка перад гумном. *Снапы на гумніску патсушвалі.* Канстанцінава Мядз.

**ГУМНІ́ШЧА** *н.* **1.** Тое, што і г у м н і́ с к а. *На гумнішчы патсушвалі сена, снапы.* Пруды Стаўб. *Цяпер, калі няма гумнаў, няма й гумнішчаў, — зааралі.* Ляшчынск Мядз. *Наша гумно абагулілі і зьвезьлі даўно, а на гумнішчы соткі цяпер.* Літва Стаўб. *Калі-то раней былі гумны, былі й словы гумнішча і загуменьне. Цяпер жа гумнаў нет, і слоў нет.* Ігрушка Круп. **2.** Месца, дзе стаяла гумно. *Раней у мяне на гумнішчы стаялі калоды пчол, а цяпер ні гумна, ні пчол.* Саланая Валож. *Траву сырую растрэсла на гумнішчы, а сухую прыняць трэба.* Аўгустова Валож.

**ГУМНО́** *н.* **1.** Двор разам з будынкамі. *Некалі добрае ў нас гумно было, с пчоламі, з яблынямі.* Зазерка Пух. **2.** *перан.* Трава, што расце на прыгуменні і на тым месцы, дзе раней стаяла гумно. *А я, дачушка, паляту да цёткі Марылі, памагу гумно зграбіць, бо дзяцька даўно скасіў, пэўна, сена ўжо сухое.* Корань Лаг.; *параўн.* польск. gumno 'тс'.

**ҐУМО́ВІКІ** *мн.; адз.* **ґумо́вік** *м.* Гумовыя боты. *Дзе мне ґумовікі купіць, на грасьць нічога няма.* Канстанцінава Мядз.

**ҐУМО́ЎЦЫ** *мн.; адз.* **ґумо́вец** *м.* Тое, што і ґ у м о́ в і к і. *Грась пасьля дажджу, ня вылясьці, бачыш, у ґумоўцах прыехаць мусіў.* Горкі Стаўб.; *параўн.* польск. gumowiec 'тс'.

**ГУННО́** *н.* Гумно. *Вонь там было старое гунно.* Пудзіцк Пух. *Жыта радзіла, поўнае гунно снапоў накладалі.* Рудня Чэрв.

**ГУНО́РНЫ** *прым.* Тое, што і г а н а р к і́. *Ён зрабіўся занатта гунорным, як прыехаў зь Мінску.* Дукора Пух. *Бач, якая гунорная. Як*

*паехала ў горат, дык і нос задрала.* Бясяды Лаг.

**ГУНСВО́ТКА** *ж. Асудж.* Пляткарка. *Лазіць адно па вёсцы, каб дзе што выведаць, гунсвотка гэта.* Ціханава Слабада Стаўб. *Гунсвотка ты, адно людзей зводзіш, зводніца.* Гілікі Валож.; *параўн.* польск. hunswot < ням. Hundsfott 'тс'.

**ГУНУРО́ВЫ** *прым.* Тое, што і г а н а р к і́. *Хлопцы і дзеўкі папрыбіраюцца і ходзяць чародамі. Найдзя с усяго міру хлопцаў. Весяларазьвесяла было! Да дзевак прыступу няма, гунуровыя такія.* Кукалеўка Чэрв.

**ГУНСПО́Д** *м.* Вешалка ў паліто (у мове старэйшых). *Пальто ў яе прыгожае, а гунспод адарваны, і прышыць забывае.* Маліна́ўка Лаг.

**ГУ́ПАЦЬ** *незак.* Моцна кашляць. *Прастыў крэпка: гупаў усю ноч.* Астравок Уздз.

**ГУ́РА** *ж.* **1.** Гурба. *Гураў панаметала ўчора за ноч, німа як сь сяней выйсьці.* Дукора Пух. *Сьнегу намяло вялікія гуры.* Цялякава Уздз. **2.** Гара. *У нас німа гураў, а ў другіх мястах дак і гуры вялікія, і каменьняў многа.* Рудня Лаг.

**ГУРА́ЛЬ** *м.* Гуцул. *Служыў я ў самых гарах. Прыходзілі да нас у часьць гуралі, дак мне запомніліся іх кажушкі, вышытыя такія.* Баяры Маладз.

**ГУ́РБАЧКА** *ж.* Камячок. *Прывезьлі на кароўнік цэлую машыну мукі, і ўся ў гурбачках.* Літва Стаўб.

**ГУРБЯ́К** *м.* Карак. *Адно дзіця на гурбяку нясе, а двоя на руках.* Дукора Пух.

**ГУРВА́ЛАЧКА** *ж.* Тое, што і г у́ р б а ч к а. *Кіслага малака ўлію ў міску, соды дабаўлю, солі, сыплю муку, балтаю добра, каб гурвалачкаў ні было ў цесьця, а тады пяку.* Калодкі Віл.

**ГУ́РВАЛКА** *ж. Уст.* Драўляны гузік. *Прарэх цяпер зашпільваюць гузікам, а раней зашпільвалі гурвалкай.* Бытча Барыс.

**ГУРГА́Н** *м.* Тое, што і г р у г а́ л. *Гурган — чорная птушка з вялікай глюгай. Большая за варону, зімой заўсёды плодзіцца.* Бясяды Лаг.

**ГУРКО́ЎНІК** *м.* Агурочнік. *Гуркоўнік пасох, гуркоў ні будзе.* Чараўкі Мядз.

**ГУРМІ́ТАР** *м.* Вялікая куча якіх-небудзь рэчаў. *Намыла гурмітар, а прасаваць часу няма.* Ціханава Слабада Стаўб.

**ГУРО́ЧНІК, ГУРЭ́ЧНІК** *м. Зб.* Тое, што і г у р к о́ ў н і к. *Бач, як гурочнік павіўся, аж грады ня відаць.* Нізок Уздз. *У нас ладны гурочнік, але яшчэ ні цвыў.* Бясяды Лаг. *Як гурэчнік харошы, велькі, дык і гурке добрыя растуць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГУСА́РНІК, ГУСЯ́РНІК** *м.* Лёгкія выязныя сані са спінкай. *Брыгадзір у гусарніку езьдзіць зімой.* Літва Стаўб. *Глянь, на гусярніку памчалі нашага доктара некуды.* Папоўцы Віл.

**ГУ́СЕНЬ** *ж.* Вусень. *У гусяні лапаў многа з бакоў. Як увядуцца ў капусту, рады німа іх вывясьці: і дустам сыплям і попялам, а гусяні поўна.* Гілікі Валож.

**ГУСІ́-ГУСІ́** *выкл.* Пазыўныя словы для гусей. *Гусі-гусі, наця есьця. Есьця да расьцеця скарэй, маленькія.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГУСІ́НЫ** *прым.* ○ **Гусіная лапка** *бат.* — гусялапка (Alchemilla L.). *Гусіная лапка ўсюды расьце — і на дарозе і на межах. Ліст у яе да гусінай лапы падобны, увесь зрэзаны.* Саланая Валож. *У гусінай лапцы наразны лісток, цьвіце жоўтымі маленькікі кветачкамі.* Ляшчынск Мядз. **Гусіны жыр** — шмалец. *Гусі дзяржала, парэзала, гусінага жыру будзя на ўсю зіму. У нас гусіны жыр ядуць яшчэ й як!* Паплавы Бярэз.

**ГУ́СКІ**[1] *мн.* **1.** Тое, што і б а б о́ к (у 1 знач.). *Балоты тут у нас, грась, вада. Там гускі, трава такая, растуць на гразі, па два лісткі на корані, сьвіньням даюць. А ў Забодзі кажуць на гускі какошнік, дык мы сьмяёмся зь іх.* Плецівішча Чэрв. *Гускі зьбіраюць, ат іх сьвіня сычаюць.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Тое, што і б у л д а́ ў к а. *А цьвяты тыя гускамі завуцца.* Хутар Чэрв.

**ГУ́СКІ**[2] *звыч. мн. Кулін.* Пячэнне здобнае, якое пякуць на вяселле. *Раней гускі з аржаной мукі пяклі, а цяпер дык тое самае, што і ў магазіне, — панавучваліся людзі ўсё рабіць самі.* Баяры Маладз.

**ГУ́СТАСЛАІ́СТЫ** *прым.* Від драўніны ў залежнасці ад таўшчыні слою. *Густаслаістая — гэта ўжэ крапчэйшая драўніна.* Нізок Уздз.

**ГУ́СТАЦЦА** *незак.* Гушкацца. *Густаўся, густаўся ды зваліўся. Ціпер плача.* Ляшчынск Мядз.

**ГУСТЫ́** *прым.* Насычаны, тлусты. *Густое малако: жыроў многа. Такое малако, як у яе, можна і па трыццаць капеік прадаць.* Бясяды Лаг.

**ГУСТЫ́Ш** *м.* Гушча. *Што ты мне наліла адной юшкі, падлі густышу.* Паплавы Бярэз. *Густая крупень, от і астаўся на дне густыш.* Рудня Чэрв.

**ГУСЦЁЖ** *м.* Гушчар. *Гусьцеш там такі, што за дзеравам і кустамі нічога ні відаць.* Рудня Чэрв.

**ГУСЦЁРАЗНЫ** *прым.* Вельмі густы. *Прыгожая была дзеўка, і косы ў яе гусьцеразныя былі.* Каменка Уздз.

**ГУСЦЁРКА** *ж. Заал.* Рыбка сям. карпавых (Cyprinus vimba). *І гусьцёрка ёсць, праўда, касьцістая рыба, але ловяць.* Мядзел Мядз.; *параўн.* ням. дыял. Güster 'тс'.

**ГУСЦІ́**[1] *незак.* Вельмі шпарка расці, буяць. *Агарот аж гудзе пры вуліцы.* Цялякава Уздз. *Маруська мілая, за каровамі гэтымі сьвету ні бачу, гудзе зелё ў градах, ні магу справіцца з полівам.* Савоні Стаўб.

**ГУСЦІ**[2] *незак.* Тое, што і г у́ к а ц ь. *Сьвіньня ў хлеве гудзе, есьці ні ўзяла, увесь хлеў перавярнула.* Рабунь Віл. *Наша сьвіньня гудзець пяты дзень.* Саланая Валож.

**ГУСЦЯРНЯ́К** *м.* Густы падлесак. *Чаго-чаго, а ягат хватая. Кругом жа лясы. Пойдзіш за рэчку, трохі поля — і лясок. Або з гэтага канца. Вуліца канчаіцца — і адразу гусьцярняк.* Бяларучы Лаг.

**ГУСЬ** *ж.* ◊ **Што з гуся (вада)** — хоць бы што. *Наташа, як ты венік кінула?! Як хвачу гэты венік да камлём атшпару, будзяш ведаць! Цьвічу, цьвічу я цябе, а толку ніякага. Што з гуся.* Валеўка Навагр. *Што ў яго за харакцяр залаты! У нядзелю жонка паедзя, курорт той аш у Львові, на дваццаць чатыры дні пакідая на яго й дзеці, й хазяйство, а зь яго што з гуся вада, адно сьмяецца.* Савоні Стаўб.

**ГУСЬ-ГУСЬ** *выкл.* Тое, што і г у́ с і - г у́ с і. *Гусь-гусь! — так клічуць гусей.* Малмыгі Віл.

**ГУСЯНІ́ЧНЫ** *прым.* Гусенічны. *Наш на гусянічным трактары робіць, а Палікар — на калёсным.* Паплавы Бярэз. *Калёсны трактар ідзе скарэй, чым гусянічны.* Ляшчынск Мядз. *Трактар гусянічны мацней гудзіць, чым калёсны.* Хожава Маладз.

**ГУСЯ́РНІК** *гл.* гуса́рнік

**ГУСЯ́ТНІЦА** *ж.* Работніца па догляду гусей. *У нас ніколі ні было гусей на хермі, і ніхто ні рабіў гусятніцай.* Ляхавічы Дзярж. *Яна робіць гусятніцай многа год, пасылалі на зьлёт гусятніц.* Вялікая Вуса Уздз.

**ГУ́ТА** *ж.* Шклозавод. *Каля могілак гута стаяла, зараз яна разваленая.* Старлыгі Мядз.; *параўн.* польск. huta < ням. Hütte 'тс'.

**ГУТАЛІ́НА** *ж.* Гуталін. *Твае туфлі трэба б ужэ пачысьціць гуталінай, а то рыжыя сталі замест чорных.* Ляшчынск Мядз.

**ГУ́ТАЛКА** *ж.* Гушкалка, арэлі. *Дзеці на гуталках гутаюцца.* Язні Віл.

**ГУ́ТАНКА** *ж.* Тое, што і г у́ т а л к а. *Зрабілі гутанку на вярбе і ўвесь дзень гутаюцца.* Грыцкаўшчына Валож.

**ГУ́ТАРКА** *ж.* Парада. *Ай, абыдуся я без вашых гутарак.* Літва Стаўб.

**ГУ́ТАРЫЦЬ** і **ГУТА́РЫЦЬ** *незак.* Гаварыць. *Я яму гу́тару і гу́тару, каб нявестку шукаў: маці старая, а ён сьмяецца зь мяне.* Забалоцце Смал. *Як сабяруцца, дык гута́раць да пеўняў.* Малмыгі Віл.

**ГУТАТА́ЛКА** *ж.* Тое, што і г у́ т а л к а. *Глядзі, кап гутаталка ні адарвалася, бо ўпадзе малая ды разаб'еццa.* Ляхі Нясв.

**ГУ́ТАЦЦА** *незак.* Гушкацца. *Дзеці пабеглі гутацца.* Грыцкаўшчына Валож.

**ГУ́ШТАЛКА** *ж.* Тое, што і г у́ т а л к а. *Гэта ж мае дзеці цэлы дзень плюхаюцца ў вадзе або на гушталцы прападаюць.* Лысавічы Мін. *Цэлы дзень гуштаюцца на гушталцы і ніякага дзела ім німа.* Баяры Маладз.

**ГУШЧЭ́Р** *м.* Гушчына, густы лес, зараснік. *Такі ўжо гушчэр, што вуш не пралезя.* Дукора Пух.

**ГЫ́ЛЯ** *выкл.* Слова, якім адганяюць гусей. *Гыля, нягоднік! Ня трыся тут, не ганяй малых. Хай маленькія ўхопяць, ім расьці трэба.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГЭ́ДАКІ** *займ.* Гэтакі. *Во гэдакі вялічынёй.* Дукора Пух. *Гэдакі самы, як і бацька.* Цялякава Уздз.

**ГЭ́ДАСНЫ** *прым.* Гэтакі, такі. *Гэта твой хлопец гэдасны вялікі ўжо?!* Рубяжэвічы Стаўб.

**ГЭ́ДАК, ГЭ́ДЫК** *прысл.* Так, гэтак. *Я табе скажу, кабеціна, што гэдак ні трэба рабіць.* Цялякава Уздз. *Уперат дзяўчаты насілі воду, ды ні ў ведрах, а ў гляку, паставіць гэдык харашынька на плячо ды ідзе.* Падзерычы Стаўб.

**ГЭ́ДУЛЬКІ, ГЭ́ТУЛЬКІ** *прысл.* Столькі. *Гэтулькі сама было.* Вялікая Вуса Уздз. *Мы гэтулькі ні пажывом.* Цялякава Уздз. *А-я-яй, дзе яна і брала гэдулькі вазоў гною!* Халмоўка Барыс.

**ГЭ́ЙСЯ** *займ.* Гэта. *На́, гэйсю хустку надзень, а ў мяне другая ёсіка.* Мацькаўцы Віл.

**ГЭЛЬЦ** *выкл.* Скок. *Толькі я падыходжу к хаце, а тут сабака нечы, як цяля, гэльц на мяне!* Літва Стаўб.

**ГЭ́ЛЬЦНУЦЬ** *зак.* Тое, што і г а л ь ц а н у́ ц ь. *Божа мой, як я спалохалася! Іду вечарам, а сабака як гэльцня на мяне!* Літва Стаўб.

**ГЭ́МКА** *ж.* Мясцовы сорт бульбы. *Гэмка вельмі смачная бульба, у ёй крухмалу шмат.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ГЭ́НАКІ** *займ.* Гэтакі. *Цяпер жа вот усё польты — і такоя і гэнакая, а тады польты мало хто знаў.* Вязынка Маладз. *— Чаго ён па какарузе швэндаяцца з руж'ём? — Варон жа паставілі ганяць. — Гэнакага вірлавокага і без руж'я варона спудзіцца.* Суднікі Валож.

**ГЭ́НАМ** *прысл.* Там, далей. *Гэнам гусі надаечы хадзілі, дык унучак натта ш баяўся адзін ісьці, дзяшку бацькаву браў.* Брылькі Валож. *Гэнам садзік у нас, і вішні ёсьціка.* Граніčы Маладз.

**ГЭ́НДЗЕ** *прысл.* Вунь там. *Сядзь, дачка, пісаць гэндзя, на тое крэсла, там сьвятлей, — ніпамысная і ваша работа: і дзяцей вучы, і да старых прыходзь.* Яцыны Мядз.

**ГЭ́НУДЫ** *прысл.* Туды. *Дзе гэта Юзік? Няўжо гэнуды пайшоў?* Мацькаўшчына Віл.

**ГЭ́НЦВОД** *м.* Вешалка. *Ськінь з гэнцвода сукенку маю.* Палессе Мядз.

**ГЭ́НЫ** *займ.* Той. *Вы падыйдзіце да гэнага дзеда, дык ён вам нагаворыць.* Завішына Лаг. *Надаеў гэны хлопец мне: толькі ўзад-упярод па вуліцы шастае.* Юшкаўка Віл. *Жаніх хварэў доўга, а паправіўшыся, паехаў да другой,*

*багацейшай, і з гэнай ажаніўся.* Суднікі Валож.

**ГЭ́САЛЬ** *м. Зневаж.* Прайдзісвет. *Гэны гэсаль па ўсім сьвеці знаёмых мае.* Каменка Уздз.

**ГЭ́СТЫ** *займ.* Гэты. *З гэстым мужыком было двое дзяцей, а с тым васьмёра.* Ігрушка Круп.

**ГЭТАГО́ДНІ** *прым.* Сяголетні. *Гэтагоднё кабана ні калола, у яе даўленё крыві, ні можно есьці скораму.* Савоні Стаўб.

**ГЭ́ТАЗНЫ** *займ.* Гэтакі. *Сама яна гэтазная шырокая.* Дукора Пух.

**ГЭТАРО́ЧНІ** *прым.* Тое, што і гэтаго́дні. *Жыру яшчэ прашлагодняго ест і гэтарошняга ест, а ўкусны, маласольны.* Савоні Стаўб.

**ГЭ́ТТА** *прысл.* Тут. *Гэтта некалі хата стаяла.* Пількаўшчына Мядз. *Тушы і гэтта агонь.* Цялякава Уздз.

**ГЭ́ТТАКА** *прысл.* Тут. *Гэттака некалі пуня вялікая стаяла, але згарэла.* Зарэчча Смал.

**ГЭ́ЦА** *ж.* Камедыя. *Сёньня ў клубе, кажуць, гэца добрая.* Жызнава Віл.

# Д

**ДА** *прыназ. з родн.* **1.** Выражае прасторавыя адносіны і ўжываецца пры абазначэнні прадмета, у напрамку якога адбываецца рух. **У.** *Сабралася ехаць да Мінска.* Калініна Дзярж. **2.** Выражае аб'ектныя адносіны і ўжываецца пры абазначэнні адпаведнасці з чым-н. **Па.** *Я хачу пашыць плацьця да стану [па фігуры].* Цялякава Уздз. **3.** *прыназ. з він.* Выражае прасторавыя адносіны і ўжываецца пры абазначэнні сферы дзейнасці як месца, у бок якога накіраваны рух. **На.** *Стараяцца, бегая, шыкуяцца — гэта ўжэ пойдзя да імянін.* Калініна Дзярж.

**ДААБЕ́ДДЗЕ** *н.* Час ад адзінаццаці гадзін да абеду. *Заўтра ў даабедзьдзе дзерава пілаваць буду.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДАБАВІ́ЦЦА** *зак.* Дабрацца. *Як жа мне на Узду дабавіцца з малым дзіцям?* Вялікая Вуса Уздз.

**ДАБІ́РКІ** *толькі мн.* Заканчэнне ўборкі лёну. *У нас дабіркі, кончылі лён убіраць. Дабіркі гэта завуць.* Ігрушка Круп.

**ДАБІ́ТНЫ** *прым.* Настойлівы ў дасягненні мэты. *У іхнім родзі ўсе дабітныя. Гэты дык аш да мінісьцерства дапяў, але свайго дабіўся.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДАБЛУ́КАЦЦА** *зак.* Прыблукаць. *Блукаўся ён цэлую ноч да раніцы, пака ён да свайго берагу даблукаўся.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**ДАБО́І** *толькі мн.* Збітая, збэрсаная скацінай трава. *Косіш, косіш, а анны дабоі. У іх дэк уся трава добрая, а ў нас... адны дабоі, кароўмі спасьвілі.* Пудзіцк Пух.

**ДАБРААХВО́ЧЫ** *прым.* Памяркоўны, чулы. *Ён чалавек дабраахвочы, папрасі, кап памох, дак паможа.* Цялякава Уздз.

**ДАБРАВА́ТА** *прысл.* Моцна-такі, парадкам. *Ехала я рас да дачкі ў госьці на аўтобусе, ікрас маё было пярэдняя сядзеньня, і дабравата задрамала.* Станькі Віл.

**ДАБРАВІ́ТЫ** *прым.* Тое, што і дабраахво́чы. *А ён чалавек дабравіты, што ні папрасі — усё зробіць.* Хожава Маладз.

**ДАБРАДЗЕ́ЦЕЛЬ** *м.* Дабрадзей, дабрачынец. *Брыгадзір — дабрадзецель гасударства, усё для саўхоза стараіцца.* Паплавы Бярэз.; *параўн.* рус. добродетель 'тс'.

**ДАБРАДЗЕ́ЦЕЛЬНЫ** *прым.* Дабрачынны. *Сусетка ў мяне ёсць, такая дабрадзецельная кабеціна.* Рабунь Віл.

**ДАБРА́К** *м.* Тое, што і бараві́к бара-вы́. *Пайдуць дажджы, дык будзем дабракі зьбіраць і сушыць. У нашым лесі дабракоў многа, як пад гот, хоць касою касі.* Рудня Чэрв.

**ДАБРА́ЦЬ** *зак. Паляўн.* Увабраць, дагнаўшы. *Насьціг зьвера — значыць, дабраў.* Паплавы Бярэз.

**ДАБРО́** *н.* **1.** Агульная назва хлебных злакаў; збажына. *Падробімся, тады браліся за дабро. Восець была пры таку, дык дабро адразу ш сушылі ў восяці, а тады яго пераносілі ў ток.* Мацкі Мядз. *Бывала, пякуць с хлеба буханачкі, называецца абеньня. Выкраіваюць кружочак зьверху, сыплюць соль, ідуць да дабра! Гэта на Юр'я так рабілі. Да Юр'я хаваюць костачкі сьвянцоныя, ідуць з гэнымі костачкамі да свайго дабра, утыкаюць іх на сваім полі. Ета, кап крот ня рыў, жаба там якая.* Бяларучы Лаг. **2.** Збожжа. *Сын робіць на трактары, многа зарабляя дабра, грошай.* Бяларучы Лаг. *Як пачнуць дабро звозіць, здэцца, дзе яго і дзяваць столькі. А змалоціш тое дабро, пакінеш на пасеў, дык і маленька застаецца.* Бясяды Лаг.

**ДАБРЭ́ННЫ** *прым.* Вельмі добры. *Такі дабрэнны чалавек, што не палічыўся ш часам, прышоў памох.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДАБЫ́ЦЬ** *зак.* Дастаць, раздабыць у выніку пошукаў, намаганняў. *Пака дзе чаго дабудзіш паесьці, так прыхадзілась быць галоднымі па двоя, троя сутак.* Вяляцічы Барыс.

**ДАВАНАБО́ЖНІ** *прым.* Богам дадзены. *Мы ляжым, ляжым, і жана мая пашла даванабожняя, рукі зложыўшы, пад бой, забілі жану маю, і таварыша жану забілі.* Сваткі Мядз.

**ДАВА́ЦЬ** *незак.* ◊ **Даваць ганьбу каму-н.** — грэбаваць кім, не лічыцца з кім. *Нявестка мая колькі жыла, столькі мне ганьбу давала: і есьці варыць добра ня ўмею, і ў хаце прыбраць.* Ігрушка Круп. **Дава́ць на за́паведзь** —

афіцыйна праз царкву абвясціць аб шлюбе. *Дагаварыліся тады з бацькам на запаведзь даваць у Валожынь.* Саланая Валож. **Дава́ць пата́чку** — паслабляць патрабаванне. *Мая ўнучка троха падленьвалася, давалі ёй патачку, бо хворая, нерўная некая, але школу закончыла.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Дава́ць трапака́** — танцаваць. *Я ў маладосьці добра давала трапака, любіла патанцаваць.* Пудзіцк Пух. **Дава́ць у пе́р'е** — біцца. *Прышоў ён дадому, а жонка сьпіць. Ён хацеў праз акно ўлесьці, атшчапіў, лезя. А стаялі начоўкі бляшаныя, ён тыя начоўкі абярнуў, нарабіў грукату. Прачнулася жонка. А ён тады давай даваць у пер'я, чаму паставіла.* Валеўка Наваґр. **Не даваць во́длагу** — надакучаць (роспытамі, частымі пытаннямі і г. д.). *Ні дае водлагу Сьцяпанаўне, замучыла пытаньнямі: а чаму? а што? А такая хітрая дзевачка, як прафесарка.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДАВЕ́ДАННЕ** *н.* Даведка; дакумент, атрыманы ў адказ на запытанне. *Даведаньне атрымала сусетка, што мужык Германію браў, цяпер грошы за яго палучая.* Бытча Барыс.

**ДАВЕ́ДКІ** *толькі мн.* Адведкі, водведы. *Пляменьніца прывяла сына, а я ўсё ня выберуся ў даветкі схадзіць, адведаць.* Савоні Стаўб. *Гэта ж нявестка на днях радзіла, то трэба нек схадзіць на даветкі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДАВЕ́СЦІ** *зак.* ◊ **Даве́сці да по́следку** — закончыць, завяршыць. *У яго ніколі ні хапая цярпеньня давесьці працу да посьлятку.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДАВЯРО́НЫ** *прым.* Сапраўдны. *Я ш вам кажу, што гэта даўярона праўда.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДАГАВА́РЫВАЦЦА** *незак.* Дамаўляцца. *Панаравілась бацьком нявеста, ане дагаварываюцца. Папілі барышы, патом дагаварываюцца, калі свадзьба будзе.* Зачысце Барыс. *Сталі дагаварывацца, калі будзе свадзьба, што і як.* Суднікі Валож.

**ДАГАНЯ́ЦЬ** *зак.* Сцерці (бульбіну). *Салдат, панімаяця, сеў і давай ганяць [шоргаць па тарцы]. А картошка мокрая. Як даганяў жа [бульбіну да канца], як шарахнуў па пальцах, — кроў.* Мікольцы Мядз.

**ДАГАНЯ́ЮЧЫ** *дзеепрысл. да* даганяць. *Даганяючы не нацалуесься.* Цялякава Уздз.

**ДАГЛЕ́ДЗЕЦЦА** *зак.* Падхадзіцца, дагледзець па гаспадарцы. *Прыехаў да сястры сын сь Сібіры ж жонкай. Дагледжуся, пабягу паглядзець.* Баяры Маладз.

**ДАГЛЁД** *м.* Догляд, нагляд. *Як прыехала з гасьцей [была ў дачкі], люццы мае мілыя! Ніякага даглёду нідзе: куры ў гародзе, а той агарот зарос, ні відаць дзе што.* Баяры Маладз.

**ДАГЛЯДА́ЦЦА** *незак.* Падходжвацца па гаспадарцы, каля дому. *Мае дзеткі, німа мне часу, трэбы ж яшчэ даглядацца ісьці.* Бясяды Лаг.

**ДАДБА́ЦЬ** *зак.* Прыдбаць, набыць. *І ён пайшоў, каб дзецям хлеба, солі дадбаць.* Пудзіцк Пух.

**ДАДУ́МАЦЦА** *зак.* Падумаўшы, успомніць. *Адаля я дадумалася, дзе палажыла грошы, палядзела — і праўда ляжаць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДАДУ́ЦЬ** *зак. Экспр.* Здагадацца, прыйсці да вываду. *І толькі тады я дадула, што гэта быў Іван.* Грыцкаўшчына Валож. *Я б і сама дадула, што зрабіць, калі б не спалохалася.* Баравая Пух.

**ДАЕ́СЦІСЯ** *зак.* Жуючы, грызучы, дайсці да пэўнай прыметы. *А ведзьма прышла й стала есьці дачку. Ела, ела й даелася, што на пальцы кальцо. Іна пра ўсё й здагадалася.* Малое Стахава Барыс.

**ДА́ЖА, ДА́ЙЖА** *часц.* Нават. *Дажа ў мяне фатакартачка ест.* Дукора Пух. *Дажа дзяцей і тых пазабіралі.* Пудзіцк Пух. *У такі дзень добрыя людзі дайжа сабаку не выпускаюць на вуліцу, а не толькі чалавека.* Гумны Круп.

**ДАЖДЖУ́ЙКІ** *толькі мн.* Кароткія гумавыя боты на гразь. *Даждҗуйкі абувай на балота і на дошч.* Баркоўшчына Мядз.

**ДАЖЫДА́ЦЬ** *незак.* Чакаць. *Доўга поезда дажыдалі, таму і прыехалі так позна.* Забалоцце Смал.

**ДАЖЫ́ЦЬ** *зак.* ◊ **Дажыць да сівых валасоў** — пастарэць. *Дажыў да сівых валасоў, а не паразумнеў.* Цялякава Уздз.

**ДАІ́ЦЬ** *незак.* Бессаромна вымагаць, жывіцца за чый кошт. *Натта ты мілась‌лівая. Ні трэба быць гэдакуй міласьлівуй. Ты робіш, а яны гульма гуляюць і дояць цябе.* Цялякава Уздз.

**ДА́ЙЖА** *гл.* да́жа

**ДАЙНІ́ЧКА** *ж. Памянш.* Дайніца. *Ціпер адна карова вядро малака дае, залівающца людзі малаком, а калісьці тры падоіш у адну дайнічку, с трох дайнічку ніпоўную надоіш.* Жацерава Стаўб.

**ДАЙСЦІ́** *зак.* **1.** Дазнацца, выпытаць. *У яе нічога ні дойдзяш.* Дукора Пух. **2.** Памерці. *Яны, мусіць, баяліся, каб я ні дайшла.* Цялякава Уздз. ◊ **Дайці да ро́зуму** — паразумнець, набрацца розуму, набыць вопыт. *А во цяпер Расія! Няхай ніхто ня думаіць, кап эта каму хлынуць. Не! Дайшлі ўжо, знаяш, да розуму. Цехніка — буць здароў! Аружыя нівіданая, і ні знаяш таго аружыя, якое яно ёсь.* Мікольцы Мядз.

**ДАК** *часц.* Дык. *Дак я была ў іх у хаця. Чыстата, парадак.* Зазерка Пух.

**ДАКІВА́ЦЦА** *зак. Экспр.* Дажыць. *Вось мы і да пеньсіі даківаліся.* Пудзіцк Пух.

**ДАКЛІ́КАЦЦА** *зак.* Дагукацца. *Клікаў,*

*клікаў, ні даклікаўся: яна раней павізла ржышча.* Залазоўе Віл.

**ДАКЛЯРАВА́ЦЬ** *зак.* і *незак.* Даць (даваць) абяцанне. *Мне дакляравалі круп змалоць у вашам млыне.* Забрэжжа Валож.; *параўн.* польск. deklarować 'тс'.

**ДАКО́СКІ** *толькі мн. Абрад.* Завяршэнне касьбы. *А на дакоскі мы зложымся па рублю, а бабаў болій ні пазавём, каб яны языкамі ні брахалі па сялу.* Бяларучы Лаг. *Дакосак цяпер ні робяць, а як усё зьбяруць с поля, тады сьвяткуюць за ўсё разам.* Нізок Уздз.

**ДАКТО́РКА** *ж.* Жанчына-ўрач. *Людзі сабраўшыся былі. Як прывезьлі яго дамоў, то там быў цэлы ужас, на гэтым пахаваньні, дажа дакторку прывезьлі! так млелі людзі.* Сівіца Валож. *Дзе мы жылі раней, там харашо было. І дакторка на месьце была, лячыла нас, старых.* Баяры Маладз. *А як дзеўкі хораша ходзяць! Плацьці модныя, без рукаў і каўняроў носяць, ну такія, як наша дакторка.* Хожава Маладз.

**ДАКУ́МЕНТЫ** *толькі мн.* Асабістыя дакументы (пашпарт, пасведчанне аб нараджэнні і іншыя пісьмовыя паперы афіцыйнага характару). *Згубіў хлопец дакументы і цяпер не можа ўстроіцца на работу.* Дрычын Пух.

**ДАКУЧНО́** *прысл.* Дакучліва. *Як я яе [костачку] замяльнула, і ні пашла яна мне, застрагла ў горлі. І так мне дакучно было ўсю ноч, сь сьветам прашчаюся.* Савоні Стаўб.

**ДАЛАВА́ЦЬ** *незак.* Саджаць у зямлю. *Далуюць дрэўкі восеньню на зіму.* Такарышкі Смарг.

**ДАЛАДО́Н** *м.* Балбатун, пустазвон, пустамалот. *Аж галава стала балець ад яго гутаркі, ото даладон! Але ш на сякунду ні сьціхня — меля й меля!* Краснае Маладз.

**ДАЛАНЯ́** і **ДАЛО́НЯ** *ж.* Далонь. *Маленькая, хоць на даланю пасадзі.* Хожава Маладз. *Сала дак на маю далоню.* Дукора Пух.

**ДАЛАТО́** *н. Цясл.* Долата. *Такоя цьвёрдая дзерава, што далато не бярэ.* Вецярэвічы Пух.

**ДАЛЁЗНА** *прысл.* Вельмі далёка. *Далёзна было відаць.* Вецярэвічы Пух. *Мы ў грыбы рэтка калі ходзім, бо да лесу далёзна.* Дукора Пух.

**ДА́ЛІ** *прысл.* На пэўную адлегласць. *Атайдзі трохі далі, а так мне нічога ні відаць.* Каменка Уздз.

**ДАЛІПА́Н** *выкл. Уст.* Ужываецца з мэтай пацвердзіць праўдзівасць таго, аб чым гаворыцца; сапраўды, слова даю. *Даліпан было гэтак, як я кажу, я пісаў жа табе пра гэта.* Дубраўка Круп.; *параўн.* польск.dalipan 'тс'.

**ДА́ЛЬШЫ** *прым.* Больш далёкі (пра радство). *На вясельля пасклікалі ўвесь рот — і блішшых і дальшых сваякоў.* Дукора Пух.

**ДАЛЯ́Р** і **ДО́ЛЯР** *м.* Долар. *Паслалі яны тады зноў пісьмо да брата ў Амэрыку, і ён прыслаў ім тых даляраў.* Баяры Маладз. *Якоё тоё састаянё было, я ўжо ні помню [гэто шчэ ні за маёй бытнасцю было], досыць таго, што многа, казалі, доляраў палучыў гэты ўжо брат.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. dolar з англ. dollar 'тс'.

**ДАМАВІ́К** *м. Пчал.* Рамачны вулей. *У нас толькі дамавікі, другіх вульляў няма.* Ляшчынск Мядз.

**ДАМАЛО́ТКІ** *толькі мн.* Завяршэнне малацьбы. *Маладзьбу скончылі, будзям гуляць дамалоткі.* Вецярэвічы Пух.

**ДАМАТУ́РА** *м.* Разумова адсталы чалавек. *Ён жа такі даматура, хоць што гавары, сьмяецца.* Гілікі Валож.

**ДАМО́Ў І́СЦІ** *перыфр.* Паміраць. *Пражыў цяшкае, дажыў да лёхкага, але няма калі жыць, дамоў трэба йсьці.* Цялякава Уздз.

**ДАМО́ЎКІ** *прысл.* Дамоў, у сваю хату. *Пойдзем дамоўкі, а то ўжо позна.* Пудзіцк Пух.

**ДАМО́ЎКУ** *прысл.* Тое, што і дамо́ўкі. *А як ужо вайна была, у лесі сядзелі, баяліся дамоўку прысьці — фашыст паліў, біў, душыў, хаткі нашы пёк.* Ганцавічы Барыс.

**ДАНІМА́ЦЬ** *незак.* Не даваць спакою. *І нашто вам хадзіць, дапытывацца, людзей данімаць, лепш у ягады схадзіця — і вам добра, і людзям спакойна.* Бяларучы Лаг.

**ДАНО́СКІ** *толькі мн.* Абноскі. *Меншы дык у даносках бегая, ніяк не зьбяромся лепшая прыдбаць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДАНО́СЛІВЫ** *прым.* Чутны здалёк. *Як даносьлівы голас у сабакі, то ён далёка чуваць.* Забалоцце Смал.

**ДАНО́СЧЫВАСЦЬ** *ж.* Здольнасць сабакі голасна аблайваць звера. *Даношчывасьцю абладае кожны сабака. Калі ўбачыць звера, будзе даносіць голас ахотніку.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДАНО́СЧЫВЫ** *прым.* Тое, што і дано́слівы. *У Бабра нашага даносчывы голас. Калі воўка ці рысь убачыць, будзе выць, калі што іншае, дык па-другому.* Бясяды Лаг.

**ДАПАГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Патрабаваць настойліва, вымагаць. *Па адной чарцы выпілі, па другой, ну, й пасагу давай дапаганяць.* Альсевічы Мядз.

**ДАПАРО́ЦЦА** *зак. Экспр.* Дабудзіцца. *Раней,бывала, нагуляцца, прыбяжыць позна, не разьбіраючы лошка зваліцца, ды сьпіць, а раніцой тады не дапароцца.* Баяры Маладз.

**ДАПА́ШКІ** *толькі мн. Абрад.* Святкаванне заканчэння асенняй сяўбы. *Не, дабіркі — гэта калі лён кончым, а заканчэньне асеньняй сяўбы дапашкамі завуць.* Ігрушка Круп.

**ДАПІЛЬНАВА́ЦЬ** *зак.* Дачакацца, дачакацца. *Сусетка, а я маладых дапільнавала-такі. Гэткая тонінькая, худая-худая. Матка зь ёю прыехала, а больш нікога.* Арцюхі Стаўб.

**ДАПНУ́ЦЦА** *зак.* Дабрацца. *Да месца да-*

*пнуліся толькі ўвечары.* Узгурск Чэрв.

**ДАПРО́С** *м.* Допыт. *За зьвязь с партызанамі мяне арыставалі, пасадзілі ў цюрму, вадзілі на дапрос. Первы рас павялі на дапрос, ня білі, а другі рас павялі на дапрос, паклалі наган, паклалі плётку, паставілі стул выпуклы.* Ухвала Круп.; *параўн.* рус. допрос 'тс'.

**ДАПУ́ТНЫ** *прым.* Жвавы, дасціпны. *Сірата тая была вельмі дапутная дзеўка ў рабоце, але шчасьця ня мела: выдалі за пажылога, нялюбага.* Баяры Маладз.

**ДАПЭ́ЎНІЦЦА** *зак.* Даведацца, дазнацца. *А ты вельмі цікаўная, аб усім хочаш дапэўніцца.* Грыцкаўшчына Валож.

**ДАПЯ́ЦЬ** *зак.* Дайсці, трапіць куды-н. *Я й ні думаў, калі гаварыў, а ён усё ж дапяў на гэты канцэрт.* Пагост Віл.

**ДАРАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Выраблядь, вытвараць. *Дзеці цяпер што толькі ні дарабляюць: то агонь раскладуць, то яшчэ што выкінуць.* Кухцічы Уздз.

**ДАРАГУ́СЯ** *ж.* Дарагая (пры звароце). *— Здарова, кума! Што чуваць, дарагуся? — Франак прыехаў.* Порычы Валож.

**ДАРАЖНІ́К** і **ДО́РАЖНІК** *м.* Тое, што і выгарадзь. *Усё лета наша худоба не ў хляве стаяла, а ў даражніку.* Ганчары Валож. *Доражнік, ці яшчэ загарода называюць, каля будынка адгароджаны.* Рудня Чэрв.

**ДАРАЖЫНЯ́** *ж.* Дарагоўля. *У тыя часы такая даражыня на ўсё была, асабліва на соль, сьпічкі і папяросы.* Узгурск Чэрв.

**ДАРАНДЖА́ЦЬ** *незак.* Надакучаць, турбаваць. *Як заходзіцца, то даранджае ўсім, не дае спакою нікому, хоць с хаты бяжы.* Кураней Віл.

**ДАРАШАВА́ТЫ** *прым.* Сівавата-рыжы. *Дарашаваты конь, калі шэрсьць ні то белая і як бы рыжая, сь цёмнай або чорнай грывай і хвастом.* Саланая Валож.

**ДАРЖНІ́К** і **ДО́РЖНІК** *м.* **1.** Агароджанае месца ў полі для жывёлы. *Пагонім кароў цераз горку і загонім у даржнік, хай стаяць.* Бяпаручы Лаг. *Удзень у даржнік заганяюць на оддых, ноччу коні стаяць каля хлева.* Дукора Пух. **2.** Тое, што і выгарадзь. *Летам сьвіньні нашы ў доржніку трымаюцца.* Свеpанава Стаўб. *К сьвяту трэба доржнік апратаць: гной выкідаць, паправіць весьнічкі, бо ўжо ш карова сь целім выходзяць на падворчык.* Межава Чэрв.

**ДАРМА́, ДАРМО́** *прысл.* **1.** Добра, нядрэнна, няблага. *— Ну, як крэпісься? — Яшчэ дарма!* Пудзіцк Пух. *Наш стары ўжо дармо сябе адчувая, а то такі быў, лець хадзіў.* Суцін Пух. **2.** Дарэмна, беспадстаўна. *Дармо ты так думаеш, ён чалавек добры.* Вялікая Вуса Уздз. **3.** Марна, бескарысна. *Дармо паўставалі з раніцы — дошч такі ўлупіў, ні выйсьці.* Вялікая Вуса Уздз. **4.** *у знач. вык.* Неблагі, нядрэнны, нішто сабе. *Хлопцы яны дармо, вельмі паслухмяныя.* Каменка Уздз.

**ДАРМАВА́ТА** *прысл.* Скупавата. *Троха дармавата было ў нас зямлі, але ж неяк і выжылі, абышліся.* Пудзіцк Пух.

**ДАРМАЎШЧЫ́НА** *ж.* Дарэмшчына. *Прывык ты, хлопец, на дармаўшчыну выязджаць.* Клетнае Барыс.

**ДАРМО́** *гл.* дарма́

**ДАРО́ГА** *ж. Цясл.* Развод (у піле). *У нашай піле дарога шырокая, мусіць, не сьпілуем таго дуба.* Пагарэлец Пух. ◊ **Дарогу забыць** — не хадзіць, не паказвацца. *Я сёння была на дабаўках [сотках], жуку німнога. Далі дзеду заданьня, каб заўтра вас усіх траіх на жука паслаў, а то людзі травяць, а мы й дарогу забылі.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Чаго гэто ты й дарогу забыўсё да нас? Бывало, ні вылазіў с хаты, а то ўжо з год мо ні быў?* Жацерава Стаўб.

**ДАРО́ЎЛІВАЦЬ** *незак.* Даравяць. *Такая крадзёш, я ведаю, хто мяне абакраў, але я дароўліваю.* Ляшчынск Мядз.

**ДАРЭ́ЗКІ** *толькі мн.* Дадатковыя нарэзы да прысядзібных участкаў калгасніка. *У нас сядзіба — сорак сотак: агарод дваццаць восім і дарэскі на полі даразаюць па дванаццаць сотак. Што на полі даразаюць, гэтыя дарэскі называюць соткі, там толькі бульбу садзяць.* Нізок Уздз.

**ДАРЭ́МНЯ** *прысл.* **1.** Тое, што і дарма́ (у 2 знач.). *Цётка, вы дарэмня гэта, ні яна падвяла вас аграному.* Цялякава Уздз. **2.** Дарэмна, без аплаты. *Ніхто ні хоча дарэмна рабіць.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. daremnie 'задарма'.

**ДАСА́ДНЫ** *прым.* Дакучны, надаедлівы. *Вот ён дасадны, хоць з дому ідзі.* Турэц Чэрв.

**ДАСВЕ́ТАК** *м.* Досвітак. *Учора ўстала на дасьветку.* Вецярэвічы Пух.

**ДАСВЕ́ЦЦЕ** *н.* Тое, што і дасве́так. *На дасьвецьці ўстала, прабегла ў лес.* Вязынка Маладз.

**ДАСКА́** *ж.* Дошка. *Памыць нада лаву, даска закаравілася, неік сесьць.* Паплавы Бярэз. ◊ **Да грабавой дaскі** — да смерці. *Сказала дзівярам і залоўкам, што буду тут, што прывёс [муш], пасадзіў, і буду тут да грабавой даскі жыць.* Бубны Віл.

**ДАСКО́ВЫ** *прым.* Дашчаны. *Зямляны мост я ўжо ня помню, у нас дасковы мост ва ўсіх.* Паплавы Бярэз.

**ДАСТАВА́ЦЬ** *незак.* Атрымліваць. *У калхозі зьвіньнявой многа гадоў рабіла, прэміі ні рас даставала.* Палессе Мядз.

**ДАСТА́ТЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* дастаць. *Што ш то такоё з нашым радзівам?! Бывая што дошч, дак трашчыць, але гаворыць, а гэто ні гаворыць. Можа, падзяменё дастато, па-*

*глядзі. Яно ў яшчыку таком, можа дастатаё, дак тады ні гаворыць.* Савоні Стаўб.

**ДАСТА́ЦЬ** *зак.* **1.** Атрымаць. *Я сёньня пісьмо ат сына дастала, рада, што ён паправіўся.* Пагост Віл. **2.** Тое, што і дабра́ць. *Ні кожны сабака лёхка зьвера дастаня.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДАСТРО́ІЦЬ** *зак.* Закончыць будаўніцтва, давесці да канца. *У нас да гэтага часу сьвіронка ні было, у тым годзі дастроілі.* Літва Стаўб.

**ДАСТРЭ́НЧНЫ** *прым.* Дасціпны, спрытны; пранырлівы. *А я ш была такая крутая, дастрэнчная, ніхто ш гэтак ня пойдзіць па васолах, як я.* Залазоўе Віл.

**ДАСЦІ́ПНЫ** *прым.* Тое, што і дастрэ́нчны. *Ат сусеткі ніякай жызьні няма. Кажа, што яна дасьціпная: мужыка давяла да таго, што з дому сышоў, не мог ужыцца.* Бясяды Лаг.

**ДАТО́ЧКА** *ж.* Падточаная частка знізу падола. *Зраблю даточку ў спадніцы і можна будзе 'шчэ надзяваць.* Саланая Валож. *Прышыю даточку, а то кароткая сукенка.* Брылькі Валож.

**ДАТЫКА́ЛЬНІК** *м. Ткац.* Канцы асновы разам з кавалкам палатна, якое застаецца пасля датыкання красён. *Адрэзала доўгі датыкальнік.* Дукора Пух.

**ДАЎБЁШКА** *ж.* **1.** Доўбня, даўбня. *Мой бацька ні коля сьвіней, а б'е даўбешкаю.* Каменка Уздз. **2.** *перан., пагард.* Неразумны, някемлівы чалавек. *Меньціць языком што папала, даўбешка гэта дурная.* Дукора Пух.

**ДАЎБІ́НА** *ж. Зневаж.* Высокі і худы (пра чалавека). *Сястра мая худая была, дык усе казалі: „Вот даўбіна".* Бясяды Лаг.

**ДАЎБНЯ́К** *м. Пчал.* Калодачны вулей. *Даўней ні рабілі вульлёў, а былі толькі калоды, іх яшчэ звалі даўбнякі, бо зь дзерава выдзёўбывалі.* Дукора Пух.

**ДАЎГАЛЫГІНА** *м. Экспр.* Пра худога даўганогага чалавека. *І сёньня ня вышаў на работу гэты даўгалыгіна.* Язні Віл.

**ДАЎГА́ЛЬ** *м.* Тое, што і даўгалы́гіна. *Высокі чалавек, дык мы і завом даўгаль.* Вецярэвічы Пух.

**ДАЎЖНІ́К** *м.* Вузкая прадаўгаватая дошчачка, якой закрываюць адтуліну ў калодачным вулеі. *Даўжнік ест, дошчачка такая прыкрываець вулей збоку.* Пруды Стаўб.

**ДАЎЖЭ́ЙШЫ** *прым.* Высшы (ростам). *Даўжэйшы гэты хлопяц за ўсіх вас.* Дукора Пух.

**ДАЎЖЭ́Р** *ж.* Даўжыня. *Гэдакая даўжэр, як вокам скінуць.* Цялякава Уздз.

**ДАЎЛЁННЕ** *н.* Павышэнне ціску. *Ад даўленьня п'юць каліну, уколы даюць.* Нізок Уздз. *І ў мяне трохі там даўленё ест, невялікаё, але ест.* Савоні Стаўб.

**ДАЎЛО́СУ** *прысл.* Без галаўнога ўбору. *Яны ходзяць даўлосу летам, хусток ні носяць.* Цялякава Уздз.

**ДАЎМІ́ЦЦА** *зак.* Дадумацца, прыйсці да думкі, вываду. *Даўмілася такою халадзінаю бес пальта выпраўляць.* Лысавічы Мін.

**ДА́ЎНА** *прысл.* Раней, некалі, у мінулым. *Я саўсім ніграматная: даўна школ ні было.* Восава Круп. *Даўна ш вінчаліся. Сабраліся дзеўкі і хлопцы і пайшлі глядзець маладых.* Ігрушка Круп. *Даўна было ні так, як цяпер, што не трэба ні прасьці, ні ткаць.* Палессе Мядз. *Даўна жылося саўсім хужэй, як цяпер, што й казаць.* Засценак Лаг. *А от даўна што за жызьня была. Трэба было ўстаць рана, й трэба было сядзець позна, прасьці.* Замошша Віл.

**ДАЎНАБЫ́ТНЫ** *прым.* Старадаўні. *Не магу сказаць, дзеткі, калі гэта было, патаму што мае гады старыя, гэта даўнабытная каска.* Слабада Раваніцкая Чэрв.

**ДА́ЎНАЕ** *у знач. наз.* Мінулае, даўнейшае. *Гэта ш трэба ўсё гэта даўнае ўзнавіць.* Ратуцічы Барыс.

**ДАЎНЕ́Й** *прысл.* Даўжэй, больш. *І не ведаю, што табе расказаць. Не такая ш яшчэ й старая я, другія ш больш ведаюць, даўней жылі, можа б вы да каго с старэйшых схадзілі.* Бяларучы Лаг.

**ДАЎНІНА́** *ж.* Былыя звычаі, старадаўнасць. ◊ **Даўніну паганяць** – арыентавацца, прытрымлівацца старых звычаяў. *А старыя ўсё яшчэ даўніну паганяюць, усё ня могуць да новага прывыкнуць.* Баяры Маладз.

**ДА́ЎНІЦЬ** *незак.* Зацягваць. *Падумаць толькі, і чаму гэта яны даўняць яго лячыць!* Будслаў Мядз.

**ДАФАКТО́ВЫ** *прым.* **1.** З дэфектам. *Купіла касьцюм, а ён дафактовы.* Навікі Віл. **2.** Слабы здароўем. *Яму ш пекло! Дзьве кабеці ў хаці, а ён усю бапску работу робіць: адна на адным лошку ляжыць, стогня, другая на другом. Ну, то адна хоць старая, а то й маладая, а такая дафактовая, з бальніцы ні вылазіць.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. defektowy 'тс'.

**ДАФАРО́ЎВАЦЬ** *незак.* Дагаджаць. *Жылі з намі залувіца, матка яго, але ўсім я дафароўвала, ніколі не сварыліся.* Арцюхі Стаўб.; *параўн.* польск. forować 'уступаць першынство'.

**ДАХАДЗЯ́ГА** *ж. Неадабр.* Чалавек, якому да ўсяго ёсць справа. *Ну такая ўжо была шустрая, такая дахадзяга! Да ўсяго ёй было дзела.* Баяры Маладз.

**ДА́ХАЎКА** *ж.* Футравае паўпаліто. *Трэба неяк дахаўку пастроіць, сьпераду і каля кішэняў уся шэрсьць абцерлася.* Дукора Пух.

**ДАХО́ДЛІВЫ** *прым.* Настойлівы, напорысты, настырны. *От гэтыя бабы даходлівыя, усё ім трэба ведаць, усюды дапяць.* Баяры Маладз.

**ДАХО́ДНЫ** *прым.* Тое, што і дахо́длівы. *Цяпер хлопцы нашы даходныя сталі, за*

*імі ні ўгледзіш.* Баяры Маладз.

**ДАХО́ЎКА** *ж.* Чарапіца. *Дахоўку ўсю пазьнімалі, цяшкая даволі, ды і вецяр яе горай скідае.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. dachówka 'тс'.

**ДА́ЦЦА** *зак.* **1.** Пайсці, падацца. *Куды яна далася? Вунь дзірэктар у інтэрнат ідзе, а яе няма.* Апенькі Віл. *Трэба вам было даццa туды за два кіламетры.* Баяры Маладз. **2.** Хутка пабегчы. *Ласіху забілі, а ён у кусты даўся. Патом эты лось тры гады прыходзіў сюды.* Баяры Маладз. **3.** Памерці. *Вясной яго апанавалі скулы, дык чуць ні даўся.* Паплавы Бярэз. *Мой хазяін на сімісятым гадочку даўся, а брат яго два гады як даўся.* Язні Віл. ◊ **Дацца ў знакі** — надакучыўшы, даняць; надоўга запомніцца. *Ну й далася ў знакі яна мне, гэтая круцёлка.* Клетнае Барыс.

**ДАЦЬ** *зак.* Ударыць. *Пярун як даў — поўна хата агню была.* Ляшчынск Мядз. ◊ **Даць буські** — пацалаваць. *Дай, сынок, буські бапцы.* Краснае Маладз. **Даць волю** — перастаць стрымліваць чые-н. дзеянні. *А сыны далі ёй [матцы] волю, проціў яе ніколі нічога не сказалі, што хочаш, тое і роп.* Весялова Круп. **Даць голас** (пра сабаку) — аказацца, забрахаць. *Сабака як убачыць ці пачуе зьвяра́, то дае голас.* Пруды Стаўб. **Даць гулу смаленую** — нічога не даць. *Ну, чаго ты хочаш? Можа гулу смаленую табе даць?* Ціханава Слабада Стаўб. **Даць дарогу** — саступіць. *Усіх выпер маладых с крэсла, пасадзіў мяне! І выйсьці даў дарогу мне.* Пагост Віл. **Даць джупла (джуплёўку)** — адлупцаваць, пакараць. *А ён як даў таму джупла, дык тэй і зьвіўся.* Луцішча Круп. *Пакіда́ла ў хаце дзяцей, прыказвала не атлучацца, а прыйшла — німа. Дык добрую джуплёўку дала.* Рудня Стаўб. **Даць джухара** каму-н. — вылаяць каго-н. *Ну й дала джухара свайму валацугу!* Каменка Уздз. **Даць здачы** — адказаць ударам на ўдар, знявагай на знявагу. *Не маўчы, вучыся даваць здачы, а то заклююць.* Ляшчынск Мядз. **Даць карша** — адагнаць нагой. *А вы, дзеўкі, глядзеця: будуць [парасята] к вам лесьці, дык дайця карша ім, карша ім.* Жораўка Пух. **Даць кухталя** — біць, караць. *Малы быў, дык кухталя давала, а цяпер жа ні нагну.* Смольніца Смал. **Даць лапу** — пакараць, пабіць. *Тады ён мяне за вушы як стаў тармазіць, а тады лапы стаў даваць, ув адну дзьве ды ў другую, а якая ш там лапа малая была, дык папухлі рукі.* Аляхновічы Маладз. **Даць на запаведзь** — падаць у царкву просьбу аб выкананні абраду вянчання. *Яна дала на запавядзь, патом агледзялася, што ён натта брыткі.* Кукшавічы Дзярж. **Даць пад хвост** — пакараць, усыпаць. *Сабралі нашы сілы й тады калі далі ім пат хвост, этым заваёўнікам.* Аляхновічы Маладз. **Даць патарганца** — тое, што і даць джуплёўку. *Супакойся, бо зарас дам патарганца.* Вужанка Нясв. **Даць пліту** — пабегчы. *Я бачыў, як ён даў пліту вунь у той бок.* Навасёлкі Валож. **Даць файт** — у рэзкай форме выгаварыць. *Бацька клубок уе й песьню пяе, а маці сварыцца на яго. А мне сьмешна стала, я засьмяялася. Як далі файт, аш заплакала.* Кукшавічы Дзярж. **Даць хадала (ходу)** — уцячы, увільнуць; адлыньваць. *Ён дасьць хадала ад любой работы, такі ўжо ўрадзіўся.* Вялікая Вуса Уздз. *А мы як убачылі, што бацька йдзе, дык далі ходу.* Дукора Пух. *Як далі мы хадала зь лесу і ягады пакідалі.* Завішына Лаг. **Кроў дала ў галаву** — кровазліццё ў мозг. *Ну, жала, жала за ёй, жала, жала, тады прышла дамоў, як дала кроў у галаву, праз нос і праз рот ішла кроў, і памёрла.* Пагост Віл.

**ДАЧА́НКА** *ж.* Пляменніца. *Еду да сваей дачанкі, завязу кілю цукеркаў.* Слабодка Стаўб.

**ДА́ЧКА** *ж. Тэкст.* Від бабаўнянай тканіны, неадбеленая бязь. *Купіла тры метры да́чкі на кашулі.* Дукора Пух.

**ДАЧУ́ХНА** *ж. Пашан.* Дачка. *Дзе ж мая дачухна дзявалася, ужо згінула з ваччу.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДАШО́К** *м. Памянш.* Дах, верхняя частка вулея. *Во такую крышку, якая зроблена з дошак, і называім дашок. А як ідзе дошч ці дзюравы дашок, то мы накрываім яго тольлю.* Гілікі Валож.

**ДАШЧА́НКА** *ж.* Драўляная, з клёпак, пасудзіна на зерне, муку. *Была яшчэ дашчанка, муку сыпалі ў дашчанку, а як трэба ўчыняць хлеп, бралі тую муку.* Шавярнічы Бярэз. *Дашчанкай семя можна было ўсё сяло апсеіць, усіхныя нарэзы зямлі.* Якімаўка Круп. *У дашчанку дванаццаць гарцаў уваходзіць.* Ігрушка Круп. *Валачэбнікаў доруць: выносюць яйцы, кілбасу, хлеп і пашню, насыпаюць дашчанку жыта.* Весялова Круп. *Дашчанка хлеба.* Раўнаполле Пух.

**ДАШЧА́ТЫ** *прым.* Тое, што і д а с к о́ в ы. *Раней былі глінабітныя палы, цяпер па ўсёй дзярэўні ня нойдзяш, толькі дашчатыя палы.* Дукора Пух.

**ДАШЧЫТЛА́** *прысл.* Дашчэнту. *Хата згарэла дашчытла, ні маглі абратаваць.* Савоні Стаўб.

**ДАШЧЭ́ТНІК** *м.* Мосцік з дошак праз рэчку. *Вунь, дзевачкі, за рэчкай лагер, а цераз рэчку па дашчэтніку пяройдзеця.* Баяры Маладз.

**ДВАЙНІ́К** *м.* **1.** Адно з дваіх дзяцей, адначасова народжаных адной маці. *Аддалі служыць у Абрамы двоя дзяцей, двайнікоў, пасьцілі кароў, далі іх і ўсякую другую работу рабілі.* Старына Мядз. **2.** Адзінае цэлае, складзенае з двух сіметрычна ідэнтычных ці падобных прадметаў, частак: а) яйка з двума

жаўткамі. *Двайнік адразу пазнаіш, бо яно пахожа на гусіная, прасьвечваяцца.* Ляхавічы Дзярж.; б) двайны рыбалоўны кручок. *Двайніком ловяць драпежную рыбу, двайнік прывязваяцца на шчупакоў.* Вялікая Вуса Уздз.; в) два рады бульбы (пры мяжы), недастаткова аддаленыя адзін ад другога. *Трэба двайнік капанічыць, а то травой зарос, а абагнаць жа яго нельга.* Дукора Пух.; г) падвойная рама, дубальт. *Мне шчэ трэба двайнікі ўставіць на зіму.* Нізок Уздз.; *параўн.* польск. dubelt < ням. Doppelt.

**ДВАЙНЮ́КІ** і **ДВО́ЙНЮКІ** *мн.* Блізняты. *А дзеці, што разам нарадзіліся ды абоя хлапчукі будуць, то на іх двайнюкі кажуць.* Вязынка Маладз. *Лена мая з двойнюкаў. І яшчэ дзевачка адна была.* Язні Віл.

**ДВАЙНЮ́ЧКА** *ж.* Тое, што і двайнік (у 2в знач.). *Я папярэчку двайнючкай заву, ды не толькі я. Вось не разьлічыў, і двайнючка атрымалася.* Юшкаўка Віл.

**ДВАЙНЯ́К** *м.* 1. Двухпудовая гіра. *Двайняк — гіра ў два пуды роўная, для узвешваньня.* Зайцы Чэрв. 2. Тое, што і двайнік (у 2б знач.). *На двайняка добра лавіць вялікую рыбу. У мяне вунь колькі двайнякоў.* Рабунь Віл.

**ДВАЙНЯ́ТЫ** *толькі мн.* Тое, што і двайнік (у 2в знач.). *Каля мяжы мы пасадзілі бульбу ў два рады — двайняты палучыліся.* Ляхавічы Дзярж.

**ДВАЙЧА́К** *м.* Тое, што і двайнік (у 2в знач.). *Як яны аралі, што два двайчакі палучыліся?!* Зазыбы Пух.

**ДВАНА́СТКА** *ж.* Паляўнічая стрэльба дванаццатага калібру. *Стась добрую дванастку меў, то й паляваў добра.* Пруды Стаўб.

**ДВАНА́СЦЕ** *ліч. кольк.* Дванаццаць. *Трэба ш дванасьця сьцен напрасьці аднаго кужалю.* Ластаянцы Валож. *Таўстую пражу снуём па дванасьце пасмаў, а кужаль — па васемнасьце.* Рубяжэвічы Стаўб. *Прывязьлі нас туды, прышоў канвоір, атшчытаў нас дванасьця чалавек і повёў.* Альсевічы Мядз.; *параўн.* польск. dwanaście 'тс'.

**ДВАРНЯ́ЖКА** *ж.* і *м.* Непародзісты дваровы сабака. *Дварняшка на ахоту ня ходзіць, яна дом сьцеражэ.* Бясяды Лаг. *Добры быў у нас дварняшка, але ваўкі ўкралі.* Вецярэвічы Пух.

**ДВАРО́ВЫ** *у знач. наз.* Прыгонны. *Дваровыя некалі вельмі кепска жылі.* Цялякава Уздз.

**ДВАРО́ТНІК** *м.* Дрывотня. *Дваротнік увесь завален дровамі.* Ігрушка Круп.

**ДВАРЫ́ШЧА** і **ДВО́РЫШЧА** *н.* Двор, падвор'е. *От маладзец Наташка, дварышча замяла чыста.* Буцькавічы Стаўб. *А прышлі дамоў — ні хаты, ні пуні. Селі на старым дворышчы, разлажылі касьцёр ды і сядзім кала кастра.* Вяляцічы Барыс. *У іх усягды дварышча чыста падмецена і прыбрана.* Пількаўшчына Мядз. *На етым дворышчы некалі стаяла наша хата.* Вецярэвічы Пух.

**ДВАЦЦА́ТКА** *ж.* Дошка таўшчынёй 20 мм. *Дваццаткі ўпатрабляюцца на шаляваньня.* Вязынка Маладз.

**ДВАЦЦАЦЬПЯ́ТКА** *ж.* 1. Дошка таўшчынёй 25 мм. *Дваццацьпятка тожа гадзіцца на шалёўку.* Вязынка Маладз. *Напіліў дваццацьпятак, шчэ ш трыццаткі трэба й цалёўкі.* Мікалаеўшчына Стаўб. 2. Электрычная лямпачка 25 свячэй. *Дваццацьпятка цягне мала, у нас вот дваццацьпятка.* Вязынка Маладз.

**ДВАЮРО́ДНЫ** *прым.* Дваюрадны, стрыечны. *Антось мой брат дваюродны.* Дукора Пух.

**ДВАЯ́КІ** *прым.* З двума загібамі. *Дваякім кручком ловяць толькі вялікую рыбу.* Пруды Стаўб.

**ДВО́ЕЧКА** *ліч.* Двое. *Да яе нельга, бо двоечка прыехалі з Маладэчына, спаць няма дзе.* Плябанцы Віл.

**ДВО́ЙКА** *ж.* 1. Камплект з двух прадметаў (спадніца з камізэлькай). *Ды надзень ты хоць рас сваю двойку з белай кофтачкай, а то як пашыла, дык ці адзела хоць калі?* Канстанцінава Мядз. 2. Двайняты. *Казалі, маладая прыняла двойка, блізнятачка, а другая, троха ў гадах, — троё, два хлопчыкі і дзевачка.* Савоні Стаўб.

**ДВО́ЙНЮКІ** *гл.* двайнюкі

**ДВО́РНІК** *м.* Тое, што і дварняжка. *Дворнік пілнуе толькі двара, паняцьця ні зная на ахоту, ні зайца ні знаець, нічога.* Рабунь Віл.

**ДВО́РНЫ САБА́КА.** Тое, што і дварняжка. *Вот у мяне дворны сабака, з выгляду нехлямяжы, а дом сьцеражэць добра.* Ляшчынск Мядз.

**ДВО́РЫШЧА** *гл.* дварышча

**ДВУЙЧА́СНЫ** *прым.* Двухстворкавы. *Я прышла да іх у хату, а там праз двуйчасныя шкляныя дзьверы ўвідзіла, што яны ткуць кросны.* Ваўкалатка Докш.

**ДВУМА́ШЫКА** *тв. мн. да ліч.* два. Двума. *Хто ні ўсьпеў уцячы, дык фашысты ня выпусьцілі і жывых палілі. Я з двумашыка дзецьмі выпаўзьлі па жыцця.* Мільча Віл.

**ДВУХКАЛЁРНЫ** *прым.* Двухколерны. *Сабака бывае трохкалёрны і двухкалёрны.* Пруды Стаўб.

**ДВУХЛЕ́ТАК** *м.* Конь двухгадовага ўзросту. *Двухлетка ўжо абучаюць язьдзе.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДВУХПУЦЯВЫ́** *прым.* Двухкалейны. *Цяпер усюды двухпуцявая жалезная дарога, а бывала, паязды разьмінаюцца на разьездах або павінен перачакаць на станцыі, пака другі разьмінецца.* Бяларучы Лаг.

**ДВУХФАРТКО́ВЫ** *прым.* Двухстворкавы, з дзвюма створкамі. *У нас шафа двухфартко-*

вая. Вязынка Маладз. *Што ты, двухфартковых дзьвярэй ні бачыў?* Вялікая Вуса Уздз.

**ДВУХФЎРТНЫ** *прым.* Тое, што і двухфарткбвы. *Цяпер мы купілі новы шкаф, двухфуртны.* Нізок Уздз.

**ДЖА́ПКА** *ж.* Матыка. *Вазьму джапку і пайду вечарам крыху агарот папалю: сонца схавалася, у галаву пекчы ня будзя.* Рудня Чэрв.

**ДЖВА́ГНУЦЬ** *зак.* Моцна стукнуць. *Як джвагнула дзьвярыма, дык аж вокны зазьвінелі.* Палачаны Маладз. *Пярун як джвагнуў, дак этакі таўсты дуб раскалоў напал.* Дукора Пух.

**ДЖҐІР, ДЖЫҐІР** *м.* Тое, што і аджґўр. *Джґір тут у нас ёсць, і многа. Водзіцца ў вялікай колькасці і добра ловіцца. Во закінь вуду, джґіры чарвяка мамент аб'ядзяць.* Вялікая Вуса Уздз. *Сядзеў, сядзеў цэлы дзень, а злавіў усяго двух джыґіроў!* Нізок Уздз.

**ДЖМЕЛЬ** *м. Заал.* Чмель (Bombus). *Джмель бо́льшы за пчалу.* Нізок Уздз.

**ДЖМЫХНУЦЬ** *зак.* **1.** Чхнуць. *Яна так моцна джмыхнула, што ўсе аглянуліся.* Бясяды Лаг. **2.** Іравануць. *Дзе там іх зловіш?! Як джмыхнуць у кусты — толькі іх і бачылі.* Чараўкі Мядз.

**ДЖУПЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Ірваць. *Бачыш, лепшай травы німа, дык і гэту джуплюю.* Цялякава Уздз. *Ну й наджуплявалі вы кветак!* Каменка Уздз.

**ДЖЎРГАЦЦА** *незак.* Чухацца, шоргацца аб што. *Джургаяцца, як бытта гот у бані ня мыўся.* Цялякава Уздз.

**ДЖЎРГАЦЬ** *незак.* Шоргаць. *Піла вельма вытупілася, а як станяш пілаваць, дак джургаяш, джургаяш, покуль на адзін рас напілуяш.* Цялякава Уздз.

**ДЖЫГА́ДЛА, ДЖЫГА́ЛА** *н.* Джала. *У шэршня от велько джыгадло.* Паласня Стаўб. *Пчолы ўсім пускаюць джыгалы, нат сваім.* Малмыгі Віл.

**ДЖЫҐІР** *гл.* джґір

**ДЖЫҐНУЦЬ** *зак. Экспр.* Украсці. *Гэта такі чалавек, што можа і ў жонкі джыґнуць грошы.* Зазерка Пух.

**ДЖЭҐАЦЬ** *незак.* Варушыць, гайдаць, трэсці. *Не джэґай лаўку, сядзі спакойна.* Каменка Уздз.

**ДЗВЕ́РКІ, ДЗВЁРКІ** *толькі мн.* Створка закрываць адтуліну, праём. *Дзьверкі на гару цяжолыя, сама й не падыму.* Паплавы Бярэз. *Будзіш пчол глядзець, дык дзвёркі не забуць зашчапіць.* Рабунь Віл. *Зрабіў новыя дзьвёркі, а яны не закрываюцца, не прыстаюць.* Ігрушка Круп.

**ДЗВЯҐА́ЛКА** *ж.* Дынама-машына. *У нас даўно дзьвяґалка свая, яна дае сьвет і другім вёскам.* Каменка Уздз.

**ДЗЕВЯСІ́Л** *м. Бат.* Дзівасіл (Inula). *Звары дзевясілу, пройдзе ўся твая хвароба.* Кухцічы Уздз.

**ДЗЕВЯТНА́СЦЕ** *ліч.* Дзевятнаццаць. *Дзевятнасьця душ у хаці.* Лоск Валож.; *параўн.* польск. dziewiętnaście 'тс'.

**ДЗЕВЯЦІ́НЫ** *толькі мн. Абрад.* Памінкі праз дзевяць дзён пасля смерці чалавека. *Некалі спраўлялі дзевяціны, а цяпер рэтка хто спраўляя.* Цялякава Уздз.

**ДЗЕВЯЦІРЎЧКА** *ж.* Каса даўжынёй 90 см. *Як сіла ў чалавека ёсь, каб больш скасіць, дзевяціручкай косіць, а так усе васьміручкай.* Хожава Маладз. *Дзевяціручкай шырокі пракос зоймеш, ды мне, старому, ёй касіць ужо цяжка.* Рабунь Віл.

**ДЗЕД**[1] *м. Абрад.* **1.** Першая жменя або першы снапок жыта, зжатага ў час зажынак. *Нажнець кабета жменю жыта, абвяжа перавёслам, гэта і быў дзет. А гэтага дзеда нясуць і вешаюць у хаці, у куці. Калі дзет павешан у куці, то тады жнуць ужо первы сноп.* Старына Мядз. **2.** Пучок нязжатага жыта, які пакідалі на полі пры дажынках. *Дажынаюць жыта, і кожны хазяін на сваім полі пакідае жменьку няжжатага, убірае краскамі. Гэта дзет называўся.* Абрамы Мядз.

**ДЗЕД**[2] *м.* **1.** Апорны слуп пасярэдзіне горна. *Под — дно горана, куды ставяць вырабы. Тоўсты стоўб пасярэдзіне дна называецца дзет, каторы служыць для паддзершкі пода.* Беразіно Бярэз. **2.** Апорны слуп у гаспадарчым будынку. *Трэба бёрны на дзяды даставаць, скора спатрэбяцца.* Ляшчынск Мядз. **3.** *уст.* Прыстасаванне, у якое ўстаўлялі лучыну для асвятлення хаты. *Дзьве вілачкі такія, вось і дзет. У гэтыя вілачкі лучыну ўторкнуць, і відно ў хаця.* Вецярэвічы Уздз.

**ДЗЕДАВА́ЦЬ** *незак. Экспр.* Гасцяваць. *Мой стары як паедзя да сына, па нядзелі і больш дзядуе, дамоў ні сьпяшаецца.* Навікі Віл.

**ДЗЕЙ** *ж.* Чутка, пагалоска. *А пусьцілі дзей, што за граніцу пашоў [а некалі многа за граніцу хадзілі], як пашоў, так і прапаў.* Дзераўная Стаўб.

**ДЗЕ́ЙКА** *ж.* Тое, што і дзей. *Пусьцілі дзейку, што я замуж выходзіць буду, на вуліцу ня выці, пытаюцца.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДЗЕ́ЛЯ** *прыназ. з родн.* Выражае прычынныя адносіны і ўжываецца пры ўказанні на таго, хто з'яўляецца віноўнікам чаго-н. **З-за, праз.** *От каб ні ты са мною сядзела, яна б мне дала здрастуйця, а дзеля цябе ні пaздароўкалася.* Бяларучы Лаг.

**ДЗЕНЬ** *м.* ○ **Сходнія дні** — дні пасля поўні перад маладзіком. *Памыла галаву сходнімі днямі, валасэ цьвёрдыя.* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **Абы дзень да вечара** — абы-як, неахвотна. *Ён так хлопец працавіты, ён ня будзіць гэта сабе, як другі, абы дзень да вечара, а ўсё*

*гарыць у яга.* Язні Віл. **Дзень у дзень** — штодзень. *Як зімой, дак дзень у дзень варылі звар.* Задор'е Лаг. **З дня на дзень** — з аднаго дня на другі. *Ужо даўно сабіралася да цябе, але ш усё атkладвалася зь дня на дзень, ну-ткі сяганьня сабралася.* Язні Віл. **З дня ў дзень** — кожны дзень, штодзённа. *Яе Олясь добро жыве, бо робіць. Упрогся ў работу, з дня ў дзень на брыгадзі, каб бачылі, якую хату сабе выстраіў, а ў хаці той — як у горадзі.* Раёўшчына Стаўб. **Сярод белага дня** — удзень, днём. *Шостага мая ў лясу распалажыліс сярод белага дня, как-та спакойна, абет прывязьлі, нам раздалі, старшына нам і гаворыць, што вайне канец.* Кузьмічы Мядз. **У белы дзень** — удзень, днём. *Прышлі ў белы дзень са стрэльбамі і адразу ў шафу! „Дзе сукенкі, дзе касьцюмы?" — пытаюцца. Выграблі пасьледняя.* Чараўкі Мядз.

**ДЗЕ́РАВА** *н. Зб.* Лесаматэрыял. *Каб дастаць дзерава, то майстры б знайшліся хату зрубіць.* Вялікая Вуса Уздз. *Купіў дзерава на хату.* Вязынка Маладз.

**ДЗЕРАВЯ́КІ** *мн.* Тое, што і а б і я к і. *Нам, дзецям, кап куды выйсьці летам ці вясной, рабілі дзеравякі. Выстругаюць хороша падошву, зьверху раменьчыкі ат старых туфляў ці ботаў наб'юць, намалююць хороша. Вот ужо радасць.* Багданава Валож.

**ДЗЕРАВЯ́НІКІ** *мн.* Тое, што і а б і я к і. *Адзену апоркі, а зімой дзеравянікі і пашла на работу ў маёнтак.* Суднікі Валож.

**ДЗЕРАВЯ́НКА** *ж.* Дом з дрэва, жылы будынак. *Малая была вёсачка, толькі два дамы — мураванка і дзеравянка, а так поле і лес.* Любань Віл.

**ДЗЕРАВЯ́НКІ** *мн.* Тое, што і а б і я к і. *— Ну, дык а што я буду насіць у будныя дні? — А дзеравянкі ня можыш выдзяўпсьці?* Бакачы Мядз.

**ДЗЕРАВЯ́ННЫ (ДЗЕРАЎЛЯ́НЫ) ХОД.** Ніжняя хадавая драўляная частка воза. *Даўней хто спраўней жыў, у таго й луччы конь быў і луччыя калёсы. А ў беннага — дрэнныя калёсы, і называліся дзеравянны хот.* Восава Круп. *У майго бацькі калёсы былі на дзераўляным ходзе.* Ляшчынск Мядз.

**ДЗЕРАВЯ́ШКІ** *мн.* Сучаснага фасону басаножкі на драўлянай падэшве. *Куды ты папёрлася ў дзеравяшках? Ногі наб'еш, покуль сходзіш у тую вёску.* Рудня Чэрв.

**ДЗЕРАЎЛЯ́НЫ** *прым.* Зроблены з дрэва. *А хаты былі дзераўляныя, дык хутка агонь выкаціў.* Завішына Лаг.

**ДЗЕРАЎНЫ́** *прым.* Тое, што і д з е р а ў л я́ н ы. *Дзераўныя лышкі даўней ва ўсіх былі.* Пудзіцк Пух.

**ДЗЕ́РБНІК** *м. Кулін.* Блін з дранай бульбы. *А ў нас хто як кажа, а я скажу дык дзербнікі сёньня пякла.* Язні Віл.

**ДЗЕРВЯНЕ́ЦЬ** *незак.* Страчваць адчувальнасць, нямець, дранцвець. *Сядзела, покуль ногі не пачалі дзервянець.* Залужжа Стаўб.

**ДЗЕРВЯНЫ́** і **ДЗЯРВЯ́НЫ** *прым.* Драўляны. *Некалі, я помню, заціркі аржаной наліюць, пасядуць кругом стала і дзервянымі лышкамі сярбаюць.* Дзераўная Стаўб. *Якія дзе з дубу наробяць зубоў, і гэтакая была барана дзервяная.* Ластаянцы Валож. *Да вайны былі бароны ўсе зь дзерава і зь дзярвянымі зубамі. У ей дваццаць пяць дзярвяных зубоў.* Ляхавічы Дзярж.

**ДЗЕРМЯЗА́** і **ДЗЯРМІ́ЗА** *ж. Бат.* Дзераза (Lycopodium). *Дзермяза па лесе расьце, яе рвуць, высушваюць, здаюць у аптэку.* Рудня Чэрв. *Дзермяза ў лесі расьцець, зь яе вянкі плятуць і за вокны кладуць.* Рудня Лаг. *Дзеўкі назьбіраюць у лесі дзярмізы, вянкі тады плятуць.* Бяларучы Лаг.

**ДЗЕ́РЦІ** *незак.* Апрацоўваць лён церніцай, церці яго. *У мяліцу лён паткладаіш і цісканеш, падоймiш за ручку і зноў цісканеш — і так дзярэш лён.* Бытча Барыс.

**ДЗЕРЫВА́НКА** *ж. Бат.* Зуброўка (Hierochloë odorata L.). *— А зуброўку як завуць у нас? — Дзерыванка. Яна расьце на выганя, у леся расьце, дзе хвойнік, на верасох.* Няровы Валож.

**ДЗЕСЯНЦІ́НА** *ж. Уст.* Дзесяціна. *У адну дзесяньціну ўваходзіць адзін гактар і дзевяць сотак. Цяпер дзесяньціна не гавораць, толькі некаторыя старыя.* Гілікі Валож. *Раней казалі дзісяньціна, гэта недзя гактар.* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. dziesięcina 'тс'.

**ДЗЕСЯ́ТАК** і **ДЗЕСЯТО́К** *м.* Адзінка падліку, роўная дзесяці. *Пяць дзесяткаў ільну прадаваў чалавек, а дзесятак — гэта дзесяць кукал або сорак жмень.* Вецярэвічы Пух. *Я на восьмы дзесяток жыву, а вы 'шчэ нешта хочаце ад міне.* Сцешыцы Віл.

**ДЗЕСЯ́ТКА** *ж.* **1.** Адзінка меры даўжыні або таўшчыні ў сантыметрах (міліметрах). *Цяпер дзесятак [назва касы] нямашака, некалі нямецкія былі.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Сямёрка, васьмёрка, дзявятка, дзясятка — назвы кос.* Дукора Пух. *Дзесятка [дошка таўшчынёй 10 мм] ідзе на крышу, гадзіцца на пакрыццё крышы.* Вязынка Маладз. **2.** Мера лёну, пянькі — дзесяць жмень. *Бывала, і дзесятка льну была дорага. Дзесяць дзесяткаў набярэш, то будзе і сто.* Гілікі Валож.

**ДЗЕСЯТО́К** *гл.* дзеся́так

**ДЗЕСЯТУ́ХА** *ж.* **1.** Дзесятая частка чаго-н. *Дзесятуха — ета ад любога дзісята чась. Во, кажу я сваму Міколу, атлі мне дзесятуху гэтага настою.* Зайцы Чэрв. **2.** Рэлігійнае свята ў дзесятую пятніцу пасля вялікадня. *На дзеся-*

*туху кірмаш быў у Барысаві ды і дужы кірмаш.* Бытча Барыс.

**ДЗЕ-ТА** *прысл.* **1.** У нейкае месца, невядома куды. *Вызначылі ўжо такіх людзей, каторыя будуць мядзьведзя дзе-та вывазіць, і каб ён там загінуў.* Даўгінава Віл. *Ну, яны што-та ў нас ня водзюцца, каб гэта нераст вангораў быў, дзе-та яны атходзюць.* Мядзел Мядз. **2.** Дзесьці. *І ён беннага ні запрасіў у хату, там, дзе пілі, а там дзе-та ў кухні, у куця ў цёмным доў яму выпіць і доў яму мукі торбачку і бульбы.* Ракаў Валож.

**ДЗЕТАВО́ДУХА** *ж.* Курыца, якая водзіць куранят. *Во гаткая дзетаводуха, зусім не глядзіць куранят.* Рудня Чэрв.

**ДЗЕ́ТКІ** *мн.; адз.* **дзе́тка** *ж. Ласк.* Зварот да маладшага ўзростам. *Я раскажу табе, дзеткі, як у нас вяселе гулялі.* Калодчына Віл. *Мне вельмі цяшка расказваць, тое ўспамінаць, ну, усянно мне хочацца, штобы зналі вы, дзеткі, што нарот у вайну так мучыўся.* Ухвала Круп.

**ДЗЕ́ТУХА** і **ДЗЯТУ́ХА** *ж.* Тое, што і дзетаво́духа. *Мы сваю дзетуху дак за нагу прывязваем.* Волма Чэрв. *У мяне сёлета дванаццаць пылянятак у дзятухі.* Пудзіцк Пух.

**ДЗЕ́ЎКА** *ж.* **1.** Дзяўчына. *От сплятуць два вяночкі: адзін на хлопца, другі на дзеўку.* Дрычын Пух. *Помню, на танцы мы ў другую дзярэўню хадзілі, а там за дзявок білі нас, каб мы ня адбівалі ў іхніх хлопцаў. Як нас многа, то яны ня лезуць, а як астаўся хто ў дзеўкі, то так усыплюць, што ён ледзь назат прыпаўзе.* Бяларучы Лаг. **2.** Дачка. *Так удваіх зь дзеўкаю і жывём. Прымаку хацелі ўзяць, але німа.* Пудзіцк Пух. **3.** Партнёрка. *Пойдзем-ка с табой танцаваць: мая дзеўка замарылася.* Ігрушка Круп.

**ДЗЕХЦЯРЫ́К, ДЗЕФЦЯРЫ́К** *м. Мед.* Дыфтэрыя. *Пры дзехцярыку апухая ў глоццы; больш у дзяцей дзехцярык бывая.* Рудня Чэрв. *Ой, гэна натта благая балезьня — дзехцярык.* Ляхавічы Дзярж. *Мая дачка хварэла на дзехцярык, чуць ні памёрла.* Пруды Стаўб. *Дзефцярык у малых дзяцей бываець, за горла хватаець і душыць.* Ігрушка Круп.

**ДЗЁРКА** *ж. Кулін.* Бабка з бульбы. *Я люблю дзёрку, і дзеці любяць, але рабіць дзёрку вельмі доўга.* Вішнева Валож.

**ДЗЁРНУЦЬ** *зак. Экспр.* **1.** Рвануць. *Воўк як дзёрнуў, як панёсься!* Любань Віл. **2.** Наваліцца на ежу. *Прышлі ўсе, сабраліся, а маладых німа. Німа й німа, а тады за поўнач прыягджаюць. Усе прыбрано было, нашыковано да калі-то дзёрнулі — ведамо ж людзі галодныя былі.* Савоні Стаўб.

**ДЗЁРЦІ** *незак.* Раздрабняць, церці на тарцы. *—Заўтра рана пабуджу, панімаяш што, і ты будзяш дзёрці [бульбу], а я буду пячы [бліны]. — А як яе дзёрці? — А вот так.* Мікольцы Мядз. ◊ **Барца дзёрці** — даказваць сваё. *Яе і начальства баіцца чапаць. Яна, брат, і яму дакажыць, будзіць барца дзёрці, пакуль сябе не апстоіць.* Язні Віл.

**ДЗЁРШЧЫК** *м.* Той, хто выкідае гной са стойла. *Адныя дзяруць гной у хляве, гэна дзёршчыкі, а падвошчыкі возяць.* Малмыгі Віл.

**ДЗЁЎКАЦЬ** *незак. Экспр.* Гаварыць недарэчнасці, балбатаць. *Выйшла на вуліцу і дзёўкая. Ці ж ёй работы мала?* Вецярэвічы Пух.

**ДЗІВА́Н, ДЫВА́Н** *м.* Канапа. *Дзіван мяккі, садзяцца на ім, а як німа дзе лехчы, то і сьпяць. Цяпер людзі пабагацелі, то ўсё крэслы, дзіваны купляюць.* Вязынка Маладз. *Паляцім са старым у магазін, гаварылі, што дзіваны прывезьлі, купіць трэба, каб і ў нас, як у людзей было.* Сцешыцы Віл. *Дыван такі вот мяккі, на ім пасядзець можна, паляжаць. Дыван купляецца, самі дываны не робяць.* Пруды Стаўб.

**ДЗІ́ДА** *ж.* **1.** Крывая сасна. *Увесь роўны сасоньнік выразалі па балоце, адны дзіды стаяць.* Будслаў Мядз. **2.** *толькі мн.* Драўляныя вілы з трыма зубамі. *Чаго стаіш? Бяры дзіды й памагай, а то хмара ун сунецца.* Будслаў Мядз.

**ДЗІКАРЫ́** *мн. Пчал.* Дзікія пчолы. *Дзікароў у нас тут няма, а то я б іх дастаў.* Ляхавічы Дзярж. *Дзікары вельмі ш куслівыя.* Бытча Барыс.

**ДЗІПЛО́М** *м.* Дыплом. *Яна ж дзіплом атрымала, дык дзе ёй памост мыць, ды яшчэ не фарбаваны.* Рагалёўшчына Валож.

**ДЗІ́РБА** *ж.* Аблога. *Цяпер усё робяць трактарам. Вунь у нас трактар узьняў дзірбу такую, што с канём і не паткнуўся б туды.* Дукора Пух.

**ДЗІРВА́ННЕ** *н.* Дзірван. *Жалезная барана лепій разьбівае дзірваньне, але некалі жалезных ні рабілі, бо трэба было нясьці ў кузьню ды грошы аддаць, а дзераўляную сам зробіць.* Саланая Валож.

**ДЗІ́РКІ** *прым.* Калючы. *Сівец — дзіркая трава, дробнае лісьцейка і маленькія кветачкі, яе жывёла ня есь, бо калючая.* Бясяды Лаг.

**ДЗІРЭ́КТАР** *м.* Дырэктар. *Я ў дзірэктара была, гаварылі доўга зь ім, дык панараўіўся ён мне.* Жартайка Барыс.

**ДЗІРЭ́КТАРКА.** *Жан. да* дзірэ́ктар. *Кажуць, учора прыехала новая дзірэктарка, школу прынімаць будзе.* Узгурск Чэрв.

**ДЗІСКАВА́ЦЬ** *незак.* Дыскаваць. *І дзіскавалі, а як жа, бо цьвёрда было.* Бясяды Лаг.

**ДЗІСПА́НСЕР** *м.* Дыспансер. *Кацярыніна дачка кончыла нейкія курсы за шэсць месяцаў і робіць у дзіспансеры ў Вялейцы.* Рабунь Віл.

**ДЗІСЬ** *прысл.* Сягоння. *Ня дзісь, дык заўтра прывязеш дровы, а зарас сталяваньне мож-*

*на пасляць.* Аколава Стаўб.; *параўн.* польск. dziś, dzisiaj 'тс'.

**ДЗІЧ**[1] *м.* Бародаўка. *Дзіч на самай далоні сеў.* Ляшчынск Мядз.

**ДЗІЧ**[2] *ж.* Непрывычны пах; не такі, як звычайна. *Мне ад гэнага вінаграду тоўста ў році робіцца, скура сабіраецца. І чай зь яго ніўкусны, некай дзіччу ваніць.* Бяларучы Лаг.

**ДЗІЧАНЁ** *н.* Парася дзікай свінні. *Дзіця дзікоў завуць дзічанё.* Брылькі Валож.

**ДЗІЧКА** *ж.* **1.** Радзімка. *У Гунэфы дзічка на падбаротку, ды велька.* Пруды Стаўб. **2.** Бародаўка. *Дзічкі, бывая, усе рукі апсядуць, аш страх глянуць тады на іх.* Забалоцце Смал.

**ДЗЛЭНГАЦЬ** *незак.* Гаварыць. *А ён як зьлёх, так і дзлэнгаць перастаў.* Юр'ева Смал.

**ДЗЫНГНУЦЬ** *зак. Экспр.* Ірвануцца з месца. *Адзін конь дзынгнуў, дык і астатнія за ім панесьліся.* Зазерка Пух.

**ДЗЮБ** *м.* Дзюба. *Вот гэта птушка з доўгім дзюбам, што паляцела, жыве на балоце.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДЗЮБА́Н** *м. Зневаж.* Чалавек з вялікім гарбатым носам. *А вунь дзюбан пайшоў, Колька гэны.* Юр'ева Смал.

**ДЗЮГ** *м.* Палоса. *Наткала ў дзюшке пасьцілак: дзюх красны, дзюх сіні.* Дукора Пух.

**ДЗЮЖО́К** *м. Памянш.* Палоска. *Посьцілкі ўсякімі ўзорамі ткалі: хто ў дзюшке ткалі — дзюжок такі, і такі, хто як змодзіць.* Дукора Пух.

**ДЗЮ́ЖЫН** *м.* Тузін. *Купілі цэлы дзюжын куранят.* Вецярэвічы Пух.

**ДЗЮ́ЖЫНА** *ж.* Тое, што і дзю́жын. *Як лічаць, дванаццаць штук адлічаць, кажуць дзюжына.* Нізок Уздз. *Бабы, пачом на базары дзюжына гуркоў?* Цялякава Уздз.

**ДЗЮРЧА́ЦЬ** *незак.* Цурчаць, струменіць. *Вада цячэ й цячэ, дзюрчыць струём, блішчыць на сонцы.* Рудня Лаг. *Вада дзюрчыць, булькая і плешча.* Вялікая Вуса Уздз. *Дзюрчыць вада ў лотку.* Нізок Уздз.

**ДЗЯВО́ЦКІ ВЕ́ЧАР, ДЗЯВО́ЧЫ ВЕ́ЧАР.** Вечар перад вяселлем у маладой. *На дзявоцкі вечар сабіраюць маладых, ён бывае перад вясельлем.* Рудня Лаг. *А пакуль да вянца кап сягоньня субота, а заўтра вясельле, дык дзяўчаты сьпяваюць, дзявочы вечар называецца.* Любань Віл.

**ДЗЯВО́ЧЧЫНА** *ж.* Дзявочыя гады. *Раскажу пра сваю дзявоччыну.* Лубень Віл.

**ДЗЯВО́ШЧА** *н.* Тое, што і дзяво́ччына. *Я дзявошча свайго і ня ўбачыла. Вышла ў шаснаццаць гот замуш за такога, што й рабіць ня ўмея нічога, сама заўсёды ўперадзі, а ён за маімі плячамі жыве.* Бясяды Лаг.

**ДЗЯВО́ШЧЫНА** *ж.* Тое, што і дзяво́ччына. *Гэта мне, як я жыла ў дзявошчыне, гэтакая гора было.* Таўкачэвічы Уздз.

**ДЗЯВУ́ЛЯ, ДЗЯЎЛЯ́** *ж. Экспр.* Непаўналетняя, але рослая мажная дзеўчына. *Такая дзявуля, а нічога рабіць ня хоча.* Слабада Лаг. *Такая дзяўля вырасла, магла б і маці што памахчы.* Броды Маладз.

**ДЗЯВЯ́ТКА** *ж.* Назва касы ў залежнасці ад памеру. *Мой Віктар які здаровы хлопяц, а дзявяткай ні змох касіць: кратавін многа, трава крутая.* Арцюхі Стаўб. *Сама большая каса — дзявятка, каб яе пацягаць, трэба сілу мець.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДЗЯ́ГАЛЬ** *м. Бат.* Дзягіль (Archangelica). *Гэта ж зельле такое дзягаль, на дзягалі лісьце даўгаватае.* Хожава Маладз.

**ДЗЯ́ГІЛЬНІК** *м.* Тое, што і дзя́галь. *У нас дак на балоце дзягільніку многа. Гэта трава такая балотная.* Ляшчынск Мядз.

**ДЗЯГНО́** *н. Кулін., уст.* Мачанка з канаплянага семя. *А тады ідзём талакой на абет. Варылі такія латкі ў дзягне, кісель аўсяны, крупы з бобам.* Весялова Круп.

**ДЗЯДЗІ́НЕЦ** *м.* **1.** Участак з хатай і дваровымі будынкамі. *Узяць некалькі гектараў і абгарадзіць, паставіць гумно, хату, усю пастройку — і будзе дзядзінец.* Ляшчынск Мядз. **2.** Невялікае, парослае травой месца перад домам або каля дома. *Вот вышла на дзядзінец, пасядзела трохі з бабамі.* Бясяды Лаг. *Дзядзінец як гумшішча некалі.* Ляхавічы Дзярж. **3.** Месца, адведзенае для пасьбы свойскай жывёлы, птушак. *Места, дзе сьвіня ходзяць, цяляты,— гэта ў нас завуць дзядзінец.* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. dziedziniec 'тс'.

**ДЗЯДО́К**[1] *м.* Хмельны хлебны квас. *Калі кабеты стамляліся жнучы, то ардынаршчык прыносіў ім рашку дзятку, які настойваўся на хмялі.* Старына Дзярж.

**ДЗЯДО́К**[2] *м.* Адтуліна ў жорнах, у якую ўстаўляецца млён. *У дзядок устаўляюць канец млёна; дзядок у каго жалезны, у каго як сучок.* Вецярэвічы Пух.

**ДЗЯДО́К**[3] *м. Уст.* Тое, што і дзед[2] (у 3 знач.). *А як жа даўней за лучынаю жылі? У калодачку дзядок такі, дадуць у зубы яму лучыну і гарыць.* Савоні Стаўб.

**ДЗЯ́ЖКА** *ж.* **1.** Паясок у сукенцы. *Пашыла сабе сукенку зь дзяшкаю, зараз жа модна гэтак.* Капачоўка Барыс. **2.** Нашыйнік. *Здаецца, й моцная была дзяшка, а парваў жа. Што мне рабіць з гэтым сабакам?* Рабунь Віл.

**ДЗЯЙНІ́К** *м.* Месца, куды выкідваюць смецце, непрыгодныя рэчы, шкло. *Занясі банкі на дзяйнік і прыхоць дранку есьці.* Мацькаўцы Віл.

**ДЗЯ́ЛКА** *ж.* Дзялянка, участак. *Без бацькі гадавалася, маці памагала з маленства: і дзялкі палола, і касіла, і сена на насілках насіла. Папрацавала дзяўчына.* Язні Віл. *Дзялка ў мяне маленькая, скора ўправілася.* Сакаўшчына Валож. *У каго зямлі мала было, а сям'я вялікая, то дзялкай надзялялі.* Савоні

Стаўб. *І зноў дзялку трэба палоць, буракі заваліліся.* Цвіркі Стаўб.

**ДЗЯЛО́К** *м.* Тое, што і дзя́лка. *Адмераюць мне дзялок сена, дык 60 працэнтаў цяпер дадуць, а 40 — увосень.* Пудзіцк Пух.

**ДЗЯЛЯ́НКА** *ж.* Кавалак, порцыя. *Мы ўжэ ўвесь торт зьелі, адно твая дзялянка асталася. Дзе ты ходзіш?* Варацішча Стаўб.

**ДЗЯНІ́НА** *ж.* Дзень. *Ад віраб'ёў ні абагнацца, у гэтым лісьці шчабечуць цэлую дзяніну.* Бяларучы Лаг.

**ДЗЯНЦО́** *н.* Тое, што і гну́шка (у 1 знач.). *Ніяк ня ўзьбіцца на дзянцо, нада новае дзянцо.* Ігрушка Круп.

**ДЗЯНЬКО́ВАЦЬ** *незак.* Выказваць удзячнасць, дзякаваць. *Дзянькуе, што зайшлі да нас, старых.* Брылькі Валож. *Дзянькуе за хлеп-соль.* Зайцы Чэрв.; *параўн.* польск. dziękować 'тс'.

**ДЗЯ́ПКА** *ж.* Тое, што і джа́пка. *Дапамажы, сыну, дзяпка ў хляве стаіць.* Юшкаўка Віл.

**ДЗЯРА́** *ж.* Тое, што і дзермяза́. *Добра дзяру сабраць на́ зіму ды за вокны закладваць.* Ляшчынск Мядз.

**ДЗЯРА́ЗКА** *ж.* Тое, што і дзермяза́. *З дзяраскі вяночкі прыгожыя атрымліваюцца, а дзяраскавы пылок зьбіраюць для лячэньня.* Хожава Маладз.

**ДЗЯРБО́НІК** *м.* Тое, што і дзе́рбнік. *Надзерла картоплі на дзярбонікі, праўда, мала. Буду пячы, колькі есь.* Бясяды Лаг.

**ДЗЯРВЯ́НІКІ** *мн.* **1.** Туфлі на платформе. *Вось чуда дык чуда ў пер'ях. Нага таўстая, а яшчэ дзірвянікі напяліла, гітка глядзець.* Якімаўка Круп. **2.** Тое, што і абія́кі. *Дзярвянікі насілі даўно, калі ў лаўцы нічога не было.* Дукора Пух. *А ўперад былі дзярвянікі, а цяпер німа ні ў кога.* Бясяды Лаг.

**ДЗЯРВЯ́НКА** *ж. Бат.* Дуброўка (Potentilla). *Дзярвянкамі лячыліся даўней, дахтароў тых натта не шукалі. Ведама, час быў недзе езьдзіць?* Баяры Маладз.

**ДЗЯРВЯ́НЫ** *гл.* дзервяны́

**ДЗЯРВЯ́ШКІ** *толькі мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Далі ўжо каторым бедным такім, што ні было нічога, дзярвяшкі, дык мы пабувалі гэтыя кандалы на ногі, а сьнех падбіваіцца і ходзім.* Аляхновічы Маладз. *Даўней былі дзярвяшкі, цяпер іх німа.* Вішнева Валож.

**ДЗЯРГА́Ч[1]** *м.* Дзяркач. *Калі хочаце дзяргач узяць, ён у мяне ў сенях стаіць.* Язні Віл. *Падай дзяргач падлогу пашараваць.* Пугачы Мядз.

**ДЗЯРГА́Ч[2]** *м. Заал.* Драч (Crex crex). *У нас і драч кажуць, ведаюць, што такое, але бальшынство завуць дзяргач.* Хожава Маладз. *Дзяргач невялікая шэрая птушка, пералётная.* Паплавы Бярэз.

**ДЗЯРГО́НІК** *м.* Тое, што і дзе́рбнік. *Есьця, госьцікі, дзяргонікі.* Чышэвічы Валож.

**ДЗЯРДЗЁНІК** *м.* Тое, што і дзе́рбнік. *А вам хто так сказаў? Мае дык усе завуць дзярдзёнікі.* Сасноўшчына Віл.

**ДЗЯРЖА́ЦЬ** *незак.* **1.** Гадаваць, утрымліваць свойскую жывёлу, птушак. *Я, акрамя каровы, цялушачку тады дзяржаў.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Дзяржаў парасё і кароўку.* Сакольшчына Уздз. **2.** Арандаваць. *Яны некалі дзяржалі поле ў фальварку.* Цялякава Уздз.

**ДЗЯРКА́Ч** *м. Асудж.* Задзіра, забіяка, завадатар сварак. *Ну й дзяркач гэты Косьцікаў меньшы: жыў ня будзя, калі не зачэпіць каго-небудзь.* Ляхі Нясв.

**ДЗЯРЛІ́НА** *ж.* Выразаны пласт дзёрну. *А заставу робяць зь дзярлін і досак, шчэ ўсякія палкі кладуць.* Пудзіцк Пух.

**ДЗЯРМІ́ЗА** *гл.* дзермяза́

**ДЯРНО́** *н.* Тое, што і дзярлі́на. *Тыя дровы, што паляць на вугаль, дзярном апкладаюць, каб яны не гарэлі, а тлелі.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Трэба нарэзаць дзярна ды апкласьці клумбу, кап так не ўрастала.* Горкі Стаўб.

**ДЗЯРО́НІК** *м.* Тое, што і дзе́рбнік. *Можа я й ні так гавару, я ж ня ўмею, як вы, а для мяне гэта дзяронікі.* Юшкаўка Віл.

**ДЗЯРУ́Н** *м.* Тое, што і дзе́рбнік. *Дзяруны ў нас дзяруць на цёрку ды пякуць ды ядуць. І я пяку дзяруны, от калі-небудзь надумаюся.* Бубны Віл. *Настружы картошкі поўную міску, дзяруны буду пячы.* Кукалеўка Чэрв.

**ДЗЯ́ТЛАЎКА** *ж. Бат.* Дзяцеліна (Trifolium repens L.). *Дзятлаўкі накасіў, дык і змарыўся.* Малінаўка Лаг.

**ДЗЯ́ТЛІНА** *ж.* Тое, што і дзя́тлаўка. *Дзятліна забялела на гумнішчы.* Зазерка Пух.

**ДЗЯТУ́ХА** *гл.* дзе́туха

**ДЗЯЎБА́ЦЬ** *незак.* Удараючы з размаху чым-н. вострым, раздзяляць на часткі. *Я ш хворая сусім, сёньня чуць-чуць надзяўбла дроў.* Рудня Лаг.

**ДЗЯЎБСЦІ́** *незак.* **1.** Вырабляць што-н. дзяўбаннем, выдзёўбваннем. *— Дык як тыя дзеравянкі дзяўпсьці? — Ды далатом. Стаў дзяўпсьці — яны рашчапіліся.* Бакачы Мядз. **2.** *перан.* Безупынна гаварыць, паўтараць адно і тое. *Я б ужо й ні спраўляла гэтых пяцьдзесят гот, але ш усе дзеці дзяўбуць.* Пудзіцк Пух.

**ДЗЯЎЛЯ́** *гл.* дзяву́ля

**ДЗЯ́ЦЕЛЬНА** *ж.* Тое, што і дзя́тлаўка. *У нас завуць дзяцельна добрую канюшыну.* Цялякава Уздз.

**ДЗЯ́ЦЕЛЬНІЦА** *ж.* Тое, што і дзя́тлаўка. *Нада кроху ўзяць дзяцельніцы, у дарозе й жук — мяса.* Бяларучы Лаг.

**ДЗЯЦЁ** *н.* Дзіця. *Мы даўней ні гэтак жы-*

*лі. І трэба было прасьці, і дзяцё трэба калыхаць — адна нага ў почапца, а другой калаўрот цісьніш.* Сцешыцы Віл.

**ДЗЯЦЁНАК** *м.* Тое, што і дзяцё. *Братавая гэто пісьмо прачытала, парвала, а другое напісала: „Радзіла твая жана дзяцёнка — ні то чарцёнка, ні то кацёнка, ні то сабачанёнка". І паслала гэта пісьмо* (з казкі). Малое Стахава Барыс. *Гляджу, салдат ідзець. Вялікі. Ведама, я яшчэ дзіцёнкам быў, мне падалося, што вялікі, ідзе з аўтаматам.* Снягла Віл.

**ДЗЯЦЁНАЧАК** *м. Памянш. да* дзяцёнак. *Іна й палезла з гэтым дзяцёначкам на печ.* Малое Стахава Барыс.

**ДЗЯЦІВУХА** *ж.* Тое, што і дзетавбдуха. *Курыца наша водзіць куранят, то янаназываецца дзяцівуха.* Рудня Чэрв.

**ДЗЯЦІНСТВА** *н. У знач. зб.* Дзетвара. *Ашчэ я помню, рэчка глыбокая была, нна ні відаць, віры круцюцца. А цяпер зарастае, мяльчэе, дзяцінства гэта паскудзіць, рыбу ловячы.* Бяларучы Лаг.

**ДЗЯЦЮК** *м.* Нежанаты малады чалавек; кавалер. *Малады едзіць са сваімі гасьцямі, а маладая з прыданкай і дзяцюком, што вянок дзержыць. У мяне аш два дзяцюкі былі, як вянчалася.* Любань Віл. *Усе паразьбіраюцца па парах, як кончыцца вічарынка, і дамоў пойдуць, бо ў каждай дзеўкі быў свой дзяцюк. Крык, піск. Дзеўкі ад дзяцюкоў уцякаюць, лятуць і аглядваюцца.* Пузыры Мядз. ◊ **Пад дзецюка** — падлетак гадоў 16–17-ці. *Яго сын быў ужо пад дзецюка, большы за мяне, яму нада было езьдзіць коні пасьціць на начлех, сваіх.* Мікольцы Мядз.

**ДЗЯЦЮЧОК** *м. Непахв. да* дзяцюк. *Падрос я трошкі, стаў пад дзяцючка, пашылі мне штаны і кашулю.* Старыя Габы Мядз.

**ДЛЯ, ДЛІ** *прыназ. з родн.* **1.** Выражае аб'ектныя адносіны і ўжываецца пры абазначэнні прадмета, месца, паблізу якіх размяшчаецца, адбываецца што-н. **Каля.** *Усюды ўзаралі, толька для сенажаці пакінулі.* Цялякава Уздз. **2.** Выражае мэтавыя адносіны і ўжываецца пры абазначэнні мэты дзеяння. **Дзеля, у імя.** *Гэта длі чаго кідаць семічкі на пол?* Луцішча Круп.

**ДНІШКА** *ж.* **1.** Тое, што і гнўшка (у 2 знач.). *Пат патэльню, пат што другое ў нас днішку ставяць.* Язні Віл. **2.** Тое, што і гнўшка (у 1 знач.). *Днішка вунь на сьцяне вісіць.* Сырмеж Мядз. *Днішка невялікая, цыбульку, сала добра пакрышыць калі.* Сцебіракі Віл.

**ДО, ДОСІЦЬ** *прысл.* **1.** Дастаткова, хопіць. *Зіму, дзьве паходзіць [у школу], умеіць расписацца — і до.* Альсевічы Мядз. // *безас. у знач. вык.* (асабліва ў спалучэнні з займ.). *І сколькі ён [салдат] там пражыў, невядома. Досіць таго, што царская дочка была на гэтым самым гуляньні і захацелася ёй паезьдзіць па моры* (з казкі). Альсевічы Мядз. **2.** *у спалучэнні з прым.* Даволі. *Досіць спрытны яшчэ мой стары, нават і сена кося.* Сядзіца Віл.

**ДОБРЫ** *прым.* ∇ **Добры, хоць да раны прыкладай.** Кіркаўшчына Нясв.

**ДОБРЫЦА** *ж.* Правы бок тканіны. *На добрыцу гэта матэрыя вельмі ш прыгожая.* Халмоўка Барыс. *На добрыцу штапель не глядзіцца: размазаны ўзор.* Сырмеж Мядз.

**ДОВАД** *м.* Пашпарт. *Нашто яны робяць гэтыя довады старым? Я ўжо і так дамся скора.* Апенькі Віл.; *параўн.* польск. dowód 'тс'.

**ДОГЛЯДЫ** *толькі мн.* Агледзіны. *Мелася да мяне жанчына прыйсьці ў догляды, ды нешта няма.* Каменка Уздз.

**ДОД** *м. Заал.* Удод (Upupae). *Дод жыве ў лесі і ўсё крычыць дот-дот.* Пруды Стаўб.

**ДОДНЕЧКАМ** *прысл.* Досвіткам, на досвітку. *Ведаяш, можа, ні забылася, Макрына, колькі трэба было напрасьці на дзесяць губак верацяном? Ды пралі ні днямі, а вечарамі і доднечкамі, а цэлы дзень малацілі жыта цапамі ды на кулі ператрасалі.* Палачаны Маладз.

**ДОДНЯ** *прысл.* Тое, што і доднечкам. *Сёньня ўстала додня.* Малінаўка Лаг.

**ДОЙКА** *ж.* **1.** Даёнка, дайніца. *Харошая кароўка мая: раньняй вясной цэлаю дойку малака дае.* Чабаі Валож. **2.** Даярка. *Дачка была дойкаю, многа малака надойвала.* Цялякава Уздз.

**ДОЙЛА** *н.* Тое, што і дойка (у 1 знач.). *Вазьмі дойла з малаком і працадзі малако.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ДОЙНІЦА** *ж.* Тое, што і дойка (у 1 знач.). *Увечара надаіла поўную дойніцу.* Рудня Чэрв.

**ДОЙНІЧКА** *ж. Памянш. да* дойніца. *Паставіла дойнічку ля самых капытоў! Я ш табе казала, што карова пераверне.* Баяры Маладз.

**ДОЙСЦЬ** *прысл.* Тое, што і до. *Што тады было?! Мох учыцца папоў сын, паноў сын, папова дачка, панова дачка, яшчэ, хто багаты, мох учыць — і дойсьць. А цяпер усё перавярнулася.* Мікольцы Мядз.

**ДОКУЛЬ** *прысл.* Дакуль. *Докуль ты будзеш лазіць па гразі?* Пудзіцк Пух.

**ДОЛ** *м.* **1.** Паверхня падлогі. *Цяпер на доле і каўры харошыя ляжаць, а раней земляны дол быў.* Зазерка Пух. **2.** Магільная яма. *Абедаць далі тым, што дол капалі.* Цялякава Уздз.

**ДОЛЕ, ДОЛІ, ДОЛЯ** *прысл.* На зямлі, на падлозе. *Не туды глядзіш, паглядзі доле ў кутку, там усе цацкі ляжаць.* Азаркі Мядз. *Я б магла ўзяць на кватэру, але дзе мне вас палажыць, не паложыш жа долі.* Жораўка Пух. *Не сядзі доля, халодная яна.* Ракаў Валож.

**ДОЛКІ** *прысл.* На зямлю. *Сьветка так ціханька сядзела на зэдліку, а тады звалілася*

*долкі і ляжыць.* Саланое Валож.

**ДО́ЛУ** *прысл.* Тое, што і до́лкі. *Летнія яблыкі пашці ўсе долу асыпаліся, а зімовыя абіраць будзем у канец лета.* Баяры Маладз.

**ДО́ЛЯ** *гл.* до́ле

**ДО́ЛЯР** *гл.* даля́р

**ДО́ЛЯХ** *прысл.* ◊ **Долях ляжаць** — памерці. *Ён даўно ўжо долях ляжыць.* Чабаі Валож.

**ДОМ** *м. Перыфр.* Труна. *Дом — гэта гроп, яго з досак робяць.* Ігрушка Круп.

**ДО́МА** *прысл.* У сваёй сям'і. *Ён пагіп, як шчэ Марыля дома была.* Цялякава Уздз.

**ДО́МІК** *м. Пчал.* Вулей. *Неяк адным годам як пчолы памёрлі, дык домікі і стаяць пустыя.* Сцебіракі Віл.

**ДО́НЦА** *н.* Кружок. *А салёныя рыжыкі! Іх і варыць ня трэба, абцерці чысцінька ды пасаліць, прыціснуць донцам, праз пяць-сем дзён еш.* Жартайка Барыс.

**ДО́РАЖНІК** *гл.* даражні́к

**ДО́РЖНІК** *гл.* даржні́к

**ДО́РНІК** *м.* Прабойнік. *Дзюру праб'ю ў жалезе дорнікам.* Хожава Маладз.

**ДОС, ДОСЬ. 1.** *безас. у знач. выкл.* Выражае загад, патрабаванне спыніць што-н. *Дос ужо вам зубы тачыць!* Узгурск Чэрв. **2.** Тое, што і до, до́сіць. *Паехала яна [царская дачка] с кім-та пакатацца, і як там случылася, ні знаю, дось таго, што йна ехала адна, бізь нікога... Прыгнала ґ берагу, ні ўтанула яна, вышла на сухоя і папала ў тоя самая места, дзе быў гэты чалавек. І дось таго, што ён там хадзіў па берагу і ўвідзяў яе. І там сколька часу яны пражылі, цар стаў разысківаць яе. Доўгі час шукаў. Дось таго, што нашлі іх у пушчы ў нейкай у такой бязьлюднай і прывязьлі дамоў* (з казкі). Альсевічы Мядз.

**ДО́СЕЎКІ** *толькі мн.* Заканчэнне сяўбы. *Раней мы і досяўкі сьвяткавалі, калі канчалі восяньню сяўбу.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДО́СІЦЬ** *гл.* до

**ДО́СКІ** *мн.* Кладка, памост на возеры для паласкання, мыцця і пад. *Ёсь на возеры ў нас доскі, можаш і ты памыць сваё паркалёвае.* Рудня Лаг.

**ДО́СТКА** *ж.* Дошка. *Цэлыя чатыры калоды расьпілавалі, хваціць достак на столь і на падлогу.* Пагарэлец Пух. *Купіў достак на падлогу.* Жацерава Стаўб.

**ДОСЬ** *гл.* дос

**ДО́ТУЛЬ** *прысл.* Датуль. *Покуль не аддаў медалёў, дотуль сын не пайшоў к яму.* Пудзіцк Пух.

**ДОЎЖ** *ж.* Невялікая адтуліна, праз якую ляцяць пчолы ў вулей. *Доўш — дзірачка такая ў вульлі, праз якую пчолы вылятаюць.* Хожава Маладз.

**ДО́ЎЖЫНЬКІ** *прым. Ласк.* Некалькі даўжэйшы за звычайны. *Грыбы апенькі любюць балоцістая места. Ношка такая тоніњкая доўжынькая. Галоўка карычнівая.* Суднікі Віл.

**ДО́ЎЗАЗНЫ** *прым. са знач. высокай меры якасці. Сарочка ў яе была доўзазная.* Дукора Пух.

**ДО́ЎЗЕНЬКІ** *прым.* Тое, што і до́ўжынькі. *Доўзенькая тая зіма мне здалася.* Пудзіцк Пух.

**ДО́ЎНІШНЯЕ** *у знач. наз.* Даўнейшае, мінулае. *Вы, відаць, хочаце ведаць доўнішняе, бо ўсюды ходзіця і ўсё распытваіця.* Рудня Чэрв.

**ДО́ЎНЯ-РАЗДО́ЎНЯ** *прысл.* Вельмі даўно, даўна-прадаўна. *То ён доўня-раздоўня ўдаўцом жыве, дачку гадавоў.* Пудзіцк Пух. *Шчэ баба доўня-раздоўня прала тальку.* Рудня Чэрв.

**ДО́ХТАР** *м.* Урач. *Забалелі ў мяне вочы. Пашла я да дохтара.* Старыя Габы Мядз.

**ДО́ХТАРКА** *ж. Жан. да* до́хтар. *Ліха яго ведая, што ў мяне. Дохтарка казала, што ж жыватом нешта не ў паратку.* Слабада Стаўб.

**ДО́ЧАРТА** *прысл.* Шмат. *Ягат цяперака ў лесі дочарта, кап толькі час быў.* Пудзіцк Пух.

**ДО́ЧКІН** *прым.* Даччын. *А ведзьма пад'ела ды кажа: „Пакачусь, паваляюсь, Цярэшкавага мяса пад'еўшы". А ён кажа, на дубу седзючы: „Пакацісь, паваліcь, дочкінага мяса пад'еўшы"* (з казкі). Малое Стахава Барыс.

**ДО́ЧЧЫН** *прым.* Тое, што і до́чкін. *Я дзеўчачку сваю схапіла за ручку, вяду, а сын уплёўся за доччыну ручку, тожа цягнецца па вадзе.* Чырвоны Пасёлак Уздз.

**ДО́ШКА** *ж.* Тое, што і гну́шка (у 1 знач.). *Вазьмі дошку і нарэж сала.* Вецярэвічы Пух.

**ДО́ШЧАЧКА** *ж.* **1.** Дошчачка лыжкападобнай формы з дзвюма дзірачкамі, якою карыстаюцца пры снаванні, каб ніткі асновы клаліся роўна, не блыталіся і не рэзалі руку. *Возьміш у руку дошчачку, у якой прабіты дзьве дзюркі, уцягніш у дзюркі ніткі с клубкоў і так снуеш.* Рубяжэвічы Стаўб. *Зробім дошчачку такую з дырачкамі і ў гэтыя дырачкі ўцягвалі ніткі, тады хадзілі па хаце і снувалі.* Баранцы Віл. **2.** Матэрыял на агароджу. *Онь у мяне садок загароджаны дошчачкаю.* Пруды Стаўб.

**ДРАБАКАВА́ЦЬ, ДРАПАКАВА́ЦЬ** *незак.* Спружынаваць. *Баранаваць або драбакаваць [нада], як трава або калі цьвёрдая зямля. Падрабакуюць, а тады развозяць гной і аруць.* Рабунь Віл. *Перш драпакуюць, тады аруць.* Савоні Стаўб.

**ДРА́БА** *ж. Эмац.* Кляча, худзіна. *Хіба на мыла здаць драбу гэту?* Нарач Віл.

**ДРАБА́Ч** *м.* Тое, што і дзярга́ч[1]. *Драбачом добра падлогу шараваць, вазьміце ў мяне.* Язні Віл.

**ДРАБІ́НА** *ж.* **1.** Драўляная прыстаўная лесвіца, драбіны. *Патстаў драбіну, на гару кра-*

*піву трэба ўсьцягнуць. У нас новая драбіна, нядоўна стары зрабіў.* Бяларучы Лаг. *Да сукоў прыстаўляюць драбіну, а там лезуць па сукох.* Сцебіракі Віл. **2.** Адзін з прадметаў супрацьпажарнага інвентару. *Палажылі драбіну на страсе, а то што рабіць, як сажа загарыцца?* Нізок Уздз. *Драбіну нядаўна новую палажыў на страху.* Рабунь Віл. **3.** Рашотчатая кармушка на сена, трасянку. *Трэба карове ў драбіну сена паткінуць.* Ігрушка Круп.

**ДРАБІ́НКА**[1] *ж. Пчал.* Прыстасаванне, якое ўстаўляецца ў галаву калоды для адкладвання мёду. *Дзе мёд у караніку зьбіраецца, драбінка называюць.* Вялікая Вуса Уздз. *Драбінку вешаюць, штоб мёд лажылі пчолы.* Забалоцце Смал.

**ДРАБІ́НКА**[2] *ж.* **1.** *Памянш. да* драбіна (у 2 знач.). *Драбінка — гэта лесьвічка, пракладзеная па страсе да коміна.* Вішнева Валож. **2.** Рашотка, якая ўстаўляецца ў задок воза або саней. *Засунь драбінку, каб бульба не высыпалася.* Вецярэвічы Пух.

**ДРАБІ́НЦЫ** *толькі мн.* Тое, што і драбіна (у 1 знач.). *У нас драбінцы старэнькія, новыя трэба зрабіць, бо можна ўпасьці.* Старыя Габы Мядз.

**ДРАБНЯЧО́К** *м. Зб.* Назва прадмета паводле характэрнай прыметы, абазначанай утваральным словам. *І столькі масьлякоў па драмнячку-сасьнячку многа, прама ў раду сідзяць.* Нядаль Барыс.

**ДРАБО́К** *м.* **1.** Зубок, каліўка. *У хаця німа ні драпка часныку.* Астравок Уздз. *Ад рабакоў добра драбок часныку зьесці.* Кухцічы Уздз. **2.** Невялікі кавалачак чаго-н. *Пазыч мне, кумачка, драбок цукру, нешта ў горля залажыла, дак вып'ю гарачага чаю, можа атпусьціць.* Цялякава Уздз.

**ДРАБЯШЧА́ЦЬ** *незак.* Балбатаць. *І як ёй толькі язык не баліць цэлы дзень драбяшчаць несупынна.* Грабёнка Чэрв.

**ДРАВУ́ШКА** *ж.* Першацёлка. *Дравушка на пасьце, ідзі прыгані.* Ляшчынск Мядз. *Вунь паглядзі, якая прыгожая наша дравушка, с каровай ідзе.* Мацкі Мядз. *Мая дравушка такая маленькая, як цёлка.* Забалоцце Смал.

**ДРАВЯ́НЫ** *прым.* Драўляны. *Флейта дравяная, у дзюрачках.* Вішнева Валож.

**ДРА́ГАЦЬ** *незак.* Стукаць, грукаць. *Драгала ў вокны і ў дзьверы, а яны сьпяць сабе.* Краснае Маладз.

**ДРА́ГНУЦЬ** *зак.* Стукнуць. *Так драгнуў пад руку, што міска ўпала на падлогу.* Сырмеж Мядз.

**ДРАЗВІ́СТЫ** *прым.* Дрыгвяністы. *Ня йдзі, браток, бо там дразвістае балота, што можна праваліцца.* Ляшчынск Мядз.

**ДРА́КА**[1] *ж.* Бойка, бой. *А йшлі парцізаны, а тут жа лес быў такі кругом, і нарваліся. Завязалася драка. Такая драка, што ўсе гэтыя самыя фашысты сталі садзіць з лесу.* Снягла Віл.

**ДРА́КА**[2] *ж.* Тое, што і грабёлка. *Былі дракі жалезныя, а яшчэ былі дракі дзіраўныя, на адзін канец дошкі набівалі гвазьдзюкі.* Шаварнічы Бярэз.

**ДРА́КА**[3] *ж.* Тарка. *Буду драць бульбу, дзе наша драка?* Сырмеж Мядз.

**ДРА́КА**[4], **ДРА́ХА** *ж. Будаўн.* Выемка ў бервяне з ніжняга боку для шчыльнага прылягання. *Драку робяць санціметры тры-пяць. Выбіраюць драку для лепшага прыляганьня бервяна.* Хожава Маладз. *Ён апчэсваць будзя, а я драку выбіраць.* Студзёнкі Віл. *Драху глыбокую зрабіў, моху многа нада.* Бытча Барыс.

**ДРА́ЛА** *у знач. вык.* Наўцёкі, уцякаць. *Сястра была, дык сястра драла ў лес. Нашлася братавая — яна тожа ў лес. А дзеці за ёй.* Снягла Віл.

**ДРАМА́КА** *м. і ж.* Соня; чалавек, які любіць паспаць. *Эй, драмака, хопіць спаць. Ужо сонца высока, а ты ўсё сьпіш.* Турын Пух.

**ДРА́НАЧНЫ** *прым.* Якім прыбіваюць дранку. *Ніяк драначных цьвікоў нідзе не дастану. Як прывязуць, куплю многа, буду крыць страху.* Бытча Барыс.

**ДРАНДУ́ШКА** *ж.* Частушка, прыпеўка. *Дзеўкі як завядуць драндушкі, канца няма ім.* Турын Пух.

**ДРА́НКА**[1] *ж.* **1.** Тое, што і дзёрбнік. *А рас хазяйка картошкі надрала і пячэць бліноў, дранкі, нальлець сьмятаны, есьця. А сядзіць ліцінант і кажыць: „І кушаю, і такое ўкуснае, і харошае, ну, ш чаго яно зьдзелана?"* Мікольцы Мядз. **2.** Бабка. *Я люблю дранку, але не магу яе есьці: яна мне шкодзіць.* Хожава Маладз. *Уставіла на абет дранку.* Жораўка Пух. *Я бульбы садрала, зьлію ў гаршчок, прыпраўлю і пастаўлю ў печ — ув абед дранкі паядзім.* Кроква Лаг.

**ДРА́НКА**[2] *ж.* Дзяруга, патканая рыззём. *Бывала, дзетачка, і дранкам былі рады, бо пад імі цёпла спаць. Цяпер ва ўсіх адзіялы, а дранкі пад ногі сьцелюць.* Рудня Чэрв.

**ДРА́ННІК** *м.* Тое, што і дзёрбнік. *Якія смашныя гарачыя драньнікі, ды яшчэ з маслам! Але я спазьніўся, толькі адзін драньнік дастаўся.* Муляры Віл.

**ДРА́НЫ** *дзеепрым.* Здробнены ў крупадзёрцы. *Драныя крупы — дробныя.* Вецярэвічы Пух. *Драныя крупы ў крупадзёрцы вырабляюцца.* Дукора Пух.

**ДРАНЬ** *ж.* **1.** Дранка. *Я ўжэ на хлеў драні загатовіў.* Нізок Уздз. *Яе хата пакрыта драньню.* Рудня Чэрв. **2.** *зб.* Дубцы, расчэпленыя надвае. *Схаджу ў лес, трэба надраць драні на кошык.* Гілікі Валож.

**ДРАПА́К** *м.* Культыватар. *Як назло, драпак зламаўся.* Папоўцы Віл.

**ДРАПАКАВА́ЦЬ** *гл.* драбакава́ць

**ДРАПА́Ч** *м.* Матыка. *Быў добры ў мяне драпач, але я яго паламала.* Хожава Маладз.

**ДРАПЕ́ШКІ** *мн. Экспр.* Басаношкі. *Купіла сабе драпешкі белыя, ездзіла за імі на антобусі ў Вялейку.* Асіповічы Віл.

**ДРАПКАВА́ЦЬ** *незак.* Культываваць. *І сёньня пойдуць бульбу драпкаваць, можа і закончаць.* Папоўцы Віл.

**ДРАПКА́Ч** *м. С.-г., уст.* Прымітыўная барана. *Спілоўвалі елку, пакідалі сукі, і гэтай елкай, смыкам гэтым, ці драпкачом, бульбу баранавалі, конь цягаў гэты смык.* Бытча Барыс. *Драпкачом рыхлілі, падварушвалі глебу.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДРА́ПСАВЫ** *прым.* Палатняны, парцяны. *Даўней надзенуць драпсавую суненку і ётай рады, а цяпер і шоўк насіць ня хочуць.* Пудзіцк Пух.

**ДРА́ПУС** *м.* Матыка з трыма зубамі. *Я ведаю, што матыка, але прывыклі — драпус.* Сасноўшчына Віл.

**ДРА́ПЦЫ** і **ДРАПЦЫ́** *толькі мн.* **1.** Тое, што і д р а́ п у с. *Купіла дра́пцы, гора ня буду ведаць.* Палессе Мядз. *З дра́пцамі добра палоць, як цьвёрда.* Палачаны Маладз. **2.** Вілы з тупымі зубамі, накшталт шуфля. *Драпцы стаяць ля плоту, ідзі насыпай картофлю.* Ляхавічы Дзярж. *Бульба збуяла, малая парасла, праз драпцы́ сыпліцца.* Палачаны Маладз.

**ДРАПЧА́К** *м.* Лёгкі вазок для святочных выездаў. *У драпчак аднаго каня запрагалі, на кірмаш у драпчаку ехалі.* Чабаі Валож.

**ДРАЎНЯ́КІ** *мн.* Тое, што і а б і я́ к і. *Абуем драўнякі і ідзём у дарогу нават у вялікі марос.* Будслаў Мядз.

**ДРА́ХА** *гл.* дра́ка [4]

**ДРАХЛАВАТЫ** *прым.* Трухлявы, з старога дрэва. *Якія там сенцы былі?! Драхлаватыя, там сенцы гэткія, што папхні, дак гэтыя дзьверы к чорту й паляцяць.* Залазоўе Віл.

**ДРАЦІ́НКА** *ж.* Кавалачак дроту. *У суседа карова прапала, нашлі драцінку ў кіньдзюку і сапожны гвозьдзік.* Кабыльчыцы Валож.

**ДРА́ЦЦА** *незак. Незадав.* Моцна крычаць. *Чаго дзярэсься не сваім голасам? Здарылася што?* Калодкі Віл.

**ДРАЦЬ** *незак.* **1.** Ачышчаць ад пустазелля. *А мая ўнучка цэльны дзень побач са мною градкі драла.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Знімаць, адрываць мяккую частку пяра ад цвёрдага стрыжня. *Вясной, у лютым—сакавіку, так сонца прыгравае, на верандзі цёпло, я ўстроюся і дзяру пер'е.* Савоні Стаўб. *За прошлы гот сем падушак зрабілі. Але ш і пер'я прышлося драць!* Рабунь Віл. **3.** Разграбаць лапамі. *Дзяруць грады куры, трэ' пайсці выгнаць.* Кукалеўка Чэрв. **4.** Раздражняць, выклікаць непрыемнае адчуванне. *Было холадна ў ногі, у горле дзярэ, драчыць і кашаль.* Гілікі Валож. *Так нешта ў горле дзярэ. Усю ноч кашаль біў. Напэўна, захварэю.* Вішнева Валож. ◊ **Драць горла** *незадав.* — моцна гаварыць, крычаць, пець, гарланіць. *Чаго дзярэш горла напрасна — ён цябе не чуе.* Паплавы Бярэз. *Дзярэ горла зра.* Хожава Маладз. *Прывык горла драць.* Ігрушка Круп. *Разяперыўся, дзярэ горла на некага.* Вязынка Маладз. **Драць землю** — вельмі моцна перажываць няшчасце, заходзіцца ад вялікага гора, пакутліва гараваць. *Мацяры больш за дзевяносто памерла, то дочкі ў землю жывымі лезьлі, дралі землю за тою маткаю, так шкадавалі.* Савоні Стаўб. **Драць казлы** — ванітаваць. *У майго хлопца, мусіць, рабаке, бо праз усю ноч казлы драў.* Дукора Пух.

**ДРАЦЯ́НІЧАК** *м.* Гліняны гаршчок, аплецены дротам. *Даўней былі драцянічкі, самі рабілі гліняныя гаршчочкі, дротам аплецены.* Рудня Лаг.

**ДРАЧ** [1] *м.* Тое, што і д р а́ к а [4]. *Мы гаворым драч павыбіраць, есьлі нада, штобы берꞌвяно плотна прыстала.* Ігрушка Круп.

**ДРАЧ** [2] *м.* Тое, што і д р а́ п у с. *Хоць стамілася, але трэба з драчом у гарод зайсьці буракі падрыхліць.* Пудзіцк Пух.

**ДРАЧ** [3] *м.* Тое, што і д з е́ р б н і к. *Мае малыя драчы любяць, я часта пяку драчы.* Аношкі Віл.

**ДРА́ЧКА** [1] *ж.* **1.** Тарка. *Была ў мяне добрая драчка, але сьцёрлася, трэба новую купіць.* Ігрушка Круп. // *перан. Ты такая маленькая, а дзярэсься як драчка тая.* Забалоцце Смал. **2.** Тое, што і г р а б ё л к а. *Драчкі ёсь і большыя і меншыя, ёсь жалезныя і дзеревяныя.* Бытча Барыс.

**ДРА́ЧКА** [2] *ж.* Тое, што і д р а́ к а [4]. *Драчку роўна ня высячаш, каб бярвеньні шчыльна прылягалі, паміж імі мох ложаць.* Паплавы Бярэз. *Драчку дзяруць, кап плотна прылягала да другога берага бервяно.* Ляхавічы Дзярж.

**ДРА́ЧКІ** *толькі мн.* Крупадзёрка. *Значыць, стаяць такія нівялікія камяні, дзе дзяруць крупу, гавораць на іх драчкі.* Бытча Барыс.

**ДРАЧУ́НІК** *м.* Тое, што і д з е́ р б н і к. *Драчунікі сьпяку, с салам вельмі я люблю.* Ігрушка Круп.

**ДРА́ЧЫК** *м.* Тое, што і д р а́ п у с. *Драчык у сусеткі ўзяла, цяпер ляхчэй, а то капаніцай глядзі, каб не пасекчы карэньня.* Жораўка Пух.

**ДРОБ** *м. Паляўн.* Шрот. *Тадзік наш дропам страляя, а ў міне дроп адабралі.* Млечкі Віл.

**ДРО́ГЛЫ** *прым.* Азяблы да дрыжыкаў. *Ты ш, пэўна, дроглая, лесь хуцінька на печ.* Сакаловічы Круп.

**ДРО́ЖДЖЫ** *толькі мн.* ◊ **Як на драж-**

джах — вельмі хутка (расці, паднімацца). *Кожды дзень свайму маломy даю стакан верху, расьце як на дражджах.* Калодкі Віл.

**ДРОНГ** м. Жэрдка, якой закладваюць вароты. *Мой дык дронгі пазакладваў, кап скаціна не разбрылася па выганя.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. drąg 'жэрдка, кол'.

**ДРО́СІНЬ** м. *Бат.* Драсён (Polygonum). *Змалку вучыся траўкі розныя разумець. Во брыкса, а то канапелька, дросінь, а там далій падбел.* Бяларучы Лаг.

**ДРО́ХІ** *толькі мн.* Тое, што і вяз (у 2 знач.). *Дрохамі раней звязвалі плыты.* Хожава Маладз.

**ДРУГА́К** м. **1.** Карова, якая пабегала або ацялілася другі раз. *Карова першым целем называецца пяршак, другім — другак, трэцім — трацяк.* Ігрушка Круп. **2.** Тое, што і дружа́к[1]. *Другак можа выйсці дзён праз дваццаць—дваццаць два.* Рудня Лаг. *З другакоў ужо можна мёду чакаць.* Паплавы Бярэз.

**ДРУЖА́К[1]** м. *Пчал.* Другі ў залежнасці ад паслядоўнасці выхаду рой. *Першы рой — пяршак, другі — дружак, трэці — трацяк.* Саланая Валож. *Пяршак у чэрвені выходзіць, дружак — дзён прас пяць, а трацяк — дзён праз дзесяць пасьля першака.* Хожава Маладз. *Сягоньня ўжо дзівяты дзень, як вышаў пяршак, павінен выйсьці дружак.* Ляхавічы Дзярж. *Дружак — гэта другі рой, маладая матка выводзіць.* Пруды Стаўб.; *параўн.* польск. drużak 'тс'.

**ДРУЖА́К[2]** м. Сябар, дружака. *Во дружак мой стары прыехаў, пачаставаць трэба.* Забалоцце Смал.

**ДРУ́ЖБА** ж. *Абрад.* Сваякі і сябры жаніха або нявесты, якія ўдзельнічаюць у вясельным абрадзе. *Сабралася і зь яе і яго стараны бальшая дружба, вясёла было.* Будслаў Мядз.; *параўн.* польск. drużba 'тс'.

**ДРУ́ЖНЫ** *прым.* Спагадлівы, чулы. *Каб дружны быў, дык кінуўся п і памох, а ён жа стаяў рукі склаўшы і не паварушыўся нават.* Хожава Маладз. *Ён дружны чалавек быў, заўсюды ўсім дапаможа.* Рабунь Віл.

**ДРУЖНЯ́К** м. *Пчал.* Тое, што і дружа́к[1]. *Другі рой з маладой маткай дружняком называюць.* Нізок Уздз.

**ДРУЖЫ́НА** ж. *Абрад.* Тое, што і дру́жба. *Вот і прыехала дружына з жаніхом.* Вялікая Вуса Уздз. *Дружыны многа прыехала: і маці, і бацька, і цётка, а хатка мала, а разьмясьціць усіх нада.* Рудня Чэрв. *Ну, прыедзя малады с сваёй дружынай, с усёй свадзьбай, садзяць за стол.* Мячаі Віл.

**ДРУЗ** м. Невялікая колькасць чаго-н. сыпкага. *Друс сахару можа быць, солі, крупы якой.* Хожава Маладз.

**ДРУ́КІ** і **ДРУКІ́** *толькі мн.* Прыстасаванне з сукаватых маладых ялінак, састаўленых у выглядзе пірамiды, для сушкі сена, вікі, гароху, бульбяніку. *Там каля току стаяць высокія яловыя дру́кі, бачыце?* Пількаўшчына Мядз. *Зрабілі друкі́, хоць будзіць мейсца, дзе пасушыць, на зямлі ня высахніць.* Баяры Маладз.

**ДРУТ** м. Дрот. *Ляцеў ён ноччы цераз мяжу і ўшчаміўся ў друт. Да крыві падраўся.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. drut 'тс'.

**ДРУ́ЦА** ж. *Кулін.* Ячменныя крупы, а таксама суп, каша з гэтых круп. *А дзе прадзём, грыбоў сушоных прынясём і друцу кіслаю варым.* Ластаянцы Валож. *Наеўся друцы, цэлы дзень толькі ваду п'ю.* Лыцавічы Віл.

**ДРЫ́ГАЦЬ** *незак. Экспр.* Ехаць, трэсціся. *Чым дрыгаць гэтым аўтобусам, лепш на электрыцы даехаць.* Зазерка Пух.

**ДРЫ́ГВА, ДРЫ́ЖВА** ж. *Кулін.* Халадзец. *Толькі на другі дзень вясельля апомнілася, што дрыгву на стол не паставіла.* Падзерычы Стаўб. *Пасля выносілі дрыжву і падавалі салёнку або другі раз мундзяры.* Старына Мядз.

**ДРЫГВА́Н** м. Дрыгва, топкае балота. *Ішлі людзі ў вайну па балотах, дрыгванох, абы ўцячы ад бяды.* Кухцічы Уздз.

**ДРЫГЛЯ** ж. Тое, што і дры́гва. *Дрыгля штось не ўдалася: не застыла.* Скамарошкі Стаўб.

**ДРЫГО́ТКА** ж. Ліхаманка. *Моцна ён быў хворы, ой, моцна. Думала, што ні выжыве: дзень і ноч дрыготка трасла.* Падзерычы Стаўб.

**ДРЫ́ЖВА** гл. дры́гва

**ДРЫЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Швэндацца. *Цэлы дзень дрылююць па вуліцы, упынку на іх няма.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДРЫН** м. Палка. *От выламлю дрын, дык сьціхняце, а не — атрымаеце: сінякі будуць.* Клетнае Барыс. *Вазьмі дрын да дрынам яго!* Вецярэвічы Пух. *Усыпалі п табе дрына, то хоць троха да вучыўся п.* Пярэжыр Пух.

**ДРЫ́НДА** ж. Прылада з гнутага жалеза катацца па лёдзе. *Калі санак няма, дрынды робяць ды катаюцца.* Баркоўшчына Мядз. *Мама, вынясі мне дрынду, пайду катацца на рэчку.* Бальцары Маладз.

**ДРЫ́НКАЦЬ** *незак.* Няўмела іграць на якім-н. музычным інструменце. *Ат, дрынкае нешта, ахвоту мае.* Савоні Стаўб.

**ДРЫ́НЬКА** ж. Пуня. *Да зімы людзі гатовы: поўныя дрынькі сена і саломы назапасілі.* Баркоўшчына Мядз.

**ДРЭНЧЫЦЦА** *незак.* Капрызіць, нервавацца. *Такое дзіцё ў нашай нявесткі дрэннае: дрэнчыцца невядома чаго.* Турэц Чэрв. *Такі пал падняўся ў малога, усю ночаньку дрэнчыўся, чуць раніцы дажадаліся.* Забалоцце Смал. *Мусіць, унучка захварэя, дрэнчыцца ўвесь дзень, ныгае носам.* Забрэжжа Валож.

**ДРЭПАЦЦА** *незак.* Чухацца. *Ні дрэпайся, ношкі ні дзяры.* Арцюхі Стаўб.

**ДРЭЎКІ** *толькі мн.* Смалякі, трэскі, якія служаць для падпалу. *Трэба дрэвак насеч на патпалку, а то гэтыя паленьні мокрыя, не гараць.* Пярэжыр Пух.

**ДУБАВАЦЬ** *незак. Экспр.* Лаяцца, скандаліць. *Ей не пашанцавала: муж так часта дубуе, брыткія словы гаворыць, аж біць пачынае. Ад бацькоў і дзеці сталі дубаваць.* Бясяды Лаг.

**ДУБАВІК** *м.* Пасудзіна з дубу на мёд. *Мы мёд у дубавікі складалі, а дубавік з дубу робяць.* Гілікі Валож.

**ДУБАЛЬТАК** *м. Спец.* Дубовы брус, з якога атрымліваюцца дзве шпалы. *Лапата — дубовая плашка, адна ачэсаная шпала; дубальтак — дзьве шпалы, іх потым разразаюць на дзьве ўздоўш; траяк — тры шпалы выходзіць.* Такарышкі Іўеў.

**ДУБАЛЬТОЎКА** *ж.* Вялікая суконная хустка фабрычнага вырабу ў клетку. *Каб дубальтоўку ўзяла, у плечы цяплей было п.* Новы Двор Мін.

**ДУБІЦА** *ж.* Невялікая лодка, зробленая з суцэльнага куска драўніны. *Узялі ціцком ад бацькі дубіцу і паехалі вазіцца на возера. А быў моцны вецер, нашу дубіцу аднясло далёка ад берагу. Думалі, што перакулімся, спужаліся.* Чараўкі Мядз.

**ДУБОВАЧКА** *ж.* **1.** Невялікая дубовая кадушка. *Я дубовачку пат капусту купіла на базары.* Дукора Пух. **2.** Тое, што і д у б а в і к. *Дубовачку з дубовага палена робяць.* Ляшчынск Мядз.

**ДУБОВІК** *м. Бат.* Баравік дубовы (Boletus edulis Fr. f. quercicola). *Дубовікі растуць на бару, харошыя цэнныя грыбы.* Рудня Лаг.

**ДУБОВЫ ГРЫБ.** Тое, што і д у б о в і к. *Ета баравіке, пад дубам растуць, яны рудыя такія, называюцца дубовыя баравіке.* Дукора Пух.

**ДУБЭЛЬТ** *м.* Тое, што і в ы л о г а. *Дубэльты прышыты з другога матэрыялу ў фрэнчы.* Саланая Валож.

**ДУБЭЛЬТЫ** *толькі мн.* Падвойныя аконныя рамы. *Чакаю сына, паможа ўставіць дубэльты, а то халадэ надыходзяць.* Савоні Стаўб. ◊ **У дубэльты** — узорам з геаметрычным малюнкам. *Даўней я ёмка ў дубэльты пасьцілкі ткала.* Рудня Чэрв.

**ДУБЭЛЬТКА** *ж. Паляўн.* Двухстволка. *Стрэльбы розныя ёсь — аднастволкі і дубэльткі.* Саланая Валож. *Стрэльбу двухстволку старыя людзі дубэльткай завуць.* Язні Віл.

**ДУБЯНЕЦЬ** *незак., безас.* Захмарвацца. *Вунь, бачыш, дубянея, зарас дошч будзя.* Бытча Барыс.

**ДУБЯНКА** *ж.* Тое, што і д у б а в і к. *Праўда, раней мёд зьлівалі ў дубянкі, а цяпер німа іх. Цяпер зьліваюць у чыгун або вядро.* Малмыгі Віл.

**ДУГА** *ж.* ◊ **Каб цябе чорт у дугу сагнуў!** — пажаданне зла, няшчасця каму. *А што ты тут робіш? Што ты тут гнесься, кап цябе чорт у дугу сагнуў!* Дукора Пух.

**ДУДА** *ж.* ◊ **Скласці дуды ў мех** — адкласці надалей, прыпыніць работу, справу. *Думаў, к восіні ў новы дом пірабяруся, але многа якіх матэр'ялаў ні хватаіць, прышлося скласці дуды ў мех.* Заброддзе Віл.

**ДУДАЧКА** *ж.* Маленькая ножка, на якой трымаецца струк. *Маленькая дудачка, а таўстая. Дудачкі ў нас выкідаюць.* Хожава Маладз.

**ДУДДЗЁ** *н. Зб.* Збожжавыя расліны з неналітым коласам. *Калі колас не наліўся добра, калі колас няпоўны, то кажуць, што вырасла толькі адно дудзьдзё.* Рудня Лаг.

**ДУДКА** *ж. Бат.* **1.** Сцябліна, звычайна полая ўнутры. *Дуткі некаторых квят зусім кароткія, а ў юргіні — доўгія.* Палавікі Мядз. *Гарбузовы дуткі таўстыя, гарбузовых дудак скаціна ня любя.* Хожава Маладз. *Квят ёсь і на высокай дуццы, а ёсь і на ніскай.* Ляшчынск Мядз. **2.** Карэньчык. *У чашчавіка дутка натта тонкая.* Юшкаўка Віл. ◊ **У адну дудку [дуду] іграць** — заадно, разам, сумесна. *Мае суседкі сьпеліся, паладзілі, у адну дутку граюць.* Горкі Стаўб. *Німа там як нявесьце жыць: мужык і сьвякроў у адну дуду йграюць.* Заброддзе Віл.

**ДУЖАВАТЫ** *прым.* Велікаваты. *Яны былі ўжо дужаватыя хлопцы, але яшчэ нічога не панімалі.* Вялікая Вуса Уздз.

**ДУЖЫ** *прым.* Вялікі. *Тагды яе дочка меншая ўжо была дужая.* Баяры Маладз.

**ДУЖЭЙ** *прысл.* Мацней. *З вульля вылецелі пчолы, як накінуліся на міне, сталі жаліць. Я скінуў майку, начаў махаць, пчолы разазьліліся дужэй. От быў мне смашны мёд, чуць ні памёр.* Бяларучы Лаг.

**ДУЙКА** *ж.* Завея, мяцеліца. *Люцы разьдзяюцца, спаць лажуцца, а я адзяюся і іду ці дошч, ці дуйка: старажом работала.* Ігрушка Круп.

**ДУКАВАЦЦА** *незак.* Прытварацца. *Хопіць дукавацца, за работу бярыся.* Вецярэвічы Пух.

**ДУКРЫЦЬ** *незак.* Тлумачыць, паясняць. *Цэлы час дукрыў яго, як задачку рашаць, а ён усё роўна не зразу рашыў.* Капачоўка Барыс.

**ДУЛІНА** *ж. Бат.* Ігруша. *Гэная дуліна вельмі старая, яна яшчэ панская.* Завішына Лаг.

**ДУЛЬКА** *ж.* **1.** Пыл, які ўтвараецца пры трапанні лёну. *Як трэпюць лён, дулькі многа палучаіцца. Хто дык задыхаіцца ад дулькі.* Хожава Маладз. **2.** Кастрыца, рэшткі льнавалакна. *Дулька такая дробная, як ватачка.* Бытча Барыс. *Сабрала дулькі кош на патсьцёл.* Вецярэвічы Пух.

**ДУМАЎЁ** *н.* Труна. *Просіць думаўё зрабіць, нельга атказаць.* Бытча Барыс.

**ДУНДЗІЦЬ** *незак.* Ссаць. *Ён, як бычок, усё дундзя і дундзя.* Гарадок Маладз. *Бач, як бычок, дундзіць малачко прас соску.* Палачаны Маладз.

**ДУНДУК** *м. Неадабр.* Хмуры, пануры; нурэіна. *Чаму ты заўсёды ходзіш такі, як дундук?* Рудня Чэрв.

**ДУПКА** *ж.* Ножка грыба, корань. *А як дупка ў грыба чарвівая, то я выкідаю.* Язні Віл.

**ДУПЛЁ** *н.* Дупло. *Рой, які ўцёк, знаходзіць дрэва і там жывець, знаходзіць дуплё і жывець.* Рабунь Віл. *Дуп стары, дуплё ў ім вялікае, баюся, што дуп зваліцца.* Зазерка Пух. *А дуплё было вялікае і досыць прасторнае, ну, я і спусьціўся ў яго.* Любань Віл.

**ДУПЛЯВАТЫ** *прым.* З дуплом, трухлявы. *Дуплявятую радыску не ядуць: у ёй клёку ніякага няма.* Вішнева Валож. *Мы дуплявятую радзіску самі не ядзім, карове аддаём.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДУПЛЯК** *м. Пчал.* Калодачны вулей. *Дуплякі ўжо з моды вышлі, зараз не робяць іх.* Паплавы Бярэз.

**ДУПЛЯНАВАТЫ** *прым.* Тое, што і дупляваты. *Дуплянаватая рэцька і радыска — благія, іх не ядуць.* Ляшчынск Мядз.

**ДУПЛЯНАТЫ** *прым.* Тое, што і дупляваты. *Дуплянатая рэцька вялікая расьце, ды толькі дзірка ў сярэдзіня.* Забалоцце Смал.

**ДУПЛЯНКА** *ж.* **1.** Тое, што і дупляк. *Гадоў с трынаццаць займаюся пчоламі, за свой век бачыў розныя вульлі. І дуплянкі ў мяне былі, але цяпер дуплянак мала. У дуплянках яны там сабе хазяява, добра пчолкам у дуплянках.* Бяларучы Лаг. *У мяне адна дуплянка стаіць.* Вецярэвічы Пух. **2.** Пасудзіна на мёд. *Дуплянка мы называям пасудзіну для трыманьня мёду пад рукой.* Забалоцце Смал. **3.** Дупло. *У леся таўшчэзныя ліпы з дуплянкамі.* Вецярэвічы Пух.

**ДУПЛЯНЫ** *прым.* Тое, што і дупляваты. *Каб яна праваліласяі! Уся рэцька дуплямая!* Рудня Чэрв. *Бручка вялікая, але дуплямая, мала карысьці зь яе.* Вецярэвічы Пух.

**ДУПЛЯСТЫ** *прым.* Тое, што і дупляваты. *Дуплястая рэцька сяголята ў нас, няма чаго і есьці.* Ляхавічы Дзярж.

**ДУПЛЯТЫ** *прым.* Тое, што і дупляваты. *Якрас папалася елка тоўстая ды сукаватая, дуплятая, а дуплё было вялікае.* Любань Віл.

**ДУРАКАВАТЫ** *прым.* Дурнаваты. *Бывае й не дурны, але такі нейкі дуракаваты.* Саланая Валож. *Вы толькі паглядзеця на яго — ці ён разумны, ці ён дуракаваты, не разьбярэш.* Дукора Пух.

**ДУРАТА** *ж.* Дурасць. *І што гэта за дурата на яго найшла, уцікаць уздумаў. Ды ці цяпер куды ўцякеш?* Бяларучы Лаг.

**ДУРНІЛА** *ж. Лаянк.* Дурніца. *— Ат, дурніла, я п схадзіла і выкапала [грушу]. Ну што б мне тая Гілена зробіла?! Я п сказала: „Мне сістра аддала". І ўсё.* Халмоўка Барыс.

**ДУРНЭПС** *м. Бат.* Турнэпс (Brassica rapa rapifera). *Дурнэпсу пасеяць дала мне мая сусетка, карову добра зімой карміць будзя.* Пудзіцк Пух.

**ДУРЫНЫ** *толькі мн.* Буякі. *Ужо дурыны пасьпелі. Чы пойдзіш зьбіраць?* Каляды Віл. *Цяпер людзі панавучваліся кампоты з дурын закручваць, сокі ціснуць.* Пагост Віл.

**ДУРЫЦЦА** *незак.* Дурэць, сваволіць, блазнаваць. *Тады ўжо як радзіны кончацца, пап'юць гарэлку, кашу падзеляць, трэба ш дурыцца.* Таўкачэвічы Уздз.

**ДУРЫЦЬ** *незак.* ◊ **Дурыць галаву** — надакучаць размовай. *Пашла там села, і ён прышоў, сеў кала мяне і галаву дурыць, што пайдзём у магазін, памажыця яму мануфактуры набраць і ўсё.* Ракаў Валож.

**ДУХ** *м.* Паветра. *Зачыняй дзверы, не выпускай дух с хаты.* Войраўка Пух. ◊ **Без духу** — вельмі хутка, шпарка бегчы (ляцець, перці). *Сказалі, што ёсьць свэдры, дак пёрла бяз духу.* Савоні Стаўб. **Дух бавіць** — задавальняцца. *Я толькі й жыву квасам, гэтым квасам і дух баўлю.* Савоні Стаўб. **Дух вон** — цяжка, перарывіста дыхаць. *Бягу, дух вон.* Ракаў Валож. **З духам** — поснае, без скаромнага. *Яны заўсёды, кажан год бес саланіны сядзяць, з духам ядуць, ды так і жывуць.* Баяры Віл. **І духу не ўказаць** — раптоўна загінуць. *Я ні люблю, каб мухі ў хаці вяліся, загаджвалі ўсё. Стары зрабіў хлапушку, прыбіў цяшку рызіну. Як уперыш па плячах, яна й духу ні ўкажа.* Валеўка Навагр. **Ні духу ні слуху** — ніякіх вестак не чуваць. *Ат сястры ні духу ні слуху, як паехала, дык і маўчыць.* Пруды Стаўб. **Ні на дух** — не цярпець. *Гляджу, каля Еўкі Антось ходзіць. Я падышоў да іх. Мая Еўка рада, а с тым ні на дух.* Гайна Лаг.

**ДУХ-ДУХ-ДУХ** *выкл.* Ужываецца гукапераймальна для абазначэння тупату ног. *Як толькі пачую, што зямля дух-дух-дух, шагі пачую [карнікаў], кажу: „Мамачка, ідуць!" Я ўсё страх даваў ёй. І сам баяўся.* Снягла Віл.

**ДУЦЬ** *незак.* **1.** Дзьмуць. *Дуе вецер на зьмену пагоды.* Бясяды Лаг. **2.** Пасылаць. *Сынок усё дуець і дуець ёй пачкі, сют-тут і пасылка.* Язні Віл. **3.** *перан.* Падаваць. *Думаю, што ён там робіць? Аж ён канюшыну кладзець на вос. Дуіць і дуіць на вос.* Залазоўе Віл.

**ДУША** *ж.* **1.** Пухір з паветрам у рыбы. *Выняў душу с плоткі ды пат пяту, як стрэльня!* Рабунь Віл. **2.** Начынка. *Напікла пірагоў с капуснай душой.* Акалова Лаг. ◊ **Адвесці ду-**

шу — знайсці задавальненне. *Грыбоў назапасіла: ёсьціка і салёных і сушоных, будзіць зімой душу адвясьці. Да бульбы так добра грыпкі.* Калодкі Віл. **Душа вылазіць** — дрыжма дрыжаць, калаціцца (ад холаду). *Салому накідалі дзень цэлы на машыны і прыцэп. А вецяр у полі. Як адыдзе машына, а ўвагрэты, пастаіш, скалеяш, душа вылазіць.* Савоні Стаўб. **Душа зайшлася** — дыханне спынілася (пры спалоху, усхваляванасці). *Я іду, а мне кажуць: „Твой сын у немцах". Мне й душа зайшлася, а ўсядно іду, думаю, буду біцца да сьмерці, каб сваё дзіця выбавіць ад фашыстаў.* Чырвоны Пасёлак Пух. **Душа не ляжыць** *да каго-н.* — перастаць сімпатызаваць, прыхільна ставіцца да каго-н. *Не судзьба, мабыць. І сватоў прысылаў да мяне, але нек ні згаварыліся, нек душа мая не ляжала да яго. А хлопяц прыгожы быў, кучаравыя валасэ, высокі.* Валеўка Навагр. **Душа разрываецца** — цяжка перажываць. *Налавілі нас душ трыццаць, гоняць па сьнягу па пояс. Дзеці галосяць, да пасінелі, да пачарнелі. То, дальбог, душа разрываіцца, ня вытрымаць.* Плецівішча Чэрв. **Душа ў душу** — дружна, у згодзе. *Добры ён у мяне чалавек. Пражылі ўвесь свой век душа ў душу, ні аднаго разу ні абазваў мяне, ні рукі не падняў на мяне.* Ільля Віл. **Душой загавець** — памерці. *Нашы сваякe ўзялі палатку, харошу палатку, паехалі на Сьвітась. Распалажыліся там, пагода харошая. А тады дошч. І потым дошч! І потым дошч! Ідзі, кажу на свайго, заві; хай да нас ідуць, у хаці хоць цесно, але цёпло, а то на гэтым дажджы і душэю загавеюць.* Валеўка Навагр. **Наесці душу** *каму-н.,асудж.* — давесці да адчаю, змучыць. *Ён танклявы, вісокі, і яна харошая, стройнянькая, ідуць пабраўшыся за рукі, а ўсе завідуюць, от пара харошая. Але матцы яна ні падабалася, маці прыедзя, насварыцца на абоіх, яму наесьць душу, і яна наплачацца як стаць.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Па душы** *што-н.* — падабаецца, даспадобы. *А сількоў [халадніку] як наберыш на сена, дык і цэлы дзень ясі. Вот апяцітная яда. Гэта мне па душы. І малако так ня йдзець, як сількі летам.* Калодкі Віл. **Пры душы** — у наяўнасці. *Як успомню перажытае. Жылі бедно, пяць ґрошы пры душы не было.* Горкі Стаўб.

**ДУШАГРЭ́ЙКА** *ж.* Цёплая жакетка (звычайна на ваце, футры) без рукавоў. — *Нашто ты гэты мацяр'ял купіла? — Дачка душагрэйку пашыіць, а то я дужа ноччу мерзну.* Канстанцінава Мядз. *Прыемна адчуваеш сябе ў душагрэйцы ў марос.* Палачаны Маладз.

**ДУШЫ́СТЫ** *прым.* Духмяны. *Язьмін душысты, помню, раў у маладосьці.* Бясяды Лаг.

**ДУШЫ́ЦЦА** *незак.* **1.** Прападаць. *Жнем ды жнем, есьці захацелі; хазяйкі німа, чорт яе ведае, дзе яна там душыцца.* Калініна Дзярж. **2.** Мучыцца, пакутаваць запёртай. *Калі гэта цяпло ўжо будзя, скаціна душыцца ў хлеве.* Дзераўная Стаўб. **3.** *перан.* Многа і цяжка працаваць. *Раней усе тут было панскае, і каб жыць хоць як, душыліся зямлёю.* Баяры Маладз.

**ДЫБА** *прысл.* Тарчма, старчаком. *Толькі даходжу футара, аш дзікоў штук дзесіць, а можа й болій, дык у мяне шапка дыба.* Язні Віл.

**ДЫБАРА́** *прысл.* Дыбам. *У мяне ат страху валасэ дыбара пасталі.* Дукора Пух.

**ДЫБАЦЬ** *незак. Экспр.* Ісці павольна. *Стары чуць дыбая.* Дукора Пух.

**ДЫБКА́** *прысл.* Тое, што і д ы́ б а. *Конь як стоў дыпка, дак хлопяц і пляснуўся вобзямлю.* Цялякава Уздз.

**ДЫВА́Н** *м.* Байкавая коўдра. *А летам ён у мяне дыванам укрываецца, кажа, не так горача.* Апенькі Віл.

**ДЫВА́НЧЫК** *м.* Сцёганая коўдрачка ўверчваць дзіця. *Вельмі прыгожы дыванчык купіла матка хрышчоная свайму хрэсьніку.* Саланая Валож.

**ДЫҐА́ТЫ** *прым.* Цыбаты, высокі. *От пятух дыґаты ў Насьці.* Нарач Віл.

**ДЫҐА́ЦЬ** *незак.* Біцца, трапятацца (пра сэрца). *Як трохі параблю, так і дыґае сэрца, так і дыґае.* Брадок Лаг.

**ДЫҐІ́ЦЬ** *выкл.* Скок. *Разбехсо гэто я і дыґіць! Алі другі берах абарваўсо, пэўно, вада падмыла, і я шадулбухнуўсо ў ваду.* Кулёўшчына Маладз.

**ДЫҐУ́СЬ** *м. Экспр.* Высакаeasрослы падлетак. *Ну й дыґусь твой сыночак. Яшчэ пятнаццаці няма, а за бацьку вышэйшы.* Грабёнка Чэрв.

**ДЫЛЕ́ЦЬ** *незак.* Імжэць. *Але ж вот дошч, дыліць і дыліць цэлы дзень.* Цялякава Уздз.

**ДЫ́ЛЬКА** *ж. Памянш.* Дыля. *Хаця п, думаю, дылька вытрымала.* Вішнева Валож.

**ДЫ́ЛЯ** *ж.* **1.** Тоўстая дошка, дылёўка. *Гэтыя дылі і ўдваіх цяшка падымаць, а я ш адзін валачыў.* Вецярэвічы Пух. **2.** Палавіна распілаванага ўдоўж бервяна. *А ўперат дык сядзелі на цьвёрдых лавах, с калоткамі, а то й дылі ляжалі.* Палессе Мядз.

**ДЫМАДЫ́ШКА** *ж.* Дымар акурваць пчол. *Дымадышка ёсьць фабрычная, а я дык сам зрабіў для сябе. Як задымлю дымадышкай, дык пчолы, як сонныя.* Малмыгі Віл.

**ДЫМА́К** *м.* Тое, што і д ы м а д ы́ ш к а. *Я ніколі дымака ні бяру, пчолы мяне знаюць.* Баяры Маладз.

**ДЫМАКУ́Р** *м.* Тое, што і д ы м а д ы́ ш к а. *Дымакур купляюць, але ў мяне самадзелкавы.* Бясяды Лаг. *Я шчэ малы быў, але, помню, вельмі любіў мёд. А тады мёд быў ого які смачны, бо ўволю яго не было. Я, помню,*

*узяў дымакур, налажыў шчэпак і парашыў сам дастаць мёду з вульля.* Бяларучы Лаг.

**ДЫМКА** *ж.* Тое, што і дымадышка. *Рой выйшаў! Палі хутчэй дымку!* Баяры Маладз.

**ДЫМКО́ВЫ** *прым.* Тканы ў дымку. *Дымковая пасьцілка ў мяне толькі адна, хаваю на случай.* Рудня Чэрв.

**ДЫМО́ЎКА** *ж.* Тое, што і дымадышка. *Даўней людзі не баяліся пчол, нейкія былі трывушчыя. Гэтых дымовак ніхто й ні ведаў, упаліць анучу і паддзьмухвая.* Пруды Стаўб.

**ДЫМЫ́** *толькі мн.* Від узора. *Дымамі ткалі дываны, ткалі ў чатыры ніты, у ігліцы і перабіраныя.* Мацкі Мядз.

**ДЫРДО́М** *прысл.* Як папала, абы-як. *Ня лесь ты ў тую камору, дырдом усё паставіш, а я потым буду ставіць на месца ні могучы.* Савоні Стаўб.

**ДЫ́РЫЦЬ** *зак.* **1.** Ударыць з сілай. *Ён тады сына майго ў грудзі дырыў.* Чабаі Валож. **2.** *перан.* Хлынуць. *Кроў дырыла з рота.* Дукора Пух.

**ДЫФЦЯРЫ́К** *м. Мед.* Дыфтэрыя. *Як схваціць дыфцярык, дык і памрэ дзіця.* Рудня Лаг.

**ДЫХАВІ́ЦА** *ж.* ◊ **Дыхавіцу заняло** — спынілася дыханне (пры болях, хуткіх рэзкіх рухах і пад.). *Рады няма, нема раву, ажно дыхавіцу заняло.* Ігрушка Круп. *Божа, так кальнула пад грудзьмі, што аш дыхавіцу заняло.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДЫ́ХІ** *толькі мн.* Бакавая ўпадзіна паміж апошнім рабром і клубам. *Прыехаў віцінар ды доў укол у дыхі, і ўсё прайшло.* Вецярэвічы Пух.

**ДЫХНІ́К** *м.* Адтуліна ў курнай хаце для выпуску паветра. *Падымуць пыл, ведама, па зямлі танцуюць, дык аткрыюць дыхнік чапялой, кап пыл сышоў.* Дрычын Пух.

**ДЭК** *злучн.* Ужываецца для сувязі сказаў з прычынна-выніковымі адносінамі. *У каго зямлі шмат, дэк і свае работы многа.* Пудзіцк Пух.

**ДЭ́КА** *уст.* Вага ў 10 грамаў. *Дэка — нешта зусім маленькая, а колькі, ня ўспомню. Ці ня дзесяць?* Мікалаеўшчына Стаўб. *У нас старыя гавораць: „Дай дэко цукерак", — а прадаўшчыцы сьмяюцца.* Гілікі Валож. ◊ **Дэка ў дэка** — зусім дакладна, грам у грам. *Не глядзі, што навукі невялікай. А пашла я рас браць цукар у магазін — нібось, ні перадасьць, якрас адважыць, дэко ў дэко.* Савоні Стаўб.; *параўн.* грэч. deka 'дзесяць'.

**ДЭ́НКА**[1] *ж.* **1.** Тое, што і гнўшка (у 1 знач.). *Дэнка наша саўсім ужо благая, выразалася.* Палессе Мядз. *Дэнка зусім зрубілася, німа на чым мяса парэзаць.* Ігрушка Круп. **2.** Тое, што і гнўшка (у 2 знач.). *Падстаў дэнку, скаварада ж вельмі гарачая.* Пранчэйкава Маладз.

**ДЭ́НКА**[2] *н.* Унутраная верхняя частка шапкі. *Дэнка ў шапцы дзіцяці і ўзрослага чалавека.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ДЭ́РБА** *ж.* Асоба высокага росту з тонкімі доўгімі нагамі. *Нека патанчала, худоба зрабілася, і тут [у таліі] тонінька, адно ногі доўгія, дэрба.* Савоні Стаўб.

**ДЭ́РБІНА** *ж. Зневаж.* Тое, што і дэ́рба. *Ну й дэрбіна ш яе дачка, ніхто ў скокі не бярэ.* Чыжаха Бярэз.

**ДЭ́РБЫ** *мн.* Рэбры. *Высахла, адны дэрбы тарчаць. І куды матка глядзіць!* Раўчак Пух.

**ДЭ́РГАЦЬ** *незак.* Тое, што і ґрэ́кацъ. *Ня выгнаць гусей з вады, цэлую ноч у бродзі дэргаюць.* Нізок Уздз.

**ДЭСЭ́НІ** *ж. Уст.* Дэсань, узор. *Як культура ткацтва стала ўзрастаць, пачалі жанчыны вытыкаць дэсэні. Ткалі абрусы дэсэнямі ў восімдванаццаць нітоў, ткалі і ў ніцікі, каторыя захаваліся і да цяпер.* Даўгінава Віл. *У хаце ў іх хараша, лошкі засьцілаюцца пасьцілкамі ў дэсэні.* Бясяды Лаг.; *параўн.* польск. deseń < фр. dessin 'малюнак'.

**ДЭЎЖ** *ж.* Даўжыня. *Гэто ні дзело паліць дубовымі дравамі — яны ш цьвярдыя да дэўш такая, у печ ні ўперці.* Савоні Стаўб.

**ДЭФІЛЯ́ДА** *ж.* Дэманстрацыя, парад. *Не, што вы! У горадзя я ня была, але 1 Мая дэфіляду па целявізары глядзелі мы ўсе.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. defilada 'тс'.

**ДЭ́ЧЫЦЬ** *незак. Экспр.* Ісці напрасткі. *Аш віджу — нехта прас поле дэчыць.* Вішнева Смарг.

# Е

**Е, ЕСТ.** Формы цяпер. часу ўсіх асоб адз. і мн. ліку дзеяслова *быць*, якія ўжываюцца ў паўднёва-заходнім дыялекце і сярэднебеларускіх гаворках. **Ёсць.** *Чыстае е, дак выду ў чыстум.* Цялякава Уздз. *Мае бацькі старэнькія, але здароўя шчэ е: і карову на пастыр загоняць, і па дому дагледзяць.* Баяры Маладз. *Усяго цяпер хватаіць у магазінах: і прадукты ест усякія, і краму хапаіць.* Рубяжэвічы Стаўб. *Ест у яе дзеці, яна не адзінока.* Цялякава Уздз. ◊ **Як ест** — усё чыста, усё як ёсць. *Пажар у нас быў велькі, агню цэлая вуліца, страх! Усё як ест тады згарэла, нагала згарэла: і гусі пагарэлі на гнёздах, і сьвіня пагарэлі, карова згарэла.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЕГДЗІ́ЦЬ** *незак.* Ездзіць. *Учора егдзіла да доктара, дык нешта тут вось запісоў.* Сядзіца Віл.

**ЕДРАНЕ́Ц** *м. Бат.* Бядрынец (Pimpinella). *Калі высушыш едранец, дык зімою каровы добра гэтае зельле ядуць.* Хожава Маладз.

**ЕЖАВІ́ННІК** *м. Бат.* Ажыннік, ажына шы-

зая (Eubatus). *От калючы ежавіньнік, уся пакалолася.* Дукора Пух.

**ЕЖАДНЕЎНА** *прысл.* Штодзённа. *Скора як зьявяцца гэныя каларацкія жукі, трэба ежаднеўна хадзіць і абіраць іх.* Баяры Маладз.

**ЕЖАНЁ** *н.* Тое, што і важанё. *У гнязьдзе было троя ежанят.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЁЙНЫ** *займ.* Яе. *Еты калок убіты, каб бачылі, што ейная дзялка.* Ляшчынск Мядз.

**ЕКАТАННЕ** *н.* Ёкат, лямант, брэх, віск. *Вот ужо чаго ненавіджу, дык гэта екатаньня сабачага.* Малмыгі Віл.

**ЕКАТАЦЬ** *незак.* Гаварыць на павышаных танах. *За сьцяной нехта глуха екатаў: камусьці пагражаў, другіх угаворваў.* Узгурск Чэрв.

**ЁЛАЧКА** *ж.* Узор у форме прамой лініі з паралельнымі рысачкамі, якія адыходзяць ад яе пад вуглом. *Такая елачка на радне ўкідваецца і такое харошае радно тчэцца.* Баяры Маладз.

**ЁЛКА** *ж.* **1.** Ёлка (навагодняя). *На Новы год у школе от харошая елка стаяла, стройная, пушыстая.* Бытча Барыс. *Крыжы с-пад елкі яшчэ ад Новага года на дварэ валяюцца.* Нізок Уздз. **2.** *бат.* Хвошч (Equisetum). *Елкі ў картофлі многа.* Савоні Стаўб.

**ЁЛКАСЦЬ** *ж.* Ёлкасць, гарката. *Елкасць нейкая ў капусьце, нельга есьці.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЕЛКАТА** *ж.* Тое, што і ёлкасць. *Ужэ ніяко смаку німа ў сале, а толькі адна елката.* Нізок Уздз.

**ЁЛКІ** *прым.* Ёлкі. *Сала стала нясмачнае, вельмі елкае.* Ляхавічы Дзярж. *Масла як пастаіць доўга, дык елкае.* Нізок Уздз.

**ЕМКАВАТА** *прысл.* Дабравата, ладнавата. *А каторыя былі парапкамі, тыя гадамі рабілі на пана, пан плаціў ім. І цягнулі ат пана яшчэ, ды й ямкавата, каторыя абаротлівыя.* Багрыцоўшчына Дзярж.

**ЁНЧЫЦЦА** *незак.* Крычаць з адчаем. *Я кінала есьці, прыляцела да сусеткі і кажу: „А ей, людзі мілыя, схапіў воўк маму! А яна гэдак енчылася, прасілася!"* Даўгінава Віл.

**ЁНЫ** *займ.* Той. *Пакажы нам ену вунь хустку.* Палачаны Маладз.

**ЕРАПЛАН** *м. Уст.* Аэраплан. *А ераплан усё круціўся і круціўся над вёскай.* Сцебіракі Віл. *У нашых тады йшчэ ерапланаў не было, а немцы як запусьцяць ерапланы, от страшна было, думаў, што жывы ні вярнуся.* Баяры Маладз.

**ЁСЕКА.** Тое, што і е, ест. *Кума, а кума, у цябе есека йшчэ газа?* Талька Пух.

**ЁСЛІ** *злучн. падпарад.* Калі, як. *Есьлі пагодна, лён даўжэй ляжыць, есьлі дош, карацей. Есьлі дош, чатыры нядзелі, есьлі пагода, й шэсь. І сем, і восім. Тады паднімаім яга, і есьлі мокры, то сушым, каб ён быў сухі.* Папоўка Мядз.

**ЕСТ** *гл.* е

**ЁСТАНЬКІ** *памянш., экспр.* Есці. *Естанькі хацела, жыць хацела, ні бацькі ні мацяры ні было, хата згарэла, вярнуцца ні было куды, гора заставіла, розуму дадало. Ні с кім не радзячыся, сама самую ўладкоўвала ў жызьні.* Пагост Віл.

**ЁСТЫ** *займ.* Гэты. *Я ўсё падрат круціла з естага боку, а палосы застаюцца на экране.* Чыжаха Бярэз. *Малако есьцяка, зьліваям у кадушку. Тагды зь естага малака сыры робім к вяліканьню.* Дрычын Пух.

**ЁТАК** *прысл.* Гэтак, так. *Я так сказаў, етак і будзя.* Пудзіцк Пух.

**ЁТКІ** *займ.* Гэтакі. *Еткія ўсякія цьвяты красівыя растуць на лугу — любата летам.* Крупнікі Віл.

**ЁСЦІ** *незак. Жарт.* ◊ **Есці просіць** — парваны, зношаны. *Туфаль есьці просіць, занясу Адаму, наносьнік тут трэба.* Пруды Стаўб. **Есці як не ў сябе** — многа есці. *Што гэто ты сягоньні ясі як не ў сябе? Мусіць, прагаладаўсё?* Жацерава Стаўб.

**ЁСЦЯКА.** Тое, што і **е.** *Малако есьцяка.* Дрычын Пух. *У нашага санкі есьцяка.* Цялякава Уздз.

**ЁХАЛА** *н.* Паездка. *Яно б добра было зьезьдзіць, але ехала баюся, ведама, нідзе ні была ніколі.* Каменка Уздз.

**ЁХАЦЬ** *незак.* ◊ **Ехаць у пірагі** — ехаць да маладой у тыдзень па вяселлі. *Бацьке прыедуць у пірагі, і нас прасіў на пірагі.* Савоні Стаўб.

**ЁЧА** *ж.* Стрававод. *Еча апечаная была ў сьвіньні, дык яна блага і ела.* Краснае Маладз.

**ЁШЧЫ** *прым.* З добрым апетытам, непераборлівы. *Ешчы кабан папоўся.* Вецярэвічы Пух.

# Ё

**Ё.** Тое, што і е, ест. *Да дачкі ехаць ні хачу, сілы ё пака, буду сама сабе жыць.* Зазерка Пух. — *У вас маліны ё? — А як жа! Тры кусты!* Падзерычы Стаўб.

**ЁГЛІЦЬ** *незак.* Падгаворваць, схіляць. *Яна ўсё ёгліла, каб ехаць у Мінск, каб я прадала хату.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЁЖЫК** *м.* Мужчынская кароткая стрыжка. *У нас мушчыны ўсе пат польку стрыгуцца, салдаты ёжык адно носяць.* Пруды Стаўб. ◊ **Пад ёжыка** (пастрыгчыся) — коратка, тырчком у розныя бакі. *Пад ёжыка пастрыхся.* Ігрушка Круп.

**ЁЛАЧКА** *ж. Бат.* **1.** *Памянш.-ласк. да* ёлка. *Ужо толькі пасьля вайны падняліся гэтыя ёлачкі, сталі расьці.* Паплавы Бярэз. *Ёлачкі бываюць жоўтыя і белыя. На белай ёлацца —*

*белая кара, а на жоўтай — жоўтая, так і пазнаюцца ёлачкі па кары.* Ляхавічы Дзярж. **2.** Тое, што і е́лка (у 2 знач.). *Вот у Лёні многа ёлачкі ў бульбе, яе ў нас шчэ памялом завуць.* Рабунь Віл. *Накасілі сена зь ёлачкай, дык кароры не ядуць.* Вецярэвічы Пух. **3.** Аспарагус (Asparagus). *Ёлачку начапіць на вяроўку, дык расьце вялікая.* Рудня Лаг.

**ЁЛАЧКАЙ** *прысл.* У ёлачку (шво). *Ёлачкай патшываюць ніс суконкі, каб ніткі не высыпаліся.* Пруды Стаўб. *Ёлачкай і вышываць можна.* Бясяды Лаг. *Ёлачкай неяк у нас цяпер мала вышываюць.* Хожава Маладз.

**ЁМАЧКА** *прысл.* Прыгожа. *От жа ёмачка ён сьпяваў!* Юшкаўка Віл.

**ЁМКА**[1] *ж.* **1.** Чапяла. *Гляджу, яечня падгарае. Як схвачу ёмку ды за скавараду!* Засерка Пух. **2.** Доўгая палка. *Як схапілі ёмкі, папругі, жалязьнякі ды кінуліся даганяць.* Сокалы Барыс.

**ЁМКА**[2] *прысл.* Трапна, грунтоўна. *Мне спадабаўся той хлопец. Так ёмка яму адказваў, што таму й пярэчыць ні было як.* Рудня Чэрв. *Ігналя стаў ёмка тлумачыць задачы.* Ракашыцы Уздз.

**ЁРЗАЦЦА** *незак.* Неспакойна сядзець круцячыся. *Як прыедзя да мяне ўнучак, дак у хаце такі непарадак, усё пабурыць, ёрзаецца, як малое кацяня.* Баяры Маладз. *Што гэта за хлопец, ніяк ня ўседзіць на адным мейсцы, ёрзаецца, круціцца.* Вязынка Маладз. *Сяць, сатана, кап табе на сьвет не глядзець, як ты натлуміў мне галаву за дзень! Ёрзаесься бязь меры.* Баяры Маладз.

**ЁСІКА, ЁСЦІКА, ЁСЦЯКА.** Тое, што і **е.** *Такі нош і ў мяне ёсіка, бацька з гораду прывёс.* Мацкі Мядз. *Раку паглыбілі, але рыба ёсьціка.* Палачаны Маладз. *Нам добра: пат самым бокам ёсьціка электрычка, сеў і паехаў куды нада.* Баяры Маладз. *Малачка ў нас яшчэ трохі ёсьціка, а бульбы зусім няма.* Палачаны Маладз. *Усё ўжо ёсьціка: і на столь доскі, і на памост, і вокны ўсе зробіла і дамоў прывезла.* Халмоўка Барыс. *Прышоў да нас чалавек, пытаіцца: „Цётка, ці ёсьціка ў цябе малако?"* Жызнава Віл. *У нашага санкі ёсьцяка, бацька купіў.* Цялякава Уздз. *Аля, напітак у вас ёсьцяка які?* Сакольшчына Уздз.

**ЁСЬ.** Тое, што і **е.** *У дачкі своя машына ёсь.* Даўгінава Віл.

**ЁЎНЯ** *ж.* Колькасць таго, што можа змясціцца ў ёўні. *Уставалі ад петухоў і да сьняданьня абмалачвалі адну ёўню.* Восава Мядз.

**ЁЦКІ-ЁЦКІ-ЁЦКІ** *выкл.* Пазыўныя словы для парасят. Нізок Уздз.

## Ж

**ЖА́БА**[1] *ж.* Карабаціна на астрыі касы. *Каторы ня сумея кляпаць, дык жабаў больш наробіць, як наклепле.* Саланая Валож.

**ЖА́БА**[2] *ж. Мед.* Ангіна. *Ангіна — жаба панашаму.* Пудзіцк Пух.

**ЖА́БА**[3] *ж.* Пагардлівае або дакорлівае абзыванне дзіцяці, малалетняга работніка. *Жаба малая, куды ты лезяш? Зваліцься.* Нізок Уздз. *Пашла служыць маладая. Якая ш там я была?! Жаба, саўсім маладая, бацька ні пускаў. Пашла служыць.* Лоск Валож.

**ЖА́БА АГАРО́ДНАЯ** *заал.* Рапуха, шэрая жаба (Bufo bufo), з бугрыстай скурай шэрага колеру. *Жаба агародная с кулак расьце. Сівая такая, с кропачкамі. Зімуюць пат падлогай. Калі хату добра натопіш, то чуваць, як яна квакая. Жаба агародная прыліпніць да цёплага полу, а на доску наступіш, прыцісьніш яе, дык і запішчыць.* Паплавы Бярэз.

**ЖА́БА ЗЯЛЁНАЯ** *заал.* Разнавіднасць жабы (Bufo viridis). Зеленавата-шэрай афарбоўкі. *Уся вада зялёная стала, так многа ў прудзе жабаў зялёных.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Зялёная жаба кумкуе.* Пруды Стаўб.

**ЖА́БА-КУКУ́ЛЯ** *заал.* Разнавіднасць жабы — жарлянка (Bombina). *Жаба-кукуля жыве ў балоце, залёна-жаўтлявага колеру, гукі падобныя на кукаваньне.* Ляшчынск Мядз. *Жаба-кукуля — жаба, якая кукуя, жыве ў сажалках, балотах, канавах.* Рудня Чэрв.

**ЖА́БА СВІСЦЯ́ЧАЯ** *заал.* Квакша звычайная (Hylidae). *Сьвісьцячыя жабы жывуць на дрэвах і так крычаць, аж жутка.* Бясяды Лаг. *Малыя такія жапкі, што жывуць на дрэвах, у нас завуць сьвісьцячыя жабы.* Бяларучы Лаг.

**ЖАБАРНІ́К** *м. Бат.* Бусельнік (Erodium). *Жабарнік на бару сядзіць, цьветачкі дробнінькія, ліловыя.* Рудня Лаг.

**ЖАБАРЫННІ́К** *м. Заал.* Жабурынне, жабіна ікра. *Жабарыньнік плавае па вадзе з маленькімі зялёнымі лісточкамі.* Бясяды Лаг.

**ЖАБЕ́НІЦЦА** *незак.* Раздумваць, вагацца. *Часу мала, а многа шчэ што складаць у чамадан трэба, а ты жабенісься: то адно гаворыш, то зусім іншае. Зьбірайся скарэй і пайдзём.* Грабёнка Чэрв.

**ЖА́БЕР** *м. Бат.* Зябер (Galeopsis). *Жабер на бульбе расьце, па ячмені, кусьцісты такі расьсьціляецца, калючая трава, яе ні хоча есьці скаціна.* Рудня Лаг.

**ЖАБ'Е КРАКТАВІ́ННЕ.** Тое, што і жабары́ннік. *Жаб'е кракгавіньне — гэта ікра жаб'я, што жапкі выводзюцца. Вясной, дзе вада стаячая, праграваіцца, за гэтым жаб'ім кракгавіньнем дна ні відаць.* Малмыгі Віл.

**ЖА́БІНА КАРЫ́ЦЦА** *заал.* Малюск. *Мы*

*сёньня лавілі жабіны карыцці, а многа-многа іх там.* Ляшчынск Мядз.

**ЖАБІЦЦА** *незак.* Карабаціцца на перагібе або ў іншым месцы. *Многія доскі жабяцца, дык ты буць асьцярожны.* Саланая Валож. *Вяз жабіцца, калі зь яго гнуць дугу, палазы ў сані.* Забалоцце Смал.

**ЖАБКА**[1] *ж.* Невялікая жаба. *Жапкі вырасьлі з апалонікаў. Хвосьцік атпаў і асталася жапка.* Бяларучы Лаг. *Ня лаві жабак.* Забалоцце Смал.

**ЖАБКА**[2] *ж. Мед.* Запаленне слізістай абалонкі рота ў груднога дзіцяці. *Напала жапка на дзіця.* Саланая Валож.

**ЖАБКА**[3] *ж.* Калодачка з дзіркай пры верхнім жарнаку, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *І трэба ж было, каб жапка лопнула!* Саланая Валож.

**ЖАБКАЮ** *прысл.* Прысядаючы і папераменна выкідваючы ногі (танцаваць). *Барыня танцуецца ўпрысяткі або жапкаю, на жывацэ, дык з прытопам.* Дукора Пух.

**ЖАБНІК**[1] *м. Бат.* Жабнік (Hydrocharis). *У жабніка цьвяточкі цьвітуць, а посьля як лапкі ў жабы зробяцца.* Рудня Лаг. *Жабнік расьце на полі кусьцікамі, кусьцік сівінькі, як мох.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЖАБНІК**[2] *м. Бат.* Дуброўка серабрыстая (Potentilla argentea). *Жабнік — такая мякінькая травіца, расьце на лугах, уздоўж дарог. Жабнік цьвіце жоўтым або белым цьветам.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЖАБРЭЦ** *м. Бат.* Цяцюшнік (Euphrasia L.). *Кветачкі на жабрацу блакітным колерам цьвітуць, расьце жабрэц на пяску.* Хожава Маладз.

**ЖАБУР** *м. Бат.* Раска (Lemna). *Глядзі, ня лесь у жабур, а то ногі будуць часацца.* Скамарошкі Стаўб.

**ЖАБУРЭННЕ** *н.* Тое, што і ж а б а р ы н н і к. *Вой, колькі ў сажалца жабурэньня многа! Аж вада зялёная!* Дукора Пух.

**ЖАБ'Я ІКРА.** Тое, што і ж а б а р ы н н і к. *Жаб'я ікра ляжыць у вадзе на мелкім месцы, дзе сонца больш сьвеціць.* Бясяды Лаг. *Гэта ж жаб'яй ікры выводзяцца жабы.* Саланая Валож.

**ЖАВАЙКА, ЖВАЙКА, ЖВАКА, ЖУВАЙКА, ЖУЙКА** *ж.* Ежа, якая паўторна пераджоўваецца. *Як карова ня жуе жавайку, так і ведай — хвора.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Карова як ляжа, то адразу й пачынае жвайку жаваць.* Грабёнкаўшчына Стаўб. *Карова пад'ела, лягла і жваку жвакуе.* Ляхавічы Дзярж. *Мы дык сваю да віцінара вадзілі карову, як яна жваку згубіла.* Рудня Лаг. *Жуе й жуе карова жувайку. Як жувайкі ня жуе, дык бальная. Ужэ як згубіць жувайку, тады бакі ёй уздувая.* Нізок Уздз. *Нешта карова жуйку перастала жаваць. Мо захварэла?* Ляхавічы Дзярж. *Карова жуе жуйку.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЖАВАРАНКА, ЖАЎРАНКА** *ж. Заал.* Жаваранак (Alaudidae). *Гэта як вясна, дык першая птушка, што пачынае пець,— жаваранка.* Вялікая Вуса Уздз. *Жаўранка прылятае на Казіміра [рэлігійнае свята ў католікаў].* Ляшчынск Мядз. *Жаваранка як уверх падымаяцца, дык на пагоду.* Вецярэвічы Пух.

**ЖАВІНЫ** *мн. Бат.* Ягады ажыны. *Тут і грыбы, і ягады ўсякія: і брусьніцы, і буякі, і чарніцы, і журавіны, а па баках, на сухом месьці, маліны ё і жавіны.* Плецівішча Чэрв. *Гэты год жавін у лесі многа, да вялікія, чорныя.* Паплавы Бярэз.

**ЖАВІННІК** *м.* Тое, што і е ж а в і н н і к. *Жавіньнік такі густы, што не прайсьці.* Паплавы Бярэз.

**ЖАДАЦЬ** *незак.* ◊ **Што табе душа жадае** — пра багаты выбар тавараў. *Абы былі ў цябе грошы, што хочаш купіш, што табе душа жадае.* Пагост Віл.

**ЖАДНАСЦЬ** *ж.* Прагнасць, сквапнасць. *І варта яму! Жаднасць ніколі да дабра ні даводзіць.* Лешня Маладз. *Жаднасць яго зрабіла такім.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЖАДНЫ** *прым.* Прагны. *Ён раней ня быў такі жадны.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Я ж яму ў вочы казала: ня будзь такі жадны.* Рудня Чэрв. *Што ня ўбачыць, усе сабе цягня, — такі жадны.* Вецярэвічы Пух.

**ЖАДОБА** *м.* Хвівец, скнара. *Ён такі жадоба, што і зімой сьнегу ні дась.* Бытча Барыс. *Ня ведала, што ты такі скупы, жадоба ты.* Ляшчынск Мядз.

**ЖАКЕТ, ЖЫКЕТ** *м.* Пінжак. *А гэты во жакет Коля аддаў бацьку, яму шчэ добра будзе каля хаты насіць.* Рудня Чэрв. *Скінь жыкет: горача.* Апенькі Віл.; *параўн.* польск. żakiet < фр. jaquette 'тс'.

**ЖАКЕТКА** *ж.* **1.** Тое, што і ж а к е т. *Зваляць сукно, а тады ўжо трэба высушыць і пасьля ўжо шылі жакеткі з гэнага сукна. Гэта ўжо для мужчын. Але і бабы шылі навіт.* Вязынка Маладз. *Каля работы, там ужо жакетку якую адзеня і пашоў.* Там жа. **2.** Кароткая жаночая верхняя вопратка. *Прывязьлі ў магазін жакетак сівых жаночых.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Купіла жакетку картовую ў магазіне, а яна цесная ў плячах, малая мне, зляжыць няма чаго.* Вецярэвічы Пух.

**ЖАЛА** *н.* і *ж.* **1.** Джала (пчалы). *Пчала ўкусіла мяне, і засталося жала сядзець.* Іґрушка Круп. *Мне як дасьць пчала жала, то тры дні хаджу апухшы.* Дукора Пух. *Пчала як дасьць жала, дак і паміраея.* Цялякава Уздз. *Як дасьць жалу пчала, аш цела ўспухня. Майму ўнуку пчала жала дала, вока запухла.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Адцягнутае пры кляпанні вастрыё касы. *Кляпаць ні ўмея, усё жала карабатая. Як такой касой касіць?* Рудня Чэрв.

**ЖАЛАБО́К** *м. Памянш.* Жолаб. *Пастаў пад жалабок бочку, каб вады нацякло.* Вецярэвічы Пух.

**ЖА́ЛАВАННЕ** *н.* Зарплата. *Мой стары вялікая жалаваньня палучая, да мая палучка — з нас хватая.* Ляхавічы Дзярж.

**ЖА́ЛАВАЦЬ** *незак.* Шкадаваць. *Няма за што жалаваць яе, зарабіла добра, і не бедная сама.* Нежаўка Чэрв.

**ЖА́ЛАСЦІВЫ** *прым.* Жаласлівы. *Ён к скаціне саўсім ня жаласьціеы.* Жораўка Пух.

**ЖА́ЛАСЦЬ** *ж.* Чуласць, спагадлівасць. *Другі такі ўжо жаласны, жаласьць мае да кожнага, абы-што якое, дык адразу ў сьлёзы.* Рабунь Віл.

**ЖАЛЕ́ЗЗЕ** *н. Зб.* Металічнае ламачча. *Граната гэтая разарвалася, усё гэтае: паленьня, бочка нейкая ляжала, жалезьзе — усё на нас узвярнула.* Снягла Віл. *Наносіць во ў хату ўсякага жалезьзя, а тут апхоць яго.* Халмоўка Барыс.

**ЖАЛЁЗКА** *н.* Лязо, вострая частка рубанка. *Жалеска затупілася, новае не дастаць.* Ляхавічы Дзярж. *Жалеска можа быць адзіночнае і двайное.* Паплавы Бярэз. *Жалеска ў рубанку — асноўная частка, знізу трэба, каб жалеска вострае было.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЖАЛЕ́ЗНІК** *м.* Чыгунок. *Увесь посуд заняты, буду варыць заціроку ў жалезьніку.* Дзягілі Мядз.

**ЖАЛЕ́ЗНЫ** *прым.* ○ **Жалезная дарога** — чыгунка. *Ад нас далёка жалезная дарога — кіломітраў пітнасьця.* Ляшчынск Мядз. *Даехаць адно да Стоўпцаў, а там і жалезная дарога.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Жалезны мост** — мост, зроблены з жалеза. *Гэты жалезны мост яшчэ да вайны пастроілі.* Забалоцце Смал. *Праз жалезны мост паяздэ ходзяць.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Дзеравянны дык такі ніскі мост, а ў жалезным мосьце насып вялікі, жалезныя стойкі.* Вязынка Маладз. **Жалезны ход** — ніжняя хадавая металічная частка воза. *На жалезным ходзе дык, канешне, лепш носяцца восі.* Вязынка Маладз.

**ЖАЛЕ́ТКА** *ж.* Камізэлька. *Надзела жалетку на плацьце, схавала ўвесь строй, — зра я толькі тры вечары сядзела корпалася, вышывала.* Канстанцінава Мядз.

**ЖАЛО́БА** *ж.* ◊ **Жалобу насіць** — смуткаваць, сумаваць, адмаўляцца ад гулянак і вясёлых забаў з прычыны смерці каго-н. з блізкіх. *Моладзь танцавала, весялілася. Толькі мне прышлося на ўсё доўга збоку пазіраць: у германскую вайну бацьку забілі, а ўсё ж чакалі, што верняцца, дык тры гады жалобу насілі.* Каўшова Дзярж.

**ЖАЛО́СНЫ** *прым.* **1.** Жаласны. *Хутка пяюць тую песьню, катора вясёла, а катора жалосна, тую працяжна пяюць.* Нізок Уздз. **2.** Чуллівы. *Сардэчны чалавек мае жалоснае сэрца.* Малмыгі Віл. *Перат свадзьбай у суботу дзеўкі спраўляюць паненскі вечар, іграіць музыка. А песьні пяюцца дык найболі жалосныя.* Палессе Мядз.

**ЖАЛУБА́ЦЬ** *незак. Экспр.* Есці. *А наш жалубаіць увесь дзень хоць што: то гарох, то семічкі, і на рабоці, і ў нядзелю.* Рабунь Чэрв.

**ЖАЛУБНУ́ЦЬ** *зак.* Перакусіць, глынуць абы-чаго. *Дай жалубнуць, і я пабягу.* Рабунь Чэрв.

**ЖАЛУ́ДАК** *м.* Страўнік. *У жалутку бурчыць, недаеў сёньня.* Пруды Стаўб. *Я ні магу цяшкую работу рабіць, па жалутку бальная.* Хожава Маладз.

**ЖАЛЬ** *ж.* Жаль. *Якрас на галасаваньне ліс цопнуў анну курыцу, а назоўтра другую. Вот жаль была вялікая.* Бяларучы Лаг.

**ЖАЛЯ́ЗКА** *н.* **1.** Прас, які награваюць вуголлем. *Дзеўкай я бялізну жаляскам прасавала, а зарас уцягі аляктрычныя, зь лямпачкамі і рэгулятарамі.* Баяры Маладз. *Жаляска ў нас яшчэ як за Польшчай куплялі, дак і цяпер ёсць.* Малмыгі Віл. *Раскладзі жаляска, папрасую фіранкі.* Забрэжжа Валож. **2.** Тое, што і жале́зка. *Сашкава жаляска зусім ступілася, німа чым доскі габляваць.* Каменка Уздз.

**ЖАЛЯЗНІ́К** *м.* Рыдлёўка. *Паламала жалязьнік, чым ціпер капаць?* Зазерка Пух.

**ЖАЛЯЗНІ́ЧКА** *ж.* Шчотка з жалезнымі зубамі часаць лён. *Сьвіная шчэтка, як і жалязьнічка, толькі ў жалязьніцы гвозьдзікі набіты, а ў сьвіной — шэрсьць.* Хожава Маладз.

**ЖАЛЯЗНЯ́К** *м.* Тое, што і жалязні́к. *Жалязьняком у нас лапату называюць.* Пудзіцк Пух. *Адрамантуй, чалавеча, жалязьняк, пайду грады рабіць.* Вецярэвічы Пух. *А ён і слухаць не захацеў, узяў жалязьняк ды пашоў яблынькі апкопваць.* Сосны Лаг. *Нам трэба новы жалязьняк купіць, стары наш тупы, шчарбаты, ды і цаўё зламалася.* Сялец Лаг.

**ЖАЛЯЗО́** *н.* Тое, што і жале́зка. *Мне ўчора сын жалязо прывёс, купіў у горадзе.* Бытча Барыс. *Жалязо бывая адзіночная і дубальтовая.* Вязынка Маладз.

**ЖАМЕ́РЫНЫ** *толькі мн.* Адходы пасля перагонкі мёду. *Мёд гналі, на гэты рас жамерын многа.* Вецярэвічы Пух.

**ЖАМКІ́** *толькі мн.* Макуха. *Стаіць у сенях мяшок жамкоў.* Малмыгі Віл.

**ЖАНА́ЦІК** *м.* Жанаты мужчына. *Што цяпер за маладзёж! Хоць бы й наш жанацік — ні адной вечарынкі не прапусьціць.* Лоск Валож.

**ЖАНДА́РМА** *ж. Зб.* Жандар. *Злая жандарма як унадзілася — нічога ні пакінулі.* Пудзіцк Пух.

**ЖАНІ́БА** *ж.* Жаніцьба. *Кончыла курсы метсястры і ні пашла на работу — усё жаніба.*

*Пастаралася за ўсіх раней высьці. Дзьве старэйшыя, а яна першая.* Бяларучы Лаг.

**ЖАНІЦЬ** *незак.* ◊ **Жаніць цярэшку (цярэшка)** – народныя гулянні ў калядныя святы. *Ждалі мы калят. Наймалі музыку. Музыка йграла, жанілі цярэшку. У цярэшца стаялі з аннага боку дзеўкі, з другога – хлопцы. І па пары мы стаялі. Давалі каму роўную пару, а каму – дзядоў.* Лубень Віл. *У сачэльнік перад калядамі куця посная, а назаўтро вечарам бабы, дзеўкі, хлопцы зьбіраюцца гуляць. Хлопцы зганджаюць музыку, бо без музыкі якія ж гулі! Выбіраюць жанчыну якую за мацеру, мушчыну – за бацька, і гэтыя ўжо бацька й мацера распараджаюцца балем. І гэтак мы гуляем. У нас гэто завецца цярэшка жаніць.* Валеўка Навагр.

**ЖАНЧЫНКА** *ж. Памянш.* Жанчына. *Яна жанчынка няблагая, бяда толькі, што хворая.* Пудзіцк Пух.

**ЖАРА** *ж.* Гарачыня, спёка. *На жары як пасядзела, галава забалела.* Забалоцце Смал. *Ну й жара стала, хоць у Нёман кідайся і ні вылась.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Хварэю ўвесь час, а за гэтаю жарэю яшчэ больш аслабела.* Зазерка Пух.

**ЖАРАБЕЦ** *м.* ◊ **Як жарабец** – вольны, свабодны. *Бегая як жарабец, забот ніякіх у хлопца.* Хожава Маладз.

**ЖАРАБЁНАК** *м.* Жарабя. *Глядзі, каб жарабёнак не адбіўся ад маткі.* Ляшчынск Мядз. *Жарабёнак маленькі, шэсьць месіцаў з маткай ходзіць, а потым яго адлучаюць.* Рудня Чэрв.

**ЖАРАБЁТКА** *н. Памянш.-ласк.* Жарабя. *На лузе ходзіць кабыла з жарабёткам.* Нізок Уздз. *Жарабётка слабое было і скора здохла.* Зазерка Пух.

**ЖАРАБОК** *м. Ткац.* Памылка пры снаванні. *Ужо й жарабок пасьпела палажыць.* Ваўкалатка Докш.

**ЖАРАБУК** *м.* Жарабок, непакладаны конь. *Гэтых, каторым па два – па тры гады, жарабукоў, дык, напэўна, больш дваццаці ў саўхозя.* Бясяды Лаг.

**ЖАРАЛО** *н.* Лаз у склепе. *Ну й жарало ж выразаў, што ніяк нічога не ўперці.* Пярэжыр Пух. *Восеньню праз жарало картошку ссыпаць будзем.* Зазерка Пух.

**ЖАРАНДОЛ** *м. Царк.* Жырандоль. *Як багатыя маладыя, як малады добра заплаціць, дак у касьцёле запальвалі ўсе жарандолы, на каждым па дваццаць–трыццаць сьвечак.* Палессе Мядз.; *параўн.* польск. żyrandol < фр. girandole.

**ЖАРАНКА** *ж.* Смажанае мяса, сала. *Жаранку ўсе мужыкі любяць.* Скамарошкі Стаўб.

**ЖАРАТАК** *м.* Жар, яркае гарачае вуголле без полымя. *Памяшай жаратак, каб усюды грэлася.* Мядзел Мядз. *Дачушка, пастаў каву на жаратак.* Сырмеж Мядз.

**ЖАРГОН** *м.* Каза, сажань. *Казалі, што заўтра будуць хадзіць з жаргонам, абмерваць усім соткі будуць.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ЖАРЛЕТ** *м. Муз.* Жалейка. *Німа жарлета, дык госьці благія, а як хто зайграе, тады вясёла.* Кальчуны Ашм.

**ЖАРЛО** *н.* Тое, што і ж а р а л о. *Жарло зімой саломай накрываюць, каб марос у склеп ні залес.* Пруды Стаўб.

**ЖАРЛОЧНЫ** *прым.* Пражэрлівы. *Помню, мужыкова сястра была такая жарлочна-жарлочна [нельга ўжо казаць гэтак, бо памёрла], але пражорлівая была.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. żarłoczny 'тс'.

**ЖАРНАВЫ КІЙ.** Млён (у жорнах). *Бярэсься за жарнавы кій і круціш камень, мука піраціраіцца і сыпліцца ў жолаб.* Малмыгі Віл.

**ЖАРНАК** *м.* Ніжні жарнавы камень. *Нашы жорны і цяпер спраўныя: у тым годзя памянялі сподні жарнак.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЖАРНАКЛЁЎ** *м.* Тое, што і ж а р н а к о ў. *Жарнаклёў – той, хто рабіў камяні ў жорны, насякаў, гэта жарнаклёў зваўся.* Саланая Валож.

**ЖАРНАКОЎ** *м.* Жарнасек. *Шчэ да вайны жарнаковам быў Лазар у нас, а цяпер няма ні жорнаў, ні жарнаковаў.* Хожава Маладз.

**ЖАРНАРОВЫ** *у знач. наз.* Тое, што і ж а р н а к о ў. *Жарнаровы хадзіў па сялу і набіваў жорны, хто прасіў.* Дукора Пух.

**ЖАРНУЦЦА** *зак.* Стукнуцца, ударыцца. *З усяго размаху як жарнуўся, дык аж дух заняло!* Мясёнкаўшчына Стаўб. *З разьбегу так жарнуўся, аж уваччу пацямнела.* Узгурск Чэрв.

**ЖАРНУЦЬ** *зак., аднакр.* Ударыць з сілай. *А ён як жарнуў мне па галаве, дык аж у вачах пацямнела.* Кухцічы Уздз. *Як жарня ў акно, дык шыбы і паляцелі.* Каменка Уздз. *Як жарнуў па сьцяне, дык у хаця чуваць было.* Палачаны Мядз.

**ЖАРОБНАЯ** *прым.* Жарэбная (пра кабылу). *Белагрыўка ў гэтым годзе нежаробная, гуляе.* Ляшчынск Мядз. *У нашай брыгадзе чатыры жаробныя кабылы.* Гілікі Валож.

**ЖАРОНДАЛЬ** *м. Абрад.* Абруч, увіты кветкамі, які вешаюць над месцам маладой за сталом. *Маладая далжна на жарондаль хустку ці падарак павесіць для маткі маладога.* Вішнева Смарг.

**ЖАРОНДЛІ** *толькі мн.* Люстра. *Натта ш прыгожыя жарондлі купіла сусетка.* Язні Віл. *Пекныя жарондлі вісяць у іх, натта пекныя.* Юшкаўка Віл.; *параўн.* польск. żyrandol 'люстра'.

**ЖАРЫЦЬ** *незак.* Біць моцна, лупцаваць. *Думаў, пячонкі адаб'е, так па сьпіне жарыў.* Баяры Віл.

**ЖАРЫШЧА** *ж.* Спякота, гарачыня, спёка. *Ну й жарышча прыўдарыла, няма чым ды-*

*хаць.* Дукора Пух. *Жарышча цэлаю нядзелю стаіць, усё павяла.* Ляшчынск Мядз. *Жарышча сёньня, аж няма чым дыхаць.* Вецярэвічы Пух. *Учора ня так душна было, а сёньня носа ня высунуць: жарышча.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЖА́ТКА** *ж. С.-г.* Жняярка. *Ужо як кончыцца ўборка, жаткі ставяць пад навес.* Дукора Пух. *Цяпер жаткамі ня жнуць, цяпер камбайны ўсё пажнуць.* Ігрушка Круп.

**ЖАЎНЯ́НКА** *ж. Бат.* Апенька летняя (Kuehneromyces mutabilis). *Жаўнянкі ў нас не ядуць і не бяруць.* Паплавы Бярэз.

**ЖА́ЎРАНАК** *м.* Тое, што і жа́варанка. *Жаўранак самыя первыя сьпевы прыносіць. Як толькі сонца прыгрэе, жаўранак пачынае сьпяваць.* Рудня Лаг.

**ЖА́ЎРАНКА** *гл.* жа́варанка

**ЖАЎТАБРУ́ШКА** *ж. Заал.* Аўсянка (Emberiza). *Жаўтабрушка — такая маленькая палявая птушачка, сама цёмная, але брушка ў яе жоўцянькая.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЖАЎТАВА́ЦЕНЬКІ, ЖАЎТАВІ́ЦЕНЬКІ** *прым. Памянш.-ласк.* Жаўтаваты. *У мяне быў жаўтаваціньскі сьвідарочак, знасіла.* Бясяды Лаг. *Сёньня нашы бабы пакуплялі жаўтавіцянькія хустачкі, былі ў магазіне.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЖАЎТАПУ́ЗІК** *м. Экспр.* Малады, мала дасведчаны ў чым-н. *Ты ж жаўтапузік шчэ, што цябе слухаць.* Паплавы Бярэз.

**ЖАЎТА́ЧКА** *ж. Мед.* Жаўтуха. *Ты далёка жывеш, ні чула, што мой стары ляжаў у бальніцы. Напала жаўтачка: жоўты стаў, увесь чысто зрабіўся жоўты.* Жацерава Стаўб. *На жаўтачку хварэюць, калі с печаням што не ў паратку ці ж жоўцяй.* Дукора Пух.

**ЖАЎТЛЯ́К** *м.* Насеннік-агурок. *Жаўтлякі пакідаюць на насеньня.* Дукора Пух. *Пакінула дзесяць жаўтлякоў на насеня.* Вецярэвічы Пух.

**ЖАЎТЫ́Р** *м.* Жоўты пясок, пясчаны грунт. *На соткі папоў жаўтыр, дак нічога ня вырасла.* Вецярэвічы Пух.

**ЖАЎЦІ́ЗНА** *ж.* Жаўцізна. *Лета ідзе на спад, жаўцізна на дзеравах праступае.* Кукалеўка Чэрв.

**ЖАЎЦЯ́К** *м.* Тое, што і жаўты́р. *На жаўцяку нішто ня хоча расьці.* Вецярэвічы Пух.

**ЖАХ** *у знач. вык.* Ужываецца ў значэнні дзеяслова **жа́хнуць**. *Немец ракету ўверх — жах! Тут іх аш чорна стала. Павыбягалі з лесу, апкружылі нас з усіх бакоў.* Снягла Віл.

**ЖАХА́ЦЦА** *незак.* Сцінацца, уздрыгваць ад холаду. *— Адзень ты кажушок, і ў сьпіну будзе цёплінька і нечага надзёжна будзя. А то будзяш жахацца, дубець.* Смольніца Смал.

**ЖА́ХНУЦЬ** *зак. Экспр.* Моцна, з сілаю ўдарыць. *Як жахнула яна мне па руцэ, чуць рука не атвалілася.* Лісіца Нясв. *Нядаўначка як жахнуў гром, дык адразу двух жарабятак забіла.* Рудня Чэрв.

**ЖАЦЬ** *незак.* ◊ **Жаць на жменькі** — спосаб жніва ўручную, калі збажыну не вяжуць, а пакідаюць сохнуць на перавясле. *Як дзені мокры, росны ці жыта салома нясьпелая, дык жнуць на жменькі. Жнуць на жменькі, сушаць, а тады праз некалькі дзён вяжуць.* Бясяды Лаг. *Раніцай бабы жнуць на жменькі, бо росна.* Ляшчынск Мядз. *Жнуць на жменькі ячмень, пшаніцу, авёс, жнуць на жменькі жыта, калі травы многа.* Саланая Валож. **Жаць у снапы** — спосаб жніва ўручную, калі адразу вяжуць. *Сьпелая, сухоя збожжа жнуць у снапы, а мокрая, зялёная — на жменькі.* Дукора Пух. *Як ідзе камбайн, то ён зразае і малоціць адразу, а жнеі то жалі ў снапы.* Забалоцце Смал.

**ЖБАНО́К** *м.* Збанок. *Галя, падай другі жбанок, а то ў гэты малако ўжо не ўлазіць.* Бясяды Лаг. *Жбанкі, гаршчэчкі былі гліняніські́я. У жбанках малако ставілі.* Вязынка Маладз. ○ **Жбанок вадзяны** *бат.* — вадзяная лілія, гарлачык. *У нас вадзянымі жбанкамі ўсё возера запруджана, столькі іх многа.* Рудня Чэрв.

**ЖВА́ЙКА** *гл.* жава́йка

**ЖВА́КА** *гл.* жава́йка

**ЖВАКАВА́ЦЬ** *незак.* Пераджоўваць, разжоўваць. *Карова жвакуе, жуе жуйку.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЖВА́КАЦЬ** *незак. Экспр.* Церці, мяць. *Бывала, жвакаеш і жвакаеш у мяліцу, аж рукі ў цябе анямеюць.* Завішына Лаг.

**ЖВАЦЬ** *незак.* Жаваць. *Захварэла кароўка, ні жвеець жвачку.* Язні Віл. *Нешта карова жваку ня жвеець.* Сцебіракі Віл.

**ЖВІРАВА́ТЫ** *прым.* Жвірысты. *Усё адно як на дарозе, нічога не расьце — такая жвіраватая зямля.* Саланая Валож.

**ЖВІРО́ЎНЯ** *ж.* Кар'ер, адкуль жвір здабываюць. *Дзе жвір бяруць, жвіроўня называюць.* Саланая Валож.; *параўн.* польск. żwirownia 'тс'.

**ЖВЫР** *м.* Жвір. *Нёман жвырам заносіць, мялея.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Зямлёй ужо ні такой простай пакрываюць, а ўжо жвырам пасыпаюць.* Вязынка Маладз.; *параўн.* польск żwir 'тс'.

**ЖҐУР** *м.* Матуз. *Трэба ў лясёнку жґурэ папрышываць.* Цялякава Уздз.

**ЖЛОБ** *м.* Жолаб. *Нада ж было п вычысціць жлоп, а то нячыста, нават гною накідалася.* Грышкавічы Віл.; *параўн.* польск. żłob 'тс'.

**ЖЛУ́КТА** *ж.* Пасудзіна, выдзеўбаная ў форме кадушкі з драўлянай калоды, запарваць бялізну. *Жлукта — вялікая дзіравяная бочка зь дзіркай унізу. Закідалі ў жлукту каменьня гарачая і жлукцілі бяльлё.* Шавярнічы Бярэз. *Грэюць ваду, леюць у жлукту, а та-*

*ды шчэ кідаюць грэтыя каменьні і бяльлё кідаюць туда, накрываюць пасьцілкай і яно там жлукціцца.* Дукора Пух. *Вазьмі ты жлукту ды замачы на вечар бялізну, а заўтра і памыць можна.* Журоўка Бярэз. *Жлукта — дзешка на трох нагах стаяла. Складалі ў жлукту адзежу брудную, накрывалі зьверху старай прасьцінай, засыпалі попелам, нагрэтым дакрасна каменьнем і налівалі вадой. Так яно жлукцілася, кіпяцілася.* Пагост Бярэз.; *параўн.* польск. *żłukto* 'тс'.

**ЖЛУ́КЦІЦЬ** *незак.* Парыць. *Закідалі ў жлукту каменьня гарачая, залівалі ваду і жлукцілі бяльлё.* Шавярнічы Бярэз.

**ЖМА́КАЦЬ** *незак.* Цiскаць, шчыпаць. *Танька, ні жмакай ты гэную малую. Ні жмакай яе, яна шчэ маленькая.* Завішына Лаг.

**ЖМА́КІ** *толькі мн.* Тое, што і ж а м к і. *Жмакі сьвіньням аддавалі, а ў галадоўку й самі елі.* Бясяды Лаг. *Жмакамі скаціне корм абмешваюць.* Бяларучы Лаг.

**ЖМА́ХА** *ж.* Тое, што і ж а м к і. *Жмаху натта ш добра цяляці варыць.* Рудня Лаг.

**ЖМЕ́НЯ** *ж.* ∇ **Жменя круп — яшчэ не каша.** Цялякава Уздз.

**ЖМІ́НДА** *м.* і *ж.* Скнара, скупы чалавек. *Знаю, што сыр зрабіла, а не прадала, жмінда.* Хожава Маладз. *Дзеці часта кажуць адзін на аднаго: „Жмінда! Жмінда!"* Бытча Барыс.

**ЖМУ́РАЧКА** *ж.* Зморшчынка. *У яе твар быў увесь у жмурачках.* Цялякава Уздз.

**ЖМУ́РКІ** *толькі мн. Абрад.* Частаванне бабкі на другі, трэці дзень пасля хрэсьбін. *Я дык на гэтыя жмуркі ніколі не хадзіла.* Дукора Пух. *Жмуркі — гэта ўжо на трэці дзень п'юць, што асталося ад радзін.* Паплавы Бярэз.

**ЖМУРЫ́НКІ** *толькі мн.* Тое, што і ж м у́ р к і.

**ЖМУТ** *м.* **1.** Пук, вязка. *Цяпер лапцяў няма, то й жмутоў лыка няма.* Вішнева Смарг. **2.** Тое, што і ж а д о́ б а. *Жмут твой сусет: зімой сьнегу ні выпрасіш.* Клетнае Барыс.

**ЖМУХА́** *ж.* Тое, што і ж а м к і. *Жмуха была, як адналічна жылі, алей самі ціснулі.* Паплавы Бярэз. *Жмухой у нас называюць тое, што астаецца, як выціснуць алей.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЖМУЧО́К** *м. Памянш. да* жмут (у 1 знач.). *Як возяць салому, можна жмучок і дахаты прывесьці.* Нізок Уздз.

**ЖМЫХА́** *ж.* Тое, што і ж а м к і. *Цялятам прывезьлі жмыху.* Саланая Валож. *Даўней было многа жмыхі, сьвіньням на ўсю зіму хапала.* Хожава Маладз. *Як выціснуць зь льнянога сем'я алей, астаецца жмыха.* Вецярэвічы Пух.

**ЖНЕ́ЙНЫ** *прым.* Жніўны. *Жнейныя песьні пяюць у жніво.* Бытча Барыс. *Цяпер і лета пройдзя, ні адной песьні ні пачуяш, а бывала, поля разьлягалася ад жнейных песянь.* Хожава Маладз.

**ЖНЕ́ЎНІК, ЖНІ́ЎНІК** *м.* Іржэўнік. *Жнеўнік касіў.* Дукора Пух. *Ты, унучак, пака сьпі, а калі сонца высока падыміцца, тады ты і прыдзіш, на жніўнік кароў пагонім.* Рудня Лаг.

**ЖНІВО́** *н.* Жніўныя песні. *С усіх суседніх вёсак, гаварылі, жніво ў нас сама хараша пяюць.* Дукора Пух.

**ЖНІ́ЎНІК** *гл.* жне́ўнік

**ЖО́ГА** *ж.* Пякотка. *Жога пячэ во тут у грудзях ат тваіх грыбоў.* Вецярэвічы Пух.

**ЖО́ЛАБ, ЖО́ЛУБ** *м.* **1.** Драўляная аправа, у якую ўстаўляюцца жорны. *Жолаб зь дзерава рабілі, скалоцяць, але ня вельмі крэпка і ўстанаўліваюць жорны.* Ігрушка Круп. *Па жолабе мука кругом сыплецца.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Кармушка. *Усып у жолуп сечку каню.* Палачаны Маладз.

**ЖО́РАЎ** *м.* Шкляная пасудзіна на тры літры. *Я яшчэ, помню, насіла мацеры воду ў жораве на поле.* Зазерка Пух.

**ЖО́СТРЫ** *прым.* Спрытны. *Жостры хлопец: такі паркан пераскочыў.* Вецярэвічы Пух.

**ЖО́ЎТЫ** *прым.* Пераспелы. *Куды ты купляеш гэтыя агуркі, яны ж жоўтыя, нісмачныя будуць!* Пруды Стаўб. *Жоўтыя агуркі пакідаюць на насёна.* Малмыгі Віл. ○ **Жоўтая булоўка** *бат.* — гарлачык жоўты (Nuphar luteum). *Белыя булоўкі харашэйшыя за жоўтыя.* Вялікая Вуса Уздз. **Жоўтая лілея** — тое, што і ж о́ ў т а я  б у л о́ ў к а. *Расцьвілі жоўтыя лілеі.* Саланая Валож. *Жоўтая лілея некрасівая, а белая — от красівая.* Ігрушка Круп. **Жоўтая сліва** — адзін з сартоў слівы дамашняй (Prunus domestica). *Жоўтыя сьлівы ўжо зьвяліся, мала ў каго е.* Вялікая Вуса Уздз. *У дзярэўні ў каго-небудзь ё, а ў мяне то няма жоўтых сьліў.* Бясяды Лаг. **Жоўты збанок** — тое, што і ж о́ ў т а я  б у л о́ ў к а. *Жоўтыя збанкі па вадзе лісты расьсьцілаюць, кветкі жоўцінькія.* Пруды Стаўб.

**ЖО́ЎЦЕНЬКІ** *прым. Памянш.-ласк.* Жоўты. *Грушкі ўжо ест жоўцінькія, скора ўсе гатовыя будуць.* Савоні Стаўб. *Падлогу лепей фарбаваць жоўцінькай фарбай, сьвятлей у хаці будзя.* Пруды Стаўб. *Агуркі цьвітуць жоўцінькім цьветам.* Ігрушка Круп. *Сьвэдрык жоўцінькі, як жаўток.* Рабунь Віл.

**ЖУВА́ЙКА** *гл.* жава́йка

**ЖУ́ЖАЛА** *ж.* Вадкая страва. *Дык чачавіцы нам як навараць, а гэна чачавіца чорна жужала, дык мы ўжо й гэтай чачавіцы рады, што хоць пайдалі.* Аляхновічы Маладз.

**ЖУ́ЖАЛКА** *ж.* **1.** *Заал.* Драпежны жук, актыўны ўначы; жужаль (Carabidae). *Жужалкі ёсьць і буйныя і маленькія, усякія. Іньшы рас ідзеш ноччы, бух жужалка ў твар.* Саланая Валож. **2.** *перан.* Смуглянка. *Яна красі-*

*вая, жужалка гэта, але гультай.* Дукора Пух.

**ЖУ́ЖАЛЬ**[1] *м.* Попел. *Жужалю с папяросы нараскідаў, хадзі прыбірай толькі.* Зазерка Пух.; *параўн.* польск. żużel 'шлак'.

**ЖУ́ЖАЛЬ**[2] *м.* Вадкі гной. *А на ферме жужалю, жужалю!* Млечкі Віл.

**ЖУ́ЖЛА ГРЭ́ЦКАЯ** *заал.* Раслінаедны шкоднік (Carabidae). *Жужлы грэцкія ядуць зялёныя лісты і кветкі грэчкі.* Саланая Валож.

**ЖУ́ЖМА** *н.* **1.** Тое, што і ж м у т (у 1 знач.). *Цэлае жужма паперы.* Паплавы Бярэз. **2.** *перан.* Вялікая колькасць. *Як усыпана жужакоў, жужма наляцелі на карову.* Рудня Чэрв.

**ЖУ́ЙКА** *гл.* жава́йка

**ЖУК** *м. Заал.* ○ **Жук-алень** (Lucanus cervus). *Жук-алень порціць картошку, пад збожжа падрываіцца.* Саланая Валож. **Жук вадзяны** — плывунец (Dytiscus). *Усякія вадзяныя жукі ёсь, але ў нас на іх ўсі роўня кажуць вадзяны.* Ігрушка Круп. **Жук-гнаявік** — гнаявік звычайны (Geotrupes stercorarius). *Вунь паўзе жук-гнаявік, ён у гнаі капошыцца.* Бытча Барыс. **Жук гнаявы** — тое, што і ж у к - г н а я в і к. *Чуць ні заляцеў за пазуху гнаявы жук чорны, бліскучы, з маленькімі блошкамі на жываце. Фу, праціўнае стварэньня!* Ляшчынск Мядз. *Вунь як жук гнойны навос точа!* Дукора Пух. **Жук малінны** — маліннік (Buturidae). *Сёліта маліна ніважная, жукоў малінных многа, стачылі ўсю маліну.* Вішнева Валож. **Жук хлебны** — мукаед (Oryzaephilus). *Як паляжыць доўга мука ў мяху, знойдзіцца жук хлебны.* Гілікі Валож.

**ЖУКО́ВІНА** *ж.* Заручальны пярсцёнак. *Вярнулася старая мода. Мы некалі вянчаліся, былі жуковіны, і цяпер маладыя абменьваюцца жуковінамі.* Вялікая Вуса Уздз. *Жуковіны насілі на пальцах, хараша было.* Пудзіцк Пух.

**ЖУ́ЛІК** *м.* Бутэлька ёмістасцю 0,25 л. *От, цэлы жулік масла разьліў, такой шкоды нарабіў.* Скамарошкі Стаўб.

**ЖУР** *м. Кулін.* Рэдкі кісель з любых ягад. *Летам жур варым с сырых ягат, а зімой — с сушаных. Наварылі журу й падавалі ўсім у кубачках.* Задор'е Лаг.

**ЖУРА́ВАК** *м.* Калодачка з дзіркай пры верхнім жарнаку, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *Жураваk — дзе млён устаўляецца, кап круціць жорны.* Турэц Чэрв.

**ЖУРА́Ў** *м.* Журавель (Grues Gruiformes). *Журавы водзяцца ў такіх месцах, што іх ня ўбачыш цэлае лета, — у балоці.* Ляшчынск Мядз. *Уваднаго я бачыў прысвоенага журава.* Забалоцце Смал. *Жураў мышы ловіць, жабы, яшчаркі, вужак.* Саланая Валож.

**ЖУРАЎЛІ́НЫ** *мн. Бат.* Журавіны (Oxycoccus Adans). *Сьцябло ў жураўлін сьцеліцца, а восяняй купінка ягаткамі як усыпана.* Пруды Стаўб.

**ЖУРЖА́ЦЬ** *незак.* Гусці. *Мухі журжаць і журжаць, накрыюся, лезуць — ніяк заснуць нельга.* Ляшчынск Мядз.

**ЖУ́РКА** *ж. Кулін.* Грыбны булён, падкалочаны мукой; верашчака грыбная. *О, а журку я вельмі люблю!* Саланая Валож. *Мой Стась вельмі любіць журку.* Малмыгі Віл. *Журка натта смачная с сушанымі баравікамі.* Лыцавічы Віл.

**ЖУРО́К** *м. Кулін.* Рэдкі журавінны кісель. *Закіпіць вада, укіну журавіны, павараціца, аццаджу іх,ператру, жышка чырвонінькая становіцца, крухмалу чутку дабаўлю — і журок гатовы.* Задор'е Лаг.

**ЖУХ** *выкл.* Жыг. *І вось у адзін дзень жух у двор тройка чорных коней. З васка злазіць хлапец.* Ракашыцы Уздз.

**ЖУ́ХНУЦЬ** *зак.* Уляцець, прымчацца. *І раптам жухнуў у двор інсьпектар-кароль.* Ракашыцы Уздз.

**ЖУЧАНЯ́ТКА** *н.* Кукалка каларадскага бульбянога жука. *Гляджу, дак лісточкі цятыя, падысподам неко жоўто яечко, мабыць, разводзяцца жучанятki, лічынкі. Некай рады трэбо шукаць, бо жуке каларацкія ўсю картофлю з'ядуць.* Савоні Стаўб.

**ЖУ́ЧКА** *ж. Бат.* Крапіва-жыгучка (Urtica ureus). *От колькі жучкі каля плоту.* Ліпневічы Віл. *Жучку ў пальчатках зьбіраць толькі можна, голай рукой ня будзіш.* Даўгінава Віл. *Усюды гэтай жучкі хапае.* Юшкаўка Віл.

**ЖУЧО́К** *м.* Шпілька, якою зашпільваюць жанчыны кароткія валасы; упрыгожанне. *Воля, дай мне адзін жучок!* Вішнева Валож. *Даўней насілі жучкі ў валасох дзеля красаты.* Пудзіцк Пух. *Жучок прышпільваецца як брошка ў валасэ. Жучкамі прышпільваюць завіўку.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЖЫВАДЗЁР** *м. Асудж.* Непаседлівы, які ўсюды лазіць (звычайна хлапчук), не шануе адзенне, ірве яго жывасілам. *Ну й сын у мяне! Жывадзёр некі! За месяц касьцюм у пыл парваў! Не набраціца.* Паплавы Бярэз.

**ЖЫВАКО́СЦЬ** *м. Бат.* Жывакост (Symphytum). *Жывакосьці ў нас многа. У яе шырокі ліст такі, жоўцінькія кветачкі. Корань таўкуць і накладаюць на паламаную нагу як лякарства пры паломе.* Ляшчынск Мядз.

**ЖЫВАСІ́Л** *м. Бат.* Дзівасіл (Inula). *У мяне корань е жывасілу.* Вецярэвічы Пух. *Корань жывасілу настаіваюць і ад жывата, як баліць, п'юць.* Турэц Чэрв.

**ЖЫВІ́ЦА** *ж. Ткац.* Шнур у нічальніцы ткацкага станка, да якога прывязваюцца ніты. *Нацягні жывіцу як трэба.* Палачаны Маладз.

**ЖЫВО́Т** *м.* ◊ **Жывот** (жываты) **падарваць** (парваць) — вельмі моцна і доўга пасмяяцца. *Як ён расказваў, можна было жывот падарваць ат сьмеху.* Пруды Стаўб. *Ну ш і насьмяя-*

*лісяǃ Чуць жыватоў не парвалі.* Вішнева Валож.

**ЖЫВУ́ШЧЫ** *прым.* Жывучы. *Кот небарака пад машыну папаў, але выжыў — жывушчы.* Вецярэвічы Пух. // *перан. Яна, як кот, жывушчая.* Палачаны Маладз.

**ЖЫВЫ́** *прым.* ◊ **Зачапляць за жывое** — даймаць, расстройваць. — *А ты не ругайся, змоўчы. — Не магу маўчаць, калі мяне зачапляюць за жывое.* Бяларучы Лаг.

**ЖЫГА́ДЛА, ЖЫГА́ЛА** *н. Пчал.* Тое, што і ж а́ л а (у 1 знач.). *Балючае жыгадла, каб яго ліха.* Ляшчынск Мядз. *Во жыгадла ў нагу пчала пусьціла.* Рабунь Віл. *Выпусьці пчалу ў тое акно, асьцярожна ш толькі, бо жыгала дасьць.* Баяры Маладз. *Малы так жа ш плакаў, як пчала жыгала дала.* Чабаі Валож. *Калі падлезіш да пчалінага доміку ці прыцісьніш пчалу, толькі тады яна жыгала дае.* Саланая Валож. *Пчала можа з разьлёту жыгала даць, ґус адразу ўзьляціць.* Гілікі Валож.

**ЖЫГА́ДЛІК** *м. Пчал., памянш.* Джала. *От кап пчолы завёў, я так люблю мёдǃ Але ш папробуй дагледзець іх, яны ш кусаюцца, жыгадлік як усадзіць, от жа баліць.* Бяларучы Лаг.

**ЖЫГА́ЛА** *гл.* жыга́дла

**ЖЫ́ГАЎКА** *ж. Бат.* Крапіва двухдомная (Urtica dioica). *У лесе залезьлі ў жыгаўку, усе ногі паапякалі.* Узгурск Чэрв.

**ЖЫГНУ́ЦЦА** *зак.* Спалохацца. *Мой сынок сабакі жыгнуўся, аж заікацца стаў.* Завішына Лаг. *Я аж жыгнулася.* Там жа.

**ЖЫГУ́Н** *м.* Няўрымслівы чалавек. *Цяжка некаму жыць будзе з гэтым жыгуном, вельмі ўжо неспакойны ён.* Краснае Бярэз.

**ЖЫДЖА́ЦЬ** *незак.* Рабіцца няякаснай. *Мука доўга ні можа стаяць, у ёй заводзіцца моль, жыджая, рэдкая робіцца, вада аддзяляецца.* Арцюхі Стаўб.

**ЖЫ́ДКІ** *прым.* **1.** Гнуткі. *О, гэты дубец жыткі, мне такі і патрэбны.* Луцішча Круп. **2.** Слабы. *Ён жа зусім яшчэ жыткі, глядзі, як хістаецца пад мехам.* Там жа.

**ЖЫДО́К** *м. Заал.* Верабей (Passer). *Зарас этыя жыткі ўсе разынкі паядуць, спасу ад іх няма.* Пудзіцк Пух.

**ЖЫ́ЖА** *ж.* Агонь (з дзіц. лексікону). *Не чапай жыжы, а то апячэсься.* Баяры Віл. *Мама, запалі жыжу, а то цёмна, я баюся.* Дукора Пух.

**ЖЫ́ЖКА[1]** *ж.* **1.** Вадкасць з прыправамі і сокамі засоленых у ёй прадуктаў. *На вячэру строілі гаршчок бульбы, місу капуснай жышкі. Жышку трохі патсоліш, укрышыш цыбулі, кубак вады дабавіш, каб ні было кісла — і вячэра гатова.* Сачыўкі Віл. *Селядзец харошы сьвежы ж жышкай.* Рудня Лаг. **2.** Рэдкая страва. *Здаецца, каб жышкі паесьці, а то ўсё сухоя і сухоя ядзім.* Бясяды Лаг. **3.** Вадкасць з садавіны або ягад. *Яблыкі сь сьлівамі тушацца добра, тады іх кідаюць на рэшата, каб жышка сьцякала.* Ляшчынск Мядз. *Цісьнем, каб жышка са сьліў пацякла.* Вецярэвічы Пух. **4.** *перан.* Кроў. *Заліўся жышкай і малаʔ Зарас як стукну, жышка пацячэǃ* Вецярэвічы Пух.

**ЖЫ́ЖКА[2]** *ж. Бат.* Тое, што і ж у́ ч к а. *Зарас жа марш адсюльǃ Ня будзяш слухацца, паспытаяш жышкі.* Рубяжэвічы Стаўб. *Прайшоў дзень, а я зноў за жышку ды хвашчу па назе, дык ён кажа, што нагу стаў чуць.* Гілікі Валож.

**ЖЫ́ЗНЯ, ЖЫЗЦЬ** *ж.* Жыццё. *Такая мая жызьня была.* Зазерка Пух. *Кап перабраць усю маю жысьць, дэк можна цэлу кнішку злажыць.* Пудзіцк Пух. *Цяпер мне жысьць райская, каб гаткоў дваццаць скінуць адно.* Саланая Валож.

**ЖЫКЕ́Т** *гл.* жаке́т

**ЖЫКЕ́ТА** *ж.* Тое, што і ж а к е́ т. *От добрая жыкета папалася, ужо трэці год нашу, а яна як нова.* Пудзіцк Пух.

**ЖЫКО́ВІНА** *ж.* Тое, што і ж у к о́ в і н а. *Як мы с сваім вянчаліся, дык ён мне падарыў жыковіну, дык во яна шчэ якая прыгожая.* Дукора Пух.

**ЖЫКУ́ЧКА** *ж. Бат.* Тое, што і ж у́ ч к а. *Рукі мае гараць агнём: грады палола, дык жыкучкай абжыкала.* Рудня Чэрв.

**ЖЫ́ЛА[1]** *ж.* **1.** Крывяносны сасуд. *А жылы па ўсяму целу ёсць. У старых дык вельмі рукі і ногі на жылах, жылістыя.* Вязынка Маладз. **2.** Падземная струя вады. *Капа́лі дол ды папалі на жылу. Як хлынула вада, што прышлося капаць новы.* Зазерка Пух.

**ЖЫ́ЛА[2]** *м.* і *ж. Неадабр.* Скупеча. *Ну й жылаǃ Свайму роднаму пашкадуе, а ўсё ў кладоўцы завалена розным дабром.* Грабёнка Чэрв.

**ЖЫЛАВА́ТЫ** *прым.* З выпнутымі жыламі, венамі. *Ад работы рукі сталі жылаватыя.* Вецярэвічы Пух.

**ЖЫ́ЛІНА** *ж.* Тое, што і ж ы́ л а[1] (у 1 знач.). *Я яшчэ малады сабе жыліну перасек. Як секануў, дык кроўю і заліўся.* Рудня Лаг.

**ЖЫ́ЛКА[1]** *ж. Заал.* Вадзяная ўлітка. *У нашай рэцы жылкаў многа на дне, як пойдзем купацца, ловім.* Саланая Валож.

**ЖЫ́ЛКА[2]** *ж.* Карэньчыкі (сорт табаку). *Ён насыпаў дзеду жылкі, а той скруціў яму цыгарку.* Зазерка Пух. *Схадзі ў магазін ды купі мне жылкі, я зьмяшаю з самаросам ды курыць буду.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЖЫ́ЛЛЕ** *н. Зб.* Жылы. *Ат такой натугі можна і жыльле парваць, лепш не бярыся.* Пярэжыр Пух. *Так можна і жыльля падарваць.* Чараўкі Мядз.

**ЖЫЛЫ́** *прым.* Пажылы. *Спытайце, дзевачкі, у яго, ён чалавек жылы.* Паплавы Бярэз.

**ЖЫМ** *м. Цясл.* Зажым, у якім што-н. сціс-

каецца з дапамогай кліноў. *Дзьверы рассохліся, нада зьняць і паспрабаваць у жым узяць.* Бытча Барыс.

**ЖЫР**[1] *м.* Жыр, шмалец. *Жыру яшчэ прашлагодняга ест, і гэтарошняга ест, а ўкусны, маласольны.* Савоні Стаўб. *З нашага кабана жыру многа было, многа натапіла.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Такія цяшкія гусі былі, а жыру мала.* Турэц Чэрв.

**ЖЫР**[2] *м.* Жыўленне. *Бальшыя яльцы пад вечар на жыр ідуць, а мінёк — ноччу.* Саланая Валож. *На жыр пайшла сьвіньня дзікая.* Пруды Стаўб. *Была выйшла на жыр ваўчыха.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЖЫРГАНУ́ЦЬ** *зак.* Пераступіць. *Як жырхануў прас парох і пашоў у калідор.* Апенькі Віл.

**ЖЫРГА́ЦЬ** *незак.* Пераступаць. *Гавораць, што ня можна жыргаць малых дзяцей, бо ня вырастуць.* Апенькі Віл.

**ЖЫРКІ́** *мн.* Палкі. *Прынасілі с сабой і калыскі. Ставілі ў канцы шнура палкі, жыркі іх звалі. Пракручаны ў гэтых жырках дзірачкі, усувалі ў іх вяровачку, да яе прывязавалі бірку. За бірку прывязавалі плёткі і вешалі на іх калыску зьверху. Па жырках апхіналі калыску армяком.* Мацкі Мядз.

**ЖЫ́РНЫ** *прым.* Тлусты. *Куру зарэзала, кура жырная. Кіло тры зацягня.* Савоні Стаўб. *Малачко жырнаё, сьмятаны многа.* Жацерава Стаўб.

**ЖЫРО́ЎКА** *ж.* Месца кармлення звяроў, птушак, рыбы. *Дзеці ў жыроўку насілі хлеб і кашу кідалі.* Паплавы Бярэз. *Жыроўкі на мелі, дзе вада праграваіцца.* Рудня Лаг. *На гэтую палянку прыходзіў зьвер на жыроўку.* Ляхавічы Дзярж. *Почкі на дрэве — добрая жыроўка цецярукам.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЖЫРО́ЎНЯ** *ж.* Тое, што і ж ы р о́ ў к а. *Рыбак для рыбы спецыяльна жыроўню можа зрабіць, паткарміць, каб лепш лавілася.* Ляхавічы Дзярж.

**ЖЫ́РШЧА** *н.* Тое, што і ж н е́ ў н і к. *Кароў пасьцілі па жыршчы, дык у кроў скалола ногі: насохла.* Трыгузі Віл.

**ЖЫРЭ́Й** *прысл. Выш. ст. да прысл.* жырна. *Яна вельмі разумная, проста была як урач які, спасала ат усякага нішчасьця нас. Кап каторы есьці захацеў жырэй што, іна проста гаварыла нільзя, нільзя есьці многа, а найболій кушаць чай.* Ухвала Круп.

**ЖЫТНІ́К**[1] *м. Заал.* Конік зялёны (Tettigonia viridissima). *Весяла крочыць ля жыта, дзе стракочуць жытнікі. А колькі ў траве іх!* Вялікая Вуса Уздз.

**ЖЫ́ТНІК**[2] *м. Заал.* Мыш палявая (Apodemus agrarius). *Яны вельмі швіткія, жытнікі гэтыя самыя.* Бясяды Лаг. *А шкодныя, шкодныя жытнікі! Там, дзе яны вядуцца, зямля на норачках і збажына спляжана.* Хожава Маладз.

**ЖЫ́ТНІЦА** *ж. Бат.* Райграс (Lolium perenne). *Жытніца шматгадовая, як жыта.* Дукора Пух. *Жытніца каласкі мае, як у жыта, кармавая трава, кароў пасьлі па жытніцы.* Ігрушка Круп.

**ЖЫ́ТНЫ** *прым.* Жытні. *Ну, патходзіць жытная жніва, нас тады завуць, пашлі жаць.* Бубны Віл. ○ **Жытняя мятліца** *бат.* — пустазелле, якое засмечвае новыя пасевы (Apera Adans). *Жытняя мятліца ў жыце расьцець, яна буйнейшая, чым палявая.* Малмыгі Віл. *Дзе ніская места і як мокры гот, жыта дрэнная, жытняя мятліца толькі і расьце.* Нізок Уздз.

**ЖЫЎЦО́М** *прысл.* Гвалтоўна; па новым. *Ня ўсьпела купіць мальцу штаны, як ужо калена жыўцом вылупіў.* Аздзяцічы Барыс.

**ЖЫ́ЧКА** *ж. Бат.* Тое, што і ж у́ ч к а. *Дзіцятка, ня лесь сюды, тут жычка, ручкі папячэш. Нада гэту жычку пасеч.* Завішына Лаг.

**ЖЫЧЛІ́ВЫ** *прым.* Зычлівы. *Жычлівы які мужык, штокольвек дабра жалае. Жычлівы хлапец, нікому зла не жыча.* Саланая Валож.

**ЖЫ́ЧЫЦЬ** *незак.* Зычыць. *А хіба ж бацька ён дрэнны? Ён толькі добрага ім жычыць усім.* Саланая Валож. *Вот ідуць сьвяты, на сьвяты жычаць адзін аднаму шчасьця.* Хожава Маладз.

**ЖЫ́ЦЕЛЬКА** *ж.* Жыхарка. *Вы ня мінскія жыцялькі?* Скамарошкі Стаўб.

**ЖЫ́ЦІК** *м. Бат.* **1.** Жытняк (Agropyron pectiniforme). *Расьце жыцік і ў жыці, хлеп чорны, нехарошы с такога жыта.* Нізок Уздз. *Жыцік расьце ў жыці, засьмечвае яго.* Пруды Стаўб. **2.** Жыцік, пустазелле (Lolium linicold). *На нашым полі жыцік расьце, жыцік у льне расьце больш.* Нізок Уздз. *У льну шмат жыціку, як не праполюць у час, саўсім заглушыць.* Паплавы Бярэз.

**ЖЫ́ЦІЦА** *ж. Бат.* **1.** Тое, што і ж ы́ ц і к (у 1 знач.). *Сёлета ў жыці шмат жыціцы, хлеб ад яе чорны.* Вялікая Вуса Уздз. *Жыціца па жыці расьце і падобна да жыта, але як пападзе ў дабро і зьмелюць — хлеб натта горкі.* Саланая Валож. **2.** Тое, што і ж ы́ ц і к (у 2 знач.). *Жыціца ў льне расьце, лён полюць тады.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЖЫ́ЦЦА** *незак., безас.* Ісці, складвацца (пра ўмовы жыцця). *Тут ужо вядома сіроцкая доля. Гэдак ужо тут і жылося, гэдак тутака і хадзілася: калі пойдзіш у школу, а калі й ні пойдзіш у тую школу.* Задубенне Віл.

**ЖЫЦЬ** *незак.* Быць, знаходзіцца. *Жыў адзін дом на станцыі, там почта была.* Пудзіцк Пух. ◊ **Жыць і песні пець** — жыць матэрыяльна забяспечаным. *А цяпер я жыву і песенькі пяю, мне весіла жыць.* Бубны Віл. *У мяне й соткі, у мяне й садок, у мяне й агурок, у мяне й цыбулька свая. У мяне, брат ты мой, сьві-*

*ней двоя. У мяне кароўка, пеньсія. Жыві і песьні пяі.* Мікольцы Мядз. **Жыць сваім розумам** — жыць самастойным у сваіх дзеяннях, учынках. *Жыві сваім розумам, сынок, глядзі работы, дзетак і жонку шануй.* Дукора Пух. **Жыць, як золата важыць** *захапл.* — дружна, добразычліва, памяркоўна, з павагай адзін да аднаго. *Жылі, як золата важылі. Каб гэта круцяка ня ўкінала астуду [унесла разлад], дык бы па сёньняшні дзень ні разьяліся б.* Заброддзе Віл. **Жыць, як сыр у масле катацца** — жыць заможна. *Жывём, як сыр у масле катаімся. А раней што было...* Любань Віл.

**ЖЭ́БРЫ** *мн.* Жабры. *Рыбе нельга жыць без вады, яна жэбрамі дыхае.* Ляшчынск Мядз.

**ЖЭ́БРЫНА** *ж. Анат.* Рабрына. *Пападзесься ты мне ў рукі, я табе ўсе жэбрыны пашчытаю, гіцаль ты!* Ляшчынск Мядз.

**ЖЭ́ГІНІ** *толькі мн.* Азярод, прыстасаванне, на якім сушаць віку, гарох. *Трэба ўскінуць віку на жэгіні, а то згніе.* Ляшчынск Мядз.

**ЖЭЛЬ** *ж.* Раменная вяроўка, лейцы. *Сена я на жэлі нашу.* Аздзяцічы Барыс.

**ЖЭ́МКА** *ж.* Тэмпература. *Вой, якая жэмка высокая ў дзіцяці! І дахтары ходзюць, усё роўна нічога ні памагае.* Бясяды Лаг.

**ЖЭ́МПЕР** *м.* Джэмпер. *Жэмпер адзяюць, каб было цяплей.* Вялікая Вуса Уздз. *Жэмпер вяжуць і куплёныя ёсь.* Нізок Уздз.

**ЖЭРДЗЬ** *ж.* Рубель уціскаць снапы, сена, салому на возе. *Ззаду доўгія вяроўкі зачэпліваюцца, а паверх кладзецца жэрць. Тады перадню зачэпліваіш за жэрць, а ззаду закідаіш доўгую вяроўку на жэрць і цісьніш сваёй сілай.* Вязынка Маладз. *Жэрдзь моцная, доўгая, гэтай жэрдзяй уціскаюць вос.* Саланая Валож.

**ЖЭ́РДКА** *ж.* **1.** Тое, што і ж э р д з ь. — *А хто маю жэртку схваціў? — А ты яе прывёс? — А як жа!* Бяларучы Лаг. **2.** Шасток, на які вешалі адзенне, хусткі. *Жэртка каля печы раней прыбівалася.* Вецярэвічы Пух.

**ЖЭ́РДКІ** *мн.* Курасадня. *Як сьцямнела, так мае куры й палезьлі на жэрткі.* Забалоцце Смал. *Куры ўжо пасядалі на жэрткі, ідзі зачыні хлеўчык.* Дукора Пух.

**ЖЭЎЖЫК** *м.* Свавольнік, гарэза. *Вунь мае жэўжыкі пабеглі: адзін унук, другі — сусецкі.* Зазерка Пух. *Ах, ты жэўжык, хадзі сюды, я табе гасьцінца прывёс.* Краснае Маладз.

## З

**З** (Ж, С) *прыназ.* **І.** *з родн.* **1.** Ужываецца пры ўказанні на рэчыва або матэрыял, з якога прыгатавана, зроблена што-н. *Варым кісель з журавін. Некалі рабілі кісель с аўса, а зара купляем фабрычны і варым. Натапіла шмальцу з гуся цэлы рандэлек.* Саланая Валож. *Я карыцу ў рысі люблю: рыс працадзіць, зрабіць бабачку з рысу с цукрам, от смашно.* Савоні Стаўб. *С усякіх кветачак: с канюшыны, зь ліпы, зь вішань, з яблык — с усякіх кветачак пчолкі мёд зьбіраюць.* Мікалаеўшчына Стаўб. // Пры ўказанні на месцажыхарства каго-н. *Тут ішла жанчына з Галавенчыц адна, гаварыла, сына-салдата спатыкаць хадзіла.* Савоні Стаўб. *Сястра з Задвор'я даведалася мяне.* Жацерава Стаўб. **2.** Ужываецца пры ўказанні на матэрыял, крыніцу, з якога (-ой) што-н. выробляецца, паходзіць. *Булкі пякуць с салоткага цеста.* Саланая Валож. *Вясеньні мёд з верасу, ну, яшчэ зь ёлкі; майскі мёд — зь вярбы; летні мёд бяруць пчолы с крушыны, маліны, грэчкі, клевіру.* Аздзяцічы Барыс. **3.** Ужываецца пры абазначэнні аб'ектных адносін. Адпавядае канструкцыі з дав. без прыназоўніка. *Зь яе нечага верыць.* Засулле Стаўб. **4.** Ужываецца пры абазначэнні асобы, якая з'яўляецца крытэрыем меры, дастатковасці чаго-н. *Дваццаць пяць сотак у нас адно, але картофлі хватае сь сябе. Аднаго кабанчыка гадуям, кароўка, з нас і малака й сала хватае.* Арцюхі Стаўб. *Яны на маіх сотках хату паставілі, а мне ш ні далі ў полі за гэто, але клопат — хваціць і зь мяне.* Акінчыцы Стаўб. **5.** Ужываецца пры абазначэнні сукупнасці, з якой вылучаецца прадмет. *С касцоў адзін Клімовіч на лузі.* Арцюхі Стаўб. **6.** Ужываецца для выражэння прычынных адносін. **Ад.** *Памёр с сэрца: парок сэрца быў. Лубін абіралі, упарола нагу і з нагі памерла: заражэнне. Цёця мая з нагі памерла.* Арцюхі Стаўб. *С перасілу зьліваня крыві папала на мазгі — і да вечара не дажыў.* Сіваца Валож. *З галавы ён паміраў. Захварэў с перапуду.* Бясяды Лаг. **ІІ.** *з він.* Ужываецца ў некаторых устойлівых выразах. *Летась гэткая капуста была, а сёліта капусты німа: дзе-нідзе с кулачок сядзіць.* Савоні Стаўб. **ІІІ.** *з тв.* **1.** Ужываецца пры абазначэнні пастаяннай ці часовай знешняй прыметы або ўнутранай якасці каго, чаго-н. *Студнямі ў нас называюць калодзежы з асверам і стралой, іх у нас зара не робяць, а некалі былі. Зара ў нас калодзежы с корбамы робяць усе, корба дзераўляная ж жалезнай ручкай, а на корбе ланцух накручваецца.* Саланая Валож. *Бульбы з лушпінкамі звару ды капусты.* Вязынка Маладз. *Каршун курэй адно любіць, шаранькі такі, с капцюрамі. Баран — рубанак, падобны пад барана, з рошкамі, удвух габляваць.* Савоні Стаўб. *Адзеў порткі вускія, туфлі з вострымі насамі і высокімі каблукамі, начапіў гальштук чырвоны — і задаецца.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Ужываецца пры абазначэнні прычыны дзеяння. *Езьдзіў у палыклініку сь сьпінаю, але гэткі маламуены, прыехаў, нічого ні гаворыць, што там у яго. Хадзіла ґ доктару з нагою.* Савоні Стаўб. **3.** Ужываецца пры характарыстыцы

спосабу дзеяння. *Маруська добра гуляя польку, с патскокам.* Ляхавічы Дзярж. *Вераб'я дзеўкі танцавалі з прыпяваньням: „Верабей, верабей, не клявай канапель".* Дукора Пух. *Рускага танцавалі с прысяткай, польку тожа.* Ігрушка Круп. *Як пусьціцца цераз нагу гуляць, ды с прытопам, аш дом трасецца.* Паплавы Бярэз.

**ЗА** *прыназ.* **І.** *з він.* **1.** Ужываецца пры ўказанні на прамежак часу, праз які адбудзецца дзеянне. **Праз.** *Ягат у гэтым году многа, але шчэ зялёныя, за які тыдзень будуць. За тыдзень ужэ будзе клубніка, можна будзе на варэньня браць. Узяліся яны за хату, вынаслі с кухні лам'ё, за тыдзень — ні пазнаць хаты: вычысьцілі, вытынкавалі, пазмывалі лавы, навялі парадак.* Арцюхі Стаўб. *За дзьве нядзелі па пакровах [пакровы 1 кастрычніка парастарому] бабіно лето.* Савоні Стаўб. *От прышлі ў сватэ са сватам, з бацькамі, п'юць гарэлку, сватаюцца — за тры нядзелі згаварылі рабіць свадзьбу.* Заямнае Стаўб. **2.** Ужываецца пры абазначэнні прычыны дзеяння. **З-за.** *Пасварыліся за мех, а ў мяху сьмех. Перагаварылася с сусеткай за куры.* Савоні Стаўб. *Чатыры бункеры саломы далі за прэстарэласьць.* Горкі Стаўб. **3.** Ужываецца пры абазначэнні прадмета размовы, думкі, пачуцця. **Аб, пра.** *І за старадуб [лекавая расліна] пытаўся зь Вільні доктар, як дачка егдзіла.* Няровы Валож. **4.** Ужываецца пры ўказанні спецыяльнасці, прафесіі, якой авалодвае хто-н. **На.** *— А за што яна вучыцца? — За фэльчара-акушэра.* Савоні Стаўб. *Сын вучыцца за лёччыка, будзя ляйцянант-інжынер.* Варацішча Стаўб. **5.** Ужываецца пры абазначэнні роду дзейнасці. Сінанімічнае канструкцыі з тв. без прыназ. *Калі было мне гадоў дванаццаць, дык забраў мяне брат у Піцярбурх. Гот пабыў у брата за нянньку, а тады аддаў у кніжны царкоўны магазін за мальчыка. Дзевяць рублёў у месяц палучаў. Тады кінуў у гэтым магазіне і паступіў у Международны камерчаскі банк, ізноў за мальчыка. Палучаў дзесяць рублёў, тры фунты сахару і абедаць давалі.* Ілья Віл. **II.** *з тв.* **1.** Ужываецца пры абазначэнні прадмета як мэты руху. **Па.** *Паехаў у лес за мохам.* Мікольцы Мядз. *У гэтым месяцы людзі езьдзілі за лесам на будаўніцтва бункераў.* Задубенне Віл. **2.** Ужываецца пры абазначэнні асобы, якой аддаюцца клопаты, жыццё. Адпавядае канструкцыі з дав. без прыназоўніка. *Цешча згодна за дачкою даць новую хату, жаніся й жыві.* Арцюхі Стаўб.

**ЗААГРЭХ** *м.* Тое, што і а б м і н а к. *Колькі заагрэхаў на полі, залежыць ат хазяіна і ат аратага.* Забалоцце Смал.

**ЗАБА́ВА** *ж.* Вечарынка. *А як дзе-нібудь якая вічарынка, ці забава, як палякі казалі, дык бацінкі абувалі.* Вязынка Маладз.; *параўн.* польск. zabawa 'тс'.

**ЗАБАЛТА́ЦЬ** *зак.* Замяшаць. *Я ўсё сама прыгатавала, дзеці толькі забалтаюць і аднясуць у хлеў парасятам.* Гілікі Валож.

**ЗА́БАРСКІ** *мн.* Забарсні. *Абулася ў лапці і забарскі крэпка заціснула.* Рудня Чэрв. *Аборы ўцягваюць у вушкі, або ў забарскі.* Забалоцце Смал.

**ЗА́БАЎКА** *ж.* Песня-калыханка. *Я заўсёды паю сыну забаўкі перат сном.* Бытча Барыс.

**ЗАБАЧЭ́ННЕ** *н.* Спатканне. *Цікава, Змітрок, хадзіў ты да яе на забачэньне?* Мядзел Мядз.; *параўн.* польск. zobaczenie 'тс'.

**ЗАБІВА́ЦЬ** *незак.* ◊ **Забівае воздух** — не хапае паветра. *Забівая воздух мяне ў горадзі, німа чым дыхаць.* Каменка Уздз.

**ЗАБІ́ЦЦЕ** *н.* Забойства. *І там нас разлучылі: муж'ёў пакінулі, а нас, бап і малых дзяцей, павезьлі, мы думалі, што нас вязуць на забіцця.* Сівіца Валож.

**ЗАБІ́ЯКА** *м.* і *ж.* Задзіра, буян. *Вот ужо забіяка, німа таго дня, каб ён с кім ні пабіўся.* Паплавы Бярэз. *Мая Стасюня забіяка, а Эдзік трусьлівы.* Арцюхі Стаўб.

**ЗАБО́ЙШЧЫК** *м.* Чалавек, што забівае жывёлу на мяса. *У нас кажуць забойшчык на таго, хто жывёлу забівая.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАБО́ЛЕНЫ** *дзеепрым.* у *знач. прым.* Хворы. *У міне заболяны нервы.* Каменка Уздз.

**ЗАБО́ЛЮВАЦЦА** *незак.* Захворваць. *Мой хлопяц заболюваяцца.* Цялякава Уздз.

**ЗАБО́Р**[1] *м.* Плот, агароджа. *Трэба ставіць новы забор, гэны зусім згніў.* Бытча Барыс. *Усё ж дабіўся досак нарэзаць на забор.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАБО́Р**[2] *м.* ○ **Пад заборам** — пад уладай. *Да 1939 году Краснае было пад заборам Польшчы.* Краснае Маладз.; *параўн.* польск. zabór 'захоп, захопленая тэрыторыя'.

**ЗАБО́РЫ** *мн.* Зборкі. *Спадніцы хто шыя ў склаткі, а хто — у заборы.* Бясяды Лаг. *Бабы ткалі сабе разнацьветнай пражы спадніцы, шылі ў заборы, у тры полкі.* Пагост Бярэз.

**ЗАБО́ТЛІВЫ** *прым.* Тое, што і з а б о́ т н ы. *Як заботлівы чалавек, дык яму аб усём ест забота.* Малмыгі Віл.

**ЗАБО́ТНЫ** *прым.* Клапатлівы, рупны. *Заботны ў яе мужык.* Рудня Лаг.

**ЗАБО́ЦІЦЦА** *незак.* Клапаціцца, рупіцца. *Як была маладая, то й гора ні знала. А цяпер і ап сям'і забоціцца трэба і па гаспадарцы.* Ігрушка Круп.

**ЗА́БРАСНІ** *мн.* Тое, што і з а́ б а р с к і. *Забрасьні трэба рабіць адразу, як і лапці.* Паплавы Бярэз. *Калі былі забрасьні, дык аборы прадзяваліся праз іх.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАБРАТА́ЦЬ, ЗАБРЫТА́ЦЬ** *зак.* Закілзаць, зацугляць. *Забратаць каня гэта ня кожны зможа.* Дукора Пух. *Як пудлівы конь, каторы нясе, нада цуглямі забрытаць.* Паплавы Бярэз.

**ЗАБРÓХКАЦЬ** *зак.* Забрахаць. *І што б мне выйсьці, як сабака заброхкаў, мо й адабрала п [курыцу ад ліса].* Бяларучы Лаг.

**ЗАБРЫТÁЦЬ** *гл.* забратáць

**ЗАБУРМАШЫСТЫ** *прым.* Масіўны. *Бацінкі забурмашыстыя, грубыя, цяжолыя, куды такія бацінкі!* Савоні Стаўб.

**ЗАБУРЫЦЦА** *зак.* Заваліцца спаць. *Учора зь вечара як забурыўся, дык толькі ў абет сёньня прачнуўся.* Клетнае Барыс.

**ЗАБЫТНЫ** *прым.* Забыты. *Усё добрая ні забытноя.* Цялякава Уздз.

**ЗАБЯЛЯЦЬ** *незак.* Запраўляць (смятанай, малаком). *У вайну забялялі ваду малаком ды й елі.* Хожава Маладз.

**ЗÁВАД** *м.* Завод. *Тут зáвадаў німа, толькі хлебны.* Даўгінава Віл.

**ЗАВАДЗІЛА** *м.* і *ж.* **1.** Завадатар, арганізатар танцаў. *Як прыдзіш на танцы, стаіш ля сьцяны, ніхто ні пачынае. А як прыдзе завадзіла, тут усё й пачынаіцца.* Ігрушка Круп. **2.** Запявала. *Яе на ўсе вясельлі завуць. Яна ш завадзіла ва ўсіх песьнях, а што за вясельля бяс песянь?!* Нізок Уздз.

**ЗÁВАДЗЬ** *ж.* Род, радня. *Жонка яго харошая, роду харошага, Навумовічава завадзь, а сам ён то гадасьць, якіх мало на сьвеці ест.* Савоні Стаўб.

**ЗАВÁДЛІВЫ** *прым.* Сварлівы. *Наш сусет натта ш завадлівы.* Клетнае Барыс.

**ЗАВÁЛ** *м.* *Спец.* Вытупленне ляза сякеры. *Завалу ш не зрабі, майстар такі, акуратна вастры.* Вялікая Вуса Уздз. *Тачыў, тачыў, а завал усё-такі зрабіў.* Бытча Барыс. *Ня ўмею вастрыць, дык і зрабіў завал.* Ляшчынск Мядз.

**ЗАВÁЛА** *ж.* Прызба. *Вунь ідзі к дзеду на завалу ды пасядзі.* Колюж Бярэз.

**ЗАВАЛАВÓДЗІЦЦА** *зак.* Заштурхацца, завалтузіцца. *Ну, яны ш як завалаводзіліся, дак я на дзяцей кажу: „А ну, марш у хату!"* Баяры Віл.

**ЗАВАЛÁЦЬ** *зак.* Выклікаць. *Як завалалі стражнікаў, дак мы ўцяклі.* Баяры Віл.; *параўн.* польск. zawołać 'тс'.

**ЗÁВАЛАЧ** *ж.* Лянівы чалавек, лежабок, гультай. *Завалач гэта, цэлы дзень на печы ляжыць.* Цялякава Уздз.

**ЗÁВАЛАЧКА** *ж.* Тое, што і в á б і к. *На елку ці хвойку ставяць завалачку, толькі трэба мёдам памазаць, кап пахла, тады ў завалачку рой сядзе.* Пруды Стаўб.

**ЗÁВАЛІНА** *ж.* **1.** Ляжанка. *Дзед дык і сьпіць на заваліне. Зімой на заваліне падаграе цяпло ад печы, а летам на ёй халадок, бо печ не паляць.* Узгурск Чэрв. **2.** *перан.* Няўдаліца. *Ці ў яе рукі не такія, як у людзей?! Вот ужс ўдача, заваліна гэтая.* Рабунь Віл.

**ЗАВÁЛІНА** *ж.* *Асудж.* Тое, што і з á в а л а ч. *Як яна жыве зь ім?! Гэта ж такая заваліна! Летам на печы ляжыць! Адно ў ягады, у грыбы ходзіць.* Цвіркі Стаўб.

**ЗАВАЛІЦЦА** *зак.* ◊ **Хоць заваліся** – пра поўны дастатак, мноства чаго-н. *Дубовых калодак цяпер ніхто не кладзе пад зруб, у нас каменьня хоць заваліся. Спачатку кладуць рагавыя каменьні пад вуглы, а потым укладаюць фундамент.* Бяларучы Лаг.

**ЗАВАЛІЦЬ**[1] *зак.* **1.** Замкнуць. *Тэкля, ты заваліла дзьверы? А то шчэ хто ўлезя ў хату.* Дукора Пух. *Не забуць заваліць істопку, бо ночы цёмныя, могуць жулікі забрацца.* Узгурск Чэрв. **2.** *у безас. ужыв.* Зарасці. *Усю картошку травой заваліла.* Плябанцы Віл.

**ЗАВАЛІЦЬ**[2] *зак.* Няправільна натачыць. *Тапор заваліў, закругліў лязо, саўсім ні бярэ.* Забалоцце Смал. *Заваліў лязо, як тачыў.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАВÁЛКА** *ж.* *Анат.* Гланда, міндаліна. *Горло маё баліць, во тут, завалкі гэтыя.* Савоні Стаўб.

**ЗАВАЛÓЖЫЦЬ** *зак.* *Кулін.* Памазаць тлушчам. *Хуцінька бяры пяро ды завалош салам крапанікі.* Вяршоўка Круп.

**ЗАВÁЛЬВАЦЬ** *незак.* Зарастаць зеллем. *Абагналі нясечанаё зелё, а цяпер трэба палоць, бо завальвая картофлю.* Савоні Стаўб.

**ЗАВÁЛЬНЫ** *прым.* Стары, трухлявы (пра будынак). *Ейна хатка такая завальная, чуць ліпіць.* Рудня Чэрв.

**ЗАВАЛЬНЯ́** *ж.* Тое, што і з á в а л а ч. *Ты нават не берва́но, ты завальня такая, што сьвет ня бачыў.* Баравая Пух.

**ЗАВАРÁЧАВАЦЦА** *незак.* Заварочвацца. *Некалі пайду хварбу купляць, а хадзілі за дзесяць вёрст, а посьля прыду пад дом, успомню, гэта ж я ні ўсё купіла, заварачаваюся, іду абратна.* Кукшавічы Дзярж.

**ЗАВÁРКА** *ж.* *Ганч.* Раствор, у які апускаецца пасуда пасля абпальвання. *Заварка складаецца с аржаной мукі, кіпячонае вады, сажы, цёртага вугалю.* Беразіно Бярэз.

**ЗАВАРÓТ** *м.* Дуга, адлегласць павароту. *Загон вускі, заварот малы, дрэнна павароч-ваццa с канём.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАВАРÚХА** *ж.* Завіруха, завея. *Сходзіцца заваруха, сьвету ні відаць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАВАРЫЦЬ** *зак.* Апарыць, пашкодзіць скуру гарачым кіпнем. *І як стукнула я ў вілачкі, і яна вывярнула на мяне цыганок із гэтым чаям. І заварыла мяне.* Забар'е Віл.

**ЗАВÉДУШЧАЯ** *ж.* *Нов.* Загадчыца фермы. *Заведушчая, нам трэба ўжо новыя цадзілкі выпісаць, а то гэтыя пасеіліся, будзіць малако засораная.* Канстанцінава Мядз.; *параўн.* рус. заведующая 'тс'.

**ЗАВÉСЦІ** *зак.* Рашчыніць. *Трэба саладухі завесьці, саладуха смачная с салоніцай.* Саланая Валож.

**ЗАВІВÁЛЬНІЦА** *ж.* *Абрад.* Удзельніца вя-

сельнага абраду, якая завівае маладую ў чапец. *Маладыя жанкі — сусеткі, сваячкі маладое —называюцца завівальніцы.* Дукора Пух.

**ЗАВІВА́ЦЬ**[1] *незак. Абрад.* Знімаць у маладой з галавы вянок і адзяваць шапку, якую яна з гэтага часу павінна насіць пастаянна. *Зьнімаюць вянок, абвязваюць маладую палаценцам кругом шыі, пастрыгаюць нямнога валасоў і надзяваюць чапец — завіваюць маладую называецца.* Дукора Пух.

**ЗАВІВА́ЦЬ**[2] *незак.* З пучка жытніх сцяблінак завязваць куклу. *Як жалі сярпамі, то сваю постаць мецілі барoдамі, завівалі бараду.* Ігрушка Круп.

**ЗАВІ́ДАВАЦЬ, ЗАВІ́ДВАЦЬ** *незак.* Зайздросціць. *А ён усё суседу завідаваў, што ў таго дабра многа, а ў яго німа нічога.* Ляхавічы Дзярж. *Сусеццы завідвала, што ў яе сыны рабочыя.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗА́ВІДКІ** *толькі мн.* Зайздрасць. *Завіткі с сярэдзіны чалавека з'ядаюць.* Бузуны Валож.

**ЗАВІ́ДЛІВЫ** *прым.* Зайздросны. *Ну й завідлівае ў цябе вока, Адамаўна, усё табе мала.* Клетнае Барыс.

**ЗАВІ́ДНІК** *м.* Зайздроснік. *Ну й завіднік! Вочы елі п, а душа не прымае.* Забалоцце Смал. *Завіднік гэты, завідуе ўсяму чужому, а кап сваё нажыць, дык лянуецца.* Бясяды Лаг.

**ЗАВІ́ДНЫ** *прым.* 1. Тое, што і з а в і д л і в ы. *І дачка гэткая завідная, як і матка, іх уся парода гэткая.* Рабунь Віл. 2. Прыгожы, удалы. *Ён завідны хлопец: красівы, высокі, фігурны.* Нізок Уздз.

**ЗАВІДУ́ШЧЫ** *у знач. прым.* Прагны, зайздросны. *А-я-яй, якія вочы завідушчыя, яны п цэлы свет сабе загрэблі!* Язні Віл.

**ЗАВІНУ́ЦЦА** *зак.* 1. Рупна ўзяцца за справу. *От завінуліся мы, адна адну пераганялі, снапоў многа нажалі, хазяйка пахваліла.* Калініна Дзярж. *Мы як завінуліся, як бачыш, апалолі граду.* Цялякава Уздз. 2. Раскрычацца, разбушавацца. *Як завінецца, дак цэлы вечар бубніць.* Цялякава Уздз.

**ЗАВІ́РАЧ** *м. Ткац.* Клін у коле задняга навоя. *Паглядзі, Мікола, недзе згубіўся завірач.* Ляшчынск Мядз.

**ЗА́ВІСНА** і **ЗАВІ́СНА** *прысл.* Зайздросна. *Аш за́вісна, так смачна сьпіць чалавек.* Бяларучы Лаг. *А багаты дачуўся брат, заві́сна так, аж за галаву хватаіцца, аткуль ён [бедны] наброў гэта, дзе ён броў.* Ракаў Валож.

**ЗА́ВІСЦЬ** *ж.* Зайздрасць. *Ну й завісьць у чалавека! Здаецца п, усё забраў і не наеўся п.* Турэц Чэрв.

**ЗАВІТА́ЦЦА** *зак.* Наведацца, зайсці на кароткі час. *У нас усё сваё: і скварка, і малако, і цыбуля, і гурочкі, дык я амаль і ні завітаюся ў магазін.* Бяларучы Лаг.

**ЗАВІ́ТКА** *ж.* Заламаныя і звязаныя ў пук жытнія сцяблы, якія, паводле ўяўлення забабонных людзей, маглі наклікаць бяду на гаспадара нівы. *Рабілі завіткі на ніве з некім жа чараўніцтвам.* Вішнева Валож.

**ЗА́ВІЯ** *ж.* Тое, што і з а в а р у́ х а. *Завіі часта бываюць зімой.* Мушанка Віл.

**ЗАВО́ДЗІНА** *ж.* Завадзь. *Заводзіна такая становіцца пры беразі, як рэка пайшла другім бокам, цячэньне яе павярнула да другога берага.* Пруды Стаўб.

**ЗАВО́ЗЧЫК** *м.* Завознік. *Ля мельніцы ўжо стаялі завошчыкі, як мы прыехалі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАВО́РУВАЦЬ** *незак.* Заворваць. *Калі зямля прасохня, пара прыдзе, дак і заворуваюць.* Турэц Чэрв.

**ЗАВУШНІ́ЦА**[1] *ж. Бат.* 1. Увярэднік (Pedicularis). *Завушніцамі сусетка лечыцца, кіпнем аблівае і п'е завушнічнікавы адвар.* Хожава Маладз. 2. Грунтавая расліна з ружовабелымі кветкамі, якія нагадваюць завушніцы. *Завушніцы — гэта кветы такія ружовыя, растуць у гародзе, а на полі іх не бачыла.* Бясяды Лаг.

**ЗАВУШНІ́ЦА**[2] *ж. Мед.* 1. Нарыў за вухам. *На скваэьняку пасядзела мая залоўка, і такая завушніца ў яе ўскочыла.* Забалоцце Смал. 2. Свінка. *Пры завушніцы залозы за вушамі баляць.* Ляшчынск Мядз.

**ЗАВЫВА́ЦЬ** *незак.* Утвараць гукі, падобныя да выцця ваўка. *Як прываблівакоць ваўка, то завываюць, як воўк.* Забалоцце Смал.

**ЗАВЫСО́КІ** *прым.* Надта высокі. *Плот мне, здаецца, завысокі.* Бытча Барыс.

**ЗАВЭ́ДЗГАЦЬ** *зак.* Забрудзіць. *Завэдзгаў ліцо і рукі. Завэдзгаўся, як брыда.* Дукора Пух.

**ЗАВЯДЗЕ́ННЕ** *н.* Тое, што і з а в я д з ё н к а. *Як дзе якое завядзеньня, так і гаворацъ. І ў нас, як у ва ўсіх.* Кухцічы Уздз.

**ЗАВЯДЗЁНКА** *ж.* Звычай, традыцыя. — *Ну, а нашто сьвецяць хату? — Такая завядзёнка была.* Дрычын Пух.

**ЗАВЯЗА́ЦЬ** *зак., безас.* Не хацецца. *Мо зь нядзелю завязала мне і есьці, і піць, і весяліцца, доўга я не скакала — ссушыла мяне гэтая любоў.* Пузыры Мядз.

**ЗАВЯ́ЗВАЦЬ** *незак.* Закладаць аснову, пачынаць будаўніцтва. *Пойдам суседу завязваць зруп, дык і чарка будзя.* Дукора Пух.

**ЗАВЯЗЦІ́** *зак.* Завезці. *Вас жа можа Пятро завясьці, ён усё роўна туды пагоніць сваю машыну.* Люцынка Валож.

**ЗА́ГА** *ж.* Тое, што і ж о́ г а. *Як паабедаў, дык узялася зага пячы, прышлося соду піць.* Пруднікі Валож.

**ЗАГАВЕ́ЦЬ** *зак.* Захварэць. *Нашто ўжо наш здаровы хлопец, але і ён загавеў.* Юр'ева Смал.

**ЗАГА́ДАВАЦЬ** *незак.* Аддаваць загад. *А*

*нас усё гонюць галодных, так зьбіваюць! Страх! Каторы ўжо йдзе-йдзе, прама ўжо сіл ні мая, дык яны [немцы] жалелі кулі біць, а білі прыкладам, а нам загадаваюць засыпаць.* Ухвала Круп. *У гэтых дзірачках наліта вада, такога цьвету, як аліфа, бурага такога цьвету, і кажнаму нам загадаваюць мачаць пяты. Як толькі парог пераступім, адну пяту мочым і другую.* Там жа.

**ЗАГАДАВА́ЦЬ** *зак.* Пусціць на племя. *Загадавалі цялушку, карова свая ацялілася — на табе свадзьба сястры! Абедзьве прадаў.* Забар'е Віл.

**ЗАГА́ДАЦЬ** *незак.* Загадваць. *Баба ні любіла дзедаву дачку, работу загадала, па ваду пасылала.* Малое Стахава Барыс.

**ЗАГА́ДЗІЦЬ** *зак.* Забрудзіць. *Гэтак кофту загадзіла, што ніяк ні адмыць.* Паплавы Бярэз.

**ЗАГА́ННЫ** *прым.* З заганай, мае ганьбу хто-н. *Гэты хлапец заганны, у бацьку ўдоўся, п'е.* Турэц Чэрв.

**ЗАГАНУ́ЦЬ** *зак.* Прапанаваць загадку або пытанне для разгадкі, адказу. *Я магу вам загануць загатку, што й не адгадаіця.* Ручыца Віл.

**ЗАГАНЯ́ЦЬ** *незак. Паляўн.* ◊ **Заганяць з заходам** — паднімаць птушку на паляўнічага, забегшы з процілеглага боку. *Сабака заганяў з заходам ды спугнуў.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗА́ГАРАДА** *ж.* **1.** Тое, што і в ы́ г а р а д з ь. *Адгарадзіў бы ты загараду на дварэ, дзе кабана дзяржаць.* Нізок Уздз. **2.** Агароджа, плот. *Некалі, як загарада ў садзе, дык ніхто ні палезя.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАГАРА́ДЖВАЮЧЫ** *дзеепрысл.* Загароджваючы. *Коні ўзьняліся на дыбы, загараджываючы адзін другому дарогу.* Задубенне Віл.

**ЗА́ГАРАДКА** *ж.* Тое, што і в ы́ г а р а д. *Каб жывёла на сьвежым паветры была і не разбеглася, зрабілі загаратку.* Буцькавічы Стаўб.

**ЗАҐА́РАК, ЗАКҐА́РАК** *м.* **1.** Гадзіннік. *Засьвінеў заґарак, у нас у адных у вёсца быў загарак, устаём малаціць.* Ластаянцы Валож. *Купілі ў падарунак заґарак.* Палессе Мядз. *Завядзі заґарак, мне ўраньні трэба ўстаць, каб на дзяжурства не апаздаць.* Баяры Маладз. *Абы барадой да стала дастала, а ўжо й заґарак на руцэ.* Лыцавічы Віл. *Цяпер нейкія меньшынькія закґаркі робяць, чым раней.* Вязынка Маладз. **2.** Прыпечак. *Пастаў патэльню на заґарак.* Калодчына Віл.; *параўн.* польск. zegarek 'тс'.

**ЗАГАРНУ́ЦЬ** *зак.* Завязаць. *Дай я табе хустачку загарну лепяй.* Каменка Уздз.

**ЗАГАРЭ́ЎШЫ** *дзеепрым.* Загарэлы. *Каваль прыехаў загарэўшы.* Пруднікі Валож.

**ЗАГАТАВІ́ЦЕЛЬ** *м.* Нарыхтоўшчык. *Загатавіцялі прывозяць шалікі, кофтачкі нілонавыя, вязаныя кофтачкі — купляюць людзі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАГАТО́ЎЛЕНЫ** *дзеепрым.* Нарыхтаваны. *Загатоўленая гліна ў нас ляжыць пад навесам.* Беразіно Бярэз.

**ЗА́ГВІНЫ** *мн. Рэліг.* Апошні дзень перад пастом, калі ядуць скаромнае. *Гавеюць перад загвінамі цэлую нядзелю.* Забалоцце Смал.

**ЗАГІ́БАЦЬ** *незак.* Загінаць. *Нада бляху загібаць, перш чым ёю крыць.* Каменка Уздз.

**ЗАГІ́БІНА** *ж.* Непаразуменне. *Тут нейкая загібіна ёсьць, бо не туды папалі.* Узгурск Чэрв.

**ЗАГІ́КА** *м.* і *ж.* Заіка. *У нашай вёсцы аш тры загікі жыве, і харошыя яны, і разумныя, дык загікаюцца.* Гілікі Валож.

**ЗАГІ́КАЦЦА** *незак.* Заікацца *(прыклад гл. пад* загіка*).*

**ЗАГЛА́ДУХА** *ж. Экспр.* Пра дужага целаскладу, поўную жанчыну. *І ты добрая згладуха, твар аж блішчыць ад жыру.* Дукора Пух.

**ЗАГЛУМІ́ЦЬ** *зак.* Папсаваць, зглуміць, перавесці. *Многа лесу заглумілі ў вайну.* Сырмеж Мядз.

**ЗАГЛЫНУ́ЦЬ** *зак.* Праглынуць. *Карова хароша, а заглынула цьвіке, і мы яе здалі на бойню, адразу пад нош.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАГНАЕ́ННЕ** *н.* Загніванне. *У мяне было загнаеньня, то бабы альясам нараілі прыкладваць.* Вішнева Валож.

**ЗАГНА́ЦЦА** *зак.* Загнаць. *Гналі мы тых быкоў дамоў і загналіся на саланянскі сенакос.* Замошша Віл.

**ЗАГНА́ЦЬ** *зак.* Застраміць. *Загнаў у палец дзерава, увесь палец абрывае.* Ручыца Віл. *Паглядзі-тка, якую занозу загнаў, як яе дастаць.* Ігрушка Круп. *Загнаў застрамку, а цяпер нага рве.* Мікольцы Мядз. *А, чорт! ражон загнаў, толькі во выйшаў на вуліцу і загнаў ражон у нагу.* Варняны Ашм. *Стрэмку пат пазногаць загнала, дык чуць выцягнула.* Пруднікі Валож. *Загнаў хлуд пад ногаць.* Ляшчынск Мядз.

**ЗАГНЮСІ́ЦЬ** *зак.* Запэцкаць. *Але вось як вы загнюсілі гэтыя чаравікі, дзе грась знайшлі?* Касцюкі Барыс.

**ЗА́ГРАДКА** *ж.* Тое, што і ґ р а́ т а ў к а. *Памый чысьцінька посут ды на загратку пастаў.* Колюж Бярэз.

**ЗАГРА́ЗНІЦЬ** *зак.* Забрудзіць. *Загразьніла суkенку, а мыць ня хоча, адна бяда зь ёй.* Гілікі Валож. *Бывала ш, як пойдзем танцаваць, дык хлопец возьме ў руку платочак, і руку, што на сьпіне, абгарне платочкам ды так і танцуя, кап плацьця ні загразьніць дзеўчыне.* Бясяды Лаг.

**ЗАГРАНІ́ЧНЫ** *прым.* ○ **Заграні́чная елка** *бат.* — лістоўніца (Larix). *Вунь каля хаты расьце заграні́чная елка.* Сасноўшчына Віл. **Заграні́чныя ягады** *бат.* — кізіл (Cornus), а таксама цёмна-чырвоныя кіслыя і даўкія ягады гэта-

га дрэўца. *Гэна ў нас загранічныя ягады растуць.* Апенькі Віл.

**ЗАГРАХАТА́ЦЬ** *зак.* Загрукаць. *Нехта моцна заграхатаў па падлозе, шум, скрыпнулі палавіцы.* Узгурск Чэрв.

**ЗАГРУБЕ́ЦЬ** *зак.* Стаць цяжарнай. *На другім гаду замужняй жызьні загрубела я, працаваць стала цяшка.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАГРУКАЦЕ́ЦЬ** *зак.* Упасці, з грукатам зваліцца. *Такая клатка нідарэчная. Таго й глядзі, што загрукаціш згэттуль.* Бяларучы Лаг.

**ЗАГРЫ́ВАК** *м.* Карак. *Прашу цябе: „Выбрый мне загрывак, толькі высока не падымай".* Узгурск Чэрв.

**ЗАГРЭ́Х** *м.* Тое, што і а б м і н а к. *Многа ты загрэхаў робіш.* Рудня Чэрв.

**ЗАГУБІ́ЦЬ** *зак.* Згубіць. *Загубіла шшытак, ня ведаю, дзе і шукаць.* Кроква Лаг.

**ЗАГУ́МНЫ** *мн.* Загуменне, месца за гумном. *Ён пашоў на загумны.* Варняны Ашм.

**ЗАГУ́СНУЦЬ** *зак.* Зрабіцца густым. *Ешча, дзеці, зацірку, а то загусьня.* Цялякава Уздз. *Крупнік загус, няма як есьці.* Узгурск Чэрв.

**ЗАГУСЦІ́** *зак.* Пра стан свінні ў перыяд палавой актыўнасці. *Калі сьвіньня загула, то хоць мякіну есьць, а ў Папкі зьбегая.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗАДАВА́КА** *м.* і *ж.* Ганарысты, фанабэрысты чалавек; зазнайка. *Бач ты, які задавака, крукам носа не дастанеш.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Задавака яе матка, задаецца, што дачку за ваеннага замуш выдала.* Гілікі Валож.

**ЗАДАВАЛЬНІ́ЦЦА** *зак.* Адчуць задавальненне. *А тут стаяла вада зь вядром, дык адзін падняў века ў куфры, а другі ўзяў ды ўліў вады ув адзежу. Цэла вядро! Ну й хоць гэтым задавальніліся.* Бакачы Мядз.

**ЗАДАВА́СТЫ** *прым.* Ганарлівы. *Ужо колькі гаварыла яму, а ён такі ш усё задавасты.* Гілікі Валож.

**ЗАДАВІ́ЦЬ** *зак.* Задушыць, зарэзаць. *Воўк авечку задавіў, ухапіў і панёс.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАДА́РАМ** *прысл.* Задарма. *Задарам ніхто ні будзя рабіць.* Цвіркі Стаўб.

**ЗАДА́ЦЬ** *зак.* ◊ **Задаць пытлю** — разбіць, знішчыць у баі. *Нашы вайска, зайшоўшы ў тыл, задалі ім пытлю на масту ракі Лоша.* Загрэбля Уздз.

**ЗАДЗЕ́РЖАЦЬ** *зак.* Затрымаць, спыніць. *Так кроў ідзе, што нельга задзержаць.* Пруднікі Валож.

**ЗАДЗЕ́РЖВАЦЬ** *незак.* Затрымліваць, спыняць. *Задзержваць кроў нада, як парэжаш.* Пруднікі Валож.

**ЗАДЗЕ́ЦЬ** *зак.* ◊ **Задзець за жывое** — у гутарцы закрануць справы, учынкі, напомніўшы пра непрыемнае. *Яна маўчала, а як ён задзеў за жывоё, адразу, як чорт, на яе ўсьсеў — ні панаравіласё.* Савоні Стаўб. **Задзяваць за балючае** — тое, што і з а д з е ц ь з а ж ы в о е. *Задзяваць за балючае для цябе радасьць.* Дукора Пух.

**ЗАДЗЕ́ШАВА** *прысл.* За нізкую плату. *Шэсь дзянёчкаў жалі, а тая хазяйка аплаціла нам па 40 капеячак. Дома нас паругалі, што задзешава жалі.* Калініна Дзярж.

**ЗАДЗЁР** *м.* ◊ **Пайсці на задзёр** — задрацца. *Нек пашло на задзёр: ён сябе ставіць стаў, я ў душы хоць любіла яго, але віду не падавала і тожа ні карылася — і разышліся мы.* Валеўка Навагр. *І як толькі пераехалі с футара, адразу пайшло на задзёр: перасварыліся с усімі суседзьмі.* Савоні Стаўб.

**ЗАДЗЁРА, ЗАДЗІ́РА** *м.* і *ж.* Завадатар боек, забіяка. *Такі задзёра, нікога ні прапусьціць міма сябе.* Бясяды Лаг. *Ён задзіра, жывы ня будзя, калі не паткалупне каго.* Гілікі Валож. *Ну й задзёра ш: колькі ні прасілі, каб ні чапаў янушкаўскіх хлопцаў, дык не, ні вытрымаў, палес у драку.* Бясяды Лаг.

**ЗАДЗЁРЦІ** *зак.* Падняць угару. *А мая старая, як тая варона, галаву ўверх задзёрла, на соўнейка глядзіць.* Суднікі Валож.

**ЗАДЗІВІ́ЦЬ** *зак.* Здзівіць. *Задзівіла мяне гэнак, чаго маладыя дзяўчаты ў царкву прыйшлі.* Бубны Віл.

**ЗАДЗІ́РА** *гл.* задзёра

**ЗАДЗІРА́КА** *м.* Тое, што і з а д з ё р а. *Наш хлапец такі задзіракаваты, задзірака. Калі прыйдзя ў клуп, абавяскова драку пачне.* Рабунь Віл.

**ЗАДЗЯВА́ЦЬ** *гл.* задзе́ць

**ЗАДЛЯ́ЦЦА** *зак.* Затрымацца. *А любачка, я тут задлялася, а там, мусіць, у печы выгарала.* Цялякава Уздз.

**ЗАДНІ́К** *м.* *Спец.* Плытагон, які стаіць на хвасце плыта. *Заднік гоніць плыт.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАДО́БРЫ** *прым.* Вельмі добры, харошы. *Што за зяць у мяне задобры быў, лепей, чым сваю матку, глядзеў.* Баяры Віл.

**ЗАДО́РАГА** *прысл.* Вельмі дорага. *Прышла, стаіць, а ніхто масла ні купляя — аднаму задорага, другому цьвет ні наравіцца.* Граничы Маладз.

**ЗАДОЎЖЫЦЦА** *зак.* Задаўніцца, зацягнуцца. *Хвароба задоўжылася, трэба было лячыцца.* Каменка Уздз.

**ЗАДО́ЎНЕНЫ** *дзеепрым.* Запушчаны. *Потым пайшоў да доктара з вушамі, а ён сказаў, што ўсё так задоўнена і нічога не паможа.* Гілікі Валож.

**ЗАДРАТАВА́ЦЬ** *зак.* Уцягнуць у лыч свінні дроцік, каб не рыла. *Задратавалі нашу сьвіньню, дык ляхчэй стала, ня рые ўжо так.* Хожава Маладз.

**ЗАДРА́ЦЬ** *зак.* ◊ **Задраць нос** — зазнацца,

заганарыцца. *Задраў нос, жэрткай не дастанеш.* Кіркаўшчына Нясв.

**ЗАДРА́ЧЫЦЬ** *зак.* Выняць драку (шпар) у бервяне для лепшага прылягання. *Падзяржы бервяно, а я задрачу.* Забалоцце Смал.

**ЗАДРЭ́МЛІВАЦЬ** *незак.* Прыдрэмліваць. *Села я на лаўку, мяне ўжо сон так змарыў, задрэмліваю. А мне ш спаць ня можна.* Ракаў Валож.

**ЗАДУ́ЦЬ** *зак.* 1. Патушыць, затушыць. *Задуй агонь, сена ж бліска, загарэцца можа.* Узгурск Чэрв. 2. Замесці снегам. *Добра, як зіма мяккая, а то задуя, задзьме, носа ні высунуць с хаты.* Арцюхі Стаўб.

**ЗАДУШЫ́ЦЦА** *зак.* Знясіліцца, выбіцца з сіл. *Задушылася я, нясучы етую траву.* Вецярэвічы Пух. *Задушыцца ад гэтае работы, усё мала ёй.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАДЫ́ШЛІВЫ** *прым.* Задушлівы. *Задышлівы чалавек.* Бясяды Лаг.

**ЗАДЭ́ЧЫЦЬ** *зак.* Згубіць, закінуць. *Але вось дзе я сумку сваю задэчыла і сама ня прыдумаю.* Рудня Валож. *Недзя задэчыла хустку, што ня магу найсці.* Краснае Maладз.

**ЗАЕ́СЦІ** *зак.* Перaступіць рэлігійны закон: з'есці скаромнае ў пост. *Колькі жыву, дак адно адну куцю заела.* Цялякава Уздз.

**ЗАЕ́СЦІСЯ** *зак.* Раззлавацца. *Ну чаго заеўся так? Зьбірайся барджэй ды паедзем.* Кузьмічы Мін.

**ЗАЕ́ХАЦЦА** *зак.* Заехаць. *Заехаліся да сваяка, сваяка дома німа.* Лубень Віл. *Зяць быў тут недалёка, дык заехаўся, памох трохі па гаспадарцы.* Апенькі Віл.

**ЗАЕ́ХАЦЬ** *зак.* ◊ **Заехаць па карку** *груб.* — ударыць па шыі. *Заехалі па карку, каб другі рас ня лес.* Цялякава Уздз.

**ЗАЕ́ЧЫ** і **ЗА́ЯЧЫ** *прым.* ○ **Заечы (заячы) гарошак (гарох)** — жаўтазель (Genista). *Заечы гарошак расьце ў ярыне, у яго дромнянькая лісьця.* Нізок Уздз. *Заячы гарох расьцець хоць дзе, але больш ля куста.* Рудня Лаг. *Заячы гарох нападоб'е вікі па жыці расьце, гэты гарошак завівае дабро.* Саланая Валож. **Заечы салат** — расходнік (Sedum). *Заечы салат на полі, як жыта жнеш.* Нізок Уздз.

**ЗАЖА́ЛІЦЬ** *зак.* Насадзіць джалаў, пакусаць у многіх месцах. *Я кінуў дымакур і наўцёкі, а пчолы за мной! Ляцелі і жалілі — зажалілі мяне ўсяго.* Бясяды Лаг.

**ЗАЖЫВА́ЦЦА** *незак.* Нажываць гаспадарку, маёмасць. *Мы зямлю куплялі, зажываліся.* Апенькі Віл.

**ЗАЖЫМА́ЦЦА** *незак.* Сціскацца (з намерам стаць незаўважаным), прыцiскацца да зямлі. *Прыносяць [фашысты] салому ў зямлянку. Салому запалілі, дым гэты тут пайшоў. А я ш то жывы! Ляжу, зажымаюся. Яны, чую, адышліся.* Снягла Віл.

**ЗАЖЫ́МКА** *ж.* *Неадабр.* Скупянда, скупеча. *І сястра ж яе такая зажымка, сабе шкадавала.* Ігрушка Круп.

**ЗАЖЫМНЫ КО́ЗЛІК.** Прыстасаванне падымаць цяжары. *Зажымны козьлік, ці яшчэ кажуць лісіца, кап падымаць дом, бальшую дзеравяную пастройку.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗАЖЫНАК** *м.* *Абрад.* Першы снапок новага ўраджаю. *У нас была завядзёнка: зажынак ставіць на покуць.* Вецярэвічы Пух. *Нажынаюць зажынак, прыносяць у хату, ставяць на покуце або за ікону, затыкаюць, калі невялічкі ён.* Цялякава Уздз.

**ЗАЖЫРЭ́ЦЬ** *зак.* Распаўнець. *Неяк ён увесь зажырэў.* Хожава Маладз.

**ЗАЖЫ́ТА** *дзеепрым.* Нажыта. *Багатыя бацькі былі, было зажыта ўсяго, а тут-ка згарэла хата, дак разрыў сэрца матка палучыла.* Пагост Віл.

**ЗАЖЭ́НІЦЬ** *зак.* Загнаць. *Трэба зажэніць гусей у хлеў: цёмна.* Палачаны Маладз.

**ЗАЗУ́БІЦЦА** *зак.* Пазубіцца, прарасці. *Ужо жыта зазубілася, каб дождждык, узялося б расьці.* Рудня Лаг.

**ЗАЗЯ́БЛІЦЬ** *зак.* Узараць пад зябліва. *У калгасе ўжэ зазяблілі ржэўнік.* Нізок Уздз.

**ЗАІЗО́ЛІЦЬ** *зак.* Забрудзіць, замусоліць. *Ну і заізоліў жа ты штаны свае!* Вялікая Вуса Уздз. *Новы касьцюм, а ты яго так заізоліў.* Каменка Уздз.

**ЗАІКА́ТЫ** *прым.* Заіклівы. *У нас ёсь два браты заікатыя.* Кукалеўка Чэрв. *Малы быў, то такі заікаты быў.* Паплавы Бярэз.

**ЗАЙГРА́НЫ** *прым.* Аплоднены. *Яйкі павінны быць зайграны, патсыплю пат курыцу, хай сядзіць.* Хожава Маладз.

**ЗАЙГРА́ЦЬ** *зак.* Пачаць страляць. *Зайгралі нашы пушкі, мінамёты, афіцара далі каманду, наступленя пачалося.* Кузьмічы Мядз.

**ЗА́ЙДРАСНЫ** *прым.* Зайздросны, прагны. *Такі зайдрасны, як поп уся роўна, увесь сьвет заброў бы.* Турэц Чэрв.

**ЗАЙДРО́СНІК** *м.* Зайздроснік, зайздросны чалавек. *Такога зайдросьніка, як ён, у вёсцa ня было.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАЙДРО́СЦІЦЬ** *незак.* Зайздросціць, ставіцца з пачуццём зайздрасці да каго. *Усім зайдросьця, свайго нічога добрага ні мае.* Бясяды Лаг.

**ЗАЙСЦІСЯ**[1] *зак.* Зайсці, завітаць. *Аднаго разу ішлі яны [браты], йшлі па зямлі, ну й зайшліся начаваць у вадну хату.* Ракаў Валож. *І споруць мужыкі паміж сабою. А едуць каля судзьдзі, каля двара. „Давай зайдзімся да судзьдзі, як нам судзьдзя рассудзіць, так і будзя".* Лубень Віл. *Ты паглядзі, Раінaчка, якая цяпер жысь панская. Як зайдзісься да любога ў хату, як у пакоі панскія.* Палачаны Маладз. *Па дарозе ў магазін зайдуся, хлеба купіць трэба.* Апенькі Віл.

**ЗАЙСЦІ́СЯ**[2] *зак.* 1. Страціць прытомнасць.

*Большы стукнуў малой па галаве банкай, а тая і зайшлася.* Жораўка Пух. **2.** Памерці. *Бацькі зайшліся ад гора. Што ж вы думаяця? Пахаваць кармільца на старвсьці гот.* Горкі Стаўб. ◊ **Аж сэрца зайшлося** — сціснулася, замёрла ўсё ўнутры. *А потым ні выдзяржала, паклікала. Чакаю. А ў самой аш сэрца зайшлося.* Залазоўе Віл.

**ЗА́ЙЦАЎ** *прым.* ○ **Зайцава капуста** — кісліца звычайная (Oxalis). *Зайцава капуста ў леся расьце, яе як шчоўе есьці можна.* Вецярэвічы Пух. **Зайцава салата** — тое, што і з а й ц а в а к а́ п у с т а. *Зайцава салата квітніць белінькімі кветкамі, расьцець па кустах, у яе лісьця як тры лапачкі.* Рудня Лаг. **Зайцаў баравік (барвік)** — заячы баравік (Xerocomus subtomentosus). *Зайцаў баравік на тонкай носцы з маленькай шапачкай.* Рудня Лаг. *Зайцаў барвік [яго яшчэ палявым завуць] зьверху рудзенькі, а зьнізу зялёнінькі ў дзірачкі рэдзінькія, сіваваты падысподам.* Нядаль Барыс. **Зайцаў гарох** — тое, што і з а е́ ч ы г а р б́ ш а к. *На дзірванах расьцець многа зайцава гароху.* Ляшчынск Мядз.

**ЗА́ЙЧЫ** *прым.* Заячы. *Гулялі на лыжах, дык зайчыя сьляды бачылі, настаўнік нам паказаў, як чытаць іх.* Рабунь Віл. ○ **Зайчая капуста** — тое, што і з а й ц а в а к а п у с т а; *гл.* зайцаў. *Зайчай капусты ў лясох шукаць трэба, у зайчай капусты кісьлянькі смак, цьвіце белым цьветам.* Хожава Маладз. *Ты зайчаю капусту еў?* Паплавы Бярэз. *Зайчаю капусту зьбіраюць і вараць.* Ляшчынск Мядз. **За́йчы гаро́х** — тое, што і з а е́ ч ы г а р о́ х. *У зайчым гароху маленькія чорнінькія бубачкі. Зайчы гарох цьвіце чырвонінькімі кветачкамі.* Хожава Маладз.

**ЗА́ЙЧЫК** *м. Кулін.* Маленькі хлябок з рэштак цеста з мясной начынкай або без яе. *Натасцы зайчыка сьпяку, добра?* Горкі Стаўб.

**ЗАКАБА́ЙЧЫК** *м.* Няроўнасць у выглядзе зморшчынкі (на шапачцы грыба). *Смаршкі дужа зморшчаныя грыбы. У рупчыкі ўвесь, у закабайчыкі такія, канаўкі.* Нядаль Барыс.

**ЗАКАБЛУ́К** *м.* Абцас. *На закаблуках у ботах прыбіваюць падкоўкі.* Ваўкалатка Докш.

**ЗАКАЖЭ́ННЕ** *н.* Заражэнне. *Яна так у дарозе й сканала, бо пашло ў яе закажэньне ад нагі.* Гілікі Валож.; *параўн.* польск. zakażenie 'тс'.

**ЗАКА́ЛЕЦ** *м.* Рэшткі пітва ў шклянцы. *Хто пакідае зака́ліц, той не жадае дабра гаспадару.* Мехаўка Чэрв.

**ЗАКАЛЕ́ЦЬ** *зак. Груб.* Памерці. *Мужык адной бабы з нашай вёскі закалеў на сінаваге.* Жызнава Віл.

**ЗАКАЛЗА́ЦЬ** *зак.* Укласці каню ў рот цуглі. *Іван, закалзай каня, бо панясе.* Сырмеж Мядз.

**ЗАКАЛО́ЦЬ** *зак.* Тое, што і з а г н а́ ц ь. *Закалола паляц шчэпкай.* Пруднікі Валож.

**ЗАКАЛЮ́ТЫ** *толькі мн.* Вулічны лабірынт. *Я чуць не зблудзіў у закалютах, лець нашоў патрэбную вуліцу.* Баравая Пух.

**ЗАКАМЛІ́СТЫ** *прым.* З тоўстым камлём. *Закамлістыя дрэвы растуць каля балота.* Такарышкі Іўеў.

**ЗАКАНДРЫ́ЧЫЦЦА** *зак. Груб.* Заўпарціцца, праявіць нязгоду. *Як закандрычылася, дык мусіў адзін на госьці ехаць: не захацела і ўсё тут.* Клетнае Барыс.

**ЗАКАНДЫ́БАЦЦА** *зак.* Унадзіцца. *Закандыбалася ліса да нашых хутароў, пералавіла нашых курэй.* Барок Стаўб.

**ЗАКАНЧЭ́ННЕ** *н.* **1.** Пачастунак цеслярам пасля збудавання зруба. *Як кроквы паставяць, тады робяць заканчэньне і добра замочваюць зруп.* Малмыгі Віл. **2.** Выпускны вечар. *Сёньня ў Сьмілавічах нашы дзеці гуляюць заканчэньне.* Турын Пух.

**ЗАКАПЫ́ЛІЦЬ** *зак.* ◊ **Закапыліць губы** — загневацца, надзьмуцца, пакрыўдзіцца. *Яна такая ганаровая, чуць што, закапыліць губы й пайшла.* Цялякава Уздз.

**ЗАКАРЭ́ЎШЫ** *у знач. прым.* Закарэлы. *А якая няраха ты! Спадніцу адзеўшы, ласьне кажучы, адымачку, на прыпячку рандэлькі і патэльні закарэўшыя. Чаму ты так пусьцілася?!* Забрэжжа Валож.

**ЗАКАСІ́ЦЬ** *зак.* Закасаць. *Закасі рукавы, а то намочыш.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАКА́Т** *м.* Франтон, забіты не дошкамі, а закладзены тонкімі бярвеннямі. *Зашчытак дошкамі забівалі, акенца ў зашчытку. А бывала, закаты былі, то ніхто тых акенцаў і не рабіў. Закат закладалі бярвеньнямі, так як сьцяну, уверх вузей і вузей.* Бяларучы Лаг.

**ЗАКАТА́ЦЦА** *зак.* Абматацца, загарнуцца. *А адна жанчынка закаталася із дзяцямі ў мох, і каровы церазь яе перайшлі, і сабакі перайшлі, ні пачулі яе і карнікі.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**ЗАКҐА́РАК** *гл.* заґарак

**ЗАКІДА́ЦЬ**[1] *незак.* **1.** Закрываць, закладаць праём ў хляве. *Шчыт забіваюць дошкамі, а ў хляве закідаюць зь бярвеньняў катушкі, закідаюць катушкі ў хляве.* Такарышкі Іўеў. **2.** *перан.* Зрывацца з вуснаў. *Гэтых беларусаў, што з Беласточчыны пераехалі, усё раўно пазнаеш: не-не дый закідае сваё слаўцо, іх у нас „кедысямі" дразьняць.* Арцюхі Стаўб.

**ЗАКІДА́ЦЬ**[2] *зак.* Укідаць (у бёрда). *Пасьля ніта ніткі асновы закідаюць у бёрда, у адну трасьціну дзьве ніткі.* Даўгінава Віл.

**ЗА́КІДКІ** *мн.* Куточак на вышках, дзе гаспадыня складае непатрэбныя рэчы. *Туфлі во з закідак дастала, нарамантавала, і во добра на работу насіць.* Бяларучы Лаг.

**ЗА́КІЛЗЫ** *мн.* Цуглі. *Улажы каню закілзы*

*ў рот, каб добра йшоў.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАКІРПАЦЬ** *зак.* Зблытаць, пераблытаць. *Вот балоўны кот, кожны рас закірпае ніткі.* Канстанцінава Мядз.

**ЗАКІСЛІЦЬ** *зак.* Зрабіць кіслым, дабавіць кіслаты. *Як зварыш капусту, дык закісьліць яе трэба чым-небудзь.* Бытча Барыс.

**ЗАКЛАД** *м.* Часткі стараны, разгароджаныя бярвеннем. *Трэба новы заклат разгарадзіць, а стары зламаць.* Паплавы Бярэз.

**ЗАКЛА́ДАЦЬ** *незак.* Нарыхтоўваць у запас. *Тады ўсё болі гэта капусту закладалі кіслую, а салатаў гэтых ніякіх ніхто ні зноў.* Вязынка Маладз.

**ЗАКЛА́ДЗІНЫ** *мн.* Звычай частаваць цесляроў з выпадку закладкі дома. *Закладзём зруп, першы вянок уложым, тады п'ём закладзіны.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАКЛАДНЫ** *прым.* Платны. *Сабраліся мы ехаць на адны вічарыны: кажуць, закладныя вічарыны ў іх.* Бакачы Мядз.

**ЗАКЛА́СЦІ** *зак.* Закінуць дугу, калі запрагаюць каня. *За гужы дугу зачапіў і закладай.* Вязынка Маладз.

**ЗАКЛЁП** *м.* Дзірачкі для заклёпак. *Бывае, зробіш завялікія заклёпы, дык абручы і разыйдуцца.* Кукалеўка Чэрв.

**ЗАКЛО́КАЦЬ** *зак.* Заквактаць. *Заклокала кура, трэба пасадзіць, а то ня будзя цыплятак.* Рудня Чэрв.

**ЗАКО́ННІЦА** *ж.* **1.** Веруючая, якая няўхільна выконвае настаўленні царквы. *Жду я, паглядаю на слонца, а цётка ш законьніца, пакуль адмалілася ды пакуль прышкрэбалася — ужо й надвечар.* Цеплень Уздз. **2.** Манашка. *Манастыр такі невялічкі быў, доўга жылі законніцы.* Вішнева Валож.

**ЗАКО́РАТКА** *прысл.* Караткавата. *Я бачыла, сусет мераў шэўдар да сябе, але яму быў закоратка, а ў плячах шырака: ён высокі, але тонкі.* Язні Віл.

**ЗАКО́САК** *м.* Адгароджаны куток у пограбе (на бульбу, агародніну) *Закосак вышэй зрабі, бо бульба сыпацца будзе, абляпі яго глінай, кап пацукі меней лазілі.* Лыцавічы Віл.

**ЗАКО́СКІ** *толькі мн. Абрад.* Рытуал, звязаны з пачаткам касьбы. *Закоскі багатыя трэба атправіць. Ты, Макарэвічыха, нясі мёд, а ты, Ганька, кумпяк, а я цыбулі горкай сноп палажу.* Бяларучы Лаг.

**ЗАКО́СНІК**[1] *м.* Клінок, што забіваецца паміж кассём і банькай, каб замацаваць шыйку касы. *Каса складаецца с касься, пупка, банькі, закосьніка і самой касы.* Косава Бярэз.

**ЗАКО́СНІК**[2] *м. Абрад.* Родны або стрыечны брат маладой, які вядзе яе на пасад. *Ад маладога шафер дзяржаў вянец над яго галавой, а над маёй галавой мой закосьнік дзяржаў вянец.* Баранцы Віл. *Закосьнік патсеў да маладой.* Палессе Мядз. *Закосьнік павінен сядзець каля маладога.* Палачаны Маладз.

**ЗАКО́СНІЦА** *ж. Абрад.* Удзельніца вясельнага рытуалу з боку маладой. *Заплятаюць і завіваюць маладую закосьніцы.* Забалоцце Смал.

**ЗАКРАПІЦЬ** *зак.* Замацаваць. *Кап парэзаць доску ўдоль, нада закрапіць у вярстак яе.* Ігрушка Круп.

**ЗАКРАСНЕ́ЦЦА** *зак.* Зачырванецца, пачырванець. *Сорак гадоў, войкая, кашляя, а жонка маладая. Дзе ня ступіць, усе зразу задзівюцца, дык і закрасьнеіцца. Хоць і прычыпурваяцца, і туфлі як лялькі, а стары старым.* Залазоўе Віл.

**ЗАКРА́ТКА** *ж.* Тое, што і ґ р а́ т а ў к а. *Мо ты, дзет, закраткі папрыбіваяш?* Каменка Уздз.

**ЗАКРО́Й** *м. Спец.* Уторнік. *Уторы ў цэбры заразаюцца закроем.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗА́КРУТКА** *ж.* Тое, што і з а в і́ т к а. *Ну й закрутка, што й чапаць боязна. Дзе яна й расла такая?!* Бяларучы Лаг.

**ЗАКРУ́ТКА** *ж.* **1.** Машынка для дамашняга кансервавання. *Цяперака гуркі ў банках закруткамі закручваюць.* Жораўка Пух. **2.** Прыстасаванне для замыкання дзвярэй у выглядзе засаўкі, якая круціцца на восі. *Пакруці закрутку ў дзьвярах, тады аччыніш.* Юшкаўка Віл. **3.** Драўляная цурбалачка, адпаведным чынам апрацаваная, якая ўжывалася замест гузіка. *Даўней не было гузікаў, дык рабілі з дрэва закруткі, дзірачку пасярэдзіне пракруцяць і прышывалі замест гузіка.* Саланая Валож.

**ЗАКРУЦІЦЦА** *зак.* Заблудзіцца. *Я сама рас сь сястрой ішла з Ракава, ішлі, йшлі, цэлы дзень ішлі з Ракава — так закруціліся.* Вязынка Маладз.◊ **Галава закруцілася** — хто-н. няўважлівы з прычыны мноства клопатаў, спешкі. *Толькі мне галава закруцілася, забыўся затулу ўзяць.* Логавіны Мядз.

**ЗАКРУЧАВІНА** *ж.* Дугападобны паварот ракі. *Бывая такая дзе закручавіна вялікая на рацэ.* Вязынка Маладз.

**ЗАКРУЧЭ́ННЕ КІШО́К** *мед.* Заварот кішак. *Алі ж бяда да бяды клеіцца. Захварэў хазяін. Закручэньне кішок. На пяты дзень скончыўся.* Старыя Габы Мядз. *Як наясіся хлеба гарачага,то гавораць:закручэньне кішок будзя.* Саланая Валож.

**ЗАКРЫ́ЛІНЫ** *мн.* Дошкі ў канцы страхі, якія прытрымліваюць салому. *Закрыліны — ета е дошкі, іх прыбіваюць зьнізу па баках саламянай страхі.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАКРЫ́ЛЛЕ** *н.* Застаронак. *Закрыльле ў гумне было поўненькае снапоў.* Ігрушка Круп.

**ЗА́КРЫЎКА** *ж.* Дошчачка, якой закрываюць выграбное акенца ў жорнах. *Дошка тая*

*ест закрыўка. Яе аткрываяш і праз акенца выграбаяш муку.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗАКУ́РКА** *ж. Дзеянне паводле знач. дзеясл.* закуры́ць. *Дзе мужыкоў кампанія зьбярэцца, зразу закурка, у карты трэба пагуляць.* Мушанка Віл.

**ЗАКУ́ТАЦЬ** *зак.* Зачыніць. *Дзіцятка, закутай дзьверы, хай мухі ня лезуць.* Каменка Уздз.

**ЗАЛАВІ́ЦЬ** *зак.* Захапіць, застаць, заспець. *Ішла с поля, а мяне ў дарозі дошч залавіў і вымачыў усю.* Каменка Уздз.

**ЗАЛА́ЖЫЦЬ** *зак.* ◊ **Рукі залажыць (заццаць) няма за што** — нічога не мець, не мець сродкаў да існавання. *Каго-каго, а мяне вайна гэтая не абышла. Немцы спалілі хату, жылі ў лесе, аш пакуль не прагналі немцаў. А як вярнуліся зь лесу, няма за што рукі залажыць.* Чараўкі Мядз.

**ЗА́ЛАМКА** *ж.* Тое, што і з а в і́ т к а. *Людзі цёмныя былі, верылі ў знахароў. Завязаў нехта заламку, трэба шукаць знахара, каб адрабіць.* Вецярэвічы Пух. *У жыці рабілі заламкі, куклы такія закручаныя, з мэтай чараўніцтва.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАЛАТАВА́ТЫ** *прым.* З бліскуча-жоўтым адлівам. *На дрэве лісты жоўтыя, як бы залатаватыя.* Забалоцце Смал. *Ніткі такія жоўцянькія, аж залатаватыя.* Дукора Пух.

**ЗАЛАТНІ́К**[1] *м. Бат.* **1.** Талакнянка (Arstostaphylos). *Залатнік як брусьнічнік, але зубы ў ім большанькія на лістох, а бліскучы такі. Залатнік па бары расьце, дзе хваёвы бор.* Няровы Валож. **2.** Буквіца лекавая (Betonica officinalis). *Нам сказалі, што залатнік у аптэку прымаюць, бо ён нейкая ж лякарства ад хваробы сэрца.* Шутавічы Смарг.

**ЗАЛАТНІ́К**[2] *м. Анат.* Матка. *Як залатнік не на месцы, апускаецца, жывот баліць.* Гілікі Валож. *Калі выпадаець залатнік, то ўрач гаворыць, што выпадаець матка.* Ігрушка Круп.

**ЗАЛАТНІ́К**[3] *м. Уст.* Мера вагі, роўная 1/96 фунта (каля 4,26 г). *Залатнікамі апцякарскі вес мералі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАЛАТЫ́** *прым.* Залацісты, бліскуча-жоўты. *У мяне залатога цьвету рамачка, пат цьвет абояў.* Пруды Стаўб. ◊ **Залатыя рукі мець** — пра ўмелага, дзелавітага чалавека. *Ён залатыя рукі мае. Ён і матоцыкл паправіць, і ў трактары разьбярэцца, і любую дэталь вытачыць. То дзіво, што жонка такога чалавека на руках будзе насіць.* Горкі Стаўб.

**ЗАЛВІ́ЦА** *ж.* Залоўка. *У добрую сям'ю прышла замуш, залвіца харошая, усё ў хаце робіць, сьвякроў яшчэ можа.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАЛЕ́ГЛАСЦЬ** *ж.* Запазычанасць. *За радзіва сорак капеяк залеглассі за прошлы месяц, і ў гэтым нагарыць.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. zaległość 'тс'.

**ЗАЛЕ́ГЛЫ** *у знач. прым.* Заляжалы, чарствы. *Булачка хлеба залеглага завалілася, цьвёрды, хоць у сьценку яго пуляй.* Баяры Віл.; *параўн.* польск. zaległy 'не выкананы, не аплачаны своечасова'.

**ЗАЛЕ́ГЧЫ** *зак.* **1.** *у безас. ужыв.* Пра хваравітае адчуванне ў грудзях, носе і г. д. *Так залягло ў носе, што ніякага паху не чую.* Паплавы Бярэз. **2.** Пацягнуць, напінаючыся. *Патпрагалі валоў у саху і аралі. Як залягуць валэ, адно хвастамі пакручваюць: валэ выносьлівыя.* Арцюхі Стаўб.

**ЗА́ЛЕЗЬ** *ж.* Залеж, аблога. *Пасьля вайны трудна было с коньмі, трактараў саўсім ні было, калхос многа залезі дапускаў, не маглі справіцца зь зямлёю.* Пруды Стаўб.

**ЗАЛІВА́ННЕ** *н. Кулін.* Слаёны блін. *На заліваньня дзяруць бульбу, солі чуць і мукі сыпалі. А мяса рэзалі нажом мелінька, меліньке, салілі, прыправы лажылі і пяклі. Спачатку пякуць алатку з бульбы, тады мяса трошачкі, а наверх зноў бульбай залівающь. І як піражок палучалася. І таму, што залівалі, заліваньня.* Задор'е Лаг.

**ЗАЛІВА́ЦЬ** *незак.* ◊ **Туманы́ заліваць** *неадабр.* — ілгаць, хлусіць. *Што ты мне туманы заліваеш?! Я й сама ведаю, як у цябе і як у мяне.* Гілікі Валож.

**ЗАЛІ́ЦЦА** *зак.* ◊ **Хоць заліся** — надта многа, колькі хочаш. *Летась карова малака давала хоць заліся, а сёліта і вымя прысохла.* Язні Віл.

**ЗАЛО́БАК** *м.* Шчыт у хляве. *Ластаўкі зьвілі гняздо на залопку.* Хожава Маладз.

**ЗАЛО́ЖНІК** *м.* Прыбітая да сцяны маленькая шафа для посуду. *Ну й заложнікі былі, міскі там на полках ставілі, жбанкі, ложкі затыкалі ў шчылінкі такія.* Вязынка Маладз. *Паглядзі, што там у заложніку звалілася. Ноччу як цюкнула, дык думала, што сам заложнік зьляцеў.* Жораўка Пух. *Нявестка наводзіць марафэт у хаці: заложнік выкінула, талерку на куце паставіла, лошкі пазасьцілала посьцялкамы.* Забрэжжа Валож.

**ЗАЛО́ЗА** *ж.* **1.** Тое, што і з а в а́ л к а. *Залозы павялічаныя, баліць горла.* Забалоцце Смал. **2.** Балячка, пухліна. *Залозы — дак гэта балячкі с праступы выскакваюць, цьвёрдыя такія, на шыі выскакваюць.* Малмыгі Віл.

**ЗАЛО́ЗЗЕ** *зб.* Залозы. *Во пабралася шыя ў залозьзе, як скульля.* Бытча Барыс.

**ЗАЛО́М** *м. Уст.* Тое, што і з а в і́ т к а. *Бывала, як хто знойдзя на полі залом, то ня жне яго, а спальвая.* Дукора Пух. *Заломы вязалі на жытах, хто дакранецца, будзя няшчасны. Так лічылі.* Рудня Пух.

**ЗАЛО́МАК** *м.* Тое, што і з а в і́ т к а. *Заломак рабілі ў жыце.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗАЛУВІ́ЦА** *ж.* Тое, што і з а л в і́ ц а. *Нядобра выходзіць замуш, дзе поўна хата залу-*

*віц нізамужніх.* Горкі Стаўб. *Старшая мая залувіца пайшла на ўдаўца.* Пруды Стаўб.

**ЗАЛЯМОЎКА** *ж. Будаўн.* Упусканне ў шула канцоў (пальцаў) бярвенняў. *Залямоўку робяць, каб бервяно добра ляжала.* Забалоцце Смал.

**ЗАЛЯМЫВАЦЬ** *незак. Будаўн.* Упускаць у шула канцы (пальцы) бярвенняў. *А як рубіць будзеш?! У шуло залямываць ці ў вугол?* Забалоцце Смал.

**ЗАЛЯЦЕЦЦА** *зак.* **1.** Заляцець, апынуцца дзе-н. *Дзе быў салавей, дзе зязюля. Заляцеліся ў адзін садочак, у адзін садочак, у адзін кусточак.* Калодчына Віл. **2.** Зайсці, забегчы. *Трэба ш у сталоўку заляцецца, а тады шчэ й на пошту.* Нарач Мядз.

**ЗАМАЛЬДАВАЦЬ** *зак.* **1.** Паведаміць, давесці да ведама. *Ён і брыгадзіра замальдаваў, кап ляхчэйшую работу даў.* Язні Віл. **2.** Зарэгістраваць. *Хадзіў у сельсавет дзіця замальдаваў.* Мядзел Мядз.; *параўн.* польск. zameldować 'далажыць, адрапартаваць', ням. melden 'паведамляць, дакладваць'.

**ЗАМАНІЦЦА** *зак.* Захацецца, прыйсці ў галаву. *Яму заманілася ўзяць яе замуш.* Кукалеўка Чэрв.

**ЗАМАНУЦЦА** *зак.* Тое, што і заманіцца. *Заманулася майму чалавеку ехаць па дровы ў нядзелю, як будных дзён мала.* Вялікая Вуса Уздз. *Заманулася пашыць новую сукенку, дык паехала ў горат, паходзіць па магазінах, пашукая.* Нізок Уздз.

**ЗАМАТАЦЦА** *зак.* Зрабіць растрату, выдаткаваць дзяржаўныя грошы, маёмасць у карысных мэтах. *Пабыла месяц у магазіні — на трыста рублёў заматалася.* Жацерава Стаўб.

**ЗАМГНУЦЬ** *зак.* Задрамаць, заснуць на адно імгненне. *Аленіна дзіця вельмі благоя, усё вядзе і вядзе [доўга плача], замгне толькі і зноў вядзе.* Цялякава Уздз.

**ЗАМЕЖАК** *м.* Мяжа, узмежак. *Ад аднаго суседа ест замежак, ад другога — няма.* Грыцкаўшчына Валож.

**ЗАМЕЦІНА** *ж.* Тое, што і заварўха. *У такую замеціну сабаку шкада с хаты выгнаць.* Зазерка Пух.

**ЗАМЕШВАЦЬ** *незак.* Баранаваць паўторна, па пасеяным. *Зямлю замешвалі, гэта значыць, запахвалі бараной, ну, і хай расьце лянок.* Халопенічы Круп.

**ЗАМЁТ** *м.* Агароджа з тонкага бярвення паміж двума будынкамі. *Цяпер у мяне няма замёта, а раней ён злучаў хату з хлевам.* Саланая Валож.

**ЗАМЁТА** *ж.* Тое, што і заварўха. *Такая была замёта, і сьнех, і вецяр, я прамёрзла.* Савоні Стаўб.

**ЗАМЁТКА** *ж. Паляўн.* Блытаная крывая. *Гнаў, гнаў зайца, а ён замётку за замёткай робіць і ўцёк.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗАМЁТВАЦЬ** *незак. Паляўн.* Заблытваць, знішчаць. *Кожны зьвер стараіцца замётваць сьляды.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАМІЖ** *прыназ. з родн.* Замест. *Налею кубачак малака і вып'ю заміж вады.* Цялякава Уздз.

**ЗАМКАЦЦА** *незак.* Замыкацца. *Замкайся, і больш мы цябе ні трывожым.* Каменка Уздз.

**ЗАМКНЁТЫ** *у знач. прым.* Маўклівы, скрытны. *Яна ш такая замкнёта, маўчыць як камень.* Млечкі Віл.

**ЗАМКНУЦЬ** *зак.* Застраміць. *Так замкнула палец некім гніляком, што аш доктар ні мох дастаць.* Будслаў Мядз.

**ЗАМОГЧЫ** *зак.* Змагчы. *А яны не замаглі сплаціць суседу грошы, сусед і раззлаваўся.* Баяры Маладз.

**ЗАМОК** *м. Будаўн.* Зрошчванне бярвенняў, вязка бервяна за бервяно. *Тут мы ў замок возьмім біревяно.* Забалоцце Смал.

**ЗАМОКРЫ** *прым.* Празмерна мокры. *Бывае гліна замокрая, дык яе пакідаюць на некаторы час на паверхні зямлі, штоб вада сьцякла, каб высахла, тады яна лепей крышыцца.* Івянец Валож.

**ЗАМОРАК** *м.* **1.** Яйка з замораным зародкам куранят. *У нас ета замест поклада заморак ляжыць.* Рудня Чэрв. **2.** Кволая, мізэрная істота. *Не пыляняты — заморкі адны. Кажуць, як у хаце хто памёр, то і пыляняты заморкі будуць.* Баяры Віл.

**ЗАМОХТАЦЦА** *зак. Экспр.* Замарыцца, стаміцца. *Зарас такая пара наступіла, што я на гэтым агародзі замохталася, ледзь ногі свае цягаю.* Сакаловічы Круп.

**ЗАМУДОХКАЦЦА** *зак.* Тое, што і замохтацца. *Покуль схадзіла да станцыі, дык зусім замудохкалася.* Баяры Маладз.

**ЗАМУЖ** *прысл.* ◊ **Пайсці (выйсці, выходзіць, зайсці) замуж** — стаць чыёй жонкай. *Я выходзіла замуж шчэ пры цару.* Новікі Мядз. *Ашчэ васімнаццаць гадоў ні было, вышла замуш.* Зарэчча Смал. *Унучка замуш зайшла, на вялічка два гады будзе.* Ігрушка Круп. *Мая аш за Магілёў зайшла замуш.* Язні Віл. **Выдаць (аддаць) замуж** — зрабіць чыёй жонкай, садзейнічаць уступленню ў шлюб. *І гэтай дзяўчыны бацькі сталі аддаваць яе замуш за суседа, таму што ён багаты.* Даўгінава Віл.

**ЗАМУЖАСТВА** *н.* Знаходжанне ў шлюбе, замужжа. *Яно, замужаства гэнае, так. Іннай добра ўдасца, усё ў яе добра, а сама яна бываець вот чалавек і ўсё, а інная і пекная, і разумная, а як пападзецца чорт які, дык усю жызьню пражывець, як у мяшку стаўчэць.* Язні Віл.

**ЗАМУЗДАЦЬ** *зак.* Закілзаць. *На вос паселі, а каня замуздаць дык ніхто й не дагадаўся.* Пярэжыр Пух.

**ЗАМУЛЯЦЦА** *зак.* Ператаміцца. *Гэты ня*

*замуляяцца, лішняга шагу ня ступіць!* Дукора Пух.

**ЗАМУСО́ЛІЦЬ** *зак.* Забрудзіць, зашмальцаваць. *Вот неакуратны хлопец! Як замусоліць рукавы, дык не адмыць.* Зайцы Чэрв. *Усю куртку новую замусоліў.* Асавец Маладз.

**ЗАМУЦІ́ЦЬ** *у безас. ужыв.* Зрабіцца нядобра, млосна каму. *Мяне замуціла, знаяш, могуць каня ўзяць, конь маладый, харошы, маладо каня выгадаваў.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАМЫ́ЛІЦЬ** *зак.* Сціснуць, падтуліць (вусны). *Чаго ты губы замыліла, ніхто цябе не чапае.* Мацькаўцы Віл.

**ЗАМЫСО́ВАНЫ** *дзеепрым.* Няправільна наточаны. *Твой тапор замысованы, дрэнна чэсаць ім.* Нізок Уздз.

**ЗАМЭ́НЧАНЫ** *дзеепрым.* Дохлы, нядужы, замучаны. *Па поўныя прыгаршчы кожны дзень курам сыплю, а ўсё роўна нейкія замэнчаныя ходзюць. Што ім ні хватаіць, не ведаю. Можа, вітамінаў?* Бясяды Лаг.

**ЗАМЭ́НЧЫЦЬ** *зак.* Замучыць. *Прыехалі карнікі і сагналі ў склеп. Некаторых адразу замэнчылі, а мяне адзін вельмі моцна біў, такой рызінкай з булдой. Ледзьве вытрывала.* Бясяды Лаг.; *параўн.* польск. zamęczyć 'тс'.

**ЗАМЯЛЬНУ́ЦЬ** *зак.* Заштурхнуць мышцамі языка ў горла (пра ежу). *Зварылі мы ўчора верашчаку с качкі. Селі есьці. Як я там ела, як я яе замяльнула — праглынула костачку качыную, стала ў горлі і стаіць.* Савоні Стаўб.

**ЗАНАВЕ́С** *м.* Завеса. *Крэпкія занавесы, вароты трымаюць.* Апенькі Віл.

**ЗАНАВЕ́СКА** *ж.* Фіранка. *Занавескі шыюць з белага паркалю.* Вязынка Маладз.

**ЗАНАГНІ́ЦА** *ж.* Нарыў пад пазногцем. *Ці гразі наб'еццца, як бульбу капаяш, ці стрэмку загоніш, можа занагніца стаць.* Забалоцце Смал.

**ЗАНАСІ́ЦЬ** *зак.* Запоўніць да верху. *Пара мёт выбіраць, пчолы ўжо занасілі рамку.* Саланая Валож.

**ЗАНЕЖЫВЕ́ЦЬ** *зак.* Страціць прытомнасць. *Чуць ні забіўсё. Казалі, чорны стаў адразу і занежывеў. Чуць ачуцілі.* Савоні Стаўб.

**ЗАНЕМАГЧЫ́** і **ЗАНЯМО́ГЧЫ** *зак.* Занямасці, занядужаць, стаць слабым. *Як занемагу, тады будзеш памагаць, а пакуль што спраўляюся сама.* Суднікі Стаўб. *Занямох нешта бацька, каня ў саўхозі вазьму, і нада ў бальніцу завесьці.* Бытча Барыс. *Увосінь мама занямогла, хварэла ўсю зіму.* Кукалеўка Чэрв.

**ЗАНІ́МАЦЬ** *незак.* Збіраць у адно месца, гонячы куды-н. (пра жывёлу). *Пастух у нас кожную раніцу кароў занімае.* Зазерка Пух.

**ЗАНЭ́НДЗАНЫ** *у знач. прым.* Худы, знясілены. *Да таго ж занэндзаны, ледзь ногі цягая.* Аляхновічы Маладз.

**ЗАНЯМА́-НІШТО́** *прысл.* Нізашто. *От у нас дзікі выпадак на днях вышаў: мужык занімa-нішто жонку забіў.* Зазерка Пух.

**ЗАНЯМО́ГЧЫ** *гл.* занемагчы

**ЗАПАДА́ЦЬ** *незак.* Хварэць. *Здароўя слабая, западаю на жалудак, дзіета трэба, а як яе саблюдаць у дзярэўні, калі малачка свайго і таго німа.* Арцюхі Стаўб.

**ЗАПАДРУ́ЧКІ** *прысл.* Пад руку. *Возьмуць шлюб, тады ўжо ідуць западручкі, і маладая садзіцца на яго кані, і едуць да маладой упярад.* Любань Віл.

**ЗАПАЗНА́ЦЦА** *зак.* Пазнаёміцца. *Я запазналася даўно з ім.* Гілікі Валож.

**ЗАПА́ЗУХА** *ж.* Пазуха. *На, схавай у запазуху.* Дукора Пух.

**ЗАПА́Л** *м. Мед.* Запаленне лёгкіх. *Мяне толькі з бальніцы прывязьлі, на запал балела і на нервы. Зарас мне крышку ляхчэй стала.* Баяры Маладз.

**ЗАПАЛІ́СТЫ** *прым.* Неперспектыўны. *Вёска ў нас запалістая, ні магазіна, ні клуба німа. Маладзяш дык у Краснае езьдзіць.* Баяры Маладз.

**ЗАПАЛІ́ЦЦА** *зак.* Загарэць. *Вам ні баляць рукі? Здаецца, яны пякуць, пякуць вам — гэдак запаліліся. Перш былі чырвоныя, а гэта аш карычнявыя.* Арцюхі Стаўб.

**ЗАПА́ЛЬНІК** *м.* Капсуль. *Пасьля вайны многа знаходзілі снарадаў, патронаў дзеці, калечыліся: стануць выбіваць запальнікі або разложаць агонь і кідаюць у агонь. Узарвецца і бяды наробіць.* Канстанцінава Мядз.

**ЗАПАЛЬЦАВА́ЦЬ** *зак.* Вычасаць пальцы. *Спачатку падрэзаць пілой, а потым скалоць сякерай, зрабіўшы выступы ў бярвеннях. Як не запальцуеш, не вычашаш пальцы, дык нельга загнаць берваяно ў паз вушака.* Рудня Лаг.

**ЗАПА́ЛЬЧЫЦЬ** *зак.* Умацаваць бярвенні ў шуле, у вушаку. *Есьлі харашо запальчыць, доўга будзе стаяць будынак.* Ігрушка Круп.

**ЗА́ПАН** *м.* Фартух. *Забегалася за раньня і ў машыну з запанам села, агледзілася на паўдарогі.* Якімаўка Круп. *Вы во запан вазьміця, патэражыціся, а то можаце вымазацца, шкода вашай сукенкі.* Клетнае Барыс.

**ЗА́ПАНЬ** *ж. Спец.* Прыбярэжная частка ракі, агароджаная змацаваным бярвеннем для затрымкі і сартавання сплаўнога лесу. *У запані збіраецца многа плытоў.* Бытча Барыс.

**ЗАПАПА́СЦІ** *зак.* Папасці, апынуцца, аказацца. *Месяца паўтара прабыў я, і запапалі мы ў плен, пяцёх нас.* Дрычын Пух.

**ЗАПАРВА́ЦЬ** *зак.* Напаўшы, захапіць. *Мы зналі, што ўбіваюць парцізанскія сем'і, дак нанач адзяваліся, абуваліся і ўцякалі ў лес, каб ні запарваў немяц.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАПАРО́ШЫЦЬ** *зак.* Запарушыць. *Сена падавала, дык вока запарошыла, каб ні Мар'я, дык асьлепла, але яна дастала парушынку.* Малмыгі Віл.

**ЗАПА́СЦІ** *зак.* Схавацца, затаіцца. *Доўга не відаць зайца, відаць, запаў недзе.* Забалоцце Смал.

**ЗАПАСЦІГА́ЦЬ** *незак.* Мець у наяўнасці. *Прывезьлі больш сто пудоў хлеба, і сена, і саломы, збожо ўваліў сын, ка́са ў мацяры, просіць капейку на кіно, грошай ні запасьцігая.* Савоні Стаўб.

**ЗАПА́СЦІЦЬ** *зак.* Зарабіць, пасучы каровы. *Меньшы брат ажаніўся і наняўся пасьціць. Запасьціў сабе хлеба, картопель і аддзяліўся ад нас.* Таўкачэвічы Уздз.

**ЗАПАТЫ́ЛАК**[1] *м.* Клінок, якім замацоўваюць касу на касільне. *Ну й касцы, нават запатылка няма ў вас, як жа вы касіць пойдзяця?* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАПАТЫ́ЛАК**[2] *м.* Адтуліна ў вулеі, праз якую лазяць пчолы. *У вульлі ест два запатылкі: верхні і ніжні. Праз ніжні запатылак лазяць пчолы.* Пруды Стаўб.

**ЗАПАЎПРА́МІЦЦА** *зак.* Праявіць непакорнасць, упартасць. *А ён як запаўпраміцца, дык хоць ты кол яму на галаве чашы, а ён сваё права правіць.* Стары Свержан Стаўб.

**ЗА́ПАХ** *м.* Пах. *Ідзеш каля кветак вечарам, дык такі ўжо прыемны запах.* Хожава Маладз.

**ЗАПА́ШНІК** *м.* Арандатар. *Запашнік на часьць быў, палавіну зямлі дзяржаў.* Нарач Мядз.

**ЗА́ПЕК** *м.* Запечак. *Дзеці паляглі спаць у запяку, а мы усю ноч праседзелі.* Цялякава Уздз.

**ЗАПЕ́КА** *м.* і *ж.* *Неадабр.* Скнара. *Яна добрая запека: грошы ў панчоху складала, шкадавала дзецям вучыцца.* Ігрушка Круп.

**ЗАПЕ́КАЦЦА** *незак.* Запякацца. *Запекаяцца хлеп добра ў рускай печы.* Вецярэвічы Пух.

**ЗА́ПЕЧАК** *м.* Тое, што і за́пек. *Падай з запечка куфайку. Можа ўжо высахла.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАПЕ́ЧНІКІ** *мн.* Драўляны фундамент печы ў два-тры вянкі. *Зрубак з дзераваў двавтры вянкі, над якім завышаецца печ,— гэта і ёсьць запечнікі.* Бясяды Лаг.

**ЗАПІНА́ЛКА** *ж.* Занавеска. *Койка сястры за запіналкай стаіць, а я тут сплю.* Клінок Чэрв.

**ЗАПІ́САНЫ** *дзеепрым.* Афіцыяльна аформлены ў шлюбе. *Ты на яго не заглядайся, ён ужо месяц як запісаны.* Нізок Уздз.

**ЗАПІСА́ЦЦА** *зак.* Аформіць дакументы аб уступленні ў шлюб. *А то бывая, як онь Жэнька, сьпярша сходзіць запішыцца, а посьля дома скажа, што замуж вышла.* Суднікі Валож.

**ЗАПІ́СВАЦЦА** *незак.* Рэгістраваць шлюб. *Ён не хацеў запісвацца.* Ляшчынск Мядз.

**ЗАПІ́ТАНЫ** *у знач. прым.* Худы. *Вот у другіх жа дзеці як дзеці: упітаныя, здаровыя. А ён жа некі запітаны быў, ня еў усё — ні табе абараначка, ні табе пячэніну. Хадзіць пашоў позна.* Бяларучы Лаг.

**ЗАПЛЕ́СНЕЎШЫ** *дзеепрым.* Пакрыты плесняй. *Стаяла бочка з агуркамі, дык яны былі заплеснеўшыя і сталі сьмярдзець.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗАПЛЕСНЯВЕ́ЛЫ** *у знач. прым.* Тое, што і запле́снеўшы. *Заплесьнявелы грып.* Хожава Маладз.

**ЗАПЛЕСНЯВЕ́ЦЬ** *зак.* Пакрыцца цвіллю. *Хлеб зусім заплесьнявеў, няма як есьці.* Хожава Маладз.

**ЗАПЛЕ́ЧНІК** *м.* Мяшок у старца. *Хадзілі старцы з заплешнікамі ат сяла да сяла.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАПЛЁТАК** *м.* *Спец.* Пачатковае мацаванне абручоў у кашы. *Спачатку трэба заплётак зрабіць.* Бытча Барыс.

**ЗАПЛІКА́ЦЦА** *незак.* Зашпіляцца. *Заплікайся добра, дачушка, каб не прадула, вецер халодны.* Мядзел Мядз.

**ЗАПЛІКНУ́ЦЦА** *зак.* Зашпіліцца. *Заплікніся ты, бо халонна.* Ратуцічы Барыс.

**ЗАПЛІКНУ́ЦЬ** *зак.* Зашпіліць. *Заплікні сарочку, грудзіна голая.* Ратуцічы Барыс.

**ЗАПЛЯНТА́ЖЫЦЬ** *зак.* *Экспр.* Затаптаць, забрудзіць, наслядзіць. *Так заплянтажылі падлогу, як была вечарынка, што чуць дамылася.* Ужанка Нясв.

**ЗАПЛЯСКАТА́ЦЬ** *зак.* *Неадабр.* Хутка загаварыць. *Вот ужо заплятаскала языком, як малацілка.* Зазерка Пух.

**ЗАПЛЯТА́ЛЬЦЫ** *мн.* Тое, што і заплётак. *Спіцы ўстаўляім у заплятальцы.* Турэц Чэрв.

**ЗАПО́ВІНЫ, ЗАПО́ІНЫ** *мн.* *Абрад.* Заручыны, аб'яўленне маладых жаніхом і нявестай. *Учора ў нашай Марылі заповіны былі, замуш дзеўка пойдзе.* Рудня Чэрв. *Запоіны ў дачкі, замуш аддаю.* Цялякава Уздз. *А маладая тожа сабірая сваіх, і робяць запоіны.* Савоні Стаўб. *Кажуць, сягоньня запоіны ў Ядзі, а ў тую нядзелю будуць шлюб браць.* Рабунь Віл. *Тады прыягджаюць на заручыны, робяць запоіны. Значыць, бяруць ґарняц гарэлкі і закуску, едуць бацька, маці, сват і малады, дагавараюцца на вясельля.* Багрыцоўшчына Дзярж.

**ЗАПО́РЦІЦЦА** *зак.* *Экспр.* Захварэць. *Мая карова была запорцілася, думала, здохне, а яна паправілася.* Рудня Чэрв.

**ЗАПРАГЧЫ́** *зак.* Запрэгчы. *Запраглі каня, і павёс маладую с сабой.* Восава Круп.

**ЗАПРО́ВІНЫ** *толькі мн.* Тое, што і запо́віны. *Ну, тады ўжо запровіны. Прыедзя маладыя, наззываюць людзей, музыка йграя, запіваюць маладую.* Таўкачэвічы Уздз.

**ЗАПРО́ШЛЫ** *прым.* Пазалеташні. *Запрошлую восянь ішоў я с калхозу. О тут во, Азярышча называяцца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

*У запрошлым годзі, помню, шчэ бонбы знаходзілі.* Рудня Чэрв.

**ЗАПРЫБЫВА́ЦЬ** *зак.* Праходзіць. *Запрыбывайце, дзеткі, далей, садзіцеся, дзе месца есьць.* Баяры Маладз.

**ЗАПУЗЫ́РЫЦЬ** *зак. Жарг.* Ударыць моцна, стукнуць. *Такі ён быў: запузырыць Пятру па вуху, той і зваліўся.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗА́ПУСКІ** *мн. Уст.* Тое, што і з а́ г в і н ы. *Ад дзядоў да запусак – тры нядзелі.* Цялякава Уздз. *Запускі – гэта апошні дзень пярат постам.* Нізок Уздз.

**ЗАПУСКНАЯ НЯДЗЕ́ЛЯ** *рэліг.* Апошні тыдзень перад вялікім пастом. *У запускную нядзелю ўсе стараюцца мяса есьці, весяліцца, бо тады пост глухі наступаў.* Вішнева Валож.

**ЗА́ПУСТЫ** і **ЗАПУ́СТЫ** *мн.* Тое, што і з а́ г в і н ы. *Гаварылі, што вясельле на за́пусты будзя.* Чабаі Валож. *На запу́сты людзі наядуцца мяса і тады нядзель шэсць ні ядуць.* Такарышкі Іўеў.

**ЗАПУ́ХНУЦЬ** *зак.* Набрыняўшы ад вільгаці, перастаць цячы. *Наш цэбар пацёк, дак я наліла вады, хай запухня.* Дукора Пух. ◊ **Каб ёй горла запухла!** – праклён. *А гэта варона, каб ёй горла запухла, як нарочна лятая і каркая, каб яна каркнула ў сабачых зубах!* Кулёўшчына Маладз.

**ЗАПЫЛІ́ЦЬ** *зак.* Апыліць. *Чым болей запыліць пчала, тым больш прыплоду ў садзі будзя.* Вішнева Валож.

**ЗАПЫЛЯ́ЦЦА** *незак.* Апыляцца. *Я спрахцікавалася: пасадзі на высаткі кармавы бурак, белы, і сталовы, красны, на той гот вырасьця ні кармавы, ні сталовы. Абавяскова трэба садзіць зводдаль адзін ад аднаго, каб ні запыляліся.* Арцюхі Стаўб.

**ЗАПЫНІ́ЦЬ** *зак.* Пераняць, рухаючыся наперарэз. *Я пабягу, запыню каровы, кап у віку ні ўпалі.* Цялякава Уздз.

**ЗАПЭ́НДЗАНЫ** *у знач. прым.* Заняты шматлікімі справамі, якія патрабуюць пастаяннай беганіны, мітусні; залятаны. *Да таго ж запэндзаны хлопяц, лець ногі цягня.* Аляхновічы Маладз.; *параўн.* польск. zapędzony 'тс'.

**ЗАПЭЎНІ́ЦЬ** *зак.* Забяспечыць, гарантаваць догляд. *Так ні кінуць, каго-небудзь запэўняць на гаспадарку, брата ці матку.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. zapewnić 'тс'.

**ЗАПЯРЫ́ЛАК** *м.* Адгароджанае ад току месца ў гумне для складвання снапоў, саломы, сена. *Як некалі былі свае гумны, дык у гумнах адгараджувалі ат тока запярылкі, па абадва бакі былі запярылкі, снапы ў запярылках складвалі.* Нізок Уздз. *А як малоцяць, салому складваюць у запярылках, а ёсь места, і сена кладуць у запярылак.* Краснае Уздз.

**ЗАПЯСО́ЧНІК** *м.* Апошняе бервяно ў сцяне зруба, якое кладзецца паверсе бэлек. *А на запясочнікі дык і мацяр'ялу не засталося.* Зазерка Пух. // *толькі мн.* запясо́чнікі. Верхні вянок у зрубе пад кроквамі. *Запясочнікі – гэта апошні вянок зруба, пясок насыпаецца на гары тады.* Нізок Уздз.

**ЗАПЯ́ТАК** *м.* **1.** Частка шкарпэткі, якая аблягае пяту нагі. *А няхай іх, гэтыя шкарпэткі, рвуцца на самых запятках. Трэба, каб запяткі таўсьцейшымі ніткамі рабіліся, даўжэй насіцца будуць.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Заднік лапця. *Праз запятак аборы прашморгваюцца.* Шабынькі Барыс.

**ЗАПЯТЛЯ́ЦЬ** *зак. Паляўн.* Заблытаць след. *Воўк запятляў, я пазваў сабаку, каб ня бег дарэмна.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗАПЯЧА́ТВАЦЬ** *незак. Пчал.* Заклейваць, залепліваць. *Мёд у сотах пчолы зьверху запячатваюць.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАПЯЯ́ЦЬ** *зак.* Запець. *Некалі дык часоў не было, а як запяяюць трэція пеўні, знай, трэба паднімацца.* Ігрушка Круп.

**ЗА́РА** *прысл.* Неадкладна. *Пабуцьця тут, а я зара пазаву яе.* Ратуцічы Барыс.

**ЗА́РАБАТАК** *м.* Заработак, плата за работу. *Нядрэнны зарабатак у нашым саўгасе.* Паплавы Бярэз.

**ЗАРАБІ́ЦЬ**[1] *зак.* ◊ **Зарабіць, як Заблоцкі на мыле** – страціць больш, чым атрымаць карысці. *Мой робіць варыўню ў суседа, заробіць ён там, як Заблоцкі на мыле.* Забрэжжа Валож.

**ЗАРАБІ́ЦЬ**[2] *зак.* Замацаваць. *Кажуць, не зарабіла вочка, дык паляцела аш уніс.* Малмыгі Віл.

**ЗАРАДЖА́ЦЬ** *незак. Ткац.* Рыхтаваць, наладжваць. *Зараджаюць ніткі для тканьня.* Рудня Валож.

**ЗАРА́ДЖЫВАЦЬ** *незак.* Устаўляць зарад. *Ён сваю гэту аружыю зараджываў і дахаты насіў, у шафу павесіць, і яна вісіць.* Мядзел Мядз.

**ЗАРА́НЕ** *прысл.* **1.** Загадзя, зараней. *І маё сена прынялі, скінулі маё сена – здала пастаўку. І прыехала заранне дахаты.* Ластаянцы Валож. **2.** Вельмі рана. *Я заранне з дому вышла.* Дукора Пух. *Аўтобус шыпка прэ, заранне ў Стоўпцы прыедзям.* Савоні Стаўб.

**ЗАРА́НКА** *ж. Заал.* Малінаўка (Erithacus rubecula). *Яшчэ сонца ня ўсходзя, а заранка ўжо чырыкая.* Рудня Валож.

**ЗАРВА́ЦЬ** *зак.* Запусціцца. *Надоўга зарвала кароўка, ня ведаю – што і рабіць.* Палачаны Маладз.

**ЗАРНІ́ЦА** *ж.* Маланка. *Зарніца ў нас мала хто гаворыць, больш гавораць маланка.* Дукора Пух.

**ЗАРО́БІЦЬ** *зак.* Зарабіць. *Вось зараблю трохі грошай ды паеду на ярмалку.* Паплавы Бярэз.

**ЗАРО́БКІ** *мн.* Плата за работу; *гл.* за́рабатак. *Ад цямна да цямна гнуў сьпіну на пан-

*скім полі, а заропкі — як кот наплакаў.* Старыя Габы Мядз. *Пашці кожны дзень вясной і летам выпраўляў бацька на заропкі, як казалі дома.* Суднікі Валож.

**ЗАРО́Д** *м.* Азярод. *Ціпер на зародах сушуць бульбешнік.* Бытча Барыс. *Снапы на зародзе некалі сушылі.* Пудзіцк Пух.

**ЗАРО́СЦІНА** *ж.* Пень-спарыш. *Заросьціна — гэта два пні ўмесьця зрошшыя, іх даволі трудна разьбіць.* Саланая Валож.

**ЗАРУ́БАК** *м.* Гадавое кальцо на рагах жывёлы. *Наша кароўка шчэ маладая, на рагах у яе толькі два зарупкі.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАРУ́БКА** *ж.* Малы выступ на коміне. *На зарупку мы нічога ня ложым, толькі калі-небуць мыла сушым.* Аздзяцічы Барыс.

**ЗАРУ́ЧНІК** *м. Абрад.* Удзельнік вечарынкі, якую наладжвае дзяўчына з нагоды заручын. *Перш сват высватае дзяўчыну, а тады зьбірае нявеста, склікае заручнікаў і гуляюць паненскі вечар.* Дукора Пух. *Прышлося вясельля, прышлі ка мне заручнікі. Прышлі заручнікі, і я давала ім падаркі, тры хвасты палатна адрэзала дала.* Дрычын Пух.

**ЗАРЫВА́ЦЦА** *незак.* Запускацца. *Кароўка наша зарываіцца, без малачка будзім.* Палачаны Маладз.

**ЗАРЭ́ДЗІЦЬ** *незак.* Азяродзіць. *Пасьля жыта ўбіралі ярыну. Снапы зарэдзяць у пераплоты і сушылі да восені.* Мацкі Мядз. *Ціпер жа лён у бапкі ставяць, а раней звозілі і абразалі галоўкі, а галоўкі зарэдзілі.* Халопенічы Круп.

**ЗАРЭ́З** *м.* Парэз. *Тым летам я зарэс сярпом зрабіла на руцэ, знак да скону астаўся.* Вішнева Валож.

**ЗАРЭ́ЗІНА** *ж.* Зарубка на канцы абруча. *А зарэзіны не даюць абручам разыйсьціся.* Дукора Пух.

**ЗА́САБ** *прысл.* Запар, без перапынку. *Засап два разы крыкнуў і ўсё. Больш мы ад яго не пачулі ні слова.* Пагарэлка Валож.

**ЗАСА́ДКА** *ж.* Засада на паляванні. *Я рас хадзіў на засатку на выдру.* Прудкі Лаг.

**ЗАСАЛАМА́ЦІЦЬ** *зак.* Заблытаць. *Нешта ш ты там засаламаціў.* Аляхновічы Маладз.

**ЗАСАНІ́ЦЬ** *зак.* Закалыхаць. *Ледзь засаніла дзіця, ніяк спаць ня хоча, а я сама ўжо не трымаюся, так спаць хачу.* Кальчуны Ашм.

**ЗА́САЎКА** *ж.* **1.** Засланка закрываць печ. *Я бульбу паставіла за засаўку.* Броды Маладз. **2.** Жэрдка або металічны стрыжань, якімі запіраюць уваход (выхад) на агарод. *Во праз засаўку перalesь і там агародамі выйдзіш на сьцешку, і сьцешкай аш у лясок.* Каляды Віл.

**ЗАСВЯНІ́ЦЬ** *зак.* Тое, што і з а п у з ы́ р ы ц ь. *Я табе як засьвянчу розгай, век помніць будзяш.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗА́СЕК** *м.* Адгароджанае месца ў склепе на бульбу. *Гэтай восіньню засыпалі поўныя засекі бульбы, поўны пограп навярнулі.* Рудня Чэрв.

**ЗАСЕ́КЧЫСЯ** *зак.* Залезці за лінію пры часанні бервяна. *На мяне толькі казаў, а сам тожа засекся.* Забалоцце Смал.

**ЗА́СЕНЬ** *ж.* Прыбудоўка да жылога памяшкання. *Засень прыбудаваў, усё ш цяплей будзе. І прыгажэй.* Хожава Маладз.

**ЗАСЕ́ЎКІ** *толькі мн.* Пачатак сяўбы азімых. *Засеўкі скора пачнуцца.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАСІ́ДКА** *ж.* Тое, што і з а с а́ д к а. *У засітку сеў, сядзеў доўга і нічога ня вышла.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗАСІ́ДЛІВЫ** *прым.* Нерухавы, пасіўны. *Гэты мой кот дык засідлівы нейкі, усё с печы ні злазіць, на пяколку ляжыць і ляжыць.* Баяры Маладз.

**ЗАСІ́ЛІЦЦА** *зак.* Павесіцца. *У іх бяда здарылася — іхні бацька ў той год засіліўся.* Язні Віл.

**ЗАСІ́ЛІЦЬ** *зак.* Зачэрпаць, набраць. *Сягоньня наелася смачна. Пасьля засіліла конаўку канпоту, выпіла, дык цяпераka есьці ні хочыцца.* Гранічы Маладз. *Засіліў вядро вады і чуць нясе: малы памочнік у мяне.* Малмыгі Віл. *Засілі схадзі соку бярозавага.* Венцавічы Мядз.

**ЗАСІ́ЛЬВАЦЬ** *незак.* Зачэрпваць. *Мы засільваем палонікам суп.* Літва Стаўб.

**ЗАСЛА́ЦЬ** *зак.* Паслаць, параслаць па пошце. *Калі кабана заб'ём, сыну пасылку зашлю.* Загор'е Маладз.

**ЗАСЛО́Н** *м.* Пераносная лаўка, услон. *Уперат у хатах стаялі заслоны, а ціпераka ва ўсіх стулы ёсьцяка.* Каменка Уздз. *Даўней дзяўчаты на вячоркі с пралкамі йшлі, хлопцы заслоны прынасілі, ставілі каля сьцен, а сярот хаты танцавалі.* Баяры Маладз.

**ЗАСЛО́НКА** *ж.* Тое, што і з а́ с а ў к а (у 1 знач.). *Калі ўсё згарыць у печы, ставім яду і закрываем печ заслонкай.* Зазерка Пух.

**ЗАСЛО́НЧЫК** *м. Памянш.* да заслóн. *Усе табурэткі занятыя, то ты на заслончык сядай.* Нарач Віл.

**ЗАСЛЯПІ́ЦЦА** *зак.* Зажмурыцца, прыкрыць вочы павекамі. *Я аж засьляпіўся, так бліснула.* Турэц Чэрв.

**ЗАСМА́ЛІВАЦЬ** *незак.* Заліваць смалой. *Трысьцінкі [у бёрдзе] шыюць дратвай і засмаліваюць смалой для трываласьці.* Даўгінава Віл.

**ЗА́СМАРГА** *ж.* Вузел са свабоднай пятлёй, завязаны адным канцом. *Завяжы пояс на засмаргу, а то посьля ні разьвяжаш.* Цялякава Уздз.

**ЗАСМАРГНУ́ЦЬ** *зак.* Зацягнуць, завязаць. *Засмаргнуць бы вяровачку на шыю, каб ня ўцёк: сабачка шчэ няпрыручаны.* Рагазы Маладз.

**ЗАСМУГОЛІЦЬ** *зак.* Забрудзіць. *Так засмуголіў касьцюм, што ні адмыць нiяк. І чаму ты нічога не шануеш?* Бясяды Лаг.

**ЗАСМЯДЗІЦЬ** *зак.* Засмажыць, утушыць. *Куды ж вы? Я пеўня засьмядзіла, хоць паесьця на дарогу.* Клетнае Барыс.

**ЗАСМЯЯЦЬ** *зак.* Высмеяць, абсмяяць. *Нешта пайшла я карову пераймаць, надзела ватоўку, с канторы засьмяялі мяне: „Як ты ні зварысься?" — пытаюць.* Бяларучы Лаг.

**ЗАСОВАЛКА** *ж.* Зашчапка. *Гэта вакно не закрываіцца, засовалка сапсавалася.* Кукалеўка Чэрв.

**ЗАСОВЕСЦІЦЦА** *зак.* Засаромецца. *Засовесьцілася так, што аш пачырванела.* Узгурск Чэрв.

**ЗАСОРАНЫ** *у знач. прым.* З парушынкамі смецця. *Трэба новыя цадзілкі выпісаць, а то гэтыя пасеіліся, будзіць малако засораная, пойдзіць ніжэйшым сортам.* Канстанцінава Мядз.

**ЗАСТАВА** *ж.* **1.** Плаціна, застаўка. *Заставы на рэчках робяць, вот як, к прымеру, у Пагарэлум на Гаеязьнянцы.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Заставы паробяць, насыплюць земляную плаціну, дык вада ня йдзець.* Вязынка Маладз. **2.** Драўляны шчыт, які стрымлівае ваду ў рэчцы. *А як млын, дык там ставяць такія засаўкі з дрэва, як зруп. Гэта тожа застава.* Вязынка Маладз.

**ЗАСТАВАЧКА** *ж. Памянш.* Тое, што і з а́ к р ы ў к а. *Заставачкай застаўляюць, каб не сыпалася мука.* Кукалеўка Чэрв.

**ЗАСТАВІЦЬ** *зак.* Пакінуць. *Заставіла дваццаць рублёў на сена.* Цялякава Уздз.

**ЗАСТАЛАЧЫЦЦА** *зак. Экспр.* Забегацца, замарыцца. *За гэтымі каровамі засталачылася, аш ногі забалелі.* Каменка Уздз.

**ЗАСТАЛІЦЬ** *зак.* Паслаць столь, застоліць. *Ужо ёсьціка і доскі на столь і на памост, асталося толькі засталіць і памасьціць.* Халмоўка Барыс.

**ЗАСТАРАНЬКА** *ж.* Тое, што і з а п я р ы́ л а к. *Застаранькі могуць быць ніскія і высокія. У застараньцы адгароджваецца мякіньніца для мякіны.* Вішнева Валож.

**ЗАСТАРЫ** *прым.* Вельмі стары. *„Куды ты, — матка кажа, — мой сынок, паедзіш? Заставайся дома. Хата наша такая вялікая, новая, а хто жыць у ёй застанецца, — мы ж з бацькам ужо застарыя". Ну, ён і застаўся.* Язні Віл.

**ЗАСТАЎКА** *ж.* Дошка, якой закрываецца або адкрываецца адтуліна скрыні на бульбу. *Бывала, я й не застаўляў застаўкай, але рабіў, што ні адна картопля ні ўпадзе.* Кукалеўка Чэрв.

**ЗАСТАЎКА** *ж.* Тое, што і з а́ к р ы ў к а. *Каб выграпці змолатае, аччыняюць застаўку, дошчачку такую падымаюць.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Як зьмеліш жыта, дошчачку гэту, або застаўку, падняў, і мука пасыплецца.* Турэц Чэрв.

**ЗАСТАЦЦА** *зак.* ◊ **Застацца ў дзеўках** — не выйсці замуж. *А калі ніхто замуш не бярэ, і што ж — застаецца ў дзеўках.* Мойсічы Маладз. **Застацца з носам** — застацца без таго, на што разлічваў. *У другую ш суботу пашоў да маёй сусеткі гарэлку піць, а тая сморх за яго і пашла, а я засталася з носам.* Пузыры Мядз.

**ЗАСТРАКАТАЦЬ** *зак.* Заклекатаць. *Буслы застракаталі.* Паплавы Бярэз.

**ЗАСТРАМКА** *ж.* Стрэмка. *Дастань застрамку с пальца, а то рваць будзя.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗАСТРАПЯЛІЦЬ** *зак.* Адкрыць страляніну. *Палякі залезьлі ў цэркаў і застрапялілі з ружжаў.* Жораўка Пух.

**ЗАСТРЫГАЦЬ** *незак. Абрад.* Выстрыгаць валасы ў маладой перад пасадам. *Скора ўжо, перад заходам сонца, будуць нашу маладую застрыгаць.* Мацкі Мядз. *Як маладую застрыгаюць, дык на дзяжу садзяць.* Хожава Маладз.

**ЗАСТРЫЖЭННЕ** *н. Абрад.* Выстрыганне валасоў у маладой перад пасадам. *Калі прыедзе малады, то маладую садзяць на дзяжу і робяць застрыжэнне.* Рудня Валож.

**ЗАСТРЭШНІК** *м.* Месца пад навіслым краем страхі. *Пасечаныя дровы зложылі пад застрэшнік.* Дукора Пух.

**ЗАСТУВАЦЬ** *незак.* Засціць, засланяць сабой. *Адыдзіся ад вакна, ня застуй, бо я ня бачу, як нітку ўцягнуць у іголку.* Дукора Пух. *Ні застуй, нічога ня відна за табою.* Цялякава Уздз. *Не застуй мне сьвет, схіліся на бок.* Забалоцце Смал.

**ЗАСТУДЗІНА** *ж. Кулін.* Халадзец, квашаніна. *Вельмі яна любіць застудзіну з бульбай.* Зазерка Пух.

**ЗАСТУДЗІЦЦА** *зак.* Прастудзіцца. *Не адзеўся добра, дак застудзіўся моцна.* Нізок Уздз.

**ЗАСТУДЗІЦЬ** *зак.* Прастудзіць. *Мой сынок застудзіў лёхкія. Лячылі яго, лячылі, але памёр.* Малмыгі Віл.

**ЗАСТУП** *м.* Рыдлёўка, лапата. *Вазьмі пат паветкай заступ і накапай картопель.* Рудня Валож.

**ЗАСТУПАЦЬ** *незак.* Засланяць, закрываць. *Ні заступай мне, што ты сцікляны?* Рудня Валож.

**ЗАСТЫВАНІКІ** *мн.; адз.* **застыва́нік** *м. Кулін.* Аладкі, прыгатаваныя з варанай тоўчанай бульбы з дабаўленнем лыжкі мукі або крухмалу. *Застыванікі сёньня з аднае бульбы, крухмалу ні дабаўляла, з малаком так смашней.* Кроква Лаг.

**ЗАСТУПІЦЬ** *зак.* Зацяжарыць, стаць цяжарнай. *Вышла замуш і прас тры месяцы за*

*ступіла. Ён сказаў, як заступіш, каб нічога не рабіла.* Саланая Валож.

**ЗАСТЫЛІЦА** *ж.* Тое, што і застўдзіна. *Бывае, вечарам возьмеш застыліцы с картошкай ды ўжо гэтак смачна, што ясі, ясі і яшчэ есьці хочацца.* Кукалеўка Чэрв. *Заб'ём сьвіньню пат каляды, наварым застыліцы з нох сьвіных, галавы і ядзім з бульбаю.* Рудня Чэрв.

**ЗАСЎКАРАТКА** *ж.* Закрутка на нітцы. *Так у нас называюцца закруткі, ці засукараткі, на нітках.* Забалоцце Смал.

**ЗАСЎНУЦЬ** *зак.* Зачыніць, закрыць на засаўку. *Ня буць, Ваня, доўга, бо засуну дзьверы.* Каменка Уздз.

**ЗАСУХА** *ж.* Засуха. *Як за пагодай, дош калі праходзіць, добры лён вырасьцець, а засуха — папаліць яга.* Папоўка Мядз.

**ЗАСЦЁНАК** *м. Будаўн.* Сцяна. *Сьвятахаў сын адзін рас як шалёны ляцеў на матацыклеця ды ў засьценак як рэзьніцца, думала, што богу душу аддаў, аж нічога.* Сцешыцы Віл.

**ЗАСЦЁНЬВАЦЦА** *незак.* Зацягвацца хмарамі. *Бачыця, неба засьценьваяцца, дождж будзя.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАСЦІЛАНКА** *ж.* Палавік хатняга вырабу. *Маці наша ўмее ткаць засьціланкі.* Мацькаўцы Віл.

**ЗАСЦІЦЬ** *зак.* Закрыць, засланіць сабой. *Вот ужо засьціла сьвет, вілясь аттуль.* Дукора Пух.

**ЗАСЦЯГНЎЦЬ** *зак.* Зашпіліць. *Хоць бы засьцягнуў гузікі, а то ходзіць, як расхрыста, далібох, стыдна за цябе.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАСЫЦІЦЬ** *зак.* Засаладзіць. *Некалі ў нас былі пчолы, дык мы ня пілі ваду пустую, а засыцім мёдам і п'ём.* Рудня Чэрв.

**ЗАСЯЧЫ** *зак.* Закусаць, атруціць ядам (пра насякомых). *Ніхто так не баіцца пчол, як конь і сабака, іх пчолы могуць засячы.* Ляхавічы Дзярж. *Сабаку нашага засеклі пчолы, іх там цэлая туча насела.* Нізок Уздз.

**ЗАТАНЎЦЬ** *зак.* Утапіцца. *Унук мой, сям наццаць гадоў было, затануў летам тым, дык ціпер дзеці баяцца хадзіць каля рэчкі.* Зазерка Пух. // *перан.* Прапасці. *А хай ён затане са сваім малаком!* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАТАПІЦЦА** *зак.* Тое, што і затанўць. *Пашла к рацэ, узьлезла на клатку і чуць ні затапілася. Гэта ш была проўда!* Ялча Чэрв.

**ЗАТАРАБАНІЦЬ** *зак.* Загаварыць хутка і незразумела. *Сьціхні ты! Затрашчала, як сарока, затарабаніла.* Арцюхі Стаўб.

**ЗАТАРАВАЦЬ** *незак.* Насыпаць. *Затараваць — гэта ў нас гамоняць, як насыпаіш у мяшкі жыта.* Ігрушка Круп.

**ЗАТАЎКАНЫ** *у знач. прым.* Запраўлены, засквараны (аб ежы). *На вячэру дам затаўканую кашу, не пасьпела, дзеткі, нічога.* Малмыгі Віл.

**ЗАТАЎЧЫ** *зак.* Заскварыць. *Я, бывала, навару булёну, затаўку троха здорам, і ядом.* Дукора Пух.

**ЗАТКАЛА** *н.* Жарало склепа. *Трэба будзе хоць трохі прывесьці гарохаўя ад дзевяра, хоць на заткала ў паграп, а то марос будзя лесьці і зімою.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАТЛУМІЦЬ** *зак.* ◊ **Затлуміць галаву** — пазбавіць здольнасці разумна разважаць. *От ужо ж гэты балбатун! Так дзеўцы голаву затлуміў, што тая трэці гот сама не свая ходзіць.* Зазерка Пух.

**ЗАТОЕ ШТО** *злучн. падпарад.* Таму што. *Даўней цяшка было жыць, затое што празіралі беднага, нічога ні гаварылі, але так прагледзяць вачмі, што і словамі так ні скрыўдзіш.* Пагост Віл. *Даўна жылося саўсім хужэй, як цяпер, затое што не было дзе і ш чаго ўзяць, ні купіць за што: грошы не было. Здаецца, кап пабудзіў маіх бацькоў с таго сьвету, хоць бы яны рас глянулі на поля, як арэцца, як барануіцца, што адзін чалавек цяпер робя за сто даўных людзей, затоя што цяпер красата глянаць — і арэцца, і сеіцца, і барануіцца машынамі.* Засценак Лаг. *Зьбяруцца ўсе ўв адну хату, затоя што карасіны ш ня было.* Мечаі Віл.

**ЗАТОХЛЫ** *прым.* Затхлы. *Вада пры балоці затохлая. Хоць і выхат ёсь, але яна нерухома стаіць.* Бясяды Лаг.

**ЗАТРАЎКА** *ж.* Дзеянне паводле знач. дзеясл. затраўляць.

**ЗАТРАЎЛЕНЫ** *у знач. прым.* Сапсаваны. *Сёлета ў мяне варэньне шчэ ёсь, дык я ўнясу, калі не затраўленае, дык зьядзём.* Баяры Маладз.

**ЗАТРАЎЛЯЦЬ** *незак. Спец.* Уносіць вапну ў водную эмульсію з рэшткамі шкіпінару. *Пайду затраўляць ваду — адыходы ад шпігінару. Пасьля затраўкі і адстойваньня вада робіцца фіялетавай, зь яе пасьля выпарэньня атрымліваецца уксусны парашок.* Канстанцінава Мядз.

**ЗАТРУСІЦЬ** *зак.* Зацерушыць. *Складаючы сена, затрусім увесь двор.* Мясёнкаўшчына Стаўб. *Вока затрусіла, глядзець ні магу.* Вішнева Валож.

**ЗАТЎЛА** *ж. Рыб.* Доўгі скураны рыбацкі фартух. *Галава закруцілася, забыўся затулу ўзяць, вымак увесь да ніткі.* Логавіны Мядз. *Завяжуць затулы, закасаюць рукавы і пачынаюць цягаць сетку з вады.* Пасынкі Мядз. *Затулу забыўся.* Канстанцінава Мядз.

**ЗАТУРЫЦЬ** *зак.* Загнаць далёка. *Затурылі кароў пад лес, чуць знайшла.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Затурыла гусей аш на канаву, можа скора ня прыдуць.* Горкі Стаўб.

**ЗАТШАСКА** *ж.* Запінка, кнопка. *Не забуцься затшасак купіць у плацця, белых пастарайся.* Вішнева Смарг.; *параўн.* польск. zatrzask 'тс'.

**ЗАТЫЛАК** *м.* 1. Патыліца. *Пры даўленьні*

*на затылак п'яўкі ставяць.* Вецярэвічы Пух. **2.** Заднік бота. *У затылак кладуць кару бярозавую, каб боты скрыпелі.* Шутавічы Смарг.

**ЗАТЭПАЦЬ** *зак.* Зайсці павольна. *Пакуль затэпаю дахаты, то ўжо і зьвечарэя.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАЎГРЭХ** *м.* Тое, што і а б м і н а к. *Такей за планам паляціць, а што за ім заўгрэхаў поўна, дык ён ня бача.* Паплавы Бярэз.

**ЗАЎЗЁНТЫ** *прым.* Заўзяты, настойлівы, напорысты. *Мае бацькі былі на работу заўзёнтыя.* Ратуцічы Барыс.; *параўн.* польск. zawzięty 'тс'.

**ЗАЎНІКАЦЬ** *незак.* Прыкмячаць, заўважаць. *Яна мне нічога не кажаць, а я ўсё заўнікаю.* Апенькі Віл.

**ЗАЎПРАМІЦЦА** *зак.* Праявіць непакорнасць, упартасць. *А ён як заўпраміцца, дак хоць ты кол яму на галаве чашы, а ён свае права правіць.* Сверанава Стаўб.

**ЗАЎСЁМ** *прысл.* Зусім. *Даўней заўсём ні так было.* Завішына Лаг. *У майго хлапца заўсём слаба навука ідзе: два гады ў анным класі сядзіць.* Баяры Маладз.

**ЗАЎСЮДЫ** *прысл.* Заўсёды, пастаянна. *Ні ведаю чаму, але ён заўсюды такі невясёлы быў.* Нарач Віл.

**ЗАЎСЯГДЫ** *прысл.* Тое, што і з а ў с ю д ы. *Мая сістра і яе мужык пашлі ў парцізаны, тады ўжо нам ні было ніяк места: заўсігда стараста, паліцаі к нам чапіліся, што парцізанская сім'я.* Каранец Бярэз. *Заўсягды трэба малако гатаваць дзіцяці, сырога нельга даваць.* Цвіркі Стаўб. *Яна прывыкшы, з маёй заўсягды ходзіць.* Баяры Маладз. *Як дужа сьпяшаісься, заўсягды ні выходзіць, нешта прамінтрэжыць.* Яцыны Мядз. *Ну й непаседа, заўсягды некуды бяжыць.* Грабёнка Чэрв.

**ЗАЎЦЕХНІК** *м.* Заатэхнік. *Мой хлапец дык заўцехнікам у калхозі.* Ліпневічы Віл.

**ЗАЎЧАРЫ** *прысл.* Заўчора, два дні таму назад. *Заўчары прывозілі шведры ў нашу краму — і жаночыя і мушчынскія.* Язні Віл. *Заўчары вецер быў усхадзіўся, сьцены ў хаце зьвінелі. Учора і сёньня цішэй стала.* Баяры Маладз.

**ЗАЎЧАРЫХ** *прысл.* Тое, што і з а ў ч а р ы. *Заўчарых цётка прыходзіла да нас, пераведала.* Палессе Мядз. *Мусіць, заўчарых яна і сама тут была.* Палачаны Маладз. *Заўчарых мы хадзілі ў кіно.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

**ЗАЎЧЭСНЕ** *прысл.* Загадзя, зараней, наперад. *Добра, што заўчэсьня паліто цёплая купілі, а то б во мерзла цяпер.* Вялікая Вуса Уздз. *Добра, што патурбаваліся, заўчэсьня загатовілі брыкету, а то цяпер і часу німа, і халодна.* Нізок Уздз.; *параўн.* польск. za wcześnie 'тс'.

**ЗАФУНДЗІЦЬ** *зак.* **1.** Выдзеліць з свайго запасу. *Зафундзіла сусецы кілю масла і сабе засталося.* Палачаны Маладз. **2.** Пачаставаць. *Як зафундуеш добра, то будзеш мець што табе трэба.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. zafundować 'пачаставаць'.

**ЗАХАВАЦЦА** *зак.* Схавацца. *Дзяцюкі, бывала, залятуць наўперат, захаваюцца ў жыта або ў канапелькі і давай слухаць, што дзеўкі пра іх гамоняць.* Пузыры Мядз.

**ЗАХАКАЦЦА** *зак.* Задыхацца. — *Ад бягні ад гэтай дык аж захакалася.* — *Ну чаго бегаіш, ты ш ужэ унь якая дзявуля вялікая!* Пярэжыр Пух.

**ЗАХАРЧОВАНЫ** *у знач. прым.* Тлусты, сыты. *Мой швагір у добрум здароўі, захарчованы.* Савоні Стаўб.

**ЗАХВАТВАЦЬ** *незак.* Выгаворваць з акцэнтам. *Вы лепш не захоцьце туды, яна нічога не скажа добра, бо болей па-польску захватвае.* Баяры Маладз.

**ЗАХВОСЛІВЫ** *прым.* Танкаствольны, з тонкай верхавінай. *Захвосьлівае дрэва адразу ўверх ідзе, як шыла.* Ігрушка Круп.

**ЗАХВОСТАВАТЫ** *прым.* Тое, што і з а х в о с л і в ы. *А, ерунда зь яе будзе, захвоставатая, толькі напрацуесься.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАХВОСТАЦЦА** *зак.* Зблытацца. *Захвосталіся зусім ніткі, прыдзяцца выкінуць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАХІЛІЦЦА** *зак.* Схінуцца, затуліцца. *Я між дзяцей захілілася, дык мяне фашыст не замеціў.* Зазерка Пух.

**ЗАХЛУДЗІЦЬ** *зак.* Застраміць. *Захлудзіў палец, натта баліць.* Ляшчынск Мядз.

**ЗАХОД** *м.* Цёмны цесны праход з аднаго і другога боку застаронка. *Заходы для таго робяць, кап сохлі снапы, кап кот мох злавіць мыш, калі завядзецца ў дабры.* Малмыгі Віл.

**ЗАХОДЗІЦЦА** *незак.* **1.** Задыхацца (ад плачу, гневу, шаленства). *А дзіця тоя ат плачу заходзіцца, нежывоя робіцца.* Пруды Стаўб. **2.** Хваляваццa. *Чаму ты так заходзісься па ўсякай ярундзе?* Сакольшчына Уздз.

**ЗАХОДЛІВЫ** *прым.* Які дрэнна пераносіць зіму, умовы стойлавага перыяду (пра жывёлу). *Карова заходлівая, ледзь да вясны дадзяржалі — і хлебам, і картошкай кармілі.* Зялёнкі Мядз.

**ЗАХУДАЛЫ** *прым.* Заняпалы. *Во кляча захудалая!* Вецярэвічы Пух.

**ЗАХУХМОЛЕНЫ** *у знач. прым.* Самотны, маркотны. *Захухмолены сяджу, нудна мне, ні ведаю, куды пахіліцца.* Такарышкі Іўеў.

**ЗАХУХУКАЦЬ** *зак.* Абазвацца гукаперайманнем ху-ху. *Казалі, што раней былі русалкі, яны з доўгімі валасамі, і тая русалка як захухукае ды як загалосе, аш страшна.* Паплавы Бярэз.

**ЗАЦАМЯНЦІРУВАЦЬ** *зак.* Зацэментаваць. *У Кострыні выкапалі сажалку такую, зацамянціравалі яе і тагды к сонцу купаюцца, купаюцца.* Дрычын Пух.

**ЗА́ЦЕМКІ** *мн.* Прыцемкі, час пасля змяркання. *Ужо зацемкамі мы вышлі зь лесу.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАЦЕ́НЬВАЦЦА** *незак., безас.* Захмарвацца. *Заценьваецца, можа дожджык і сягоньня пройдзе.* Арцюхі Стаўб.

**ЗАЦЕ́НЬВАЦЬ** *незак., безас.* Захмарваць. *Заценьвае кругом, з аднаго боку і з другога, можа дожджык сабярэцца.* Арцюхі Стаўб.

**ЗАЦЕ́РКА, ЗАЦЁРКА** *ж. Кулін.* Зацірка. *На вячэру сёньня пшанічнай зацеркі зварым.* Кроква Лаг. *Можа зацёркі зварыць? Нешта захацелася малошнага.* Дразды Стаўб.

**ЗАЦІ́СНУЦЬ** *зак.* Прыхаваць, пакінуць для асабістага карыстання. *Малочшы дык хітры. Зарабіў крыху, дык зацісну і будзь здароў.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАЦКО́ЎВАННЕ** *н.* Затраўліванне сабакамі звера. *Зацкоўваньне мядзьведзя толькі раздражае яго.* Пруднікі Валож.

**ЗАЦУРБЭ́НІЦЬ** *зак. Экспр.* Закінуць. *Ігралі ў бапкі ды цурку зацурбэнілі аш у гарот.* Выдрыца Круп.

**ЗАЦУХМО́ЛІЦЬ** *зак. Экспр.* Запэцкаць. *Вот зацухмоліў рукавы, дык хоць ты іх атсячы: нічым ні адмыіш.* Палачаны Маладз.

**ЗАЦЫ́РКАЦЬ** *зак.* Застракатаць (пра птушак, насякомых). *Рас сьнігір зацыркаў і галаву хавае пат крыло, заўтра будзе халодна.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАЦЮ́ПАЦЦА** *зак. Экспр.* Вымазацца. *Вот мае дзеткі зацюпаліся, адны вочы блішчаць.* Хожава Маладз.

**ЗАЦЮ́ПАЦЬ** *зак.* Зайсці памалу. *К вечару неяк зацюпаем дадому.* Рудня Валож.

**ЗАЦЯГНУ́ЦЬ** *зак. Перан.* Угаворамі, пераканаўчымі довадамі схіліць на выезд. *Дачку маю зацягнуў яе мужык аш у Сібір, там і жывуць.* Вялікая Вуса Уздз. // *у безас. ужыв.* Завалачы. *У нас ёсь чалавек, што вочы зацягнула, зацягнула туманам. Апярацыю рабілі, і нічога не памагло.* Прудкі Лаг.

**ЗАЧАПІ́ЦЬ** *зак.* **1.** Завязаць, змацаваўшы канцы вузлом. *Зачапі пярэднік, а то, ходзючы ля печы, вымажысься.* Рудня Лаг. **2.** Набыць, нажыць, падчапіць. *Быў на свадзьбе ў брата, ды й зачапіў там сабе гэту сваю жонку.* Вялікая Вуса Уздз. ◊ **Пальцам не зачапіць** — не біць, не рабіць шкоды. *Мой Рыгор будзіць казаць: „Ты, тата, сабе жаніўся, а я сабе, маю жонку ты й пальцам ні сьмей зачапіць".* Язні Віл.

**ЗАЧА́ХКАЦЬ** *зак.* Забіцца. *Сэрца, здэцца, перайшло ў правы бок, ды й там зачахкала.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАЧЫ́М** *прысл.* Чаму, па якой прычыне. *Праз якія тры месяцы бані ні было, проста цэлу зімачку ні было. А зачым яе ні было, ні ведаю я гэтага.* Сівіца Валож.

**ЗАЧЫ́НАК** *м.* **1.** Выступ печы, на якім можна сядзець або ставіць што-н. *Зачынак рабілі для таго, каб было зручней на печ лесьці. Ды й пасядзець можна на зачынку і плечы пагрэць ап печ.* Аздзяцічы Барыс. **2.** Палок. *Стань на стул, зь яго ўзьлесь на зачынак, а тады і на печ.* Чарняўка Нясв. *Сяць на зачынак ды пасядзі ціхінька хоць нямнога.* Халмоўка Барыс.

**ЗАЧЫНА́ЦЬ** *незак.* Прыступаць, пачынаць. *Гаварыў так: „Таварышы беларусы! У вас задача баявая. Ня тот масьцяр, хто якоя дзела зачынаіць, но тот масьцяр, хто канчаіць. Ваша задача — да Бярліна дайсці!"* Кузьмічы Мядз. *Калі пісаць зачну, дык я стаўлю значкі.* Мушанка Віл.

**ЗАЧЫ́НКІ** *толькі мн. Абрад.* Святкаванне пачатку жніва. *Больш за ўсё з часоў маладосьці запомніліся мне зачынкі. А спраўляліся зачынкі так.* Старынкі Дзярж.

**ЗАЧЫНЯ́ЦЦА** *незак.* Рашчыняцца, раствараццца (пра цеста, рашчыну). *Гэныя крупы малолі ў жорны, а з гэнай мукі рабілі мілту: у міску вады, тады гэнай мукі, яна зачынялася, гусла, палучалася густая, як павярнуць лошкай. Вот гэта мілта.* Вязынка Маладз.

**ЗАЧЫНЯ́ЦЬ** *незак.* Рашчыняць, раствараць (пра цеста, рашчыну). *А с сырога аўса молатага зачынялі муку, тады працэджвалі, палучалася такоя, як малако. Вот яго называлі цэт.* Вязынка Маладз.

**ЗАЧЫРВЕ́НІЦЦА** *зак.* Пачырванець, заліцца чырванню. *А гэта Люда толькі неяк зачырвенілася, зачырвенілася і на яго коса зыр!* Язні Віл.

**ЗАШАЛАМАНІ́ЦЦА** *зак.* Выпусціць з-пад увагі, не разлічыць. *Я ні люблю ў горадзі жыць, усё с капейкі, усё с капейкі. Чуць зашаламаніўсё — німа грошай.* Арцюхі Стаўб.

**ЗАШАРАШЭ́ЦЬ** *зак.* Зацвярдзець, пакрыцца цвёрдай коркай. *Сьнех зашарашэў пасьля адлігі, шарошам пакрыўся.* Пруды Стаўб.

**ЗАШАРЭ́ЦЬ** *зак., безас.* Стаць шэрым. *На дварэ ўжо добра зашарэла, куды ты са сваім мацыклетам.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАШЛАМБО́ВАНА** *дзеепрым.* Перакрыта шлагбаумам. *Пад'ехалі к пераезду, а там зашламбована, шламбон закрыт, і наш аўтобус чакаў, пакуль поізд пяройдзіць.* Рудня Чэрв.

**ЗАШО́РСТКІ** *прым.* Вельмі шорсткі. *На трыкатажнай фабрыцы рабіла, рукі зашорсткія.* Залазоўе Віл.

**ЗАШТЫХАВА́ЦЬ** *зак.* Зацыраваць, зашыць. *Парвалася навалка, трэба заштыхаваць яе.* Заzерка Пух.

**ЗАШУ́ЛІЦЬ** *зак.* Закрыць, загарадзіць адтуліну, дзірку, праём у чым. *Зашуліць сьценку добры плотнік можа за два дні.* Ляшчынск Мядз.

**ЗАШЧЫРЭ́ЦЬ** *зак.* Спыніць рост, зрабіцца

квольім, тонкім (пра расліны). *Сёлета гуркі заўсём зашчырэлі, вядома, халады несусьветныя ўвесь час стаялі.* Баяры Маладз.

**ЗАШЧЫТАК** *м.* Франтон. *Палес зашчытак красіць ды скінуўся.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАШЫЦЦА** *зак.* Не справіцца з работай у пэўны тэрмін, закапацца. *Работы было шмат, і яна зашылася зь ёй.* Каменка Уздз.

**ЗАШЭРХНУЦЬ** *зак.* Зацвярдзець, пакрыўшыся тонкім слоем лёду або падсохшы (аб гразі, глебе). *Сталі марозікі, грась зашэрхла.* Вецярэвічы Пух.

**ЗАЮДЗГАНЫ** *дзеепрым.* Запэцканы, брудны. *Заюдзганая адзежа ад гразі аж ломіцца, а кап пачысьціць, дык рук німа.* Аляхновічы Маладз.

**ЗАЯДА** *м.* і *ж.* *Неадабр.* Злосны, задзірысты чалавек — жанчына або мужчына. *Як шчэпяцца, то ні развесьці, абоя ладныя заяды.* Лісіцы Мін.

**ЗАЯДУХА** *ж.* *Асудж.* Злюка, задзіра. *Гэто ёй усё мало! Зь ім памерґавацца можно, а ёй усё мало, заядуха гэта.* Савоні Стаўб.

**ЗАЯНЯТКА** *н.* *Памянш.-ласк.* Зайчанятка. *Ай, сёньня відзелі маліньківх заянятак, але не злавілі.* Ляшчынск Мядз.

**ЗАЯРЫЦЬ** *зак.* *Экспр.* Шпурнуць з лютай сілай. *Як заярыў ката сь печы, дык бедны аш дзешку сь цестам перавярнуў.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗАЯЎЛЕННЯ** *н.* Заява. *Нада напісаць заяўленьня, штобы дровы палучыць на зіму.* Бытча Барыс.; *параўн.* рус. заявление 'тс'.

**ЗАЯЦ-ШАРАК.** Шэры заяц. *У нас усё кажуць заяц-шарак.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗАЯЧЫ** *гл.* заечы

**ЗБАГАЦЕЦЬ** *зак.* Разбагацець, абжыцца. *Гэны ўжо як збагацеў, дык на людзі і вочы не кажа.* Гілікі Валож.

**ЗБАДАЦЬ** *зак.* Прызнаць, устанавіць. *Збадалі востры гастрыт. Палажылі ў бальніцу.* Залазоўе Віл.; *параўн.* польск. zbadać 'даследаваць, абследаваць хворага'.

**ЗБАДЗЯЦЦА** *зак.* Застаўшыся нявыкарыстаным, прыйсці ў непрыгоднасць. *Рас Рыгор мой кажыць, каб мы, Стэпка, тую канюшыну прадалі, што табе цесь прыеёз, усё анно яна збадзяецца бес толку.* Язні Віл. *Бярыце, дзяўчаткі, малако есьця, а то ўсё роўна збадзяецца, я ш адна яго ня зьем.* Баяры Маладз.

**ЗБАЁДАЦЬ** *зак.* Марна патраціць, перавесці. *Ґадасьць ты! Збаёдаў усе грошы ды яшчэ мала. Дзе ж набрацца табе!* Бяларучы Лаг.

**ЗБАН** *м.* **1.** Вялікі бітон на ваду, малако. *Павезьлі збан вады касцам.* Бальцары Маладз. **2.** Плецены выраб для захавання збожжа. *Няма збаноў, не пашыў, прыдзецца ў мяхах дзяржаць.* Хожава Маладз.

**ЗБАЯЦЦА** *зак.* Пабаяцца. *Яна дзяцей ні збаялася і вышла на дзеці.* Цялякава Уздз.

**ЗБАЯЦЬ** *зак.* Расказаць. *Бабушка, збай басьню, а не дык каску.* Хожава Маладз.

**ЗБЕДНІЦЦА** *зак.* Заснуць, скурчыўшыся. *А яна ўжо збеднілася, не будзі, хай сьпіць.* Хожава Маладз.

**ЗБЕРАЦЬ** *зак.* Сабраць. *Масла зьбераш, панясеш прадасі. Калі зьберуць што, то добра.* Ляшчынск Мядз.

**ЗБІВАЦЬ** *незак.* ◊ **Мышы лбы збіваюць** — пуста. *А гэты толькі хваліцца багацьцім, а бывала, як вісна прыходзіць, дык у засіках мышы лбы збіваюць.* Язні Віл.

**ЗБІРАЦЦА** *незак., безас.* Хмарыцца, зацягвацца хмарамі. *Ёсь такая прымета народная: холанна ды на дошч зьбіраяцца — грат высыпля.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗБІЦЦА** *зак.* ◊ **Збіцца з дарогі** — пачаць весці няправільны спосаб жыцця. *Паттрымаць у бядзе чалавека абізацельна трэба, а то глядзі і саб'ецца з дарогі.* Дукора Пух.

**ЗБІЦЬ** *зак.* ◊ **Збіць з дарогі** *каго-н.* — уздзейнічаючы пэўным чынам, схіліць каго змяніць паводзіны ў горшы бок, штурхнуць на нядобрае. *А потым што. Бацькі вазналі, што рана ўнучка радзілася. Як намогся, як стаў бацька гаварыць сыну, што дачка ні твая,— зьбілі сына з дарогі, стаў той сын воўкам глядзець на маладзіцу. І во трэці год жывуць па сабе.* Савоні Стаўб. **Збіць на (чорную) порхаўку** — бязлітасна збіць. *Тады што рас болей стаў бясіцца, сам ні веда, дзе што паложа, а я ўсё, бедная, вінавата — саб'е мяне на порхаўку на чорную.* Аляхновічы Маладз.

**ЗБЛАЖАЦЬ** *зак.* Схуднець, змарнець. *І чаго гэта ты так зблажала, як пугаўё станчэла; можа хворая ці зь ім, мужам, дачушка, няважна жывеце?* Узгурск Чэрв.

**ЗБЛІЗКА** *прысл.* З тутэйшых мясцін, з блізкай мясцовасці. *Дзьве нявесткі ў мяне: адна з Беразіна, а другая тутака, зблізка.* Дрычын Пух.

**ЗБЛОЦІЦЬ** *зак.* Папсаваць, зглуміць. *Не зблоць сукенкі, як пойдзіш гуляць, буць акуратная.* Пугачы Мядз.

**ЗБЛУДЗІЦЦА** *зак.* Зблудзіць. *Ну, ён са страху зблудзіўся, выбіўся ў другі бок, папаўся чуць ні ў фашысцкія рукі тожа.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**ЗБЛУДЗІЦЬ** *зак.* *Экспр.* Памыліцца. *Гэта ш ты зблудзіла: мацеолы на дзень закрываюцца.* Баяры Маладз.

**ЗБЛУТАЦЬ** *зак.* Зблытаць. *Як хітры заяц, то як зблутае сьляды, дык і ні знайдзеш, прапаў сьлет і ўсё тут.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗБЛЭНКАЦЦА** *зак.* *Экспр.* Нахадзіцца, натупацца. *Гэтак ужо сёньня зблэнкаліся, ногі чуць дацягнулі.* Станькі Віл.

**ЗБОЙКІ** *мн.; адз.* **збойка** *ж.* *Ткац.* Збоічы, клінкі. *Збойкі пазаганяй, а то кросны твае*

*разваляцца, стаяць ні будуць.* Мільча Віл.

**ЗБО́РЛІВЫ** *прым.* Ашчадны, запаслівы. *Сын такі ліхасьціевы быў, такі добры, такі зборлівы. Каб ён жыў, ні адной бабі ні было гэдак, як мне, добра.* Савоні Стаўб.

**ЗБРО́ДЛІВЫ** *прым.* Шкадлівы, памаўзлівы. *Наш гэты бычок збродлівы: пакіне кароў і пойдзе, узьмешкаў шукае.* Бяларучы Лаг.

**ЗБРО́ЙЛІВЫ** *прым.* Тое, што і збро́длівы. *Збройлівы сабака, кідаецца на сваіх курэй.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗБРЫ́ДАЦЬ** *зак.* Апрыкраць, надакучыць, апастылець. *Збрыдая белая насіць, бярэш краску, красіш, кап цёмная было.* Белае Лаг. *Збрыдала мне ўжо такая праца.* Броды Маладз.

**ЗБРЫДА́ЦЬ** *незак.* Сыходзіць. *Ілюстрацыю гл. пад збрысці́.*

**ЗБРЫ́ДЗЕЦЬ** *зак.* **1.** Тое, што і збры́даць. *Сёліта мокры гот, кожан дзень дажджы і дажджы. Збрыдзелі ўжо.* Падзерычы Стаўб. **2.** *перан.* Аблаяць. *Збрыдзеў ён яго на нет.* Загор'е Маладз.

**ЗБРЫДЧА́ЦЬ** *зак.* Стаць менш прыгожым, страціць прывабнасць. *Натта іх дзеўка збрыччала ў апошні час — з твару пагаршэла, і апранацца хораша не стала.* Рудня Чэрв.

**ЗБРЫ́ЗВАЦЬ** *незак.* Апырскваць, крапіць вадой. *Збрызваць яго [пчаліны рой] ня трэба, бярэш рэшата і згортваеш яго.* Вішнева Валож.

**ЗБРЫСЦІ́** *зак.* Сысці. *Вешаім мы на коней бляшанкі ат кансерваў, каб яны не збрыдалі, а то ў нас коні брыдучыя. Як збрыдзе́ куды, дык ні найсці, пакуль сам ні прыдзя. Адзін рас як збрыў у нас конь, дык цэлую нядзелю ні было.* Бяларучы Лаг.

**ЗБУЗАВА́ЦЬ** *зак.* Забрудзіць, прывесці ў дрэнны стан. *Збузаваў гэдакую куртку, на работу надзяючы!* Цялякава Уздз.

**ЗБУНТАВА́ЦЬ** *зак.* Зблытаць, прывесці ў замяшанне. *Ай, дзеткі, гаварыла я, гаварыла, ды збунтавалі вы мяне, ні знаю, ш чаго пачаць разгавор.* Баяры Маладз.

**ЗБУ́ТЛЕЦЬ, ЗБУ́ЦВЕЦЬ** *зак.* Струхлець, ператварыцца ў парахню. *Збутлела лежачы дзерава, згніло.* Нізок Уздз. *У нас у вайну ўсё было закопана ў зямлю, усё збуцьвяла.* Цялякава Уздз.

**ЗБУТНЕ́ЎШЫ** *дзеепрым.* Струхлеўшы. *Мы гаворым: гэта дрэва збутнеўшы.* Іграшка Круп.

**ЗБУ́ЦВЕЦЬ** *гл.* збу́тлець

**ЗБЫ́РЗГАЦЬ** *зак.* Спырскаць. *У сусеткі ест пчолы. Казала, чатэры раі вышла, тры збырзгалі абабралі, чацьвёрты недзя ўцёк.* Арцюхі Стаўб.

**ЗБЫТ** *м.* Продаж. *У нас толькі збыт быў у Вільні.* Ляшчынск Мядз.

**ЗБЫ́ТАК** *м.* Тое, што і збыт. *Каб мець вопратку, людзі сеялі лён. Лён, льняноя семя добра ішоў і на збытак.* Даўгінава Віл.

**ЗБЫТКАВА́ЦЬ** *незак.* Абражаць, кпіць, здзекавацца. *Ён жа слабы, нямоглы, а ты збыткуеш зь яго.* Саланое Віл.

**ЗБЫТКІ́** *мн.* Выдаткі, страты. *А мне з вашае вучобы адны збыткі толькі.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ЗБЫ́ЦЦА** *зак.* Звесціся, знішчыцца. *І ўжэ ўсё збудзяцца бацькава, нічога не застанецца.* Дукора Пух.

**ЗБЫЦЬ** *зак.* ◊ **Збыць з рук** — пазбавіцца. *Каб адно дачка прыехала, скажу, каб забірала ўнучаня, збуду з рук гэты клопат.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Карова мая благая, стараюся яе з рук збыць, але ніхто ні купляя.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗБЭ́ЙТАЦЬ** *зак. Экспр.* Збіць, стаптаць. *Палажыла троха сена ў пуньку, а авечкі за ноч так збэйталі, што ні пазнаць.* Забалоцце Смал.

**ЗБЭ́РСАЦЬ** *зак. Экспр.* Звязаць. *Ці скора ты гэтыя наскі збэрсаеш?* Каменка Уздз.

**ЗБЭ́СЦІЦЬ** *зак.* Груба зняважыць. *Збэсьціў мяне перат сваімі, згадзіў.* Арцюхі Стаўб.

**ЗБЯГА́ЦЬ** *незак.* Пасяваць бегчы разам з кім, чым-н. *Дык пан кажыць: „У мяне жарабок на стайні стаіць, іс паяздом можыць зьбігаць"* (з казкі). Лубень Віл.

**ЗВА́ДА** *м.* і *ж. Неадабр.* Чалавек, які заводзіць сварку. *Ну й звада ш ты, не чакала ат цябе.* Забалоцце Смал.; *параўн.* польск. zwada 'сварка, спрэчка'.

**ЗВА́ДЗІЦЦА** *незак.* Сварыцца. *Што ў іх там сталася, хто іх зная, яны ніколі не звадзіліся раней.* Хожава Маладз.

**ЗВА́ДЛІВЫ** *прым.* Сварлівы. *Уся адно ці сварлівы, ці звадлівы.* Хожава Маладз.

**ЗВАДЫ́ЯШ** *м.* Зводнік, падбухторшчык. *Ну й звадыяш ты! Заўсёды зьвядзеш маіх дзяцей, каб яны пабіліся.* Паплавы Бярэз.

**ЗВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Апасці на дол (пра зерне, лісце). *Пасьпеў і перасьпеў ячмень, то ён, значыцца, зваліцца.* Кальчуны Ашм.

**ЗВАЛО́КА** *ж.* Дрэва, на якім стаіць вулей. *Хтось зрэзаў звалоку, і пчолы ўцяклі.* Барысаў Барыс.

**ЗВА́ЛЬВАЦЬ** *незак.* Збочваць, хаваючыся. *Пры ўцёках зайцы звальваюць у кусты.* Нізок Уздз.

**ЗВАЛЯ́ЦЬ** *зак.* Прывесці ў нягоднасць, не носячы (пра адзенне). *Звалялі новую кофту, збузавалі адзежыну мне.* Мясата Маладз.

**ЗВАНА́Р** *м.* Вострая тонкая сякера. *Званар — тонкая вострая сякера, як стукнеш — зьвініць, далёка чуваць.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗВАНКІ́** *толькі мн.* Тое, што і ґалаґо́ны. *Званкі зьвіняць: маладыя едзіць. Дзяўчаты бягуць пад акно глядзець маладога.* Альсевічы Мядз.

**ЗВАНО́К** *м. Бат.* Званочак (Campanula).

*Званкі прывозяць сь сенажаці.* Пруды Стаўб.

**ЗВАНО́ЧНІК** *м.* Тое, што і званок. *Ой, ды гэных сініх званочнікаў на лугох процьма цьвіце!* Пруды Стаўб. *Званочнікі на сенажаці растуць, сіненькія такія.* Прудкі Лаг.

**ЗВАНЦА́ЦЬ** *зак. Экспр.* Абгаварыць, зняважыць. *Як пачаў гаварыць, зусім званцаў яго, а ён жа і нічога сабе мушчына.* Дукора Пух.

**ЗВАР** *м. Кулін.* Кампот. *Звар летам з усяго сьвежага варылі, а зімой — з яблыкаў, да груш, да ягадак якіх — брушніц, ці чарніц, ці паземак сыпалі ў вар, а тады ў печ, у дух стаўлялі на часок які.* Задор'е Лаг.

**ЗВЕ́ДАЦЬ** *незак.* Ведаць. *Добра ціпер жывуць, многа чаго маюць, дык вось яна не зьведае, што надзяваць.* Рудня Чэрв.

**ЗВЕЗЬ, ЗВЯЗЬ** *ж.* Сувязь. *За зьвясь с парцізанамі мяне арыставалі, пасадзілі ў цюрму, вадзілі на дапрос тры разы.* Ухвала Круп. ◊ **Мець звесь** — быць сувязной. *Сястра мая да вайны была прысядацількай. Прышлі немцы, яна мела зьвесь с партызанамі.* Логавіны Мядз.

**ЗВЕРАВА́ТЫ** *прым.* Злосны, страшны. *Наш зьвяраваты, як узлуецца, дак, здэцца, зьеў бы цябе, кап прымеў.* Дукора Пух.

**ЗВЕ́РГНУЦЬ** *зак.* Нарадзіць раней тэрміну. *Карова наша цяля зьвергла, мёртвае радзілася.* Рудня Чэрв.

**ЗВЕ́СЦІСЯ** *зак.* Змарнець, змізарнець. *У яго як ніпрыемнась якая, дык ня есь, зьвядзецца саўсім, шчарнея.* Турэц Чэрв.

**ЗВЁЗНЫ** *прым.* Усыпаны, укрыты зоркамі. *Сягоньня зьвёзная неба было, зоўтра пагода будзе.* Вецярэвічы Пух.

**ЗВІВА́ЛЬНІК** *м.* Спавівач. *Зьвівальнік калісьці тканы быў, а цяпер ленту бяруць на зьвівальнік: як малец — галубую, як дзевачка — розавую.* Ляшчынск Мядз.

**ЗВІ́ЖАННЕ** *н. Рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 14 верасня. *Даўней на зьвіжаньне, дзе ёсь царква, дык там фэст.* Хожава Маладз.

**ЗВІНЕ́ЦЬ** *незак.* Утвараць чысты тонкі зык (пра насякомых). *Пчолы йдуць за мёдам хораша, зьвіняць, як пагода харошая.* Пруды Стаўб. *У добрую пагоду пчолкі зьвіняць, а вот у такую, як сёньня, яны шумяць.* Бясяды Лаг. *Добрая пагода будзя, бо пчолы зьвіняць.* Хожава Маладз.

**ЗВІ́НЧВАЦЬ** *незак.* Змацоўваць вінтамі. *На абадэ казалі звінчаке, таму што ён ня быў суцэльны. Кавалак обада з дубу, зь бярозы, клёну, і гэтыя кавалкі зьвінчвалі, гэтым самым дзеравам зьвінчвалі, лоп у лоп жжымалі, зьвінчвалі, рабілі дзірачкі і дзеравам зьвінчвалі.* Арцюхі Стаўб.

**ЗВІНЮ́ШКА** *ж.* Тое, што і званар. *Зьвінюшка прама так зьвініць, чуць зачапіся за сучок, зьвініць як звон.* Нізок Уздз.

**ЗВІХ** *м.* Вывіх. *А як жа мне той зьвіх вылечыць?* Ракаў Валож.

**ЗВІША́ЦЬ** *зак.* Страціць зялёную афарбоўку, завяць, набыўшы руды колер. *Ужэ картаплянік увесь зьвішаў, трэба жаць скарэй, бо зусім прападзе.* Ляхі Нясв.

**ЗВІ́ШНІК** *м. Бат.* Лекавая расліна з кветкамі блакітнага колеру. *Калі хто зьвіхнуў нагу, трэба нарваць зьвішніку, напарыць і прыкласьці.* Дукора Пух.

**ЗВО́ДЗІЦЬ** *незак.* 1. Маніць. *Кап так зводзіць чалавек умеў! Не хочаш, а паверыш.* Нядаль Барыс. 2. Падманваць, падводзіць. *Ты мяне ўжо трэці рас зводзіш з гэтымі ягадамі: я зьбяруся, а табе не выпадае.* Вішнева Валож.

**ЗВО́ЙКАЙ** *прысл.* Здвоеным следам. *Бывае, два зайцы бягуць сьлет у сьлет, звойкай.* Забалоцце Смал.

**ЗВО́НАЧКІ** *толькі мн.* Тое, што і званок. *Летам на лугах многа звоначкаў.* Ігрушка Круп.

**ЗВЭ́НДЗАЦЦА** *зак.* Тое, што і зблэнкацца. *За дзень так звэндзаліся, што чуць ногі пірастаўляім.* Станькі Віл.

**ЗВЭ́НДЗІЦЬ** *зак.* Правяліць у дыме (мяса, сала, рыбу). *Сала добра звэндзіў.* Язні Віл.

**ЗВЭ́РГАЦЦА** *зак. Экспр.* Забрудзіцца. *Ну, анучы там ужо хоць якія — кужоўныя ці ізрэбныя, хто якія хацеў, са старога чаго, зношанага, бо ўсё роўна звэргаюцца.* Вязынка Маладз.

**ЗВЯ́ГА** *м.* Звягло, звяглівая асоба, звягун. *Прыцягнуўся зьвягла і лаецца.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗВЯ́ГАЦЬ** *незак. Экспр.* Надакучліва многа гаварыць. *Чаго ён зьвягае?* Рудня Чэрв.

**ЗВЯЗІ́СТЫ** *у знач. наз.* Сувязны. *У парцізанаў жа былі зьвязістыя, яны прачувалі праз ворагаў усё і дакладувалі парцізанам.* Цялякава Уздз.

**ЗВЯЗЬ** *гл.* звезь

**ЗВЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Расстарацца, разжыцца. *Трэба спачатку зьвярнуцца на грошы, а ўжо потым пра пакупкі думаць.* Хожава Маладз.

**ЗВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* 1. *Экспр.* Скінуць з прастола. *Як зьвярнулі Міколу, дык многа лепій стала жыць.* Грыцукі Віл. 2. Узараць. *Зьвярнулі балота дый бяс толку. А гэткая трава была!* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗВЯРЦА́ДЛА** *н.* Люстэрка. *Паглядзіся ў зьвярцадла, якая ты пекная.* Вішнева Валож.

**ЗВЯСТАВА́ННЕ** *н. Рэліг.* Благавешчанне. *Зьвяставаньне ў нас завуць, а ў рускіх благавешчаньне. Гэта калі першыя птушкі прылятаюць.* Прудкі Лаг.

**ЗВЯСЦІ́** *зак.* Падвесці, ашукаць. *Што ш ты мяне гэтак зьвяла? Я цябе чакала, а ты й не*

*падумала прысьці.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗВЯСЦІСЯ** *зак.* Схуднець, змарнець. *Як пойдзя ў заработкі на ўсё лета, дык яна, бедная, так зьвядзецца, думаючы, кап хаця вярнуўся.* Забалоцце Смал.

**ЗВЯШЧЭННЕ** *н.* Паведамленне. *У сорак другім годзе палучыла я зьвяшчэньня на майго старшанькага.* Зазерка Пух.

**ЗГАДЗІЦЦА** *зак.* Дамовіцца. *Паглядзі на нашага пастуха. У шляпе. Згадзіўся на тры месяцы па дзьвесця рублёў.* Савоні Стаўб.

**ЗГА́ДЗІЦЬ** *зак.* Сапсаваць, змяніць на горшае. *Зга́дзіла ўсю маю справу.* Зазерка Пух.

**ЗГАІЦЬ** *зак.* Залячыць, зажывіць. *Пашла гэтага Знохара ўзіла, згаіла, аджывіла, палажыла ў карзіну й прыказала: глядзі толькі ні загавары, як будзе несьці дамоў* (з казкі). Малое Стахава Барыс.

**ЗГАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Збяднець. *Без маці зусім згалелі дзеці: усе ў рвані, мурзатыя і галодныя. Гэта ня цяпер, што няма маткі — дзяржава забоціцца аб дзецях.* Межава Чэрв.

**ЗГАМБАВА́ЦЬ** *зак.* Зганьбаваць, пагрэбаваць. *Такія яблыкі згамбаваў, а яны ж румянінькія, сьвецяцца ўсе. Лепшых ня знойдзе.* Грабёнка Чэрв.

**ЗГАНДЛЯВА́ЦЬ** *зак.* Старгаваць, купіць. *Згандляваў мне бацька бярвеньня на дом, а калі пачалі будавацца, дык бярвеньне аказалася трухлявым.* Гілікі Валож.

**ЗГА́НІЦЬ** *зак.* Дрэнна адазвацца. *Зганілі чалавека ні за што. Яна й добрая дзеўка, а яе зганілі, кажуць, гультай, і такая і сякая.* Бытча Барыс. *Зганілі хлопца зусім.* Сырмеж Мядз. *Каго часам зганяць і зазра бабы.* Гілікі Валож.

**ЗГАНТАПЕ́ЖЫЦЬ** *зак.* Экспр. Змяць, утаптаць. *Ты куды гэта залезла? Усё сена згантапежыш.* Выдрыца Круп.

**ЗГА́РАВАЦЬ** *незак.* Згараць. *Так там зьдзіваліся, так там ужо мучылі нарот, так палілі! Гаварылі, што за пітнаццаць мінут па тры тысячы чалавек зга́равала ў тым бальшым каміні. Як нарот уганяюць, сколька ім там палажана, і гэта дзьвер закрываіцца, а мост на сьцены разьдзьвігаіцца, і там яны зга́раваюць.* Ухвала Круп.

**ЗГАРНУ́ЦЬ** *зак.* Скласці. *Цяпер я рук не магу згарнуць.* Дукора Пух.

**ЗГАРО́ДА** *ж.* Плот. *Паставілі новую згароду, пакрасілі ад вуліцы.* Грыцукі Віл.

**ЗГАРО́СЦІЦЬ** *зак.* Зрабіць на скорую руку, абы-як (з-за недахопу сродкаў). *Яны ўдвух неяк згаросьцілі маленькую хатку і пачалі жыць.* Круці Мядз.

**ЗГАРУ́СЦІЦЬ**[1] *зак.* Набыць, прыдбаць з вялікай цяжкасцю. *Як чалавек бедны, ды што набыў памаленьку, дык кажуць згарусьціў.* Вязынка Маладз. *Неяк удалося згарусьціць сабе паліто.* Краснае Маладз.

**ЗГАРУ́СЦІЦЬ**[2] *зак.* Выціснуць, пусціць. *Цяпер маладая на вяселі ніводнай сьлязінкі ні згару́сьціць — сьмяецца, на маладога ды на каморку паглядая.* Суднікі Валож.

**ЗГАРЧЭ́ЦЬ** *зак.* Згоркнуць, прагоркнуць, зрабіцца горкім. *Згарчаў сыр.* Ляшчынск Мядз.

**ЗГАРЭ́ЦЬ** *зак.* ◊ **Сэрца на вугаль згарыць** — памерці ад хвалявання, ад накалу страсцей. *Малады без маладой зажурыўся, жартуе, што сэрцо на вугаль згарыць, пака маладую ўбяруць.* Савоні Стаўб. **Як на агні згарэць** — знасіць, стаптаць. *Бацька сыну казаў, што ён насіў боты двацццаць пяць гадоў, а ў сына за сем гадоў як на агні згарэлі.* Альсевічы Мядз.

**ЗГІНУЦЬ** *зак.* Растаць. *Як толькі сьнех згіня, трава парасьце, ганю карову ў поля.* Дзераўная Стаўб.

**ЗГЛУМІЦЬ** *зак.* **1.** Папсаваць. *Баюся шыць уручную, каб ні зглуміць мацяр'ял.* Нізок Уздз. *Ёсь у нас партніха, што ні возьмяцца шыць — зглуміць.* Саланая Валож. **2.** *перан.* Знішчыць, звесці са свету. *Фашыст як прышоў, дык многа люду зглуміў.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗГЛУ́МЛЕНЫ** *дзеепрым.* Сапсаваны, дрэнна пашыты. *Мой касьцюм красівы, але зглумляны.* Дукора Пух.

**ЗГЛЮМАЦЬ** *зак.* Сапсаваць. *Чаго ты ходзіш па дажджы? Абы толькі адзежу зглюмаць!* Дзяржынск Дзярж.

**ЗГНЯСЦІ** *зак.* **1.** *Экспр.* Зляпіць. *Хаця й мала было малака, але ўсё ж згняла сырок.* Мачаны Лаг. **2.** Стаўчы. *Бацька загадаў згнясьці бульбу, а тады заліць салам, вось я і стараюся.* Чэрвень Чэрв.

**ЗГО́ЙСАЦЬ** *зак.* Разгрэбці, растрэсці, стаптаўшы. *Прывязьлі салому позна і ня ўсьпелі зпажыць, дык куры ўсю згойсалі, згойсалі.* Забалоцце Смал.

**ЗГО́МТАЦЬ** *зак.* Экспр. Зваліць, неакуратна скідаць, беспарадкава зпажыць у адно месца. *Пакідаў усё, згомтаў у адну кучу. Няма, кап хоць рас зрабіў уборку як сьлет.* Грабёнка Чэрв.

**ЗГОН** *м.* Плыт. *Згон у тонь заганялі і замацоўвалі кажны.* Нізок Уздз.

**ЗГРАБА́Ч** і **ЗГРЭ́БАЧ** *м.* Крукі зграбаць гной з воза, машыны. *Узяла я зграба́ч і пашла на поле, ня стала зь імі сварыцца.* Зазерка Пух. *Цяпер то мала хто пользуяцца згрэбачам, цяпер усё вілкамі робяць.* Дукора Пух.

**ЗГРУНТАВА́ЦЬ** *зак.* Скласці з кавалкаў дзёрну. *Вярнуліся мы зь лесу — дзярэўні няма, пагарэла ўсё. Сын старэйшы с арміяй пашоў фашыста біць, а мы ж жонкай удваіх згрунтавалі зямлянку й жылі, пака сын прышоў з вайны.* Бяларучы Лаг.

**ЗГРЭ́БАЧ** *гл.* зграба́ч

**ЗГРЭ́БІНЫ** *толькі мн.* Каласы, дробная салома. *Жыта, ячмень змалоцім, тады зьмятаям*

*каласкі, граблямі зграбаям дзе саломка, каласочак. Гэта згрэбіны называюцца.* Вецярэвічы Пух.

**ЗГЃРЭБЛА** *н.* Шчотка з тонкага дроту, якою чысцяць жывёлу. *Чысьцілі валоў зґрэблам, коней, кароў чысьцілі.* Цялякава Уздз.

**ЗГРЭБЦІ** *зак. Экспр.* 1. Узяць сілком. *Яны згрэблі мяне і пацягнулі.* Цялякава Уздз. 2. Арыштаваць, схапіць. *Паліцаі і яго згрэблі і павялі.* Савоні Стаўб.

**ЗГУБІЦЬ** *зак.* ◊ **Згубіць [сваё] вучэнне** — забыць тое, што ведаў. *Дык я сваё вучэнне згубіла, як некалькі месяцаў не хадзіла ў школу.* Дрычын Пух.

**ЗГУБЛІВЫ** *прым.* Тое, што і з б р о д л і в ы. *Карова гэта мая нейкая згублівая, каб ні павесіў палаюнка, дык і не найшоў бы. А так зьвініць ён, хоць іскаць ведаіш дзе.* Баяры Маладз.

**ЗГУЛЯЦЬ** *зак.* Станцаваць. *Пайдзем польку згуляім.* Паплавы Бярэз. *Сяганьня ў нашай дзярэўні вясельля, пайду шарувкай пагглядзець на маладую, згуляю пара танцаў.* Забрэжжа Валож.

**ЗЃУРЫ** *прысл.* Адразу. *Раз б'еца — жыць нівазможно, зґуры кідаць нада.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. z góry 'загадзя, наперад'.

**ЗГЭТТУЛЬ** *прысл.* Адгэтуль. *Такая клатка нідарэчная, таго і глядзі, што загрукаціш згэттуль.* Бяларучы Лаг.

**ЗДАБЫЦЦА** *зак.* Прыбыць, даставіцца. *А тады ўжо восяняй здабыліся дамоў. Ну які ж мы дамоў здабыліся, калі ўжо не было ні кала ні двара, ні плата ні азярода.* Сівіца Валож.

**ЗДАЕСЯ** *пабочн.* Здаецца, здавалася. *І, здаеся, зь зямлёй зраўняла.* Ляшчынск Мядз.

**ЗДАЙМАЦЬ** *незак.* Здымаць. *Гэтыя кросны, ніткі ўжо аснаваныя, здаймаіш, спляцеш у плётачку, бо яны заблытаюцца.* Папоўка Мядз.

**ЗДАЙСЯ** *пабочн.* Тое, што і з д а е с я. *Здайся, так нядаўна мае дзеці малыя былі, а тэрас ужо самі працуюць.* Аколава Стаўб.

**ЗДАРАВЕННЫ** *прым.* Дужа здаровы. *Здаравенны хлапец, што дуп той.* Нізок Уздз.

**ЗДАРАВЕЦ** *м.* Здаравяка, чалавек вялікай фізічнай сілы. *У мяне ўнук ё, здаравец такі, рабіць усё ўмея.* Турэц Чэрв.

**ЗДАРАВІЛА** *ж. Экспр.* Тое, што і з д а р а в е ц. *Такі здаравіла вырас, а брацца за работу не сьпяшаецца.* Бясяды Лаг.

**ЗДАРАВУШЧЫ** *прым.* Тое, што і з д а р а в е н н ы. *Сам на віг здаравушчы, а рабіць ня можа.* Забалоцце Смал.

**ЗДАРОВАЦЦА** *незак.* Вітаць адзін аднаго пры сустрэчы. *Ён заўсёды з намі здаровяецца, не задаваслы хлопец.* Забалоцце Смал.

**ЗДАРОЎ** *у знач. выкл.* Ужываецца як прывітанне пры сустрэчы з асобамі мужчынскага і жаночага полу. — *Здароў, Ванда! — Здароў, Шурык. — Заўтра во кіно будзіць, дык ты на кіно прыхоць. — Ну, добра. Прыду на кіно.* Залазоўе Віл.

**ЗДАРОЎЕЧКА** *н. Ласк.* Здароўе. — *А як жа здароўечка тваё? Як там твая старая маецца? — Благадарствую. Пакуль што нічога.* Порычы Валож.

**ЗДАРОЎКАЦЦА** *незак.* Тое, што і з д а р о в а ц ц а. *Ён гаворыць, каб я не здароўкалася зь ёю, што яна кінула і пашла рабіць брату, а я жней наймаў.* Баранцы Віл. *Мы зь ім толька здароўкаямся, а гаварыць — ня гаворым.* Дукора Пух.

**ЗДАРЫЦЬ** *зак.* Надарыць (пра многае). *Здарылі шмат на кашу падарункаў, леңь панесла ўнука.* Дукора Пух. *Тысячу рублёў здарылі, як унука замуш ішла.* Дрычын Пух.

**ЗДАРЭННЯ** *ж.* Здарэнне. *Люццы мае мілыя, ні разу ня відзіла я гэткага страху: таксі ўрэзалася ў наш аўтобус. На шчасьця, усе жывыя асталіся. Во якая здарэньня. Век ні забуду, колькі жыць буду!* Станькі Віл.

**ЗДАЎМЕЦЦА** *зак.* Дадумацца, здагадацца. *Мабыць жа, здаўмеўся, калі да магазіна пайшоў.* Сакаўшчына Валож. *Ён здаўмеўся і ўцёк, а то далі п.* Цялякава Уздз.

**ЗДАЦЦА** *зак. Экспр.* Аслабець фізічна, занепасці. *Ён ужо саўсім здоўся, ляжыць і не ўстае.* Вялікая Вуса Уздз. ◊ **Зданкі здаюцца** — паўстаюць ва ўяўленні вобразы, якіх у сапраўднасці няма. *Ён падумаў, што яму зданкі здаліся. Ён гэту карзіну паставіў і ходу!* Малое Стахава Барыс. **Уваччу здацца** — зрокава ўявіцца, паўстаць перад вачамі. *Дак сядзяць, сядзяць, глядзяць на гэту папараць, дак ім увачу здасца, што яна зацьвіла.* Дрычын Пух.

**ЗДВОЙКА** *ж.* Здвоены след зайца. *Здвойка — гэта калі заяц і туды прайшоў і назат гэтым сьледам.* Паплавы Бярэз.

**ЗДЗЕЦЬ** *зак.* Зняць надзетае, абутае. *Гэта дзевачка зьдзела сь сябе адзежу, надзела сак, што рыбу ловюць.* Лубень Віл. *Пальто зьдзела сь сябе і зьмерзла.* Язні Віл.

**ЗДЗЯВАЦЦА**[1] *незак.* Распранацца. *Дзе ж здзяваюцца? Вядома ш, у разьдзявалца.* Вецярэвічы Пух.

**ЗДЗЯВАЦЦА**[2] *незак.* Здзекавацца, мучыць. *Там [у канцэнтрацыйным лагеры] так зьдзіваліся, там так ужо мучылі нарот, так палілі!* Ухвала Круп.

**ЗДЗЯЖЫЦЬ** *зак. Груб.* Аперазаць, ударыць. *Куды ш цябе нясе нячыстая?! Зарас як зьдзяжу віламі!* Забрэжжа Валож.

**ЗДЗЯРЖАЦЬ** *зак. Экспр.* Пажыць, паліпець на белым свеце. *Я сёлета шчэ здзяржу, і больш, напэўна, не: старая ўжо вельмі, гаварыць цяшка.* Баяры Віл.

**ЗДЁНЦЕ** *н.* Здымак, фатаграфічная кар-

тачка. *Паехаў у горат, бо трэба ш было зрабіць добрыя зд'енці.* Аколава Стаўб.; *параўн.* польск. zdjęcie 'тс'.

**ЗДРАМНУ́ЦЬ** *зак.* Задрамаць. *Вы, унучкі, гуляйце ціхінька, а я прылягу ды здрамну мінутачку.* Гілікі Валож.

**ЗДРАПА́ЧЫЦЬ** *зак. Экспр.* Станцаваць. *Помню, за вечар як здрапачу полек зь дзесяць, дык ноччу нох ня чую.* Жораўка Пух.

**ЗДРАПЕ́ЖЫЦЬ** *зак.* Здратаваць, выбіць, вытаптаць. *Добра, што кароў перасталі ганяць па вуліцы, а то здрапежаць усю вуліцу.* Бытча Барыс.

**ЗДРО́ГНУЦЦА** *зак.* Атрымаць зрушэнне ўнутраных органаў (у выніку падзення, удару). *Зваліўся з машыны і, мусіць, здрогнуўся моцна — і памёр.* Цялякава Уздз.

**ЗДРОК** *м. Заал.* Авадзень (Oestridae). *Здрок — жоўтая муха такая, завуць авадзень некаторыя, падляціць пат карову, каня, кусая, яе скаціна баіцца.* Вецярэвічы Пух. *Здрок каня кусая.* Нізок Уздз.

**ЗДУБАЛЬТАВА́ЦЬ** *зак.* Выстраліць з двух ствалоў адначасова. *Я здубальтаваў па ваўку.* Пруды Стаўб.

**ЗДУБА́СІЦЬ** *зак. Экспр.* Збіць. *А ён пугай так карову здубасіў, што ўся і цяпер у рупцах ходзіць.* Волма Чэрв.

**ЗДУ́ЖАЦЬ** *зак.* Адолець, асіліць, перамагчы. *Той слабейшы, дык, канешня ш, яго здужаюць.* Забалоцце Смал.

**ЗДУ́МАЦЬ** *зак.* Выдумаць, прыдумаць. *Нанешта ш вот здумалі пісаць!* Юшкаўка Віл.

**ЗДУРНЕ́ЦЬ** *зак.* Страціць розум, зрабіцца дурным. *Усякія думкі лезуць у галаву, здурнець можна.* Савоні Стаўб.

**ЗДЫ́МКА** *ж.* Тое, што і з д'е́н ц е. *Нікога ўжэ німа, толькі во гэта здымка засталася на памяць.* Баяры Віл.

**ЗДЫ́РДЗІЦЦА** *зак. Груб.* Памерці; здохнуць. *Німа на яго канца, ні здырдзіцца ніяк.* Баяры Маладз. *Тая наша кошка даўно здырдзілася, а гэты каток яшчэ малады.* Дукора Пух.

**ЗДЫХА́ЦЬ** *незак. Груб.* Прагнуць. *А сьвякрыві ўсё мала зямлі было, аж здыха́ла, каб болій купіць. Ого, даўней фальваркмець, зямлі апшар!* Шыпкі Віл.

**ЗДЫХЛЯ́К** *м. Экспр.* Пра слабога, худога, хваравітага чалавека. *Здыхляк гэты, нічога ня хоча есьці.* Баяры Віл.

**ЗДЭ́СЯ** *пабочн.* Тое, што і з д а е́ с я. *Здэся, яна тут была.* Ляшчынск Мядз.

**ЗДЭ́ЦЦА** *пабочн.* Тое, што і з д а е́ с я. *За, што ён так на мяне крычыць? Я ш, здэцца, нічога яму ні зрабіла.* Цялякава Уздз.

**ЗДЭ́ШНЫ** *прым.* Тутэйшы, мясцовы. *Яна ні здэшная, с-пад Магілёва, а сюды замуш вышла.* Каменка Уздз.

**ЗЕ́БЛІЦЬ** *незак.* Зябліць. *Пасьля лета зебляць жытнішча.* Рудня Валож.

**З'Е́ДКІ** *толькі мн.* Недаедкі, аб'едкі. *Усё лепшая гасьцям паставілі, а дзецям — зьеткі.* Цялякава Уздз.

**З'Е́ЗД** *м.* Камплект колаў. *У яго ёсь гатовы зьест калёс — перат і зат — чатыры колы, рабіў на закас.* Пруды Стаўб. *Некалі па васімнаццаць зьездаў калёс рабілі.* Цялякава Уздз.

**ЗЕ́КРЫ** *мн. Экспр.* Вочы. *Мама, скажы, каб яна не глядзела сваімі зекрамі на мяне, уставіцца і глядзіць, мяшая мне ўрокі рабіць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗЕ́ЛЛЕ** *н.* **1.** Настой з зёлак, які выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне. *Доктар уліў некага салоткага зельля, я выпіла, зьела скварку, малака напілася — і цяпер жыву.* Ігрушка Круп. **2.** *бат.* Водарасці (Algae). *Раней рэчка чыстая была, а цяпераке зарасла зельлем.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗЕ́ЛЬНІЦА** *ж. Рэліг.* Спас. *На зельніцу насілі яблыкі і жыта свяньціць.* Пруды Стаўб.

**ЗЕЛЯЗНІ́К** *м.* Чыгун. *На прыпечку стаіць зелязьнік.* Юшкаўка Віл.

**ЗЕЛЯЗНЯ́К** *м.* Рыдлёўка. *Трэба асадзіць зелязьняк, зламалася дзяржаньня.* Дукора Пух.

**ЗЕЛЯНІ́ЦА** *ж. Бат.* Зялёнка (Tricholoma flavovirens). *Зеляніцы — гэта асеньнія грыбы.* Прудкі Лаг.

**ЗЕЛЯНУ́ХА** *ж. Кулін.* Гарбузовая каша (з няспелага гарбуза). *Ня еш гэту зелянуху: жывот забалі... Палянь — зярняты нават не адсталі ад мякаці, а яна зьбіраецца варыць зелянуху.* Узгурск Чэрв.

**ЗЕЛЯНУ́ШКА** *ж. Заал.* Цыркушка лугавая (Glareolidae pratincola). *Зелянушкі — яны дзе рэкі жывуць, зялёнінькія такія, лётаюць над вадой і ловяць мошак, як ластаўкі.* Бясяды Лаг.

**ЗЕМЛЯНІ́ЧНІК** *м.* Сунічнік. *Каровы патапталі шмат земляанічніку, паглумілі зра.* Бяларучы Лаг.

**ЗЕМНЯ́К** *м.* Бульбіна. *Зімня́кі добра растуць у нас.* Сасноўшчына Віл.; *параўн.* польск. ziemniak 'тс'.

**ЗЕ́НКІ** *мн.* Тое, што і зе́к р ы. *Вытарашчыла свае зенкі, гадзіна такая.* Кухцічы Уздз.

**ЗЕ́РНЕ** *н.* ◊ **На макава зерне** — ні капелькі, ніяк (не даць). *Кап толькі яму усё давалі, а ён — нікому на макава зерне нічога.* Турын Пух.

**ЗЕЎ** *м. Спец.* **1.** Прамежак паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы, праз які праходзіць чаўнок. *Калі панажы апускаюцца ўніс, тады зеў вялікі, а калі ўверх, тады зеў малы.* Рудня Лаг. **2.** Тое, што і г в а з д а д з ё р. *Усе цвікі з дошкі выцягнуў зевам.* Прудкі Лаг.

**ЗЁЛКІ** *мн.* Лекавыя травы і настоі з іх. *Мама паклала зёлкі ў куфар.* Палачаны Маладз.

*Абрыў быў у каровы маёй на назе, зёлкамі вылячыла.* Баяры Віл.

**З'ЁЛКНУЦЬ** *зак.* З'ялчаць. *Стаяла масла і з'ёлкла, што ў рот ні возьміш.* Хожава Маладз.

**З'ЁМШЧЫК** *м.* Фатограф. *Спіцыяльна паеду ў Вялейку да зьёмшчыка.* Апенькі Віл.

**ЗЖА́БІЦЦА** *зак.* Выгнуцца. *Во бервяно зжабілася, ледзь не прыбіла.* Ляхавічы Дзярж. *Сьнех нападае на дрэва, што яно аж жжабіцца.* Бясяды Лаг.

**ЗЖА́ГЦІ** *зак.* Спаліць. *Усю вёску карнікі жжаглі, як ішла блакада, ні адной хаты ні засталося, ні аднаго кусьціка.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗЖА́ЛУВАЦЦА** *зак.* Злітавацца, пашкадаваць. *Бацьку ўжо нек шкода стала мяне, жжалуваўся, думая, мусіць, ёй цяшка, і забраў дамоў.* Лоск Валож.

**ЗЖАХНУ́ЦЦА** *зак.* Спужацца раптоўна і моцна. *Уступіла на нешта халоднае, аж жжахнулася.* Стражы Віл.

**ЗЖЫМ** *м. Спец.* Прылада, якой сціскаюць раздуты патрон. *Зжым е ў кожнага ахотніка.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗЖЫЦЬ** *зак.* ◊ **Зжыць са свету** — стварыўшы невыносныя ўмовы, загубіць. *Папрабуй зьеш мяса ў вялікі пост, ня будзіць мейсца ў хаце, бацька зжывець цябе са сьвету.* Пасынкі Мядз.

**ЗЗА́МАЛАДУ** *прысл.* З маладых гадоў, з маладосці. *Я ззамаладу прывыкла рабіць акуратна.* Дукора Пух.

**ЗІГАВА́ЦЬ, ЗЫГАВА́ЦЬ** *незак.* Уцякаць, ратуючыся ад укусаў заедзі. *Ай, падняліся ўжо каровы, зігаваць будуць.* Ляшчынск Мядз. *Гады са два назат заступіў я цялят пасьціць. Хай іх халера возьме, гэта ўжо ні скаціна! Як пачне зыгаваць, хвасты ўгару і хто куды.* Бяларучы Лаг. *Як сьпякота, дык каровы зыгуюць, с пашы ўцякаюць.* Бясяды Лаг.

**ЗІ́ГЗАГА** *ж.* Від жалезнай бараны з папярочнымі перакладзінамі ў форме ламанай лініі; культыватар. *Зігзагу прычапіў к трактару і паехаў на поля.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* фр. zigzag 'ламаная лінія'.

**ЗІГРА́ТЫ** *прым.* Пярэсты, рабы. *Перабіранкі ўсе зігратыя, пекныя, есьлі фарбы харошыя.* Завішына Лаг.

**ЗІМАЗЯЛЁНКА** *ж. Бат.* Лазаніца (Lyzimachia). *Зімазялёнкі многа каля сенакосу, у іх жоўтая краска.* Рабунь Віл.

**ЗІ́МНА** *прысл.* Холадна. — *А чаго было фарсіць, зраніцы было відаць, што будзіць зімна.* — *Памёрзла, буду разумнейшая.* Пасынкі Мядз. *На дварэ зімна, марос, аш сьцены трашчаць, а яна ў тоніенькай хустаццы, бывала, йдзець.* Баяры Віл. *Так сягоньня зімна, а табе, дачушка, трэба хадзіць.* Яцыны Мядз.; *параўн.* польск. zimno 'тс'.

**ЗІМНАТА́** *ж.* Халадэча. *Выяла вочы гэна зімната, і на дварэ зімна, і хату ніяк не нагрэіш.* Такарышкі Іўеў.

**ЗІ́МНІ** *прым.* Тое, што і во́стры. *Ох, якая зімняя вада, страшна й мыцца.* Вішнева Валож.

**ЗІ́МНІК** *м.* Дарога, па якой ездзяць толькі зімой. *Таму яна зімнік, што па ёй можна езьдзіць толькі зімой, саннай толькі зімой бывае.* Рудня Чэрв. *Мяцеліца была, дык зімнік наш так замяло, што нельга было праехаць.* Зазерка Пух.

**ЗІ́МНЫ** *прым.* Зімовы, позны. *Неяк людзі прадаюць на базары яблыкі, ета зімныя, позныя, яны ў сене ляжаць.* Вецярэвічы Пух.

**ЗІМУ́ХА** *ж. Уст.* Малако, якое нарыхтоўвалі ў запас. *Даўней пасты былі, ня можна было есьці малака. Малако зьбіралі ў цэбар, а як кончыцца пост, то гэту зімуху так елі, аж лошкі мільгацелі.* Калодчына Віл.

**ЗІРАТЫ** *прым.* З мноствам зорак, зорны. *Якое сёньня неба зіратае!* Загор'е Маладз.

**ЗІХЦЕ́ЦЬ** *незак.* Зіхацець. *На марозя зоркі натта моцна сьвецяць і зіхцяць.* Пруды Стаўб. *От зіхціць здалі нешта.* Малмыгі Віл.

**ЗЛА́ГАДА** *ж.* Згода. *У злагадзе жылі.* Цялякава Уздз.

**ЗЛА́ГАДНА** *прысл.* Дружна. *Некалі хлопцы злагадна жылі, во гэдак, як і вы.* Цялякава Уздз.

**ЗЛАДЗЕ́ЙКА** *ж.* Пчала, якая крадзе мёд у чужых вуллях. *Моцныя пчолы нападаюць на слабых, іх і называюць у нас зладзейкамі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗЛАДЗІ́НА** *м. Асудж.* Злодзей. *Які зладзіна быў, сьвет ня бачыў! Кап толькі ўлесьці ды апкрасьці чалавека!* Рудня Чэрв.

**ЗЛАДЗЮ́ГА** *м. Асудж., пагард.* Тое, што і зладзі́на. *Такі зладзюга вырас, дзе што запарве, дык і сьцягне.* Забалоцце Смал. *Во, зладзюга дык зладзюга! І сьляды замёў за сабой.* Дукора Пух.

**ЗЛАДЫЯ́НІН** *м.* Злачынец. „*Вы, зладыяне, не тым займаецеся*", — *выступаў аграном.* Бяларучы Лаг.

**ЗЛАЖЫ́ЦЬ** *зак.* ◊ **Злажыць галаву (галоўку)** — памерці, загінуць. *І сястра мая зложыла галаву нізашто, яе схапілі за звесь с партызанамі.* Логавіны Мядз. *Сярэдні сын дамоў ні вярнуўся, злажыў, гарамыка, галоўку пад Бярлінам.* Пузыры Мядз.

**ЗЛА́ПАЦЬ** *зак.* Злавіць, схапіць. *Яе ў нашай вёсцы і злапалі.* Бяларучы Лаг.; *параўн.* польск. złapać 'тс'.

**ЗЛА́ТНІК** *м. Бат.* Мучаннік, талакнянка (Arctostaphylos). *Зла́тнік — трава, падобная на брусьнічнік, толькі з буйнейшымі лісточкамі. Параць і п'юць зла́тнік, калі бруха баліць.* Саланая Валож.

**ЗЛА́ШЧА** *прысл.* Асабліва. *Сёньня злашча*

*добрая пагода, даўно такой не было, усё дошч ды дошч, ды вецяр.* Брадок Лаг.; *параўн.* польск. zwłaszcza 'тс'.

**ЗЛЕЦІЦЦА** *зак.* Падагрэцца, нагрэцца (пра ваду, малако). *Малачко злецілася, можна малому даваць.* Асавец Маладз.

**ЗЛЕЦІЦЬ** *зак.* Падагрэць, нагрэць (пра ваду, малако). *Ой, пачакайце, я вам хоць ваду зьлечу, а то ш на марозе будзе халодна абмываць заколатага кабанчыка.* Клетнае Барыс.

**ЗЛЁК** *м.* Страх, перапалох. *Злёк быў вялікі, што Грышка заікацца стаў.* Дукора Пух.

**ЗЛЁПАК** *м. Неадабр.* Аб тоўстым, непаваротлівым чалавеку, дзіцяці. *У мяне чацьвёра сыноў. Большы такі ўжо ў дзецтве зьлёпак быў, а зарас самы рухавы, ладны.* Баяры Віл.

**ЗЛЁТАЦЬ** *зак.* Хутка збегаць куды-н. і вярнуцца назад. *А мой ты ўнучак, калі ты толькі спраўляісься і на рыбу зьлётаць і заданьне сваё зрабіць.* Чараўкі Мядз.

**ЗЛІВАЧКІ** *мн.* Смятана, вяршок. *Зьлій са жбана зьлівачкі ў кухлічык і пастаў у калідоры ў шкафчык.* Акалова Лаг.

**ЗЛІЗАЦЬ** *зак.* ◊ **Як карова языком злізала** — хутка і бясследна знікнуць. *Посьля гляць на масла, а яго як карова языком зьлізала.* Суднікі Валож.

**ЗЛОЖАТЫ** *дзеепрым.* Складзены. *Тыя паперкі былі зложаты ў некалькі радоў.* Сасноўшчына Віл.

**ЗЛОМАК** *м. (звыч. з адмоўем).* **1.** Слабак. *Натта здольная да ўсяго дзяўчына, ды і ў навуцы ня зломак.* Малмыгі Віл. **2.** Гультай. *Ці ж гэта дзеўка? Гэта ж зломак нейкі: людзі з граблямі на сенакос, а яна спаць ды спаць.* Люцец Барыс. **3.** Няўмека. *Во які зломак! Граблі і тыя ня зробя!* Сырмеж Мядз.

**ЗЛОМЛЕТЫ** *дзеепрым.* Зломаны. *У міне ш нага зломліта і рука.* Сасноўшчына Віл.

**ЗЛОТНІК** *м. Уст.* Майстар па вырабу розных рэчаў з золата. *Дзякуй табе, мамачка, што выдала за злотніка. Злотнічак віець пярсьцёначкі на мае белы ручкі.* Папоўка Мядз.

**ЗЛОЯЗЫКІ** *прым. Неадабр.* Схільны да злых нагавораў, рэзка адмоўнай ацэнкі. *Нічога для чалавека ня робіць і брэша на яго. Гэта нідобры чалавек, злаязыкі.* Рабунь Віл.

**ЗЛУЗАЦЦА** *зак.* Аблупіцца, злупіцца. *Падлога ўся злузалася, бо ведама, якая гэта краска?!* Дукора Пух.

**ЗЛУПІЦЦА** *зак.* Падрацца. *Плацьця ўсё злупілася на нет.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗЛЫДЗЕНЬ** *м.* Ліхадзей, шкоднік. *Злыдзень у нас кажуць на благога чалавека.* Бясяды Лаг. ∇ **Уваліліся злыдні на тры дні, а беднасьць на ўвесь век.** Ігрушка Круп.

**ЗЛЫДНІ** *мн.* **1.** Нястача, нястача. *Тады ш былі злыдні і зь дзяньгамі, і ш чым, за што ш ехаць? Ды яго й пахавалі ўжо, куды ш ехаць?* Ігрушка Круп. **2.** Злыя духі. *Пасяліліся злыдні ў хаце, нічога не вядзецца.* Дукора Пух.

**ЗЛЫДУХ** *м.* Тое, што і з л ы д з е н ь. *Злыдух ты, паразіт! Кап толькі рабіць шкоду, кап цябе зямля не насіла!* Гілікі Валож.

**ЗЛЫЧКА** у выразе: у злычцы. У пары. *Яны добра ядуць у злыццы, а як адзін захварэе, зусім ня тое.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗЛЮБІЦЦА** *зак.* Пакахаць адзін аднаго. *Цяпер жа як толькі зьлюбіліся, дак і пажаніліся.* Вецярэвічы Пух.

**ЗЛЮЧЫ** *прым.* Вельмі злы. *Дзет твой сёньня зьлючы.* Клетнае Барыс.

**ЗЛЯЗНІК** *м.* Тое, што і ж а л я з н і к. *Два было зьлязьнікі, і абодва паламаліся.* Бытча Барыс.

**ЗЛЯКАЦЬ** *зак.* Спалохаць. *І прыйшло нейкаму чорту ў галаву злякаць дзяўчыну.* Дукора Пух.

**ЗЛЯЦЕЦЬ** *зак.* **1.** Зваліцца, асыпацца. *Сёлета не будзе памідораў, бо ўвесь цьвет зьляцеў: замараскі пашкодзілі.* Лыцавічы Віл. **2.** Выцячы цераз край (пры награванні). *Суп ці ўкусны, бо загаманілася і ён зьляцеў, сплыў. Много зьляцело, некі ш жыр быў, мусіць, густое неко зьляцело.* Савоні Стаўб.

**ЗМАБІЛІЗАВАЦЬ** *зак.* Мабілізаваць. *Мы падышлі пад лінію фронту, глядзім, аш абос, і ўвесь гражданскі абос — жанкі, дзяўчаты, старыкі. А гэта немцы змабілізавалі гражданскі нарот і везьлі на перадавую.* Партызанскі Віл.

**ЗМАЗАЦЬ** *зак. Экспр.* Украсці. *У нас бервяно змазаў нехта.* Цялякава Уздз.

**ЗМАЛЕНЦЯ** *прысл.* Змалку, з маленства, з дзіцячых гадоў. *З васьмі гот круглая сірата! Хто мяне шкадаваў, хто мяне шанаваў? Што я выстрадала змаленьця!* Савоні Стаўб.

**ЗМАЛКУ** *прысл.* Тое, што і з м а л е́ н ц я. *Дзяцей трэба змалку прывучаць к паратку.* Жораўка Пух.

**ЗМАРДАВАЦЦА** *зак.* Стаміцца празмерна, знясіліцца. *Ну й змардаваўся ш бацька ў лесе! Лець ногі прывалок.* Хожава Маладз.

**ЗМАРНАВАЦЦА** *зак.* Марна пражыць, не выкарыстаўшы належным чынам сваіх магчымасцей. *Мая старэйшая так і змарнавалася адна, замуш ня вышла.* Язні Віл.

**ЗМАРОЗІЦЬ** *зак. Экспр.* Расказаць пра неверагоднае, недарэчнае. *Ідзі што-небудзь змарозь, даўно мы цябе ні слухалі. Раскажы пра той касагор, што гатоў паляцець, ды ты яго дзержыш моцна.* Бяларучы Лаг. *Ён як схлусіць, як змарозіць што-небуць, дык прама дзіву даесься.* Забалоцце Смал.

**ЗМАХНУЦЬ** *зак.* Зманіць, схлусіць. *Ён вымае блакнот, запісвае маё імя, фамілію. Я хацеў перш змахнуць, запісаць чужую фамілію, і ідзі шукай мяне.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗМЕЙКА** *ж.* Маленькая ручная пілка.

*Зьмейка — гэта так называецица маленькая пілачка ў нас.* Завішына Лаг.

**ЗМЕ́РЦІ** *зак.* Вымерці. *У яго ўвесь рот па мацяры зьмёр, і маці яго памерла с сухотаў, прыродныя сухоты ва ўсіх.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Іх уся сям'я зьмерла.* Цялякава Уздз.

**ЗМЕСЬ** *ж.* Мяшаны лес. *Кругом тут толькі зьмесь, баравыя лясы далёка.* Нізок Уздз.

**ЗМЕ́ШАНЫ** *дзеепрым.* Стаптаны, збіты. *І бручка, і ўсе нашы картоплі сёньня зьмешаныя коньмі.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗМІРЫ́ЦЦА** *зак.* Памірыцца. *Сусетка перапрасіла, і яны зьмірыліся.* Цялякава Уздз.

**ЗМІ́ТРАВЫЯ ДЗЯДЫ́** *абрад. Уст.* Субота перад змітравым днём, які прыпадаў на 26.X. ст. ст. *На зьмітравыя дзяды ладзілі вячэру, паміналі родных.* Бясяды Лаг.

**ЗМІ́ТРАЎКА** *ж. Уст.* Асенняе рэлігійнае свята. *Заўтра ў нас зьмітраўка, гэта 26 кастрычніка па-старому.* Ігрушка Круп.

**ЗМІ́ТРАЎСКАЯ СУБО́ТА** *уст.* Тое, што і з м і т р а в ы я д з я д ы́. *У зьмітраўскую суботу, як раней, паміналі пакойнікаў — дзеда, бабу, родных.* Рабунь Віл.

**ЗМУ́ЛІЦЬ** *зак.* Сцерці, зрабіць мазалі. *Абуў малыя боты і ўсе ногі змуліў.* Паплавы Бярэз.

**ЗМУ́РАЧКА** *ж.* Маршчынка. *Я, дзетачкі, ужо старэнькая: увесь твар у змурачках.* Мільча Віл.

**ЗМУ́РКІ** *толькі мн. Абрад.* Тое, што і ж м у́ р к і. *Некалі, як перахрысьцяць дзіця, дак на чацьвёрты дзень рабілі змуркі, частавалі бапку і кумоў, мылі дзіця, як бытта змывалі ўсё кепская зь дзіцяці.* Цялякава Уздз.

**ЗМУЧО́НЫ** *дзеепрым.* Збоўтаны, каламутны. *Ну вот! Скалацілі твань вяслом, цяпер вада змучоная.* Рудня Чэрв.

**ЗМУШЧА́ЦЦА** *незак.* Здзекавацца. *Так ужо змушчаліся з гэтай сіраты, што ён, бедны, кожны дзень плакаў, звоў маці.* Цялякава Уздз.

**ЗМЫ́ВАК** *м.* Кавалачак матэрыялу для мыцця пасуды. *Без змывак не так добра пасуду памыеш.* Загор'е Маладз.

**ЗМЫ́ДЛІК** *м.* Змылены кусочак мыла. *Там змыдлік на лаўцы ляжыць, то і тым памыесься.* Зазерка Пух.

**ЗМЫ́ЛКІ** *мн.* Вада, у якой мылася бялізна; па́залкі. *Ня вылівай вон змылкаў, у іх можна памачыць анучы.* Дукора Пух.

**ЗМЫЧО́К** *м.* Пара паляўнічых сабак (кабель і сука), якія прывучаны ганяць разам. *Змычок, або пара, яны бягуць сьлед у сьлед заўжды.* Паплавы Бярэз.

**ЗМЭ́НЧЫЦЦА** *зак.* Стаміцца. *Мая дачушка так змэнчылася, што ціпер сьпіць як забітая.* Вялікая Вуса Уздз.; *параўн.* польск. zmęczyć się 'тс'.

**ЗМЯЙСЦІ́ЦЦА** *зак.* Змясціцца, умясціцца. *Васімнасьця пушак* [сярчыкоў] *можа я ўжо і ў сумку ні ўлажу? А можа й зьмейсьціцца?* Старая Вёска Мядз.

**ЗМЯ́КНУЦЬ** *зак.* Змокнуць. *Пакуль карову выгнала, зьмякла ўся, аж вада цячэ с каптура.* Клетнае Барыс.

**ЗМЯНІ́ЦЦА** *зак.* Пераапрануцца. *Мы партызанам есьці давалі і зьмяніцца.* Каменка Уздз.

**ЗМЯША́ЦЬ** *зак.* ◊ **Змяшаць з граззю** — груба аблаяць, зняважыць, зняславіць. *Ёй нічога ня стоіць нагаварыць на цябе ўсякую несусьвеціцу, змяшаць з гразьзю.* Дукора Пух.

**ЗНАДО́БІЦЦА** *зак.* Спатрэбіцца. *Паглядзітка, ня выкідай, гэта ж яшчэ можа знадобіцца.* Галянова Віл.

**ЗНАЁМАСЦЬ** *ж.* Знаёмства. *Ні любіліся, нічога, так па знаёмасці жаніліся. І жылося так.* Новікі Мядз.

**ЗНА́ЙНІЦА** *ж.* Левы бок тканіны, выварат. *Надзела сукенку на знайніцу.* Халмоўка Барыс.

**ЗНАЙСЦІ́** *зак.* ◊ **Знайсці ўправу** — супакоіць, уціхамірыць сілай, пагрозай. *Каб яна сварылася са мною так, як з яго кабетаю, я б на яе знайшоў управу! Яна б духу майго баялася!* Горкі Стаўб. *Каб табе заняло, думаяш, што на цябе ўправы ні будзя!* Савоні Стаўб.

**ЗНАЙСЦІ́СЯ** *зак. Экспр.* З'явіцца на свет, нарадзіцца. *А хазяін мой у кузьні працаваў у тым самым сяле, куды адразу мы прыехалі. Там хлопчык у нас знайшоўся.* Восава Круп. *Я не пайшла служыць: знайшлася дачка ў мяне.* Старыя Габы Мядз. *Пажыў ён там, жаніўся нек ні ў толк [узяў зь дзіцем], ужо двойка сваіх знайшлося, прыехаў сюды, паглядзеў, што тут добра жывецца,— ні паеду з дому.* Савоні Стаўб.

**ЗНАКІ́** *мн. Спец.* Прыстасаванне, якім праводзяцца пасяўныя або пасадачныя разоркі ці радкі. *Вазьмі знакі́ да правядзі хоць некалькі раткоў, усё мне ляхчэй будзе.* Хожава Маладз.

**ЗНАКО́МІЦЦА** *незак.* Знаёміцца. *Я не хацела знакоміцца зь ім.* Паплавы Бярэз.

**ЗНАКО́МІЦЬ** *незак.* Знаёміць, прадстаўляць аднаго другому. *Гэта ш ён знакоміў мяне с сваім братам.* Забалоцце Смал. *Мікалай знакоміць мяне з маткай.* Хожава Маладз.

**ЗНАКО́МСТВА** *н.* Знаёмства. *Етыя твае знакомствы да дабра ні давядуць!* Вецярэвічы Пух.

**ЗНАКО́МЫ** *у знач. наз.* Знаёмы. *Помніш, той знакомы, што на вясельлі ў Тані пазнакоміліся, ужо ажаніўся.* Вецярэвічы Пух.

**ЗНА́ННЕ** *н.* Веды. *Кантычка дае знаньне, чытай паболей.* Хожава Маладз.

**ЗНА́НЫ** *прым.* Вядомы, знаёмы. *І Тамарын зяць харошы зь віду, і бацьке знаныя, але вельмі ж востры, да трох ні гавары! Гэты*

*хлопчык знаны, ён і летась з Мішкам гуляў, Гоцкага Віціка Мацеявага сын.* Савоні Стаўб.

**ЗНАРАВІЦЬ** *зак.* Раззлаваць. *Дзеці хутка знаравілі старога так, што ён за дзяшку схапіўся.* Ракаў Валож.

**ЗНАЦЬ** *у знач. вык.* Відаць, можна заўважыць. *Буракі пасадзілі даўно і ратке знаць.* Каменка Уздз. ◊ **Не знай не ведай** — зусім не ведаць. *Гэтага свайго жаніха не знай не ведай, але ж бацькі аддалі на багацьце.* Баяры Маладз.

**ЗНАЦЬКА** *ж.* Усявед. *Іш ты, такая знацька-выскалася! Скрось табе дзела!* Баяры Маладз.

**ЗНАЧЫЦЬ** *незак.* Праводзіць, намячаць радкі. *У нас грады значаць. Кончым грады значыць сёньня да вечара, а заўтра будзем садзіць.* Хожава Маладз.

**ЗНЕЖЫВЕЎШЫ** *у знач. прым.* Непрытомны. *Ляжыць такі белы, зьнежывеўшы.* Хожава Маладз.

**ЗНЕЛЮБІЦЬ** *зак.* Адчуць моцную непрыязнасць да каго. *Зьнялюбіла яго, ні на вочы.* Савоні Стаўб.

**ЗНЕТАЦЬ** *зак. Экспр.* Забіць. *Шчэ рас пікні — зьнетаю!* Маськаўцы Віл.

**ЗНЕЎДАЛЕЦЬ** *зак.* Захварэць. *У іх хлопчык маладзей ад майго на два гады знеўдалеў і яго ў бальніцу паклалі.* Мядзел Мядз.

**ЗНЕЧАЎКУ** *прысл.* Знянацку, неспадзявана. *Маўчаў, маўчаў, а потым знечаўку пытаецца, ці далёка станцыя.* Сцебіракі Віл.

**ЗНЁСАЧАК** *м.* Зносачак. *Зьнёсачак — гэта маленічкая яйцо.* Бяларучы Лаг.

**ЗНІЖКА** *ж.* Ільгота, скідка. *Ён пасьвечанне пенсіянера паказаў, зьнішка была пенсіянеру.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. zniżka ’тс’.

**ЗНІМШЧЫК** *м.* Тое, што і з’ёмшчык. *Учора зьнімшчык хадзіў, браў карточкі ўвялічваць, і я заказала.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗНІЦЕЙКУ** *прысл.* Незнарок. *Зніцейку наступіў на касу і парэзаў нагу.* Лісіцы Мін.

**ЗНУШЧАЦЦА** *незак.* Здзекавацца. *Бедныя етыя дзеці, так мачыха знушчалася зь іх.* Дукора Пух.

**ЗНЭРВАВАНЫ** *у знач. прым.* Даведзены да нервознага стану. *Прыіжджаіць ён [доўга часу ні было], прыехаў. Прыехаў знэрваваны.* Залазоўе Віл.

**ЗНЯВІДНЫ** *прым.* Ненавісны. *Такія ж зьнявідныя сьвіня, усё роўна як галодныя, як мукі ня елі, вернуць карыта.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗНЯСЦІ** *зак.* Забраць, украсці. *Кап тваю, думаю, мая ты бапка, душачку чэрці на тым сьвеця насілі, як ты маю курачку зьнясла!* Гранічы Маладз.

**ЗНЯХАЯЦЬ** *зак.* Тое, што і зга́ніць. *Так ужо зьняхаіў, што й напраўду можна падумаць, што яна ніраха.* Рудня Чэрв.

**ЗНЯЦЬ** *зак.* Разабраўшы, зняць з паверхні (звычайна пра пабудовы). *Яго рот такі: адно каб лёхко рабіць і смашно есьці, тое рабіць, што сам хочу. Бачыце, усіх с футара зьнялі, а іх ні зьнялі, сядзелі.* Арцюхі Стаўб.

**ЗНЯЧЭЎКУ** *прысл.* Тое, што і знечаўку. *Зьнячэўку пасьлізнуўся і нагу зламоў.* Цяпякава Уздз.

**ЗОБ** *м. Анат.* Валляк, пашырэнне шчытападобнай залозы пры базедавай хваробе. *Цяпер жа дактары кажуць зоп, дык і мы ўсе кажам, а раней казалі валяк.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗОБІК** *м. Пчал.* Мядовы страўнік пчалы, у якім цукрысты сок перапрацоўваецца, ператвараецца ў мёд і пераносіцца ў вулей. *У зобік пчала набірае сок с кветак, у зобіку яна пераносіць сок у вулей.* Вецярэвічы Пух.

**ЗОДА** *ж.* Сода кальцыніраваная. *Зода вышла, трэба купіць. Зода добра бялізну адмывае.* Ходасы Мядз.

**ЗОЛЗАЧКА** *ж. Памянш.* Тое, што і грызолачка. *Бачыш ты! І ў курэй золзачкі ест, некія золзачкі ля вольля з аднаго боку і з другога.* Савоні Стаўб.

**ЗОНЦІК** *м.* Суквецце парасонавых раслін. *Многа беліньківх зоньцікаў, на той гот будзя сваё насеня.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗОРАЧКІ** *мн. Спец.* Павучкі пры вышыванні. *Яна красіва ўмеіць дзелаць зорачкі.* Ігрушка Круп.

**ЗОРКА** *ж. Бат.* Смалёўка (Silene). *Зоркі на лугу растуць, цьвяты як у смолкі, але крыху драбнейшыя і сьвятлейшыя.* Рудня Чэрв.

**ЗОРЫ** *толькі мн.* ◊ **Аж зоры з вачэй пасыпаліся** — пра адчуванне імгненнага вострага болю. *Гэтак ужо ляснуўся, аж зоры з вачэй пасыпаліся.* Літва Стаўб.

**ЗОЎТРА** *прысл.* Заўтра. *Зоўтра вывезям гной, пасьлязоўтра пасадзім картошку.* Вецярэвічы Пух.

**ЗРАБІЦЬ** *зак.* Начараваць. *У карчме сабраліся мушчыны, сядзелі гаварылі і заспорылі. Адзін кажа, што як зраблю, дык гэты сыр будзе чорны, адраблю, будзе белы.* Саланая Валож. ◊ **Зрабіць па чарцы** — выпіць крыху. *Прыехаў ён да мяне, пасадзілі нас за стол, зрабілі па чарцы, а тады паехалі вянчацца.* Баранцы Віл.

**ЗРАДЗІЦЬ** *зак.* Урадзіць. *Наша картопля зрадзіла, цэлы пограп накапалі.* Цялякава Уздз.

**ЗРАДНІК** *м.* Здраднік. *Былі такія зраднікі, каторыя даносілі паліцаям, дзе астанавіліся краснаармейцы, каторыя не маглі перабраццa цераз фронт.* Загрэбля Уздз.

**ЗРАЗА** *ж. Зб.* Прышчэпачны матэрыял. *Вясной зразы за кару прышчэпліваюць.* Ляшчынск Мядз.

**ЗРАЗАЦЬ** *незак. Ганч.* Здымаць гатовы

посуд з круга. *Пасьля таго як выраб гатовы, ганчар зразае яго дротам. Здымае с круга і ставіць на дошку.* Івянец Валож.

**ЗРА́ЗАЧКУ** *прысл.* Адразу. *Як пачуў ён гэтакаю мову, дык зразачку яго ад мяне адвярнула, у другую ш суботу пашоў да маей сусеткі гарэлку піць.* Пузыры Мядз. *Ня буць там доўга, ідзі зразачку дамоў.* Каменка Уздз.

**ЗРА́ЗІК** *м.* Тое, што і зра́за. *Ушчапіў дрэўкі зразікамі, хай растуць.* Ляшчынск Мядз.

**ЗРА́ЗУ** *прысл.* Спачатку. *Зразу абівалі бялізну пранікамі, гэта цяпер усялякія машыны ды парашкі.* Пудзіцк Пух.

**ЗРАНІ́ЦЬ** *зак.* Нарадзіць дачасна. *У прошлым годзе нам не пашанцавала: карова цялё зраніла.* Бясяды Лаг.

**ЗРАСЦІ́** *зак.* Прарасці, пусціць парасткі. *Трэба прадаць сьвіньня картоплі, а то ж зарас зрастуць ды й выкідай вон.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗРАЧО́К** *м.* Зрэнка. *Як паглядзіш на чорны прадмет, дык зрачок становіцца большым.* Забалоцце Смал.

**ЗРО́СЦІНА** *ж.* З'яднанасць у адно цэлае ў працэсе росту. *Калі ўнізя дрэвы зрасьліся, дык гэта зросьціна, а калі ўгары, то вілаватыя. І ў садзе зросьціны бываюць.* Саланая Валож.

**ЗРУ́ШАНЫ** *дзеепрым.* Падарваны. *Яшчэ з дзяцінства ён зрушаны.* Гілікі Валож.

**ЗРУШНІ́К** *м. Ганч.* Гаршчок гліняны з двума вушкамі. *Куплю зрушнік на сьмітану, у ім добра пераносіць за дьве ручкі.* Акалова Лаг.

**ЗРУ́ШЫЦЬ** *зак.* Падарваць. *Паехаў у лес, паднёў ясеню і зрушыў жывот.* Цялякава Уздз.

**ЗРЭ́БНІНА** *ж.* Грубая кастрывая кудзеля, якая аддзяляецца пры трапанні лёну. *Коўдры патшывалі зрэбнінай, кудзелі накладуць і патшывалі.* Дзераўная Стаўб.

**ЗРЭ́МТАЦЬ** *зак. Экспр.* Зрабіць абы-як. *Зрэмтала, зрэмтала абы-як і пашла.* Чабаі Валож.

**ЗРЭ́НАЧАК** *м. Анат., памянш.* Зрэнка. *У воку зрэначак, калі няма зрэначка, то вока не бачыць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЗУБ** *м.* **1.** Жалезны выступ на грабёнцы. *Ці тужэй нада атосу, ці слапчэй, дык падыміш ці апусьціш на зуб вышай ці ніжай.* Пруды Стаўб. **2.** *Бат.* Спарыння. *Зубы — такія рошкі чорныя аш паывылазяць с коласа.* Рудня Лаг. **3.** *Ткац.* Памылка, перамота. *Ідзі ты ад мяне, ні дуры галавы, а то во загаварылася і зуб наткала.* Бубны Віл. *Прас понаш кінула і зуб наткала.* Княгініна Мядз. ◊ **Зубы зламаць** — пацярпець няўдачу. *Няма, каб пагаварыў адзін на адзін, пагадзіўся, дык ён думае бацьку зваяваць. Не, галубок, зубы зломіш!* Мікалаеўшчына Стаўб. **На галодны зуб** — будучы галодным, хочучы есці. *Каб на галодны зуб, гэтыя скварачкі пашлі п, а як наеўшыся, то шукаюць чаго смашнейшага.* Савоні Стаўб. **Ні ў зуб нагой** — ані нічога (не ведаць, не разумець). *Журнал класны хлопцы скрадуць, усім пяцёрак і чацьвёрак наставяць — і парадак. А тады як прыехала новая настаўніца, ніхто ні ў зуб нагою тое хіміі. Пытаецца пра валентнасць, а мы й ні чулі пра яе.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Палупіць зубы** — пасмяяцца шчыра, ад душы. *Ну хопіць. І так мы ўжо з вамі зубы палупілі! Трэ сена грэсьці.* Пудзіцк Пух. **Па (чыіх-н.) зубах** *што-н.* — адпавядае, падыходзіць (страва, ежа). *А мой стары любіць вермішэлевую кашу, кажыць, што па яга зубах.* Калодкі Віл.

**ЗУ́БАР** *м. Заал.* Зубр. *Зубар, кажуць, такей, як бык — і хвост, і рогі.* Паплавы Бярэз.

**ЗУБАСКА́ЛЬ** *м. Неадабр.* Зубаскал. *Ну й зубаскаль ты бесталковы, памаўчаў бы хоць, пакуль старэйшыя гавораць.* Грабёнка Чэрв.

**ЗУБЕ́Ц** *м.* Тое, што і зуб (у 2 знач.). *Зупцы растуць на каласах жыта, яны чорныя. Аптэкі зупцы зьбіраюць на лікарства.* Ратуцічы Барыс.

**ЗУБІ́ШЧА** *н.* Запаленне дзёсен у дзіцяці. *Пры зубішчы ў дзіцяці на дзёснах як гарошак, такая балючая, што ня можа сіску браць.* Малмыгі Віл.

**ЗУБНІ́ХА** *ж.* Зубны ўрач. *У мяне на кварціры зубніха стаяла летась.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗУБНЫ́** *у знач. наз.* Зубны ўрач. *Раней у нас не было зубнога, а цяпер прыслалі. Дык добра стала.* Гілікі Валож. *Пайду на тым тыдні к зубному лячыць зуп.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗУ́БРА** *ж. Заал.* Зубрыца. *Ну, раз ё зубар, то ё і зубра.* Паплавы Бярэз.

**ЗУБРАНЯ́ТКА** *н. Заал.* Зубраня. *Зубранятка часцей за зубрыхай бегае.* Бясяды Лаг.

**ЗУБРА́ТЫ** *мн.; адз.* **зубраня́** *н.* Зубраняты, дзеці зубра. *У нас гаворуць зубраты на маленькіх зуброў.* Ігрушка Круп.

**ЗУ́БРАЎ** *прым.* Зубрыны. *Зу́бравы рогі ні такія, як у быка. Зубрава сьпіна нейкая выгнутая.* Саланая Валож. *Зубраў сьлет заўсёды адрозьніш: яны стада́мі ходзяць.* Рудня Чэрв.

**ЗУБРО́НАК** *м.* Тое, што і зубраня́тка. *Зубронак ён пад від бычка, я яго гот пяць назат бачыў.* Рудня Чэрв.

**ЗУБРЫ́ХА** *ж.* Тое, што і зу́бра. *Зубра бачыў, а зубрыхі не разгледзяў.* Ляхавічы Дзярж.

**ЗУБРЫ́ЦЬ** *незак.* Вастрыць, насякаючы зуб'е. *Загадзя мужыкі сярпы зубраць, каб жаў ён добра.* Восава Круп. // *перан.* Лаяць, дакараць. *Мужык выпіць любіў, а яна яго зубрыла і зубрыла.* Арцюхі Стаўб.

**ЗУБЧА́К** *м.* Металічная пласцінка з выступамі, выглядам падобная на грэбень, да якой мацуецца атоса. *Зупчакі — жалезныя выступы*

*на аглоблях, на якія адзяецца атоса.* Вязынка Маладз.

**ЗУБЯНЯ́ТЫ** *толькі мн. Экспр.* Зубы. *Бацька дась лепшага зьесьці. А чаго ён дась? Сыра сушонага! Зубяняты маладыя гэтыя, дык павыломліваіш іх. Я сам зламаў скольки зубоў гэтым сырам.* Бакачы Мядз.

**ЗУ́НДАЛЬ** *м. Неадабр.* Маўчун. *Што ў яго ні пыталіся, гэты зундаль ня вымавіў ні слова.* Крокве Лаг.

**ЗУРНУ́ЦЬ** *зак. Экспр.* Штурхнуць. *Яна як зурнула нявестку, дак тая і пакацілася.* Цялякава Уздз.

**ЗУСЁМ** *прысл.* Зусім. *Піла зусём ступілася, цяшка пілаваць.* Хожава Маладз. *У нас мост зусём благі, ніхто яго не правя.* Курдуны Валож.

**ЗШАТНУ́ЦЦА** *зак.* Адхіснуцца. *Яна як сунула ёй у пацёмках руку да вачэй, тая аш шшатнулася.* Кукалеўка Чэрв.

**ЗЫ́БАЎКА** *ж.* **1.** Зыбка. *Пат траму паткладваецца выгінашчае дзерава, за дзерава завязваюцца вяроўкі, да якіх прычэпліваецца зыбаўка.* Бясяды Лаг. *Падвесіш зыбаўку на дрэве і пачынаеш жаць.* Юшкаўка Віл. **2.** Зыбкая мясціна. *Як станіш на балоце, дык зыбаецца й зыбаецца, во й зыбаўка.* Бясяды Лаг.

**ЗЫ́БАЦЬ** *незак.* Гушкаць, калыхаць. *Бывала, сядзіш, кудзелю прадзеш і дзіця зыбаеш.* Сакаўшчына Валож.

**ЗЫ́БКАЦЦА** *незак.* Калыхацца. *Вунь там калыханка, мой унучак усё зыпкаўся, зыпкаўся, пакуль не атарвалася вяроўка.* Баяры Маладз.

**ЗЫГ** *м.* Тое, што і з д р о к. *Бач ты, зыгі як чорная хмара нат каровамі лётаюць.* Вішнева Валож.

**ЗЫГАВА́ЦЬ** *гл.* зігава́ць

**ЗЫГАНУ́ЦЬ** *зак.* Гізануць. *Карова такая сытая была! Я яе за повад, а яна на сьнягу як зыганула, волакам вёрст дванаццаць цягнула мяне. Чуць апрытомняў пасьля гэтага.* Бяларучы Лаг.

**ЗЫ́ГАРАДЗЬ** *ж.* Тое, што і в ы́ г а р а д з ь. *Сьвіньня́ зыгарадь паламала.* Бытча Барыс.

**ЗЫ́ГАРАДКА** і **ЗЫГАРО́ДКА** *ж.* Тое, што і в ы́ г а р а д з ь. *Зімой жа ў хляўку увесь час, а летам дык у зыгаратку пусьцім — і харашы сьвіньні за лета вырастуць.* Баяры Маладз. *Зыгаратку зламала і ўцякла.* Жызнава Віл.

**ЗЫК** *м.* Тое, што і г і з. *Як зык, так я й плачу, коній ні магу ўтрымаць, патаму што троя коній круцяцца, а сіла малая.* Забар'е Віл. *Пойдзіш сахой пахаць, быкі гэтыя ня йдуць, хоць ім ніевядома што, а як станя зык, палятуць куды толькі яны ўздумаюць.* Засценак Лаг. *Зык балюча кусае.* Паплавы Бярэз.

**ЗЫКАВА́ЦЬ** *незак.* Тое, што і з і г а в а́ ц ь. *Каровы як пачалі зыкаваць, дык хоць ты плач.* Ухвала Круп. *Каровы ў сьпякотны дзень зыкуюць, пазадзіраюць хвасты да к рэцы.* Рудня Чэрв.

**ЗЫКАЛА** *ж. Неадабр.* Гаваруха. *Во зыкала ўдалася! І ад каго толькі яна ўсё ведае, і ўсё разносіць па сяле.* Вішнева Валож.

**ЗЫ́КАЦЦА** *незак.* Тое, што і з і г а в а́ ц ь. *Сяганьня скаціна зыкалася ў полі, што нельга было ўтрымаць.* Малмыгі Віл.

**ЗЫКУ́Н** *м. Неадабр.* Крыкун, гарлапан. *Гэта такі зыкун, няма на яго ўпынку.* Аляхновічы Маладз.

**ЗЫМСІ́К** *м.* Карніз у мураваным збудаванні. *Зымсік знаходзіцца не на самым версе збудовы, а ніжэй выступам. Стольні галубоў насела на гэты зымсік.* Краснае Маладз.

**ЗЫР**[1] *м.* Халодны, пранізлівы вецер. *Ну і зыр сягоньня, што хоць на двор ня выхоць.* Аляхновічы Маладз. *У тую ноч моцны зыр быў, памерзьлі агуркі на градзе.* Зазерка Пух.

**ЗЫР**[2] *выкл.* Ужываецца для абазначэння імгненнага дзеяння, хуткага погляду. *Яна толькі неяк зачырвенілася і на яга коса зыр!* Язні Віл.

**ЗЫ́РКАЦЬ** *незак.* Выглядаць, паглядаць. *Яна як у хату зойдзіцца, дык па вуглах толькі й зыркаіць.* Язні Віл.

**ЗЫ́РКІ** *прым.* Рухавы. *Які зыркі чалавек гэты Васіль, так усё хутка робіць!* Вецярэвічы Пух.

**ЗЫ́РЫЦЬ** *незак. Асудж.* Углядацца пільна, бессаромна. *Чаго ты так зырыш? Ці даўно бачыў?* Аляхновічы Маладз.

**ЗЫСКА́ЦЬ** *зак.* Спагнаць. *У мяне тут адзін як пазычыў, дык ледзьве гэтыя грошы праз суд зыскалі.* Паплавы Бярэз.

**ЗЫ́ЧАНЫ** *у знач. наз.* Суджаны. *Сьмяюся свайму Васілю, што вунь яго зычаная пашла.* Чабаі Валож.

**ЗЫЧЭ́ННЕ** *н.* Пажаданне. *Такога зычэння мне не патрэбна.* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. życzenie 'тс'.

**ЗЭ́ВАЛ** *м.* Зазубіна, шчарбіна (ад тачэння). *Ну і натачыў тапор, адны зэвалы.* Пруды Стаўб.

**ЗЭ́ДАЛ, ЗЭ́ДАЛЬ** *м.* Услон. *А ў хаця быў стол доўгі такі, лавы каля сьцен, каля стала зэдлі стаялі.* Вязынка Маладз. *Садзіся во на зэдаль.* Сакаўшчына Валож. *Зэдаль у гэту хату вялікі, зоймя паўхаты.* Дукора Пух. — *Чаго ён плача?* — *Бо зваліўся з зэдла.* Забрэжжа Валож. *Прышла, прывіталася, прысела на зэдаль, пра здароўя пытаюся, а сама ўсё на печ паглядаю.* Гранічы Маладз.; *параўн.* польск. zydel 'тс'.

**ЗЭ́ДЛІК** *м. Памянш.* да зэ́даль. *Зэдлік пастаўма ля печы, добра будзя зімою на печ узлазіць.* Дукора Пух.

**ЗЭС** *м.* Пранізлівы холад. *Такі зэс на дварэ, што й адубець можна, а ты ў чым ходзіш?* Будслаў Мядз.

12. Зак. 5795.

**ЗЭ́ШЫТ** *м.* Сшытак. *Дайця зэшытаў рахункових для трэцяга аддзялу.* Забрэжжа Валож. *Во, чуць ні забылася. Валік прасіў пяць зэшытаў у клетачку.* Старая Вёска Мядз.; *параўн.* польск. zeszyt 'тс'.

**ЗЮ́ЛЕНЬКІ** *мн. Ласк.* Гусяняткі. *А зюленькі ў гэтым годзе няўдалыя, можа, затое што холадна.* Завішына Лаг.

**ЗЮЛЯНЯ́ТЫ** *мн.* Гусяняты. *Ідзі зюлянят паглядзі.* Завішына Лаг.

**ЗЯ́БРА** *ж.* Зябліва. *Холадна стала, зябра стыніць.* Вішнева Валож.

**ЗЯВА́ЦЬ** *незак. Экспр.* Углядацца. *Ну чаго ты зяваеш? Падай лепш зэдаль людзям ды сам сядай.* Восава Мядз.

**ЗЯЗЮ́ЛЬКІ** *толькі мн. Бат.* Дрыжнік (Briza), слёзкі. *Як раней, дык зязюлькі сушаць, потым завараюць і гэтым наварам мыюць галаву. А цяпер усё па-новаму, нас, старых, маладыя ня слухаюць.* Шутавічы Смарг.

**ЗЯКРА́ТЫ** *прым.* Лупаты. *Такое дзіцё зякратае, вочы па кулаку.* Баяры Маладз.

**ЗЯЛЁЗА** *н.* Жалеза. *Ета есьцяка дзераўляны дах, тады шчэ зялеза ня продалі, то й пастроілі зь дзерава.* Пудзіцк Пух. // *перан. Не падымай адна, бо вельмі цяшка, як зялеза ўсядно напхана.* Кляцішча Стаўб.

**ЗЯЛЁЗНІЦА** *ж.* Тое, што і г р а б ё л к а. *Маці, бывала, посьля зазімку, падрабіўшыся на хазяйсьцьві, здыміць з запечку посьцілку зь лёнам, унясець зялезьніцу і чэшыць. А тады й я памагаць стала. Але пакуль навучылася, дык усё рукі абдзірала на цьвякі зялезьніцы. Лён густы, возьміш пасму, на руку накруціш ды па зялезьніцы хвастом лёну, а цьвякі вострыя, таркучыя — усё, бывала, рукі крывавіла аб зялезьніцу.* Папоўка Мядз.

**ЗЯЛЁЗНЫ** *прым.* **1.** Жалезны. *А тады чэшым гэты лён на драўляную шчэтку спачатку, а посьля на зялезнаю, у якую панагнаны цьвякі.* Рубяжэвічы Стаўб. **2.** Пратэзны. *Старая ўжо. Зубоў сваіх няма, а зялезных не хачу ўстаўляць.* Зазерка Пух. ◊ **Зялезны ход** — ніжняя хадавая металічная частка воза. *Даўней хто спраўней жыў, у таго і луччы конь быў і луччыя калёсы. Луччыя калёсы зваліся зялезны хот. А ў беннага — дрэнныя калёсы і зваліся дзеравянны хот.* Восава Круп.

**ЗЯЛЕ́НІВА** *н.* Трава як корм. *Я ўжэ зяленіва сьвіням назьбірала, трэба толькі скрышыць.* Цялякава Уздз.

**ЗЯЛЁПУХА** *ж.* Недаспелая садавіна. *Наеўся гэтае зялепухі, дык жыватом цэлы вечар качаецца.* Ляхавічы Дзярж.

**З'ЯЛЧЭ́ЦЬ** *зак.* Згоркнуць. *Сала так з'ялчэла, што выкінуць прыдзецца.* Ляшчынск Мядз. *Сала з'ялчэла, зжоўкла, у рот ні ўзяць.* Паплавы Бярэз.

**ЗЯЛЯ́ЗКА** *н.* Прас. *Наклаў вугольля ў зялязка ды й пагладзіў штаны. Сам можаш, не прасі!* Будслаў Мядз.; *параўн.* польск. żelazko 'тс'.

**ЗЯ́МЛЯ** *ж.* ◊ **Колам яму зямля** — ужываецца як праклён подламу, шкоднаму чалавеку. *Выпілі яны па чарцы, дык гэты стары чорт, каб яму на тым сьвеце зямля колам, ізноў ка мне: „Сынок, міленькі, — кажыць, — гані яе вон, мы табе другую найдзём".* Язні Віл. **Як толькі зямля носіць** — пра подлага, шкоднага чалавека. *Адлесься ад мяне! Як цябе зямля носіць! Каб я была зямля, я б перад такімі, як ты, разверзлася і паглынула п, каб і бурбалкі ні пашлі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЗЯМЛЯ́НКА** *ж.* Пограб. *Згніла ўжо гэта зямлянка, трэба новую рабіць, а ў дзеда і сілы няма.* Зазерка Пух. *Дастань картоплі з зямлянкі.* Млечкі Віл.

**ЗЯНДЭ́ЛАК** *м.* Тое, што і з э́ д л і к. *А во на зяндэлак сядзьце.* Язні Віл.

**ЗЯ́ПА** *ж. Груб.* **1.** Рот чалавека. *Ні разяўляй сваю зяпу, столь абваліцца! Вот бох голас даў!* Раўчак Пух. **2.** Пашча звера. *Укусіў бы сабака, каб ня кінуў у зяпу кус хлеба.* Сырмеж Мядз.

**ЗЯ́ПАЦЬ** *незак. Неадабр.* Гаварыць многа. *Досыць зяпаць, ідзі во работу рабіць.* Сырмеж Мядз.

**ЗЯРЭ́ДЗІЦЬ** *незак.* Закладаць траву, бульбянік у азярод для сушкі. *Бульбянік зярэдзілі яшчэ ў канцы жніўня.* Заазер'е Віл.

**ЗЯРНЁ, ЗЯРНО́** *н.* Зерне, каліва. *Зярно пакацілася пат падлогу.* Вецярэвічы Пух. *Нешта малоя, з макава зярнё.* Ляшчынск Мядз.

**ЗЯРО́Д** *м.* Азярод, пярэплат. *Тады вымаіш аснову з лугу, кладзеш на тапчан, б'еш пранікам, растрасаіш і нясеш на зяроды, вешаіш там, кап сохла гэта пража.* Белае Лаг. *Гэта восянь сухая была, дык картаплянік і на полі высах, не прышлося яго на зярот цягнуць.* Кухцічы Уздз.

**ЗЯРО́К** *м.* Тое, што і з р э́ н а ч а к. *Зярок — гэта самая чорная точачка ў воку.* Рудня Чэрв.

# І

**ІВАНЁЦ** *м. Бат.* Купалка (Erigeron). *Кветкі такія ў нас называюць іванец. Іванец рвалі на Йвана Купала і ставілі ў кут.* Паплавы Бярэз.

**ІВА́Н КУПА́ЛА** *м. Абрад.* Старажытнае свята летняга сонцастаяння ва ўсходніх славян, якое прыпадае на ноч з 23 на 24 чэрвеня ст. ст. *На Йвана Купалу, кажуць, сонца купаяцца.* Дукора Пух. *Іван Купала хутка будзя.* Вецярэвічы Пух. *На Йвана Купалу дзеўкі вянкі ўюць, на ваду пускаюць.* Мікалаеўшчына Стаўб. *На Йвана Купалу паздраўлялі ўсіх Іванаў.* Ляхавічы Дзярж.

**ІВА́Н ПОСНЫ** *м.* Тое, што і і в а н е́ ц. *Іван посны — кветка, якую рвалі і ставілі ў кут, затыкалі на ікону і глядзелі, ці распусьціцца.* Ігрушка Круп.

**ІВА́Н-ТРАВА́** *ж.* Тое, што і і в а н е́ ц. *Рвалі іван-траву і ставілі пад абаразамі. І есьлі разаўюцца ўсе за ноч — усе будуць жывы. Так гадалі.* Забалоцце Смал.

**ІГЛІ́ЦА** *ж. Рыб.* Кручок для пляцення сеткі. *І нада ігліцу, каб зьвязаць сетку. Ігліцу выражыць толькі добры майстар, у каго ўмелыя рукі, — гэта вельмі тонкая работа, асобянна шпянёк. Без ігліцы рыбак як без рук, ніводная сетка ні зьвяжыцца.* Мікольцы Мядз. *Пойдзім з бацькам да возіра, возьмім с сабой сеткі і правяраім, ці ёсь дзюркі. Як ёсь, бацька заробіць ігліцай так, што не паткапаісься.* Чараўкі Мядз.

**ІГО́ЛКА** *ж.* ◊ **З іголкі** — усё новае, толькі пашытае. *Нас абучылі, далі новую адзежу. С ыголкі, з нох да галавы нас у новая ўбралі ўбраньня.* Кузьмічы Мядз.

**ІГРА́Ч** *м. Экспр.* Музыкант. *Бывала, кожны хлопец умеў іграць, у кожнай хаце свой іграч быў.* Рабунь Віл.

**ІГРУ́ШЫНА** *ж.* Грушавае дрэва. *Казала Ліда, аддам, аддам і яблыну і ігрушыну, а тады як ад'іжджала, нічога ні сказала.* Халмоўка Барыс.

**ІГРЭ́Ц** *м.* Тое, што і і г р а́ ч. *Ён і жнец, ён і шавец, і на дудзе ігрэц — усё ў яго атрымліваецца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ІЖА́ЎКА** і **ІЖЭ́ЎКА** *ж.* Ружжо іжэўскай маркі. *Іжаўка — гэта ружжо іжаўскага завода.* Рудня Лаг. *Мая іжаўка вот добрая стрэльба.* Вялікая Вуса Уздз. *Іжаўка — лепшая стрэльба лічыцца.* Вішнева Валож. *Іжэўка ёсьцяка ў майго дзяцькі, што жыве ў Турцах.* Дукора Пух. *Я слабы ахотнік, але іжэўку маю, калі варон спугнуць.* Крывічы Мядз. *Усякія стрэльбы ёсь, я сам страчаў іжэўкі, тулкі.* Забалоцце Смал.

**ІЗ (ІС)** *прыназ. з тв.* **1.** Тое, што і з (у 1 знач.). *Із юшкі кілбасу ў нас робяць рэтка.* Саланая Валож. **2.** Спалучэнне з прыназоўнікам із выражае адносіны сумеснасці. — *Куды ты езьдзіла ўчора? Я відзіла, ты іс Паўлам с антобуса злазілі ўдзень.* Халмоўка Барыс. **3.** Ужываецца ў складзе ўстойлівых выразаў. *Пярэйдуць [валачобнікі] да паўвёскі ды яёк назьбіраюць кош іс коптарам за песьні.* Мечаі Віл.

**ІЗБА́** *ж.* Бібліятэка, хата-чытальня. *Ізба стаіць у цэнтру вёскі, новая, харошая. Там кніг многа, журналы палістаць можна, газеты сьвежыя пачытаць.* Бубны Віл.

**ІЗБА́Ч** *м.* Сельскі культработнік, які кіруе работай хаты-чытальні. *Наша Нінка ізбачом рабіла.* Вязынка Маладз.

**ІЗВЕ́СЦЕ** *н.* Тое, што і з в я ш ч э́ н н е. *Як прышло мне ізьвесьце, што муш пагіп, дык я ні магла паверыць.* Ляхавічы Дзярж.; *параўн.* рус. известие 'тс'.

**ІЗВІНІ́ЦЬ** *зак.* Прабачыць, не лічыць за віну. *Ізьвіні, братка, калі што ня так, не даглядзяў, значыць.* Нізок Уздз. *Ты ўжо ізьвіні мне, што я позна прынесла твае вёдры: сустрэлася з брыгадзірам.* Бытча Барыс. *Ізьвініця мяне, мне няма як больш заставацца: карова ня доена і дзевачкі чакаюць.* Гілікі Валож.; *параўн.* рус. извините 'тс'.

**ІЗВЯСЦІ́ЦЬ** *зак.* Паведаміць. *А мой мне нават ізьвясціць ня мох, не пасьпеў.* Хожава Маладз. *Ён вам ізьвясьціў.* Паплавы Бярэз.; *параўн.* рус. известить 'тс'.

**ІЗГАРО́ДА** *ж.* Плот, агароджа. *Гарадзіць нада ізгароду, бо сьвіньні Ганьніны ўсе мае лешкі перакапалі.* Ігрушка Круп.

**ІЗГУБІ́ЦЦА** *зак.* Згубіцца. *У гэтай суматосе ізгубілася і паліто і плацьце.* Волма Чэрв.

**ІЗДА́ЦЬ** *зак.* Выдаць, апублікаваць. *Іздалі прыкас ужэ салдат распускаць, ёсьць у газетах.* Нізок Уздз.; *параўн.* рус. издать 'тс'.

**ІЗЗЕ́СЦІ** *зак.* З'есці. *А мы ш галонныя былі, напужаныя. Но ў парцізанаў тожа ні было хлеба, але падзяліліся апошнім. Адзін скарынку даў мне. Мы ізьзелі гэты хлеп.* Новікі Мядз.

**ІЗМЕ́НА** *ж.* Парушэнне вернасці. *Такой цяшкай ізьмены я не магла перанесьці.* Забалоцце Смал. *Каторы жаніх непастаянны, дзевачку яго чакая ізьмена.* Бытча Барыс.; *параўн.* рус. измена 'тс'.

**ІЗМЕНЬНІ́К** *м.* Той, хто парушыў вернасць каханню. *Навучы, матулька, як мне жыць, як раўнадушна глядзець у вочы ізьменьніку свайму.* Нізок Уздз.

**ІЗМЭ́НЧЫЦЬ** *зак.* Замучыць. *Так яго ізмэнчылі немцы, амаль да сьмерці.* Рудня Валож.; *параўн.* польск. zmęczyć 'тс'.

**ІЗМЯНІ́ЦЬ** *зак.* Парушыць вернасць. *Ізьмяніла яна яму перат самым вясельлім, вышла за другога.* Ляшчынск Мядз. *Ён ізьмяніў мне і паехаў да другой.* Забалоцце Смал.

**ІЗНО́ЎКА** *прысл.* Ізноў. *А рана трэба ізноўка да досьвітку ўставаць, яшчэ да ўсходу слонца сьвіньням у жорнах намалоць на цэл дзень.* Старына Мядз.

**ІЗРУ́Б** *м.* Зруб. *Прыходзім у хату. А там каля тае хаты стаяць два ізрубы. Пытаюся, ці можа ізруб прадаецца. Прадаецца. Ну й слова по славу, тут ужо й чарка на стале.* Даўгінава Віл.

**ІЗРЭ́Б'Е** *н.* Палатно з грубай, кастрывай кудзелі. *З ізрэб'я шыям сяньнікі, мяшкі, а больш нічога.* Забалоцце Смал.

**ІЗЫСЦІ́** *зак.* Знікнуць, прапасці. *Стаіць у белым плацьці і хусцы баба. Я кажу: „Таццяна, гэта ты?" Тры разы паўтарыла, а яна маўчыць. Тады я: „Сатана, ізыдзі!"* Саланая Валож.

**ІК** *прыназ. з дав.* **1.** Ужываецца пры абазначэнні кірунку руху. **Да.** *Ідуць яны ік нам.* Цялякава Уздз. **2.** *злучн. умовы.* **Як.** *Ік заўтра дошч пойдзя, то мая паестка дома будзя.* Вецярэвічы Пух.

**ІКАЎКА, ГІКАЎКА** *ж.* Іканне. *Ікаўка бывая ў дзяцей, але бывая і ў дарослых. Гэта з жалуткам нешта зьвязана, або калі холадна, тады ікаўка.* Гілікі Валож. *Некаторыя кажуць, як ікаўка, дык нехта ўспамінае.* Малмыгі Віл. *Каб ікаўка перастала, трэба вады піць.* Вецярэвічы Пух. *Калі прастыня дзяцёнак, то ікаўка.* Бытча Барыс. *Мяне ікаўка ўзяла.* Нізок Уздз. *Ці ня толькі мяне мама ўспамінае, цэлы дзень гікаўка.* Саланая Валож.

**ІЛЛЯ́, ІЛЬЯ́** *м., ж.* і *н. Рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 20 ліпеня ст. ст. *Да Ільлі купаюцца, а посьля Ільлі ўжо не.* Бытча Барыс. *Пасьля Ільлі ўжо ня купаліся ў рэццы: вада становіцца халодная.* Забалоцце Смал. ∇ **Прышоў Пятрок — апаў лісток, прышла Ільля — апала два.** Нізок Уздз. **Прышла Ільля — нарабіла гнільля.** Хожава Маладз. **Прышла Ільля — уварвала дня.** Ляхавічы Дзярж. **Прышоў Ільля — нарабіў гнільля.** Ляшчынск Мядз. **Ільля наробіць гнільля.** Рудня Чэрв. **На Ільлю перапечку налью, а прыдзе Спажа — ужо хлеба дзяжа.** Бяларучы Лаг. **Ільля поўну печ хлеба наліла.** Вялікая Вуса Уздз. **Прышоў Ільля — прынёс гнільля.** Мікалаеўшчына Стаўб. **Прыдзець Пятрок — ападзець лісток, прыдзець Ілья — ападзець два, прыдзець Прачыста — усё будзіць чыста.** Крывічы Мядз. **Прышло Ілья — чалавек пад'есць усякага сыр'я.** Рудня Лаг.

**ІЛЛЯ́К** *м.* Лівень. *Яшчэ ні разу ня было такога ільляку за маю памяць.* Кухцічы Уздз.

**ІЛЬНІ́ШЧА** *н.* Трава, што расьце па льнянішчы. *Лён вырвалі, засталося толькі ільнішча скасіць.* Рудня Валож.

**ІЛЬНЯ́ННЕ** *н.* Тое, што і ільнішча. *Хто мужыка ў доме мае, то добра сь сенам. А як нет мужыка, аржоньня якога, ільняньня накосіш, атавы дзе якой укосіш — во й весь сенакос мой.* Бяларучы Лаг.

**ІЛЯ́НІШЧА** *н.* Поле, дзе рос лён. *Лён выбіралі, пастух кароў гоніць на ілянішча.* Папарнае Круп.

**ІМБРЫ́ЧАК** *м.* Чайнік. *Вазьмі купкі з буфета і налій дзяўчатам чаю з імбрычка, ён ужо закіпеў.* Літва Стаўб. *Чай заварваюць у імбрычку.* Паплавы Бярэз.; *параўн.* польск. imbryk 'чайнік, кафейнік'.

**ІМЕ́ННЕ** *н.* **1.** Імя. — *Якоя ш іменьня вы далі свайму сыну? — пытаюся. Сказалі. Але йменьня нейкая няскладная, я туд жа й забылася.* Завішына Лаг. **2.** Назва. *Два йменьні — Зарэчча і Кацялі, дзве назвы ў сяла.* Завішына Лаг.

**ІМКАНУ́ЦЬ** *зак. Экспр.* Забраць, прысвоіць сабе. *Як сястра памерла, яна ад яе многа грошай імканула.* Ігрушка Круп.

**І́МПАТ** *м.* **1.** Пах. *Аткуль гэта такі імпат, што аш галава закружылася?* Русакі Стаўб. *Ландышы такі прыятны імпат маюць.* Падзернае Стаўб. **2.** *перан.* Адзенне, пасцельныя рэчы. *Гэты імпат, што застаўся пасля хворай, трэба спаліць увесь.* Узгурск Чэрв.; *параўн.* польск. impet 'парывістасць, імклівасць, націск'.

**ІМЧА́ЦЬ** *незак.* Несці хутка. *Як вышла с парылаўкі, давай млець. „Вой, — кажа, — нідобра, вой, нідобра, імчы мне чаго, якой вады".* Сівіца Валож.

**ІМША́РЫНА** *ж.* Нізкае месца ў лесе. *У нас імшарынай завуць месца, дзе расьце адзін алешнік.* Рудня Чэрв.

**ІМШАРЭ́ЦЬ** *незак.* Шарэць. *Якія там грыбы? Што яны назьбіраюць?! Пашлі ў лес, як імшарэла.* Вялікая Вуса Уздз.

**ІМШЫ́ЦЬ** *незак.* Шукаць. *Ня імшыця мяне, бо ўсё роўна дарэмня, ні знойдзяця.* Вялікая Вуса Уздз.

**ІНА́ЧАШАЙ** *прысл.* Інакш, па-другому. *У Зарэччы іначашай гавораць, чым у нас: другі раз і не зразумееш, якое гэта слова.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ІНБА́РЧЫК** *м.* Кладоўка. *Чаго толькі ні было ў інбарчыку! Нашто гэта яна ўсё хавала?* Чэрвень Чэрв.

**ІНДЫЧА́ЦІНА** *ж.* Індычае мяса. *У нас індычаціну цяпер усе ядуць, разводзяць індыкоў.* Савоні Стаўб.

**ІННЫ** *займ.* Іншы. *Інны рас і добра зробіць, як пастараецца.* Зазерка Пух. *Я інны рас схаджу да яе, пераведаю.* Дукора Пух. *Інны рас есьці захочацца, кідаю ўсю работу, іду шукаю перакусіць чаго.* Дрычын Пух.

**ІНТАРАСАВА́ЦЦА, ІНЦЕРАСАВА́ЦЦА** *незак.* Цікавіцца. *Сынок малы, але ўсім інтарасуецца.* Хожава Маладз. *Хаця і старая, але інтарасуюся ўсім.* Забалоцце Смал. *Ёсь шмат цікавых кніжак, фільмы ёсь цікавыя, дык чаму ш ты ня чытаіш, ні глядзіш, ні іньцярасуісься?* Бытча Барыс. *Я стары чалавек, нічым не іньцярасуюся.* Нізок Уздз.

**ІНТАРЭ́С** і **ІНТЭ́РАС** *м.* **1.** Цікавасць. *О, у яго быў інтарэс да гісторыі!* Гілікі Валож. *Наша меньшая мая інтарэс да ўсяго.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Карысць, выгада. *А што мне за інтарэс тут сядзець з вамі!* Забалоцце Смал. **3.** Справа. *Маю да вас адзін інтэрас.* Ляшчынск Мядз. *Няма ў мяне зь ім агульных інтарэсаў.* Хожава Маладз.

**ІНЬ** *ж.* і *м.* Іней. *Інь пала на дрэвы, будзя ўражайны гот.* Паплавы Бярэз. *Інь пакрыў дрэвы.* Саланая Валож. *На дзераве інь, аж лапкі пагнуліся.* Бясяды Лаг.

**ІРВА́ЦЬ** *незак., безас.* Ванітаваць. *Пры вялікай тэмпературы бывае ірве хворага.* Заба-

лоцце Смал. *Нешта зьела такоя, што ірве ўвесь дзень.* Саланая Валож. *Нешта тошніць, гатова іраваць.* Дукора Пух.

**ІРВОТА, РВОТА** *ж.* і **ІРВОТЫ** *мн.* Ваніты. *Майго малога ўночы мучыла ірвота.* Бытча Барыс. *Ірвота бывае пры атраўленьні.* Забалоцце Смал. *Ірвоты началіся, можа палехчаець.* Ігрушка Круп. *У мяне нешта рвота аткрылася, нешта зьела нядобрая.* Вецярэвічы Пух.

**ІРДЗЕЦЦА** *незак.* Злавацца, супраціўляцца. *Яна стала гэтых выпіхаць, а яны ірдзеліся, ня хацелі ісьці.* Дукора Пух.

**ІРЗАЦЬ** *незак.* **1.** Адзывацца ржаннем. *Так ужо конь ірзаў, так ірзаў!* Забалоцце Смал. **2.** *перан.* Смяяцца гучна, рагатаць. *Німа чаго столькі ірзаць, бярыся за кнішку, пачытай хоць капільку!* Пярэжыр Пух.

**ІСК** *м. Пчал.* Пчаліная разведка, пошукавы палёт пчол. *Перад раеньням пчолы ідуць на іск.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Дзьве сям'і ня могуць быць у вульлі, яны боруюцца катора катору выгане. Тады матка пакідае вулей, калі іск нойдзе добрае месца.* Бяларучы Лаг.

**ІСКАРКА** *ж. Бат.* Гваздзік (Dianthus). *На іскарках пчолы мёд бяруць. Іскаркаў другі рас называюць гвазьдзічкамі.* Хожава Маладз.

**ІСКАЦЬ** *незак.* Шукаць. — *Дзеці, што вы там ішчаця?* Кукалеўка Чэрв. *Найду не найду, а пайду іскаць, нада паіскаць.* Забалоцце Смал.

**ІСКРУТАК** *м.* Скрутак. *Жонка іскрутак здору дала.* Цялякава Уздз.

**ІСКУРОЖЫЦЬ** *зак.* Паламаць. *Іскурожыў ровар, цяпер пяшком хадзі.* Літва Стаўб. *Дровы везьлі, ехалі з гары. Дровы з прыцэпа стукнулі ў кабіну — увесь трактар іскурожыла.* Хатава Стаўб.

**ІСПАС** *м. Рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 6.VIII ст. ст. *На іспас яблыкі ўжо гатовы.* Нізок Уздз. ∇ **Прыйшоў іспас — пашло лета ад нас. Прыйшоў іспас — усяму час.** Дукора Пух. **Прыйшоў іспас — лета ад нас.** Рудня Чэрв.

**ІСПАСАЎКА** *ж.* Пара на зыходзе лета (з 1 па 16 жніўня ст. ст.). *На іспасаўку пасьцілі некалі.* Рудня Чэрв. *Не агледзяліся, як іспасаўка прышла.* Ляхавічы Дзярж. ∇ **Іспасаўка — ластаўка, пятроўка — галадоўка.** Нізок Уздз.

**ІСПОТКІ** *мн.* Рукавіцы сваёй работы. *Купленыя — гэта рукавічкі, пальчаткі, а сваёй работы — іспоткі. Я прышла прасіць той іголкі, шаршаткі, іспоткі пачыніць.* Ігрушка Круп.

**ІСПОДНІК** *м.* Жаночая кашуля з белага паркалю. *Ганна дык заўсёды ісподнік с карункамі шыя.* Мацкі Мядз.

**ІСПОДНІКІ** *толькі мн.* Мужчынская споднняя бялізна. *А мужыком тожа ісподнікі зь бялёнага палатна шылі, як і бабам, толькі на каўнерык бралі крамнага палатна, штоб ня цёрся на шыі.* Задор'е Лаг.

**ІСПОЛЬЗУВАЦЬ** *зак.* Выкарыстаць рацыянальна. *Трэба якую адзёжыну купіць, але кап толькі яе іспользуваць, недарагую.* Забалоцце Смал. *Ня ўмееш ты ўрэмя ўмела іспользуваць, затым і гаруяш.* Ляхавічы Дзярж.; *параўн.* рус. использовать 'тс'.

**ІСПУГ, СПУГ** *м.* Перапуд, спалох. *Яму ад іспугу так стала.* Рудня Чэрв. *Дзяцёнак мой спугаўсь, са спугу схватваіцца ноччы.* Бытча Барыс. *Ад іспугу і памерці можна.* Бясяды Лаг.; *параўн.* рус. испуг 'тс'.

**ІСПЫТВАЦЬ** *незак.* **1.** Выпрабоўваць з мэтай высвятлення прыгоднасці. *Нада яго іспытаць, які ён.* Паплавы Бярэз. **2.** Правяраць. *Ня іспытвай майго цярпеньня.* Кукалеўка Чэрв.

**ІССУШЫЦЬ** *зак.* Высушыць. *Тыя баравікі я іссушыла.* Дукора Пух.

**ІСТРУГА** *ж. Спец.* Струг. *Іструга дзеравянная, ею сьпіцы стругаюць.* Цялякава Уздз.

**ІСЦІ** *незак.* ◊ **Ісці пад вянец** — вянчацца, уступаючы ў шлюб. *Раней, як пад вянец ісьці, дык трэба было і наткаць, і напрасьці, і панашываць усяго.* Завішына Лаг. **Ісці (прысці) на прымы** — стаць прымаком. *Я табе скажу, Шура, трэба да Зосі на прымы йсьці і будзім жыць с табой побач. Ён кажыць: „Не, я думаю, каб да Вандзі прысьці на прымы".* Залазоўе Віл. **Ісці ў прочкі** — сыходзіць з дому, не ўжыўшыся з мужам або жонкай. *Троя дзяцей, і ўжо ў сілах ні было мне. Сабрала дзяцей, вузялок і пайшла я ў прочкі.* Аляхновічы Маладз. **Не ісці на памяць** — не ўспамінацца. *Прышлі: „Бабушка, мы да вас прышлі, можа вы даўнейшыя песьні нам сьпеяце?" Кажу, пазабывалася. Зразу нешта ня йдуць на памяць тыя песні.* Калініна Дзярж. **Дамоў ісці** — паміраць. *Пережыў цяшкае, дажыў да лёхкага, але няма ўжо калі жыць: дамоў трэба йсьці.* Цялякава Уздз.

**ІСЦЬ** *незак.* Тое, што і ісці. *Падумала, параілася з раднёй ды й пашла [замуж]. Бо нада было ісьць, яшчэ тры сястры старэйшыя ні зайшоўшы былі, а бацька хацеў як найскарэй выперці замуш.* Пузыры Мядз.

**ІЎКІ** *толькі мн.* Саначкі са спінкай. *Дзеці каталіся на іўках, штурхаліся на горцы.* Палачаны Маладз.

**ІХНЫ, ІХІ** *займ.* Іхні. *Ну, бацькі іхныя [вугры] ні варочаюцца сюды, а малёк сюда йдзець [ну, вядома ж, ня ўвесь ён прыдзёць сюда!]* Мядзел Мядз. *Іхна машына „Масквіч".* Дукора Пух. *Іха хата ад нас прас тры двары.* Вялікая Вуса Уздз. *Іхі хлопяц вельма харошы.* Пудзіцк Пух

**ІШПЕКТ** *м.* Парнік. *Гэтыя бураке, мусіць, с ішпектаў.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. inspekt 'тс'.

**ІЮНЬ** *м.* Чэрвень. *Было гэта ў першыя дні іюня.* Задубенне Віл.; *параўн.* рус. июнь 'тс'.

# К

**КАБ** *часц.* Ужываецца пры выказванні праклёну, нядобразычлівага пажадання. *Іду дамоў, а сьлёзы вочы туманам засьцілаюць. Кап тваю, думаю, мая ты бапка, душачку чэрці на тым сьвеця насілі, як ты маю курачку зьнясла. Кап ты, думаю, ні спажыла таго рубля, што азяла за яе, каб яны табе да капеечкі на лякарства пашлі.* Гранічы Маладз.

**КАБА́Т** *м.* Душагрэйка, цёплая камізэлька на ваце. *Каб ні холанна было, трэба кабат падніс адзяваць.* Сакольшчына Уздз. *Ты здагадалася кабат апрануць, а я зусім замерзла.* Рубяжэвічы Стаўб. *Зімой гаспадыні цяшка абысьціся бес кабата.* Нізок Уздз.

**КАБДЗЮ́Р** *м.* Кіпцюр. *Ну й кабдзюры адгадавала! А рабіць за цябе хто будзе?* Скамарошкі Стаўб.

**КАБЕ́РАЦ** *м.* Дыванок пад ногі. *Як вінчаюць, стаўляюць нас на каберац, даюць сьвечку мужу і мне.* Бубны Віл. *А ў цэркві на каберац маладыя станавіліся.* Нізок Уздз.; *параўн.* польск. kobierzec 'тс'.

**КАБЕ́ТА** *ж.* Жанчына, звычайна замужняя. *Кабеты, якія жалі авёс, ставілі яго ў бабачкі; кабеты, якія жалі ячмень, ставілі яго ў мэндалі.* Старлыгі Мядз.; *параўн.* польск. kobieta 'тс'.

**КАБЕ́ЦІНА** *ж.* Тое, што і к а б е́ т а. *Вясельля было малое, усяга на підзісят душ, але ж дай-ка ты — анна, без мушчыны, кабеціна — папробуй справіць тое вясельля.* Язні Віл. *Чаго крычыць гэта кабеціна, хто яе пакрыўдзіў?* Петрашунцы Валож.

**КАБІНЕ́ЦІК** *м. Паляўн.* Гняздо на ружэйны патрон у патранташы. *У патранташ пулі ўстаўляюць, ён на кабінецікі падзеляны.* Забалоцце Смал.

**КАБЛУ́К** *м.* Дужка ў кошыку, за якую бяруцца рукамі. *Адзін каблук ужо гатовы, а нада два.* Гілікі Валож.; *параўн.* польск. kabląk 'дуга', 'лук'.

**КАБЛУКІ́** *мн.* Туфлі на высокіх абцасах. *Тамара, дай мне тваіх каблукоў адзець, а то ў мяне біс каблукоў нага нікрасівая.* Бяларучы Лаг.

**КАБУ́Р** *м.* Скрынка. *Вазьмі вуня кабур, злажы ўсё, як было, ды пастаў, дзе стаяў.* Скамарошкі Стаўб.

**КАБЫ́ЛА** *ж. Бат.* Свінарка (Paxillus atrotomentosus). *Кабылы толькі вараныя ядзяць, яны паробяцца чорныя, але смачныя, як ясі.* Тычынкі Уздз.

**КАБЫЛЁШКА** *ж. Памянш.-ласк., зніж.* Кабыла. *А кабылёшка была пры леся навязана, а чалавек думыў, што там нікога німа, а жонка піравізала кабылёшку, дык ён залажыў патрон, выстраліў — і забіў сваю гэту кабылёшку.* Бакачы Мядз.

**КАБЫ́ЛКА** *ж. Бат.* Грузд асінавы (Lactarius controversus). *Кабылкі — харошыя грыпкі, я люблю кабылкі. А сёліта, як ніякіх грыбоў німа, здаецца б, і мухаморы ела, ня то што кабылкі.* Савоні Стаўб. *Я ні ведаю, як называюцца гэтыя грыбы па-вучонаму, я называю іх кабылкамі.* Раўчак Пух.

**КАБЫЛЯ́НЕЦ** *м. Мед.* Апендыцыт. *Палажылі яго ў бальніцу, зрабілі аперацыю і выразалі кабылянец.* Каменка Уздз.

**КАВАЛІ́ХА** *ж.* Жонка каваля. *Стаў с таго часу мой Васіль у кузьні працаваць. А мяне ўсе сталі зваць кавалíхай і цяпер так клічуць.* Восава Круп.

**КАВА́ЦЬ** *незак.* Пакрываць паверхню чаго-н. насечкамі. *Каб камяні жарон былі вострымі і лепей малолі, іх куюць. Але цяпер німа каму пакаваць жарон.* Вецярэвічы Пух.

**КАВЕ́НЧЫЦЦА** *незак.* Мучыцца, пакутаваць ад фізічнага болю. *Як секануў сабе па назе, дык вунь ужо другі месяц зь ёю кавенчыцца.* Люціна Валож.; *параўн.* польск. kawęczyć się 'тс'.

**КАВЕ́НЯ** *ж.* Качарга. *Была кавеня, але неяк усунала ў самы жар, дык яна палавіну адгарэла.* Бясяды Лаг.

**КАВІ́ЛА** *ж.* Сажань. *Кавілу на плечы і пашоў мераць загон.* Стражы Віл.

**КАВЫ́ЛКА** *ж.* Тое, што і к а в і́ л а. *Кавылкай адмераюць дзялку, і глядзіш за ёй цэлая лета, кап полатая была, каб буракі добрыя расьлі.* Баяры Маладз.

**КАВЯНІ́ШЧА** *н.* Дзяржак, ручка ў качарзе. *Была кавеня добрая, але кавянішча адгарэла. Мужыка няма, дык яшчэ й ні зрабіла новае кавянішча.* Бясяды Лаг.

**КАГАДЗЕ́** *прысл.* Толькі што, нядаўна. *Яна кагадзе вышла.* Горкі Стаўб.

**КАГА́Л** *м.* Шумны натоўп, зборышча. *Сабраўся ўжо кагал ля школы, і наш пабех.* Палессе Мядз.

**КАГА́ЛАМ** *прысл.* Гуртам, усе разам. *Аснуюць, тады зьнімаюць са сьцяны і мочаць, абліваюць вадой. Тады ўжо сабіраюцца бабы кагалам і б'юць пранікам або ў ступі таўкачом. Пасьля гэтага аснову сушаць на сонцы або ў хаці.* Шавярнічы Бярэз.

**КАГАМЕ́Т** *м.* Качалкі, прылада для качання бялізны. *Даўней дастаў с печы кагамет ды пакачаў, што табе трэба, а цяпераka ўжо ўцюх.* Рудня Чэрв.

**КА́ДАЎБЕЦ** і **КАДО́ЎБЕЦ** *м.* Драўляная пасудзіна, выдзеўбаная з суцэльнага кавалка драўніны. *Бабуля соль у кадаўпцы дзяржала, у нас кадаўбец на соль.* Яміна Віл. *Ганначка, бяры ваду ў тым кадоўпцы, што пад вакном стаіць.* Рудня Стаўб.

**КАДЗЕ́** *прысл.* Тое, што і к а г а д з е́. *Чаго*

*ты раскрычалася, ён жа к нам кадзе прышоў!* Скамарошкі Стаўб. *Кадзе кошка была, а ўжо німа, недзя ш яна паляцела. Кыц-кыц-кыц!* Савоні Стаўб.

**КА́ДКА** *ж.* Кадзь, дзежка вялікіх памераў. *Бацька наш умеў добрыя каткі рабіць. І сабе і на прадажу каткі рабіў. Муку ўсыпалі ў каткі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАДО́БЧЫК** *м. Памянш.* Невялікі кадаўбец. *Усе кадопчыкі мукой пазанімалі: гэтулькі мукі назьбіралася.* Турын Пух. *Некалі кадопчыкі зь дзерава дзяўбалі.* Дукора Пух.

**КАДО́ЎБ** *м.* Вялікая бочка, выдзеўбаная з калоды, на збожжа, муку. *Некалі дзет наш кадоўбы рабіў.* Вецярэвічы Пух. // *перан.* Тоўсты, непаваротлівы чалавек. *Зрабілася тоўстая, як кадоўп, як яна што можа рабіць?* Дукора Пух.

**КАДО́ЎБЕЦ** *гл.* ка́даўбец

**КА́ДРАЛЬ** і **КАДРЭ́ЛЬ** *ж.* Кадрыля. *Бывала, калі былі маладыя, пойдзім на вічарынку альбо свадзьбу. Маладзёш танцуіць вальсы, полькі, кракавяк, кадраль.* Мікольцы Мядз. *Кадрэль — харошы таняц, але яго зарас ня хоча маладзёш танцаваць.* Батуранка Смал.

**КАДРЫЛІ́СТ** *м.* Распарадчык кадрылі. *Бывала, кажуць: „Іван, ты сёньня будзяш кадрылістам".* Дукора Пух.

**КАДРЭ́ЛЬ** *гл.* ка́драль

**КАДУ́Б** *м.* Тое, што і к а д о́ ў б. *Поўны кадуб бобу насыпалі. Ідзём у школу, набяром — смачна.* Саланая Валож.

**КА́ДУБЕЦ** *м.* Тое, што і к а д о́ б ч ы к. *Сёліта насыпалі солі цэлы кадубец.* Палачаны Маладз.

**КАДУ́К** *м.* Чорт, нячысцік; смерць. *Як кадук прыдзя — нікуды ня дзеняся.* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **Кадук яго (цябе, яе, вас, іх) ведае** — нічога невядома. *Кадук яго ведае, дзе ён быў, нічога ж не кажа.* Рудня Чэрв.

**КАЕ́Т** *м.* і **КАЕ́ТА** *ж.* Сшытак. *Сьпяшаўся раніцай, забыўся каег чысты ўзяць.* Палессе Мядз. *Каетаў дзецям ні набяруся, ні пасьпяваю ў магазін хадзіць.* Літва Стаўб. *Памый рукі, бяры ксенишку, каету і садзіся пісаць.* Чараўкі Мядз. *Ці прынёс ты каету?* Петрашунцы Валож.; *параўн.* польск. kajet 'сшытак'.

**КА́ЖАН, КО́ЖАН** *займ.* Кожны. *А даўней на кажан стол адна румачка. Адна! І пака с таго канца ў гэты дойдзя, ужо й воткі німа і закусі німа.* Ператокі Стаўб. *Спаць хочыцца, хоць памры, а трэба было кожан дзень на досьвітку яшчэ да ўсходу слонца ўставаць.* Старынкі Дзярж. *Кожан рас дамоў позна прыходзіць.* Рудня Чэрв. *У міне кожан гот два япрукі, аднаго здам, а другі сабе.* Падзерычы Стаўб.

**КАЖА́РКА** *ж.* Кароткая адзежына без рукавоў і каўняра накшталт кабата, пашытая са старога кажуха. *Ну, й цёплая твая кажарка, у такой кажарца натта ш спрытна пры рабоці.* Палессе Мядз. *У тваёй кажарца ўсякую работу будзя спрытна рабіць.* Бальцары Маладз.

**КАЖУ́РКА** *ж.* Лупіна. *Я вот наварыла саган капусты, будзяш зарас есьці з бульбай у кажурках.* Баяры Маладз.

**КАЖУРЫ́НА** *ж. Экспр.* Кажух. *Надзень, дзет, кажурыну, на дворы ж вельму холадна.* Ініца Стаўб.

**КАЖУШО́К** *м.* ○ **Бульба ў кажушках** — бульба з лупінамі. *Зварым бульбы ў кажушках на вячэру.* Ляшчынск Мядз.

**КА́ЖЫН** *займ.* Тое, што і к а́ ж а н. *Аднаго разу даў ім абаранак, а потым кожын дзень даваў ім па абаранку.* Засулле Стаўб.

**КАЗА́**[1] *ж.* Нязжаты касмыль жыта. *Казу ўсягды на полі кідаюць, каб жыта ня зводзілася.* Забалоцце Смал.

**КАЗА́**[2] *ж.* Тое, што і ж а р а б о́ к. *Мая дачка як вучылася снаваць, то толькі козы рабіла.* Дукора Пух.

**КАЗА́**[3] *ж.* Тое, што і к а в і́ л а. *Шчас брыгадзір казу возьмя, адмерая, а ты хочаш рві, хочаш сьпі, хочаш касі, а норму выканай.* Бяларучы Лаг. *Поле мераюць сажнем, яго яшчэ казой называюць.* Ігрушка Круп. *Каза — два метры размах.* Рудня Чэрв. ◊ **Козы ў золаце** — пра бесклапотнага гаспадара. *Мне й касіць, і насіць, і жаць, і ткаць, а яго ўсягды козы ў золаці.* Язні Віл.

**КАЗА́**[4] *ж.* Кароткія санкі, якія выкарыстоўваюцца ў якасці дапаможных пры тралёўцы лесу; каркі. *Вот маленькія саначкі такія — гэта каза. Што вот як вязеш берявно доўгая, дык патстаўляіш казу.* Вязынка Маладз. *Як кароценькія сані, дык каза, а як вялікія, што каня запрагаюць, дык сані. А ў казу ш каня ні запрагаюць.* Пруды Стаўб.

**КАЗА́**[5] *ж.* Сагнуты дрот, на якім дзеці зімой катаюцца.*Катаўся мой Колька на казе, зваліўся, дык увесь нос абадраў.* Кукалеўка Чэрв.

**КАЗА́**[6] *ж.* Палонка. *Два чалавекі прасякалі казу, астатнія адкідалі лёд далей ад яе. Пасьля апускалі ў казу сеткі і закрапілялі іх.* Пасынкі Мядз.

**КАЗА́-ПАДСА́НЬКІ.** Тое, што і к а з а́ [4]. *Каза-патсанькі — што ззаду за санямі бягуць, для перавоскі доўгіх бярвенняў. Каза-патсанькі кароткія, з ручкамі, для кіравання на паваротах.* Такарышкі Іўеў.

**КАЗА́КІ** *мн.* Жаночыя боцікі. *У магазін казакі прывязьлі на высокім апцасі. Мо купім сваёй Маньцы?* Літва Стаўб.

**КАЗА́ЦЬ** *незак.* ∇ **Кажуць, што хуць пад лаўкай пасядзець, але на харошага паглядзець.** *А я ні хацела на харошага, хацела на брыткога: пасагу ня было.* Аляхновічы Маладз. ◊ **Па проўдзе кажучы** — калі прызнацца

шчыра. *Па проўдзе кажучы, цяшка жылося нам пасьля вайны.* Зазерка Пух.

**КАЗАЧО́К** *м.* Складзены ў пэўным парадку лесаматэрыял або нарыхтаваныя дровы. *Казачок тое ш самае, што й шурка.* Паплавы Бярэз. *Наскладаў казачок дроў, трэба будзя прывесьці.* Турын Пух.

**КАЗЕ́ЛЬКА**[1] *ж. Ткац.* У снавалцы: драўляныя брусы, збітыя накрыж, накшталт літары Х. *А потым прыдумалі снульлі такія круціць. Там убіты чыны, зробліны дзьве казелькі, на казелькі надзеніш чатыры палкі і круціш.* Паноўка Мядз.

**КАЗЕ́ЛЬКА**[2] *ж.* Кацёлка падвешваць ніты ў кроснах. *Мікалай мой рабіў казелькі сам, я папрашу, дык ён і зробіць казельку.* Бубны Віл.

**КАЗЕ́ЛЬЧЫК**[1] *м. Заал.* Конік (Tettigonia viridissima). *А ў траве казельчыкі скачуць.* Сакаўшчына Валож.

**КАЗЕ́ЛЬЧЫК**[2] *м. Бат.* Казялец ядавіты (Ranunculus sceleratus). *Казельчыкі растуць высокія, на сенакосі растуць, лісьцікі жоўцінькія.* Паплавы Бярэз.

**КАЗЕ́ЛЬЧЫК**[3] *м. Бат.* Масляк (Siullus grevillei). *Казельчыкі смашныя грыпкі, асеньнія, шапачка ліпкая ў іх.* Грыцкавічы Круп.

**КАЗЁЛ**[1] *м.* Тое, што і к а з е́ л ь ч ы к[1]. *Казлы ўсякія бываюць: і зялёныя, і сівыя, і рудыя. Вось зара, ну, яшчэ паўмесяца пачакаць, і самы іх сізон. І цяпер ёсь маленькія казлы, стрыкочуць у траве.* Саланая Валож.

**КАЗЁЛ**[2] *м.* Тое, што і к а в і́ л а. *Пракос прагнаў на дваццаць пяць казлоў — і сотка. Казёл — два мэтры.* Бясяды Лаг. ◊ **Як з казла малака** — пра таго, хто не прыносіць карысці. *Толку мне з гэтых сыноў, як з казла малака: адзін недзя ў Рызі, другі ў Маладзечні, а мацяры жыві аннэй пат старась.* Язні Віл.

**КАЗЁЛ**[3] *м. Заал.* Улітка. *Казёл, казёл, пакажы рошкі!* Скамарошкі Стаўб.

**КАЗЁЛ**[4] *м. Ткац.* Тое, што і ж а р а б о́ к. *Вот і ўлажыла ты казла! Як яго зарас выправіць?* Ляшчынск Мядз.

**КАЗЁЛ**[5] *м.* Тое, што і к а з е́ л ь ч ы к[3]. *Казлоў многа, але ш нешта ўсе чарвівыя.* Вялікая Вуса Уздз.

**КАЗЁНКА** *ж.* **1.** Гарэлка дзяржаўнага продажу. *Зьбегаў казёнкі купіў, кілбасы, там тага-сяга, ды і я ланны кусок кумпяка прывязла, дык мы селі і паелі.* Язні Віл. **2.** Сякера заводскага вырабу. *Падай сваю казёнку, твая ж вострая, і сам ня стой: час ідзе.* Слабада Лаг.

**КАЗІНЕ́Ц** *м. Бат.* Сівец стаячы (Nardus stricta). *Казінец — гэта дробненькая цьвёрдая трава, расьце на балотах.* Вецярэвічы Пух.

**КАЗЛЁНАК** *м.* Казляня. *У пастыра ёсь каза с казьлёнкамі і курыца сь ціплятамі, больш нічога нет.* Мікольцы Мядз.

**КАЗЛЫ́**[1] *мн.* Вочкі на бульбіне. *О, казлоў на бульбе вельма! Значыцца, карчы добрыя вырастуць.* Скамарошкі Стаўб.

**КАЗЛЫ́**[2] *толькі мн.* Ко́злы. *Схадзі хуцянька да суседа, забяры свае казлы, бо трэба дровы пілаваць.* Ляхавічы Дзярж. *Зрабі новыя казлы, бо на гэтых ужо ні распілуяш і дроў.* Краснае Маладз.

**КАЗЛЫ́**[3] *мн.* **1.** Тое, што і к а з е́ л ь ч ы к[2]. *Калі казламі нацерці цела, то атрымаяцца заражэньня, бо яны ядавітыя.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Любая трава, якая не гадзіцца на сена. *Што ты прынёс? Адны ш казлы, хто іх есьці будзя?* Скамарошкі Стаўб.

**КАЗЛЯЧКІ** *толькі мн.* Лёгкія шарыкі з пылу накшталт пушынак, якія збіваюцца ў мясцінах, дзе многа ходзяць, або калі доўга не выціралі падлогу мокрай анучай. *Як маладую атправяць да маладога, мацяры песьню пелі, што як была дзеўка ў хаце, дык прыбірала і было чыста. А як няма дзеўкі, дык казьлячкі павырасталі пападлавіччу.* Хожава Маладз.

**КАЗНА́** *ж.* Дзяржава (у мове старэйшых). *Цяпер і зямля ўся казьне належыць, а раней усё панам належала.* Літва Стаўб.

**КАЗУ́ЛЯ** *ж.* Тое, што і к а з е́ л ь ч ы к[1]. *Летам так прыемна раскінуцца на мяккай траве, а казулі зялёныя кругом стракочуць.* Літва Стаўб.

**КАЗЫ́ЯТКА** *ж.* Тое, што і к а б а́ т. *Я сягоньня спала і ў казыяццы, і ў рубасцы, а ўсё роўна зьмерзла, — во дзе марос!* Канстанцінава Мядз.

**КАЗЮ́ЛЬКА** *ж.* Маленькая лавачка. *Дзет самаму меньшаму ўнуку казюльку зрабіў ладненькую.* Караліна Стаўб.

**КАЗЯ́К** *м.* Тое, што і к а з е́ л ь ч ы к[3]. *Смашны дужа грыб масьлян, казяком зовуць шчэ яго.* Нядаль Барыс. *Цэлую кадушку насаліла казякоў.* Муляры Віл. *Казякі ў мокрым лесі добра растуць, а ў нас суха.* Чыжаха Бярэз.

**КАЗЯНЯ́** *н.* і *м.* Казляня. *Пашанцавала было неяк аднаго году: каза адна прывяла двоя казянят і другая — двоя.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Казяня быў ужо вялікі, сам піў малако.* Халопенічы Круп.

**КАЗЯ́РКА** *ж.* Агульная назва мошак. *Вечарам каля хаты ўсякіх казярак шмат, дак мы ўсе вокны і дзьверы зачыняім.* Пруды Стаўб.

**КАЗЯ́ТНІК** *м. Бат.* Шышка дзікага шчаўя. *А як ні было хлеба ў вайну, хадзілі ў мядункі, іравалі казятнік, сушылі, таўклі і пяклі праснакі.* Весялова Круп.

**КАЗЯ́ЎКА** *ж. Перан.* Малеча, маленькае дзіця. *Чаму ты ня сьпіш, казяўка?* Палессе Мядз.

**КАЙРО́Т** *м.* Кола ў калаўроце. *Я прала, а ён, бедняінькі, руку ў кайрот усадзіў. Без ру-*

*кі астаўся. Яна ё, да ні работая.* Рудня Чэрв.

**КАЙСТРЫЦА** *гл.* кастрыца

**КАКО́РА** *ж. Кулін.* Бульбяная перапечка. *Пайдзём на поля, картошачку зьбіралі, гнілуху гэту, абіралі, варылі, таўклі, какоры гатавалі: такі голат быў у вайну.* Ганцавічы Барыс.

**КАКО́ШНІК** *м. Бат.* Тое, што і бабо́к (у 1 знач.). *Какошнік пашукайця ля ракі, на балоці. Сена с какошнікам авечкі добра ядуць.* Рудня Чэрв.

**КАЛА́** *прыназ. з родн.* Спалучэнне з прыназ. *кала* выражае прасторавыя адносіны і ўжываецца пры абазначэнні прадмета, паблізу якога адбываецца дзеянне. **Каля.** *Не, мы кала той бульмы і ні хадзілі, тамака Юзік круціўся.* Плецівішча Чэрв.

**КАЛАВА́ЦЕНЬКІ** *прым. Экспр.* Пруткі, каляны. *І пядзісят каўняроў памыць і накрахмаліць, кап стаялі калаваціінькія.* Пагост Віл.

**КАЛАВУ́РЫЦЬ** *незак.* Вартаваць. *Не, удзень я ўжо нічога ні раблю, дома толькі, а ноччу калавуру магазін.* Пількаўшчына Мядз. *Ноччы калавуру магазіна.* Ляшчынск Мядз.

**КАЛАДА́Ч** *м.* Нож з драўлянай ручкай. *Падай, маё дзіцятка, мне каладач, уставаць ні хочацца.* Барсукі Віл.

**КАЛАМУ́Т** *м.* Вір. *У каламутах, вядома, багата рыбы. У нашуй рэццы нямнога каламутаў, але што ёсьць, дак вялікія.* Вялікая Вуса Уздз.

**КАЛАПНЕ́, КАЛАПНЯ́** і **КАЛО́ПНІ** *толькі мн.* Семя канапель (Gannabis). *Пасеялі вясной калапне, я пілнаваў калапне.* Лубень Віл. *Пасьля сеілі авёс, ячмень, за ім лён, калапне.* Мацкі Мядз. *У мяне ў гародзі калопні растуць, мы зь іх алей мелім.* Юшкаўка Віл. *А дзе прадзём, назносім калапень і масьляк таўчом.* Альсевічы Мядз. *С калапні алей малолі.* Ляшчынск Мядз.

**КАЛАПНЯ́НАЕ МАЛАКО́** *кулін.* Густая кашка з цёртых канапель. *А пасьля вайны, пакуль абжыліся ды апстроіліся, цяшка было. Замест малачка хлебны квас, калапнянае малако, а ціпер жыві і хочацца, але ўжо сіла ні та.* Жартайка Барыс. *Дома як я была, таўклі малако калапнянае.* Малмыгі Віл.

**КАЛАПНЯ́НКА** *ж.* Парцяная хустка фабрычнага вырабу. *Завяжы калапнянку, натта ш зімна на дварэ.* Вішнева Валож.

**КАЛАСАВА́ЛЬНІК** *м. Бат.* Каласавік. *Каласавальнікі яўляюцца ў час каласаваньня жыта.* Вецярэвічы Пух.

**КАЛАСАВА́ЦЬ** *незак.* Паўторна абмалочваць каласы, якія засталіся цэлымі пасля першаснай апрацоўкі. *Каласаваць — абіваць асьцюкі ў зярнятах ячменю.* Вецярэвічы Пух. *Ячмень увесь пакаласавалі, ссыпалі ў мяшкі наразе.* Чабаі Валож.

**КАЛАСАВІ́К** *м.* Тое, што і каласава́льнік. *Каласавікі — тыя рана бываюць, як жыта красуя, але нядоўга, тры-пяць дзён.* Жартайка Барыс.

**КАЛАССЁ** *н. Зб.* Калоссе. *Прыходзіць лета. Работа цяшкая, а есь нечыга. Жыта нашчыпіш, каласься пасушыш, а тады таўклі і крупы варылі. Во як жылі!* Весялова Круп.

**КАЛАТА́ЙКА** *ж.* Калатоўка біць масла. *Паламалася калатайка, німа чым масла нават зьбіць.* Зазерка Пух.

**КАЛАТО́ЎКА** *ж.* Вялікая міса, у якой рашчынялі саладуху. *У калатоўку сыпалі муку, улівалі ваду і рашчынялі саладуху.* Палачаны Мядз.

**КАЛАТУ́Н** *м.* Моцны халодны вецер. *Ноччу такі калатун усхадзіўся, што нат плот у некаторых мясцох паваліў.* Падзернае Стаўб.

**КАЛАТУ́ША** *ж.* **1.** *Кулін.* Зацірка. *Ні шукай, а вазьмі калатушы забялі ды паеш.* Кроква Лаг. **2.** Гразь. *Ля нас такая калатуша! Ведама, трактарэ ходзяць.* Цялякава Уздз.

**КАЛАТУ́ШКА** *ж.* Калатоўка з сучкамі на ніжнім канцы раскалочваць муку. *Я старому гаварыла, каб зрабіў калатушку, а то няма чым парасяці муку раскалаціць у гарачай вадзе.* Рудня Чэрв.

**КАЛАЦІ́ЦЬ** *незак.* **1.** Трэсці, нарыхтоўваць. *Калаціць трушанку рэкамендуецца дзеравянымі вілкамі на два рагі, з бярозы, арэшніку, вілкамі.* Бытча Барыс. **2.** Збіваць смятану на масла. *Як сьмітана аттопліна, масла калоцюць.* Ратуцічы Барыс.

**КАЛАЦЦЁ** *н.* Рэзкі калючы боль, колікі. *Захварэла Макарэвічыха, мужык бядуе, бядуе, аглідаіцца, а яна ў бальніцы, калаццё коля.* Няровы Валож.

**КАЛАШМА́Н** *м. Асудж., зневаж.* Пра чалавека, абыякавага да сваёй знешнасці, адзення і пад. *Які зь яго кавалер? Ходзіць, як калашман які, ня можа нават адзецца па-людзку.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАЛАШНІ́К** *м.* Невялікі хлеў. *Трэба новыя дзьверы ў калашнік, а то ў тых завеса зламалася.* Пігасава Мін. *Такою мяцеліцай загнала мяне ў калашнік, ледзь ня вьмерзла тады.* Маркаўцы Уздз.

**КАЛАШНЯ́** *ж.* Месца, дзе складаюць дровы; падпаветка. *Сяголета наша калашня поўная дроў.* Зарэчча Смал.

**КАЛБАТУ́ХА** *ж. Кулін.* Верашчака. *Наша бапка дык у калбатуху і калбасы кусочкамі нарэжа, і разам усё сьпячэ, і мукой прыправіць.* Хожава Маладз.

**КАЛБУ́Н** *м. Заал.* Пячкур (Gobio). *Не, гэта мала налавілі. Мы ловім заўсёды многа калбуноў і ўсякай рыбы.* Сакольшчына Уздз.

**КАЛГО́СНЫ** *прым.* Калгасны. *Ня тое [было], што цяпер! Куды ні пойдзяш, усюды зямля калгосная, усюды свае людзі і закон за цябе! А раней ня было свабоды, куды ні пой-*

*дзяш, усё панская, каб у лес, дык трэба білет заплаціць, а то могуць лясьнікі збан пабіць, ягады высыпаць, зь лесу выгнаць.* Багрыцоўшчына Дзярж.

**КАЛДО́БА** *ж.* Выбоіна, яма на дарозе. *Палявая дарога гладкая, а на лясной дарозі — карэньні, калдобы павыбівалі калёсамі.* Паплавы Бярэз.

**КАЛДО́БІКІ** *мн. Кулін.* Піражкі бульбяныя з мясной начынкай. *Я як калдобікі раблю, прыправы ў мяса чым найбольш кладу, натта ш смашныя і духмяныя тады палучаюцца.* Кроква Лаг.

**КАЛДУ́Н** *м.* 1. *Мед.* Каўтун. *Саўюцца валасы ў калдун — рашчасаць нельга. У нас ня чутна, кап хто балеў калдуном.* Гілікі Валож. 2. *толькі мн. Пагард.* Валасы. *Рашчашы ты свае калдунэ, а то галава як той лямец.* Цялякава Уздз.

**КАЛДУНЫ́** *мн.; адз.* **калду́н** *м. Кулін.* Тое, што і ґалдуны́. *У нас клёцкі робяць, дык нічога не кладуць у клёцкі, а як робяць калдуны, дак кладуць начынку.* Пагост Віл. *Ну й смашныя ў мяне сёньня калдуны, аб'ядзеньня!* Муляры Віл. *Нарабілі на вячэру калдуноў аш цэлы цыганок.* Язні Віл. *Зоўтра будзям варыць калдунэ, даўно былі калдунэ ў нас.* Цялякава Уздз. *Майму штодня рабі калдуны.* Язні Віл.

**КАЛЕ́ЙКА**[1], **КУЛЕ́ЙКА** *ж.* 1. Чарга. *Стань у калейку за гэтай кабетай.* Сакольшчына Уздз. *Ты паверыш, нават ішчо былі быдлячыя буракі! А Тафіля казала, што на ўчарашні дзень хто стаяў у кулейцы, ні хваціць.* Яцыны Мядз. *Бывала, як прывязуць у магазін баранкі, дык кулейка цягнецца аж на вуліцу, а цяпер ляжаць свабодна.* Літва Стаўб. 2. Чарговасць пасвіць жывёлу. *Учора ўнук калейку адбываў, дык сёньня яшчэ сьпіць.* Рубяжэвічы Стаўб. *Я сёньня паганю каровы, наша калейка пасьвіць.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. kolejka 'тс'.

**КАЛЕ́ЙКА**[2] *ж.* 1. Сцежка. *Ідзі прама па калейцы, што прас лес ідзе, якрас і выйдзеш да рэчкі.* Скамарошкі Стаўб. 2. Чыгунка. *Вось, бачыце, каля нас праходзіць калейка. Яна і раней была, але мала хадзіла паяздоў па ёй, а цяпер дык і аляктрычкі лётаюць.* Баяры Маладз.

**КАЛЕ́Я** *ж.* Чыгунка. *Філёна, як рабіла на калеі ў Маскве, прысылала нітак — мулінэ і ядвабных, нашы дзяўчаты перабіранкаў стройных наткалі.* Фалевічы Мядз.; *параўн.* польск. kolej 'тс'.

**КА́ЛІВА, КО́ЛІВА** *ж., у знач. прысл.* Крыху, трошкі чаго. *Дай і мне каліва арэхаў, а то сварыцца будзім.* Хацюхова Круп. *Хадзіла сяньня крапівы нажала коліва, травы ў алешніку.* Літва Стаўб.

**КАЛІЗО́ЎКА** *ж. Спец.* Прышчэпліванне. *Зраблю яблынькам калізоўку, будуць добрыя яблыкі.* Вялікая Вуса Уздз.

**КАЛІ́КА** *ж. Бат.* Бручка (Brassica napus). *А каліка вунь дзе, побач з барханьнім расьце.* Версанка Круп.

**КАЛІ́-ЛІ́БА** *прысл.* Калі-небудзь. *Калі-ліба прыязджае дачка з гораду, так я вельмі рада, што ні забываюць мяне.* Пудзіцк Пух.

**КАЛІНА́** *ж.* Тканіна цвёрдая, грубая навобмацак, лубяная, нягнуткая. *І гэта палатно як выччыш, зразу ж з яго нічога ні пашыіш, ба яно ш як каліна́ калючая.* Белая Лаг.

**КАЛІ́НАВІЦА** *ж. Кулін.* Суп з каліны, падкалочаны ржаной мукой. *І калінавіцу некалі варылі. Калін тата прывязе зь лесу. Навяжым пучочкі, пат страхой павесім, а тады постам: „Ну, што сёньня будзім варыць?" — „Калінавіцу". Так прынясём два пучкі, іх у саган і мукі хлебнай місачку, яно салодзіцца, салодзіцца. Тады накрыім, у печ паставім, удзень вымім, дык смачна ай-ей як. Ведама, сем нядзель посту пасьцілі!* Ластаянцы Валож.

**КА́ЛІЎКА** *ж.* Тое, што і калі́ка. *Ходзім палоць каліўку, барканьне, сахарныя буракі.* Якімаўка Круп.

**КА́ЛІЎЦА** *н.* ◊ **Каліўца ў каліўца** — першагатунковы, зерне ў зерне. *Тады бацька мой паехаў у Лагойск, другому папу павёс такой пшанічкі, каліўца ў каліўца, атабраная, дык адразу нас і абвінчаў.* Засулле Стаўб.

**КАЛО́ДКА** *ж.* 1. *Пчал.* Вулей. *Калоткі ш чатыры пчол будзя. Дзьве зімой вымерзьлі, а з аднае калоткі самы ўцяклі.* Баяры Маладз. 2. Падстаўка трапаць лён. *Ад трапаньня калоткa зусім зьбіваяцца.* Вецярэвічы Пух.

**КАЛО́ДКІ** *толькі мн.* Род абутку на драўлянай падэшве; дзеравяшкі. *Ну далі гэтыя плацьці і далі нам на ногі калоткі, такія калоткі, як чоўны толькі. Ні шнуркоў, ні завязык. Ногі паставіш і йдзеш.* Ухвала Круп. *Пра гэтыя калоткі мы ўжо й забыліся, у вайну іх толькі і насілі.* Хожава Маладз.

**КАЛО́ДЫ** *звыч. у мн.; адз.* **кало́да** *ж.* Лесаматэрыял, які ідзе на будаўніцтва, розныя вырабы. *А зімой першы пятух як запяе, мама ўстае печы паліць; мушчыны паедуць у калоды. Унь аш дзе тыя Баркі́ езьдзілі па калоды, вывозілі на берах, а тады вясной гналі плыты ў Бакшты.* Ластаянцы Валож.

**КАЛО́НІЯ** *ж.* Група асоб або машын, якія рухаюцца выцягнутай лініяй, рад за радам. *Мы папрашчаліся з мацяркамі і пашлі, далучыліся да калоніі. Цераз дзьве нядзелі прышла калонія машын, нас павезьлі ў Бабруйск.* Каранец Бярэз.; *параўн.* польск. kolonia 'тс'.

**КАЛО́ПНІ** *гл.* калапне́

**КАЛО́ШКА** *ж.* Верхняя частка шкарпэткі. *Вяліку калошку раблю, кап цяплей назе было.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАЛТЭ́ЙКА** *ж.* Пранік. *У снапы вырвуць*

*лён, пастаіць трохі, тады калтэйкамі выбівалі. Калтэйкаю б'юць лён, бялізну, палатно.* Варняны Астр.

**КАЛУ́ПЫШАК** *м.* Гаспадарчая павозка, спецыяльна прыстасаваная для перавозкі торфу. *Усё лета рэзалі і сушылі торф, а ўвосянь торф гэты перавозілі на калупышках.* Баяры Маладз.

**КАЛЫМА́ЖКА** *ж.* Тачка. *Унук мне гарбузы на калымасцы пераве̇з.* Рудня Чэрв.

**КАЛЫ́САЧКА** *ж. Памянш.* Абцягнутая палатном ці зрэбнінай калыска, якую можна было браць на поле ў жніво. *Тады ўжэ найшла хмарка, сьвякроў кажыць: „Давай калысачку панясу за плечы, а ты пазьбірай снапы, пастаўляй".* Восава Мядз.

**КАЛЫ́СКА** *ж.* **1.** Гушкалка, арэлі. *Павесілі калыску на дрэва, дык дзеці ўвесь дзень тут качаюцца.* Завішына Лаг. **2.** Драўляныя брусы з вычасанымі выемкамі пад бярвенні, каб апошнія не раскочваліся пры транспарціроўцы машынай, прычэпам і інш. *Глядзі ж, Мікола, кап калыска была нямелкая.* Чыжаха Бярэз.

**КАЛЫ́СКА ВАГУ́ШЧАЯ.** Зыбка. *Калыску вагушчую падвешваюць да столі.* Саланая Валож.

**КАЛЫ́СКА-ПАЛАТНЯ́НКА** *ж.* Тое, што і калы́сачка. *А як пойдзім у поле, дык малое за плечы ў калыску-палатнянку, ды яду перат сабою, за тры кіламетры на вузінькую ніўку жаць да поту.* Палачаны Мядз.

**КАЛЫХА́НКА** *ж.* Тое, што і калы́ска. *Павесілі калыханку на дрэва ды гушкаюцца.* Каменка Уздз.

**КАЛЬБЕ́ЛЬ, КАЛЮБЕ́ЛЬ** *ж.* Плецены або драўляны дзіцячы ложак (звычайна падвешаны на вяроўках да столі), які можна калыхаць, гушкаць. *Дзіцё ў кальбель ды й на поля, к хазяіну рабіць на ўвесь дзень.* Пудзіцк Пух. *Калюбелі ўжо ні пры маёй бытнасьці былі. Помню, браціха дзіця ў калюбелі калыхала.* Дукора Пух.

**КАЛЮ́ГА** *ж.* Лужына. *Падумаць толькі, у калюгу ўваліўся, як сьляпы.* Мядзел Мядз.

**КАЛЮ́ГАВІНА** *ж.* Выбоіна на дарозе. *Такая ж дрэнная язда: на дарозі адны калюгавіны.* Чабаі Валож.

**КАЛЮ́ЧКА** *ж. Заал.* Ёрш. *Гэту калючку німа як у рукі ўзяць!* Скамарошкі Стаўб.

**КАЛЮЧЭ́ЙШЫ** *прым. Выш. ст.* да калю́чы. *Паляеы асот калючэйшы за агародны. Як палолі, то ўсе рукі пакалолі.* Рудня Чэрв.

**КАЛЮ́ШЧЫ** *прым.* Калючы. *Ішлі дзеўка зь дзяцюком, яна кажа: „Памалу, ня ўшчаміся ў друт". А ён гаворыць: „У провалку, провалка калюшчая".* Баяры Маладз.

**КАЛЯВІ́НА** *ж.* **1.** Каляіна. *Ты па гасьцінцы едзь, а то па той дарозі адны калявіны.* Заямнае Стаўб. *У калявіну прама трупкі ат калёс хаваліся, такая дарога граская і няроўная.* Бясяды Лаг. **2.** Мокрая сенажаць. *Лён яны заўсёды ў калявіне слалі.* Заямнае Стаўб.

**КАЛЯДА́** *ж.* Кабан, якога кормяць пад каляды. *Закалолі мы сваю каляду, паменіла работы ля печы.* Палессе Мядз. *Мы сваю каляду будзім калоць за нядзелю перат калядамі, кап пасьпець нарабіць каўбас.* Хожава Маладз. ◊ *абрад.* **Багатая каляда** — вячэра ў апошні вечар старога года. *Багатая каляда — пякуць бліны, мачаня ставяць, каўбасу, сала.* Дрычын Пух. *Багатая каляда — гэта вячэра перад Новым годам.* Вецярэвічы Пух. **Бедная каляда** — вячэра напярэдадні каляд. *На бедную каляду куцю варылі, ставілі кісель, буракі с казьлякамі.* Дрычын Пух.

**КАЛЯ́ДАВАЦЬ** *незак.* **1.** Святкаваць каляды. *Паставіла пат каляды Марыніну картачку, калядавала зь ёю, пагавару, каб ня так самотна было.* Савоні Стаўб. **2.** Вандраваць гайнёй у перыяд цечкі (пра ваўкоў). *Зімой перад калядамі [і пасьля каляд!] ваўкі ходзяць стаямі, кажуць у нас — калядуюць.* Рабунь Віл.

**КАЛЯ́ДНІЦА** *ж.* Перыяд часу ад каляд да вадохрышча (з 25.XII па 6.I ст. ст.). *А пралі ўсю калядніцу — і днём пралі і вечарам. Усю калядніцу пралі кудзелю, а ў місаед кужаль пралі.* Мацкі Мядз. *Каляньніца пройдзіць, місает находзіць — у сваты едуць, да вясельляў ладзяцца.* Альсевічы Мядз.

**КАЛЯДО́ЎКА** *ж.* Тое, што і каля́дніца. *Ваўкі стаямі ходзяць у калядоўку, не дай бох ім тады папасьціся.* Рудня Лаг. *На калядоўку ваўкі ходзяць стадам.* Ляшчынск Мядз.

**КАЛЯЖА́НКА, КУЛЯЖА́НКА** *ж.* Сяброўка, таварышка. *У мяне каліжанка добрая была, дружылі мы моцна.* Дубавое Круп. *Якрас увосінь мая куліжанка замуш ішла, я гуляла ў яе на вясельлі.* Няверы Мядз. *Куляжанкі звалі ў лес пайсьці, гавоpуць, паземкі, як клубніка.* Літва Стаўб. *Ідзі і ты ў кумпанію да куляжанак.* Палачаны Маладз.; *параўн.* польск. koleżanka 'тс'.

**КАЛЯЗО́ЎКА** *ж. Спец.* Спосаб прывіўкі почкай на дзікім дрэве. *Я калі дзічок прышчэплівато почкай, дык гэта калязоўка.* Рудня Лаг.

**КАЛЯ́НКА** *ж.* Скрыль, паронка бульбы. *Парасяткі калянкі павыбіралі, а юшку кінулі.* Чыжаха Бярэз.

**КАЛЯСНІ́К** *м.* **1.** Колькасць таго, што можа змясціцца на калёсах, возе. *Поўны каляснік сена дахаты прывёс.* Асіпавічы Віл. *Сёньня с поля прывезьлі каляснікоў пяць, пакуль не пайшоў дошч.* Дукора Пух. **2.** Майстар, які вырабляе колы, калёсы. *Рабілі калёсы і драбіны, ведама, свае калясьнікe.* Цялякава Уздз. *Вуняка пашоў калясьнік, падыдзеця пад яго, ён вам усё раскажа.* Вялікая Вуса Уздз. *Дзет*

*быў добры калясьнік, а ўнук яшчэ лепшы.* Рудня Астравітая Чэрв.

**КАЛЯСНІЧОК** *м. Памянш.* Тое, што і калясьнік (у 1 знач.). *У яго яшчэ засталося с калясьнічок сена.* Рудня Чэрв.

**КАЛЯСНЫ** *прым.* Калёсны. *Калясны трактар.* Саланое Валож.

**КАЛЯСО** *н.* Кола. *Братка, ні пашанцавала мне сёньня: загвастка згубілася, дак калясо зьляцела і некалькі сьпіцаў згубілася.* Цяляква Уздз.

**КАЛЯХАВАЦЬ** *незак.* Кіпець. *Бульма ўжо даўно каляхуе, бурболкі якія вялікія! Зьняць трэба яе.* Пудзіцк Пух.

**КАЛЯШНЯ** *ж.* Прыстасаванне, на якім рабілі калёсы. *У нас некалі была каляшня, на ёй Васіль з Ільюком рабілі калёса.* Цялякава Уздз.

**КАЛЯШЫЙНІК** *м.* Мужчынскі шарф, звязаны з шарсцяных нітак. *Завяжы каляшыйнік, маці так старалася для цябе. Ды і холадна.* Мацкі Мядз.

**КАЛЯЯ** *ж.* 1. Тое, што і калёйка[1] (у 2 знач.). *Ты ж глядзі, заўтра наша каляя на пасту.* Мацькаўцы Віл.

**КАМАРЭЗ** *м. Неадабр.* Суровы, бязлітасны, неміласэрны хто-н. *У нашай сям'і ўсе добрыя, а тут, на табе, — такі камарэс. Скора і біцца пачне!* Рудня Чэрв.

**КАМАШЫ** *мн.; адз.* **камаш** *м.* 1. Жаночыя чаравікі, туфлі. *Тры дні хадзіла [у двор бульбу капаць], восімісят капеяк зарабіла. За тыя грошы купіў мне брат камашы.* Ластаянцы Валож. 2. Мужчынскія туфлі. *Казоў мой унук, як у Мінску яму камашы правілі.* Літва Стаўб. *У магазін прывезьлі камашы, схадзі паглядзі, можа й ты сабе падбярэш.* Палессе Мядз. 3. Галошы. *Раней самі камашы клеілі, а зарас у магазін пашоў і купіў.* Літва Стаўб.; *параўн.* польск. kamasz < ням. Gamasche 'тс'.

**КАМЕНКА** *ж.* Брукаваная дарога. *Па каменцы босай плоха ісьці, ногі зусім пазьбіваяш.* Зазерка Пух.

**КАМЕНЬ** *м.* ∇ **Пад ляжачы камень вада не цячэ, возьме ды абміне.** Рубяжэвічы Стаўб.

**КАМЕРКІ** *мн.* Тое, што і камашы (у 3 знач.). *У горадзе ў камерках ніхто ня ходзіць, а ў нас выгадна хадзіць, як мокра.* Пудзіцк Пух.

**КАМЕШНІК** *м.* Качарэжнік. *Ня там шукай, а ў камешніку, бо вілкі і ёмка там стаяць. Камешнік малы і цёмны.* Халопенічы Круп.

**КАМЁЛ** *м.* 1. Ніжняя частка ствала дрэва. *Камёл на доскі прыгодны.* Вецярэвічы Пух. 2. Частка снапа ад перавясла ўніз. *Паставіла сноп на камёл.* Вецярэвічы Пух.

**КАМІЗЭРКА, КАМУЗЭЛЬКА** *ж.* Камізэлька. *Аддала ёй сьвітку старую, кап камізэрку пашыла, у камізэрцы ляхчэй, чым у сьвіця.* Жораўка Пух. *Можна наверх сукенкі і камузэльку адзець, яна ш красівая.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КАМІН** *м.* Будынак крэматорыя. *Нас разьдзелі голых, пастрыглі, волас зьнялі, і як гонюць туды, у камін, проста ў камін, то перат парогам такія зь дзірачкамі ямачкі.* Ухвала Круп.

**КАМІНАРНІК** *м. Неадабр.* Неахайны, брудны чалавек. *Схадзіў бы ты ў баню, сорам глядзець! Ходзіш як камінарнік.* Цялякава Уздз.

**КАМІСАР** *м. Уст.* Кіраўнік справамі ў панскім двары, маёнтку; адміністратар, радца. *Помню, быў двор тут графскі, але графіня рэтка бывала, а граф дык подаўна. Усім загадываў камісар — галоўны пасьля пана; быў ляснічы, ціўуны — наглядчыкі.* Багрыцоўшчына Дзярж.; *параўн.* польск. komisarz 'тс'.

**КАМЛІ** *толькі мн.* Пачаскі з ніжняй часткі трапанага льнянога валакна. *Чэшым первы рас, гэта атнімаюцца камлі і вярхі — вярхі горшыя, камлі лепшыя.* Папоўка Мядз. *Як шчэшым, трэба ш адабраць, дзе кужаль, а дзе верхаўё і камлі. Кужаль прадзём на аснову, а камлі гэта ўжо на уток.* Белае Лаг.

**КАМОДА** *ж.* Кухонны шкафчык. *Была такая кухенная камода. Былі ў ёй дзьве такія форткі, вот як цяпер у нашым шкапчыку, толькі шкла ні было.* Вязынка Маладз.; *параўн.* польск. komoda < рус. комод 'невысокая шафа з шуфлядамі для бялізны'.

**КАМОРА** *ж.* Спальня. *Як толькі с футара пераехалі, дык хату не перабівалі, а цяпер, як багацей сталі жыць, перабілі, і камора ест, дзе ўсе сьпяць.* Літва Стаўб.

**КАМОЧАК** *м.* Клёцка, галушка. *Тады робяць зь іх [камоў] камочкі — і масьлёнікі гатовы.* Радашковічы Маладз.

**КАМПАНЁРКА** *ж.* Тое, што і каляжанка; таварышка. *Прышлі кампанёркі і ўгаварылі яе ня йсьці ў цехнікум.* Літва Стаўб.

**КАМУЗЭЛЬКА** *гл.* камізэрка

**КАМЫ** *толькі мн. Кулін.* 1. Галушкі. *Тады тую муку, што палучыцца с канапель пражаных, сыпяць у ступу, кладуць цыбулю, сыпяць соль і таўкуць датуль, пакуль зь іх ні станя выступаць алей і ні стануць ляпіцца камы.* Радашковічы Маладз. *А маку як нарасьце, наробім камоў. А смачныя камы гэтыя былі сь цёртым макам.* Баяры Маладз. 2. Бульбяная каша, прыпраўленая салам ці тлушчам. *Сёньня на раніцу былі камы ў мяне.* Палессе Мядз. 3. Клёцкі, начыненыя мясам; *гл.* калдуны. *Часу няма, то ня буду сёньня рабіць камы. Ужо заўтра пачастую вас камамі — мяса ест якрас.* Скамарошкі Стаўб. *С апетытам камы паелі ў абет, кісьляку выпілі.* Нарач Віл.

**КАМЫСАЦЫЯ** *ж.* Прымусовае перасялен-

не. *А во, пры панскай Польшчы, была камысацыя. Гэта, дзеткі, нас тады з аднаго канца вёскі ды на другі перасялілі.* Баяры Маладз.

**КАМЯ́ГА** *ж.* Лодка. *На беразе ляжыць дзіравая камяга, а чыя яна?* Халопенічы Круп.

**КАМЯ́К** *м.* Кавалак мяккай, рыхлай масы. *Ну што гэта за хлеп такі! Ацесьліва, камяк камяком!* Акалова Лаг.

**КАМЯКІ́** *толькі мн. Кулін.* Тое, што і камы́ (у 2 знач.). *Больш за ўсё мае гарацкія госьці любяць камякі с кіслым малаком.* Вараксы Стаўб.

**КАМЯКНУ́ЦЬ** *зак.* Пакараць, прыстрашыць. *Дрэнна ціпер настаўнікам з гэтымі вучнямі: ні камякні яго, ні зачапі. Прама бяда зь імі!* Зазерка Пух.

**КАМЯНО́К** *м.* Шкло на лямпу. *Пратры і пачысьці, такі ўжо камянок забруджаны. Нічога ні відаць.* Астрашыцы Лаг.

**КАМЯНЯ́** *ж.* Качарга. *Камянёю жар выгрэбаюць сь печы ды ў ямку заграбаюць.* Мар'іна Горка Пух.

**КАН** *м.* Бітон. *Яня, ты ня відзіла, я тутака кан на малако ішчо адзін паставіла...* Яцыны Мядз. *Раней па дзесяць такіх канаў надойвала, а цяпер ужо не магу: рукі баляць.* Рубяжэвічы Стаўб. *Нанасі кан вады, хай будзя поўны.* Палачаны Маладз.; *параўн.* ням. Kanne 'тс'.

**КА́НА** *ж.* Тое, што і кан. *Я забываюся. Адзін рас была кану забылася, дзеці даганялі, аддалі.* Зялёнае Мядз.

**КАНА́** *ж., толькі адз. Кулін.* Абрадавая салодкая страва, якая рыхтуецца к памінкам. *Накрышаць проскуркі ў салоткую ваду, дак гэта кана завецца, і ставяць на стол.* Цялякава Уздз.

**КАНА́ПА, КАНА́ФА** *ж.* Мэбля ў выглядзе шырокай дошкі на ножках, звычайна са спінкай і падлакотнікамі, якая служыць для сядзення некалькіх асоб. *Канапу паставілі ля акна, канапа, па-нашаму, лава са сьпінкай, драўляная, цьвёрдая.* Палачаны Маладз. *На канафе заўсюды сядзець любяць бабы, наша канафа некая спрытная.* Зарэчча Стаўб. *Канафу паставілі каля сьцяны, можа месца боляй будзя.* Сцешыцы Віл.

**КАНАПЕ́ЛЬКА** *ж.* Зябер звычайны (Galeopsis tetrahit). *Канапельку мы ў бульбе вырываям, бо калі не выравяш — усе рукі сколяш пры капаньні бульбы. Насеньне канапелькі ў шышачках такіх с калючкамі. Вось яны і колюцца.* Хожава Маладз. *Канапельку маладую каровы любяць.* Вецярэвічы Пух.

**КАНА́ПКА** *ж.* Бутэрброд. *Добра зьесьці канапку с сырам, кілбасой ці маслам. Мы ўсягда бяром канапкі, як у лес ідзём ці на балота на цэлы дзень.* Чабаі Валож. *Якія яна толькі канапкі ня робіць!* Рубяжэвічы Стаўб.; *параўн.* польск. kanapka 'тс'.

**КАНАПЛЯ́НІК** *м. Заал.* Верабей (Passer). *Канаплянікі гнёзды парабілі пат страхой і жывуць там.* Мар'іна Горка Пух.

**КАНАПЛЯ́НКА**[1] *ж. Кулін.* Тое, што і канапля́нае малако́. *Або йшчэ сушылі каноплі, таўклі ў ступя, а тады цёрлі гэныя каноплі, цёрлі, лілі ваду, працэджвалі, палучалася як мачанка густая. Звалі яе канаплянкай.* Вязынка Маладз.

**КАНАПЛЯ́НКА**[2] *ж.* Тое, што і калапня́нка. *Мне заказалі куфар у століяра, купілі канаплянку, сёя-тоя с адзежы, вобуві.* Суднікі Валож. *Адзень канаплянку, цяплей будзя, і кабат адзень.* Рубяжэвічы Стаўб. *У наш магазін канаплянкі рэтка прывозяць, а прывязуць, то не залежываюцца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАНА́РКА** *ж. Ласк.* Маленькая. *Ах ты, канарка мая, ну хадзі, хадзі сюды! Я табе капоту надзену, цяплей будзе.* Ганчароўка Смал.

**КАНАТО́ВІКІ** *мн.* Тое, што і вераўча́нкі. *У канатовіках хаця лёхка хадзіць было.* Саланая Валож.

**КАНАТО́РЖНІК** *м. Бат.* Чарнобыль (Artemisia vulgaris). *Марыся дома паставіла цэлы букет канаторжніку. А якая зь яго красата?* Язні Віл.

**КАНА́ФА** *гл.* кана́па

**КАНА́ЦЬ** *незак.* Выражае найвышэйшую ступень хацення, жадання. *Чаго ты ўсё канаіш і канаіш, атыйдзіся, сказала — ні дам!* Галькі Круп.

**КАНБА́Й** *м.* Камбайн. *Жаць сярпом цяпер ня трэба, бо канбай усё жне і малоця адразу.* Трыгузі Віл.

**КАНДАЛЫ́** *мн. Экспр.* Абутак на драўлянай падэшве, дзеравяшкі. *Былі кандалы такія абувалі: зьнізу падошва драўляная, а зьверху скурка прышыта, яе выразалі ў цьвяты.* Глушка Пух. *А раней кандалэ бацька зробіць і такі рады, што ёсь у што абуцца.* Зарэчча Стаўб. *Некалі называлі ў нас кандалэ, гэта што на драўлянай падэшве.* Нізок Уздз.

**КАНДУІ́Т** *м. Перан.* Сшытак агульны. *Купі кандуіт, не забуць.* Петрашунцы Валож.; *параўн.* польск. konduita, фр. conduite 'паводзіны, трыманне'.

**КАНДУ́Ш** *м.* Сяннік. *Усе кандушы ў вугле склалі, потым разьбяруцца.* Кузьмічы Мін.

**КАНДЫБА́ЦЬ** *незак.* Ісці, з цяжкасцю перастаўляючы ногі. *Кандыбаў, кандыбаў па гасьцінцы, і канца яму няма.* Раўчак Пух.

**КАНДЫБІ́НА** *ж. Перан.* Палка, хадуля. *Выцягнуўся як кандыбіна, а ў галаве вецяр лятая.* Забрэжжа Валож.

**КАНЕ́Ц** *м.* Апошні дубец пры дапляганні каша. *Як канчаяш кош, дак пасьленьні дубец называюць канец.* Нізок Уздз. ◊ **Канцы прыходзяць** — становіцца вельмі дрэнна, пачынаецца нясцерпны боль. *Мне каб або нагнуўшы-*

*ся, або прамо рабіць, то яшчэ сяк-так. А як гэто во то нагніся, то разагніся, галава балець пачыная, канцэ прыходзяць.* Валеўка Навагр. **У адны канцы** — настойліва адгаворваць, пераконваць. *Мая пляменіца моцна хацела быць балярынай, але маці ні схацела. Паўтара года вучылася, але маці ў адны канцэ, ні будзяш і ні будзяш балярынай, як настала, як настала — кінула балетную школу.* Мікалаеўшчына Стаўб. **У канцы канцоў** — нарэшце. *Ну, у канцы канцоў атхадзіў я ў школу, скончыў.* Задубенне Мядз.

**КАНЁК** *м.* Нос лодкі. *Ты на канёк не садзіся, ідзі сюды, а то цяшка будзе плыць.* Скамарошкі Стаўб.

**КАНПО́Т** *м.* Кампот. *А цяперака канпоты ўсякія, варэньняў сколька і якіх хочыш! Гэта ж вун у мяне сколька с трускавак, пярэчак, я́грэста.* Вязынка Маладз.; *параўн.* польск. kompot, фр. compote 'складзены'.

**КАНСЕ́РВЕННЫ** *прым.* Кансервавы. *Назьбіралі чарвей кансервянную банку — і на рыбу.* Каменка Уздз.

**КАНСЭ́РКА** *ж.* Банка з-пад кансерваў. *Вунь кансэрка пат плотам ляжыць, вазьмі ды і пасадзі туды свой цьвяток.* Жызнава Віл.

**КАНТАВА́ЦЦА** *незак.* Хадзіць бязмэтна. *Чаго ты кантуясься па хаце з вугла ў вугал? Калі няма чаго рабіць, дык я дам табе работу: ідзі травы сьвіням нарві.* Баяры Маладз.

**КАНТАВІ́К** *м.* Крук жалезны для пераварочвання грубых калод пры пагрузцы. *Кантавіком круцілі калоду на месьці, каб зручней было грузіць.* Нізок Уздз.

**КАНТА́К** *м.* Тое, што і кантавік. *Бяруць кантак і паткладаюць яга пат калоду, тады і грузіць ляхчэй.* Гілікі Валож.; *параўн.* польск. kanták 'тс'.

**КА́НТАР** *м.* Раменны повад навязваць жывёлу. *Такая ж гаткая карова мая, што бес кантара і ні падоіш.* Вялікая Вуса Уздз.

**КАНТАЎНІ́К** *м.* Тое, што і кантавік. *Кантаўнік — гэта крук такі, кап калоду перакручваць на месцы.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАНТЫ́ЧКА** *ж.* Кніжка. *Такі разумненькі хлопец быў! Усё кантычкі чытаў і мне расказваў, пра што там пішуць.* Зазерка Пух.; *параўн.* польск. kantyczka 'зборнік рэлігійных калядных песень'.

**КАНУ́РКІ** *толькі мн.* Карункі. *Я зьвізала ўжо кануркі, забірай.* Ратуцічы Барыс.

**КА́НУЦЬ** *зак.* ◊ **Як у ваду кануць** — бясследна знікнуць, прапасці. *Лічу ўвечара курэй, і як ні клічу, як ні прыгаварваю — німашыка. Як у ваду канула [курыца].* Гранічы Маладз.

**КАНФЕ́ТЫ, КАНХВЕ́ТЫ** *мн.* Цукеркі. *Тады жаніх выкупляя нявесту, плаціць канхветамі, грашыма, выкупляе яе. Каля дому маладых сустракаюць бацькі с хлебам-сольлю, сыплюць канфеты і ў варотах сыплюць хлеп.* Багрыцоўшчына Дзярж.

**КАНЦАВІ́К** *м.* Тое, што і кане́ц. *Вазьмі дубец таўсьцейшы для канцавіка.* Бытча Барыс.

**КАНЦО́М** *прысл.* Абавязкова. *І трэ було п канцом да сваіх даведацца, але ж німа калі цяпер.* Палачаны Маладз.

**КАНЦЫВАЛО́К** *м.* Кавалак зямлі, які ўпіраецца ў лес. *Тут у нас лясоў многа, то і канцывалокі ёсьць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАНЦЭ́РВЫ** *мн.* Кансервы. *У нашым магазіне розныя канцэрвы прадаюць, ну дык усе й купляюць.* Будслаў Мядз.; *параўн.* польск. konserwa 'тс'.

**КАНЦЭ́РКА** *ж.* Тое, што і кансэ́рка. *Хоць і нясмашная канцэрва, але радзі канцэркі купіла, бо вельмі ж яна выгадная: можна торцікі пячы ў ёй.* Будслаў Мядз.

**КАНЧА́ТАК** *м.* Канец. *— Ну, дак а як жа? Бас начатку ня можна тады й канчатку зрабіць.* Мядзел Мядз.

**КАНЧУЧО́К** *м. Памянш.* Ражок (хустачкі, настольніка, бялізны). *Калаўрот стаіць, карзіну патстаўляю з бялізнай, а ў гэты калаўроцік во так во канчучок гэты рас даткнуць, дак і пацягніць. А сама кручу во так як машынай.* Пагост Віл.

**КАНЧЫ́К** *м.* Пояс. *Канчыкі хлопцам дзеўкі плялі, ікая хлопца любя, таму і пляце. А плялі ў нескалька нітак, і цьвету канчыкі каб былі разнага, а тады на нізу ніткі ў кутасы сабіралі.* Задор'е Лаг.

**КАНЧЫ́ЦЬ** *зак.* Скончыць. *Я прыходжаю робіць, а ён ўжо хлеў канчыў. Дык чаго я тут робіць буду?* Чыжаха Бярэз.

**КАНЬ** *ж. Будаўн.* Капітальная сцяна ўнутры чатырохсценнага зруба. *У мяне дзьве кані. Большынство па дзьве кані робяць. Калі няма дзерава на кань, то робяць разбіўку доскамі.* Нізок Уздз. *Калі хата вялікая, то яе перагароджваюць каняй, тады ў хаце пяць сьцен. Кань перакінена ў хаце.* Рудня Чэрв. *Гэта мы нідаўна ў хаце перакінулі кань.* Чабаі Валож.

**КАНЭ́БУХ** *м. Неадабр.* Недарэка. *Канэбух ты, канэбух! Я яму адно кажу, а ён зусім другое робіць.* Баяры Маладз.

**КАНЮ́Х[1]** *м.* Конюх. *Пятрусь нікуды ні паехаў, а каторы ўжо гот канюхом робіць.* Млечкі Віл.

**КАНЮ́Х[2]** *м.* Воўк, які нападае на коней. *Як унадзіўся аднаго году канюх, усіх коней парэзаў.* Вецярэвічы Пух.

**КАНЮ́Х[3]** *м. Заал.* Каня (Buteo). *Чуў я, што канюху з рэчкі вады ні дазваляяца піць, дык ён лётае і крычыць: піць, піць...* Бясяды Лаг.

**КАНЮШО́К** *м. Памянш.* Каняка, слабы, заезджаны конь. *Сыйчас каня заварачываім*

*[быў у нас канюшок такі], па ім, па ім — і паехалі.* Бакачы Мядз.

**КАНЯВА́Я СЦЯНА́.** Тое, што і к а н ь. *Канявая сьцяна — сьцяна пасярэдзіне дома, дзеліць дом на дзьве палавіны.* Пруды Стаўб. *У хаці могуць быць дзьве канявыя сьценкі, могуць быць і чатыры.* Бясяды Лаг.

**КАПА́** *ж. Уст.* Даўнейшая адзінка лічэння, шэсцьдзесят штук. *І нада налічыць дзесіць разоў па шэсць, шэзьдзісят, і гэта будзіць капа. Лічым, колькі коп хто нарваў [ільну].* Папоўка Мядз.

**КАПА́ЛЬНЯ** *ж.* Жанчына, якая займаецца копкай. *Бывая, капальня пад рыдлёўку капае. От накапаясься, як ні так мякка.* Такарышкі Іўеў.

**КАПАНІ́** *мн.* Палазы, матэрыялам для якіх служыць выкапанае з коранем дрэва. *Капані — гэта самарослыя палазы, значыць, такія, якія гнуць ня нада, а самі растуць крывыя.* Малмыгі Віл.

**КАПА́НІКІ** і **КО́ПАНІКІ** *мн.* Сані, у якіх галоўкі палазоў не гнутыя, а вычасаны з кораня. *Санкі-капанікі больш моцныя, чым гнутыя.* Ляхавічы Дзярж. *Гнутыя сані ідуць лучша, а капанікі сьнех перад сабой сунуць.* Рудня Чэрв. *Гнутыя сані дык яны больш падагнаныя, а копанікі — працейшыя.* Пруды Стаўб.

**КАПАНІ́ЦА**[1] *ж.* Тое, што і к а п а́ л ь н я. *Дзе ж гэта наша капаніца? Можа, спачатку да сястры пайшла капаць?!* Суднікі Валож.

**КАПАНІ́ЦА**[2] *ж.* 1. Матыка. *Хай бы ты навастрыў капаніцу: трэба ж памідоры паакучваць.* Баяры Маладз. 2. Лапата, рыдлёўка. *Ці можаце вы пазычыць мне на нейкі час капаніцы сваёй — німа чым капаць.* Межава Чэрв. *Калі капаніцай картоплю капаць, то парэжам шмат, бо загусьцілі пры пасаццы.* Астравок Уздз. 3. Доўгая канава, выкапаная ўручную. *У капаніцы многа рыбы.* Чабаі Валож.

**КАПАНІ́ЧЫЦЬ** *незак.* Матычыць. *Пачакайце троху, маці пайшла картоплю капанічыць.* Цялякава Уздз.

**КАПА́НКІ** *мн.* Тое, што і к а п а́ н і к і. *Некалісь у нас былі такія добрыя сані, капанкі зваліся.* Дукора Пух.

**КАПА́ННІК** *м.* Той, хто выбірае бульбу. *— Колькі капаньнікаў будзіш зваць? — Чацьвёра. — Глядзі, кап хапіла, каб назаўтра бульба не асталася.* Межава Чэрв.

**КАПА́Ч** *м.* Тое, што і к а п а н і́ ц а[2] (у 2 знач.). *Бяры капач і ідзі ў агарот бульбы накапай, а тады цабэркі ў хату занясі.* Вішнева Валож.

**КАПА́ЧЫК** *м.* Матыка без зубоў. *А да гэтага без зубоў гачкі былі, капачыкамі зваліся. Сядзіш, капачыкамы капаіш гэту бульбу.* Ластаянцы Валож.

**КАПЕ́ЕЧКА** *ж.* ◊ **Да капеечкі** — усё, цалкам, поўнасцю (патраціць, пайсці і г. д.). *Кап ты, думаю, ні спажыла таго рубля, каб яны табе да капеячкі на лякарства пайшлі!* Гранічы Маладз.

**КАПЕРА́ТЧЫК** *м.* Прадавец. *У нас капяраччык добры, пятнаццаць год робіць, ні разу ні ўматаўся.* Ляхі Нясв.

**КАПЕ́ШКА** *ж.* Копка, малая капа. *Горача стала, дак я фрэнч зьдзеў і палажыў пат капешку, а як дамоў ісьці, забыўся на яго.* Канстанцінава Мядз. *Як высахне трава, валы зграбаюць у капешкі. Я во дзьве капешкі растрэсла.* Ігрушка Круп.

**КАПІ́ЦЬ** *незак.* Запасіць, збіраць. *Быў нат-та скупы, людзей на жніве голадам марыў, усё багацьце капіў. Хацеў дачку выдаць замуш за пана ці за шляхэтнага кавалера.* Хожава Маладз.

**КАПІШО́Н** *м.* Адкідны галаўны ўбор, прымацаваны ззаду да каўняра верхняй адзежыны; башлык. *Бывала, як едзім у далёкую дарогу, то паверх шапкі надзівалі башлык, а цяпер на башлык у нас гавораць капішон.* Вецярэвічы Пух. *Прышый паверх капішон, кап не спадаў.* Вішнева Валож.; *параўн.* польск. kapiszon, фр. capuchon 'тс'.

**КА́ПКА** *ж.* Капля, кропля. *Хутка дош пойдзіць, і вялікі. Глянь, капкі ўжэ пачалі капаць.* Пярэжыр Пух.

**КАПКУ́Н** *м. Экспр.* Капун, маруда. *Што зробіш, калі ён такі капкун, што ні можа з усімі разам на занятках справіцца.* Будслаў Мядз.

**КАПО́Т** *м. Уст.* Жаночая суконка шырокага пакрою з рукавамі і разрэзам спераду. *Павесяць калыску на тарганы, заткнуць капот за пояс і пачынаюць працаваць.* Восава Круп.

**КАПО́ТА** *ж.* 1. Адзенне. *Уся твая капота ў шафе ляжыць, я туды прыбрала, а то па хаці раскідала.* Барок Стаўб. 2. Паліто. *Людзі добра жыць сталі: нават на работу капоты носяць. Раней — толькі багатыя і то ў цэркву.* Літва Стаўб. 3. Адзежына. *Як скіня ён сваю капоту, хваця палку дый за сабакам!* Забрэжжа Валож.

**КАПО́ЦІНА** *ж.* 1. Кароткі жаночы жакет. *Цяпер так цёпла, што ніякая капоціна ня трэба.* Зарэчча Стаўб. 2. Суконка. *Пашыла на вечар прыгожую капоціну, ды во, не найду, куды мама паклала.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КАПТА́Н** *м.* 1. Двухбортная мужчынская і жаночая верхняя адзежына з сукна сваёй работы. *Зімой кажухі насілі і калі суконны каптан пашыя. Гэта і на будні дзень і на сьвята.* Вязынка Маладз. 2. Блузка. *Мой мультановы каптан ужо знасіўся, парвоўся, у чом гэта я буду ўзімою.* Цялякава Уздз.

**КАПТУ́Р**[1] *м. Уст.* Жаночы галаўны ўбор, які завязваецца пад падбародкам. *Ета ж горача было, дак я каптур на галаву адзену, і сонца не так пячэ.* Рудня Чэрв.

**КАПТУ́Р**[2] *м.* 1. Верхняя частка печы, якая ўзвышаецца над ляжанкай у выглядзе сценкі. *Мама на каптуры хлеп сушыла, а мы, малыя, цягалі яго на ляжанку і елі, каб мама ня бачыла.* Зазерка Пух. 2. Пярэдняя частка печы ад чалеснікаў да юшкі. *Каптур зарудзеў, трэба ў суботу пабяліць.* Чыжаха Бярэз. 3. *перан.* Перад адзення. *Ськідай зараж жа гэту рубаху! Каптур увесь закарэў.* Баяры Маладз.

**КАПТУ́Р**[3] *м.* Высокая прычоска. *І што цяпер за мода! Зробіць каптур на галаве, што бусял гняздо.* Варацішчы Стаўб.

**КАПТУРО́К** *м.* Дзіцячы галаўны ўбор, які завязваецца пад падбародкам і пакідае адкрытым толькі твар. *Да году дзіцячы каптурок нельга пераварочваць, бо галоўка будзе на бок — кажуць старыя.* Вецярэвічы Пух.

**КАПТУ́РЫК** *м.* Тое, што і каптуро́к. *Малому сашыла такі харошы каптурок с курункамі, аж люба глянуць.* Рудня Валож. *Дзіця вырасла с кашулькі, каптурок зрабіўся малы.* Саланая Валож.

**КАПУЛІРО́ЎКА** *ж.* Спосаб прывіўкі почкай на дзікім дрэве. *Я капуліроўкай усягда прывіваю, налаўчыўся, і спрытна палучаіцца.* Малмыгі Віл.

**КАПЦА́Н** *м. Зневаж.* Неахайны хлопец. *Чаму ты гэтакі капцан? Ці ж нічога ў цябе чыстага няма?* Лысавічы Мін.

**КАПЦІ́ЛКА** *ж.* Тое, што і газніца. *Пасьля вайны капцілкі ўсё былі, бо газы ня было.* Хожава Маладз.

**КАПЦІ́ЦЬ** *незак.* Вэндзіць. *Мяса баравоў капцілі.* Ляшчынск Мядз. ◊ **Капціць свет боскі** — жыць, не прыносячы карысці. *Дзет мой натта ні любіў, калі хто ленаваўся рабіць. Помню, схваціў рас стрэльбу [а быў ахотнік] і крычыць [на сына]: „Застрэлю, кап сьвету боскага ні капціў, гультаюга!"* Ільля Віл.

**КАПЦО́ЎКА** *ж.* Ранняя бульба. *Вазьмі, Варывон, каня: сёньня трэ капцоўку паганяць.* Рудня Чэрв.

**КАПЦЮ́ЛЬКА** *ж.* Тое, што і газніца. *За акном завіруха выла, а ў хаці папстрыквала капцюлька ды стракатаў калаўрот.* Буцькавічы Стаўб.

**КАПЦЮ́ШКА** *ж. Памянш.* Тое, што і газніца. *За лучынкай пралі, за капцюшкай маленькай, пат сябе паставім — і прадзём.* Восава Мядз. *Ва ўсіх яшчэ капцюшкі гарэлі, а ў яго лямпа сьвяціла.* Мушанка Віл. *Запаліш, бывала, капцюшку і прадзеш пры ёй.* Будслаў Мядз.

**КА́ПЧЫК** *м.* Тое, што і зграба́ч. — *Бяры капчык ды лезь на вос! Што я адзін буду ўсё рабіць?* Ігрушка Круп.

**КАПШУ́К** *м.* 1. Мяшочак на грошы. *У нас гавораць, што ў яго капшук туга набіты, ёсьць грошы, а ён усё бядуе, што няма.* Нарач Віл. 2. *перан.* Жывот. *І ты во тожа добры капшук маяш, ні худзенькая.* Вялікая Вуса Уздз.

**КАПЫЗІ́ЦЦА** *незак.* Задавацца, задзіраць нос. *Нечага табе капызіцца!* Дукора Пух.

**КАПЭ́ЛЮШ** *м.* Капялюш. *Ні надзявай капэлюша, сягоньня ш горача.* Ваўкалатка Віл.; *параўн.* польск. kapelusz 'тс'.

**КАПЭ́РАЦ** *м.* Смерць. *Як дам зара, дык тутачка табе і капэрац будзя!* Палачаны Маладз.

**КАРАБА́Н** *м.* Зморшчынка. *Ат старасьці ў яго ўжо шкура ў карабаны пабралася.* Лісічана Круп.

**КАРАБО́К** *м.* Шпакоўня. *А мой Якуб нарабіў столькі карапкоў, што аж няма дзе вешаць.* Мацкі Мядз.

**КАРАВА́ЦЬ** *незак.* Знімаць кару. *Трэба брацца штукі караваць.* Вішнева Валож.

**КАРА́ВЫ** *прым.* Вельмі брудны. *Караву́ю ваду пасьля адзежы пад яблыні вылі.* Ваўкалатка Віл. *Што ты мыяш, што ты мыяш? Ні бачыш, што ўжо вада каравая?* Бытча Барыс.

**КАРАГА́З** *м.* Керагаз. *Я кажу: „Ну, ты ш ужо скідай ржышча, а я карагас патпалю, вячэру падагрэю".* Залазоўе Віл.

**КАРАГО́ДНІК** *м.* Хто водзіць карагод. *Калі карагоднік дае каманду: „У кола!" — усе бяруцца за рукі і ідуць па сонцу.* Дукора Пух.

**КАРАДНІ́К** *м. Пчал.* Борць, выдзеўбаная з калоды. *А вун караднікі с пшчолкамі стаяць. Калі ні будзіш мяне слухаць, пшчолка ўкусіць цябе.* Яцыны Мядз.

**КА́РАК** *м.* 1. Шыя. *Я як увідзіла гэткую работу, за карак [хоць ніякі, гультаяваты, які сабе ш ні ёсць, але ш мужык!], ну, я тады за карак яго — і дамоў.* Залазоўе Віл. *І ўжо каб ён мяне не атхваціў за карак — і мяне б забіла!* Забор'е Віл. 2. Сала і мяса на карку. *Закалолі парсюка, дак карак у далонь быў.* Вецярэвічы Пух.

**КАРАНЁК**[1] *м.* Цыбуліна, у якой адрэзаны вяршок. *Каранёк цыбуліны садзяць, а вяршок выкідваюць.* Ляшчынск Мядз.

**КАРАНЁК**[2] *м.* Бакавы тоненькі карэньчык на якой-н. расліне. *Так есьці не нада, с караньками. Нада караньکі пачысціць, а пасьля ўжо і есьці.* Ляшчынск Мядз.

**КАРАНІ́К** *м. Пчал.* Тое, што і караднік. *Ш часьцей караніка помню толькі галаву ды ляток, бо такіх каранікоў даўно німа.* Нізок Уздз. *У суседа сад, дык пат кожным дзеравам каранік стаіць: два каранікі новыя, астальныя старыя.* Вялікая Вуса Уздз. // *перан.* *Неяк рас была ў Мінску, дык там люду, як пчол у караніку, так шмат.* Хожава Маладз.

**КАРАНТЫ́Ш** *м.* Кароткае бервяно, якое кладзецца ў прасценках паміж вокнамі. *Будзям класьці сягоньня карантышэ, падаконныя палажылі ўжо.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАРАСІ́НА** *ж.* Газа. *Цяпер мала хто карасінай карыстаяцца, я дак і забылася ўжо пра*

*яе.* Вецярэвічы Пух. *Зьбяруцца [на попрадкі] усе ў вадну хату, затоя што карасіны ш ня было, калядмі ляньі прадуць садзяцца.* Мечаі Віл.

**КАРАСПЕЛКА** *ж.* Бульба-скараспелка. *Зарас карасьпелка ўжо цвысьці будзе, а тая зусім яшчэ малая.* Баяры Маладз.

**КАРАЎЛОТ, КУРУЛОТ** *м.* 1. Самапрадка, калаўрот. *Прадзём, пяём песьні, караўлоты круцяцца. У каторай новы караўлот, добра прасьці, а не, дык і шнур парвецца.* Лоск Валож. *Старэйшыя бабы прадуць на караўлот, а дзяўчаткі-падросткі вучацца прасьці на верацёна.* Рубяжэвічы Стаўб. *Даўней у кожнай хаце караўлот быў, а цяпер адзін на ўсю вёску ці знойдзеш.* Ціханава Слабада Стаўб. *Караўлот стаіць перат табой, і ты прадзеш, а даўней быў караўлот-ляжак.* Хожава Маладз. *Раней на курулоці пралі, а цяпер нікому нічога не патрэбна, бо ўсё ў магазіні ест: і ніткі, і капы красівыя, адным словам — усё.* Літва Стаўб. 2. Прыстасаванне падымаць грузы на вышыню. *Раней караўлотам вулей паднімалі на дрэва.* Вецярэвічы Пух.

**КАРАХВАШКІ** *мн.* Выязныя сані. *На карахвашках езьдзілі на кірмаш, у госьці, а так проста не езьдзілі.* Ратуцічы Барыс.

**КАРАЧЫК** *м.* Вялікі палец на назе. *А маё ты дзіцятка, дзе ш ты зьбіла карачык? Ідзі, я дам табе трапачку, прамый, а ў бутэльцы ёд ё, зальём.* Рудня Чэрв.

**КАРАШОК** *м.* Паплавок з корка. *Карашок торкаіцца на вадзе, калі рыба бярэ чарвяка.* Ляшчынск Мядз.

**КАРБАВАНЫ** *прым.* Гафрыраваны, з гафрыроўкай. *А тады ўжо кветачкі с карбаванай бумагі рабілі. Усё болі з бумагі карбаванай украшалі.* Вязынка Маладз.; *параўн.* польск. karbować 'фалдаваць, укладаць'.

**КАРБАРУН** *м.* Звышцвёрды прадмет для вастрэння металічных рэчаў. *Коля, дай свайго карбаруна, бо мой недзя згубіўся. А можа, Юрка браў?* Заямнае Стаўб.; *параўн.* польск. karborund 'тс'.

**КАРБУЛЯ** *ж.* Скула, стрыжнявы струп, гнойная болька. ∇ **Кап цябе карбуля задушыла, як ты мне на маю хваробу такога кіслага шчаўя наварыла!** Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. karbunkuł 'тс'.

**КАРБУНКА** *ж.* *Экспр.* Чорт, халера. *Устрачаіць [сын] з нейкай, тожа вялікая, як сам, вочы намазаныя-намазаныя, валасы во, ці яны свае, ці пастаўленыя, карбунка іх цяпер разьбярэць!* Язні Віл.

**КАРВАЦЬ** *ж.* Ложак. *Апстаноўка ў хаця ізьвесна якая. Дзярвяныя карваці былі, дошкі там ляжаць, тады прынясе куль, салому гэту туды-сюды, а наверх пасьцілку.* Вязынка Маладз. *Ён як прыедзя да нас, ляжа на карваць і каскі расказывая вам — табе і Юзюку.* Ластаянцы Валож. *Карваці харошыя прывезьлі ў магазін наш.* Аўгустова Лаг.

**КАРВЕНТ** *м.* Канверт. *У сусеткі карвент пазычыла, дык вы ўжо мне напішыця адрас.* Даўгінава Віл.

**КАРДОНІНКА** *ж.* *Памянш.* Кардонка. *С кніжнай кардонінкі партны выразаў брыль у шапку.* Бясяды Лаг.

**КАРЗІНА** *ж.* Плецены выраб з лучыны, лазы для захоўвання і пераноскі чаго-н. *Карзіны ў нас з лучыны плялі на грыбэ, хадзіць у рыбу, на ягады.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАРКАВІНА** *ж.* Свіны ашыек. *У нас с каркавіны верашчаку вараць. Калі ў парсюка сытая каркавіна — такая верашчака будзе!* Рабунь Віл. *Каркавіна ў нашага парсюка тоўстая.* Цялякава Уздз.

**КАРКАЦЕННЕ** *н.* Тое, што і ж а б а р ы н - н і к. *Жабы выводзяцца с каркаценьня.* Пруды Стаўб.

**КАРКІ** *мн.* Воз, павозка. *Раней моладзь весялей жыла. Сабяруцца, пасядуць на каркі — ды ў лес гуляць.* Бясяды Лаг. *На калхозным двары і каркі, і машыны, і трактары стаяць цяпер.* Белькаўшчына Стаўб.

**КАРМІЦЬ** *незак.* Выкормліваць. *Яны парсюкі кармілі і сала продалі.* Дукора Пух. ◊ **Карміць вошы** — знаходзіцца ў такіх умовах, пры якіх даводзіцца пакутаваць ад насякомых-паразітаў. *Я зь дзяўчынай у вайну папалі [у лагер канцэнтрацыйны], адгаравалі там два гады — і вошы накарміліся і есьці нахацеліся.* Альсевічы Мядз.

**КАРМОРА** *ж.* Перазімавалая ў адкрытым грунце бульба. *Было ў вайну так, што і дзяцей карморою кармілі.* Пудзіцк Пух.

**КАРМУШКА** *ж.* *Кулін.* Цура. *Нешта кармушкі захацелася зьесьці. Пакрышу хлеба ў салоткую ваду — і кармушка гатова.* Палачаны Маладз.

**КАРНАСТЫ** *прым.* Каранасты. *Зяць мой крэпкі такі, карнасты.* Забалоцце Смал.

**КАРНІК**[1] *м.* Спецыяльна абсталяваная частка хлява для захоўвання сена. *У карнік вазы са два, а можа, і са тры палажылі.* Луцішча Круп.

**КАРНІК**[2] *м.* Тое, што і к а р а н і к. *Прошлы гот прыйшоў чалавек с футара і просіць Івана памахчы перанесьці карнікі, дык пчолы як кінуліся на Йвана.* Баяры Маладз.

**КАРНІСТАР** *м.* Каністра. *Нам як гэты сьвет правялі, дак мы ніяк прывыкнуць ні маглі. Заўсёды карністар з газаю трымалі, усё баяліся.* Баяры Маладз.

**КАРОБАЧКА** *ж.* Плеценая з лазы снасць лавіць уюны. *Коробачка — круглая з лазы лавушка, якой мы зімой уюны ловім.* Вецярэвічы Пух.

**КАРОБАЧНІК** *м.* *Уст.* Карабейнік. *Некалі каробачнікі хадзілі с товарамі па сёлах. Каму*

*які тавар трэба было, дык куплялі.* Цялякава Уздз.

**КАРО́БКА** *ж.* **1.** Тое, што і ка́даўбец. *Каропкі зь ліпы выдаўбалі.* Вецярэвічы Пух. **2.** Лубянка. *Каропка прывязвалася да сьпіны, каб ляхчэй было зьбіраць ягады.* Цялякава Уздз.

**КАРО́ВА** *ж.* ○ **Карова бражная** – карова, якую пояць адходамі з брагі. ◊ **Як карова бражная** *зневаж.* – нястрымны ў паводзінах хто, узбуджаны (звычайна пра жанчыну). *Чаго ты лётаеш як карова бражная? Што я табе благога зрабіла?* Бясяды Лаг.

**КАРО́ВІНА** *ж.* Гавядзіна. *Сьвініну, каровіну мяса рэжуць, крышуць, перцу туды, лісьціку туды, церас трубачку кілбасы робяць, кілбасы свае робяць.* Сёмкава Мін.

**КАРО́ВІЦА** *ж.* Карова. *Як пасьвілі маю каровіцу, то ўкалечылі. Цяпер бес каровіцы.* Такарышкі Іўеў.

**КАРО́ДЗІЦЦА** *незак.* Плакаць, капрызіць. *Дзіцятка бедняенькае цэлы вечар карадзілася, дрэнчылася, нездаровілася яму.* Дукора Пух.

**КАРО́МЫСЕЛ** *м.* Ворчык, ба́рак. *Дзівін, запрагай! Твае калёсы з каромыслам.* Бялaручы Лаг.

**КАРО́НАК** *м.* Прыбудова. *Хату мы пастроілі, а хочам шчэ каронак да хаты зрабіць.* Баяры Маладз.

**КАРО́НКІ** *мн.* Тое, што і анталя́жы. *Каронкі даўней бабы ды дзеўкі на вячорках плялі. Мы зарас сь сястрой наробілі сабе каронкаў.* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. koronki 'тс'.

**КАРО́СТАВЫ** *прым.* Карослівы. *Сказалі мір, і майго пусьцілі дамоў. І клячу некую прыгнаў с-пад Оршы. Мазаў-мазаў, мазаў-мазаў, кароставая, нівартая – і здохла.* Папоўка Мядз.

**КАРО́ЎНІК** *м.* Гладыш на малако. *Налі малака ў кароўнік ды бярыся за капаніцу: буракі прапалоць трэба.* Сосны Лаг.

**КАРПА́ТЫ** *прым.* Кірпаты. *Выродзіўся карпаты, як каробачка нос.* Вецярэвічы Пух.

**КАРСЭ́Т** *м.* Безрукаўка. *Як без рукавоў вопратка, дык гэта карсэт.* Дукора Пух.

**КА́РТА** *ж.* Ліст, старонка. *Узялі гэты пашпарт, паслалі аш у Плешчыніцы, там ужо праверылі, аказалася, усе карты ё, павыдзіраных картаў німа.* Залазоўе Віл.; *параўн.* польск. karta 'тс'.

**КАРТА́К** *м.* Мужчынская безрукаўка. *Пашыла я свайму Ляксандру картак цёплы на зіму.* Кукалеўка Чэрв.

**КАРТАПЛЕ́ННЕ** *н.* Цяўнік, бульбоўнік. *Пара картапленьня жжынаць, а то пажаўцея, лісьцікі паападаюць.* Варацішча Стаўб.

**КАРТАПЛЯ́НІК, КАРТАФЛЯ́НІК** *м.* **1.** Тое, што і картапле́нне. *Як картошка пасьпявая, то картаплянік жнуць сярпамі, сушаць ды на сечку.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Дранік, аладка з дранай бульбы. *Ты ш картаплянікі любіш, то от наабірай картопяль, напяку.* Вецярэвічы Пух. *Ай, я лепш вечарам напяку вам картафлянікаў, а пакуль малака вазьміця.* Заямнае Стаўб.

**КАРТАФЛЯ́НІШЧА** *н.* Бульбянішча. *Сёлета на картафлянішчы ячмень пасеялі.* Чабаі Валож. *Картаплянішча ўзаралі пат пшаніцу.* Вецярэвічы Пух.

**КАРТАФЛЯ́НКА** *ж. Кулін.* Драная бульба, запраўленая тлушчам ці салам, залітая ў кішку і засмажаная. *Картафлянку мы часта робім, усе ў нас яе любяць. Але ш і смачная картафлянка сьвежая!* Вецярэвічы Пух.

**КАРТО́ПЛЯ, КАРТО́ФЛЯ** *ж.* Бульба. *Ці многа засталося выбіраць картоплі? Маразэ ш напіраюць.* Межава Чэрв. *Ідзі дапамажы палоць, натта ш картофля ўся зарасла.* Юшкаўка Віл. *У нас сёлета мала ка́ртоплі, мо пасадзіць ці хваціць.* Падзерычы Стаўб. ◊ **Карто́фля ў мундзіра́х** – тое, што і бу́льба ў кажушка́х; *гл.* кажушо́к. *На вечар абіраім картофлю, а на раніцу – у мундзірах.* Пруды Стаўб.

**КАРТУ́ЛЬ** *м. Зневаж.* Карантыш. *А мой брат, што паехаў, вот жа малы быў, дык на яго ўсе брахалі: „Картуль, картуль!"* Бясяды Лаг.

**КАРУ́ЗА** *м. Неадабр.* Задзірысты, непамяркоўны чалавек. *Ні зьвязвайся з гэткім карузам, бо ні будзя табе жызьні!* Краснае Маладз.

**КАРЦЕ́ЦЦА** *незак.* Хацецца, не цярпецца. *Так і карціцца табе за дзьверы на двор бехчы хутчэй.* Асавец Маладз.

**КАРЧАВІ́К** *м.* **1.** Чалавек, які працуе на карчоўцы пнёў. *У нас у вёсцы раней карчавіке былі, а цяпер усё машынамі карчуюць.* Мікалаеўшчына Стаўб. *У нас была кампанія чалавек дванаццаць карчавікоў, і мы хадзілі пні капаць.* Хожава Маладз. **2.** Шчупак цёмнай афарбоўкі, з кароткім целам, што жыве пад карчамі. *Шчупак бывае чорны і кароткі, які называюць карчавіком, а расавіком называецца сьвятлейшы і даўжэйшы.* Пруды Стаўб.

**КАРЧА́ГА** *ж.* Трэска, патарчака. *Трэба карчагі прыбраць з двара, а то заўтра госьці маюцца быць, а ў нас у двары брудна.* Літва Стаўб.

**КАРЧАЖЫ́НА** *ж.* Смалякі, трэскі, гнілушкі з карча. *Раней, як нам здавалася, і пры карчажыне сьветла было.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КАРЧА́К** *м.* Дрэўка з карча. *Бацька тады карчаком іх, карчаком! Але ж баяліся яго.* Пудзіцк Пух.

**КАРЧАКО́П** *м.* Тое, што і карчаві́к. *Раней карчы людзі карчавалі, называліся карчакопамі, а цяпер, гавораць, трахтары карчуюць.* Бясяды Лаг.

**КАРЧАЧО́К** *м. Памянш.* Смалячок. *Карча-*

*чок смольны хутка разгараяцца, і дроўцы ўгарваюцца.* Забалоцце Смал.

**КАРЧЫ** *мн.* Рэшткі капусных храпак з коранем. *Засталося зьнесці карчы з агарода, і капуста будзе ўпараткавана.* Вецярэвічы Пух.

**КАРЧЫСТЫ** *прым.* Кусцісты, галінасты. *Рэтка сеялі бульбу, і расьце такая карчыстая.* Бузуны Валож.

**КАРЧЭЎЕЙКА** *н. Зб., памянш.-ласк.* Галлё, сучкі. *Карчэўейка вязець. Ні тамака таўстоя, ні тамака клеймяная — сучкоў вязець!* Пагост Віл.

**КАРЧЭЎКА** *ж. Зб.* Смалякі. *Даўней газы ня было, дык на комінку карчэ палілі, насякуць дромнянька і паляць карчэўку ету, і к етуй карчэўца ўсе прадуць.* Дрычын Пух. *Палілі ў хаце карчэўку, кап сьветла было, і сядзелі ўсе пры ёй, хто што рабіў.* Пудзіцк Пух.

**КАРШПЭТКІ** *гл.* шкарпэткі

**КАРШЭЛЬ, КАРШЭНЬ, КАЎШЭЛЬ** *м.* ◊ **Даць у каршэль (у каршэнь, у каўшэль)** — пабіць, даць па карку. *Пасварыліся нечага, дык ён і надаваў ёй у каршэль.* Пціч Мін. *Надаваў яму ў каршэль і пашоў.* Хожава Маладз. *Адчапіся ад мяне, бо ў каршэнь палучыш.* Вялікая Вуса Уздз. *Лезя біцца. Дак, паверыця, і бацько наш ужо вышаў сь цярпеня, да яго — да ў каўшэль, да ў каўшэль.* Савоні Стаўб. **Намыліць каршэль** — пабіць. *Учора на танцах намылілі каршэль гэтаму чужому дзяцюку.* Рабунь Віл.

**КА́РЫ** *толькі мн.* **1.** Параконная павозка. *Параконная фура кажуць, а хто скажа кары, адно і тоя ш.* Дукора Пух. **2.** Воз без драбін. *Кары — гэта калёсы, толькі рэбраў бакавых, зробляных з достачак, няма ў іх, а стаяць планкі вузінькія такія.* Баяры Маладз.

**КАРЫТА** *ж.* Начоўкі, балея. *Цяпер дзеравянныя карыты рэтка ў каго ўбачыш, амаль у кожнага жалезныя карыты.* Лыцавічы Віл.

**КАРЫЧВЕННЫ** *прым.* Карычневы. *Я карычвянных хустак ні люблю, натта цёмны твар у іх і ніпрыгожы.* Цялякава Уздз.

**КАРЭ́ЛА** *прысл.* Брудна. *У хаце так карэла, што хоць дзьверы да іх ні аччыняй.* Палачаны Маладз.

**КАРЭ́ЛІЦА** *ж. Экспр.* Неахайная кабета. *Прышла па ваду гэта карэліца — аш кепска на яе глядзець: гэткая мурзатая, непамытая, камізэлька брудная.* Літва Стаўб.

**КАРЭ́МУСЛА, КАРЭ́МЫСЛА** *н.* Каромысел. *Цяпер студні ў кожнага на двары, карэмуслы ня трэба. А даўней на карэмусьле бялізну на Нёман насілі паласкаць.* Мікалаеўшчына Стаўб. *У руках вёдры з вадой цяшка насіць, а на карэмысьле добра.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КАРЭ́Ц** *м.* Калодачка з дзіркай у верхнім камені жорнаў, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *Раней ведала ўсё, як называецца, бо малолі часта: і карэц ведала, што такоя, і паўпрыца, і што іншае такоя.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАСА́** *ж. Анат.* Селязёнка. *У нашага парсюка каса згніла, дзіва, што ён ня еў.* Дукора Пух.

**КАСА́Р** *м.* Касец. *Ці ж гэта касар, што нават касу добра ў руках дзяржаць ня ўмее!* Заверка Пух.

**КАСА́РКА** *ж.* Сельскагаспадарчая машына для скошвання траў. *Туды ні трэба касаркі пускаць, трава с-пад касаркі выскаквая.* Бяларучы Лаг.

**КАСА́ТКА** *ж. Ласк.* Чалавек добрай душы. *Такую касатку, як яе Пеця, рэтка дзе знойдзіш: устане рана, вады прынясе, усё прыбярэ.* Узгурск Чэрв.

**КАСІ́РША** *ж.* Касірка. *Касірша — што ў касі білеты прадае.* Хожава Маладз.

**КАСІЎНО́** *н.* Кассё. *Касіўно крэпкае, яшчэ зь дзедам-нябошчыкам былі іх нарабілі, а каса наўрат ці будзя касіць.* Баяры Маладз.

**КАСІ́ЦЬ** *незак.* ◊ **Хоць касой касі** — вельмі многа, процьма. *Дзе раней быў Бронісяў хутар, брушніц хоць касой касі, ды ўсе ягатка ў ягатку.* Язні Віл.

**КА́СЛАЎКА** *ж.* **1.** Пасма. *Валасэ гэдак лезьлі, але прама каслаўкамі.* Савоні Стаўб. **2.** Жменька лёну. *Сколька хочаш каславак зьвяжам.* Вішнева Валож.

**КАСМАВЕ́ШКА** *ж.* Галавешка, абгарэлае палена. *Да затушы касмавешку, дыміць жа, вочы ні глядзяць.* Слабада Лаг.

**КАСМАНА́ВЕЦ** *м.* Касманаўт. *А каторы гэта касманавец? Той, што ў машыне?* Маладзечна Маладз.

**КАСМІ́РОЎКА, КАШМІ́РОЎКА** *ж.* Кашміровая хустка. *Касьміроўка чорная ў мяне цьвятамі.* Вішнева Валож. *Хачу кашміроўку чорную купіць, белая ў мяне ёсь, хацелася п яшчэ й чорнаю мець.* Канстанцінава Мядз. *Завязала кашміроўку і пайшла на хрэзьбіны.* Палачаны Маладз. *Перш кашміроўкі прадавалі і на базары і ў магазінах, а потым былі прапалі.* Засулле Стаўб.

**КАСМО́С** *м.* Космас. *Цяпер ужо дык і ў касмос лятуць, і многа чудаў кожны дзень, дык ужо й дзеці ні баяцца, сьмелыя. А то, бачыця, дзяцюкі, а спалохаліся.* Бакачы Мядз.

**КАСМЫЛІ́** *мн. Неадабр.* Скудлачаныя валасы. *Рашчашы свае касмылі, ходзіш, як лахудра якая.* Слабада Лаг.

**КАСТРАЖЫ́НЫ** *мн.* Жэрдкі, на якіх сушаць бульбянік. *Восень на двара, а ён кастражыны ніяк ня зробіць.* Ціханава Слабада Стаўб.

**КАСТРЫ́ЦА** *ж.* **1.** Кастра. *Яны кайстрыцу носюць на хату, кап цёпла было.* Пудзіцк Пух. **2.** Пра няўступчывага, незгаворлівага. *Ну й*

*кастрыца, нікому ні дасьць рот аткрыць!* Рудня Стаўб.

**КАСТРЫЦЬ** *незак.* Раскладаць вогнішча, касцёр. *Дзяўчаты, зьбірайцеся, вы ш прасілі, пойдзім кастрыць.* Завішына Лаг.

**КАСТЫЛЬ** *м.* Доўгі цвік. *Купіў кастылёў, буду плот гарадзіць.* Аздзяцічы Барыс.

**КАСЦЮК** *м.* Асцюк. *Была сёньня на рабоці, сеялі муку, а цяпер касьцюкі кусаюцца.* Турэц Чэрв.

**КАСЦЮЛЬКА** *ж. Памянш.* Тое, што і касцюк. *Мелюць авёс с касьцюлькамі, мелюць і рашчыняюць, каб укіс, а потым вараць кісель.* Ратуцічы Барыс.

**КАСЫНАК** *м.* Касынка. *Як ужо харошы касынак, дык і на танцы адзяюць, а як сіццавы — на работу.* Пруды Стаўб.

**КАСЫНКА** *ж.* Кішэчны тлушч. *Аткармілі так, што касынка ў сьвіньні была тлустая, тлустая.* Дукора Пух. *Вунь колькі касынкі надзёрлі,ператапіць — і жыру на ўсю зіму.* Гілікі Валож.

**КАСЯК** *м.* Тое, што і касынак. *Вунь які стройны касяк Настуля павязала.* Нарач Віл.

**КАТАНКА**[1] *ж.* Блузка. *Едзяш на работу ету, андарак шырокі, катанкі надзяём вузянькія, сьвіту надзеняш суконную, патпяражасься поясам, лапці на ногі — і пашоў.* Дрычын Пух. *Каб ня мерзнуць, надзела пару катанак.* Дукора Пух. *Набрала сабе на дзьве катанкі паркалю.* Забалоцце Смал.

**КАТАНКА**[2] *ж.* Забаўка. *Помню, катанкі мне, малому, рабіў наш дзядуля с палкі і драўлянага калёсіка.* Будслаў Мядз.

**КАТАНКІ** *мн.* Валёнкі. *Такія мне Міхась катанкі зваліў, цяпер і зіма ні страшна.* Чабаі Валож. *Як зімой, дык разьбіраюць, а цяпер во, бачыш, ляжаць катанкі.* Хожава Маладз. *У лаўку прывезьлі катанкі, пайду пагляджу, мо й куплю.* Саланая Валож.

**КАТАНЦЫ** *мн.* Тое, што і катанкі. *Ты ўжо абуўся ў катанцы — і марос табе нічым.* Палачаны Маладз.

**КАТАР** *м. Мед.* Сып на губах, вынік прастуднага захворвання. *Вунь як малога катар асыпаў!* Палачаны Маладз.

**КАТАЦЦА** *незак.* ◊ **Катацца жыватом** — хварэць на жывот. *Ён жа пан важны, ён жа мушчына! Цьфу ты, прасьці госпадзі, з мужчынам с такім, кап ты жыватом катаўся, чалавек такі!* Язні Віл.

**КАТЛАМЫЖЫЦЬ** *незак. Неадабр.* Гаварыць без толку, абы-што. *Што ты катламыжыш сваім языком? Усе ж ведаюць, хто ты!* Заямнае Стаўб.

**КАТОК** *м.* Сцябло з суквеццем. *У трыпутніку шырокія лісьцікі, на зямлі ляжаць, пасярэдзіні каток.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАТУС** *м.* Завязка. *Фартух катусамі завязваюць, дак я зь лентачак катусы зрабіла, кап прыгожа было.* Паплавы Барыс.

**КАТУХ** *м.* Месца на рыбу ў лодцы. *Катухі абедзьвюх лодак былі запоўнены рыбай, а катух трэцяй заняты сеткамі.* Чараўкі Мядз.

**КАЎБУХ** *м.* 1. Жывот. *Заглынула гвозд, у каўбусе знайшлі. А такая кароўка была!* Рудня Чэрв. 2. Свіны страўнік, напханы каўбасным мясам. *Начыню каўбух мясам, а летам усё за малінку пойдзе.* Паплавы Бярэз. *У гэтым годзе ў мяне натта смашны каўбух атрымаўся.* Хватаўка Бярэз.

**КАЎБЯК** *м.* Тое, што і каўбух (у 2 знач.). *Цяпер будзім каўбасы есьці, а каўбяк к лету хай вісіць.* Аздзяцічы Барыс.

**КАЎГАН** *м.* Драўляная міса. *Цётка Наста нам варэньня прынесла, вазьмі там у каўгане.* Караваева Пух.

**КАЎГАРКА** *ж. Уст.* Кубак. *Даўней кубак каўгаркай называлі, а цяпер усё больш — крушкай.* Рудня Чэрв.

**КАЎЗАЦЦА** *незак.* Слізгацца. *Усе дзеці на перапынку вышлі каўзацца на лёт.* Худаўцы Круп. *Пайдзём на лёт каўзацца.* Ігрушка Круп.

**КАЎКА** *ж. Заал.* Галка (Corvus monedula). *У нас у коміне каўкі гнёздаў навілі, а я думаю, што гэта такоя, чаму ўвесь дым на хату йдзець.* Рабунь Віл. *На полі вясной заўсёды каўкі мітусяцца.* Барок Стаўб.

**КАЎКАЦЬ** *незак.* Мяўкаць (пра ката). *Надаеў ужо гэты кот! Каўкае і каўкае цэлы дзень.* Худаўцы Круп.

**КАЎМЕР** *м.* Каўнер. *Каўмер таксама трэба ўгадаць прышыць, як трэба.* Навасёлкі Валож.

**КАЎНЕР** *м.* Шыя. *А тых, каторы ня скора выхадзіў, у каўнер біў, у шыю — і так немяц усіх выгнаў, старых і малых на выган.* Сваткі Мядз. ◊ **Азяць за каўнер** — пакараць. — *Ат, дурніла, я п схадзіла і выкапала тую ігрушку, сказала п: „Мне сістра аддала!" Што п мне тая Гілена зробіла? За каўнер азіла п? Хай ба паспрабавала толькі!* Халмоўка Барыс.

**КАЎНЕРАЦ** *м.* Манжэт. *Што за чуда, каўнерац у кохці робюць да локця, шчэ й белай мацерыяй апшываюць.* Якімаўка Круп. *Некалі ў сарочках каўнерцы былі вышываныя.* Цялякава Уздз.

**КАЎНЕРЧЫК** *м.* Тое, што і каўнерац. *Трэба памяняць новыя каўнерчыкі, бо старыя парваліся, а рубашка яшчэ добрая.* Саланая Валож.

**КАЎНЕРЫК** *м.* Тое, што і каўнерац. *У рубасцы каўнерыкі засьціраліся.* Хожава Маладз.

**КАЎРЫГА** *ж.* Крыга. *Ух, як пабіла лёд на каўрыгі! І плывуць быстра, быстра.* Паплавы Бярэз.

**КАЎТА́ЦЬ** *незак.* Глытаць. *Жуй добра, а то цяшка будзя каўтаць.* Нізок Уздз.

**КАЎТУ́Х** *м.* Адгароджаны куток у хляве; катух. — *Ты яйкі сабраў? А ў каўтуху глядзеў?* Літва Стаўб.

**КАЎШЭ́ЛЬ** *гл.* каршэ́ль

**КА́ХЛЯ** *ж.* Кафля, керамічны выраб. *У нас групка такой беляанькай і бліскучай кахляй вылажана.* Грынёўка Стаўб.; *параўн.* ням. Kachel 'тс'.

**КАХЛЯ́НЫ** *прым.* Зроблены з кафлі. *Кахляны стаяк лепш, чым с кірпіча, глядзіцца харашэй.* Падзерычы Стаўб.

**КА́ЦА** *ж.* Тупы канец яйца. *Ты, як малоя дзіця, ня ўмееш яйцо есьці. Што ты з носіка б'еш, нада с кацы, с тупога боку.* Савоні Стаўб.

**КАЦА́** *ж.* Здатны, умелец (пра жанчыну). *Ну і каца гэта Гэлька! І робіць добра, і сьпявае, і скачаць.* Язні Віл.

**КАЦЕ́ЎКА** *ж.* Шпулька. *Нада купіць нітак у кацеўках — белых і чорных.* Ігрушка Круп.

**КАЦЁЛКА**[1] *ж.* Тое, што і к а ц е́ ў к а. *Кацёлку белых і кацёлку чорных нітак прывязі, а то ў мяне кончыліся.* Скамарошкі Стаўб.

**КАЦЁЛКА**[2] *ж. Ткац.* Тое, што і г а л а в а́ (у 4 знач.). *Кацёлка раз зламалася, дык аж у суседняя сяло хадзіла заказваць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАЦЁНАК** *м.* Кацяня. *Братавая гэта пісьмо прачытала, парвала, а другое напісала: „Радзіла твая жана дзяцёнка — ні то чарцёнка, ні то кацёнка, ні то сабачанёнка". І паслала гэта пісьмо* [з казкі]. Малое Стахава Барыс.

**КАЦЮ́БА** і **КО́ЦЮБА** *ж.* Качарга. *Вымай сь печы кацюбу скарэй, бо нагрэецца моцна.* Палачаны Маладз. *Добра, як доўгая коцюба, жар выграбаць.* Палессе Мядз.

**КАЦЯРЫ́СТ** *м.* Матарыст. *Кацярыст аб'ехаў кругом таго места, дзе стаялі сеткі, і паехаў да берага.* Нарач Мядз.

**КАЧА́ЛКІ** *толькі мн.* Драўляныя прылады для качання бялізны. *Качалкамі качаюць бяльлё: анна качалка круглая, а другая з зубамі.* Ратуцічы Барыс.

**КАЧАНІ́К** *м.* Арэх. *Цэлую торбу качанікаў прынесьлі. А ў вадным месцы было многа рассыпана качанікаў, відаць, вавёрчыны.* Грабёнка Чэрв.

**КАЧАРГІ́ШЧА, КАЧАРЖЫ́ШЧА** *н.* Тое, што і к а в я н і́ ш ч а. *Качаргішча такое ўдалае, лёхкае, спрытнае, так само ў руках і ходзіць.* Вецярэвічы Пух. *Качарга надзяецца на качаржышча, каб рук не апячы.* Ратуцічы Барыс.

**КАЧАРГА́** *ж.* ◊ **Качаргой** (можна) **дастаць** — нізка. *А сонца нізінька, як у нас бабы кажуць, качаргой можна дастаць.* Кагалінішчына Лід.

**КАЧА́ЦЦА**[1] *незак.* Гадавацца, расці ў цяжкіх умовах. *А як вырасьлі, дык хто куды. Большы хадзіў у смалу ў патсочку, сярэдні араў, а меншыя каля мяне качаліся.* Альсевічы Мядз.

**КАЧА́ЦЦА**[2] *незак.* Кружыцца, выбіраючы мішэнь. *Як аступілі нас нямецкія іраланы, чуць мы ў лес уехалі. А яны так ніска качаліся над лесам!* Альсевічы Мядз.

**КАЧА́ЦЬ**[1] *незак.* Прытоптваць да зямлі, прыгінаць. *Хто куды, а гэты ў лён. Ты ш ні качай лёну, а то скажуць, што каровы пазьбівалі.* Бяларучы Лаг.

**КАЧА́ЦЬ**[2] *незак.* Капнаваць, складваць. *Да абеду сушылі сена, а с абеду копы качалі.* Бытча Барыс.

**КАЧА́ЦЬ**[3] *незак.* Гадаваць. *У майго дзевіра дак восьмера, яны анно аннаго качалі.* Ратуцічы Барыс.

**КАЧКЕ́Т** *м.* Шапка. *Унучак, чаму ш ты качкет ні надзеў? А то ж вушы памерзнуць.* Рудня Чэрв.

**КАЧУ́ЛКА** *ж. Ткац.* **1.** Навой падпражны. *Любая аснова навівалася на дзіраўляную качулку, навівалася ўся пража.* Даўгінава Віл. **2.** Навой падпалаценны. *Пад нітамі знаходзіцца другая качулка. Яна меншая. На гэту качулку навалокваіцца гатовая палатно.* Даўгінава Віл.

**КАЧУ́Р** *м. Заал.* Качар. *Вунь, мусіць, паляцеў качур с качкай, а мо й дзьве качкі. Я добра ня ўбачыў.* Дукора Пух. *Бес качура качкі плоха нясуцца.* Вецярэвічы Пух.

**КАЧЭ́БРЫК** *м.* Лёгкія выязныя санкі са спінкай. *Для такой справы брыгадзір не пашкадаваў і качэбрыка.* Маставая Пух. *Я ўспамінаю, як я рабіў новы качэбрык, выкрасіў у красны цьвет — доўга ганарыўся сваёй работай.* Жораўка Пух.

**КАЧЭ́РГІ** *толькі мн.* Качарэжнік. *Недзе ў качэргах дзяркач валяяцца, падай яго сюды.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КА́ША** *ж. Кулін., абрад.* Радзінны абрад у гонар бабкі, што бабіла дзіця. *Бапцы трэба добраю кашу зрабіць, пазваць кумоў і сваякоў.* Цялякава Уздз. ○ **Каша з маслёнікамі** — каша з канапляньмі галушкамі. *Або таўкуць з бульбы кашу і сыпяць гэтыя масьлёнікі ў кашу, і гэта каша з масьлёнікамі.* Радашковічы Маладз.

**КАШАВІ́К** *м.* Чалавек, які пляце кашы. *У нас усе плятуць для сябе, але ён — лепшы за ўсіх кашавік.* Малмыгі Віл.

**КАШАНУ́ЦЬ** *зак., аднакр.* Касянуць. *Пабілі гэтых мушчын, бабы нарабілі енку. Пулямётамі пабілі. Тры пулямёты. Як кашанулі! Там і мой брат быў.* Снягла Віл.

**КАШАНЯ́** *ж.* Кішэня. *Аказалася, што ён свой вачак забыўся. „У кашані, — кажу, — кладзі сваю порцыю рыбы і нясі з лоткі на берах".* Логавіны Мядз.

**КАШАПЛЁТ** *м.* Тое, што і к а ш а в і́ к.

*Карзіны розныя мой бацька плёў, яго і клікалі кашаплётам.* Дукора Пух.

**КАШАРЫЦЦА** *незак.* Мыцца, прыбірацца, чысціцца. *Хто так доўга кашарыцца? Спаць ужо пара.* Баяры Маладз.

**КАШКА** *ж. Бат.* Дзятліна (Trifolium pratense). *Кашку добра ядуць ні толька каровы і сьвіня, але і качкі.* Дукора Пух.

**КАШКАЦЬ** *незак.* Штурхаць. *Я п паехала да іх, але ў ахтобуся так кашкаюць, так кашкаюць, дык цяшка мне старой.* Пудзіцк Пух.

**КАШЛАЧ** *м.* Чалавек, які ходзіць, цягнучы ногі. *Ну й кашлач! Ніколі ня пройдзя, кап ходнікаў ні пасьцягваць.* Ляхі Нясв.

**КАШМІРОЎКА** *гл.* касміроўка

**КАШНАЯ МУКА.** Мука, атрыманая з сумесі ячменю і грэчкі. *Мяшалі ячмень з грэчкай і малолі разам, то гэта кашная мука.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КАШОЛАЧКА** *ж. Памянш.-ласк. да* кашолка. *А кашолачкі ў нас і дзеці ўмеюць плесьці, лазінкі тонінькія бралі ці дрот і плялі. А патом хазяйка ў кашолачкі лажыла крупы ці ягады якія.* Задор'е Лаг.

**КАШОЎКА** *ж.* Кошык з накрыўкай. *Кашоўка падобна на карзіну, толькі закрываецца крышкаю.* Вецярэвічы Пух.

**КАШУЛЁНКА** *ж. Памянш.* Кашулька. *Які кажух адзеніш абарваны, кашулёнку якую цётка пашыя зрэбную, і так хадзілі. Во дык гора было!* Малінаўка Лаг.

**КАШУЛКА** *ж.* Кошык. *У кашулцы дзеда аж дваццаць баравікоў, а ў цябе што?* Чэрвень Чэрв.

**КАШУЛЬКА НАЧНАЯ.** Сподняя сарочка. *Гэта ш цяпер я, старая, і то нанач другую кашульку адзяю, што дзеці прывезьлі, начную, мякінькую, цёплінькую.* Вязынка Маладз.

**КАШЫКАР** *м.* Тое, што і к а ш а в і к. *У нас няма, а ў суседняй вёсцы многа кашыкароў ёсьць.* Такарышкі Іўеў.

**КАШЭЛІК** *м.* Тое, што і к а ш у л к а. *Хадзім і ў ягады. Вось і сягоньня кашэлік набрала невялічкі.* Пудзіцк Пух.

**КАШЭЛЬ** *м.* Вялікі кош. *Пайшла і насабірала поўны кашэль дзікіх груш сьвіням.* Вялікая Вуса Уздз.

**КАШЭНЬ** *м.* Тое, што і к а ш а н я. *Кашэнь вялікі, добра ж, больш улезя пакласьці.* Тонава Стаўб.

**КАЮКНУЦЬ** *зак.* Раптоўна памерці. *Каюкнула мая сьвякруха, як і не было. Лёхкая смерць.* Навасёлкі Валож.

**КАЯЧОК** *м. Памянш. да* каяк 'маленькая лодачка'. *У нас Рыгор багаты рыбак: і баржа ест свая, і каячок.* Скамарошкі Стаўб.

**КВАКТУХА** *ж.* Ныцік. *Наша сусетка маладая, але такая ўжо квактуха — усё ёй нядобра, усё прыбядняіцца.* Скамарошкі Стаўб.

**КВАРТА** *ж. Уст.* Мера вадкіх і сыпкіх рэчываў, роўная 0,70577 літра. *А каторыя былі парапкамі, плацілася так: давалася дзьве скрыні картофлі, два сажані дроў, два пуды хлеба на месяц, малако дзецям адну ці дзьве кварты, хату.* Багрыцоўшчына Дзярж. *Баба купіла карову, аддала кварту гарэлкі барышу.* Ігрушка Круп.

**КВАРТОЎКА** *ж.* Паўлітровая бутэлька. *У мяне ўжо дзьве квартоўкі на паліцы стаяць, яшчэ куплю.* Рудня Чэрв.

**КВАС** *м. Кулін.* Кіслая страва з буракоў, грыбкоў, цыбулькі, прыгатаваная на хлебным квасе. *Квас з бурачкамі варылі, грыпкі сушаныя туды, цыбульку, перчык, на хлебным квасе вараць — от смашна.* Савоні Стаўб.

**КВАСКА** *ж.* **1.** Фаса, кадушка на гуркі, капусту. *Усе кваскі нашы храняцца ў склепі.* Якімаўка Круп. *Была поўная кваска гуркоў — паелі. Асталася яшчэ кваска капусты.* Вецярэвічы Пух. *Шаткаванку трэба ў кваску натаптаць, а тады крушком прыціснуць.* Кляцішча Стаўб. **2.** Драўляная пасудзіна на масла, дзежачка. *У квасцы масла да бліноў.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. fasa ад ням. Faß 'бочка'.

**КВАСНЫ** *прым.* Кіслы. *Журавіны — квасныя ягады, дак кісель добры можна варыць зь іх.* Ляшчынск Мядз.

**КВАСОЛЯ** *ж. Бат.* Фасоля (Phasolus). *У мяне такая стручная квасоля.* Ляды Чэрв. *На агародзі ўсё содзюць: квасолю, кроп, гарбузы, буракі.* Ратуцічы Барыс. *У сусеткі пасаджана квасоля двух сартоў, а сама не саджу: не люблю.* Паплавы Бярэз.

**КВАСЬ** *ж.* **1.** Квас. *Цэлы збан квасі нарабіла, а за два дні і німа.* Бясяды Лаг. **2.** Прадукты з кіслёй. *Мой муш дык натта квасі нікай ня любіць, ні табе малака кіслага, ні капусты, ні агурка, а я не магу бяс квасі.* Вішнева Валож.

**КВАТАРАНЕЦ** *м.* Кватарант. *Мой кватараняц добры, ціхі хлопяц і зарабляя добра.* Цялякава Уздз.

**КВАТЭРКА** *ж.* Металічны кубак, роўны прыкладна 0,14644 літра. *Налі кватэрку малака, нічога есьці ня хочацца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КВАЦІРА** *ж.* Кватэра. *А як вучылася, арыхмецікі ні знала, біў настаўнік лінейкай і перад дзецьмі, і на кваціры сваёй біў, і на гарох на калені ставіў каля печы.* Забрэжжа Віл.

**КВАЧНЯ** *ж.* Квач. *Зрабі ты сам квачню, а то нечым ні печ, ні сьцены памазаць.* Вецярэвічы Пух.

**КВАШАНІНА** *ж. Кулін.* Халадзец. *Наварыла вельмі смашнай квашаніны, застыня, будзім есьці.* Муляры Віл. *Як хто, а я дык люблю квашаніну вуксусам паліць.* Хожава Маладз. — *Ешча, дзеткі, квашаніну, пасьля*

*падлею булёнчыку.* Забрэжжа Валож.

**КВА́ШАНКА** *ж.* Кіслае малако. *Бярыця, дзяўчаткі, квашанку. Яна ня вельмі шчэ кіслая.* Рудня Чэрв.

**КВЕ́ЦЕНЬ** *м.* Красавік. *А як квецень на дварэ, дык і вясна ўжо на парозі.* Рудня Стаўб.

**КВІТ** *м.* Квітанцыя. *Лясьнічы аддаў майму гаспадару квіт на рукі.* Гілікі Валож.

**КВІТО́К** *м.* 1. Білет. *А кундуктар ці ёсь? Хачу запытацца, можа ён мне квіток у арбоме дась.* Забрэжжа Валож. 2. Бюлетэнь. *Я, мусі, ні прыду сам на галасаваньня, ужо ні тыя гады, дачка. Нада, кап прыехалі с квітком, я на мейсцы прагаласую.* Яцыны Мядз.

**КВО́ЛІЦЦА** *незак.* 1. Жаліцца на нездароўе, болі. *Нешта ўсё кволіцца, недамагае.* Асавец Маладз. 2. Адчуваць нездаровым, хворым. *Хлопяц кволіцца, руку пабіў, чырвоная стала, баліць.* Дукора Пух.

**КВО́ХАЦЬ** *незак.* Аказвацца, падаваць голас. *Курыца недзе там за кустамі квохала, ідзі глянь.* Лісічана Круп.

**КВЭСТ** *м.* Фэст. *У нас чатыры разы ў гот квэст сабіраўся.* Чабаі Валож.; *параўн.* польск. fest 'тс'.

**КВЯ́ТЫ** *мн.* 1. Травяністыя расліны, якія прыгожа і пахуча цвітуць. *Будзім заўтра квяты садзіць, нада агароччык ускапаць.* Палавікі Мядз. 2. Штучныя кветкі, з якіх звіты вянок нявесце. *Квят [у маладой] на галаве не было, а была фата, як гэтыя модніцы цяпера адзяваюць, наўперадзе кружочак нейкі.* Язні Віл. *Раней маладой адзявалі квяты красныя і зяляні больш рабілі, а цяпер толькі белыя — ніякай красаты.* Жораўка Пух.; *параўн.* польск. kwiat 'тс'.

**КЕ́БКЕН** *м.* Пастух, які іграе на дудачцы зару. *Даўней кепкен у часоў пяць разбудзя трубачкай сваёй, а цяпер самі ўстаём. І кепкенаў тых няма.* Баяры Маладз.

**КЕЛБ** *м.* Тое, што і к а л б у́ н. *Келб бальшы ні расьце, формай падобны на верацяно, два вусікі ля рота. Сьпіна цёмная, зь зеленаватым адлівам, бакі серабрыстыя з рудаватымі плямамі.* Саланая Валож.

**КЕ́МКІ** *прым.* Кемлівы. *Кемкая яна ў вас, доўга гаварыць і ня трэба.* Хожава Маладз.

**КЕ́ПАЛА** *м. Экспр.* Маруда. *А гэты кепала да вечара ня скончыць работы.* Нізок Уздз.

**КЕ́ПЕЦЬ** *м.* Кіпцюр. *Ня пускай курыцу, бо яна мне ўсе грады здрэпае кепцямі.* Пудзіцк Пух.

**КЕ́ПНУЦЬ** *зак. Экспр.* Памерці. — *Чаго ты плачаш? Ото табе ўжо жалю! Ты плачаш па дзяцьку, што пражыў 90 гот? — Яна плача па сваём горы, думая, бацьку ж за семдзісят, а што, як кепня?* Савоні Стаўб.

**КЕ́РЗУХА** *ж.* Нявыпечаны, ацесліві хлеб. *А ў Даўгінаві хлеп нясмачны пякуць, керзуха нейкая.* Сіўцы Віл.

**КЕЎКНУЦЬ** *зак. Экспр.* Пікнуць. *І кеўкнуць ні пасьпееш!* Асавец Маладз. *Ось зарас як дам у нюхаўку, дык і кеўкнуць ня усьпееш.* Юшкаўка Віл.

**КЕ́ЎЛЯЦЬ** *незак. Экспр.* Ледзь дыхаць, слаба праяўляць жыццёвыя працэсы. *Толькі што кеўляя, а ні жыве.* Асавец Маладз.

**КЕ́ЦКА** *ж.* Тое, што і г а м а н е́ ц. *Палажу грошы ў кецку, а то ішчэ забудуся.* Чабаі Валож.

**КЗЫМС** *гл.* ґзымс

**КІ́БЕЛЬ** *м.* Чан, кубел. *А кармілі [вязняў] плоха. Толькі як нясуць гэту баланду ў кіблях, так мы стараімся гэты кібіль атабраць і хоць руку памачыць і аблізаць. Так мы жылі, так там зьдзіваліся з нас.* Ухвала Круп.; *параўн.* польск. kibel < ням. Kübel 'тс'.

**КІВА́ЦЬ** *незак.* Гайдаць, калыхаць. *Ківаіш яго, ківаіш, хай бы толькі спаў, а ён дык ня сьпіць. Паківай-ка яго, хай пасьпіць ішчэ.* Ігрушка Круп.

**КІГНУ́ЦЬ** *зак., аднакр. Экспр.* Кукарэкнуць. *Недзя кігнуў пятух.* Петрашунцы Валож.

**КІГУ́КАЦЬ** *незак.* Крычаць (пра саву). *Кігукая сава вечарам.* Саланая Валож.

**КІ́ДАЦЦА** *незак.* 1. Спешна імкнуцца, парывацца скончыць. *Кідалася, кідалася, але ўсё роўна да вечара ні пасьпела работу ўсю зрабіць.* Зазерка Пух. 2. *безас.* Вадзіць. *Старая ўжо, ні магу роўна ісьці, кідае ў бакі.* Вялікая Вуса Уздз. 3. Перабівацца сяк-так. *Кідаюся, як гарох пры дарозі.* Вялікая Вуса Уздз.

**КІ́ДАЦЬ** *незак.* Пакідаць. *Дык яшчэ, можа, прыдзецца на зіму і цялушку кідаць, бо карова ні пабегала.* Акалова Лаг.

**КІДЗЕ́ЛЬ** *выкл. у знач. вык.* Кінуць, шпурнуць. *Зьдзела каптан сь сябе, кідзель той каптан, а сама пашла да печкі і грэюся.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КІ́ДЭРМА** *ж.* Клін (у шыцці). *А ты пашый у кідэрмы андарак, будзе выглядней.* Рудня Чэрв.

**КІЁЎКА** *ж.* Суквецце рагозу. *То з гэных пуховак, мама расказывала, што зрывалі з кіёвак, рабілі падушкі спаць.* Малмыгі Віл. *Вунь каля берага ў вадзе кіёўкі відаць. Можа, дастаць?* Мацькаўцы Віл.

**КІЖЛА́ТЫ**[1] *прым.* Малы, недарослы. *І кіжлатаму дрэнна быць, і стрынгелю [вялікаму] таксама. Бох ведая, які павінен быць нармальны чалавек.* Вязынка Маладз.

**КІЖЛА́ТЫ**[2] *прым.* Непаваротлівы, нязграбны. *Кіжлатая я ўжо, дачушка, куды мне, толькі яшчэ з ёмкай каля печы.* Броды Маладз.

**КІЙ** *м.* Кукурузны пачатак. *Атравіла дзяцей кіі зьбіраць, яны ж любяць іх есьці. Кажуць, што смачныя.* Неманіца Барыс.

**КІЛА́ТЫ** *прым.* Хворы на грыжу. *Яму апя-*

рацыю рабілі; ён жа кілаты быў. Ужо атпусьцілі дамоў, паздаравеў. Цялякава Уздз.

**КІЛБА** *ж.* Тое, што і калбу́н. *Нашы рыбаловы кілбы налавілі, нават ванго́р папаўся.* Барсукі Віл.

**КІЛІМ** *м.* Дыван. *Хто ў вайне паранены ды жывець зараз, дык таму кілім купіць можна беш чаргі.* Зуі Стаўб.; *параўн.* польск. kilim < тур. кілім.

**КІЛІРАВАЦЬ** *незак. Экспр.* Кіраваць. *А што тут такога! Сяду на матацыкал ды буду за руль кіліраваць.* Вялікая Вуса Уздз.

**КІЛУ́Н** *м.* Кныр з адным ядром. *Як пакладаюць ды пакінуць адно яйцо, дык тады кілун кажуць.* Вецярэвічы Пух.

**КІЛЯ** *ж.* Кілаграм. *Купіла тры кілі цукру, хлеба.* Палессе Мядз. *Дайця шэсць кіль цукру, бутэльку напітку.* Старая Вёска Мядз. *Не хапае адной кілі цукру на варэньня, ягад многа назьбіралі.* Зарэчча Стаўб. *Купіла селяццоў кілю.* Белькаўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. kilo 'тс'.

**КІМА́РЫЦЬ** *незак. Экспр.* Спаць, драмаць. *Будзіш заўтра цэлы дзень кімарыць — работы ж няма.* Палачаны Маладз.

**КІНДЗЮК** *м.* Тое, што і каўбу́х (у 2 знач.). *Мы, як заколям парсюка, дак кіньдзюк наліваям драную картопляю і пяком у гарачай печы.* Дукора Пух.

**КІННІК** *м.* Кінамеханік. *А кіньнік наш быў два разы ў адлуццы, і кіно ня было.* Луцішча Круп.

**КІНУЦЦА** *незак.* ◊ **Кінуцца не ў сваю міску** — брацца не за сваю справу. *Патаму што, знаяш, ён [Гітлер] кінаўся не ў сваю міску. Браў, знаяш, дробняанькія гэтыя о панствы і думаў, што й тут лёхка будзіць. А тут не-е-е, нашу матушку Расію, брат, не вазьмёш!* Мікольцы Мядз.

**КІНШЧЫК** *м.* Тое, што і кіннік. *Сягоньня кіна ні было, бо кіншчык ня прыехаў.* Чабаі Валож.

**КІПЯЦЕНЬ** *м.* Кіпень, вар. *Ня ведала, што кіпяцень, сунула руку.* Зазерка Пух. *Трэба ш ісьці муку кіпятням запарыць.* Каменка Уздз.

**КІПЯТО́К** *м.* Тое, што і кіпяцень. *Кіпяток трэба астудзіць, а тады піць.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* рус. кипяток 'тс'.

**КІРАЎНІЦА** *ж.* Руль. *Ня ведае, што такоя кіраўніца, а лезя ў машыну.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КІРКАВА́ЦЬ** *незак.* Узрыхляць зямлю кіркай. *Валілі лес, вазілі купцам. А пасьля гэтага хадзілі жэншчыны вясной кіркавалі гэту плошчаць і саджалі лес.* Альсевічы Мядз.

**КІРМА́Ш** *м. Уст.* Прастольнае свята пры царкве. *Быў кірмаш на Міколу, зьбіраліся кірмашовыя, пелі песьні. Весіла было.* Ялча Чэрв.

**КІРМАШАВА́ЦЬ** *незак.* Удзельнічаць у кірмашы. *Вот калі чалавек едзе або йдзе на кірмаш, а хто там пытаіцца куды, то ён адказвае, што паедзім кірмашаваць.* Рудня Чэрв.

**КІРМАШО́ВІКІ** *мн. Экспр.* Свае пярэднія зубы. *Во, у яго яшчэ ўсе кірмашовікі цэлыя, зубы як часнок.* Вішнева Валож.

**КІРМАШО́ВЫ** *прым. Экспр.* Верхні пярэдні (зуб). *Наша бабуля ўсё хваліцца, што ў яе кірмашовыя зубы захаваліся.* Халопенічы Круп.

**КІРО́ЎНІК** *м.* Кіраўнік. *Гавораць, ваш кіроўнік добры, шмат песянь ведая, разьбіраяцца ў музыцы.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КІРПА** *ж. Зневаж.* Кароткі і задзёрты нос. *Вытры сваю кірпу смаркатую і сяць хараша!* Вялікая Вуса Уздз.

**КІРСА́** *ж.* Апілкі. *Кірсы прынясі, добры потсьціл скаціні будзя.* Закаблукі Мін.

**КІСЛІЦА** *ж. Бат.* Шчаўе (Rumex). *Сусетка ходзіць зьбіраць кісьліцу, а ў нас свая кісьліца расьце ў гародзі.* Скамарошкі Стаўб.

**КІСЛЯ** і **КІСЛЯ́** *ж.* **1.** Кіслата. *Борш варым. Згатовіцца, і трэба ш, кап кісьля была, бяс кісьлі ш і бурак ні гадзіцца, кісьлі ўвальлеш, дак і бурак зусім інакшы смак мае.* Сёмкава Мін. *У памідорах кісьля нядобрая, як і ў шчоўі.* Дукора Пух. **2.** Тое, што і квась (у 1 знач.). *Мой дык увесь час на сенажаць кісьлю бярэ. Кажу: „Вазьмі малака", а ён не, толькі кісьлю ды кісьлю.* Баяры Маладз. **3.** Кіслая рошчына, закваска. *Кап хлеп укіс, трэба дабавіць кісьлі, таму на кісьлю заўсёды астаўлялі цеста.* Рудня Лаг. **4.** Раствор, у якім вырабляюць аўчыны. *Быў чалавек такі, аўчыны вырабляў у кісьлі, туды мукі і кары дабаўляў.* Баяры Маладз.

**КІСЛЯ́К** *м.* Кіслае малако. *Кісьляк вельмі смашна с цёплай бульбай. І дактары саветуюць кісьляк есьці, ён мае многа вітамінаў.* Муляры Віл. *Адгону мы ні ядзём, а квасім яга, добры кісьляк палучаіцца.* Калодкі Віл. *Кісьляк адаграём, робім сыр. І проста кісьляк гарачынёй добра зьесьці.* Ляшчынск Мядз.

**КІСНУЦЬ** *незак.* Прыцішана смяяцца. *Чаго ты кісьняш бес прычыны? Няма тут нічога сьмешнага.* Каменка Уздз.

**КІСТУЛЁК** *м.* Свежае кіслае малако. *Добра, як карова малочная, чаго хочыш зробіш: і кістулька, і тварага, і масла.* Калодкі Віл.

**КІСЦІ** *незак.* Кіснуць. *Так і зрабіла, то праўда, малако ня стала кісьці.* Нізок Уздз.

**КІТА** *ж.* **1.** Вязка (саломы, сена). *Сноп жыта, а саломы кіта. Як кончаць малаціць, так бабы давай вязаць кіты.* Хожава Маладз. *У кіты сена вяжуць, як прадаць хто просіць, кітамі продаюць.* Бясяды Лаг. *Во якая кіта саломы валяяца на полі.* Палачаны Маладз. **2.** Сноп (бобу, гароху). *У кіты гарох вяжуць, боп жнуць у кіты.* Малмыгі Віл.; *параўн.* польск. kita 'пучок'.

**КІ́ХА** і **КІХА́** *ж.* Камера веласіпедная і аўтамабільная. *Праткнуў кіху ўчора, цяпер сядзі цэлы дзень дома. Узялі кіхі да на стаў пайшлі.* Рубяжэвічы Стаўб. *Бацька, ты п што зрабіў. У Алеся кіха́ лопнула ў веласіпедзі.* Нарач Віл.; *параўн.* польск. kicha 'тс'.

**КІШАНЯ́** *ж.* Тое, што і к а ш а н я́. *Такі злодзей быў, што не праміне ніводнай кішані.* Ваўкалатка Віл. ◊ **Голымі кішанямі трасці** — без грошай (быць). *А мне, здаецца, рабі як трэба, дык ня будзіш голымі кішанямі трасьці.* Язні Віл. **Кішаня парвалася з чыйго боку** — цішком свядома нашкодзіць. *Мне й цюкнула, што гэта зь яе боку кішаня парвалася, але нічога не кажу.* Гранічы Маладз.

**КІШКА́** *ж. Кулін.* Кішка, начыненая масай з дранай бульбы, крыві, кусочкаў мяса і сала. *Кішку раблю, як заколім парсюка. Надзяру дранкі, накладу ў кішкі і запякаю ў печы са скваркамі.* Калодкі Віл.; *параўн.* польск. kiszka 'тс'.

**КІШКАНУ́ЦЬ** *зак.* Штурхнуць. *Мяне Міхал Ягораў як кішкануў, дык я чуць з зэдлю не зьляцеў.* Літва Стаўб.

**КІ́ШКІ** *мн.* Гарбузовая мязга. *У гэтым гарбузе многа кішак. Во, як наступіў, усе кішкі і павылазілі.* Нізок Уздз.

**КІШКУ́Н** *м.* Тое, што і к і л у́ н. *Як с адным яйцом кабан, дык кажуць кішкун.* Вецярэвічы Пух.

**КІШЭ́ЦЬ** *незак.* ◊ **Кішма кішэць** — надта многа. *Я рас да дачкі ў Мінска паехала, дык саўсём не ўпадабалася мне там. Што ш там люццаў гэных — кішма кішыць!* Язні Віл.

**КІШЭ́ЧНЫ ЖЫР.** Ператоплены тлушч. *С кішак жыр ababрала, ператапіла, у банкі паналівала — вот і кішэчны жыр гатоў.* Кукалеўка Чэрв. *Кішэчны жыр у нас ніхто ні есь, сьвіньням аддаём.* Вецярэвічы Пух.

**КІЯ́НКА** *ж.* Палка з тоўстым канцом накшталт доўбні. *Кіянка меншая за доўбню, ёю паганяюць долата.* Вязынка Маладз.

**КІЯ́Х** *м.* Тое, што і к і й. *Кукурузы сеюць многа каровам на сілас, а сьвіням кіяхі дастаюцца.* Баяры Маладз.

**КІЯ́Ш** *м. Бат.* Насенная шышка рагозу. *Кіяшы ўсю зіму могуць у хаце стаяць.* Вецярэвічы Пух.

**КІЯШНІ́К** *м. Бат.* Рагоз (Typha). *Кіяшніку шмат у балоце, чорныя шышкі на ём.* Вецярэвічы Пух.

**КЛАДАЎЁ** *н.* Могільнік, могілкі. *У нас кладаўё ў лесі, ціха там, прыгожа.* Рудня Чэрв.

**КЛА́ДБІШЧА** *н.* Тое, што і к л а д а ў ё. *Тады мы за гэтым дымам, дымам на кладбішча, паміж магілак паўзьлі, паўзьлі, нашлі ямачку такую, што бульбу хавалі. Мы ў гэту ямачку схаваліся.* Новікі Мядз.; *параўн.* рус. кладбище 'тс'.

**КЛАДЗЕ́Й** *м.* Пастух. *Кладзей — гэта ня проста пастух, а галоўны пастух.* Вецярэвічы Пух.

**КЛАДЗІ́ШЧА** *н.* Тое, што і к л а д а ў ё. *Пашла на кладзішча і плакала па сыну. А назаўтра і віжу ў сьне, што прышоў Сяргей.* Ігрушка Круп.

**КЛАДЗЬ** *ж. Будаўн.* Тоўстая жэрдка, якая кладзецца на кроквы ўверсе ўздоўж дома. *На балькі ставяць страпіла, на якія кладуць доўгую жэртку — клаць. Потым прымацоўваюць латы адным канцом да кладзі, другім — да сьцяны.* Дукора Пух.

**КЛАДНЯ́** *ж.* Касцёр. *Паб'ю, паб'ю дрова, а тады злажу ў кладню.* Грышкавічы Віл.

**КЛАПАТА́ЦЬ** *незак.* Хадайнічаць. *Выпісалі дрэва на хату, чатыры тысячы мне далі дапамогі, я б магла пабудавацца. Дак я паехала клапатаць.* Пагост Віл.

**КЛАПАТУ́ХА** *ж.* Курыца, якая сядзіць на яйках. *Мая клапатуха ўжо трэці тыдзінь сядзіць.* Турэц Чэрв.

**КЛА́СЦІ** *незак.* ◊ **Класці ў мыла** — купаць. *П'ём, гуляім, ну, а тады ш нада і ў мыла класьці тое дзяцё. Кладуць і пяюць: „Бабуля, бабуля, у мыла кладець, А ўнучка, а ўнучка падарак нясець".* Бубны Віл.

**КЛАЧА́НКА** *ж.* Коўдра з пачаскавага валакна. *Хуцянька кладзіся і накрывайся клачанкай, уставаць жа рана трэба.* Ганчароўка Смал.

**КЛЕВЯРЫ́ШЧА** *н.* Канюшынішча. *Клевярышча ў другой брыгадзе добрая. Кажуць, кароў туды пагоняць.* Асіпавічы Віл.

**КЛЕВЯТА́ЧКА** *ж.* Пляткарка. *Клевятачка адна баба была, зь якой я паехала да прафесара, усім расказала.* Саланая Валож.

**КЛЕ́ІЦЦА** *незак.* (звычайна з адмоўем). Атрымлівацца, ладзіцца. *Гаворка ня клеіцца.* Петрашунцы Валож.

**КЛЕ́ЙНА** *ж. Плыт.* Плыт з дзесяці бярвеньняў, звяно. *За гэту ноч насабіралася гэтулькі клейнаў, што атрымалася цэлая застава.* Кукалеўка Чэрв.

**КЛЕ́НІЧЫ** *мн.* Праклёны, кляцьба. *Ні памагаюць твае кленічы: ты яго клянеш, а ён таўсьцея.* Цялякава Уздз.

**КЛЕ́ЦІШЧА** *н.* Свіран. *Колькі жыве чалавек, дык усё клопаты і клопаты: то клецішча развалілася, няма, дзе зярно ставіць, то калодзеж разваліўся.* Кукалеўка Чэрв.

**КЛЕ́ШНІ** *мн. Экспр.* Ногі. *Такія клешні доўгія, ці я ўганюся за ім.* Вецярэвічы Пух.

**КЛЁМБА** *ж.* Клумба. *Каля хаты клёмбу добра зрабіць, кветкі пасеяць. Потым прыгожа яны цьвітуць і пахнуць.* Ляшчынск Мядз.

**КЛЁН** *м. Абрад.* Першая зелень лісцевых дрэў, якой прыбіраюць хаты на сёмуху. *Мы клён ламаям толькі к тройцы.* Вецярэвічы Пух.

**КЛЁПКІ** *мн. Кулін.* Звараная палавінкамі бульба ў мундзірах. *Бульбу памыць чысцінька, парэзаць на палавінкі, з лупінай, пасаліць і адварыць. Гэта клёпкі называюцца.* Саланая Валож.

**КЛЁЦ** *м. Ганч.* Кавалак добра вымешанай гліны на адзін выраб. *Ганчары раздзяляюць гліну на асобныя камкі аднолькавай вагі — клёцы. Ад велічыні клёца залежыць і велічыня выраба.* Івянец Валож.

**КЛЁЦКІ** *мн.; адз.* **клёцка** *ж.* О **Клёцкі з душамі** — клёцкі з начынкай. *А клёцкі з душамі! Калопні патруць з цыбуляю ці з чоснакам і бульбы таксама надзяруць на драчку, адцэдзяць яе ды і клёцкі робяць, а ў сярэдзіну тую кашу з калапень кладуць, а тады ў вар кідаюць. А тады ды тыя клёцкі падсмажаць, то вельмі смачна было!* Жартайка Барыс. **Клёцкі з душой** — тое, што і ґ а л д у н ы́. *Эта ў нас калдуны, дак кладуць начынку, або гэта клёцкі з душой.* Пагост Віл.

**КЛЁШ** *м.* Блюда, на якім падаецца торт. *Такі ш вялікі торт мне сын зь нявесткаю прывезьлі, дзе пад яго і клёш знайсьці.* Чабаі Валож.

**КЛІ́КАЦЦА** *незак.* Запрашаць узаемна адзін аднаго. *Яны нейкія нашы далёкія сваякі, але йшчэ клічымся ў госьці.* Мікольцы Мядз.

**КЛІН** *м.* Клінападобная планка, якой злучаюцца, змацоўваюцца дошкі. *Замацаваў дошкі клінам, а яны ўзялі ды разьехаліся.* Вецярэвічы Пух.

**КЛІНО́К** *м.* Тое, што і к а с ы́ н а к. *Зьвязала сабе клінок зь нітак розных, а дацы купіла ў магазіне. Клінок у нас яшчэ завуць трохкутнікам.* Саланая Валож.

**КЛО́НБЫ** *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Пасьля вайны ў мяне яшчэ засталіся клонбы, дак я насіла.* Ваўкалатка Віл.

**КЛО́ПАЛКА** *ж.* Кураводка. *Раней ня было часу глядзець за клопалкай, кінеш яе, дык палавіны куранят і няма.* Рудня Чэрв.

**КЛУБІ́СТКА** *ж.* Загадчыца клуба. *Кажуць, клубістка новая прыехала ў наш клуб.* Яршэвічы Валож.

**КЛУБНІ́ЦЫ** *мн.; адз.* **клубніца** *ж.* Пахучыя і салодкія чырвоныя ягады садовых суніц. *Зьела глыбокую талерку клубніц.* Забалоцце Смал. *Каля тых дзвюх маладзенькіх яблынь сабрала цэлы кош клубніцы.* Рудня Чэрв.

**КЛУБО́К** *м.* Прадмет шарападобнай формы. *Рой у клубок зьвіўся.* Вецярэвічы Пух.

**КЛУ́МБЫ, КЛУ́МНЫ, КЛУ́МПЫ** *мн.* Тое, што і к л о́ н б ы. *Клумбы дажа й складныя былі, як хто акуратна рабіў.* Чабаі Валож. *У вайну насілі клумбы, бо абутку ня было, а цяпер жа хватая, але маладзёш усё роўна нося нейкія драўляныя туфлі.* Баяры Маладз. *Я лепій любіў клумпы, сам іх рабіў: с старой халявы верх, дзераўляная падошва. І нага сухая, і добра.* Бяларучы Лаг. *Я помню, мой дзет насіў клумны.* Вішнёва Валож.

**КЛУ́СТАСЦЬ** *ж.* Тлушч, сала. *Сядайця разам зь дзецьмі бліны с клустасьцю есьці.* Нарач Віл. *Я свае валасы клустасьцю змазала.* Забрэжжа Валож.

**КЛУ́СТЫ** *прым.* Тлусты. *Бывала, капусты нашарым, мяса бараніны клустай паложым. Смашна.* Баяры Маладз. *Клустага мяса не магу есьці.* Цялякава Уздз.

**КЛУ́ША** *ж.* Тое, што і д з е т а в о́ д у х а. *Клуша павяла куранят на грады, а ты куды глядзіш?* Дукора Пух.

**КЛЫ́ГАЦЬ** *незак.* Рыхліць. *Учоро папрасіла суседа соткі пабаранаваць, то прыехаў с канём, клыгаў там збольшаго. От, абы грудаў ні было.* Савоні Стаўб.

**КЛЫГУНІ́ХА** *ж. Неадабр.* Тое, што і к в а к т у́ х а. *Яна сколькі жыве, столькі ўсё стогне, клыгуніха гэта, а ў другіх бывае ня лепш, але маўчаць.* Бясяды Лаг.

**КЛЫНДА** *ж. Кулін.* Мачанка, прыгатаваная з тоўчанага льнянога семя. *Уперат я любіла гэтую клынду, а ціпер нешта ні хочацца яе есьці.* Кукалеўка Чэрв. *Жанкі с апяцітам елі клынду.* Турэц Чэрв.

**КЛЫНДЗЮК** *м.* **1.** *анат.* Мачавы пузыр. *Нешта, мабыць, нездаровілася нашаму кабанчыку, глянь, які чырвоны клындзюк.* Палессе Мядз. **2.** *кулін.* Салтасона. *У міне клындзюк цёмгля добры, смачны. Дачка ў Мінск брала, дык і там клындзюк панаравіўся.* Чабаі Валож.

**КЛЫНДЫ** *мн. Экспр.*Ногі. *Нахадзілася за дзень, клынды ледзь цягаю.* Рудня Лаг. *Стаміўся, чуць прыцёх клынды.* Рудня Чэрв.

**КЛЫЧО́К** *м.* Асобныя цыбуліны ў карчы. *Цыбуля ўрадзіла: па чатэры — па сем клычкоў у карчы. Адламі пару клычкоў і нясі сюды.* Хожава Маладз.

**КЛЫ́ЧЫЦЬ** *незак. Экспр.* Мучыць, здзекавацца. *І трэба ж гэдак клычыць свайго чалавека гэтымі рэўнасьцямі!* Рудня Чэрв.

**КЛЫШКА** *ж.* Замочак. *У мяне яно-та нічога і няма ў ім: палатна ё скрутачак і паркаль беленькі ляжыць, дык я й павесіла клышку, а то дзеці вымажуць рукамі.* Рудня Лаг. *Бывала, маці хавала ключы ат куфра, ніяк нельга адамкнуць клышку.* Рудня Чэрв.

**КЛЮ́БА** *ж.* Прылада для вымярэння таўшчыні цёсу. *Ні ведаю, як яшчэ назваць гэто, а мы завём клюба, вымяраем клюбай.* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. kluba < ням. Klobe 'блок, клямар; ціскі, прэс'.

**КЛЮ́СКІ** *мн. Кулін.* Клёцкі. *Якія варыш клюскі — бульбяныя ці мучныя?* Палачаны Маладз.; *параўн.* польск. kluski 'тс'.

**КЛЮЧ**[1] *м.* Бабка лёну. *Як была маладая, дык дваццаць ключоў льну магла паставіць,*

*а цяпер ня тое ўжо.* Пудзіцк Пух.

**КЛЮЧ**[2] *м.* Крыніца. *А ў нас ключ ля самай хаты, ваду бліска насіць.* Халопенічы Круп.

**КЛЮ́ЧАВЫ** *прым.* Дабротны, дарагі, які завязваецца толькі на свята. *Як нядзелька толькі, так бабы пазавязваюць сваe хусткі ключавыя ды ідуць на кірмаш. Укруціся ў ключавую хустку, усё цяплей будзя.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КЛЮ́ЧКА** *ж.* Качарга. *Ключкай бразгае з раніцы нявестка ў печы — цішыні ў хаце няма.* Баяры Маладз.

**КЛЮ́ЧЫК** *м. Заал.* Лічынка шыціка (Phryganea striata) у доміку. *Калі мы былі малыя, то лавілі ключыкаў у рэцыы, было ўсё інцярэсна тады.* Гілікі Валож.

**КЛЯВУ́ЗГАЦЬ** *незак.* Плявузгаць. *Вечна ты клявузгаеш ні тоя, што трэба.* Вялікая Вуса Уздз.

**КЛЯЁНКА** *ж.* Цырата. *Купіла файную кляёнку засьцілаць стол на кухні.* Сцешыцы Віл.; *параўн.* рус. клеёнка 'тс'.

**КЛЯМЭ́РКА** *ж.* Спражка на рэмені, папрузе. *І ўсыпаў жа рэмня, аш сіняк і засталіся ад клямэркі.* Варняны Астр.; *параўн.* польск. klamerka 'тс'.

**КЛЯНО́ВІК** *м.* Кляновы сок. *Жанкі кажуць, што кляновік і бярозавік трэба пераляяць у бочку ці ў збаночкі.* Вецярэвічы Пух.

**КЛЯНОЎНІ́К** *м.* Кляновы лес. *На тым месцы ўперат рос непраходны кляноўнік, а зарас вырубілі.* Гілікі Валож.

**КЛЯ́НЧЫЦЬ** *незак.* Назойліва прыставаць з просьбай, выпрошваць. *Ні клянч зра, бо ўсё роўна ні дам.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. klęczeć 'кленчыць, стаяць на каленях'.

**КЛЯ́ПА** *ж. Крав.* Тое, што і в ы л о́ ґ а. *Засталося адстрачыць толькі кляпы.* Вішнева Валож.; *параўн.* польск. klapa < ням. Klapp 'тс'.

**КЛЯПА́НІКІ** *мн.; адз.* **кляпа́нік** *м.* Галошы сваёй работы. *Сярмяга з бліскучымі гузікамі, на нагах — кляпанікі.* Талуць Віл. *А пошля ўжо сталі кляпанікі гэтыя кляпаць. Кляпанік як склепіш, дык на чатыры гады альбо на пяць, з гумы скляпаны кляпанік, глыбокі, як галош.* Бакачы Мядз.

**КЛЯПА́Ч** *м.* Мянташка. *Даўно ўстаў, касу злажыў, а кляпач ніяк ні знайду.* Папоўцы Віл.

**КЛЯСЦІ́** *незак.* ◊ **На чым свет стаіць клясці** — пасылаць самыя страшныя праклёны ў чый адрас. *Чую ля дому, ідзе мая старая і ўсіх на чым сьвет стаіць кляне.* Гранічы Маладз.

**КЛЯ́ТБА** *ж.* Тое, што і к л е́ н і ч ы. *Ды змоўкні! Нічога твая клятба ні дасьць.* Клетнае Барыс.

**КЛЯТЭ́РКА** *ж.* Накладка на правую частку прарэха ў мужчынскіх штанах. *Надзень, Юзік, штаны, я гляну, як клятэрка.* Пруды Стаўб.

**КЛЯШНЯ́**[1] *ж.* Клюшня. *З ракавай шыйкі і кляшні самая смашная мяса.* Пруды Стаўб.

**КЛЯШНЯ́**[2] *ж.* Тое, што і к а р н і́ к [1]. *Вось калі сена высушваюць і прывозяць дамоў, то яго складваюць у кляшню.* Рудня Чэрв.

**КНА́ТКА** *ж.* Цэўка. *Кросны ткала ўвесь дзень, а дзяцей застаўляла кнаткі круціць.* Бясяды Лаг.

**КНАТО́ВІКІ** *мн.* Вераўчаныя лапці. *Кнатовікі і ў міне былі, а што ш было рабіць, насіць жа болій ні было чаго!* Чабаі Валож. *Няма ш чаго, ды й каму ж зарас кнатовікі патрэбны?* Гілікі Валож.

**КНАТО́ВЫ** *прым.* Вераўчаны, з вяровачак. *Потым ужо адзяюцца, прыбіраюцца, лапцікі новыя, кнатовыя, плацянковую спаднічку і ідуць у цэркву.* Палессе Мядз.

**КНАТО́РЖНІК** *м. Бат.* Палын (Artemisia). *У маім гародзі поўна кнаторжніка, то я ім хату мяту.* Сасноўшчына Віл.

**КНО́РАЗ** *м.* Кныр. *Сьвіню ганялі да кнораза.* Цялякава Уздз.

**КНОТ** *м.* Тонкая вяроўка, скручаная з пянькі. *Стары некалі ўсё кнот на лапці круціў, зь іх кнатовікі плялі.* Чабаі Валож. ◊ **Кнот уесці** — атрымаць нястраўнасць. *Мой жа ўчарых кнот уеў. Што ні давала: й чарніц сушаных давала, і крухмалу заварыла — усё анно корчыцца й корчыцца.* Язні Віл.; *параўн.* польск. knot 'кнот'; ням. Knoten 'вузел'.

**КНУР** *м.* Кныр, кнораз. *Цяпер у нас кнуры толькі ў калгозе ёсь. Да яшчэ ў Вікенція кнур.* Бясяды Лаг.; *параўн.* польск. knur 'тс'.

**КНЫ́ПЕЛЬ** *м. Плыт.* Завостраны калок, які выкарыстоўваецца для спынення ходу плыта. *На бярвеньнях дзьве палены ґрубыя й бярозавая або дубавая палка, або правільней кныпель, якая міш бярвёнаў скальзіць уніс, у землю, задзержывая плыт.* Арцюхі Стаўб.; *параўн.* ням. Knüppel 'кій'.

**КНЫШ** *м. Кулін.* Тое, што і к л ы н д з ю к (у 2 знач.). *Кныш як вараць, то бывая 'шчэ ў марлю ўшываюць, кап цалейшы быў, ні лопнуў. Кныш у кажнай гаспадыні розны бывае, сматра хто сколька ложа чаго.* Чабаі Валож.

**КО́БАРАМ** *прысл.* Кулём. *Ён равесьнік нашага, а во зваліўся і забіўся. Кобарам паляцеў і духу ні ўказаў.* Савоні Стаўб.

**КО́БАЧКА** *ж.* Варонкападобнае паглыбленне на шапачцы грыба. *Лісічкі — красівыя грыбы. Жоўцінькія. Зьверху пасярот кобачка, а падысподам у рупчыкі. Грыб [сьвінньня] белы, здаровы, крамяны, пасярэдзіне кобачка ёсьціка, сівінькі трошкі, а зрэзаць — сінеіць.* Нядаль Барыс.

**КО́БКА** *ж.* Яма. *Сёліта цэлую копку бульбы насыпалі: урадзіла.* Сырмеж Мядз.

**КО́ҐУТ** *м. Заал.* Певень. *Во які галасісты твой коґут!* Палачаны Маладз.; *параўн.* польск. kogut 'тс'.

**КО́ЖАН** *гл.* ка́жан

**КО́ЖАНКА** *ж.* Куртка са скуразаменніка. *Німа лепіў, як кожанка: і носіцца добра, і ў любую пагоду надзеніш.* Чабаі Валож.

**КО́ЖДЫ** *займ.* Тое, што і ка́жан. *Кожды год летам да мяне ўнукі прыяжджаюць. Так я люблю, калі яны ўсе тут, у мяне.* Завішына Лаг.

**КО́ЗАЧКА**[1] *ж.* Сячкарня заводскага вырабу. *Наша сячкарня свайго вырабу, а ў некаторых фабрычныя сячкарні, козачкі іх завуць.* Ляхавічы Дзярж.

**КО́ЗАЧКА**[2] *ж.* Невялікая лавачка. *Бабуля наша ногі на козачку паставіць, акуляры надзеніць і вяжа.* Возера Уздз.

**КО́ЗАЧКІ** *толькі мн.* Маленькія саначкі. *Гэта ж яшчэ з зімы козачкі пат плотам стаяць, трэба на гару закінуць.* Літва Стаўб. *Вот гэтыя во малінькія козачкі, дык і то паткоўваюць, а то ш скора полас сойдзя.* Вязынка Маладз.

**КО́ЗЛЫТ** *м.* Козыт. *Не чапай мяне, я вельмі козлыту баюся, магу абамлець. Што рабіць тады будзеш?* Ляхі Нясв.

**КО́КАТ** *м.* Тоўсты сук, галіна. *Яблыкаў столькі ўрадзіла, што я колькі кокаты ні патпірала, яны ўсё роўна паабломваліся.* Закаблукі Мін.

**КОЛ** *м.* ◊ **Ні кала ні двара** – нічога няма. *Прыехаў дамоў, ні кала ні двара, усё спалена, усё разбурана.* Новікі Мядз.

**КО́ЛАТ** *м. Рыб.* Тое, што і балта́к. *Прысам боўтаюць у вадзе і заганяюць рыбу ў сетку. Прыс яшчэ называюць колатам.* Малмыгі Віл.

**КО́ЛЕНКІ** *мн.* Калені. *Я на колінках палола гэтыя буракі, а куры, каб на іх ліха, зьмяшалі зь зямлею.* Цялякава Уздз.

**КО́ЛЕНЦЫ** *мн.* Тое, што і ко́ленкі. *На коленцах увесь дзялок папалола, рада, што абабрала хоць, апалола.* Пудзіцк Пух.

**КО́ЛІВА** *гл.* ка́ліва

**КО́ЛІСЬ** *прысл.* Калісьці, некалі ў мінулым. *Колісь у модзе было лажыць на ложу падушак цэлую гару, на верх падушак ясікі.* Фалевічы Мядз.

**КО́ЛІЯ** *ж.* Тое, што і кале́йка[1] (у 2 знач.). *Учора ў поле ганяў сусет, а сёньня прыйшла колія мне. Папрасіла я свайго ўнука, каб адбыў колію, а сама пайшла жаць траву.* Коргава Лаг.

**КО́ЛКА** *ж.* Рэзкі, востры боль. *Нешта колка ў бакі коля, мо васпаленя якоя.* Вецярэвічы Пух. *Як разьвярнулася, дак колкі ў баку.* Цялякава Уздз.

**КО́ЛЬВЕЧЫ** *прысл.* Некалі. *А кольвечы гэта месца пустынным было, а зараз, бачыце, клуп стаіць.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КО́ЛЬКА** *прысл.* Колькі. *Колька я знаходзіў такіх гнёздаў у лесі, але ніколі ня браў.* Каменка Уздз.

**КО́ЛЬЦЫ** *мн.* Тое, што і ко́ленкі. *Пасадзі дзіця на кольцы, хай сьціхня.* Пудзіцк Пух.

**КО́ЛЬЧЫКІ** *мн.; адз.* **кольчык** *м.* Завушніцы. *Кольчыкі табе купіла, але ня ведаю, ці спадабаюцца.* Скамарошкі Стаўб.

**КО́ЛЯК** у выразе: чаго́-коляк. Чаго-небудзь. *Думаю, трэбо, мусіць, скокнуць дахаты і хапянуць чаго-коляк, а то да вечара праз гэту паршыву варону можна й ногі працягнуць.* Кулёўшчына Мядз.; *параўн.* польск. cokolwiek 'тс'.

**КОМ** *м.* Камяк (воску, зямлі і г. д.). *Не бяры гэтага кому, а то замараісься.* Ігрушка Круп.

**КО́МЕЛЬ** *м.* Тое, што і камёл (у 1 знач.). *Нейкая няўдалая штука папалася: комель тоўсты, а верх тонянькі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КО́МЖА** *ж. Царк.* Белае, доўгае, з шырокімі рукавамі адзенне, якое апранаюць духоўныя асобы пры выкананні службы. *Пробашч хадзіў у белай комжы, падносіў сьвечкі.* Ляшчынск Мядз.

**КО́МІНАК** *м.* **1.** Бакавая частка прыпека, дзе раскладалі агонь для асвятлення хаты. *Лампы рэткасьцю былі, комінкі былі і былі газьнічкі, як раншы называлі, смаркачачкі.* Зачысце Барыс. *Сядзелі за газоўкай, газоўку паставіш на комінак, на ўсю хату відна.* Мечаі Валож. **2.** Тое, што і ґзымс. *Ты ж ведаеш, запалкі заўсёды на комінку ляжаць.* Нізок Уздз. *Палажы мыло на комінак, мы кажды рас на комінак ложымо.* Горкі Стаўб.

**КО́МІНКА** *ж.* **1.** Свечка. *Раней як купім комінку, дак пры комінцы ўсю работу рабілі і відно было.* Зарэчча Стаўб. **2.** Шкло (з лямпы). *Як комінку зьнімуць, дык лампа капціць пачынае.* Пруды Стаўб.

**КО́МШЫЦЬ** *незак.* **1.** Мясіць. *Мільту комшуць і ядуць.* Ратуцічы Барыс. **2.** Мяць, камячыць. *Ня комшы плацьця.* Там жа.

**КО̀НАГРАБІ́ЛКА** *ж. С.-г.* Машына для зграбання сена, якая прыводзіцца ў рух канём. *Конаграбілка-то ёсь, але зламалася, цяпер граблямі грабуць сена.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КО́ННЫЯ ГРА́БЛІ.** Тое, што і ко̀награбі́лка. *У нашай брыгадзе лугі няроўныя, ні грабуць коннымі граблямі. Конныя граблі ёсьць у другой брыгадзе.* Малмыгі Віл.

**КО́НСКІ ВОЎК.** Тое, што і канюх[2]. *На ўзлесьсі ўбачыў конскага ваўка ды бягом прыпусьціўся. Ото спужаўся!* Каменка Уздз.

**КО́НЦАМ** *прысл.* Абавязкова. *Мне сягоньня концам трэба да мамы схадзіць!* Чанавічы Нясв.

**КО́НЧА** *прысл.* Тое, што і концам. *Ці конча гэта табе ісьці?* Цялякава Уздз.

**КО́НЧЫЦЦА** *зак.* Памерці ў пакутах. *Дзет*

*прышоў: „А бадай цябе, Шура, — кажыць, — ты ш ужо, мусіць, кончысься, паедзім да доктара".* Залазоўе Віл.

**КОП** *м.* У выразе: з копам. З верхам, вышэй краёў. *На вялікадня зьбяруцца. Скрыпка, гармошка, чалавек дзесіць зьбяруцца, адзінаццаты кошык нося зь яйкамі. Пярэйдуць паўвёскі, дык яёк назьбіраюць кош іс копам за песьні валачобныя.* Мечаі Валож.

**КО́ПАНІКІ** *гл.* капанікі

**КО́ПАНЬ** *ж.* Выкапаная сажалка. *Вясной сьнех сыходзіў, дык тады вада націкала ў копані, іх паглыблялі, глыбейшыя капалі, і ў гэтых копанях бялілі палотны.* Задор'е Лаг. *У копань насілі палатно бяліць.* Ігрушка Круп.

**КО́ПАЧКА** *ж.* Парастак. *У бульбе ўжо копачкі паказаліся.* Ляшчынск Мядз.

**КО́ПКА**[1] *ж.* **1.** Бакавая частка прыпека, куды выгортваюць жар, попел. *Загарні жар у копку, там ён перагарыць на попел. Падбяру троха ў копцы, а то абы-чаго панастаўляна, а скаварод няма дзе падзець.* Бясяды Лаг. *Зрабілі новую печ, а пра копку й забыліся: няма дзе запалкі класьці, ставіць гаршкі, скавароды.* Краснае Маладз. **2.** Круглае заглыбленне вакол корчыка цыбулі, часныку і інш. *Копку зробіш, вада не выліваіцца пасьля дажджу.* Ляшчынск Мядз.

**КО́ПКА**[2] *ж.* Бабка лёну. *Столькі копак паставілі, што і краю не відаць. Увесь лён у копках.* Літва Стаўб.

**КО́ПКАЦЦА** *незак. Экспр.* Важдацца, займацца працаёмкай справай. *Дзеўкі ня любяць, як мы, копкацца ў бураках, ім усё ляхчэй што давай.* Сіўцы Віл.

**КО́ПТАР** *м.* У выразе: з ко́птарам. Тое, што і з ко́пам; *гл.* коп. *Пойдзяш у лес і вядро с коптарам як бачыш [грыбоў] набярэш: лясы ў нас багатыя.* Зазерка Пух. *Перасыпала ягады ў шклянку, дык шклянка с коптарам.* Палачаны Маладз. *Налажыла талерку кашы с коптарам.* Жораўка Пух.

**КО́ПТКА** *ж.* Блузка, кофта. *Маці хустку завяжа, на коптку дасьць маладой, прыбярэ яе. Павячэраюць. Ну і ўсё вяселя.* Таўкачэвічы Уздз.

**КО́ПЧЫК** *м. Памянш.* **1.** Насып вакол расліны. *І мая работа сёньня відаць: во сьвежыя копчыкі кругом капусты.* Хожава Маладз. **2.** Насып са слупам як межавы знак. *Мерай вунь ат таго копчыка.* Паплавы Бярэз.

**КО́РАК** *м.* Курок. *[Ён] ні знаў нічога пра тое, што вінтоўка зараджана, зьвёў корак і стрэліў.* Мядзел Мядз.

**КО́РБЫ** *мн.* Сані (для вывазкі гною). *Запрэглі каня ў корбы і паехалі гной вазіць.* Сырмеж Мядз.

**КО́РМНІК** *м.* Кормны парсюк. *Нешта кормнік ня ўзеў есьці, хаця каб ні захварэў.* Дукора Пух.

**КО́РНІШАК** *м.* Карэньчык. *У падасінавіка галоўка тоўстая мясістая красьнінькая, а на корнішку чорнінькія пятнушкі пападаюцца.* Слабада Бярэз.

**КО́РФА** *ж.* Плеценая з лазы кашолка. *Была ў нас адна, Пацэвічыхай звалася, дык усё с корфай у горат хадзіла.* Зазерка Пух.

**КОРХ** *м.* Мера, роўная шырыні далоні ці кулака. *Стоўп трэба апусьціць у зямлю яшчэ хаця п на адзін корх.* Хожава Маладз. *Добрага кабана ўкармілі, сала на корх і больш.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КО́РЧЫК** *м.* Малая кружка. *Вазьмі ў крэдэньсе корчык і налі мне кісялю.* Літва Стаўб.

**КОСЦЬ** *ж.* ◊ **Абсудамойваць косці** *чые-н.* — абгаворваць. *Яна ш за маё дабро яшчэ і мае косьці апсудамойваіць, куды ня пойдзіць, дык цынцыруіць мяне.* Язні Віл. **Перамываць косці (костачкі)** *чые-н.* — абгаворваць. *Толькі ўсе аб гэтым і гавораць, мае костачкі перамываюць.* Станькі Віл.

**КО́СЫ**[1] *мн.* Валасы. *Пайду мыцца да нада субірацца. Памыць рукі, ногі, косы зачасаць.* Бяларучы Лаг.

**КО́СЫ**[2] *мн.* **1.** Ніткападобныя атожылкі ў некаторых раслін (гарбузоў, агуркоў і інш.). *Гарбузэ косы папушчалі, аж на барозны распаўзьліся.* Цялякава Уздз. **2.** Доўгае пер'е ў хвасце. *Кажды гот харошо пеўня пакідаю, а перазімуя — гадасьць становіцца, грэбень харошы, а косаў німа.* Савоні Стаўб.

**КОТ**[1] *м.* Выраб з хлебнага цеста, які формай нагадвае ката. *Маці хлеба напячэ і зь естага самага цеста зробіць ката, сьпячэ, дый лапы яму паробіць сь цеста, да й вочы з бобу, да й вушы, ды хвост — усё.* Дрычын Пух. ◊ **Ката ўкінуць** — унесці разлад у сям'ю. *У іх хату нехта ката ўкінуў: што дзень, то сварка.* Заброддзе Віл.

**КОТ**[2] *м.* Вечарынка. *Вечарам будзям гуляць ката ў Гэлі.* Вялікая Вуса Уздз.

**КО́ТКА** *ж.* Кошка. *Пецька, атпусьці котку, бо яна табе ўсе рукі паабдзірае.* Юркавічы Лаг.

**КО́ТЛІШЧА** *н.* Сяліба, месца жыхарства. *На пасёлак пераехаць — голы ўчастак, нічога ані. А на старом котлішчы садок пасаджаны, студню сваю выкапалі каля парогу, усё было ўжэ добра.* Калініна Дзярж.

**КО́ТНАЯ.** Цяжарная (пра кошку, сучку). *Кошка котная, ня бі!* Дукора Пух. *Яно відна, калі сучка котная: бакі ў яе вялікія.* Бясяды Лаг.

**КО́ТУХ** *м.* Падпечак. *Пасадзіла курыцу ў котух, а яна вылізла.* Дубраўка Круп.

**КОЎБ** *м.* Тое, што і каўбух (у 2 знач.). *Я коўб, можа, начыняць буду, а можа, зварым проста ды з'ядзім.* Ігрушка Круп. *Пасобіла ёй коўб начыніць.* Вецярэвічы Пух.

**КО́ЎДРА** *ж.* Цёплая пасцельная рэч, якой

накрываюцца. *А была йшчэ такая, называлася коўдра. Накрываліся імі. Верхняя пасьцілка, тканая сукном, усярэдзіну кудзелю клалі, падніз ці белая, ці скрынястая, тады ўжо шшывалі. Вот і коўдра.* Вязынка Маладз.

**КО́ЎДРО** *н.* Тое, што і к о́ ў д р а. *Я ж вам сваё коўдро дам, тоё, што на печы, цёплаё, яно ўжо драхлянько, яшчэ бацько мультанік купляў.* Савоні Стаўб.

**КО́ЎЗАЛКА, КО́ЎЗАНКА** *ж.* **1.** Каток. *Дзеці цэлы дзень коўзаліся на коўзалцы.* Вецярэвічы Пух. *Толькі празьвініць званок, як яны с усіх нох на коўзанку бягуць.* Бясяды Лаг. *На коўзанку як пойдуць, дак мокрыя-мокрыя папрыходзяць.* Нізок Уздз. **2.** *толькі мн.* **ко́ўзанкі.** Самаробныя канькі. *Гэтак жа ня было, што пашоў у магазін і купіў, а хочаш катацца, рабі сам коўзанкі або бацьку прасі.* Сакаловічы Круп.

**КО́ЎЗАЦЦА** *незак.* Варочацца. *Я ў тую ноч коўзалася, коўзалася ў пасьцелі, покуль заснула.* Вялікая Вуса Уздз.

**КО́ЎТУХ** *м.* Катух. *Загані, сынок, парсюка ў коўтух, а я прысяду пакуль.* Ужанка Нясв.

**КОФ** *м.* Шкатулка. *Гэта ж яшчэ дачка мая ў школе зрабіла гэты коф. Дак добра цяпер — ест куды ніткі і голкі палажыць.* Літва Стаўб.

**КО́ХЛІК** *м. Мед.* Коклюш. *Кохлік на малых нападая, а на вялікіх не.* Вецярэвічы Пух. *Дзеці кохлікам пахварэлі.* Палессе Мядз.

**КОЦ** *м.* Коўдра фабрычнага вырабу з шэрсці ці бавоўны. *Вазьмі коц на сенавал, каб ня зьмерзла, бо ноччы холадна.* Рубяжэвічы Стаўб. *Гэты ко́ц вісеў, намачыла да на карасінку — і патушыла.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. koc 'плед', ням. Kotze 'грубая шарсцяная коўдра'.

**КО́ЦЮБА** *гл.* кацю́ба

**КОШ** *м.* Плеценая з прутоў снасць на рыбу. *Кош — лавушка з лазы лавіць рыбу.* Вецярэвічы Пух.

**КО́ШАНЬ** *м.* Кошанка. *Кошань дождж намачыў, прыбраць не паспела.* Ляшчынск Мядз.

**КО́ШТЫ** *мн.* Выдаткі, грошы, вартасць затрат. *За нядзелю да вясельля мой малады захварэў. Я сьпярша абрадавалася, але маці і бацька ўстрывожыліся: многа коштаў палажылі на мяне.* Суднікі Валож.; *параўн.* польск. koszt, чэшск. košt < ням. Kosten 'тс'.

**КО́ШЫК**[1] *м.* Гандола аэрастата. *Помню, у пятнаццатым гаду такія шары бальшыя пускалі, воздухам надутыя. І на такіх вяровачках кошык патчэплены, у гэтым кошыку чалавек сядзіць. От іньцярэсна было!* Бяларучы Лаг.

**КО́ШЫК**[2] *м.* Від жаночай прычоскі — заплеценыя ў косы валасы ўложаны ззаду ў выглядзе кошыка. *Неяк уперад усе дзяўчаты запляталіся кошыкам, а цяпер? Хто ў косы заплятая?* Дукора Пух.

**КО́ШЫК-ПАДЖЫВО́ТНІК** *м.* Кошык з дзвюма ручкамі, які нясуць перад сабой. *Я сама бачыла, як несьлі кошыкі-паджыватнікі з дзьвіма ручкамі.* Дукора Пух.

**КО́ШЫЧАК** *м. Памянш.* Месца ў выглядзе ямкі, акаймаванай доўгімі і цвёрдымі валаскамі, на задняй лапцы пчалы. *На задніх лапках пчалы ёсь шчотачкі і кошычак, куды яна аграбае пылок.* Нізок Уздз. *Пчала шчотачкай пергу зьбірае і носіць яе ў кошычку ў вулей.* Хожава Маладз.

**КРАГА́** *прыназ. з родн.* Кругом, вакол. *Поп рукі ім [маладым] зьвяжыць платком і крага століка абводзіць.* Сіўцы Віл.

**КРАДЗЕ́ЖБА** *ж.* Крадзеж, зладзейства. *Коні путалі жалезнымі путамі: у нас кралі коні, былі людзі, каторыя займаліся крадзежбай.* Зачысце Барыс.

**КРАЙ** *у знач. прысл.* Абавязкова, крайне, вельмі. *Гарэлкі ня было дзе купіць, а калі нада каму край, то ў другую дзярэўню хадзілі.* Жартайка Барыс.

**КРА́КАВА** *ж. Заал.* Крыжанка (Anas platyrhynchos). *На балоці ў нас водзяцца кракавы. То гэта такія бальшыя качкі.* Малмыгі Віл.

**КРАКАВІ́ННЕ** *н.* Тое, што і ж а б а р ы́ н н і к. *Так увяз у кракавіньні, што ледзь вылес.* Ляшчынск Мядз.

**КРАКАВО́Е** *у знач. наз.* Пачастунак цеслярам пасля таго, як паставяць кроквы. *Кракавое пасьля крокваў. Як кроквы паставіў, дык і кракавое падносяць, і ўжо лічыцца ў нас усё, кончана работа цясьлярская.* Нізок Уздз.

**КРАКАЦІ́ННЕ** *н.* Тое, што і ж а б а р ы́ н н і к. *Натта ніхто і ні прыглядаіцца, якое яно, але ўсе ведаюць, што гэта кракаціньне.* Рудня Лаг.

**КРАКВЯНЫ́Я** *у знач. наз.* Тое, што і к р а к а в о́ е. *Калі паставяць кроквы, гаспадар ставіць краквяныя. Гэта заўсёды так.* Хожава Маладз.

**КРАКО́ВІК** *м.* Кракавяк. *Я, як была маладая, мазурку любіла танцаваць, краковіка ў чатыры пары хадзілі, кадрылю танцавалі.* Бясяды Лаг.

**КРАКТАВІ́ННЕ** *н.* Тое, што і ж а б а р ы́ н н і к. *С крактавіньня выходзяць палоньнікі, палоньнічкі.* Пруды Стаўб.

**КРА́ЛІ** *мн.* Каралі. *Во, вывясіла кралі, як цыганка! Куды так пойдзіш?* Ігрушка Круп.

**КРА́ЛЯ** *ж.* Красуня, прыгажуня. *Падумаіш, краля такая знайшлася! Як пашыта, так і зносіш, а гэтыя хвальбоны і сама даробіш.* Рудня Чэрв.

**КРАМ** *м.* Матэрыял фабрычнага вырабу. *Пайдзём палядзім у магазіне краму мне на кофтку.* Рубяжэвічы Стаўб.; *параўн.* польск. kram, ням. Kram 'тс'.

**КРА́МА** *ж.* Тканіна, матэрыя. *Набрала до-*

*брай крамы на сукню.* Сакольшчына Уздз. *На сукенку крамы купіла.* Вецярэвічы Пух.

**КРАМА́Ч** *м.* Нож з паламаным лязом. *Ты мне дай цэлы нош, нашто мне гэты крамач даеш.* Краснае Маладз.

**КРАМО́ВЫ** *прым.* Бледна-жоўты. *У мяне была крамовая сукеначка, да чаго я яе любіла!* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КРАМЯ́НЫ** *прым.* Худы. *І хто яе ведая, чаго яна такая крамяная. І есьць добра, а ўсё нічога.* Вялікая Вуса Уздз.

**КРАПА́НІК** *м. Кулін.* Бульбяны піражок, начынены капустай. *Маці гэтыя крапанікі апэнтам робіць, затое апэнтам яны і зьнікаюць.* Версанка Круп.

**КРА́ПАЧКА** *ж.* Крошачка. *Увесь хлеб з'еў, нават і крапачкі не аставіў!* Нізок Уздз.

**КРАПАЧО́К** *м.* Гатунак тытуню. *Учора дастаў турэцкага крапачку, адвяду душу.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КРАПІ́ВА** *ж. Бат.* **1.** Крапіва (Urtica). *Соня, ці ня твае гэты пыляняты ў крапіве пішчаць?* Дукора Пух. **2.** Суп з крапівы. *Вот бы, здаецца, крапівы паядала п!* Лыцавічы Віл. О **Воўчая крапіва** *бат.* — чысцік балотны (Stachys palustris). *Воўчая крапіва ні кусаяцца, цьвяткі ліловыя. Расьце воўчая крапіва ў лясах, на сырых мястах — лузі, берагах ракі.* Няровы Валож.

**КРАПІ́ЎКА** *ж. Мед.* Крапіўніца, краснуха. *Крапіўка ня цяшкая хвароба, але ўсё ш хвароба. Ну, як крапіўка, дык цела ў дзіцяці вельмі чэшацца.* Дукора Пух. *Не асьцерагла дзіця, велькі час на крапіўку хварэла.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КРАПІ́ЎНІК**[1] *м.* **1.** *Пагард.* Пазашлюбнае дзіця. *Як падгуляе каторая дзеўка, народзіцца хто, то банкарт называюць, яшчэ — крапіўнік.* Ігрушка Круп. **2.** Кураня, выседжанае курыцай употай ад гаспадыні. *Кажду восень у мяне крапіўнікаў ёсь, ні дагледжу.* Зазерка Пух.

**КРАПІ́ЎНІК**[2] *м.* Мех з грубага палатна. *Накапала бульбы дзесяць крапіўнікаў.* Палачаны Маладз.

**КРАПІ́ЦЦА** *незак.* Бадзёрыцца, мацавацца. *Зімку прахварэў, а цяпер расхадзіўся, краплюся.* Порычы Валож.

**КРАПІ́ЦЬ** *незак.* Тое, што і к р а п і ц ц а. *Як ваша мама, яшчэ крапіць?* Ратуцічы Барыс.

**КРАПЧА́К** *м.* **1.** Крапак, чалавек моцнага целаскладу. *Немалады ўжо, а які крапчак, як возьме што — у руках гнецца.* Рудня Чэрв. **2.** Моцны спіртны напітак. — *Вы з магазіна ідзяце? Ці ест там маскоўска? — Навошта табе гэты крапчак? Вінца якога купі, так і абыдзесься.* Савоні Стаўб.

**КРАПЧЭ́ЦЬ** *незак.* Рабіцца больш моцным; набірацца сіл. *Трэба ш было разьвівацца, трэба было хазяйства падымаць, каб яно падымалася. І вот хазяйства крапчэла, і мы крапчэлі, craраліся ўсе добра працаваць.* Чырвоны Пасёлак Пух. *Каму не на сьмерць, дык пахварэе, пахварэ ды і крапчэць пачынае.* Турэц Чэрв.

**КРАПЯ́Г** *м. Бат.* Махавік (Suillus variegatus Kuntze). *Грыбы ў нас розныя, многа іх. Малы як пойдзе ў лес — дак і крапягоў, і казьлякоў назьбірае.* Зуі Стаўб.

**КРАСАВА́ЦЦА** *незак.* Пышна развівацца, квітнець. *Даўней, помню, на балота нага нічыя не ступала, а цяпер жыта красуецца. У стан чалавека жыта.* Старыя Габы Мядз.

**КРАСАВІЧО́К** *м.* Ранні баравік, што з'яўляецца ў пару красавання жыта. *Як год мокры, у гэту пору красавічкі бываюць, баравічкі раньнія.* Савоні Стаўб.

**КРАСЁННАЕ** *у знач. наз.* Выраблене на кроснах. *Я прывыкшы да красённага, але ў мяне ўжо ўсё красённае зводзіцца, таксама болей магазыннага.* Фалевічы Мядз.

**КРАСІ́ВА-РАСКРАСІ́ВА** *прысл.* Вышэйшае праяўленне прыгожага. *Хлопцы і дзеўкі папрыбіраюцца, ходзяць чародамі. Кладуць касьцёр, песьні пяюць. Красіва-раскрасіва было!* Ялча Чэрв.

**КРАСІВО́** *н.* Крэсіва. *Каб дабыць агонь для курэньня, б'юць каменьчыкамі адзін аб адзін, кладуць кнот або порт і крэсюць. Гэта і ёсьць красіво.* Бясяды Лаг.

**КРАСІ́ВЫ** *прым.* Прыгожы. *Красівы, ліха яго матары.* Дукора Пух.

**КРАСІ́НА** *ж.* Тое, што і к а р а с і н а. *Добра, што красіна яшчэ была, дык запалілі керасінку і сядзелі ля яе.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КРА́СІЦЦА** *незак.* Ужываць касметыку. *Красіцца, што аш брытка глядзець. Усё рыла закрыта краскаю, як скарынкаю.* Узгурск Чэрв.

**КРА́СІЦЬ** *незак.* Фарбаваць. *Стары красіў [падлогу], дык толька бумагу павыюдзгаваў.* Вязынка Маладз.

**КРА́СКА** *ж.* **1.** Кветка. *Яго [апошні сноп] не ставяць у мятлік, а ўбіраюць стушкамі, краскамі, нясуць с поля і ставяць у чырвоны кут.* Багрыцоўшчына Дзярж. **2. Краскі** *мн.* Хатнія кветкі, вазоны. *Хутка нашы краскі распусьцяцца.* Дукора Пух.

**КРАСЛЯ́К** *м. Анат.* Зуб мудрасці. *Красьлякі аж у самым куце, цяжолыя зубы. А напроці ачэй — дак глазныя.* Хожава Маладз.

**КРАСНАВА́ТЫ** *прым.* Чырванаваты. *Купіла такую краснаватую скацярць, што я яе вельмі ні люблю.* Вецярэвічы Пух.

**КРАСНАГАЛО́ВІК** *м. Бат.* Тое, што і а с а в і к. *Грыбоў многа, але часьцей за ўсё знаходзім красназгаловікі і баравікі.* Пудзіцк Пух. *А там краснагаловікі стаяць як парасоны, ладныя такія.* Раўчак Пух.

**КРА́СНАЯ** *у знач. наз.* Віно, закрашаная

гарэлка. *Кажу: „Хлопцы, вы замарыліся крэпка, наце па каплі краснай". Не ўзялі!* Ігрушка Круп.

**КРАСНІНА** *ж.* Бакавая частка ткацкага станка, стацвіна. *Буду зьбіваць красьніну, ставіць кросны.* Пруды Стаўб.

**КРАСНЯК** *м.* Тое, што і асавік. *Сёлета повен лес грыбоў усякіх: і лісічак, і бабачак, і красьнякоў.* Каменка Уздз.

**КРАСУЛЯ**[1] *ж.* 1. Прыгажуня. *Мая Хадорка такая красуля, над усімі дзяўчатамі ў раёня.* Дукора Пух. 2. Клічка каровы. *Калі карова ацялілася ў нядзелю, то цялё завецца Красуляй або Красуняй.* Завішына Лаг.

**КРАСУЛЯ**[2] *ж. Экспр.* Вясёлка. *Пасьля дажджу, калі сонца засьвеціць, на небе красуля паяўляіцца. Як красуля на небе, кажуць, — дошч тры дні будзе.* Рудня Чэрв.

**КРАСЦІСЯ** *незак.* Хавацца. *Некалі палюбіў мяне дажа некі мой сваяк [гэта даўна было натта вялікі грэх], ну, але мы любіліся ўсё-такі і краліся ад усіх.* Засулле Стаўб.

**КРАТАЦЬ** *незак.* Успрымаць. *Як мае вочы кратаюць, так я і кістачкай ваджу.* Зазерка Пух.

**КРАТКА** *ж.* Драўляная паліца на пасуду, сталовае начынне. *Кратка — ета для лыжак, для місак, для рознай пасуды, балазе мужык мой зрабіў.* Вецярэвічы Пух.

**КРАЎЛОТ** *м.* Тое, што і караўлот. *Ото ш добры краўлот у мяне, ані ні зморысься прадучы.* Рудня Валож.

**КРАХАЦЬ** *незак.* Кракаць. *Дзікая качка вядзець качанят, а калі ўчуе небясьпеку, дык пачынае крахаць.* Ігрушка Круп.

**КРАХМАЛЁЎКА** *ж. Кулін.* Яечня з малака, яек, крухмалу, спечаная на тлушчы. *Ніколі крахмалёўку ня ела? То сядай з намі, пакаштуй.* Суцькі Віл.

**КРАХМАЛКІ** *прым.* Накрухмалены, пруткі. *Тады гэту плётачку ш ужо у вар, на анучку попялу, вады нальлеш, тады папярыш, яны ўжо крахмалкія.* Папоўка Мядз.

**КРАЦЯСТЫ** *прым.* Клятчасты. *У куску й нічога сабе было, а пашыла і не люблю: крацястае. Сарпінка — гэта крацястая тканіна.* Пруды Стаўб.; *параўн.* польск. kraciasty 'тс'.

**КРАШЭЦЬ** *незак.* Прыгажэць. *У мае гады, дзеткі, крашэць ужо ні пара.* Клетнае Барыс.

**КРОІЦЬ** *незак.* 1. Адразаць часткі, кавалкі ад цэлага. *Будзя табе кроіць, хопіць ужо хлеба.* Дукора Пух. 2. *перан.* Прычыняць душэўны боль. *Ні крой сэрца майго, сьціхні!* Рубяжэвічы Стаўб.; *параўн.* польск. krajać 'кроіць, рэзаць'.

**КРОК** *м.* Адкормлены кабан. *Сёлета добры крок у нас быў, столькі ўсяго нарабілі!* Родзеўшчына Валож.

**КРОМКАЦЬ** *незак.* Курлыкаць. *Жураўлі, калі ляцяць у вырай, дык кромкаюць.* Пруды Стаўб.

**КРОПАЧКА** *ж.* ◊ **І кропачкі (крошкі, кропелькі) пабраць (падабраць)** *з адцен. падкрэсл.* — быць вельмі падобным на каго з бацькоў або родных. *Падобны з твару да маткі — і кропачкі пабраў.* Саланая Валож. *На яго [бацьку] падобны, і кропелькі падабраў.* Хожава Маладз. *Пацягнуў па дзеду — і крошкі дзедавы пабраў.* Ляшчынск Мядз.

**КРОЎ** *ж.* ◊ **Кроў спусціць** — пабіць да крыві, пабіцца да крыві. *Як жаніўся, яна атучыла яго піць. Як уляціць у хату, у каго п'е, — біцца. Хоць і ёй кроў спусьцяць, але й яна яму таксама кроў спусьціць. Вот так і атучыла.* Кагалёншчына Лід. **Кроў цягнуць** — мучыць. *С пасьледніх жыл маіх кроў цягнуў.* Рабунь Віл. **Кроўю абыходзіць** — балюча перажываць крыўду. *Купілі парсючка с прыяцелем, аддалі 180 руб. Прышлося дзяліць, нашаму папала мо трэць. Як зварыла таго мяса, дак кажа: „Ні магу, кроўю абыходзіць. Ні давайце мне, мама, гэтага мяса, пакуль трохі ні забудуся. Гэта, — кажа, — прыяцель, што сабе тры кумпякі, а мне толькі адзін?!"* Кагалёншчына Лід.

**КРОЎНІК** *м. Бат.* Падтыннік, чыстацел (Chelidonium). *Кроўнік калі патрэш і прыложыш да ранкі, дык натта пячэць.* Бясяды Лаг.

**КРОХУ** *прысл.* Трохі. *У дарозе й жук мяса. Нада кроху ўзяць дзяцельніцы пат паху, паткіну цялятку.* Бяларучы Лаг. *І трэба ж ехаць, да Мінска паехаць нада, сьмятаны кроху сабрала, сыру, нада сыну завесьці, і баюся ехаць — нядужая.* Там жа.

**КРОШКІ** *мн. Кулін.* Тварог з малаком. *Я на сьняданьне зьдзелаю крошкі з цалёнкамі. Будзіш есьці?* Аздзяцічы Барыс. ◊ **І крошкі пабраць** — *гл.* кропачка. *Сын точны бацька, і крошкі пабраў.* Бытча Барыс. **Крошкі лізаць** *незадав.* — запрашаць каго ў госці, калі баль, бяседа ўступілі ў завяршальную стадыю. *На другі дзень, як тыя провады пачаліся, ішла Ірка з магазіна. А ля свата майго дзяўчатка й хлопцы стаяць. І Ірка прыпынілася. Выходзіць Аньціна сястра: — Заходзьця, хлопчыкі, ў хату, заходзьця, дзеткі. І ты, Ірачка, прыходзь! — А чаму ж вы ўчоро мяне ні запрасілі, сёньня дзякуй за запрашэнё. Німа чаго крошкі лізаць! — адпела ёй і дамоў прышла.* Савоні Стаўб.

**КРОШКУ** *прысл.* Трошкі. *Ужо я пірайшоў с першага ў другі клас, стала нек крошку весялей.* Задубенне Мядз. *Усып у булён крошку солі.* Вецярэвічы Пух.

**КРУГ**[1] *м. Крав.* Верхняя частка мужчынскай шапкі. *Яшчэ во і шапка дабраватая, але крух выгараў, дык і выкінуць прыдзецца.* Рудня Лаг. ◊ **Круг свету** — з розных мясцін. *Ды ўжо нек доўга субіраліся да гэтай свадзь-*

*бы, дык ужо знали, што свадзьба будзя ды музыка гэткая, дык круг сьвету атусюль былі.* Калініна Дзярж.

**КРУГ**[2] *м. Мед.* Лішай. *Як толькі восінь прыдзя, дык у мяне ўвесь твар у кругох.* Паплавы Бярэз. *Прайшлі, дзе конь качаўся, і набраліся кругоў.* Бясяды Лаг.

**КРУГА́** *прыназ. з родн.* Тое, што і к р а г а́. *Прышоў бацюшка, злажыў нашы рукі і павёў круга століка, сталі кольцы мяняць.* Баранцы Віл. *Хлопцы схавалі ключ, дак бедныя дзеўкі ўсю ноч бегалі круга хаты.* Дукора Пух.

**КРУГАЛЯ́** *прыназ. з родн.* Тое, што і к р а г а́. *Ён усё ходзіць, ходзіць кругаля мяне, вачэй ня зводзіць.* Кукалеўка Чэрв.

**КРУГЛАЛІЦЫ** *прым.* Круглатвары. *Такая круглаліцая ды прыгожая дзеўка ў цябе, Мар'я.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* рус. круглолицый 'тс'.

**КРУГЛО́ВІНА** *ж.* Круглае невялікае балотца паміж палёў. *Ня туды глядзіш, вунь там міс палёў кругловіна. На кругловіне трава добрая, трэба яе скасіць.* Вецярэвічы Пух.

**КРУГЛЯ́К** *м.* **1.** Акоранае бервяно. *Кругрлякі гатовы, зарас можна й зруп складаць.* Сцешыцы Віл. **2.** Гарызантальны абруч каша. *Кругляк паламаўся, дак і кош падняць няма як.* Бытча Барыс. **3.** Безрукаўка, камізэлька. *Мама сабе пашыла новы кругляк, а стары мне аддала.* Караваева Пух. **4.** *Бат.* Падвей (Eriophorum). *Ні асака, а кругляк, то і сохня добра.* Каменка Уздз. *Кругляк расьце на балоце, ён круглай формы — і сам і лісьце.* Вецярэвічы Пух.

**КРУГО́М** *прыназ. з родн.* Тое, што і к р а г а́. *Як атрэжу хлеба кругом булкі, дык хопіць усім.* Дукора Пух. *Бегая кругом саду, а ўлесьці баіцца.* Пудзіцк Пух.

**КРУЖАЎЦО́** *н.* Карункі. *Карунак у нас і кружаўцом яшчэ называюць.* Завішына Лаг.

**КРУ́ЖАЧКА** *ж.* Кубачак. *Завот маленькі быў. Рабілі лампавыя сьцёклы, кружачкі, стаканы, аконная сьцякло.* Партызанскі Віл.

**КРУЖО́К** *м.* Дошка, выразаная кругам, прыкладаць капусту, агуркі. *Зрабі ты кружок, капуста ня прыложана, мо ўжо й папорцілася.* Дукора Пух.

**КРУЖО́ЛКА** *ж.* Скрутак у форме абаранка. *Лыкі на лапці скручвалі ў кружолку.* Вецярэвічы Пух.

**КРУК** *м. Заал.* Груган (Corvus corax). *Крук чорны такі, на варону падобны. Вясной, як ару поле, дык кру́кі стадай ходзяць за канём.* Рабунь Віл.

**КРУ́КАМ** *прыс.* ◊ **Крукам сядзець** — многа, настойліва працаваць. *Мой жа як прыходзіць са школы, дык да цімна крукам сядзіць над урокамі.* Язні Віл.

**КРУМЕ́ЛЬ** *м. Заал.* Пячкур (Gobio). *Крумлі ёсь. Крумлі дык асьцярожна ловяць, мала іх находзіцца. Цяпер гэтыя крумлі ўніштажаюцца нешта.* Мядзел Мядз.

**КРУМКА́Ч** *м. Заал.* Лягушка, вадзяная жаба. *Вечарамі крумкачы на балоці цэлыя канцэрты ствараюць.* Чэрвень Чэрв.

**КРУНА́** *ж.* Труна. *Стары ўжо чалавек, некіх семісят гот, ходзіць на ўколы, а некая яму жаніба патрэбна. Яму ўжо круна трэба, а не жаніба!* Бяларучы Лаг.

**КРУПАДЗЁР** *м.* Чалавек, які наглядае за вырабам круп. *Раней у мельніцы быў крупадзёр, ён і наглядаў, як робяцца крупы.* Вецярэвічы Пух.

**КРУПАРО́ШКА** *ж.* Крупадзёрка. *Крупы згатаўляім у спецыяльным адзьдзяленьні — крупаросцы.* Бытча Барыс.

**КРУПЕ́НЯ** *ж.* Крупа. *У магазін прывезьлі грачаную крупеню, пабягу скарэй.* Пудзіцк Пух.

**КРУПЕ́РНЯ** *ж.* Тое, што і к р у п а р о́ ш к а. *У нашай мельніцы нават і круперня ёсь, можна і круп нарабіць.* Турэц Чэрв. *Круперня наша сапсавалася, трэба весьці ячмень у Сьмілавічы, каб надраць круп.* Дукора Пух.

**КРУПЕ́ЦКІ** *прым.* Утвораны ад назвы г. п. Крупкі. *Былі і барысаўскія сярод нас, былі і зь Мінску, былі і крупецкія, і з Ігрушкі, і с Ухвалы былі, і другія.* Ухвала Круп.

**КРУ́ПНІК** *м. Кулін.* Грыбны суп з ячных круп. *Крупнік я вару так: у чыгунок вады налліваю, сыплю пярловыя крупы і кідаю грыбы-бярвячкі, стаўлю на агонь, кіпіць ён. На стол падаю са сьмятанай.* Калодкі Віл. ○ **Крупнік кіслы** *абрад.* — посны суп з дробных ячменных круп з грыбамі. Гатаваўся на куццю. *Цяпер ужо і на куцьцю ніхто нічога асобага ні робя. Можа хіба хто крупніку кіслага звара, і ўсё.* Чабаі Валож.

**КРУСНА́ТКА** *гл.* курсна́тка

**КРУТАГАЛО́Ў** *м. Асудж.* Хуліган. *І крычыць, і б'ецца, крутагалоў гэты, прайдзісьвет паганы.* Рудня Чэрв.

**КРУТАГАЛО́ЎКА** *ж. Заал.* Апалонік. *А мне піць так захацелася! А вада была толькі с сажалкі, кішэла крутагалоўкамі! Як піць такую ваду?* Лебедзева Маладз.

**КРУТАЯ́Р** *м.* Роў з абрывістымі берагамі. *У нас крутаяр ёсьць, ідзе з ракі ў возера.* Дукора Пух.

**КРУЦЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш спрытны, малады. *Я тожа насіла прадаваць зябру, калі была круцейшая, а цяпер німа сілы.* Малмыгі Віл.

**КРУЦЕ́ЛКА** *ж.* Гарэза, непаседа. *Ну й круцелка ж у цябе дачка! На месцы й мінуты ня ўседзіць, то тут, то там усё скача.* Узгурск Чэрв.

**КРУ́ЦЕНЬ** *м. Неадабр.* Непаседа. *Бацька пярыў Сьцёпку ня рас: ён жа такі круцень.* Літва Стаўб.

**КРУ́ЦІКІ**[1] *мн. Бат.* Іпамея (Ipomoea). *Я*

*натта ш кветкі люблю, і каля сьцен усюды круцікі пасадзіла.* Скамарошкі Стаўб.

**КРУ́ЦІКІ²** *мн. Бат.* Тое, што і д у р н і́ ц ы. *Надоечы пайшла я ў лес назьбіраць круцікаў. А круцікі, як той казоў, растуць у нас на багуне.* Сіваца Валож. *У нас на балоці растуць круцікі.* Рубяжэвічы Стаўб. *Ат круцікаў галава круціцца, як многа зьясі.* Пруды Стаўб.

**КРУЦІ́ЦЦА** *незак.* Перашкаджаць, замінаць. *Німа табе ўседзьдзя, круціцца й круцічца, як уюн на скавародзе.* Сакаловічы Круп.

**КРУЦІ́ЦЬ** *незак.* 1. Быць непастаянным у любоўных адносінах. *„Мой сынок, — кажу, — можа і ў мяне сабе ня тое выравалася, але ш і ты ня будзь басяком, ня круці дзеўкамі!"* Язні Віл. 2. Завіваць. *Круцяць валасэ на анучкі, кап кучаравыя былі.* Дукора Пух. 3. *перан.* Прычыняць боль. *Ат шчоўя круціць суставы.* Дукора Пух. ◊ **Круціць носам** — адмаўляцца, упірацца, выказваць незадавальненне. *Як напаў [дзядзька], як напаў — выпер мяне замуш! А я так круціла носам, выбірала, ні хацела абы-як выйсьці.* Пагост Віл.

**КРУЦЯ́ШЧЫ** *прым. Асудж.* Гуляшчы, разгульны, дрэнных паводзін. *Бацька вельмі круцяшчы, нягодны.* Дукора Пух.

**КРУЧ** *ж.* Вір. *Там такая круч — ніводзін плавец ня можа ўтрымацца, зацягвае на дно.* Узгурск Чэрв.

**КРУЧА́ЙКА** *ж.* Цёплая хустка. *Купіла новую кручайку, завяжу, яна цяплейшая.* Аздзяцічы Барыс.

**КРУ́ЧАНЫ** *у знач. прым.* 1. Шалёны, хворы на шаленства. *Казалі, што ў нашай вёсцы кручаны сабака з'явіўся.* Мікалаеўшчына Стаўб. 2. Пакручасты, кучаравы (пра валасы). *У Мані валасэ ні кручаныя.* Дукора Пух. 3. З касымі слаямі (пра дрэва, драўніну). *Дрэва такое няроўнае, кручанае.* Вецярэвічы Пух.

**КРУ́ЧКА** *ж.* 1. Тое, што і к а́ л і к а. *Усю капусту апсадзіла кручкай, хай расьце.* Хожава Маладз. *Усёй сям'ёй цягалі кручку ў склеп.* Палачаны Маладз. 2. Насенне бручкі. *Накупляла насёна, усялякага сягодня было: і цьвіковых буракоў, і быдлячых, і морґавы, кручкі.* Яцыны Мядз.

**КРУЧО́К¹** *м. Уст.* Чацвярцінка. *Прыдзе еты Міхаль у магазін і адразу: „Дай мне ета кручок".* Зайцы Чэрв. *Даўней памногу гарэлкі ня бралі, возьмя кручок і досыць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КРУЧО́К²** *м.* Коўшык. *Кручок вырабатывалі зь дзерава, коўшык яшчэ зваўся. Кагда свадзьба ці пахараны, налівалюць у кручок і п'юць. Як лошка с кручком.* Ігрушка Круп.

**КРУЧО́К³** *м.* Драўляная прылада для віцця вяровак. *Сукаватыя драўляныя палачкі — ета кручкі.* Вецярэвічы Пух.

**КРЫВАПЛЕ́ЧЫ** *прым.* З крывым плячом. *Крываплечы ён, адно плячо вышэйшае за другое.* Вішнева Валож.

**КРЫВА́ЎКА¹** *ж. Мед.* Крывавы панос, дызентэрыя. *У нас ету балесь крываўка звалі, цяпер яе німа.* Вецярэвічы Пух. *Ня еш, ад зялёных яблык нападзе крываўка.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КРЫВА́ЎКА²** *ж. Бат.* Крываўнік (Achillea). *У агародзе крываўка расьце, цьвет яе белы або ружаваты.* Забалоцце Смал.

**КРЫВЕ́ЛЬ** *м. Абразл.* Кульгавы хто-н. *Але крывель гэты яшчэ на баб заглядаяцца!* Дукора Пух.

**КРЫВУ́ЛІ** *мн.* Прычэп да воза, што выкарыстоўваецца пры перавозцы доўгіх бярвенняў. *Як ні круці, хлопцы, а крывулі да воза трэба.* Чыжаха Бярэз.

**КРЫВЫ** *прым.* 1. Кульгавы. *Мой мужык крывы: на вайне нага яго параняная.* Цяпякава Уздз. 2. *перан.* Зайздросны. *Ганна ж вельмі крывая: кап прымела, дык усё б загрэбла сабе.* Вялікая Вуса Уздз. ○ **Крывое калясо** — тое, што і д з е р а в я́ н н ы х о д. *А ў беннага — дрэнныя калёсы і называліся дзеравянны хот. Ён зробіць з палкі дубовую вось і надзеніць, і так і называецца крывое калясо.* Восава Круп. **Крывое сала** *перыфр.* — каўбаса. *Закусвайця крывым салам, гурком.* Зенькавічы Уздз.

**КРЫВЯ́НКА** *ж. Кулін.* Запечаная ў кішках кроў разам са спецыямі; крывяная каўбаса. *Крывянку садразу пяклі, як сьвіню білі. Хто проста с анной крыві пёк, а хто крупак якіх кідаў. Вот лоўкая крывянка з ячнымі крупкамі выходзіла.* Задор'е Лаг. *Робім мы крывянку, калі заколім кабана, як яшчэ сьвежая кроў.* Хожава Маладз. *Наліваная крывянка вельмі смачная.* Астравок Уздз. *Бяруць кроў з мукою прыгатоўляную, наліваюць у кішкі і пякуць — вот табе і крывянка.* Горкі Стаўб.

**КРЫЖ** *м.* Падстаўка з двух брускоў, якія перасякаюцца. *На крыш стаўлялі, бывала, дзяжу і двума рукамі мясілі.* Вецярэвічы Пух.

**КРЫЖАВО́Е** *у знач. наз.* Пачастунак цеслярам. *Крыжавое п'юць, як заложаць вянец зруба.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КРЫЖО́К** *м. Памянш. да* крыж. *Каб не папорціць краску, на акне пад вазон крыжок ставяць.* Зазерка Пух.

**КРЫЖЫ́** *мн.* Прыстасаванне для размотвання маткоў. *Унучак, падай мне крыжы, буду матаць ніткі.* Рудня Чэрв.

**КРЫ́ЖЫК¹** *м.* Палачка з перакрыжаванымі планачкамі або кружком з дзіркамі на канцы для збівання масла ў хатніх умовах. *Масла б'юць крыжыкам: уліваюць у бойку сьмітану, крыжык абмываюць халоднай вадой і ўстаўляюць у бойку, закрываюць вечкам. І доўга калоцяць сьмітану крыжыкам.* Бясяды Лаг. ○ **Балгарскі крыжык** — вышыў-

ка двайным крыжыкам. *Лепш давай будзем простым крыжыкам вышываць, чым балгарскім, а то вельмі многа нітак пойдзя.* Саланая Валож. *А неяк былі пахапілі моду падушачкі вышываць, то толькі балгарскім крыжыкам.* Савоні Стаўб.

**КРЫЖЫК**[2] *м.* Аўсяны або ячменны мэндлік з 15 снапоў каласамі да цэнтра. *Авёс, ячмень жалі, у снапы вязалі і ставілі ў крыжыкі, пятнаццаць снапоў у крыжыку.* Нізок Уздз. *Крыжыкі кладуць каласэ с каласамі, па 15 снапоў, а бапка — каласамі ўверх і адным снопам наверх.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КРЫЖЫ́НЫ** *мн.* Тое, што і к а з л ы́[2]. *Далі нам вялікую пілу, далі нам крыжыны, на чым дровы рэзаць, і мы рэжам.* Таўкачэвічы Уздз.

**КРЫКУ́Н** *м.* Крыкса. *Рады не дам гэтаму крыкуну: дзяржы на руках — маўчыць, як толькі з рук — у крык.* Сакаўшчына Валож.

**КРЫКСЛІ́ВЫ** *прым.* Плаксівы. *Такі ўжо малы расьце крыксьлівы, хаця б на хвіліну змоўк.* Забалоцце Смал.

**КРЫКСУ́Н** *м.* Тое, што і к р ы к у́ н. *У каго ты, мой крыксун, такі ўдаўся? Чаго ты ўсё крычыш, крыксун, сьціхні, ужо галава баліць.* Забалоцце Смал.

**КРЫЛЦО́** *н.* Ганак. *Як турнуў с крылца, а ён як пабяжыць, як пабяжыць — і не дагнаць.* Тонава Стаўб.

**КРЫПА́ЦЬ** *незак.* Выдумляць. *— Ай, ні крыпай, Агапа! Я ніякіх калянных дней ні знаю, і кожан год была бульба і буракі цэлыя, мышы ня елі, а сёліта і буракі і бульбу зьелі.* Халмоўка Барыс.

**КРЫСА́**[1] *ж.* Крысо, пала. *Крысу правільна атрэзала.* Дукора Пух.

**КРЫСА́**[2] *прысл.* Тое, што і к р о́ х у. *Пасядзі яшчэ крыса лі мяне, як бы і галава менш баліць.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КРЫ́САЧКІ** *мн.* Зборачкі. *Я сваю суkенку буду шыць у крысачкі, натта яны мне падабаюцца.* Рудня Чэрв.

**КРЫ́СКІ** *мн.* Махры. *У міне яшчэ адна хустка засталася с крыскамі.* Каменка Уздз.

**КРЫ́ХА** *прысл.* Тое, што і к р о́ х у. *Яшчэ крыха прайсьці, і рэчка будзе, а за ёй — лес.* Зарэчча Стаўб.

**КРЫЧЭ́ЦЬ** *незак.* Крычаць. *Настаўніца пачала крычэць на вучняў, а яны яшчэ мудрэй.* Палессе Мядз. ◊ **Крычаць на чым свет стаіць** — вельмі моцна крычаць. *Што тут робіцца? Чаго ты крычыш на чым сьвет стаіць?* Цялякава Уздз. **Хоць ґвалт (каравул) крычы** — пра безвыходнае становішча. *Як толькі ў хату выйдў, адразу кроў з наса й ліецца. Німа як маладой сесьці за сталом, хоць ты ґвалт крычы!* Залазоўе Віл.

**КРЫША** *ж.* Страха. *А як ужо ўсіх перабілі гэтых старыкоў і старух, тады яны [карнікі] сталі страляць па крышы, і саламянныя былі крышы, агнамяннай пуляй.* Сваткі Мядз. *Крыша цячэ.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* рус. крыша 'тс'.

**КРЫША́Н**[1] *м.* Храпка. *Мае дзеці вельмі любяць крышанэ. Як шаткую капусту, дак лепшыя крышанэ паядуць, а горшыя каровя сяку.* Дукора Пух.

**КРЫША́Н**[2] *м.* Скварка. *Скваркі ў нас завуць нікаторыя прыеежджыя крышаны, але гэта ні па-нашаму.* Рудня Лаг.

**КРЫШАНЫ́** *мн. Кулін.* Бульбяны суп, забелены ці запраўлены смажаным салам. *Перш на булён крышаны казалі, бо с крышаноў бульбы яго вараць.* Кроква Лаг. *Заўтра звару вам крышаны, калі крупнік надакучыў.* Скамарошкі Стаўб.

**КРЫ́ШКА**[1] *ж.* **1.** Верхняя плоская частка стала. *Нам трэба новы стол, гэты стары, крышка ўся эмалёвана, зрэзана — нікудышны.* Малмыгі Віл. **2.** Века. *Дубовыя крышкі рабілі.* Вецярэвічы Пух. **3.** Накрыўка. *Крышка малая на ету каструлю.* Вецярэвічы Пух.

**КРЫ́ШКА**[2] *ж.* Крошка, дробная часцінка. *Барануям, барануям, а ўжэ пара абедаць. Прышоў да воза, да абеда свайго, а ад яго крышкі тулькі асталіся — варона мой абет уперла, каб яна на ражон сперлася!* Кулёўшчына Мядз.

**КРЫШО́НКА** *ж. Кулін.* Вараная з лупінамі бульба. *Бываюць гады, калі бульба добра разварaваіцца. Вот тады крышонку можна варыць. Выцягніш з печкі саган, атцэдзіш ваду, паставіш зноў на жар, кап патсохла, і высыпаіш на стол. Лупіны самі атстаюць. Вот гэта крышонка.* Калодкі Віл.

**КРЫШЫ́** *мн.* Крошкі. *Як нарэжу хлеба, дык столькі крышоў застаецца: нош тупы зусім.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КРЫШЫ́НА** *ж. Бат.* Крушына. *Крышыну ні на што ні спользуюць: зубы могуць высыпацца.* Ляхавічы Дзярж.

**КРЫШЫ́ННІК** *м. Зб., бат.* Зараснікі крушыны. *Крышыньнік такі густы, што ні прайсьці. Хоць бы яго высяклі!* Ляхавічы Дзярж.

**КРЭГАЦЬ** *незак.* Жыць хварэючы. *— Як тут дзяцька? Крэгая яшчэ? — Нічога, сілы-то німа, на работу ня ходзіць, ля дому куранятка пасе адно.* Арцюхі Стаўб. *Дзьве нядзелі крэгаў, крэгаў ды памёр.* Літва Стаўб.

**КРЭДАНС, КРЭДАС** *м.* Буфет. *Марыся, вытры талежыкі і пастаў у крэданс.* Літва Стаўб. *Крэдэнсы цяпер і то пад моду сталі — цёмныя.* Ціханава Слабада Стаўб. *Крэдас мне зяць зрабіў, дак усю пасуду паставіла. Так добра.* Ляшчынск Мядз.; *параўн.* польск. kredens 'тс'.

**КРЭЖ** *м.* Краж, суцэльная цвёрдая парода. *Як крэжаватае дрэва, дык амаль стрыжню няма, крэж.* Нізок Уздз.

**КРЭ́КНУЦЬ** *зак. Экспр.* Памерці, зайсціся.

*Я б ат такого жыцьця даўно крэкнула. Як ты яшчэ жывеш?* Баяры Маладз.

**КРЭМІЦЦА** *незак.* Мазацца крэмам. *Трэба крэміцца, дак будзяш доўга маладою.* Дукора Пух.

**КРЭПАЗНЫ** *прым.* Моцны. *Мой халат стары, але крэпазны, можна яшчэ ў ім хадзіць.* Дукора Пух.

**КРЭПЕЛЬ** *м.* Тое, што і к н ы п е л ь. *Закруціў ды абухам пагнаў гэты крэпель.* Паплавы Бярэз.

**КРЭПІК** *м. Тэкст., памянш.-ласк.* Крэп. *Мне, помню, пашылі з крэпіку сукенку, ды яшчэ бікешачкай. От радасьці было!* Пасынкі Мядз.

**КРЭПКА** *прысл.* Надта, вельмі. *Жылі два браты. Адзін быў крэпка багаты, а другі быў бенны саўсём.* Ракаў Валож.

**КРЭСАЧКА** *ж.* Рысачка, лінія, звычайна кароткая тонкая. *Прадалі мы гэную канюшыну, хустку мне купілі пекную такую кветамі вялікімі чырвонымі і крэсачкі чорныя.* Язні Віл.

**КРЭСКА** *ж.* Тое, што і к р э́ с а ч к а. *Завязьлі мы гэную канюшыну на базар у Даўгінава, прадалі і купілі мне пекную такую хустку кветамі вялікімі чырвонымі і крэскі чорныя.* Язні Віл. *Крэскі зрабі на сукенцы, а потым падрубліваць будзіш.* Узгурск Чэрв.; *параўн.* польск. kreska 'тс'.

**КРЭСЛА** *н. Крав.* Шырынка. *Штанэ ўжо гатовыя, толькі гузікі ў крэсла трэба ўшыць.* Пруды Стаўб.

**КРЭСУН** *прысл.* Да канца. *Крэсун нядзелі паўната, а потым зноў будзя маладзіковы пірыят. Тады трэ флянцы садзіць.* Літва Стаўб.

**КРЭТКА** *ж.* Аловак для малявання. *Пазыч мне сваіх крэтак.* Палессе Мядз. *Заўтра ў нас урок маляваньня, не забыць бы крэтак.* Бальцары Маладз.; *параўн.* польск. kredka 'кавалачак крэйды'.

**КРЭЎНЯЧКА** *ж.* Сваячка. *— А хто яна мне? Ці яна сусетка харошая быўшая? Ці крэўнячка, радство якоё? Баба, чужая баба!* Савоні Стаўб.

**КСЁНЖКА** *ж.* Кніжка. *Памый рукі, бяры ксёнжку, каету і садзіся пісаць.* Чараўкі Мядз.; *параўн.* польск. książka 'тс'.

**КСЦІНЫ** *толькі мн.* Хрэсьбіны. *А ў нас на ксьцінах ксьцінныя песьні сьпяваюць.* Бытча Барыс.

**КУБАРКА** *ж.* **1.** Банка з-пад кансерваў. *Лепей вазьмі кубарку і налі мне ў саган вадзіцы, пойдзім цялушачку паіць.* Яцыны Мядз. *Вазьмі кубарку і налі гусянятам вады.* Баяры Віл. *Падай кубарку вады, а то ў роце сасмагла.* Льцавічы Віл. **2.** Коўш драўляны з ручкай. *Калі вады хочаш, то вазьмі вунь кубарку ды набяры.* Калодкі Віл.

**КУБАТАРКА** *ж.* **1.** Цялё, што з'явілася на свет у выніку штучнага асемянення. *Быкоў німа, іскусьцьвянныя, з гэтых кубатарак цяляты малыя: тоўсьцянько, але маленько.* Савоні Стаўб. **2.** Курыца, выведзеная ў інкубатары. *Ёсьць простыя куры і кубатаркі. Кубаткі — харошыя куры, нясуцца зімой і летам.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КУБЕЛ** *м. Уст.* Тое, што і к і б е л ь. *Нанялася бялізну мыць. Чатыры кублы стаялі: летняя вада, гарачая вада, халодная вада — гэта чатыры кублы з вадой.* Пагост Віл.; *параўн.* польск. kubeł < ням. Kübel 'тс'.

**КУБЛО** *н.* Гняздо. *Шукала, дзе мая жоўцінькая курка нясецца, і ні нашла, дык зрабіла ў рэшаце кубло і поклад улажыла.* Ляды Чэрв. *Ластаўкі ў нас над вокнамі кубло зьвілі.* Узгурск Чэрв.

**КУБЭЛАЧАК** *м.* Дзежачка. *Я ў тым годзя цэлы кубэлачак грыбоў насаліла.* Бясяды Лаг.

**КУГАКАЦЬ** *незак.* Тое, што і к і г ў к а ц ь. *Ноччу як пачне сава кугакаць, дык аш страх бярэ, як дзіця.* Бытча Барыс.

**КУГАШКА** *ж.* Пасуда, якой чэрпаюць у лазні ваду. *За кугашку не было як узяцца голай рукой, гэтак яна нагрэлася.* Хацюхова Круп.

**КУГУКАЦЬ** *незак.* Тое, што і к і г ў к а ц ь. *Сава ноччу кугукае, зайцоў сазывае.* Рудня Лаг.

**КУДАСА** *ж.* Мяцеліца, завея. *На дварэ кудаса, носа ня высуняш.* Палессе Мядз. *У тую ноч была такая кудаса, што ледзьве крышу з пуні ня зьнесла.* Баяры Маладз. *Сёньня такая кудаса, пазаметая дарогі.* Палачаны Маладз.

**КУДЗЭЛІЦЦА** *незак.* Станавіцца падобным на кудзелю, лахмаціцца. *Аснову здымалі са сцяны, плялі ў плётку, адмачвалі, білі прайнікамі, каб крахмальная і глаткая была і каб ні кудзелілася.* Мацкі Мядз.

**КУДЗЕРКА** *ж.* **1.** Назва невялікага лужка, сенажаці. *Хведзік у кудзерцы ўжо трэйці рас, пэўна, траву скасіў.* Заямнае Стаўб. **2.** Участак, лапінка лесу. *Хадзіў на ахоту ў тую кудзерку, дзе і заўсёды, і зайца забіў.* Вялікая Вуса Уздз.

**КУДЗЯЛЯНКА** *ж.* Посцілка, падшытая кудзеляй. *Раней адзіял гэтакіх, як цяпер, не зналі, шылі кудзялянкі. Зімой дужа цёпла было пат кудзілянкай.* Бубны Віл. *Акрываліся кудзялянкаю з галавой, кап цяплей было.* Жардэцкія Віл.

**КУДЛА** *ж. Пагард.* Распусніца. *Скруцілася саўсім дзеўка, кудлаю стала.* Брадок Лаг.

**КУДРАВІНА** *ж.* Рог лесу, які адыходзіць ад асноўнага масіву. *Ідзіце па той дарозе, там дзьве кудравіны.* Хожава Маладз.

**КУДРАВЫ** *прым.* Кучаравы. *Якія прыгожыя ў лялькі валасы, такія кудравыя, няхай бы ў мяне былі такія.* Вецярэвічы Пух.

**КУДРАЧ** *м.* Гатунак лёну (Linum humile).

*У кудрача сем'я многа, ён умалотны.* Вялікая Вуса Уздз. *Змалоцім і сем'я здаём, тысячы калхос на кудрачы зарабляя.* Нізок Уздз.

**КУДЫ́НАКА** *прысл.* Куды. *І кудынака гэта ён пойдзя ноччу, што ты гаворыш?* Зазерка Пух.

**КУДЫ́Х** *прысл.* Тое, што і кудынака. *Кудых прапаў кан? Хто гэта сягодня дзяжурыць, мажа ён відзяў?* Канстанцінава Мядз.

**КУДЭ́Ю** *прысл.* Куды, дзе. *Як прывезьлі нас у вялікі горат, то ніхто ні ведаў дарогі, кудэю ісьці.* Кукалеўка Чэрв. *Кудэю мы, бабачкі, пойдзям?* Цялякава Уздз.

**КУЕ́НЧЫЦЦА** *незак. Экспр.* Забаўляцца, гуляць. *Да палудня зь дзецьмі куенчылася.* Сырмеж Мядз.

**КУЖО́ЛНЕНЬКІ** *прым. Памянш.* да кужо́лны. *Плаценачку выччым, касьцюм пашыім — блюзачку пашыім кужолнінькаю, тканаю, і спадніцу гэтакаю.* Ластаянцы Валож.

**КУЖО́ЛНЫ, КУЖО́ЎНЫ** *прым.* Пашыты з кужалю. *А ўжо як ідзеш замуш, кужолныя порткі мужыку пашыіш.* Лоск Валож. *Раней кашулю кужоўную насілі, штаны ізрэбныя, усё саматканая. Ішчэ калі мала было кужоўнага, дык у каго была да пояса кужоўная, а ніжэй — ізрэбная.* Вязынка Маладз.

**КУ́ЗАП** *м.* Каробачка з кары на ягады. *Назьбіралі повен кузап ягат.* Палачаны Маладз.

**КУЗУНО́К** *м.* Чыгунок. *Вазьмі кузунок, насып бульбы, налі вады і ў печ пастаў.* Шацк Пух.

**КУЗЫ́НКА** *ж.* Цётка, сястра бацькі. *Ну, кузынка, сустракай свайго сына.* Палачаны Маладз.

**КУЗЮ́КА** *ж. Бат.* Куўзіка. *Кузюка мне нравіцца, яе выгодна вырошчваць ды карова добра есьць натта.* Пудзіцк Пух.

**КУЗЮ́ЛЯ** *ж.* Тое, што і кузю́ка. *Цяпер у вёсцы нікога з баб няма: пайшлі кузюлю палоць. Там за вёскай дзялкі падавалі.* Баяры Маладз.

**КУЗЯ́ЎКА** *ж.* Казюлька. *Я прышла дадому, а нешта над вухам шапоча й шапоча. Памацала, нічога няма. Атвязала хустку, а там такая во кузяўка вялікая з вусамі.* Бялару-чы Лаг.

**КУ́КА** *ж. Ганч.* Вялікі драўляны молат, пры дапамозе якога нарыхтаваную гліну збіваюць у вялікія кавалкі. *Зьбіваім гліну кукай у кавалкі, разразаім стальной провалакай.* Беразіно Бярэз.

**КУКАВЕ́РКІ** *мн.; адз.* **кукаве́рка** *ж. Кулін.* Галушкі. *Ідзі паспытай, ці гатовы кукаверкі, нешта ж есьці хочацца.* Восава Мядз.

**КУ́КАЛЬ, КУКУ́ЛЬ** *м. Бат.* **1.** Куколь (Agrostemma). *Кукуль адно ў жыці некалі рос, цяпер кукуль зьвёўся.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Насенне гэтай расліны. *Мама расказвала, што даўней мыла ні было. Мылі кукалям, гэта зярняткі, якія зьбіралі с травы, што расьце ў лёня і цьвіце чырвоным. Бывала, натрэш кукаль, дык і пеніцца, як мыла.* Глебаўшчына Лаг.

**КУ́КЛА** *ж.* **1.** Звязка вычасанага лёну. *Пяць-шэсць жмень перакручываім хвосьцікамі, і гэта кукла называіцца.* Хожава Маладз. *Сатруць лён, шчэшуць, дай зьверцяць шэсць ручаяк, так гэта кукла.* Дукора Пух. **2.** Завязаныя ў пучок сцяблінкі жыта на граніцы пастаці. *Каб не залазіць на чужую плошчу, бабы завязвалі з жыта вузлы — куклы. Колькі куклаў ні стаў, усё роўна пераженеца.* Папоўцы Віл.

**КУ́КЛАЧКА** *ж. Памянш.-ласк.* да ку́кла. *Кужаль пакруціім у куклачкі, а пачасься пачынім у кудзелькі.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КУКЛЯ́НКА** *ж.* Вадзяная улітка. *А я вот да куклянкі і не прыглядаўся, знаю толькі, што ёсьць такая.* Паплавы Бярэз.

**КУКО́РКА** *ж. Кулін.* Праснок. *Адламалі мне кавалак кукоркі пакаштаваць.* Палачаны Маладз.

**КУЛА́К** *м.* Колькасць чаго-н., што змяшчаецца ў далоні са сціснутымі пальцамі; жменя. *Гэтых арэхаў ні можна есьці многа: тры кулакі, ні больш.* Ратуцічы Барыс.

**КУЛАМЭ́ШКА** *ж. Кулін.* Яечня з разбаўтаных яец, мукі і малака. *Пяклі на комінку яешню, або куламэшку, бо ў печы рана не палілі, а толькі вечарам, і варылі зацірку.* Жартайка Барыс.

**КУЛДЫ́КАЦЦА** *незак. Экспр.* Кульгаць. *С парога сойдзіць ды кулдыкаецца нарошна, каб усе відзялі.* Пудзіцк Пух.

**КУЛЕ́ЙКА** *гл.* кале́йка[1]

**КУЛЁШ** *м.* ∇ **Розум не кулеш, у галаву не ўліеш.** Ганцавічы Барыс.

**КУЛЁК**[1] *м. Уст.* Мужчынская кароткая верхняя адзежына прамога пакрою з белага сукна або паўсукна без падкладкі. *У нас толькі старыя насілі кулькі, у дзеда нашага, помню, быў белы кулёк.* Аздзяцічы Барыс. *У дзеда Міхея быў колісь белы кулёк.* Ухвала Круп.

**КУЛЁК**[2] *м. Памянш.* да куль. *Паве́залі ўвесь лён у кулькі і прыселі атпачыць.* Нарач Віл.

**КУЛЁМ** *прысл.* Хутка, мігам. *Як пачула мая карова хлеп, дык кулём ляціць да мяне.* Вялікая Вуса Уздз.

**КУЛІ́ДЛА** *ж. Кулін.* Рашчына, цеста. *Кулідлу сёньня замясіць трэба, а заўтра падыдзя — хлеп пячы будзім.* Узгурск Чэрв.

**КУЛІ́НА** *ж.* Спакойная затока ў рацэ. *На нашай Бярозе ад адной Чыжахі да Перавозу тры куліны.* Чыжаха Бярэз.

**КУЛІ́ЦЦА** *незак.* Падаць, валіцца. *Каб вы бачылі, як ён куліўся з воза, я думала, яму ўсё там будзе!* Завішына Лаг.

**КУЛЬ** *м.* Вялікі сноп трасты. *Есьлі мокры лён, то сушым, каб ён быў сухі вязаць яго ў кулі. Тады вяжым у кулі ў вялікія такія й на воз — вязём у ток.* Папоўка Мядз.

**КУЛЬБАЧКА** *ж.* Падсядзёлак. *Не, гэную выкіну, мне новую кульбачку зрабілі, на возе вунь ляжыць.* Версанка Круп.

**КУЛЯЖАНКА** *гл.* каляжанка

**КУЛЯШЫЦЦА** *незак.* Рабіцца падобным на кулеш, клейкім. *Як ні зьясі сьвежай зацірку, дак яна куляшыцца.* Ратуцічы Барыс.

**КУМЕТА** *ж.* Камета, хвастатая зорка. *Кумета зваліцца на хату, от дзялоў будзіць — даўней страшылі дзяцей так.*Ваўкалатка Віл.

**КУМОДА** *ж.* Невысокая шафа з некалькімі шуфлядамі для хавання бялізны і розных хатніх рэчаў. *Як раней, то ў кумоду адзежу складвалі, а цяпер усё ў шафы.* Бясяды Лаг.

**КУМУСЯ** *ж.* Кума. *Учора ў нас кумуся была, гуляць прыходзіла.* Вялікая Вуса Уздз.

**КУНАДА** *ж.* Бульба. *Як стаў стары кунаду капаць, дык такая вялікая вырасла!* Жызнава Віл.

**КУНАТЫ** *прым.* Галінасты, раскідзісты. *Такая кунатая [ігрушына] цяперака вун, а ігруш будзіць божа-божа сколькі.* Халмоўка Барыс. *Яблыні ніскія кунатыя.* Дукора Пух.

**КУНДУКТАР** *м.* Работнік, які прадае білеты ў аўтобусе і наглядае за парадкам у ім. *Ці ня гэты арбом на Вішнява пойдзіць? А кундуктар ці ёсь?* Забрэжжа Валож.; *параўн.* польск. konduktor < лац. conductor 'праваднік'.

**КУНЕШНЕ** *прысл.* Абавязкова. *Гэта табе рабіць не кунешне, сама хай зробіць.* Палачаны Маладз.

**КУНПЯК** *м.* *Анат.* Знешні бок верхняй часткі бядра; клуб. *У мяне нешта кунпяк баліць, застудзілася недзе.* Ляхавічы Дзярж.

**КУНШТАВАЦЬ** *незак.* Павучаць, цвічыць. *Баба нашага дзеда ўсё кунштуе і кунштуе. Як толькі ён зь ёю жыве?* Своранава Стаўб.; *параўн.* польск. kunsztować 'укладаць, рабіць што па-майстэрску'.

**КУПАЛНЫ** *прым.* Купальскі. *А купална ночка маленька. Ня выспалася паненка.* Дукора Пух.

**КУПАЛЬНІК** *м.* *Абрад.* Купалле. *У нас на Купальніка яшчэ і зарас кастры паляць і вяночкі плятуць.* Апенькі Віл.

**КУПАНКА** *ж.* Купальня, месца купання (у рэчцы, возеры, сажалцы). *На купанку давай сходзім пакупаямся.* Горкі Стаўб.

**КУПАР, КУХАР** *м.* Куфар. *А тады ўжо гэтыя прыданыя, што прыехалі, гуляюць увечары ля купра, ля шкапа.* Таўкачэвічы Уздз. *Базар велькі быў, чаго толькі там ні прадавалі: і дзешкі, і купры, і кублы, і кадзі.* Буцькавічы Стаўб. *У купар і матка мая і я ўсё адзеньне складалі.* Зав[illegible]цына Лаг. *Што ты ў купар паклала, што зь места ні падняць?* Вецярэвічы Пух. *У нас даўней кухры былі, цяпер павыкідалі і шкапы пастаўлялі.* Пудзіцк Пух.

**КУПЕЛІНА** *ж.* Сажалка. *Гусям у нас добра, ест дзе пасьціць, але часьцей мы іх на купеліну заганяім. Натта яны плаваць там любяць.* Засулле Стаўб.

**КУПЕРТ** *м.* Канверт паштовы. *Купертаў цяпер поўна розных ёсьць, абы грошы, а калі, дык і самі рабілі.* Будслаў Мядз.; *параўн.* польск. koperta 'тс'.

**КУПІЛА** *н.* Купля. *Няхай яно згарыць с такім купілам! У вас што-небудзь купіш: усе страляюць, страляюць, рвуць з рук.* Савоні Стаўб.

**КУПІСТЫ** *прым.* Няроўны, з купінамі. *Некаторае балота роўнае, а некаторыя трапляюцца купістыя.* Вецярэвічы Пух.

**КУПІЦА** *ж.* Трава, што расьце ў балоце на купінах. *Там травы-купіцы многа.* Цялякава Уздз.

**КУПКАВАТЫ** *прым.* Купчасты, з густой кронай. *Ясень такі во купкаваты стаіць на тым боку шляха. Вы ж бачылі!* Пудзіцк Пух.

**КУПЛЕНЫ** *у знач. прым.* Прыезджы. *Тубельцы дружна жывуць, а купленых людзей стараюцца хоць як-небудзь зьняважыць.* Бясяды Лаг.

**КУПЛЁНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* купіць. *Палатно тонкае, як куплёнае.* Ратуцічы Барыс.

**КУПЧАЯ** *ж.* *Уст.* **1.** Купленая. *У бацькі яе было дванаццаць гектараў зямлі свае, а яшчэ купчая.* Саланая Валож. **2.** Акт на пакупку нерухомай маёмасці, на права ўладання ёю. *Раней хто зямлю купляя, купчу афармляя.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КУРА** *ж.* Курыца. *Шафёр ехаў на машыня і вашу куру забіў.* Каменка Уздз.

**КУРАВА** *н.* Пыл, куродым. *У хаце ўжо курава многа, бо я на рабоце, а бабуля ўвесь час сьпіць на ляжанцы.* Кузьмічы Мядз.

**КУРАВАЧКА** *ж.* Курная хата. *Была ў нас такая бапка. Хатка ў яе куравачка была, а сама яна была ведзьма-ведзьма вялікая.* Дрычын Пух.

**КУРАВЫ** *прым.* Курны. *У хаце німа нічога, толькі сьцены гэтыя куравыя.* Вялікая Вуса Уздз. ○ **Куравая хата** — тое, што і к у р а в а ч к а. *Кагда-та ў майго дзяцькі была куравая хата.* Вецярэвічы Пух.

**КУРАДЫМКА** *ж.* **1.** Капцілка, лямпа без шкла. *У вараўні стаялі жорны, гарэла курадымка, а жорны гэтыя былі вельмі вялікія, не пацягнуць.* Старына Дзярж. **2.** Тое, што і д ы м а д ы ш к а. *Гнілячкі кладуць у курадымку і дымяць.* Хожава Маладз.

**КУРАЖЫЦЦА** *незак.* Весці сябе ненатуральна, капрызіць. *Такое дзіцё ў нашай няве-

*сткі дрэннае: дрэнчыцца, куражыцца невядома чаго.* Турэц Чэрв.

**КУРА́К** *м. Кулін.* **1.** Ляпёшка з жытняй мукі. *Каждую нядзелю пяку куракі на квас, рабіць квас.* Калодка Віл. *Куракоў напякла, аж да сёмухі хваціць.* Лыцавічы Віл. **2.** Піражкі з тоўчанай бульбы і мукі. *Даўней многа пасьцілі. Елі постам куракі, грыбы, куцю посную варылі, кісель з аўса, з журавін.* Глебаўшчына Лаг.

**КУРА́ЛЬ** *м.* Лучына. *Бывала, устаніш, ды ні па часах, а па пятухах, ды ні за лямпачкай, а за куралём, у часы чатыры. Трэба ў ступя таўкачом груцы натаўчы, зварыць ды сямейку пакарміць.* Палачаны Маладз.

**КУРА́НКА** *ж. Кулін.* Вяндліна. *К маю трэба куранку зрабіць, а то й сьвята не за сьвята будзе. Як адрэжаш куранкі, дык яна такая чырвоненькая, пахучая, як з магазіна.* Хожава Маладз.

**КУРАНЯ́ТНІЦА** *ж.* Квактуха. *Не хадзі туды, там куранятніца на яйках сядзіць, гуляй тут ля мяне.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КУРАНЯ́ТУХА** *ж.* Тое, што і к у р а н я́ т н і ц а. *Б'еуца куранятуха с курамі, німа дзе яе садзіць.* Савоні Стаўб.

**КУРАПА́ТА** *ж. Заал.* Курапатка. *Я пасьвіла карову, бачу, ідзе курыца с куранятамі. Я ж давай яе лавіць, а яна на елку, а куранята ў мох пазашываліся. Дык мне дома кажуць, што гэта курапата была.* Дзераўная Стаўб. *Курапатаў некалі многа было, сеткамі лавілі.* Вялікая Вуса Уздз.

**КУРАСА́ДНЯ** *ж.,* **КУРАСО́ННЕ** і **КУРО́САННЕ** *н.* Перакладзіна ў куратніку, на якой начуюць куры; седала. *У мяне ў хлявушку цёпла, зяць сёліта уцяпліў: і гусі там, і куры начуюць на курасадні.* Баяры Маладз. *Мае курыцы такія цяшкія былі, я на куросаньне сама іх садзіла.* Бяларучы Лаг. *Акыш на куросаньне! Гэта ш нада, горача ім уверху, дык на зямлю пасядалі.* Ігрушка Круп. *Ня ўсе куры садзяцца на курасоньні, гэтыя 'шчэ малыя.* Ігрушка Круп.

**КУРА́ТНІЦА** *ж.* Жанчына, якая даглядае курэй. *Куратніцам цяпер ляхчэй, бо клапатухі ні выводзяць пылянят, а ўсе інкубатарскія.* Турэц Чэрв.

**КУРА́ЎКА** *ж.* Тое, што і к у р а́ в а ч к а. *Раней жа ў кураўках жылі, комінаў ні было.* Пудзіцк Пух.

**КУРА́Ч** *м.* Тое, што і д ы м а д ы́ ш к а. *Курач стаіць у пчалярні.* Паплавы Бярэз.

**КУ́РАЧКА** *ж. Бат.* **1.** Каўпак кольчаты (Rozites caperata). *Курачкі любяць і на барах расьці, і на маху. Курачкі зьверху сівенькія, а падысподам такія жуўтуватыя, стаімі растуць.* Слабада Бярэз. **2.** Шампіньён лясны (Agaricus silvaticus). *Як вы гаворыцця шампіньёны, то ў нас іх курачкамі завуць.* Пудзіцк Пух.

**КУРАЧО́К** *м. Памянш.* Маленькая баханачка хлеба з аскробкаў цеста. *Сьпякла маленькі курачок на кляновым лісту.* Кузьмічы Мядз.

**КУРА́ЧЫНА** *ж.* Курынае мяса як ежа. *Ёй мяса няможна есьці, толькі курачыну.* Сакаўшчына Валож. *Я ні люблю суп с курачынаю.* Цялякава Уздз.

**КУРДУ́ПЕЛЬ** *м. Зневаж.* Нізкарослы таўсматы хто-н. *У майго брата хлопцы некія курдупелі, не растуць.* Дукора Пух. *Некі курдупель удаўся, ні адна дзяўчына за яго ні йдзе.* Зазерка Пух. *І ён яшчэ недзя пнецца, курдупель гэты!* Дукора Пух.

**КУРЛІ́ГА** *ж. Экспр.* Курыца. *Было чатыры курлігі, ды нядаўна машына адну задушыла, тры засталіся.* Літва Стаўб.

**КУРМА́Ч** *м. Заал.* Баран. *Твой курмач вунь колькі нарабіў мне шкоды: зьмясіў усе грады.* Палачаны Маладз.

**КУРНЁЎКАЦЬ** *незак.* Мяўкаць. *Кошка курнёўчыць. Забяры ад яе кацяняты, яна ўсё ходзіць і курнёўчыць.* Гілікі Валож.

**КУ́РНІК** *м.* Куратнік, хлеўчык для курэй. *Усе куры ў курнік паселі? Зажані яшчэ вунь адну.* Гілікі Валож. *Раней патпечкам куры зімавалі, а цяпер курнік ёсьць, апцепліш кастрыцай, глінай абмажыш — і цёпла зімой.* Ластаянцы Валож.; *параўн.* польск. kurnik 'тс'.

**КУРНІ́ЦА** *ж. Уст.* **1.** Печка без коміна. *Мая баба калісь жыла ізь дзедам у малінькай хацы. Была печка, як у ёўні, называлася курніца. Як затопіш, дым ідзець праз вокны і ў дзьверы.* **2.** Курная хата. *І жылі яны ў тэй курніцы і было ў іх троя дзяцей.* Весялова Круп.

**КУРНЫ́** *прым.* Курны, які абаграваецца печкай без коміна. *А хаты курныя, дым праз дзьверы і вокны ішоў, сталяваньня ўкурыцца, столь блішчыць як лакавая.* Глебаўшчына Лаг. *Хата была курная, дым ішоў увесь на хату, праз дзюрку ў столі выходзіў на двор.* Ілья Віл.

**КУРО́ВАДКА** *ж.* Тое, што і к у р а н я́ т н і ц а. *Купіла куранят у інкубатары, але дома ест куроватка, то яна іх водзіць.* Літва Стаўб.

**КУРО́ДЫМ** *м.* Тое, што і д ы м а д ы́ ш к а. *Узяў куродым, пайду да вулея: первае раеньне, нада паткурыць, кап пчолкі ні ўцяклі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**КУРО́ДЫМІЦЦА** *незак.* Дыміцца. *Нейкія дзьве галавешкі куродымяцца ў печы, заліць трэба.* Бясяды Лаг.

**КУРО́САДНЯ** *ж.* Гняздо, дзе курыца нясецца. *Мушчыны ціханька ўпадуць дзе ў куросадню, крадуць яйкі на папяросы — спорылі за гэта, вадзіліся за гэта. Во як даўней было!* Бакачы Мядз.

**КУРО́САНЬ** *ж.* Тое, што і к у р о́ с а д н я. *Куросань слаба дзяржыцца, вось-вось разва-*

*ліцца, і німа каму пастроіць.* Юшкаўка Віл.

**КУРО́СНЫ** *прым.* Тое, што і к у р а с а́ д н я. *Позна ўжо, куры паселі на куросны.* Чабаі Валож.

**КУРСАВА́ЦЬ** *незак.* Рабіць рэгулярныя паездкі, рэйсы па маршруце. *Гэны поезд ні курсуя там. Ён ні йдзе туды, куды вам трэба.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. kursować 'тс'.

**КУРСА́К** *м. Экспр.* Жывот. *Скора пойдзе зеляніна, тады ўжо дзеці пачнуць сабе курсак набіваць.* Завішына Лаг.

**КУРСА́ТКА** *ж.* Тое, што і к а с м а в е́ ш к а. *На папялішчы ляжалі курсаткі, недагаркі — хата пайшла з дымам.* Палессе Мядз. *На пажарышчы ляжалі адны курсаткі.* Палачаны Маладз.

**КУРСНА́ТКА, КРУСНА́ТКА** *ж.* Тое, што і к а с м а в е́ ш к а. *Хоць бы ш курснатку затушыла, не дадумалася, у хаце дыму поўна.* Палачаны Маладз. *Не закрывай комін, бо ў печы многа крyснатак.* Краснае Маладз.

**КУРСНЯ́** *ж.* Тое, што і к а с м а в е́ ш к а. *У пецы яшчэ шмат курсьнёў, не закрывай, пачакай.* Саланая Валож.

**КУ́РТА** *ж.* **1.** Блузка, кофтачка. *Надзену абманку і пайду, ніхто ні здагадаіцца ў вёсцы, што гэта ня курта.* Якімаўка Круп. *А пасьля пашыіш курту, спадніцу, пачарніш іх і носіш.* Восава Круп. **2.** *перан., зневаж.* Малы, нізкарослы хто. *Чаго ты крычыш, курта пранцаватая! Чаго хочаш?* Цялякава Уздз.

**КУРТА́Ч** *м.* Карантыш (пра парася). *У прошлум году мае парасята былі высокенькія, доўжанькія, але елі хай бох крыя. А ў гэтум году куртачэ некія, але чараваценькія — у япручка чэраўца па зямлі цягнецца, ядуць добра, адно давай.* Савоні Стаўб.

**КУ́РТКА** *ж.* Ватоўка. *Куртка папала пад дош, а чаму было яе ні зьняць?* Вецярэвічы Пух.

**КУРТЫ́НА** *ж.* Занавеска. *Набяры матэрыі гэнай кеяцістай два мэтры дваццаць сантыметраў на куртыны.* Яршэвічы Валож.; *параўн.* польск. kurtyna 'заслона тэатральная'.

**КУРУЛО́Т** *гл.* калаўро́т

**КУРУ́НКІ** *мн.* Карункі. *Бялізна ўся харошая, с курункамі — багатая дзеўчачка.* Рудня Валож. *С-пат пасьцілкі самой простыні ні відаць, зьвісаюць толькі яе курункі, як тыя зупкі.* Бясяды Лаг.

**КУРЦЁНА** *ж.* Адзежына, апранаха. *А летам якую курцёну агадаюць [бацькі], і босыя — так мы бенна жылі, пакуль ні стаў калхос.* Весялова Круп.

**КУРЧА́К** *н.* Кураня. *Вялікія мае курчаты, раньнія.* Палессе Мядз. *Моркаўка ў мяне была, ды курчаты падралі, чатырнаццаць іх у мяне.* Завішына Лаг.

**КУРЧАНЁ** *н.* Тое, што і к у р ч а́ к. *Курчанё ў агарод забілася, ды пішчыць.* Ходасы Мядз.

**КУРЧА́ТНІЦА** *ж.* Тое, што і к у р а н я́ т н і ц а. *Заўчора я ў падпечак курчатніцу пасадзіла на яйкі, можа, што будзе на сьвята.* Жызнава Віл.

**КУРЧА́ЦЬ** *незак.* Крумкаць. *Рапуха ня квакая, а курчыць.* Пруды Стаўб. *Жабы крэпка курчаць, відаць, дошч будзя.* Ляшчынск Мядз. *Увесну жабы голасна курчаць.* Ляхавічы Дзярж.

**КУ́РЧЫНА** *ж. Уст.* Брус, адным канцом убіты ў сцяну каля печы, другім — умацаваны на ўпоры-стойцы. *Ля печы стаяў стоўп, у які быў убіты адзін канец жэрдкі, а другій канец — у сьцяну, і гэта ўсё называлась ку́рчына. На ку́рчыну і на печ ла́жылі палаткі, спалі на іх старыя.* Шавярнічы Бярэз.

**КУ́РЫВА** *н.* Курэнне; папяросы, тытунь. *От збрыдзяў ужэ са сваім курывам, усё пыхціць ды пыхціць.* Падзерычы Стаўб.

**КУРЫ́ЛЬНЯ** *ж.* Вяндлярня, дзе вэндзяць мяса, сала, рыбу. *Вот ужо было сьмеху! Прынесла сусетка да нас у курыльню мяса пакурыць. Пакурылі тое мяса, прышлося забіраць с курыльні, яна набрала, набрала чужой куранкі і пайшла. Ні пазнала свае кускі, кажа.* Хожава Маладз.

**КУРЫ́НАЯ СЛЕПЯТА́.** *Бат.* Тое, што і к а з е́ л ь ч ы к[2]. *Курынай сьлепяты ні можна рваць, бо ні будзяш нічога бачыць, як зьмеркняцца.* Цялякава Уздз. *Курына сьлепята ядавітая.* Нізок Уздз.

**КУРЫ́НЫ ПАМЁТ.** Гной з-пад курэй. *Курыным памётам паткармляюць цыбульку, гурочкі.* Саланая Валож.

**КУРЫ́ЦА** *ж.* Курыца. *А мы папрыіжджалі зь лясочку, толькі што наша асталася дзярэўня: ні каровы, ні курыцы, ні пітуха, ні парасяці.* Ганцавічы Барыс. *Троха апалола, а курыца залезла ў грады і ўсё разграбла.* Бяларучы Лаг.

**КУРЫ́ЦЬ** *незак.* Вэндзіць. *Суседзі кожны гот кураць кумпяк. Неяк і мы рас папробавалі — панаравілася.* Бясяды Лаг.

**КУРЭ́ЛІ** *мн.* Арэлі, гушкалка. *Калісь тут ліцьвякі[літоўцы] курэлі прывозілі і ставілі, дык усе беглі да іх.* Плябанцы Віл.

**КУРЭ́МЗАЦЦА** *незак. Экспр.* Доўга з чым-н. вазіцца. *Давайце, дзеўчакі, я вам пам агу, каб не курэмзаліся многа.* Пудзіцк Пух.

**КУС** *м.* Кусок, звычайна вялікі. *З адной чарачкі мёт, віно пілі, з аднаго куса белы сыр елі.* Калодчына Віл. *А раней, ведама, трэба было йсьці да папа і занесьці што, яек або кус сала.* Багрыцоўшчына Дзярж.

**КУСА́НАК** *м.* Недаедзены кавалачак хлеба. *Як ты ясі, што кусанак хлеба заўсёды астаецца?* Рудня Лаг. *Што ты нарабіў? Стольк

*кусанкаў напакідаў.* Зазерка Пух. *Мне дохтур падраіў такого зельля, што я так есьці пачала, не паверыця, ела кусанкі ад людзёў.* Ігрушка Круп.

**КУСАНІКІ** *мн.* Рэшткі ежы, недаедзеныя кавалкі. *Скажы, дзе гэтыя ўсе кусанікі дзяваць!* Каменка Уздз.

**КУСАШЧЫ** *у знач. прым.* Куслівы. *Дзеці, ня чапайця етага сабакі, ён кусашчы, шчэ пакусая. Ідзіця сюды!* Дукора Пух. *Асеньнія мухі вельма кусашчыя.* Цялякава Уздз.

**КУСМАН** *м.* Кавалак. *За вядро цэменту ладны кусман сала дала.* Ракаў Валож.

**КУСОК** *у знач. прысл.* Крыху, трохі. *Прыляціш с поля, хлебанеш чаго кусок і зноў назад ляціш: палоць жа нада, ад людзей ні агставаць.* Баяры Маладз. *Дай пабыць на сяле кусок.* Бальцары Маладз. *Ну, выпі яшчэ кусок.* Красная Слабодка Смал.

**КУСОЧАК** *у знач. прысл.* Крышку, нядоўга. *Пасядзі, Волечка, кусочак.* Забрэжжа Валож. *Схадзі ў стопку, прынясі кусочак малака.* Там жа.

**КУСЦІК** *м.* Гронка. *Арэхі кусьцікамі ўсё растуць.* Вецярэвічы Пух.

**КУСЭЧАК** *м.* Кавалачак (пра харчовыя прадукты). *Дай кусэчак хлеба.* Забрэжжа Валож.

**КУТ** *м.* ◊ **Кутам сядзець** — займаць кут у чужой хаце. *Ён пайшоў на вайну, я адна зь дзецьмі асталася. Хата згарэла. Жыла ў чужой хаце, кутам сядзела.* Лебедзева Маладз. **З кута ў кут** — сюды і туды. *Наш бацька як прачытаў, што Валянцін жаніўся, дык толькі ходзіць з кута ў кут і курыць, курыць.* Язні Віл.

**КУТАХ** *м.* Тое, што і к у ч к а. *Лён у кутахах стаяў увесь на полі, пакуль дошч ні пашоў, а тады кінуліся ўсе.* Сосны Лаг.

**КУЎХАН** *м.* Тумак. *Куўхана скарэй дала п табе нявестка, чым грошай.* Пудзіцк Пух.

**КУЎШЫК** *м.* Коўш для мукі. *Я етым куўшыкам муку зачэрпваю сьвіням браць.* Пудзіцк Пух.

**КУФАЙКА** *ж.* Фуфайка. *Ні скупіся, Гэля. Хлопяц ён ужэ вялікі, брытка яму ў куфайцы хадзіць, купі яму куртачку.* Падзерычы Стаўб.

**КУХАЛЬ** *м.* Кружка, кубак. *Была ў лесе, сасьмягла, прыйшла дадому, дык цэлы кухаль вады выпіла.* Кукалеўка Чэрв.; *параўн.* польск. kufel 'бакал для піва'.

**КУХАН** *м.* Сухарык, здобнае пячэнне. *Куханоў вазьмі с сабой на дарогу, пакуль заедзіш, зьясі.* Броды Маладз.; *параўн.* ням. Kuchen 'пірог, торт, пячэнне'.

**КУХАР** *гл.* кўпар

**КУХАЧ** *м. Заал.* Удод (Upupae). *Кухач у балоці вядзецца, чулі яго, як круцікі зьбіралі.* Рубяжэвічы Стаўб.

**КУХЕННЫ** *прым.* Кухонны. *Была такая кухенная камода.* Вязынка Маладз.

**КУХЛІЧАК** *м. Памянш.* да кўхаль. *Зьлій са жбанка зьлівачкі ў кухлічык і пастаў у калідоры ў шкафчык.* Акалова Лаг.

**КУХМЭРЫЦЦА** *незак. Экспр.* Наводзіць парадак; корпацца каля печы. *Доўга ты будзіш кухмэрыцца, усе бабы чакаюць цябе.* Куранец Віл.

**КУХТАЛЬ** *м.* Удар кулаком. *Малы быў, дык кухталя давала, а цяпер жа ні нагну.* Смольніца Смал. *Дала кухталя ў плечы — і ні знайся.* Дукора Пух.

**КУХЭРЧЫК** *м. Памянш.* да кўхар. *Кухэрчык маленькі на бялізну, бывала сям'я вялікая, зьмен тры бялізны кожнаму ляжыць у кухэрчыку.* Паплавы Бярэз.

**КУЦАЦЦА** *незак.* Курчыцца, качацца. *Не, любачка, я ўчора ні была нідзе, цэлы дзень жыватом куцалася.* Цялякава Уздз.

**КУЦЦЯ** *ж. Кулін.* Круглыя ячныя крупы. *Некалі куцьцю ў ступе таўклі, с куцьці добрая каша выходзіць.* Турэц Чэрв. ○ **Куцця багатая** *уст., этн.* — урачыстая вячэра напярэдадні Новага года, якая суправаджалася варажбою. *Перад Новым годам куцьця багатая; кабана заколюць, сала напячэш, калбаса сьвежая, костачку ўложыш у куцьцю, рыпкі, аладачак усякіх. А к гэтаму бутылка. Вот загэтым і багатая. Назоўтра пасьля багатай куцьці Новы гот.* Бялаunion Лаг.

**КУЦЬКА** *ж.* Кусочак рафінаду. *Я люблю піць чай с куцькаю, а салоткага ні люблю.* Рудня Чэрв.

**КУЦЮК** *м. Кулін.* Тое, што і к а ў б у х (у 2 знач.). *Маруся, прынясі што закусіць. Там жа на гары куцюк вісіць ніпачынаны.* Хожава Маладз.

**КУЧАР** *м.* Фурман. *А гэты кучар, каторы мяне вёс і вывярнуў, болій пераэкываў яшчэ, як я, думаў, ай, што я нарабіў, хай бы я лепій 'сьцеражней ехаў, нашто ш мне гэткая непрыятнасць.* Залазоўе Віл.

**КУЧКА** *ж.* Часовая ўкладка снапоў лёну для прасушвання. *Вырывалі лён, вязалі, а потым у кучкі ставілі на полі.* Баранцы Віл.

**КУЧКАВАЦЦА** *незак.* Збірацца ў чароды. *Што гэта такоя, што бацяны кучкуюцца, шчэ ж ім рана!* Кабыльчыцы Валож.

**КУЧУМКА** *ж.* Кучомка. *Як шапка лахматая, з аўчын, то кучумка кажуць.* Нізок Уздз.

**КУШЭРКА** *ж.* Акушэрка. *Паехала к кушэрца, мусіць, нешта кепска ёй.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Хіба ж знали некалі хто тую кушэрку? Раджалі, як прыходзілася.* Рабунь Віл.

**КУШЛЯК** *м.* Тое, што і г а м а н е ц. *Палучыла ўчора цэлы кушляк грошай, пайду купляць што.* Зарэчча Лаг.

**КШЧЭННЕ** н. *Царк., уст.* Крашчэнне. *Прыехалі на 'Мур [Амур] на першы дзень кшчэньня. Забылася, як тое сяло звалася, куды мы трапілі.* Восава Круп.

# Л

**ЛАБА́З** *м.* Памяшканне для захавання ільнянога семя. *Як абіваяш лён, дык стараясься, каб аніводная калява ні прапала, бо калява да калява, а лабаз паўнея.* Рудня Валож.

**ЛАБА́ЗІНА** *ж.* Доўгі дубец, хварасціна. *Паднімя якую лабазіну ды б'е каня.* Вязынка Маладз.

**ЛАБА́ТКА** *ж.* Бязрогая карова. *Лабаццы дрэнна ў чарадзе, бо ёй няма чым адбівацца, ведама, няма рагоў.* Дукора Пух.

**ЛАБА́ТЫ** *прым.* Бязрогі. *Кажуць, ад лабатай каровы сыры смашнейшыя.* Паплавы Бярэз.

**ЛАБА́ХА** *ж.* Тое, што і лаба́тка. *Ну, бяз рох такая карова, лабаха. Няўжо ні бачылі ніколі?* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛАБА́ЦІНА** *ж. Экспр.* Вялікі лоб. *Лоб у яго быў дык, як у каня, вялікі. Лабаціна — дый годзі.* Вязынка Маладз.

**ЛАБІДУ́ДА** *м. Пагард.* Абібок, гультай, лодар, лежабок. *— Хто гэна зь імі ў карты гуляе? — А ці мала там лабідудаў! Вялікія, дужыя такія: а рабіць нічога ні хочуць.* Бяларучы Лаг.

**ЛАБО́К** *м.* Стрэшка ўнізе франтона над пярэдняй або задняй сцяной дома. *Лабок — во гэтыя дошчачкі кароцянькія, уніз нахіляны.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛАБУЗЬЁ** *н.* Сцяблы мака з лісцямі. *Лабузьё калі патсохня, яго паляць.* Ляхавічы Дзярж.

**ЛАБУ́К** *м.* Нехлямяжы чалавек. *Дак гэта ні падумай, у адзін мясает сем сватоў было! За гэтага сёмага, за лабука, пайшла.* Пагост Віл.

**ЛАБЭ́ДЗІНА** *ж. Экспр.* Няўклюдная пасудзіна. *Зрабіў некую лабэдзіну пат цьвяты.* Дукора Пух.

**ЛАБЯ́К** *м.* Франтон. *У нас хлеў стары, на лабяку мох парос.* Ляшчынск Мядз.

**ЛА́ВА** *ж.* Вялікі кавалак, шырокі загон. *Сёньня апалола такую вялікую лаву буракоў, што сьпіны ня разагнуць.* Каменка Уздз.

**ЛА́ВАЧНІК** *м.* Работнік гандлёвага прадпрыемства. *Наш лавачнік добры: калі табе трэба, тады і аткрыя лаўку.* Падзерычы Стаўб.

**ЛАВІ́ЦЬ** *незак.* Выбіраць момант. *А я ўсё лаўлю, кап хлопцы ля мяне блізянька сталі.* Дрычын Пух.

**ЛАВУ́ШКА** *м. Пчал.* Тое, што і ва́бік. *Дзьве сям'і з лавушкі выняў.* Вецярэвічы Пух.

**ЛА́ҐА** *ж. Будаўн.* **1.** Падваліна. *Лаґі ў першы вянок зруба ўрубліваюць, на лаґі кладуць моцная берявно, смаловая.* Дукора Пух. *У тую лаґу бі болей цьвікоў, бо яна мацнейшая.* Палачаны Маладз. **2.** Апора, рычаг з жэрдкі, тонкага бервяна для падымання бярвенняў. *Лаґі прыстаўляюць да возу і коцяць па іх бярвенне.* Гілікі Валож.

**ЛАГВО́** *н.* Логава. *Мы ў той лясок ня ходзім, бо там было ваўчыная лагво.* Вецярэвічы Пух.

**ЛАҐІ́ЗА** *ж. Неадабр.* Гультаіна, лодар. *Лаґіза, ідзі граду апалі, а не сядзі без работы!* Ціханава Слабада Стаўб.

**ЛАҐО́ЖЫ, ЛАҐО́ШЫ** *толькі мн.* **1.** Сані-развалкі, розвальні. *На калгасны двор даставілі новыя лаґожы, фураж будуць вазіць на іх, казаў брыгадзір.* Палачаны Маладз. *Летам запрагаім вос, а як выпадзе сьнех, запрагаім лаґожы, бо ў іх лёхка па сьнегу.* Янушкавічы Лаг. **2.** Сані з надбудаванай скрыняй для перавозкі сыпкіх кармоў. *Ехала на санях, лаґошы гэтыя, што сечку вазіць, дак конь пабех, а яна стукнулася і выбіла руку.* Савоні Стаўб.

**ЛАГУ́Н** *м.* **1.** Бочка з двума днамі і квадратнай дзіркай збоку (для налівання або насыпання). *А паглядзіця, які ў нас лагун! У лагун сьцякая смала, што здабываіцца з тлелых карчоў у печы.* Канстанцінава Мядз. **2.** Пляшка. *Возьміш, бывала, лагун малака — і на цэлы дзень на работу ў поле.* Рудня Чэрв.

**ЛАГЧАІ́НА** *ж.* Нізіна, лагчына. *І якраз во тут во, на кладбішчы, за гэтымі во памятнікамі, Сокалаў з атрадам засеў у гэтай во лагчаіне.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛА́ДЗІЦЦА** *незак.* Рыхтавацца да ад'езду. *Пачаставаліся і ладзяцца ад'яжджаць. Стаў сват зьвязваць падушкі, а маладуху матка атвяла к скрыні і стала адразаць рукавы палатна.* Восава Круп.

**ЛАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Трапляць у тон, дагаджаць. *Дзетвара гэта, а сьвякроў дрэнная, ладзіць і ёй патрэбна, як таму чорту лысаму, — блага маёй Ірцы.* Язні Віл.

**ЛА́ДКА** *ж.* Аладка. *Маці як пачула, скарэй ладак напякла, вяччыны жжарыла.* Літва Стаўб.

**ЛА́ДНА** *прысл.* **1.** Нядрэнна, добра. *Некаторыя лягушкі і ладна скачуць. Калі йдзеш за ёй, то адразу ладна скача, потым менш і менш, а затым і зусім паўзе — змарылася.* Саланая Валож. **2.** Многа, шмат. *Гэты рушнік дык у чатыры ніты, а гэты ажно ў восім. Нітак на яго ладна пайшло.* Баяры Маладз.

**ЛА́ДНЫ** *прым.* **1.** Харошы, прыгожы. *Які ж ладны хлопяц у цябе, Матруна!* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Багаты. *О, сягонячы ў цябе ўлоў ладны!* Скамарошкі Стаўб. **3.** Высокі, немалы. *То ў цябе ш, Кацярына, сын ужо ладны вырас.* Скамарошкі Стаўб.

**ЛАДЫ́ҐА** *ж.* Голы чаранок, без пласцінкі. *Нейкія мошкі зьелі ўсё лісьце агурочніка, што засталіся толькі ладыґі.* Кальчуны Ашм.

**ЛАДЫ́ШКА** *ж.* Збанок без ручкі, гладыш.

*Яму што, ладышку малака выпіў і на двор пабех.* Брадок Лаг.

**ЛАЕ́НКА** *н. Экспр.* Сукенка. *Надзела во нейкае лаенка, што і глядзець ня хочацца.* Нядаль Барыс.

**ЛАЖБЕ́Й** *м. Лаянк.* Гультай. *Вот нейкі лажбей, сабак ганяя, а нічым ня зоймяцца.* Каменка Уздз.

**ЛАЖБЕ́НЬ** *м.* Тое, што і лажбе́й. *Вазьміся, лажбень ты, за работу, а то нічога ні заробіш за зіму.* Каменка Уздз.

**ЛАЖЫ́СТЫ** *прым.* Пакаты, пахілы. *Вострая страха, калі высокая, лажыстая — шырокая і ніская.* Варняны Астр.

**ЛАЗБЕ́НЬ** *м. Зневаж.* **1.** Няўклюда, расцяпа. *Доўга я цябе, лазбеня, прасіць буду, каб памог мне?* Раўчак Пух. **2.** Тое, што і лаба́ціна. *Ну й лазбень у іх Адася! Лоб той хоць парасята бі.* Дукора Пух.

**ЛА́ЗНІК** *м.* Чалавек, які апальвае лазню. *Ідзіця мыйціся, сёньня лазьнік лазьню тапіў.* Бясяды Лаг.

**ЛА́ЗНЯ** *ж.* ∇ **Каб у бацькі лазьня згарэла, як я ў бацькі не загавела!** (замуж не выйшла да посту). Рабунь Віл.

**ЛАЗО́ВІКІ** *мн.* Лапці з лазовага лыка. *Дзеўкі былі гарачыя, таўстыя, здаровыя, дык што ж ім тыя лазовікі! На адзін вечар!* Дрычын Пух.

**ЛА́ЗЫ** *толькі мн.* Прыстаўныя драбіны. *Усё так спрытна робіць: прыставіць лазы і палез на дрэва.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ЛАЙНО́** *н.* **1.** Адзежына, рэч з тканіны. *Шануй лайно дома, а яно цябе ў людзях пашануя.* Якімаўка Круп. *Беражыця, дзеткі, лайно, калі-то новая куплю.* Вяршоўка Круп. **2.** *зб.* Бялізна. *Наськідаюць лаён за тыдзінь, цэлы дзень каля начовак стаю.* Якімаўка Круп.

**ЛАКЕ́РКІ, ЛАКІ́РКІ** *толькі мн.* Лакіраваныя туфлі. *От ужэ людзі багатыя сталі! Раней у паноў, і то не ва ўсіх, былі лакеркі, а цяпер пасьці ўсе ходзяць ў іх.* Літва Стаўб. *Пашоў я ў Вілейку, купіў ёй плацьця к свадзьбе і лакіркі.* Баранцы Віл.; *параўн.* польск. lakierki 'тс'.

**ЛАКІ́ЗА** *м.* і *ж. Неадабр.* Неахайны чалавек. *Мой лакіза ўвесь цукеркамі вымазаўся!* Нарач Віл.

**ЛАКІ́РКІ** *гл.* лаке́ркі

**ЛАКШЫ́НЫ** *толькі мн. Кулін.* Страва, прыгатаваная з макароны дамашняга вырабу. *Люблю вельмі лакшыны з малаком.* Сакавічы Лаг.

**ЛАЛЭ́Й** *м. Абразл., груб.* Губашлёп. *Губы ў яго тоўстыя і круглыя, як у сапраўднага лалэя.* Кроква Лаг.

**ЛАМА́К**[1] *м.* Колькасць чаго-н. *Адзьдзеліш ламак і трэш. Два ламаке — гэта ручайка.* Дукора Пух.

**ЛАМА́К**[2] *м. Перан.* Старая малапрыгодная рэч. *Ну, узялі мы нейкія ламакі руж'і былі, што калком забіваць шрот ды порах, ну й пашлі.* Даўгінава Віл.

**ЛАМА́КА** *ж.* **1.** Някасная ці нязручная ў рабоце рэч. *І цяпкі ў мяне няма, а гэта ж ні цяпка, а ламака нейкая.* Зазерка Пух. **2.** Жанчына, якая вядзе першасную апрацоўку лёну. *Як шмат ламакоў сабярэцца, так і агрыгатам робяць.* Хожава Маладз.

**ЛАМА́НКА** *ж. Паляўн.* Курковая стрэльба. *Яна ламанка завецца таму, як пераломіш, упхнеш патрон у ствол, хрась — і зноў складзеш.* Малмыгі Віл.

**ЛАМА́ХА** *ж.* Тое, што і лама́ка (у 2 знач.). *А дзе ж мая ламаха? Толькі што была тут.* Саланая Валож.

**ЛАМА́ЦЬ** *незак.* **1.** Церці (лён, каноплі). *Высахня, тады мяліца зь дзерава зробляна, бяром жменьку лёну і ў гэту мяліцу ломім яго.* Белае Лаг. **2.** Раўняць, прыкатваць. *Поле пад жыта ламаць трэба, каб раўней зямля была.* Ваўкалатка Віл. ◊ **Ламаць галаву** — старацца ўспомніць. *Галава мая слабая. Нясу што, палажу і забудуся, а тады галаву ламаю, шукаю, дзе што і калі палажыла.* Плецівішча Чэрв.

**ЛАМА́ЧКА** *ж.* Тое, што і лама́ка (у 2 знач.). *Тая баба, якая ломя лён, завецца ламачка.* Трыгузі Віл.

**ЛАМІ́ЦЦА** *незак.* Крывіцца. *А ў яе і гупкі ломяцца: „Дамоў хачу!"* Дрычын Пух.

**ЛА́МПАВЫ** *прым.* Лямпавы. *Завод гэты палілі толькі драўмі, вазілі дровы і палілі. Рабілі лампавыя сьцёклы, кружачкі, стаканы, аконная сьцякло.* Партызанскі Віл.

**ЛАМПЕ́КА** *ж.* Кавалак сала. *Давай кладзі астатнюю лампеку на стол.* Папоўка Мядз.; *параўн.* літ. lampė́kas 'сырое дрэва'.

**ЛАМЯНУ́ЦЬ** *зак.* Імгненна кінуцца ў бок, сарвацца з месца. *А я як ламяну з лаўкі! І гэдак ляцела, а ён за мной.* Нізок Уздз.

**ЛАНО́** *н.* **1.** Абярэмак. *Я пасьпела толькі адно лано дроў прынесьці, і ты прыходзіш.* Вецярэвічы Пух. **2.** Калені. *Пасадзі ты дзіця на лано ды пакармі. Есьцека і бульба, і сала, і смажонікі бабуля сь печы дастала.* Вецярэвічы Пух.

**ЛАНТУ́Х** *м.* **1.** Мяшок. *Трэба было б прынесьці яшчэ адзін лантух торфу, але ні пайду, бо па шву лантух распоўсься.* Клетнае Барыс. **2.** Сяннік. *Раней саломай набівалі лантух, лажылі на кравать і гэтак спалі.* Вецярэвічы Пух.

**ЛА́ПА** *ж.* **1.** Зуб (у сахары). *У сахары лапа зламалася, да ў пазычоным.* Пруды Стаўб. **2.** Удар лінейкай (від пакарання ў дарэвалюцыйнай школе). *А ўчыцялі за гэта і па руцэ лапу лупяць і на калені ў куток паставяць.* Задубенне Мядз. ◊ **Пападацца ў лапы** *чые-н.* —

апынуцца ў складаных абставінах, цяжкім становішчы. *У вайну от страху нацярпеліся. Два разы ў лапы ворага пападаліся, але неік уцікалі.* Бяларучы Лаг. О **Ведзьмядзёва лапа** *бат.* — лотаць (Caltha). *Ведзьмядзёва лапа — гэта такая трава ш шырочанькімі бліскучымі лісьцікамі ў зупчыкі.* Рудня Лаг.

**ЛАПА́ТА** *ж. Спец.* Дубовы брус, з якога атрымліваецца адна шпала. *Лапата — дубовая плашка, адна ачэсаная шпала; дубальтак — дзьве шпалы, іх потым разразаюць на дзьве ўздоўж; трояк — тры шпалы выходзіць.* Такарышкі Іўеў. ◊ **Пад лапату** — спосаб пасадкі бульбы ўручную, калі баразна выбіраецца і закрываецца лапатай. *У сатку пасадзіла пару кошыкаў бульбы пад лапату, с канём ня ўлезяш.* Нізок Уздз.

**ЛАПАТА́ЦЬ** *незак.* **1.** Незразумела гаварыць. *Лапатаць — ета калі гаворыш і няправільна выходзіць.* Пудзіцк Пух. **2.** *экспр.* Ісці подбежкам, рухацца вельмі шпарка. *Лапатаў, лапатаў і ледзь на аўтобус паспеў.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ЛАПА́ТКА** *ж. Рыб.* Спецыяльнае прыстасаванне, лінейка вязаць сетку. *На лапатку вяжыцца сетка. Лапатка — лінейка такая. Шырыня лінейкі вызначае вялічыню ячаі сеткі: якая яе шырыня, такія й вочкі ў сеткі. Для разных сетак трэба мець і разныя па шырыні лапаткі: меншая шырыня — для густой сеткі, большая шырыня — для рэткай.* Мікольцы Мядз.

**ЛАПАТЛІ́ВЫ** *прым.* Гаваркі, балбатлівы. *Тут баба лапатлівая жыве, яна вам столькі нагаворыць, што і шшытка ня хопіць.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ЛАПАТУ́ХА** *ж.* Тое, што і ж а́ б а [1]. *Кляпаць ня ўмеў, касу на лапатухі пабіў.* Саланая Валож. *Лепш бы я ні насіла да такога майстра: адны лапатухі. Ці будзе касіць?* Рубяжэвічы Стаўб.

**ЛАПАЦЁНЬ** *м. Неадабр.* Чалавек, які многа гаворыць, але мала робіць. *Супыні ты гэтага лопатня, хай ідзе малых пагляддзіць.* Зазерка Пух.

**ЛА́ПІК** *м.* Латка. *Прыложыш лапік, і дзіркі няма.* Ігрушка Круп.

**ЛА́ПІНА** *ж.* Прагаліна на засеяным. *Цэлая лапіна гароду выгарала ат салетры: бесталкова сыпалі, не разьбіраючыся.* Забрэжжа Валож.

**ЛА́ПІНКА** *ж.* Пустая прагалінка на полі, не пакрытая гноем. *Бацька ўсё крычыць на нас: „Растрасайце добра гной, каб лапінкі нідзе не асталося!“* Бясяды Лаг.

**ЛА́ПІЦЬ** *незак.* Латаць. *Трэба лапіць хлопчыку твайму пальцечка, паглядзі, як падраў.* Рубанікі Мядз.

**ЛАПО́НІК** *м.* Апалонік, вялікая драўляная лыжка. *Ну й псіхаватая нявестка! Як схапіла лапонік, як гакнула па стале, аш у міне сэрца закалаціласа!* Якімаўка Круп.

**ЛАПЦЁНКІ** *мн. Экспр.* Лапці. *Або лапцёнкі нада ш як-нібуць снабжыць, а ня ўмееш жа, дык нада ш папрасіць бацьку.* Бакачы Мядз.

**ЛА́ПЦІ** *мн.* ◊ **Лапці адкінуць** — занядужаць, збегацца, саслабець ад недаядання. *Галіна, садзіся еш! А то будзяш бегаць па цэлум дню ні еўшы, аслабееш, лапці аткіняш і ні заедзяш да мамы.* Валеўка Навагр. **Падплесці лапці** *асудж.* — абгаварыць. *Тым яна і вядома, што кожнаму патпляцець лапці — і старому й маладому.* Заброддзе Віл.

**ЛАПШЫ́ВЫ** *прым.* Зайздросны. *Гэты чалавек такі ўжо лапшывы: усё б ён сабе заграбастаў.* Ініца Стаўб.

**ЛАПЫ́РКА** *ж.* Тое, што і л а п о́ н і к. *Латушка звалілася і пабілася, і лапырка ўпала.* Якімаўка Круп.

**ЛАСЁВІКІ** *толькі мн.* Тое, што і л а к е́ р - к і. *Надзела ласёвікі і далася недзе на ўсяночную.* Будслаў Мядз.

**ЛАСКАТА́ЦЬ** *незак.* Гаварыць хутка, гучна. *Здалёк чуваць, што на ферме Ядзя ласкоча.* Старое Сяло Мін.

**ЛАСКУ́ЦЦЕ** *н.* Непатрэбныя рэчы. *Трэба было б усё ласкуцце на двары пазьбіраць, што дзеці накідалі.* Зазерка Пух.

**ЛА́СТАЎКА** *ж.* Клін, устаўка. *Як устаўка ў штанах, то гэта ластаўка будзя.* Малмыгі Віл.

**ЛАТА́НІК** *м.* Латаны, мае латкі. *Танцы. А жалка ж лапцей, параззуваюцца да босыя, бо лапці няновыя, латанікі, вушкі слабыя, а дзеўкі былі гарачыя, таўстыя, здаровыя.* Дрычын Пух.

**ЛА́ТКА[1]** *ж.* Невялікі кавалак зямлі. *Вайна толькі скончылася, латкі каля дому трэба было араць, а каня німа, дык мужык запрохся сам, а баба плугам кіравала.* Баяры Маладз.

**ЛА́ТКА[2]** *ж. Ганч.* Невялікая гліняная місачка з загнутымі ўнутр краямі. *Накапаю гліны, тады пайду жарсьцяных каменьняў набяру і тады гэтага каменьня натаўку і на рэшата насею, з глінаю зьмішаю і рабіла латкі, збанкі. Дам каму латку, добра мне дадуць за латку.* Бакачы Мядз.

**ЛА́ТНІК** *м.* Тонкі сасновы лес, прыгодны для латаў на страху. *Трэ латніку прывесьці і перакрыць да восяні ўсю страху.* Ракаў Валож.

**ЛАТРУ́ГА** *м. Лаянк.* Лодар, гультай; п'яніца. *Набраўся, латруга, сунецца ўжо гадасьць гэта!* Ціханава Слабада Стаўб.; *параўн.* польск. łotr 'тс'.

**ЛАТУХЕ́Я** *ж.* Драная бульба. *А латухею хто зьдзёр? Нікаму дзела да етага нет.* Рудня Чэрв.

**ЛАТУ́ШКА** *ж.* **1.** Тое, што і л а́ т к а [2]. *Поўну латушку наліла сыроваткі, не пашкадавала.* Янушкавічы Лаг. *Даўней такіх місак ня было, а былі анны латушкі з гліны.* Рудня

Чэрв. *У мяне яшчэ латушка захавалася анна. А дзьее дык курыца пабіла, заляцеўшы ў хату, пабіла курыца дзьве латушкі!* Якімаўка Круп. 2. Цёрла. *Знайшла латушку? Яна на коміне. А мак дзе?* Мядзел Мядз. 3. Гусятніца. *Падай мне латушку, там яна ў сенцах на лаўцы стаіць, січас будзім курыцу смажыць.* Баяры Віл. 4. Драўляная лыжка. *У нас шчэ дзеравянныя латушкі ест, імі есці лепш: не горача.* Рудня Чэрв.

**ЛАТУШНІК** *м. Кулін.* 1. Амлет з яец, малака і пшанічнай мукі. *Чыгунок латушніку на абет паставіла, і, што вы думаеця, усё зьелі!* Рудня Чэрв. 2. Бабка з дранай бульбы. *Латушнік на полудзень смашна, у печы ён добра ўпрэя.* Пудзіцк Пух. *Латушнік ядзём с саладухай, а дзеці ядуць з малаком.* Калодкі Віл.

**ЛАТЫ**[1] *толькі мн.* Плот, паркан. *У вас там на захадзі хаты латамі абгароджеваюць. У нас, самы бачыця, свабодна стаяць будынкі, латаў ня трэба, хай трава расьце. Птаства ў хляве сядзіць, тут ня ходзе, таму й латы ня трэба.* Баяры Маладз.

**ЛАТЫ**[2] *толькі мн. Неадабр.* Верхняе адзенне. *Латаў гэных па хаці панакідалі і сесьці німа дзе.* Баяры Маладз.

**ЛАТЫРЫ** *толькі мн.* Груз (звычайна камень), які прымацоўваецца да сеткі для лепшага пагружэння яе ў ваду. *Кап сетка йшла на дно, прыеязалі латыры. Латыры абматавалі лазой і прывязавалі да сеткі.* Нарач Віл.

**ЛАЎКА**[1] *ж.* Невялікая гандлёвая ўстанова. *Лаўка ў нас маленькая, ды і нічога ў ёй няма.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛАЎКА**[2] *ж.* Адно звяно плыта. *Ш шасьці ці пятнаццаці лавак вязаліся плыты.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛАХАНДА** *ж. Асудж.* Лапатуха. *Лаханда гэта Ганька, меле языкам біспірастанна.* Язні Віл.

**ЛАХАНКА** *ж.* Вялікая, выдаўбаная з дзерава, міска. *Бывала, паставіць мама міску вялікую, як лаханка, такую на стол, а дзеці стараюцца, каб дзе гусьцей крупы аджаць.* Засулле Стаўб.

**ЛАХАНЯ** *ж.* Вялікая нізкая металічная пасудзіна, круглая ці прадаўгаватая, з вушкамі, у якой звычайна мыюць бялізну; ванначка. *Грыбы прынясём зь лесу, ачышчаім ат сьмецьця, кладом у лаханю, памылі вадой. Пасьля прамываньня кладом у чыстую лаханю, наліваім чыстай вадой, сыпім соль, прыправу ўсякую і ставім іх варыць.* Суднікі Віл.

**ЛАХВА** *у знач. вык.* Зручны, спрыяльны момант. *О, яму цяпер лахва пабагацець.* Чабаі Валож.

**ЛАХМАНІК** *м. Памянш.-ласк.* Блузка, кофта. *Адзін лахманік адзела, дык холадна, трэбаісьці цяплей адзецца.* Каменка Уздз.

**ЛАХМАНЫ** *мн.; адз.* **лахман** *м.* Асабістыя рэчы. *Забірала п ты свае лахманы ды йшла спаць, а то сядзі тут с табою цэлую ноч.* Канстанцінава Мядз.

**ЛАЦНО** *прысл.* Добра, лёгка. *Лацно табе сьміяцца зь мяне? Ляціш у сваіх макраступах, а я ў туфлях такіх, і хочыш, каб я ад яе ні атстала.* Канстанцінава Мядз.

**ЛАЦВЕЙ** *прысл.* Лягчэй, выгадней. *Лацьвей нам, бабам, гэтыя буракі палоць, як ім. Ім жа яшчэ нада і галовы пакруціць, пакуль выўчацца [пра студэнтаў].* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. łatwo 'лёгка'.

**ЛАЦУБІК** *м.* Невялікі блінчык з мукі. *Лацубікі дзеці мае любяць, і зяць таксама, а я лацубікаў напякла і ашчэ ў масла памачала.* Пудзіцк Пух.

**ЛАЧУЖКА** *ж. Памянш., экспр.* Хацінка. *Лачушка ў жаніха была благая, палатаная доскамі, хлеў быў плецены з дупцоў. Паглядзела, што там дзяцей поўная лачушка, тады мая сястра заплаціла за вотку і вярнулася дамоў.* Баранцы Віл.; *параўн.* рус. лачужка 'тс'.

**ЛАШАНКА** *ж. Бат.* Падзялёнка (Tricholoma postentosum). *На радоўкі пахожыя лашанкі, тожы падыСподам белыя, зьверху чарнаватыя, ажно чорныя.* Нядаль Барыс.

**ЛАШЧАЧКА** *ж.* Непакрытая цялушка. *У нас у дзярэўні лашчачкі пэўна нівоннай няма.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛЕБЯДЗІЦЬ** *незак.* Ліслівіць. *А ў вочы, дык лебядзіць, а за вочы, дык брэша.* Узгурск Чэрв.

**ЛЕВАРУКІ** *прым.* Які валодае левай рукой лепш, чым правай. *Сам ён леварукі, усё робіць левай рукой, а піша правай.* Грабёнка Чэрв.

**ЛЕГА** *ж.* Сцёс унізе бервяна для таго, каб яно добра ляжала. *Калі лега добрая, дак і бервяно добра ляжаць будзе.* Малмыгі Віл.

**ЛЕГКАВІК** *м.* Легкавы аўтамабіль любой маркі. *У суседняй вёсца чалавек выграў ляхкавіка.* Нізок Уздз. *Наш пратсядацяль егдзіць на ляхкавіку.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЕГКАВУШКА** *ж.* Тое, што і легкавік. *Людзі заможно сталі жыць, лехкавушкі многія купляюць.* Скамарошкі Стаўб. *Пат кантору паткаціла лехкавушка: нейкая начальства прыехала.* Пудзіцк Пух.

**ЛЕГЧЫ, ЛЕГЧЫЙ, ЛЕГЧЭЙ** *прысл.* Лягчэй. *Такія анталяжы сама лехчы вязаць.* Саланая Валож. *Дзеці падрасьлі. Старэйшы сын пашоў да бацькі ў кузьню рабіць. Стала легчый жыць.* Партызанскі Віл. *Тут ей ужэ к вечару і лехчэй стала.* Рубанікі Мядз.

**ЛЕДЗЬ** *прысл.* ◊ **Ледзь-няледзь** — насілу, з вялікімі цяжкасцямі; ледзьве. *„Вой, — кажа, — нідобра, вой нідобра, імчы ты мне якой вады". А сама зрабілася белая-белая, што гэты сьнех. І лець-няледзь, але ледзь-няледзь завялі яе дамоў.* Сівіца Валож.

**ЛЕ́ЖМА** *прысл.* ◊ **Лежма ляжаць** *неадабр.* — зусім нічога не рабіць, бяздзейнічаць. *Цэлы дзень лежма ляжыць, пальцам аб паліц ня стукніць, але ні скажы, бо благая будзіш.* Заброддзе Віл.

**ЛЕ́ЖНЯ** *ж.* Тэрмін, патрэбны на вылежванне. *Калі пагода мокрая, лён вылежываўся раней, а калі грунт высокі і пагода сухая, яму трэба лежні болі. Каб вызначыць, ці харош лён, бяруць пробу. Калі блеску многа і кастра адстала, значыць, лежні досіць.* Даўгінава Віл.

**ЛЕ́ЖЫШЧА** *н. С.-г.* Сцелішча. *Лён падымалі з лежышча, ставілі ў лазьнях на палкі для пасушкі.* Даўгінава Віл.

**ЛЕ́І** *мн.; адз.* **ле́я** *ж.* Нашыўкі з моцнай тканіны на галіфэ ў тых месцах, якія хутка праціраюцца. *Сінія мае галіфэ ўжо працёрліся на каленях, нада табе будзіць, паненка, леі нашыць.* Канстанцінава Мядз.

**ЛЕКАТА́ЦЬ** *незак.* Дрыжаць, калаціцца (ад холаду). *Не лекачы, ідзі апраніся, станя цяплей і ты супакоісься.* Межава Чэрв.

**ЛЕ́КІ** *толькі мн.* Лякарства. *Бабуля ж ня можа вязьці мяне да доктара, каб доктар палячыў: лекі дорага стоілі, а плаціць ня было чым.* Забар'е Віл.

**ЛЕ́ПЕЙ, ЛЕ́ПІ** *прысл.* **1.** Лепш. *Лепей ні чуць, ні бачыць, ні ўспамінаць, што рабілася ў вайну ў нас.* Бяларучы Лаг. *Седзячы на зэдліку, карову лепі даіць, бо ногі мае ўжо старыя, сьпіна хворая.* Рубанікі Мядз. **2.** Больш. *Была я ў сына месяц ці лепяй, трохі дапамагла ім.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЕ́ПШЫЦЬ** *незак.* Папраўляцца пасля хваробы, выздараўліваць. *Усе ў хаці хварэлі цыфам. Я іх даглядала. Каторыя сталі лепшыць.* Ігрушка Круп.

**ЛЕС** *м.* ◊ **З лесам гамоніць** — высокі, выгоністы. *Гэтакі харошы картаплянік цяпер. Зь лесам гамоніць! Невядома, ці картоплі харошыя будуць.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Паверх лесу** — ніякай увагі; не слухаць, перашкаджаць. *Помню, мы настаўніка ані ні слухалі. Цяпер як успомню, мяне совясьць мучыць, якія мы варвары былі. Прынясе разнавашкі досьляды рабіць, хоча паказаць нам тыя досляды, а мы — паверх лесу!* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛЕСАВЫ́** *прым.* Лясны. *Між лесу ездзяць па дарозе, дык тая лесавая. Колькі я ўжо па той лясавой дарозе атхадзіла!* Вязынка Маладз. ○ **Лесавыя ігрушы** — дзічкі. *Растуць і ў нас лесавыя ігрушы.* Вецярэвічы Пух.

**ЛЕ́СКА** *ж.* Тое, што і л а́ з ы. *Вазьмі ў Рыгора леску ды злась на гару за яблыкамі.* Каменка Уздз.

**ЛЕ́СКІ** *мн.* Тое, што і л а́ з ы. *Будавалі хату, яна мох на чардак насіла. Відаць, лескі пасунуліся ці што, яна ўпала. Чатыры месяцы адгурувала.* Ігрушка Круп. *Чаму з агарода лескі не прынесла? Мне ж на гару сена занесьці нада.* Луцішча Круп.

**ЛЕ́ТАВАЦЬ** *незак.* Жыць, заставацца на лета. *Мая ўнучка летавала ў мяне, дадому паехала.* Пуцзіцк Пух.

**ЛЕ́ТНІК**[1] *м.* Лёгкі летні пінжак або жакетка. *Бацька купіў сабе прыгожы летнік да новай кашулі і шкадуе на кожны дзень [насіць].* Вараксы Стаўб. *Бывала, мы летнік адзяём, як ідом на кірмаш, а тады зноў зьнімаім.* Рудня Чэрв.

**ЛЕ́ТНІК**[2] *м.* Дарога, якой карыстаюцца толькі летам. *Ты пыталася, дзе мае дзеці падзеліся. А яны вунь па летніку ў лес пайшлі.* Рудня Чэрв.

**ЛЕ́ТНЫ** *прым.* Чуць цёплы, крыху падагрэты. *Куды ўхапіла? Летная вада зусім, рана здымаць.* Худаўцы Круп.

**ЛЕ́ХА** і **ЛЯХА́** *ж.* Града. *Вунь гуркі на той лясе растуць, бачыце?* Ваўкалатка Віл. *Бабуся наша старэнькая, а так ужо лехі ў гародзе разьбівае, што як пасадзіш чаго ды заціьвіце — сьвеціцца.* Нізок Уздз. *Як агарод ні зачыні, усё роўна куры ўлезуць, усе лехі павыкопвалі.* Літва Стаўб.

**ЛЕ́ХАЎКА** *ж. Зневаж.* Крыклівая жанчына. *От ужэ лехаўка завялася, аж рэха ідзе па лесяі!* Раўчак Пух.

**ЛЕ́ШКА** *ж. Памянш.* Тое, што і л е́ х а. *У нас гавораць: пасадзіў не гратку, а лешку капусты.* Ляхавічы Дзярж.

**ЛЕ́Я** *ж. Абразл.* Таўстуля. *Тая лея ізноў мае гуркі патаптала.* Каменка Уздз.

**ЛЕ́ЯЦЬ** *незак.* Ліць. *Цёплую ваду леяш у дзяжу, сыплеш муку і замешваеш.* Зазерка Пух. ◊ **Леяць лубам** — аб праліўным дажджы. *Дождж леяў лубам і ўдзень і ўноч.* Дрычын Пух.

**ЛЁГКІ** *прым.* ◊ **Лёгак на нагу** — пра таго, хто з'яўляецца ў момант, калі пра яго гавораць. *А вунь і мой дзед, лёгак на нагу: толькі ўспомнілі, а ён ужо тут.* Баяры Маладз.

**ЛЁДЫ** *толькі мн.* Марожанае. *Дзеці, як у Стоўпцы паедуць, дак заўсёды лёды купляюць.* Вараксы Стаўб.; *параўн.* польск. lody 'тс'.

**ЛЁЖКІ** *прым.* Што доўга можа ляжаць, захоўвацца. *Яблыкі нашы лёжкія, такі сорт, да вясны могуць ляжаць.* Дукора Пух.

**ЛЁКАР** *м.* Доктар. *Ратунку не было. Лёкар прыехаў, уколы шпіляў, шпіляў, але не памагло.* Баяры Віл.

**ЛЁКСІК** *м. Неадабр.* Неахайны мужчына. *Убяры сарочку ў штаны, бо ходзіш лёксікам.* Вялікія Лагі Бярэз.

**ЛЁЛЯ** *ж. Дзіц.* Рубашачка, распашонка. *Сёньня малому красьнянькую лёлю надзенам.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛЁПАЛКА** *ж.* Прылада знішчаць мух. *Столькі мух разьвялося, што ні лёпалка не памагая, ні што другоя.* Каменка Уздз.

**ЛЁТАМ** *прысл.* Бягом. *Вечна ўсё лётам ды лётам, няма калі пасядзець ні мінуты.* Бясяды Лаг.

**ЛЁТАЧКА** *ж. Памянш., пчал.* Ляток (у вулеі). *Стары добра даглядаў пчолак. На зіму абложа пчол картаплянікам, сенам, пакіне аткрытай лётачку, каб дыхаць ім можна было.* Бясяды Лаг.

**ЛЁТВА** *ж.* Ляток (у вулеі). *Штосьці пчолы праз верхнюю лётву не вылазяць.* Ляхавічы Дзярж.

**ЛЁТКА** *ж.* Тое, што і л ё т в а. *Вось гэта завуць лётка, пчолкі сюдой вылазяць.* Саланая Валож. *Верхняя лётка меншая за ніжнюю.* Ваўкалатка Віл.

**ЛЁТНІК** *м.* Лётчык. *Можна аўтобусам ехаць, а можна білет на самалёт узяць, лётнік замчыць у Мінск.* Хожава Маладз.; *параўн.* польск. lotnik 'тс'.

**ЛЁХА** *ж.* Адтуліна ў падмуроўцы. *Лёхі на зіму затыкаюць, кап пол не настываў.* Брадок Лаг.; *параўн.* польск. loch, ням. Loch 'падземны ход'.

**ЛІБІДЗІЦЬ** *незак.* Лавіць. *У нас ракаў многа, і толькі чуеш: „Пайду ракі лібідзіць".* Рудня Чэрв.

**ЛІБІЗАВА́ЦЬ** *незак.* Чытаць па складах. *Ён толькі лібізаваць вучыцца, калі яшчэ тое будзе.* Каляды Віл.

**ЛІВА́Р** *м.* Лейка. *Вазьмі лівар, вунь за табой стаіць, ды ідзі грады палі.* Ляшчынск Мядз.; *параўн.* польск. lewar, liwar 'трубка для пералівання вадкасці з пасудзіны'.

**ЛІДА́ІК** *м.* Моташнасць. *Гэта ні трэба так многа калыхацца... Прышоў ды й гаворыць: „Мама, мне вельмі нядобра: лідаік верне".* Рудня Чэрв. *Цэлы дзень лідаік мучыў.* Паплавы Бярэз.

**ЛІДРО́ЎКА** *ж.* Рыдлёўка. *Прынясі, дачушка, лідроўку з агароду, хай не валяецца там.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛІЗІКІ** *мн. Экспр.* Прысмакі, ласункі. *Лізікамі ня будзіш сыты, зьеш хлеба с скваркаю.* Рубанікі Мядз. *Мая большая толькі на лізіках і жыве.* Заямнае Стаўб.

**ЛІН** *м. Заал.* Лінь (Tinca tinca). *Ліны ў глінiстых, граскіх містах жывуць.* Бытча Барыс.

**ЛІПАВАЧКА** *ж. Памянш.-ласк.* Невялікая каробка з ліпавага луцця для бытавых мэт. *За памол ґарніц плацілі, гэта, як цяпер, два кіло. Ліпавачка такая была на два ґарцы, і тую ліпавачку насыпалі мукі.* Ігрушка Круп.

**ЛІПАЎКА** *ж.* Невялікая бочка, выдзеўбаная з кругляка ліпы. *Цяпер ліпаўкі ніхто ні робя, у каго і ё ліпаўка, дык даўнішняя.* Аздзяцічы Барыс. *Цэлую ліпаўку скарміла мукі, а ліпаўка ў нас вялікая.* Бытча Барыс.

**ЛІПЕНЬ** *м. Заал.* Харыус (Thymallus). *Ліпеня можна злавіць толькі на самых быстрых мястах. У ліпеня ёсь ацьценачкі нейкія галубаватыя, яна ўся нейкая галубаватая.* Саланая Валож.

**ЛІПЕЦ** *м.* Ліпень. *У ліпцы дзевяцьсот першага года я і нарадзілася тут, у Зуях, яны кіламетры тры ад Рубяжэвіч.* Зуі Стаўб.

**ЛІПЕ́ЦЬ** *незак.* Ледзь-ледзь трымацца. *Ґузік чуць ліпіць.* Астравок Уздз.

**ЛІПКІ** *прым.* Прыхільны. *Яны абедзьве няліпкія да хлопцаў, то і жывуць адны.* Дукора Пух.

**ЛІПНЁГ** *м.* Сушанае лісце ліпы. *Гэтага вы ня ведаіця, а мы і ліпнёх тожа елі з гора.* Бясяды Лаг.

**ЛІПНІК** *м. Зб.* Маладыя ліпавыя дрэўцы. *Хадзілі на балота, вобаратнік зьбіралі, ліпнік ірвалі, дралі яго, таўклі, сеілі, праснакі пяклі. От угаравалі ў вайну!* Ганцавічы Барыс.

**ЛІПНЯК** *м.* Нясмачны, сыраваты, ліпкі хлеб. *Хлеп ні ўдаўся, ліпняк палучыўся, — цеста ні выхадзілася.* Кроква Лаг.

**ЛІПО́ВАЧКА** *ж.* Місачка, выдзеўбаная з ліпы. *Адзін дзяцька прадаваў пасуду і ліповачкі ладняенькія, латушкі, цёрліцы.* Буцькавічы Стаўб.

**ЛІСА́ВЫ** *прым.* Ласкавы, пяшчотны. *Ён такі лісавы, усягды пагаворыць с чалавекам, пасьмяецца.* Цярэшкі Барыс.

**ЛІСА́ЙЛІВЫ** *прым.* Тое, што і л і с а́ в ы. *От ужо ў мяне адна ўнучка лісайлівая, у каго яна ўдалася?* Зазерка Пух.

**ЛІСІ́ЦА**[1] *ж. Будаўн.* Прыстасаванне для выпрамлення скрыўленай сцяны. *Выпучылася сьцяна, на лісіцу трэба браць, нічога інакш тут не паможа. Лісіца бярэцца, калі сьцяна выпучваецца.* Савоні Стаўб.

**ЛІСІ́ЦА**[2] *ж. Ткац.* Калодачка з дзірачкамі, праз якую прадзяваюць шнуркі ад панажоў. *Мой стары мне новую лісіцу зрабіў, бо старая зламалася.* Гілікі Валож.

**ЛІСІ́ЦА**[3] *ж. Бат.* Лісічка (Cantharellus cibarius). *У нас гэты грыб называюць лісіцай, жоўценькі такі, а калі грыб малады, то лісічкай.* Хожава Маладз.

**ЛІСТ** *м.* Рабак. *Лісты ета ў дзяцей бываюць. Іх яшчэ рабакі завуць.* Вецярэвічы Пух.

**ЛІСТАНО́ШКА** *ж.* Паштальён. *Лістаношка газэты нясе, пачакаю яе і забяру.* Забрэжжа Валож.

**ЛІСЦІНА́** *ж.* Ліст. *Капуснай лісьцінай масла прыкрыла, дольш будзе халоднае.* Ляшчынск Мядз.

**ЛІСЯ́НКА** *ж.* Тое, што і л і с і́ ц а[3]. *У лесе скора ўжо і лісянкі паявяцца, пагода спрыяе.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ЛІТРА** *ж.* Літр. *За літру малака два кілаграмы сена даюць.* Пудзіцк Пух.

**ЛІФІК** *м.* Ліфчык. *Ліфік надзівалі на сарочку. Даўней усе дзеўкі ды і бабы насілі такія ліфікі, а цяпер можа толькі старыя носюць.* Аздзяцічы Барыс.

**ЛІХА́РДЗІКІ** *мн. Кулін., экспр.* Смажонікі. *Толькі і ведае ліхардзікі, няма, што п стравы наесьціся.* Ратуцічы Барыс.

**ЛІХВЯ́Р** *м. Асудж.* Буян, забіяка, задзіра. *Ну і ліхвяр! Як толькі ў клуп, дык абізацільна нада ў драку ўперыцца.* Турын Пух.

**ЛІХТУ́ГА** *ж.* Абмяленне, перасыханне вадаёма. *Ліхтуга бывае засушлівым летам. Плыты ганяюць, а тут ліхтуга, тады бяда.* Стары Свержан Стаўб.

**ЛІЦВІ́НЫ** *мн.* Два брускі, якімі ўмацоўваюцца галоўкі саней. *Ліцьвіны ўпускаюцца ў полаз ля пярэдняга капыла і прыбіваюцца да верхняга канца галоўкі, бо галоўка ж гнутая, то каб мацней яна была.* Дукора Пух.

**ЛІЦО́** *н.* Правы бок тканіны, адзення. *Засьцялі пасьцілку на ліцо.* Ігрушка Круп.

**ЛІЦЬ** *незак.* ◊ **Лье як з вядра [як з луба]** — праліўны дождж. *Што с пагодай сталася, лье як зь вядра. Кап хоць сівер быў, можа п разагнаў троха.* Літва Стаўб. *Во ліе, як з луба ўсё роўна, ня высунуцца на вуліцу.* Літва Стаўб.

**ЛІЧЫ́ЦЦА** *незак.* Знаходзіцца, быць на вучобе. *Сын ужо два гады ў інстытуце лічыцца.* Дрычын Пух.

**ЛІШНІ́ЦА** *ж.* Лішак, лішняе. *У мяне німа чаго даваць, лішніцы німа.* Дукора Пух.

**ЛІШТВА́** *ж.* **1.** Тое, што і ґ а р н і́ з. *Ліштву можна зрабіць угары, можна зрабіць і ўнізе, як клеіш шпалерамі.* Пруды Стаўб. **2.** Падкладка. *Глядзі, у цябе ліштва ў сачыку адарвалася, прышыць трэба.* Слабада Віл.; *параўн.* польск. lisztwa 'тс'.

**ЛОБ** *м.* ◊ **Хоць у лоб стрэль** *неадабр.* — упарты вельмі. *Ну і ўпарты, хоць ты яму ў лоп стрэль, а ён сваё права правіць.* Забалоцце Смал.

**ЛО́ГВА** *ж.* Бярлога. *Учора ў лесе мы на старое логва дзікоў набрылі.* Клетнае Барыс.

**ЛО́ГВІНА** *ж.* Логавішча. *Хадзіла ў ягады, нарвалася на дзікіх сьвінёў у Шыманскім лесі. Толькі вухкаюць. Логвіны паవыкладаныя, сем'ямі дзержацца.* Бяларучы Лаг.

**ЛО́ЖА** *ж. Уст.* Ложак. *Я ні даю сваю ложу закрываць капай, ні люблю. Колісь у модзе было лажыць на ложу падушак цэлую гару, наверх — ясікі.* Фалевічы Мядз.

**ЛО́ЖКА** *н.* Тое, што і л о́ ж а. *Даўней нікеляво лошко — роскаш, усё дзеравянныя былі, ды ні такія, як цяперачы, а самаробныя.* Горкі Стаўб. *Хатка маленька была, яно ў мяне адразу ў дзьвярах стаяло. Калі ня йду, дак аб лошко зачаплюся.* Жацерава Стаўб.

**ЛО́ЖКА** *ж. Пчал.* Прылада аграбаць рой. *Нясі лошку, будзям рой аграбаць.* Вецярэвічы Пух.

**ЛО́ЖНІК** *м.* Несправядлівы чалавек. *Ён ложнік, мой брат дваюрадны. Трусэ ў яго ест харошай пароды, а я папрасіла, мне пазычыў труса простага заводу, а кажа, што харошай пароды.* Савоні Стаўб.

**ЛО́ЖЫСТЫ** *прым.* Спадзісты. *Я люблю больш стромкую страху, чым ложыстую.* Саланая Валож.

**ЛО́КША** *ж.* Локшына, лапша. *У краму локшы прывязьлі, бабы яе маментам расхваталі.* Забалоцце Смал.

**ЛОМ** *м. Экспр.* Трухлявая будыніна. *Хоць бы гэны лом стаёў яшчэ, а то валіцца.* Баяры Віл.

**ЛО́НАЧКА** *ж. Памянш.* Радок. *Пасадзіла лоначак колькі морквы, праваць трэба, а то тонінька будзя расьці.* Савоні Стаўб.

**ЛО́НКА** *ж.* Ямка, паглыбленне. *Я агуркі ў лонкі саджаю.* Ляхавічы Дзярж.

**ЛО́НСКІ** *прым.* Мінулагодні. *Патрэбны ён табе, як лонскі сьнех, але ш чаго трымаеш?* Слабодка Стаўб.; *параўн.* польск. łoński 'тс'.

**ЛО́ПАН** *м.* Управа. *Лопану на яго ніякага няма, вот уеўся!* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛО́ПАТ** *м.* Шум. *Ото надаелі гэтыя гусі: такі лопат паднімаюць, што хоць вушы заткні.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛО́ПАТНІ** *мн.* Тое, што і ж а́ б а [1]. *Нідобра касу наклялаў, ці ж рук няма? Адны лопатні на касе.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛО́ПАЎКА** *ж.* Тое, што і ж а́ б а [1]. *Як няўдала адбіў, кажуць: нагнаў лопавак.* Бытча Барыс.

**ЛО́ПАЦЕНЬ** *м. Спец.* Вялікі свярдзёлак, якім выкручваюць дзіркі. *Лопатням выкручваюць дзірку ў калоццы, каб надзець на вось.* Цялякава Уздз.

**ЛО́ПАЦЦА** *незак. Неадабр.* Гаварыць крыкліва, даводзячы сваю праўату. *Ну чаго ты лопаесься? Купіла нейкае радбоддзе, дык і маўчы!* Галькі Круп.

**ЛО́ПАЦЬ** *незак.* Стукаць. *Ну чаго ты лопаеш і лопаеш? І так галава баліць, сьціхні, кажу.* Баяры Віл.

**ЛО́ПНУЦЬ** *зак.* Адлегчы, паменшаць (пра мароз). *Мне трэбо было закалоць парсюка месяц назат, дак я ўсё цягнула. Але больш цягнуць ні буду. Як марос лопне, адразу закалю.* Савоні Стаўб.

**ЛО́ЎЧЫ** *у знач. наз.* Старшы ляснік. *Лоўчы заўсёды паціху так на кані лес аб'яжджае.* Халмоўка Барыс.

**ЛО́ХНУЦЬ** *незак.* Прагнуць, моцна жадаць. *Таню ні пускаюць гуляць да дзяцей, матка хоча, каб дзіця на ачах было. А яна аж лохня да дзяцей, крычыць да дзяцей!* Савоні Стаўб.

**ЛУ́БКА** *ж.* **1.** Кораб на зерне, зроблены з лубу. *Бралі лупкі, сыпалі жыта і хадзілі, расьсяваючы па полі. Цяпер лупкі мала ў каго ёсьць.* Баяры Віл. **2.** Колькасць таго, што змяшчаецца ў лубцы. *Як там жыта ці там муку пазычаіш, дак пераважна лупкамі.* Нізок Уздз. **3.** Калыска з лубу. *Цяпер ні даўней, дзі-*

*ця ў каляску ложаць, а ні ў лупку.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛУБЯ́НКА** *ж.* **1.** Тое, што і лу́бка (у 1 знач.). *Няма, дзяўчаткі, часу, потым прыдзяцця, а то сонца, трэба жыта з лубянкі перасушыць.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Тое, што і лу́бка (у 2 знач.). *Ну, сколькі ў лубянку ўлезя! Саўсім мала, можа, ґарцаў пяць-сем. Лубянкі былі ж розныя: і бальшэнькія, і маленькія.* Бясяды Лаг.

**ЛУГО́ЎКА** *ж.* Луг, шчолак. *Я часам папалашчу сарочку ў лугоўцы, беляныкая стане, чысьцянькая.* Зазерка Пух.

**ЛУ́КА** *ж.* Дугападобны, паўкруглы бераг ракі. *Лукі гэтыя пачынаюцца пры самум сяле.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛУНА́ЦЬ** *незак. Экспр.* Хадзіць павольна. *Ня сьмейся зь яго, ён хворы, таму і луная.* Саланая Валож.

**ЛУПА́ТЫ** *прым.* **1.** Губасты. *Які ж лупаты, страх глянуць на яго лупы!* Узгурск Чэрв. **2.** Шурпаты, з лушпайкай. *Як добра не абдзярэш круны, яны будуць лупатыя.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛУПІ́ЦЦА** *незак.* **1.** *Экспр.* Старацца. *Бацька з мацерою лупяцца, лупяцца, каб дзяцей пракарміць, а тым што?* Зазерка Пух. **2.** *перан.* Тое, што і ло́пацца. *Чаго ты лупісься на ўсю хату, чаго цябе бярэ нячыстая?* Навасёлкі Валож.

**ЛУПІ́ЦЬ**[1] *незак. Экспр.* **1.** Рваць. *Траву лупім, лупім ля сажалкі, каб на цэлы дзень карові хапіла.* Цялякава Уздз. **2.** Лупцаваць. *А ўчыцялі за гэта і па руцэ лапу лупяць, і на калені ў куток паставяць.* Задубенне Мядз.

**ЛУПІ́ЦЬ**[2] *незак.* Прагна есці, умінаць. *Пе́чанаё, ва́ранаё, сыроё яйцо — луплю, ні разбіраюсё.* Савоні Стаўб.

**ЛУ́ПЫ** *мн. Экспр.* Губы. *Лупы таўстыя такія былі, аж глядзець брытка, такая ўжо губастая.* Вязынка Маладз. *Лупы накрашаныя, а морда мурзатая.* Дукора Пух.; *параўн.* польск. łupy 'тс'.

**ЛУ́ПЯНКА** *ж.* Бульба, звараная ў лупінах і абабраная. *Лупянкі вам прынесла да халадніка, папробуйце, можа, у вас так ні робяць.* Баяры Віл.

**ЛУПЯНУ́ЦЬ** *зак., аднакр.* Моцна стукнуць. *А ён яму так лупянуў, што той аш паваліўся.* Завішына Лаг.

**ЛУСКА́**[1] *ж.* Высеўкі. *Луска пасьля прасейваньня грэцкай мукі астаецца, яе нават сьвіньні не ядуць.* Вецярэвічы Пух.

**ЛУСКА́**[2] *ж.* Перхаць. *Як ні мыю галаву, а ўсё роўна луска ёсь. Можа гэта ад вады нашай, але гэта скура ўжо такая сухая, напэўна.* Ляшчынск Мядз.

**ЛУТ** *м.* Лыка з маладой ліпкі. *Корабы ў нас рабілі з луту, складалі ў корабы мяса, вазілі ў іх пасвяцаць булкі, яйца на вялікдзень.* Шавярнічы Бярэз.

**ЛУ́ТА** *ж.* **1.** Лыка. *Бывала, як сьпляцеш лапці з луты, дык ходзіш у іх усюды, бо адзець больш нічога не было.* Рудня Чэрв. **2.** Аснова лапця. *Адзін гатовы лапаць ужо стаіць, а другога — лута ніяк не выходзіць.* Турын Пух.

**ЛУ́ТКА** *ж.* Рама. *Засталося толькі лутку ў гэтым вакне памыць.* Неманіца Барыс.

**ЛУ́ЦЦЕ** *н. Зб.* Ліпавыя пруты. *Ну й няўдалага нейкага луцця прывалок ты, палавіна атходаў.* Кукалеўка Чэрв.

**ЛУ́ЧНІК** *м. Уст.* Прыстасаванне для асвятлення хаты, у якім гарэла лучына. *У лучнік устаўлялі смольныя трэскі, лучыну і палілі.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛУ́ЧНІЦА** *ж. Рыб.* Прыстасаванне ў лодцы, на якім раскладваюць агонь; пры такім асвятленні ноччу ловяць рыбу; спосаб лоўлі з дапамогай такога прыстасавання. *На лучніцу сабіраліся доўга. Нада было зрабіць квач, раздабыць гумы, саляркі.* Пасынкі Мядз.

**ЛУ́ЧЧА, ЛУ́ЧШЫ** *прысл.* Лепш, лепей. *Чым лясы тачыць — луччa б вады прынёс.* Люціна Валож. *Ня ведаю, куды мне ўжо бехчы, усе дарогі пагубляла. Тады што. І чую, уся роўна крычаць: „Найдам, хужы будзя, выдзі, лучшы будзя".* Ухвала Круп. *Лучшы скажы, хай падушку табе зробіць бабуня.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ЛУ́ЧЫНА** *ж.* Цыбуліна. *Дайце я вам лучыну выраву з граткі. Вырасла высокая, зялёная, а што горасьці — зусім няма.* Дрычын Пух.

**ЛУЧЫ́НІК** *м.* Карзіна, сплеценая з лучыны. *У мяне і цяпер е лучынік яшчэ майго бацькі.* Вецярэвічы Пух.

**ЛЫ́БАЗНУЦЬ** *зак. Экспр.* Грызянуць, скубануць травіцы. *Крапіву пойдзіш сабіраць, кала платоў лындаіш, як той конь, катораму німа чо есьці вясной. Лы́базьне, лы́базьне так зубамі абы-што, а ўчапіцца німа за што.* Засулле Стаўб.

**ЛЫҐА́** *ж. С.-г.* Віка. *Лыґа пітацельная для жывёлы. Лыґа поле добра выпарвае.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛЫҐІ́** *мн.; адз.* **лыґа** *ж. Экспр.* Ногі доўгія і тонкія. *Лыґі — гэта калі ногі высокія, доўгія ды тонкія.* Хожава Маладз.

**ЛЫКО́ВЫ** *прым.* Лыкавы. *Большую чась [насілі] лыковыя лапці. Я і сама насіла лапці лыковыя. Бацька спляце, анучкі белыя, хоць і са старога, і пашоў на сяло.* Вязынка Маладз.

**ЛЫ́НДАЦЬ** *незак. Экспр.* Хадзіць павольна, уважліва прыглядаючыся. *Я часта ўспамінаю сваім дзяцём, як мы даўна елі. Крапіву пойдзіш сабіраць, кала платоў лындаіш, як той конь, катораму німа чо есьці.* Засулле Стаўб. ◊ **Лындаць вачыма** — лыпаць (ад разгубленасці, збянтэжанасці). *Дрэнна, як гаспа-*

*дыня не мае нічога ў запасе. Як чужы чалавек у хату, дык і лындай вачыма.* Ціханава Слабада Стаўб.

**ЛЫНДЫ** *мн.* ◊ **Лынды біць** — гультайнічаць. *Мы лынды ня білі, а падымаліся ранюсінька, ні сьвет ні зара, ды і лажыліся за поўнач.* Баяры Маладз.

**ЛЫСІНКА** *ж.* Невялікая лысіна. ∇ **Як удасца жарабя з лысінкай, дык і здохня з лысінкай.** Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛЫТКА** *ж. Жарт.* ◊ **Лытку выставіць** — выйсці на людзі, паказацца. *І што ты, Ганька, там робіш, што ў цябе за работа, што ўсё дома?! Хоць бы лытку куды выставіла: ці ў клуп, ці на сяло.* Бсяды Лаг.

**ЛЫХТАЦЬ** *незак. Экспр.* Сварыцца. *Чуць што, чуць слова ня тое скажаш, дык яна адразу лыхтае.* Пагарэлец Пух.

**ЛЫЧА́НІКІ** *мн.; адз.* **лыча́нік** *м.* Лыкавыя лапці. *Насілі палатняная, то зрэбная да работы. Хадзілі ў лапцях бывала, лычанікі надзеніш і йдзеш.* Засулле Стаўб.

**ЛЫЧА́НЫ** *прым.* Тое, што і л ы к о́ в ы. *Лапці гэтыя абуіш, ды добра, калі пяньковыя зьвяжыш. А то ш лычаныя! Лычаныя я ні ўмела добра плесьці, спляту нейкую як карзіну і гэдак шлёпаюся ў тую школу.* Малінаўка Лаг.

**ЛЬГА** *безас. у знач. вык.* Можна, магчыма. *Мне кап хоць льга было ісьці, дык я б і ў полі пайшла палоць.* Дрычын Пух.

**ЛЬНАБРА́ЛКА** *ж.* Ільноўборачны камбайн. *Лён вырас, пускаюць льнобралку: лён застаецца ляжаць у роўнінькіх радках.* Ягадка Бярэз.

**ЛЬЯ́НІШЧА** *н.* Поле, з якога ўбралі лён. *Пайду на льянішча, там мой трохі травы ўкасіў, дык павярну на другі бок, хай сохне.* Заямнае Стаўб.

**ЛЭ́ҐУР** *м.* Парадак. *Ясі ты абы-як, без ніякага лэгуру.* Цялякава Уздз.

**ЛЭ́ДЗІЦЬ** *незак. Неадабр.* Гаварыць абышто. *Як сядуць жанкі вечаркам на лаўках, ды як пачнуць лэдзіць, хоць ты вушы затыкай.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ЛЭЖ** *ж.* Няпраўда, напрасліна. *Такую лэж на чалавека навялі!* Краснае Лаг.

**ЛЭ́ПАЦЬ** *незак.* Шавяліць. *Усё толькі губамі лэпая, але маўчыць.* Дукора Пух.

**ЛЭ́ХА** *ж. Асудж., лаянк.* Пляткарка, языкатая жанчына. *Кап хоць што ў яе на языку затрымалася, такая ўжо лэха.* Аляхновічы Маладз.

**ЛЭ́ХАЦЬ** *незак. Неадабр.* Тое, што і г а н д з ю́ р ы ц ь. *Калі ўжо выпіў, дык ня лэхай чаго ні трэба.* Пярэжыр Пух.

**ЛЮБАВІ́НА** *ж.* Поснае мяса без тлушчавых праслоек. *Сёлета ў мяне шчэ й любавіна ёсь, хаваю для ўнучкаў. Як прыедуць у госьці, нічога ня хочуць, толькі любавіну давай.* Баяры Маладз.

**ЛЮБЁЗНІК** *м. Бат.* Прываротная трава. *Гэта, дзевачкі, любезьнік, каб вас хлопчыкі любілі, за вамі роем хадзілі.* Палачаны Маладз.

**ЛЮБІ́ЦЦА** *незак.* Любіць адно аднаго. *А цяпер любяцца, любяцца й год, і два, а як да жыцьця, дык ні сабе паглядзець, ні людзям паказаць.* Язні Віл. *Зь дзедам сваім я ні любілася.* Пагост Віл.

**ЛЮБО́ВАЕ** *у знач. наз.* Поснае мяса або мяса з прорасцю сала. *Сланіна ляжыць доўга ў нас, ні натта маюць ахвоту да яе, а вот любовае не залежваецца. Як заколім кабана, часьць любовага пасолім ды ў марлю зашыім, і вісіць так.* Хожава Маладз.

**ЛЮБО́СЦІ** *мн.* Любошчы. *Аднойчы мы йшлі прас каноплі дахаты і ні зналі, што наш разгавор патслухваюць нашы дзяцюкі. Усе дзеўкі расказваюць пра свае любосьці, ну й мяне нячысьцікі за язык пацягнулі расказаць пра Даніпата.* Пузыры Мядз.

**ЛЮБО́ШЧЕ** *н.* Тое, што і л ю б о́ с ц і. *Нічога быў хлапец, а ў гэтым горадзе разбасякаваўся саўсём, любоцьце гэтае — сяганьня ана, заўтра — другая.* Язні Віл.

**ЛЮ́ДЗІ** *мн.* ◊ **На людзях** — на віду, у прысутнасці іншых, публічна. *Калякціў наш здаровы, баявы. Мы выступілі ў друку са зваротам за здаровы быт сярод хлебаробаў. Здавалася б, усё нармальна. Але гэтых во нашых хлопцаў трэба выхоўваць: калоцяцца, сварацца паміж сабою, на людзях абзываюць адзін аднаго гаткімі слоўцамі.* Горкі Стаўб.

**ЛЮДЗІ́НЫ** *прым.* Ядомы, прыдатны ў ежу. *У нас ваўчыныя толькі грыбы, іх няможна есьці, а людзіныя яшчэ ня вырасьлі.* Бяларучы Лаг.

**ЛЮДЗЯ́ЦЬ** *незак.* Гуляць вяселле. *У нядзелю мы будзем людзяць у брата, пабачуся са сваімі.* Палачаны Маладз.

**ЛЮ́ДНЫ** *прым.* Прызначаны на выхад у людзі. *С кужалю ткалі тонкая палатно на людныя кашулі, у тых кашулях хадзілі ў цэркаў і на фэст.* Мацкі Мядз.

**ЛЮДСКАВА́ЦЦА** *незак.* Апранаць у людзі, выхадное. *Хто йта маё паліто кінуў на печ? Я ў ём люцкуюся, а яны на печ кідаюць.* Савоні Стаўб.

**ЛЮДСКІ́** *прым.* Чыйсьці. *Там былі скляпэ люцкія, дак ён там хавоўся.* Цялякава Уздз. ◊ **Паўтары людскага** — трэцяя частка таго, што ў людзей. *Такая ў мяне аспадарка — паўтары люцкага. Мужык з вайны не вярнуўся, дзеці ў горадзе, унукі во толькі малыя.* Баяры Маладз.

**ЛЮДЦЫ́** *толькі мн. Ласк.* Людзі. *І колькі люццоў пагібла нашых у гэту вайну — нявінных жанчын, дзяцей, унучат.* Партызанскі Віл.

**ЛЮМІ́НАВЫ** *прым.* Алюмініевы. *Во купі-*

*ла, на паліцы стаіць: міска люмінавая, крушка і каструлька.* Завішына Лаг.

**ЛЮСТЭ́РАК** *м.* Люстэрка. *А гэта, як хто скажа: хто люстэрак, а хто і зеркала скажа.* Пудзіцк Пух. *Цяпер дак старая, ніколі не хачу і ў люстэрак глядзець, а тады была натта красівая.* Пагост Віл.; *параўн.* польск. lusterko 'тс'.

**ЛЮСТЭ́РКА-ТРАЯ́К** *н.* Трыльяж. *Зайдзі ў кожнага хату — вымалявана, выкрашана, у любога добрага люстэркі-траякі, радзівы, целявізары. Што гэта, шуцэйнае дзела такая жысь?* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛЮТАЕ́ЖЛІВЫ** *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *Наш малы вельмі лютаежлівы, нічога ні хоча есьці. Наплачасься, покуль пакорміш яго.* Цялякава Уздз.

**ЛЮ́ФА** *ж.* Ствол у стрэльбе. *Мусіць, люфа ў маёй стрэльбе крывая.* Канстанцінава Мядз.

**ЛЮФЦІ́К** *м.* Фортка. — *У вашых вокнах ёсь люфцікі? — Ёсь. — А мы дак не зрабілі ў сваёй хаці. Але як будавалі хату дацы, люфцікі ў кожным акне зрабілі. — Во правільна!* Рудня Валож.; *параўн.* польск. lufcik 'тс'.

**ЛЮ́ХТА** *ж.* Юшка. *Гаспадыня, закрыйця люхту, а то ўжо печка вытапілася.* Бытча Барыс.

**ЛЮЦЫ́ПАР** *м. Перан.* Нячыстая сіла. *Ах ты, шайтан стары, люцыпар праклятыі Дзе ш ты быў сёньня, што толькі цяпер валачэсся?!* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. lucyfer < лац. lucifer 'д'ябал'.

**ЛЮ́ШКА** *ж.* Тое, што і л ю х т а. *Люшку добра ўстаў, а то вываліцца.* Сакавічы Лаг.

**ЛЯҐА́РЫ, ЛІҐА́РЫ** *мн.* **1.** Падваліны, па якіх сцелецца падлога. *Мы хату даўно ставілі: ляґары згнілі зусім.* Вецярэвічы Пух. *На ліґары падлога кладзецца. Ліґары можа грып з'есьці, як уб'ецца.* Бяларучы Лаг. **2.** Тое, што і л а́ ґ а (у 2 знач.). *Кладуць калоду на ляґары і падымаюць на вос.* Вялікая Вуса Уздз.; *параўн.* ням. дыял. lôger 'рычаг для падымання бярвенняў'.

**ЛЯГЦО́ЎКА** *ж.* Тое, што і л е г к а в і́ к. *Натта сёньня ляхцоўкі снуюць сюды-туды, можа вясельле ў каго.* Сцебіракі Віл. *Пратсідаціль на ляхцоўцы паехаў.* Малмыгі Віл.

**ЛЯ́ДА**[1] *н.* Дзялянка зямлі, прызначаная пад расцяроб. *Распахівалі ляды, зямлю, дзе быў алешнік. Працавалі ат цёмна да цёмна.* Восава Круп.

**ЛЯ́ДА**[2] *н.* Прыстасаванне для падымання бярвенняў. *Ляда такім выглядам. Дзьве доскі, паміж доскамі ўстаўляюцца з двух канцоў калодачкі, каб канцэ досак не сходзіліся, і змацоўваюцца абручамі жалезнымі. І ў гэтых досках дзірачкі наўскасяк. І ад дзірачкі да дзірачкі шворнік такі ўстаўляецца, і так ад дзірачкі да дзірачкі падымаць.* Арцюхі Стаўб.

**ЛЯ́ДА**[3] *н.* Набіліцы ў кроснах. *Ляда і ў кроснах ест. Набіліцы і ляда — можна сказаць, адно і тоя. Набіліцы ляхчэйшыя, а ляда — цяжэйшая. Што грубейшая як ччэш, тады бёрда ўстаўляеш у ляда; ляда адной рукой прыстукнуць нітку досыць.* Арцюхі Стаўб.

**ЛЯ́ДА**[4] *прысл.* Дрэнна. *Мой унук ляда піша, усе цятрадзі замурзаныя і сам замурзаты.* Рудня Чэрв.

**ЛЯДАВА́ЦЬ** *незак.* Падымаць на воз калоды з дапамогай ляды. *Ляда — старая прыстасаваньня, цяпер машынамі лядуюць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ЛЯДА́ТЫ** *прым.* Стары. *Лядаты, а які яшчэ жвавы.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЯДА́ЧЫ** *прым.* Капрызны, спешчаны, пераборлівы. *Ото лядачы да яды, ляжаць блінэ, а ён кажа: „Што мы, Аня, есьці будзям?" Муштроўны, крый бох.* Савоні Стаўб.

**ЛЯДА́ШНІ** *прым.* Паношаны. *Тожа быў касьцюмчык нейкі лядашні, але прышлося і яго даношваць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЯДА́ШЧАНЬКІ** *прым. Памянш.-ласк.* Худзенькі, благенькі. *Мая дачушка такая лядашчанькая і хварэла доўга. Але нічога, косьці ёсьць, то мяса будзя.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЯДА́ШЧЫ** *прым.* **1.** Лянівы. *Ужо даўно ўзяліся араць, ды во скончыць ніяк ня можам: такі ўжо лядашчы конь папаўся, што хоць за яго ў плух станавіся. Ну і лядашчы мой унук стаў, як пабыў у лагіры! Усё яму гуляць хочацца, а да работы і ні кажы.* Баяры Маладз. **2.** Слабы. *Ён быў ужо такі лядашчы, дык мы зразумелі, што жыць доўга ня будзе, памрэ.* Дрычын Пух. **3.** З малой узяткай. *Сёлета нейкія лядашчыя пчолы.* Вецярэвічы Пух.

**ЛЯДНІ́К**[1] *м.* Халадзільная камера на кароўніку. *Кароў даілі і малако апускалі з бідонамі ў калодзеш, бо ляднікоў не было, як цяпер.* Логавішча Дзярж.

**ЛЯДНІ́К**[2] *м. Бат.* Падбярозавік (Leccinum scabrum). *Па беразьняках ляднікоў многа. Хоць касой касі. Як маладзенькі ляднічок, дык красівы, крамяны, шапка бурая.* Нядаль Барыс.

**ЛЯ́ДЫ** *мн.* Тое, што і л ё д ы. *На маіх дзяцей німа чаго абіжацца. Хаця б во як дамоў прыяжджаюць, усяго ш чыста навозяць. А надоечы дажа лядаў прывезьлі. Каб ні пацяклі, дык у слоіку везьлі.* Чабаі Валож.

**ЛЯЖА́ЙКА** *ж.* Ляжанка. *Як ні выпалім ляжайкі, дык холадна ў хаці. Як напалю ляжайку, узьлезу нанач, выграюся, дак і кашаль пярастае.* Цялякава Уздз.

**ЛЯЖА́К** *м. Пчал.* Калодачны вулей, які ўстанаўліваецца на козлах. *Рамачныя вулеі ў гэтым годзе прадала, няма каму даглядаць. Асталіся ляжакі, ляжаць пад яблынямі ў агародзе.* Бясяды Лаг.

**ЛЯЖА́НКА** *ж.* Калаўрот. *Бывала, на досьвітку пабяруць у рукі ляжанкі і адзін к аднаму сходзяцца прасьці, каб весялей было.* Кукалеўка Чэрв.

**ЛЯЖА́ЦЬ** *незак.* ◊ **Лядам ляжаць** – гультаяваць. *Ды і з мужам мне жыцьцё не ўдалося: я с пожні прыду, а ён лядам ляжыць сабе пад дрэвам у саду.* Баяры Маладз. **Ляжаць у магіле** – памерці. *І пастаянна кажа: „Толькі ў мяне спасіцель шваґерка, каб ні яна, ляжаў бы я ў магіля".* Нядаль Барыс.

**ЛЯЖНЯ́** *ж.* Ляжанне. *Зь ляжні хлеба не пад'ясі, гэта ты добра ведаіш, але робіш усё не так.* Пярэжыр Пух.

**ЛЯЗГАТА́ЦЬ** *незак.* *Экспр.* Крычаць, лаяцца. *Перастань лязгатаць на ўсё сяло, людзі зьбягуцца.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЯКЁРЫ** *мн.* Тое, што і лаке́ркі. *На ўрачыстым вечары ўсе дзяўчаты былі ў лякёрах, убраныя так прыгожа.* Палачаны Маладз.

**ЛЯКТРЫ́ЧАСТВА** *н.* Асвятленне ад электрычнай лямпачкі. *Я дык ніяк ні магла прывыкнуць, як ляктрычаства правялі, балюча глядзець было біс прывычкі.* Вязынка Маладз.

**ЛЯ́ЛЬКА** *ж.* Частка аеру ад карэнішча з маладымі лісткамі. *Трэба было зь явару ляльку сарваць ды зьесьці.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЯЛЯ́ВА** *ж.* Лялька. *Мы як дзецьмі былі, крамныя ляляевы рабілі.* Пудзіцк Пух.

**ЛЯ́МЕЦ** *м.* Падкладка пад крылы падсядзёлка. *Лямец пад усё гэта патклàдаецца, каб ня муліла каню.* Рудня Чэрв.

**ЛЯ́МКА** *ж.* Надточаная частка падола ў спадніцы з іншага матэрыялу. *Прыдзецца дабіраць матэрыі на лямку, бо мала набрала, не хапае на спадніцу.* Рудня Лаг. ◊ **Цягнуць лямку** – працаваць на ўсю сілу, цяжка працаваць. *Колькі я помню, мама цягнула лямку – і ў полі, і ў хаці, і ў хляве. Як яна рабіла, ні выказаць!* Савоні Стаўб.

**ЛЯ́МПКІ** *мн.* Электрычныя прыборы, якія выкарыстоўваюцца ў медыцыне для разагравання хворых участкаў цела. *Езьдзіў аж за дваццаць кіламетраў на лямпкі руку разаграваць.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ЛЯМПЭ́РНЯ** *ж.* Карніз. *Купілі лямпэрні, трэба прыбіць і фіранкі новыя павесіць.* Пугачы Мядз.

**ЛЯМПЭ́РЫ** *мн.* *Будаўн.* Налічнікі, ліштвы. *Курыныя хаты былі, вокны маленькія саўсём. Лямпэры этыя нікрашаныя былі.* Бакачы Маладз.; *параўн.* польск. lamperja 'тс'.

**ЛЯНДЭ́РКА** *ж.* Галандка (парода кароў). *Даўней дык і не зналі другіх парот кароў, акрамя ляндэрак.* Будслаў Мядз.

**ЛЯНІ́ВІЦА** *ж.* *Неадабр.* Гультай. *Анно дзіця дык натта ўдалае да навукі, а другое – лянівіца.* Баяры Віл.

**ЛЯНІ́ЎКА** *ж.* *Кулін.* Суп са свежай капусты. *Я ляніўку вару летам на дварэ. Саганчык на трыношкі пастаўлю, вады налію, бульбы нарэжу, а як закіпіць, капусту крышаную апускаю, салам засквару, сьмятаны дабаўлю – вот і ўсе прамудрасьці ў варэнні ляніўкі.* Калодкі Віл.

**ЛЯ́НІШЧА** *н.* 1. Тое, што і льняні́шча. *Ужо лянішча пачалі араць.* Чабаі Валож. 2. Трава на льнянішчы. *Дзьве капы лянішча накасіў.* Там жа.

**ЛЯНО́** *н.* Вялікі сноп ільну, звязаны пасля вылежвання. *Ляно с сушні выносілі не толькі дарослыя, але і дзеці.* Вецярэвічы Пух.

**ЛЯ́НПА** *ж.* Лямпа. *У вас лянпа, мусіць, да раніцы гарэла, я як ні прачнуся, сьвет у вокнах.* Хожава Маладз.

**ЛЯНУ́ХА** *ж.* *Кулін.* Тое, што і ляні́ўка. *Сягоньня на абед у нас лянуха, як прасілі.* Масцішча Барыс.

**ЛЯНУ́ШКА** *ж.* Пячурка. *Ой, мама, а ў лянушцы кот сьпіць, ад дзяцей схаваўся.* Янушкавічы Лаг.

**ЛЯНЦЯ́ЙКА** *ж.* *Экспр.* Швабра. *Хлапец! Зараз жа бяры ляньцяйку і мый пол, няма чаго сядзець.* Баяры Віл.

**ЛЯ́ПА**[1] *ж.* *Груб.* Рот. *Ну чаго ты тут цэлы дзень гарлапаніш, ляпу разявіўшы?* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЯ́ПА**[2] *ж.* Капа́. *Мой сёньня Мікола заробіць адну ляпу сена карові.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЯ́ПАЦЬ** *незак.* Разліваць. *Не ляпай, патстаў міску ды налі над міскай.* Рубяжэвічы Стаўб. ◊ **Ляпаць кішкай** – галадаць. *Я ўсё ім гаварыла: „Старайцяся выбраць картоплі, а то будзяця кішкай ляпаць зімой".* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЯПЁНКА** *ж.* *Будаўн.* Жылое глінабітнае памяшканне. *Жыць у ляпёнцы – не ў хаце: восеньню гліна сырэя, зімой трэскаяцца каля печы.* Саланая Валож.

**ЛЯПІ́ЦЬ** *незак.* *Экспр.* Нагаворваць. *Хай ужо Дарка лепіць на яго – ёй даравальна, але ты за што клеплеш?!* Пудзіцк Пух.

**ЛЯПЛЁНКА** *ж.* Тое, што і ляпёнка. *У ляплёнках восеньню і зімой дрэнна жыць, сыра ў іх.* Ваўкалатка Віл.

**ЛЯ́ПНУЦЬ** *зак.* 1. Ударыць, стукнуць, даць тумака. *Даўней так хоць ляпнуць можна было, каб узроў як бык. А цяпер жа яны во с такіх год законы знаюць што і к чаму.* Бяларучы Лаг. 2. Упасці. *Распалажыліся абедаць [на палявым стане], адкуль тыя восы наляцелі, а анна як ляпня ў міску!* Вялікая Вуса Уздз. 3. *Экспр.* Сказаць што-н. нетактоўна, неўпапад. *Дык Янка будзіць казаць ёй: „Знаёмся, мама", дык яна не разьбярыся, ды ляпні: „Гэта Таня, мусіць".* Язні Віл. ◊ **Ляпнуць проста з моста** *асудж.* – сказаць недарэчнае. *Ляпніць проста з моста, а потым і сама ні рада – такі характар маіць.* Баяры Маладз.

**ЛЯПУ́Н** *м.* *Экспр.* Гадзіннік з маятнікам.

*Да ляпуна ніяк не прывыкну, спаць не дае.* Студзянец Валож.

**ЛЯПЯНКА** *ж.* 1. Тое, што і ляпёнка. *Зарас няма ляпянак, ляпянкі ў вайну рабілі.* Мікалаеўшчына Стаўб. 2. Глінабітнае памяшканне для жывёлы. *У нашым саўхозі кароўнік і сьвінарнік у ляпянцэ.* Вязынка Маладз.; *параўн.* польск. lepianka 'мазанка'.

**ЛЯСАВЫ** *прым.* Лясны, размешчаны ў лесе. *Між лесу езьдзяць па дарозі, дык тая лясавая. Колькі я ўжо па той лясавой дарозі атхадзіла!* Вязынка Маладз.

**ЛЯСЁНКА**[1] *ж.* Радняная посцілка, у якой носяць траву, сена. *— Вы лясёнкамі траву цягаяця? — Не. — То вазьмеця лясёнку, больш травы прынесяце.* Цялякава Уздз.

**ЛЯСЁНКА**[2] *ж.* Свежая трава, накошаная ў лесе. *Лес ад нас далёка, дык як цягалі лясёнку, то дужа цяшка было.* Кукалеўка Чэрв.

**ЛЯСКА** *ж.* Штыкеціна ў плоце. *Ганна, вазьмі етыя збанкі і на лясці павешай.* Пудзіцк Пух.

**ЛЯСКАЎКА** *ж.* Тое, што і ляска. *Такія бойкі бываюць, што і лянскавак ні застаецца ў парґані.* Скамарошкі Стаўб.

**ЛЯСКІ** *мн.* Тое, што і лазы. *Ляскі на ґонту лажылі, комін чысьціць лазілі.* Пудзіцк Пух.

**ЛЯСНУЦЬ** *зак.* Прапасці марна. *А хваліцца, і хадзяінаў сын узяць хоча, і той хоча, і гэты хоча, а я кажу: „Можа ж маці панчоху назьбірала табе прыданага, то йдзі, а то лясьне твоё прыданае".* Арцюхі Стаўб.

**ЛЯТАЦЬ** *незак. Экспр.* Бегаць, насіцца. *Дзеўкі, як жаропкі маладыя, туды-сюды лятаюць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЯТУНЫ** *толькі мн. Экспр.* Хлопцы-падлеткі. *Гэтыя лятуны вам спакою ні даюць, ганеця іх.* Каменка Уздз.

**ЛЯЎШУН** *м.* Ляўша. *Дык ён жа ляўшун, толькі левай рукой робіць.* Вецярэвічы Пух.

**ЛЯХ** *м.* Пограб. *Малако тут не астаўляй, у лях занясі, а то скісьне.* Скамарошкі Стаўб.; *параўн.* польск. loch 'падвал'.

**ЛЯХА**[1] *гл.* леха

**ЛЯХА**[2] *ж.* Рэха. *Пойдзя з намі ў лес, зблудзіць, а гукаям, дык яна ні на голас, а на ляху бяжыць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ЛЯХАТАЦЬ** *незак. Экспр.* Хрыпець. *Нікої ня бачыла такое сьмерці. Ото ляхатала, ото ляхатала, ото хрыпы! Двухстароньняё васпаленё, губы чорныя — спаліло.* Савоні Стаўб.

**ЛЯХВЭТАР** *м. Асудж.* Пляткар. *Гэта ж ні чалавек, а ляхвэтар! Ён усё ведае, усюды яму трэба язык уткнуць.* Пральнікі Валож.

**ЛЯШЫЦЬ** *незак.* Устанаўліваць вешкі на граніцы засеянага і незасеянага ўчастка. *Я там ляшыў жыта, знойдзеш сам.* Пруды Стаўб.

**ЛЯШЧЫНЕЦ** *м. Рыб.* Аднасценная сетка з вялікімі вочкамі на ляшчоў. *У насьлестве ад дзеда, заядлага рыбака, разнай снасьці засталося, асобянна цэнны ляшчынец, яшчэ зусім новы. З надыходам вясны вялікая рыба падыходзіць да берагу, дык добра, калі ў гэты час у цябе ёсьць ляшчынец.* Мікольцы Мядз.

# М

**МАГАЗІНШЧЫЦА** *ж.* Прадавец у магазіне. *Некалі, як Байдурыха была магазіншчыцай, многа тавараў было.* Бяларучы Лаг. *Цэльны дзень магазін закрыты, мабыць, магазіншчыца ў горат паехала.* Прудзішча Лаг.

**МАГАЗЫН** *м.* Магазін. *У панядзелак магазын закрыты.* Завішына Лаг.

**МАҐАЗЫНЕРКА** *ж.* Тое, што і магазіншчыца. *Не, а ў нас натта добрая маґазынерка, па часах магазін аткрывае.* Будслаў Мядз.; *параўн.* польск. magazynierka 'загадчыца магазіна'.

**МАҐАЗЫНКА** *ж.* Выпас за вёскай, дзе калісьці стаяў магазін. *Колю не сустрэлі? Ён кароў на маґазынку пагнаў.* Завішына Лаг.

**МАГАРЫЧ** *м.* Гасцінец, дарунак. *Дык тады як заплацілі добра, добры магарыч далі, дык адразу мякчэй гаварыць стаў і павінчаў нас.* Засулле Стаўб.; *параўн.* санскр. mahārig 'выдаткі'.

**МАГІЛА** *ж.* ◊ **Пакласці ў магілу** — пахаваць. *Нявестка сама дзецкі ўрач, маладзенькая, але нешчасьлівая: мужыка паклала ў магілу, забіўся такі малады, пакінуў троё дзетак.* Савоні Стаўб.

**МАГІЛІЦЫ** *толькі мн.* Тое, што і кладаўё. *Схадзіла на магіліцы, паправіла магілку маміну, пакрасіла, кветак пасадзіла.* Малмыгі Віл.

**МАГІЛЬНІК** *м.* Тое, што і кладаўё. *Вакол магільніка ў нас ёлкі і сосны, прыгожа так.* Нагаўкі Мядз.

**МАҐЛІ** *мн.* Прылада для прасавання бялізны. *Трэба бялізну пацігаць, выраўнаваць, тады ў маґлі вымаґляваць. Маґлі такія от, ік у нас кросны. Паложыш на этыя маґлі, закруціш, і гладзінькая бялізна выходзіць с каткоў, валікаў такіх.* Пагост Віл.; *параўн.* польск. magiel 'тс'.

**МАҐЛОЎКА** *ж. Будаўн.* Прылада для вымярэння таўшчыні цёсу. *Столяр возьмя маґлоўку, зарубіць і вядзе, карандаш тут паложыць і вядзе.* Нізок Уздз.

**МАҐНАСЦЬ** *ж.* Сквапнасць. *Я кажу, што гэта маґнасьць: яны добра жылі, красьці ня трэба было.* Дукора Пух.

**МАГНАЧ** *м.* Багатыр. *Як гэтыя магначы баяцца капейкай перадаражыць!* Каляды Віл.

**МАҐУЛІНКА** *ж.* Кропелька, вельмі мала чаго. *Ён гаспадар ашчадны, каждую маґулін-*

*ку палічыць, нічога ў яго не прападзе.* Літва Стаўб. ◊ **Дзяліцца ўсякаю маґулінкай** — быць у прыязных адносінах, дзяліцца апошнім. *Бывало, як кепско жылосё, тады хадзілі адно да аднаго, дзяліліся ўсякаю маґулінкай, а ціпер і крыўды німа, і перасталі хадзіць.* Савоні Стаўб.

**МАДЗЕЦЬ** *незак.* Марна бавіць час, марнець. *Цэлы дзень мадзела на вуліцы, пакуль машыны дачдалася.* Брадок Мін.

**МАДНЕЙ** *прысл.* Не так, як усе, інакш. *Вось вы ўсё запісваіця, запісваіця, няўжо мы мадней гаворым?* Юшкаўка Віл.

**МАДНІСЯ** *ж. Жарт.* Франціха. — *Мама, дзе мае калготкі белыя?* — *От, маднісі, адно строіцца знаяш.* Арцюхі Стаўб.; *параўн.* польск. modnisia 'тс'.

**МАДЫҐАВАЦЬ** *незак.* Наравіць. *Сусетка добро варыць, мадыґуя яму.* Савоні Стаўб.

**МАДЭДА** *ж.* Тое, што і маднíся. *Гляньце, людзі, што гэта мадэда са сваёй спадніцай вырабіла: паначапляла істушкаў, панашывала ґузікаў нават там, дзе й не трэба.* Межава Чэрв.

**МАЖАРЫ** *мн.* Вялікія сялянскія калёсы з высокімі драбінамі. *Мікола, ты падрамантуй мажары, пасьля абеду будзем вазіць салому.* Юр'ева Смал.

**МАЖДЖЭР** *м.* **1.** Металічная ступка. *Вазьмі, донька, маждҗэр, натаўчы каляндры, трэба ш за кілбасы брацца.* Слабада Лаг. **2.** *перан.* Неразумны чалавек. *Маждҗэр ты, дурань!* Астравок Уздз. *Дурны ён, зусім дурны, маждҗэр гэты, нічога яму не скажы.* Цялякава Уздз.; *параўн.* польск. moździerz 'ступка'.

**МАЖДЖЭРАК** *м. Памянш.* да маждҗэр (у 1 знач.). *Паставіла маждҗэрак ля печы, толькі адышлася — унучка схапіла, усю соль рассыпала. Гора з гэтым дзіцём!* Баяры Маладз.

**МАЖЫ** *мн.* Тое, што і мажáры. *Ну а за сенам, бывала, едуць на мажах, каб вос добры накласьці. Калёсы тады зьнімаюць, а мажы паткатваюць. У мажах бакавыя сьценкі вышэйшыя [чым у калёсах], пярэдніх і задніх стаўняў няма, а ў бакавых сьценках устаўлены драбіны замест дошак. Мажы выкарыстоўваліся пры перавосцы сена і саломы.* Восава Круп.

**МАЗҐАВАЦЬ** *незак.* Думаць, меркаваць. *Мазґуй, мазґуй, можа што і надумаясься, а я пачакаю.* Вялікая Вуса Уздз.

**МАЗҐАВЕШКА** *ж. Груб.* Галава. *Аччапіся ты ад мяне, мазґавешка мая зараз ня варыць.* Кухцічы Уздз. *Зараз як дам гэтай сеткай па тваёй дурной мазґавешца!* Каменка Уздз.

**МАЗҐІ** *мн.* Мякаць з гарбузікамі; мязга. *Нешта сёлета ў гарбузах многа мазґоў. Я выкідаю гарбузовы мазґі.* Хожава Маладз. ◊ **За мазґі бярэ** — адчуваецца галаўны боль. *Выдзяш на гэту пякоту, за мазґе бярэ, ня ведаю, дзе дзявацца.* Савоні Стаўб. **Мазґі вылазяць** — надзвычай цяжка. *Напісаць харошую кнігу — гэто ж мазґе вылазяць. Што ж вы думаеця, такая умсьцьвянная работа!* Горкі Стаўб.

**МАЗГЛЯКІ** *мн.* Камплект адзення і абутку. *На твае мазглякі, не сядзі голы-босы, брыдота.* Юр'ева Смал.

**МАЗЕЛІК** *м.* Подмазка. *Кот мазелік панёс! Што патэльню мазаць! А цяпер во сала ляжыць, і кошка не бярэць. Скажаш, ніпраўда?* Мікольцы Мядз.

**МАЗНІЦА** *ж. Абрад.* Купальскія гулянні. *Гэта ўжо цяпер маладзёж ля возіра зьбіраіцца на мазьніцу, а мы даўней на краі лесу націгаім гальля й весялімся цэлую ноч.* Іґрушка Круп.

**МАЗУЛЬ** *м.* Мазоль. *А што перад вамі, дзеткі, усё с свайго мазуля нажыла.* Пудзіцк Пух.

**МАЗУРЭК** *м. Кулін.* Пірог з разынкамі з пясочнага цеста. *Мазурэк лепш за ўсё пячы ў духоўцы, бо ў печы падгарэць можа.* Ціханава Слабада Стаўб.; *параўн.* польск. mazurek 'тс'.

**МАЗЮЛІК** *м.* Тое, што і мазéлік. *То ж: „А-я-яй, кот панёс мазюлік!" А гэта ляжыць кошка с кацянятамі, адрэжыш сала, паложыш — сала не бярэць. Яй-богу, праўда!* Мікольцы Мядз.

**МАЙ** *м. Абрад.* **1.** Першая зелень лісцевых дрэў, якой на тройцу ўпрыгожваюць хаты. *Ідуць сякуць рабінкі, дубінкі, бяроскі, аер у некаторых. Мой стары аж да гэтага году ставіў май, а ў гэтым годзе ўжэ ні хадзіў.* Бяларучы Лаг. *Ждуць, бывала, тройцу, ідуць у май, у явір у суботу. Май торкалі над вокнамі хат, над варотамі, а явір сыпалі ў хаці на палу, у сенях, на двары.* Весялова Круп. *Матка мяне часта вадзіла ў цэркву сьвяціць зёлкі і май.* Даўгінава Віл. **2.** Зялёнае вецце, галінкі з дрэва і кустоў. *На купальле, бывала, пасядуць бабы ў лоткі і плывуць па рацэ, а дзеўкі па беразе май нясуць зялёненькі на вянкі.* Баяры Віл.

**МАЙДАН** *м.* Тое, што і вы́гарадзь. *У майдане трэ жэртку прыбіць, а то сьвінні павылазяць, лётай тады за імі.* Баяры Віл.; *параўн.* польск. majdan 'дзядзінец'.

**МАЙНАЧЫЦЬ** *незак.* **1.** Бачыць здані, галюцыніраваць. *А летась, ты знаіш, дзе-та я была, прышла позно, вячэраю на кухні. Раптам здалосё, нешто бліснуло ў той хаці. Я прыгледзілася — нічого німа. Спалохалася, думаю, што гэто са мною, можа, майначу, з галавой што робіцца. Кроў уныла, вядомо, ноч, нідзе нікого, адна ў хаці.* Савоні Стаўб. **2.** Даказваць. *Табе гавары, а ты сваё майначыш.* Арцюхі Стаўб.

**МА́ЙСЦЕР** *м.* Майстар. *Чалавек мой майсьцеравы, я ні хвалюся, але ў яго ўмелыя рукі. Майсьцяр харошы ён у нас.* Савоні Стаўб. ◊ **Майсцер на ўсе рукі** *захапл.* — пра таго, хто ўмее змайстраваць любую рэч. *Наш на ўсе рукі майсьцяр: ён і вучыцяль, ён і касец, ён і сталярку зробіць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МА́ЙТКІ** *мн.* Штаны, порткі. *Ні награвай крэпка жаляска, а то сваё майткі спаліш прасуючы.* Рубяжэвічы Стаўб. *І сам ён дзяцюк модны, і майткі ў яго модныя.* Рабунь Віл.; *параўн.* польск. majtki 'тс'.

**МАК** *м.* ◊ **Гаварыць, як макам сыпаць** — гаварыць скорагаворкай. *Гаворыць, як макам сыпле, да яе гаворкі трэба прывыкнуць.* Кроква Лаг. **Уміралі, як мак сыпаліся** — уміралі павальна. *Нек жа раней адзёр хадзіў, па двое с хаты памiралі. Уміралі дзеці, як мак сыпаліся.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МАКАВЕ́Й** *м. Рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 1 жніўня. *Макавей называецца таму, што ў гэты час пасьпявае мак.* Паплавы Бярэз. *На макавея хоць пяць кропель, але далжно ўпасьці дажджу.* Дукора Пух.

**МАКА́ТКА** *ж.* Вышыты дыванок або карціна на сцяну. *Макаткі даўней вісели ў кожнай хаце, а цяпер толькі куды на падушку ці на стол.* Сцебіракі Віл.; *параўн.* польск. makatka 'тс'.

**МАКАТРО́** *н.* і **МАКО́ТРА** *ж.* Макацёр. *Макатро маё зусім старэнькае, аж браждзжыць.* Мікалаеўшчына Стаўб. *У макотры мак цёрлі і каноплі.* Бальцары Маладз.; *параўн.* польск. makotra 'тс'.

**МА́КАЎЕ** *н.* Сцябло маку. *На макаўі вырастая адна макаўка, на некаторым — дзьве і тры.* Бяларучы Лаг. *Макаўе карове на патсцёл кідалі, у гной ішло.* Бясяды Лаг.

**МА́КАЎНІК** *м.* Тое, што і ма́каўе. *Мак, напэўна, харошы парос: макаўнік тоўсты. Макаўнік жжынаім на потсьціл.* Паплавы Бярэз.

**МАКАЦЁР** *м.* ◊ **Як макацёр** — знешне падобны на макацёр. *Галовы паробяць, як макатрэ, гэтымі прычоскамі.* Цялякава Уздз.

**МАКАЦЁРТ** *м.* Тое, што і макатро́. *Гэта ў нас макацёрт называяцца, пасуда такая, мак тром, кроп.* Пудзіцк Пух.

**МА́КАЦЯ** *ж.* Тое, што і макатро́. *Раней мак цёрлі ў церліцах, макацях такіх, а зараз і ня сеям і ня тром.* Зазерка Пух.

**МАКЕ́РКА** *ж.* Бляшаная баначка. *У макерку мы раней грошы складалі на храненьня.* Кукалеўка Чэрв.

**МАКЛЯ́К** *м.* Нізкае месца з застаялай вадой. *Дзе ты вiдзяла, каб на макляку нешта вырасла.* Краснае Лаг.

**МАКО́ТРА** *гл.* макатро́

**МАКРАСТУ́ПЫ** *мн.; адз.* **макрасту́п** *м.* Басаножкі. *Ляціць у сваіх макраступах, а я ў туфлях такіх, і хочыць, каб я ад яе ні атстала!* Канстанцінава Мядз.

**МАКРЫ́ЦА** *ж. Вет.* Мокры лішай на нагах у коней і буйной рагатай жывёлы. *Макрыца бывае ў скаціны ад балота: тады ногі прэюць.* Рудня Лаг.

**МАКУ́ЛІНКА** *ж.* Тое, што і маґу́лінка. *Сала ў мяне ні во такой макулінкі няма. Як Саша прыяжджаў, то ўсё і з'елі.* Нізок Уздз.

**МАЛАВА́ТЫ** *прым.* Недастасткова па ўзросту. *Мы былі малаватыя, але тожа хадзілі ў калхос, на ўборку гарачаю, дапамагалі.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**МАЛАВЕ́ЛЕ** *прысл.* Трошкі. *Малавеле што ні так, дык патходзіць страшна.* Цвіркі Стаўб.; *параўн.* польск. małowiele 'тс'.

**МАЛАГАДО́ВЫ** *прым.* Малалетні. *Я была шчэ малагадовая, но папрасілася, мяне на работу прынялі даяркай.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**МАЛАДЗЕ́НЕЦ** *м.* Жаніх. *Многа сабралася маладых. І той хлопец быў, што любіў мяне. Як павінчаліся маладзеніц з маладухай, падышоў ён ціхінька да мяне і кажа: „Гэтымі днямі будзім у вас".* Даўгінава Віл.

**МАЛАДЗЁНАК** *м.* Малады, маладзён. *Тожа не маладзёнак быў, як замуж за яго ішла ў дваццаць чатыры гады.* Дрычын Пух.

**МАЛАДЗЯ́Ж** *ж.* Моладзь. *Цяпер маладзяжы з уборамі ляхчэй, хораша ходзяць.* Баяры Віл. *Даўней маладзяш ідзе ў кіно, на танцы, поўныя, сытыя, а цяпер камбінуюць, каб худзейшымі быць.* Лоск Валож.

**МАЛАДНЯ́К** *м. Зб.* Маладыя людзі, моладзь. *Вечароў, як цяпер маладняк робіць, мы ж не рабілі, і не было калі рабіць.* Дрычын Пух. *Маладняку атусюль панаяжджала: і са Скамарошак, і с Асіпаўшчыны.* Савоні Стаўб.

**МАЛАДУ́ХА** *ж.* Маладая, нявеста. *Вылізьлі с застольля і паехалі за маладухай у другое сяло. Маладуха рада: харошы жаніх. І раньня рада: недалёка жыве, ведаюць які.* Восава Круп.

**МАЛАДЫ́** *прым.* Недаспелы, у малочнаваскавой стадыі. *Малады гарох вугры дужа любяць.* Паплавы Бярэз.

**МАЛАЖЭ́ЙШЫ** *прым. Выш. ст. да* маладЫ́. *Я як была трохі малажэйшая, дык добра ўмела вязаць. Забылася цяпер, і вочы ўжо ня тыя.* Дрычын Пух.

**МАЛА́НКА** *ж. Бат.* Расліна з кветкамі ружовага колеру, расце на мокрых месцах. *На лузі столькі маланак расьцьвіло, што кругом усё розавае.* Заямнае Стаўб.

**МАЛАННЯ́** *ж.* Маланка. *Маланьня неба паласуе, аж вочы высмальвае.* Пруды Стаўб. *У тым годзе маланьня жанчыну забіла.* Бытча Барыс.

**МАЛАСО́ЛКІ** *прым.* Недасолены. *Як ты глядзела, што булён маласолкі атрымаўся?* Бытча Барыс.

**МАЛАТА́РШЧЫК** *м.* Малацьбіт. *Малатаршчыкам робіць у нас добры чалавек, ведае*

*справу сваю, отчувае сябе хазяінам на малатарні.* Пудзіцк Пух.

**МАЛАЦІЛКА** *ж.* Малатарня. *Звозяць снапы, складаюць сьцірту, некаторыя сьцірты зьверху саломай накрываюць і стаіць, пакуль не падгоняць малацілку ды не абмалоцяць.* Дукора Пух.

**МАЛАЦІЎКА** *ж.* Тое, што і м а л а ц і л к а. *У яго была свая малаціўка, мы ў яго малацілі.* Цялякава Уздз.

**МАЛАЦЬБІК** *м.* Тое, што і м а л а т а́ р ш ч ы к. *Хведар маладзьбік добры, хутка малоціць.* Вецярэвічы Пух.

**МАЛЕБЕНА** *ж. Рэліг.* Малебен. *От каб гэту штуку [тэлевізар], некалішнія як жылі людзі, занёс у балота, божа мой, што было папоў ба, ксяндзоў, якая была ба малебена! Нячыстая сіла, сказалі ба.* Мікольцы Мядз.

**МАЛЕНЧЫЦЦА** *незак.* Паводзіць сябе, як малое дзіця. *Вялікія дзеўкі, а ўсё маленчацца, рабіць нічога ня хочуць.* Каменка Уздз.

**МАЛЕСЕНЬКІ** *прым.* Малюсенькі. *Вунь каля хаты малесенькія дзічкі растуць, яшчэ і няма на іх нічога.* Пудзіцк Пух.

**МА́ЛЕЦ** *м.* Хлопец, юнак. *Ну, угаварылі мальца ўзяць дзеўку.* Восава Круп.

**МА́ЛЕЧКА** *прысл.* Зусім мала. *Ма́лячка во гэтак во зрабіў і ўжэ плату просіць.* Цялякава Уздз.

**МАЛЁЎКІ** *мн.* Акварэльныя фарбы. *Гэта ж унук прасіў купіць малёўкі яму, калі ў горат паеду.* Мушанка Віл.

**МАЛІЗА** *ж. Бат.* Меліса (Melissa L.). *А тут за хатай малізы дужа многа расьцець, і так яна пахнець, калі ў руках патрэщ.* Плябанцы Віл. *Пчолкі вельмі любяць запах малізы, ляцуць на яе.* Калодкі Віл.

**МАЛІМО́НАЧКА** *ж. Памянш.* Какетка. *А яна і груба́я ўжо хадзіла і такая малімоначка была, не раз ад мужа даставалася за гэта.* Баяры Віл.

**МАЛО́ЖЫ** *прым.* Тое, што і м а л а ж э́ й ш ы. *Ён на два гады маложы за яе.* Рубанікі Мядз.

**МАЛО́ЧНІК** *м.* Малочны зуб. *Малочнікі ў чатыры, у шэсьць месяцаў праразаюцца, як у каторага дзіцяці. А бывая, што і ў год малочнікі йдуць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МАЛЫ́** *прым.* ◊ **Без малога** — амаль, ледзь. *Я, брат, на тым тыдні без малога не забіўсё. Трактар як рвануў, я — аб лёд галавою. Пашанцавало, што аддзелаўсё сіняком.* Савоні Стаўб. **Малая стрэлка** — стрэлка, якая адлічвае гадзіны. *У мяне ў ходзіках малая стрэлка адвальваецца, а так часэ добрыя.* Мікалаеўшчына Стаўб. **Малы барыш** — бытавы абрад знаёмства жаніха і яго сваякоў з нявестай. *Спачатку жаніх ідзе выглядаць у хату, з гарэлкай ідзе. Вып'юць гарэлку — гэта ўжо малы барыш.* Мільча Віл.

**МАЛЬГА́** *ж. Зб.* **1.** Дробная рыбка, малёк. *Малыя рыпкі, або мальга, паяўляюцца ня толькі вясной, але і летам, і восеньню.* Пруды Стаўб. *Во колькі мальгі развялося, увесь берах ахлінулі.* Ляшчынск Мядз. **2.** *перан.* Падлеткі. *Ай, якая ў нас маладзёш! Адна мальга, дзеці.* Нізок Уздз. **3.** Вусень. *Гэты гот і на яблынях і на сьлівах аш чорна было, як усьсела мальга. Папырскаў — дзьве яблыні спаліў усім.* Ігрушка Круп.

**МАЛЬДАВАЦЬ** *незак.* Рэгістраваць. *Чаго ты ня прышоў? Перат сходам усіх прысутных мальдавалі.* Барок Стаўб.; *параўн.* польск. meldować 'тс'.

**МА́ЛЬСТВА** *н.* Маленства. *Дзяцей трэба з мальства прывучаць к паратку.* Жораўка Пух.

**МАЛЬТА́Н** *м.* Мультан. *Мальтан браць на рубашку сама лепяй: і носіцца добра, і цёплы.* Пудзіцк Пух.; *параўн.* фр. molleton.

**МАЛЮ́К** *м. Зб.* Рыбная драбяза. *Мама, палянь, ён адных малюкоў нацягаў! Адны малюкі!* Скамарошкі Стаўб.

**МАЛЮ́ТАК** *м. Пяшч.* Хлапчук. *А ён малютак, канешна ш, быў ніваэрослы, ні знаў нічога пра тое, што вінтоўка зараджана, зьвёў курак і стрэліў.* Мядзел Мядз.

**МАЛЮ́ФКІ** *мн.* Набор каляровых алоўкаў. *У кіёск прывезьлі малюфкі, купіла свайму ўнуку.* Палессе Мядз.

**МАЛЯВА́НІКІ** *мн.* Тое, што і м а л ё ў к і. *Маляванікі былі рузныя ў мяне, і я жалела іх свайму меншаму брату даваць.* Сцебіракі Віл.

**МАЛЯРЭ́Я** *ж. Мед.* Малярыя. *У баю с Калчаком мяне раніла. І мяне спісалі. У бацькоў праляжаў больш як гот: малярэя, курыная сляпата, потым на почкі забалеўшы быў.* Партызанскі Віл.

**МАМІ́Л** *м. Бат.* Белы гарлачык; *гл.* булдо́ўка. *Маміл у вадзе расьце. Маміл нашым дзяўчатам падабаяцца, дак усё хлопцаў просяць нарваць на букет.* Скамарошкі Стаўб.

**МА́МКА** *ж. Ласк. да* ма́ма. ∇ **Слухаўшы мамку, ня мець жаніха.** Кукалеўка Чэрв.

**МАМУ́ЛЬКА** *ж. Ласк. да* ма́ма. *А брат кажа: „Мамулька, аддадзім як людзей, і няхай жыве, як сама знае,і на нас не абіжаецца".* Жары Віл.

**МАМЭ́РЛЯ** *ж.* Павуцінне. *На вокнах гардзіны вісяць, а за імі павук мамэрлю навіў.* Вялікая Вуса Уздз.

**МАНДЭ́РА** *ж.* Гатунак яблык (плод чырвоны з прыемным пахам). *Мандэры на смак кіславатыя, але прыемныя і вельмі ж добра пахнуць.* Ляшчынск Мядз.

**МАНЕ́ЖАВАЯ МАЛАТА́РНЯ.** Малатарня, якая працуе ад коннага прывода. *Былі, праўда, у некаторых і манежавыя малатарні, а большасць цапамі малацілі.* Пудзіцк Пух.

**МАНЕ́РКА** *ж.* Кубак. *Купіла ўчора ў ма-*

*газіне манерку, цяпер буду зь яе малако піць. Харошая манерка, панаравіла мне.* Кукалеўка Чэрв.

**МАНІ́СТА**[1] *ж.* Нізка. *Добрую маністу грыбоў насушыла, надоўга хопіць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МАНІ́СТА**[2] *ж.* Садок, у якім захоўваецца жывая рыба. *Налавіў рыбы вялікую маністу. Рыпка маленькая ўся, але ш такая і нада.* Ляхавічы Дзярж.

**МАНІ́ЦЦА** *незак.* Мець намер, збірацца рабіць што-н. *Сын у стройатрат маніцца ехаць.* Сакольшчына Уздз. *Маніліся шукаць жулікаў і ўкрадзеныя рэчы, але яшчэ нічога не зрабілі.* Бясяды Лаг.

**МАНІ́ЦЬ** *незак.* Вабіць, клікаць, падзываць. *Маніў, маніў да сябе, сьвістаў, але сабачка ўцёк. А такі прыгожанькі быў!* Дрычын Пух. ◊ **Манькі маніць** — фантазіраваць, расказваць байкі. *Вечарам сабіраюцца старыя, каскі расказваюць, манькі манюць.* Задубенне Мядз.

**МАНІ́ШКА** *ж.* Тое, што і к л я т э́ р к а. *Нейкая ў мяне манішка выйшла ніроўная.* Забалоцце Смал.

**МАНКЕ́ТА** *ж.* Манжэта. *У яе такія манкеты бялюткія заўсёды, такая яна ўся чысцінькая.* Язні Віл.; *параўн.* польск. mankiet 'тс'.

**МАНКЁР** *м.* Тое, што і з н а к і́. *Манкёр паламала карова, каб яна здаровая была! Манкёрам жа раткі праводзяць, а яна ўзбілася і паламала.* Такарышкі Іўеў.

**МА́ННАВАЯ КА́ША** *кулін.* Манная каша. *Дзецям вараць маннавую кашу з маннавай крупы.* Бясяды Лаг.

**МАНО́К** *м. Паляўн.* Кліч, выгук, якім у часе палявання падзываюць птушак або звяроў. *Манок — падроблены крык самкі, а самец ідзець на гэты манок.* Саланая Валож. *Манок — гэта калі ашукваюць птушку ці звера разнымі сігналамі, і калі наблізіцца, тады страляюць.* Пруды Стаўб.

**МАНТУ́Н** *м.* Верхняя кароткая жаночая вопратка з фалдамі ззаду. *Калі гладкія плечы былі, то гэта — сак, а ззаду фалдачкі — мантун.* Мікольцы Мядз.

**МАНТЫЛЯ́ЦЦА** *незак.* Хістацца. *Ледзь ідзе, мантыляецца баўдыр гэты!* Узгурск Чэрв.

**МАНЦЮ́ЛЬ** *м. Асудж.* Ілгун, хлус. *Усе дзеці яе добрыя, не скажаш. А гэты дык манцюль у бацьку пашоў.* Завішына Лаг.

**МАНЮ́К** *м. Асудж.* Тое, што і м а н ц ю́ л ь. *Вот манюк, ніколі праўду ні скажа. Усе на вуліцы завуць яго манюк.* Бясяды Лаг.

**МА́ПА** *ж.* Карта. *Калі ведаць добра мапу, то зусім лёхка будзе геаграфію здаваць.* Будслаў Мядз.; *параўн.* польск. mapa 'тс'.

**МАРАЗЯ́КА** *м. Павел.* Маразішча, халадзіна. *Адзенься, сынок, бо сёньня маразяка на дварэ.* Жораўка Пух.

**МАРАЗЯ́НКА** *ж.* Цвёрды верхні пласт снегу. *Як замерзьня сьнех, дзеці павярху, па маразянцы гэтай, катаюцца.* Вязынка Маладз.

**МАРАКАВА́ЦЬ** *незак.* Крыўдавацъ, злавацца. *Цётка маракуя, нават гаварыць ні хоча.* Цялякава Уздз.

**МАРАСІ́ЦЬ** *незак.* Імжыць, асядаць дробнымі каплямі (пра дождж). *А дожджык марасіць і марасіць.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**МА́РАЦ** *м.* Сакавік. *Цэлую зіму прадзём, а ў марцы месяцы тчом.* Дзераўная Стаўб.; *параўн.* польск. marzec 'тс'.

**МАРҐО́ЎНІК, МАРХО́ЎНІК** *м. Зб.* Націнне морквы. *Як тоўсты марґоўнік, дык і морґава добрая.* Ляшчынск Мядз. *Мархоўнік сьвіням рвуць.* Такарышкі Іўеў.

**МАРЗЮ́ХА** *ж. Кулін.* Густая страва з тоўчанага льнасемя. *Некалі й марзюха смачная была, а цяпер сала нікому ні паказвай.* Рудня Валож.

**МАРКА́ЛЬ** *м.* Баран-вытворнік. *Непаклаланы баран дык маркаль, а пакладаны, дык баран.* Вецярэвічы Пух.

**МАРКАЦЦЁ** *н.* Тое, што і ж а б а р ы́ н н і к. *У нас так і гаворуць, жаб'е маркацьцё, тое, ш чаго выводзюцца жабы.* Ігрушка Круп.

**МА́РКЕР** *м.* Тое, што і з н а к і́. *Цягні сюды маркер, пойдзем маркіраваць пад кукурузу. Запрагаюць каня, адзін вядзе каня, а другі пры маркеры.* Ляхавічы Дзярж.

**МАРКО́ВІШЧА** *н.* Месца, дзе расла морква. *На марковішчы можна назьбіраць адыходаў сьвіньням.* Вецярэвічы Пух.

**МАРКО́ЎНІК** *м. Кулін.* Дамашняе пячэнне, у цеста якога дабаўляецца сок з морквы. *Трэба націснуць соку з морґаўкі, каб сьпячы маркоўнікаў.* Калодкі Віл.

**МАРМУ́ЛЬ, МАРМЫ́ЛЬ** *м. Асудж.* Нелюдзімы, негаваркі чалавек. *Наш такі мармуль, зь яго слова ня выцігняш.* Бясяды Лаг. *Я зь ім хачу пагаварыць, а ён нейкі мармыль: слова не даб'есься.* Дукора Пух.

**МАРМУЛЯ́ДА** *м.* Мармелад. *Мармуляду ў магазіне можна купіць, а я дак і сама раблю дзецям. Мармуляда зь яблыкаў робіцца.* Ляшчынск Мядз.; *параўн.* польск. marmolada 'тс'.

**МАРМЫ́ЛЬ** *гл.* марму́ль

**МАРНЫ́** *прым.* **1.** Схуднелы, худасочны. *Яе мужык такі марны, такі зазнаны, увесь у працы, а яна век зжывая гуляючы.* Ляхавічы Дзярж. **2.** Дробны, невялікі памерам. *Картопля нейкая марная сёлета, слаба расьце.* Рубяжэвічы Стаўб. *Бурачкі такія марныя, мала надзеі, што зь іх нешта будзе.* Літва Стаўб. **3.** Дрэнны. *Марнае пáлітка ў яе, трэба новае купляць.* Баяры Маладз.

**МАРО́З** *м. Бат.* Хрызантэма (Chrysanthemum). *А марос як пачынае квітнуць, што красіва, то красіва. Вазьмі, дачушка, кубачак, палі марос, а то завяне.* Літва Стаўб.

**МАРОЗАБО́Й** *м.* Дрэва, пашкоджанае ма-

розам. *Ёлка, дуб ат сільных марозаў лопаюцца, замярзаюць, марозабоямі становяцца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МАРО́ЗАВЫ** *прым.* Пашкоджаны марозам. *Холадна было ў гэтым годзе, дак многа ў нас марозавай бульбы.* Сцебіракі Віл.

**МАРО́ЗІЦЬ** *незак. Экспр.* Хлусіць. *От дзе, таўкач ты гэтакі, але марозіць абы-што!* Вялікая Вуса Уздз.

**МАРО́НА** *ж. Бат.* Маруна (Galium). *У нас вунь каля плоту марона расьце. Пахне падобна рамонку, але мароны ніхто ня рве. І скаціна мароны ня есьць.* Саланая Валож.

**МАРСЯНУ́ЦЦА** *зак.* Дацягнуцца. *Якая ты ў мяне ўжо разумніенькая, вялікая, марсянулася аж да зэдліка.* Вялікая Вуса Уздз.

**МАРТУ́ШКІ** *мн.* **1.** Рознакаляровыя ніткі. *Хто як, а я мартушкамі ткала, палучаяцца пакрывала прыгожая.* Дрычын Пух. **2.** Пакрывала, патканае такімі ніткамі. *Ткалі і ў ніцікі, і ў мартушкі ткала.* Пудзіцк Пух.

**МАРУ́ДА** *ж. Неадабр.* Хто робіць павольна. *Маруда такая, што работа як мокрае гарыць. І ў каго толькі ўрадзілася такая?!* Рубанікі Мядз.; *параўн.* польск. maruda 'тс'.

**МАРХО́ЎНІК** *гл.* марґоўнік

**МАРЦЫКЛЕ́Т** *м.* Матацыкл. *Цяпер многія ў нас марцыклеты займелі. І ў майго сына марцыклет ёсьць, купіў нядаўна.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МАРЦЫПЛЯ́СЫ** *толькі мн.* Нешта невыразнае, бясформеннае, розныя выкрутасы. *Той раз як былі, Іра мне спорціла два канверты. Да гэткія харошыя канверты! Я думала ў Польшчу пісьмо пашлю ў гэтых канвертах, а яна ўзяла Дзеду Марозу бараду зялёную намалявала і яшчэ некіх марцыплясаў навешала.* Савоні Стаўб.

**МАРША́ЛАК** *м. Абрад.* Удзельнік вясельнага рытуалу з боку жаніха. *У яго маршалкі, а ў маладой закосьніцы. Маршалкаў абвязваюць ручнікамі.* Бясяды Лаг.

**МАРШЧА́ТЫ** *прым.* Маршчыністы. *Цяпер яна старэй за мяне выглядая, маршчатая, худая.* Цялякава Уздз.

**МАРШЧЫ́НА** *ж.* Трэшчына. *Старэюць яблыні, на ствалах маршчыны с кожным годам глыбеюць.* Вішнева Валож.

**МАРЫНАВА́ЦЦА** *незак.* Хваляваца. *Чаго ты, дурненькая, марынуясься; прыедзе ён пасьледняй электрычкай, а ты лепш беражы сябе і дзіця.* Баяры Маладз.

**МАРЫНА́РКА** *ж.* **1.** Пінжак. *Падляці ў краму, там файныя марынаркі прывязьлі. Кажуць, зраньня і ясёнкі былі.* Забалоцце Смал. **2.** Фуфайка. *Памерала марынарку, натта доўгія рукавы, і не купіла.* Палачаны Маладз.; *параўн.* польск. marynarka 'тс'.

**МАРЫНДА́ТАЧКА** *ж.* Пінжачок. *Надзеў марындатачку, сярмягу, узяў кій у рукі і пашоў кульгаючы. Прайшоў! Немцы не зачапілі.* Логавіны Мядз.

**МА́РЫЦЦА** *незак.* Мучыцца, таміцца. *Чымся марыцца так, лепі паліжоў, хоць ня ўежна, так улежна.* Бяларучы Лаг.

**МА́СА** *ж.* Кантора. *Стары мой браў у масе етую бумагу, і вам нада схадзіць у масу.* Дрычын Пух.

**МАСА́РНЯ** *ж.* Кілбасная. *Ён мо ш чатырнаццаці гадоў у масарні робіць.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. masarnia 'тс'.

**МАСКА́** *ж.* Тоненькі лісточак пад карой на ліпе. *А маска на ліпе якая смачная, белінькая, салодзінькая.* Ігрушка Круп.

**МАСЛЁНІК** *м. Бат.* Масляк (Suillus luteus). *Масьленікі натта ш смачныя грыбы, асабліва мочаныя ды са сьмятанай. А я ўжо цяпер ведаю, дзе масьленікі растуць.* Дрычын Пух.

**МАСЛЁНКА** *ж.* Бойка. *Масьлёнка – гэта такая высокая дзежачка с крышкай і бойцам.* Якімаўка Круп.

**МАСЛЁНКІ** *мн. Кулін.* Тоўчанае льняное семя з соллю. *Навару шаймораў поўны чыгун, высыплю на стол, дзеці макалі імі ў масьлёнкі і елі.* Бясяды Лаг.

**МАСЛІ́НОК** *м.* Баціставая хустка. *Унучка прывезла мне масьлінок, дак я яго адразу завязала на галаву.* Рудня Чэрв.

**МАСЛІНО́ЎКА** *ж.* Фабрычнага вырабу шарсцяная хустка ў кветкі. *У цёткі Марылі ёсьць даўнішняя масьліноўка, на тэй цьвяты як жывыя, заглядзеньне.* Аздзяцічы Барыс.

**МАСЛЮ́К** *м.* Тое, што і м а с л ё н і к. *Масьлюкоў як назьбіраяш, намарынуяш, тады з бульбай, салам так добра есьці.* Скамарошкі Стаўб.

**МАСЛЯ́К**[1] *м. Заал.* Слімак з ракавінай. *Масьляк, пакажы рошкі, дам табе на пірошкі.* Вецярэвічы Пух.

**МАСЛЯ́К**[2] *м. Кулін.* Тое, што і к а л а п н я́ н а е м а л а к о́. *Елі постам кісель з аўса, мак цёрлі, боп варылі, гарох. С канапель масьляк таўклі ў ступя.* Глушка Пух. *А дзе прадзём, назносім калапень і масьляк таўчом, грыбоў сушоных прынясём і друцу кіслаю варым.* Альсевічы Мядз.

**МАСЛЯ́К**[3] *м. Кулін.* Бульбяная каша, запраўленая тоўчаным канапляным семем з цыбуляй. *Калі тоўчаную бульбу запраеіць не толькі канапляным семям, а трошкі і цыбулькі дабавіць, то смак масьляк другі маіць.* Калодкі Віл.

**МАСЛЯКІ́** *мн. Кулін.* Мачанне з канапель і цыбулі. *Узяць канаплю с цыбуляй, патаўчы ў ступцы жалезным болцікам, вот табе і масьлякі. Масьлякамі запраўлялі капусту.* Баяры Маладз.

**МАСЛЯ́Н** *м. Бат.* Тое, што і м а с л ё н і к. *Смашны дужа грып масьлян, казяком завуць шчэ яго. Як маленькі масьлян, дык шапачка

*падысподам плевачкай зацятая, сьлізінькай такой белінькай.* Нядаль Барыс.

**МАСЛЯ́НКА** *ж.* Маслёнка. *У нашай сям'і ніхто масьлянку ня есьць, я кабану ўсю вылівою.* Баяры Маладз. *Масьлянка і да бульбы добра, добра і выпіць масьлянкі ў гарачы дзень.* Муляры Віл.

**МАСТЫҐАВА́ЦЦА** *незак.* Дурэць, сваволіць. *Ну што ты мастыґуясься, як малая?!* Вішнева Валож.

**МАСЦЕРАВЫ́** *прым.* Майстравы. *Алесь масьцеравы, рабіў слесарам па пятаму разраду.* Савоні Стаўб.

**МАСЦЬ** *ж.* Мазь. *На два рублі масьці купіла, нага баліць, дак націраць буду.* Дукора Пух.

**МАСЦЯ́РКА** *ж.* Работніца, майстар сваёй справы. *Бывала, калі ў сям'і было шмат дзяўчат, трэ было маці быць добрай масьцяркай, каб навучыць дачок усякаму труду.* Вялікая Вуса Уздз.

**МА́СЯ** *м. Абразл., зневаж.* Неахайная жанчына. *Чаго ты раскрычалася? Памыйся лепш схадзі, мася ты!* Ціханава Слабада Стаўб.

**МАТАПЕ́Д** *м.* Лёгкі матацыкл з педальным прыводам. *Тамара, дай мне твоіх каблукоў адзець, а то ў мяне біс каблукоў нага нікрасівая. — Шчэ ты мне што прыдумай! — Ну й ланна, я й без іх на матапедзі дамоў прыеду.* Бяларучы Лаг.

**МАТАРЗА́К** *м.* Тонкая вяроўка. *Прынёс Васіль матарзак, дык вот жа ліха якое, — кароткі. Прыйшлося прывязаць і такім.* Баяры Маладз.

**МА́ТАРКА** *ж.* Маці. *Калі тыя хлопцы прыдуць с арміі, то матарка ляпій знае, чым мы.* Дрычын Пух.

**МАТАРО́ЛІК** *м.* Тое, што і м а т а п е́ д. *Сын усё хадзіў за мной, усё хадзіў, прасіў. Я і купіла яму матаролік, хай ездзіць.* Сасноўшчына Віл.

**МАТА́ЦЬ** *незак. Экспр.* Ісці подбегам, крочыць шпарка. *Думала, у Вялейцы яго ўвіжу, аж матаіць сам, а страшны-страшны!* Малмыгі Віл.

**МА́ТКА** *ж.* Ласкавы зварот да жанчыны. *У нас гаспадар ласкавы, да ўсіх жанчын зьвяртаецца: „Матка ты мая".* Кузьмічы Мін.

**МАТЛАХО́Н** *м. Абразл.* Непаседлівы чалавек. *Ніколі не застаніш дома твайго матлахона.* Краснае Лаг.

**МАТРО́СКА** *ж.* Блузка. *Матроска пашыта с капрону, спаднічка чорніңькая.* Палессе Мядз.

**МАТУ́З** *м.* Вузел. *Навязала сто матузоў, а цяпер папробуй разьвяжы!* Заямнае Стаўб. *Нашто ты матузы на хусцы навязала? Разьвяжы!* Рубяжэвічы Стаўб.

**МАТУ́ЛЬКА** *ж. Ласк.* Матуля. *Ён [старац] за гэту карзіну і панёс. Прынёс гэтым старым і кажа: „Матулька, татулька, наце вам гасьцінца". А сам пашоў.* Малое Стахава Барыс.

**МАТУ́ЛЯ** *ж.* Хрышчоная маці. *Мама — гэта родна, а матуля — хросная.* Бытча Барыс. *Трэба было б да матулі схадзіць, а да брацельніка ўжо заўтра.* Суднікі Мядз.

**МАТУЛЯ́ЦЦА** *незак.* Матляцца (пра валасы). *Прыехаў унук з горада, валасы матуляюцца, а яму хоць бы што.* Дрычын Пух.

**МАТУ́НЯ** *ж.* Мама. *Тады й трэцьця сьвята настала. Іна зноў бядуе: „От у нас усё ёсь, а ў татуні, матуні нічога німа".* Малое Стахава Барыс.

**МАТУ́СЯ** *ж.* Тое, што і м а т у́ л я. *Вунь мая матуся ідзе, яна мяне хрысьціла.* Ігрушка Круп.

**МАТЫКАВА́ЦЬ** *незак.* Матычыць, рыхліць матыкай. *Ганна столькі бульбы ў гародзе насадзіла, што з дачкой ужо трэці дзень матыкуюць і канца яшчэ ня відно.* Малмыгі Віл.

**МАТЫЛІ́ЦА** *ж. Мед.* Захворванне авечак і коз, выкліканае лічынкамі стужачных глістоў. *Вельмі цяжкая хвароба гэта матыліца. Бывае і дохнуць авечкі.* Вецярэвічы Пух. *Матыліцы ў авечак.* Пудзіцк Пух.

**МАТЫ́ЧКА** *ж. Памянш.* Матыка. *Я перш матычкай б'ю, а пасьля рукамі траву выбіраю.* Ляшчынск Мядз.

**МАТЭ́РЫЯ** *ж.* Гной з нарыва. *Колькі ў цябе матэрыі сабралася ў ране! Ні трэба ж было да гэтага дапускаць.* Гілікі Валож.; *параўн.* польск. materia 'тс'.

**МАЎМЫ́РА** *м.* Тое, што і м а р м у́ л ь. *Соваіцца, соваіцца, нічога не кажучы. Вот дык маўмыра!* Паплавы Бярэз.

**МАЎЧА́НІШЧА** *м. Асудж.* Тое, што і м а р м у́ л ь. *Маўчанішча, як цялё божае, ні гаворкі зь яго, ні гамонкі.* Турын Пух.

**МАЎЧЛІ́ВЫ** *прым.* Негаваркі, маўклівы. *Яна такая маўчлівая, усё маўчыць, усё маўчыць.* Язні Віл.

**МАХ**[1] *м.* Веліч (пра высокага чалавека). *Брыгадзір наш онь які мах, а важыць усяго пійсят тры кілі.* Савоні Стаўб.

**МАХ**[2] *выкл.* Ужываецца для абазначэння хуткага руху (*ад дзеясл.* махнуць). *Карова ў калідоры стаяла прывязана. Яны пайшлі ў хату і тупацяць там, каб ні чутно было, а я прывязь мах і вон.* Бяларучы Лаг.

**МАХА́ЦЬ** *незак.* ◊ **Хоць махалам махай** — занадта многа. *У нас пацукоў летась у склепе было хоць махалам махай. Як выбягуць да каровы — тая на сьцену дзярэцца.* Баяры Маладз.

**МАХЛА́К** *м. Асудж.* Неахайны чалавек. *А гэтыя нейкія махлакі, у падраных гразных рубашках ходзяць, гадасьць.* Зазерка Пух.

**МАХЛЯ́Р** *м. Асудж.* Тое, што і м а н ц ю́ л ь. *Ня слухай гэтага махляра; ён сем карабоў нагаварыць можа.* Суднікі Мядз.

**МАХНЎШКА** *ж.* Галавешка. *Як не дагараць дровы, не пасьпеюць ды зальеш, махнушкі застаюцца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МАХНЫТКА** *ж.* Тое, што і махнўшка. *Калі гарыць агонь, то застаюцца махныткі, кусочкі дрэва, якія тлеюць.* Узгурск Чэрв.

**МАХÓРЧЫКІ** *мн.* **1.** Свабодна звісаючыя ніткі па краях вырабу. *Махорчыкаў нацягаем кругом хусткі, от прыгожа было! Я ўсюды, дзе можна, выцягвала махорчыкі.* Пудзіцк Пух. **2.** *бат.* Тонкія адгалінаванні кораня расліны. *Як есьці моркаву, то трэба махорчыкі пачысьціць на ёй.* Дукора Пух.

**МАХÓТКА** *ж.* Гліняны гаршчочак. *Картоплі стушыла ў махоцы, выняла махотку сь печы, аж яна раскалолася там, дзе было надтрэснута.* Узгурск Чэрв.

**МАХРÁ** *ж. Зб., бат.* Тое, што і махóрчыкі (у 2 знач.). *Таня, абрэж махру на моркаўцы ды нясі сюды дзяўчаткам.* Нізок Уздз.

**МАХРÁТКА** *ж.* Гатунак бульбы (дробная, але ўрадлівая). *Вот тая картопля-махратка, што пат карчом многа, але маленькая, добра разваруяцца.* Цялякава Уздз.

**МАХРÁЧ** *м.* **1.** Кавалак саматканага палатна з канцамі асновы, заплеценымі ў косы. *Як махрачом сьцебану колькі разоў, тады слухаіцца.* Мацькаўцы Віл. **2.** Кухонны ручнік. *Вось як вазьму махрач, дык я табе пакажу, як ня слухаць матку.* Буцькавічы Стаўб.

**МАХРАЧЫ́** *мн.; адз.* **махрáч** *м.* **1.** Шнуркі, тонкія вяровачкі. *А тады прывязваюць ніткі [аснову] да пруточка, а гэты пруточак прывязваюць да махрачоў, а махрачы — да навоя і затыкаюць.* Баранцы Віл. **2.** Махры. *Я як прышла ў хату, дык мама за надзежнік з махрачамі ды „ваўку" гэтаму па хвасце! [воўк — пастушок, апрануты ў вывернуты шэрсцю наверх кажух, каб распалохваць авечак].* Цеплень Уздз.

**МАХРÁЧЫК** *м.* Тое, што і махóрчыкі (у 2 знач.). *Што на моркаве расьцець, збоку, такія тонянькія карэньчыкі — махрачыкі.* Вялікая Вуса Уздз.

**МАХРАШЫ́** *мн.* Карэньчыкі цыбулі. *Як пляцём цыбулю, махрашы абразаім.* Такарышкі Іўеў.

**МАХЎСЕНЬКІ** *прым.* Малюсенькі. *Кармавая сялітра — гэта такія махусянькія драбінкі.* Дрычын Пух.

**МÁЦА** *ж.* Саламяны мат, якім закрываюць вокны ад холаду. *Ты ўмееш мацы плесьці?* Нізок Уздз.

**МАЦАВÁЦЦА** *незак.* Есці. *Мацуйцеся, дзеткі, работа будзе нялёхкая, прагаладаецяся.* Маладзечна Маладз.

**МАЦАВÁЦЬ** *незак.* Прабаваць моц. *Накрасяць яец, а тады мацуюць, якое выбраць на біtку.* Кузьмічы Мін.

**МАЦÁК** *м.* Моцнае яйка для гульні ў біткі. *Як выбяраш добры мацак, то выйграяш некалькі яйцаў. Мацаком можна было выбіць са два дзесяткі.* Дукора Пух.

**МАЦÉРА** *ж.* Тканіна, матэрыя. *Зайдзі ў магазін, мацеры навезьлі ўсякай, мо што сабе выбяраш.* Пудзіцк Пух.

**МАЦЁРЫ** *прым.* Моцны, здаровы. *Ну і мацёрая ў цябе жонка! Глянь, як яна ў печы варочая!* Вязынка Маладз.

**МАЦЁРА**[1] *ж.* Свінаматка. *Ядзя дзьве мацёры сёліта дзяржыць.* Вішнева Валож. *Ня есьць мая мацёра нічога, ня ведаю, што рабіць.* Скамарошкі Стаўб.; *параўн.* польск. maciora 'тс'.

**МАЦЁРА**[2] *ж.* Старая бульбіна, з якой вырасла маладая. *Нешта мацёра сёлята ні пагніла. Выкапаяш, зьверху як маладая, а на ваду ўскіняш, плавая.* Ляхавічы Дзярж.

**МАЦЁРАЗНА** *прысл.* Вельмі моцна. *Трымаў ён так мацёразна, што вырвацца ня было як.* Каменка Уздз.

**МÁЦІ** *ж.* ∇ **Як маці памрэ, дак бацька асьлепня.** Цялякава Уздз. ◊ **У чым маці радзіла** — зусім голы, без ніякага адзення. *А іна кажа: „Я ні палезу. Я голая, у чым маці радзіла". А ён усі роўна кажа, вылізай* (з казкі). Малое Стахава Барыс.

**МАЦІЛІННЕ** *н.* Тонкая лёгкая тканіна. *Быў у мяне празрысты шалічак з маціліньня.* Забалоцце Смал.

**МАЦІСТ** *м. Мед.* Мастыт. *Наша сусетка пасьля дзіцяці на мацiст хварэла.* Паплавы Бярэз.

**МÁЦІЦА** *ж. Будаўн.* Бэлька. *На маціцы столь кладуць.* Пагост Віл. *Хатка такая старая, што маціцы шашаль паеў.* Баяры Маладз.

**МÁЦЯРКА** *ж.* Маці. *У іх жа мацяркі былі, а ў мяне ня было, і ня помню яе зусім.* Пудзіцк Пух.

**МАЧ** *м.* Сахор. *У суседзяў мач вазялі, бо свайго ня маям. А так без мача дрэнна.* Кузьмічы Мін.

**МАЧÁКА** *ж. Кулін.* Тое, што і калапняна малакó. *Або йшчэ сушылі каноплі, церлі, лілі ваду, працэджвалі, палучалася як мачака густая. Пяклі праснакі, елі з гэтай мачакай.* Вязынка Маладз.

**МАЧÁЛІНА** *ж.* Нізіна, якая ніколі не высыхае. *Туды не хадзіця, бо прас тую мачáліну ня пройдзіш.* Хожава Маладз.

**МАЧАНЁЦ** *м.* Вымачаная траста. *Нядзелі дзьве траста ліжала ў рацэ, тады гэтую вымачаную трасту, ці мачанёц, слалі на ржэўніку і ён выляжваўся.* Якімаўка Круп.

**МАЧАНІЧНІК** *м.* Фарбавальны раствор з балотнай руды. *Сама пашые спадніцу, пакрасе плётачкі [карункі] у мачанічніку і прышыя. На мачанічнік рудую ваду з балота нясуць.* Баяры Маладз.

**МАЧÁНКА** *ж. Кулін.* Цёрты тварог са смя-

танай. *Але перш маці давала есьці капусту ці буракі, а пасьля бліны з верашчакай, потым бліны ці аладкі з мачанкай.* Жары Віл.

**МАЧА́НКІ** *мн. Кулін.* Піражкі з кіслага дражджавога цеста, палітыя салодкай смятанай. *Мачанкі с кіслага цеста пяклі. Студзілі, а тады ў сьмятанку салоткаю кідалі, чуць, чуць дзіржаліся там, а тады вынімалі, на тарэлкі клалі, а хоць калі яшчэ й сахару зьверху сыпалі.* Задубенне Мядз.

**МАЧО́НЫ** *у знач. прым.* Прыгатаваны мачэннем. *Лён без галовак, які мочаць у вадзе, называюць мачоны лён.* Ратуцічы Барыс.

**МАЧУ́ЛА** *ж.* **1.** Сажалка. *Мачула цінай зялёнай пакрытая, камары слупам уюцца над ёй.* Заазер'е Віл. **2.** Лужына. *Раней за вёскай у нізіне заўсёды мачула была пасьля вялікага дажджу, а зараз асушылі, скарчавалі там і сеюць траву.* Літва Стаўб.

**МАШАТА́** *ж. Зб.* Машкара. *Машаты ўсякай шмат у нас, а кусьлівая такая!* Такарышкі Іўеў.

**МАШКАТА́** *ж. Зб.* Тое, што і м а ш а т а́. *У нас большасьць людзей называюць мошак машката. Машката дробная як мак, а пячэ.* Бясяды Лаг.

**МАШЫ́НКА** *ж.* **1.** Кнопка. *Можа дзе нарвесься на чорнянькія машынкі, купі, мне ў кофту трэба.* Нізок Уздз. *Што ш ты мне купіла чорныя машынкі?! Мне ш патрэбны белыя — на суконку выпускную белую.* Літва Стаўб. **2.** Запальніца. *Ты ж гэту машынку даўно нажыў і ня ўмееш паліць?!* Ляшчынск Мядз. *Мне сьпічкі ня трэба цяпер, ест машынка.* Дукора Пух.

**МАШЫНКО́ВЫ** *прым.* Які прызначаецца для шыцця на швейнай машыне. *Машынковыя іголкі пад нумарамі, завіся гэта ад мацір'ялу, з якога што шыіш.* Рудня Лаг.

**МАШЫНО́ВЫ** *прым.* Тое, што і м а ш ы н к о́ в ы. *Ёсь таўстыя і тонкія машыновыя іголкі. Дзе што грубейшая шыць, дык добра таўстой машыновай іголкай, а тонкай — ёмка вышываць.* Рудня Чэрв.

**МАШЫНО́ЎКА** *ж.* Інкубатарнае кураня. *Вазілі нядаўна машыноўкі, я ўзяла дзесяць штук.* Бяларучы Лаг.

**МАЯ́К** *м. С.-г.* Прыстасаванне, на якім сушаць канюшыну, траву. *Канюшыну можна сушыць на маяку, с трох жэрдак робяць, на сошцы.* Такарышкі Іўеў.

**МГА** *ж.* Малы дробны дождж́ык, імжа. *Ня люблю я восянь, бо ўвосянь мга ўсё сыпляцца і сыпляцца. С хаты ня выйдзі.* Вялікая Вуса Уздз.

**МГЛА** *ж.* Тое, што і м г а. *Во, глядзіця, як мгла даль затуманіла.* Пруды Стаўб.

**МЕДА́ЛІК** *м. Памянш.* Медальён. *Ён жа хлопец, а на нітацы ў яго медалік вісіць.* Завішына Лаг.

**МЕ́ДЗЯНЫ ПА́ЛЕЦ.** Мезенец. *Медзяны паліц у мяне пасьля таго, як парэзала яго жнучы, стаў крывы.* Саланая Валож.

**МЕДУНІ́ЧКА** *ж.* Гатунак салодкіх яблык, якія пахнуць мёдам. *У маім садзе толькі дзьве мядунічкі растуць.* Вецярэвічы Пух.

**МЕ́ЖДЫ** *прыназ. з родн.* Паміж. *Не, мы не тут жылі раней, межды Мядзела і Кабыльніка жылі.* Ляшчынск Мядз.

**МЕ́ЙСЦА** *н.* Места. *У адном мейсцы жыў цыган. Як надумаецца цыган што зрабіць — зробя.* Мікольцы Мядз.; *параўн.* польск. miejsce 'тс'.

**МЕ́ЛІВА** *н.* Зерне, прывезенае для памолу. *Завозьнікі меліва прывезьлі, дзяцька меліва прывёс, а млын не працуе.* Турын Пух.

**МЕ́ЛТА** *ж. Кулін.* Ежа, прыгатаваная з аўсянай мукі. *Гэта авёс абмалочаны апсякаюць, параць, мелюць, муку гэту разводзяць на вадзе, а потым з алеем і ядуць. Цяпер-то так ні робяць.* Баяры Маладз.

**МЕ́ЛЬНІЦА ВЕ́ТРАНАЯ.** Вятрак, ветраны млын. *Ветраная мельніца стаіць на гары, за вёскай.* Мікольцы Мядз. *Раней была ветраная мельніца, а цяпер мельніца работая ат сьвету.* Вішнева Валож.

**МЕ́НІ** *прысл.* Менш. *Дактары заключэнне далі, каб радзіцелі мені перажывалі.* Мушанка Віл.

**МЕ́ННЕ** *н.* Імя. *Як яго меньня?* Кухцічы Уздз. *Людміла мне вельмі наравіцца, а зараз даўнія меньні варочаюцца.* Жызнава Віл.

**МЕ́НТА** *ж.* Тое, што і к а л а т у́ ш к а. *Вазьмі менту ды памяшай юшку.* Буцькавічы Стаўб.; *параўн.* літ. meñtė 'тс'.

**МЕРАЖКАВА́ЦЬ** *незак.* Вышываць, аздабляць мярэжкай. *Глядзі ты, во як спадніцу мерашкуя, васількі як жывыя.* Кухцічы Уздз.

**МЕ́РАН** *м.* Дзесяцілітровы бачок. *Ссып муку хоць у меран, бо вады цяпер туды не льём.* Ціханава Слабада Стаўб.

**МЕРҐАВА́ЦЬ** *незак.* Размяркоўваць. *Прасьціраднаў даю я вам толькі шэсць: мярґуйце самі, як пасланць.* Рубяжэвічы Стаўб.

**МЕРКАВА́ЦЦА** *незак.* Дзяліцца, мірыцца. *Ото ж добрыя людзяны: апошнім памяркуюцца.* Студзянец Валож.

**МЕ́СТА** *н.* Цэнтр мястэчка. *Я іх бачыла ўчора ў нас на месьця.* Дукора Пух. ◊ **Не места** — не павінны знаходзіцца, быць. *Прыедуць: зяць ў парцізанах, дачка ў парцізанах, вам тут ні места, зьністожым.* Каранец Бярэз.

**МЕ́СЦА** *н.* Горад. *У месца еду па мануфактуру, мо прывесьці чаго?* Рубяжэвічы Стаўб. ◊ **На месцы** — адразу, тут жа. *Брата забілі тут жа, на месцы.* Снягла Віл.

**МЕ́СЦІЦЦА** *незак.* Размяшчацца, мець прытулак. *У дзеда сям'я была вялікая, два сыны было, жанатыя абодва. У старэйшага бы-*

*ло восім сыноў і тры дачкі, а ў меньшага — шэсць дачок і адзін сын. І ўсе жылі ў адной хаце, усе месьціліся.* Ільля Віл.

**МЕ́СЯЦ** *м.* ◊ **Як малады месяц** — пра чалавека, якога чакалі, але ён не прыйшоў своечасова (параўнанне з маладым месяцам, маладзіком, які, з'явіўшыся на гарызонце, хутка заходзіць). *Ідзі адзявай рубашку няйлонавую да пойдзем на баль, а то позно. Мужыка ня выцягнуць, і Шура тожа, як малады месяц. Сказала, што прыдзе, а самой няма.* Валеўка Навагр.

**МЕ́ТРА** *ж.* Метр. *Як ужо летась да сьняге былі, усюды набіла: і ў хлеў, і ў студню, на цэлую метру ляжаў.* Пруды Стаўб.

**МЕХ** *м.* ◊ **Што ў мяху (у мяшочку) вісіць** — пахмурна. *Сёня, мусіць, пагода будзя порціцца, цэлу раніцу што ў мяху вісіць. Што ў мяху! На сэрцы нек млосно. І гусяняты пад крыло хаваюцца. Усё вісіць як у мяшочку, невядомо, ці распагодзіцца. Мусіць, дошч будзя. Цяпер трэба пагоды месяцаў два, каб уваўбраць усё, а тут вісіць і вісіць як у мяху.* Валеўка Навагр.

**МЕХАНО́ША** *м. Уст.* Чалавек, які насіў мех валачобнікаў. *Механоша насіў вялікую торбу, у якую складалі яйкі і ўсё, што давалі валачобнікам.* Забалоцце Смал.

**МЕЦЬ** *незак.* ◊ **Мець галаву** — быць разумным, кемлівым. *А цяпер што? Маеш галаву — вучыся, табе памагаюць, плацяць, шчэ і бацьку благадарыць.* Мікольцы Мядз. **Мець ганьбу** — мець які-н. недахоп, загану. *Во ў сусеткі была пляменьніца. Хоць, праўда, і ганьбу невялічкую мела, але найшла такога мальца, што цяпер жывець і гора ні знаець.* Ігрушка Круп.

**МЕШАНІ́НА** *ж. С.-г.* Віка-аўсяная сумесь. *Учора ўжо кончылі касіць мішаніну на сілас.* Трыгузі Віл.

**МЕ́ШАНКА** і **МЯША́НКА** *ж.* Тое, што і м е ш а н і н а. *Пара жаць мешанку ды даваць каровам.* Палачаны Маладз. *Бяжы пагані хучэй каровы, бо яны ўжо на мяшанку узлезьлі.* Ляшчынск Мядз.

**МЕ́ШАНЫ** *прым.* Разнародны. *У нас усякіх слоў хапаіць, дарагія мае, у нашай меснасьці язык мешаны.* Жызнава Віл.

**МЁДЗЕЦ** *м.* ∇ **У вочы зь мёццам, за вочы — с перцам.** Кроква Лаг.

**МЁТКА** *ж.* Нізка рыбы на дубчыку. *Калі на дупчык нанізваюць рыбу, то завецца мётка.* Вецярэвічы Пух.

**МЖА́КА** *ж.* Тое, што і м г а. *Нейкая мжака ідзе сёньня, а я ж у цэнтр зьбіралася ехаць.* Забалоцце Смал.

**МІЖЛЕ́ССЕ** *н.* Вузкая палоса лесу паміж асноўнымі ляснымі масівамі. *Як пройдзеця гэта міжлесьсе, там бор пачынаяцца, дзе ягадных мясьцін многа.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МІЖЫ́ПАРНІЦА** *ж.* Нарыў паміж пальцаў. *У міне была калісь міжыпарніца між пальцаў на левуй руцэ. Намучылася.* Цялякава Уздз.

**МІЗ** *прыназ. з родн.* Між, паміж. *На адзін бок і другі — балота, а пасярот сухая сьцежачка, міз балота гэта сьцежачка.* Плецівішча Чэрв.

**МІЗГРА́** *ж.* Хвароба пладовага дрэва, адпарваецца кара. *Калі ў сакавіку месяцы прыпёк, сонца адагрэе кару, а ноччу прыхопіць мароз, такая кара адмярзае. Засыхае потым дрэўца. Калі атпарваецца кара — гэта і ёсьць мізгра.* Паплавы Бярэз.

**МІКО́ЛА** *м.* Рэлігійнае свята 9 мая і 6 снежня ст. ст. ∇ **На гаду два Міколы: адзін галонны, другі халонны.** Вецярэвічы Пух. **Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, а бяры сявеньку і сей памаленьку. Да Міколы ня будзя зімы ніколі.** Хожава Маладз.

**МІЛАНО́ВЫ** *прым.* Нейлонавы. *Глядзіця, кляёнка празрыстая, як мілановыя рубашкі, красівая.* Вялікая Вуса Уздз.

**МІЛЕ́Ц** *м. Бат.* Крываўнік (Achillea L.). *На ніскіх паплавах трапляецца мілец.* Вецярэвічы Пух.

**МІЛУВАЦЬ** *незак.* Спачуваць. *Я дак заўсёды шкадавала людзей, мілувала.* Дрычын Пух.

**МІЛЬГА́ЦЦА** *незак.* Мітусіцца. *Яна мільгаяцца туды і сюды, а нічога не зрабіла.* Дукора Пух.

**МІ́ЛЬТА** *ж. Кулін.* Тое, што і м е́ л т а. *Авёс паруць у печы, а потым сушуць на печы, аптаўкаюць у ступі і робяцца зернюшкі сушоныя. Патом вязуць у прут і мелюць гэтыя зернюшкі на муку. Яе сеюць, каб ні было касьцюлкі з аўса. Муку комшуць і ядуць гэту мільту.* Ратуцічы Барыс.

**МІНО́РАЧКІ** *мн.* Парода курэй. *Куры тракія на выстаўца: былі шарыя, і белыя былі адны вялікія, а другія былі маленькія некія, такія мінорачкі.* Калініна Дзярж.

**МІНУ́ТНІК** *м.* Мінутная стрэлка гадзінніка. *Стрэлкі як дзьве, тады мінутнік адлічвае мінуты, а сякунды — сякуднік.* Саланая Валож.

**МІР** *м. Уст.* Навакольныя вёскі. *Даўней пачышчай гулялі, як ціпер. Як найдзя с усяго міру хлопцаў да дзевак, гуляюць чатыры ньні.* Ялча Чэрв.

**МІРАЛЮБІ́ВЫ** *прым.* Таварыскі. *Міралюбівы — як наш прэтсядацель сельсавета, с кожным пагаворыць, дась савет.* Вецярэвічы Пух.

**МІРМАТА́ЦЬ** *незак.* Мармытаць. *А ён мірмоча нешта і ўсё б'е па кані, і ўсё б'е па кані!* Пудзіцк Пух.

**МІРО́ЖЫ** *мн. Рыб.* Сетка для зімняга лову. *Відаць, у міројкы заплыў вялікі шчупак, а яны старэнькія былі, парваў і выраўся. Пры-*

*шлося новыя міроokы купляць, а гэтыя выкідваць.* Нарач Мядз.

**МІСНІ́К** *м.* Невялікая драўляная шафачка, прыбітая да сьцяны, у якой захоўваецца посуд. *Пасуды ўжо многа сабралася, трэба можа другі місьнік рабіць, ці то бухвет купіць.* Сцешыцы Віл.

**МЛЕ́ЧНІЦА** *ж.* Месца, дзе захоўваецца малако. *Зараз з млечніцы прынясу малака. У млечніцы яно добра стаіць, папеця с хлебам.* Каменка Уздз.

**МЛІН**[1] *м.* Млын. *Сама ўжо ня буду, а павязу збожжа ў млін, там зьмялю.* Вецярэвічы Пух.

**МЛІН**[2] *м. Кулін.* Блін. *Мама ўмее мліны пячы вельмі смачныя, а я яшчэ не навучылася.* Азеркі Мядз.

**МЛІНО́ВІШЧА** *н.* Месца, дзе стаяў млын. *Дзе млін быў, там і мліновішча зваць. Гэта як у Стаўпцы ехаць, стаяў футар, жыў мельнік, мельнік дзяржаў млін. Потым вада прапала, млін разваліўся, і цяпер толькі мліновішча засталося.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МЛОСЬ** *ж.* Млосць, непрыемнае пачуццё слабасці. *То Алёшку марыла гэтая млось, то зараз мяне. І што гэта такое?* Бубны Віл.

**МЛЯЧА́РНЯ** *ж.* Малочна-прыёмны пункт. *Млека ня носіць, мусіць, у млячарню, масла робяць, сыры ядуць.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. mleczarnia 'тс'.

**МНО́ГА** *прысл.* Доўга. *Пасадзілі за стол [маладога з дружынаю]. Тады многа ж ні гулялі, як цяпер. Пачаставаліся і ладзяцца ад'яжджаць.* Восава Круп.

**МНОЖ** *ж. Зб.* Мноства. *Той год у нас такая множ яблыкаў была!* Каменка Уздз.

**МНО́ЗАЗНА** *прысл.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. *Но й гэты год ягад у лесі, ягад мнозазна!* Заямнае Стаўб. *Як мнозазна ў гэтым годзі народу прыехала сюды на канікулы!* Рубяжэвічы Стаўб.

**МНЮХ** *м. Заал.* Тое, што і в я ґ а л а. *Пачынаім чысьціць мнюха, а ён сьліскі, ляціць з рук. А якая юшка смачная з мнюха!* Пасынкі Мядз.

**МО́ГАЛЬНІК** *м.* Тое, што і к л а д а ў ё. *Могальнікаў у нас аж два: адзін польскі, другі — рускі. На нашым могальніку от шмат кветак.* Такарышкі Іўеў. *Могальнік ад вёскі знаходзіцца за тры кіламетры, а як зімой ці ў гразь, вот дрэнна.* Стары Свержан Стаўб.

**МО́ГЛІЦЫ** *толькі мн.* Тое, што і к л а д а ў ё. *Гэтыя могліцы ў нас ужо даўно аткрылі, зразу пасьля вайны.* Засулле Стаўб. *На моглiцах на новых усё памятнікі, абгароткі.* Цялякава Уздз.

**МО́ДА**[1] *ж.* Матыў, мелодыя песні. *Ох, і красівая мода беларускіх песінь!* Малмыгі Віл.

**МО́ДА**[2] *ж.* Прывычка. *У іх німа моды, кап перашыць што старое.* Дукора Пух.

**МО́ДЗІЦЦА** *незак.* Моднічаць, франціцца. *Куды ёй! Старая баба, а яшчэ ўсё модзіцца!* Крыніца Мін.

**МО́ДЛЫ** *у знач. прым. Уст.* Набожны. ∇ **Як моліцца, тады модлы, як адыдзецца, тады подлы.** Баяры Маладз.

**МО́КРАЕ** *у знач. наз.* Вадкая страва. *Мокрае ё не густое, а жыткае. Пад'есці мокрага добра.* Вецярэвічы Пух.

**МО́КРЫ** *прым.* Дажджлівы, з сырым надвор'ем. *Сяголета мокры гот, часта ідзе дошч.* Вецярэвічы Пух.

**МО́РА** *н.* ◊ **За мора** — далёка. *Вой, дзеткі, сынок мой заехаў за мора, пісаў, доўга ехаць туды, дзе ён.* Баяры Маладз.

**МО́РАСЬ** *ж.* Тое, што і м г а. *Не хадзіце сёньня нікуды, бо нейка морась на дварэ.* Млечкі Віл.

**МОРГ** *м. Уст.* Старая зямельная мера (0,71 га). *Калі аддавалі нас сь сястрой замуж, то бацька даў па два моргі зямлі.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Значыць, так: калі дзесяць дзесяцін, гэта гактар, а калі марґоў, дык будзе адзінаццаць у гактары.* Баяры Маладз.

**МО́РҐАВА, МО́РҐВА** *ж.* Морква. *Не абышла сёлета морґава, а пасадзіла многа.* Ляшчынск Мядз. *Морґва ў гэтым годзе малая яшчэ і лебядой зарасла ўся.* Грышкавічы Віл.

**МО́РДА** *ж.* Выбоіна на сякеры, якая ўтвараецца пры няправільным тачэнні. *Мардатая сякера, дык трэба морды сарваць, стачыць. Морды з двух бакоў атрымаліся.* Такарышкі Іўеў.

**МО́РКАВА** *ж.* Тое, што і м о́ р ґ а в а. *Я дзецям кожны гот сею моркаву.* Дукора Пух. *Раней было ня так, як цяпер, і елі ня так: парылі буракі, варылі моркаву.* Зазерка Пух.

**МО́РКАЎКА** *ж. Кулін.* Суп з морквы. *Даўно ўжо моркаўкі ня елі, трэба наварыць. Моркаўка смашная з малаком, як яе забеліш.* Муляры Віл.

**МО́РНЫ** *прым.* Слабы. *Яна ж пасьля хваробы морная зусім.* Літва Стаўб.

**МОСТ** *м.* Падлога. *У нас на кватэры стаяў доктар. Як памыім мост яму, дык ён заўсёды дасьць што-небуць: ці канхвет, ці кансервіну.* Бяларучы Лаг. ○ **Плыву́чы (плы́тны) мост** — паром. *У нас праз рэчку плывучы мост ходзіць.* Саланая Валож. *Плытнік захварэў, дык плытны мост стаяў увесь той час.* Кальчуны Ашм.

**МОХ** *м.* ◊ **Абрастаць мохам** — дзічэць; блажэць. *Як успомню я свае леты! Бядота адна была, ня жылі, а мучыліся, абрасталі мохам. Ні касьцюма добрага не знасіў, ні ботаў людскіх не стаптаў.* Савоні Стаўб.

**МОЦ** *у знач. прысл.* Многа. *Я яшчэ не хадзіў, але грыбоў павінна быць моц.* Рубяжэвічы Стаўб.

**МО́ЧУЛА** *ж.* Мачыльня, дзе мачылі лён, каноплі. *Тут некалі, пакуль канавы не правялі, былі шчупакі. Чорныя шчупакі ў мочулах, стаячай вадзе вадзіліся, рабыя, сьветлыя — у рэчках.* Вішнева Валож.

**МУ́ДРЫКІ** *мн.* Штукарства. *Табе б толькі не рабіць! Кінь мне етыя мудрыкі, а то палучыш!* Зазерка Пух.

**МУДРЭ́Й** *прысл.* **1.** Лепш. *Цяпер у вёсцы жывуць мудрэй, чым у тым горадзі, лепшыя выгоды.* Кухцічы Уздз. **2.** Больш складана. *І як ты канчаў, цяшка, цяшка было вучыцца, а цяпер вучыцца яшчэ мудрэй.* Савоні Стаўб.

**МУ́ЖЫК** *м.* Мужчына. *Папрыходзілі з вайны мужыкі, дак ляхчэй нам усім стала, а то ўсё бабы, бабы.* Дрычын Пух.

**МУ́ЗЫКА** *м.* Вячоркі з танцамі. *Я ж маладая раней была! Любіла хадзіць на музыку.* Крыніца Мін. ◊ **Пад музыку** — з музычным суправаджэннем. *У нядзелю, адно як змеркне, дак і чутны дзявочыя галасы, сьпяваюць пад музыку.* Нізок Уздз.

**МУЗЫКА́РСТВА** *н.* Музыцыраванне. *Добра, як чалавек здольны да музыкарства; ён усюды і ўсім патрэбны.* Малмыгі Віл.

**МУЗЫЧНІ́К** *м.* Музыкант. *Пачакайця, хутка музычнікі зьбяруцца, паскачаце з нашымі дзеўкамі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МУКАМО́ЛЬНЯ** *ж.* Млын. *Гэты ячмень і пшаніцу завязі на мукамольню, перапусьці праз жорны.* Межава Чэрв.

**МУКАСЕ́ЙНІЦА** *ж.* Рабочая, занятая прасейваннем мукі. *Мужчына, які сее муку, называецца мукасей, а жанчына — мукасейніца. Мукасейніца прасявала муку праз рэшата.* Ляхавічы Дзярж.

**МУ́ЛА** *ж.* Бязрогая карова. *Дзеці мае і мулы баяцца, а з рогамі, дык і зусім: плачуць.* Скамарошкі Стаўб.

**МУЛЁН** *м.* Млён. *Той быў добры, глаткі, а гэты мулён шурпаты, рукі баляць, круцячы жорны.* Бясяды Лаг.

**МУ́ЛЬМА** *ж. Бат.* Бульба. *Учора мульму апходзіла, стамілася, ледзь ногі прыцягнула.* Зазерка Пух.

**МУЛЬТА́НКА** *ж.* Мультан (гатунак тытуню). *Я садзіў мультанку, яна чырвоным цьветам цьвіцець.* Ляшчынск Мядз.

**МУЛЬТАНО́ЎКА** *ж.* Кофта з мультану. *Спраўную мультаноўку Ядзя пашыла, якраз па мне. А цёплая якая!* Горкі Стаўб.

**МУ́ЛЯЦЦА** *незак.* Праяўляць нерашучасць, вагацца. *Ён муляўся, ня хацеў згаджацца ехаць гэтак далёка [па сена], але мушчыны ўгаварылі, паехаў.* Цялякава Уздз.

**МУМРУ́ГА** *ж.* Тое, што і м а р м у́ л ь. *Яе ўсе ў нас мумругай лічылі, а яна стала зусім не такая, як дзіця нарадзіла.* Брадок Лаг.

**МУ́МРЫЦЬ** *незак. Экспр.* **1.** Гаварыць неразборліва, мармытаць. *Ну што ты мумрыш нешта сабе пад нос? Ты да ўсіх скажы!* Дрычын Пух. **2.** Есці. *Дарма што маленькі, а мумрыць за траіх.* Раўчак Пух.

**МУНДЗЯРЫ́** *мн. Кулін.* Бульба, звараная ў лупінах. *Пасьля выносілі дрыжэву і падавалі салёнку або другі раз мундзяры.* Старлыгі Мядз.

**МУР** *м.* Мураваная сцяна. *Летам і то каля мура холадна спаць, аж дрыжыкі бяруць. Я млека каля мура стаўлю, каб не скісласся.* Літва Стаўб.

**МУ́РАВА** *ж.* Густая зялёная трава. *Траву, якая расьце на дварэ, пры дарозе, пры якой сьцесцы, у нас муравай называюць.* Малмыгі Віл.

**МУРАВІ́НКІ** *толькі мн. Абрад.* Бяседа, частаванне родных і суседзяў на другі, трэці дзень пасля хрысцін. *На муравінкі сабралася людзей, як на вясельля.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МУ́РАЎ** *м.* Тое, што і м у́ р а в а. *А прыдзя жніво — зажынкі гулялі. Хлопцы возьмуць гармонікі, настаяшчую гулянку ўстрояць. А мураў зялёнінькі [скаціна па двору ня ходзіць, пастаўнік для жывёлы каля хлява быў], скачуць, сьмяюцца.* Бяларучы Лаг.

**МУ́РАЎЦА** *ж.* Маладая трава. *Вясною ў нас тут добра каля хаты: увесь двор мураўцай пакрываецца.* Зазерка Пух.

**МУРГА́ЦЬ** *незак.* Маргаць. *У нас быў адзін, дак ён, бывала, ўсё мургае, нешта не ў парадку з вачмі было.* Бясяды Лаг.

**МУРЗА́ТЫ** *прым.* Дрэнны, не такі, як трэба. *Калі і заўтра будзе такая мурзатая пагода, то й на сена не паедзім.* Бытча Барыс.

**МУ́РЗАЦЦА** *незак. Экспр.* Пакрывацца хмарамі. *Дзяўчаткі, не хадзеця вы сёньня ў лес, бо неба мурзаецца, дождж будзе.* Каменка Уздз.

**МУРЛА́Т** *м. Будаўн.* Верхні вянок у зрубе хаты. *Мурлат — падмацаваньне пад крохвы. Мурлат усялякі ёсьць, гледзячы які ценжар нясе крыша.* Саланая Валож. // **мурла́ты** *мн. Новую хату заканчваем, мурлаты класьці будзім і столь рабіць.* Капачэўка Барыс.; *параўн.* польск. murłat < ням. Murenlatte 'тс'.

**МУРО́К** *м.* Выступ у рускай печы. *Як ні ганю ката с хаты, усё роўна на мурок узьбярэцца і спіць там, як гультай, цэлы дзень.* Баяры Маладз.

**МУРО́ШНІЧАК** *м.* Тое, што і м у́ р а в а. *Яны так і прывыклі заўсёды: сабіраюцца на мурошнічак, абедаюць.* Дрычын Пух.

**МУРЦА́** *ж. Кулін.* Рулі. *Вечарам карова як прыдзіць с пасты, малака надаю, налію ў крушку, туды хлеба накрышу і ем — мурцой заву такую яду.* Калодкі Віл.

**МУРЦО́М** *прысл.* Нырцом. *Я прылаўчыўся мурцом рыбу лавіць у пячоры.* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **Мурца даць** — нырнуць. *Мур-*

*ца даў, а там такая твань — ледзь выбраўся.* Там жа.

**МУРЦО́ЎКА** *ж. Кулін.* Тое, што і мурца́. *Не плач, малая, зараз мурцоўкі дам.* Лыцавічы Віл.

**МУ́СІ** *пабочн.* Мабыць, відаць. *Я зара памяту дамоў, мусі, карова прышла, а то засядзелася з вамі.* Баяры Маладз.

**МУ́СІБЫЦЬ** *пабочн.* Тое, што і му́сі. *А ты, дачушка, мусібыць, здалёку, не з Мінску?* Вялікая Вуса Уздз.

**МУ́СІЦЬ** *незак.* Быць вымушаным, абавязаным зрабіць. *Думала я, думала, тады мусіла і пайшла на етыя дзеці.* Дрычын Пух.

**МУ́СЯ** *пабочн.* Тое, што і му́сі. *Во, нехта дзьвярыма ляпнуў. Муся, унук прыйшоў, бо ён заўсёды так ходзіць.* Завішына Лаг.

**МУТ**[1] *м.* Асадак, муць. *Не пі гэтай вады, бачыш, у стакане мут астаўся.* Вецярэвічы Пух.

**МУТ**[2] *м. Рыб.* Глыбінны невад. *Мутамі яршоў ловім, гэтыя разбойнікі трымаюцца дна. Мутамі муцім ваду, рыба падымаіцца з дна і пападаіць у сетку.* Мікольцы Мядз.

**МУ́ТА** *м. Рыб.* Рыбалоўная сетка з маленькімі вочкамі. *Вочкі ў муце дробныя, маленькія, цяшка выреацца рыбе з яе. Нават сінец застаецца ў муце.* Пасынкі Мядз.

**МУХРА́НЫ** *мн.* Тое, што і махрашы́. *Чысьціла цыбулю ад мухранаў, дак цэлую кучу назьбірала.* Вецярэвічы Пух.

**МУЦІ́ЦЬ** *незак.* Паласкаць (бялізну). *Пайду я бялізну муціць, дай мне лаханку з сабою, чыстае туды пакладу.* Калодкі Віл.

**МУ́ЧАЛЬНІК** *м. Бат.* Талакнянка (Arctostaphylos). *Мучальнік у лесі расьце. Дробнянькія лістэ і ягады чырвонянькія, але іх не ядуць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МУЧА́Н** *м.* Тое, што і му́чальнік. *Мучан у леся расьце, такі распрасьціраста, лістэ як на брусьнічніку. Мучаном вельмі добра красіць. Яго сушаць і на лекі.* Цялякава Уздз.

**МУЧАНІ́ШНІК** *м.* Тое, што і му́чальнік. *Мучанішнік расьце ў лесі. Такі лісток, як брусьніца, але кустом расьсьцілаецца. Ёсьць нейкія ягады на мучанішніку, але іх не ядзяць і не сабіраюць.* Малмыгі Віл.

**МУЧА́НКА** *ж.* Гатунак грушы. *Плод мучанкі адразу ценькі, вузкі, а с паловы, як сьпее, становіцца як рэпа.* Ляшчынск Мядз.

**МУЧНІ́ЦА** *ж.* Драўляная пасудзіна на муку. *З дзерава робяць мучніцу, бочачку такую, насыпяць мукі туды і бяруць па патрэбі.* Іргушка Круп.

**МУ́ШАЧКА** *ж.* ◊ **Па мушачцы** — маленечкі. *Бывала, мама па мушаццы скварачкі пакрышыць, гэтыя скварачкі на патэльні пякуцца, ды возьміць панцак варыць, тры лышкі пялёх-пялёх у патэльню і кажыць: „Памачы адзін бок [бліна] і еш". О-о, як было.* Мікольцы Мядз.

**МУШТА́РДА** *ж. Кулін.* Гарчыца. *Я і сама ўмею добра муштарду прыгатаваць.* Рубяжэвічы Стаўб.; *параўн.* польск. musztarda 'тс'.

**МШАНЫ́** *прым.* Імшысты. *Сядзім на гэтым балоце мшаным і чуям: дзіця так плача на леся, так плача!* Чырвоны Пасёлак Пух.

**МЫГЛА́** *ж.* Імжа, туман. *Раніцай была вялікая мыгла, нічога не відаць.* Ляшчынск Мядз. *Кажыцца, і мыгла ідзе, але за ўвесь дзень зусім прамокла.* Хожава Маладз.

**МЫГНУ́ЦЬ** *зак.* Хутка знікнуць, пайсці. *Быў жа ў хаця, а куды мыгнуў, то хто яго знае.* Навасёлкі Валож.

**МЫДЛА** *н.* Мыла. *У войну самі мыдла варылі, а цяпер і пэцкацца ні трэба — пайшоў у магазін ды купіў.* Літва Стаўб. *Мыдла ў вочы зайшло.* Рудня Валож.; *параўн.* польск. mydło 'тс'.

**МЫ́ДЛІНЫ** *мн.* Пазалкі, брудная вада пасля мыцця. *Мыдліны не вылівай, пратры падлогу, бо гразі вунь скольні нацягалі.* Ляшчынск Мядз.; *параўн.* польск. mydliny 'тс'.

**МЫДЛО́ЎКА** *ж. Спец.* Тое, што і маґлоўка. *Мыдлоўка для вымярэньня таўшчыны цёсу. Бяруць два гвозьдзікі, забіваюць заместа дракі і так вымяраюць.* Бытча Барыс.

**МЫ́ДЛЯ** *ж.* Бабка з дзесяці снапоў, састаўленых для прасушкі. *Як жнуць, дык снапы ў мыдлі стаўляюць.* Завішына Лаг.

**МЫЛЕЦ** *м. Бат.* Мыльнік (Saponaria). *Калі мылец намачыць і пацерці, то атрымліваецца пена, падобная на мыльную. Мыла не ўзялі, то будзем мыць ногі мыльцам.* Вецярэвічы Пух.

**МЫЛІ́ЦЦА** *незак.* Гаварыць блытана, збіваючыся. *Перастань ты! Ужо мылісься. Лепей вазьмі дзяркач ды сьцены абатры.* Запруддзе Валож.

**МЫСЛІ́ВЫ** *у знач. наз.* Паляўнічы, які вядзе аблаву. *У нас ёсьць такі мысьлівы, зь ім нікога ні зраўніш. Я дык толькі зь ім і хаджу.* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* польск. myśliwy 'тс'.

**МЫТНУ́ЦЦА** *зак.* Кінуцца. *А сабака як мытнуўся да мяне! Ну, думаю, разарве!* Нізок Уздз.

**МЫ́ЦЕЛЬНІК** *м.* Куток у хаце, дзе мыюцца, мыюць пасуду. *У мыцельніку паратку няма, навернута ўсяго, трэба прыбраць.* Пудзіцк Пух.

**МЫ́ЦКІ** *мн.* Тое, што і машата́. *Аткуль гэныя мыцкі ў хату паналяталі. Летам няма супакою ад мух і ад мыцкаў, асабліва вечарам: нельга на вуліцы паказацца.* Літва Стаўб.

**МЫЦЬ** *незак.* ◊ **Абрусы мыць** — закончыць вясельны абрад. *Я раскажу вам праз Валодзіка Апраніча вясельля. На трэцьці дзень у яго абрусы мылі.* Кукшавічы Дзярж.

**МЫША́** *ж. Заал.* Мыш палявая (Apodemus agrarius). *Ай, мыша во! Ды ні дзяржы ты яе ў руках, яна ш цябе ўварве.* Бяларучы Лаг.

**МЫШАПО́Р** *м. Неадабр.* Праныра. *Нічога ні ўхаваіш за гэтым мышапорам.* Краснае Лаг.

**МЫША́ТЫ** *прым.* Мышасты, шэры. *Мышаты конь на мыш колерам падобны. Наш конік мышаты так скора бяжыць, толькі іскры б'юць с-пад капыт.* Ляхавічы Дзярж.

**МЫ́ШКА** *ж.* Карацелька. *Тут многа моркавы, але мышкі ў мяне на другой градзе расцуць.* Вялікая Вуса Уздз. *Сталовая морква — самая лепшая ў нас, такая доўгая чырвоная. Яе яшчэ мышкай завуць.* Рабунь Віл.

**МЭ́ДЛІК** *м.* Тое, што і мы́для. *У мэдлік ставяць па дзесіць снапоў: дзевіць ставяць уніс камлём, а дзісятым накрываюць зьверху.* Трыгузі Віл.

**МЭ́ЛЬНІЧАК** *м. Памянш.* Тое, што і мы́для. *Як пройдзе дошч, так і раскрываюцца мэльнічкі, сушаць снапы.* Саланая Валож.

**МЭ́НДАЛЬ** *м.* Тое, што і мы́для. *Мэндлі пасохнуць тры-чатыры дні і возяць у такі. Жыта ў мэндаль па дзесяць снапоў ставяць.* Малмыгі Віл. // Пяць снапоў ячменю, аўса, састаўленых у кучку для прасушкі. *Кабеты, якія жалі ячмень, ставілі яго ў мэндалі.* Старына Дзярж.

**МЭ́ЦАЦЬ** *незак.* Шукаць, мацаць навобмацак. *Мне б толькі ў лес. Я каб і не бачыла ягат, дык хоць бы рукамі мэцала.* Дрычын Пух.

**МЭ́ШТЫ** *мн.* **1.** Балеткі. *Мішку на ўра падымалі: мэшты ў яго новыя, а ён нагамі дрыгае, дрыгае.* Бяларучы Лаг. **2.** Лапці з нітак. *Плялі лапці кручком і звалі іх мэштамі.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. meszty 'тапкі пакаёвыя'.

**МЯ́ГНУЦЬ** *зак.* **1.** Гольцнуць. *Сплю і чую, як кот мягае па сене. Чула, як мягнуў раніцай апошні раз і зьнік.* Бясяды Лаг. **2.** Ударыць, стукнуць. *Ну, нашто ты гэтага малога мягнуў? Ён жа тут самы меншы, а ты вунь які!* Тхарніца Лаг. **3.** *перан.* Карпець. *Нада было табе мягнуць, сядзець, робіць усё гэта?* Ратуцічы Барыс.

**МЯДЗВЕ́ДЗІК** *м. Заал.* Мядзведка (Gryllotalpidae). *У мяне мядзьведзікі картошку патточваюць.* Вецярэвічы Пух.

**МЯДЗВЕ́ДЗЬ** *м. Кулін.* Бабка з цёртай бульбы. *От я сёньня наелася смачна! Зьдзёрла бульбы, паставіла мядзьведзя на дзень, а раніцай наліла кішку з бульбы, добра ўжарыла ў жыры.* Грышкавічы Віл.

**МЯДНІ́ЦА** *ж.* Любы таз, не абавязкова медны. *Нікуды ні хадзіця, дам мядніцу чыстую, мыйціся на здароўе.* Ваўкалатка Віл.

**МЯДО́ВЫ** *прым.* Багаты мёдам. *Сёлетні год будзе мядовым.* Вецярэвічы Пух.

**МЯДО́ЎКА** *ж.* Салодкі гатунак яблык. *Унучка мая толькі мядоўкі любіць. Скора пасьпеюць мядоўкі, можа, і вы пакаштуяце.* Зазерка Пух.

**МЯДУ́НКА** *ж. Бат.* **1.** Галоўка, кветка дзяцеліны. *А як ні было хлеба, хадзілі ў мядункі, ірвалі казятнік, сушылі, таўклі і пяклі праснак.* Весялова Круп. *Як галеча была, мядункі шчыпалі і елі.* Ігрушка Круп. **2.** Люцэрна (Medicago L.). *Сок пчолы бяруць зь мядункі, канюшынкі, с усякіх цьвяткоў.* Ігрушка Круп.

**МЯКІ́ННІЦА** *ж. Уст.* Мякіннік, кут у гумне для мякіны. *У застаранцы адгароджваецца месца, мякіньніца на мякіну.* Такарышкі Іўеў.

**МЯ́КУШКА** *ж.* Мякіш, кончык пальца. *Патрэскаліся ад гразі мякушкі.* Вецярэвічы Пух.

**МЯКШЫ́ЦЦА** *незак.* Рабіцца мяккім (пра страву). *Як у печ уставіш, мякшыцца і такая смачная робіцца.* Ратуцічы Барыс.

**МЯЛЕ́Ц** *м.* Чалавек, які перапрацоўвае зерне на муку ў жорнах. *Мужчына, што меліць, — мялец, бабы ня меляць, бо цяшка.* Ігрушка Круп.

**МЯ́ЛІННЕ** *н.* Кастрыца з-пад лёну або канапель. *Нацягала мяліньня з-пад лёну на варыўню, уцяпліла трохі.* Акалова Лаг.

**МЯЛІ́СТЫ** *прым.* Неглыбокі. *Ехаў лоткай і папаў на мялістае мейсца, што аж лотка стала.* Ляшчынск Мядз.

**МЯ́ЛІЦА** *ж.* **1.** Мялка, церніца. *Мяліц цяпер няма ўжо, бо самі лён не мнём. А ў мяне недзе на чардаку мяліца старая захавалася, я вам пакажу.* Зазерка Пух. **2.** *Экспр.* Лапатун, балбатун. *Мяліца ты, мяліца, дай другім хоць слоўца ўставіць!* Рубяжэвічы Стаўб.

**МЯ́ЛІЦЬ** *незак.* Церці. *Не, не адразу. Спачатку лён пасушаць, а потым ужо мяляць.* Вялікая Вуса Уздз.

**МЯНІ́ШКА** *ж.* Сарочка мужчынская. *Хоць бы ў нядзелю зьмяніў мянішку на чысьцейшую, у людзі ш пойдзіш.* Літва Стаўб.

**МЯНТА́ШКА** *ж. Экспр.* Хто многа і без толку гаворыць, трапло. *Баба яго такая мянташка, што хоць вушы затыкай. Цэлы дзень балбоча і балбоча.* Вялікая Вуса Уздз.

**МЯНЦІ́ЦЬ** *незак. Экспр.* Есці. *Далі табе, дык і мянці на здароўе, не зявай!* Пярэжыр Пух. ◊ **Мянціць языком** — гаварыць лухту, балбатаць. *А ён усё мянціць языком, надаеў усім.* Пудзіцк Пух.

**МЯНШУ́ХА** *ж.* **1.** Самая меншая з дзяцей. *Анна падобна на матку, старэйшая, а мяншуха бацьку пасачыла, выліты бацюта.* Язні Віл. **2.** Жонка малодшага сына. *Сьвёкар, бывала, ва ўсе дзялы залезіць, абгаварыў. „Мая ж мяншуха рабіць ня хочыць, азяў сын з-пад вазонаў, з-пад павільёнаў", — усё, бывала, гэдык казаў.* Язні Віл.

**МЯНШЭ́ЙШЫ** *прым. Выш. ст. да* малы́.

Меншы, малодшы. *У яе ж двоя дзяцей мяншэйшых.* Дукора Пух.

**МЯРЗЛЯ́К** *м.* Лядзяк, лядзяш. *Бывая, як сьцяплея ды цячэ, а потым падмерзьня, мерзьлякі на стрэхах панамярзаюць.* Пруды Стаўб.

**МЯРНІ́ЧЫ** *м.* Землямер, каморнік. *Замер зямлі мярнічы рабіў, трэба было плаціць.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. mierniczy 'тс'.

**МЯРО́ЖА** *ж. Рыб.* Мярэжа. *У мярожы два кулі, рыба пападаіць у гэтыя кулі, а назат ня вылязіць. Ёсьць мярожа на шчупака, яна доўгая, вуская, хвост у яе на абручах.* Мікольцы Мядз.

**МЯРСЕ́ЦЬ** *незак.* Імжэць, падаць вельмі дробнымі частымі каплямі (пра дождж). *Ну, а патом дожджык мярсіць, а вёска гарыць, а каровы ходзяць каля вёскі, равуць, каб у хлеў, а хлеў гарыць.* Новікі Мядз.

**МЯРЦВІ́К** *м.* Нябожчык. *І чаму ён гэткі белы, што мярцьвік? Хіба мо хворы?* Рудня Стаўб.

**МЯРЦВЕ́Ц** *м.* Тое, што і мярцві́к. *Мярцвец ляжыць, пакрывалам пакрыты.* Дрычын Пух.

**МЯ́СА** *н.* **1.** Абалонь, гладкі ствол. *Буйныя і дробныя сукі апсякаюць да мяса, каб гладкі ствол быў.* Ляхавічы Дзярж. **2.** Мясістая абалонка гарбуза, мякаць. *З мяса ў нас вараць кашу.* Рудня Чэрв. **3.** Тое, што і мазґі. *Як выбіраяш гарбузэ, дык трэба чысьцянька выбіраць, без мяса.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**МЯСТЭ́ЧКА** *н.* Цэнтральная частка сяла. *На мястэчку ў нас усе сходы праходзяць, хлопцы і дзяўчаты зьбіраюцца, як захочуць пагуляць і папець.* Жораўка Пух.

**МЯТА́ЦЦА** *незак.* Мільгаць. *Толькі гляну ў цілівізар, дык мне ўсё мятаецца перад вамі.* Пярэжыр Пух.

**МЯТЛА́** *ж.* ◊ **Пад мятлу** — начыста, без астатку. *Вельмі цяшка было, як вярнуліся на сваё котлішча: усё пад мятлу забралі немцы. Разжываліся на голум камяні.* Дукора Пух.

**МЯ́ТЛІК** *м.* Падарунак. *Цалавала, цалавала мяне ўнучка, дужа ш упанаравіла іна мятлік, што прынісла на хрэсьбіны. А я ш за мятлік гэты зашмат грошы аддала.* Якімаўка Круп.

**МЯТРО́ЎКА** *ж.* **1.** Каза, сажань. *У нашага аграномa ёсь мятроўка, вясной соткі намяраюць у полі.* Бытча Барыс. **2.** Тое, што і дзеся́тка. *Маруся казала, што ў іх ест каса мэтар двацацць. Ну, мабыць, ілжэ яна, такой касы няма. Ест каса мятроўка, на жыта гэта каса, вялікая, а на мэтар двацацць ні бывая каса.* Арцюхі Стаўб.

**МЯТУШЫ́ЦЦА** *незак.* Мітусіцца. *Эта ж я ні магу глядзець узат, тады мне ў вачах мятушыцца, мятушыцца. Я як еду куды, абізацельна, каб глядзець упярот.* Савоні Стаўб.

**МЯ́ЧКА** *ж.* Тое, што і вымі́нака. *Мячкі мнуць, толькі мяліцы дра-драх! Сколька там за дзень адна мячка намнець, трахтар — во?* Бясяды Лаг.

**МЯЧЭ́ЎНІК** *м. Бат.* Рагоз (Турһа). *Ён вялікі, вялікі мячэўнік, метра паўтара. Плялі раней з рагозу хамуціны, каб ні муліўся конь.* Рудня Чэрв.

# Н

**НА** *прыназ.* **I.** *з він.* **1.** Ужываецца пры ўказанні на від захворвання. **На.** Адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Захварэў сын на шкарлятыну адзін. Прайшло дзён колька, усе мае дзеці пахварэлі на шкарлятыну.* Калініна Дзярж. *Хварэў на падучую балесь.* Ластаянцы Валож. **2.** Пры ўказанні на аб'ект, у бок якога накіраваны рух. **На.** *Учора рана на Узду хадзіла.* Каменка Уздз. **3.** Пры абазначэнні мэты дзеяння. **У.** *Сяньня на рыбу ён ні пойдзіць: у яго ахвоты няма. А мы п то пашлі на рыбу, каб былі таптухі.* Рабунь Віл. **4.** Ужываецца ў прыслоўных выразах. *Нарасло сьліў усім на зьдзіў.* Мікольцы Мядз. **II.** *з месн.* **1.** Пры ўказанні на дзейнасць, якой хто-н. займаецца. *Каторыя ў нас на штатах, тыя памногу зарабляюць.* Пудзіцк Пух. **2.** Пры абазначэнні абумоўленасці дзеяння. Адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Дось на тым, што яна даўно замуш вышла.* Сядзіца Віл.

**НААГРЫЗА́ЦЦА** *зак.* Груба, злосна паспрачацца. *Маладыя цяперака спаць любяць. Мой вонь тожа. Раніцай ледзь устурыш, яшчэ й наагрызаіцца.* Вязынка Маладз.

**НАБАБЭ́НІЦЬ** *зак. Экспр.* Накласці. *От толькі ня хочацца, а то я залез ба і такі воз набабэніў ба, што ні пацягнулі б і коні.* Бяларучы Лаг.

**НАБА́ВІЦЬ** *зак.* Нагаварыць, нарасказваць, намалоць языком. *Во набавіла вам усяга, толькі час у настаўніцы адабрала.* Язні Віл.

**НАБАСЯКА́** *прысл.* Басанож. *А летам увесь час набасяка хаджу, тут усе так звыклі, ды і нашто цяплом тыя боты?* Узгурск Чэрв.

**НАБА́ХАЦЬ, НАБО́ХАЦЬ** *зак.* Наліць звыш меры. *Гэтулькі набахаў, як не чалавеку, а каню.* Масцішча Барыс. *Набохала такую вялікую місу, страх, дзе ж я з'ем?!* Узгурск Чэрв.

**НАБГО́М** *прысл.* У выразе: піць набгом — піць з вялікай пасудзіны, нахіліўшы яе; піць нахіліўшыся. *П'е з збанка набгом.* Дукора Пух.

**НАБГО́МКА** *ж.* Невялікая пасудзіна. *Налі кату сырадою ў набгомку, хай паесьць крыху.* Чэрвень Чэрв.

**НА́БЕЛІЦЫ** *мн. Ткац.* У кроснах – драўляныя планкі, у якія ўстаўляецца бёрда. *А тады кідаюць у берда, а гэтае берда ўкладаюць у набеліцы. На ставы кладуць палку перак і вешаюць на ёй ніт і набеліцы.* Баранцы Віл.

**НАБЕ́РАДКІ** *толькі мн.* Конская вупраж, набадры. *Узлажы каню набе́раткі.* Чабаі Валож.

**НАБЕ́РАК** *м.* Даўней: маленькая каробачка з лубу; зараз і кружка або двухлітровы эмаліраваны бачок. *Я ўчора пайшла з мамаю, набрала дзесяць наберкаў чарніц.* Кукалеўка Чэрв.

**НА́БІЛКІ** *мн. Ткац.* Тое, што і на́белiцы. *Чым крапчэй стукаеш набілкамі, тым палатно гусьцейшае.* Скамарошкі Стаўб.

**НА́БІРАК** і **НАБІ́РАК** *м.* Тое, што і набе́рак. *Не лянуйся, вазьмі еты набірак ды схадзі ў лес, ягады ўжо ёсь.* Рудня Чэрв. *Я во на набірак крушку брала – і ягад усяго набрала стольki.* Зазерка Пух.

**НАБІ́ЦЬ** *зак.* ◊ **Набіць аскому** – надакучыць. *Твае дурныя разгаворы аскому набілі ўсім, памаўчы ты!* Цялякава Уздз. **Набіць духу** – напампаваць. *Трэба духу набіць у пярэдняе кола, бо так ні паедзяш.* Літва Стаўб. **Набіць курсак** *экспр.* – наесціся. *Яму абы курсак набіць чым-небудзь.* Загорцы Маладз. **Набіць лапатухі** – дрэнна навастрыць касу. *Калі кляпаюць касу і на астрыі карабаціны, то гэта – набіў лапатухі.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАБЛО́ШАНЫ** *у знач. прым.* Напалоханы. *Няма маіх двое цыплят, прапалі, мусіць, шашок напужаў іх. Такія наблошаныя. Нада ў хату нанач браць.* Ігрушка Круп.

**НАБО́ЖНІК** *м.* Ручнік, які вешаюць на абразы як упрыгожанне. *Набожнік прыгажэй, калі сваёй работы. Мая матка прагожыя набожнікі рабіла.* Бытча Барыс.

**НАБО́ІШЧА** *м. Неадабр.* Той, хто набіваецца, напрошваецца. *Такі ўжэ набоішча гэты Пятрок.* Дукора Пух.

**НАБО́Р** *м.* Неабходны матэрыял на пашыў пары ботаў. *Былі купілі два наборы на боты, дзяцька Йван будзе шыць.* Дукора Пух.

**НАБО́ХАЦЬ** *гл.* набáхаць

**НАБРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Налавіць рыбы брэднем. *Боты насуніш на ногі, бродзінь у мяшок і зь Віцем набродзім многа рыбы: ён мейсцы знаіць.* Мікольцы Мядз.

**НАБРА́ЦЬ** *зак.* ◊ **Набраць у галаву** – успрыняць што з глыбокай уразлівасцю. *Ён набраў у галаву, што памёр сын, і нешта нідобра яму стала. Бяда па бядзе, як па нітацы, ідзе.* Сівіца Валож.

**НАБРУНЯ́ЎШЫ** *у знач. прым.* Набрынялы. *Насеньне ўжо набруняўшае, скора прарасьце, і садзіць можна.* Такарышкі Іўеў.

**НАБРЫ́ЗГЛІНА** *ж.* Драўніна, набухлая, пачарнелая ад вады, сырасці. *Дзерава звалена ў кучу, яно не сохла і абізацельна будзе набрызгліна.* Саланая Валож.

**НАБРЫТА́ЦЬ** *зак.* Надзець аброць. *Набрытай ідзі каня і пададжджы мяне.* Забалоцце Смал.

**НАБУХТО́РЫЦЬ** *зак. Неадабр.* Тое, што і набáхаць. *Набухторыў поўную кварту, то і пі сам.* Залазоўе Віл.

**НАБУ́ЦЦА** *зак.* Быць забяспечаным абуткам, мець у запасе. *Цяпер ужо надзеліся і набуліся, моладзь ходзяць, як лялькі.* Ганявічы Лаг.

**НАВАЖА́ЦЬ** *зак.* Навязаць. *Нада наважаць цялушку, кап куды ні зьбегла.* Мядзел Мядз.

**НАВАЗЮ́РЫЦЬ** *зак.* Напэцкаць, наразлівацць. *Вот нязграбны, ну і навазюрыў жа ты на стале! А хто выціраць будзе?* Калодкі Віл.

**НАВАЛА́КАВАЦЦА** *незак.* Навівацца, накручвацца. *На гэту качулку навала́каваіцца гатовае палатно.* Даўгінава Віл.

**НАВАЛАЧЫ́СЯ** *зак. Экспр.* Павольна рухаючыся, натрапіць выпадкова, наткнуцца на каго. *Навалакліся [фашысты] на людзей на кучу, на жанчын із дзяцямі, на кароў, давай там іх лавіць, страляць.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**НАВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Прычыніць шкоду. *Навалілася сусетка курмі, спасу німа. Насадзіла зь лёду бурсу цэлую, сют-тут у маіх гуркох, у гародзі.* Савоні Стаўб.

**НАВАЛІ́ЦЬ** *зак. Экспр.* Нагаварыць. *Некалі пярад людзьмі наваліць усяк на мужыка, а яна – харошая.* Дукора Пух.

**НАВА́ЛЬНЫ** *прым.* Праліўны, навальнічны (дождж). *Перад вашым прыездам драсавала гарбузэ, а потым дожджык навальны праліў, лапушыстыя сталі якія.* Савоні Стаўб.

**НАВАРАЧА́НЫ** *прым.* Пасланы з жэрдак (пра столь). *Навараченая столь у сараях кладзецца.* Нізок Уздз.

**НАВЕЛІ́ЧКІ** *прысл.* У вышыню. *Навялічке́ ён дарма, ня вельмі малы.* Цялякава Уздз.

**НАВЕ́РСЕ** *прысл.* Вярхом. *Нехта ехаў наверсі на кані, а я і ні пазнала.* Цялякава Уздз.

**НАВЕ́РЧЫВАЦЦА** *незак.* Выступаць на вачах (пра слёзы). *Ня хочацца ўспамінаць пра даўна, аш сьлёзы наве́рчываюцца, што як гэта гаравалі людзі.* Даўгінава Віл.

**НАВЕ́СЦІ** *зак.* ◊ **Навесці на лад (на пуць)** – навучыць добраму, даць разумную параду. *Тады новую хатку купілі, суседзі, людзі добрыя, на лат навялі, на пуць, прафсаюс памох.* Таўкачэвічы Уздз.

**НА́ВЕСЬ** *ж.* Іней. *Такая навесь на́ дзеравах, ажно гольле гнецца.* Забалоцце Смал.

**НАВО́ДЗІЦЬ** *незак.* Набываць, спраўляць. *Як цяшка було тады, а я ўсім маім дзевачкам наводзіла́ сукенкі.* Пудзіцк Пух.

**НАВО́З** *м.* Гной. *На трыццаць сотак дык*

*навозу хватае, вывозім і на зіму і вясной.* Бытча Барыс.

**НАВО́ЗАМ** *прысл.* Загуменнем, задамі, сцяжынкай за вёскай. *Навозам пойдам, бо ў вёсцы ня вылясьці, а навозам гэдак элеґанцко йсьці, канюшынка расьце.* Савоні Стаўб.

**НАВО́ТКА** *ж. Бат.* Наготка (Calendula). *Навоткі вельмі хораша пахнуць.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАВО́ТЛЯ** *прысл.* З размаху, наводмаш. *Ён дак стукнуў яму пара рас навотля, дык ён, бедны, і паваліўся.* Заямнае Стаўб.

**НА́ВУЗА** *ж. Пчал.* Закрытая вашчына, без мёду. *Пчолы з воску робяць соты і навузы.* Хожава Маладз.

**НАВУ́Й** *м. Ткац.* Навой. *А тады навіваем ніткі на навуй, зь дзерава зроблены навуй.* Пудзіцк Пух.

**НАВУ́РЫЦЦА** *зак. Экспр.* Наесціся. *Я так навурылася рулёў, што і ўстаць не магу.* Мядзел Мядз.

**НАВЫ́ГАНКІ** *прысл.* Навыперадкі. *Дзеці беглі навыганкі: хто хутчэй, таго і пахваляць.* Узгурск Чэрв.

**НАВЯРНУ́ЦЬ**[1] *зак.* Прымусіць ісці, павярнуць. *Тагды маладых пагналі на Сва́ткі, а нас, старых, навярнулі с пулямётам у вёску ув адно дварышча.* Сваткі Мядз.

**НАВЯРНУ́ЦЬ**[2] *зак. Неадабр.* Уліць. *Яе хоць не дапускай к слоіку з млекам, а то наверне, як каню. // перан. Раптам як навярнуў дождж, усе буракі палажыў!* Літва Стаўб.

**НАГА́** *ж.* ◊ **З усіх ног** — вельмі хутка, што ёсць моцы. *Толькі празьвініць званок, як яны с усіх нох на коўзанкі бягуць.* Бясяды Лаг. *Паліцай заўважыў хлопца і пачаў страляць па ём, а той з усіх нох кінуўся ўцякаць.* Каменка Уздз. **Каму нага, каму галава** — абы-як. *Зрабіла каму нага, каму галава, але скончыла палоць.* Кіркаўшчына Нясв. **Кідаць пад ногі** — закідаць, занядбаць. *Унучка мая да школы ходзіць, а тады навуку пад ногі кідае, давай любоў заводзіць — конча, каб пажаніцца.* Савоні Стаўб. **На нагах** — у руху, у гаспадарчых клопатах. *Я яшчэ ў лошку, а яна ўжо на нагах.* Савоні Стаўб. **У нагах** — каля ног, у тым месцы, дзе ногі. *Падушкі ложаць у галавах, а не ў нагах.* Пруды Стаўб. *Утраёх палеглі спаць: душно, цесно. Тады я ўстала — буду спаць у нагах, і легла ў нагах і заснула.* Валеўка Навагр. **Устаць не з той нагі** — быць у дрэнным настроі. *Ты што? Мусіць, ні с той нагі ўстала?! Ходзіш увесь дзень надутая.* Валеўка Навагр.

**НАГАВІ́ЦЫ** *толькі мн.* **1.** Штаны споднія, споднікі мужчынскія. *Свайму старому сашыла дзьве пары нагавіц, а то ўжо быў абнасіўся.* Рудня Валож. **2.** Панталоны жаночыя. *Даўней паняцьця [жанкі] ня мелі, кап класьці на сябе яшчэ і нагавіцы.* Літва Стаўб. **3.** Калготы. *Купіла новыя нагавіцы, бо гэтыя парваліся, пальцы відаць.* Мядзел Мядз.

**НА́ГАЛА** *прысл.* Да голага цела, дагала. *Разьдзяесься, брат, на́гала, скідаеш гэту саматканую адзежу на траву, лезяш голы ў сена, хаця п трохі паляжаць спакойна ад блох.* Мікольцы Мядз.

**НАГАЛА́** *прысл.* Нагала, не пакінуўшы валасоў. *Раньша во як было: ув армію пойдзіш, нагала́ астрыгуць. Лічылася, што калі валасы ёсь, то нейкі начальнік.* Бяларучы Лаг.

**НАГАМАНІ́ЦЬ** *зак.* Нагаварыць, нарасказваць. *Пайду я, дзеткі, нагаманіла вам ужо вельмі многа; ніхто, мабыць, столькі і не гаварыў.* Пудзіцк Пух.

**НАГА́МАЦЦА** *зак. Экспр.* Тое, што і наву́рыцца. *Ужо не хачу ні сала, ні мяса, я нагамаўся крупніку.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**НАГАНАШЫ́ЦЬ** *зак.* Нарваць. *Травы наганашыла на цэлую нядзелю.* Дукора Пух.

**НАГДО́ЕЧА** *прысл.* Днямі. *Нагдоеча прыехаў мой дзяцька з горада.* Грыцкавічы Нясв.

**НАГДО́Ё** *прысл.* Тое, што і нагдо́еча. *Нагдоё ў краме была, ты ведаеш, сумку купіла.* Панюцічы Нясв.

**НА́ҐДЫ** *прысл.* Іншы раз. *Наґды дошч ідзе вялікі, а наґды — маленькі. Так праз усё лета.* Юшкаўка Віл.

**НАГІ́ТКА** *ж. Бат.* Тое, што і наво́тка. *Мы з мамай любім кветкі, нагіткі садзім, жоўцінькія такія.* Мацевічы Бярэз.

**НА́ГЛЫ** *прым.* Нахабны. *Вот дзе наглы чалавек! Ты яго праганяяш, а ён лезя, як тая кароста, прыстае.* Цялякава Уздз.

**НАГЛЫТА́ЦЦА** *зак. Экспр.* Перанесці, перажыць. *Многа гора і бяды наглытаўся народ у вайну.* Пудзіцк Пух.

**НАГНЯСЦІ́** *зак.* Набіць. *Бывала, як прыдо́м с кірмашу, то так нагняцеш ногі, што нельга стаяць, адразу і лажысься.* Рудня Чэрв.

**НАГРАДЖО́НЫ** *дзеепрым.* Узнагароджаны. *Вы не глядзеця, дзяўчаткі, што мужык мой не вельмі цікавы, ён у мяне награджоны.* Пудзіцк Пух.

**НАГРУ́ДНІК** *м.* Безрукаўка, жылетка. *Кап цяплей было, нагрудзік паддзень пат пінжак.* Скамарошкі Стаўб.

**НАГУТА́РЫЦЦА** *зак.* Нагаварыцца. *Мы зь імі ўжо так нагутарыліся за цэлы дзень, што я нічога больш і не зрабіла.* Завішына Лаг.

**НАДАБРА́ЦЬ** *зак.* Узяць частку ад патрэбнай колькасці. *Узяла надабрала мукі, пасыпала солі, а тады зноў мукі.* Дукора Пух.

**НАДАВА́ЦЬ** *зак.* ◊ **Надаваць па мурзака́х** — набіць па твары. *Зараз як надаю па мурзаках, то другі раз будзеш ведаць, як рабіць абышто.* Бясяды Лаг.

**НА́ДАЛБЕНЬ** *м. Груб.* Дурны. *Гэта ж ні хлопіц, а надалбень! Ніякай карысьці, хоць і дзевяць класаў кончыў.* Зазерка Пух.

**НАДАЎЖКІ** *прысл.* Удаўжкі. *Надаўшке добры гэты халат, то я мо куплю?* Цялякава Уздз.

**НАДА́ЦЬ** *зак.* Набіць, пабіць. *Зараз як надам, дык ты ў мяне плакаць будзеш, а не сьмяяцца.* Літва Стаўб.

**НАДЗЕ́ЖНІК** *м.* **1.** Тканая сурвэтка, якой пакрываюць дзяжу з цестам. *У нашай бапкі ёсь надзежнік, вытканы яшчэ яе маткаю.* Караваева Пух. **2.** Ручнік, абрус, які падсцілаюць пад хлеб, аладкі. *Надзежнік паткладзі, бо цырату алаткамі сапсуеш.* Літва Стаўб.

**НАДЗЕ́ЎШЫШЫ** *дзеепрым.* Апрануўшыся прыгожа. *Большыя каторыя выўчыліся, панажывалі сьпецыяльнасьць, жывуць добра — надзеўшышы, наеўшышы.* Лубень Віл.

**НАДЗЕ́ЦЬ** *зак. Кулін.* Начыніць, палажыць фарш унутр. *Куру зарэзала, асмаліць хорашанько, цёплаю вадою вымыць, кішкі выпусьціць, надзець і ўжарыць. От укус, што за ўкус!* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. nadziać ’тс’.

**НАДЗІМА́ЦЬ** *незак. Кулін.* Начыняць. *Курыцу добра надзімаць пячанямі.* Цялякава Уздз.

**НАДЗЯВА́НЁ** *н. Кулін.* **1.** Мясны рулет. *Чаго толькі ні было на вясельлі! Розных блюдаў многа, натта ш смашнаё надзяванё было!* Залужжа Стаўб. **2.** Дзеянне паводле дзеясл. надзе́ць. *Як ідзеш на які банкет, то робіш надзяванё: зусім другі смак с качкі ці з гусі.* Горкі Стаўб.; *параўн.* польск. nadziewanie ’тс’.

**НАДЛЕ́СНЫ** *у знач. наз.* Старшы ў асобнай лясной гаспадарцы. *Я помню, як гэто было пры Польшчы. Быў ляснічы над усімі лясамі, тады надлесны, а тады шчэ нехто, а тады ўжо прасты стражнік. От як тады лічыласё.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. nadleśny ’старшы ляснічы’.

**НАДО́Е** *прысл.* Тое, што і н а г д о́ е ч а. *Надое сын прыехаў у госьці да Мар’і.* Ляхі Нясв.

**НАДО́ЕЧЫ** *прысл.* Тое, што і н а г д о́ е ч а. *Надоечы мы дажыдаем гасьцей с Польшчы, меліся яны, што прыедуць.* Літва Стаўб. *Надоечы хадзіла да сваіх, параведала.* Дукора Пух. *Сустрэла яе надоечы на вуліцы, дык у мой бок нат ні глянула.* Аўгустова Валож.

**НАДО́ЙЧА, НАДО́ЙЧЫ** *прысл.* Тое, што і н а г д о́ е ч а. *Надойча, можа, муку прывязуць у магазін, то я пайду сама.* Ваўкалатка Віл. *Надойчы па брушніцы бегала, дык вядзерка назьбірала.* Язні Віл.

**НАДО́МНІК** *м.* Прымак. *Яна сірата, бацькі атпісалі ёй дом, а ён у яе надомнік, ну, прымака яшчэ зовуць.* Зялёнкі Мядз. *Пашла я да Насьці саганок свой забраць, а ў яе чужы сядзіць, дак яна мне шэпча, што надомнік.* Ганчароўка Смал.

**НАДО́МУ** *прысл.* Дадому. *Пайшлі надому, хопіць дурэць, уставаць жа рана нада.* Тонава Стаўб.

**НАДУКАВА́ЦЬ** *зак.* Навучыць. *Я яе надукую, хай усё выкажа, хай не маўчыць.* Цялякава Уздз.

**НАДУ́ЦЦА** *зак.* ◊ **Надуцца як вожык (як сыч)** — пакрыўдзіцца. *А пошля яна надулася як вожык, болій каня мне ні давала.* Залазоўе Віл. *Надулася як той сыч, не гаворыць.* Забалоцце Смал.

**НАДУ́ЦЬ** *зак. Экспр.* Насыпаць, напоўніць даверху. *У нас трактарыстыя палучаюць у месяц да трохсот рублёў, надуіць машыну пшаніцы — дзяваць німа дзе.* Мікольцы Мядз.

**НА́ДЫБА** *прысл.* Дыба, тарчма, тарчаком. *Коні ўзьняліся надыба, загараджываючы адзін другому дарогу.* Задубенне Мядз.

**НАДЫ́СЬ** *прысл.* Сёння. *Яго дома не было, ён надысь хадзіў у дупцэ.* Дукора Пух. *Надысь пагода й нічога, але кап трошкі цяплей, яшчэ б лепій было.* Літва Стаўб.

**НАЁЗДЖЫ** *у знач. наз.* Прыезджы. *Дачка паехала к мужу, а тамака ўсе наежжыя работаюць.* Пудзіцк Пух.

**НАЁЗНЫ** *прым.* Тое, што і н а ё з д ж ы. *Не нашы гэтыя дзеўкі, я добра сваіх ведаю. Гэта наезныя дзеўкі.* Жызнава Віл.

**НАЁЎШЫСЯ** *дзеепрым.* Наеты, сыты. *Прызнацца, на гэты час я быў не зусім наеўшыся, і я прыняўся за гэту каўбасу, пачаў шчыпаць пальцамі і класьці ў рот.* Даўгінава Віл.

**НАЁЎШЫШЫ** *дзеепрым.* Тое, што і н а ё ў ш ы с я. *Маладыя добра жывуць цяпер. Надзеўшышы, наеўшышы, кажды маець сваю спецыяльнасьць.* Любань Віл.

**НАЖАВІ́ЦЫ** *толькі мн.* Нажніцы. *Нажавіцы недзе падзеліся, гэта ўжо Коля іх недзе зацягнуў.* Млечкі Віл.

**НАЖАЛА́ЦЬ** *зак.* Нажадаць. *Во колькі добра я вам нажалала! Усё споўніцца.* Пудзіцк Пух.

**НАЖА́ХАЦЬ** *зак. Экспр.* Загатовіць. *Добра, што Ева шчэ здаровая ды дужая; пайшла ў лес — дый нажахала тры вазы дроў.* Рудня Чэрв.

**НАЖУ́ТКА** *ж.* **1.** Цёплая вязаная кофта з рукавамі. *Ужо і лета прайшло, а я ніяк не кончу вязаць нажутку цёплую.* Літва Стаўб. **2.** Блузка. *Як іду летам каровы даіць, дык яна нажутку дась: дужа добра ў ёй летам хадзіць: ні горача.* Баяры Маладз.

**НАЖЫ́М** *м.* ◊ **Даваць нажым** — наступаць, ціснуць. *Каб нашы не давалі нажым, дык яны б усё тут знішчылі.* Мушанка Віл.

**НАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Купіць, прыдбаць. *А чаго ш ты так? Табе трэба было б нажыць гусянят на базары.* Баяры Маладз.

**НАЖЫЧО́НЫ** *у знач. наз.* Жаніх, нарачоны. *Я ж нічога ні знала, што гэта яго нажычоная. Гэты мой брат глядзеў, глядзеў: „Ай, —*

*кажаць, — ек ужо нажычоны ёсь, ні варта мне мішацца". Так яму і ув атстаўку пашло.* Залазоўе Віл.; *параўн.* польск. narzeczony 'тс'.

**НАЗАПА́ШКУ** *прысл.* Напалавіну. *Што было рабіць? Назапашку с панам у той час сеіў.* Даўгінава Віл.

**НАЗА́ЎТРАЕ** *прысл.* Назаўтра. *Запрагая мой Ляксей назаўтрая каня ў барану, пойдзя ш лён сеяць.* Вялікая Боркаўшчына Маладз. *Назаўтрая ранінька разьветка прыляцела і кажыць, што карнікі бліска.* Альсевічы Мядз. *Назаўтрае мама ўстала і пайшла ў сьвіран дабра курам насыпаць.* Баяры Лаг.

**НАЗВА́ННЕ** *н.* Назва, загаловак. *І колькі ў яго тых кніг було, і каждай сваё названьне!* Пудзіцк Пух.; *параўн.* рус. название 'тс'.

**НА́ЗВІШЧА** *н.* Назва, мянушка. *Гэткая сьмешная назьвішча далі крычатоўцам [жыхарам в. Крычаты] за тое, што яны зьвеку коз трымалі.* Пруды Стаўб.

**НАЗДРА́** *ж. Зб.* Тое, што і м а з ґ і́. *Замнога наздры ў гарбузе.* Ваўкалатка Віл.

**НАЗІ́ПЕРНІК** *м. Мед.* Прэласць паміж пальцаў. *Як сядзеў у мяне назіпернік, дык хадзіць нельга было.* Пруды Стаўб.

**НАЗІ́РКАМ** *прысл.* Не спускаючы з вачэй (ісці следам за кім-н.). *Ішла назіркам за жанчынай і натрапіла на ягады.* Вецярэвічы Пух.

**НАЗЛАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Скласці. *Назлажылі мне дроў хлопцы, а дзяўчаты ўсё прыбралі, а самі мыцца пайшлі.* Крупнікі Віл.

**НАЗО́РКУ** *прысл.* Досвіткам. *Назорку сёньня бліны пякла, бо дачка едзе да мяне.* Вязынка Маладз.

**НАЗО́ЎТРА** *прысл.* Назаўтра. *Назоўтра шчоўе варыць будзім, я і сьмятанкі сабрала.* Засулле Стаўб.

**НАЗУ́БЛЕНЫ** *у знач. прым.* Прарослы. *У зямлю паклалі назубленае семяно, пашоў дожджык — узышло как відзіш.* Рудня Чэрв.

**НАЗУ́БРАНЫ** *прым.* Насечаны, з насечкамі. *А добра назубраным сярпом жаць, любата адна, хаця таксама цяжка.* Восава Круп.

**НАІНСТРУМЭ́НЦІЦЬ** *зак. Экспр.* Натравіць, нацкаваць. *Яшчэ й мацяру наінструмэнціла, і тая трохі перагаварылася.* Савоні Стаўб.

**НАЙБАГАЦЕ́Й** *прым.* Самы багаты. *Загадаў судзьдзя ім тры загаткі: „Хто на гэтым сьвеці найбагацей, і хто найсыцей, і хто найшыпчэй на гэтым сьвеці. Хто адгадаіць, таго й цялушка"* (з казкі). Лубень Віл.

**НАЙБА́РДЗА** *прысл.* Часцей за ўсё. *З бульбай мы прызнаём журок, найбардза з бульбай ядзём.* Калодкі Віл.

**НАЙҐРАВА́ЦЦА** *незак.* Здзекавацца, смешкі строіць. *От з гэтага старога ўсе найґраваюцца, сьмешкі строяць, а яму ж усяго хочацца: і пачуць, і ўведаць.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. naigrawać się 'тс'.

**НА́ЙДА** *ж. Неадабр.* Прайдзісвет. *Гэта найда ўсё ведая, дзе што робіцца, куды хто пайшоў.* Дукора Пух.

**НАЙМІ́Т** *м.* Парабак. *Даўно прайшлі тыя часы, калі нас ганялі ў найміты.* Зазерка Пух.

**НА́ЙМІТКА** *ж.* Наймічка, наёмная работніца. *Дак жонцэ сваёй зробіць загончык от як тры баразёнкі, от як тры дошкі [шырынёй], а нам ужо, наймітка́м, абыходзіць такія, што тры разы па столькі.* Пагост Віл. *Сям'я ў нас была вялікая: шэсь братоў і сястра сядмая, наймітка — восім, двоя старых — от і дзесяць нас.* Забар'е Віл.

**НАЙНА́ЧАЙ** *прысл.* Інакш. *Я дык гэтак назаву, а, можа, хто і найначай назавець.* Жызнава Віл.

**НАЙСЦІ́СЯ** *зак.* Нарадзіцца, аказацца ў наяўнасці. *Вот у мяне нашлося дзяцё, кумоў сабрала.* Бубны Віл. *У іх доўга дзяцей не было, а ў гэтым годзе дзевачка найшлася.* Мушанка Віл.

**НАЙСЫЦЕ́Й** *прым.* Самы сыты. *„Татка, скажы пану так: што найсыцей зімля, іна насычываіць і хлібамі, і вадамі, усім"* (з казкі). Лубень Віл.

**НАЙШЫБЧЭ́Й** *прым.* Самы шыбкі. *Ну, жонка яму кажыць, пану: „А найшыпчэй жарабок у стайні, — каыць, — і з поіздам зьбігаіць"* (з казкі). Лубень Віл.

**НАКА́ЗЫВАЦЬ** *незак.* Даваць наказ. *Сабралася баба ўчора да сваякоў схадзіць, а мне наказывала, кап кароў падаіў, патсьвінаку доў.* Порычы Валож.

**НАКАЛПА́К** *прысл.* Каўпаком, накшталт каўпака. *Прыфраньцілася й хустку накалпак завізала.* Рабунь Віл.

**НАКАНАВА́ЦЬ** *зак.* Нарыхтаваць загадзя, назапасіць. *Старыя гаварылі, што зіма халодная будзе, так трэба больш дроў наканаваць на зіму.* Капачоўка Барыс.

**НАКА́Т** *м.* Дарога, вымашчаная бярвеннямі. *Па накаця кепска ехаць, бо ён вельма павыбіваны.* Дукора Пух.

**НАКІВА́ЦЦА** *зак. Экспр.* Напрацавацца. *Наківалася за цэлы дзень на полі, але ж і дома трэба штс зрабіць.* Зазерка Пух.

**НАКІДА́ННЕ** *н.* Прыданае. *Нявестка як толькі прыйшла да мяне, дык і накіданне сваё прынесла: і рушнікі, і пасцілкі, і абрусы.* Пудзіцк Пух.

**НАКІ́ДАЦЬ** *зак.* Наліць. *Зварыла я заціркі да й накідала ў міску, але толькі чатыры лышкі зьела.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАКІ́ДКА** *ж.* **1.** Плашч ад дажджу. *Вазьмі ў поле накітку, ня йдзі так, а то мо дождж будзя.* Скамарошкі Стаўб. **2.** Куртка, жакетка, надзетая наапашкі. *Мне цёпла, дзевачкі, я ж у накіццы, а вы глядзіце: памёрзьніце, голыя во ходзіце.* Баяры Маладз.

**НАКІДУ́ШКА** *ж.* Пакрывала на падушку.

*У нашай Ноны натта харошыя накідушкі, уся пасьцель харошая.* Малмыгі Віл.

**НАКЛА́СЦІ** *зак.* Надзець (адзежыну). *Наклала новую сукенку, а галаву не памыла.* Рудня Чэрв.

**НАКЛЮ́НУТЫ** *у знач. прым.* Тое, што і назу́блены. *Наклюнутае семя адразу і садзім, доўга не чакаім.* Ляшчынск Мядз.

**НАКО́ПІЧ** *м.* Бункер (саломы). *Летась я паехала па салому, а брыгадзір кажа: „Бярэцця тыя два накопічы, два бункеры", а ў бункеры па-дзяржаўнаму пяцьдзесят кіль палагаецца.* Савоні Стаўб.

**НАКО́Т** *м.* Рад бярвенняў, пасланых паверх чаго; насціл. *На пограбі даецца накот, а амбары крылі саломаю.* Нізок Уздз.

**НАКРАПА́ЦЬ** *зак.* Зрабіць (каўбасу). *Вечарам работа ўсім будзя: трэба каўбасы накрапаць.* Вяршоўка Круп.

**НА́КРЫЎКА**[1] *ж.* Вязаная кручком накідка на падушку або настольнік. *Накрыўкі хто як плёў: хто з белых нітак, а хто з жоўтых ці красных, а тады падушкі ці сталы накрывалі.* Задор'е Лаг.

**НА́КРЫЎКА**[2] *ж.* Юшка. *Глянь жа ты, усё неба абложыла, трэ трубу закласьці. А халера яе ведае, дзе тая накрыўка!* Баяры Маладз.

**НАКРЭ́МЗАЦЬ** *зак.* Надрапаць, напісаць нядбайна. *Зіму, дзьве паходзіць, умеіць распісацца, пісьмо накрэмзаць, і хваціць.* Альсевічы Мядз.

**НАКУЛА́ЧЫЦЬ** *зак.* Набіць кулакамі. *А ён накулачыў гэтага хлопца ды і пайшоў сабе.* Пудзіцк Пух.

**НА́КУЦЬ** *м.* Покуць. *Абразоў у хаце было ат парога аш да накуця.* Ілья Віл.

**НАЛЕ́ЗЦІ** *зак.* Залезці. *Думаеш, я на ліпу не налезу? Пачакай, зараз уверсе буду.* Зазерка Пух.

**НАЛЕ́СНІК** *м. Кулін.* Наліснік. *Замешаваю цеста, пяку бліны, а пасьля ў гэтыя бліны ўкладаю тварох ці варэньня, крыху паджараваю на масьле, і налесьнікі гатовы.* Калодкі Віл. *Зрабіла тварох, то налесьнікі кожны дзень раблю дзецям: кароўка ў мяне добрая, млека хапае.* Літва Стаўб.

**НАЛЕ́ЦЦЕ** *прысл.* На лета, на наступны год. *Налецьце пакіну цялушку, а сёлета не буду, няма чым карміць.* Залазоўе Віл.

**НАЛЁПА** *ж. Экспр.* Клей, звараны з мукі. ◊ **Раз'ехацца як налёпа** — распаўнець. *Нешта ня ладзіцца са здароўем, калі раз'ехалася як налёпа.* Забалоцце Смал.

**НАЛІВА́НКА** *ж. Кулін.* Кішка, напоўненая дранай заскваранай бульбай і ўсмажаная. *Ото ш дзеці наліванку ахвотна ядуць, як зраблю, аш б'юцца.* Чабаі Валож.

**НАЛО́ГАМ** *прысл.* На свой лад, па-свойму. *А вы і ня слухайце нас, бо мы сваім налогам гаворым, а вам нецікава будзе.* Плябанцы Віл.

**НАЛУ́ПНІК** *м.* Аброць для цяляці. *Цяля маё ходзіць з налупнікам, бо карову ссе.* Пудзіцк Пух.

**НАЛЮДНЕ́ЦЦА** *зак.* Стаць такім, як іншыя. *Троха падужэла гусянё, паглядзі, як добра бяжыць. Хаця п троха налюднелася, кінала б ўсё і аднесла да сястры, там у яе гусі ё.* Бяларучы Лаг.

**НА́МАРЖАНЬ** *м.* Намарзень, падоўжаны брусок, які набіваецца на капылы ў санях. *Во, якія намаржні харошыя вычасаў, яны на капылы кладуцца.* Дукора Пух.

**НА́МАРЗНЯ** *ж.* Тое, што і на́маржань. *Намарзьня — гэта такі брус, які насаджваецца зьверху на капыл.* Дукора Пух.

**НАМА́ТВАЦЬ** *незак.* Апаражняць. *Дзеўкі, ідзіця есьці грыбы, Грышка ўжо другую міску наматвае.* Баяры Маладз.

**НА́МАЧЫ** *займ.* Нам. *Дарога к намачы нялёхкая была: у тую пару лесам ды балотам хадзілі пяшком.* Кухцічы Уздз.

**НАМЕ́ТКА** *ж.* Даўні галаўны ўбор замужніх жанчын. *Гадоў мо сто назад насілі наметкі.* Малмыгі Віл. *У Шэвішчыне жанчыны накрывалі на галовы наметкі.* Паплавы Бярэз.

**НАМЁТ** *м.* Тое, што і наме́тка. *Намёт — рушнік, які закручвалі на галаву. Намёт шылі са свайго палатна і насілі яго яшчэ пры прыгоне.* Рудня Чэрв. *Часалі лён шчэткамі, зробленымі са сьвіной шэрсьці. С такога лёну ткалі намёты і ручнікі, вышывалі іх крамнымі ніткамі.* Даўгінава Віл.

**НАМЁТКА** *ж.* Тое, што і наме́тка. *У нас некалі намёткі толькі замужнія бабы насілі.* Нізок Уздз.

**НАМІ́ТУСЬ** *прысл.* Спосаб вязання: вочка направа, вочка налева. *Ну, як расказаць, у мяне во рукавіцы зьвязаныя намітусь.* Бытча Барыс.

**НАМО́ШЧАНА** *дзеепрым.* Раскватаравана. *А ў сяле салдат — поўна намошчана.* Пудзіцк Пух.

**НАМЫ́ЗНІК** *м.* Наморднік. *Калі сабака хапая свойскую жывёлу, кідаяцца на людзей, дык намызьнік яму адзяваюць.* Ляхавічы Дзярж.

**НАМЫ́ЛІЦЬ** *зак.* ◊ **Намыліць шыю** — строга спагнаць; моцна вылаяць. *За гэтыя сплетні яму трэба было добра шыю намыліць.* Зайцы Чэрв. *Я табе зарас так намылю шыю, што ты больш не захочаш тых яблык.* Забалоцце Смал.

**НАМЯ́ЛІЦЬ** *зак.* Нацерці. *І сколькі павесам намялім, тады ўжо адна адной хвалімся.* Папоўка Мядз.

**НА́МЯРЗЕЛЬ** *м.* Тое, што і на́маржань. *На́мярзьлі наверх накладаюцца, на капылэ.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**НА́НАЧКІ** *толькі мн.* Вячоркі. *Ераначкі — гэта калі зьбіраюцца дзеўкі і бабы прасьці зь*

*вечара на ўсю ноч.* Палачаны Маладз.

**НАНЕ́Т** *прысл.* Зусім. *Мае дзеці за лета нанет абнасіліся: што падралі, ш чаго і вырасьлі.* Заямнае Стаўб.

**НА НІЗ**. На рост, ростам. *Мая большая сястра на ніз меншая за мяне, хоць і старэйшая.* Баяры Маладз.

**НА ПАВЕ́Р.** ◊ **Жыць на павер** – жыць, не аформіўшы шлюб. – *Ты ж ужо меў сабе бабу! Дык гэта ты шчэ ні запісаўся зь ёй?* – *Не, не запісаўся, так жыў, жыў на павер.* Залазоўе Віл.

**НАПАДРЭ́СЦЕ** *прысл.* Пад канец. *Ды цеперся араць пачалі, а мы прыйшлі ўжо нападрэсце.* Пральнікі Валож.

**НАПАКАВА́ЦЦА** *зак.* *Экспр.* Тое, што і н а в ў р ы ц ц а. – *Сядай, Гілена, з намі палуднаваць.* – *Не, сусетка, дзякуй, дома напакавалася.* Слабодка Стаўб.

**НА́ПАЛ** *прысл.* Папалам, на дзве роўныя часткі. *Талерка так роўна раскалолася напал, уся роўна як хто адрэзаў.* Дукора Пух.

**НАПАМКІ́** *прысл.* У галаве. *Я паляджу, але мне ні напамке запытаццa, забудуся.* Цялякава Уздз.

**НА ПАПРА́ДУХІ** *прысл.* У госці. *Да мяне на паправдухі брат прыехаў. Даўно, ой, даўно не бачыліся, дык я аж заплакала.* Маркаўцы Уздз.

**НАПА́СІЦЬ** *зак.* Угнаіць. *Няма скаціны ў нас, і зямлю няма чым напасіць.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАПА́СЦЬ** *ж.* Здзек, зневажальная насмешка, зневажальныя паводзіны. *Дак я думаю, за што ж мне тутака цярпець ад вас напасць, азяла і кінула.* Замошша Віл.

**НАПАХТА́РЫЦЬ** *зак.* Напоўніць да верху. *Раніцька пабяжыш і да сьнеданьня цэльны кош [грыбоў] бальшы напыхтарыш.* Нядаль Барыс.

**НАПЕ́РАД** *прысл.* Раней, уперад. *Наперад лепш маці было, а ціпер горш, зусім слабая.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАПЕРАЖЫВА́ЦЦА** *зак.* Знаходзіцца доўгі час у стане душэўнага неспакою; нахвалявацца, нанервавацца. *А напіражывáліся, а як страшна было, пака нас аслабанілі.* Альсевічы Мядз.

**НАПЕРАКІ́** *прысл.* Насупраць. *Усё робіць наперакé, абы пасварыцца.* Цялякава Уздз.

**НАПЕХАТУ́** *прысл.* Пешкі. *Хоць сябе ж вазьму. Сталі жаніцца ўжо мы, дык напехатў сваты прыходзіліся.* Язні Віл.

**НАПЁРЦІСЯ** *зак.* *Груб.* Наесціся ўволю, многа. *Напёрлася ўжо нечага смачнага, што аж на ваду цябе паперла.* Бяларучы Лаг.

**НАПІНА́ЦЦА** *незак.* Шкодзіць. *Халера яго ведая, каму гэта сала напінáецца. Можа і нікому!* Дукора Пух.

**НАПІЦАВА́ЦЬ** *зак.* Налажыць, напакаваць. *Ціперака ў нас на свадзьбу йдзе, бярэ дзьве бутылкі воткі і торт купяць, а ўжэ ў чалавека закусі хватая. А даўней карзіну напіцуя: булак, сыр, яец, сала нажарацъ і нясе – гэто такая мода была.*Ператокі Стаўб. *Напіцуя карзіну яец – і ў Мінск, а аттуль даццэ або грошы, або прадукты – памагала з апошніх сіл.* Арцюхі Стаўб.

**НАПЛЕ́ЧНІК** *м.* Плячук. *Пасьля хваробы ў нашага Сымона зрабіўся адзін наплечнік ніжэйшы.* Саланая Валож.

**НАПЛЕ́ШНІК** *м.* Рукзак. *Пасьцель сваю кладзіця ў наплéшнік адразу і ў шуфляду.* Літва Стаўб.

**НАПЛЫ́Ў** *м.* Нанос з пяску на рачным дне, намыты вадой. *Наплыў можна стрэць нат і ў нашай рачулцы.* Забрэжжа Валож.

**НАПЛЫ́ЎКА** *ж.* *Рыб.* Цёмная пляма на вадзе. *Пад'ехаўшы, мы ўбачылі наплыўкі, значыць, тут рыбакі паставілі сеткі.* Чараўкі Мядз.

**НАПО́РНЫ** *прым.* Напружаны. *Зараз у іх там самы напорны момант, вунь як раскрычаліся, і ўсе на дзірэктара.* Тхарніца Лаг.

**НАПРАМУ́Ю** *прысл.* Напрасткі. *Вяроўку бяруць і пайшлі межы рабіць напрамую.* Пудзіцк Пух.

**НАПРА́СНА** *прысл.* Дарэмна. *Схадзіла напрасна, там нікога няма.* Вецярэвічы Пух.

**НАПРО́ЦІ** *прыназ.* Супроць. *Напроці нашай вёскі дача, а далей і ваш лáгяр.* Баяры Маладз.

**НАПРО́ЦІЎ** *прысл.* Насупраць. *Напроціў, зунь на другім баку вуліцы, наша школа зь белымі аканіцамі.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАПРЫЗАВА́ЦЬ, НАФРЫЗАВА́ЦЬ** *зак.* Наплоіць, завіць, зрабіць укладку. *Валасы ж нек напрызавала, зачасала з дому, каб пякнейшай быць. А мая сястра кыць: „Нафрызуй ты валасы". Я нафрызавала валасы, думáю, прычапуруся, можа ш пякней будзіць.* Залазоўе Віл.; *параўн.* польск. fryzować 'завіваць' < ням. frisieren 'тс'.

**НАПУ́ДЗІЦЦА** *зак.* Спудзіцца. *Тыдзень раней еду на калёсах с футара, а ў кустах нешта як зашамаціць! Конь са страху напудзіўся ды даўся адгэтуль, я ледзь усядзела.* Баяры Маладз.

**НАПУСКА́ЦЬ** *зак.* Пакінуць на гадоўлю. *Скаціны ўсякай напускáюць, дак лацно ім тады і зімой з малаком жыць.* Баяры Маладз.

**НАПЫ́ЖЫЦЦА** *зак.* Набрыняўшы, павялічыцца ў аб'ёме; набухнуць. *Ужо й почкі на вярбе напыжыліся, скора распукнýцца.* Дукора Пух.

**НАПЯКА́ЦЬ** *зак.* Напячы. *Зоўтра напякаю бліноў. Калі любіця, то ўставайця, будзям мазаць.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАПЯРО́Д** *прысл.* Загадзя. *І с каждым годам усё мудрэй робіцца і мудрэй, толькі пасьпявай грошы зарабляць, а яны* (дзяўчаты)

*ужо напярод знаюць, куды іх дзець.* Бялcapучы Лаг.

**НАПЯ́РЦІК** *м.* Напарстак. *Калі шыюць, дык надзіваюць напярцік на паліц, а я дык зь ім не магу шыць.* Ігрушка Круп.

**НАПЯРЭ́СЦЯЖКІ** *прысл.* Напярэсцігі, напярэймы. *Ды яна без дарогі напярэ́сцяшкі і пабегла полем.* Пудзіцк Пух.

**НАРАБІ́ЦЬ** *зак.* ◊ **Нарабіць гасла** — усчаць крык, шум, страшэнны беспарадак. *Агледзяўся гаспадар — німа каня. Тут ён гасла нарабіў ў вёсца, шум падняўся, тут пусьціліся маладыя нейкія шукаць.* Мікольцы Мядз. **Нарабіць голасу** — заплакаць. *А дзеці тады дык голасу нарабілі ат страху.* Пудзіцк Пух.

**НАРА́ВІЦЦА** *незак.* Выклікáць сімпатыю, добрыя пачуцці да сябе. *Як нара́віцца жаніх нявесьце, дык гарэлку на стол.* Багрыцоўшчына Дзярж.

**НАРАВІ́ЦЦА** *незак.* Выбіраць паставу цела, каб менш дакучала што-н. *Сьпіна вельмі баліць, то я ўсё нараўлю́ся. Дык урачы кажуць, што сьпіна сагнулася ў міне, наравíся ні наравіся, балець будзя.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАРА́ВІЦЬ** *незак.* Сімпатызаваць каму, любіць. *О-о-о, там было што нара́віць! Але я й наравіла яго, прама як магія якая была!* Пагост Віл.

**НАРА́Д** *м.* Камплект колаў для воза. *Увесь камплект па-другому так і завуць — нарат.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАРА́ДА** *ж.* Павозка, у якой замест драбін дошкі застаўлены. *Нара́да — конная павоска без драбін, дошкі ставяць. Гной на нараду накідаць добра.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**НАРА́ДКА** *ж.* Тое, што і гнаяўкі. *У нарацца гной возяць, а сена возяць у драбінах.* Стары Свержан Стаўб.

**НАРАЗГАНЯ́ЦЬ** *зак.* Наразворваць. *Учора картоплі шмат наразганялі, дак чуць ні заначавалі на полі.* Цялякава Уздз.

**НАРА́ЗЕ** *прысл.* Пакуль што, часова. *Наразе Ніна за няньку пашла.* Чабаі Валож.; *параўн.* польск. naraz 'нечакана, раптам'.

**НАРА́НІЦЫ** *прысл.* Раніцай. *Малоцім да двух часоў ночы, а тады нараніцы пасьнедаім і на цэлы дзень у лес.* Партызанскі Віл.

**НАРВА́ЦЦА** *зак.* Натрапіць. *Учора як нарваліся на ягады — на адным месцы вядро набралі.* Заямнае Стаўб.

**НАРВО́ВЫ** *прым.* Нервовы, злы. *Ён на вайне быў ранены на Мазюрскіх азёрах у Германіі. Палучаў пенсію. Нарво́вы быў. Сярдзіты.* Саланая Валож.

**НА РО́ССЫПІ** *прысл.* На апошнім месяцы цяжарнасці. *Яна на россыпі, ускорасьці прывядзе дзевачку або хлопчыка.* Савоні Стаўб.

**НАРУ́ГА** *ж.* Здзек, насмешка. *Ці гэта ні наруга? Стала падмятаць, а я павесіла прасушыць адзежу.* Ігрушка Круп.

**НАРУГА́ЦЦА** *незак.* Здзекліва смяяцца з каго-н., насміхацца. *Доўга нам наругаліся, што восім [мальцаў],і ні маглі схадзіць у суседнюю вёску на вічарыны, струсілі. Як ужо ідзеш праз вёску: „Ну, як жа там танцы былі, — кажа, — ці добра патанцавалі?"* Бакачы Мядз. *Мы любілі яму [суседу] наругацца: пасьвіішчам пад акно, а ён за намі тады с палкай ляціць, а мы босыя нясёмся па сьнезе, рагочым.* Ілья Віл.

**НАРУ́ЧНІК** *м.* Манжэтка рукавіцы. *Вязалі во такія з цьвятных нітак, с пасачкамі. Кацярына мне наручнікі вязала.* Дукора Пух.

**НАРЫВА́НАЧКА** *ж.* Болечка, маленькі нарыў. *Учора я пад дошч папала, дык пад носам нарыванaчка села.* Рубяжэвічы Стаўб.

**НАРЫВА́ЦЦА** *незак.* Нада́рвацца, трапляцца, здарацца. *Атабарыліся тут, пазналіся с хлопцамі, і хлопцы неблагія нарываліся.* Арцюхі Стаўб.

**НАРЫ́ТНІК** *м.* Нарыльнік, род аброці, каб свіння не рыла зямлю. *Табе так ідзе гэта прычоска, як сьвіньні нарытнік.* Кукалеўка Чэрв.

**НАРЫ́ХТЫК** *прысл.* Зусім, нашчэнт. *Бандыты гэтыя як запынілі — нарыхтык ababралі.* Літва Стаўб.

**НАРЭ́МЗАЦЬ** *зак.* Зрабіць абы-як. *Ну і нарэмзаў жа ты, братка, дзень прыдзецца выпраўляць!* Скамароцкі Стаўб.

**НАРЭ́ЧАСЬ** *прысл.* Калі-нікалі, зрэдку. *Сьцябловага лісьця цэлы цэбар напакавала і на зіму паставіла, буду варыць нарэчась.* Калодкі Віл.

**НАСАВІ́ЧО́К** *м.* Тое, што і аднóснік. *Хацела насавічок с сабой узяць, ды так сьпяшалася, што з галавы выскачыла.* Зазерка Пух.

**НАСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Запоўніць снапамі. *Бывала, бацька насадзіць ёўню хлеба гэтага — ці ячменю, ці жыта, да пабудзіць у чатэры часы, да дась цэп у рукі, дак хвошчаш-хвошчаш, хвошчаш-хвошчаш!* Дрычын Пух.

**НАСА́ТКА**[1] *ж.* Тое, што і аднóснік. *Насатка тады і спатрэбілася, кап перавязаць крыху рану.* Сцебіракі Віл.

**НАСА́ТКА**[2] *ж.* Біклага. *Насатка с клёпак, нападоб'е вядра, з боку дырачка з сука высьверлена. Ваду налівалі і ў поле бралі. У насатку літры тры-чатыры лезла.* Ігрушка Круп.

**НАСВЯЖО́Х** *у знач. прысл.* Зусім нядаўна. *Яны ўжо дояць па тры, па чатыры гады, а яна насьвяжох, дык у яе няспрытна палучаіцца.* Баяры Маладз.

**НАСЕ́ВАК** *м.* **1.** Семя. *Сёліта мы садзілі агуркі сваім насеўкам.* Ляшчынск Мядз. **2.** Насенне (бульбы). *Насевак гатоў для пасаткі, насыплім у мяхі, і наша работа зробліна.* Ляшчынск Мядз. *Зямлю сеіць ня было чым, дабывалі насевак па суседніх вёсках, каторыя былі не спалены.* Новікі Мядз.

**НАСЕ́НКА** *ж.* Дрэва, пакінутае на насенне.

*Пакідаюць на мэтраў пяць насенкі адна ад другой.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**НАСЕ́ННІЦА** *ж.* Старая бульбіна, выкапаная разам з маладой. *Бывая, і насеньніца цэлая з маладой гзпадая.* Нізок Уздз.

**НАСЁЛКА** *ж.* Посцілка для пераносу розных рэчаў; *гл.* лясёнка. *Вот бачыце, баба панесла насёлку на плячах дамоў з лаўкі.* Рудня Чэрв.

**НАСЁНА** *н.* Тое, што і насе́вак (у 1 знач.). *Тут па краю я бурачкі на насёна пасадзіла.* Завішына Лаг.

**НАСЁНКА** *ж.* Тое, што і насе́вак (у 2 знач.). *Неяк, помню, адзін год была ўрадзіла картопля, такая ўжо была вялікая, што ні было як і насёнкі адабраць.* Дукора Пух.

**НАСЁРБАЦЦА** *зак.* Нахлёбацца, наесціся. *Насёрбаўся крупніку, а цяпер бяжы дзеду памажы трусікам нарваць.* Нізок Уздз. *Я болей ні хочу, я ўжо насёрбаўся.* Турэц Чэрв.

**НАСКАБЛІ́ЦЬ** *зак.* Наскрэбці (бульбы). *А вечарам наскаблілі сьвежай бульбы і зварылі суп з грыбамі.* Сцебіракі Віл.

**НАСКАЧЫ́ЦЬ** *зак.* ∇ **Ганны наскачылі — дня надтачылі, а Варвары — дня ўварвалі.** Бясяды Лаг.

**НА́СКІ** *займ.* Тутэйшы, наш. *Наскія дак усе былі: і малы і стары.* Плябанцы Віл. *А многа ў Мінску ненаскіх людзей?* Сядзіца Віл.

**НАСКО́КВАЦЬ** *незак.* Націрацца, з'яўляцца. *У мяне рука ня сільна набіта цяпер, як толькі ўзяўся за што рабіць, мазалі наскокваюць.* Арцюхі Стаўб.

**НАСО́ЎКА** *ж.* Вопратка з даматканага сукна, якая надзяваецца на кажух. *Цяпер замест насоўкі больш плашч ці накітку якую надзяваюць.* Аздзяцічы Барыс.

**НАСО́ЎНІК** *м.* Савок на смецце. *Шукай насоўніка. Куды ж гэта ён прапаў? Ці ня ты яго браў?* Старына Дзярж.

**НАСПАДМА́НЫВАЦЬ** *зак.* Абмануць, салгаць. *Наспадманывай ідзі яго, скажы, што тата завець.* Баяры Маладз.

**НАСПІ́ЧЫЦЬ** *зак.* Уставіць спіцы ў калодку. *Калотку ўжэ насьпічылі, ціпер трэба вобад нацягнуць.* Цялякава Уздз.

**НАСТА́ВІЦЬ** *зак.* Надшыць новым матэрыялам. *У сукенцы плячуке падраліся, дак я наставіла другім, мо шчэ паносіцца троха.* Дукора Пух.

**НАСТАЯ́ШЧА** *прысл.* Поўнасцю. *Ужо настаяшча пастроілі двухветажны дом. Гэна клуб будзя.* Сядзіца Віл.; *параўн.* рус. по-настоящему.

**НАСТО́ЛЕНА** *дзеепрым.* Накладзена на столь (пра запас). *А ў яго ж дошак-дошак настоляна!* Савоні Стаўб.

**НАСТО́ЛІ** *толькі мн.* Частка зруба пад столлю. *У нас гэтыя часткі, што пад столлю, настолі называюцца.* Вецярэвічы Пух.

**НАСТО́ЛЬНІЦА** *ж.* Настольнік. *У такоі стол, засланы белай настольніцай, два крэслы, цілівізар.* Таўкачэвічы Уздз.

**НАСТОЛЬНІ́ЧКА** *ж.* *Памянш.* да насто́льніца. *Прынясуць дзяжу такую* (от некалі хлеп пяклі) *і калі маладая дастойна, будзя на дзяжы сядзець, а калі не, дак настольнічку пасьцілаюць, на настольніцы яна ўжо.* Таўкачэвічы Уздз.

**НАСТО́ЎНІЦА** *ж.* Настаўніца. *У яе дзьве дачкі: анна настоўніцай была, а другая — бугалцерам.* Даўгінава Віл.

**НАСТРА́МАК** *м.* Невялікі вазок. *Наша Лысуха дык за дзень зьела б настрамак сена, каб даў.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАСТРАХА́ЦЦА** *зак.* Напалохацца, нацярпецца страху. *Мы ў тую ноч ледзьве жывы засталіся, так ужо настрахаліся!* Пудзіцк Пух.

**НАСТРО́ІЦЬ** *зак.* **1.** Паддаць настраёвасці. *Настроілі мне схадзіць да доктура, я б век не хадзіла сама.* Язні Віл. **2.** Прыбраць, даглядзець. *Чаму ж не хваліцца?! Дачка па нядзелях прыягджае, настроіць усё і зноў паедзе.* Баяры Маладз.

**НАСТЫРА́ЦЦА** *незак.* Уступаць у спрэчкі; псаваць адносіны. *Ты, Гэлька, і ня думай, ня будзя яна з-за цябе настырацца зь людзьмі.* Дукора Пух.

**НАСЦЁБАЦЬ** *зак.* Набіць, нахвастаць. *Мы абратна іх [дзяцей] насьцёбалі, ужо дупцамі б'ём, б'ём, адлятуцца, за куст схаваюцца — і за намі.* Забар'е Віл.

**НАСЫПУ́ХА** *ж.* Насыпка. *Заўтра будзіш у Вілейцы, паглядзі там на насыпухі, трэба падушкі перасыпаць.* Сцешыцы Віл.

**НАСЫ́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Насычаць. *„Татка, — скажы, — што найсыцей зімля, іна насычываіць і хлібамі, і вадамі, усім, а найшыпчэй — чалавечаскія думкі"* (з казкі). Лубень Віл.

**НАТ** *прысл.* Нават. *Мы дрыгвы ўлетку пасьці ніколі ні варым: яна разлезяцца, што нат гатка глянуць на яе, ні то што есьці.* Падзерычы Стаўб.

**НАТАЛКАВА́ЦЬ** *зак.* Растлумачыць. *Наталкавала яму дарогу ў суседнюю дзярэўню, дык ён і пашоў.* Пудзіцк Пух.

**НАТА́РЫЦЬ** *зак.* Нацерці (на тарцы). *Мой мне і бульбы натарыць і бапку паставя.* Колюж Бярэз.

**НАТАРЭ́НДЗЕ** *прысл.* Блізка, пад рукамі. *Пастаў натарэндзе, кап шукаць ні трэба было.* Чабаі Валож.

**НАТАЎЧЫ́СЯ** *зак.* Натаміцца, работу робячы. *Даўна казалі бабы, як прыдзіш заморысься: „Ай, нарабіўся, натоўкся, як мурза ў ступі".* Засулле Стаўб.

**НАТАЧКІ́** *прым.* Малы. *Бульба ў гэтым годзе вырасла натачкая, няма што і зьбіраць.* Баяры Маладз.

**НАТО́ВІКІ** *мн.; адз.* **нато́вік** *м.* Лапці з

пяньковых вяровачак. *А йшчэ вілі сь пяньківяровачкі і рабілі тожа такія лапці зь вяровачак, натовікі гэта ўжо лічыліся.* Вязынка Маладз.

**НАТО́ПКАЦЦА** *зак. Экспр.* Нахадзіцца. *Вот гэты стары, які зь яго чалавек ужо! К прымеру, і я. Як натопкаюся за дзень, прылехчы хочыцца, нічога ні на ўме.* Баяры Маладз.

**НАТРЫВО́ЖЫЦЦА** *зак.* Натурбавацца. *Ён тады так нахваляваўся, натрывожыўся, што з твару ажно змяніўся.* Турэц Чэрв.

**НА́ТРЭТНЫ** *прым.* Капрызны, надакучлівы. *Цехніка цяпер здарава спасая. Гэтако цяпер натрэтно лето было, запозьняно, і ўсё прыбралі — бабы летам гулялі.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. natrętny 'тс'.

**НАТУ́Р** *м.* Прадукты. *І авечкі прадаў, і цялушку прадаў — вясельля ш трэба рабіць! Грошы шваґер аддоў, але ш і натура якога трэба трошка купіць.* Забар'е Віл.

**НАТУ́ШКА** *ж.* Верхняя кароткая вопратка з тоўстай тканіны. *Ужо цёпла, можна і ў натусцы ісьці.* Сырмеж Мядз.

**НА́ТШЫ** *займ.* Іншы, інакшы. *Во тут памідоры некія натшыя, бальшыя, бяры тут.* Заямнае Стаўб.

**НАТЫ́КАЦЬ** *зак.* Пасадзіць. *Картошку мы самі натыкалі, ён толькі пабаранаваў.* Пудзіцк Пух.

**НАЎБО́ЧУ** *прысл.* Збоку. *Што ш ты, Яначка, села наўбочу? Патсоўвайся.* Савоні Стаўб.

**НАЎДАГО́Н** *прысл.* Наўздагон. *А яна яшчэ кінула яму наўдагон некалькі злосных слоў.* Скамарошкі Стаўб.

**НАЎЕ́ЧКА** *ж.* Сукенка, якую надзявае дружка на вяселле. *Прышлі дзеўкі на вясельля ўсе ў наўечках, а я адна ў спадніцы ды ў катанцы.* Жораўка Пух.

**НА́ЎЗА** *ж. Пчал.* Рамка для вашчыны ў калодачным вулеі. *Сёньня хацеў наўзу паставіць, дый так і не сабраўся.* Рабунь Віл.

**НАЎЗА́ВАДЫ** *прысл.* Ва ўсю сілу. *Наўзаводы каня пусьціць, прама с чатырох нох конь скача.* Вязынка Маладз.

**НАЎЗЛЁТ** *прысл.* На вока, не мераўшы. *Прышлі, наўзлёт скідалі — і ўсё, самі і пашлі.* Ляшчынск Мядз.

**НАЎЗНІ́Ч** *прысл.* Дагары, тварам угору. *Не лажыся наўзьніч, бо доўга ня паляжыш.* Дукора Пух.

**НАЎЛЕ́ЧКА** *ж.* Навалачка. *Белыя наўлечкі сталі шыць нядаўна і надзяваць на насыпку. Некалі спалі на адной насыпцы, без наўлечкі.* Бясяды Лаг.; *параўн.* польск. nawleczka 'тс'.

**НАЎМАНЫ́** *прысл.* Наўгад. *Зусім асьлепла, іголку наўманы ўводжу ўжо.* Чабаі Валож.

**НАЎНЁТ** *прысл.* Тое, што і н а н ё т. *Наўнет вымерзла картопля.* Грыцкаўшчына Валож.

**НАЎПЕ́РАД** *прысл.* У будучым. *Жыў цар. І быў які-та мудры Саламон. Цар пачуў пра яго, што ён ізьвяшчаіць што-та такое наўперат, што будзіць некалі* (з казкі). Даўгінава Віл.

**НАЎПЕ́РАДЗЕ** *прысл.* Наперадзе, спераду. *Квят на галаве не было, а была фата, як гэтыя модніцы цяперака адзяваюць, наўперадзе кружочык нейкі.* Язні Віл.

**НАЎРЭ́ЦЦА** *зак.* Напаткацца, нарвацца. *Думала, бабачкі, не дайду — такая цемень. Добра, што хлопец Гэльчын наўрэўся, дык батарэйкай сьвяціў.* Слабодка Стаўб.

**НАЎСКІ́ДКУ** *прысл.* Страляць не выцэльваючыся. *Іван вучыў мяне, як страляць наўскітку.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАЎСКО́ЧКУ** *прысл.* Навыперадкі, стараючыся выперадзіць іншых. *Уставалі ўдосьвіта і скарэй беглі на свой шмат. Жалі наўскочку, хто скарэй сажне свой шмат.* Нядаль Барыс.

**НАЎСУСТРЭ́ЧУ** *прысл.* Насустрач. *Мой сынок ідзе наўсустрэчу, вядзе гэту кароўку ды кажа: „Мамка, ня йдзі, там многа вельма немцаў. Мамачка, ня йдзі туды!"* Чырвоны Пасёлак Пух.

**НАЎСЯГДЫ́** *прысл.* Назаўсёды. *Наўсягды застоўся тут жыць, ды й ехаў сюды с такім намярэньнем.* Сядзіца Віл.

**НАЎЧЫЦЕ́ЛЬКА** *ж.* Настаўніца. *Толькі пішы добра, без блэндаў, старайся, а то наўчыцелька не пахваліць.* Чараўкі Мядз.; *параўн.* польск. nauczycielka 'тс'.

**НАЎЧЫ́ЦЦА** *зак.* Набыць навыкі, уменне рабіць што. *Захварэў брат, а ні было каму касіць. Я папрасіла аднаго чалавека, дык ён мяне вучыў касіць. Дык я наўчылася касіць.* Ластаянцы Віл.

**НАФРЫЗАВА́ЦЬ** *гл.* напрызава́ць

**НА́ФТА** *ж.* Газа. *Я нафты наліла ў сяргач, кап хваціла, а вы ўжо самі запаліце, калі картоплі абрэжаце.* Літва Стаўб.; *параўн.* польск. nafta 'тс'.

**НАФУНДАВА́ЦЬ** *зак.* Напакаваць, накласці. *І грыбэ як пачнуцца, то адно на базары й сядзяць. Карзіны пудовыя нафундуюць і на базар.* Арцюхі Стаўб.

**НАФУФЫ́РЫЦЦА** *зак. Неадабр.* Прыбрацца так, каб кідалася ўсім у вочы. *Ну і нафуфырылася ты сёньні! Увесь дзень сядзела, мабыць, прад люстрам.* Скамарошкі Стаўб.

**НАХАПУ́** *прысл.* На скорую руку, наспех. *Яна вечна нахапу ўсё робіць, быццам часу не хапае.* Касцюкі Барыс.

**НАХВО́ЦІЦЦА** *зак.* Здаволіцца, сагнаць ахвоту. *Я ні нахвоцілася з работы, пака і старасць мяне агарнула, так давольна была рабоце, што яна ніколі ні надаядала мне.* Кукшавічы Дзярж.

**НАЦЕРАБІ́ЦЦА** *зак.* Тое, што і н а в ў-

рыцца. *Спачатку добра нацерабіся, а потым і ап працы думай, больш зробіш.* Сакольшчына Уздз.

**НАЦІ́НА** *ж.* Сцябло клубняплодных. *Трэба нарваць націны і накрышыць сьвіням.* Цялякава Уздз.

**НА́ЦІСК** *м.* Мазоль. *Гэна ш сёньня абула вятруфкі і такеваля націскаў нарабіла!* Літва Стаўб.

**НА́ЦКІ** *займ.* Тое, што і на́скі. *Гэты чалавек нацкі.* Сырмеж Мядз.

**НАЦУ́БІЦЬ** *зак. Экспр.* Накласці многа чаго. *Во нацубіла посьцілку — ледзьве панесла.* Цялякава Уздз.

**НАЦЯ́ЖКА** *ж.* Плашч-палатка. *Нацяжку вазьмі, у дарозі ўсякае бываіць.* Якімаўка Круп.

**НАЦЯГНУ́ЦЬ** *зак.* ◊ **Нацягнуць нервы** — расстроіць, пазбавіць добрага настрою. *Шчэ мужык нацягне нервы, нічога рабіць не хочацца, хоць с хаты бяжы.* Зазерка Пух.

**НА́ЧАЙ** *прысл.* Інакш, па-другому. *Зараз людзі начай жыць сталі, хаты люцкія паставілі, цілівізары пакуплялі, нат на машынах езьдзюць.* Баяры Маладз.

**НАЧАКУ́** *прысл.* Напагатове. *Ужо свадзьба начаку, а брат ня йдзець вырашаць, на якім аснаваньні замуш сястру аддаваць.* Баранцы Віл.

**НАЧА́ТАК** *м.* Пачатак. *Баз начатку ня можна тады й канчатку зрабіць.* Мядзел Мядз.

**НАЧЛЕ́ЖКІ** *мн.* Добраахвотныя зборышчы дзяўчат на папрадухі ў начны час. *І днём пралі і вечарам. Зьбіраліся дзяўчаты на папрадухі і нават начлежкі ўстраявалі.* Мацкі Мядз.

**НАЧЛЕ́ЗНІК** *м.* Начлежнік. *А гэтыя начлезьнікі тым часам падрыхтавалі дзёрну, каменьня, дроў, паселі кругом.* Мікольцы Мядз.

**НАЧНІ́ЦА** *ж.* Дзіцячая хвароба, калі дзіця ноччу не спіць. *Як дзеці ноччу не сьпяць, то кажуць: начніцай хварэя.* Бясяды Лаг.

**НАЧЭ́ННЕ** *н. Зб.* Начынне, набор прадметаў, розных інструментаў. ∇ **Без начэньня і вошы не заб'еш.** Нізок Уздз.

**НАШАМАРА́ШЫЦЬ** *зак. Экспр.* Хутка ўзвесці (будынак). *За два гады столькі нашамарашылі новых дамоў, што проста нічога не пазнаць.* Літва Стаўб.

**НАШАМАТА́ЦЬ** *зак.* Намучыць, стаміць. *Хлапец як нашаматае за дзень, аш кашуля мокрая стане, робячы так не ўтомісься, як гуляючы.* Баяры Маладз.

**НАШАРАВА́ЦЬ** *зак.* Намазваючы, змазваючы маззю, нацерці. *Што за пяконцая мазь, хай бох крыя! Як нашарую, оой, ужо ш пакуль перапячэ, дак, здэцца, й вочы павыскачуць.* Няровы Валож.

**НАША́СТАЦЬ** *зак.* Назразаць без разбору, налаташыць. *Трэба ісьці ў агарод, гарбузьніку нашастаць.* Зайцы Чэрв. *Схадзіла на пуць, трусом нашастала мех травы.* Савоні Стаўб.

**НАШАТЭ́РЫЦЦА** *зак.* Надзьмуцца. *Чуць што скажы яму ні так, дык адразу нашатэрыцца.* Вялікая Вуса Уздз.

**НАШВЕ́РКАЦЬ** *зак.* Нагаварыць. *Яна ж без разбору нашверкае таму Ваську на вуха, а ён як вып'е, дык і ўспамінае ўсё.* Рудня Чэрв.

**НАШЛЕ́Г** *м.* **1.** Начны адпачынак. *Прыходзяць яны [а ўжо было цёмна] і просяцца на нашлег.* Ракаў Валож. **2.** Пасьба коней ноччу. *А мы раньшы жылі, вадзілі на нашлег вечарам, цэлую ноч там пасьвілі.* Зачысце Барыс.

**НАШМАРАВА́ЦЬ** *зак.* Нафарбаваць, падфарбаваць. *Старая кабета, а нашмаруя бровы малюфкай і пашла.* Забрэжжа Валож.; *параўн.* польск. nasmarować 'намазаць'.

**НАШНІ́ЦА** *ж. Бат.* Пауночнік (Knautia). *Дзяцей, якія ноччу не сьпяць, купаюць у нашніцах, паруць.* Паплавы Бярэз.

**НАШО́НКА** *ж.* Ношка. *Нашонка дроў у яе цяшкая, дык яна леиць пасьпявала за ўсімі.* Яміна Віл.

**НАШУ́ЛКА** *ж.* Тое, што і насёлка. *Мяне паслалі за травою сьвіньням. Думаю, з нашулкаю пайду і ўтаплюся, так упякліся гэтыя сьвіньні.* Саланая Валож.

**НАШУ́ТКА** *ж.* Тое, што і нажу́тка (у 2 знач.). *Навошта ты нашутку надзела? Прадзьме ўсё цела.* Літва Стаўб.

**НАШЧА́К** *прысл.* Нашча. *Ешча садзіцеся, што вы нашчак пойдзіця!* Баяры Маладз.

**НА́ШЫ** *у знач. наз.* Сваякі, родныя. *Хаджу ш я на работу, хаджу, а нашы кажуць, дзе йна ходзіць, кожны дзень усё недзя йдзе.* Пагост Віл.

**НАШЫВА́НЫ** *у знач. прым.* Вышыты. *Некалі амаль ва ўсіх каўнярэ нашываныя былі чырвонымі ніткамі.* Цялякава Уздз.

**НАШЫ́ЙНІК** *м.* Кашнэ. *Нікчэмным зьдзелыўся: полы паліто сабе, нашыйнік сабе, брыль сабе.* Якімаўка Круп.

***НАШЫ́ЛЬНІК** *м.* Ашыйнік. *Раменны паясок на шыі сабакі нашыльнік завуць. У нас сабакі ходзяць без нашыльнікаў, а ён усё: „Чаму сабака без нашыльніка?"* Рудня Чэрв.

**НАШЭ́ЙНІК** *м.* Тое, што і нашы́льнік. *Нашэйнік можа быць і скураны, і парусінавы. Да нашэйніка прывязваіцца цэпка.* Саланая Валож.

**НАШЭ́ЎКА** *ж.* Тое, што і нашо́нка. *Вам цяпер можна толькі лёхкую работу рабіць, бо як станеця дзяругі, нашэўкі гэтыя насіць, зноў пападзяце ў бальніцу.* Рубяжэвічы Стаўб.

**НАЯРЧА́ЦЬ** *незак.* Папраўляцца, здаравець. *Пасьля аперацыі жонка мая ніяк не наярчае.* Зазерка Пух.

**НЕАБХО́ДЛЫ** *прым.* Які не дае ўсходаў (пра зерне). *Бываіць, што пасадзіш, а там многа неабходлага пападзецца.* Ляшчынск Мядз.

**НЕ́БА** *н.* ◊ **Пад небам** — не ў памяшканні,

на вольным паветры. *Цяпер зярно пад небам ляжыць, калі ў ток не паспеюць сабраць.* Дрычын Пух.

**НЕБЕЛЬНЫ** *прым.* Мэблевы. *Быў у магазіне небельным, шкаф купіў.* Малмыгі Віл.

**НЕВАД** *м.* Рыбалавецкая брыгада, якая ловіць рыбу невадам. *Мы кожды дзень піраймаім неват, калі яны едуць на санях праз нашу вёску, іншы рас рыбы купім.* Мікольцы Мядз.

**НЕВАЗНАСІМА** *прысл.* Немагчыма. *Учора быў такі ўжо дошч, што проста невазнасіма было выйсьці.* Літва Стаўб.

**НЕВАЗНАСІМЫ** *прым.* Нясцерпны, невыносны. *Як прайдзе дождж, такі холат невазнасімы [гэта бліс ля гор Карпат, так гаварылі], як падме вецяр, проста нільзя цярпець, такі холат. Як сонца, дык зімля трэскаіцца. Там такі клімат.* Ухвала Круп.

**НЕВАЗРОСЛЫ** *прым.* Малалетні. *А ён малютак, канешна ш, быў ніваЗраслы, ні знаў нічога пра тое, што вінтоўка зараджана, зьвёў корак і стрэліў.* Мядзел Мядз.

**НЕВІНАВАТНЫ** *прым.* Невінаваты. *Пастралялі і гэтых невінаватных, не глядзелі на гэта.* Пудзіцк Пух.

**НЕГАНЬБІТНЫ** *прым.* Добры, прыгожы, без ганьбы. *І дзяўчына яна неганьбітная, а замуж ніхто так і не ўзяў.* Літва Стаўб.

**НЕДАБОЙ** *м. Ткац.* Загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдам. *Нямоцна бёрдам як стукняш, нядабой будзя.* Вялікая Вуса Уздз.

**НЕДАВІДЗЕЦЬ** *незак.* Дрэнна бачыць, мець слабы зрок. *Гэты свэтар мне цётка рабіла, а яна ўжо трошкі нідавідзіць, таму й вышла ні натта добра.* Канстанцінава Мядз.

**НЕДАЛЭНҐАВАТЫ** *прым.* Нязграбны, няўдалы. *У нас падласянько, чорнянько, рыжанько, тры жоўцінькія, адно сракацінько, адно крывоё, нідалэнґавато неко, ногі атстаўляе, калечка нека, — во колькі куранятак.* Савоні Стаўб.; *параўн.* польск. niedołęga 'чалавек, фізічна няспраўны, няздара'.

**НЕДАЛЭНҐІ** *прым.* Няздольны, няздатны. *Нейкі недалэнґі ён хлопіц, за што ня возьміцца — нічога ня зробіць.* Бобр Круп.

**НЕДАПАЛ** *м.* Няхватка тэмпературы. *Смала поўнасьцю ня вышла, не хваціла духу, недапал палучыўся.* Нізок Уздз.

**НЕДАРЭШНЫ** *прым.* Няўклюдны. *Пасватаўся да мяне такі ш ужо саўсім недарэшны — брыткі, касавокі.* Аляхновічы Маладз.

**НЕДАСАЛЬ** *ж.* Страва, у якой малавата солі. *Недасалі як наясіся, дык хоць на ваду ні цягня.* Кроква Лаг.

**НЕДАСЕК** *м. Ткац.* Тое, што і н е д а б о й. *Які недасек вышаў, пэўна, берда слабая.* Бубны Віл. *Есьлі адзін бок палатна тужэй ідзе, а другі слабіцца, то і палучыцца недасек.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**НЕДАСОЛ** *м.* ∇ **Недасол у місцы, перасол на сьпіне.** Вішнева Валож.

**НЕДАСТАЧА** *ж.* Недастаткі, беднасць. *Некаторы ў недастачы жыве, ды ня ўнывае, а некаторы і ў дастатку жызьню недавольны.* Саланая Валож.

**НЕДАТКНЕНТЫ** *прым.* Недатыкальны. *Такі ўжо ты стаў нядаткненты, што і слова ня скажы.* Дукора Пух.

**НЕДАТОПАК** *м.* Атопак, стаптаны абутак. *Зайздрасьць бярэ Міколку: у брата вунь новыя боты, а Міколка ў недатопках ходзіць.* Турэц Чэрв. *Недатопкі вон выкідалі.* Вялікая Вуса Уздз.

**НЕДАТЫКА** *ж.* Незачэпа. *Недатыка гэдакая нашлася, а што, каб я так зрабіла?* Ляхі Нясв.

**НЕДАШЧЫТАЦЦА** *незак.* Недалічыцца. *Аднаго кураняці недашчыталася.* Арцюхі Стаўб.

**НЕДЗВІЖЫМЫ** *у знач. прым.* Нерухомы, без руху. *І ўжо не было спасу. Ноч ахапіла, а чалавек нідзьвіжымы, і завезьлі непрытомнага аш у Валожына.* Няровы Валож.

**НЕДЗІКА** *прысл.* Недзе. *Недзіка праступдзілася, дык чохаўка замучыла.* Мядзел Мядз.

**НЕК** *прысл.* Неяк. *Нек паехала я да сваіх на Узду на гэтых днях, а яны — да мяне.* Сакольшчына Уздз. *Нек пайшлі ў грыбы мы, малыя, далёка зайшлі ды зблудзілі.* Зазерка Пух.

**НЕКАЛІ** *безас. у знач. вык.* Нельга, няма як. *Была свадзьба от нядоўга, жыта жалі, некалі было гуляць доўга, дык толькі адзін дзень пагулялі і пашлі жыта жаць.* Новікі Мядз.

**НЕКАЛІСЬ** *прысл.* Калісьці, даўно. *А грэбля тая старая ўжо, па ёй ніхто ні езьдзіць, а гэта некаліс езьдзілі, як люцкай дарогі ў Калодзіжы ні было.* Плецівішча Чэрв. *Некалісь тут былі непраходныя лясы, так мой дзед яшчэ гаварыў.* Верхмень Смал.

**НЕКАЛІСЬЦІ** *прысл.* Тое, што і н е к а л і с ь. *Праўда, дзіўчаты былі харошыя, мяне прымалі ў сваю кампанію, танцаваць я добра ўмела некалісьці, хлопцы бралі мяне.* Малінаўка Лаг.

**НЕКАЛІШНІ** *у знач. наз.* Даўнейшы, ранейшы. *Некалішняе то ўспамінаецца, але не хачу, каб яно ізноў вярнулася. Пакутавалі, мучыліся.* Баяры Маладз.

**НЕКАШНІ** *прым.* Стары, састарэлы. *Ды не слухайце вы маю бапку, бо яна ўжо некашняя і па-некашнему гаворыць.* Рубяжэвічы Стаўб.

**НЕКТАР** *м. Пчал.* Нектар. *Вот, як толькі зачнуць цьвісьці кветкі, так пчолы і сабіраюць нектар.* Гілікі Валож.; *параўн.* грэч. néktar.

**НЕ́КУДЫ** *прысл.* ◊ **Далей некуды** – горш таго, што ёсць, быць не можа. *Сёмага чысла, забыў якога месяца, першы бой быў. Ну, й біліся, біліся, далей некуды.* Новікі Мядз.

**НЕМАГУ́ШЧЫ** *прым.* Вельмі слабы. *Цiпер я стаў стары, німагушчы і праз дарогу адзін ні пяройду.* Цялякава Уздз.

**НЕ́МАРАЧ** *ж.* У кленічах: **кап цябе немарач узяла!** Сакольшчына Уздз.

**НЕНАБІ́РУШЧЫ** *прым.* Незаразны. *Мусіць, хвароба ненабірушчая была, бо я адна ў сям'і хварэла.* Зазерка Пух.

**НЕНАДЗЕ́ЙНЫ** *прым.* Тое, што і неабходлы. *Каб яго пранцы з'елі, насенне папала ненадзейнае.* Паплавы Бярэз.

**НЕНАЕ́СНЫ** *прым.* Ненаедны, прагны. *А-я-яй, якія вочы завідушчыя! Яны п цэлы сьвет, здаецца, загрэблі сабе – такі чалавек прагны, ненаесны.* Турэц Чэрв.

**НЕПАЧА́ТЫ** *прым.* ◊ **Непачаты край** – дужа многа, залішне. *Трэба заўтра рана ўстаць: работы непачаты край.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**НЕПРАБІ́ТЫ** *у знач. прым.* Непрацёрты, занесены снегам. *Во, на полі непрабітая дарога, аш па пояс снегу намяло, за ноч так замяло.* Дукора Пух.

**НЕПРАЛО́ЖНЫ** *прым.* Тое, што і непрабіты. *Па непраложнай дарозе цяшка ехаць, сані вязнуць, коні лець цягнуць.* Малмыгі Віл.

**НЕПРАХО́ДЗІМЫ** *прым.* Густы, вялікі, які цяжка прайсці. *Лясоў непраходзімых было тут колькі! А звяроў усякіх!* Ляшчынск Мядз.

**НЕПРАЦЁРТЫ** *прым.* Тое, што і непрабіты. *Цяшка будзе ехаць сёньня, бо дарога яшчэ непрацёртая.* Ігрушка Круп.

**НЕПРЫЛЮ́ДАК** *м. Неадабр.* Нелюдзь. *Вы на яго не глядзіце. Што зь яго возьміш, калі ён непрылюдак нейкі ўрадзіўся.* Пількаўшчына Мядз.

**НЕ́РАДЗЬ** *ж.* Што-небудзь дробнае, невялікае. *Выбіраць надаела нерадзь гэту, сёлета клубніка плахая.* Савоні Стаўб.

**НЕ́РАСЛЬ** *ж.* Тое, што і нерадзь. *Неўрадзіла клубніка, нерасьль адна, пагода прыжарыла.* Савоні Стаўб.

**НЕ́РВЫ** *мн.* ◊ **Нервы параесці (пераядаць, ад'ядаць)** – надзвычай надакучаць. *Гэта сьсяленьня мне ўсе нервы пераела: то тога няма, то тога. Ест крыша, ест цамент, лес выеяс – людзей няма: сенакос, кожны хватаяцца за гэту косу.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Я цяперака кароўку прадала, свіні швайку пад бок, курэй мало – німа каму нервы пераядаць.* Жацерава Стаўб. *Нервы ад'ядая мне гэты маляц: дзень і ноч дома не стыкаецца.* Горкі Стаўб.

**НЕРУКАДЗЕ́ЛЬНІЦА** *ж.* Няўмека. *Калі пасьцель была заслана нярахлівай дзяругай, такая дзяўчына лічылася гаспадыняй-нерукадзельніцай.* Даўгінава Віл.

**НЕСКАБЛЁНЫ** *у знач. прым.* Неабіраны. *Бывала, гаршчок бульбы ніскаблёнай зварыш, на стол пасыпіш і вялікі гаршчок капусты з грыбамі – ажно насы гнуцца.* Сачыўкі Віл.

**НЕ́СКУЛЬКІ** *ліч.* Некалькі. *Іх жа, аўтобусаў, тут нескулькі ходзіць, то вы не сьпяшайцеся.* Рубяжэвічы Стаўб. *У мяне было нескулькі ботаў, то мяне ўсе багатым шчыталі.* Луцішча Круп.

**НЕ́СМАК** *м. Толькі адз.* Нясмачнае што. *Маруся палучыла много картофлі, я ўзяла ў яе кошычак, папробувала, то й ні ела. Ні разварваяцца, адна вада, несмак, аддала сьвіням.* Савоні Стаўб.

**НЕ́СМАШ** *ж.* Страва, прыгатаваная нясмачна. *Можыш выліць гэту несмаш сьвіньням; ніхто яе есьці ня будзе.* Кроква Лаг.

**НЕСТЫКА́ЦЦА** *незак.* Амаль не бываць дома. *Не ведаю проста, што і рабіць: яна ж нестыкаіцца дома і мяне ня слухае.* Галькі Круп.

**НЕСУМЫ́СЛЯ** *прысл.* Незнарок. *Я несумысля выпусьціла гладышык – во гэны камень тут ляжаў.* Рагатка Барыс.

**НЕСУСІ́ЛЬНЫ** *прым.* Непрыкметны. *Такая яна ўжо несусільная! Світарок на ёй некі нецікавы, і сама ціхая.* Пудзіцк Пух.

**НЕСХАДЗІ́МЫ** *у знач. прым.* Вялікі па плошчы. *Балоты тут у нас, вялікія балоты, адно канчаіцца, другое пачынаецца; грась, вада, багна несхадзімая.* Плецівішча Чэрв.

**НЕ́ТРА** *ж.* Аблога. *Нічагусенькі німа тутака, не расьце, бо гэта ўжо нетра.* Такарышкі Іўеў.

**НЕ́ТША** *прысл.* Многа. *У нас гэтага стар'я дак нетша.* Цялякава Уздз.

**НЕЎЗНАРО́К** *прысл.* Выпадкова. *Яны няўзнарок спатыкнуліся раз, ды і то пасварыліся.* Літва Стаўб.

**НЕЎМІ́РУШЧЫ** *у знач. прым.* Неўміручы. *Ёсьць такія кветкі неўмірушчыя, бясьсмертнікі завуцца.* Дукора Пух.

**НЕЎСЦІ́ЛЬНА́Я** *прым.* Непрыгожая. *Хоць і неўсільная была дзеўка, але натта рухавая, бойкая.* Пудзіцк Пух.

**НЕ́ХРЫСЦЬ** *м.* Неахрышчанае дзіця. *Даўней дзіця народзіцца, у царкву трэба было ехаць хрысьціць. Бо калі не перахрысьціць, нехрысьцём дзіцё будуць называць.* Цеплень Уздз.

**НЕ́ЦЕЛАК** *м.* Цялуха. *Як не ацельваецца, дак нецелак.* Вецярэвічы Пух.

**НЕЦІКА́ВЫ** *прым.* Непрыгодны. *Трава нецікавая, нават сьвіня ні хочуць есьці.* Цялякава Уздз.

**НЕ́ЧАСНЫ**[1] *прым.* Грубы, з кастрыцаю. *А сарочка на табе таўстая, нечасная, а спаньніца зрэбная, з грубага палатна.* Весялова Круп.

**НЕ́ЧАСНЫ**[2] *прым.* Тонкі, з ачышчанага ад зрэб'я льну. *Двое красён нечасныя ляжаць. Адны кап начарніць на чорнае, чатыры пасьцілкі ёмкія былі п.* Ігрушка Круп.

**НЕ́ЧЫСЦЬ** *ж.* Ганебны чалавек; нячыстая сіла. *Дык, нечысьць, усі роўна нядыходзіўся ад мяне, душыў мяне і душыў.* Аляхновічы Maладз.

**НЕ́ШКА** *ж.* Чырвоная шурпатая буйная бульба. *А мне дык нешка на ўкус больш нравіцца, чым белая.* Слабодка Стаўб.

**НЕ́ШПАР** *м. Рэліг.* Служба ў царкве. *На вялікдзень усе дзеўкі прыбіраліся і на нешпар ішлі.* Зазерка Пух.

**НЕ́ЯК** *прысл.* Няма як. *Дзяцей глядзець трэба і ад'ехацца мне неяк.* Мушанка Віл.

**НЁЖ** *прысл.* Няўжо. – *Ці кохту гэту твой табе купіў? – А нёж не.* Кляцішын Пух.

**НІВО́ДНЫ, НІГО́ДНЫ** *займ.* Ні адзін. *Дачкі нівоннай у мяне німа, усё сыны.* Сіўцы Віл. *Нігодны чалавек дарэмна на цябе працаваць ні будзя.* Вялікая Вуса Уздз.

**НІГА́ЦЬ** *незак.* Нізаць. *Трэба нігаць грыбэ на ніску і павесіць нат печчу, каб высахлі, а то як сохнуць у печы, яны ні такія смачныя; бо выцякая зь іх сок.* Цялякава Уздз.

**НІ́ҐДЫ** *прысл.* Ніколі. *У нас дак ніґды гэдак ні было.* Ляшчынск Мядз.; *параўн.* польск. nigdy 'тс'.

**НІГО́Д** *прысл.* Ніколі. *Такая ўжо дрэнная морква сёлета ў гародзе, нігот такой ні было.* Вялікая Вуса Уздз.

**НІГО́ДНЫ** *гл.* нівóдны

**НІЖЫПАРНІ́ЦА** *ж. Мед.* Прэласць паміж пальцамі. *Ніжыпарніца паміж пальцаў сядзіць, яе лечаць такой травой, якая называецца ніжыпернік.* Рудня Лаг.

**НІЖЫ́ПЕРНІК** *м. Бат.* Гусялапка (Alchemilla). *Ніжыпернік як гусіная лапка ці курыная, вельмі ш падобны.* Рудня Лаг.

**НІЖЫПЕРСНІ́ЦА** *ж.* Тое, што і н і ж ы́ п е р н і к. *Як нарыў на руцэ ці назе, тады закладаюць рану лістамі ніжыперсьніцы.* Нізок Уздз.

**НІЗАВО́ШТА** *прысл.* ◊ **Нізавошта ніправошта** – без прычыны, без падставы. *Такія бабы нашы ўжо вострыя на язык, часам спляжаць і добрага чалавека нізавошта ніправошта.* Гілікі Валож.

**НІЗАШТО́** *прысл.* ◊ **Нізашто ніпрашто** – тое, што і н і з а в о́ ш т а н і п р а в о́ ш т а. *Гэлька на рабоце чула і мне раніцай правіла, што нізашто ніпрашто зганьбіў маладзіцу.* Язні Віл.

**НІ́ЗКІ** *прым.* ◊ **Нізкі на вочы** – блізарукі. *Ён у нас ніскі на вочы, трэба ачке купляць.* Цялякава Уздз.

**НІЗЬ** *ж.* Нізіна. *Вот, кажа, нісь, там нічога ні расьце. Я пасадзіла летась картоплі, дык вымаклі ўсе, бо нісь.* Дукора Пух.

**НІ́КАЦЬ** *незак.* Прыглядвацца, заглядваць. *Прыдзе, то ўсюдах нікае, нікае бес канца.* Галькі Круп.

**НІЛА́ЎКА** *ж.* Нейлонавая сарочка. *Пайшоў ад мяне мой, нават і нілаўку забраў, што я яму купіла.* Будслаў Мядз.

**НІМ** *злуч.* Як бы, быццам. *Біліся ж яны. То тэрас Міхась расказвае, а той маўчыць, нім нічога й не было.* Аколіца Мін.

**НІМАЗМО́ЖНА** *безас. у знач. вык.* Няма магчымасці. *Німазможна, колькі пылу ўсюды, сьвету ня віnна.* Бяларучы Лаг.

**НІ́ТКА** *ж.* ◊ **Да ніткі** – наскрозь, увесь чыста. *Толькі мне галава закруцілася, забыўся затулу узяць, перамок увесь да ніткі.* Логавіны Мядз.

**НІ́ЦЕЦЬ** *незак.* Рабіцца тонкім, кволым (пра расліны). *Бульба ніцее, калі расьце ў цяні. Ат, за хатай ці ты садзі картоплю, ці не садзі, усё роўна будзе ніцець, рабіцца як нітачкі, бо там мала ёй сонца.* Дукора Пух.

**НІЧАВУ́СІНЬКА** *прысл.* Нічагусенькі. *Старасць – не радась: і рукі баляць, і ногі, нічавусінька рабіць ні магу.* Рубяжэвічы Стаўб.

**НІЧАГАВА́ТЫ** *прым.* Ніштаваты. *Гэтую дробязь ня буду й лавіць, бо жонка скажа, што нацягаў пукшы, а я думала, ты прынясеш нічагаватай рыпкі.* Старына Дзярж.

**НІЧАГУ́ТКІ** *займ.* Нічога. *Нічагуткі не бяры ў рот карэлымі рукамі.* Сырмеж Мядз.

**НІЧАЛЬНІ́ЦЫ** *мн. Ткац.* Ніт. *Ніткі ўводзіць у нічальніцы трэба мець спрыт добры.* Такарышкі Іўеў.

**НІЧО́ГАЧКА** *у знач. наз. Экспр.* Нічога. *Тады пабылі, пабылі [сваты] і зноў ідуць, ужо так ідуць, бізь нічогачка. Ну, й выпілі гарэлку.* Старыя Габы Мядз.

**НІШКО́М** *прысл.* Моўчкі. *Са страху ня ведаім, што рабіць, сядзім нішком у вугалочку.* Вецярэвічы Пух.

**НІШТО́** *займ.* Нічога. *Пашла ў магазін і ні ўзяла нішто.* Вялікая Вуса Уздз.

**НІЯ́КІ** *прым.* 1. Дрэнны, няважны. *Тая старая, ніякая баба, а гэтая мая баба анным словам, маладая, я зь ёй запісаўся й буду жыць.* Залазоўе Віл. *А я думаю, як жа ты гэткі ніякі, паджджы ты!* Там жа. 2. Хворы. *Да яна і ў школу не хадзіла, бо ўсю зіму ніякая была.* Даўгінава Віл.

**НО** *злучн.* Але. *Дзеўка была харошая, хлопцы за мной роем бегалі, но бедная.* Зачысце Барыс. *Ну а я так думаю, усянно ці заб'юць, ці не заб'юць, но я не скажу, нічога не прызнаюся.* Ухвала Круп. *Фашыст хітры быў, но мы йшчэ хітрэй яго былі!* Чырвоны Пасёлак Пух.

**НО́ГЦІК** *м. Памянш.* Ногаць. ◊ **Па ногціку** – па чуць-чуць, патрошку. *Ён такі справядлівы, каб нікога не абідзець – хоць па*

*нохціку дась, але каб усім.* Літва Стаўб.

**НО́ЖНЫ** *мн.* Авечыя нажніцы. *Для авечак ножны бралі, бо нажніцамі воўны не ўскубеш.* Баяры Маладз.

**НОЙ** *часц. узмацн. Ной гэты год у лесі ягад мнозазна!* Заямнае Стаўб.

**НОЛЕ́** *часц. сцвярдж.* Да, так, ага. — *Здаецца, каб дожджык прайшоў, усё п пайшло расьці. — Ноле.* Заямнае Стаўб.

**НО́РАСТ** *м.* Нераст. *Плотка зьбілася да берага на нораст.* Ляшчынск Мядз.

**НО́РАТ** *м. Рыб.* Нерат, верша. *Норат — лавушка конусападобнай формы з бакавымі крыламі, на драўляных абручах. Рыбы ўлезуць у нараты, а вылясьці ня могуць. Норат ставяць боляй на рэццы, на вускіх мейсцах.* Мікольцы Мядз.

**НОС** *м.* ◊ **Аж нос гнецца** — прагна, з апетытам есці. *Бывала, гаршчок бульбы і вялікі гаршчок капусты з грыбамі, і як апсядзім круга стала, ажно насы гнуцца!* Сачыўкі Віл. **На носе** — вельмі скора, у самы блізкі час. *Сьвята ж на носе, дык трэба мыць вокны, і падлогу, і столь.* Зазерка Пух. **Носа не высунуць** — не выйсці, не паказацца. *Ці сыдзя с холадам дошч, ці гэты дошч нарве холат. Учора гэдак цёпло было, а сёня на двор носа ня высунуць.* Валеўка Навагр. **Хоць нос затыкай** — вельмі непрыемна пахне. *Некай прыжэрай пахня, такі смырот, хоць нос затыкай.* Валеўка Навагр.

**НО́СІКІ** *мн. Кулін.* Бульба з лушпайкамі, пасоленая, варыцца з цыбулькай ці кропам. *Носікі файна с квашанінай або с капустай. Сын гавора, што носікі такія ўкусныя, што пад лупінамі ўсе вітаміны застаюцца.* Чабаі Валож.

**НО́СНІЦА** *ж.* Тое, што і а д н о́ с н і к. *Іра, палажы носьніцу ў кішэньку, бо згубіш.* Чабаі Валож.

**НО́ЧАЙ, НО́ЧЫЙ** *прысл.* Ноччу. *А ён тады пашоў ночай, лапату ўзёў і долю будзя 'ткапываць* (з казкі). Ракаў Валож. *Едзь ночый, каня гані на начлех.* Даўгінава Віл.

**НО́ЧЧЫ** *прысл.* Тое, што і н о́ ч а й. *Ноччы быў натта мо́цны марос, чуць жывы астаўся, пакуль дабраўся да ахтобуса.* Сядзіца Віл.

**НУД** *м.* Нуда. *Хай яе нуд заесьць, хай яе.* Саланая Валож. *Стары кліча старую й пытае: „Старая, яшчэ сваты ядуць?" — „Ядуць, бацька". — „Ах, каб іх нут еў! Конь жа й той столькі ня есь, як яны, — цэлую ноч жаруць".* Рабунь Віл.

**НУ́ДНІКІ** *мн. Бат.* Дзікі вінаград (Vitis L.). *У нашай вёсцы амаль у кожнага растуць нуднікі. І ў нас ля плоту вялізныя нуднікі растуць.* Рубяжэвічы Стаўб.

**НУЛЕ́, НУЛІ́** *часц. сцвярдж.* Тое, што і н о л е́. *Нуле, гэта ш трэба было яму забіцца!* Ляхі Нясв. *Нулі, я помню, што гэтакія былі сарочкі.* Ратуцічы Барыс.

**НУ́РАЧКА** *ж.* Невялікі кусочак. *Прынясі хоць нурачку хлеба, я ж есьці хачу.* Вялікая Вуса Уздз.

**НУРЭ́ІНА** *ж. Неадабр.* Нелюдзімы, непрыязны флегматычны чалавек. *Я на яго вока ні маю, на таго Адася, нурэіна гэта, і ў вас быў, і мне нічога не сказаў.* Савоні Стаўб.

**НУРЭ́Ц** *м. Заал.* Нырэц, вадаплаўная птушка. *Гэта каторыя па вадзе нураюць, тых называюць нурэц. Я прошлы гот сямнаццаць нурцоў злавіў. У іх, як у рыбы, запах.* Малмыгі Віл.

**НУТ** *м.* Гэбель выбіраць пазы. *Нут выбірае ў досцы равочак, жалабок.* Вязынка Маладз. *Закладаю ў нут жаляскі розныя і нутую.* Нізок Уздз.; *параўн.* польск. nut < ням. Nut, Nute 'тс'.

**НУТРО́НЫ** *прым.* Унутраны. *На яго твары відаць нутронае пракананьне ў сваёй здольнасьці.* Мядзел Мядз.

**НЫГА́ЦЬ** *незак.* Есці спяшаючыся, не сядаючы за стол. *Ныгае, ныгае, не знае, за што першае ўзяцца — за хлеп ці агурок. Сеў бы, пад'еў і пайшоў. Усё роўна скарэй ня будзя.* Узгурск Чэрв.

**НЭ́НДА** *ж.* Нуда. *Кап сказаць, што гора ды нэнда, дык ня скажаш — добра жывуць людзі.* Баяры Маладз.

**НЭ́НДЗЛЫ** *прым.* Плаксівы. *Ой, нэндзлае дзіця, вечна яму чаго-небудзь не хапае.* Аляхновічы Маладз.; *параўн.* польск. nędzny 'жаласны, варты жалю'.

**НЭ́НЗА** *ж.* Ныцік, плакса. *Меншы мой сын такі нэнза! Каб ён заняўся чым — ці цацкамі, ці пагуляў зь дзецьмі, а то ныя і ныя. Надаесьць за дзень мудрэй горкай рэцькі.* Рубяжэвічы Стаўб.; *параўн.* польск. nędza 'галеча, беднасць'.

**НЮ́ХАЎКА** *ж. Экспр., груб.* Нос. *Як даў фігу ў нюхаўку, аж нюхаўка зьвярнулася.* Бясяды Лаг.

**НЮ́ХМАРКА** *ж.* Тое, што і н ю́ х а ў к а. *Нюхмарку ўсю чысто разьбілі, кроў так і йдзе.* Аляхновічы Маладз.

**НЯБЕ́СКІ** *прым.* Блакітны, як неба (колер). *Не, гэна хустка ні сіняя, а нябескага колеру, сьвятлейшая.* Ваўкалатка Віл.; *параўн.* польск. niebeski 'тс'.

**НЯБО́ГА** *ж.* Пляменніца. *Да нас зоўтра прыдзя мая нябога.* Дукора Пух.; *параўн.* польск. niebogа 'тс'.

**НЯБО́Ж** *м.* Пляменнік. *Мой нябош сёлета дзесяць класаў канчае.* Дукора Пух.

**НЯВЕ́ХНА** *ж.* Нявестка. *Бацюта казаў, што Кацярына праз нявехну памерла.* Цялякава Уздз.

**НЯВІ́ННЫ** *прым.* Тое, што і н е в і н а в а́ т н ы. *Настаўніка аднаго фашысты забралі, і другіх нявідных, і ўсіх пастралялі.* Пудзіцк Пух.

**НЯВО́ЛЬНА** *безас. у знач. вык.* Нельга. *Дзеткі, нявольна так з бацькам размаўляць,*

*ён жа вам дабра хоча.* Сцебіракі Віл.; *параўн.* польск. nie wolno 'тс'.

**НЯВЫ́БЕЛІНА** *ж.* Суравое палатно. *Адна нявыбеліна ляжыць, больш нічога.* Вецярэвічы Пух.

**НЯГЕ́ГА** *м. Экспр.* Чалавек слабага здароўя. *Мужык мой такі ўжо няґеґа, ледзьве ліпее.* Верхмень Смал.

**НЯГЕ́ГЛІК** *м. Экспр.* Няздара, няўмека. *Ах ты, няґеґлік, нічога сам зрабіць ня можаш! Памагай хоць мне.* Ратуцічы Барыс.

**НЯГО́, НЯГО́ Ж** *часц.* Няўжо, няўжо ж. — *Ты пойдзяш у грыбы? — Няго!* Вецярэвічы Пух. — *Запірай вароты, сьвіньня на выган уцячэ. Раней штрафу за гэта давалі. — А няго ж!* Ігрушка Круп.

**НЯГО́ДНА** *прысл.* Дрэнна. *Дамы раманціраваў, у якіх нягодна было жыць.* Бытча Барыс.

**НЯГО́ДНЫ** *прым.* Злы, нядобры. *Ведайце, што баба я нягонная, на сваіх дзевак ругалася, мо, і вам прыдзецца пачуць.* Літва Стаўб. *Мужык нягонны: ругаецца, б'ецца.* Ігрушка Круп.

**НЯГО́ЦЬКА** *ж. Экспр.* Непагадзь. *Сёньня такая нягоцька, што ні выйсьці с хаты — сьнех, вецяр, холат.* Бытча Барыс.

**НЯДО́БРА** *ж.* Тое, што і н я ў д о́ б а. *Нядобра займае ў нас за лесам пяць гектараў.* Вецярэвічы Пух.

**НЯДОЛЯ** *ж.* 1. Ненадзейнае, нямоцнае на трываласць што. *Стаю ў кашулі лі парогу, кручок зашпіліла, і той некі нядоля быў, думаю, можа ш ні палезіць у сенцы.* Залазоўе Віл. 2. *перан., экспр.* Той, хто непрыемны. *Во сядзіць мая нядоля, што зь яго возьмеш? Хоць бы слова якое добра сказаў ці зрабіў што. Ані нічога!* Зазерка Пух.

**НЯЕЛЫ** *прым.* Неядомы. *Сена з балота няелае, каровы есьці ня хочуць.* Пудзіцк Пух.

**НЯЗВЕ́СНА** *прысл.* Невядома. *Вось нязьвесна, скалькімі яна сама пользуецца соткамі.* Пудзіцк Пух.; *параўн.* рус. неизвестно 'тс'.

**НЯЗГО́ДНА** *прысл.* Не ў згодзе. *І вот брат ягоны сказаў, што калі яны нязгодна будуць жыць, то я вярну вам усе расходы.* Баранцы Віл.

**НЯЗГО́ДНЫ** *прым.* 1. Непатрэбны, лішні. *Ну, бяры ўжо, гуляй сабе, бо ён мне нязгодны, гэты нош, ломаны.* Баяры Маладз. 2. Непрыгодны па стану здароўя, выбракаваны. *Яго ў войска не ўзялі, бо ён быў нязгодны да войска.* Там жа.

**НЯЗГО́РШ** *прысл.* Нядрэнна. *На першы раз і нязгорш зрабіў.* Літва Стаўб.

**НЯЗМЕ́РАНА** *прысл.* У вялікай колькасці, непамерна многа. *Сягоньня ў нас вайна была. Усё поля зваявала. Усё жыта пажала. Нажала жмень нязьмерана* (са жніўнай песні). Бубны Віл.

**НЯЙМАВЕ́РНЫ** *прым.* Неспагадлівы. *Якія ж вы неймаверныя! Ён кажа, што хворы, а вы ні верыця.* Цялякава Уздз.

**НЯКРА́ТАНЫ** *дзеепрым.* Нечапаны. *Яшчэ ніхто з нашых у лес не хадзіў, і ягады ў лесі някратаныя.* Пудзіцк Пух.

**НЯЛЁТНЫЯ ПЧО́ЛЫ** *пчал.* Пчолы, якія выхоўваюць патомства. *Нялётныя пчолы кормяць дзетку і вінцілірують гняздо.* Ігрушка Круп.

**НЯЛЮ́ДСКІ** *прым.* 1. Не такі, якім павінен быць у матчыным уяўленні. *Прывезла нейкага нялюдскага хлопца дачка і хоча браць шлюб зь ім.* Завішына Лаг. 2. Дрэнны, кепскі. *Калі музыкант ня можа граць, тады ў яго і музыка нялюцкая.* Бытча Барыс.

**НЯМА́** *безас. у знач. вык.* ◊ **Жывога месца няма** — пра вельмі збітага (пакусанага) чалавека. *А ён [воўк] мяне так пакусаў, што жывога месца ні было, усю пакусаў мяне, кроў лілася.* Даўгінава Віл.

**НЯМА́ШАКА, НІМА́ШЫКА** *безас. у знач. вык.* Няма. *На трэцьці ці на чацьвёрты дзень прыяжджая чалавек [ён ужо памёр, німашыка], прывожыя сваёй дзеўцы пропуск завераны.* Каранец Бярэз. *Нямашака спакою мне: зноў нейдзя начаваў мой хлопец, а не гавора дзе.* Сядзіца Віл.

**НЯМНІ́ШЧА** *н.* Старое рэчышча Нёмана. *Нямнішча — гэта дзе раней было русло Нёмана. Гэты ні за нашай памяці было. Цяпер Нёман ат таго месца метраў дзьвесьці цячэ.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**НЯМНО́ЖКА** *прысл.* Мала. *Справа была ў бацькі бедная, сям'я была вялікая, зямлі было нямношка саўсім.* Задубенне Мядз.

**НЯМУ́ДРЫ** *прым.* Дрэнны. *Ой, дзевачкі, якая гэты гот пагода нямудрая стаіць!* Сасноўшчына Віл.

**НЯМЧУ́Р** *м.* Маўчун, ціхоня. *От ужо нямчур урадзіўся — слова ні выцісьнеш.* Цвіркі Стаўб.

**НЯМЫ́ЦЬКА** *м. Неадабр.* Неахайны чалавек. *Расьцеш нямыцькам, мо людзі навучаць, а я ужо ні маю сіл угаворваць.* Пугачы Мядз.

**НЯНА́СКІ** *прым.* Замежны. — *Што сяганьня па ціліевізары? — А ўжо кіно йдзе, нянаскае. Мушчыны, як жанкі, у спадніцах ходзюць, апкружуцца сувоем і ходзюць.* Слабада Бярэз.

**НЯНА́ШЫ** *прым.* Замежнай фірмы. *А гэтак ні было, як цяпер: і туфлей сколькі тых, і боты каб нінашыя.* Вязынка Маладз.

**НЯ́НЬКІ** *мн. Пчал.* Тое, што і н я л ё т н ы я п ч о́ л ы. *Пчолы, якія неразьвітыя насіць мёт, даглядаюць, называюцца нянькі.* Ляхавічы Дзярж.

**НЯ́НЯ** *ж.* (з дзіцяч. лексікі). Мяса. *Мама, дай мне няні.* Грыцкавічы Нясв.

**НЯПЭ́ЎНЫ** *прым.* Недабраякасны (пра насенне). *Насеньне гуркоў папалася няпэўнае,*

*зусім не прарасло.* Вялікая Вуса Уздз.

**НЯРА́ХЛІВЫ** *прым.* Неахайны. *Дзяўчаты глядзелі, каб лошкі былі засланы лепшымі посьцілкамі, бо сваты маглі даць ганьбу дзеўцы, калі пасьцель была заслана нярахлівай дзяругай.* Даўгінава Віл.

**НЯСЛУ́ШНА** *прысл.* Не чутно. *Не, у нас яны толькі паявіліся і паехалі, а так няслушна было.* Пудзіцк Пух.

**НЯСТО́МЧЫВАСЦЬ** *ж.* Нястомнасць. *Нястомчывасьць сабакі праяўляецца пры гоне. Каторы сабака нястомчывы — ідзець і ідзець за зайцам.* Вялікая Вуса Уздз.

**НЯСТРО́ЎНАСЦЬ** *ж.* Нястраўнасць. *Сёньня ў мяне нейкая нястроўнасць, ташната, мо на пагоду другую.* Вецярэвічы Пух.

**НЯСУ́ШЧАЯ** *прым.* Якая добра нясецца (пра птушку). *Нашая чубатая курачка натта нясушчая, амаль кажны дзень зь яйцом.* Цялякава Уздз.

**НЯЎДО́БА** *ж.* Няўдобіца. *Ня варта сеяць на гэнай няўдобе. Няўдобы многа ё: то балота, то каменьні.* Ваўкалатка Віл.

**НЯЎДО́БНА** *прысл.* Непрыемна. *Я гэдак адвярнуўся, каб ён духу ні пачуў, як цяпер шафёр ад аўтаінспектара, думаю, а то ш будзіць няўдомна.* Даўгінава Віл.; *параўн.* рус. неудобно 'тс'.

**НЯЎДО́БНІЦА** *ж.* Тое, што і н я ў д о́ б а. *Няўдобніца — гэта глеістае месца. Есь няўдобніцы ў нас і на гарах.* Забалоцце Смал.

**НЯЎДО́БШЧЫНА** *ж.* Тое, што і н я ў д о́ б а. *Ат, на няўдобшчыне і пасеяш, то ня вырасьце.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**НЯЎЗРЫ́МСЦІЦЬ** *зак.* Не дачакацца, няўседзець. *Скарэй з'еў ды пабех, няўзрымсьціў.* Галькі Круп.

**НЯЎЛО́МАК** *м. Зневаж.* Здаровы чалавек, здаравяк. *Ды й ты ж няўломак, можаш прынесьці ношкі дзьве сена.* Дукора Пух.

**НЯЎМЕ́КА** *м.* і *ж.* Нyздатны да вучобы, работы. *Колькі жыву, ні бачыла такога няўмекі, а трэба ж і гэткім на сьвеці жыць!* Гілікі Валож.

**НЯЎРЫ́МСЦІК** *м.* Няўрымслівы. *А ты не будзь такі няўрымсьцік, пасядзі, падумай.* Рудня Чэрв.

**НЯЎСТРУ́Й** *м.* Непаседа, неслух (пра дзіця). *Ох ты няўструй, калі ты супакоісься?* Вішнева Валож.

**НЯЎСХО́ДЛІВЫ** *прым.* Тое, што і н я п э́ ў н ы. *Купіла раз я буракоў на базары, а яны аказаліся няўсходлівымі: ні адзін ні ўзышоў.* Рудня Лаг.

**НЯХА́ЙНІК** *м. Неадабр.* Гультай. *Вот няхайнік! Не глядзіць сам за сабой, працаваць ня хоча, толькі на другіх глядзіць.* Рудня Чэрв.

# О

**О-О-О** *выкл.* Ужываецца для ўзмацнення сцверджання. *О-о-о, гэта быў страшны паядынак! Чуць мядзьведзя адбаранілі.* Забар'е Віл.

**О́БМЕШКА** *ж.* **1.** Вотруб'е, мука. *Цяпер дык обмешку німа ш чаго малоць, камбікорм купляюць усе.* Рудня Чэрв. **2.** Мешань, запараная сечка з мукой, вотруб'ем. *Коням бульбы сырой не даюць, а оммяшку з мукой, збожжам даюць.* Саланая Валож.

**О́БРАЗЬ** *ж. Зб.* Мясныя абрэзкі, кусочкі нестандартнага мяса. *Зайду ў магазін, мясо прадаюць, обрась называяцца. У образі ест плевы, але пападаяцца і хароша мяско, пірашкі можно зрабіць, катлеты.* Савоні Стаўб.

**О́БРАЦЬ** *ж.* Аброць. *Вазьмі обраць і сходзі па каня.* Бытча Барыс.

**ОБШЧАЖЫ́ЦЕЛЬСТВА** *н.* Інтэрнат. *Янка нас скарэй тады`к сабе павёс у опшчажыцельства, зьбегаў у магазін.* Язні Віл.; *параўн.* рус. общежитие 'тс'.

**О-ГО-ГО-О-О** *выкл.* Вокліч-сігнал да дзеяння. *Быў у нас Ваўчок, такі старычок-вядзьмака. Ён выдзя на дарогу, станя: „О-гого-о-о!" — і яму гоняць ваўке каровы.* Дрычын Пух.

**О́ГРУСТ** *м.* Агрэст. *Огруст у гэтым годзе пагніў пад гэтымі дажджамі, але ж увесь чыста пагніў.* Сакольшчына Уздз.; *параўн.* польск. agrest 'тс'.

**О́ДАР** *м.* Водар, пах. *Одар у хаце травяністы, хлеп пячэцца ў печы.* Бясяды Лаг.

**О́ДДЗЯЛ** *гл.* аддзя́л

**О́ДУМ** *м.* ◊ **Сваім одумам** — асабіста, ні з кім не раячыся. *Каб як другі мужык, дык ж жонкай рада й парада, а ў яга дык німа гэтага, ён сваім одумам што хочыць, тое і робіць.* Язні Віл.

**О́ЙЧЫМ** *м.* Няродны бацька. *Няма ў мяне роднага таты — ойчым.* Саланая Валож. *У іх няродны бацька, ойчым, добра жывуць, але дзеці дзядзям завуць.* Хожава Маладз.

**О́КСВА** *ж.* Тое, што і а с в а́. *Знайшлі гняздо оксвы і разбурылі.* Вішнева Валож.

**О́КУНЬ** *м. Заал.* Акунь (Percidae). *Окунь мае дужа каляную луску, рукі пакалечыш, пака яго апратаяш.* Бытча Барыс. *Окунь — здаровая рыба.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**О́ЛЕЗНЫ** *прым.* Буйны, вялікі. *На базары баба прадавала маліны. Можа шчэпленыя, олязныя, крупачкі о такія, ягатка, як лясноя яблычка.* Пруды Стаўб.

**ОНЬ** *часц.* Тое, што і в о н ь[2]. *Онь зацьвітвае ўжо бульма мая.* Пудзіцк Пух.

**О́РНЫ** *прым.* Прыгодны для ворыва, добра ўроблены. *Орная зямля харошая. У нас уся такая. На орнай зямлі што хочаш пасеяш, а на пустой адно грэчку раньша сеялі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ОСВА** *ж.* Тое, што і асва[1]. *Освы больш у лесі жывуць, гняздо зробяць і вядуцца там.* Ваўкалатка Віл. *Осва падобна на пчалу.* Рабунь Віл.

**ОСТУП** *м. Паляўн.* Акружэнне звера. *Оступ робяць некалькі паляўнічых, акружаюць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ОТ** *часц.* **1.** Ужываецца пры перадачы рашучага адмаўлення. *От, ты ня гамані, калі ня знаяш.* Пудзіцк Пух. **2.** Ужываецца пры падкрэсліванні, узмацненні дзеяння ці стану прадмета. *От ты зрабі, а тады будзяш гаманіць.* Пудзіцк Пух.

**ОТО** *прысл.* Зараз. *Я ото пайду на работу, толькі хату трохі падмяту.* Смалячы Нясв.

**ОТРУБ'Е** *н.* Тое, што і вотрубя. *Прадуктовую муку трэба заўсюды прасеяць, а то ў ёй ёсьць асьцюкі, отруб'я.* Бытча Барыс.

**ОЦАТ** *м.* Воцат. *Кап пасаліць агуркі на салотка, трэба дабавіць оцату лыжачку.* Рубяжэвічы Стаўб. // *перан. Што ты нешта сёньня як оцату напіўшыся.* Там жа. *Яблык кіслы папаўся, што оцат.* Зарэчча Стаўб.

**ОЧКА** *н.* Мацаванне абручоў кошыка, у якое ўстаўляюцца спіцы. *Завяршай очкі, ды будзем плесьці далей, кап хоць да вечара два кашы скончыць.* Арцюхі Стаўб.

## П

**ПА** *прыназ. з месн.* Ужываецца пры абазначэнні часу ці тэрміну, пасля якіх што-н. адбываецца. *А цяпер, па вайне, за савецкай уласьцю разбудавалі дамы такія, як уся роўна ў горадзе.* Сівіца Валож.

**ПААБЛАЗІЦЬ** *зак.* Паліняць, аблезці, аблупіцца. *Абоі пааблазілі, трэба мяняць.* Пудзіцк Пух. *Бакі кап табе там пааблазілі, хваціць ляжаць, уставай!* Бяларучы Лаг. *Пааблазіла я, як рак чырвоная, ні папраўляюся.* Забар'е Віл.

**ПА-АГРАНОМСКУ** *прысл.* На мове агранома. *Па-мойму, чысты трапаны лён — гэта кужаль, валакно — болей па-аграномску.* Хожава Маладз.

**ПААДБІВАЦЦА** *зак.* Пагуляць у мяч, папасавацца. *Марынка, давай паадбіваемся!* Арцюхі Стаўб.

**ПААДБІРАЦЬ** *безас.* Страціць здольнасць валодаць чым-н. *Зусім ногі паадбірала, цяжка хадзіць.* Дрычын Пух.

**ПААДЖЫМАЦЬ** *зак.* Памыць брудную бялізну ў першай вадзе. *Перш чым варыць бяльлё, трэба пааджымаць яго.* Бытча Барыс. *Пааджымай бялізну, пакуль цёплая вада.* Саланая Валож. *Адзежу пааджымала і на раку панясла.* Рудня Лаг.

**ПААСОБ** *прысл.* Паасобку. *Маладыя ехалі паасоп у царкву, такі звычай быў даўней, а як зьвянчае бацюшка, тады ўжо на адзін вос садзяцца.* Пудзіцк Пух. *Маладыя жывуць паасоп.* Белая Лаг.

**ПАБАВІЦЦА** *зак.* Пасядзець, пабыць у кампаніі. *Дзевачкі, пабаўцяся каля нас, старых, можа што-небудзь цікавая раскажам.* Вялікая Вуса Уздз. *Пабаўцеся з намі, у вас жа часу хватая.* Нізок Уздз.

**ПАБАЎТАЦЬ** *зак.* Папаласкаць. *Мае нявесткі зарас нямашака дома, пашла на рэчку пабаўтаць бялізну.* Рудня Чэрв.

**ПАБАЯЦЬ** *зак.* Расказаць. *Хто гэта табе пабаяў гэткую навіну? Тутака ніхто й ня ведаў яшчэ.* Паплавы Бярэз.

**ПАБІРАЦЦА** *незак.* Пазычаць, браць у доўг. *Магазін закрыты, а я хлеба ні купіла, нада пабірацца.* Бяларучы Лаг.

**ПАБІЦЦА** *зак.* Парэпацца, патрэскацца. *Вапна вельмі пячэ ў рукі, а самі рукі аш у трэшчыны паб'юцца.* Вецярэвічы Пух.

**ПАБІЦЬ** *зак.* Ударыць, выцяць. *Пабіла паляц, і цяпер яшчэ баліць.* Дукора Пух.

**ПАБЛАЖАЦЬ** *зак.* Схуднець, спасці з цела. *Нешта ш ты паблажаў, ты быў таўсьцейшы.* Ракашыцы Уздз.

**ПАБЛАКАДА** *ж.* Блакада. *Мой чалавек у Ленінградзя ў паблакадзя быў.* Кухцічы Уздз.

**ПАБЛІЖЫ** *прысл.* Бліжэй. *Патходзіць паблізкы і бачыць, што гэта ўжо нехта ш як чалавек жа ш тожа.* Даўгінава Віл.

**ПАБЛЫТАЦЬ** *зак.* Апанаваць, накінуцца з брэхам (пра сабаку). *Мяне сабака ўчора як паблытаў, дык усю ноч спаць не магла, нутро трэслася.* Дукора Пух.

**ПАБЛЯКАЦЬ** *зак.* Абцягнуць, абшыць тканінай. *Трэба мне ішчэ ґузікі паблякаць.* Ляшчынск Мядз.

**ПАБОЧЫНА** *ж.* Абочына. *Як мала егдзяць і ходзяць, дык пабочына зарастае.* Іґрушка Круп.

**ПАБРАЙСАЦЬ** *зак.* Пабаранаваць па пасеяным. *Трэба жыта пабрайсаць, каб ні было наверху, кап пташкі ні выбіралі й на слонцы каб ні пяклося.* Такарышкі Іўеў.

**ПАБРАЦЦА** *зак.* **1.** Пажаніцца, уступіць у шлюб. *Хадзілі тры гады, а тады пабраліся.* Ляхавічы Дзярж. **2.** Падацца, пайсці, накіравацца. *Куды вы, дзеўкі, пабраліся?* Дрычын Пух. *Ну, я пабраўся да Міхася.* Сцебіракі Віл. ◊ **Пабрацца ў кропачкі** — пасінець, пакрыцца дробнымі пухіркамі. *Было так холадна, што мая шкура ў кропачкі пабралася.* Пруды Стаўб.

**ПАБРАЦЬ** *зак.* Адабраць сілай (усё, многае). *Карнікі прыдуць — і каровы пабяруць і авечкі пабяруць.* Дрычын Пух.

**ПАБРЫНДАЦЬ** *зак.* Пабадзяцца, пасланяцца. *Пабрындаў зьвечара па дзярэўні і заваліўся спаць.* Нізок Уздз.

**ПАБУЗІЦЬ** *зак.* Пабуяніць, пасканданіць

*Пабузіць крыху, але скора й перастае.* Белая Лаг.

**ПАБУНТАВА́ЦЬ** *зак.* Памылкова прыняць за каго-н. *Во, цётачка, я вас пабунтавала з Марыляй.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАБУРЫ́ЦЬ** *зак.* Распусціць вязанае. *Штанэ пабурыла і зрабіла дзьве пары рукавіц.* Дукора Пух.

**ПАБЫ́ЦЦА** *зак.* Пабыць дзе-н. доўга; набыцца. *Хай больш вайны ня будзе; пабыліся і ў лесе, і ў склепах, хай жа будзе ўсё добра.* Вішнева Валож.

**ПАБЭ́ЛЕЧНАЕ** *прым.* Самае верхняе (бервяно ў зрубе). *Пабэлечнымі канчаюць зруп.* Ляшчынск Мядз.

**ПАБЭ́РСАЦЬ** *зак. Экспр.* Неакуратна ўзараць, узняць верхні слой глебы. *Пабэрсалі гэтае балота тут у нас, і нічога добрага не атрымалася.* Сакольшчына Уздз.

**ПАБЭ́ХАЦЬ** *зак.* Тое, што і п а а д б і в а́ ц ц а. *Вот прапалю толькі памідоркі, а тагды ў мяч пабэхаем.* Зазерка Пух.

**ПАБЯЛЯ́НІЧАК** *м.* Пабяляны чыгунчык. *Як у каго сям'я малая, купляюць пабяляннічкі, есьці вараць у пабялянічках.* Пруды Стаўб.

**ПАВАГЭ́ТУЛЬ** *прысл.* Адгэтуль. *Павагэтуль немца скора прапёрлі, ён тут доўга не затрымаўся.* Пудзіцк Пух.

**ПАВАДЗЕ́Ц** *м.* Павадок. *Сабаку на павадзец бяру, калі трэба куды йсьці. І карову са стада таксама на павацы вяду.* Саланая Валож.

**ПАВА́ДЗІЦЦА** *зак.* Пасварыцца. *У яе характар такі, што яна ні можа, калі с кім не павадзіцца.* Гілікі Валож.

**ПАВАДЗЭ́НЕ** *н.* Прывілеі. *Цяпер нашым жанчынам павадзэне, што каб маёй жонцы такое, дык сто гадоў жыла п. Радзіла — й дня німа як паляжаць, бо ніва ш стаіць. А цяпераka пакуль радзіць, два месяцы аддыхае, і пасьля родаў два. Мая гэтага ні ведала.* Бясяды Лаг. ◊ **Даваць павадзэне каму** — аказваць знакі ўвагі. *І давай расказваць, хто каму даваў павадзэня.* Даўгінава Віл.; *параўн.* польск. powodzenie 'поспех'.

**ПАВА́Л** *м. Будаўн.* Накат, насціл. *У паграбі зьмянілі стары павал, згнілі бярвеньні ў прах.* Саланая Валож.

**ПАВАЛАКА́НЫ** *дзеепрым.* Абшыты, абцягнуты (тканінай). *Адзень кажух павалаканы.* Вішнева Валож.

**ПАВАЛА́ННЕ** *н.* Павестка. *Як прынясьлі ш мне паваланьне наранку, колькі было сьлёс — плакалі матка, жана, крык стаяў на ўвесь дом.* Баяры Маладз.; *параўн.* польск. powołanie 'тс'.

**ПАВАЛІ́ЦЦА** *зак.* ◊ **Паваліцца як сноп** — упасці. *Паваліўся як сноп і не ўстае, хоць калом вярні.* Паплавы Бярэз.

**ПАВАЛО́ЧЧА** *н.* Валока, мера зямлі каля 18 дзесяцін. *Паволочча — старая мера зямлі, так называлі пры цару Мікалаю.* Бытча Барыс.

**ПАВА́РА** *ж.* Вялікая лыжка, якой разліваюць страву; апалонік. *Была ўчора на базары ў 'Венцы, купіла сабе павару.* Вішнева Валож.

**ПАВАРА́ЧВАЦЬ** *незак.* ◊ **Паварачваць аглобні** — паехаць назад, не дасягнуўшы мэты. *Прыедуць, бывала, у сваты, запросяць пасах, якога бацька ня можа даць, тады паварачвае жаніх аглобні і едзя далей шукаць.* Юнцавічы Віл.

**ПАВАРО́Т** *м.* Закончаная фігура (элемент) танца. *Вось цяпер паварот, дзяўчаткі.* Малмыгі Віл.

**ПАВАРО́ТКА** *ж.* Паварот. *За павароткай [ракі] шукай сваіх гусей.* Чыжаха Бярэз.

**ПАВАРЭ́ШКА** *ж.* Тое, што і п а в а́ р а. *Не перашкаджай, а то паварэшкай па лбе палучыш.* Скамарошкі Стаўб.

**ПАВЕ́ЗЦІ** *зак.* Пашанцаваць, удала скласціся (пра абставіны для каго-н.). ∇ **Кажаць, як ні павязець зраньня, дык і да самага зьмярканьня ні будзіць весьці.** Пузыры Мядз.

**ПАВЕ́ЗЦІСЯ** *зак.* Паехаць, адправіцца ў дарогу. *Мая нявестка павезлася зь дзецьмі да сваёй маці.* Дрычын Пух.

**ПАВЕ́ЙКА** *ж.* Павека. *Што ты маргаеш увесь час павейкамі, як асёл вушамі, перастань!* Мікалаеўшчына Стаўб. *Захацела спаць, павейкі самі закрываюцца.* Бясяды Лаг.

**ПАВЕ́КІ** *прысл.* ◊ **Павекі вякоў** — на доўгія гады, павек; ніколі. *Сям'я велькая, сыноў многа, і ў кожнага сыны растуць — павекі вякоў іх род не перавядзецца.* Савоні Стаўб.

**ПАВЕ́РХУ** і **ПО́ВЕРХУ** *прысл.* Паверсе цэлі, верхам. *Эх, ты, мазіла! Пусьціў зарад паверху, зайца прашляпіў.* Княгініна Мядз. *Першы зарат пусьціў паверху.* Бытча Барыс. *Эх, такі зарад пашоў поверху.* Нізок Уздз.

**ПАВЕ́СМА, ПАВЕ́СНА, ПАВЯ́СМА** *ж.* Скрутак цёртага лёну, канапель. *Даўней мялі лён талакой, за дзень намнеш тры й болей павесмы.* Забалоцце Смал. — *Ці шмат нацерлі ж? — Павесмаў дзесяць.* Паплавы Бярэз. *Вычышчаныя жменькі лёну складваім жменька да жменькі, шэсьць жменік — гэта ручэйка, і гэтых дзесіць ручэек — гэта будзе павесма, мы звалі павесма.* Папоўка Мядз. *Баба павесма завець гэтыя кáслаўкі лёну, а маладзейшыя — кукла.* Кузьмічы Мядз. *Лён вязалі ў павесмы. Павесма складалася з шасьці ручэік, а ў ручэйцы было тры палушкі.* Даўгінава Віл. *Як мнуць, дык вяжуць па дзве жмені ў ручэйкі, а як дзесіць ручэік, дык круцяць у павесмы.* Мацкі Мядз. *Лён патрапалі, у павесны павязалі.* Мільча Віл. *Ну, вось зложым мы дзесіць ручней — гэта і ёсь павясма.* Бытча Барыс.

**ПАВЕ́СЦІСЯ** *зак.* Пацягнуцца. *Каб я тады не павялася с козамі ў лес, яны б скубалі са-*

*бе траўку на лугу, мо б і бяда не зрабілася.* Дрычын Пух.

**ПАВЕСЯЛЕ́ЦЬ** *зак., безас.* Распагодзіцца. *Дождж перастаў ісці — павесялела.* Дрычын Пух.

**ПАВЕ́Т** *м.* Павець. *На восень сена ў павет ложым, а покуль зіма, дак скаціна і зьесьць тое, што ў павеце ляжыць.* Баяры Маладз.

**ПАВЕ́ТРА** *н.* Хвароба. *Некае паветра на мяне напала.* Дукора Пух.; *параўн.* польск. powietrze 'зараза, эпідэмія; заразная хвароба'.

**ПАВЕ́ЧКА** *ж.* **1.** Раснічка. *Як была я маладая, была й красівая: як вочы, так бровы, а павечкі густыя, длінныя.* Бясяды Лаг. **2.** Тое, што і п а в е́ й к а. *Малы хочыцъ спаць, закрываецъ павечкі.* Бясяды Лаг. *Вецяр у той рас вялікі быў, ажно павечкі нельга было атрыцъ, залепвала ўсе сьнегам.* Вязынка Маладз.

**ПАВІВА́ХА** *ж. Бат.* Дзярачка ўчэпістая (Asperula aparine). *На сенакосі павіваха расьце, сьцеляцца ва ўсе бакі. Павіваха натта ш густая, такая мяккая і тоненькая, каса ня рэжа яе, паччэпіш і адарвеш.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАВІ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Зазнаць, перажыць. *А тут на табе — вайна. Брата майго яна забрала, а сястру малоччую тут немцы забілі. Ой, гора ж я павідзяла!* Палессе Мядз.

**ПАВІ́ДНА** *у знач. вык. (з інф.).* Ужываецца для выражэння магчымасці. *Доктар кажа, што павідна папрaвіцца, а я ўсё горшаю.* Дрычын Пух.

**ПАВІЛІ́ЦА** *ж. Бат.* Тое, што і п а в і в а́ х а. *Колькі гэтай павіліцы ў яры расьцець, сходзім, пакажу павіліцу.* Ігрушка Круп.

**ПАВІ́РЫЧ** *м. Ткац.* Клін у коле пярэдняга навоя нацягваць кросны. *Кіёк і павірыч нацягівалі кросны, у іх работа атвесьцьвінная.* Якімаўка Круп.

**ПАВІ́СНУЦЬ** *зак.* ◊ **Павіснуць на хвасце** — ісці непасрэдна за кім-н., не адстаючы ні на крок. *Не пасьпеў я прайсьці крокаў сто, як гляджу, два сабакі на хвасьце ў ліса павісьлі.* Забалоцце Смал.

**ПАВІСУ́ЧЫ** *прым.* Вісячы. *Павісучы замок на дзьвярах вешаюць.* Нізок Уздз.

**ПАВІТУ́Н** *м. Бат.* Фасоля павойная (Phaseolus vulgaris). *Павітуноў я ніколі ні саджу, на іх кольля ні набрацца.* Вішнева Валож.

**ПАВІТУ́ХА** *ж. Бат.* Тое, што і п а в і т у́ н. *Каля вакна вунь у мяне павітуха расьцець, дачка пасадзіла.* Шутавічы Смарг. *Хораша пахнуць кветачкі павітухі.* Хожава Маладз. *Павітуха можыць усюдых расьці, вун і ў ягадах ёсь, кветачка на ёй такая маленькая.* Малмыгі Віл.

**ПАВО́ДАК** *м.* Паводка. *Прышла сястра, сядзімо, гамонім. Насунулася хмара, як доў дошч, а посьля дажджу стоў паводак — німа як маёй госьці дадому ісьці.* Вецярэвічы Пух. *Сьнегу многа, вялікі паводак будзя.* Цялякава Уздз.

**ПАВО́ДЗІЦЦА** *незак., безас.* Жыцца. *Табе ш някепска паводзілася ў сына.* Баяры Маладз.

**ПАВО́ЙКА** *ж. Бат.* Іпамея (Ipomoea). *Павойку саджаюць каля вокан, галубенькім цьветам цьвіце, чорная насеньня, круціцца як фасолька.* Саланая Валож.

**ПАВО́ЙНІК** *м. Бат.* Бярозка палявая (Convolvulus arvensis). *Павойнік — гэта трава. Яна як уб'ецца ў пасевы, ніякім спосабам ня вывядзяш. Павойнік уецца, цьвіце беленькімі кветачкамі.* Вецярэвічы Пух.

**ПАВУ́К, ПАВУЧО́К** *м.* **1.** Від вязання кручком. *Вязаць павучкамі, дык афармляецца як павук.* Саланая Валож. **2.** *перан.* Упрыгожанне з кусочкаў саломкі, змацаваных ніткамі. *Сваімі рукамі нарабілі павукоў іс саломы, кветаў с паперы. Шэсь штук вісяшчых павукоў зрабілі.* Сачыўкі Віл.

**ПАВУ́ЛУШКА** *ж.* Назва аднаго з вядомых раней танцаў. *Танцавалі полькі, вальсы, кадрыль, павулушку.* Паплавы Бярэз.

**ПАВУЦІ́НКА** *ж.* Тонкая лёгкая тканіна. *Тоненькі далікатненькі мацяр'ял — гэта і е павуцінка.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАВУЦЦЁ** *н. Зб.* Павуцінне. *Павуцьцё павук уе. Муха калі заблытаецца ў павуцьцё, здыхае.* Пруды Стаўб. *Так многа павуцьця на гары, проста страх!* Мікалаеўшчына Стаўб. *Цяпер павукоў у хаця ня відаць, некаму круціць гэта павуцьцё.* Цялякава Уздз. *Павук заплёў цэльны вугал павуцьцём, абмяту хоць.* Кухцічы Уздз.

**ПАВУЧО́К**[1] *м.* Масток, звязка-перакладзінка, што злучае часткі ва ўзоры рышэльє. *Пераводзяць малюнак на мацерыю і пачынаюць вышываць. Нітачкі працягваюць з аднаго боку да другога, прыкрапляюць іх добра, абкідаюць і палучаюцца павучкі. Павучкі трэба добра рабіць, бо прападзе ўся работа.* Хожава Маладз.

**ПАВУЧО́К**[2] *м.* Спосаб вышывання 'крыжык на крыжык'. *Павучок толькі здаецца цяжка вышываць, а там наложыш крыжык на крыжык і палучаецца павучок.* Задор'е Лаг.

**ПАВУЧЫ́ННЕ** *н.* Тое, што і п а в у ц ц ё. *От гаспадыня! Павучыньня ўсе вуглы запляло!* Шутавічы Смарг. *Многа павучыньня лятаець, восень ужэ, бабіна лета пачалося.* Вішнева Валож. *Цэлая лета ніхто ня жыў у хаці, дык столькі павучыньня ў вуглох завялося, страх!* Саланая Валож.

**ПАВЫБУДО́ЎВАЦЬ** *зак.* Выбудаваць усё, многае. *Пасьля вайны павыбудоўвалі новыя дамы, сяла ні пазнаць.* Вязынка Маладз.

**ПАВЫ́ДАЦЬ** *зак.* ◊ **Банкет павыдаць** — вылаяць, прабраць. *Я свайму банкет як павыда-*

*ла, дык маўчыць як вады ў рот набраўшы. Я сяганьня чую ля магазіна, Максіміхін зяць кажыць: „Ну, прыду дамоў, дык павыдам банкет і жонцы і цёшчы".* Язні Віл.

**ПАВЫДРЫПВАЦЬ** *зак.* Павысякаць. *Гуляюць, а няма, каб узялі гачку ды пайшлі павыдрыпвалі траву на градах.* Баяры Маладз.

**ПАВЫКАРЭБКВАЦЦА** *зак.* Выкарабкацца. *Патом павылазілі, павыкарэпкваліся з-пад воза с-пад гэтага і давай сьмяяцца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАВЫКО́ПЫВАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* павыко́пываць. *На аселіцы сажалкі павыкопываны, а тады вада зьбярэцца ў той сажалцы, і там бялілі палатно.* Ластаянцы Валож.

**ПАВЫКРЫЎЛЯ́ЦЬ** *зак.* Павыкручваць, пазбіваць (пра каблукі). *Як дамоў ідзеш, паглядзіш, ходзь бы не стаптаўся каблук на бок, а то бацька скажыць: „Павыкрыўляла, пярыла, як цапамі на таку, гэтымі каблукамі, польку мясіла".* Засценак Лаг.

**ПАВЫЛІВА́ТЫ** *дзеепрым.* Заліты. *Асвальт павылівaты тут.* Пудзіцк Пух.

**ПАВЫПІХА́ЦЬ** *зак.* Павыдаваць замуж. *У нас анна жэншчына мела тры дачкі, усе тры ўзрослыя. То, вы знаяця, мянціла языком і ні сьціхала: „Гэта ў мяне залеж, ніяк не павыпіхаю". А тады пашці на анным гадзе усіх траіх і выдала замуш.* Бяларучы Лаг.

**ПАВЫ́РАСЦІ** *зак.* Вырасці. *Усе дзеці павырасьлі, дэк цяпер можна жыць да жыць.* Пудзіцк Пух. *Дзеткі павырасьлі, паразьяжджаліся.* Дрычын Пух.

**ПАВЫ́РВАЦЬ** *зак.* Вырваць, высмыкнуць рыўком. *У гародзе ўсю цыбулю павырвалі.* Палессе Мядз.

**ПАВЫСІ́ЦЬ** *зак. Паляўн.* Выстраліць вышэй цэлі. *Здаецца, й добра цэліш, а потым глядзіш, павысіў і ні папаў у цэль.* Саланая Валож. *Я рас чуць ня забіў сокала, але павысіў.* Мікалаеўшчына Стаўб. ◊ **Павысіць голас** — гаварыць са злосцю, з раздражненнем. *Добра мы с сваім жылі, ніколі ён на міне і голас ні павысіў, ласкавы быў к дзецям.* Плецівішча Чэрв.

**ПАВЫСКАЧЫЦЬ** *зак.* Выскачыць. *Як нашарую маззю, ой, ужо ш пакуль перапячэ, дак, здэцца, й вочы павыскачуць.* Няровы Валож.

**ПАВЫСЯКА́ЦЬ** *зак.* Набіць моцна, адхвастаць. *А тады мужык узяў пугу, так павысякаў іх [дзяцей], так павысякаў, шкода стала мне.* Забар'е Віл.

**ПАВЫТЫКА́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Павысоўваўшы, павытыркаўшы. *На маху яны [махавікі] сідзяць, як гвоздзікі такія, галоўкі павытыкаўшы.* Слабада Бярэз.

**ПАВЫЦЯ́ГАВАЦЬ** *зак.* ◊ **Жылы павыцягаваць** — замучыць прыдзіркамі, капрызамі. *Ты с сваім характарам усе жылы мне павыцягаваяш.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАВЫЮ́ДЗГАВАЦЬ** *зак.* Запэцкаць, замазаць. *Надумаліся падлогу пакрасіць. Але стары красіў, дык толька бумагу павыюдзгаваў, пакуль Сірожа ні прыехаў.* Дзераўная Стаўб.

**ПАВЭ́ДЗГАЦЬ** *зак.* Папэцкаць, зрабіць абыяк. *Столь так павэдзгаў, што брытка, кап хто ў хату зайшоў. Трэба бяліць нанава.* Цвіркі Стаўб.

**ПАВЭ́ДЛАК, ПАВЭ́ДЛУГ** *прыназ. з родн.* 1. Паводле, у параўнанні. *Павэдлук даўнейшага цяпер добра жыць.* Сасноўшчына Віл. *Цяпер павэдлух даўнейшага дык куды лепей стала жыць.* Кухцічы Уздз. *Цяпер жыць добра павэдлух таго, як было раней.* Кузьмічы Мядз. *Павэдлак учарашняга, дык сёньня цёплае надвор'е, але ж раней яшчэ цяплей было.* Хадасы Віл. 2. Акрамя. *Павэдлух цябе ніхто іх ні ўкраў.* Грыцкавічы Круп.; *параўн.* польск. wedlug 'адпаведна, у адпаведнасці'.

**ПАВЯДО́МІЦЬ** *зак.* Паведаміць. *Я ж ім павядоміла, а мне німашака ніякай зьвесці.* Гілікі Валож. *Яны павядомяць, калі сваты прыедуць.* Баяры Віл.

**ПАВЯ́ЗКА** *ж. Зб.* Лазовае вецце або саламяныя жгуты для прывязвання саломы. *Тае павяскі дабываць было трудна. Павяскай уеязвалася страха, так вецер бы панёс.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАВЯЗЦІ́** *зак.* Павезці. *Ну, яны яго павязьлі і пусьцілі жывым у далёкай пушчы у нейкай у такой бязьлюднай: пажалелі ўбіваць.* Даўгінава Віл.

**ПАВЯЛЕ́ЦЬ** *зак.* Загадаць. *Бацька павялеў, трэба слухацца, унучак.* Дрычын Пух.

**ПАВЯЛУ́ХА** *ж.* Хвароба ягадных раслін. *Павялуху пазнаць проста: белыя пятны на агрэсьці.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАВЯНБЛІ́ЦА, ПАВЯНДЛІ́ЦА** *ж.* Паляндвіца. *Павянбліцу вешаюць, кап патсохла, тады ядуць.* Вецярэвічы Пух. *Ніякіх павяндліц не пакідаіш, усе мяса рэжыш на кілбасы.* Будслаў Мядз.

**ПАВЯ́СМА** *гл.* павесма

**ПАГАВО́Р** *м.* Прыказка. *Люцкі пагавор ёсь: не дай бох сьвіньні рох, а мужыку панства.* Лісічана Круп.

**ПАГАДАВА́ЦЬ** *зак.* Накарміць. *Пагадуй парсюка, а я пайду на буракі.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАГАМАНІ́ЦЬ** *зак.* Пагутарыць. *Ішла цётка з буракоў, прыпынілася каля нас, пагаманіла.* Дрычын Пух.

**ПАГА́НА** *прысл.* Непрыгожа. *Такія словы гаварыць пагана.* Пудзіцк Пух.

**ПАГАНДЛЯВА́ЦЬ** *зак.* Пасцягваць, знесці — пра ўсё, многае. *От чэрці малыя, усе вёдры пагандлявалі, няма ў што картоплю зьбіраць.* Дрычын Пух.

**ПАГА́НІЦЬ** *незак.* Няславіць, ганіць. *Хто ж яе будзя паганіць, калі яна ўсю сябе аддала*

*дзецям, паставіла іх, няродных, на ногі, а цяпер хукая на ўнучанятак.* Пудзіцк Пух.

**ПАГАНЯ́КА** *ж.* Дубіна, палка. *Ён як схапіў паганяку, як стаў дзяцей лупіць, лець адбаранілі.* Баяры Маладз.

**ПАГАНЯ́ЦЬ** *зак. С.-г.* Акучыць. *Як хто: адзін паганяя добра, а другі — абы-як, усю бульбу засыпля.* Нізок Уздз. *Трэба бульбу паганяць, а то скора велька будзе, ня ўлесьці.* Скамарошкі Стаўб. *Калі ўзойдзіць бульба, трэба яе паганяць.* Завішына Лаг.

**ПАГА́РА** *ж.* Пукі чырвоных праменняў над воблакамі. *Па воблаках відаць чырвоныя праменьні, якія ідуць ад сонца. Гэта пагара, яна паказвае на добрую пагоду. Пагара пайшла ўверх, будзе пагода.* Саланая Валож.

**ПАГАРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Паставіць. *Абапал усадзьбы пагароджаны платэ.* Дрычын Пух.

**ПАГІБА́ЦЦА** *зак.* Пагнуцца. *Мае тэпкі пагібаліся.* Цялякава Уздз.

**ПАГІБА́ЦЬ** [1] *зак.* Пагнуць. *Ні пагіблі купка.* Цялякава Уздз.

**ПАГІБА́ЦЬ** [2] *незак. да* пагібнуць. *Узяла я чацьвёра старэйшых, а маленькая спала на ложку, дык я сабе думаю, няхай сьпіць. А потым вярнулася: „Не, — думаю, — будзем, дзеці, пагібаць усе разам". Узяла я тую дзевачку, і пайшлі мы ў лес.* Снягла Віл.

**ПАГІ́БЛЫ** *прым.* Які пагражае заўчаснай смерцю. *Хлеба німа, нічога німа. Галадоўка. Год мокры, нічога не расьце, не пасьпяе. Дзела саўсім пагіблае. Ну, й так прабылі мы аж да Пабеды.* Задубенне Мядз.

**ПАГІ́БНУЦЬ** *зак.* Загінуць. *Пагібнулі ўсе ў пасьледнюю блакіроўку.* Пудзіцк Пух. *І ўсе ш пагіблі саколікі нашы, усе да аднаго. Ляжалі ў радочак, як бы іх хто палажыў.* Дрычын Пух.

**ПАГІ́ЦЦІ** *зак.* Загінуць. *Тут пагіпці можна ад гэткай гразі.* Дрычын Пух.

**ПАГІЗАВА́ЦЬ** *зак.* Пайсці хутка. *Нарэшце ўгаварыла бабу, пагізуем на базар удваіх.* Дрычын Пух.

**ПАГІ́НУЦЬ** *зак.* Загінуць. *Сын мой у вайну пагінуў.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАГЛУМІ́ЦЬ** *зак.* Забіць, знявечыць. *Народу тады многа паглумілі: снарады ляцелі, аш хаты трасьліся.* Баяры Маладз.

**ПАГЛЯ́Д** *м.* Выгляд. *Зь дзевяцьсот шостага года, а на паглят як кавалер: зубы ўсе роўнінькія, адзін у адзін, кінуў курыць, тоўсты зрабіўся, харошы.* Савоні Стаўб.

**ПАГЛЯДЗЕ́ЦЦА** *зак.* Пабачыць. *Паглядзісься, што гэдак будзя.* Дукора Пух.

**ПАГНО́ЙКА** *ж. Бат.* Шампіньён (Agaricus). *Пагнояк шмат выскачыла пасьля дажджу, айда на канюшынішча! У нас паняця ня мелі пагнойкі браць, гэта гадоў нескулькі, як праявіліся яны.* Дрычын Пух.

**ПАГНО́ЙНІК** *м. Бат.* Навознік сіні. *Пагнойнік сіненькі, сьветлы такі, ён скора прападае.* Вішнева Валож.

**ПАГНЮСІ́ЦЦА** *незак.* Запэцкацца, забрудзіцца. *Твой сын увесь дзень на вуліцы, пагнюсіцца, пакліч ты яго.* Мядзел Мядз.

**ПАГНЮСІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць нягодным, спэцкаць. *Як ты ясі?! Пагнюсіш, што другому ні можна будзе есьці.* Мядзел Мядз.

**ПАГНЯЗДЗІ́ЦЬ** *зак.* Пасадзіць гнёздамі. *Цыбульку я ў гэтым годзе пагняжджу, спрахцікавалася, што добрая расьце пагнязьдзіўшы.* Жызнава Віл.

**ПАГО́ДА** *ж.* Надвор'е. *Зь вясны была кепская пагода, а цяпер нічога.* Дукора Пух.

**ПАГО́ДНА** *прысл.* Сонечна, ясна. *Сёньня пагодна, можна копы разьбіваць.* Саланая Валож.

**ПАГО́Н** [1] *м.* **1.** Паша. *Прыдзіця трохі пазьней па малако. Кароўкі на пагоні будуць так часоў да дзевяці.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Выган. *Малы быў, а работа была, ганяў сьвіней на пагон.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАГО́Н** [2] *м.* Праследаванне звера. *Сабакі кінуліся ў пагон за зьверам.* Саланая Валож.

**ПАГРАБЁНЫ** *дзеепрым.* ◊ **Як паграбёны** — смутны, прыбіты горам. *Бодрая была, работа гарэла ў руках, а як памёр сын, хаджу як паграбёная.* Дрычын Пух.

**ПАГРАБНЯ́** *ж.* Месца над пограбам, на версе пограба. *Трэба іці бульбу на паграбню з гарода прынесьці.* Цялякава Уздз.

**ПАГРАЗІ́ЦЬ** *зак.* ◊ **Пагразіць (прыгразіць) пальцам** — зрабіць пагражальны жэст. *Пальцам пагразіла, то йдзець, дзе ён дзеніцца.* Хожава Маладз. *І крычала, і прыгразіла пальцам, а не пайшоў.* Ляшчынск Мядз.

**ПАГРЫЗЦІ́СЯ** *зак.* Пасварыцца. *Пагрысься дома, дак ка мне прышоў.* Дукора Пух. *Пагрызлася с сусеткай, цяпер шкадую.* Дрычын Пух.

**ПАГРЭ́БІНЫ** *толькі мн.* Рэшткі сена, якія застаюцца на месцы звезеных копаў, стагоў. *Копы зьвезьлі, і калі кала капы зьбіраюць сена, дык гэта пагрэбіны.* Бытча Барыс.

**ПАГРЭ́ЦЦА** *зак.* Папрэць, сапрэць. *Летась у нас многа сена пагрэлася. Дажджлівае надвор'е стаяла, дык яно нат' у копах па[illegible]ся, рады не далі.* Жызнава Віл.

**ПАГУБІ́ЦЬ** *зак.* Забыць, не захаваць у [illegible]мяці. *Дзевачкі мае, я ж ужо ўсё пагубіла, [illegible]чога ня помню: старая.* Дрычын Пух.

**ПАГУКА́ЦЦА** *зак.* Пагаварыць. *Як до[illegible], што зайшлі, хоць пагукалася з вамі. А то ў[illegible] адна дома сумую.* Баяры Маладз. *Што за [illegible]рода?! Не глядзіць, што ў печы робіцца, а [illegible]дзіць абы толькі пагукацца.* Баяры Ма[illegible]

**ПАГУКА́ЦЬ** *зак.* Пагаварыць. *Пайду[illegible] прызбу, пагукаем, дзяцей успомнім.* Мал[illegible]гі Віл. *Дзякую, дзеткі, што пагукалі са мно[illegible] а то сумна адной сядзець цэлы дзень.* Баяр[illegible]

Маладз. *Як памерла жонка, дык у хаце было пуста, а зарас хоць ёсьць с кім пагукаць.* Баяры Маладз.

**ПАГУЛЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Патанцаваць. *Ён адважыўся-такі зь ёй пагуляць.* Вялікая Вуса Уздз. *Запрасіў пагуляць, а яна брытка нарабіла яму: адказала.* Астравок Уздз. 2. Пасядзець, адпачыць. *Баба, хадзі пагуляй.* Дрычын Пух.

**ПАГУ́РАК** *м.* Узгорак. *На пагурках дзе ўжо й ягадкі пасьпелі.* Княгініна Мядз. *На такіх сухіх пагурках і чорныя ягады ёсьць, дзіва.* Пудзіцк Пух. *Глянь, сынок, вуняка на пагурку кароўка ходзіць. Ляці ты прыгані яе.* Дукора Пух.

**ПАГУ́ТАТАЦЬ** *зак.* Пагушкаць. *Хадзі, унучка, пагутатаю, хадзі, маленькая.* Літва Стаўб. *Мамка, пагутатай мяне трошкі.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАД** *прыназ. з він.* Ужываецца пры абазначэнні руху ў бок канкрэтнага прадмета ці асобы. *Пад іх лес бліжэй, чым пад нас.* Каменка Уздз. *А Васіль нас падзывая, ідом мы пад яго, а ён нам і гаворыць, што скора ня мы паном, а паны нам работу рабіцьмуць.* Вяркалы Пух.

**ПАДАБЕ́ДАК** *м.* Снеданне, часцей за ўсё другое, бліжэй к абеду. *Позьні ш у цябе падабедак, ужо пара абедаць. Падабедак бралі на поля ў жніво, калі дзень вялікі і трэба рабіць цяшка было.* Вішнева Валож.

**ПАДАБРА́ЦЬ** *зак.* ◊ **І костачкі падабраць** — быць вельмі падобным на каго-н. з бацькоў або родных. *А сын іхні ўвесь у дзеда пасочыў, і костачкі ўсе дзедавы падабраў: і хадня, і маўчлівы такі.* Язні Віл. **Падабраць падборы** — узяць замуж нявартную, тую, што людзі пакінулі. *Мае сынэ пападбіралі падборы, што ніхто не браў.* Цялякава Уздз. **Падабраць спод** *цясл.* — выраўняць, выправіць, падчасаўшы. *Бывая, што край добра зрабіў, а спод не дагледзяў, прыпорціў, тады кажуць: трэба падабраць спод.* Саланая Валож.

**ПАДАВА́ЛКІ** *толькі мн.* Вілы з двума рагамі, звычайна драўляныя, падаваць снапы на воз. *А як едзям с поля, падавалкі на вос ло[illegible]ым.* Забалоцце Смал.

**[illegible]АДАВА́ЦЬ** *зак.* 1. Даць есці. *Вечарам, мая [illegible]ушка, падасі парасяткам.* Дрычын Пух. [illegible]*ран.* Паказваць, ставіць. *Студэнты пры[illegible] Канцэрт падаваць будуць.* Зазерка Пух. **[illegible]даваць голас** — адзывацца, адклікацца. *[illegible]ка ўвесь час падае голас, калі бяжыць па [illegible]ду.* Бытча Барыс. *Калі сабака падае голас, [illegible]нік слыша, куды сабака гоня зьвера.* Руд[illegible] Лаг.

**[illegible]АДАГНУ́ЦЬ** *зак.* Залажыўшы, падшыць. *[illegible]гну суkенку, бо вельмі доўгая.* Княгіні[illegible] Мядз.

**ПАДАДЗІЯ́ЛЬНІК** *м.* 1. Чахол на коўдру. *[illegible]дадзіяльнік шыюць, каб ні замазалася адзі[illegible]ла. Пададзіяльнік памыяш, а адзіяла не.* Вязынка Маладз. *У магазін прывезьлі вельмі харошы паркальчык, якрас на пададзіяльнікі.* Рудня Лаг. *Набіраюць у лаўца і самі шыюць пададзіяльнікі.* Пруды Стаўб. 2. Звычайная прасціна, якую падшываюць да коўдры. *На ўсё коўдра надзяецца чахол, а пададзіяльнік падбіваецца толькі пад адну старану.* Ляшчынск Мядз. *Пад куплёнае адзіяла падшываім пададзіяльнік.* Малмыгі Віл.

**ПАДАЗА́ДКІ** *толькі мн.* Пазадкі. *Падазаткі сабралі ў мяхі і павезьлі ў млын.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДАКЕ́НАК** *м.* Падаконнік. *Падакенак дзелаюць з лучшай сасны.* Ігрушка Круп.

**ПАДАКЕ́ННІК** *м.* Тое, што і п а д а к е́ н а к. *Краска яшчэ на падакеньніку ня высахла, вазоны няма дзе дзяваць.* Забалоцце Смал.

**ПАДАПНУ́ЦЬ** *зак.* Падвязаць. *Трэба падапнуць хвартух, тады і сукенка будзе чыстая.* Грыцкавічы Круп.

**ПАДАПО́ЛАК** *м.* Дошка, якая ідзе адразу за аполкам. *Падаполкі на столь ні гадзяцца.* Княгініна Мядз.

**ПАДАПО́ЛАЧНЫ** *прым.* Які прылягае да аполка. *Падаполачная доска вужэйшая за ўсе астальныя.* Дукора Пух. *Падаполачная доска больш абзаватая.* Бясяды Лаг. *Падаполачныя дошкі някасныя, а сярэднія — харошыя.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДАПО́СЛЯ** *прысл.* Потым, пазней. *Ужо падапосьля сталі валёнкі насіць, а перш валёнак ня было.* Пудзіцк Пух.

**ПАДАРО́ЖКА** *ж. Бат.* Пласціністы грыб на тонкай ножцы з рудзенькай шапачкай (расце ў прысадах, на лясных палянах, на ўзлессі). *Падарошкаў гэтых многа восеньню расьце.* Пруды Стаўб.

**ПАДАРО́ЖНІК** [1] *м. Бат.* 1. Тое, што і п а д а р о́ ж к а. *У нас падарожнікаў ні бяруць, сабачымі грыбамі іх лічуць.* Дукора Пух. *Падарожнікі рудзінькія, іх многа расьце пры дарозі.* Бясяды Лаг. 2. Любы грыб (махавік, сыраежка, падасінавік, кабылка), які расьце пры дарозе. *Хто ня ведае лесу, па дарогах, па сьцешках ходзіць. Глядзіш, і карзіну падарожнікаў набярэ.* Шутавічы Смарг. 3. *Бат.* Трыпутнік (Plantago). *Падарожнік расьце каля сьцежак, сабіраюць і здаюць у аптэку.* Пруды Стаўб.

**ПАДАРО́ЖНІК** [2] *м.* Нетутэйшы, прыезджы. *У нас на вёсцы натта ш многа падарожнікаў стаіць, школу будуюць.* Літва Стаўб.

**ПАДАРО́ЖНЫ** *прым.* Наводны, нетутэйшы. *Падарожны чалавек пайшоў, нетутэйшы, знескуль ідзе.* Вязынка Маладз.

**ПАДАЎКІ** *прым.* Мяккі, лёгка глытаецца. *Кашы сяганьня наварыла з рысу, яшчэ й маслам як заправіла, дужа ж смашная, падаўкая натта.* Баяры Маладз.

**ПА-ДА́ЎНАМУ** *прысл.* Па-старадаўняму.

*Па-даўнаму Навасёлкі і вёска завецца.* Ратуцічы Барыс.

**ПА-ДАЎНЕ́ЙШАМУ** *прысл.* Тое, што і па-да́ўнаму. *Узяў гэты дзет і памёр. Як па-даўнейшаму, нада прыевясьці папа, хаваць с папом.* Мікольцы Мядз.

**ПА-ДАЎНЁШНЯМУ** *прысл.* Тое, што і па-да́ўнаму. *Цяпер жыць па-даўнёшняму нельга, цяпер трэба глядзець уперат.* Пудзіцк Пух.

**ПАДА́ЦЦА** *зак.* 1. Накіравацца. *Куды ўжо зноў падаўся, няма табе седні!* Баяры Маладз. 2. Здацца. *Ні знаю, ці гэта мне падалося, ці праўда было, але і цяпер уваччу стаіць.* Сакаловічы Круп. 3. Паступіць, абраць спецыяльнасць. *Наша ж унучка падалася ў інсьцітут.* Дрычын Пух. *Мы расьлі нягараматнымі, за работай сьвету ня бачылі, дык няхай хоць сын у навуку падаецца.* Порычы Валож.

**ПА́ДАЦЬ** *незак.* 1. Лезці (пра валасы). *Валасы ў мяне падаць сталі, і што рабіць — ні знаю. Муштравала іх па-рознаму, начос дзёргала, вот яны й падаюць.* Бяларучы Лаг. 2. Здыхаць. *Купіла двое парасят, і адно пала.* Дрычын Пух. 3. Гінуць, звальвацца з кораня. *Гурцэ падаюць, сядзіць жаўцея і засыхая.* Арцюхі Стаўб.

**ПАДА́ЦЬ** *зак.* Расказаць, паднесці. *І што вам падаць, не ведаю, пра што й расказаць.* Зарэчча Стаўб.

**ПАДАШВА́** *ж.* Падэшва, ніжняя частка ступні. *Нарыў быў на самай падашве. дык цяпер шчэ так баліць падашва, што ні ступіць.* Бясяды Лаг. *Засьвярбела падашва.* Рудня Лаг.

**ПАДБАЛАЦЯ́НКА** *ж. Бат.* Каўпак кольчаты (Rozites caperata). *Падбалацянкі растуць у хвойным леся, могуць расьці і на купінах сухога балота. А калі сухі гот, вот як гэты, падбалацянак німа.* Раўчак Пух.

**ПАДБАРО́ДАВІЧ** *м.* Падбародак. *— Ну, як жывём? — Добро. — Каб ні добро, то ні было п падбародавіча, ня вырас бы падбародавіч.* Савоні Стаўб. *Падбародавіч вырас у Міхася, вісіць.* Саланая Валож. *У майго дзяцькі губа верхняя была такая раздвоеная, бы ў зайца, і падбародавіч о такі.* Бясяды Лаг.

**ПАДБЁЛ** *м. Бат.* Крываўнік (Achillea). *Падбел падобны на маркоўнік, пахучы вельмі, цьвяты белыя ў яго.* Забалоцце Смал. *Падбел — трава: лісьцікі, як у рабінкі, белым цьветам цьвіце, дутка высокая, расьцець на ялавінах, каля лесу, на лугах.* Малмыгі Віл. *Як абрэжаш палец жнучы, лісьцікамі падбелу прыкладаюць.* Нізок Уздз. *Во брыкса, а то канапелька, дросінь, а там далій падбел. Ён ні толькі беленькі, а і ружовінькі бывая.* Бяларучы Лаг.

**ПАДБЕ́ЛА**[1] *ж. Мед.* Запаленне слізістай абалонкі рота ў груднога дзіцяці. *Дзіця ні можа ссаць сіські, падбела ў році.* Вішнева Валож. *Знайшлася падбела, роцік баліць.* Ляшчынск Мядз.

**ПАДБЕ́ЛА**[2] *ж.* Тое, што і падбе́л. *Падбела ад нарываў памагае добра.* Саланая Валож.

**ПАДБЕРАГЧЫ́** *зак.* Выбраць мёд. *Думаў падберагчы ў пчалах, аж дождж пашоў.* Ляшчынск Мядз.

**ПАДБІВА́ЦЬ** *незак.* Прытупваць. *Ён як пойдзя гуляць ды нагамі падбіваць, дак аш пыл курыць.* Гілікі Валож.

**ПАДБІ́ЎКА** і **ПО́ДБІЎКА** *ж.* 1. Надстаўка з іншага матэрыялу, падточка падола (спадніцы, сукенкі і пад.). *Спадніц с падбіўкай у нас ня шылі, моды такой не было.* Паплавы Бярэз. *Нешта спадніца мая села, трэба прышыць подбіўку, паттачыць.* Вялікая Вуса Уздз. *Во ў маёй спаньніцы подбіўка з другой мацеры.* Дукора Пух. *Спадніца кароткая, новую подбіўку раблю.* Ігрушка Круп. 2. Ніжняя частка сукенкі, спадніцы і пад., якую падрубліваюць. *Калі многа паткладваецца, то подбіўка, а калі трохі, то рубец.* Пруды Стаўб. *Як вуска падрублеваюць, дык рубец кажуць, а як шырока, дык подбіўка.* Бытча Барыс. *Ці табе рукі патсыхалі, што ты і подбіўку ні патшыяш?* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДБІ́ЦЦЕ** і **ПАДБІЦЦЁ** *н.* Падкладка. *Зьверху шапка цэлая, а падбіцця худоя.* Вецярэвічы Пух. *Мама вунь к новаму пальто падбіцьцё прышывае.* Караваева Пух.

**ПАДБІ́ЦЬ** *зак.* Уцяпліць. *Трэба дзьверы падбіць, а то ўсё не сабяруся, а зімой марос лезя.* Жораўка Пух.

**ПАДБЛІЖА́ЦЦА** *незак.* Набліжацца, падыходзіць бліжэй. *Яна к яму стала падбліжацца, а ён — к ей. І сышліся.* Даўгінава Віл.

**ПАДБО́Р**[1] *м. Уст.* Абцас, корак. *А мая дачка купіла сабе туфлі на дужа ж высокіх падборах.* Лісічана Круп. *Даўней дык на падборы набівалі жалезныя паткоўкі.* Паплавы Бярэз.

**ПАДБО́Р**[2] *м. Пчал.* Даставанне мёду. *Падбор робіцца, калі рамка запоўнена мёдам.* Саланая Валож.

**ПАДБО́Р**[3] *м.* Дробнае сучча, галіны, лапкі. *Дровы сабе загатаўляйіця, а падбор акуратна пазносьця ў кучы, кап чыста пасьля вас было.* Рудня Чэрв. ◊ **Падабраць падборы** — *гл.* падабра́ць.

**ПАДБРУ́ШНІК** *м.* Пасак, якім прымацоўваецца падсядзёлак. *Падбрушнік раменны, перакідаецца церас сядзёлку і прывязваецца да аглабель. Яго шчэ завуць церасьсядзельнік.* Вецярэвічы Пух.

**ПАДБРУ́ШША** *н.* Падчарэўе. *Парсюк сыты быў, падбрушша тоўстае.* Гілікі Валож.

**ПАДБУДАВА́ЦЬ** *зак.* Падняць, зрабіць вышэйшым. *Думаю падбудаваць хату, пакласьць*

*ці новыя адзін або два вянцы, ды з лесам тугавата.* Забалоцце Смал.

**ПАДБЯРО́ЗКА** *ж.* Тое, што і павойнік. *Падбяроска па бульбе расьцець, па жыце, па зямлі сьцеліцца. Белымі кветачкамі цьвіце.* Рудня Лаг. *Падбяроскаю сьвіней кормім, зь лебядой крышым, мукой абмешваем і гэтак сьвіням даём.* Хожава Маладз.

**ПАДВАЗО́ННІК** *м.* Гаршчок для пакаёвых кветак. *Пасадзі вазон у падвазоньнік, чаго ён мучыцца ў вадзе.* Старая Мядз. *Вазоны любяць расьці ў гліняных падвазоньніках, с простай гліны.* Вішнева Валож.

**ПАДВАКО́ННІК** *м.* Падаконнік. *Усе падваконьнікі застаўлены вазонамі, сьцены ў каўрах.* Саланая Валож.

**ПАДВАКО́ННЫ ВЯНО́К** *будаўн.* Вянок зруба, на які ставяць аконныя шуфляды. *Да сьнеданьня палажылі падваконны вянок.* Дукора Пух. *Сягоньня, мусіць, падваконны вянок ня ўсьпеім пакласьці.* Забалоцце Смал. *На падваконны вянок дзерава падбіраюць моцнае, здаровае, а то згніе скора.* Хожава Маладз.

**ПАДВА́ЛАК** *м.* Калодачка з дзірачкай, прымацаваная да верхняга каменя жарон, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *Падвалак новы каб зрабіў, бо стары раскалоўся, то й жорны малолі п.* Дукора Пух.

**ПАДВА́ЛІНА** *ж.* Ніжняе бервяно ў зрубе. *Падваліны ў першы вянок кладуць, на падваліны выбіраюць дубовае, моцнае дзерава.* Пруды Стаўб. *Начала ёсь, палажылі першыя падваліны.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Для падвалінаў выбіраім найлуччыя бярвёны.* Ігрушка Круп.

**ПАДВА́ЛІНКІ** *мн., адз.* **падва́лінка** *ж.* Жэрдкі, якія кладуцца пад снапы. *Прынясі сюды падвалінкі, нада пат снапы палажыць.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДВАЛО́КА** *ж. Рыб.* Рыбалавецкая брыгада, якая ловіць падвалокай. *На чале нашай падвалокі стаіць вопытны брыгадзір. Ён усе рыбныя мейсцы знаіць, дык мы многа рыбы кажды рас ловім. Падвалока летам толькі ловіць, а зімой не.* Мікольцы Мядз.

**ПАДВЕ́Й** *м.* **1.** Бяда, няшчасце. *Не давай малому запалкі, падвей здарыцца.* Капачэўка Барыс. **2.** Параліч. *Як падвей нападзе, то можа атабраць рукі, ногі.* Гілікі Валож. *Дзеўка адна мая памёрла. Спужалася на вечарынца, босая, голая праляцела, патключыўся падвей: атняло руку і бок, нагу, языка ні магла варочаць.* Засулле Стаўб.

**ПАДВЕ́СЦІ** і **ПАДВЯСЦІ́** *зак.* Ідучы поплеч, побач, правесці. *Ён усё са мной і са мной танцаваў, а тады кажыць, што дамоў мяне падвядзець. А мне смешна стала.* Няверы Мядз. *А ўжо там жалі жнеі маладыя з другой вёскі, ну дык ужо каб жа ж ужо падысьці па іх ды падвясьці, мы думаім сабе.* Бакачы Мядз.

**ПАДВО́Д** *м.* Падгалосак. *Бывала, во ў ягады пойдзім, пяём, аж лес разьлягаіцца. Пелі на галасы, с падводам. А мая цётка Надзея да голас красівы мела, як падвядзе...* Рудня Чэрв.

**ПАДВО́І** *мн.* Умацаванні, прывязкі з дубцоў. *З дупцоў такія круцілі гэтыя самыя падвоі, мы лічылі, прывязвалі прыполак да нарога; быў рагач драўляны, былі два такія штыхі даўней — вот і саха.* Бакачы Мядз.

**ПАДВО́Й**[1] *м.* Падвойныя вокны, дубэльты. *Падвой па разьмеру роўны гэтым вокнам.* Паплавы Бярэз.

**ПАДВО́Й**[2] *м. Сад.* Прышчэпа. *Падвоем возьмем яблыню антонаўку.* Забалоцце Смал.

**ПАДВО́РАЙКА** *н.* Падворак. *У Андрэйкі на падворайку стаяў дубок і тонак і высок.* Волма Смал.

**ПАДВО́РАК** *м.* Двор каля хаты, дома. *Заяжджай на падворак.* Хожава Маладз.

**ПАДВО́РВАННЕ** *н.* Акучванне. *Скора нада пачынаць падворваньне картофлі.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДВО́РВАЦЬ** *незак.* Абганяць. *У Йвана гаварылі, што скора нада пачынаць падворваць картофлі.* Ляхавічы Дзярж. *Цэлы дзень падворвалі картоплі.* Дрычын Пух.

**ПАДВО́РЫШЧА** *н.* Месца каля хаты, дома (двор, сад, агарод). *У нас падворышча заўсёды чыстае.* Саланая Валож.

**ПАДВУ́ЙНЕ** *прысл.* Двайным швом, у два разы. *Гэты ўзор зроблены падвуйне.* Хожава Маладз.; *параўн.* польск. podwójnie 'ўдвая'.

**ПАДВЯВА́ЦЬ** *незак.* Палаць з дапамогай спецыяльных начовачак. *Падвяваць рукамі можна, толькі доўга дужа.* Паплавы Бярэз.

**ПАДВЯ́ЗВАВАЦЬ** *незак.* Падвязваць. *Ніты падвязаваюць шнурамі і патчэпліваюць панажы, па каторых прыступаюць нагамі.* Даўгінава Віл.

**ПАДВЯ́ЗКА** *ж.* Шнур пры лапцях. *Падвяскамі апкручвалі анучы наназе, каб лепяй трымаліся.* Дрычын Пух.

**ПАДВЯСЦІ́** *гл.* падве́сці

**ПАДВЯЧО́РАК** *м., толькі адз.* Яда паміж абедам і вячэрай. *А што ты на падвячорак возьмеш? Дзень доўгі, вазьмі падвячорак, бо есьці захочаш.* Баяры Маладз. *Падвячорак хто бярэ, а хто й не бярэ.* Пруды Стаўб. *От прынесьлі нам падвячорак, селі мы падвячоркаваць.* Калініна Дзярж.

**ПАДВЯЧО́РКАВАЦЬ** *незак.* Есці падвячорак. *Пара падвячоркаваць, аддыхнём троха і зьядзім падвячорак.* Рудня Чэрв. *Ён прыдзя, бо ні палуднаваў, а трэба падвячоркаваць.* Вязынка Маладз. *Мы селі падвячоркаваць, што смачна, што нясмачна, усё падмялі.* Калініна Дзярж.

**ПАДГАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Задобрыць, загадзіць, угадзіць. *Пакуль у леся заробіш, трэбы было перш падгадзіць лясьнічага ці лясьніка. А пад-*

*гадзіць — нада накарміць і напаіць, што стоіла тыдзінь работы.* Альсевічы Мядз.

**ПАДГАЛО́СКА** *ж.* Пагалоска; размовы, што перадаюцца. *Пачулі падгалоску і разьнесьлі па людзёх.* Вішнева Валож.

**ПАДГАЛУБІ́ЦЬ** *зак.* Падсініць (бялізну). *Трэба сінькі дзе купіць, бяльлё падгалубіць.* Дукора Пух.

**ПАДГА́ЛЫ** *прым.* Падгалісты. *У суседа быў падгалы сабака, дык сядзя й выя, як ня возьмуць на паляваньня.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДГАНЯ́ННЕ** *н.* Абганянне, акучванне. *Бульбу падганяюць, а пасьля падганяньня яшчэ гэтыя градкі паганяюць.* Нізок Уздз.

**ПАДГАНЯ́ЦЬ** *незак. С.-г.* Абганяць, акучваць. *Першы раз барануюць бульбу, каб яна хораша ўзыходзіла, а другі рас падганяюць.* Нізок Уздз. *Калі бульба ўзышла, яе падганяць трэба.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАДГАРЭ́ХАВІ́К** *м. Бат.* Мясцовая назва польскага грыба. *Чорныя галоўкі ў падгарэхавікаў, тоўсьцінькія такія грыпкі.* Пруды Стаўб.

**ПАДГАТО́ВІЦЬ** *зак.* Падгатаваць. *Скарэй падгатоў паесьці, ды я пабягу, каб на поезд не спазьніцца.* Паплавы Бярэз.

**ПАДГІНА́ЦЬ** *незак. да* падагнуць. *Падагні падол, а то ходзіш з адарваным падалом.* Княгініна Мядз.

**ПАДГЛА́ДЗІЦЬ** *зак.* Падкарміць так жывёліну, каб стала сытай. *Да зімы падгладзім сьвінку і заколям.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДГЛЕ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Тое, што і падглáдзіць. *Як сабе на сала, дак трэба лепяй падгледзяць.* Нізок Уздз.

**ПАГЛЯДА́ЦЬ** *незак.* Выбарачна, не вырываючы бульбоўніку, здабываць з-пад карча маладую бульбу. *Ужо падглядаю маладую бульбу.* Рудня Чэрв. *Падгледзела саганок маладой бульбы, зварыла.* Бясяды Лаг.

**ПАДГЛЯ́ДВАЦЬ** *незак.* Сачыць. *Падглядвала, падглядвала, а такі высачыла, дзе яна нясецца.* Кукалеўка Чэрв.

**ПАДГНО́ЙВАЦЬ** *незак.* Уносіць угнаенне. *Трэба восеню сат падгнойваць або раньняй вясной.* Хожава Маладз. *Падгноім сат, дык ён жа хутка расьце.* Саланая Валож.

**ПАДГО́Н** *м.* Маладыя або нізкарослыя дрэвы, ніжэйшы ярус, што расце ўперамешку са старымі. *Бывае, што дзерава старое адно, а кругом яго маладыя растуць, то трэба замест старога пусьціць маладыя — гэта падгон будзя.* Нізок Уздз.

**ПАДГО́ННАЯ ЛАПА́ТКА.** Стрыхоўка. *Пасьцілаіцца па латах салома, прывязваіцца прывязкай. Першы рад саломы не падганяіцца, а другі рад саломы падганяіцца падгоннай лапаткай.* Ляшчынск Мядз.

**ПАДГО́ЦКВАЦЬ** *незак.* Падкідаць на руках. *Суседзі атмячаюць дзень раждзеня Юлькі. „Колькі ж табе годзікаў, Юлька?" — „Тры", — падгоцквалі тую Юльку.* Арцюхі Стаўб.

**ПАДГРО́Б** *м. Бат.* Грузд белы (Lactarius resimus). *А яшчэ ёсьць падгробы. Падгробы бываюць такія бальшыя, што адзін займаець дно кашолкі, белыя.* Дубрава Маладз. *У нас растуць усякія грыбы, а яшчэ ёсь падгробы.* Дукора Пух.

**ПАДГРУ́ЗД** *м. Бат.* Перцавы грыб, благушка (Suillus piperatus). *Падгруздаў у нас не бяруць і не ядуць.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДДАСТА́ТКАМ** *прысл.* Удосталь, уволю. *У людзей цяпер усяго паддастаткам, усяго хапае.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАДДА́ЦЬ** *зак.* ◊ **Паддаць духу** — павялічыць сілу пары. *Ліні халоднай вады на камяні, паддай духу, хачу пахвастаццa трошкі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДДА́ЧА** *ж. Рыб.* Месца, дзе апускаюць сеткі. *Паддачу замяло за ноч сьнегам — прышлося раніцай чысьціць і толькі тады апускаюць невад пад лёд.* Чараўкі Мядз.

**ПАДЖЫ́ГНУЦЬ** *зак.* Падскочыць. *Кот вунь як высока паджыгнуў, каб дастаць муху з вакна.* Калодкі Віл.

**ПАДДЗЕ́РЖКА** *ж.* Дапамога. *Нам, старыкам, за савецкую ўласць такую далі паддзержку, адно жыві.* Новікі Мядз.

**ПАДДЗЕ́ЎКА, ПАДДЗЁ́ЎКА** *ж.* Кароткая вопратка на ваце без рукавоў і каўняра, якую надзяваюць на рубашку або блузку. *Каб выпараць рукавы да пацягнуць гэты кажух, была б добрая паддзеўка.* Дукора Пух. *Мамачка пашыла цёпленькую падзьдзёўку, і ў марос ня холадна.* Зазерка Пух. *Папробуй восяньню пахадзі па вуліцы бес падзьдзёўкі!* Забалоцце Смал.

**ПАДДЗЫ́ГНУЦЬ** *зак.* Нагаварыць, падбухторыць. *Паддзыгнула сусетка, дык яны й пасварыліся.* Зазерка Пух.

**ПАДДУ́БАВІ́К** *м. Бат.* Грыб, што расце пад дубам, з жоўта-бурай шапкай, падобны на баравік (Boletus cartaneus Bull.). *У паддубавіках шапачка рудзенькая, мякаць паднізам жоўтая, каранёк рудаваты. Корань тоўсты, самі вялікія.* Ляшчынск Мядз. *Паддубавікі такія цёмніхенькія.* Малмыгі Віл. *У паддубавікаў шапкі шырокія, чарнаватыя.* Ігрушка Круп.

**ПАДДУ́БНІК** *м.* Тое, што і паддýбавік. *Паддубнікі — грыбы такія цёмніхенькія, коляр рудаваты, паднізам рупчыкі сьвятлейшыя, чым зьверху шапачка.* Хожава Маладз.

**ПАДДУБЯ́НКА** *ж.* Тое, што і паддýбавік. *А паддубянкі я бяру, паддубяначкі для саленьня добра.* Баяры Маладз.

**ПАДДЫХНУ́ЦЬ** *зак.* Адпачнуць. *Я села паддыхнуць, а потым пашла даляй.* Дукора Пух.

**ПАД'Е́ХАЦЬ** *зак.* Паддобрыцца да каго,

сумець падысці да каго. *Каб розум меў, то пад'ехаў бы: такая дзеўчына! але ўсё вучыць трэба.* Хожава Маладз.

**ПАДЖАРО́БАК** *м.* Жарабя. *К восені паджаропкі вялікія становяцца.* Бясяды Лаг.

**ПАДЖА́РЫ** *прым.* Сухарлявы, тонкі. *Ты бачыў учора вялікага паджарага сабаку? Махчыма, гэта ён і ўкусіў вашага хлопца.* Інiца Стаўб. *Воўк быў страшна худы, паджары.* Забалоцце Смал.

**ПАДЖГА́ЦЬ** *зак.* Памчацца. *Вунь як паджгаў на станцыю, а як на работу, дык ён хворы.* Баяры Маладз.

**ПАДЖЫ́ЛЫ** *прым.* Стараваты, няновы. *Купілі мы хатку паджылую, трошкі падрамантавалі ды й жывём.* Бясяды Лаг.

**ПАДЗЕ́ЖНІК** *м.* Абрус, якім накрываюць хлебную дзяжу. *Падзежнікі рабілі з малога куска палатна. І дзяжу накрывалі, і бульбу с сагана сыпалі на падзежнік.* Шутавічы Смарг.

**ПАДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Згубіць. *Ну што ў мяне за дзеці? Усё с хаты павывалакаюць, недзя падзяюць, папакідаюць, а як трэба — голаў зьверняш і ня знойдзяш.* Нізок Уздз.

**ПАДЗЁНКА** *ж.* Падзённая работа. *Ліпы на лапці нідзе ня можна было дастаць, тока калі ў пана. А дарма пан ні даваў, нада было атрабляць падзёнку.* Старыя Габы Мядз.

**ПАДЗЁЎБАНЫ** *дзеепрым. зал. пр.* ад падзяўба́ць. Рабы ад воспы. *Твар падзёўбаны, а задаецца яшчэ.* Дукора Пух.

**ПАДЗІМО́ВЫ** *прым.* Падзімні. У выразе: падзімовы пасеў. *Падзімовы пасеў часнаку дае добры ўраджай.* Рудня Лаг.

**ПАДЗІ́ЎНЫ** *прым.* Баязлівы, урочлівы. *Падзіўнаму страхі здаюцца кольвек.* Вецярэвічы Пух.

**ПАДЗО́ЛІЦА** *ж., толькі адз.* Падзолістая глеба, глеба шаравата-белага колеру. *А тут на падзоліцы, на дзірване, расьце дробненькая калючая трава, у адзін бок гладзенькая, а ў другі — шурпатая, як асьцюк у ячмені.* Бясяды Лаг.

**ПАДЗО́РНІК** *м.* **1.** Вышытая і аблямаваная з аднаго краю карункамі, брыжамі палоска белай тканіны, якая служыць для ўпрыгожвання ложка. *Прошвы ні толькі для падзорнікаў робяць, але і для навалачак.* Малмыгі Віл. *Падзорнікі я сама ўмею рабіць.* Завішына Лаг. *Цяпер-то ўжо лошкі дзеравянныя і не вешаюць падзорнікаў, а ў мяне шчэ ё.* Пудзіцк Пух. **2.** Прасціна з махрамі, карункамі ці вышыўкай. *Падзорнікаў і навышывала і намярэжыла.* Жораўка Пух.

**ПАДЗЯ́КУЙ** *м.* Падзяка, удзячнасць. *Ці ты добра рабі, ці дрэнна, адзін падзякуй. Вот ат таго й рукі ні ўзьнімаліся.* Бяларучы Лаг.

**ПАДЗЯЛЁНКА** *ж. Бат.* Радоўка шэрая (Tricholoma portentosum). *Падзялёнка на зялёнку падобна, толькі шапачка шэрая, як попел. Падзялёнкі растуць да глыбокай восяні.* Нізок Уздз.

**ПАДЗЯМЕ́ЛЬНЫ** *прым.* Вадасцёкавы. *Падзямельную трубу палажылі, каб вада сьцякала.* Ляшчынск Мядз.

**ПАДЗЯЎБЦІ́СЯ** *зак. Экспр.* Павольна пайсці. *Я ёй кажу, ня йдзі, а яна ўсё роўна падзяўблася.* Дрычын Пух.

**ПА-ДЗЯЦІ́НАМУ** *прысл.* Па-дзіцячы. *У пана служыў бацька бедны, шэсь дзяцей у яго было, і адзін [сын] гаварыў па-дзяцінаму.* Аляхновічы Маладз.

**ПАДКАБЫ́ЛКА** *ж. Бат.* Свінушка тонкая (Paxillus involutus). *Мо й гэтыя смашныя грыбы, але ж мне больш паткабылкі наравяцца.* Баяры Маладз.

**ПАДКА́ЛКА** *ж. Ганч.* Першае абпальванне пасуды. *Печ дабяла напаляць, гаршкі ці там іншую пасуду паставяць, і яна суткі там апальваіцца. Гэта называіцца падкалка пасуды.* Беразіно Бярэз.

**ПАДКАЛО́ТКА** *ж. Кулін.* Суп бульбяны, прыпраўлены мукой і забелены малаком. *Ідзіця есьці цёплую паткалотку. Улі болі малака ў паткалотку.* Аздзяцічы Барыс. *На вячэру паткалоткі звару, я сама яе люблю і стары хваліць.* Рубяжэвічы Стаўб. *У вайну такі голад быў, здаецца, каб даў хто місачку паткалоткі ці чаго, дык у ногі пацалаваў бы. А цяпер сьвіньням вараць людзі такі булён.* Паплавы Бярэз. *Падаі карову, а то паткалотка зарас будзя гатова, а забяліць німа чым.* Кроква Лаг.

**ПАДКА́МЕНШЧЫК** *м. Заал.* Бычок-пясочнік (Neogobius fluviatilis). *У паткамяншчыка галава вялікая, есьці там няма чаго.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДКА́РКІ** *толькі мн.* Каркі, падсанкі; *параўн.* каза́[4]. *Паткаркі прычапляюцца к саням.* Ратуцічы Барыс. *Павел недзя с паткаркамі паехаў, мусіць, у лес.* Ігрушка Круп.

**ПАДКА́РМЛІВАЦЬ** *незак.* Дабаўляць у глебу мінеральнага ўгнаення для павышэння росту раслін. *Я летась паткармліваў жыта на сотках, дык парасло вышэй росту чалавека.* Дукора Пух.

**ПАДКАРМУ́ШКА** *ж. Пчал.* Падкормка для маладых пчол. *Сахар звару, і гэта паткармушка называяцца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДКАРЫ́ЦЬ** *зак. Цясл.* Абчасаць. *Каб адбіць шнурам дзерава, яго трэба паткарыць уперад.* Паплавы Бярэз.

**ПАДКАТА́ЦЬ** *зак.* Закасаць, падвярнуць што-н. *Паткатаў штаны вышэй калень і нехаця паплёўся за бацькам.* Малмыгі Віл.

**ПАДКАЦІ́ЦЦА** *зак.* Тое, што і п а д ' е́ х а ц ь. *Да яго трэба ўмець паткаціцца, а яна сумела. Цяпер ходзіць і сьмяецца.* Хожава Маладз.

**ПАДКАЦІ́ЦЬ** *зак.* Тое, што і п а д к а т а́ ц ь. *Паткаці калошы, а то доўгія, забрудзіш.* Малмыгі Віл.

**ПАДКАЧА́ЦЬ** *зак.* Падгадаваць, падрасціць. *Парася куплю, падкачаю яго да вясны, а вясною куплю другога.* Сакольшчына Уздз. *Дзесяць дзяцей было, і ўсіх паткачала.* Дрычын Пух.

**ПА́ДКІ** *прым.* Ласы, прагны. *Ого! Ён вельмі паткі да чужога, а свайго чаго папрасі, на кіпець не дась.* Прудзішча Лаг.

**ПАДКІ́НУЦЦА** *зак.* Падаючы, трапіць куды-н. *Ці чулі, жаначкі?! Чалавек на станцыі пат поест паткінуўся.* Дрычын Пух.

**ПАДКЛА́ДАЧКА** *ж. Кулін.* Верашчака. *Бліны макаюць у пакладачку, кап смачней было.* Дрычын Пух.

**ПАДКЛА́ДКА** *ж. Стал.* Драўляная пласцінка, якую падбіваюць пад лязо сталярных інструментаў. *Патклатку трэба падбіць, каб жыляска мацней сядзела, а то здрэгае ў руках рубанак.* Саланая Валож. *Бес патклаткі жаляска ня будзе трымацца.* Дукора Пух.

**ПАДКЛА́СЦІ** *зак.* Тое, што і п а д а г н у́ ц ь. *Пакласьці трэба суkенку, каб была карацей, а то надаела доўгая.* Бясяды Лаг. *Гэтыя клёшныя плацьці паткладаць трэба ўмець, каб не зьвісалі зубамі.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДКЛЕ́ЙКА** *ж. Шав.* Падкладка пад халявы або перады ў абутку. *У мяне былі хромавыя боты і белая патклейка.* Дукора Пух. *Бываюць галянішча і бес патклейкі.* Нізок Уздз.

**ПАДКЛУЦА́НКА** *ж. Кулін.* Тое, што і п а д к а л о́ т к а. *Вялікая сям'я, яды мала, няхай патклуцанкі там зробяць, я сербану і пабегла.* Лоск Валож.

**ПАДКО́ВА** *ж.* Круглы бязмен са стрэлкамі. *У паткові ёсьць стрэлкі і нумяра, там такія точачкі стаяць. На паткові больш сямі кіль ні зважыш.* Вязынка Маладз. *Лён некалі важылі патковай.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДКО́ПЫВАЦЬ** *незак.* Тое, што і п а д г л я д а́ ц ь. *Інныя бабы ўмеюць паткопываць, а я паткопываць ня ўмею, мне трэба сусём капаць.* Малмыгі Віл.

**ПАДКРАПІ́ЎНІК** *м. Заал.* Крапіўнік (Troglodytes troglodytes). *Паткрапіўнік маленькі шустранькі, с кароткім тарчком хвосьцікам, нападоб'е сініцы птушачка.* Саланая Валож.

**ПАДКРО́КВЕННІК** *м. Будаўн.* Тоўстая жэрдка, якая кладзецца па кроквах уверсе ўздоўж дома. *У нашай дзярэўні паткроквеньнікі тольkі здаўна клалі, цяпер не кладуць.* Бытча Барыс.

**ПАДКРО́КВЕННІКІ** *толькі мн.* Бярвенні ў апошнім вянку зруба над бэлькамі. *У паткроквеньніках заразаюць праёмы, кап ставіць кроквы.* Бясяды Лаг.

**ПАДКРО́КВЕННЫ ВЯНО́К** *будаўн.* Які мае адносіны да крокваў. *Канчалі п зруб, дык на паткроквенны вянок лесу не хапіла.* Забалоцце Смал. *Сёньня палажылі падваконны вянок, а дні прас тры — паткроквенны паложым.* Дукора Пух.

**ПАДКРУ́П'Е** *н.* Дробныя грэцкія крупы. *Суп вараць смашны з малаком або мясам с паткруп'я.* Кукалеўка Чэрв.

**ПАДКРУЦІ́ЦЦА** *зак.* Падлезці. *Мы падкруціліся пад кустэ, а ён лесьці туды пабаяўся.* Дрычын Пух.

**ПАДКУ́РАЧ** *м.* Дымар. *Падкурач у мяне свой, стаіць у хаце.* Пруды Стаўб.

**ПАДКУРА́ЧКА** *ж. Зб.* Гнілыя трэскі, якімі дымяць пчол; гнілушкі. *Падкурачку закладваюць у дымар, падпальваюць і дымяць.* Пруды Стаўб.

**ПАДКУРАЧЫ́** *мн.* Тое, што і п а д к у р а́ ч к а. *Паткурачы — гнілыя такія аскабалкі, іх распальваюць і паткурваюць пчол, дастаюць мёд.* Пруды Стаўб.

**ПАДКУ́СВАЦЬ** *незак.* Даносіць на каго-н., удаваць. *Цяшка было: час неспакойны. І людзі злыя былі, паткусвалі адзін аднаго.* Дрычын Пух.

**ПА́ДЛА** *ж.* і *м. Лаянк., груб.* Нікчэмнасць, нягоднік. *Што мне рабіць?! А-а-а, кажу, падла ты, такі-гэтакі, чаго ты прышоў! — Я прышоў, кап ты маёй жонкай стала!* Залазоўе Віл.

**ПАДЛАБУ́НІЦЦА** *зак.* Паддобрыцца, падлізацца. *Падлабуніўся да маткі, паддобрыўся, атшыў братоў — і доіць яе, як хоча.* Хожава Маладз.

**ПАДЛАЖЫ́ЦЬ** [1] *зак. Крав.* Тое, што і п а д а г н у́ ц ь. *Падлажыла сінюю спадніцу, а то занатта доўгая была.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Во ўдаліца ў мяне! Як адложыцца суkенка, так і ходзіць, не падложыць.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДЛАЖЫ́ЦЬ** [2] *зак. Цясл.* Замяніць ніжні вянок будынка. *Нашай хаце пачынка патрэбна. Трэба падлажыць новыя падрубы і замяніць вокны, а то гэтыя спарахнелі.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДЛАМО́ЎНІК** *м. Заал.* Птушка з атрада вераб'іных. *Падламоўнікі, яны пад віт вераб'я.* Рудня Лаг.

**ПАДЛА́СІЦА** *ж. Заал.* Ласка (Mustela nivalis). *Падласіца сама тоўсцянькая, а пат чэраўцам белая.* Цялякава Уздз.

**ПАДЛЕ́ГЧЫ** *зак.* Падкаціцца, выклікаць прыхільнасць у жанчыны. *Сястра была песяньніца, гаваруха. Ён падлёх, падлёх — і смуціў яе.* Вецярэвічы Пух.

**ПАДЛЕ́ПА** *ж. Ткац.* Узор няправільны. *Іншы раз падлепа наверсе ўскоча, не на тых панажах паходзіш.* Завішына Лаг.

**ПАДЛЕ́С** *м. Зб.* Падлесак. *Падлес — гэта маладыя дрэўцы ў лесі.* Нізок Уздз.

**ПАДЛЁГКА** *ж.* Палёгка, дапамога. *Дзіва што, падлёхка ёсьць, дык рукі ні баляць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАДЛЁСВАЦЬ** *незак. Цясл.* Канчаткова падганяць дэталі. *Вот як трэба, каб было вельмі глатка, дык кажуць: трэба падлёсваць.*

*Столь, к прымеру, трэба падлёсваць, а не — рассохнецца, будзе сыпацца са столі, са шчылін.* Малмыгі Віл.

**ПАДЛІ́ЖНІК** *м.* Ліслівец. *Ні бачыла мушчын такіх падліжнікаў! Во ўмея, дык умея.* Бясяды Лаг.

**ПАДЛІ́ЖНІЦА** *ж. Жан. да* падлі́жнік. *Яна вот падліжніца! Мужык ёй ніпачом, брыгадзіру маргне, ёй і каня дадуць у першую вочараць.* Бясяды Лаг.

**ПАДЛІ́ЗА** *м.* і *ж.* Тое, што і падлі́жнік. *Падліза добры, паддобрыцца, і мушу ўступіць.* Хожава Маладз. *Хай будзе так. Думаеш, я не ведаю, што ты добрая падліза?* Бытча Барыс. *Колькі б разоў мы ні сварыліся, а яна, гэта падліза, першая прыбяжыць мірыцца.* Дукора Пух.

**ПАДЛІЗА́ЦЦА** *зак.* Паддобрыцца да каго-н., умець падысці. *А што ты сьмяесься?! Яна ўмее падлізацца да каго хочаш.* Хожава Маладз. *Як бачыш, падліжацца к любому, ці к свайму, ці к чужому.* Нізок Уздз.

**ПАДЛІ́ЗВАЦЦА** *незак. да* падлізáцца. Хожава Маладз.

**ПАДЛІ́ЗНІК** *м.* Тое, што і падлі́жнік. *Падлізьнік ты, Міша, я ні баюся сказаць табе гэта ў вочы.* Турэц Чэрв. *Падлізьнік заўсёды сябра знойдзе.* Малмыгі Віл.

**ПАДЛІ́ЗНІЦА** *ж.* Тое, што і падлі́жніца. Турэц Чэрв.

**ПАДЛІ́ЎКА** *ж.* Вадкае арганічнае ўгнаенне. *Какарузу ці бручку падліваюць жыжай — гэта падліўка.* Бытча Барыс.

**ПАДЛО́ГА** *ж.* **1.** Стажар'е, памост пад стог. *Мой сягоньня падлогу пад стогам на Падлужжы раскідáў, дык казаў, сто мышэй на вілы ўспароў.* Янушкавічы Лаг. **2.** Насціл з бярвенняў у мосце. *Падлога ў мосце — гэта тоўстыя бярвенні, якія ляжаць на перакладзінах і па якіх езьдзяць і ходзяць.* Ігрушка Круп.

**ПАДЛО́ГА** *ж.* Падлога. *Ходнікі ткалі з гэтага лёну, каторы горшы, кудзеля горшая, ткалі пасьцяліць на падлодзы.* Пузыры Мядз.; *параўн.* польск. podłoga 'тс'.

**ПАДЛО́ЖНЫ** *прым.* Прызначаны на падлогу. *Падложныя дошкі — гэна дошкі, з якіх робяць падлогу.* Малмыгі Віл.

**ПАДЛО́ЖЫНА** *ж.* Маснічына. *Падложыны пагнілі, трэба новыя палажыць.* Жораўка Пух. *Згніла адна падложына ля падмурка, бо вельмі сыра было.* Кукалеўка Чэрв. *Падложына нешта ўгінаецца, як нагой ступіш.* Пруды Стаўб.

**ПАДЛО́ЎЧЫ** *м. Уст.* Старшы егер; чалавек, што кантралюе паляванне. *Падлоўчы і кантраляваў паляваньне і начальнік быў.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДЛЫ́ССЕ** *н.* Надсек знізу чаго-н. *Бес падлысься ніхто беравяна ні ложыць у сьцяну, падлысьсе робяць, каб яно добра ляжала, не круцілася, не скочвалася.* Ігрушка Круп.

**ПАДЛЮ́ГА** *ж.* і *м.* Тое, што і пáдла. *А-а-а, кажу, пачакай жа, падлюга, у нас жа ёсь участковы. Я ш табе паламлю дзьверы, паждзжы!* Залазоўе Віл.

**ПАДЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* Падбегчы подбегам; імкліва збегаць. *Дзе йду, дзе падляту, дзе йду, дзе падляту — такая лёхкая была.* Баяры Маладз. *Падляці ў краму, там файныя марынаркі прывязьлі, кажуць, зраня ясёнкі былі.* Вішнева Валож.

**ПАДЛЯШЧО́ЎКА** *ж. Заал.* Падлешчык, моладзь ляшча. — *Клююць падляшчоўкі?* — *А табе што? Зматвайся адгэтуль!* Паплавы Бярэз.

**ПАДЛЯ́ШЧЫК** *м. Заал.* Тое, што і падляшчо́ўка. *Нечым падляшчык падобны да ляшча.* Вецярэвічы Пух.

**ПАДМА́ЗАЦЦА** *зак.* Увайсці ў ласку ліслівасцю; паддобрыцца. *Ён умея падмазацца да начальства, у яго раз-два гэта палучаяцца.* Хожава Маладз. *Што, падмазацца хочаш? Нічога ня выйдзе.* Зайцы Чэрв.

**ПАДМАНІ́ЦЬ** *зак.* Падмануць. *Стары ўжо чалавек, а падманіць нічога ня стоіць яму, не заўважыш нават, як падманіць цябе.* Дукора Пух. *Другі ўжо так, бывае, падманіць, што нідзе і праўды ня знойдзіш.* Малмыгі Віл.

**ПАДМА́ЦВАЦЬ** *незак.* Тое, што і падглядáць. *Учора я на чыгунок маладой бульбы падмацала.* Забалоцце Смал. *Бульбу падмацваюць, дзе большанькая.* Нізок Уздз. *Можа хто й падмацвае, я-то не разрашаю лазіць бес пары.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДМЕ́СЦІ** *зак. Жарт.* З'есці ўсё да астатку. *Мы селі падвячоркаваць, што смачна, што нясмачна, усё падмялі: хто агурца хапіў, хто што, так ужо наеліся.* Калініна Дзярж.

**ПАДМЕ́ЦЦЕ** *н.* Пагода з лёгкім сняжком на астатку зімы. *Падмецьця — будзя вясна.* Паплавы Бярэз.

**ПАДМЁТКА** *ж.* Частка другой падэшвы ў абутку ад наска да палавіны ступні. *Цяпер, калі трэба падмёткі падбіць, у камбінат нясі, у магазінах падмёткаў ня знойдзяш.* Нізок Уздз.

**ПАДМО́ІНА** *ж.* Пячора. *На Бярэзіне ёсь падмоін многа.* Бытча Барыс.

**ПАДМО́ССЕ** *н.* Яма пад падлогай. *У падмосьця сыплім картоплі.* Сырмеж Мядз.

**ПАДМО́СЦІ** *мн.* Часовае рыштаванне з дошак. *Бес падмосьцяў няёмка рубіць, зруп высокі.* Забалоцце Смал.

**ПАДМУРО́ВАК** *м.* Фундамент. *Хату пачалі строіць, падмуровак заклалі.* Юшкаўка Віл. *У нас падмуровак нізкі, дык трэба падымаць хату.* Зазерка Пух.

**ПАДМУРО́ЎКА** *ж.* Тое, што і падмуро́вак. *Наша хата ніская, але падмуроўка вялікая, дак і хата здаецца вялікаю.* Цялякава Уздз. *Цэлы гот ясьлі рабілі. Падмуроўку па-*

*лажылі і кінулі, а тады ўжо сьцены ўзводзілі.* Вецярэвічы Пух. *Хату новую збудуем, толькі падмуроўку засталося заліць.* Зарэчча Смал. *Падмуроўку мы заўсёды белім, яно неяк прытней.* Літва Стаўб.

**ПАДМЫЎ** *м.* Месца, дзе вада падмывае бераг. *Бывае каля берага дзе трохі падмыў, а так німа.* Ігрушка Круп.

**ПАДМЯ́ЛІЧЧА** *н.* Кастрыца. *С падмяліччa даўней коўдры шылі.* Рабунь Віл.

**ПАДМЯ́ЛЛЕ** *н.* Тое, што і падмя́лічча. *Наносіш падмяльля на гару, цяплей станіць у хаці.* Вішнева Валож.

**ПАДНАВЕ́С** *м.* Павець. *Пасуду сушаць у паднавеся з лаўкамі.* Івянец Валож. *Паднавес у калхозі, дзе вазы ставяць.* Нізок Уздз. *У паднавес ставяць калёсы, вісела збруя конская, вуздэчкі, хамутэ. Паднавес зроблен ад дажджу.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Поўны паднавес сена налажылі.* Вецярэвічы Пух.

**ПАДНАДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Пададзець, падапрануць. — *А не, паднадзень ты жакетачку. Радзі гэтага, што цяплей, паднадзень.* Смольніца Смал.

**ПАДНАДО́ЛАК** *м.* Подбіўка. *Нада абрубіць паднадолак.* Ваўкалатка Віл.

**ПАДНЕ́СЦІСЯ** *зак.* Заразіцца, захварэць. *А ў тоя лета паднёсься наш сын шкарлатынай, было бяды.* Дрычын Пух.

**ПАДНІМА́ННЕ** *н.* *Дзеянне паводле дзеяслова* падніма́ць (папар, цаліну, зябліва). *Сёньня на падніманьні рабіў.* Пруды Стаўб.

**ПАДНО́ЖКА** [1] *ж.* *Ткац.* Понаж. *Як восім нітоў, то і падножак восім. Каб ня змыліцца, трэба правільна хадзіць па падношках.* Ляшчынск Мядз.

**ПАДНО́ЖКА** [2] *ж.* Планка, якая звязвае ўнізе ножкі стала або табурэткі. *Ні стаўляй ногі на падношкі, а то я толькі памыла, а ты заробіш.* Рудня Лаг. *Прыбі лепш падношку, а то зусім адваліцца.* Нізок Уздз.

**ПАДНО́ЖНІК** *м.* Палавік. *Як пагляджу, у чыстым сьпяць [даўна спалі на хужэйшых зрэбных пасьцілках, як цяпер падножнікі гэтыя ў хаці ліжаць], смашна ядуць, абы-што ня хочуць, кажуць, гэта нісмашна, а гэта нідарэшнае.* Засценак Лаг.

**ПАДНЯБЕ́ННЕ** *н.* Верхняя частка (унутры) печы, скляпенне. *У нашай печы паднябеньня зробляна с каменя і бітай гліны.* Вецярэвічы Пух. *Паднябеня ў печы высока, дроў ні набраццa, два бярэм'і спаліш — і печ халонна.* Нізок Уздз. *Паднябеньня ўсё закапцела, выгарала, аш кускі зь верху падалі.* Зазерка Пух. *Калі хочаш, каб добра сьпёкся хлеп, то трэба так напаліць печ, каб аш паднябеньня белая было.* Дукора Пух.

**ПАДНЯ́ЦЦА** *зак.* **1.** Падрасці. *Як трошкі падняўся з малых, яшчэ да арміі, дык і пачаў дом дабудоўваць.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Падысці, павялічыцца ў аб'ёме. *Пяць кіль накруціла трускавак, і маё варэнё ні паднялосё, а сусетка нацерла, усё паднялосё.* Арцюхі Стаўб. **3.** Бегаць (пра перыяд палавой актыўнасці ў жывёл). *Наша карова паднялася на быкі.* Ляшчынск Мядз. *У нас ці карова, ці авечка, усё роўна кажуць: паднялася.* Ігрушка Круп. *Сьвіньня на парсюкі паднялася.* Малмыгі Віл. *Гора мне было, як сьвіньня пад кныра паднялася.* Рудня Лаг. *Карова паднялася пад быкі. Ужо каторы раз!* Бяларучы Лаг. ◊ **Падняцца на ногі** — падрасці, набрацца сілы. *Як на ногі паднялася, дык служыць пашла.* Папоўка Мядз.

**ПАДНЯ́ЦЬ** *зак.* ◊ **Падняць вочка** (у панчосе, вязаным вырабе) — паправіць, умацаваць. *Не падыміш вочка, пойдзя аш уверх.* Ігрушка Круп. **Падняць на крыло** — заставіць узняцца (пра птушак). *Адным выстралам падняў качак на крыло.* Бытча Барыс. **Як падняць** — цяжкае, важкае што-н. *Бывала, звараць саган як падняць заціркі ячнай і елі, аш насы гнуліся.* Радашковічы Маладз.

**ПАДО́БАЦЦА** *незак.* Падабацца. *Яны ш мне ня падобаюцца.* Дукора Пух.

**ПАДО́ЙНІК** *м.* Даёнка. *У падойніку ваду я не нашу, у яго толькі малако даю.* Пудзіцк Пух. *Купіла сёньня новы падойнік.* Нізок Уздз.

**ПАДО́ЛАК** *м.* Ніжні край сукенкі, кашулі, спадніцы і пад. *Увесь падолак змок, пакуль дабіралася.* Суднікі Стаўб.

**ПАДО́НАК** *м.* *Заал.* Глыбакаводны шчупак (Esox lucius). *Жоўты, таўсты, кароткі шчупак — гэта йначай называюць падонак, падонак па дне ходзіць.* Рудня Чэрв.

**ПАДО́ННЕ** *н.* Рэшткі вадкасці з асадкамі на дне пасудзіны. *Дасьць яна паесьці чалавеку, уга! Падоньня халоннага з гаршка пасьля абеду нальле, а ён натта там разьбярэ — вечна ш па сталоўках.* Дукора Пух. *Я не хачу падоньня есьці, дай чаго смачнейшага.* Пудзіцк Пух.

**ПАДО́ННІКІ** *мн.* Дашчаны насціл у санях. *Пасьцелюць падоньнікі ў санях, палажыў сена ці саломкі пад калені, сеў і паехаў сабе куды нада.* Ляшчынск Мядз.

**ПАДО́РВАНЫ** *прым.* Хворы на грыжу. *Падорваны конь дужа слабы.* Малмыгі Віл.

**ПАДО́РВАЦЬ** *незак.* Акучваць. *Цэлы дзень падорвалі картоплі.* Дрычын Пух.

**ПАДО́ЎЖНІК** *м.* Дошка, якой закрываюць бакавы ўваход у стаячы або ляжачы вулей. *Падоўжнік у адным вулеі рассохся, вось-вось пераломіцца, трэба выразаць новы.* Вецярэвічы Пух.

**ПАДПАВЕ́ТАК** *м.* Павець. *У патпаветак мы дровы складаем, а як ёсьць свабоднае места, дык зяць яшчэ і матоцык свой ставіць.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАДПАДАЦЬ** *незак.* Прыкідацца (пра хваробу). *Знаяця, дзеткі, ат страху ўсякія хваробы патпадаюць.* Гілікі Валож.

**ПАДПАЛАТНЯНЫ** *прым.* Які мае адносіны да палатна, прызначаны для навівання гатовага палатна. — *Ну як табе раскасаць, што за патпалатняны навой. Ён такі, як і патпражны, толькі патпражны большы.* Рабунь Віл.

**ПАДПАЛЕНЫ** *у знач. прым.* Белы з рудымі плямамі. *Мой ганчак патпаленага колеру, белы с патпалінамі.* Хожава Маладз.

**ПАДПАСАВІК** *м.* Падпасак, памочнік пастуха. *Дык што, зноў нам новага патпасавіка даюць?! Нешта не задзержываюцца патпасавікі ў нас.* Паплавы Бярэз.

**ПАДПАСАВІЧ** *м.* Тое, што і падпа́савік. *Лажыся спаць, сынок, ты ж заўтра ў патпасавічы пойдзяш.* Турын Пух. *У стадзі сорак кароў, дык пасьвіць адзін пастух, а каму і патпасавіч памагая.* Ляхавічы Дзярж. *Патпасавіч памагае пастуху глядзець скаціну.* Забалоцце Смал.

**ПАДПАСВІЧ** *м.* Тое, што і падпа́савік. *Я была ў патпасьвічах і сама бачыла етыя ваўке, каторыя і к сялу гоняць каровы і ня чапаюць ні каровы, ні пастуха. Я малая была, а помню.* Дрычын Пух.

**ПАДПАСІЧ, ПАДПАСЫЧ** *м.* Тое, што і падпа́савік. *У нашага пастуха два падпасічы.* Дукора Пух. *У патпасічы ўсё хлапцоў даюць, бо ён быстрэй бегая, як якая дзяўчынка.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Калі некаму пасьвіць, пастуха пастаяннага ня згодзяць, тады нанімаюць патпасыча.* Вецярэвічы Пух. *А раней так было. Пастух гоніць кароў на пасту, дык даюць яму два патпасычы і грошы даюць. І гэты пастух с патпасычамі ўсё лета скаціну пасьвяць.* Нізок Уздз.

**ПАДПАТА** *ж.* Выраз на рукаў; *параўн.* галава́ (у 7 знач.). *Дрэнна выразала патпаты, нязграбныя рукавэ будуць.* Нізок Уздз. *Перш выразаюць патпаты, а тагды ўшываюць рукавэ.* Кухцічы Уздз.

**ПАДПАШНІК** *м.* Клін; *параўн.* ву́стаўка. *Патпашнік ўстаўляецца ў кімано.* Варняны Астр.

**ПАДПАШША** *н.* Пад пахамі. *Рубашка цесная ў патпашшы, як спацею, нарэжа цела.* Пруды Стаўб.

**ПАДПАЯСАЦЦА** *зак.* Падперазацца. *Як поясам, дык патпаясацца.* Нізок Уздз.

**ПАДПЕРЦІ** *зак.* 1. Падлажыць тайком з якім-н. намерам. *А ты сьпічку шчэ схопіш ды мне тут дзе падапрэш, тады ўсё згарыць. Не ўратуем.* Дрычын Пух. 2. *безас.* Аб прыступе болю, кашлю. *Нешта патперла пад грудзі, аж дыхаць заняло.* Палессе Мядз.

**ПАДПЕЧ** *ж.* Месца, прастора пад печчу. *У мяне ў патпечы зімой цьвяты ляжаць, каб не памерзьлі, а бывала, дык і куры сядзелі.* Зазерка Пух.

**ПАДПІЛАК** *м. Цясл.* Напільнік. *Патпілкаў многа ёсьць розных: звычайную пілу точаць трохгранным, для круглай пілы — шмэргет ёсьць. Для рознай пілы розныя патпілкі.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДПІНАК** *м.* Церассядзёлак. *Адзяваць падпінак на каня не трэба, я далёка нікуды не паеду.* Рубяжэвічы Стаўб. *Патцягні патпінак, кап платней прылягаў.* Канстанцінава Мядз. — *Хлопцы, дзе гэта патпінак з майго каня дзеўся? — А гэта што?* Бяларучы Лаг.

**ПАДПІРАЦЦА** *незак.* Падлізвацца. *Чаго мне да яе патпірацца? На чорта яна мне здалася!* Дукора Пух.

**ПАДПЛЕТАННЕ** *н.* Падплёт. *Патплёў бацька патплетаньне, так і хадзіла ў старых лапцях.* Забалоцце Смал.

**ПАДПЛЕТКА** і **ПОДПЛЕТКА** *ж.* Прылада, з дапамогай якой плятуць лапці, качадык. *Зімнія вечары доўгія, патплетку ў рукі і пляцеш сабе лапці.* Турэц Чэрв. *Потплеткай тады ўжо лапаць пляцеш.* Паплавы Бярэз.

**ПАДПЛЯТАНКА** *ж.* Тое, што і падплётка. *Патплітанка — гэта палачка такая, як кручок. А як хто гультай быў, от ік мой сусет, дык нават і патплітанкі свае ня меў.* Шабынькі Барыс.

**ПАДПОЎНІК** *м.* Фаза Месяца, які набліжаецца да поўні. *Патпоўнік — гэта што йператпоўнік.* Вецярэвічы Пух.

**ПАДПРАЖНЫ** *прым.* Які мае адносіны да асновы. *Ёсь два навоі — патпражны навой і патпалатняны. Аснова навіваецца на падпражны навой.* Рабунь Віл.

**ПАДПРУГА** *ж.* Тое, што і падбру́шнік. *У патсядзёлак зацягваецца такая патпруга, кап ёмка было патпінаць вос гэты.* Вязынка Маладз.

**ПАДПРЫПЕК** *м.* Выемка пад прыпекам, дзе ставяць гаршкі, чыгуны. *У нашай печы няма патпрыпека.* Савоні Стаўб. *У патпрыпек стаўлялі гаршкі, чыгуны, завесяць занавескай, каб не відаць было іх.* Ляшчынск Мядз. *Хоць што можна ў патпрыпек паставіць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДПРЫПЕЧАК** *м.* Тое, што і падпры́пек. *Цяпер глядзяць, кап хараша ў хаце было, чыгуны, вёдра выносяць с хаты, а бывала, усё патпрыпечак папхоў, папхоў — і добра.* Вецярэвічы Пух.

**ПАДПЯЧУРАК** *м.* Падпечак. *У пярэдняй хаце строілі печ с патпячуркам, печ займала вялікую дзель хаты.* Рабунь Віл.

**ПАДРАБІЦЦА** *зак.* Управіцца з сельскагаспадарчымі работамі. *Выбярым бульбу, падробімся, тады бяромся кала лёну.* Папоўка Мядз. *Як падробімся, цеплім лазьню і сушым лён.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАДРАБЛЯЦЦА** *незак.* 1. Уходжвацца. *Трэба ш ісьці падрабляцца, а то каровы скора*

*прыгоняць*. Скамарошкі Стаўб. **2.** *незак.* да падрабіцца. *Вяжым яго ў снапы, прывязём і складзём яго ў ток. Лён ляжыць у таку, мы ш падрабляімся з другімі работамі.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАДРАДО́ЎКА** *ж. Бат.* Грыб, па форме і якасці падобны на радоўку, толькі меншых памераў. *Радовак і падрадовак раз-два набраць у лесі, як пара на іх.* Нізок Уздз.

**ПАДРАЗА́ЦЬ** *незак. Пчал.* Даставаць (мёд). *Паткурыў нямнога і падразай мёт: пчолкі спакойныя.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДРА́НАК** *м.* У мове паляўнічых — злёгку падстрэлены. *Рас падранак, нідзе ні дзеняцца, ня ўцячэ.* Вялікая Вуса Уздз. *Падранак, а яшчэ так бяжыць, можа ўцячы.* Бытча Барыс.

**ПАДРА́ПАЦЬ** *зак.* Апрацаваць культыватарам, падрыхліць. *Трэба абараць у час было, падрапаць бручку, і нам ляхчэй бы было, і яна п расла лепій.* Бяларучы Лаг.

**ПАДРАСЦІ́ЦЦА** *зак.* Падрасці, падгадавацца. *А дзеці падросьціцца трохі, дык больш клопату прыбавіцца.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАДРАШО́ТНІЧАК** *м. Бат., памянш.-ласк.* Разнавіднасць махавіка (Boletus subtomentosus). *Падрашотнічкі растуць скора і ўсюды, дзе ёсь мох. Растуць дзе папала.* Бясяды Лаг.

**ПАДРАШЭ́ЦІК** *м. Бат.* Перцавы грыб (Suillus piperatus). *Падрашэцік — грып ядавіты, воўчы, нес'ядомны. Уйма іх у лесі, многа дужа. Сьліскія зьверху, сьветла-карычнівыя. Пад галоўкай дырачкі такія, наздраватыя. На тонкай ношкі.* Суднікі Віл.

**ПАДРАШЭ́ТНІК** *м. Бат.* Ядомы грыб аліўкава-карычневага колеру з сятчастай спадніzу шапкай (Boletus bovinus). *Падрашэтнік падыспадам на вочках, вялікіх, шырокіх. Падрашэтнікі любяць гушчар і сырое месца.* Нізок Уздз. *Падрашэтнікі рэткія падыспадам, як на дзірачках.* Рудня Чэрв.

**ПАДРО́СТАК** і **ПО́ДРАСТАК** *м.* **1.** Падлетак; хлопчык або дзяўчынка ў пераходным узросце. *Сабралася кампанія падросткаў і каля канюшні мяч ганяюць.* Савоні Стаўб. *У дзярэўні адны подросткі асталіся, самастаяцяльныя ўсе па гарадах.* Пудзіцк Пух. **2.** Маладыя дрэвы, якія растуць пад полагам лесу і могуць у будучым замяняць стары дрэвастой. *У нас дрэўцы гэтыя маладыя, што на дзілянках растуць, не маланьняком завуць, а падростак.* Ігрушка Круп.

**ПАДРО́СТАЧАК** *м. Памянш.-ласк.* Падлетачак. *Я ўжо настаяшчым падростачкам была, як мне, помню, пашылі з крэпіку сукенку, ды яшчэ бікешачкай. От радасьці было!* Пасынкі Мядз.

**ПАДРУ́БА** *ж.* **1.** Ніжняя перакладзіна ў праёме дзвярэй. *На падрубе ставяць вушакі.* Вязынка Маладз. **2.** Прызба ў старых хатах. *Летась падрубу бацька перасыпаў, то цяплей у хаця зімой было.* Пудзіцк Пух.

**ПАДРУБІ́ЦЬ** *зак. Цясл.* Тое, што і п а д л а ж ы́ ц ь [2]. *Хата яшчэ добрая, трэба толькі падрубіць ніжні вянок.* Пруды Стаўб. *Грып убіўся ў хату, зьеў падлогу і падрубы, цяпер трэба мацяр'ял даставаць, падрубіць хату, замяніць падлогу.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАДРУ́ГА** *ж.* Сяброўка. *Сусетка ў мяне была, лепшая падруга.* Пудзіцк Пух.; *параўн.* рус. подруга.

**ПАДРУ́ЖКА** *ж.* Шаферка. *Маладую забіраюць падрушкі, садзяцца на лаву, а жаніх выкупляя нявесту.* Багрыцоўшчына Дзярж.

**ПАДРУЖЭ́ЙНЫ** *прым.* Які мае адносіны да палявання са стрэльбай. *Быў у мяне добры падружэйны сабака, але рас ноччу ваўке задралі.* Пруды Стаўб. *Зь якімі на паляваньне ходзіш, падружэйныя сабакі гавораць.* Саланая Валож.

**ПАДРЫЛЯВА́ЦЬ** *зак.* Хутка пакрочыць. *Ой, хлопцы, й шпарка ж дзеўкі падрылявалі на танцы!* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАДСАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Дапамагаць. *Патсабляў мне мяшкі з бульбай насіць, а то аднаму цяшка.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДСА́Д** *м. Ганч.* Першы рад пасуды ў печы для абпальвання. *Баяўся, каб падсад не трэснуў.* Івянец Валож.

**ПАДСА́ДА** *ж.* Тое, што і п а д р о́ с т а к (у 2 знач.). *А на гэты бок зямля ніважная, тут і лес ніважны: яльняк, глушня, патсады, ягадняку няма.* Арцюхі Стаўб.

**ПАДСАЛАВЕ́Й** *м. Заал.* Падвід салаўя — варакушка (Luscinia svecica). *Пакуль рэчку не асушылі, алешнік не пасеклі, што ў нас птушак было! Былі салаўе, патсалаўе, зязюлька і так усякага птаства.* Савоні Стаўб. *Патсалавей падобны на салаўя.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАДСА́НКІ, ПАДСА́НЬКІ** *толькі мн.* Тое, што і п а д к а́ р к і. *Кары і патсанькі — сані, на якіх возяць лес. Кары йдуць паперадзі, у іх запрэжаны конь, а патсанькі — ззаду, на іх ляжыць вяршыня берявна.* Бытча Барыс. *Лес вазілі канём, на санях з патсанкамі, гэта як цяпер с прыцэпам.* Кузьмічы Мядз.

**ПАДСАСНО́ЎКА** *ж. Бат.* Грузд (Lactarius resimus). *Патсасноўкі ёсьціка. Усе карычнівыя — і зьверху і падысподам.* Нядаль Барыс.

**ПАДСА́ЧАК** *м. Рыб.* Сак, сачок. *Патсачак с старой сеткі робяць, а хто з марлі, як малькоў лавіць.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДСЕ́К** *м. Будаўн.* Тое, што і п а д л ы́ с с е. *Пры будоўлі зруба робяць патсекі ў бярвенях, каб яны глатка прылягалі.* Вязынка Маладз. *Бес патсеку ні будзя ш берявно ляжаць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДСІЛКАВА́ННЕ** *н.* Прыпасы прадуктаў, харчы. *У такіх торбах вельмі зручна было насіць патсілкаваньне.* Кукалеўка Чэрв.

**ПАДСІЛКАВА́ЦЦА** *зак.* Пад'есці, падмацаваць свае сілы. *Давай трохі патсілкуемся, бо есьці захацеў я.* Вялікая Вуса Уздз. *Ня кліч яго, ён ужо патсілкаваўся.* Саланая Валож.

**ПАДСІ́НЬКА** *ж. Дзеянне паводле знач. дзеясл.* падсініць, надаць сіняваты колер. *Патсінька робіць бяльлё галубаватым.* Бытча Барыс.

**ПА́ДСІТАК** *м.* Невялікае сіта. *Зьбегай, сынок, забяры патсітак у цёткі Хвядоры, трэба муку перасеяць.* Вялікая Вуса Уздз. *На булкі муку сеем праз патсітак.* Зазерка Пух.

**ПАДСКО́К** *м.* Рухі ног у танцы, прытанцоўванне. *Некаторы польку роўнянька танцуя, а ў другога полька с патскокамі палучаяцца.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДСКРО́БАК, ПАДСКРЭ́БАК, ПАДШКРО́БАК** *м.* **1.** Маленькая баханачка хлеба з аскробкаў цеста. *Як некалі, то самі хлеп пяклі, булак чатэры ці пяць усадзіш, а напасьледак патскрэбак дзецям на ўцеху.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** *перан. Экспр.* Апошняе дзіця ў бацькоў. *А на самага меншага то патскробак скажуць.* Вязынка Маладз. *Хоць сабе і патскробак, а разумнейшы і ўдалейшы за ўсіх.* Паплавы Бярэз. *А на млачшага дык яшчэ й патшкробак скажуць.* Ігрушка Круп. *Мой патскрэбак усюды ўлезя, толькі стой, як гурган, над ім.* Забалоцце Смал. *Патскрэпчык мой, любы, дарагі! Што ш вочак не аткрываіш, сыночак мой, крывіначка мая!* Малмыгі Віл. **3.** Апошні снег. *Патскробак доўга не ляжыць, скора растае.* Рудня Лаг. *Патскробак вясной у цені ляжыць, не на сонцы.* Ігрушка Круп.

**ПАДСКРЭ́БІШ, ПАСКРЭ́БЫШ** *м.* Тое, што і п а д с к р о́ б а к (у 1 знач.). *Пяклі ў нас і патскрэбішы.* Рудня Чэрв. *Добра вычысьці дзяжу, каб ні заставалася цеста, у яга дабаў дранай бульбы і гэта ўсё на патэльню, то хоць паскрэбыш будзіць.* Калодкі Віл. *Як на падскрэбіш цеста асталося.* Ігрушка Круп.

**ПАДСКРЭ́БУШАК** *м. Ласк. да* падскро́бак (у 1 знач.). *Выскрап дзежачку і сьпёк патскрэбушак. Бывае, сам зьясі, а як усохне, дык і карове кусок патскрэбушка дасі.* Пруды Стаўб.

**ПАТСКРЭ́БЫШ** *гл.* патскрэ́біш

**ПАДСЛЕ́ПАК** *м. Абразл.* З фізічнымі недахопамі, няўклюдны чалавек. *Няўдаліца гэта, патсьлепак, стравіў кароўмі ўвесь клін, а палявому сторажу адвячай.* Раўчак Пух.

**ПАДСЛЕ́ПІСТЫ** *прым.* Падслепаваты. *Калі чалавек крыху недабачвае, то кажуць, што ён падсьлепісты.* Паплавы Бярэз.

**ПАДСЛЕ́ПЫ** *прым.* Тое, што і п а д с л е́ п і с т ы. *Падслепы — гэта чалавек, нізкі на вочы, блізка бачыць, а далёка — не.* Дукора Пух.

**ПАДСЛУХО́ЎВАЦЬ** *незак.* Наглядаць, прыслухоўваючыся, за паводзінамі пчол перад раеннем. *Падслухоўваім, падглядаім за пчоламі, каб яны не ўцяклі, не паляцелі куды далёка, што не знайсьці. Падслухоўваім, ці моцна матка пяе, як моцна — значыць, рой выляціць скора.* Гілікі Валож.

**ПАДСМЕ́ШКА** *ж.* Насмешка. *Як ужо йдзеш праз вёску: „Ну як жа там танцы былі? — кажа. — Ці добра патанцэвалі?" Гэта нам патсьмешку рабілі. Цярпелі, бо струсілі.* Бакачы Мядз.

**ПАДСМЕ́ХІВАЦЬ** *незак.* Падсмейвацца. *Мушчыны сталі пад'ялдыківаць, патсьмехіваць, а найбольш Ліхадзееўскі патчэпліваў.* Арцюхі Стаўб.

**ПАДСМЯТА́ННІК** *м.* Верхні слой кіслага малака, які мяжуе са смятанай. *Пад сьмятанай на кіслым малацэ застаецца патсьмятаньнік.* Ляшчынск Мядз.

**ПАДСМЯШЫ́ЦЬ** *зак.* Падвесяліць. *Ідуць дзяўчаты са жніва. Дзяўчаты такія сьмешныя, мы іх патсьмяшылі, ну й можа мы с кіломатар і падвялі.* Бакачы Мядз.

**ПАДСНАВА́ЦЦА** *зак.* Паддобрыцца. *Яна як патснуецца да яго, той усе грошы аддасьць.* Аляхновічы Маладз.

**ПАДСО́БНІК** *м.* Памагаты, памочнік у якой-н. справе. *У хаце растуць патсобнікі, скора бацьку дагоняць.* Кукалеўка Чэрв.

**ПАДСО́НЕЧНІК** *м. Бат.* Сланечнік (Helianthus annuus). *С патсонечніку робяць поснае масла.* Бясяды Лаг.

**ПАДСО́СКА** *ж.* Падсочка. *Падсоску дзелаюць с хвоі, у смалярні потым гонюць смалу.* Бяларучы Лаг.

**ПАДСПО́Д** *прысл.* Падыспад, падніз. *Патспот адзяе суконну спаніцу, наверх кухвайку і пашла.* Пудзіцк Пух. *Чорныя мяшкі патспот палажы, а лепшыя наверх.* Цвіркі Стаўб.

**ПАДСТА́ВА** *ж.* Від дзяржаўнай нарыхтоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў. *І падставу здавалі дзяржаве, жыта, сена, мяса здавалі.* Сівіца Валож.

**ПАДСТАВУ́ХА** *ж.* Падстаўка. *Трэба сёньня патставуху зрабіць, а то баба праходу не дае.* Ратуцічы Барыс.

**ПАДСТА́ЎКА** *ж. Пчал.* **1.** Прадмет у выглядзе лавачкі на ножках, які падстаўлялі пад калоду. *Звычайна калоды клалі на патстаўкі — такія драўляныя чурбакі або рабілі патстаўкі ў выглядзе такіх лавачак.* Дукора Пух. *Патстаўкі ёсьць пад калодныя вульлі.* Пруды Стаўб. **2.** Прылада для трапання лёну. *На патстаўку кладуць зьмяты лён, ручайку лёну прыкладваюць к патстаўцы і траплом трэплюць, выбіваюць кастрыцу.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДСТА́ЎЧЫК** *м.* Падстаўка для пакаёвых кветак, на высокіх ножках. *Патстаўчык гэты трэба выкінуць, ножка зламалася.* Літва Стаўб.

**ПАДСТО́ЛЬНІК** *м.* Бэлька. *Патстольнікі трэба ўжо мяняць, німодныя сталі.* Язні Віл.

**ПАДСТРАПІЛЬНЫЯ БЯРВЕ́ННІ** *будаўн.* Бярвенні, якія кладуцца ў апошнім вянку зруба над бэлькамі. *Патстрапільныя бярвенні — гэта пасьленьнія бярвенні на ізрубе.* Бытча Барыс. *Да патстрапільных бярвенняў прымацоўваюць страпілы.* Малмыгі Віл.

**ПАДСТРАШЫ́ЦЬ** *зак.* Напалохаць, прыстрашыць. *На гэты рас паляваньня было няўдачным, нікога ні ўпалявалі, адно рыся патстрашылі.* Княгініна Мядз.

**ПАДСТРО́ІЦЬ** *зак.* **1.** Паправіць, зрабіць прыгодным для карыстання. *Трэба боты патстроіць, бо скора будзя холат.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Падрыхтаваць. *Патстрою яду сьвіньням, і зьбегаю ў магазін тады.* Паплавы Бярэз.

**ПАДСТРЫХО́ЎКА** *ж.* Тое, што і п а д г о́ н н а я л а п а́ т к а. *У нас сваёй патстрыхоўкі не было, як нада — прасілі ў людзей, у каго была.* Рудня Чэрв.

**ПАДСТРЭ́ШНІК** *м.* Падстрэшак. *Ідзі схавайся пат патстрэшнік, каб дожч ні абмачыў.* Дукора Пух. *Патстрэшнік зашчышчае ад дажджу.* Ігрушка Круп.

**ПАДСТЫ́ЦЬ** *зак.* Застудзіцца. *У прылазьніку было холадна, я, напэўна, патстыла.* Завішына Лаг.

**ПАДСУ́МНІК** *м.* Сумка на ключы ў веласіпедзе. *Палажы ключы ў патсумнік.* Рудня Чэрв.

**ПАДСУФІ́ТКА** *ж. Зб.* Вузкія тонкія дошкі спецыяльнай распілоўкі, якімі падшываюць сто́ль. *Некалі звалі патсуфітка, а цяпер вагонка.* Вішнева Валож.; *параўн.* польск. podsufitka 'аснова з дошак, прыбітых да бэлек'.

**ПАДСЦЁЛ** *м.* **1.** Салома, сухое лісце і пад., якімі падсцілаюць жывёлу. *От німа патсьцёлу, чым патсьцілаць.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Хіба трэба шышак прынесьці на патсьцёл.* Арцюхі Стаўб. **2.** Тое, што і п а д л о́ г а (у 1 знач.). *Патсьцёл робяць з лам'я разнага, зь бярэзніку.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДСЦІ́ЛКА** і **ПО́ДСЦІЛКА** *ж.* **1.** Тое, што і п а д с ц ё л (у 1 знач.). *Патсьцілка скора ўся, чым будзім патсьцілаць?* Кукалеўка Чэрв. *На потсьцілку саломы прыўёс.* Вецярэвічы Пух. *Потсьцілкі многа, дык навозу хватае, на трыццаць сотак уга як хватае.* Бытча Барыс. *Паеду прывязу потсьцілкі для каровы.* Ігрушка Круп. **2.** Тое, што і п а д л о́ г а (у 1 знач.). *Каб стог не згніў знізу, ж жэрдзя, з сухога сучча кладуць пад стох патсьцілку.* Пруды Стаўб.

**ПАДСЯВА́НКА** *ж.* Хлеб з нявеянага жыта, мука з якога прасеяна на рэшата. *Яны ўвесь век патсяванку елі, абы хлеба мала добрага было.* Кроква Лаг.

**ПАДСЯДЗЁЛЬНІК** *м.* Падсядзёлак. *Патпінаюць патпінкам патсядзельнік, кап трымаўся на сьпіне.* Вязынка Маладз.

**ПАДСЯЛЯ́ЎНІК** *м. Зб.* Моладзь сялявы. *Поўна сець патсяляўніку.* Ляшчынск Мядз.

**ПАДТАВА́РНІК** *м.* Тоўстыя жэрдкі, якія выкарыстоўваюцца для падсцілкі пад таварную драўніну на плыце. *Паттаварнік — називаньня тоўстага жэрдзя, катора расьсьцілаюць на плыце, каб не намакала таварнае дзерава.* Нізок Уздз.

**ПАДТРО́ЙКА** *ж.* Баранаванне папару перад ворывам. *Паттройка лепш як гнаёўка.* Ваўкалатка Віл.

**ПАДТУ́КАЦЬ** *зак.* Падгаварыць, падбухторыць. *Такі ўжо ён чалавек: другога падтукае на благое, а сам убаку стаіць.* Дрычын Пух.

**ПАДТЫ́ЧКА** *ж.* Падточаная іншым матэрыялам частка падола. *Ніякая ні паттычка, а проста аддзелкай называюць. І раней так казалі.* Вязынка Уздз.

**ПАДУБАЛЬТАВА́ЦЬ** *зак.* Выстраліць з другога ствала адразу ж пасля першага. *У мацёрага зьвера як страляеш, трэба заўсёды падубальтаваць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДУГО́ЛЬНІКІ** *мн.; адз.* **падуго́льнік** *м. Будаўн., уст.* Калодкі па вуглах зруба, на якія кладзецца першы вянок. *Рас падугольнікі ляжаць, значыць, хата будзе.* Сцешыцы Віл.

**ПАДУЖА́ЦЬ** *зак.* Паправіцца, набрацца сіл. *Я думала, вясной падужаю.* Каменка Уздз.

**ПАДУЗО́РНІК** *м.* Тое, што і п а д з о́ р н і к. *Падузорнікі я сама вышывала, але цяпер на іх мода адышла.* Завішына Лаг.

**ПАДУКЛЕ́ЙНІК** *м. Заал.* Верхаводка. *Натта смачная рыпка падуклейнік, вельмі ласы да падуклейніка шчупак.* Мікольцы Мядз. *Падуклейніку кошыкам налавіў.* Ляшчынск Мядз.

**ПАДУ́МКА** *ж.* Думка. *Я й падумкі такой ніколі ня мела, што ён так зробіць.* Баяры Маладз. *Я й падумкі ня мела, што вы гэта будзеця запісваць, я б вам нічога не казала.* Вязынка Маладз.

**ПА́ДУПАК** *м.* Гарызантальны брусок у санях, які адзяюць на капылы. *У сані ўстаўляюць чатыры падупкі.* Вязынка Маладз.

**ПАДУПРА́ВІЦЦА** *зак.* Управіцца з хатняй работай. *Папрыходзяць позна, ведама, трэба ш падуправіцца.* Дукора Пух.

**ПАДУПРАЎЛЯ́ЦЦА** *незак. да* падупра́віцца. *Пара йсьці падупраўляцца, сонца ніска.* Пудзіцк Пух.

**ПАДУ́ЧКА** *ж. Мед.* Эпілепсія. *Куды ты кідаяш? Кап цябе падучка кідала!* Дукора Пух. *Няхай ніхто ня ведае падучкі, гэта ж такая хвароба страшная.* Пруды Стаўб.

**ПАДУ́ШАЧКА** *ж.* Мочка (вуха). *Падушачкі праколваюць для завушніц.* Вішнева Валож.

**ПАДУ́ШКА** *ж.* **1.** Прадаўгаваты цыліндрычнай формы валік канапы, тахты. *Падушкі ніяк ні дзяржацца, хоць плач.* Забалоцце

Смал. **2.** Драўляная падкладка ў павозцы, якая засцерагае пярэднюю і заднюю восі ад ціску, трэння, гасіць вібрацыю. *У калёсах ёсь падушка, якая ўкладаяцца на вось.* Вецярэвічы Пух. *Падушка засьцерагая сярэднюю частку восі.* Вязынка Маладз.

**ПАДЎШЧАЯ БАЛЕСЦЬ** *мед.* Тое, што і падўчка. *Падушчая балесьць — гэта чалавека трасе, кідае, а ён ня помніць.* Пруды Стаўб.

**ПАДФАРСНУЦЬ** *зак.* Фанабэрыста павесці сябе, заважнічаць. *Гэтак адзін рас патфарснулі і болей не захацелі.* Пудзіцк Пух.

**ПАДХАДЗІЦЦА** *зак.* Управіцца з работай па гаспадарцы. *Патхаджуся і прабягу да сястры.* Краснаволле Лаг.

**ПАДХАДЗЯШЧА** *ліч.* Дастаткова, мнагавата. *А ў мяне дроў падхадзяшча, на зіму хваціць.* Савоні Стаўб.

**ПАДХАПІЦЦА** *зак.* Нечакана ўзнікнуць. *Патхапілася хмарка, аткуль ні вазьміся — дошч, а ў мяне яшчэ с поля сена ні зьвезяна.* Сакольшчына Стаўб.

**ПАДХАХЎЛІЦЦА** *зак.* Прыбрацца. *Трэба падхахуліцца, пайду на танцы.* Ляхі Нясв.

**ПАДХВАТ**[1] *м.* ◊ **На падхваце** — пад рукамі, блізка. *Кап хто быў на патхваце, пашлі п у ягады.* Зазерка Пух.

**ПАДХВАТ**[2] *м.* Вілкі з двума металічнымі паўкруглымі рагамі на канцы. *Нашым патхватам толька сярэднія чыгункі браць, на вялікія не патходзіць.* Бытча Барыс.

**ПАДХВАТНІК**[1] *м.* Удзельнік харавога калектыву, падпявала. *Патхватнікі хораша пяюць, усе так цягнуць.* Турэц Чэрв.

**ПАДХВАТНІК**[2] *м. Рыб.* Тое, што і падсачак. *Патхватнік на рыбу, патхватнік робіцца зь нітак, сетка такая, нацягваецца на дрот або абруч.* Нізок Уздз.

**ПАДХВАТНІЧАК** *м. Памянш.-ласк.* Падпявала. *Многа патхватнічкаў хадзіла з запяваламі, з музыкай.* Бяларучы Лаг.

**ПАДХВАЦІЦЬ** *зак.* Прыхапіць з сабой. *Яна як ідзе з работы, усягда абы-што падхваціць.* Пудзіцк Пух.

**ПАДХІЛІЦЬ** *зак.* Падшыць. *Засталося толькі патхіліць падол у сукні.* Кальчуны Ашм.

**ПАДХІТРАВАЦЬ** *зак.* Перахітрыць. *Дык ён, дармо што быў бедны, але хітры. У яго было пшаніцы пуды два ці можа й болій крыху, ён павярнуў тры бочкі ўверх дном, а на гэтыя бочкі насыпаў этай пшаніцы. Тры вялікія бочкі дно засыпаў. Вот як ён іх патхітравоў.* Кукшавічы Дзярж.

**ПАДХЛЕБНІЦА** *ж.* Тое, што і падліжніца. *Ну такая патхлебніца, такая патхлебніца, сьвет ні бачыў такой! Я гэтак ужо не магу, як яна, падлізвацца. Умее жыць, умее дагадзіць, умее падлізацца, гэтая патхлебніца, хітрая як ліса.* Гілікі Валож.

**ПАДХЛЯБАЛЬНІК** *м.* Чалавек, які дагаджае, прыслужвае ў мэтах асабістай выгады. *Прагналі фашыстаў, пацягнуліся і іх патхлябальнікі хто-куды.* Дрычын Пух.

**ПАДХЎПІЦЦА** *зак.* Падахвоціцца. *Дзеўкі як патхупіліся, дак за дзень паўтары нормы апалолі буракоў.* Дукора Пух.

**ПАДЦЕРУСІЦЬ** *зак.* Нацерушыць. *На дзяцей кажу: „Салому нашто вы пацьцерусілі па хаця".* Зарэчча Смал.

**ПАДЦЁЛАК** *м.* Бычок-пярэзімак. *Пацьцёлка ўжо ў пастух ганяям.* Вецярэвічы Пух. *Мо ты, стары, пацьцёлка напоіш сходзіш, а я во тут зь дзяўчаткамі пагукаю.* Баяры Маладз.

**ПАДЦЁЛКА** *ж.* Цялушка. *Пацьцёлка наша пабегала, будзем старую карову на зіму прадаць.* Пудзіцк Пух.

**ПАДЦІКАВАЦЬ** *зак.* Высачыць. *Пацьцікаваць трэба, дзе кура зьнясецца.* Рудня Чэрв.

**ПАДЦІНАЦЬ**[1] *незак.* Выводзіць якую-н. мелодыю. *Танцуюць, бывала, бабы на вясельлі і частушкі пацьцінаюць, асабліва калі „Лявоніху" танцавалі.* Дукора Пух. *А ёй што? Яна цэлы дзень пацьцінаць можа, аткуль словы бяруцца.* Вішнева Валож.

**ПАДЦІНАЦЬ**[2] *незак.* Прыпінаць. *Пацьцінаць каня.* Вішнева Валож.

**ПАДЦІНКА** *ж.* Тое, што і драндўшка. *А прыпеўка яшчэ называецца пацьцінка.* Саланая Валож. *Я столькі ня ведаю пацьцінак, колькі Манька: яна і сама ўмея складаць.* Вішнева Валож.

**ПАДЦІСНУЦЦА** *зак.* Залезці паўзком пад што-н. *Патціснулася пад маленькаю ёлачку і прасядзела цэлаю ноч.* Альсевічы Мядз.

**ПАДЦУКРАВАЦЬ** *зак. Перан.* Падкусіць, удаць. *Некалі сын як паццукруя дзірэктару бацьку, дак той і чапляяцца да бацькі.* Цялякава Уздз.

**ПАДЦЫГЛЯСТЫ** *прым.* Высокі хударлявы. *Манюсь як стаў рабіць, такім паццыглястым зрабіўся.* Нарач Мядз.

**ПАДЦЯЖКА** *ж.* Клін у коле пярэдняга навоя. *Дзеці як закінулі пацьцяжку, потым чуць знайшлі.* Малмыгі Віл.

**ПАДЦЯЖКІ** *мн.* Шлейкі, сплеценыя з parцяных нітак, для падтрымання штаноў, спадніцы (у дзяцей, падлеткаў). *Матка выччыць спаньніцу клеткамі, такія спляцець пацьцяшкі зь нітак, с канцоў прышыіць — павешую на шасьце і жду калят.* Весялова Круп.

**ПАДЦЯРОБ** *м.* Дзялянка, дзе робяць падчыстку зваленага лесу. *Пацьцяроп — гэта дзе лес чысьцюць.* Гілікі Валож.

**ПАДЧАПІЦЬ** *зак.* Паддзеўшы прутком, захапіць нітку. *Паччэпіш вочка прутком, правяжаш яго, здымаяш с прутка, чапляяш другоя — і так вяжаш.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДЧАРЫЎЕ** *н.* Сала з падчарэўя. *Паччарыўе лічыцца горшым сортам сала.* Вецярэвічы Пух.

**ПАДЧАЧУ́РАК** *м.* Падлетак. *Бацька пашоў ув армію, усіх мушчын пазабіралі, асталіся адны паччачуркі.* Задубенне Мядз.

**ПАДЧАЧУ́РКА** *ж.* Дзяўчына-падлетак. *І пер'я дзеўкам на падушкі ёсь — вун растуць жа ў мяне паччачуркі, аш тры.* Акалова Лаг.

**ПАДЧО́С** *м.* Тое, што і падлы́ссе. *Падчос робяць у бервяне абавяскова.* Нізок Уздз.

**ПАДША́ПКА** *ж.* Ніжняя частка шапачкі грыба. *Во, якая бялюткая патшапачка ў баравіка!* Дукора Пух. *Твой грып няЗобры, палянь, патшапка чырванаватая.* Кукалеўка Чэрв.

**ПАДШКРО́БАК** *гл.* падскро́бак

**ПАДШТА́НІКІ** *толькі мн.* Кальсоны, споднікі. *Патштанікі абарваліся ў майго, трэба палатаць і яшчэ можна насіць.* Бясяды Лаг. *Ччом пасьцілкі, мушчынам на патштанікі, ччом на сарочкі, мяхі.* Ракаў Валож. *Даўней патштанікі шылі с плаценкі.* Княгініна Мядз. *Як пажар быў у нас, дык у адных патштаніках на вуліцу выскаквалі.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Добра выбялім, палатно беленькая, тады ўжо паскатваям і дзе на якія рубашкі, патштанікі.* Калініна Дзярж.

**ПАДШЧУ́ПВАЦЬ** *незак.* Тое, што і падгляда́ць. *Спрабавала патшчупваць маладую бульбу, некалькі кустоў патшавяліла — драбяза анна.* Бытча Барыс.

**ПАДШЫБА́ЦЬ**[1] *незак.* Падкідаць, запускаць уверх. *Палкі падшыбаям уверх, а тады — хто далей шыбане.* Дрычын Пух.

**ПАДШЫБА́ЦЬ**[2] *незак.* Разбіраць, ахопліваць (пра пачуцці). *Такая злосьць патшыбала, што я нагаварыла абы-чаго.* Будслаў Мядз.

**ПАДШЫВА́НАЯ СТОЛЬ** *будаўн.* Двайная столь. *Першую столь кладуць чорную, а падшываная — з габляваных дошак.* Паплавы Бярэз. *У нас у новай хаці падшываная столь.* Нізок Уздз. *Патшываная столь — калі даецца другая столь.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАДШЫВА́НЕЦ** *м.* Хлапчук (звычайна падлетак). *Такі ўжо ў мяне сын патшываняц, што рады на яго няма.* Вялікая Вуса Уздз. *Сынок адзін, але гэткі патшыванец.* Хожава Маладз. *За такімі патшыванцамі толькі і глядзі, з вока не спускай.* Завішына Лаг. *Я яшчэ быў невялікі, ну, ужо патшываняц патхадзяшчы.* Задубенне Мядз. *Як я ўжо быў такім патшыванцам, гадоў мне можа было так што і сімнаццаць, хлопіц ужо я быў, дзяцюк, с адным хлопцам пашлі мы ў лес.* Бакачы Мядз.

**ПАДШЫВА́ЦЬ**[1] *незак. Цясл.* **1.** Прыбіваць спадыспаду. *Калі кароткімі дошкамі патшываюць, дык гэта чорная столь, а калі доўгімі, дык чыстая.* Ляхавічы Дзярж. *Столь у нас патшываецца, у нас мала хто гаворыць, што столь насьцілаецца.* Бясяды Лаг. *Першую столь кладуць чорную, а патшываюць яе чыста выгабляванымі дошкамі.* Паплавы Бярэз.

**ПАДШЫВА́ЦЬ**[2] *незак.* Падплятаць. *Як не патшыяш, у момант лапаць разваліцца.* Мікалаеўшчына Стаўб. *І ўжо абувацца нада ў лапці. А яны ніпатшытыя. А чым патшываць? Дык гэтай самай лазой патшыіш, патшыіш, каб яны ні так тапаліся.* Бакачы Мядз.

**ПАДШЫКО́ЎВАЦЦА** *незак.* Падрыхтоўвацца. *Дзяўчата падшыкоўваюцца пад дарогу, пад Мінск.* Арцюхі Стаўб.

**ПАДШЫ́ТЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* падшы́ць. ◊ **Чортам падшыты** — непаседлівы, пастаянна ў працы. *Ты, Янка, мусіць, чортам падшыты: ні табе стомы, ні аддухі.* Язні Віл.

**ПАДШЫ́ЎКА** *ж.* **1.** Дошкі, якія прыбіваюцца ўпоперак да лат, калі дах крыецца шыферам ці гонтай. *Дастаў патшыўку, трэба скарэй хату гэту канчаць.* Саланая Валож. *Нада на патшыўку досак дастаць, а дзе, ні знаю.* Ігрушка Круп. **2.** Фанера, кардон, якімі ўцяпляюць столь, сцены хаты. *Патшыўку даюць, каб было цяплей у хаці.* Бытча Барыс.

**ПАДШЫ́ХНУЦЬ** *зак.* Укалоць. *Бачу, нешта ніладна, пытаюся: „Па чом масла прадала?" Як патшыхнуў хто маю старую, як стала крычаць на мяне.* Гранічы Маладз.

**ПАДШЫ́ЦЬ** *зак. да* падшыва́ць[1]. *Патшыць столь можна было п, але дошкі яшчэ сырыя.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАДЫЛЬСЦІ́ЦЦА** *зак.* Тое, што і падма́зацца. *Яна магла падыльсьціцца да любога, такі ўжо ў яе ліслівы характар.* Дукора Пух.

**ПАДЫМА́ЦЬ** *незак.* **1.** Падбіраць са сцелішча, зямлі што-н. *Брыгадзір казаў, што заўтра пойдзем лён падымаць. А калі дошч?* Пруды Стаўб. *Лён падымаюць, як ён вылежыцца.* Ляшчынск Мядз. **2.** Узрыхляць. *Падымаць трэба, як зямля ўзаратая прыляжа, падрыхліць яе, каб кіслародам узбагаціць.* Бясяды Лаг.

**ПАДЫМЧА́ЦЬ** *зак.* Хутка пад'ехаць, падвезці. *Дзімачка, падымчы напой цялятка.* Літва Стаўб. *Няхай бы ты мяне трохі падымчаў на машыне на буракі, а то натта далёка ісьці.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАДЫСПА́Н, ПАДЫСПА́НЬ** *м.* Назва аднаго з вядомых народных танцаў. *Некалі падыспан — першы танец быў, а цяпер забываюць яго.* Хожава Маладз. *Кракавяк і падыспан патхадзя, толькі падыспан зарас не танцуюць.* Дукора Пух. *Танцавалі некія кадрылі, падыспань, каробачку, а цяпер гэтых танцаў няма.* Забалоцце Смал.

**ПАДЫСПО́ДАМ** *прысл.* Падыспадам, унізе. *Патсасноўкі ёсьціка. Усе карычнівыя — і зьверху і падысподам.* Нядаль Барыс. *Падысподам ручнік ляжаў, на ручніку — хлеп.* Пудзіцк Пух.

**ПАДЫХА́ЦЬ** *незак.* Павяваць, дзьмуць. *Такі ш халодны веццяр падыхая, што гуркі ня растуць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАДЭЛЬМО́ВЫ** *прым.* Выносісты, гонкі. *А потым ідзе лес густы-густы і тонкі-тонкі — падэльмовы.* Дукора Пух.

**ПАДЭ́РВЫ** *толькі мн.* Смех. *Ну й падэрвы зь яе, сьмяхоцьце ды й годзе.* Дукора Пух. *Падэрвы з гэтых дзяцей, чаго яны толькі ні вытвараюць!* Кукалеўка Чэрв. *Проста падэрвы з гэтага хлопца! Як пачне расказваць, хоць кладзіся ат сьмеху.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Проста падэрвы зь яго танцаў — як гусак галаву нясе.* Суднікі Валож.

**ПАД'ЯДЛО́ВЕЦ** *м. Зб.* Ядловец (Juniperis). *Пад'ядловец расьце ў лесі.* Бясяды Лаг.

**ПАД'ЯДЛО́ЎЦАВЫ** *прым.* Ядлоўцавы. *Пад'ядлоўцавы чаранок на кнут гадзіцца.* Рудня Лаг.

**ПАД'Я́ЗІК** *м. Заал.* Язь (Leuciscus idus). *У гэтай тоні пападаіцца многа пад'язікаў.* Ляшчынск Мядз. *У нас гэта рыба пад'язік завецца.* Пудзіцк Пух.

**ПАД'ЯЛДЫКІВАЦЬ** *незак. да* пад'ялдыкнуць. *Мушчыны сталі пад'ялдыківаць, патсьмехіваць, а найбольш Ліхадзееўскі патчэпліваў.* Арцюхі Стаўб.

**ПАД'ЯЛДЫ́КНУЦЬ** *зак.* Падкусіць, падкалоць. *Толькі і глядзіш, каб каго пад'ялдыкнуць.* Броды Маладз. *Пад'ялдыкнулі людзі, а ты і паверыў.* Чараўкі Мядз.

**ПАД'ЯЛІ́НЕЦ** *м.* Тое, што і пад'ядло́вец. *Пад'ялінец зарасьнікамі расьце, адным кусьцікам ня любіць.* Юшкаўка Віл.

**ПАД'ЯЛО́ВЕЦ** *м.* Тое, што і пад'ядло́вец. *Пад'ялоўцу трэба прывесьці, кілбасы капціць.* Баяры Віл.

**ПАД'ЯМУ́ШНІК** *м.* Тое, што і пад'ядло́вец. *У сухім бару пад'ямушніку многа.* Язні Віл.

**ПАД'Я́СНІВАЦЦА** *незак., безас.* Распагоджвацца, рабіцца бясхмарным, ясным. *Радуга ваду бярэ, ужо дажджу ні будзя, пад'ясьніваіцца.* Ляшчынск Мядз.

**ПАЕ́ЗДЗІЦЦА** *зак.* Пакатацца. *Досіць таго, што царская дочка была ўжо на гэтым самым гуляньні і хацелася ёй паезьдзіцца па моры.* Даўгінава Віл.

**ПА́ЕЧКА** *ж. Памянш. да* па́йка 'частка ежы, выдзеленая каму-н. у адпаведнасці з устаноўленай нормай'. *Чачавіцы як навараць, а былі ў бежанцах, хлеба па маленькай паяцца дадуць, дык мы і чачавіцы рады.* Аляхновічы Маладз.

**ПАЁДАВАЦЬ** *зак.* З'есці ў смак. *Або йшчэ прыдумалася. Сушылі каноплі, таўклі ў ступя, а тады цёрлі гэныя каноплі, цёрлі, лілі ваду, працэджвалі, палучалася тожа як мачака густая, звалі яе канаплянкай. Тады туды кідалі сушаныя баравікі. Пяклі праснакі, елі з гэнай мачакай. Я цяпер, хоць і ні пашчу, от паёдавала п!* Дзераўная Стаўб. *Надаела ўсё, каб якіх прысмакаў паёдаваць.* Хожава Маладз.

**ПАЖАДА́ЛАСЯ** *зак., безас.* Захацелася. *Гэта вам, дзеткі, самім пажадалася сюды ехаць ці паслалі?* Дукора Пух. *Пажадалася мне да дачкі ў Мінск зьезьдзіць, пабачыцца, пагаварыць.* Рабунь Віл.

**ПАЖАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Пашкадаваць. *І пажалеў мне пан ботаў, што я іх многа садраў малы на пасьця, дык ён хацеў, каб я ганяў босы.* Мікалаеўшчына Стаўб.; *параўн.* рус. пожалеть.

**ПАЖА́Р** *м.* ◊ **Як на пажар** — вельмі хутка, імкліва. *Я гляджу, куды гэта ўсе як на пажар лятуць — аш у магазін тавары прывязьлі.* Язні Віл.

**ПАЖАРНІ́ЦА** *ж. Бат.* Пажарніца (Calamagrostis). *Па пажарніцы каровы ня ходзяць, жорсткая травічка.* Рудня Лаг. *Пажарніца расьце па гарэлых барах, на палянах, у сьветлых лясах.* Забалоцце Смал.

**ПАЖДА́ЦЬ** *незак.* Пачакаць. *Пажджы мяне, пойдам разам.* Дукора Пух. *Паслалі пісьма, пождаць трэба, што адвецяць.* Там жа. *Я дык сьвежага хлеба пажду, гэты цьвярды.* Юшкаўка Віл. *Пажджыце мяне, бабачкі, пойдам разам.* Дрычын Пух. *Пажджы, я зарас малачка прынясу, сырадойчыку.* Зазерка Пух.

**ПАЖО́ГА** *ж. Ганч.* Халодны раствор, у які апускаюць гарачую пасуду. *Трэба ш пажогу разьвясьці, а то пасуду скора вынімаць с печы.* Ляшчынск Мядз.

**ПАЖО́НДЗЭК** *м.* Парадак. *Заўтра ехаць. Сёньня трэба сабрацца, скласьці ўсё чыста, зрабіць пажондэк, як палякі кажуць.* Літва Стаўб.; *параўн.* польск. porządek 'тс'.

**ПАЖЫВІ́ЦЦА** *зак.* Паласавацца. *Ну й наеліся ш мілты, ну й натаўклі ш яе, ну й намалолі, ну й пажывіліся ш!* Бакачы Мядз.

**ПАЖЫ́ЛЫ** *прым.* Немалады, у гадах. *А ён ужо пажылы, і мая сястра тожа пажылая, але абоя адзінокія.* Пруды Стаўб. *Ужо пажылы чалавек, а розум у яго дзецкі.* Ляшчынск Мядз. *Зайдзіця вун у тую хату, там пажылая баба жыве, яна вам нагукае.* Баяры Маладз.

**ПАЖЫ́ЧЫЦЬ** *зак.* Пазычыць. *У сусеткі кошык бульбы пажычыла, покі капец свой аткрыім.* Асіпавічы Віл.

**ПАЗ** *м.* Утора. *Засталося выбраць паз, упусьціць дно, і бочка гатова.* Малмыгі Віл.

**ПАЗАБО́ЦІЦЦА** *зак.* Паклапаціцца, праявіць клопат. *А хто ш пазабоціцца аб ім, як не маці родная.* Пудзіцк Пух.; *параўн.* рус. позаботиться.

**ПАЗАБЫВА́ЦЦА** *зак.* Не захавацца ў памяці. *Многа песянь знала, але ўсе пазабываліся.* Дрычын Пух.

**ПАЗАВЯ́ЗЫВАЦЬ** *зак.* Пазавязваць. *Зьбіраімся лён мяць, хвартушкі папрывязываім, хустачкі пазавязываім — мнём лён!* Ластаянцы Віл.

**ПАЗАГУМЕНКА** *ж.* Дарожка, сцежачка за гумнамі. *Пазагуменка — ад таго, што за гумнамі, пазагуменьню.* Канстанцінава Мядз. *Пазагуменка — сьцешка за гумнамі, дзе толькі хадзілі, а ад вуліцы — і хадзілі і езьдзілі.* Саланая Валож.

**ПАЗАДКІ** *толькі мн.* Высеўкі. *Гэта цяпер прывыклі да мяккага смачнага хлеба, а некалі толькі што назва хлеб — напалову зь мякінай, з пазадкамі аўсянымі, бо ні сеялі ні палалі тую муку.* Малмыгі Віл.

**ПАЗАДНАЕ ЖЫТА.** Жыта са значнай прымессю насення іншых культур. *Некаторыя пазаднае жыта зноў у арфу пускалі і яшчэ раз прасейвалі.* Паплавы Бярэз.

**ПАЗАЁЛАЧЧУ** *прысл.* За ёлкамі. *Цяжка будзе дабрацца вам да Асіпаўшчыны (назва чыгуначнага паўстанка), пры пуці дарогі няма, замяло. Можа хіба пазаёлаччу там машына якая працерабіла дарогу.* Савоні Стаўб.

**ПАЗАЙМАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* пазаймаць 'запоўніць'. Заняты. *Іх тут поўна было, парцізан, усе лясы пазайманы былі імі.* Нізок Уздз.

**ПАЗАЛКА** *ж.* Мыльная вада, што застаецца пасля мыцця бялізны. *Дачушка, вынясі пазалку на двор.* Астравок Уздз.

**ПАЗАЛКІ** *мн.* Тое, што і п а з а л к а. *Гэля, вынясі пазалкі на грады і выльлі.* Пруды Стаўб. *Сьцірку вялікую разьвяла, пазалкаў многа папацягала.* Рудня Лаг. *Як памыяш адзежу, дык застаецца брудная вада — пазалкі.* Саланая Валож. *Намачыла трапкі ў пазалках.* Рудня Чэрв.

**ПАЗАЛЯГАЦЬ** *зак.* Легчы спаць — пра ўсіх, многіх. *Хатка маленькая, на дзевяць аршын, а ў хацы дзевятнаццаць душ. Дзеду дык і месца ні хватала, як пазалягаім на палу кругом сьцен.* Мацкі Мядз.

**ПАЗАМЕЧАВАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* пазамечаваць 'памеціць'. Са штучна нанесенай меткай. *Лошкі дзіравяныя, самадзельныя, былі пазамечаваныя, дзе чыя.* Дзераўная Стаўб.

**ПАЗАМОРВАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* пазаморваць 'замарыць усіх, многіх'. *Коні былі пазаморваныя, кармоў мала.* Залазоўе Віл.

**ПАЗАПЕКАЦЬ** *зак.* Змазаць, прадэзінфіцыраваць. *Пальцы папрапрадаяш, дык настойкай бярозавай пазапекаяш, каб зажывалі.* Дрычын Пух.

**ПАЗАРОСЛЫ** *прым.* Зарослы. *Maладыя цяпер пазарослыя ходзяць, нават шыі ня відаць.* Дрычын Пух.

**ПАЗАТУЛЬВАЦЦА** *зак.* Затаіцца, пахавацца. *Хто ня ўспеў уцячы [з немцамі], пазатульваліся, папрыціхалі. Але ні аднаму прадацялю не ўдалося пазбегнуць пакараньня.* Дрычын Пух.

**ПАЗАЎТРА** *прысл.* Паслязаўтра. *Пазаўтра мушчыны паедуць па дровы.* Дукора Пух. *Сёньня мне гуляць можна, а пазаўтра ўноч рабіць трэба будзе.* Баяры Маладз. *Пазаўтра Пятра ў нас.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАЗАЎТРАМУ** *прысл.* Тое, што і п а з а ў т р а. *Пазаўтраму фэст у вёсцы Мільча будзіць.* Князгініна Мядз.

**ПАЗАЎЧОРЫХ** *прысл.* Пазаўчора. *Пазаўчорых прыходзілі да мяне гэтыя жанчыны.* Вязынка Маладз. *Маладзец, Федзя, што нам пазаўчорых памох дровы разгрузіць.* Багрыцоўшчына Дзярж.

**ПАЗАХОДЗІЦЬ** *зак.* Павыходзіць (замуж), уступіць у шлюб. *А ўнучкі ўжэ замуш пазаходзілі, сваіх дзетак маюць. Або чакаюць.* Дрычын Пух.

**ПАЗАШЫВАЦЦА** *зак.* Хаваючыся, забрацца куды-н. — пра ўсіх, многіх. *Я пасьвіла карову, бачу, ідзе курыца з куранятамі. Я дзісьцьвіцільна думала, што гэта курыца. Я давай яе лавіць, а яна на елку, а кураняты ў мох пазашываліся, як бачыш, прапалі. Дык мне дома кажуць, што гэта курапата была.* Дзераўная Стаўб.

**ПАЗБІШЧА** *н.* Паша, выпас. *Каровы разбрыдуцца па пазьбішчы, дык не сабраць.* Зазерка Пух.

**ПАЗВАЛЬВАЦЦА** *зак.* **1.** Пасаскокваць. *Ужо пазвальваліся с печы [каты], пасаскаквалі, псік!* Вязынка Маладз. **2.** Адмерзнуць. *Летась зараньня пасадзіла [гуркі], дык яны ўзышлі і пазвальваліся: сьцюдзіна стала.* Халмоўка Барыс.

**ПАЗВІСКА** *н.* Тое, што і п а з б і ш ч а. *Каровы цэлы дзень на пазьвіску, і мы спакойныя.* Рабунь Віл.

**ПАЗВІШЧА** *н.* Тое, што і п а з б і ш ч а. *У нас пазьвішча бліска зусім.* Ляхавічы Дзярж. *Пасьвішчы ў нас добрыя, лугі кругом, лес. Ёсьціка дзе каровам хадзіць.* Бяларучы Лаг.

**ПАЗВОЖВАЦЬ** *зак.* Звезці. *Жыта рукамі жном, у сьцірты пазвожваям.* Дрычын Пух.

**ПАЗДАРОЎКАЦЦА** *зак.* Павітацца. *Прышоў, не паздароўкаўся ні са мной, ні зь ёй, а яга брат гаворыць, чаму ён не паздароўкаўся з намі.* Баранцы Віл.

**ПАЗДЗЕРНІК** *м.* Кастрычнік. *У пазьдзерніку чакаем сына зь нявесткай у госьці, унучка прыеязуць.* Вязынка Маладз.; *параўн.* польск. październik 'тс'.

**ПАЗДЗЯВАЦЬ** *зак.* Здзець, зняць з сябе ўсё. *Нічога я ня пазьдзявала з сябе, у чом была, так і памчала.* Пудзіцк Пух.

**ПАЗЕМАЧНІК, ПАЗЁМАЧНІК** *м.* Суніцнік. *Як сыдзе сьнех, дык і пачынае цьвісьці паземачнік.* Бясяды Лаг. *Пазёмачнік пускае па зямлі нітачкі зь лісточкамі, зь якіх потым выростаюць новыя кусьцікі пазёмак.* Хожава Маладз.

**ПАЗЕМКАВЫ, ПАЗЁМКАВЫ** *прым.* Суніч-

ны. *Сёліта варыла я паземкавы канфітур, але неяк гарэніць.* Ляшчынск Мядз. *У мяне свайго ня было, але, дзякуй ёй, нявестка прынясла поўны слоік пазёмкавага варэньня.* Хожава Маладз.; *параўн.* польск. poziomkowy 'тс'.

**ПАЗЕ́МКІ, ПАЗЁМКІ** *мн.* Суніцы (Fragaria). *Во тут у нас на Замкавай гары ёсь троха паземак, за час слоік набярэш.* Баяры Маладз. *Красьнінькія ў нас пазёмкі растуць.* Ляшчынск Мядз. *Яшчэ ў лесе ягат німа, калі-то пазёмкі можа.* Бясяды Лаг.; *параўн.* польск. poziemka, poziomka 'тс'.

**ПАЗЁМНІК** *м.* Тое, што і паземачнік. *Дзе пазёмнік, там пазёмкі. Пазёмнік — гэта з польскага, у нас завуць сунічнік.* Саланая Валож.

**ПАЗІРА́ДЛА** *н. Экспр.* Люстэрка. *Прыехала з андуляцыяй на галаве, дык усё ў пазірадла глядзіцца з самай раніцы.* Восава Мядз.

**ПАЗІРА́ЦЬ** *незак.* Глядзець. *Прыдзе вечар, цілевізер, калі хочаш, пазірай.* Дрычын Пух.

**ПАЗЛІ́ЗВАЦЦА** *зак.* Пазлазіць, злізацца. *Нават шкура пазьлізваяцца на пальцах, кроў цячэ, як прадзеш.* Дрычын Пух.

**ПАЗЛО́ЎВАЦЬ** *незак.* Крыху злавацца. *Оля пазлоўвая на мяне з-за Рэні.* Арцюхі Стаўб.

**ПАЗМІРА́ЦЬ** *зак.* Паўміраць. *Падлеткам я яшчэ была, калі бацькі мае пазьміралі.* Зазерка Пух.

**ПАЗНА́ЦЦА** *зак.* Пазнаёміцца, пасябраваць. *Ён пазноўся з нейкай маладой, пасьля школы, дзяўчынкай, і пажаніліся.* Гілікі Валож. *Пазноўся п я з гэтымі дзеўкамі, да старааты.* Вецярэвічы Пух.

**ПАЗНА́ЦЬ** *зак.* Разабраць, зразумець. *Як вып'я, дак я ня пазнаю, што ён гаворыць.* Цялякава Уздз.

**ПАЗНІМА́ТЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* пазніма́ць 'садраць'. Пазніманы, паздыманы. *Пазразывалі ногі ўсе, хаця там крыві ні было, но кожы былі пазьніматыя ад гэтых калодак.* Ухвала Круп.

**ПАЗО́ЛКІ** *мн.* Рэшткі мокрага попелу. *Сыпляш попял у торбу, такія торбы шылі спецыяльна, ліеш круты кіпянь. Наробім лугу поўную жлукту, і мыліся самі, плаця мылі. А гэтыя пазолкі, што ў торбя аставаліся, выкідалі на чарот.* Вецярэвічы Пух.

**ПАЗРА́ЗЫВАЦЬ** *зак.* Намуляць, трэннем пашкодзіць ногі. *Такія калоткі як чоўны тольки. Ні шнуркоў, ні завязык. Пазразывалі ногі ўсе, хаця там крыві ні было, но кожы былі пазьніматыя ад гэтых калодак.* Ухвала Круп.

**ПАЗРУ́Б'Е** *н.* Ніжні вянок будынка. *Пат пазруб'ем баравікe растуць, ото роскаш!* Савоні Стаўб.

**ПАЗУ́Р** *м.* 1. Пазногаць. *Намазала нейкай гадасьцю чырвонай пазурэ, што гатка глядзець.* Вялікая Вуса Уздз. 2. Кіпцюр. *Ну ш і пазуры ў арла!* Пруды Стаўб.

**ПАЗЫВА́ЦЬ** *незак.* 1. Выклікаць. *Пазываюць усіх на райспалком.* Цялякава Уздз. 2. Запрашаць у госці. *Ён на вялікдзень пазывая нас.* Нізок Уздз. *І на трэці дзень шчэ гуляюць, і пошля шчэ пазываюць на нядзелю.* Кукшавічы Дзярж. *Пакуль жаніх, дык на раніцу пазываюць гасьцей, саджаюць за стол, п'юць, ядуць і гасьцей з маладым ждуць.* Любань Віл. 3. Называць, мець назву. *Тую вёску пазываюць Нестанавічы.* Завішына Лаг.

**ПАЗЫ́ВІСТЫ** *прым.* Здольны адклікацца на голас гаспадара. *Пазывісты сабака адразу атклікаецца, калі трэба.* Бясяды Лаг.

**ПАЗЫГАВА́ЦЬ** *зак.* Пайсці шпаркім крокам. *Дзе нашы бабы пазыгавалі? А во, аш вуньдзяка ўжо, толькі спаньніцы матнуліся. Даганяй цяпер.* Бяларучы Лаг.

**ПАЗЫ́КАЦЦА** *зак.* Загізаваць. *Адабраў пан цялушку ў дзеда і пасець са сваей скацінай. А гэта было летам. А гэтыя каровы як пазыкаліся, гэта цялушка адразу да дзеда — і прывялі панскія каровы дзеду на двор. А дзет тады іх запёр.* Лубень Віл.

**ПАЗЫ́ЧКА** *ж.* Доўг з дзяржаўнай касы. *Узялі пазычкі пяцьсот злотых. І нада пазычку аддаваць, і нада дзяцей у школу выпрууляць.* Восава Мядз.

**ПАЗЮ́Р** *м.* Тое, што і пазу́р (у 1 знач.). *Вазьмі сапу ў пуні, а то пазюры пазьдзіраеш.* Скамарошкі Стаўб.

**ПА́ЙДА** *ж. Экспр.* Пляткарка. *Такую пайду, як яна, нідзе ня знойдзяш.* Судабоўка Смал.

**ПА́ЙКА** *ж.* Устаноўленая мера, норма чаго. *Цяпер кажуць норму жжаць, пайку, а мы жалі постаці. „Я ўжо сваю пайку жжала", — скажуць.* Малмыгі Віл.

**ПА́ЙМА** *ж.* Пук. *З лазьні лён паймамі выносілі.* Ляшчынск Мядз.

**ПАЙСЦІ́** *зак.* 1. Шпарка расці. *Ну й пайшлі мае бураке! Люба глядзець.* Вялікая Вуса Уздз. 2. Узяць кірунак. *Гарбузэ пайшлі ў разору.* Вялікая Вуса Уздз. 3. Сысці. *Чаму ты пашоў ад сваіх дзяцей і жонкі, адумайся!* Вялікая Вуса Уздз. 4. Уступіць. *У трыццаць чацьвёртым годзе пайшлі ў калхос.* Дрычын Пух. ◊ **Пайсці з дымам** — 1. Згарэць. *На папялішчы ляжалі курсаткі, недагаркі: хата пайшла з дымам.* Палессе Мядз. 2. *перан.* Марна прапасці. *Што за жызьня даўней была, каб яна з дымам пайшла.* Юнцавічы Віл. **Пайсці нагамі ўперад** — памерці. *Вось ужо два гады, як ён нагамі ўперад пайшоў.* Млечкі Віл. **Пайсці на дзеці** — выйсці замуж за ўдаўца з дзецьмі. *А божачка, такая маладая на дзеці пайшла. Няўжо хлопца ня мела, што за мужыка пажылага зайшла?!* Баяры Маладз. **Пайсці на кладбішча (на могілкі)** — памерці. *Сусет мой хва-*

*рэў, хварэў, ды ад запаленьня летась пайшоў на кладбішча.* Баяры Маладз. *Мне ўжо многа гадоў, скора пайду на могілкі.* Дрычын Пух. **Пайсці на працест** —. апратэставаць. *Паехалі мы з бацькам да натарыуса апісываць зямлю, а брат пайшоў на працест, бацьку не даваў апісваць.* Баранцы Віл. **Пайсці на прымакі** — прыстаць у прымы. *Пайшоў на прымакі, як завуць у нас. Ну, і прышлося рабіць, як валу.* Новікі Мядз. **Пайсці па васолах** *абрад.* — у велікодныя дні ісці па дварах з віншавальнымі песнямі. *Гэта ж быў першы дзень свята. Пайдзём жа па васолах!* Залазоўе Віл. **Пайсці пад бой** — загінуць. *І жана мая пайшла пад бой, забілі жану маю, і таварыша жану забілі.* Сваткі Мядз. **Пайсці ў прымы** — тое, што і п а й с - ц і н а п р ы м а к і. *Большы брат пайшоў у прымы, а меншы ажаніўся.* Таўкачэвічы Уздз. **Пайсці ў пуке (у сцябло)** — пра такое развіццё агароднінай расліны, пры якім з'яўляюцца ствол і кветкі. *Сёлята нешта ўся цыбуля ў пуке пайшла.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Мой шчавель увесь у пучча пашоў.* Паплавы Бярэз. *Цыбуля ўся ў сьцябло пайшла.* Ігрушка Круп.

**ПАЙСЦІСЯ** *зак.* Павесціся, знайсціся. *Ні пайшліся дзеці ім.* Цялякава Уздз. *Не пашліся дзеці, так анна і жыву.* Дрычын Пух.

**ПАК** *м.* **1.** Скрыня з дошак на збожжа, муку, нават сала. *Некалі пашню ссыпалі ў паке.* Цялякава Уздз. *Забілі кабана, ды такога вялізнага, што ўсё сала ў пак ні ўмесьцілася, прышлося зьбіваць новы.* Баяры Маладз. *Мука ў паку.* Ляхавічы Дзярж. *Пак спаражніць трэба ды вынесьці пасушыць.* Слабада Стаўб. *Зачарпні ў паку мукі крыху, трэба бліны рашчыніць.* Ціханава Слабада Стаўб. **2.** Любая скрынка з фанеры. *На гары пакі ставяць і дробязь усякую кладуць.* Ляшчынск Мядз.

**ПАКАВАЦЬ** *незак.* Запасіць, складаць (грошы). *Жылі добро, лішнія грошы былі, яна ўсё пакавала на пошту. І масло, і яйкі, і ўсё пакавала. А во вайна ў чатырнаццатум гаду. І сягоньня тыя грошы там!* Савоні Стаўб.

**ПАКАЗАЦЦА** *зак.* ◊ **Паказацца на людзі** — з'явіцца ў кампаніі людзей, выйсці куды-н. *Патаму што, як кажуць, вучаная, і глядзела, каб і ён быў чалавек і ня страм было зь ім на людзі паказацца.* Пагост Бярэз. **Паказаць на смех** — абсмяяць, высмяяць. *Калі гаспадыня нічога рабіць ня ўмея, дык яе ўсе на сьмех пакажуць.* Дрычын Пух.

**ПАКАЛАК** *м.* **1.** Кол, паплецінa. *А-о-о, кап ты маю жонку любіў, то я ўзяў пакалак і адразу п даў.* Савоні Стаўб. **2.** Жэрдка, вакол якой складаюць стог. *Пакалак з любога дзерава робяць, кладуць стох. Вывершваюць, звязваюць пруты з лазы ці зь бярозы і надзяюць на пакалак, апсякаюць.* Забалоцце Смал.

**ПАКАЛАЦІЦЬ** *зак.* Натрэсці. *А цяпер струшанкі карове не калоцяць ужо, забыліся ці няма ш чаго.* Бытча Барыс.

**ПАКАЛАШМАЦІЦЬ** *зак.* Пабіць. *Шчэ ў тую вайну немцы нас троху пакалашмацілі, так што мы ведалі фашыскае іх нутро.* Бяларучы Лаг.

**ПАКАМІСЬ** *прысл.* Пакуль. *Пакаміcь я тут з вамі стаёў, можа ўжо мая баба прышла.* Каменка Уздз.

**ПАКАПАНЫ** *у знач. прым.* Воспаваты. *Воспай хварэў, твар пакапаны.* Вішнева Валож.

**ПАКАСНЫ** *прым.* Нядобры. *Ён такі пакасны, так і стараяцца, кап каму шкоду зрабіць.* Цялякава Уздз.

**ПАКАТОК** *м.* Круглая калодачка, якую падкладаюць пад вілкі, калі дастаюць з печы вялікія чыгуны. *Пакладзі пакаток пад вілкі, бо так ня выміш гаршка.* Паплавы Бярэз.

**ПАКАТЫ** *толькі мн.* Прыстасаванне для перакочвання калоды па зямлі. *Пакаты — як сталюгі, прыстасаваньне такое падымаць калоды.* Рудня Чэрв.

**ПАКАЦІЦЦА** *зак.* **1.** Упасці, паваліцца. *Як цюкнуў, дык ён і пакаціўся.* Дрычын Пух. **2.** Ног не цягаць, саслабець ад недаядання. *Ну, што там за пяцьдзісят капеяк пад'ясі, пакаціўся п, кап свайго ні было.* Бяларучы Лаг.

**ПАКАЧАЦЬ** *зак.* **1.** Пацягаць па расе. *Палатно як белім, пакачаім па расе, белая-белая зробіцца.* Фалевічы Мядз. **2.** Паскручваць, пазвіваць. *Тады сувai пакачаім, паставім на лаве — чатыры сувai кужалю, а тады пачасься два сувai, сувой на спадніцы.* Ластаянцы Валож.

**ПАКВЭГАЦЬ** *зак. Экспр.* Пакрочыць. *Мінутку аддыхнула, ды й памаленьку паквэгала.* Бясяды Лаг.

**ПАКЕПЛІВАЦЬ** *незак.* Насміхацца. *З цёмнага чалавека заўсёды пакеплівалі.* Цялякава Уздз. *Грэх пакепліваць са старой бабы, скора й самі такія будзяця.* Нізок Уздз.

**ПАКЕТ** *м.* Бандэроль. *Мой унук служыў, дык яму ўсё пасылалі кнігі ў такіх пакетах. Што ён напіша ў пісьме, то яму пашлюць пакетам.* Вязынка Маладз. *Пакет і тут палучыць можна.* Пруды Стаўб. *Пакет па пошце прышоў, нейкіх бумах многа.* Бытча Барыс.

**ПАКІВАЦЬ** *зак.* ◊ **Паківаць пальцам** — насварыцца, прыгразіць. *Добра паківай пальцам, бо цяпер дзеці ня баяцца, крычы ты на яго ці ня крычы.* Нізок Уздз.

**ПАКІДАЛЕЦ** *м.* Муж, пакінуты жонкай. *У мяне ш сусет пакідалец. Шкода мне яго: натта добры чалавек.* Зазерка Пух.

**ПАКІДЗІШЧА** *н.* Згубленае выпадкова, ненаўмысна дзіця. *Гляджу — дзіця маё ляжыць! Дык я кажу: „Мама, вярніся, пакідзішча знайшла". Дак яна: „А-я-яй, у мяне паляхчэла на плячах. А божа мой, прышлі п дамоў безь дзі-*

*цяці, кап ты другой пашла межачкай".* Восава Мядз.

**ПАКІ́НУЦЬ** *зак.* ◊ **Пакінуць на гадоўлю** – вырашыць даглядаць, трымаць у гаспадарцы. *У гэтым годзе пакінулі цёлачку на гадоўлю.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАКІШЭ́ННІК** *м.* Кішэнны злодзей, кішэншчык. *А я ведаю, чаму пакішэньнікам завуць. Лазіць па кішэнях!* Турэц Чэрв.

**ПАКЛАДА́НЕЦ** *м.* Кастрыраваны бык. *Пакладанца аднаго ў нас на базу здалі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАКЛАДЫ** *мн. Будаўн.* Доўгія тоўстыя жэрдкі, па якіх коцяць бервяно. *Па пакладах коцяць бяреваньні на сьцену зруба.* Вязынка Маладз. *На пакладах узвальваюць цяжар на машыну.* Хожава Маладз. *Рыхтуй паклады, у лес паедзім.* Папоўцы Віл.

**ПАКЛЕ́СА** *ж.* Палачка з пятлёй на канцы, якой загатаўляюць звязачны матэрыял з маладых дрэўцаў. *Выбіраемся ў дарогу, не забыцца б паклесы дома, бо не будзе чаго рабіць у лесе. Бес паклесы як без рук, не будзе чым „скручваць" дрэўца.* Кукалеўка Чэрв.

**ПА́КНУЦЬ** *зак.* Забіць. *Каб не ўцякла, ён бы яе пакнуў.* Завішына Лаг. *Раз мяне былі чуць не пакнулі.* Бяларучы Лаг.

**ПАКО́ЙНІК** *м.* Нябожчык. *Памянуць людзі пакойніка і разыйдуцца, а сямейка застаецца с сваім горам.* Вецярэвічы Пух.

**ПАКО́МЧАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* пако́мчыць 'скамячыць'. Пакамечаны. *Уй, пакомчаны які ўціральнік, не магла другі які даць!* Ратуцічы Барыс.

**ПАКО́ПІШЧА** *н.* Месца, дзе стаяла капа сена. *Трэба ісьці пакопішчы падграбаць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАКО́С** *м.* **1.** Пракос. *Дужый, відаць: такей пакос заняў!* Паплавы Бярэз. *Як косюць сена, дак раткі – гэта пакосы.* Ратуцічы Барыс. *Коля добра косіць, як струна, пакосы ідуць.* Забалоцце Смал. **2.** Валок скошанай ручным спосабам травы. *Сена ў пакосы мы косім.* Ляшчынск Мядз. *Таўшчыня пакосу залежыць ат касца і ат касы. Калі каса дліннейшая, то таўсьцейшы пакос.* Забалоцце Смал. **3.** Скошаная сенажаць. *На пакос пусьцілі каровы, бо не будуць гадаваць атаву.* Гілікі Валож. **4.** Укос. *Пакос зь дзесяці сотак злажылі ў стох.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАКО́СНІК** *м. Абрад.* Шафер. *Мая пляменьніца ідзе замуж, то сын мой пакосьнікам будзе.* Чабаі Валож.

**ПАКРАПІ́ЎНІК** *м.* Тое, што і п а д к р а п і ў н і к. *Пакрапіўнік зваядыш завуць, далёка не ўцякая, а злавіць ня зловіш.* Хожава Маладз.

**ПАКРАПІ́ЎНІЦА** *ж. Мед.* Высыпка на целе дзіцяці. *Як пакрапіўніца, цела дзіцяці робіца як крапівой апечана, высыпка як мак і чэшацца. Жычковую крапіву параць і купаюць дзіця, і праходзіць.* Малмыгі Віл.

**ПАКРА́СА** *ж.* Незвычайная прыгажосць. *Наша сястрычка пакраса. Ты ш пакрасіла два дамы: адзін дамочак, дзе расла, другі дамочак, што прышла.* Бубны Віл.

**ПАКРАСАВА́ЦЦА** *зак.* Пажыць шчасліва. *А я табе, Мар'я, у вочы скажу: пакрасавалася ты за ім і хопіць! Цяпер дай другой пакрасавацца.* Дрычын Пух.

**ПАКРА́СІЦЬ** *зак.* **1.** Пафарбаваць. *Падлогу пакрасілі.* Вязынка Маладз. **2.** Упрыгожыць (ілюстрацыю *гл. на* пакра́са).

**ПАКРА́ТАЦЬ** *зак.* Пагушкаць, пакалыхаць. *Пакратаеш калубель, пакуль дзіця не засьне, а я пайду.* Зазерка Пух.

**ПАКРО́ВЕЦ** *м.* Тое, што і п а д а д з і я́ л ь н і к. *А тады возьміш у печы ваду за засланкай і памыіш адзежу, пошаўкі і пакровец разам з імі.* Чараўкі Мядз.

**ПАКРО́ЎКІ** *мн.; адз.* **пакро́ўка** *ж.* Позні гатунак груш. *Вунь там далей пакроўкі растуць, а пад акном – бэры.* Зазерка Пух.

**ПАКРО́ШЦЫ** *прысл.* Пакрысе, паступова. *Яна, бедная, плакала, плакала па мацы, але ўжо пакросца стала забывацца.* Дукора Пух.

**ПАКРУЦІ́ЦЬ** *зак.* Выгнаўшы ў поле, пасвіць на адным месцы. *Паша благая ў нас і пастух благі: выганіць, пакруціць, пакруціць і паставіць [каровы].* Вязынка Маладз. ◊ **Галовы пакруціць** – загінуць. *Але і яны галовы пакруцілі, каторыя застаўшыся былі.* Баяры Маладз.

**ПАКРЫВА́ДЛА** *н.* Вышытая ці вымеражаная накідка. *Пакрывадла на падушку зрабіла ў гэтым годзе.* Пруды Стаўб.

**ПАКРЫВА́ЛА** *н.* **1.** Тое, што і п а к р ы в а́ д л а. *Нашы пакрывалы Галінка сама вышывала.* Вязынка Маладз. *Я сама мярэжыла пакрывалы на падушкі.* Паплавы Бярэз. *Падушкі пакрыты прыгожымі пакрываламі.* Саланая Валож. *Накінь мярэжаныя пакрывалы: сьвята.* Ляхавічы Дзярж. *Падушкі былі курыныя, цяшкія. Крамная наўлечка, гэта ўжо пошаўка тожа с крамнага. Ніякіх ніхто ні знаў пакрывалаў гэтых.* Дзераўная Стаўб. **2.** Палатно, якім пакрываюць пакойніка. *Пакойніка памыюць, адзенуць ды накрыюць пакрывалам.* Вецярэвічы Пух. **3.** *Уст.* Палатно, якім кума пакрывала дзіця пры абрадзе хрышчэння. *Пакрывала можа быць іс палатна простага, можа быць са штапялю, ложаць дзіця на пакрывала і бацюшка ахрысьціць.* Саланая Валож.

**ПАКРЫВА́ЛЦА** *н. Памянш. да* пакрыва́ла (у 1 знач.). *У мяне, калі я была маладая, была падруга, Насьця звалі, от у яе былі красівыя гэтыя пакрывалца. Болей ні ў кога такіх пакрывалцаў ні бачыла.* Хожава Маладз.

**ПАКРЫВА́ЛЬНАЕ БЕРВЯНО́** *будаўн.* Ашлапнае бервяно. *Пакрывальнае бервяно – гэта суцэльнае бервяно ў сцяне, якое кладзецца*

*над прасьценкам [над вокнамі, дзьвярамі].* Шутавічы Смарг.

**ПАКРЫЎКА** *ж.* Накрыўка, крышка. *Вазьмі пакрыўку і закрый каструлю.* Саланая Валож. *І пакрыўка такая ш беленькая, як і рондыль, чыстая, бо на газі ўсё варыць.* Якімаўка Круп.

**ПАКРЫЎНАЯ ЖЭРДКА** *будаўн.* Тое, што і падкрокве ннік. *Пакрыўная жэрдка выбіраіцца з танкаватага бярвеньня.* Малмыгі Віл.

**ПАКРЫХУ** *прысл.* Пакрысе, па невялікім кавалачку. *Вось вам хлеп, вось вам пакрыху сала.* Літва Стаўб.

**ПАКРЫШКА** *ж.* **1.** Тое, што і пакрывадла. *Купі там белага, хачу пакрышкі зрабіць.* Рудня Лаг. *У мяне ёсь дзьве вышытыя і дзьве цюлявыя пакрышкі.* Дукора Пух. *Пакрышкі бываюць куплёныя, а бываюць і сваёй работы, вышываныя ці вязаныя. Я сама вышыла сільна красівую пакрышку, красівымі цьвятамі.* Рудня Чэрв. **2.** Тое, што і пакрыўка. *Накрый каструлю пакрышкай, скарэй зварыцца.* Рудня Чэрв.

**ПАКРЭПНУЦЬ** *зак.* Памерзнуць, здранцвець ад холаду. *Бывала, як іду з Узды дадому, а марос, марос! І рукі і ногі пакрэпнуць.* Кухцічы Уздз.

**ПАКУДЗЕЛІЦЦА** *зак.* Пакудлаціцца. *Лён добра выляжаўся, на траве аш пакудзеліўся.* Малмыгі Віл.

**ПАКУЛЕЧКА** *злучн. падпарад.* Пакуль. *Й жыла адна, пакулечка замуж.* Таўкачэвічы Уздз.

**ПАКУЛЬНЫ** *прым.* Выраблены з пакулля. *Ткалі палатно с пакульных нітак, ішло на мяхі. Пакульныя вяроўкі, путы вілі.* Бяларучы Лаг.

**ПАКУМІЦЦА** *зак.* Стаць кумамі. *Пакуміліся па-сусецку і сваімі сталі.* Нізок Уздз. *Мы другі рас пакуміліся.* Саланая Валож.

**ПАКУРАЦІЦЦА** *зак.* Моцна пасінець. *Ад холаду цела пакураціліся, зрабілася як курынае.* Бясяды Лаг.

**ПАЛ** *м.* Тэмпература, гарачка. *Такі пал у малога і ні спадае, прыдзіцца весьці ў шпіталію.* Вішнева Валож. *Малы захварэў, пал падняўся, дрэньчыцца, прыдзіцца, відаць, скорую вызываць.* Забалоцце Смал.

**ПАЛАВІНКІ** *мн.* Насенная бульба, парэзаная папалам. *Бульбу рэжуць на палавінкі, каб на насеньне менш пайшло, і садзяць палавінкамі.* Забалоцце Смал.

**ПАЛАВІННЕ** *н.* Мякіна. *Ты гэта палавіньня зьбяры да з картопляй замяшай курам, хай ядуць.* Дукора Пух.

**ПАЛАВІННІК** *м. Спец.* Палова распілаванага ўздоўж бервяна. *Калі вельмі тоўстае бервяно, то яго распілоўваюць папалам, атрымліваецца два палавіньнікі.* Дукора Пух. *Наш амбар складзены с палавіньнікаў.* Рудня Лаг.

**ПАЛАВІННІЦА** *ж.* Той, хто валодае якой-н. маёмасцю ўдваіх з кім-н. *Урабляям соткі ўдваіх сь сястрой, значыць, яна мая палавіньніца.* Нізок Уздз.

**ПАЛАВІЧКІ** *мн. Кулін.* Разрэзаная папалам і звараная ў мундзірах бульба. *Тата, ідзі есьці! Маці ўжо адвярнула палавічкі, высыпала ў міску.* Мечаі Віл.

**ПАЛАВІШНІК**[1] *м.* Тое, што і палавіннік. *Распілаваць грубоя бервяно на палавішнікі.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАЛАВІШНІК**[2] *м. Уст.* Запашнік. *Палавішнік — тое ш самае, што й запашнік. У нас гавораць і палавішнік і запашнік.* Нарач Мядз.

**ПАЛАВЫ** *прым.* **1.** Які мае адносіны да пола, у знач. 'палаткі, нары'. *Ціпер у нас глухая сьцяна кажуць многія, а раней гаварылі палавая сьцяна, бо пры ёй палаці ляжалі.* Ігрушка Круп. **2.** Які мае адносіны да пола ў знач. 'падлога'. *Цяпер палавыя дошкі вузянькія робяць, кап прыгажэй выглядала.* Мікалаеўшчына Стаўб. *На палавыя доскі ідзе сасна.* Бясяды Лаг. *Есьлі палавыя доскі са стрыжнёвага лесу, то яны крэпкія і будзе крэпкі пол.* Ігрушка Круп. *Палавыя доскі павінны быць не танеі сарака міліметраў.* Хожава Маладз. *Палавыя цьвікі 120 мм.* Вязынка Маладз. *Палавых цьвікоў нет, і ўся работа стала.* Рудня Лаг.

**ПАЛАЖЫЦЬ** *зак.* Забіць, звесці са свету. *Палажылі тады нашы немцаў процьму.* Вялікая Вуса Уздз. *Аўчарка тры ці чатыры кураняці палажыла.* Дрычын Пух. **2.** Улажыць шчыльна што-н. і прыбіць цвікамі. *Застаецца палажыць столь — і дзела с канцом.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАЛАЗІСТЫ** *прым.* Цягавіты, здольны добра чуць і знаходзіць дзічыну. *Мой цяперашні сабака не палазісты, не. Той мой сабака, што машына задушыла, той быў палазісты.* Паплавы Бярэз.

**ПАЛАЗОК** *м. С.-г.* Дэталь плуга, якая слізгаціць па зямлі. *На паласку ўвесь плух едзя.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАЛАМАТЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* паламаць. Паламаны, паломаны. *Ля канюшні кола старое ляжыць, сьпіцы ў ім паламатыя.* Ляшчынск Мядз.

**ПАЛАМАЦЬ** *зак.* Сцерці (лён, каноплі). *Ужо як паламаім, кастра большая асыпіцца, а меньшая астаецца.* Белая Лаг.

**ПАЛАМЯНКА** *ж. Кулін.* Перапечка. *Раніцай печ добра напалілася, дык я сваім паламянку сьпікла на скорую руку.* Кроква Лаг.

**ПАЛАНАЧКІ** *толькі мн.* Апалушкі. *Паланачкі ў нас гэто называюць.* Малмыгі Віл. *А я прыстроілася была ў паланачках дзіця мыць, вельмі зручна і спрытна.* Пудзіцк Пух. *Раней*

*крупы на панцак таўклі, тады і паланачкі ў кожнай хаце былі, каб палаць.* Рудня Чэрв.

**ПАЛА́НКІ** *толькі мн.* Тое, што і пала́начкі. *Пазычыла сусетка мае паланкі крупы апалаць, ды й не аддала.* Забалоцце Смал. *Паланкі стаяць у сьвірне.* Палачаны Маладз.

**ПАЛА́ННІКІ** *толькі мн.* Тое, што і пала́начкі. *У сенцах за дзьвярыма стаяць паланьнікі, падай мне, хачу крупы сапалаць.* Вецярэвічы Пух.

**ПАЛА́ПІЦЦА** *зак.* Паласавацца. *Палапілася кошка каўбасамі: с сумкі выцягнула, каб яна здохла.* Рудня Чэрв.

**ПАЛАСА́** *ж. С.-г.* Надзел, зямельны ўчастак. *Наша паласа была за дванаццаць вёрст ад вёскі.* Дукора Пух.

**ПАЛАСЯ́СТЫ** *прым.* Паласаты. *Ай, які паласясты, я такіх і ні бачыў.* Ляшчынск Мядз. *Вой, нейкая рыба паласястая сёньня ў магазіні прадавалася, кажуць, натта смачная.* Бясяды Лаг.

**ПАЛА́ТАЦЬ** *зак.* Залатаць. *Думай, новую вопратку па-жывому разлупіў. І каб палатаць, дык патхадзяшчага кусочка не падбяру. Бяда мне з гэтым хлопцам.* Савоні Стаўб.

**ПАЛАТАШЫ́ЦЬ** *зак. Экспр.* Пажаць, убраць. *А цяпер усё машыны робяць, канбайны палатошаць.* Дрычын Пух.

**ПАЛА́ТКІ**[1] *толькі мн.* Вяроўкі, на якіх носяць сена. *Пабралі палаткі ды пайшлі канюшыну ў пана красьці.* Жораўка Пух. *Вазьмі палаткі ды пайдзём прынясём травы карові.* Каменка Уздз.

**ПАЛА́ТКІ**[2] *толькі мн.* **1.** Насціл з дошак у старой сялянскай хаце або лазні даўжынёй у рост. *Рабілі палаткі высока, зімой цяплей спаць каля печы і радзі цеснаты ў хаце.* Вязынка Маладз. *Добра ў бані мыцца, на палаткі залезеш, выпарысься, лёхка пасьля мыцьця.* Зуі Стаўб. *Лесьця на палаткі, там духу болей.* Вялікая Вуса Уздз. *На палатках заўсюды ляжаць бярозавыя венікі хвастацца.* Ляхавічы Дзярж. *Зарас ні робяць гэтых палаткаў.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Курасадня. *Усе куры на палатках, паселі ўжо, куры рана садзяцца.* Гілікі Валож.

**ПАЛАТНО́** *н. Спец.* Плоская тонкая частка якога-н. інструмента, прылады. *У рамкавай пілцэ палатно вузінькае.* Вязынка Маладз. *Палатно касы ацьцягваецца кляпаючы.* Хожава Маладз. *Палатно карасінай мажуць, каб не засмалялася.* Канстанцінава Мядз. *Палатно ў добрай пілы гнецца і нават скручваецца.* Пруды Стаўб. *Палатно ў піле крывоя, таму піла ў бок цягне.* Забалоцце Смал.

**ПАЛАТНЯ́НКА** *ж.* Калыска, абцягнутая палатном. *Мае дзеці ўсе ў гэтай палатнянцы спалі.* Боркаўшчына Мядз. *А як пойдзем у поле, дык малое за плечы і калыску-палатнянку ды яду перад сабой за тры кілометры на вузенькую ніўку.* Палачаны Маладз.

**ПАЛАТНЯ́НЫ** *прым.* Тое, што і падпалатня́ны. *Палатняны навой пат кросны йдзе, на яго накручваецца палатно.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАЛАЎНІ́К** *м.* Палавік. *Даўней палаўнікі ва ўсіх саматканыя былі, а зараз ва ўсіх куплёныя, бо маладыя ўжо ткаць ня ўмеюць.* Рудня Чэрв. *Мы ўсе палаўнікі ткалі, кап прыгажэй было, а цяпер купляюць.* Турэц Чэрв. *Палаўнік патсьцялі пад ногі, холадна ш у ногі табе.* Дрычын Пух.

**ПАЛАЦЕ́ННЫ** *прым.* Парцяны. *Анны палаценныя спаніцы насілі, бедната была.* Пудзіцк Пух.

**ПАЛАЦЕ́НЦА** *н.* Ручнік. *Вось гэта лахматая палаценца мне нявестка з гораду прывезла ў падарак.* Нізок Уздз.

**ПАЛА́ЦІ** *толькі мн.* Тое, што і пала́ткі[2] (у 1 знач.). *У каго дзетак малых многа было, а палажыць ні было куды, дык палаці строілі: доскі прыстроюць к сьцяне і к печы — чым табе ні краваць?!* Задор'е Лаг. *Былі палаці і палок: палаці вышэй, а палок ніжэй.* Рудня Лаг. *У нас некалі былі палаці з досак над печчу, дзед там спаў.* Хожава Маладз.

**ПАЛАЦЯ́НЫ** *прым.* Палатняны. *А наўлечкі былі ўсе с устаўкамі, праўда, палацяныя былі ўстаўкі, але выбялім, пакачаім на расе, белыя-белыя робяцца.* Фалевічы Мядз. *Дзе ш тыя ўборы былі даўней?! Надзеняш палацяную рубашку да суконную спаніцу, дык ай-ай як добра.* Пудзіцк Пух.

**ПА́ЛАЧКА**[1] *ж.* Лапатачка з прыкручанымі дзвюма дзіркамі для снавання кроснаў. *Снуюць кросна палачкаю, дзьве дзірачкі ў ёй, у дзірачкі ўцягваюцца ніткі з двух клубкоў, да бальні прымацавана кальцо адно й другоя, уводзяць ніткі ў гэтыя кольца і снуюць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПА́ЛАЧКА**[2] *ж.* Тонкі доўгі пруцік у аконным карнізе, на які вешаюць гардзіны. *Такая стала выгада, як купілі палачкі, а то ж раней гардзіны на вяровачкі вешалі, да яны абрываліся.* Літва Стаўб.

**ПАЛАЮНО́К** *м.* Званочак, які вешаюць на шыю каню, карове. *Карова гэта мая нейкая згублівая, каб ні павесіў палаюнка́, дык і не найшоў бы, а так зьвініць ён, хоць іскаць ведаеш дзе.* Баяры Маладз.

**ПАЛЕ́ГЛІЦА, ПАЛЁГЛІЦА** *ж.* Палеглая збажына, трава. *Трэба касу накляпаць, брыгадзір казаў, каб я скасіў палегліцу ў Воўчым балоцы.* Бясяды Лаг. *Канбайнам там ні ўзяць: адна палёгліца.* Зазерка Пух.

**ПАЛЕ́ГЛЫ** *у знач. прым.* Заляжалы. *Абояў німа, кап палеглыя, усьлет разьбіраюць, хоць і дарагія.* Савоні Стаўб.

**ПАЛЕ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Паглядзець. *Сарока паледзяла і паляцела.* Дукора Пух.

**ПАЛЕ́НА** *н. Экспр.* Хвост (ваўка). *Капкан спушчаны, сьляды кругом, як вырываўся, і толькі палена ў капкане, хвост адбіты.* Саланая Валож.

**ПАЛЕ́ННЫ ХОД.** Ніжняя хадавая драўляная частка воза; калёсы з драўлянымі восямі. *Едзім, паленны хот, калёсы скрыпяць, на драўляных восях, а мазі няма.* Ігрушка Круп.

**ПАЛЕ́ПА** *ж.* Тачок; тонкі слой гліны на столі. *Чорная столь падбіваецца з абы-якіх досак, і кладуць палепу з гліны ці з вапны.* Саланая Валож.

**ПАЛЕ́САК** *м.* Малады лясок. *Які палесак слаўны: хвойка ў хвойку, роўнінькі, як пастрыжаны.* Арцюхі Стаўб.

**ПАЛЕ́ТКА** *ж.* Леха. *На палеццы пасадзіла буракі і гуркі ўперамешку.* Ваўкалатка Докш.

**ПА́ЛЕЦ**[1] *м.* Мера даўжыні па вертыкалі. Ужываецца звычайна ў выразах „сала на два, тры пальцы"; „сала ў два, тры пальцы". *Я ні люблю тоўстага сала. У мяне сала на два-тры пальцы, а ў людзей і на пяць пальцаў ёсць.* Гілікі Валож. *Ніважны кабан, сала ў тры пальцы.* Бытча Барыс. *Кабанчык добры, сала на тры пальцы.* Дукора Пух. ◊ **Палец (пальцам) аб палец не стукнуць** *асудж.* — нічога не рабіць, бяздзейнічаць. *А мая навестка паляц ап паляц ні стукня, вядра вады ня прынясе.* Вішнева Валож.

**ПА́ЛЕЦ**[2] *м.* Тое, што і падплётка. *Без усякай тэхнікі, толькі пальцам плятуць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАЛЕ́ЦЕЦЬ** *зак.* **1.** Паляцець. *Самалёт палецеў, памахай ручкай.* Бытча Барыс. **2.** Зваліцца, упасці. *Хацеў дацягнуцца да пяколка, аш схіснуўся і палецеў уніс.* Дрычын Пух.

**ПАЛЕ́ГЛІЦА** *гл.* пале́гліца

**ПАЛЁТ** *м. Пчал.* Аблёт. *Матка робіць палёт пасьля трох дзён сядзеньня ў матачніку.* Пруды Стаўб.

**ПАЛЁТАЦЬ** *зак. Спец.* Папаляваць (пра жывёлу). *Авечку трэба рэзаць: не палётала яна.* Ляшчынск Мядз.

**ПАЛІАТРЫ́Т** *м. Мед.* Поліартрыт. *Паліатрыт у мяне.* Пудзіцк Пух.

**ПАЛІВА́НКА** *ж.* Глазураваная гліняная пасудзіна. *Зьбегай, унучачка, да студні да папалашчы паліванку, тады налью табе сьмятаны да панясеш дамоў.* Баяры Маладз. *У паліванкі сьмятану зьбіралі.* Саланая Валож.

**ПАЛІВА́ЦЬ** *зак.* ◊ **Паліваць бэлькі** — мясцовы звычай частаваць цесляроў, як паложаць бэлькі. *Заўсёды ў нас паліваюць бэлькі, хадзяін частуя.* Пруды Стаўб.

**ПАЛІВА́ЧКА** *ж.* Лейка. *Палівачкай гарот паліваім, цыбулька, гурочкі каб лепей расьлі.* Ліпневічы Віл.

**ПА́ЛІК**[1] *м.* Гестка. *Некалі шылі сарочкі іс палікамі, палікі ўшываліся, сарочка забіралася і прышывалася к палікам.* Ратуцічы Барыс. *А ета суценка с палікамі, была мода такая.* Пудзіцк Пух.

**ПА́ЛІК**[2] *м. Уст.* Кварта, мера вадкасці, роўная 1/20 вядра. *Палік некалі казалі, ён быў роўны кварце.* Забалоцце Смал.

**ПАЛІКЛІ́НІК** *м.* Паліклініка. *Направілі мяне ў первы паліклінік. Выбіралася з дому на дзень-два, а прабыла даўгавата, пака прайшла ўсе рангенты.* Калініна Дзярж.

**ПАЛІКМА́ХАРСКА** *ж.* Цырульня. *У нас даўно закрылі палікмахарску на рамонт, кепска стала, німа дзе пагаліцца.* Вецярэвічы Пух.

**ПАЛІНА́** *ж.* Крысо. *Грэўся каля агню і патпаліў паліну ў накіццы.* Рудня Лаг.

**ПАЛІСА́ДА**[1] *ж.* Палявая дарога, прасёлачная. *Як ідзеш палісадай, дык карацей гасьцінец.* Жызнава Віл. *У нас харошая палісада, па ёй ходзяць і езьдзяць на веласіпедах.* Ляшчынск Мядз.

**ПАЛІСА́ДА**[2] *ж.* Прысады. *Палісада бярозамі абсаджана, бярозы старыя.* Аношкі Віл.

**ПАЛІТО́Н** *м.* Верхняя мужчынская вопратка, кароткае паліто з саматканага сукна. *Як с свайго сукна і сам пашыяш, дык паліон і гавораць.* Нізок Уздз.

**ПАЛІЎНІ́К** *м.* Ганчар. *У нашай вёсцы калісь многа паліўнікоў было, рабілі гліняную пасуду.* Рудня Лаг. *Кубачкі, крушкі такія былі гліняніныкія, такія маленькія, паліўнікі вазілі на кані.* Дзераўная Стаўб.

**ПАЛІЦА́Й** *м.* У час Вялікай Айчыннай вайны ў акупіраваных раёнах — паліцэйскі, завербаваны з ліку мясцовага насельніцтва. *Рас пераняллі парцізаны немцаў с паліцаямі, тыя ехалі за прадукцыяй у лес.* Мікольцы Мядз.

**ПАЛІ́ЦЬ** *незак.* **1.** Ярка бліскаць, ззяць. *Маланкі палілі ўсю ноч.* Пруды Стаўб. *Грыміць і маланка раз за разам паліць.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Страляць (часта або залпам). *А ён паліць зь вінтоўкі па мне.* Бытча Барыс.

**ПАЛІ́ЧКА** *ж.* Вісячы шкафчык. *Лошкі і міскі мы заўсёды складаім у палічку.* Рудня Чэрв. *Палічку ў мыцельніку прыбівалі. Палічка — нападоб'е шкафчыка: дзьве ці тры полачкі — і пасуду ставілі, с каторай кажан дзень елі.* Задор'е Лаг.

**ПА́ЛКА**[1] *ж. Ткац.* **1.** Пруток, паложаны на стацівы, да якога пры дапамозе вяровачак прымацоўваюцца калёсцы (кацёлкі, чапёлкі). *Уверху ёсь палка, да палкі прывязжаш кацёлкі, пачэпіш ніты.* Вялікая Вуса Уздз. **2.** Млён. *Палка прыводзіць у рух верхні камянь, і гэтак мелюць жыта.* Нізок Уздз.

**ПА́ЛКА**[2] *ж. Спец.* Калатоўка з асаджаным на канцы кружжком біць масла. *Калі палкаю цяшка варочаць, масла гатова.* Вялікая Вуса Уздз. *Палка ёсь такая біць масла.* Нізок Уздз.

**ПА́ЛКА**[3] *ж.* Тычка, шост звычайна з пуч-

ком травы для абазначэння напрамку руху. *Праложаць сьцешку зімой і паставяць палкі — і так дарога знаць.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАЛКА**[4] *ж.* Вожаг, дзяржальна чапялы, вілак. *Перавярні чапялу, ды дай добра палкай, каб запомніў.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Палка — гэта за што трымаюцца, як ставяць гаршчок у печ.* Пруды Стаўб.

**ПАЛО́ВА** *ж.* Мякіна. *Цяпер у нас хлеп — усім хлябам хлеп, а ў вайну пяклі хлеп з паловай, не глядзелі смаку, абы болій было.* Кукалеўка Чэрв.

**ПАЛО́ЙКА**[1] *ж.* **1.** Жменя льновалакна. *Я сёньня атрапала дваццаць палояк.* Пруды Стаўб. **2.** Асобная пасма нітак на клубку. *Нітка ўецца, кладзецца на адно места і выходзіць палойка.* Нізок Уздз.

**ПАЛО́ЙКА**[2] *ж.* Галоўка, качан. *Мы сёлята капусты ня шаткавалі, палойкамі наклалі кадушку, яна палойкамі да вясны стаіць.* Дукора Пух.

**ПАЛО́ЙНІК** *м.* Апалонік. *А яна, беднінькая, давай чэрпаць палойнікам ваду з рэчкі.* Баяры Маладз. *Гэта ў нас палойнік вісіць.* Апенькі Віл. *Палойнік рабіў хуткі шлях ат катла с кашай да салдацкіх кацялкоў.* Буцькавічы Стаўб.

**ПАЛО́К** *м. Уст.* **1.** Нары з дошак, прымайстраваныя над печчу або блізка каля яе, на якіх падсушваюць ганчарныя вырабы, лён у асеці. *Дастаю пасуду з печы, стаўлю на палок, кап патсыхала.* Ляшчынск Мядз. **2.** Дашчаны насціл у жорнах, на якім ляжыць ніжні камень. *На палку замацаваны сподні камень, на палок мука сыпецца.* Гілікі Валож.

**ПАЛО́М** *м.* Буралом. *Пасьля буры ў лесі палому і вываратняў многа.* Пруды Стаўб.

**ПАЛО́ННІК**[1] *м. Заал.* Хвастатая лічынка жабы. *С крактавіньня выходзяць палоньнікі, палоньнічкі.* Пруды Стаўб.

**ПАЛО́ННІК**[2] *м.* Тое, што і п а л о́ й н і к. *А гэта на сьцяне ля печы палоньнік вісіць.* Язні Віл. *Гаршкі былі вялікія, бо і сем'і ш вялікія, міскі гліняныя, ложкі і палоннік дзіравянныя.* Шавярнічы Бярэз.

**ПАЛО́СА** *ж.* Постаць. *Заняла сабе палосу шырокую, але да вечара, можа, як сажну.* Рудня Чэрв.

**ПАЛО́СІНА** *ж.* Вузкі кавалак чаго-н. на ўсю даўжыню якой-н. пасудзіны. *На дно палажы палосіну самага тоўстага сала, а наверх танчэйшае.* Рудня Чэрв. *Гэта як разьбіраюць кабана, тады сала рэжуць на палосіны і соляць.* Забалоцце Смал.

**ПАЛО́СКА** *ж.* **1.** *Памянш.* да пало́са 'доўгая плоская і вузкая частка чаго-н.'. *Гэта цяпер дзеці нічога ня цэняць, а некалі знойдзіш палоску лыка і то дамоў нясеш: усё прыстанецца ў хаяйстве.* Турэц Чэрв. **2.** *Памянш.* да пало́са 'нешырокі ўчастак ворнай зямлі'. *Былі ў нас палоскі як да зямлі ў кага: шырокія, вузкія, даўгія, кароткія.* Папоўка Мядз.

**ПАЛО́СКАВАЦЬ** *незак.* Паласкаць, мыць бялізну. *Цэлую зімачку палоскавала бялізну парцізанам, рабіла на кухні, памагала.* Пудзіцк Пух.

**ПАЛО́ССЕ** *н.* Палоскі лыка, з якіх плялі лапці. *Гэта ш цяпер у мяне, старой, дзесяць пар абутку, а некалі лапця ні было добрага: палосься было ні набраццa.* Паплавы Бярэз.

**ПАЛО́СЯНЫ** *прым.* Які мае адносіны да палосся. *Я й сам у лапцях палосяных хадзіў у школу, бацька папляце з лазовага палосься.* Дрычын Пух. *Раней пар зь дзесяць палосяных лапцяў мелі на сенакос, а хто й больш.* Дукора Пух.

**ПАЛО́Ў** *м.* Улоў. *Сёньня ў нас палоў харошы, не зра мёрзьлі.* Ляшчынск Мядз.

**ПАЛО́ЎНАЯ МУКА́.** Мука напалову з мякінай. *Цяпер людзі добра жывуць: смашна ядуць і хораша апранаюцца, ня так, як бывала, што хлеп с палоўнай мукі елі.* Кукалеўка Чэрв.

**ПАЛО́ЎНІК** *м.* Тое, што і п а л о́ й н і к. *Налі два палоўнікі шчаўя, больш не хачу.* Паплавы Бярэз.

**ПАЛУ́ДЗЕНЬ** *м.* Абед. *На палудзінь не варыла нічога, мяса не было.* Вязынка Маладз. *Палудзень позьні ў нас.* Княгініна Мядз. *Бульбеўнік іду жаць, дак гаспадыня кажа, на палудзень можна ня йсьці, ужо палудзень жураўы панясьлі. І яна ў мяне з рук палудзень адбярэць, кажа, можна бес палудня прабыць.* Замошша Віл.

**ПАЛУ́ДНІВАЦЬ** *незак.* Абедаць, палуднаваць. *Сядзіш палуднівацъ, і есьці ня лезіць — так наробісься.* Кузьмічы Мядз.

**ПАЛУ́ДНІКАВАЦЬ** *незак.* Тое, што і п а д в я ч о́ р к а в а ц ь. *Мы калі палуднікаваем, а калі й не. Як паабедаем добра, то й ні хочацца палуднікаваць.* Мікольцы Мядз.

**ПАЛУ́ДНІЦА** *ж.* Абедзенны перапынак. *Цэлу палудніцу рабіла, не было часу аддыхнуць.* Кальчуны Ашм.

**ПАЛУ́ЙКА** *ж.* Тое, што і п а л о́ й к а[2]. *Палуйка — гэта цэлая галоўка кіслай капусты, а калі разрэзаць папалам, то гэта палавінкі.* Дукора Пух.

**ПАЛУ́КАШКА** *н.* Палукаш. *Былі такія як драбіначка зроблены, палукашка звалі, дык як на базар, дык застаўляе гэтая палукашка.* Вязынка Маладз.

**ПАЛУ́КІШАК** *м.* Тое, што і п а л у́ к а ш к а. *Вы ня ведаеце, ш чаго плятуць палукішак? А сам палукішак ці бачылі?* Гілікі Валож.

**ПАЛУКРО́ЎКА** *ж.* Помесь паляўнічага сабакі з дварнягай. *Палукровак многа ёсь, але ёсь і пародзістыя сабакі, як, скажам, ваўкадаў, што сьмела ідзе адзін на адзін з ваўком.* Бясяды Лаг.

**ПАЛУМІ́САК** *м.* Глыбокая талерка. *Палумісак пабіўся, але купляць ня буду гэдакага.* Ляшчынск Мядз. *Бяжы, Мар'ячка, у краму, прывезьлі натта харошыя палумiскi і відэльцы.* Буцькавічы Стаўб.

**ПАЛУМІ́СКА** *ж.* Тое, што і палумісак. *Вышаў бацька яга с палуміскай, а на палуміскы стаяла сто грам, ляжаў хлеп і соль.* Баранцы Віл.

**ПАЛУ́ННАВАЦЬ** *незак.* Падвячоркаваць. *Ні палуннаваў, а ўжо вячэраць пара.* Ігрушка Круп.

**ПАЛУПІ́ЦЬ** *зак.* **1.** Парваць. *Ах ты, гіцаль, новыя штанэ палупіў!* Цялякава Уздз. *Зноў порткі палупіў, хоць забі яго.* Літва Стаўб. **2.** Павырываць з каранямі. *Укроп палупіла, павыкідала.* Дрычын Пух. **3.** Пабіць. *Гэткі гат, усе збанкі палупіў.* Літва Стаўб.

**ПАЛУ́ТАРКА** *ж.* Мера колатых дроў. *Палутарка, дзеткі, — гэта каля паўтары сажня коланых дроў.* Вялікая Вуса Уздз. *За зіму спальваям тры палутаркі дроў.* Дукора Пух.

**ПАЛУЧО́К** *м. Спец.* Назва правага ствала двухстволкі. *У дубальтоўцы левы ствол чок, а правы палучок называюць.* Пруды Стаўб.

**ПАЛУ́ШКА** *ж.* Жменя (ільнотрасты). *Палушку я хутка зьмяла.* Ваўкалатка Віл. *Павесма складалася ш шасьці ручэяк, а ў ручэйцы было тры палушкі.* Даўгінава Віл.

**ПАЛУ́ЧКА** *ж.* **1.** Зарплата. *У тым месяцы атрымала палучкі сто шэсьдзісят тры рублі.* Паплавы Бярэз. *Ён заўсёды прыносіць усю палучку дахаты.* Бытча Барыс. **2.** Выплата, атрыманне зарплаты. *Палучка яшчэ ня скора, а грошай няма.* Турэц Чэрв. *У нас сёньня палучка.* Гілікі Валож.

**ПАЛЫКА́ЦЬ** *незак.* Глытаць. *Я як сяджу ў іх, адно сьлінкі палыкаю, мне здаецца, іх такоя смашная. А як сама навару, нешто ні вельмі.* Арцюхі Стаўб. *Ня жвець, а так палыкае: зубоў няма.* Бясяды Лаг. *Толькі ўсё не палыкай адразу, бо апячэсься.* Дрычын Пух.

**ПАЛЫКНУ́ЦЬ** *зак.* **1.** Праглынуць. *Я тыя булкі выкінула курам, ні палыкнуць: ні то сьмярдзіць, ні то пахня.* Савоні Стаўб. *Палкні ў жару халоднай крынічнай вады, садразу горла заваліць.* Літва Стаўб. **2.** Крышку выпіць. *І дзе ўсьпеў ужо палыкнуць! Ідзе як бэля.* Літва Стаўб.

**ПАЛЫ́НАВЫ** *прым.* Палыновы. *Палынавы адвар п'юць для апяціту, ад глістоў даюць сьвіньням.* Ігрушка Круп. *Вельмі непрыемны палынавы пах.* Хожава Маладз.

**ПАЛЫСКАВА́ЦЦА** *незак.* Бліщчаць. *А ў кабінеце гэтым усё палыскуецца: крэслы бархатныя, сталы і атажэркі лакавыя.* Ракаў Валож. *У хаце ўсё акуратна, добра, ажно палыскуяцца ўсё.* Малінаўка Лаг. *Які спрытны хлопяц і адзеты як файна — касьцюм на ім аш палыскуіцца.* Чараўкі Маладз.

**ПАЛЫХА́ЦЬ** *незак.* Тое, што і паліць (у 1 знач.). *Летам часта палыхаюць маланкі.* Пруды Стаўб. *Маланка палыхала праз усю ноч.* Савоні Стаўб.

**ПА́ЛЬНУЦЬ** *зак.* Тое, што і падубальтава́ць. *Выстрал — прамазаў, тады зложыўся і пальнуў з другога ствала.* Ляшчынск Мядз.

**ПАЛЬТО́** *н.* Паліто. *Цяпер і ў сяле польты носяць.* Цялякава Пух.

**ПАЛЬТО́Н** *м.* Тое, што і паліто́н. *Пальтон некалі казалі на паліто.* Бытча Барыс.

**ПАЛЬЦЕ́ЧКА** *н. Экспр.* Паліто. *Надзеўшыся ўсе стройнінька, туфількі ва ўсіх, пальцечкі. Як зьмянілася жыццё!* Альсевічы Мядз.

**ПА́ЛЬЦЫ**[1] *толькі мн.* Частка шкарпэткі, што прыкрывае пальцы ног. *Яшчэ не зроблены пальцы, шкарпэтка негатова.* Ляшчынск Мядз. *Сягоньня даараблю пальцы, і будуць у хлопца цёплыя шкарпэткі.* Княгініна Мядз.

**ПА́ЛЬЦЫ**[2] *мн.; адз.* **па́лец** *м. Цясл.* **1.** Канцы вушака, ніжні з якіх старчма ўпускаецца ў падрубу, а на верхні адзяецца шапка. *Уверся на паляц адзяюць шапку, унізя паляц заганяюць у берувяно.* Вязынка Маладз. *Пальцы натта тоўстыя, таму й вушак туга йдзе.* Забалоцце Смал. *Вушак ставіцца пальцам у вушачнае гнязло ў падрубе, а зьверху на другі палец надзяецца шапка.* Пруды Стаўб. **2.** Драўляныя цвікі, якімі змацоўваюцца бярвенні ў прасценках. *Кап прасьценак не выпучваўся, бярвеньні садзяць на пальцы, закрапляюць іх такім спосабам.* Вязынка Маладз. **3.** Штылі, шыпы. *Пальцы заразаюцца ў бярвеньнях, каторыя ўпускаюць у вушак.* Пруды Стаўб. *Карацей пальцы зроп, тады і вушак прыстане.* Забалоцце Смал. *Пальцы ў бярвеньнях заразаюць пілой, а тапаром скалваюць.* Саланая Валож. *Паччашы пальцы, бо ня ўвойдуць у вушак.* Паплавы Бярэз.

**ПА́ЛЬШЧЫК** *м.* Чалавек, які займаецца вырабам драўніннага вугалю. *Бярэ драўніну харошых парод, закідвае ў сьпіцыяльныя коміны, паліць, гэна і будзе пальшчык,* Бясяды Лаг.

**ПАЛЭ́ПАЦЬ** *зак.* Палопаць. *Ён палэпаў мяне па плячу і сказаў: „Ець".* Дукора Пух.

**ПАЛЮБОЎНІ́ЦА** *ж.* Дзяўчына, да якой заляцаецца хлопец. *— Гляньце, онь Колява палюбоўніца пайшла! — Дык нічога ш сабе, харошая.* Ігрушка Круп.

**ПАЛЮДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Пакрасавацца ў людзях, пабыць у вясёлай кампаніі. *У прошлым годзе я многа палюдзела, а ў гэным нешта ня жэніцца ніхто.* Баяры Маладз. *Гэта ш каб не заехаў зяць, той й не палюдзела б тут.* Вязынка Маладз.

**ПАЛЮДНЕ́ЦЬ** *зак.* Зрабіцца падобным на чалавека (пасля хваробы папраўіцца). *Так доўга хварэў, аслабеў зусім, быў кожа ды*

*косьці, а глядзі ты, адышоў, палюднеў.* Палессе Мядз.

**ПАЛЮ́К** *м.* Ручка ў касільне. *У мяне палюк зламаўся, а запасной касы няма. Нада новы палюк наварыць.* Апенькі Віл.

**ПАЛЮЛЯ́КАЦЬ** *зак.* Пакалыхаць. *Прышла дамоў, а дзіця плача, німа каму палюлякаць.* Жораўка Пух.

**ПАЛЮ́ЛЯЦЬ** *зак.* Тое, што і палюля́каць. *Палюляй малую, а то плачыць.* Кузьмічы Мядз.

**ПАЛЯВІ́К** *м.* **1.** Палявод. *Палявікі многа палучаюць, бо ў калгасе многа работы.* Дрычын Пух. **2.** Шампіньён. *Ішла ад маці, вой, як палявікоў шмат на полі. Іх некаторыя зьбіраюць, кажуць, што салоткія палявікі.* Дукора Пух. **3.** У старажытнай беларускай міфалогіі — гаспадар поля. *Палявік, бывае, так пакруціць жыта або лён, што дзіву даесься, як ён гэта зробіць.* Забалоцце Смал. *Палявік у жыце сядзіць і шкодзіць.* Ігрушка Круп.

**ПАЛЯВЫ́** *прым.* ○ *бат.* **Палявая грачыха** — стрэлкі (Capsella). Род аднагадовых травяністых раслін сям. крыжакветных. *Палявая грачыха — трава такая зь белымі кветкамі, сабранымі ў гронкі, прамым сьцяблом і прыкаранёвым зубчастым лісьцем. У батаніцы нашай ёсьць на карцінцы.* Ляхавічы Дзярж. **Палявая заечая капуста** — расходнік (Sedum). *Палявая заечая капуста расьце на лузе, пры дарогах, на полі, у лясах. Ядраная, лапушыстая. Цьвіцець жоўтым, белым, галубенькім цьветам, красіва.* Вішнева Валож. **Палявая ляўконія** (Oenothera). *Палявая ляўконія расьцець на палях, каля дарох, дзе пясок. Кветкі сьветлажоўцінькія, распускаюцца пад вечар.* Вішнева Валож. **Палявы жывахвост** — рагулькі (Delphinium). *У палявога жывахвоста лісьцікі расьсечаныя, цьвет сіні, высатой можа быць і метар.* Кальчуны Ашм.

**ПАЛЯГО́Н** *м.* Палігон. *Я добра ведала ходы на палягон, і вот я іду ў разьветку на гэты палягон. А парцізаны чатэры за мной.* Чырвоны Пасёлак Пух.

**ПАЛЯГО́ШАЦЬ** *зак., безас.* Стаць лягчэй, лепш (пра самаадчуванне, настрой). *Як прышоў мужык с фронта, дык на душы палягошала, сьвет мне аткрыўся.* Дрычын Пух.

**ПАЛЯДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Паглядзець. *Толькі паглядзелі ў той бок, як убачылі, што нехта йдзе.* Дрычын Пух.

**ПАЛЯМБІ́ЦА, ПАЛЯНГВІ́ЦА** *ж.* Мяса вышэйшага сорту з сярэдняй часткі свіной тушы каля хрыбта, якое вэндзяць або вяляць. *Палямбіцу выбіраюць, соляць, запраўляюць прыправамі, вяляць і ядуць.* Вецярэвічы Пух. *Палямбіцу с хлебам еш, хто гэта есь палямбіцу бяс хлеба.* Пудзіцк Пух. *Закалолі сьвінчо, каўбас усякіх наробім, а ўнучкі вельмі палянгвіцы любяць.* Пудзіцк Пух.

**ПАЛЯ́НУЦЬ** *зак.* Паглядзець. *Палянь, як хараша навокал, а ты ўсё ў хаце ды ў хаце.* Вішнева Валож.

**ПАЛЯ́ПАЦЬ** *зак.* Пастукаць. *Захацела дзеўка дуль, хлопяц панапіхоў карманы і прышоў, паляпаў у дзьверы, яна ўпусьціла яго.* Дрычын Пух.

**ПАЛЯРҐО́НІЯ** *ж. Бат.* Пеларгонія (Pelargonium). *Палярґонія наша расьцьвіла, пахаціць на ўсю хату.* Ляшчынск Мядз.

**ПАЛЯ́РУШ** *м. Мед.* Параліч. *Яго паляруш разьбіў, ляжыць унет спалярыжаваны.* Пруды Стаўб. ∇ **Кап цябе паляруш разьбіў.** Нарач Мядз. **Хай яго паляруш возьмя.** Хожава Маладз.

**ПАЛЯ́РЫЧ** *м.* Тое, што і паля́руш. *Яго на старасьць палярыч разьбіў.* Малмыгі Віл. *Палярыч зламаў мяне, шосты год прыкаваны к пасьцелі.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАЛЯТЫ́НКА** *ж.* Мужчынская верхняя вопратка з даматканага сукна. *У палятынках да касьцёла хадзілі некалі, у дзеда захавалася.* Пруды Стаўб.

**ПАЛЯ́ЎКА** *ж.* Тое, што і палява́я мыш; *гл.* палявы́. *Паляўкі ў полі жывуць, рудзенькія такія, робяць норы ў пшаніцы, жыце. Паляўка — гэта тая мышка, што падымаецца па каласку і зярняты лушчыць.* Рудня Лаг.

**ПАЛЯЎНІ́ЦТВА** *н.* Паляванне як від занятку. *У ліпені паляўніцтва дазволена на птушак.* Забалоцце Смал.

**ПАЛЯЎРЫ́Т** *м. Мед.* Плеўрыт. *Мокры паляўрыт яму ў баку стаў, мучыцца бедны.* Пудзіцк Пух.

**ПАЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* Хутка пайсці, пабегчы. *Хвачу фартух і вілкі і паляту на работу.* Пасынкі Мядз. *Адна дзяўчына паляцела разораю, а другая сярэдзінаю.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАЛЯЦКІ́** *прым.* Польскі. *Сусецицы ўчора паляцкую тканіну прывезьлі, прэзэнт сястра пераслала.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАМАГА́ЛЬНІК** *м.* Тое, што і падхва́тнічак. *На першы дзень паскі сабіраюцца валачобнікі, запявалы, памагальнікі, музыканты прасілі, і, сьцямнеўшы, ішлі спяваць. Усякі спасібуя запявалам, памагальнікам, стараецца заплаціць добра, каб ні абгаварылі на вёсцы.* Бяларучы Лаг.

**ПАМАГА́ТАР** *м.* Памагаты, памочнік у якой-н. справе. *Сабрала я вузялок, папрасіла двух хлапчукоў-памагатараў, і пайшлі мы торф капаць.* Порычы Валож.

**ПАМАГА́Ч** *м.* Тое, што і памага́тар. *Добра, як у каго ёсь памагачы, а як я адзінокая, то мне помачы няма ждаць аткуль.* Паплавы Бярэз.

**ПАМАГА́ЧКА** *ж.* Жан. да памага́ч. *Во памагачка расьце ў мяне, а пакуль я ўсё раблю за яе.* Рабунь Віл. *Добра табе жывецца, Мань-*

*ка, як у цябе памагачка ёсьць, усё робя па хазяйству.* Бясяды Лаг.

**ПА-МАЕМУ** *прысл.* Па-мойму. *Па-маёму і выйшла.* Цялякава Уздз. *Цяпер ні глядзяць на чужы савет, што свае мазгі зробяць, так і добра. Ні па-маему замужжа, ні наравіцца мне — й гаварыць ні хачу. Праўда!* Пагост Віл.

**ПАМАЗОК** *м.* **1.** Пэндзлік малярны на драўлянай ручцы. *Памаска нідзе ні дастала, шчоткай бяліць стала, натта рукі есьць.* Княгініна Мядз. *Часьцей за ўсё печку белім памаском, памазок вускі, доўгі, зь дзеравяннай ручкай.* Бытча Барыс. **2.** Подмазка. *Увярці нутраногa сала ў анучку, і будзе табе памазок.* Ляшчынск Мядз.

**ПАМАК** *м.* Пук вымачанага льну, канапель. *Каб выляжаўся лён, яго слалі на поплавя, а пасьля, каб вымак, мочуць яго, у такія пукі вяжуць, як з вады дастануць, і гэта называяцца памак.* Нізок Уздз. *Памак — зьвяска вымачаных канапель.* Кукалеўка Чэрв.

**ПАМАЛАЦІЦЬ** *зак.* Пабіць. *Усё памалаціў, што стаяла на стале.* Цялякава Уздз.

**ПАМАЛЕНЕЧКУ** *прысл.* Не спяшаючыся, паціху. *Увойдзіш у лес, сабака яшчэ ня чуе зьвера, дык ён памаленічку бяжыць, прынюхіваіцца.* Саланая Валож.

**ПАМАЛУ** *прысл.* Ціха. *Я ня чую, дзеткі, нічога, а вы памалу гаворыцця, нам сталкаваццa цяжка.* Пудзіцк Пух.

**ПАМАНІЦЬ** *зак.* Паклікаць. *Памані, вунь куды забег.* Дукора Пух. *Памані пачтарку, дзевачка мая, не магу сама ўстаць.* Дрычын Пух.

**ПАМАНЬВАЦЦА** *незак.* Пацвельвацца, падражнівацца. *А хлопцы прыдуць, атрываюць нітку ад барады, дзеўка сварыцца, а яны паманьваюцца.* Дрычын Пух.

**ПАМАНЬВАЦЬ** *незак.* Дражніць. *Яго паманююць „Мальчык”.* Дукора Пух. *Яго так паманьваюць — Нахема, а фамілія яму — Лявонаў.* Дрычын Пух. *Баба, якую так паманювалі, памерла, алі ўнучку яе паманююць Маначышка, бо яна такая самая, як і яе баба.* Плецівішча Чэрв.

**ПАМАРАНЧОВЫ** *прым.* Апельсінавы (колер), цёмна-жоўты. *Як у дзеўках была, дык ткала памаранчовы дыван.* Вішнева Валож.

**ПАМАРАЦЬ** *зак.* Выпацкаць, вымазаць, забрудзіць. *Дзе ш ты так сукеначку памарала? Во толькі што надзела, а ўжо мяняць трэба.* Літва Стаўб.

**ПАМАРЫЦЬ** *зак.* Стаміць. *Самі намучыліся і дзяцей памарылі.* Жораўка Пух.

**ПАМАСНІЧЫНА** *ж.* Тое, што і п а д л о ж ы н а. *Памасьнічына — гэта доска палавая.* Ігрушка Круп.

**ПАМАСЦІЦЬ** *зак.* Паслаць падлогу. *Ёсьціка доскі і на століь і на памост, толькі асталося памасьціць і засталіць.* Халмоўка Барыс.

**ПАМАТЫЧЫЦЬ** *зак.* Асыпаць бульбу матыкай. *Паматычыла бульбу за хлевам, хай расьце.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАМАЎЗА** *м.* і *ж.* *Неадабр.* Шкоднік, свавольнік. *Нідзе ад гэтага памаўзы не схаваесься.* Цярэшкі Барыс. *Куды ты пасылаіш гэту памаўзу?! Луччы сама схадзі!* Лісічана Круп.

**ПАМАЎЗЛІВЫ** *прым.* Шкадлівы, шкодны. *Старая кошка такая гаткая, памаўзьлівая, а шкадую яе.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАМАЧНІЦА** *ж.* Памочніца. *Дачка ў мяне расьце, памачніца.* Зайцы Чэрв.

**ПАМАЦАВАЦЬ** *зак.* Падужаць. *Нябосьтка, як Мішавага мальца баіцца, дык ня чапае, а цябе яна памацуя, дык і лезя.* Купленка Круп.

**ПАМАЦНІК** і **ПАМОЦНІК** *м.* Тое, што і п а м а г а т а р. *Прыехалі мае памацнікі з горада, сабраліся да маткі памацнікі.* Гілікі Валож. *Да мяне памацнікоў з горада прыехала, а рабіць ня ўмеюць.* Там жа. *Во які ў мяне слаўны расьце памоцнік!* Хожава Маладз.; *параўн.* польск. pomocnik ’тс’.

**ПАМЕЖАК** *м.* Узмежак. *Каля памешку добра расьце фасоля.* Нарбутава Лаг. *А лён сьцеляць на памежак.* Мацкі Мядз.

**ПАМЕНЕЦЬ** *зак.* **1.** Паменшаць. *Карова паменяла малака на тры літры.* Дукора Пух. **2.** Стаць меншым (ростам). *Іван паменяў, стоў намнога меншы, стаптоўся, небарака, за 93 гады!* Дукора Пух.

**ПАМЕХ** *м.* Перашкода. *Рана выехаў, памеха мне німа, я ўсё ўрэмя сто й сто, за час дзесяць прыехаў.* Замошша Віл.

**ПАМЕШАНЫ** *у знач. прым.* Псіхічна хворы. *Ён ад роду памешаны быў, і росту бог яму не даў.* Малмыгі Віл. *С памешаным чалавекам трэба асьцярожна гаварыць.* Нізок Уздз. // *перан.* *Ходзіць, як памешаны.* Ляшчынск Мядз.

**ПАМІЗ** *прыназ. з родн.* Ужываецца для ўказання на прадметы, пасярод якіх або ў прамежку між якімі што-н. знаходзіцца. *Паміз гэтых хатак і стаяў будынак нашай старой школы.* Зазерка Пух.

**ПАМКІ** *мн.* ◊ **Не ў памкі** — не ў памяць. *Падзяюцца хораша і на спацыр, цэлаю ноч ходзяць, гуляюць і не ў памкі, што ноч: усюды відна.* Дубіна Юрздыцкая Валож.

**ПАМОР** *м.* *Пчал.* Дохлыя пчолы. *Пасьля аблёту пчолы ачышчаюцца. Яны самі выносяць памор, але ім многа работы і людзі памагаюць ачышчацца.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАМОСТ** *м.* **1.** Падлога. *Як пакрасіў сын памост, то намнога ляхчэй мыць стала.* Кукалеўка Чэрв. *На нядзелі па два рас памост шаруем.* Рубяжэвічы Стаўб. *Некалі памост быў гліняны, а цяпер дашчаты памост.* Ляшчынск Мядз. **2.** Насціл з дошак. *Як у хаця, сьцелюць пол, а як у хлеве, то памост.* Хожава Маладз.

*Трэба палажыць памост у таку, каб жыта не гніло.* Пруды Стаўб. **3.** Збудаванне баброў. *Бабры збудавалі сабе трохатажны памост, як бы хатку такую.* Нізок Уздз. **4.** Тое, што і п а с ь ц е́ л ь (у 2 знач.). *Зрабіў сані поўнасьцю, яшчэ толькі памост асталося.* Бясяды Лаг. **5.** Тое, што і п а д л о́ г а (у 2 знач.). *Памост робіцца з моцнага глаткага бярвеньня або тоўстых дошак.* Саланая Валож.

**ПАМО́СЦІК** *м.* Стажар'е. *Памосьцік – гэта патсьцілка пат снапы ці салому, як кладуць у сьцірту.* Саланая Валож.

**ПАМО́ЦНІК** *гл.* памацнік

**ПАМУЖА́ЦЦА** *зак.* Пажыць, пазмагацца з нядугам. *Можа яшчэ з які гот памужаюся, калі бох здароўя дасьць.* Пудзіцк Пух.

**ПАМЫ́ДЛІНЫ** *толькі мн.* Тое, што і па́залка. *Куды выліць памыдліны, вядро занята.* Хожава Маладз.

**ПАМЫ́І** *толькі мн.* Тое, што і па́залка. *Памыямі добра мыць падлогу.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Памыі вылій у тазік і пературы падлогу.* Нізок Уздз.

**ПАМЫ́ЙНІК** *м.* Памыйніца. *Сабака як галодны, дык і на памыйніку рады што знайсьці.* Зазерка Пух.

**ПАМЫ́ЙНІЦА** *ж.* Адтуліна ў бакавым берване кожнага звяна плыта. *Прадзяўбаў памыйніцу ў берване – начала зроблена.* Бытча Барыс.

**ПАМЫ́ЛАЧАК** *м.* Палічка на мыла. *Памылачкі робяць, каб мыла было дзе палажыць.* Княгініна Мядз.

**ПАМЫ́СЛЫ, ПАМЫ́СНЫ** *прым.* Удалы. *Зяць у мяне памыслы.* Кузьмічы Мядз. *Памысная дзіця, хоць і малоя.* Слабада Стаўб.

**ПАМЯЖКО́ВЫ** *прым.* Размешчаны на граніцы з іншымі ўгоддзямі, сумежны. *У памяшковым лесе сыра.* Забалоцце Смал.

**ПАМЯЖКО́ВЫ КУРАСЛЁП.** *Бат.* Анемона, кураслеп (Anemone). *Памяшковы курасьлёп расьце на памешках, белы, а пасярэдзіне жоўты цьвяток.* Забалоцце Смал.

**ПАМЯЛІ́ШЧА** *н.* Палка, на якую насаджваюць памяло. *Памялішча было нека няўдала і тое зламалася.* Вецярэвічы Пух.

**ПАМЯЛО́**[1] *н.* **1.** Венік звычайны. *Вунь стаіць памяло ў куце, дык ім мяці падлогу.* Чараўкі Мядз. *Мне стары зьвязаў натта ш добрае памяло хату падмятаць.* Мікалаеўшчына Стаўб. **2.** Прылада з гусінага крыла замятаць прыпек. *У мяне памяло з гусінага крыла.* Забалоцце Смал.

**ПАМЯЛО́**[2] *н. Бат.* Хвошч палявы, таўкачык (Equisetum arvense). *Памяло расьцець на полі, у бульбе. У памяла драбнейшыя ёлачкі, чым у хвошчанкі.* Малмыгі Віл.

**ПАМЯЛЬНІ́К** *м.* Качарэжнік. *А венік чаго тут валяіцца? Пастаў яго ў памяльнік.* Лісічана Круп.

**ПАМЯНТА́ЖЫЦЬ** *зак.* Памянціць. *Трэба ш спачатку памянтажыць, навастрыць касу.* Граніцы Маладз.

**ПАМЯРЦІ́** *зак.* Памерці. *Жонка рана памярла, сьветлая ей памяць, пакінула мне чацьвёра сыночкаў.* Старыя Габы Мядз. *Па нейкім часе, нізадоўга ўзяла і памярла яго малая дзяўчынка.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАМЯСІ́ЦЬ** *зак.* Патаптаць. *З Мінску як папрыяжджаюць, дык усе ягады памесяць, усё бегаюць па лесі.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАМЯТУ́ШЧЫ** *прым.* Памятлівы. *Я дык, бывая, й забудуся, дзе што палажыла, а маці мая такая памятушчая, усё помніць, а ёй жа 86 год!* Гілікі Валож.

**ПА́МЯЦЬ** *ж.* ◊ **Памяць курыная** – дрэнная, слабая памяць. *Памяць у цябе курыная. Ну, як тут не прыгадаць: „Пашлі дурнога, а за ім усьлет другога".* Бясяды Лаг.

**ПАМЯША́ННЕ** *н.* Псіхічнае захворванне. *Бывае рознае памяшаньне: адны ціха трымаюць сябе, а другія – кідаюцца.* Пруды Стаўб. *У яго памяшаньне ад перажываньня: жонка памерла і сын забіўся на матацыкле.* Гілікі Валож.

**ПАМЯША́ЦЦА** *зак.* Здурнець, страціць розум. *Гэтак і памяшацца нідоўга: ня ўсьпея адну бяду перажыць, другая ў хату ўваліцца.* Малмыгі Віл. *Тут чалавек адзін памяшоўся ў нас.* Зазерка Пух.

**ПАМЯШКА́ЦЦА** *незак.* Жыць, кватараваць. *А ці доўга вы будзяце ў нас памяшкацца?* Пудзіцк Пух.

**ПА́НАВАЦЬ** *незак.* **1.** Жыць у раскошы. *Мая дачка вышла замуш і ні жыве ў выгодзе цяпер, а пануя.* Вялікая Вуса Уздз. *Пойдуць у магазін, набяруць харчоўкі ды сваё ёсьць – не жывуць, а пануюць.* Нізок Уздз. **2.** Цешыцца спакоем, бестурботнасцю. *Зусім было ні так, як цяпер, што маладухі пануюць за мужыкамі, седзячы дома зь дзецьмі.* Палессе Мядз.

**ПАНАВО́ДЗІЦЬ** *зак.* Прывесці да шыкоўнага стану, надаць адпаведны выгляд. *У хаце ўсё панаводжвалі, новую мэблю купілі.* Дрычын Пух.

**ПАНАВЫРАБЛЯ́ЦЬ** *зак.* Нагатаваць многа чаго-н. *А на сьвята мяса было на стале. На сьвята булкі пякуць, мяса вараць, усяго панавырабляюць. Налісьнікі пякуць, пончыкі.* Дзераўная Стаўб.

**ПАНАВЯ́ЗАНЫ** *у знач. прым.* Навязаны. *Нашы цялятки панавязаныя стаяць, трэба пойла занесьці ім.* Пудзіцк Пух.

**ПАНАДВО́РАК** *м.* Двор (каля дома). *Панадворак вялікі наш, многа травы на панадворку.* Юшкаўка Віл.

**ПАНАДЗЯВА́ЦЦА** *зак.* Выстраіцца, апрануцца лепш, як звычайна. *Панадзяюцца, па-*

*выстройваюцца і йдуць на вячоркі.* Зазерка Пух.

**ПАНАЖО́К** *м. Спец.* Частка ў калаўроце, якая служыць педалем. *Дзе нагой круцяць, тую дошчачку панашком завуць.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАНАЖЫ́НА** і **ПАНАЖЫНА́** *ж. Ткац.* Понаж. *Паднізам прывязываюцца дзьве панажыны, на гэтыя панажыны ступаеш нагамі – робіцца зеў.* Баранцы Віл. *Прагані катка, а то лезя пад панажыны, яшчэ раздушу.* Хожава Маладз.

**ПАНАЗНА́ЧЫВАЦЬ** *зак.* Паставіць метку; абазначыць. *Дык я вазьму ды паназначываю, на палатне на кожным кавалку крыжычак нашыю чырвонінькі, дык мама пойдзіць бяліць, пазнае, якоя палатно наша.* Ластаянцы Валож.

**ПАНАКУПЛЕ́ЎВАЦЬ** *зак.* Накупіць. *Палучыла грошы, зайшла ў магазін, панакуплёўвала ўсяго: і сыру, і пячэньня.* Савоні Стаўб.

**ПАНАМО́РШЧВАЦЬ** *зак.* Паназбірваць. *Тамака мы панаморшчвалі ягат як панесьці.* Пудзіцк Пух.

**ПАНАРА́ВІЦЦА** *зак.* Спадабацца, прыйсціся да густу. *Калі маладыя панаравяцца адзін другому, дагаворваюцца, каб золата колькінебуць бацькі далі, каня, авечку, прасьціны і рознае, што патрэбна ў прыданым.* Багрыцоўшчына Дзярж. *Панаравілася яму там. Прыехаў ён дахаты і так красіва расказаў, што ўсёй сям'ёй парашылі ехаць, акрамя старых і малых.* Восава Круп. *Ну, як панаравіцца маладая, тады засватваюць.* Таўкачэвічы Уздз.

**ПАНАРА́ВІЦЬ** *зак.* Пакахаць; спадабацца. *Калі вы ўжо панаравілі адзін аднаго, то жаніцеся.* Баяры Маладз. *Мой сын с арміі нявестку прывёс: панаравіў дужа і жаніўся.* Пудзіцк Пух. *Панаравіў мяне хлопіц с сусеньняга сяла.* Восава Круп. *Паступіла на работу ўжо ш я, ужо ш усе панаравілі мяне.* Пагост Віл.

**ПАНАРА́Д** *м.* Ткацкі станок з усімі прыладамі да яго. *Калісь у нас быў увесь панарат, а цяпер няма. Ды і не патрэбен ён.* Забалоцце Смал.

**ПАНАРА́ЎЛЕНА** *дзеепрым. зал. пр. ад* панараваць. *Усем я панараўлена, с таварышкамі ладзіла, паважалі мяне, к майстру патхот мела.* Пагост Віл.

**ПА́НАЎ** *прым.* Які належыць пану. *А даўней хто мох учыцца? Мох учыцца панаў і папоў сын, папова дачка, яшчэ хто багаты мох учыць – і дойсьць.* Мікольцы Мядз.

**ПАНАЧЫ́** *прысл.* Поначы, ноччу. *Узяла моду чытаць паначы, спаць не даеш, сьвет мяшая.* Дрычын Пух.

**ПАНЕ́НКА** *ж.* **1.** Дзяўчына да замужжа. *Наша паненка фарсова, кожды дзень на танцы нову сукенку кладзе.* Вялікая Вуса Уздз. *У нас для вас паненак хваціць, анна лепшая за другую.* Вецярэвічы Пух. *А нашай паненкі ня бачылі ў ягадах?* Пруды Стаўб. **2.** Дзяўчынапартнёрша ў танцы *Што гэта за паненка зь ім, от хораша танцуюць!* Гілікі Валож. *Гэтай паненцэ й кавалер дзісь добры даўся.* Там жа. **3.** Замужняя маладзіца, да якой заляцаецца кавалер. *Ён і цяпер ходзіць к паненцы, я сама бачыла. Як тая жонка церпіць?* Цялякава Уздз.

**ПАНЕ́НСКІ ВЕ́ЧАР.** *Абрад.* Вясельны рытуал у маладой напярэдадні шлюбу. *Даўней вясельля пачыналася с паненскага вечара. Маладой шылі вянок, цэлы вечар шылі. Пелі песьні спіцыяльна такія жаласныя, што ўжо дзеўка выходзіць замуш. Пашыюць вянок, маладыя ставіць гарэлку, гуляюць.* Белая Лаг. *Перад вясельлем у нас усягды робяць паненскі вечар.* Няверы Мядз.

**ПАНЕ́СЦІ** *зак.* Зацяжараць. *Ня ўсьпея панесьці, як усё сяло ведая.* Мікалаеўшчына Стаўб.

**ПАНІ́КЛІВЫ** *прым.* Блізарукі. *Калі яму выгадна, то ён становіцца паніклівым, а так усё бачыць.* Малмыгі Віл. *Паніклівы той, хто пад носам у сябе нічога не прачытаець, бо не бачыць.* Ляшчынск Мядз.

**ПАНІКЛЯ́ВЫ** *прым.* Тое, што і п а н і к л і в ы. *Слаба бачыць, паніклявы, прыпісалі акуляры, а ён ня носіць.* Ляшчынск Мядз.

**ПАНІ́КНУХА** *ж. Бат.* Панікніца (Geum). *Панікнуха – трава лугавая, кветачкі на ёй. „Панікнуха ўніс скланяіцца, але нікому не паддаваецца", – кажуць у нас.* Ляшчынск Мядз.

**ПАНІСТО́ЖЫЦЬ** *зак.* Зніштожыць. *А як прышлі немцы, параскідалі ўсё, паністожылі.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАНІЦЕ́ЦЬ** *зак.* Парасці тонкімі сцяблінкамі. *Бульба ў цяні паніцела.* Гілікі Валож. *Зусім бульба ў цяні бяс сонца паніцела.* Пруды Стаўб. *Каторая ў цяню расла, то ўся паніцілася.* Ігрушка Круп.

**ПАНІ́Ч** *м.* Хто імкнецца выдзеліцца (адзеннем, манерамі і інш.). *О-о, ён! Ён шчэ панічом хоча быць: адзене камізэльку, галіфэ і капялюш на лысіну насуне.* Забрэжжа Валож.

**ПАНО́СІЦЬ** *незак.* Хварэць расстройствам кішэчніка. *Колькі хацелася, тады елі, і вельмі мы тагды папраўіліся, праўда, зь месіц балелі, усе паносілі, а потым настаяшча папраравіліся.* Ухвала Круп.

**ПАНО́ША** *ж.* Цяжарнасць. *Я помню хазяіна, што ў жонкі яго тры паношы былі блізьнятачкі.* Бяларучы Лаг.

**ПАНСА́К, ПАНЦА́К** *м.* **1.** Буйныя ячныя крупы. *Навары, маці, крупніку с пансаку.* Мікалаеўшчына Стаўб. *Варылі панцак, і такі смашны быў, а цяпер навару, то не такі смашны.* Арцюхі Стаўб. *Панцаку ў ступе натаўчэш, навырыш супу, да ён смашны – не ад'есьціся.* Савоні Стаўб. *Як прыкінеш кашу с панцаку*

*маслам, як зальеш млекам, вельмі запах тады смашны.* Літва Стаўб. **2.** Суп з ячных круп. *Мамуся, я вельмі захацела есьці, улій мне пансаку.* Рубяжэвічы Стаўб. *Забелены панцак некалі варылі.* Забалоцце Смал. *Панцаку зварыла, трошкі бульбы ўкрышыла, кап смашней было.* Муляры Віл.; *параўн.* польск. pęcak 'тс'.

**ПАНТО́ПЛІ** *мн.; адз.* **панто́пель** *м.* Тапачкі. *Насунь пантоплі на ногі ды памажы бацьку каня распрэхчы.* Зазерка Пух.; *параўн.* польск. pantofle 'тс'.

**ПАНТЭ́ПЦЫ** *мн.; адз.* **пантэ́пця** *ж. Экспр.* Тое, што і панто́плі. *Ногі баляць, дык у нейкіх пантэпцях хаджу.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАНЦА́К** *гл.* панса́к

**ПАНЦАКО́ВЫ** *прым.* Ячны. *На абет часта варым панцаковы суп.* Камянка Уздз. *Сем нядзель цыганы з раўгеняй елі ці панцаковую кашу.* Пасынкі Мядз.

**ПАНЧО́ХА** *ж.* ◊ **Панчоху набіваць** — багацець, разжывацца. *Вайной хто галаву ложыць, а хто і панчоху набіваіць.* Язні Віл.

**ПАНЧО́ШКА** [1] *ж.* Тое, што і падбалацу́нка. *Гэтыя панчошкі ото смачныя грыбы, толькі трэба доўга варыць.* Нізок Уздз. *Панчошка белянькая зьверху, чуць прыжаўтавацянькая, кругом шапкі плевачка.* Вялікая Вуса Уздз. *Растуць панчошкі не па 'дному, а вот то два, то тры дзе, такімі кучкамі; зьверху сам жаўтаваты, а паднізом ношка пакрыта плёначкай.* Слабада Бярэз.

**ПАНЧО́ШКА** [2] *ж. Бат.* Расянка (Drosera). *Ведаю, што ёсь у нас панчошка, а якая, то добра ніколі не прыглядала. На балоце расьце.* Саланая Валож.

**ПАНЧО́ШНІК** *м. Бат.* Светнік (Coronaria). *Панчошнік на балоце расьце, на мокрых сенажацях. Цьвіце ружова-чырвоным цьветам.* Хожава Маладз.

**ПАНШЧЫ́ЗНА** *ж. Гіст.* Паншчына. *Хадзілі да пана на работу задарам, пан ні плаціў. Гэта была паньшчызна.* Забар'е Віл.; *параўн.* польск. pańszczyzna 'тс'.

**ПАНЭ́ЛКА** *ж.* Квадратная або прамавугольная дошка на ганчарным крузе, на якую абапіраецца ніжні канец восі вертыкальнага вала. *Панэлкамі мала хто зарас карыстаецца, на патшыпніках стаіць верацяно.* Івянец Валож.

**ПАНЮ́СЯ** *ж. Неадабр.* Пра кабету з замашкамі пані, якая ўхіляецца ад работы. *А сын?! Што ён вытварыў! Узяў некую панюсю, рабіць ні хацела, з маткай дрэнна жылі, атсудзіў паўхаты і спаліў. От які быў хазяін!* Савоні Стаўб.

**ПАНЯВУ́КА** *м.* Чалавек нерашучы, няўпэўнены ў сабе. *З другіх мае манеру кпіць, а як самому што рашыць — панявука.* Верхмень Смал.

**ПАНЯДЗЕ́ЛЯ** *агульн.* Народжанае ў панядзелак. *Калі карова ацялілася ў панядзелак, то цялё называюць панядзеля.* Завішына Лаг.

**ПАНЯ́ТАК** *м.* Паняцце, уяўленне. *А ён панятку ў гэтым не мае.* Завішына Лаг.

**ПА́ПА** [1] *ж.* Хлеб (з дзіцячага лексікону). *Еш с папай супчык, а то так ні смашно.* Горкі Стаўб.

**ПА́ПА** [2] *м.* Тата. *Гэта ціперака папа кажуць, а даўней то тата казалі.* Вязынка Маладз. *Як ласкавая нявестка, то ні толькі папа, а й папачка ці папка скажа.* Там жа. *Як прывыкне дзіця змалку казаць папа, дык так і дарослым гаворыць.* Нізок Уздз. *Папа, дай мне хоць трошкі вуду патрымаць.* Рудня Лаг. *Як малое дзіця, дык кажа папачка. І яшчэ гавораць папачка, калі лашчацца.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАПАБІВА́ЦЬ** *зак.* Біць неаднаразова. *Я помню, колькі мы яго папабівалі, коні пасучы.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАПАГАЛО́ШВАЦЬ** *зак.* Доўга, неаднаразова галасіць. *Папагалошвала, як замуш пайшла, пакуль прывыкла да яго сям'і.* Дрычын Пух.

**ПАПАГАРАВА́ЦЬ** *зак.* Доўгі час жыць у беднасці, цярпець нястачы. *Як пайшла замуш, дык папагаравала: рабіць усё нада, а есьці няма чаго.* Дрычын Пух.

**ПАПАДА́ЦЬ** *зак.* Згінуць. *Тыя гадэ арцюхоўцы — гэто ґлаўныя прадаўцэ былі гуркоў у Стоўпцах, а цяпер ні будзя: папа́далі.* Арцюхі Стаўб.

**ПАПАДЛА́ВІЧЧУ** *прысл.* Пад лавамі, у кутках каля сцяны. *Як была дзеўка ў хаця, дык прыбірала, і было чыста, а як аддала замуш, дык казьлячкі павырасталі пападлавіччу.* Хожава Маладз.

**ПАПАДО́КАННЮ, ПАПАДАКО́ННЮ** *прысл.* Пад вокнамі. *На купальле варажылі, расой мыліся, пападоканьню бегалі.* Зазерка Пух. *На вялічка сабіраюцца мальцы, бяруць скрыпку, бяруць пачынальніка, дзеда старога, і йдуць па валачэбніках, срадзь начы пападаконьню.* Весялова Круп.

**ПАПАЁДАВАЦЬ** *зак.* Папаесці ў смак. *Трэба запомніць тоя чысло, як пойдзіць первы сьнех увосінь, і ў тоя чысло агуркі садзіць. Дык будзіць адна завісь, ня будзіць пустацьвету. Во тады папаёдаваіця агуркоў!* Халмоўка Барыс.

**ПАПАЖЫНА́ЦЬ** *зак.* Многа зжаць, жаць неаднаразова. *Колькі я людзям папажынала жыта, ні верыцца самой.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАПАКЛІНА́ЦЬ** *зак.* Доўга, неаднаразова праклінаць, пасылаць праклёны. *І папаклінальі людзі юду гэтага за яго справы, што выдаў хлопцаў.* Дрычын Пух.

**ПАПАЛАВІ́НІЦЬ, ПАПАЛАВІ́ЧЫЦЬ** *зак.* Падзяліць папалам. *Яна добры ўхват. Паслалі цыбулю выбіраць, дак папалавініла.* Цялякава Уздз. *Яго брат нажыў састаянё, але быў бязьдзетны, дак усё, што меў, адказаў яму. А*

*дваюрадныя братэ хацелі папалавічыць гэто багацё, але ні ўдалосё.* Савоні Стаўб.

**ПАПАЛЯВА́ЦЬ** *зак.* Апладніцца. *Прыдзяцца, карова папалюя, дык пагані к быку, дак пан табе кажа: „От чатэры дні аджаць на жыці". Такія дні!* Таўкачэвічы Уздз.

**ПАПА́Р** *м.* **1.** Пустое месца (на градзе). *Пасадзіла часнок на градзе, але папару многа. Трэба глядзець, чым засадзіць папар гэты.* Хожава Маладз. **2.** Выпас, дзе кароў пасвяць. *Падбяжыш на папар, клікнеш мяне, калі прыедзе аўталаўка.* Літва Стаўб.

**ПАПАРАБЛЯ́ЦЬ** *зак.* Папрацаваць многа. *А што я папарабляла за сваё жыцьцё, не дай бог добраму нікому.* Завішына Лаг.

**ПАПАРАГАТА́ЦЬ** *зак.* Пасмяяцца (неаднаразова). *От вы зарас папарагочаце, бо хлопяц гэты добры весялун.* Пудзіцк Пух.

**ПА́ПАРАТНІ́К** *м. Кулін.* Хлеб з жытняй мукі і тоўчанай папараці. *Маці, бывала, сушыць у печы папараць, таўчэць, сеіць яе, тады рашчыняіць, шчыпотачку мукі ўкініць, вот і ясі гэты папаратнік. Цяпер ні верыцца, што елі такі хлеп.* Калодкі Віл.

**ПАПАРАТНІКО́ВЫ** *прым.* Папаратнікавы. *Папаратніковым лістом накрываюць ягады, як ідуць зь лесу.* Забалоцце Смал.

**ПА́ПАРАЦЬ** *м. Бат.* Споравая расліна з буйнымі, моцна рассечанымі лістамі (Athyrium filix). *Папараць гэты расьце ў лесе, звычайна дзе трохі балотная зямля. Лічыцца, што на Йвана Купалу калі ўбачыш, як цьвіце папараць, дык знайшоў сваё шчасьця.* Саланая Валож.

**ПАПАРВА́НЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* папарва́ць. Падраны. *Хаця нічога ні кладзіцця ў гэту ватоўку, а то ў ёй кішані папарваныя.* Літва Стаўб.

**ПАПАРЭ́ГЧЫ** *зак.* Папасмяяцца, парагатаць. *Што яны папарэглі зь мяне!* Дукора Пух.

**ПАПА́САВАЦЬ** *незак.* Пасвіць (на працягу доўгага часу), напасваць. *Ганяла быкі пасьвіць. Тры быкі былі, і трэба было папасаваць.* Замошша Віл.

**ПАПАСМА́ГНУЦЬ** *зак.* Папасохнуць, папамучыцца. *А колькі папасмагнеш, пакуль выччаш сераке. Сьвет нямілы станя.* Зазерка Пух.

**ПАПА́СЦІ** *зак.* ◊ **Як папала** — абы-як. *А есьці як папала: дасьць дак дасьць, а ня дасьць, дак хто пад'еўшы, як з дому бярэ, а хто й галодны.* Таўкачэвічы Уздз. *А есьці як папала.* Замошша Віл.

**ПАПА́СЦІСЯ** *зак.* Загнаць, убіць сілай. *Як я ў маладосьці мыла вокны, дык іголка папалася ў руку і схавалася тамака.* Камарова Мядз.

**ПАПАСЫЛА́ЦЬ** *зак.* Накіраваць (у навуку). *Папасылалі дзяцей вучыцца, бо хочуць, каб граматныя былі.* Літва Стаўб.

**ПАПАТЫКА́ЦЬ** *зак.* Доўга, неаднаразова ткаць; наткаць многа чаго. *От папатыкала я палотнаў дзеўкаю!* Дрычын Пух.

**ПАПАЎЦЯКА́ЦЬ** *зак.* Паўцякаць. *Парасяты гэтыя неяк папаўцякалі зь мяшка. Аднаго злавілі, а другі й сяганьня нямаведама дзе.* Язні Віл.

**ПАПАЦЁНКУ** *прысл.* Папацёмку. *Чаго ты папацёнку там лазіш?* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАПАШЫВА́ЦЬ** *зак.* Панашываць. *Ды мала таго, што хату за ўвесь гот чысьцілі, трэба было шчэ і дзецям новыя кашулі папашываць, лапцей панаплясьці, каб на сьвята ў новыя прыбраліся.* Радашковічы Маладз.

**ПАПЕ́РА** *ж.* Шпалеры. *Табе, мусіць, дачка з гораду паперы прывезла, на нашай базі такой німа.* Літва Стаўб.

**ПАПЕ́РАДЗЕ** *прысл.* **1.** Перш, спачатку. *Цяперака вясельля гуляюць так: папярадзя ў маладой гуляюць, а тады к маладому едуць. І на трэці дзень шчэ гуляюць.* Кукшавічы Дзярж. **2.** Раней. *Ён жа папярадзі ўцёк.* Цялякава Уздз.

**ПАПЕРАДНЯ́** *ж.* Тоўстая кручаная вяроўка, якой уціскаюць вазы (з сенам, саломай, снапамі і пад.). *ПапераднЯ — вяроўка сена ці снапы ўвязваць.* Загор'е Маладз. *Вяроўку, паперадня называіцца, зачэпяць за сані, потым за парубень і ўціскалі гэтак ужышчам.* Мацкі Мядз.

**ПАПЕ́РАДУ** *прысл.* **1.** Тое, што і п а п е́ р а д з е (у 1 знач.). *Сястра мая папераду пайшла замуж, а я потым.* Дрычын Пух. **2.** Спераду. *Ідом лесам, адна папераду, другая ззаду, страшна, аш жуць бярэ.* Дрычын Пух. *Коні папераду йдуць, а я ззаду, за бараной.* Зазерка Пух. *Прыехала сваячка на кані, папераду забрала мяне і маці, а потым Вольгу і Насту да сябе.* Капейнае Пух.

**ПАПЕ́РЦІ** *зак. Груб.* Украсці, сперці. *Табе п толькі паперці што-небуць, а хто адказваць будзя, ты ня думаяш.* Дукора Пух. *Глядзіш, каб дзе хлеба паперці ды зьесьці — такі голат быў.* Баяры Віл.

**ПАПЕ́РЦІ** *зак. Груб.* Прымусіць ісці куды-н. *Першымі папёрлі ў зямлянкі старух нейкіх. Толькі яны зайшлі — др-др-др, гарыць. Хто ў другую [чаргу] пойдзе?* Снягла Віл.

**ПАПІ́НКА** *ж. Сад.* Пепін шафранавы, зімовы сорт яблык. *Папінкі — маленькія, дробнінькія яблычкі, кісла-салоткія на смак.* Рудня Лаг.

**ПАПІРА́ЦЬ** *зак.* Папіхаць. *У людзей нявесткі робяць, а вы ўсё нас, старых, папіраяця.* Цялякава Уздз.

**ПАПІХА́ЙЛА** *м.* і *н.* Папіхіч; чалавек, якім панукаюць, камандуюць. *Каб яго халерая, папіхайлу гэтага. Хоць ты во на ланцугу дамоў цягні.* Забалоцце Смал. *За якія грахі доў бог мне гэта папіхайла?!* Суднікі Валож.

**ПАПЛАВІНА** *ж.* Сухая частка сенажаці пры балоце. *Паплавіна — гэта не заліўная, а сухапутная часьць луга.* Бытча Барыс.

**ПАПЛАЎЧУК** *м.* Зарослы травою, умуравелы кавалак прысядзібнага ўчастка. *У мяне во ў гародзе паплаўчук, малы кусочак травы, а каб болей было, дык поплаў быў бы.* Бытча Барыс. *Каб зямлю вада не вымывала, пакідаюць паплаўчук.* Аздзяцічы Барыс.

**ПАПЛАЎЧУЧОК** *м. Памянш.* да паплаўчук. *У нас там трохі ёсь паплаўчучка, сёліта трава расла добрая.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПА-ПЛАХОМУ** *прысл.* Не па-людску, не па-чалавечы. Ілюстрацыю *гл. на* па-харошаму.

**ПАПЛЕЦІНА** *ж.* **1.** Тонкі доўгі дубец. *Як схаплю паплеціну ды як апераж у, дык хуценька супакоісься.* Дукора Пух. *От я вас січас паплецінай як паганю, дык другі рас баяцца будзіця.* Зазерка Пух.

**ПАПЛЁВІЧ** *м. Неадабр.* Чалавек з адмоўнай прывычкай пляваццa. *Паплёвіч гэты. Усю хату сплёвая, як станя курыць.* Цялякава Уздз.

**ПАПЛЁВЫ** *мн.* Адыходы пры прадзіве: кусочкі кудзелі з кастрыцай, сучкамі. *Багатыя гэтыя дзіўчаты як пралі, дык хуччую кудзелю аткідывалі, а я ні аткідывала, сабірала — гэта паплёвы называліся. І за зімы тры, мусі, на гупкі чатыры сабрала я гэтых паплёў, выткала гупкі ш чатыры благога такога, таўстога нейкага.* Малінаўка Лаг.

**ПАПЛЁТ** *м. Зб.* Жэрдкі (латы, пруты), якія насцілаюцца на кроквы. *Цяпер называюць латы, а не паплёт.* Ігрушка Круп.

**ПАПЛЁЦІНА** *ж.* Тонкая жэрдка, якой прымацоўваюць салому да латаў. *Сьцелецца футровачка с саломы па страсе, салома кулявая. Затым распускаюць новы куль, накладваюць паплёціну і прывязваюць дубцом.* Паплавы Бярэз.

**ПАПЛІСАК** *м.* Палка. *Аччапіся ад мяне, бо як вазьму паплісак да як сьцёбну, дак будзяш ведаць.* Дукора Пух.

**ПА-ПЛОТНІЦКУ** *прысл.* Па-цяслярску. *А гэны мой сын мох харашо па-плотніцку рабіць, плотнічаць.* Пруды Стаўб.

**ПАПЛЫВУХА** *ж.* Трава, што расце на вадзе. *Сажалка ўся паплывухай зарасла.* Скамарошкі Стаўб.

**ПАПЛЯМІЦЬ** *зак.* Забрудзіць, пакрыць плямамі што-н. у многіх месцах. *Ні ўсьпеяш надзець чыстаю сукенку, як яно [дзіця] ужо папляміла.* Цялякава Уздз. *Усю кофту нечым папляміла, ня ведаю і калі.* Дрычын Пух.

**ПАПОНЯ** *ж.* Сукенка тыпу апінахі, доўгая. *Ну й плацьця, папоня нейкая!* Лісічана Круп.

**ПАПОТЧАВАЦЬ** *зак.* Пачаставаць. *Дзеўкі, ідзеця, я вас папотчую парэчкамі.* Цялякава Уздз.

**ПАПОЎНІЦЫ** *прысл.* Прагна (есці), на поўны рот. *Есьць папоўніцы, завіхаяцца.* Вялікая Вуса Уздз.

**ПАПОЎШЧЫНА** *ж.* Былая папоўская зямля. *На папоўшчыну сёньня прыпускаліся, там трава добрая.* Завішына Лаг.

**ПАПОХНУЦЬ** *зак.* Апухнуць (пра шмат каго). *У вайну мы ўсе з голаду папохлі.* Нарбутава Лаг.

**ПАПРАВІЦЬ** *зак.* Пагаварыць, расказаць. *Папраўлю я пра тое, як даўней расьцілі мы лён і ткалі зь яга палатно, а посьля шылі кашулі, спадніцы, сукенкі.* Рубяжэвічы Стаўб.

**ПАПРАДАЦЬ** *зак.* Папрасці крыху, нейкі час. *Вот папрадаіш, тады ш трэба ісьці сьвіньням даваць, а другое ш дзіця плачыць, есьці хочыць. Кажыш: „Ні плач, от я трошкі папрадаю, тады табе есьці дам”.* Сцешыцы Віл.

**ПАПРАДУХІ** і **ПАПРАДУХІ** *толькі мн.* Зборы вясковай моладзі зімовымі вечарамі для сумеснай работы; вячоркі. *Бывала, як пойдзіш на папрадухі, дык да самага ранку заседзісься. І спаць не было калі за гэтымі папрадухамі.* Баяры Маладз. *Многа бап і дзевак сабіралася на папрадухі.* Зазерка Пух. *Я была на папрадухах, тады бачу, да міне ш сват пашоў у распыты.* Старыя Габы Мядз. *Дзеўка анна да аннэй на папрадухі бегалі: сёньня ў аннэй, заўтра — у другой, па чарзе.* Задор'е Лаг. *А мая сястра да хараша сьпявала, дык да яе на папрадухі многа зьбіралася бап.* Зазерка Пух.

**ПАПРАПРАДАЦЬ** *зак.* Абрэзаць (ніткамі). *Папрапрадаяш пальцы, такія канаўкі на пальцах паробяцца, аш кроў ідзе.* Дрычын Пух. *Цэлую зіму прадзём, прадзём, дзіркі ў пальцах папрапрадаям, а ў марцы месяцы ччом.* Дзераўная Стаўб. *Папрапрадаям пальцы сабе, кроў ліецца с пальцаў — прадзём да якога часу.* Даўгінава Віл.

**ПАПРАЎКА** *ж.* Адпачынак з мэтай выздараўлення. *Далі мне тры месяцы папраўкі.* Дрычын Пух.

**ПАПРАЦІВІЦЬ** *незак.* Супраціўляцца, рабіць насуперак. *Папрацівіць брыгадзір няможа, ба людзі працаваць ня будуць, таму ён ладзіць зь людзьмі.* Дрычын Пух.

**ПАПРОДАЦЬ** *зак.* Прадаць, збыць. *Папродаў абедзьвя хаты.* Дукора Пух.

**ПАПРОСЬКА** *м.* і *ж.* Папрашайка. *Ня сорам табе прасіць закурыць кожны рас. Вот дзе ўжо папроська, вечна ўсё просіш.* Дукора Пух.

**ПАПРУЖКА** *ж. Спец.* Раменьчык для наручнага гадзінніка. *Купі мне новую папрушку, бо старая ўжо рвеццa, чаго добрага, часы згублю.* Ляхавічы Дзярж.

**ПАПРЫБІВАТЫ** *дзеепрым. зал. пр. ад* папрыбіваць. Папрыбіваны. *Жэрткі папрыбіватыя.* Пудзіцк Пух.

Даведачнае выданне

**СЛОЎНІК ГАВОРАК ЦЭНТРАЛЬНЫХ РАЁНАЎ БЕЛАРУСІ**

**У двух тамах**
**Том 1. А – П**

Укладальнікі: Мяцельская Еўдакія Сцяпанаўна,
Зяневіч Зінаіда Аляксееўна,
Камароўскі Яўген Міхайлавіч і інш.

Мінск
Выдавецтва „Універсітэцкае"
На беларускай мове

Справочное издание

**СЛОВАРЬ ГОВОРОВ ЦЕНТРАЛЬНЫХ РАЙОНОВ БЕЛОРУССИИ**

**В двух томах**
**Том 1. А – П**

Составители: Метельская Евдокия Степановна,
Зеневич Зинаида Алексеевна,
Комаровский Евгений Михайлович и др.

Минск
Издательство „Университетское"
На белорусском языке

ІБ № 1638

Заг. рэдакцыі *І. В. Смяян.* Рэдактар *Л. М. Самасейка.* Мастак *М. С. Волкаў.*
Мастацкі рэдактар *Р. В. Кондрад.* Тэхнічны рэдактар *Т. К. Рамановіч.*
Карэктары *Н. А. Соціна, З. М. Машкевіч.* Аператар *Я. Р. Палойка.*

Падпісана да друку 19.09.90. Фармат 60x90 1/16. Папера друкарская №2. Гарнітура Прэс Роман.
Ум. друк. арк. 18,0. Ум.-фарб. адб. 18,1. Ул.-выд. арк. 34,99.
Тыраж 970 экз. Зак. 5795. Цана 2 р. 30 к.

Выдавецтва „Універсітэцкае" Дзяржаўнага камітэта БССР па друку.
220048, Мінск, пр-т Машэрава, 11.

Надрукавана з арыгінала-макета выдавецтва „Універсітэцкае" ў друкарні „Победа".
222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.


ЛАТВІЙСКАЯ ССР
ЛІТОЎСКАЯ ССР
ПОЛЬШЧА
РСФСР
УКРАІНСКАЯ ССР
Дрыса
Зах. Дзвіна
Віцебск
Нярыс
Мядзель
Вілейка
Крупкі
Днепр
Маладзечна
Лагойск
Барысаў
Смалявічы
Валожын
Беразіно
МІНСК
Магілёў
Гродна
Дзяржынск
Чэрвень
Нёман
Пухавічы
Стоўбцы
Узда
Нясвіж
Пціч
Случ
Бярэзіна
Гомельо
Брэст
Мухавец
Сож
Стыр
Гарынь
Убарць
Прыпяць